АКАДЕМИЯ НАУК СССР

МИНИСТЕРСТВО КУЛЬТУРЫ СССР

ГОСУДАРСТВЕННЫЙ КОМИТЕТ СССР ПО ДЕЛАМ ИЗДАТЕЛЬСТВ, ПОЛИГРАФИИ И КНИЖНОЙ ТОРГОВЛИ

---

# СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ НАРОДОВ СССР

АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ
БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ

# ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ

## МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ



МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ»
ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ
1986

# ПРАДМОВА

Выданне «Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі», якое з'яўляецца часткай Збору помнікаў гісторыі і культуры народаў СССР,— канкрэтнае ажыццяўленне палажэнняў Канстытуцыі СССР і Канстытуцыі БССР аб ахове помнікаў і іншых культурных каштоўнасцей, закона СССР «Аб ахове і выкарыстанні помнікаў гісторыі і культуры» і адпаведнага Закона Беларускай ССР. «Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі» — афіцыйны дакумент, які ўключае помнікі, што ўзяты або павінны быць узяты пад дзяржаўную ахову.

Помнікі гісторыі і культуры Магілёўскай вобласці, якім прысвечаны гэты том,— яркія старонкі народнай памяці. У іх знайшлі адлюстраванне веліч спраў нашых папярэднікаў і сучаснікаў. Своеасаблівасць помнікаў вобласці абумоўлена прыродна-геаграфічнымі ўмовамі, гаспадарчай дзейнасцю людзей, развіццём сацыяльна-эканамічных адносін і мясцовымі традыцыямі гэтага рэгіёна. Прапануемы чытачу том Збору помнікаў гісторыі і культуры Магілёўскай вобласці складзены на аснове навуковага абследавання помнікаў, вывучэння першакрыніц і літаратуры аб часе, падзеях і людзях, якім яны прысвечаны.

У томе расказваецца пра помнікі гісторыі, археалогіі, архітэктуры і манументальнага мастацтва Магілёўскай вобласці. Іх тыпалагічная разнастайнасць узбагачалася і памнажалася на працягу стагоддзяў. Помнікі гісторыі і культуры народа ўвасабляюць творчую думку розных пакаленняў, іх здольнасці і талент. Сукупнасць каштоўных, надзвычай яркіх і так званых ардынарных помнікаў адлюстроўвае самыя розныя бакі жыцця народа не толькі гэтага рэгіёна, але і сумежных тэрыторый, паказвае непарушную сувязь гістарычнага лёсу беларускага народа з лёсам нашай шматнацыянальнай краіны.

Значная ўвага аддаецца ў кнізе помнікам савецкага перыяду. Шырока прадстаўлены помнікі, якія адлюстроўваюць барацьбу за Савецкую ўладу. Асобнае месца займаюць помнікі, прысвечаныя гераічным подзвігам савецкіх людзей у Вялікую Айчынную вайну. Многія з іх па сваім гістарычным значэнні і мастацкім выкананні маюць вялікую каштоўнасць.

У том уключаны толькі нерухомыя помнікі, у іх ліку: помнікі археалогіі — рэшткі старажытных пасяленняў, стаянкі, гарадзішчы, паселішчы і гарады, старажытныя помнікі працоўнай дзейнасці чалавека, могільнікі, надмагільныя і рытуальныя збудаванні;

помнікі гісторыі — помнікі вытворчай (працоўнай) дзейнасці людзей розных гістарычных фармацый, памятныя месцы і помнікі, звязаныя з дзяржаўным будаўніцтвам, з адлюстраваннем класавай барацьбы і барацьбы за незалежнасць, за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне, з абаронай сацыялістычнай Айчыны, з развіццём навукі, культуры, мастацтва;

помнікі архітэктуры — горадабудаўнічае мастацтва, жыллёвая, грамадзянская і культавая архітэктура, помнікі ваенна-абарончага дойлідства, прамысловай архітэктуры, інжынернага і садова-паркавага мастацтва, архітэктурныя манументы;

помнікі манументальнага і манументальна-дэкаратыўнага мастацтва — манументальная скульптура, манументальны жывапіс, творы дэкаратыўнага мастацтва.

У выданне ўключаны ўсе ўцалелыя помнікі архітэктуры з часоў старажытнасці да сярэдзіны 19 ст., найбольш характэрныя для 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст., помнікі савецкага даваеннага перыяду (1917—41 гг.), найлепшыя архітэктурныя збудаванні пасляваеннага часу (1950—80 гг.), якія адлюстроўваюць дасягненні савецкай архітэктуры ў прамысловым, жыллёвым, грамадскім і сучасным сельскім будаўніцтве. У выданне не ўключаны помнікі гісторыі, архітэктуры і мастацтва, якія не захаваліся. Яны разглядаюцца толькі пры агульнай характарыстыцы развіцця культуры вобласці, горада ці пэўнага архітэктурнага комплексу.

Кожнаму помніку прысвечаны артыкул, у якім дадзена характарыстыка яго гістарычных і мастацкіх каштоўнасцей. Многія артыкулы праілюстраваны фотаздымкамі, чарцяжамі, схемамі, картамі.

 Том мае паказальнікі — імянны, геаграфічны, храналагічны, а таксама пералік бібліятэк, музеяў і архіваў вобласці з кароткім апісаннем іх фондаў.

Сістэматызацыя помнікаў у томе праведзена паводле тэрытарыяльнага прынцыпу — матэрыял размешчаны па раёнах (у алфавітным парадку іх назваў). Як самастойная тэрытарыяльная адзінка вылучаны абласны цэнтр, звесткі пра які змешчаны ў пачатку тома. Унутры раёна першымі разглядаюцца матэрыялы пра адміністрацыйны цэнтр, а потым пра помнікі іншых населеных пунктаў (у алфавітным парадку). Артыкулы пра помнікі аднаго населенага пункта падаюцца ў алфавітным парадку назваў помнікаў.

Даты, якія адносяцца да гісторыі Расіі да лютага 1917 г., даюцца звычайна ў старым стылі; з 27 лютага (12 сакавіка 1917 г.) і да прыняцця новага стылю 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г. даюцца ў двух стылях — старым і новым (апошні даецца ў дужках). Даты, пачынаючы з 14 лютага (1 лютага старога стылю) 1918 г., даюцца па новым каляндарным стылі.

Том падрыхтаваны сектарам Збору помнікаў гісторыі і культуры Беларусі Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Навуковае апісанне помнікаў археалогіі зроблена Аддзелам археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР. Шэраг артыкулаў напісаны аўтарамі іншых устаноў навукі і культуры. У падрыхтоўцы да выдання тома, дапаўненні і ўдакладненні звестак пра помнікі і навуковым рэдагаванні матэрыялаў прымалі ўдзел супрацоўнікі выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі.

Інстытут мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі выказваюць глыбокую ўдзячнасць партыйным і савецкім органам Магілёўскай вобласці, актывістам Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, прадстаўнікам навуковай грамадскасці рэспублікі за дапамогу кансультацыямі, парадамі і рэцэнзаваннем рукапісаў.




**УКАЗАМ ПРЭЗІДЫУМА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА СССР АД 8 ЛІПЕНЯ 1967 г. ЗА АКТЫЎНЫ ЎДЗЕЛ У ПАРТЫЗАНСКІМ РУХУ, МУЖНАСЦЬ І СТОЙКАСЦЬ, ПРАЯЎЛЕНЫЯ ПРАЦОЎНЫМІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ Ў БАРАЦЬБЕ З НЯМЕЦКА-ФАШЫСЦКІМІ ЗАХОПНІКАМІ Ў ПЕРЫЯД ВЯЛІКАЙ АЙЧЫННАЙ ВАЙНЫ, І ЗА ПОСПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ Ў АДНАЎЛЕННІ І РАЗВІЦЦІ НАРОДНАЙ ГАСПАДАРКІ, МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ БЕЛАРУСКАЙ ССР УЗНАГАРОДЖАНА ОРДЭНАМ ЛЕНІНА.**

# МАГІЛЁЎСКАЯ ВОБЛАСЦЬ

**Раёны**

АСІПОВІЦКІ
БАБРУЙСКІ
БЫХАЎСКІ
БЯЛЫНІЦКІ
ГЛУСКІ
ГОРАЦКІ
КАСЦЮКОВІЦКІ
КІРАЎСКІ
КЛІМАВІЦКІ
КЛІЧАЎСКІ
КРАСНАПОЛЬСКІ
КРУГЛЯНСКІ
КРЫЧАЎСКІ
МАГІЛЁЎСКІ
МСЦІСЛАЎСКІ
СЛАЎГАРАДСКІ
ХОЦІМСКІ
ЧАВУСКІ
ЧЭРЫКАЎСКІ
ШКЛОЎСКІ



МАГІЛЁЎ
ОРША
ГОРКІ
ШКЛОЎ
МСЦІСЛАЎ
ЧАВУСЫ
КРЫЧАЎ
КЛІМАВІЧЫ
ЧЭРЫКАЎ
СЛАЎГАРАД
КАСЦЮКОВІЧЫ
Хоцімск
Краснаполле
БЫХАЎ
БАБРУЙСК
АСІПОВІЧЫ
Глуск
Кіраўск
Клічаў
Бялынічы
РАГАЧОЎ
ЖЛОБІН
БАРЫСАЎ
ЖОДЗІНА
БЕРАЗІНО
ЧЭРВЕНЬ
МАР'ІНА ГОРКА
ТАЛАЧЫН
Крупкі
СМАЛЯВІЧЫ
ЧАЧЭРСК
СУРАЖ
ПАЧЫНАК
Шумячы
Хіславічы
Манастыршчына
В І Ц Е Б С К А Я
С М А Л Е Н С К А Я
В О Б Л.
Б Р А Н С К А Я
М І Н С К А Я
Г О М Е Л Ь С К А Я
28°
29°
30°
31°
32°
53°
54°
Н А С Е Л Е Н Ы Я П У Н К Т Ы
па кольнасці жыхароў
ад 100 000 да 500 000
ад 10 000 да 50 000
менш за 10 000
па адміністрацыйным значэнні
МАГІЛЁЎ Цэнтр вобласці
Цэнтры раёнаў
Цэнтры сельскіх Саветаў
па тыпу пасялення
ГОРКІ Гарады абласнога падпарадкавання
ЧАВУСЫ Гарады раённага падпарадкавання
Кіраўск Пасёлкі гарадскога тыпу
Свенск Сельскія населеныя пункты
ГРАНІЦЫ
саюзных рэспублік
абласцей
раёнаў
ШЛЯХІ ЗНОСІН
Чыгункі
Безрэйкавыя дарогі
агульнадзяржаўнага значэння
іншыя
МАШТАБ
км 15 0 15 30 45 км

# УВОДЗІНЫ

Магілёўская вобласць размешчана на ўсходзе Беларускай ССР. На паўночным усходзе яна мяжуе са Смаленскай, на паўднёвым усходзе — з Бранскай абласцямі РСФСР, на поўначы — з Віцебскай, на захадзе — з Мінскай, на поўдні — з Гомельскай абласцямі БССР. Утворана 15.1.1938 г. Плошча 29 тыс. км $^2$. Насельніцтва 1282,3 тыс. чалавек (1986 г.). Цэнтр вобласці г. Магілёў. Уключае: 20 раёнаў — Асіповіцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Глускі, Горацкі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Слаўгарадскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі; 13 гарадоў, у т. л. 5 абласнога падпарадкавання — Магілёў, Бабруйск, Крычаў, Асіповічы, Горкі; 7 гарадскіх і 4 рабочыя пасёлкі.

Рэльеф вобласці пераважна раўнінны. Усходнюю частку яе тэрыторыі займае Аршанска-Магілёўская раўніна, заходнюю — Цэнтральнабярэзінская раўніна. У паўночнай частцы (на захад ад Дняпра) — адгор'і Аршанскага ўзвышша, на паўночным усходзе — адгор'і Смаленскага ўзвышша (вышыня да 239 м). Рэкі належаць да басейна Дняпра, які цячэ па тэрыторыі вобласці з поўначы на поўдзень, найбольшыя яго прытокі Друць, Сож, Бярэзіна; прытокі Прыпяці — Пціч, Сажа — Беседзь і Проня, Бярэзіны — Свіслач. Найбольшыя азёры — Чорнае, Выгада, Няропля. Вадасховішчы Чыгірынскае і Цяцерынскае на Друці, Асіповіцкае на Свіслачы. Лясы займаюць 34 % плошчы, найбольшыя ў Клічаўскім, Асіповіцкім, Глускім, Быхаўскім р-нах; балоты пераважна нізінныя (7,7 % плошчы). У межах вобласці знаходзяцца Чэрыкаўскі паляўнічы заказнік і заказнік Заазер'е.

Чалавек на тэрыторыі Магілёўскай вобласці паявіўся ў эпоху палеаліту, аб чым сведчаць старажытныя прылады працы (адшчэпы, востраканечнікі, скрэблы) часоў мусцьерскай культуры (сярэдні палеаліт, 100—40 тыс. гадоў назад), знойдзеныя ў адкладах другой надпоймавай тэрасы Дняпра каля вёсак Абідавічы Быхаўскага і Клеявічы Касцюковіцкага р-наў. У познім палеаліце сюды пранікалі плямёны паляўнічых, паселішчы якіх выяўлены на Сажы каля в. Падлужжа Чачэрскага р-на Гомельскай вобл., на мяжы з Магілёўшчынай. Яны займаліся калектыўным (загонным) паляваннем на буйных жывёл, рыбалоўствам і збіральніцтвам, будавалі паўзямлянкавыя жытлы, фундамент якіх складаўся з круглых і плоскіх касцей і чарапоў мамантаў, выраблялі крамянёвыя прылады працы і зброю (бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя разцы, канцавыя скрабкі, наканечнікі коп'яў, нажы).

У 9-м — сярэдзіне 8-га тысячагоддзяў да н. э. чалавекам заселена ўся тэрыторыя вобласці.

У раннім мезаліце з паўднёвага захаду праніклі нашчадкі свідэрскіх плямён (Янава, Лудчыцы, Дальняе Ляда Быхаўскага р-на). Паўднёвую і паўднёва-ўсходнюю часткі тэрыторыі вобласці насялялі плямёны грэнскай культуры (Бароўка Быхаўскага р-на). У познім мезаліце (5—6-е тысячагоддзі да н. э.) склалася верхнедняпроўская мезалітычная культура, генетычна звязаная з больш раннімі культурамі. Характэрныя рысы эпохі — паяўленне лука і стрэл, прыручэнне сабакі, пашырэнне макралітычных прылад працы — грубаабабітых трапецападобных і авальных сякер, трохгранных пікападобных прылад, долатаў, разцоў, скрэблаў, разакоў. У адрозненне ад палеаліту паляванне вялося невялікімі групамі, значна павялічылася колькасць насельніцтва, далейшае развіццё атрымаў родаплемянны лад: акрэсліліся межы плямён, умацоўвалася парная сям'я, кіруючую ролю ў гаспадарчым і грамадскім жыцці адыгрывала жанчына.

У канцы 5-га — пачатку 4-га тысячагоддзяў да н. э. на тэрыторыі вобласці пачаўся неаліт (новы каменны век). Для яго характэрна вынаходства глінянага посуду, выкарыстанне шліфоўкі і свідравання пры вытворчасці прылад працы, авалоданне навыкамі земляробства і жывёлагадоўлі (у канцы эпохі), а таксама прадзенне, пляценне і, магчыма, ткацтва.

Тэрыторыю ў басейне Дняпра на паўночны ўсход ад вусцяў Бярэзіны і Іпуці насялялі плямёны верхнедняпроўскай культуры. Іх паселішчы размяшчаліся на дзюнных узгорках сярод поймы

 Дняпра, Сажа і іх прытокаў і на краі першых надпоймавых тэрас. Драўляныя, наземныя, ледзь заглыбленыя ў мацярык жытлы мелі авальную ці круглаватую форму, памерам 3,5×3 м. У цэнтры



*Крамянёвая скрэблападобная прылада працы мусцьерскага тыпу (в. Абідавічы, Быхаўскі раён).*

іх размяшчаліся агнішчы і ямы-паграбы. На ранім этапе насельніцтва вырабляла вастрадонны таўстасценны посуд з дамешкамі ў гліне раслінных рэштаў і тоўчанага кварцу. Часам усю паверхню пасудзін упрыгожвалі арнаментам у выглядзе глыбокіх прадаўгаватых ямак або глыбокіх адбіткаў буйнога грэбеня. Пазней паявіліся шыракагорлыя пасудзіны з вострым, радзей круглым дном. Разам з прадаўгаватымі, пукатымі з адагнутымі венчыкамі выраблялiся і прамасценныя невысокія круглаватыя пасудзіны з дамешкамі ў гліне пяску і дробнага кварцу, радзей — раслінных рэштаў. Асноўнымі элементамі арнаменту былі адбіткі грабеньчатага штампа, разнастайныя ўмяціны (круглаватыя, прадаўгаватыя, трохвугольныя, серпападобныя, ромбападобныя і інш.), нарэзкі, насечкі, лапчастыя наколы, якія ўтваралі дыяганальныя, гарызантальныя і зігзагападобныя рады, або паясы з павернутых вяршыняй уніз трохвугольнікаў і інш. Археалагічны інвентар паселішчаў складалі крамянёвыя лістападобныя і ромбападобныя наканечнікі стрэл, шырокія нажы з завостраным канцом, дзюбападобныя разакі, нажападобныя пласцінкі, разцы, скрабкі, скоблі, сякеры (вёскі Гронаў Чэрыкаўскага і Лубяны Бялыніцкага р-наў). У 2-й палове 3-га тысячагоддзя да н. э. з волжска-окскага міжрэчча ў басейн верхняга Дняпра пранiклі плямёны культуры ямачна-грабеньчатай керамікі, частка з іх дасягнула сярэдняга цячэння Сажа і Дзясны.



*Крамянёвыя адшчэпы з рэтушшу мусцьерскага тыпу (в. Клеявічы, Касцюковіцкі раён).*

Галоўным заняткам неалітычнага насельніцтва было паляванне, рыбалоўства і збіральніцтва. Удасканаленне прылад працы дазваляла весці паляванне невялікімі групамі, стварыць запасы ежы. Пры будаўніцтве жытлаў і гаспадарчых пабудоў шырока выкарыстоўвалася дрэва. Здабыча сродкаў існавання і іх спажыванне былі калектыўнымі, усе асноўныя матэрыяльныя каштоўнасці лічыліся агульнай уласнасцю. Родавыя абшчыны, як і раней, былі мацярынскімі, кроўныя сувязі яшчэ моцнымі, хаця асобныя сем'і ўжо мелі больш выразную эканамічную незалежнасць.

Бронзавы век на тэрыторыі Магілёўшчыны пачаўся ў 2-м тысячагоддзі да н. э. Аддаленасць ад старажытных цэнтраў металургіі абумовіла панаванне тут амаль на працягу ўсёй эпохі каменных прылад працы, аднак зроблены яны былі значна лепш: пры іх апрацоўцы шырока выкарыстоўвалася шліфаванне, свідраванне, пілаванне. У бронзавым веку адбывалася далейшае развіццё жывёлагадоўлі і земляробства і паступовае ператварэнне іх у пануючыя формы гаспадаркі, пашыраўся абмен паміж плямёнамі, мацярынска-родавыя адносіны паступова замяніліся патрыярхальнымі. У канцы 3-га тысячагоддзя да н. э. жывёлагадоўча-земляробчыя плямёны сярэднедняпроўскай культуры з поўдня прасунуліся ў верхняе Падняпроўе і асімілявалі мясцовае неалітычнае насельніцтва. Яны жылі на невялікіх паселішчах плошчай 0,2—0,5 га, якія размяшчаліся ў поймах рэк, на пясчаных выдмах, на краях і астанцах першых надпоймавых тэрас, радзей на мысах. Іх жытлы былі наземныя, слупавой канструкцыі, у цэнтры якіх размяшчаліся адкрытыя агнішчы, паглыбленыя ў зямлю і абкладзеныя камянямі. Насельніцтва вырабляла гліняныя ляпныя гаршкі з круглаватым тулавам, адагнутым вонкі венчыкам і плоскім дном, арнаментаваныя адбіткамі перавітай вяровачкі, лінейнага і зубчастага штампа, нарэзнымі лініямі, а таксама пласкадонныя неарнаментаваныя пасудзіны слоікавай формы з прамымі сценкамі, звужанымі ў ніжняй частцы, і танкасценныя добра абпаленыя гаршкі з круглым або плоскім патоўшчаным дном, высокай прамой або адагнутай вонкі шыйкай і шарападобным тулавам (урочышча Ксяндзова Гара каля Быхава, вёскі Барысаўшчына Глускага, Вець Быхаўскага р-наў і інш.). Да помнікаў сярэднедняпроўскай культуры адносяцца курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупапалажэння ў мацерыковых ямах авальнай формы. Нябожчыкаў хавалі скурчанымі на баку, галавой на захад (в. Дубна Слаўгарадскага р-на). На познім этапе вядомы бескурганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення і трупапалажэння (вёскі Вейна Магілёўскага, Малая Гарожа Асіповіцкага, Кліны і Старая Каменка Слаўгарадскага р-наў). Пры раскопках трапляюцца каменныя свідраваныя і клінападобныя сякеры, крамянёвыя наканечнікі стрэл, дроцікаў і коп'яў, нажы, скрабкі, бурштынавыя

падвескі, пацеркі, медныя ўпрыгожанні (бранзалеты, грыўні), гліняны ляпны посуд. Існавала маёмасная няроўнасць, культы продкаў, сонца і агню, вера ў замагільнае жыццё.

У сярэдзіне 2-га тысячагоддзя да н. э. поўдзень тэрыторыі Магілёўшчыны (да Быхава і Слаўгарада) насялялі плямёны сосніцкай культуры, што ўтварылася ў выніку зліцця сярэднедняпроўскіх плямён з мясцовым неалітычным насельніцтвам. Яны жылі на паселішчах у паўзямлянкавых жытлах з глінабітнымі агнішчамі ў сярэдзіне, займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, рыбалоўствам, паляваннем, а таксама бронзаліцейнай справай, карысталіся каменнымі і крамянёвымі прыладамі працы, асабліва дзяржанневымі наканечнікамі стрэл і крамянёвымі сярпамі. Іх кераміка — акругладонныя, рабрыстыя і пласкадонныя гаршкі, упрыгожаныя на ўсёй паверхні зігзагамі, гарызантальнымі палосамі нарэзак або адбіткамі прамавугольнага штампа, ружанцавым, шнуравым або пракрэсленым арнаментам.

У 7 ст. да н. э. на тэрыторыі Магілёўшчыны пачаўся жалезны век. Жалеза здабывалася з балотнай руды сырадутным спосабам у печах-домніцах. Зробленыя з яго прылады працы і зброя былі значна мацнейшыя за каменныя і бронзавыя. Выкарыстанне жалезных прылад працы спрыяла далейшаму развіццю земляробства і жывёлагадоўлі, стварала ўмовы для атрымання прыбавачнага прадукту. Маёмасная няроўнасць паскорыла працэс распаду першабытнаабшчынных адносін, абвастрыліся супярэчнасці паміж родамі і плямёнамі. Складваліся ўмовы для ўзнікнення прыватнай уласнасці, класаў і дзяржавы.

У 7—3 ст. да н. э. тэрыторыю Магілёўшчыны насялялі плямёны мілаградскай культуры (назва ад гарадзішча каля в. Мілаград Рэчыцкага р-на Гомельскай вобл.).

Насельніцтва жыло пераважна на гарадзішчах (плошча 0,3—0,8 га круглай, трохвугольнай, прамавугольнай з круглаватымі вугламі, трапецападобнай і яйцападобнай формы), размешчаных на мысах высокіх і стромкіх берагоў рэк. З трох бакоў звычайна яны былі абмежаваны абрывамі і глыбокімі ярамі, з боку поля ўмацаваны землянымі дугападобнымі валамі і равамі (г. Быхаў, вёскі Баркалабава, Хамічы, Янава Быхаўскага, Цэль Асіповіцкага, Халопенічы Глускага, Царковішча Шклоўскага, Мазалава Мсціслаўскага р-наў, г. п. Хоцімск і інш.). Неўмацаваныя селішчы часцей трапляюцца ў паўднёвых раёнах вобласці. Размяшчаліся яны на невялікіх узвышшах у поймах рэк, часам прымыкалі да гарадзішчаў (в. Шчаткава Бабруйскага р-на). Трапляюцца і гарадзішчы-сховішчы, дзе ў час ваеннай небяспекі ратаваліся жыхары навакольных селішчаў (вёскі Міхалёва 2-е, Перасова, Пятровічы Бабруйскага р-на). Асноўным тыпам жылля былі паўзямлянкі, плошчай 50 м², заглыбленыя ў зямлю да 1 м, пазней — наземныя або злёгку заглыбленыя ў зямлю жытлы плошчай 10—15 м², разлічаныя на адну сям'ю. Яны былі пераважна прамавугольныя ў плане, мелі слупавую канструкцыю. У цэнтры пабудовы размяшчаўся слуп, які служыў адной з апор перакрыцця. Адкрытыя агнішчы ў круглых або авальных ямах размяшчаліся паміж цэнтральным слупам і сценкай. Характэрная асаблівасць жытлаў — выступ у адной з сцен або вуглоў. Для гаспадарчых мэт выкарыстоўваліся пабудовы тыпу хлявоў і ямы-паграбы. Асноўным заняткам мілаградскіх плямён было земляробства і жывёлагадоўля, дапаможным — паляванне і рыбалоўства, развіваліся таксама здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная справа, апрацоўка дрэва, косці і рогу, ганчарства, прадзенне і ткацтва. Гаршкі мелі пераважна яйцападобнае ці шарападобнае тулава з прамым адагнутым вонкі венчыкам, выраблялiся паўсферычныя пасудзіны без акрэсленага венчыка. Частка керамікі ўпрыгожана ямкавымі або пазногцевымі ўціскаммі на венчыку ці шыйцы, радзей у верхняй частцы тулава. Часам уціскані згрупаваны ў сістэмы (па 2—3 у кожнай) або складаюць трохвугольныя фігуры. Насельніцтва карысталася жалезнымі сякерамі, сярпамі, нажамі з гарбатай спінкай, наканечнікамі коп'яў, дроцікаў і стрэл, долатамі, шыламі, пасудападобнымі арнаментаванымі праслiцамі, шматлікімі ўпрыгожаннямі (жалезныя і бронзавыя бранзалеты, шыйныя грыўні, скроневыя кольцы, пярсцёнкі, падвескі, фібулы, завушніцы, посахападобныя і цвікападобныя шпількі, шкляныя, халцэдонавыя, бурштынавыя, гліняныя, бронзавыя пацеркі), мела сувязі з суседнімі плямёнамі днепра-дзвінскай і штрыхаванай керамікі культур і скіфамі. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне на курганных і трупаспаленне на бескурганных могільніках. Плямёны мілаградскай культуры знаходзіліся на пачатковай стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу.

У сярэдзіне 3 ст. да н. э. там, дзе раней жылі плямёны мілаградскай культуры, склалася зарубінецкая культура. На тэрыторыі Магілёўшчыны вядомы верхнедняпроўскі лакальны варыянт гэтай культуры. На раннім яе этапе (сярэдзіна 3 ст. да н. э.— пачатак 2 ст. н. э.) насельніцтва жыло на гарадзішчах, што асталіся ад плямён мілаградскай культуры і былі дадаткова ўмацаваны дасыпкай існаваўшых валоў і збудаваннем новых. Побач з гарадзішчамі ўзнікалі і неўмацаваныя селішчы. Асноўны тып жылых пабудоў — аднакамерныя наземныя жытлы слупавой канструкцыі, прамавугольнай або квадратнай формы плошчай 10—24 м², з двухсхільным дахам. Унутры жытлаў у адным з вуглоў ці каля сцяны размяшчаліся адкрытыя каменныя агнішчы на глінянай пляцоўцы. Плямёны займаліся земляробствам, жывёлагадоўляй, здабычай і апрацоўкай жалеза, апрацоўкай каляровых металаў і інш., выраблялі жалезныя нажы з прамой і гарбатай спінкай, клінападобныя сякеры (кельты), сярпы з дзяржаннем, лістападобныя і ўтулкавыя наканечнікі коп'яў, двухшы-

павыя дроцікі, фібулы (жалезныя і бронзавыя падковападобныя, сярэднелатэнскія з плоскім трохвугольным шчытком і позналатэнскія), шпількі з кольца- і спіралепадобнай галоўкамі, бранзалеты (спіралепадобныя, з завязанымі канцамі, падковападобныя з гладкага і кручонага дроту), скроневыя кольцы, завушніцы, пярсцёнкі. Посуд — пласкадонныя грубаляпныя гаршкі з адагнутым вонкі краем, выразнай шыйкай і круглаватым тулавам, часам упрыгожаныя ў верхняй частцы арнаментам у выглядзе насечак, ямак, зашчыпаў; біканічныя глянцаваныя гаршкі, грубаляпныя і глянцаваныя неарнаментаваныя міскі (вёскі Дабужа, Абідавічы, Вязьма Быхаўскага, Халопенічы Глускага, Мазалава Мсціслаўскага р-наў, пас. Дальні Бялыніцкага р-на, г. Быхаў). Могільнікі бескурганныя з пахавальным абрадам трупаспалення (вёскі Тайманава, Ніжняя Тошчыца Быхаўскага р-на). Плямёны зарубінецкай культуры мелі сувязі з скіфамі і кельтамі, гарадамі Паўночнага Прычарнамор'я, пра што сведчаць знаходкі наканечнікаў дроцікаў, стрэл, падковападобных фібул, бранзалетаў, падвесак, пярсцёнкаў, наканечнікаў коп'яў, сякер-кельтаў, грэчаскіх амфар, шкляных пацерак і інш.

На познім этапе зарубінецкай культуры (пачатак 2 ст.— 5 ст. н. э.) насельніцтва жыло толькі на селішчах плошчай ад 0,5—1 га да 6—7 га, якія размяшчаліся на нізкіх берагах рэк і азёр. На ўзвышаных месцах селішчаў узводзіліся квадратныя ці прамавугольныя ў плане паўзямлянкі плошчай 8—24 м², заглыбленыя ў зямлю на 0,4—1 м, з адкрытымі каменнымі агнішчамі, пазней — з глінабітнымі печамі. На больш нізкіх месцах будаваліся наземныя дамы слупавой канструкцыі. Выраблялiся жалезныя нажы, сярпы, нажніцы, крэсівы, шматлікія ўпрыгожанні (жалезныя і бронзавыя шпількі, трапецападобныя падвескі, бранзалеты, шасціражковыя лунніцы і круглыя ажурныя фібулы, упрыгожаныя выемчастай чырвонай эмаллю, плоскія чырвоныя і шкляныя пазалочаныя пацеркі). Посуд — грубаляпныя гладкасценныя гаршкі з адагнутым вонкі краем, слаба выражанай шыйкай і круглаватым тулавам, часам упрыгожаныя расчосамі, ці глянцаваны (вёскі Адаменка, Віляхаўка, Сялец, Янава Быхаўскага, Жалвінец, Сіманавічы Глускага р-наў).

Плямёны зарубінецкай культуры знаходзіліся на стадыі распаду першабытнаабшчыннага ладу і складвання тэрытарыяльнай абшчыны, у іх існавала патрыярхальнае рабства. Большасць даследчыкаў лічыць зарубінецкую культуру старажытнаславянскаю.

У паўднёва-заходняй часцы тэрыторыі вобласці трапляюцца гарадзішчы ўсходняга варыянта культуры штрыхаванай керамікі. Тут знойдзены жалезныя сярпы, нажы, абломкі штрыхаваных пасудзін, па форме і прапорцыях падобных на пасудзіны мілаградскай культуры (вёскі Зборск, Свіслач, Смык Асіповіцкага, Царковішча Шклоўскага, Палыкавічы Магілёўскага, пас. Дальні Бялыніцкага р-наў). У паўночнай і паўночнаўсходняй частцы тэрыторыі вобласці ёсць гарадзішчы, на якіх трапляюцца матэрыялы днепрадзвінскай культуры (вёскі Навасёлкі Горацкага, Каробчына, Усполле Мсціслаўскага р-наў). Кераміка гэтых гарадзішчаў аналагічная глінянаму посуду пасяленняў з тэрыторыі Смаленшчыны (слабапрафіляваныя гаршкі са звужаным горлам і пасудзіны слоікавых форм). У эканамічных і стадыяльных адносінах плямёны гэтых культур былі аднолькавымі з плямёнамі мілаградскай і зарубінецкай культур.

У 6—8 стагоддзях тэрыторыю Магілёўшчыны насялялі плямёны культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Яны жылі на адкрытых паселішчах, размешчаных на пакатых узвышшах у поймах рэк або займалі мысападобныя выступы надпоймавых тэрас. Многія з іх узніклі каля гарадзішчаў, якія дадаткова ўмацоўваліся землянымі валамі і ператвараліся ў крэпасці-сховішчы. Жытлы будавалі паўзямлянкавыя зрубнай канструкцыі, заглыбленыя ў зямлю на 0,2—0,8 м, і наземныя слупавой канструкцыі плошчай ад 7—9 да 18—20 м² з печамі-каменкамі, радзей — агнішчамі. Пахавальныя помнікі — курганныя і бескурганныя могільнікі з абрадам трупаспалення. Насельніцтва займалася земляробствам, жывёлагадоўляй; паляванне і рыбалоўства мелі дапаможны характар; былі развіты здабыча і апрацоўка жалеза, бронзаліцейная справа, ганчарства, апрацоўка дрэва, косці і інш. Посуд — слабапрафіляваныя пласкадонныя ляпныя гаршкі з адагнутым венчыкам, слабавыражанай шыйкай, моцна апушчаным плечыкам і злёгку пукатым тулавам. У гліну дадавалася жарства і буйназярнёны пясок, часам шамот (тоўчаныя чарапкі). Трапляюцца круглабокія, цыліндрычныя і міскападобныя пасудзіны (пас. 1 Мая, вёскі Тайманава, Сялец, Камарычы Быхаўскага, Зелянковічы, Кастрычнік, Поблін Глускага, Ліпень, Чучча Асіповіцкага р-наў).

У 6—9 стагоддзях адбываўся пераход ад першабытнаабшчыннага ладу да феадалізму. Члены родаў сяліліся асобнымі сем'ямі ў найбольш зручных месцах на берагах рэк і азёр, дзе былі лепшыя землі і сенажаці. Кроўныя сувязі саступалі месца эканамічным і тэрытарыяльным. Пашыралася сельская (тэрытарыяльная) абшчына з яе манагамнымі сем'ямі. Складваліся спрыяльныя ўмовы для росту прыватнай уласнасці і развіцця класавага грамадства. Стварылася новая форма грамадскай арганізацыі — саюзы плямён, асноўнай задачай якіх была ўзброеная абарона агульных інтарэсаў.

У 8—10 стагоддзях тэрыторыю Магілёўскай вобл. насялялі славянскія плямёны дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў. Асноўным іх заняткам было земляробства, жывёлагадоўля, дапаможнымі — рыбалоўства, паляванне, бортніцтва, гандаль. Развіваліся апрацоўка жалеза, дрэва, косці, каляровых

металаў, ювелірнае і ганчарнае рамёствы. Д р ы г а в і ч ы жылі ў заходняй частцы тэрыторыі Магілёўшчыны, на правым беразе Дняпра, у басейне Бярэзіны. Іх археалагічныя помнікі — курганныя могільнікі спачатку з пахавальным абрадам трупаспалення, з канца 10 ст.— трупапалажэння. У пахаваннях разам з прыладамі працы, керамікай, упрыгожаннямі і зброяй трапляюцца драўляныя зрубы з двухсхільным дахам. Этнавызначальныя адзнакі дрыгавічоў — зярнёныя пацеркі. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў» у сувязі з падзеямі, што папярэднічалі 9 ст. Дрыгавічы належалі да найбольш развітых у сацыяльных адносінах плямён, знаходзіліся на заключнай стадыі распаду родаплемяннога ладу, мелі сваё палітычнае аб'яднанне — «княжанне». К р ы в і ч ы насялялі паўночную і паўночна-ўсходнюю часткі тэрыторыі вобласці. Самыя старажытныя помнікі — доўгія курганы з пахавальным абрадам трупаспалення. На мяжы 10—11 стагоддзяў паяўляюцца круглыя курганы з пахавальным абрадам трупапалажэння. У пахаваннях трапляюцца ўпрыгожанні, прылады працы і ляпная кераміка. Характэрная племянная адзнака крывічоў — бранзалетападобныя драцяныя скроневыя кольцы з завязанымі канцамі і шкляныя залачоныя пацеркі. Упамінаюцца ў «Аповесці мінулых гадоў». У сацыяльных адносінах — саюз плямён, у рамках якіх фарміраваліся класы, дзяржаўнасць («княжанне»), народнасць. Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1162 г. Р а д з і м і ч ы жылі ў паўднёвай і паўднёва-ўсходняй частцы тэрыторыі вобласці, у басейне Сажа. Найбольш даследаваныя помнікі — курганныя могільнікі з пахавальным абрадам трупаспалення (канец 9 — пачатак 10 ст.), пазней — трупапалажэння. Этнавызначальная племянная адзнака — сярэбраныя або бронзавыя сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы. У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. радзімічы склалі племянны саюз, захоўвалі адносную самастойнасць. У 885 г. падпарадкаваны кіеўскім князем Алегам. У 984 г. адмовіліся плаціць кіеўскаму князю даніну, але былі разбіты княжацкім ваяводам Воўчым Хвастом на р. Пяшчань каля Прапошаска (Слаўгарад). Апошні раз упамінаюцца ў летапісе пад 1169 г.

У апошняй чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э. на змену ляднаму земляробству прыйшло ворнае. Аддзяленне рамяства ад сельскай гаспадаркі садзейнічала ўзнікненню і хуткаму росту гарадоў. Расло маёмаснае расслаенне, усталёўвалася феадальная ўласнасць на зямлю.

З 9 ст. тэрыторыя вобласці знаходзілася ў складзе старажытнарускай дзяржавы — Кіеўскай Русі. У яе межах складвалася адзіная старажытнаруская народнасць, што было абумоўлена адноснымі эканамічнымі сувязямі, этнічнай, тэрытарыяльнай, палітычнай, культурнай і моўнай агульнасцю сваяцкіх усходнеславянскіх плямён. На Магілёўшчыне ўздоўж водных шляхоў (рэк Дняпро, Сож) выраслалі гандлёва-рамесныя цэнтры. Паводле пісьмовых крыніц з 1136 г. вядомы Прапойск (Слаўгарад), з 1150 г.— Крычаў, з 1156 — Мсціслаў, з 1267 г.— Магілёў. У перыяд феадальнай раздробленасці Русі тэрыторыя Магілёўшчыны ўваходзіла ў розныя ўдзельныя княствы. Паўночная яе частка — у Полацкае, пазней Друцкае і Віцебскае княствы; частка паўночнага Пасожжа з гарадамі Прапойск, Крычаў, Мсціслаў у 12—13 стагоддзях знаходзілася ў складзе Смаленскага княства; Мсціслаў з 1180 г. стаў цэнтрам удзельнага Мсціслаўскага княства, якое займала ўсходнюю частку тэрыторыі вобласці. Першы яго князь Мсціслаў Раманавіч (з роду Уладзіміра Манамаха) быў адначасова князем Смаленскага княства, да якога ў 1196 г. далучыў і Мсціслаўскае. Насельніцтва Магілёўшчыны ў гэты перыяд займалася пераважна сельскай гаспадаркай, паляваннем, рыбалоўствам, прадзеннем, ткацтвам, апрацоўкай скур. Развіваліся кавальскае, ганчарнае, ювелірнае і інш. рамёствы. Культура развівалася ў агульным рэчышчы старажытнарускай культуры. З 10 ст. пашырылася пісьменнасць. У гэты час значны ўплыў на ўсе сферы грамадскага і культурнага жыцця, на фарміраванне ідэалогіі феадальнага грамадства мела хрысціянства. Большасць твораў старажытнарускага мастацтва ў той ці іншай ступені была звязана з новай рэлігіяй, з яе культам.

Помнікаў таго часу на Магілёўшчыне захавалася мала. Але знойдзеныя пры раскопках у Мсціславе крыж-складзень 12 ст., вырабы кастарэзаў, у тым ліку арнаментаваныя пласцінкі, што выкарыстоўваліся як накладкі на калчанах, берасцяная грамата 12—13 стагоддзяў сведчаць аб высокім узроўні прыкладного мастацтва і развіцці пісьменнасці.

З 1-й паловы 14 ст. тэрыторыя вобласці ў складзе Вялікага княства Літоўскага. Вялікі князь, які валодаў т. зв. гаспадарскімі землямі і быў вярхоўным уласнікам усіх зямель у дзяржаве, раздаваў значныя зямельныя ўладанні сваякам і прыбліжаным, служылым феадалам і царкоўнікам. Некаторай часткай зямель карысталіся гарады і гараджане. Вялікі князь Літоўскі асабіста валодаў Магілёўскім староствам. Пад уладу вялікага князя Альгерда Гедымінавіча перайшло ў 1358 г. Мсціслаўскае княства, тэрыторыя вакол Бабруйска ў сярэдзіне 14 ст. належала мінскаму князю Скіргайлу Гедымінавічу, князь Свідрыгайла ў 1430 г. атрымаў у валоданне Быхаў і Прапойск, князям Гальшанскім у 15 ст. належаў Глуск. Частка зямлі, якой валодалі феадалы, знаходзілася ў непасрэдным карыстанні сялян і перадавалася па спадчыне. Паводле звычаю, сяляне маглі карыстацца пашаю, лясамі і водамі, што знаходзіліся ў агульным уладанні сельскай абшчыны. За зямлю яны плацілі феадальную рэнту. Да 15 ст. пераважала прадуктовая рэнта — аброк натурай, звычайна жытам, пшаніцай, аўсом, сенам. Феадалы Беларусі пасту-

 пова пераводзілі сялян на паншчыну, якая стала асноўнай павіннасцю цяглых (прыгонных) сялян, і грашовы аброк. Сяляне, што жылі на землях князёў Мсціслаўскіх, у 15 ст. плацілі аброк мёдам, хмелем, грашыма і, акрамя таго, выконвалі абшчынныя павіннасці. Князь Ю. С. Мсціслаўскі ў 1443 г. браў з сялян «даніну сярэбраную».

Аграрная рэформа, што праводзілася ў Вялікім княстве Літоўскім на аснове закона «Уставы на валокі» 1557 г., узмацніла феадальную эксплуатацыю. У выніку рэформы на дзяржаўных земляхураўноўваліся зямельныя ўчасткі, устанаўліваліся больш дакладныя плата і павіннасці за іх, павялічыліся грашовыя і натуральныя паборы з сялян. На ўсходзе Беларусі, у раёнах Бабруйска, Мсціслава, Глуска, Магілёва аграрная рэформа шырока праводзілася толькі з канца 16 ст. «Устава повинностей, вольностей и волочной померы волости Могилевской» была прынята ў 1594 г. У Бабруйскім старостве ажыццяўленне рэформы працягвалася з 1611 г. да 1639 г. На базе дзяржаўных маёнткаў у 1589 г. створана феадальная каралеўская гаспадарка — Магілёўская эканомія, даходы ад якой ішлі на ўтрыманне каралеўскага двара. У склад гэтай эканоміі ўваходзілі гарады Магілёў, Чавусы, Чэрыкаў і 219 вёсак, на яе землях жыло больш за 25 тыс. сялян (на 1770-я гады). Сярэдні памер зямельнага надзелу на сялянскі двор складаў $^{1}/_{2}$ валокі, асноўнай павіннасцю быў чынш. Эканоміяй кіравала каралеўская адміністрацыя.

Цяжкае становішча сялян ускладнялася частымі неўраджаямі, якія выклікалі голад і эпідэміі. Пра голад 1601—02 г., калі загінуў ураджай на тэрыторыі «от Менска до Полоцка к Витебску, до Орши, до Мстиславля, до Пропойска, до Рогачева, Могилева» і «много множество людей убогих с голоду на низ (уніз па Дняпры) з жонами и детками из семьею» пайшлі, красамоўна расказваецца ў Баркулабаўскай хроніцы.

Развіццё феадальных адносін абумовіла больш хуткі рост гарадоў, у якіх разрасталіся пасады, населеныя рамесна-гандлёвым людам. Сярод пасяленняў з найбольш развітым рамяством і гандлем упамінаюцца ў пісьмовых крыніцах 12—14 стагоддзяў Крычаў, Мсціслаў, Магілёў. На працягу 15 ст. былыя крэпасці, феадальныя замкі, гаспадарчыя двары (Бабруйск, Быхаў, Глуск, з 16 ст. Шклоў, Галоўчын) набылі рысы гандлёва-рамесных цэнтраў.

Да сярэдзіны 17 ст. на тэрыторыі вобласці было больш за 40 гарадоў і мястэчак. Буйным горадам на Беларусі стаў Магілёў (больш за 8 тыс. жыхароў), да сярэдніх адносіліся Быхаў, Мсціслаў (больш за 5 тыс. жыхароў), да малых — Бабруйск, Горы-Горкі, Крычаў, Шклоў, Чавусы, Чэрыкаў (менш за 2 тыс. жыхароў). З сярэдзіны 16 ст. рамеснікі аб'ядноўваліся ў цэхі, якія з'яўляліся грамадскай арганізацыяй майстроў, мелі свае статуты. У Магілёве ў 1-й палове 17 ст. налічваўся 21 цэх. У буйных гарадах 2 разы на тыдзень наладжваліся таргі, а ў невялікіх гарадах і мястэчках — раз на тыдзень. З 16 ст. пастаянныя гандлёвыя сувязі існавалі паміж Магілёвам, Мінскам і Віцебскам. Магілёўскія купцы мелі крамы ў Бабруйску, Шклове, Крычаве, Гомелі, Талачыне. Яны вялі ажыўлены гандаль з гарадамі Рускай дзяржавы, а таксама з Люблінам, Кракавам, Познанню, Канстанцінопалем, Малдавіяй.



*Гербы Магілёва, Шклова, Мсціслава 16—18 стагоддзяў (паводле прывілеяў на магдэбургскае права і пячатак на дакументах).*

Многія гарады з'яўляліся ўласнасцю буйных феадалаў. Сапегам належалі Бялынічы, Стары Быхаў, Хадкевічам — Быхаў і Шклоў, Палубінскім — Глуск, Друцкім-Горскім — Горкі. Значна вырасла роля гандлёва-рамеснага насельніцтва, якое павялічылася колькасна, узмацнілася эканамічна і ва ўпартай барацьбе супраць феадалаў імкнулася атрымаць незалежнае ад іх становішча. Гарады дамагаліся ад вярхоўнай улады адмены натуральных павіннасцей на карысць феадалаў, скасавання феадальных юрыдык (адміністрацыйна адасобленых частак гарадоў ці прыгарадаў, якія былі пад уладай, у т. л. адміністрацыйнай і судовай, феадала, царквы ці манастыра), устанаўлення гарадскога самакіравання паводле магдэбургскага права. Магдэбургскае права атрымалі Магілёў (з 1577 г.), Крычаў (з 1633 г.), Чавусы (з 1634 г.), Мсціслаў (з 1636 г.), Чэрыкаў (з 1641 г.), Бабруйск, Быхаў. Прывілеі паводле магдэбургскага права стымулявалі гаспадарчую дзейнасць гараджан, садзейнічалі росквіту гарадоў і мястэчак.

Паводле адміністрацыйна-тэрытарыяльнай рэформы 1564—66 гг. тэрыторыя Магілёўшчыны ўвайшла ў Мсціслаўскае (у 1-й палове 17 ст. падзялялася на Магілёўскі, Крычаўскі, Чавускі і Чэрыкаўскі паветы) і Мінскае (Бабруйск, Глуск і Прапойск уваходзілі ў склад Рэчыцкага павета) ваяводствы.

Пасля Люблінскай уніі 1569 г., у выніку якой



*Гербавыя знакі Чэрыкава, Быхава, Чавус (1781 г.) і Бабруйска (1796 г.).*

Вялікае княства Літоўскае і Польшча аб'ядналіся ў адзіную федэратыўную дзяржаву — Рэч Паспалітую, і асабліва Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. польскія феадалы і каталіцкае духавенства пачалі ўмацоўваць свае пазіцыі на беларускіх землях. У 1-й палове 17 ст. актывізавалі дзейнасць езуіты. Іх калегіі з'явіліся ў Бабруйску і Магілёве. Усё гэта ўзмацняла феадальна-прыгонны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт. Рэзка абвастрыліся класавыя супярэчнасці. З 2-й паловы 16 ст. пашыраліся антыфеадальныя выступленні сялян і гарадской беднаты. Многія сяляне ўцякалі ў Расію ці на Украіну, дзе папаўнялі рады запарожскага казацтва. У кастрычніку — снежні 1595 г. поўдзень і ўсход Беларусі ахапіла антыфеадальнае паўстанне на чале з С. Налівайкам. 13.12.1595 г. яго атрад штурмам узяў Магілёў. Каля в. Буйнічы пад Магілёвам атрад Налівайкі прычыніў вялікія страты войску літоўскіх феадалаў, якое ўзначальваў рэчыцкі староста М. Буйвід. Але сілы былі няроўныя, паўстанцы вымушаны былі адысці да Быхава, потым на поўдзень Беларусі і на Валынь. Пасля Буйніцкай бітвы войска Буйвіда ўварвалася ў Магілёў, разрабавала і спаліла горад. Паўстанне Налівайкі садзейнічала развіццю антыфеадальнай барацьбы на Магілёўшчыне. З канца 16 ст. пашырыліся выступленні гарадскіх нізоў супраць багатых вярхоў. Найбольш яскрава гэта выявілася ў Магілёве, дзе летам 1606 г. гараджане на чале са Стахорам Мітковічам занялі ратушу і выбралі новую раду з прадстаўнікоў незаможных рамеснікаў. Гэта рада дзейнічала больш за 2 гады, выходзячы з інтарэсаў шырокіх гарадскіх мас. Прыход да ўлады старой рады і яе злоўжыванні зноў выклікалі выступленні гараджан, якія былі задушаны ўрадавымі войскамі ў чэрвені 1610 г.

У адказ на ўзмацненне нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту ў канцы 16 — 1-й палове 17 ст. на Беларусі ўзніклі праваслаўныя царкоўныя брацтвы, якія складаліся пераважна з рамеснікаў і гандляроў, а таксама духавенства і шляхты. Брацтвы актыўна змагаліся супраць нацыянальнага прыгнёту, акаталічвання насельніцтва, абаранялі беларускую мову і культуру. Пад уплывам брацтва магістрат Магілёва адмовіўся ў 1619 г. прызнаць уніяцкага мітрапаліта, а гараджане не пусцілі ў горад уніяцкага архіепіскапа І. Кунцэвіча. Магілёўскія братчыкі ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы паўстання 1623 г. у Віцебску супраць уніяцкага засілля. Брацтвы адыгралі значную ролю ў развіцці культуры, асветы, школьнай адукацыі. Брацкія школы былі адкрыты ў Магілёве (1590—92 гг.), Шклове (каля 1625 г.), Горках (1676 г.) і інш. Навучанне вялося пераважна на царкоўнаславянскай і беларускай мовах. Брацтвы адкрывалі друкарні, дзе выдаваліся царкоўныя кнігі, падручнікі і дапаможнікі на старабеларускай, царкоўнаславянскай, польскай і лацінскай мовах.



*Паўстанне рамеснікаў у Магілёве ў 1606 г. З карціны М. І. Манасзона і М. З. Беляніцкага. 1964 г.*

У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. супраць феадальнага і нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту з боку шляхецкай Польшчы паўстанні ахапілі і тэрыторыю Магілёўшчыны. Казацкія атрады, накіраваныя на Беларусь Б. Хмяльніцкім, і мясцовыя паўстанцы восенню 1648 г. асадзілі добра ўмацаваную крэпасць Стары Быхаў, апорны пункт магнатаў і шляхты на паўднёвым усходзе Беларусі. Войска наёмнікаў і шляхты пад камандаваннем Р. Друцкага-Горскага і Я. Паца, якое напярэдадні гэтага з часткай старабыхаўскага гарнізона выступіла на задушэнне паўстання ў Чэрыкаве, вымушана было вярнуцца. Атрад пад кіраўніцтвам Ф. Гаркушы ў снежні 1648 г. пачаў штурм крэпасці, але войска Друцкага-Горскага і Паца адбілі яго. Асаду Старога Быхава, якая вялася працяглы час, Гаркуша вымушаны быў зняць. Заняты казакамі і паўстанцамі Бабруйск з кастрычніка 1648 г. да лютага 1649 г. упарта супраціўляўся шляхецкаму войску. Толькі здрада шляхты дала магчымасць войску Я. Радзівіла захапіць горад. Скарыстаўшы спыненне ваенных дзеянняў на Украіне паводле Збораўскага дагавору 1649 г., Радзівіл задушыў паўстанне ў раёне Чэрыкава. У 1651 г. паўстанне ўспыхнула ў раёне Крычава і ахапіла ўсё Мсціслаўскае ваяводства. Каб задушыць яго, феадалы кінулі сюды ўсе наяўныя сілы.

У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. народныя масы Беларусі, у т. л. Магілёўшчыны, зноў узняліся на вызваленчую барацьбу. У ліпені — верасні 1654 г. рускае войска на чале з Трубяцкім узяло Мсціслаў і Шклоў, казацкае войска пад камандаваннем Залатарэнкі — Новы Быхаў і Прапойск, асадзіла Стары Быхаў. 24.8.1654 г. жыхары Магілёва адчынілі вароты рускаму войску. У канцы 1654 г.— пачатку 1655 г. войскі Рэчы Паспалітай перайшлі ў наступленне, занялі шэраг населеных пунктаў, асадзілі Магілёў. Абарона Магілёва ў 1655 г. супраць войск Радзівіла — адзін з яркіх эпізодаў барацьбы за ўз'яднанне беларускіх зямель з Расіяй. Аднак паводле Андрусаўскага перамір'я

1667 г. Беларусь засталася ў складзе Рэчы Паспалітай.

У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. тэрыторыя Магілёўшчыны стала арэнай ваенных дзеянняў паміж рускімі і шведскімі войскамі. Пад Крычавам у 1708 г. быў лагер рускіх войск на чале з Пятром I. 3.7.1708 г. каля в. Галоўчын (Бялыніцкі р-н) адбыўся бой, у якім з вялікімі стратамі перамогу атрымалі шведы. 7.7.1708 г. шведскія войскі занялі і разрабавалі Магілёў, пасля Карл XII рушыў на Украіну. 28.9.1708 г. рускія войскі каля в. Лясная (Слаўгарадскі р-н) разграмілі шведскі корпус Левенгаўпта, які ішоў на дапамогу Карлу XII. У гэтай бітве шведы страцілі каля 9 тыс. чалавек забітымі і параненымі, 17 гармат і 7 тыс. павозак з боепрыпасамі. Мясцовае насельніцтва ўсяляк дапамагала арміі Пятра I.

Войны 17—18 стагоддзяў прычынілі вялікія разбурэнні гарадам і вёскам Магілёўшчыны. Асабліва былі разрабаваны і спустошаны Бабруйск, Чэрыкаў, Магілёў, Крычаў. Яшчэ больш узмацніўся сацыяльна-палітычны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, узраслі феадальныя павіннасці. Перавод часткі сялян з паншчыны на натуральны і грашовы аброк не палепшыў іх становішча. У аграрнай структуры Беларусі 2-й паловы 17 ст. пераважалі буйныя магнацкія латыфундыі. Магнаты карысталіся значнай часткай велікакняжацкіх уладанняў. Так, М. К. Радзівіл меў на Магілёўшчыне Крычаўскае і Прапойскае староствы, якія займалі амаль палову тэрыторыі сучаснай вобласці.

Узмацненне феадальнага прыгнёту выклікала масавае супраціўленне сялянства. Узброеныя выступленні сялян Магілёўшчыны адбыліся ў Крычаўскім старостве (1690, 1696 гг.) і Быхаўскім графстве (1702 г.). У 1700 г. сяляне Шклоўскага графства адмовіліся выконваць натуральныя павіннасці. Найбольшай сілы і размаху антыфеадальная барацьба дасягнула ў 1740—44 гг. у Крычаўскім старостве, якое знаходзілася ва ўладанні Радзівілаў. Тысячы ўзброеных сялян на чале з Васілём Вашчылам, якіх падтрымала гарадская бедната, выступілі супраць арандатараў і адміністрацыі Крычаўскага замка. Спробы паўстанцаў авалодаць Крычавам поспеху не мелі. Радзівіл накіраваў у Крычаў войска. У лютым 1744 г. паўстанне задушана, яго ўдзельнікі жорстка пакараны. Аднак і Радзівіл вымушаны быў пайсці на некаторыя ўступкі: прымусовыя работы на будах замяніў грашовым чыншам, часткова зняў абмежаванні ў сялянскім гандлі, адмовіўся ад здачы староства ў арэнду. У красавіку — маі 1740 г. адбылося антыфеадальнае ўзброенае выступленне на Быхаўшчыне ва ўладаннях Сапегаў. Штуршком да выступлення быў намер М. Сапегіператварыць праваслаўныя цэрквы ў уніяцкія. Сяляне і мяшчане мяст. Дашкаўка Магілёўскага павета ў красавіку 1740 г. збілі прыбыўшага сюды уніяцкага пратапопа, перабілі прадстаўнікоў феадальнай адміністрацыі, выгналі эканома. Сяляне в. Сідаравічы і навакольных вёсак разам з прыгоннымі Магілёўскай эканоміі стварылі ўзброены атрад (200 чалавек) і ў красавіку разграмілі атрад, накіраваны супраць паўстанцаў з Быхаўскага гарнізона. У маі выступленне было задушана.

У 14—16 стагоддзях фарміравалася беларуская народнасць. Культура беларускага народа набыла самабытны характар, нацыянальную своеасаблівасць. У Вялікім княстве Літоўскім да канца 17 ст. беларуская мова была дзяржаўнай. На ёй пісаліся летапісы і хронікі, свецкія і царкоўныя творы, статуты, граматы, сеймавыя пастановы і інш. дакументы, вялося справаводства ва ўстановах. У 2-й палове 16 ст. у беларускай культуры знайшлі сваё адлюстраванне ідэі Адраджэння і Рэфармацыі. Развівалася ўсходнеславянскае кнігадрукаванне. Друкарні працавалі ў Магілёве (з 1616 г. да 1773 г., з перапынкамі), Буйнічах (1635 г.), Бялынічах (1638—53 гг.). Выхадзец з Магілёўшчыны, верагодна, з Мсціслава, адзін з рускіх і беларускіх першадрукароў 16 ст. Пётр Мсціславец; на Магілёўшчыне нарадзіўся беларускі друкар і асветнік Спірыдон Собаль, які заснаваў Куцеінскую друкарню (1630 г.), выдаў у Буйнічах «Псалтыр» (1635 г.), у Магілёве — «Буквар» (1636 г.), «Псалтыр» (1637 г.) і «Тэстамент» (1638 г.). З Магілёўшчынай звязана жыццё і дзейнасць Лаўрэнція Зізанія (? — 1634 г.), беларускага педагога, перакладчыка, царкоўнага дзеяча. Яго «Азбукай» (створана разам з братам Стэфанам Зізаніем, 1596 г.) і «Граматыкай» (1596 г.) карысталіся ў брацкіх школах Беларусі, Украіны і Літвы. У 1597—1600 гг. ён працаваў у Баркалабаве хатнім настаўнікам у крычаўскага старосты князя Б. Саламярэцкага. Мялецій Сматрыцкі (1572 г. ? — 1633 г.) — беларускі і ўкраінскі пісьменнік-палеміст, царкоўны і грамадска-палітычны дзеяч таксама настаўнічаў з 1600 г. у князя Саламярэцкага ў Баркалабаве. Яго «Граматыку» (1619 г.) М. В. Ламаносаў разам з «Арыфметыкай» Л. Магніцкага называў «вратами своей учености»; паэтычны твор «Трэнас» (1610 г.) быў накіраваны супраць нацыянальна-рэлігійнага прыгнёту праваслаўнага насельніцтва ў Вялікім княстве Літоўскім.

У арыгінальнай літаратуры пачатку 17 ст. важнае месца заняў гістарычна-мемуарны твор «Баркулабаўская хроніка», дзе апісаны падзеі 1545—1608 гг. Самабытнасць мовы, высокамастацкае па стылі адлюстраванне сялянскага жыцця ставяць «Хроніку» ў шэраг найвыдатнейшых помнікаў беларускай нацыянальнай культуры.

З сярэдзіны 17 ст. пагоршыліся ўмовы для развіцця беларускай культуры. Яго стрымлівалі феадальны і нацыянальна-рэлігійны прыгнёт, войны, каталіцкая экспансія, негатыўная палітыка уніяцкай і праваслаўнай цэркваў. Беларуская мова ў дзяржаўных, судовых, адміністрацыйных установах замянялася польскай. Закрываліся брацкія друкарні і школы. У 1773 г. спыніла дзейнасць магі-

лёўская брацкая друкарня — апошняя на Беларусі. Школьную адукацыю на Магілёўшчыне забралі ў свае рукі розныя манаскія ордэны. Езуіты мелі школы ў Бабруйску, Магілёве, Мсціславе, Клімавічах, базыльяне — у Магілёве, Баркалабаве, дамініканцы — у Княжыцах (Магілёўскі р-н), кармеліты — у Бялынічах і інш. Адукацыя мела вузкі саслоўна-класавы характар і царкоўна-рэлігійную накіраванасць, што стрымлівала развіццё і пашырэнне прыродазнаўчых і інш. навуковых ведаў на Беларусі. Першай дзяржаўнай установай па кіраўніцтву народнай асветай у Рэчы Паспалітай, у т. л. і на Беларусі, была Адукацыйная камісія, створаная ў 1773—75 гг. Яна ажыццявіла рэформу асветы, у выніку якой адукацыя пастулова вызвалялася ад сярэдневяковай схаластыкі і тэалогіі, пачала набываць свецкі характар. Аднак дзейнасць Адукацыйнай камісіі з-за недахопу сродкаў, памяшканняў, абсталявання і інш. мела абмежаваны характар. Больш як за 20 гадоў існавання яна адкрыла на Магілёўшчыне толькі адну новую школу — у Бабруйску. У мястэчках і некаторых вёсках існавалі пачатковыя школы. Але дзяцей сялян і ў іх вучылася мала. З-за недахопу настаўнікаў змест навучання, як і раней, вызначала пераважна каталіцкае духавенства.

Тэрыторыя Магілёўшчыны ўз'яднана з Расіяй у выніку 1-га (1772 г.) і 2-га (1793 г.) падзелаў Рэчы Паспалітай. У 1772 г. да Расіі адышлі большая частка Мсціслаўскага ваяводства і Прапойск, які быў у складзе Мінскага ваяводства, у 1793 г.— астатняя частка Мсціслаўскага і Мінскага (з гарадамі Бабруйск і Глуск) ваяводстваў. Утвораная 28.5.1772 г. Магілёўская губерня падзялялася на правінцыі (Аршанскую, Магілёўскую, Мсціслаўскую і Рагачоўскую) і паветы (Аршанскі, Беліцкі, Клімавіцкі, Копыскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Рагачоўскі, Сенненскі, Старабыхаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, з 1777 г. і Бабінавіцкі). 10.1.1778 г. губерня перайменавана ў Магілёўскае намесніцтва, якое ў 1796 г. скасавана, тэрыторыя ўключана ў склад Беларускай губерні. У 1802 г. Магілёўская губерня адноўлена ў складзе ранейшых 12 паветаў. Бабруйскі павет з 1793 г. уваходзіў у Мінскую губерню.

Уз'яднанне з Расіяй адпавядала інтарэсам усяго беларускага народа, яго спрадвечнаму імкненню аб'яднацца з родным па паходжанні, мове, культуры і гістарычным мінулым рускім народам, садзейнічала эканамічнаму, грамадска-палітычнаму і культурнаму развіццю. Беларусь, у т. л. Магілёўшчына, была ўключана ў агульнарасійскую гаспадарчую сістэму: уведзены агульнадзяржаўныя грашовая сістэма, меры і вага; збор дзяржаўных падаткаў перададзены казне, ліквідаваны ўнутраныя таможныя пошліны; на беларускія гарады, што мелі магдэбургскае права, і мястэчкі — цэнтры паветаў пашыраны прынцыпы рускага гарадскога самакіравання, вызначаныя ў Даравальнай грамаце гарадам 1785 г. Каталіцкая царква страціла пануючае становішча на беларускіх землях. Буйныя



*Від на Крычаў з боку р. Сож. З акварэлі М. Іванова. Канец 18 ст.*

феадалы былі пазбаўлены права мець асабістае войска і крэпасці, многія прыватнаўласніцкія гарады і мястэчкі выкупіў урад. Мясцовым феадалам, якія прынеслі прысягу на рускае падданства, пакідаліся землі і прыгонныя сяляне. Адначасова царскія ўлады насаджалі на Беларусі землеўладанне рускага дваранства шляхам раздачы яму зямель былых каралеўскіх староства́ў і эканомій, секвестраваных маёнткаў памешчыкаў, што выехалі за мяжу, і ўладанняў каталіцкіх манастыроў. Вялікія зямельныя надзелы і прыгонных атрымалі на Магілёўшчыне фаварыты Кацярыны II: кабінет-сакратар Завадоўскі — 25860 прыгонных; генерал-фельдмаршал Пацёмкін — 14274 прыгонных, землі былога Крычаўскага староства і г. Шклоў (з 1773 г.); генерал Зорыч — 11800 прыгонных і Шклоў (з 1778 г.); князь Галіцын — г. Прапойск. Перамена ўладальнікаў не выклікала істотных змен у сацыяльным і эканамічным становішчы сялян.

Пад уплывам эканамічных сувязей з расійскім рынкам гаспадарчае жыццё гарадоў Магілёўшчыны значна ажывілася. Са стану разарэння выйшлі Магілёў (колькасць жыхароў з 7,3 тыс. у 1776 г. павялічылася да 9,3 тыс. у 1786 г.), Крычаў і Стары Быхаў (да 3,5 тыс. жыхароў), Шклоў. Рамеснае насельніцтва ў 1770-я гады складала ў Магілёве 50 %, у Мсціславе — да 20, у Чавусах — 10, у Бабруйску (1790-я гады) — 20 %. З Магілёўскай губерні ў Маскву, Пецярбург і інш. гарады вывозілі парусіну, лён, пяньку, воск, канапляны алей. Гэты перыяд характарызаваўся ростам вотчынных мануфактур, большасць якіх належала буйным землеўладальнікам (Пацёмкіну, Зорычу, Салагубу, Чарнышову і інш.). Шырокае развіццё на Магілёўшчыне атрымалі палатняная, парусінавая, канатная, суконная, гарбарная, паташная мануфактуры. У Крычаве ў 1783 г. Пацёмкін стварыў буйную мануфактуру на 172 станы, на якой выраблялася парусіна для Чарнаморскага флоту. Тут жа дзейнічалі з 1785 г. суднаверф, з 1786 г. канатныя, гарбарныя, цагельныя мануфактуры, бровар. Канатныя і парусінавыя прадпрыемствы былі ў Горках (з 1790 г.), Шклове (1790 г., 1794 г.), у в. Благоева Клімавіцкага павета. Па вытворчасці парусінавага палатна Магілёўская губерня займала 2-е месца ў Расіі. Сярод суконных мануфактур найбольшыя былі ў Шклове, Горках (заснавана каля 1795 г.), у в. Путнікі Шклоўскага павета (1781 г.). Узнікла

шмат паташных, жалезных, медных (в. Уюн Быхаўскага павета, каля 1795 г.), шкляных (Крычаў, фальварак Лубянка Быхаўскага павета, 1789 г.), гарбарных (1794 г.), палатняных (Круглае, 1797 г.), залаташвейных (фальварак Сямёнаўскі каля Шклова, 1793 г.) прадпрыемстваў. Іх прадукцыя прадавалася на рынках Беларусі, рускіх і ўкраінскіх губерняў.

З першых дзён Айчыннай вайны 1812 г. тэрыторыя Беларусі стала арэнай ваенных дзеянняў. Улічваючы перавагу сіл праціўніка, рускія арміі з мэтай аб'яднання адыходзілі з ар'ергарднымі баямі на ўсход. 2-я Заходняя армія (камандуючы генерал П. І. Баграціён) з Ваўкавыска праз Слонім — Нясвіж — Слуцк — Бабруйск — Магілёў рухалася на злучэнне з 1-й Заходняй арміяй (камандуючы генерал М. Б. Барклай-дэ-Толі), якая ад рубяжа Расіены — Ліда накіроўвалася да Дрысенскага лагера. Французскі корпус маршала Л. Даву падышоў да Магілёва раней і пасля ўпартага бою з рускім гарнізонам 8.7.1812 г. заняў горад, перарэзаўшы шлях адступлення 2-й рускай арміі. 11 ліпеня каля в. Салтанаўка (Магілёўскі р-н) корпус генерала М. М. Раеўскага атрымаў перамогу над французскімі войскамі Даву, чым даў магчымасць арміі Баграціёна пераправіцца цераз Дняпро, потым стрымліваў ворага каля мяст. Дашкаўка і в. Навасёлкі, 12 ліпеня адышоў за Дняпро. Важную ролю ў парушэнні планаў камандавання напалеонаўскіх войск адыграла Бабруйская крэпасць, гарнізон якой (каля 7 тыс. чалавек, 300 гармат) вытрымаў 4-месячную асаду, адцягнуў на сябе 20-тысячны корпус напалеонаўскага генерала Я. Дамброўскага. На тэрыторыі акупіраванай Магілёўшчыны разгарнулася партызанская барацьба. Яна зліваліся з барацьбой сялян супраць памешчыкаў, якія памагалі акупантам. На тэрыторыі губерні дзейнічаў атрад генерал-лейтэнанта А. М. Сяславіна, у раёне Шклова і Бялыніч — партызаны палкоўніка Дз. В. Давыдава. Партызанскі рух прымушаў Напалеона пакідаць значныя гарнізоны ў Магілёве і павятовых гарадах. У лістападзе 1812 г. Магілёўская губерня была вызвалена ад акупантаў.

Вайна 1812 г. нанесла вялікія спусташэнні: многія гарады былі разбураны, вёскі — абрабаваны ці зніпчаны, скарацілася колькасць насельніцтва (у 1817 г. мужчын у Магілёўскай губерні было на 72797 менш, чым у 1811 г.). Аднаўленне і развіццё сельскай гаспадаркі стрымлівала прыгоннае права. Павелічэнне ў пасляваенныя гады паншчыны вяло да рэзкага збяднення сялян. Да сярэдзіны 19 ст. іх нядоімкі па Магілёўскай губерні дасягнулі 2,5 млн. руб. (па ўсёй Расіі — 23 млн. руб.). Пасля вайны памешчыкі пачалі прыстасоўваць свае гаспадаркі да патрэб рынку, вырошчваць культуры, выгадныя ў таварных адносінах. У паўночнай частцы губерні сеялі пераважна лён, у сярэдняй і паўднёвай частках — каноплі, цукровыя буракі. Развівалася і вотчынная прамысловасць — суконная, гарбарная, медная, шкляная, палатняная і інш. У 1828 г. прыгонных мануфактур, што належалі да тыпу заводаў і фабрык, у Магілёўскай губерні было 26 з 704 рабочымі. Побач з прыгоннымі мануфактурамі з'явіліся і капіталістычныя, заснаваныя на вольнанаёмнай працы. У канцы 1850-х гадоў іх колькасць больш чым удвая перавышала вотчынныя. Капіталістычныя мануфактуры існавалі ў Магілёве (2 суконныя, мукамольная, лесапільная, 6 цагельных, 7 гарбарных, 3 піваварныя, 4 свечачныя, тытунёвая), у Бабруйску (цагельная), Быхаве (2 суконныя), Горках (чыгуналіцейны завод), Елізаветаве Клімавіцкага павета (шкляная, 57 рабочых), Клімавічах (гарбарная), Мсціславе (свечачна-сальная), Мікалаеўцы Чэрыкаўскага павета (цукровая, 202 рабочыя), Хоцімску (гарбарная), Старынцы Чэрыкаўскага павета (жалезаапрацоўчы завод, больш за 600 рабочых).

На працягу 1-й паловы 19 ст. пабудавана некалькі дарог. Праз Шклоў і Магілёў прайшла Пецярбургска-Кіеўская шаша. Да пачатку 1860-х гадоў пракладзены тракт Магілёў — Чавусы — Крычаў — Мсціслаў; Маскоўска-Варшаўская шаша прайшла ад Рослаўля на Крычаў — Чэрыкаў — Прапойск — Рагачоў — Бабруйск; з устанаўленнем у 1850-я гады тэлеграфнай сувязі паміж Пецярбургам і Варшавай тэлеграфныя лініі працягнуты да Бабруйска і Магілёва. Рост гарадоў садзейнічаў развіццю таварна-грашовых адносін. Буйным горадам быў Магілёў , дзе ў 1861 г. налічвалася 30 тыс. жыхароў. Вялікую ролю ў гандлёвых перавозках па-ранейшаму адыгрывалі водныя шляхі. На Сажы, Дняпры, Беседзі, Друці ў межах Магілёўскай губерні налічвалася каля 20 прыстаней. Найбольш буйнымі па грузаабароце з'яўляліся Магілёў, Крычаў, Шклоў.

З Магілёўшчынай звязаны падзеі дзекабрысцкага руху. У 1823 г. у лагерах каля Бабруйска размяшчалася 9-я пяхотная дывізія, у склад якой уваходзілі палкі, дзе служылі дзекабрысты: С. І. Мураўёў-Апостал — Чарнігаўскі пяхотны, М. П. Бястужаў-Румін — Палтаўскі пяхотны, І. С. Павала-Швяйкоўскі — Алексапольскі пяхотны, В. С. Нораў — 18-ы егерскі. Тут быў распрацаваны так званы Бабруйскі план паўстання, які прадугледжваў арышт цара Аляксандра І і яго світы ў час агляду імі войск у Бабруйскай крэпасці. Адначасова прадугледжвалася выступленне дзекабрыстаў у Пецярбургу, Маскве і Тульчыне (Украіна) і ў выніку — ліквідацыя ў Расіі самадзяржаўя і стварэнне буржуазна-дэмакратычнай рэспублікі. З-за непадрыхтаванасці план не ажыццёўлены. У лютым 1826 г. член «Таварыства з'яднаных славян» прапаршчык С. І. Трусаў спрабаваў узняць у Бабруйску паўстанне Палтаўскага палка. У час расправы ўрада з дзекабрыстамі ў Бабруйскай крэпасці арыштаваны В. К. Тызенгаўзен. Тут былі зняволены С. І. Трусаў, П. А.

Бястужаў, І. Р. Бурцаў і інш. Пасля разгрому паўстання Чарнігаўскага палка ў Магілёў былі прывезены на допыт па справе дзекабрыстаў М. П. Бястужаў-Румін і С. І. Мураўёў-Апостал.

Уз'яднанне з Расіяй спрыяла пашырэнню на Беларусі рускай культуры. У бібліятэках з'явіліся творы рускіх пісьменнікаў. Расійская акадэмія навук накіравала ў Падняпроўе некалькі навуковых экспедыцый. У гарадах Магілёўшчыны працавалі вядомы рускі мастак У. Л. Баравікоўскі, архітэктар М. А. Львоў. У Магілёве пабываў А. С. Пушкін — у 1820 г. па дарозе ў Кішынёў у ссылку, у 1824 г. з Адэсы ехаў у с. Міхайлаўскае Пскоўскай губ.

Паводле рэформы асветы, праведзенай у Расіі ў пачатку 19 ст., Магілёўская губерня ўключана ў склад Віленскай навучальнай акругі. У выніку Магілёўскае галоўнае народнае вучылішча (існавала з 1789 г.) ператорана ў гімназію, а Бабруйскае, Касцюковіцкае, Магілёўскае, Мсціслаўскае малыя народныя вучылішчы — у павятовыя вучылішчы. Малыя народныя вучылішчы, заснаваныя ў 1786 г., працягвалі працаваць у Чэрыкаве і Чавусах. Створана некалькі сельскіх школ у Магілёўскім і Бабруйскім паветах, якія ўтрымліваліся на сродкі сялян. У 1824 г. навучальныя ўстановы Магілёўскай губ. перададзены ў распараджэнне Пецярбургскай, а ў 1829 г.— Беларускай навучальнай акругі. У 1840 г. заснавана Горы-Горацкая земляробчая школа, ператворана ў 1848 г. у земляробчы інстытут — першую ў Расіі вышэйшую агранамічную навучальную ўстанову. Вынікі рэформы ў галіне асветы на Беларусі былі значна меншыя, чым у цэнтральных губернях Расіі. Развіццё беларускай нацыянальнай культуры царызм свядома тармазіў. Але ўлады не маглі спыніць імкненне беларускага народа да фарміравання сваёй нацыянальнай культуры. На 1-ю палову 19 ст. прыпадае пачатак творчасці буйнога прадстаўніка беларускай культуры паэта, драматурга і тэатральнага дзеяча В. І. Дуніна-Марцінкевіча (1807—84 гг., нарадзіўся ў фальварку Панюшкавічы непадалёку ад Бабруйска).

Узрасла цікавасць да матэрыяльнай і духоўнай культуры беларускага народа з боку рускіх, польскіх і беларускіх даследчыкаў. У 1853 г. этнограф Л. І. Паўлоўская на матэрыялах Быхаўскага павета выдала ў Пецярбургу зборнік «Народныя беларускія песні». У гістарычных, этнаграфічных і лінгвістычных даследаваннях Адама Кіркора (1819—86 гг., нарадзіўся ў в. Слівіна Клімавіцкага павета) вялікае месца было адведзена Беларусі. Яму належыць большасць гістарычна-этнаграфічных нарысаў пра Беларусь у 3-м томе «Живописной России» (1882 г.).

Расла кнігавыдавецкая справа. Да канца 18 ст. у Магілёве працавалі 3 друкарні, у т. л. заснаваная вучоным і літаратарам, царкоўным дзеячам С. Богуш-Сестранцэвічам, і друкарня ў Шклове.

Выдатным прадстаўніком асветы, філасофскай і грамадска-палітычнай думкі 18 ст. на Магілёўшчыне быў Георгій Каніскі (1717—95 гг.), пісьменнік, царкоўна-палітычны і культурны дзеяч, з 1755 г. беларускі праваслаўны архіепіскап у Магілёве; вызначыўся як заўзяты змагар супраць Ватыкана і Брэсцкай уніі 1596 г., прыклаў шмат намаганняў каб вярнуць уніятаў у праваслаў'е пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай; імкнуўся да пашырэння асветы на Беларусі; аўтар курсаў піітыкі і філасофіі, гістарычных запісак пра Магілёўскую епархію і інш.

Вялікую гісторыка-літаратурную каштоўнасць мае летапісная Магілёўская хроніка, якая ахоплівае падзеі з 1526 да 1856 гг. Твор адлюстроўвае сацыяльна-палітычнае, гаспадарча-эканамічнае і культурнае жыццё Магілёва, Быхава, Шклова і інш., падзеі, якія мелі важнае значэнне ў гісторыі беларускага народа, змяшчае цікавы матэрыял па гісторыі Рэчы Паспалітай, Украіны, Расіі, пра міжнародныя адносіны 17—18 стагоддзяў. Магілёўская хроніка — выдатны помнік культуры Беларусі канца 17 — 1-й паловы 19 ст., адзіны ў сваім родзе летапісны твор у славянскіх літаратурах гэтага перыяду.

Значнай з'явай беларускай культуры 2-й паловы 18 — 1-й паловы 19 ст. былі прыгонныя (прыдворныя) тэатры. Да буйнейшых на Магілёўшчыне належалі: Шклоўскі тэатр графа С. Г. Зорыча [тэатральны будынак існаваў у 1780—1884 (?)], які меў балетна-оперна-драматычную трупу, вялікі аркестр, балетную і пеўчую школы прыгонных артыстаў; тэатр графа З. Р. Чарнышова ў Магілёве (будынак тэатра пастаўлены ў 1780), дзе паказы ставіла італьянская опера і прыдворная капэла з Пецярбурга, абслугоўваў тэатральныя паказы прыгонны малы сімфанічны аркестр, т. зв. «Чарнышоўскія музыканты»; тэатр Бжазоўскага ў Матэвушах каля Быхава (пачатак 19 ст.). Акрамя таго, у канцы 18 ст. працавалі тэатры С. Богуша-Сестранцэвіча ў Магілёве (спектаклі ў 1783, 1788 гг.), Юдзіцкіх у Глуску (1890-я гады), Р. А. Пацёмкіна ў Крычаве і інш.

Рэвалюцыйная сітуацыя канца 1850 — пачатку 1860-х гадоў, абумоўленая крызісам феадальна-прыгонніцкай сістэмы і зараджэннем капіталістычных адносін, вымусіла царызм у 1861 г. адмяніць прыгоннае права. Але сялянская рэформа не ліквідавала шматлікіх перажыткаў прыгону і не вырашыла аграрнага пытання. Так, у Быхаўскім павеце ў адпаведнасці з устаўнымі граматамі сялянам адводзілася 59,5 тыс. дзесяцін зямлі супраць 68,8 тыс., якімі яны карысталіся напярэдадні рэформы. Рабаўніцкі характар рэформы выклікаў на Магілёўшчыне шырокі сялянскі рух. Толькі з сакавіка па снежань 1861 г. хваляванні адбыліся ў 50 маёнтках губерні, у 11 маёнткаў былі пасланы ваенныя каманды. У 1862 г. масавыя хваляванні сялян супраць увядзення ўстаўных

грамат адбыліся ва ўсіх паветах Магілёўшчыны, усюды яны жорстка падаўляліся.

У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 г. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве супраць царызму вялікае значэнне кіраўнікі паўстання (К. С. Каліноўскі і інш.) надавалі Магілёўскай губерні, адкуль паўстанцкі рух меркавалі пашырыць на Расію. У красавіку 1863 г. на Магілёўшчыну для падрыхтоўкі і кіраўніцтва паўстаннем пасланы ў якасці ваеннага начальніка Магілёўскай губерні Л. М. Звяждоўскі. Яму дапамагалі афіцэры І. М. Будзіловіч, К. А. Жаброўскі, А. В. Алендскі, Я. В. Жукоўскі, якія прыбылі з Масквы і Пецярбурга, а таксама мясцовая дробная шляхта, разначынная інтэлігенцыя, навучэнцы Горы-Горацкага земляробчага інстытута І. Дз. Анцыпа, С. І. Віскоўскі, З. Міткевіч, Ф. Чудоўскі. Яны сфарміравалі паўстанцкія атрады: Чэрыкаўскі — камандзір Я. В. Жукоўскі, Быхаўскі — камандзір І. Дз. Анцыпа, Чарнаруцкі (Магілёўскі) — камандзір А. В. Алендскі і інш. У часцях 3-й зводнай рэзервовай артылерыйскай брыгады, раскватараванай у Магілёве, дзейнічала ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя. Горацкі атрад на чале з Л. М. Звяждоўскім у ноч на 24.4.1863 г. захапіў г. Горкі. Паўстанцаў падтрымалі студэнты Горы-Горацкага земляробчага інстытута. План пашырэння паўстання ажыццявіць не ўдалося, і ў маі 1863 г. ва ўсходняй Беларусі яно было задушана. За ўдзел студэнтаў у паўстанні быў закрыты ў сакавіку 1864 г. Земляробчы інстытут у Горы-Горках. Магілёўская губерня аб'яўлена на ваенным становішчы і ўключана ў склад Віленскага генерал-губернатарства (да 1869 г.).

У 1870-я гады рух рэвалюцыйных народнікаў ахапіў і Магілёўшчыну. Пад выглядам самаадукацыі моладзь арганізоўвала гурткі, дзе вывучала нелегальную народніцкую літаратуру. Такія гурткі створаны ў 1873—75 гг. у Магілёве і Горы-Горках. Гурткі, звязаныя з народніцкай арганізацыяй «Зямля і воля», узніклі ў 1878 г. у асяроддзі інтэлігенцыі і вучнёўскай моладзі мужчынскай гімназіі і духоўнай семінарыі ў Магілёве, у Горы-Горацкай земляробчай школе. З нелегальных гурткоў Магілёўшчыны выйшлі вядомыя дзеячы агульнарасійскага народніцкага руху І. Я. Грынявіцкі, Р. П. Ісаеў, С. П. Кавалік, М. К. Судзілоўскі, М. М. Забела, браты Я. І., У. І. і А. І. Бычковы і інш. Пасля расколу «Зямлі і волі» ў 1879 г. на арганізацыі «Чорны перадзел» і «Народная воля» самая моцная на Беларусі Мінская арганізацыя «Чорны перадзел» трымала сувязь з гурткамі Магілёва. У пачатку 1880-х гадоў у Горках існавалі рэвалюцыйныя гурткі навучэнцаў сельскагаспадарчых вучылішчаў, на чале якіх стаяў Цэнтральны гурток, ад яго імя выдадзена адозва «Рускаму студэнцтву ад Горацкага цэнтральнага гуртка», што заклікала навучэнцкую моладзь рыхтавацца да ўзброенага звяржэння самадзяржаўя. М. П. Аўчыннікаў арганізоўваў гурткі ў Бабруйску, Я. С. Гурвіч у 1880—81 гг. кіраваў рабочымі і раместнымі гурткамі ў Магілёве. Створаная ў 1882 г. «Паўночна-Заходняя арганізацыя «Народнай волі» вяла прапаганду сярод рабочых Беларусі, у т. л. і на Магілёўшчыне. У Бабруйску і Магілёве дзейнічалі афіцэрскія групы, якія падпарадкоўваліся непасрэдна ваенна-рэвалюцыйнаму цэнтру «Народнай волі», у 1882 г. увайшлі ў нарадавольскую арганізацыю Віленскай ваеннай акругі.

У 2-й палове 19 ст. у працэсе фарміравання беларускай нацыі працягвала развівацца беларуская культура. Рост капіталізму ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі ў парэформенны перыяд выклікаў неабходнасць пашырэння народнай асветы. Да сярэдзіны 1890-х гадоў на тэрыторыі сучаснай Магілёўскай вобл. існавалі мужчынская гімназія ў Магілёве, прагімназія ў Бабруйску, рэальнае вучылішча ў Магілёве (з 1885 г.). У 1863 г. у Магілёве адкрыты жаночая гімназія і вучылішча для «дзяўчат духоўнага звання», з 1864 г. пачалі працаваць прыватныя двухкласныя жаночыя пансіёны ў Магілёве і Бабруйску і аднакласныя жаночыя ў Мсціславе і Клімавічах. У Горках у 1880-я гады працавалі земляробчая і каморніцка-таксатарская школы. На 1.1.1894 г. у Магілёўскай губерні налічвалася 268 царкоўнапрыходскіх школ. Паводле перапісу 1897 г., колькасць пісьменных у Магілёўскай губерні складала 21,8 % ад усяго насельніцтва. У навуку ў гэты час прыйшлі такія буйныя вучоныя, як І. І. Насовіч, П. В. Шэйн, Е. Р. Раманаў, І. А. Сербаў і інш., жыццё і дзейнасць якіх цесна звязана з Магілёўшчынай. Сярод прац, прысвечаных вывучэнню гісторыі Беларусі, яе прыродных багаццяў і эканамічнага становішча, трохтомнае даследаванне А. С. Дамбавецкага «Вопыт апісання Магілёўскай губерні...» (1882—84 гг.).

У цэлым Магілёўшчына ў 2-й палове 19 ст.— пачатку 20 ст. аставалася аграрнай ускраінай Расійскай імперыі са слаба развітай прамысловасцю. У. І. Ленін у канцы 1880-х гадоў аднесіў Магілёўскую губерню да губерняў з перавагай мяшанай сістэмы памешчыцкай гаспадаркі — капіталістычнай і адпрацовачнай. Да капіталістычных адносілася каля 15 % маёнткаў, у якіх пераважалі наёмныя рабочыя. У 45 % гаспадарак наёмная праца паступова выцясняла адпрацоўкі. Каля 40 % маёнткаў вялі гаспадарку на аснове адпрацовачнай сістэмы, зямля раздавалася сялянам у арэнду. Былі пашыраны кушнерскі, рымарны, кравецкі, шавецкі промыслы. У 1881 г. дробнымі промысламі ў Магілёўскай губерні было занята 71150 сялян.

Пераход ад мануфактурнай да фабрычнай вытворчасці ў вядучых галінах прамысловасці завяршыўся да пачатку 1880-х гадоў. Найбольш пашыранымі былі прамысловасць будаўнічых матэрыялаў (пераважна цагельныя заводы), вінакурэнне, вытворчасць пянькі (канатныя заводы) і алею. У Бабруйску развівалася дрэваапрацоўчая



*Цагельня ў в. Нтушачы Бабруйскага павета. Пачатак 20 ст.*

прамысловасць, у Быхаўскім павеце — гарбарная. Значнымі цэнтрамі фабрычна-заводскай прамысловасці сталі Магілёў і Бабруйск. Але буйных прадпрыемстваў і тут не было. У 1913 г. у Магілёве на піваварным заводзе працавала 45 рабочых, на тытунёвай фабрыцы — 44 рабочыя; на лесапільным заводзе ў Бабруйску працавала 194 рабочыя, на лесапільна-фанерным заводзе нямецкай фірмы «Шульц» у маёнтку Вярзуціна Бабруйскага павета — 400 рабочых, на папяровай фабрыцы ў Шклове — 287 рабочых, лесапільным заводзе ў Клімавіцкім павеце — 140 рабочых. Усяго ў 1913 г. у губерні дзейнічала 3480 прадпрыемстваў, на якіх працавала 12709 рабочых, і толькі на 14 прадпрыемствах было больш як на 100 рабочых.

Разам з канцэнтрацыяй вытворчасці, ростам рабочага класа адбывалася цэнтралізацыя капіталу, павялічвалася роля банкаў у эканоміцы. У Магілёве адкрылі свае філіялы Мінскі камерцыйны і Азова-Данскі банкі, у Бабруйску — Віленскі, Беластоцкі і Арлоўскі камерцыйныя банкі. У 1873 г. і 1902 г. праз Магілёўшчыну прайшлі Лібава-Роменская і Пецярбургска-Адэская чыгункі. Як чыгуначны вузел хутка пачалі развівацца Асіповічы. У 1900 г. у Магілёўскай губерні было 9128 гандлёвых прадпрыемстваў.

З развіццём капіталізму і пераходам яго ў стадыю імперыялізму абвастрылася класавая барацьба. У 1898—99 гг. адбыліся забастоўкі рабочых у Магілёве і Быхаўскім павеце. У 1901—04 гг. стачкі і дэманстрацыі працоўных адбыліся ў Магілёве, Горках, Шклове, Мсціславе, Бабруйску, Буйнічах (Магілёўскі р-н) і інш., хваляванні сялян у вёсках Мсціслаўскага, Клімавіцкага, Быхаўскага, Горацкага і інш. паветаў. Ствараліся рабочыя гурткі сацыял-дэмакратычнага кірунку. У 1899 г. у Магілёве створаны камітэт РСДРП. У 1903 г. сацыял-дэмакратычныя арганізацыі ўзніклі ў Лупалаве, Шклове, Быхаве, Мсціславе, у 1904 г. у Бабруйску. Вялікі ўплыў на рабочых і сялян Магілёўшчыны рабіла агульнаруская палітычная газета «Искра», якая распаўсюджвалася тут з першых яе нумароў. У 1903 г. у Магілёве, Шклове, Бабруйску, Горках і інш. гарадах працавалі групы «Искры». У Бабруйску актыўную работу ў іскраўскай групе вёў Г. Л. Шклоўскі. Значную работу па распаўсюджванню «Искры» і падрыхтоўцы II з'езда РСДРП вёў дзеяч рэвалюцыйнага руху П. М. Лепяшынскі, ураджэнец в. Студзянец Касцюковіцкага раёна.

У студзені 1904 г. створаны Палескі камітэт РСДРП, у сакавіку 1904 г.— Паўночна-Заходні камітэт РСДРП. Яны аб'ядналі многія сацыял-дэмакратычныя арганізацыі Беларусі, у т. л. Магілёўшчыны, вялі барацьбу за ленінскую ідэю кансалідацыі рэвалюцыйных сіл, распаўсюджвалі працы У. І. Леніна, лістоўкі і пракламацыі.

Працоўныя Магілёўскай вобл. пад кіраўніцтвам бальшавікоў актыўна ўдзельнічалі ў 1-й рускай Рэвалюцыі 1905—07 гг. Расстрэл рабочых 9.1.1905 г. у Пецярбургу выклікаў абурэнне працоўных. Усеагульныя забастоўкі адбыліся 11 і 20 студзеня ў Магілёве. У лютым — красавіку баставалі рабочыя Бабруйска, Горак, Шклова. Напярэдадні 1 мая ў многіх гарадах адбыліся масоўкі. У Бабруйску ў масоўцы ўдзельнічала 600, у Шклове — 500 чалавек.

Пад кіраўніцтвам груп РСДРП выступленні і забастоўкі ахапілі Быхаўскі, Горацкі, Магілёўскі, Чэрыкаўскі, Клімавіцкі, Чавускі паветы. Для падаўлення хваляванняў у Быхаўскім павеце быў накіраваны атрад казакоў. 17.6.1905 г. у в. Кішчыцы Чавускага павета ўзброенай сілай задушана выступленне супраць адмяжавання пашы на карысць памешчыка, былі забіты 8 і паранены 15 сялян. У красавіку — жніўні 1905 г. у Магілёўскай губерні адбылося 112 выступленняў сялян.

У час Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачкі выступленні ў Магілёве набылі ўсеагульны характар 17—18 кастрычніка і пашырыліся на Бабруйск, Шклоў, Горкі. Снежаньскае ўзброенае паўстанне ў Маскве рабочы клас Магілёўшчыны актыўна падтрымаў усеагульнай забастоўкай. У авангардзе барацьбы ішлі чыгуначнікі Магілёва і Бабруйска. Для дапамогі маскоўскім рабочым у Горках быў створаны баявы атрад у складзе 100 чалавек.

Буйныя выступленні ў лістападзе — снежні 1905 г. адбыліся ў арміі. 5 лістапада ў Магілёве пачалося хваляванне салдат 1-га і 2-га запасных батальёнаў Кадnікаўскага палка (900 чалавек). 24 лістапада паўсталі салдаты дысцыплінарнага батальёна Бабруйскай крэпасці. Кіравала імі ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя пры Бабруйскім камітэце РСДРП. У 1906 г. яна выпусціла і распаўсюдзіла адозву «Да салдат бабруйскага гарнізона», у якой растлумачвала задачы рэвалюцыі.

Пасля Снежаньскага ўзброенага паўстання 1905 г. пачаўся паступовы спад рэвалюцыі. Ца-

рызм перайшоў у наступленне. Дзейнічалі карныя экспедыцыі, праводзіліся масавыя арышты. Сур'ёзны ўдар быў нанесены бальшавіцкім арганізацыям.

У перыяд новага рэвалюцыйнага ўздыму выступленні працоўных Магілёўшчыны актывізаваліся. У Магілёўскай губерні толькі на прадпрыемствах, падпарадкаваных нагляду фабрычнай інспекцыі, у 1911 г. адбылося 16 забастовак. Рабочыя Бабруйска ў 1912 г. правялі дэманстрацыі і стачкі пратэсту супраць расстрэлу рабочых на Ленскіх залатых капальнях. Вясною 1913 г. баставалі бабруйскія рачнікі, летам 1914 г.— гарбары Магілёва. Восенню 1913 г. сяляне спалілі фальваркі Міхалёва, Смятанічы, Бабчын, Бялынічы.

Важную ролю ва ўзмацненні бальшавіцкага ўплыву на працоўных Беларусі адыграла газета «Правда». У гарадах Магілёўскай губерні ў 1912—14 гг. штомесячна выпісвалася больш за 100 нумароў «Правды». У Магілёве дзейнічала праўдзісцкая група (50 чалавек), якая ў 1913 г. арганізоўвала рабочыя гурткі, прафсаюзы, кіравала стачкамі, мела бібліятэку (каля 1200 кніг), дапамагала ў выданні газеты — збірала грошы, дасылала карэспандэнцыі.

У 1-ю сусветную вайну тэрыторыя Беларусі, у т. л. Магілёўская губерня, 18.7.1914 г. аб'яўлена на ваенным становішчы. У Магілёве з 8.8.1915 г. размясцілася Стаўка вярхоўнага галоўнага камандавання рускай арміі (перамешчана з акупіраванага г. Баранавічы). Вайна да крайнасці абвастрыла сацыяльныя супярэчнасці ў краіне. Развал гаспадаркі, надыходзячы голад, ваенныя паражэнні садзейнічалі росту рэвалюцыйнага руху. На Магілёўшчыне ў жніўні — верасні 1915 г. адбыліся хваляванні салдат на чыгуначных станцыях Бабруйск, Асіповічы, Салтанаўка. У 1916 г. баставалі рабочыя Магілёва.

У выніку Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. звергнута царскае самадзяржаўе. Як і па ўсёй краіне, працоўныя Магілёўшчыны наладжвалі дэманстрацыі, раззбройвалі паліцыю і жандараў, вызвалялі палітычных вязняў, бралі пад кантроль дзяржаўныя ўстановы, скідвалі царскую адміністрацыю. 2—7 (15—20).3.1917 г. такія выступленні адбыліся ў Магілёве, Горках, Быхаве, 5—8 (18—21) сакавіка — ў Бабруйску. У сакавіку 1917 г. выступленні сялян адбыліся ў Бабруйскім, Быхаўскім, Клімавіцкім, Чэрыкаўскім і інш. паветах. У павятовых гарадах, мястэчках і валасцях пачалі стварацца Саветы. На працягу сакавіка — красавіка Саветы рабочых дэпутатаў былі арганізаваны ў Бабруйску, Шклове, Горках і інш., Савет рабочых дэпутатаў і Савет салдацкіх дэпутатаў у Магілёве.

Пасля Лютаўскай рэвалюцыі Стаўка, што размяшчалася ў Магілёве, стала адным з цэнтраў контррэвалюцыі. На яе апіраўся генерал Карнілаў пры падрыхтоўцы мяцяжу ў жніўні 1917 г., каб разграміць рэвалюцыйныя сілы і ўстанавіць у краіне ваенную дыктатуру. ЦК РСДРП(б) звярнуўся да рабочых і салдат з заклікам стаць на абарону рэвалюцыі, паставіў задачу бальшавікам Беларусі і Заходняга фронту — ізаляваць Стаўку і не прапусціць контррэвалюцыйныя войскі на Петраград і Маскву. У Магілёве Карнілаў абвясціў асаднае становішча. Аднак пад уплывам агітацыі бальшавікоў Георгіеўскі батальён, карнілаўскі ўдарны полк і інш. часці адмовіліся падтрымаць мяцежнікаў. У барацьбе з карнілаўшчынай на Беларусі актыўны ўдзел прынялі працоўныя Бабруйска, Магілёва, Шклова, Горак, Быхава. У Стаўцы і штабах франтоў арыштаваны генералы Карнілаў, Лукомскі, Маркаў, Раманоўскі, Дзянікін, Эрдэлі і інш. і ўзяты пад ахову ў Быхаве. Карнілаўшчына была разгромлена.

* * *

Архітэктура і выяўленчае мастацтва Магілёўшчыны — частка культурнай спадчыны Беларусі. Станаўленне архітэктуры гэтага рэгіёна вызначалася абаронным дойлідствам. Узнікненне гарадоў на Магілёўшчыне абумоўлена стратэгічнымі меркаваннямі парубежнага іх размяшчэння ў сістэме Старажытнарускай дзяржавы. Яны будаваліся на цяжкадаступнай мясцовасці, на ўзвышшах сярод выгінаў рэк (Магілёў, Бабруйск, Мсціслаў). Найбольш старажытныя гарады — Мсціслаў, Крычаў, Прапойск (Слаўгарад) — развіваліся на месцы былых гарадзішчаў. Прыродныя перашкоды дапаўняліся штучнымі абарончымі збудаваннямі — равамі, валамі, гароднямі, вежамі і інш., чым дасягалася фартыфікацыйная іх дасканаласць. У сярэднявеччы Магілёў, Бабруйск, Мсціслаў з'яўляліся тыповымі феадальнымі гарадамі з сістэмай абарончых збудаванняў. Гэта ў многім вызначыла іх планіровачную структуру, агульнапрынятую ў старажытнарускім горадабудаўніцтве: умацаваны замак (дзядзінец) і рамесна-гандлёвы пасад.

На працягу 16 ст. гарады Магілёўшчыны як гандлёва-рамесныя цэнтры хутка забудоўваліся і пашыраліся, паступова выходзілі за межы пасадаў, паявіліся зарэчныя пасяленні. Для таго часу характэрна тапанімічная дыферэнцыяцыя на Стары горад і Новы горад, Верхні замак і Ніжні замак. Унутрыгарадская забудова ўключала жылыя, гаспадарчыя, культавыя, адміністрацыйныя і ваенна-складскія будынкі. Абарончы комплекс складалі драўляныя сцены і вежы ў выглядзе зрубных пабудоў (Магілёў). Унутраная прастора вежаў драўлянымі насцiламі дзялілася на 3—4 ярусы, прыстасаваныя для размяшчэння гармат. Канструкцыя абарончых сцен была традыцыйная — драўляныя зрубы запаўнялі зямлёй і каменнем, утвараючы так званыя «гародні». У проціпажарных мэтах драўляныя канструкцыі абмазвалі глінай. Шэраг абарончых збудаванняў меў цікавае архітэктурна-інжынернае вырашэнне ўязных вежаў-брам, якія вылучаліся найбольш магутнымі канструкцыямі і своеасаблівасцю аб'ёмна-прасто-



*Від Магілёва. Земляны вал і Алейная брама. З акварэлі Ю. Пешкі. Канец 18 ст.*

равай трактоўкі. Значныя змены ў архітэктурна-канструкцыйнай аснове фартыфікацыйнага будаўніцтва ў 17 ст. звязаны з павелічэннем разбуральнай сілы агнястрэльнай зброі. Драўляныя сцены і вежы паступова замяняліся землянымі валамі з бастыёнамі заходнееўрапейскага тыпу і ўязнымі брамамі (Магілёў). Прыкладам горада-крэпасці з'яўляўся Стары Быхаў, тэрыторыю якога паўкальцом (да Дняпра) замыкалі земляныя валы, равы, бастыёны.

Да канца 17 ст. планіровачная структура гарадоў набыла складаны характар з развітай вакол цэнтра сістэмай пасадаў, шматкругавой структурай абарончых ліній. Сетка асноўных вуліц фарміравалася ў адпаведнасці з напрамкамі гандлёвых шляхоў, што падыходзілі да горада. Як правіла, вуліцы пачыналіся ад уязных брам вонкавых умацаванняў і, утвараючы радыяльную сетку, сыходзіліся ў гарадскім цэнтры, каля замка і гандлёвай плошчы. Вакол іх і ўздоўж абарончых умацаванняў узніклі вуліцы паўкальцавога напрамку, што разам абумовіла стварэнне радыяльна-кальцавой (паўкальцавой) структуры планіроўкі (Магілёў, Бабруйск).

Акрэслілася і другая тэндэнцыя развіцця горадабудаўнічай схемы, абумоўленая асаблівасцямі сацыяльна-палітычнага жыцця ў сувязі з атрыманнем гарадамі магдэбургскага права. У процівагу былому ядру планіроўкі — феадальнаму замку, фарміраваўся адміністрацыйна-гандлёвы цэнтр, які ўключаў ратушу, гандлёвыя рады, культавы комплекс (Магілёў). Гарадскія цэнтры з'яўляліся месцамі абмену таварамі, гандлю, рэлігійных і інш. сходаў гараджан, іх сацыяльна-палітычная роля была вельмі значнай.

Павелічэнне эканамічнага патэнцыялу гарадоў, рост колькасці рамесных цэхаў, шырокія гандлёвыя і культурныя сувязі садзейнічалі фарміраванню культуры краю, якая набыла арыгінальныя формы, своеасаблівую мастацкую вобразнасць. У помніках мураванага манументальнага дойлідства Магілёўшчыны 17—18 стагоддзяў сінтэзаваліся традыцыйныя формы старажытнарускага і заходнееўрапейскага будаўнічага мастацтва (Богаяўленскі сабор, Спасаўская і Мікалаеўская цэрквы ў Магілёве). Да выдатных помнікаў архітэктуры гэтага перыяду адносяцца таксама быхаўская сінагога ў стылі позняга рэнесансу з абарончымі элементамі, касцёл кармелітаў у Бялынічах у стылі позняга барока, шэраг грамадскіх будынкаў. Элементы рэнесансавага дэкору прасочваюцца ў магілёўскім Богаяўленскім саборы. У забудове некаторых гарадоў пануючае становішча займалі ратушы (Шклоў, Чавусы, Магілёў) пераважна барочнага тыпу. Для іх характэрна кантраснае спалучэнне лаканічнага прамавугольнага ў плане корпуса з вертыкальнай дамінантай у выглядзе адна- ці шмат'яруснай вежы з купальным ці шатровым завяршэннем, са шпілем. Часам ратуша аб'ядноўвалася з гандлёвымі радамі (Шклоў). Адным з лепшых будынкаў грамадскага прызначэння з'яўлялася ратуша ў Магілёве. Яе архітэктура вызначалася пластычнасцю, прасторавай развітасцю, манументальнасцю і багаццем дэкаратыўнай аздобы. Створаная беларускімі дойлідамі, яна трактавалася як дамінанта ў сілуэце горада.

Тып жылога мяшчанскага дома, паводле сведчанняў пісьмовых і іканаграфічных крыніц, меў складаную «харомную» планіроўку і своеасаблівае архітэктурна-дэкаратыўнае вырашэнне з выкарыстаннем разнога і ляпнога дэкору, часам і маляўнічай размалёўкі сцен (жылы дом 17 ст. у Магілёве). Арнаментальны вонкавы дэкор у архітэктурных помніках барока — адна з адметных асаблівасцей мясцовай школы дойлідства. Пра характар барочнага палацава-сядзібнага будаўніцтва гэтага рэгіёна сведчыць уцалелы будынак былога палаца праваслаўнага архіепіскапа Г. Каніскага ў Магілёве. Палацы багатай шляхты мелі рэпрэзентатыўны характар — былі з цэнтральнай групай парадных памяшканняў, развітай анфіладнай планіроўкай жылых пакояў.

Мастацтва паркабудаўніцтва вызначалася прынцыпам рэгулярнай планіроўкі. Для палацава-пар-



*Від мястэчка Бялынічы. З акварэлі Н. Орды. 19 ст.*



*Магілёў. Від на Станіслаўскі касцёл і палац архіепіскапа. З акварэлі канца 18 ст.*

кавых ансамбляў выбіраліся месцы на ўзвышаным ландшафце, дакладна абазначаліся галоўная вось, сістэма тэрас, строгая геаметрызацыя і сіметрыя планіроўкі парку і абавязковыя вадаёмы. Раслінасць паркаў афармлялася ў геаметрызаваныя формы шароў, пірамід, зялёных агароджаў.

З каталіцкай экспансіяй на Беларусі звязана будаўніцтва кляштараў і касцёлаў у Магілёве, Бялынічах (не захаваўся), в. Ануфрыева Мсціслаўскага р-на і інш. Праваслаўныя брацтвы будавалі храмы і манастыры (Богаяўленскі і Спаскі манастыры, Мікалаеўская царква ў Магілёве). Асноўны тып каталіцкіх храмаў — трохнефавая купальная двухвежавая базіліка (касцёлы кармелітаў у Мсціславе, Станіслаўскі і езуітаў святога Ксаверыя ў Магілёве). У іх пераважалі тэндэнцыі барочнай пластычнасці. Адначасова прадаўжалі развівацца традыцыі старажытнарускага дойлідства ў будаўніцтве праваслаўных цэркваў: Пакроўскай і Успенскай у Магілёве, Петрапаўлаўскай у в. Лупалава паблізу Магілёва (не захавалася). Ім характэрны трохапсідная крыжова-купальная структура, ступеньчатасць і яруснасць агульнай кампазіцыі, завершанасць цыбулепадобным шлемам на барабане, аркатура. Унутраная прастора храмаў, як правіла, падзеленая радамі слупоў на 3 нефы, багата афармлялася раскрапоўкай, пілястрамі, нішамі, прафіляванымі карнізнымі паясамі, алтарнымі кампазіцыямі (царква ў в. Княжыцы Магілёўскага р-на). У дэкоры інтэр'ераў пераважалі стукавая паліхромная лепка і фрэскавая размалёўка.

Манументальна-дэкаратыўнае мастацтва развівалася на Магілёўшчыне на працягу стагоддзяў. У розныя гістарычныя эпохі тут узнікалі і развіваліся самабытныя мастацкія школы, якія перыядычна адыгрывалі значную, а часта і выключную ролю ва ўсталяванні мастацкай культуры беларускага народа. Фарміраванне мастацтва на Магілёўшчыне звязана з узвышэннем Мсціслава як значнага культурнага цэнтра. У раннефеадальны перыяд тут паспяхова развівалася дэкаратыўнае мастацтва, карані якога — у культуры ўсходнеславянскіх плямён. У час археалагічных раскопак у Мсціславе выяўлены вырабы 13 ст. з дрэва, косці, металу, сярод якіх асабліва цікавыя касцяныя накладкі з найтанчэйшай разьбой на калчаны для стрэл, а таксама крыж-складзень 12 ст.

Культурная спадчына Магілёўшчыны складваецца з розных гістарычна-мастацкіх напрамкаў і пластоў. На працягу стагоддзяў тут паралельна існавалі створаная сялянамі бытавая культура (дзівоснае пляценне з лазы і саломкі, разьба па дрэве, ткацтва і інш.) і так званае «высокае» мастацтва феадалаў, хоць творцамі і тут былі пераважна рамеснікі і сяляне. Архіўныя матэрыялы сведчаць аб тым, што побач з майстрамі, якія былі на пазіцыях нацыянальнай беларускай культуры, працавалі мастакі, што выконвалі заказы апалячанай шляхты, касцёлаў, ствараючы алтарныя карціны і парсуны.

Адначасовае існаванне іканапісу і свецкага жывапісу ў беларускім мастацтве 16—17 стагоддзяў асабліва выразна выявілася на Магілёўшчыне. Вядома значная колькасць імён магілёўскіх мастакоў, што дае падставу меркаваць аб існаванні тут у 16 ст. буйнога жывапіснага цэха. Ён садзейнічаў



*Мсціслаўская кафля 17 ст. з геральдычнымі і сюжэтнымі выявамі. Графічныя малюнкі.*

перадачы з пакалення ў пакаленне творчых навыкаў, захоўванню мясцовых мастацкіх традыцый і пэўных культурных сувязей (магілёўскі мастак Ігнат Соц быў настаўнікам Міхаіла Багамаза і Мацвея Філановіча, Варфаламей Кот — свайго сына Якуба і інш.). Адзін з буйнейшых іканапісцаў Беларусі 17 ст. Пётр Яўсеевіч з Галынца, захоўваючы традыцыйную мясцовую тэхніку выканання пазалочанага разнога арнаменту і кананічную праваслаўную схему, уносіў у творы новыя, характэрныя для свайго часу тэндэнцыі. З этнаграфічнай дакладнасцю ён перадаваў характэрныя рысы сялянскага побыту, рабіў выявы прадметаў, народнага адзення, архітэктурных дэталей. Развіццё ілюстрацыйнай і арнаментальнай гравюры адбывалася пад моцным уздзеяннем Магілёўскага богаяўленскага брацтва. Іканапіс, графіка, манументальна-дэкаратыўнае і прыкладное мастацтва 17 в. на Магілёўшчыне выразна адлюстравалі ўзаемапранікненне і ўзаемаўзбагачэнне прафесійных і народных традыцый. Над унутраным убраннем Богаяўленскага сабора (не захаваўся) і Мікалаеўскай царквы ў Магілёве працавалі лепшыя мастакі, рамеснікі і народныя майстры. У аздобе праваслаўных храмаў манументальным шматʼярусным іканастасам было падпарадкавана астатняе дэкаратыўнае ўбранне. Гэтыя іканастасы сведчаць аб высокім майстэрстве мясцовых умельцаў, валоданні імі прыёмамі абʼёмна-скразной (флемскай) разьбы па дрэве. Стылёва яна цесна звязана з мастацкай апрацоўкай металу і косці, з кніжнай графікай, іканапісам і сценапісам, што фрагментарна захавалася ў магілёўскай Мікалаеўскай царкве (4-ярусны іканастас выкананы спосабам скразной разьбы па дрэве, размалёўкі сцен і скляпенняў, што часткова зберагліся, зроблены ў тэхніцы фрэскі і клеявымі фарбамі).

Ратуючыся ад сацыяльнага і рэлігійнага прыгнёту, многія майстры Магілёўшчыны перасяляліся ў Маскву, у падмаскоўныя рэзідэнцыі цара Аляксея Міхайлавіча і патрыярха Нікана, дзе праславіліся сваёй віртуознай разьбой па дрэве, маляўнічымі кафлямі, работамі па металу, якія да гэтага часу ўпрыгожваюць рускія цэрквы. Славуты разны іканастас Смаленскага сабора Новадзявочага манастыра ў Маскве зроблены ў 2-й палове 17 ст. шклоўскім майстрам Клімам Міхайлавым з арцеллю. Ён, верагодна, зʼяўляецца і аўтарам іканастаса ў магілёўскай Мікалаеўскай царкве. Умельцы з Магілёўшчыны дэкарыравалі царскі палац у Каломенскім, Істрынскі манастыр, архітэктурны комплекс у Ізмайлаве, цэрквы на Таганцы і Вялікай Палянцы ў Маскве. Шматколерныя фрызы, разеткі, керамічную ўзорыстасць таленавіта выконваў майстар з Мсціслава Сцяпан Палубес (сапраўднае прозвішча С. Іваноў).

З будаўніцтвам каталіцкіх комплексаў у 17 — 18 стагоддзях (езуіцкі кляштар і касцёл у Магілёве, кармеліцкія кляштары ў Бялынічах і Мсціславе, кафедральны Станіслаўскі касцёл у Магілёве і інш.) пашырыўся стыль барока на Магілёўшчыне. Асабліва гэта праявілася ў афармленні інтэрʼераў. Мастакі выкарыстоўвалі дынаміку ўнутранага афармлення, складаную рытміку кампазіцый, ілюзіяністычныя перспектыўныя эфекты, багацце колеру, узорыстасці, лепкі, разьбы па дрэве, што павінна было ўзмацняць рэлігійную тэму ў дэкоры. Разам з тым у сценапісе шмат якіх касцёлаў выяўляецца пільная цікавасць мастакоў да бытавых дэталей і свецкіх сюжэтаў. Майстры сценапісу ўводзілі ў манументальныя кампазіцыі жанравыя і пейзажныя матывы. Пра гэта сведчыць размалёўка сцен і плафона Станіслаўскага касцёла ў Магілёве, дзе побач з евангельскімі і біблейскімі сцэнамі створана панарама Магілёва, на фоне якой Ян Казімір дае кармелітам грамату-прывілей на ўладанне зямельнымі ўчасткамі ў горадзе. У Мсціслаўскім касцёле кармелітаў цікавыя пано напісаны на сюжэт узяцця г. Мсціслава ў 1654 г. войскамі князя Трубяцкога.



*Мсціслаўская кафля 17 ст.*

Узʼяднанне Беларусі з Расіяй зʼявілася важным імпульсам у развіцці горадабудаўніцтва на Магілёўшчыне. Буйныя населеныя пункты рэканструяваліся як цэнтры новай адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры. Гэтаму садзейнічала разгортванне планіровачных работ у 2-й палове 18 ст. па перабудове гарадоў Расійскай імперыі, пашыранае і на Беларусь. Праекты з рэгулярным тыпам пла-

 ніроўкі атрымалі Быхаў, Бабінавічы, Клімавічы, Магілёў, Мсціслаў, Бабруйск, Чавусы і іншыя. Яны прадугледжвалі ўпарадкаванне планіровачнай структуры гарадоў, наданне ёй рыс рэгулярнасці, кампазіцыйнае вырашэнне ў адзіным мастацкім стылі класіцызму, вызначалі арганізацыю і забудову гарадскіх адміністрацыйных цэнтраў. У асобных выпадках пры распрацоўцы планаў улічвалася канкрэтная забудова, якая гістарычна склалася, і асаблівасці рэльефу мясцовасці. Гэтыя мерапрыемствы былі прагрэсіўнай з'явай у архітэктуры Беларусі, дзе ўпершыню рашалася праблема цэласнасці архітэктурна-планіровачнай кампазіцыі горада. Менавіта тады пабудаваны гарадскія ансамблі ў Магілёве, Шклове. Рэгулярная планіроўка, заснаваная на прынцыпах класіцызму, фарміравала простую і дакладную структуру гарадскога асяроддзя, ярка выражаныя цэнтральныя архітэктурныя ансамблі (былая Губернатарская плошча ў Магілёве). Парадныя ўезды ў горад з асноўных транспартных напрамкаў афармляліся брамамі (Магілёў). Своеасаблівасць кожнага канкрэтнага вырашэння часта была абумоўлена сумяшчэннем новай рэгулярнай планіроўкі са старой забудовай — умацаваннямі, культавымі і грамадскімі будынкамі (Стары Быхаў). Праведзеныя горадабудаўнічыя работы на Магілёўшчыне значна змянілі выгляд гарадоў. Старадаўнія абарончыя збудаванні, якія страцілі сваё фартыфікацыйнае значэнне, разбіраліся (Магілёў), часам заставаліся ў структуры горада, што расшыраўся за межы былых бастыёнаў (Бабруйск). Адначасова неабходнасць умацавання заходніх граніц Расійскай імперыі абумовіла ўзнікненне новых абарончых фарпостаў, якія адпавядалі апошнім дасягненням фартыфікацыйнай тэхнікі. У пачатку 19 ст. пабудавана Бабруйская крэпасць з сістэмай магутных мураваных бастыёнаў, казармаў, складаў і інш. Ваеннае будаўніцтва вялося і ў інш. гарадах (будынак экзерцыргаўза ў Магілёве, не захаваўся). Аб'екты ўмацаванняў вырашаліся ў строгіх простых формах класічнай архітэктуры. Паявіліся сістэмы новых плошчаў буйных горадабудаўнічых ансамбляў (суднаверф у Крычаве), сквераў (Магілёў). Забудова вуліц па «чырвонай лініі», іх добраўпарадкаванне, рэгулярная трасіроўка вызначылі новыя горадабудаўнічыя структуры.

Уплыў рускай будаўнічай школы істотна адбіўся на архітэктуры грамадзянскіх і культавых пабудоў таго часу. У забудове гарадоў Магілёўшчыны непасрэдна ўдзельнічалі архітэктары прадстаўнікі рускага класіцызму — М. А. Львоў (Іосіфаўскі сабор у Магілёве), В. П. Стасаў (Саборная плошча і манеж у Магілёве, праекты для Мсціслава) і мясцовыя архітэктары — К. І. Падчашынскі (палац у Жылічах), І. К. Глаўбіц (палац архіепіскапа Каніскага ў Магілёве), А. Главацкі (будаўніцтва ў Шклове).



*Крычаўская суднаверф. З малюнка 1786 г.*



*Від Магілёва. З акварэлі Ю. Пешкі. Пачатак 19 ст.*

У стылі класіцызму ўзводзіліся звязаныя з новым дзяржаўна-адміністрацыйным укладам гарадоў грамадскія збудаванні. Яны фарміраваліся ў самастойныя архітэктурныя ансамблі (Губернатарская і Саборная плошчы ў Магілёве, Ратушная плошча ў Шклове). Новая тыпалогія забудовы плошчаў уключала губернатарскія дамы, губернскія ўпраўленні, архівы і інш. У «казённай» архітэктуры абмяжоўвалася колькасць элементаў дэкору. Плоскія трохчасткавыя фасады ўпрыгожваліся рустам, ліштвамі, атыкамі. Строгасць і ўстойлівасць іх кампазіцыйнага вырашэння дасягалася рэгулярным рытмам аконных праёмаў і буйнамаштабнымі порцікамі пераважна тасканскага або дарычнага ордэра (адзін з вучэбных карпусоў Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, гарадскі сядзібны дом Пасекавай і духоўная семінарыя ў Магілёве). Уключэнне Беларусі ў агульнарасійскі рынак абумовіла капітальную забудову гандлёвых цэнтраў у гарадах. Ствараліся кампазіцыйныя схемы гандлёвых радоў, якія найперш вызначаліся функцыянальнымі патрабаваннямі, таму мелі самае сціплае архітэктурна-дэкаратыўнае афармленне. Адна з такіх схем — гандлёвыя рады ў форме прамавугольнага карэ — выкарыстана пры забудове Ратушнай плошчы ў Шклове. Сціплы класіцыстычны дэкор атрымалі царкоўнапрыходская школа ў Слаўгарадзе, духоўная семінарыя ў Магілёве.

Упарадкоўвалася жылая забудова. Прывядзенню яе да адзінай стылявой асновы садзейнічала распрацоўка серыі тыпавых праектаў мураваных і драўляных жылых дамоў. Па «чырвонай лініі» цэнтральных вуліц ставіліся капітальныя будынкі, фасады якіх упрыгожваліся пілястрамі і франтонамі (дом № 39 на вул. Ленінскай у Магілёве). Ха-

рактэрным прыёмам горадабудаўнічага мастацтва эпохі класіцызму было афармленне перакрыжаванняў вуліц вуглавым вырашэннем дамоў (дом № 9 на вул. Ленінскай у Магілёве). Арганічна ўключаліся ў горадабудаўнічыя ансамблі гарадскія палацы (палац архіепіскапа і дом Пасекавай у Магілёве). Для іх уласцівы лапідарны характар агульнай кампазіцыі, рацыянальны пераход ад параднай анфілады да функцыянальнай калідорнай планіроўкі.

У палацава-сядзібным будаўніцтве ў гэты час панаваў тып рэзідэнцыі з класіцыстычным домам, абкружаным пейзажным паркам. Паркавыя кампазіцыі вырашаліся на фоне рачных і азёрных пейзажаў (паркі ў Слаўгарадзе, Клічаве). У пачатку 19 ст. у архітэктуру палацаў пачалі пранікаць матывы псеўдаготыкі (палац у Крычаве).

Архітэктура класіцызму праявілася і ў культавым будаўніцтве. Манументальныя порцікі, што выкарыстоўваліся ў кампазіцыі культавых будынкаў, надавалі ім характар грамадскіх збудаванняў (царква Аляксандра Неўскага ў Мсціславе, Іосіфаўскі сабор ў Магілёве, царква Раства багародзіцы ў Слаўгарадзе, касцёл у в. Расна Горацкага р-на). З уплывам рускай будаўнічай школы звязана пашырэнне цэнтрычных храмаў (цэрквы ў Слаўгарадзе, в. Вейна Магілёўскага р-на). Інтэр'еры іх таксама трактаваліся ў формах класіцызму, у аздобе шырока выкарыстоўваліся штучны мармур, фрэскавая размалёўка, медальёны, разеткі, нішы са скульптурай і інш.



*Слаўгарад. Званіца царквы Раства багародзіцы.*

У новым стылявым кірунку рэканструявалі кляштарныя ансамблі (Мікалаеўскі сабор і духоўная семінарыя ў Мсціславе; на фасадзе Станіслаўскага касцёла ў Магілёве зроблены манументальны калонны порцік). Аднак у культавым будаўніцтве яшчэ ўжываліся асобныя формы і прыёмы архітэктурнага барока, што праявілася пры будаўніцтве храма ў в. Ануфрыева (Мсціслаўскі р-н). Спалучэнне элементаў барока з класіцыстычным убраннем дало мяшаныя формы пераходнага стылю (палац Каніскага ў Магілёве). Імкненне да кубізацыі архітэктурнага аб'ёму, яго завяршэння купалам адлюстравалася ў драўляным культавым дойлідстве (цэрквы ў в. Забялышына Хоцімскага р-на, в. Камаровічы Чэрыкаўскага р-на).

Стыль барока ў 2-й палове 18 ст. паступова страчвае сувязь з народным мастацтвам, якое ў папярэдні перыяд узбагачала стыхію барочнага дэкору, надавала яму непасрэднасць і жыццярадаснасць. Паяўляюцца прыкметы заняпаду магілёўскай жывапіснай школы: знікае высокае майстэрства, характэрнае 17 — пачатку 18 ст. Многія майстры з Магілёўшчыны выязджалі вучыцца жывапіснаму майстэрству ў Кіеў і інш. гарады. Для выканання абразоў для Іосіфаўскага сабора ў Магілёў запрошаны вядомы рускі мастак У. Баравікоўскі. У 1793—94 гг. ён напісаў 8 вялікіх абразоў для іканастаса, выканаў эскізы статуй для фасада і, магчыма, з'яўляўся аўтарам размалёўкі скляпення сабора. Жывапіс Іосіфаўскага сабора ўражваў свабодай і майстэрствам выканання, надзвычайным багаццем каляровых адценняў, хоць у ім адчуваўся налёт акадэмічнай ідэалізацыі. Дэкор сабора сведчыў аб павароце мастацкіх густаў да класіцызму.

Станоўчым у архітэктуры эпохі класіцызму з'явілася распрацоўка прынцыпаў сінтэзу мастацтваў. У дэкоры інтэр'ераў выкарыстоўваліся разеткі, медальёны, плафоны, панелі, манументальны жывапіс, скульптура (Іосіфаўскі сабор у Магілёве). У апрацоўцы параднага інтэр'ера ў стылі класіцызму шырока рэалізавалася тэхніка штучнага мармуру — стука (палац у в. Жылічы Кіраўскага р-на).

Працэс развіцця горадабудаўнічага мастацтва прыкметна затармазіўся ў перыяд капіталізму. Бясланавае размяшчэнне прамысловых будынкаў на лепшых участках, іх разрозненасць пагаршалі планіроўку і санітарны стан гарадоў. Няпланавае будаўніцтва парушала забудову, якая склалася гістарычна.

Пэўным імпульсам у развіцці многіх гарадоў стала пракладка ў 2-й палове 19 ст. Лібава-Роменскай чыгункі і шашэйных трактаў (Бабруйская шаша). Інтэнсіўна развіваліся Магілёў і Бабруйск, буйным населеным пунктам сталі Асіповічы. Будаўніцтва чыгункі паўплывала на іх планіроўку,

узнікалі новыя прывакзальныя плошчы, узмацнялася роля вуліцы, што звязвала гістарычны цэнтр з прывакзальнай плошчай. Чыгунка пракладвалася без уліку далейшага развіцця горада, выклікала хаатычную забудову прычыгуначных раёнаў.

У гэты перыяд паявіўся шэраг новых тыпаў будынкаў: фабрыкі і заводы (чыгуналіцейны завод у Магілёве), банкі (Магілёў, Бабруйск), вакзалы (Магілёў), бальніцы (Чэрыкаў, Бялынічы), паштовыя станцыі (Слаўгарад, Крычаў, в. Сакалоўка Чэрыкаўскага р-на). Іх архітэктурны дэкор вырашаўся сціплымі сродкамі арнаментальнай цаглянай муроўкі. Падобным способам ажыццяўлялася аздоба і многіх жылых будынкаў (дамы № 22 на вул. Камсамольскай і № 15 на вул. Дзяржынскага ў Хоцімску). У архітэктуры будынкаў агульнаадукацыйных і спецыяльных навучальных установаў (Горацкая сельскагаспадарчая акадэмія, рэальныя вучылішчы ў Рагачове і Магілёве, гімназія ў Мсціславе, жаночая гімназія і духоўнае вучылішча ў Магілёве, народнае вучылішча ў Бялынічах) сумяшчаліся элементы класіцыстычнага дэкору з арнаментальнай неатынкованай цаглянай муроўкай. Важным фактарам культурнага жыцця з'явілася будаўніцтва тэатраў у Магілёве і Бабруйску.

Пошукі ў архітэктуры і мастацтве новых, арыгінальных вырашэнняў, вольных ад эклектычнага рэстаўратарства, яскрава выявіліся ў стылі «мадэрн»: складанасць і шматграннасць канфігурацыі плана і аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, выкарыстанне плаўных, цякучых ліній у абрысоўцы праёмаў і завяршальных элементаў (драўляны асабняк на вул. Інтэрнацыянальнай, 25, у Бабруйску, будынак спіртзавода ў в. Канічы Касцюковіцкага р-на і інш.). Формы і прыёмы стылю «мадэрн» выявіліся ў культавым драўляным дойлідстве. Спроба ўнесці ў кананічную схему храма асобныя элементы стылю «мадэрн» зроблена пры будаўніцтве царквы ў в. Выдранка Краснапольскага р-на. Цікавай плынню ў архітэктуры гэтага перыяду быў неакласіцызм — новая трактоўка асноў класіцызму. Паявіліся ўтрыраваныя порцікі ў нішах фасадаў ці на фоне арачных праёмаў, формы будынкаў набывалі абагульненую трактоўку (будынак банка на вул. Камсамольскай, 41 у Бабруйску, сядзібы ў вёсках Грудзінаўка Быхаўскага і Расна Горацкага р-наў, касцёл у в. Канічы Касцюковіцкага р-на, капліца ў в. Салтанаўка Магілёўскага р-на).

У драўляным жыллёвым будаўніцтве пераважалі традыцыйныя зрубныя дамы. Дэкор іх (разны арнаментальны ажур) сканцэнтраваўся на ліштвах аконных праёмаў і карнізах (дом № 34 на вул. Ленінскай у Слаўгарадзе).

У сядзібна-паркавым будаўніцтве практыкавалася эклектычнае стылізатарства і засваенне дасягненняў садова-паркавага мастацтва мінулых стагоддзяў. Прыкладам рэстаўратарскага кірунку былі сядзібы ў вёсках Расна Горацкага і Дашкаўка Магілёўскага р-наў. Тут эклектычна сумешчаны формы неакласіцызму ў трактоўцы фасадаў будынкаў і арнаментальныя матывы мастацтва антычнасці, ракако, класіцызму ў аздобе інтэр'ераў. Утрыраваныя класіцыстычныя элементы выкарыстаны пры будаўніцтве сядзібы ў Шклове. Асаблівасць сядзібнай архітэктуры гэтага часу — асіметрычнае ўскладненне планавай і аб'ёмнай канфігурацыі будынкаў (в. Дашкаўка Магілёўскага р-на).

Паркі вакол сядзіб часта мелі камбінаваны характар: сумяшчалі ўчасткі пейзажнага тыпу планіроўкі і пладовыя сады, абмежаваныя сістэмай узаема перпендыкулярных алей (вёскі Грудзінаўка Быхаўскага, Свенск Слаўгарадскага, Вепрын і Юдаўка Чэрыкаўскага р-наў, г. п. Кіраўск). Паркавае мастацтва набывала калекцыйны характар, перавага аддавалася дэндралагічнаму асартыменту (дэндрарый у в. Дуброва Асіповіцкага р-на). Акрамя прыватнаўласніцкіх, развіваліся і грамадскія паркі (Магілёў). Ва ўсіх былі малыя архітэктурныя формы, трактаваныя ва ўласцівых мастацтву эпохі рамантызму псеўдагістарычных стылях.

У мураваным праваслаўным культавым будаўніцтве 2-й паловы 19 — пачатку 20 ст. захоўваліся асноўныя формы старажытнарускага дойлідства, назіраецца спроба іх творчай інтэрпрэтацыі. Гэтая тэндэнцыя ўвасоблена ў архітэктуры цэркваў у Горках, Магілёве (Барысаглебская), в. Старое Высокае Шклоўскага р-на, серыі ідэнтычных пабудоў у вёсках Забычанне Касцюковіцкага і Цялуша Бабруйскага р-наў, Клімавічах, Шклове (Праабражэнская царква). У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі храмаў, заснаванай на трохчасткавым планіровачным вырашэнні (бабінец — цэнтральны аб'ём — апсіда), дамінаваў шацёр яруснай званіцы і вялікі купал на барабане ці шматгалоўе (Шклоў, вёскі Цялуша Бабруйскага, Гаўрыленка і Саматэвічы Касцюковіцкага р-наў). У дэкоры фасадаў выкарыстоўваліся элементы старажытнарускага дойлідства — закамары, аркатура, «бочкі», паўкалоны, кілепадобныя ліштвы, белая тынкоўка на фоне цагляных сцен (вёскі Баркалабава Быхаўскага, Галічы і Мілаславічы Клімавіцкага, Цялуша Бабруйскага р-наў, мемарыяльная капліца ў в. Лясная Слаўгарадскага р-на). Аналагічныя кампазіцыйныя і дэкаратыўныя прынцыпы архітэктуры ўвасоблены і ў цэрквах у вёсках Канічы і Гаўрыленка Касцюковіцкага, Куляшоўка Клімавіцкага р-наў. Канструкцыйна-прасторавая тыпалогія ўключыла крыжовакупальныя (у Быхаве — Троіцкая царква, у вёсках Балонаў-Сялец Быхаўскага, Слаўнае Мсціслаўскага, Вялікія Лазіцы Шклоўскага р-наў), трохзрубныя (у в. Лубянка Быхаўскага р-на), аднарубныя са званіцай (у Хоцімску, в. Туркаўская Слабада Бабруйскага р-на) храмы. Іх архітэктура асімілявала кампазіцыйныя асновы і элементы класіцызму. Яскрава гэта выявілася ў агульнай кубізацыі архітэктурнага аб'ёму (царква ў Быхаве), яго сіметрычна-восевай пабудове, у паяўленні вялікіх сферычных купалаў на гранёных барабанах (цэрквы ў Быхаве, у в. Гарадок). Будаваліся і храмы без пэўнай

стылявой характарыстыкі, у іх адсутнічаюць элементы архітэктурнага дэкору, а выразнасць дасягалася маляўнічай прасторавай кампаноўкай розных па велічыні аб'ёмаў, з якіх цэнтральны завяршаўся цыбулепадобнай галоўкай (у Асіповічах і Мсціславе, у вёсках Лубянка Быхаўскага, Туркоўская Слабада Бабруйскага, Боўшава і Стайкі Магілёўскага, Дубравіца і Лазовіца Клімавіцкага р-наў).

У архітэктуры прамысловых будынкаў пераважалі эклектычныя тэндэнцыі (спіртзавод у в. Канічы Касцюковіцкага р-на). Да таго ж часу адносіцца і большасць вытворчых пабудоў (млыны, вінакурні). У 2-й палове 19 ст. пашырыўся тып шатровага млына (вёскі Клясін Краснапольскага, Зелянец Хоцімскага, Сілічы Касцюковіцкага, Рагі Слаўгарадскага р-наў). Яны мелі чыста утылітарную архітэктуру, уяўлялі сабой манументальныя пабудовы каркаснай (часцей васьміграннай) канструкцыі. Вадзяныя млыны не мелі архітэктурнага дэкору і з'яўляліся збудаваннямі выключна інжынернага вырашэння (г. п. Круглае, в. Ануфрыева Мсціслаўскага р-на).

У 2-й палове 19 ст. пад напорам канкурэнцыі з боку прамысловай вытворчасці гінулі многія старажытныя рамёствы. Некаторыя з іх трансфармаваліся ў прамысловую вытворчасць мастацкіх вырабаў. Так адбылося з мастацкай апрацоўкай металу, вытворчасцю архітэктурнай керамікі. Значную мастацкую каштоўнасць маюць металічныя рашоткі, выкананыя ў тэхніцы ліцця і коўкі, кафляныя печы, якія захаваліся да нашых дзён у Магілёве і Бабруйску, прыгожыя і арыгінальныя пано і падлога з дэкаратыўнай пліткі ў Трохсвяціцельскай царкве ў Магілёве (1914 г.).

У пачатку 20 ст. на Магілёўшчыне створана некалькі манументальных помнікаў у гонар гістарычных падзей. У 1908 г. да двухсотай гадавіны перамогі над шведамі каля в. Лясная збудаваны мемарыяльны ансамбль — абеліск на брацкай магіле рускіх воінаў, закладзена мемарыяльная капліца (архіт. А. Гаген) і манумент (скульпт. А. Обер). Інтэр'ер капліцы аздоблены мазаікай (выканана ў майстэрні Фралова, Пецярбург). У 1912 г. да 100-годдзя бітвы пад Салтанаўкай была адкрыта мемарыяльная капліца (архіт. К. Міхайлаў, скульпт. П. Яцына). Патрыятычны змест, выразная алегорыя, майстэрства выканання ставяць гэтыя помнікі ў рад лепшых, узведзеных у гэты час на Беларусі.

* * *

Савецкая ўлада на Магілёўшчыне ўстанаўлівалася ва ўпартай барацьбе з контррэвалюцыяй. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі сілы контррэвалюцыі пачалі аб'ядноўвацца вакол Стаўкі ў Магілёве. Сюды з'ехаліся ваенныя місіі ЗША, Францыі, Англіі. Стаўка стала цэнтрам антысавецкай змовы. Усерасійская контррэвалюцыя намагалася накіраваць з фронту войскі, каб задушыць рэвалюцыю ў Петраградзе і Маскве. У губернскім, павятовых і валасных Саветах Магілёўшчыны гаспадарылі меншавікі, эсэры і бундаўцы. Кіруючыся




*Атрад пад камандаваннем Р. І. Берзіна, які ўдзельнічаў у ліквідацыі контррэвалюцыйнай Стаўкі ў Магілёве.*

рашэннямі II Усерасійскага з'езда Саветаў бальшавікі дамагаліся перавыбараў Саветаў у губерні. Лідэры меншавікоў і эсэраў мелі намер сфарміраваць у Магілёве контррэвалюцыйны т. зв. «агульнарасійскі» урад на чале з эсэрам В. М. Чарновым. Выконваючы абавязкі вярхоўнага галоўнакамандуючага генерал М. М. Духонін адмовіўся выканаць распараджэнне Савецкага ўрада пачаць перагаворы аб перамір'і з аўстра-германскім камандаваннем. Ён выпусціў з Быхаўскай турмы генералаў Карнілава, Дзянікіна і інш., што садзейнічала разгортванню Грамадзянскай вайны. Савецкі ўрад адхіліў 9(22).11.1917 г. Духоніна ад камандавання войскамі, прызначыў вярхоўным галоўнакамандуючым бальшавіка М. В. Крыленку. У Магілёў былі накіраваны рэвалюцыйныя атрады з Петраграда на чале з Крыленкам, а таксама з Мінска, Віцебска, Гомеля, Оршы, Полацка, Жлобіна, Бабруйска і інш. Пераход Магілёўскага гарнізона на бок рэвалюцыі перашкодзіў Стаўцы эвакуіравацца ў Кіеў. 18.11(1.12). 1917 г. Магілёўскі Савет прызнаў Савецкую ўладу і ўтварыў ВРК. 20.11(3.12).1917 г. рэвалюцыйныя атрады занялі Стаўку.

Пасля пераходу ўлады ў рукі бальшавіцкіх Саветаў у Магілёве і Бабруйску [15(28).11.1917 г.] узмацнілася барацьба працоўных за Савецкую ўладу ў паветах. У лістападзе яна была ўстаноўлена ў Быхаве і Хоцімску; 5(18).12.1917 г. бальшавіцкі Савет выбраны ў Касцюковічах, 9(22).1.1918 г. — у Чавусах, 19.1(1.2).1918 г. у Чэрыкаве, 22.1(4.2). 1918 г. у Клімавічах і Шклове, 24.1(6.2).1918 г. у Мсціславе, 28.1 (10.2).1918 г. у Горках.

15—18(28—31).12.1917 г. адбыўся I з'езд Саветаў Магілёўскай губ., на якім выбрана бюро з 7 чалавек. Пазней у яго ўвайшлі прадстаўнікі губернскага з'езда сялянскіх дэпутатаў. Бюро з'яўлялася вышэйшым органам Савецкай улады ў Магілёўскай губерніі да II губернскага з'езда Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які адбыўся 5—10(18—23).1.1918 г. У гэты час працаваў IV губернскі з'езд сялянскіх дэпутатаў. Паводле рашэння абодвух з'ездаў 14 студзеня створаны адзіны Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў. У канцы 1917 — пачатку 1918 гг. сфарміраваліся павятовыя органы ўлады. Была нацыяналізавана буйная прамысловасць. У лютым 1918 г.




*Агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на станцыі Бабруйск. 1919 г.*

у асноўным праведзена канфіскацыя памешчыцкай зямлі.

Перамога рэвалюцыі выклікала ўпартае супраціўленне ўнутранай і знешняй контррэвалюцыі. 12(25).1.1918 г. узняў мяцеж 1-ы польскі корпус (3 пяхотныя дывізіі, конніца і артылерыя) на чале з Доўбар-Мусніцкім. Мяцежнікі захапілі Бабруйск, Рагачоў, Жлобін, пачалі наступленне на Мінск, Магілёў. У ноч на 31.1(13.2).1918 г. чырвонагвардзейскія атрады пад камандаваннем І. І. Вацэціса разграмілі 1-ю польскую дывізію. У сярэдзіне лютага 2-я дывізія корпуса і рэшткі 1-й адступілі да Бабруйска і ўкрыліся ў крэпасці. Баі супраць мяцежнікаў ішлі ў раёне станцый Асіповічы і Ясень. Ад поўнага разгрому войскі Доўбар-Мусніцкага выратавала наступленне германскай арміі.

18.2.1918 г. войскі кайзераўскай Германіі перайшлі ў наступленне. Да пачатку сакавіка яны захапілі значную частку тэрыторыі Магілёўшчыны. Неакупіраванымі засталіся толькі Клімавіцкі, Мсціслаўскі, Чавускі, Чэрыкаўскі і частка Магілёўскага паветаў. Пачалася барацьба супраць акупантаў. У маі 1918 г. быў створаны Магілёўскі падпольны раённы камітэт РКП(б), які ўзначальваў Магілёўскую гарадскую, Быхаўскую і Шклоўскую падпольныя падраённыя арганізацыі (273 камуністы), кіраваў камуністычным падполлем і партызанскім рухам на тэрыторыі гэтых паветаў. Бабруйская падпольная камуністычная арганізацыя да кастрычніка 1918 г. мела ў сваім складзе 10 гарадскіх і 156 вясковых ячэек. На захопленай ворагам тэрыторыі Магілёўскага, Быхаўскага, Чавускага, Бабруйскага паветаў дзейнічалі партызанскія атрады, якія наносілі акупантам вялікія страты. Забастоўкі і стачкі адбыліся ў Магілёве. Ад нямецкіх акупантаў Магілёўшчына вызвалена ў кастрычніку 1918 — студзені 1919 гг. Бальшавікі Беларусі распачалі дзейнасць па аднаўленню разбуранага краю. 30.12.1918 г. VI Паўночна-заходняя канферэнцыя РКП(б) аб'явіла сябе І з'ездам КП(б)Б. 1.1.1919 г. абвешчаны маніфест аб утварэнні Беларускай ССР, у склад якой увайшла і Магілёўская губ. Каб аб'яднаць сілы для барацьбы з пагрозай новай вайны і ўнутранай контррэвалюцыяй, у лютым 1919 г. створана Літоўска-Беларуская ССР. У красавіку 1919 г. Магілёўская губерня была скасавана і ўтворана Гомельская губерня. Бабруйскі павет на той час уваходзіў у склад БССР, Магілёўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чавускі, Чэрыкаўскі паветы ўвайшлі ў склад Гомельскай, Горацкі і Мсціслаўскі — у склад Смаленскай губерні РСФСР. З мэтай мабілізацыі працоўных на абарону Савецкай рэспублікі ў чэрвені 1919 г. агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя», які ўзначальваў старшыня ВЦВК М. І. Калінін, вёў работу ў заходніх прыфрантавых раёнах, у т. л. у Шклове, Магілёве, Бабруйску.

У 1919 г. на тэрыторыю Беларусі ўварваліся войскі буржуазнай Польшчы. Да верасня 1919 г. яны захапілі тэрыторыю да р. Бярэзіна, у т. л. авалодалі Бабруйскам. У Бабруйскім павеце супраць іх дзейнічала 80 партызанскіх атрадаў. Барацьбу партызан Бабруйшчыны накіроўваў Паўстанцкі цэнтр на чале з М. А. Ляўковым пры Бабруйскім камітэце КП/б/ЛіБ. У ліпені 1920 г. савецкія войскі Заходняга фронту перайшлі ў наступленне. 7 ліпеня 16-я армія фарсіравала Бярэзіну, 10 ліпеня вызваліла Бабруйск.

Пасля ліквідацыі ваеннай інтэрвенцыі і заканчэння Грамадзянскай вайны пачалося аднаўленне народнай гаспадаркі і сацыялістычнае будаўніцтва. У 1924 г. Магілёўскі, Быхаўскі, Клімавіцкі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Горацкі і Мсціслаўскі паветы далучаны да БССР. Паводле новага адміністрацыйнага падзелу на тэрыторыі Магілёўшчыны ўтвораны Магілёўская, Калінінская (цэнтр Клімавічы) і Бабруйская акругі. У 1938 г. створана Магілёўская вобл. у складзе 21 раёна (Асіповіцкі, Бабруйскі, Быхаўскі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Горацкі, Дрыбінскі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Крычаўскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Прапойскі, Хоцімскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі), 12 гарадоў, 6 гарадскіх і 5 рабочых пасёлкаў.

У гады Савецкай улады адкрыліся вялікія магчымасці для развіцця гарадоў і вёсак Магілёўшчыны. Былі экспрапрыяваны ўсе дамы капіталістычных домаўладальнікаў і перададзены гарадскім Саветам. У былых палацах і сядзібах размясціліся ўстановы, арганізацыі, школы, клубы і дамы адпачынку, у добраўпарадкаваныя жылыя дамы перасяліліся сем'і працоўных. Сацыялістычная накіраванасць горадабудаўнічых мерапрыемстваў выяўлялася ў забеспячэнні гараджан жыллём, ліквідацыі антысанітарнага жылля, добраўпарадкаванні гарадскіх ускраін. Праводзіліся рамонтна-аднаўленчыя работы, брукаваліся вуліцы, наладжваліся гарадская гаспадарка і транспарт. Будаваліся прадпрыемствы. У гады 1-й пяцігодкі ўступілі ў строй фабрыка штучнага шоўку ў Магілёве — адно з буйнейшых прадпрыемстваў рэспублікі, фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат і швейная фабрыка ў Бабруйску, сілікатны завод у Клімавічах, цэментны — у Крычаве, цагельны — у Чавусах, электрастанцыя ў Бялынічах. За час 2-й пяцігодкі пабудаваны заводы: трубаліцейны і аўтарамонтны ў Магілёве, ацэтонавы ў Быхаве, гідролізны ў Бабруйску і інш. На 1941 г. у Магілёўскай вобл. дзейнічалі 9454 прамысловыя прадпрыемствы, на якіх працавала больш за 60 тыс. рабочых. У 1920—30-я гады намеціўся новы падыход да забудовы гарадоў: арганізацыя спецыяльных прамысловых зон, стварэнне неабходнай санітарнай адлегласці іх ад жылой забудовы, вырашэнне сістэмы магістралей і вуліц. З канца 1920-х гадоў узяты курс на больш эканамічнае шматпавярховае будаўніцтва. Шматпавярховыя шматсекцыйныя жылыя дамы размяшчаліся пераважна на галоўных магістралях гарадоў, паблізу прамысловых прадпрыем-

стваў, утвараючы рабочыя пасёлкі. Прыклад новай жылой забудовы ў Магілёве — 4—5-павярховыя мураваныя дамы секцыйнага тыпу на Першамайскай вуліцы і рабочы пасёлак аўтарамонтнага завода. У многіх гарадах Магілёўшчыны сетка вуліц і праездаў склалася гістарычна, часта была неарганізаванай і хаатычнай, таму ў 1930-я гады пачалося яе добраўпарадкаванне. У 1936—39 гг. у інстытуце «Белдзяржпраект» распрацаваны план сацыялістычнай рэканструкцыі Магілёва. Ён прадугледжваў рэканструкцыю гістарычнай архітэктурна-планіровачнай структуры, заніраванне гарадской тэрыторыі, вызначыў найбольш спрыяльныя кірункі далейшага росту горада, равіццё транспарту. У 1937—40 гг. быў складзены генеральны план рэканструкцыі Бабруйска («Белдзяржпраект»).

Карэнныя змены адбыліся ў сельскай гаспадарцы. У 1927 г. у Магілёўскай акрузе былі 92 калгасы, 10 камун, 57 розных арцелей, 25 таварыстваў па сумеснай апрацоўцы зямлі. За гады першай пяцігодкі на Магілёўшчыне ажыццёўлена суцэльная калектывізацыя. З мэтай падрыхтоўкі кадраў для калгасаў у Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі створана кафедра калектыўнай гаспадаркі, у Буйнічах (Магілёўскі р-н) — сельскагаспадарчая школа. На 1.7.1940 г. у вобласці налічвалася 2746 калгасаў, якія аб'ядналі 92,6 % сялянскіх двароў, 57 МТС, 10600 жывёлагадоўчых ферм.

Неад'емнай часткай сацыялістычнага будаўніцтва з'яўлялася культурная рэвалюцыя. Савецкая ўлада з першых дзён павяла рашучую барацьбу з непісьменнасцю. У канцы 1918 г.— пачатку 1919 г. у губерні праведзены перапіс дзяцей школьнага ўзросту. У 1920 г. у Бабруйску на базе былой настаўніцкай семінарыі створаны педагагічны тэхнікум, у Магілёве і Чавусах адкрыты педагагічныя курсы. На Беларусі, у т. л. і на Магілёўшчыне, ліквідавана старая сістэма народнай асветы і створана адзіная працоўная савецкая школа. У 1920 г. М. М. Лепяшынскі (брат П. М. Лепяшынскага) і настаўнік М. І. Кернажыцкі заснавалі ў в. Лемень Чэрыкаўскага р-на доследна-паказальную школу-камуну імя У. І. Леніна, якая працавала да 1924 г. Горы-Горацкі земляробчы інстытут, які аднавіў сваю дзейнасць 7.4.1919 г. пераўтвораны ў 1925 г. ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. Першая на Беларусі дзяржаўная музычная школа для дзяцей была адкрыта ў 1919 г. у Магілёве. У 1921 г. у Бабруйску пачала працаваць народная кансерваторыя, у 1922 г.— музычная школа.

Абуджалася небывалая цікавасць шырокіх мас да мастацтва, актывізавалася дзейнасць майстроў мастацкіх рамёстваў і самадзейных творцаў. У 1919 г. у Бабруйску адбылася «Дзяржаўная выстаўка рамеснікаў і мастакоў», у якой прынялі ўдзел разьбяры па дрэве, вышывальшчыцы і інш. Да рэвалюцыйных свят гарады ўпрыгожвалі лозунгамі, плакатамі, транспарантамі, што надавала ім урачысты выгляд. У пачатку 1920-х гадоў створаны першыя савецкія помнікі, у работу над якімі ўключаліся прафесійныя і самадзейныя мастакі. Паводле праекта магілёўскіх скульптараў П. Г. і П. П. Яцынаў быў устаноўлены першы ў Магілёве помнік У. І. Леніну. Да нашага часу захаваўся помнік У. І. Леніну, устаноўлены напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Дома адпачынку імя У. І. Леніна ў Бабруйску. У час вайны ён быў схаваны савецкімі патрыётамі, у 1965 г. устаноўлены на адной з вуліц Бабруйска. Магілёўскія мастакі ўдзельнічалі ва ўсіх Усебеларускіх мастацкіх выстаўках. У Магілёве быў створаны філіял Усебеларускага аб'яднання мастакоў, што існавала ў 1927—32 гг. З 1924 г. у Магілёве, Бабруйску, Клімавічах дзейнічалі філіі літаратурнай арганізацыі «Маладняк». Бабруйская філія ў 1926—28 гг. выдавала альманах «Уздым», Магілёўская — «Дняпроўскія ўсплёскі» (1927 г.), «Ранне» (1929 г.). На Магілёўшчыне нарадзіліся ці пачыналі свой творчы шлях пісьменнікі П. Галавач, Б. Мікуліч, В. Каваль, А. Ушакоў, Ю. Рудзько, В. Шашалевіч, Ю. Таўбін, Ю. Лявонны, Г. Шчарбатаў, І. Сіўцоў, М. Ткачоў, І. Гутараў і інш. У 1926—28 гг. у Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі працаваў ураджэнец Мсціслаўшчыны, пісьменнік і літаратуразнавец М. Гарэцкі. У 1939 г. у Магілёўскай вобл. працавалі 2 ВНУ, 2 тэхнікумы, палітасветвучылішча, 1346 пачатковых і 144 сярэднія школы, у якіх вучыліся 176 тыс. дзяцей.

Мірнае жыццё краіны было перапынена вераломным нападам на СССР фашысцкай Германіі. З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на Магілёўшчыне, як і ва ўсёй краіне, перабудоўвалася работа партыйных, савецкіх, гаспадарчых і грамадскіх арганізацый адпаведна задачам ваеннага часу і патрэбам фронту. У Клімавічах абсталяваны перасовачныя майстэрні для рамонту танкаў і трактароў; Бабруйская прамысловая арцель «Чырвоны металіст» асвоіла вытворчасць карпусоў ручных гранат. Прадукцыю, неабходную фронту, выпускалі механічная майстэрня ў Магілёве, Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат, Шклоўскі льнозавод, абутковыя і швейныя прадпрыемствы вобласці. 25.6.1941 г. на пасяджэнні партактыву Магілёва абмеркаваны пытанні аб падрыхтоўцы да абароны. З 26.6. да 14.7.1941 г. з Магілёўшчыны эвакуіравана 14 прадпрыемстваў, у т. л. магілёўскія заводы авіяцыйнага маторабудавання і гарбарны, фабрыкі штучнага валакна і швейная, Крычаўскі цэментны завод; 935 вагонаў прамысловага абсталявання і сыравіны, 2065 трактароў, 100 470 галоў жывёлы, 7100 т. збожжа. 1 ліпеня ў Магілёве на нарадзе прадстаўнікоў Стаўкі Вярхоўнага камандавання — К. Я. Варашылава і Б. М. Шапашнікава, першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі, першага сакратара Магілёўскага абкома КП(б)Б І. М. Макарава і камандзіра 61-га стралковага корпуса генерал-

маёра Ф. А. Бакуніна, прызначанага начальнікам абароны Магілёўскага р-на, распрацаваны мерапрыемствы па выкананню пастановы ЦК ВКП(б) аб разгортванні партызанскай барацьбы ў тыле ворага, абмеркаваны і ўдакладнены план абароны Магілёва як найбольш важнага апорнага пункта на Дняпроўскім рубяжы. На тэрыторыі вобласці было сфарміравана 14 батальёнаў народнага апалчэння (каля 12 тыс. чалавек). Абласны штаб народнага апалчэння ўзначалілі намеснік старшыні Магілёўскага аблвыканкома І. М. Кардовіч, сакратар абкома КП(б)Б Н. Т. Ваўнянка, сакратар абкома ЛКСМБ Ф. А. Сурганаў. Ваеннае кіраўніцтва апалчэннем вобласці ажыццяўляў абласны ваенком палкоўнік І. П. Ваяводзін. Магілёўскі гарадскі штаб народнага апалчэння ўзначальваў сакратар гаркома КП(б)Б А. І. Марозаў.

У канцы чэрвеня 1941 г. пачаліся баі на магілёўскім напрамку. Войскі праціўніка — 2-я танкавая група Гудэрыяна і 4-я армія — дасягнулі р. Бярэзіны і зрабілі спробу фарсіраваць яе, каб выйсці да Дняпра. Выключную мужнасць і гераізм у баях каля Бабруйска праявілі савецкія воіны авіяцыйных часцей, 47-га стралковага корпуса, курсанты Бабруйскага ваеннага аўтатрактарнага вучылішча і інш. падраздзяленняў. Пасля цяжкіх баёў 1—3 ліпеня нямецкія войскі фарсіравалі Бярэзіну на фронце ў 80 км паміж г. п. Беразіно і Бабруйскам. Абарончыя баі савецкіх войск у міжрэччы Бярэзіны і Дняпра не далі магчымасці гітлераўцам развіць паспяховае наступленне на маскоўскім напрамку. Кравапралітныя баі на дняпроўскім рубяжы ў раёне Магілёва з пачатку ліпеня вялі войскі 13-й арміі (камандуючыя генерал-лейтэнант П. М. Філатаў, з 8.7.1941 г. генерал-лейтэнант Ф. М. Рэмізаў, з 14.7.1941 г. генерал-лейтэнант В. П. Герасіменка) Заходняга фронту. Участак абароны Шклоў — Магілёў — Быхаў займалі: 53-я (камандзір П. Ф. Канавалаў), 110-я (палкоўнік В. А. Хлябцоў), 137-я (палкоўнік І. Ц. Грышын), 172-я (генерал-маёр М. Ц. Раманаў) стралковыя дывізіі 61-га стралковага корпуса (камандуючы генерал-маёр Ф. А. Бакунін); 187-я, пазней 148-я (палкоўнік Чаракманаў) стралковыя дывізіі 45-га корпуса (камандуючы Э. Я. Магон) і часці 4-га паветранага корпуса (камандуючы генерал-маёр А. С. Жданаў), 20-га механізаванага корпуса (камандуючы генерал-лейтэнант А. Г. Нікіцін, потым генерал-маёр М. Дз. Ведзянееў), 1-й Маскоўскай мотастралковай дывізіі (палкоўнік В. А. Глуздоўскі) і інш. Цяжкія баі вяліся на ўсіх участках абароны. Напружаны бой 11—12 ліпеня вялі воіны 388-га палка (камандзір палкоўнік С. Ф. Куцепаў) 172-й стралковай дывізіі на заходніх подступах да горада. Яны разам з артылерыстамі знішчылі 39 танкаў, 3 самалёты, шмат інш. баявой тэхнікі і жывой сілы ворага. Разам з часцямі Чырвонай арміі Магілёў абаранялі байцы народнага апалчэння. У раёне Пашкова і пасёлка Гаі абарону трымаў батальён апалчэнцаў пад камандаваннем капітана міліцыі К. Р. Уладзімірава, які трое сутак адбіваў атакі гітлераўцаў, у баях загінула больш за 230 апалчэнцаў і іх камандзір. Атрады апалчэнцаў з фабрыкі штучнага шоўку і гарбарнага завода адышлі з занятых пазіцый толькі тады, калі скончыліся боепрыпасы. 5 ліпеня войскі ворага захапілі Быхаў, 11 ліпеня — Шклоў, 15 ліпеня — Чавусы. Савецкія войскі і апалчэнцы з 3 да 26.7.1941 г. гераічна абаранялі Магілёў, паказалі яскравы прыклад непарыўнага адзінства арміі і народа ў барацьбе за свабоду Радзімы. Упартыя баі ішлі і на інш. участках фронту. Рубеж па р. Сож ад Мсціслава да Крычава савецкія воіны ўтрымлівалі да 1 жніўня, а на ўчастку Крычаў — Прапойск (Слаўгарад) — да 8.8.1941 г.

Акупіраваўшы Магілёўшчыну, гітлераўцы залічылі яе тэрыторыю да т. зв. «вобласці армейскага тылу» групы армій «Цэнтр», дзе ваенна-адміністрацыйная ўлада належала вермахту і паліцыі; апарат ваеннай адміністрацыі ўзначальваў начальнік тылавога раёна групы армій. Для ўсталявання фашысцкага рэжыму тут былі створаны шматлікія канцлагеры, гета і турмы, праводзіліся карныя аперацыі. Толькі зімою 1941—42 гг. акупанты стварылі перасыльныя лагеры (дулагі) для савецкіх ваеннапалонных у Бабруйску, Крычаве, стацыянарны лагер (шталаг) у Магілёве і ў інш. месцах.

Працоўныя Магілёўшчыны працягвалі барацьбу з ворагам і ва ўмовах жорсткага акупацыйнага рэжыму. Большасць камуністаў вобласці ў першыя дні вайны пайшла ў Чырвоную Армію. Амаль у поўным складзе накіраваны на фронт Бялыніцкі, Клічаўскі, Прапойскі райкомы партыі. У 1941 г. на тэрыторыі вобласці арганізавана і дзейнічала да 40 партызанскіх атрадаў і груп. Многія з іх створаны камандзірамі і палітработнікамі Чырвонай Арміі, што трапілі ў акружэнне ці ўцяклі з фашысцкіх лагераў. У ліку першых партызанскіх атрадаў былі: Клічаўскі (створаны 14.7.1941 г. на нелегальным сходзе камуністаў Клічаўскага р-на), 110-ы і «Васільева» (пераважна з ваеннаслужачых, увосень 1941 г. выйшаў у савецкі тыл). Атрады Д. А. Журбы, Ананава, Гарушкіна, Чэрыкаўскі, «Анатоля» у баях з карнікамі панеслі вялікія страты і як баявыя адзінкі распаліся. Атрады Клічаўскі, В. П. Свістунова (пачаў дзейнасць як атрад М. Ф. Сперанскага), В. М. Сырцова на працягу зімы 1941—42 гг. разграмілі большасць варожых гарнізонаў на тэрыторыі Клічаўскага і суседніх з ім раёнаў. У 1942 г. партызанскі рух на тэрыторыі вобласці стаў масавым. У красавіку 1942 г. атрады, што дзейнічалі на тэрыторыі Клічаўскага, Магілёўскага, Бялыніцкага, Асіповіцкага, Кіраўскага, Быхаўскага р-наў Магілёўскай вобл., а таксама Бярэзінскага р-на Мінскай вобл., Рагачоўскага і Журавіцкага р-наў Гомельскай вобл. аб'ядналіся ў Клічаўскае партызанскае злучэнне. У яго ўвайшлі партызан-

 скі атрад 208-ы імя Сталіна (камандзір У. І. Нічыпаровіч), атрады Клічаўскі, В. І. Лівенцава, В. М. Сырцова, В. П. Свістунова, Г. М. Колбнева; на працягу 1942 г. у злучэнне ўключаны атрады, якія раней дзейнічалі асобна, і створаны новыя ў яго складзе: 525-ы, 61-ы, 345-ы, 537-ы, 255-ы, 113-ы, 600-ы, 210-ы, 425-ы, 810-ы і інш. Кіраўніцтва злучэннем ажыццяўляў Клічаўскі аператыўны цэнтр. Дзейнасць цэнтра санкцыяніраваў у ліпені 1942 г. Ваенны савет Заходняга фронту, зацверджаны ЦШПР 2.9.1942 г. як камандаванне злучэння (камандзіры У. І. Нічыпаровіч, П. В. Яхантаў; камісары К. М. Якаўлеў, І. Р. Іваноў, Р. І. Шчарбакоў, начальнікі штаба В. М. Айрапетаў, К. А. Арцюшын). У лістападзе 1942 г. атрады аб'яднаны ў брыгады.

Асноўнай базай партызанскага руху стаў Клічаўскі р-н з яго вялізнымі ляснымі масівамі, якія прымыкалі да Быхаўскага, Кіраўскага, Бабруйскага, Асіповіцкага і Бялыніцкага р-наў. Тут 3.4.1942 г.— 6.4.1943 г. базіраваліся Клічаўскі аператыўны цэнтр і Бабруйскі міжраённы камітэт КП(б)Б (11.8—4.11.1942 г., сакратар І. М. Кардовіч), які кіраваў падполлем і партызанскім рухам у Клічаўскім, Бярэзінскім, Бабруйскім, Асіповіцкім і Кіраўскім р-нах; Магілёўскі падпольны абком КП(б)Б (дзейнічаў з 24.4.1943 г. да 30.6.1944 г.), Магілёўскі падпольны абком ЛКСМБ (з 18.7.1942 г. да 28.6.1944 г.). Дзейнічалі Асіповіцкі, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Бабруйскі, Быхаўскі, Горацкі, Касцюковіцкі, Кіраўскі, Клімавіцкі, Клічаўскі, Краснапольскі, Круглянскі, Магілёўскі, Мсціслаўскі, Прапойскі, Чавускі, Чэрыкаўскі, Шклоўскі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, Дрыбінскі і Крычаўскі райкомы ЛКСМБ.

З 6.4.1943 г. партызанскія атрады і брыгады былі аб'яднаны ў Магілёўскае партызанскае злучэнне, якое дзейнічала як ваенна-аператыўная група пры Магілёўскім падпольным абкоме КП(б)Б. Злучэнне яднала партызанскія брыгады: 1-ю, 2-ю Клічаўскія, 3-ю Бярэзінскую, 4-ю, 5-ю, 6-ю, 1-ю Асіповіцкую (7-я), 8-ю Рагачоўскую, 9-ю Кіраўскую, 10-ю Журавіцкую, 11-ю Быхаўскую, 12-ю кавалерыйскую імя І. В. Сталіна, 13-ю Касцюковіцкую, 14-ю Цемналескую, «Чэкіст» (15-я), імя М. А. Шчорса (16-я), 17-ю, 8-ю Круглянскую. Сакратары падпольнага абкома Дз. С. Маўчанскі (красавік 1943 г.— красавік 1944 г.), М. В. Шпак (красавік — чэрвень 1944 г.); камандзіры злучэння П. В. Яхантаў (красавік — жнівень 1943 г.), С. Г. Сідарэнка-Салдаценка (жнівень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Для ўмацавання кіраўніцтва партызанскім рухам пры падпольных райкомах партыі былі створаны ваенна-аператыўныя групы (ВАГ): Асіповіцкая, Быхаўская, Бялыніцкая, Бярэзінская, Кіраўская, Клічаўская, Круглянская, Магілёўская, Шклоўская. Брыгаднае звяно кіравання было скасавана, атрады арганізацыйна ўмацаваны, вызначаны як асоба дзейныя і падпарадкаваны ВАГ. Па меры росту атрады разгортваліся ў партызанскія палкі: 15-ы, 113-ы, 121-ы, імя Касаева, 122-і «За Радзіму», 152-і, 208-ы імя І. В. Сталіна, 277-ы, 425-ы, 537-ы, 600-ы, 810-ы. На тэрыторыі вобласці дзейнічалі партызанскі полк «Трынаццаць» і партызанская брыгада 1-я Бабруйская, якія не ўваходзілі ў склад Магілёўскага партызанскага злучэння. Напярэдадні злучэння з Чырвонай Арміяй (верасень — кастрычнік 1943 г., люты, чэрвень — ліпень 1944 г.) у Магілёўскім злучэнні, 1-й Бабруйскай брыгадзе і палку «Трынаццаць» было 36,7 тыс. узброеных партызан.

Партызаны кантралявалі большую частку тэрыторыі вобласці. Клічаўскі р-н, значныя часткі Асіповіцкага, Бабруйскага, Кіраўскага, Быхаўскага, Магілёўскага, Бялыніцкага і Бярэзінскага р-наў на працягу амаль усяго перыяду акупацыі складалі вялізную партызанскую зону. Партызаны пусцілі пад адхон 1847 варожых эшалонаў, 2 бронепаязды, перабілі 32 709 рэек, узарвалі 1500 мастоў, знішчылі 272 танкі і бронемашыны, 3156 аўтамашын, 28 самалётаў, 53 гарматы, 607 складоў, прадпрыемстваў і інш. аб'ектаў ваеннага значэння, разграмілі 656 гарнізонаў, упраў і пастоў ворага.

Шырокі размах набыла падпольная барацьба. З ліпеня 1941 г. пачалі дзейнічаць Асіповіцкі і Чэрыкаўскі падпольныя райкомы партыі. Летам і восенню 1941 г. узніклі падпольныя партыйна-патрыятычныя арганізацыі і групы ў многіх гарадах і інш. населеных пунктах. Камуністычныя падполлі дзейнічалі ў Магілёве (жнівень 1941 г.— чэрвень 1944 г.), Бабруйску (ліпень 1941 г.— чэрвень 1944 г.), Бялынічах (ліпень 1941 г.— кастрычнік 1943 г.), Горках (кастрычнік 1941 г.— лістапад 1942 г.), Крычаве (верасень 1941 г.— жнівень 1943 г.), Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі (Магілёў, вясна 1942 г.— лета 1943 г.), Клімавіцкае камсамольскае падполле (кастрычнік 1941 г.— верасень 1943 г.).

За подзвігі, здзейсненыя ў Вялікую Айчынную вайну, 11 партызан і падпольшчыкаў Магілёўшчыны ўдастоены звання Героя Савецкага Саюза: Б. М. Дзмітрыеў, С. Г. Жунін, П. І. Кавалёў, М. П. Каралёў, А. М. Касаеў, А. Ф. Колесава, В. І. Лівенцаў, Л. Дз. Лорчанка, А. С. Лукашэвіч, У. А. Парахневіч, М. Тапывалдыеў.

У канцы жніўня 1943 г. Чырвоная Армія перайшла ў агульнае стратэгічнае наступленне ад Вялікіх Лук да Чорнага мора. 26.9.1943 г. войскі Бранскага фронту вызвалілі адным з першых раённых цэнтраў Беларусі — Хоцімск, 28 верасня — Клімавічы, Касцюковічы, Мсціслаў, 30 верасня — Крычаў, 1 кастрычніка — Чэрыкаў. У вызваленні Беларусі ўдзельнічала ў складзе Заходняга фронту 1-я польская пяхотная дывізія імя Тадэвуша Касцюшкі, якая 12.10.1943 г. прыняла першы бой пад в. Леніна Горацкага р-на.

У канцы 1943 г. гітлераўцам удалося замацавацца на рубяжы р. Проня, дзе яны стварылі эшаланіраваную абарону глыбінёй 250—270 км. Групоў-

ка ворага налічвала тут 114 тыс. салдат і афіцэраў. Магілёў і Бабруйск былі ператвораны ў магутныя вузлы абароны і аб'яўлены крэпасцямі.

Раніцай 23.6.1944 г. пачалася Беларуская наступальная аперацыя Чырвонай Арміі пад кодавай назвай «Баграціён». Войскі 2-га Беларускага фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў) разгарнулі наступленне на магілёўскім напрамку. У Магілёўскай аперацыі ўдзельнічалі арміі: 49-я (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын), 50-я (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), 33-я (генерал-лейтэнант В. Дз. Кручонкін), 4-я паветраная (генерал-палкоўнік К. А. Вяршынін). 23 чэрвеня войскі 49-й арміі фарсіравалі р. Проня, 24—25 чэрвеня разам з правафлангавымі часцямі 50-й арміі — р. Бася. 26—27 чэрвеня злучэнні 49-й арміі фарсіравалі Дняпро, абышлі з захаду і паўднёвага захаду Магілёў, перарэзалі шашэйныя дарогі. Войскі 33-й арміі 26 чэрвеня вызвалілі Горкі, 27 чэрвеня — Шклоў і Копысь; часці 29-й арміі ва ўзаемадзеянні з часцямі 50-й арміі 28 чэрвеня штурмам авалодалі Магілёвам.

24 чэрвеня войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) перайшлі ў наступленне дзвюма ўдарнымі групамі ў напрамку на Бабруйск і на Баранавічы. У Бабруйскай аперацыі ўдзельнічалі арміі: 3-я (генерал-лейтэнант А. В. Гарбатаў), 28-я (генерал-лейтэнант А. А. Лучынскі), 48-я (генерал-лейтэнант П. А. Раманенка), 65-я (генерал-лейтэнант П. І. Батаў), 16-я паветраная (генерал-палкоўнік авіяцыі С. І. Рудэнка); коннамеханізаваная група (генерал-лейтэнант І. А. Пліеў), Дняпроўская ваенная флатылія (капітан 1-га рангу В. В. Грыгор'еў). У выніку аперацыі быў утвораны т. зв. бабруйскі «кацёл», у які трапілі 6 дывізій (40-тысячная групоўка) 9-й нямецкай арміі; 28 чэрвеня вызвалены Асіповічы, 29 чэрвеня — Бабруйск і інш. населеныя пункты. Актыўны ўдзел у выгнанні акупантаў прымалі партызаны. 29.6.1944 г. Магілёўская вобл. была поўнасцю вызвалена ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.




*Хоцімск. Вуліца Ленінская. Здымак 1970-х гадоў.*



*Савецкія воіны ўступаюць у Бабруйск. 1944 г.*

Фашысцкія варвары разбурылі гарады і вёскі Магілёўшчыны. На тэрыторыі вобласці фашысты загубілі больш за 150 тыс. савецкіх грамадзян, знішчылі 1172 прадпрыемствы, 92 электрастанцыі, 218 тыс. м² жылля ў гарадах. Гітлераўцы спалілі сотні вёсак, з іх 102— разам з жыхарамі, 15 з іх не адрадзіліся; разбурылі школы, тэхнікумы, ВНУ, бібліятэкі, музеі, тэатры, Дамы культуры, бальніцы, знішчылі помнікі архітэктуры і манументальнага мастацтва.

У надзвычай цяжкіх умовах ваеннага часу пачаліся аднаўленчыя работы. Іх поспеху спрыялі самаадданы працоўны подзвіг насельніцтва і бескарыслівая дапамога брацкіх народаў СССР. Аднаўляліся фабрыкі і заводы, рэканструяваліся старыя і будаваліся новыя прадпрыемствы. У 1950 г. прамысловасць вобласці пераўзышла даваенны аб'ём вытворчасці. Былі адноўлены ўсе калгасы, саўгасы і МТС. У 1954 г. да Магілёўскай вобл. далучаны Асіповіцкі, Бабруйскі, Кіраўскі і Клічаўскі р-ны Бабруйскай вобл. (існавала з 20.9.1944 г. да 8.1.1954 г.).

За актыўны ўдзел у партызанскім руху, мужнасць і стойкасць, праяўленыя працоўнымі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, і за поспехі, дасягнутыя ў аднаўленні і развіцці народнай гаспадаркі Магілёўская вобл. 8.7.1967 г. узнагароджана ордэнам Леніна.

У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе ішоў працэс адраджэння і рэканструкцыі гарадоў і вёсак вобласці. Шмат увагі аддавалася жыллёваму будаўніцтву. У 1950-я гады намеціўся ансамблевы падыход да забудовы галоўных вуліц буйных гарадоў і раённых цэнтраў. У Магілёве завершаны ансамбль Першамайскай вуліцы, праведзена заніраванне тэрыторыі: 1-я зона — цэнтр горада — забудоўвалася 4—5-павярховымі жылымі дамамі, 2-я, што прылягала да цэнтра, забудоўвалася 2—3-павярховымі жылымі дамамі, ускраіны горада адводзіліся пад індывідуальнае будаўніцтва. Менавіта

 ў гэты час закладзены асновы комплекснай забудовы жылых і прамысловых раёнаў.

Пасля 1955 г. пачаўся новы перыяд у развіцці савецкай архітэктуры, намечана праграма тыпізацыі, стандартызацыі, будаўніцтва па тыпавых праектах, фарміраванне комплекснай забудовы жылых тэрыторый. Праектныя арганізацыі пачалі распрацоўку для ўсіх гарадоў вобласці новых генеральных планаў, паводле якіх намячалася капітальнае будаўніцтва на свабодных і рэканструяваных тэрыторыях і стварэнне мікрараёнаў. Вынас жыллёвага будаўніцтва з цэнтральнай часткі гарадоў на свабодныя тэрыторыі дазваляў зарэзерваваць участкі ў цэнтры для ўзвядзення грамадскіх будынкаў, рацыянальна арганізаваць сістэму быту і адпачынку насельніцтва. Намеціўся рост шматпавярховага (5—9—16 паверхаў) будаўніцтва. Аднапавярховая драўляная забудова дапускалася на ўскраінах да 5 % у буйных і больш шырока ў невялікіх гарадах. Новае заніраванне гарадской тэрыторыі прадугледжвала ў буйных гарадах падзел на планіровачныя раёны, якія ўключалі прамысловыя прадпрыемствы, жылыя раёны, зоны адпачынку, а таксама камунальна-бытавое абслугоўванне насельніцтва. У Магілёве паводле генеральнага плана 1967—70 гг. («Белдзяржпраект») вылучана 5 планіровачных раёнаў. З 1960-х гадоў пачалося будаўніцтва першых мікрараёнаў у заходняй частцы горада — Магілёў 2, Мір 1, Мір 2, а таксама комплексная шматпавярховая забудова былых ускраін на поўдні і ўсходзе. На тэрыторыі паўднёвага раёна ў сувязі з узвядзеннем у 1965 г. буйнейшага ў краіне камбіната сінтэтычнага валакна разгарнулася вялікае жыллёвае і камунальнае будаўніцтва для рабочых і служачых гэтага прадпрыемства. Гэты раён (былое Лупалава), размешчаны на беразе Дняпра, цяпер адзін з прыгажэйшых у Магілёве. Тут пабудаваны жылыя масівы з мікрараёнамі Задняпроўскі 1, 3, 4, 5, 7, а таксама на праспекце Дзімітрава, вул. Куцепава з 5—9-павярховымі жылымі дамамі. Усходні р-н горада фарміраваўся з жылых раёнаў Усход і Юбілейны. У горадзе сканцэнтравана шмат буйных прамысловых прадпрыемстваў: вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно» імя У. І. Леніна (камбінат сінтэтычнага валакна, завод штучнага валакна імя В. У. Куйбышава), заводы — аўтамабільны імя С. М. Кірава, «Строммашына» імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, металургічны імя А. Ф. Мяснікова, ліфтабудаўнічы і інш. Выраслі вялікія жылыя раёны, у планіроўцы і забудове якіх выкарыстаны лепшыя дасягненні савецкага горадабудаўніцтва. Паводле генплана 1980—81 гг. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва) прадугледжана развіццё горада ў паўночна-ўсходнім і паўночным напрамках, стварэнне 5 планіровачных раёнаў, развіццё грамадскага цэнтра.

У буйны прамысловы цэнтр вобласці вырас г. Бабруйск (порт на р. Бярэзіна, дрэваапрацоўчая, машынабудаўнічая, металаапрацоўчая, хімічная, лёгкая, харчовая галіны прамысловасці). Кампазіцыйным цэнтрам горада асталася Бабруйская крэпасць, вакол якой размешчаны паўкальцавыя і



*Бабруйск. Плошча Леніна.*

радыяльныя вуліцы. Яны ўтвараюць кварталы, што забудоўваюцца шматпавярховымі жылымі дамамі. На поўначы горада фарміруецца жылы масіў з 4 мікраараёнаў, забудаваных 5—9-павярховымі дамамі, у яго ўключаны студэнцкі гарадок, бальнічны комплекс, спартыўныя збудаванні. У заходняй частцы будуецца мікраараён, рэканструююцца старыя вуліцы. Сфарміраваўся новы адміністрацыйна-грамадскі цэнтр — пл. Леніна з 7-павярховым будынкам Дома Саветаў. Развіваецца горад і на левым беразе Бярэзіны, дзе ствараюцца новы грамадскі цэнтр, жылыя раёны, зоны адпачынку. Вызначаны планіровачныя раёны: цэнтральны, паўночны, паўднёвы і ўсходні. Кампазіцыйнай воссю горада стане Бярэзіна, уздоўж якой прадугледжана стварэнне паркаў і сквераў.

Трэці па велічыні ў вобласці — г. Крычаў, размешчаны на правым беразе Сажа. Тут працуюць цэментна-шыферны камбінат, завод гумавых вырабаў імя 50-годдзя БССР, мэблевае вытворчае аб'яднанне, прадпрыемствы харчовай прамысловасці. У паўднёвай частцы горада, што прылягае да Сажа, размешчаны адміністрацыйныя, культурна-бытавыя і гандлёвыя ўстановы; на поўначы забудоўваецца мікраараён Сож. Сярод грамадскіх будынкаў на цэнтральнай плошчы вылучаецца Дом Саветаў.

Буйным чыгуначным вузлом з'яўляецца г. Асіповічы. У паўночнай частцы горада размешчаны




*Бабруйскі машынабудаўнічы завод імя У. І. Леніна. Адміністрацыйны корпус.*



*Асіповічы. Агульны выгляд. Здымак 1970-х гадоў.*

заводы кардонна-руберойдавы імя XXV з'езда КПСС, жалезабетонных канструкцый, аўтаагрэгатаў і інш., будуецца мікраараён. На пл. Леніна — грамадска-адміністрацыйным цэнтры горада — будынкі гаркома КПБ, гарвыканкома, магазінаў, кафэ. Цэнтральныя вуліцы забудаваны 2—5-павярховымі дамамі. Прадугледжана вылучэнне прамысловых раёнаў, рэканструкцыя цэнтральнай часткі, стварэнне паркаў і спартыўнага комплексу.

Горад Быхаў — прыстань на Дняпры. Тут развіваецца мясцовая і харчовая прамысловасць (заводы кансервава-агародніна-сушыльны, сухога абястлушчанага малака, ільнозавод). У горадзе зберагліся помнікі архітэктуры — Быхаўскі замак (16—17 стагоддзі), сінагога (17 ст.). Прадугледжана фарміраванне новага грамадскага цэнтра, будаўніцтва жылых раёнаў з 5—9- і 12-павярховымі жылымі дамамі, стварэнне ў пойме ракі гарадскога парку.

Адзін са старажытных гарадоў Беларусі — Мсціслаў, развіваецца як турысцкі цэнтр. На Замкавай гары даследаваны дзядзінец 12 ст., выяўлены рэшткі пабудоў 13—14 стагоддзяў, прылады працы, упрыгожанні і інш. У старажытным Шклове захаваліся ратуша, касцёл, старадаўні парк; ажыццяўляецца рэканструкцыя гістарычнага цэнтра горада з улікам помнікаў архітэктуры. Новая забудова звязана з паркавай зонай на р. Дняпро. Грамадскі цэнтр г. Слаўгарада ўдала звязаны з прыбярэжным паркам уздоўж р. Сож, які надае своеасаблівасць гарадскому ландшафту. У горадзе развіваюцца прамысловыя зоны і жылыя раёны. Горкі — горад, які славіцца старэйшай навучальнай установай — Беларускай сельскагаспадарчай акадэміяй. Для яе пабудаваны новы комплекс: вучэбныя корпусы, жылыя дамы для выкладчыкаў і інтэрнаты для студэнтаў. Прадугледжана развіццё горада з дакладным функцыянальным заніраваннем тэрыторыі, стварэнне на р. Парасіца вадасховішчаў, гарадскога парку са спартыўным комплексам, воднаэялёнага ядра.

Карэнныя змены адбыліся ў іншых населеных пунктах вобласці, у сельскім будаўніцтве. Ствараюцца добраўпарадкаваныя пасёлкі, дзе комплексна вырашаюцца праблемы сельскагаспадарчай індустрыі і архітэктуры. Шырока вядомы ў краіне калгас «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага (Кіраўскі р-н). Яго цэнтр в. Мышкавічы добраўпарадкаваны, як пасёлак гарадскога тыпу: пабудаваны жылыя асабнякі, гандлёвы цэнтр, 6-павярховая гасцініца, прафілакторый для калгаснікаў, Палац культуры на 950 месцаў з зімовым садам, спартыўнай залай, музычнай школай, калгасным музеем. На плошчы, каля Палаца культуры ўстаноўлены бюст старшыні калгаса Героя Савецкага Саюза і Героя Сацыялістычнай працы К. П. Арлоўскага.

Вядзецца забудова в. Леніна — цэнтральнай сядзібы саўгаса «Леніна» Горацкага р-на. На архітэктурна-планіровачную структуру пасёлка значны ўплыў зрабіў мемарыяльны комплекс у гонар савецка-польскай баявой садружнасці і навакольны ландшафт. На цэнтральнай плошчы вёскі ўзведзены 6-павярховы будынак гасцініцы, Дом культуры на 400 месцаў, Дом быту, гандлёвы цэнтр, школа на 480 вучняў, урачэбны пункт. Жылая зона забудавана дамамі розных тыпаў: секцыйнымі, з кватэрамі ў двух узроўнях, 5-павярховымі вежавага тыпу. Створаны вадасховішчы, існуе парк са спартыўнымі пляцоўкамі, пляж і інш. У саўгасе-тэхнікуме «Жылічы» (Кіраўскі р-н) удала спалучана новая забудова і помнік архітэктуры — палацава-сядзібны комплекс. У цэнтральнай сядзібе калгаса імя Дзяржынскага в. Міхалёва 1-е (Бабруйскі р-н) пабудаваны свінагадоўчы комплекс з Домам жывёлавода і машынны двор з Домам механізатара, а таксама новыя жылыя дамы, культурныя і гандлёва-бытавыя ўстановы для калгаснікаў; у в. Маслакі — цэнтральнай сядзібе калгаса «Шлях Леніна» (Горацкі р-н) створаны новы жылы пасёлак на беразе вадасховішча. Планіроўка і забудова населеных пунктаў вобласці ажыццяўляюцца з улікам апошніх дасягненняў савецкага горадабудаўніцтва і гістарычнай спадчыны.



*Жылыя дамы ў саўгасе «Леніна» Горацкага раёна. Здымак канца 70-х гадоў.*

У забудову гарадоў, пасёлкаў і некаторых вёсак актыўна ўключаюцца помнікі манументальнага мастацтва. З пачатку 1950-х гадоў ствараюцца скульптурныя помнікі — бюсты праслаўленых воінаў і партызан у мармуры, граніце, бетоне. У многіх гарадах, раённых цэнтрах, вёсках устаноўлены помнікі-бюсты: двойчы Героям Савецкага Саюза І. І. Гусакоўскаму ў Магілёве, І. І. Якубоўскаму ў Горках, С. В. Шутаву ў Глуску, Героям Савецкага Саюза В. З. Харужай у Бабруйску, Ф. А. Смалячкову ў в. Вараніно Быхаўскага р-на, А. М. Касаеву ў в. Асман-Касаева Бялыніцкага р-на. Звычайна іх устанаўліваюць каля будынкаў, з якімі звязана жыццё ці дзейнасць выдатных людзей, прадпрыемстваў або школ, што носяць іх імя. Каля Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках устаноўлены бюсты вядомых вучоных, якія тут працавалі; у Магілёве каля завода імя Кірава — бюст С. М. Кірава, каля школы імя Калініна — бюст М. І. Калініна і інш. У 1957 г. у Магілёве перад Домам Саветаў узведзены манументальны помнік У. І. Леніну (граніт, бронза; скульпт. П. Сабсай), які завяршыў кампазіцыйнае фарміраванне пл. Леніна. Помнікі У. І. Леніну ўстаноўлены ў Горках (скульпт. А. Глебаў), Крычаве (скульпт. А. Анікейчык), Бабруйску (скульпт. П. Белавусаў), в. Леніна Горацкага р-на (скульпт. С. Селіханаў).



*Краснаполле. Цэнтральная плошча. Здымак 1970-х гадоў.*

Вялікую ролю ў развіцці манументальнага мастацтва на Беларусі, у т. л. і Магілёўшчыне, адыграла пастанова ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР ад 17.5.1968 г. «Аб далейшым развіцці і прапагандзе манументальнага мастацтва ў рэспубліцы». Пераважная большасць помнікаў, устаноўленых у 1960—80-я гады, прысвечана тэме барацьбы і перамогі савецкага народа ў Вялікую Айчынную вайну. Асаблівае месца сярод іх займаюць помнікі землякам, што загінулі ў вайну. Абеліскі, стэлы, скульптурныя манументы, Курганы Славы ўзведзены амаль у кожным населеным пункце вобласці. Сімвалам воінскай салідарнасці і інтэрнацыянальнага братэрства стаў мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці ў в. Леніна Горацкага р-на (архіт. Я. Белапольскі, В. Хавін, скульпт. У. Цыгаль). У гэтым комплексе выкарыстаны сучасныя сродкі сімволікі, якія ідуць ад асацыятыўнага тлумачэння формы — абеліск у выглядзе кавалка брані, прабітага снарадамі, будынак мемарыяльнага музея ў форме салдацкай каскі і інш., і сумежныя віды мастацтва. У 1983 г. у Магілёве збудаваны мемарыяльны комплес «Змагарам за Савецкую ўладу» (скульпт. Л. Гумілеўскі, архіт. А. Іваноў, К. Аляксееў) — мастацкапластычнае ўвасабленне тэмы рэвалюцыйных, баявых, працоўных подзвігаў народа на ўсіх этапах барацьбы за Савецкую ўладу. Ансамбль размешчаны на высокім беразе Дняпра, арганічна ўваходзіць у архітэктурны і прыродны ландшафт, з'яўляецца вышыннай дамінантай горада. У 1984 г. адкрыты мемарыял воінскай славы на Лудчыцкай вышыні на месцы жорсткіх баёў у 1944 г. за вызваленне Беларусі (скульпт. П. Белавусаў, У. Лятун, архіт. В. Бялянкін).

Ідэйна-вобразную структуру гарадскога асяроддзя фарміруе таксама манументальны жывапіс. Мазаіка на адміністрацыйным корпусе камбіната сінтэтычнага валакна імя У. І. Леніна, на будынку гарадской бібліятэкі, сграфіта на будынку кінатэатра «Кастрычнік» у Магілёве, на тарцах жылых дамоў па вул. Мінскай у Бабруйску і інш. ствараюць вобразныя каларыстычныя «вузлы» ў тыпавой забудове жылых раёнаў і мікрараёнаў. У інтэр'ерах грамадскіх будынкаў эмацыянальную ролю адыгрываюць рэльефы з металу і керамікі, вітражы, размалёўкі, габелены, якімі ўпрыгожаны многія гасцініцы, рэстараны і кафэ, клубы.

Магілёўшчына — край высакаразвітай індустрыі і сельскагаспадарчай вытворчасці. Асноўныя галіны прамысловасці — машынабудаванне і метала-



*Курган Славы ў в. Сычкава Бабруйскага р-на.*



*Магілёў. Плошча Леніна.*



*Магілёўскі завод «Тэхнапрыбор».*

апрацоўка. Буйнейшыя прадпрыемствы вобласці — магілёўскія аўтамабільны завод імя С. М. Кірава, прадукцыя якога пастаўляецца ў саюзныя рэспублікі СССР і замежныя краіны, завод «Строммашына» імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, завод тэхналагічнай аснасткі і інш. Працуюць таксама заводы: металургічны імя Мяснікова, «Электрарухавік» імя 50-годдзя СССР (Магілёў), машынабудаўнічы імя У. І. Леніна, трактарных дэталей і агрэгатаў (Бабруйск) і інш. У 1970-я гады пабудаваны ў Магілёве прадпрыемствы саюзнага значэння: заводы Магілёўскі ліфтабудаўнічы, «Тэхнапрыбор», вентыляцыйных загатовак. У Бабруйску створана аб'яднанне «Бабруйскферммаш» (у яго складзе заводы сельскагаспадарчых машын, раскідвальнікаў угнаенняў, «Сельгасагрэгат»). Магілёўшчына — буйны раён хімічнай індустрыі рэспублікі. Працуюць вытворчыя аб'яднанні «Хімвалакно» імя Леніна, куды ўваходзяць завод штучнага валакна імя Куйбышава і камбінат сінтэтычнага валакна, «Беларусьгуматэхніка» імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка, галаўным прадпрыемствам якога з'яўляецца Бабруйскі завод гумавых тэхнічных вырабаў, «Бабруйскшына», у яго склад уваходзяць заводы буйнагабарытных шын, масавых шын і механічны, а таксама заводы Крычаўскі гумавых вырабаў імя 50-годдзя БССР, Магілёўскі рэгенератны. Найбуйнейшы цэнтр дрэваапрацоўкі рэспублікі — Бабруйск. Тут знаходзіцца вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне «Бабруйскдрэў», якое ўключае бабруйскія фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат і 2 мэблевыя фабрыкі, Рагачоўскую, Жлобінскую і Магілёўскую мэблевыя фабрыкі, Бабруйскі і Асіповіцкі леспрамгасы. У Шклове працуе папяровая фабрыка «Спартак». Прамысловасць будаўнічых матэрыялаў прадстаўлена камбінатам сілікатных вырабаў (Магілёў), кардонна-руберойдавым заводам (Асіповічы), заводамі зборнага жалезабетону і сілікатнай цэглы (Бабруйск). Найбольшыя электрастанцыі — Магілёўскія ЦЭЦ-1 і ЦЭЦ-2, Бабруйская і Крычаўская ЦЭЦ. У вобласці высокамеханізаваныя прадпрыемствы па здабычы торфу, да ліку буйных належаць торфазаводы — «Татарка» Асіповіцкага, «Дняпроўскі» Быхаўскага, «Рэдкі Рог» Бабруйскага р-наў. Развіты лёгкая і харчовая прамысловасць.

Вобласць спецыялізуецца пераважна на малочна-мясной жывёлагадоўлі са значным развіццём ільнаводства. Сельскагаспадарчыя ўгоддзі займаюць 1,5 млн. га (51,8 % тэрыторыі вобласці). На пачатак 1985 г. у вобласці 263 калгасы і 139 саўгасаў. Калгасы «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага Кіраўскага, «Камінтэрн» Магілёўскага, імя М. В. Фрунзе і імя С. М. Кірава Шклоўскага, імя XXI з'езда КПСС і імя В. І. Чапаева Мсціслаўскага, саўгас «Махава» Магілёўскага р-наў, вучгас Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і інш. сталі ўзорнымі гаспадаркамі, базай для вывучэння і ўкаранення перадавога вопыту. Асноўны напрамак у развіцці жывёлагадоўлі — буйныя жывёлагадоўчыя і свінагадоўчыя комплексы.

Магілёўшчына — край высокай культуры. У 1986 г. працавала 875 агульнаадукацыйных школ, у іх навучалася каля 171 тыс. вучняў, 37 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў (больш за 24 тыс. навучэнцаў), 17 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў (каля 23 тыс. студэнтаў), 4 ВНУ: Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія, магілёўскія педагагічны імя А. Куляшова, тэхналагічны і машынабудаўнічы інстытуты, у якіх больш за 24 тыс. студэнтаў. Дзейнічаюць аддзяленні інстытутаў фізікі і фізіка-тэхнічнага АН БССР. У вобласці 3 тэатры: магілёўскія абласныя драматычны тэатр, тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску і тэатр лялек; 14 музеяў: Магілёўскі абласны, Бабруйскі, Касцюковіцкі, Клімавіцкі, Крычаўскі краязнаўчыя, Быхаўскі і Чэрыкаўскі гісторыка-краязнаўчыя, Савецка-польскай баявой садружнасці (в. Леніна Горацкага р-на), гісторыі бітвы пад Лясной (в. Лясная Слаўгарадскага р-на), Клічаўскі музей народнай славы, Бялыніцкі мастацкі музей імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі, этнаграфічны музей, музей рэвалюцыйнага руху на Магілёўшчыне, музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі ў Магілёве; 927 масавых бібліятэк і 908 клубаў; выдаецца 29 газет, у т. л. абласная «Магілёўская праўда». У Магілёве працуюць абласныя аддзяленні Саюза пісьменнікаў БССР (з 1961 г.), Беларускага тэатральнага аб'яднання, арганізацыі Саюза мастакоў БССР, Саюза журналістаў БССР і Саюза архітэктараў БССР.

На тэрыторыі вобласці 2 зоны адпачынку рэспубліканскага значэння — Чыгірынка на р. Друць і Чыгірынскім вадасховішчы, Асіповічы — у сутоку Свіслачы і Бярэзіны вакол Асіповіцкага вадасховішча; курорт Бабруйск (санаторый імя У. І. Леніна), 4 дзіцячыя санаторыі, турбаза «Дняпро».

*Літ.:* Ленін У. І. Крытычныя заметкі па нацыянальнаму пытанню.— Тв., т. 20 (Полн. собр. соч., т. 24); яго ж. Аб пралетарскай культуры.— Тв., т. 31 (Полн. собр. соч., т. 41); Абезгауз З. Е. Развитие промышленности и формирование пролетариата Белоруссии во второй половине XIX века.— Мн., 1971; яго ж. Рабочий класс Белоруссии в начале XX в. (1900—1913 гг.).— Мн., 1977; Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в.: Из истории русско-белорусских связей.—

Мн., 1957; яго ж. Белоруссия и Россия: Очерки русско-белорусских связей второй половины XVI—XVII в.— Мн., 1978; Аблова Р. Т. Это было в Белоруссии.— М., 1957; Адамовіч А., Брыль Я., Калеснік У. Я з вогненнай вёскі...— Мн., 1983; Алексеев Л. В. Смоленская земля в IX—XIII вв.: Очерки истории Смоленщины и Восточной Белоруссии.— М., 1980; яго ж. По Западной Двине и Днепру в Белоруссии.— М., 1974; Андрющенко Н. К. Народное ополчение Белоруссии.— Мн., 1980; Антипенко Н. А. На главном направлении.— Мн., 1982; Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975; Архитектура и градостроительство Советской Белоруссии.— Мн., 1957; Архитектура Советской Белоруссии.— М., 1973; Барановский Е. И. Памятные места Великой Октябрьской социалистической революции в Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1978; Баркоўскі С. 1 Мая на Беларусі.— 3 выд.— Мн., 1932; Батов П. И. В походах и боях.— 3 изд.— М., 1974; Батюшков П. Н. Белоруссия и Литва: Исторические судьбы Северо-Западного края.— СПб., 1890; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Белогорцев И. Д., Гурин И. И., Кустанович С. М. Развитие городов Белоруссии.— Мн., 1967; Белоруссия в эпоху капитализма: Сб. документов и материалов. В 3-х т. Т. 1. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии.— Мн., 1983; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 1—4.— Мн., 1959—79; Белорусская ССР: Административно-территориальное деление на 1 января 1981 года.— 6 изд.— Мн., 1981; Белорусский «экватор»: Путевая книга в шести тетрадях.— Мн., 1981; Белявцев В. И., В. И. Ленин и Белоруссия.— Мн., 1978; яго ж. Памятные места, связанные с жизнью и деятельностью соратников В. И. Ленина в Белоруссии.— Мн., 1976; Бессмертные имена.— Мн., 1979; Библиотечное дело в БССР: Документы и материалы. 1918—1941.— Мн., 1978; Бирюзов С. С. Когда гремели пушки.— М., 1962; Бич М. О. Рабочее движение в Белоруссии в 1861—1904 гг.— Мн., 1983; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967; Богданович М. История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. Т. 1—3.— СПб., 1859—60; Болбас М. Ф. Развитие промышленности в Белоруссии (1795—1861 гг.).— Мн., 1966; яго ж. Промышленность Белоруссии. 1860—1900.— Мн., 1978; Борьба за Советскую власть в Белоруссии. 1918—1920 гг.: Сб. документов и материалов. Т. 1—2.— Мн., 1968—71; Браім І. М. Рыбалоўства ў Беларусі: Гісторыка-этнаграфічны нарыс.— Мн., 1976; Брюханов А. И. В штабе партизанского движения.— Мн., 1980; БССР: Эканоміка-статыстычны даведнік.— Мн., 1931; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте: Воспоминания активных участников Октябрьской революции.— Мн., 1957; В борьбе и труде: Участие женщин Белоруссии в революционном движении, социалистическом и коммунистическом строительстве.— 2 изд.— Мн., 1977; В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974; В боях и походах.— Мн., 1972; В лесах Белоруссии: Воспоминания советских партизан и немецких антифашистов.— Мн., 1977; В памяти народной: Путеводитель по местам борьбы за установление Советской власти в Белоруссии, за честь, свободу и независимость социалистической родины.— Мн., 1969; Вайнруб Е. Г. Танк на пьедестале.— Мн., 1979; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; Великая Отечественная война Советского Союза. 1941—1945: Краткая история.— 2 изд.— М., 1970; Военно-статистическое обозрение Российской империи. Т. 8. Ч. 3. Могилевская губерния.— СПб., 1848; Вождь, учитель и друг: Воспоминания уроженцев Белоруссии о В. И. Ленине.— 2 изд.— Мн., 1985; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; яго ж. Жилищное строительство в Белорусской ССР.— Мн., 1980; Волости и важнейшие селения Европейской России. В. 5.— СПб., 1886; Воронков Ю. Г. Памятники В. И. Ленину в Белоруссии.— Мн., 1976; Восстановление народного хозяйства БССР (1921—1925 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1981; Восстановление народного хозяйства Гомельской губернии (1921—1925 гг.): Сб. документов и материалов.— Гомель, 1960; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85; Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Документы и материалы. Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968; География Белоруссии.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965; Гісторыя беларускага тэатра. Т. 1—2.— Мн., 1983—85; Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1968—69; Гісторыя беларускай савецкай літаратуры. Т. 1—2.— Мн., 1965—66; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1—5.— Мн., 1972—75; Грицкевич А. П. Частновладельческие города Белоруссии в XVI—XVIII вв.: (Социально-экономическое исследование истории городов).— Мн., 1975; яго ж. Социальная борьба горожан Белоруссии (XVI—XVIII вв.).— Мн., 1979; Грушевский А. С. Города Великого княжества Литовского в XIV—XVI вв. Старина и борьба за старину.— Киев, 1918; Гурин М. Ф. Древнее железо Белорусского Поднепровья (1 тысячелетие н. э.).— Мн., 1982; Дела их золотом горят: [Сб. очерков о Героях Социалистического Труда Могилевской обл.].— Мн., 1976; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3.— Могилев, 1882—84; Диренок Е. Д. Полесская организация большевиков в борьбе против царизма (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1965; Документы и материалы по истории Белоруссии. Т. 1—4.— Мн., 1936—54.— Назва т. 1: Гісторыя Беларусі ў дакументах і матэрыялах; т. 2: Дакументы і матэрыялы па гісторыі Беларусі; Древнерусское государство и славяне: Материалы симпозиума, посвященного 1500-летию Киева.— Мн., 1983; Древности Белоруссии и Литвы: [Сб. статей].— Мн., 1982; Дробаў Л. Н. Беларускія мастакі XIX стагоддзя.— Мн., 1971; яго ж. Живопись Белоруссии XIX — начала XX в.— Мн., 1974; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Дудкоў Д. А. Аб развіцці капіталізму ў Беларусі ў 2-й палове XIX і пачатку XX стагоддзя.— Мн., 1932; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Елатомцева И. М. Очерки по истории белорусской советской станковой скульптуры.— Мн., 1974; Ефремова О. И. Роль ленинской «Искры» в распространении марксизма в Белоруссии.— Мн., 1980; Живописная Россия: Отечество наше в его земельном, историческом, племенном, экономическом и бытовом значении. Т. 3.— СПб.; М., 1882; Жунин С. Г. От Днепра до Буга.— Мн., 1974; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Загорульский Э. М. Древняя история Белоруссии: Очерки этнической истории и материальной культуры (до IX в.).— Мн., 1977; Залесский А. И. В тылу врага: Борьба крестьянства Белоруссии против социально-экономических мероприятий немецко-фашистских оккупантов.— Мн., 1969; яго ж. В партизанских краях и зонах: Патриотический подвиг советского крестьянства в тылу врага (1941—1944 гг.).— М., 1962; Зельтен Н. А. Архитектура и планировка малых городов Белоруссии.— Мн., 1968; Игнатенко А. П. Ремесленное производство в городах Белоруссии в XVII—XVIII вв.— Мн., 1963; яго ж. Борьба белорусского народа за воссоединение с Россией (вторая половина XVII—XVIII в.).— Мн., 1974; Игнатенко И. М. Беднейшее крестьянство — союзник пролетариата в борьбе за победу Октябрьской революции в Белоруссии (1917—1918 гг.).— Мн., 1962; Из истории партизанского движения в Белоруссии (1941—1944 годы): (Сб. воспоминаний).— Мн., 1961; Ильюшин И. М., Умрейко С. А. Народное образование в Белорусской ССР.— [2 изд.].— Мн., 1961; Индустриализация Белорусской ССР (1926—1941 гг.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1975; Исаенко В. Ф. Археологическая карта Белоруссии. В. 1, 3.— Мн., 1968, 1976; Искры пионерских костров: Книга — летопись об истории белорусской пионерии.— Мн., 1983; Искусство Советской Белоруссии.— М.; Л., 1940; История белорусской дооктябрьской литературы.— Мн., 1977; История белорусской советской литературы.— Мн., 1977; История Белорусской ССР.— Мн., 1977; История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 1—6.— М., 1960—65; История гражданской войны в СССР. Т. 1—5. М., 1938—60; История Коммунистической партии Советского Союза.— 7 изд.— М., 1985; История рабочего класса Белорусской ССР: В 4-х т. Т. 1—2.— Мн., 1984—85; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; М. И. Калинин в Белоруссии: Доклады, речи, беседы, документы, материалы.— Мн., 1973; Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973; Каханоўскі Г. А. Археалогія і гістарычнае краязнаўства Беларусі ў XVI—XIX стст.— Мн., 1984; Кацер М. С. Белорусская архитектура: Исторический очерк.— Мн., 1956; яго ж. Скульптура Савецкай Беларусі.— Мн., 1957; Киев и западные земли Руси в IX—XIII вв.: [Сб. статей].— Мн., 1982; Кісялёў Г. В. Героі і музы: Гісторыка-літаратурныя нарысы.— Мн., 1982; Комитеты бедноты Белоруссии: Сб. документов и материалов.— Мн., 1958; Комсомол — нашей доблестной партии сын: Из истории Ленинского Коммунистического Союза Молодежи Белоруссии.— Мн., 1960; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; яго ж. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; Корнейчик Е. И. Белорусский народ в Отечественной войне 1812 года.— Мн., 1962; Коробушкина Т. Н. Земледелие на территории Белоруссии в X—XIII вв.— Мн., 1979; Короткевич В. Б. Памятники истории и культуры.— Мн., 1978; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983; Красовский Н. И. Высшая школа Советской Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1972; Крах немецкой оккупации в Белоруссии в 1918 году.— Мн., 1947; Крепак Б. А., Казаков Ю. И. Никто не забыт, ничто не забыто: Памятники жертвам фашизма на территории Белоруссии.— Мн., 1976; Круталевич В. А. Административно-территориальное устройство БССР.— Мн., 1966; яго ж. Рождение Белорусской Советской Республики: (На пути к провозглашению республики. Октябрь 1917 — декабрь 1918 г.).— Мн., 1975; яго ж. Рождение Белорусской Советской Республики: (Провозглашение республики. Развертывание национально-государственного строительства. Ноябрь 1918 — февраль 1919 г.).— Мн., 1979; Ксензов В. П. Поздний мезолит белорусского правобережья Днепра.— Советская археология, 1986, № 1; Кузняев А. А. На пути к Октябрю: Из истории партийного строительства в Белоруссии 1884—1917 гг.— Мн., 1970; Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии. Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981; Кухаренко Ю. В. Зарубинецкая культура.— М., 1964; Лазебников В. С., Поссе В. С. Памятники коммунистического подполья Белоруссии.— Мн., 1975; Ливенцев В. И. Партизанский край.— 4 изд.— Мн., 1983; Липило П. П. КПБ — организатор и руководитель партизанского движения в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны.— Мн., 1959; Липинский Л. П. Развитие капитализма в сельском хозяйстве Белоруссии (II половина XIX в.).— Мн., 1971; яго ж. Классовая борьба в белорусской деревне. 1907—1914.— Мн., 1981; яго ж. Крестья-

янское движение в Белоруссии в 1914—1917 гг.— Мн., 1975; Лосинский Н. Б. Революционно-народническое движение в Белоруссии. 1870—1884 гг.— Мн., 1983; Лочмель И. Ф. Очерк истории борьбы белорусского народа против польских панов.— М., 1940; Мальцев А. Н. Россия и Белоруссия в середине XVII века.— М., 1974; Марцелев С. В. Печать Советской Белоруссии: (Исторический очерк).— Мн., 1967; яго ж. Художественная культура Белоруссии на современном этапе.— Мн., 1978; Мастацтва Савецкай Беларусі: Зб. дакументаў і матэрыялаў. Т. 1 (1917—1941 гг.).— Мн., 1976; Материалы по археологии БССР. Т. 1.— Мн., 1957; Машеров П. М. Избранные речи и статьи.— Мн., 1982; Мелешко В. И. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии (вторая половина XVII—XVIII в.).— Мн., 1975; яго ж. Классовая борьба в белорусской деревне во второй половине XVII—XVIII в.— Мн., 1982; Мелишкевич В. У. Русско-белорусские культурные связи второй половины XIX века.— Мн., 1984; Мельников М. Ф. Атакующая юность.— Мн., 1980; Митрофанов А. Г. Железный век средней Белоруссии (VII—VI вв. до н. э.— VIII в. н. э.).— Мн., 1978; Могилевская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976; Могилевская старина: Сб. статей «Могилевских губернских ведомостей». В. 1—3.— Могилев, 1900—03; Молчанова Л. А. Материальная культура белорусов.— Мн., 1968; яе ж. Очерки материальной культуры белорусов XVI—XVIII вв.— Мн., 1981; Мурашко П. Е. Особого назначения...: Из истории ЧОН Белоруссии. 1918—1924.— Мн., 1979; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984; Непокоренная Белоруссия.— М., 1963; Нерознак В. П. Названия древнерусских городов.— М., 1983; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1920).— 2 изд.— Мн., 1968; Очерки истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 2 (1921—1966).— Мн., 1967; Очерки истории Ленинского комсомола Белоруссии.— Мн., 1975; Очерки истории пионерской организации Белоруссии.— Мн., 1975; Очерки истории профсоюзов Белоруссии (1905—1969 гг.).— Мн., 1970; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1—2.— Мн., 1970—72; Очерки по истории изобразительного искусства Белоруссии.— М.; Л., 1940; Очерки развития профессионально-технического образования в БССР.— Мн., 1973; Павловец П. С. Памятники партизанского движения в Белоруссии.— Мн., 1975; Памятные места Могилевщины: [Фотоальбом].— Мн., 1977; Панамарэнка П. К. Партызанскі рух у Вялікай Айчыннай вайне.— [М.], 1943; Панютич В. П. Из истории формирования пролетариата Белоруссии 1861—1914 гг.— Мн., 1969; Парахневич В. А. Огненные вихри: Записки партизана.— Мн., 1969; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944): Краткие сведения об организационной структуре партизанских соединений, бригад (полков), отрядов (батальонов) и их личном составе.— Мн., 1983; Партийное подполье: Деятельность подпольных партийных органов и организаций на оккупированной советской территории в годы Великой Отечественной войны.— М., 1983; Партызанская барацьба беларускага народа ў гады Вялікай Айчыннай вайны.— Мн., 1959; Пашуто В. Т., Флоря Б. Н., Хорошкевич А. Л. Древнерусское наследие и исторические судьбы восточного славянства.— М., 1982; Первая всеобщая перепись населения Российской империи. 1897 г. Т. 23. Могилевская губерния.— СПб., 1903; Пионеры-герои.— Мн., 1972; Письма трудящихся Белоруссии В. И. Ленину. 1917—1924.— 3 изд.— Мн., 1980; Пичета В. И. Белоруссия и Литва XV—XVI вв.: (Исследования по истории социально-экономического, политического и культурного развития).— М., 1961; Плотников Ю. В. В сражениях за Белоруссию.— Мн., 1982; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (ранний этап зарубинецкой культуры).— Мн., 1971; яго ж. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974; яго ж. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983; Подвиги их бессмертны: О подпольной борьбе советских людей в захваченных фашистскими оккупантами городах и селах Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1978; Подготовка сплошной коллективизации сельского хозяйства Белорусской ССР.— Мн., 1976; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Поликарпович К. М. Палеолит Верхнего Поднепровья.— Мн., 1968; Полки идут на Запад: Воспоминания и очерки об освобождении Белоруссии от фашистских оккупантов.— М., 1964; Полное собрание русских летописей. Т. 32. Хроники: Литовская и Жмойтская, и Быховца...— М., 1975; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973; Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці.— Мн., 1984; Пономаренко П. К. Непокоренные: (Всенародная борьба в тылу фашистских захватчиков в Великую Отечественную войну).— М., 1975; Почанин С. З. В грозовом восемнадцатом: Большевистские организации Белоруссии в борьбе за власть Советов в 1918 году.— Мн., 1969; Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; Проведение сплошной коллективизации сельского хозяйства Белорусской ССР (ноябрь 1929 г.— 1932 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1973; Развитие социалистического соревнования в Белорусской ССР (1919—1941 гг.): Документы и материалы.— Мн., 1980; Рапановіч Я. Н. Слоўнік назваў населеных пунктаў Магілёўскай вобласці.— Мн., 1983; Ратушнов Н. П. В боевом походе.— Мн., 1960; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Революционные комитеты БССР и их деятельность по упрочению Советской власти и организации социалистического строительства (июль — декабрь 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн. 1957; Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г. — июль 1920 г.): Сб. документов и материалов.— Мн., 1961; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Русско-белорусские связи: Сб. документов (1570—1667 гг.).— Мн., 1963; Русско-белорусские связи во второй половине XVII в. (1667—1686 гг.): Сб. документов.— Мн., 1972; Рыбаков Б. А. Киевская Русь и русские княжества XII—XIII вв.— М., 1982; Савицкий Э. М. Революционное движение в Белоруссии (август 1914 — февраль 1917 гг.).— Мн., 1981; Сакулевич Г. А. Подвигу народа жить в веках: Монументы боевой славы советского народа в Белоруссии.— Мн., 1975; Сакулевич Г. А., Хушенский И. Я. Памятники и монументы в честь трудовых свершений рабочего класса Белоруссии.— Мн., 1977; Сандалов Л. М. Пережитое.— М., 1966; Сардаров А. С. История и архитектура дорог Белоруссии.— Мн., 1978; Севостьянов Г. Н., Жуковская В. И. За линией фронта.— Мн., 1981; Седов В. В. Славяне Верхнего Поднепровья и Подвинья.— М., 1970; яго ж. Восточные славяне в VI—XIII вв.— М., 1982; Сидоренко А. А. На Могилевском направлении: Наступательная операция 49-й армии 2-го Белорусского фронта в июне 1944 г.— М., 1959; Советские партизаны: Из истории партизанского движения в годы Великой Отечественной войны.— 2 изд.— М., 1963; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; Солодков Т. Е. Борьба трудящихся Белоруссии против царизма (1907—1917 гг.).— Мн., 1967; Солошенко В. И. Из истории распространения марксизма в Белоруссии (1883—1904 гг.).— Мн., 1963; яго ж. От народничества к марксизму: Распространение марксизма и образование социал-демократических организаций в Белоруссии.— Мн., 1971; яго ж. Большевики в борьбе с мелкобуржуазными партиями в Белоруссии (1903 — март 1917 гг.).— Мн., 1981; Статистический справочник состояния народного хозяйства и культуры Белорусской ССР к началу Великой Отечественной войны.— М., 1943; Страницы героической истории: К 50-летию Краснознаменного Белорусского военного округа.— Мн., 1968; Судебный процесс по делу о злодеяниях, совершенных немецко-фашистскими захватчиками в Белорусской ССР (15—19 января 1946 года).— Мн., 1947; Тарасенка В. Р. Археалагічная праца на Магілёўшчыне ў 1930 г.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Тихомиров М. Н. Древнерусские города.— 2 изд.— М., 1956; Третьяков П. Н. Восточнославянские племена.— 2 изд.— М., 1953; яго ж. Финно-угры балты и славяне на Днепре и Волге.— М.; Л., 1966; Усе раёны БССР.— Мн., 1933; Хацкевич А. Ф. Польские интернационалисты в борьбе за власть Советов в Белоруссии.— Мн., 1967; Хацкевич А. Ф., Крючок Р. Р. Становление партизанского движения в Белоруссии и дружба народов СССР.— Мн., 1980; Хохлов А. Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.).— Мн., 1965; яго ж. Коммунистические части особого назначения в Белоруссии.— Мн., 1974; яго ж. Крах антисоветского бандитизма в Белоруссии в 1918—1925 годах.— Мн., 1981; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1—3.— Мн., 1962—80; Цітоў А. К. Гербы беларускіх гарадоў.— Мн., 1983; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Чепко В. В. Города Белоруссии в первой половине XIX века: (Экономическое развитие).— Мн., 1981; Шабуня К. И. Аграрный вопрос и крестьянское движение в Белоруссии в революции 1905—1907 гг.— Мн., 1962; Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971; яго ж. Города Белоруссии по летописям и раскопкам (IX—XIII вв.).— Мн., 1975; Экономика Белоруссии в эпоху империализма. 1900—1917.— Мн., 1963; Экономика Советской Белоруссии, 1917—1967.— Мн., 1967; Экономическая география Белоруссии.— 3 изд.— Мн. 1982; Яніцкая М. М. Беларускае мастацкае шкло (XVI—XVIII стст.).— Мн., 1977; яе ж. Вытокі шклаpобства Беларусі.— Мн., 1980; Яцкевич И. В. Всесоюзный староста на белорусской земле.— Мн., 1975; Кароткина Н. Ф., Цлаф С. Г. В. И. Ленин о Белоруссии: Библиогр. указатель.— Мн., 1970; Сакольчик А. А. Дооктябрьская книга на русском языке о Белоруссии (1768—1917 гг.): Библиогр. указатель.— 2 изд.— Мн., 1976; Крэканэ М. Г., Сакольчык А. А. Бібліяграфія па гісторыі Беларусі: Феадалізм і капіталізм.— Мн., 1969; Белоруссия в печати XIX — начала XX столетия: Библиогр. на иностранных языках. Ч. 1—2.— Мн., 1982—83; Голиков К. И., Николаевский М. А., Фаустова З. Д. Первая русская революция 1905—1907 гг.: Аннотированный указатель литературы.— М., 1965; Баханькова В., Сасноўская Д. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): Бібліягр. паказальнік.— Мн., 1970—76; Баханькова В. У. Беларуская ССР у гады Вялікай Айчыннай вайны Савецкага Саюза (1941—1945 гг.): (Бібліягр. паказальнік). 1981.— Мн., 1982.

*У. Дз. Будзько, В. Б. Караткевіч,*
*А. М. Кулагін, Л. Г. Лапуэвіч,*
*Г. М. Новікава, Т. І. Чарняўская.*


МАГІЛЁЎ
Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы
Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху
Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)
Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)
Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)
Помнікі і месцы, звязаныя з іменамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы
Жылыя дамы, забудова вуліц
дасавецкага перыяду
савецкага перыяду
Культавая архітэктура
Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні
дасавецкага перыяду
савецкага перыяду
Паркі, скверы і зялёныя масівы
Пячэрскі лесапарк
Дубровенка
Дзвіна
Дняпро
Дзіцячы парк
пл. Перамогі
пл. Леніна
пл. Касманаўтаў
Савецкая пл.
пл. Гагарына
Прывакзальная пл.
воз. Грабянёўскае
у Мінск
у Асіповічы
у Жлобін
у Оршу
у Гомель
у Слаўгарад
у Чавусы
у Крычаў
парк імя 60-годдзя Вялікага Кастрычніка

## I. МАГІЛЁЎ

Горад, цэнтр Магілёўскай вобласці і раёна. Знаходзіцца за 200 км ад Мінска. Вузел чыгунак (напрамкі на Оршу, Асіповічы, Крычаў, Жлобін) і аўтамабільных дарог, прыстань на Дняпры, аэрапорт. Насельніцтва 351,4 тыс. (1986 г.). Размешчаны на маляўнічых берагах Дняпра, які дзеліць горад на 2 часткі. Правы бераг узгорысты, моцна зрэзаны ярамі, левы — нізінны. Праз горад працякае р. Дубровенка (правы прыток Дняпра).

Тэрыторыя сучаснага Магілёва заселена ў раннім жалезным веку, аб чым сведчаць матэрыялы раскопак гарадзішчаў Магіла (5 ст.; у парку імя Горкага), Змяёўка (5—8 стагоддзі; на правым беразе Дубровенкі) і інш. Існуе шэраг легендаў аб узнікненні назвы горада. Адна з іх звязана з імем князя Льва Данілавіча Могія (магутны леў), які ў 1267 г. пабудаваў замак у сутоку рэк Дубровенка і Дняпро. Некаторыя даследчыкі лічаць, што назва горада паходзіць ад імя полацкага князя Льва Уладзіміравіча (Льва Магутнага). Народнае паданне звязвае яе з імем асілка Машэкі, над магілай якога насыпаны курган, названы «Магілай льва». Легенду выкарыстаў Янка Купала ў паэме «Магіла льва». Захавалася назва гары Машэкаўка, дзе цяпер знаходзяцца гарадскія могілкі.

З 14 ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага. З канца 15 ст. хутка рос, што пацвярджаецца паяўленнем у пісьмовых крыніцах выраза «мужы магілёўцы», які раней ужываўся толькі для полацкіх уплывовых купцоў. Развіццю Магілёва як гандлёва-рамеснага горада садзейнічала размяшчэнне на перакрыжаванні гандлёвых шляхоў. Значную частку насельніцтва складалі рамеснікі, сярод якіх былі гарбары, рымары, шаўцы, цесляры, кавалі, краўцы, ганчары, разьбяры па дрэве, фарбавальшчыкі і інш. У 16 ст. магілёўскія скупшчыкі і купцы асталяваліся ў Оршы, Копысі, Шклове, Крычаве, Мсціславе, Прапойску, Рэчыцы, Смалянах, Талачыне і інш. гарадах і мястэчках. У 1561 г. Магілёў атрымаў права на войтаўства (гарадское кіраванне), 28.1.1577 г.— поўнае магдэбургскае права і герб: на блакітным полі мураваная вежа з надпісам: «Печать места Могилевского». На чале горада стаў выбарны орган самакіравання — магістрат. Горад меў права на 2 кірмашы ў год. У 1577 г. у Магілёве 1261 дом і 157 гандлёвых памяшканняў, цэхі кушняроў і пекараў. Магістрат па правах уладання меў некалькі вёсак, сяляне якіх выконвалі на карысць горада розныя павіннасці. Па гаспадарчым значэнні ў Вялікім княстве Літоўскім Магілёў у гэты час займаў другое месца (пасля Вільні); з 1589 г. да 1772 г.— цэнтр Магілёўскай эканоміі.

У снежні 1595 г. у час антыфеадальнага казацка-сялянскага паўстання горад заняты атрадам Налівайкі і ўтрымліваўся ім 2 тыдні. Супраць Налівайкі выступіла 18-тысячнае літоўскае войска пад камандаваннем М. Буйвіда. У бітве на Буйніцкім полі пад Магілёвам двухтысячнае войска казакаў мужна змагалася, але вымушана было адступіць. Войска Буйвіда ўварвалася ў горад, разрабавала і спаліла яго, учыніла над жыхарамі жорсткую расправу.

Да сярэдзіны 17 ст. Магілёў стаў адным з буйнейшых гарадоў Беларусі. У 1604 г.— 2211 дамоў, больш за 15 тыс. жыхароў, 18 цэхаў. На рынках Магілёва скуплялі тавары купцы ўсіх буйных гарадоў Беларусі. Пастаянныя гандлёвыя сувязі існавалі з гарадамі Расіі, Украіны, Польшчы, Прыбалтыкі. З Канстанцінопаля і Малдавіі магілёўскія купцы прывозілі ўсходнія тканіны, упрыгожанні, прыправы. Насельніцтва горада складалася з заможных вярхоў (багатыя купцы і частка майстроў), сярэдняга слоя (пераважная частка цэхавых майстроў і сярэдніх гандляроў) і беднаты (чаляднікі, вучні, дробныя гандляры і інш.). З-за непасільных падаткаў і набораў, самавольства рады нізы неаднаразова адкрыта выступалі супраць вярхоў і ўсяго гарадскога ладу. Магіляўчане ў 1588 г. на сходзе выбралі групу з 12 чалавек, якой даручаўся збор падаткаў і ўсіх сродкаў, што складалі бюджэт горада; без іх удзелу магістрат не меў права выдаткоўваць сабраныя сродкі. Злоўжыванні і хабарніцтва магістрата сталі прычынай выступленняў рамеснікаў і гарадской беднаты ў 1606—10 гг. Пасля амаль 20-гадовых сутыкненняў паміж гараджанамі і магістратам 20.6.1606 г. успыхнула паўстанне на чале з саладоўнікам Стахорам Мітковічам. 15 ліпеня гараджане ўварваліся ў ратушу, разагналі старую раду і выбралі новую, у якую ўвайшлі незаможныя рамеснікі. Новая рада больш за 2 гады кіравала горадам, у сваёй дзейнасці імкнулася адстойваць інтарэсы гарадскіх нізоў. Аднак у 1608 г. улады подкупамі і пагрозамі дамагліся расколу новай рады. Згодніцкія элементы ў жніўні падпісалі «ўгодлівы ліст», паводле якога ўлада перадавалася старому складу магістрата. Кіраўнік радыкальнай групы новай рады Хадко Багдановіч быў прыгавораны да пакарання смерцю. Незадаволенасць дзейнасцю старога магістрату выклікала новыя выступленні. Найбольш буйное з іх адбылося ў 1610 г., калі гарадскія нізы спрабавалі ўзняць узброенае паўстанне, але яно было задушана войскам; 5 кіраўнікоў пакараны смерцю. Выступленні адбываліся таксама ў 1636 г. і 1638 г.

У сувязі з рэфармацыяй, контррэфармацыяй і ўвядзеннем Брэсцкай царкоўнай уніі 1596 г. у Магілёве, як і на ўсёй тэрыторыі Беларусі, абвастрылася рэлігійная барацьба. Своеасаблівай формай рэлігійна-палітычнага руху гараджан былі праваслаўныя царкоўныя брацтвы, у якія ўваходзілі пераважна рамеснікі, гандляры, а таксама духавенства і шляхта. Брацтва кушняроў Магілёва, створанае 26.4.1589 г., было першым на Беларусі. З 1597 г. вядома брацтва пры царкве святога Спаса, з 1602 г.— пры царкве «въеханя господня», з 1605 г.— пры Праабражэнскай, з 1633 г.— Богаяўленскай, з 1634 г.— Крыжаўзвіжанскай цэрквах, з 1636 г.— купецкае брацтва. Магілёўскія брацтвы былі цесна звязаны з Львоўскім, якое сачыла за іх дзейнасцю. Жыхары Магілёва ў 1619 г., даведаўшыся, што уніяцкі архіепіскап І. Кунцэвіч едзе да іх, каб закрыць праваслаўныя цэрквы, зачынілі гарадскія вароты і пад пагрозаю зброі не пусцілі яго ў горад. У 1623 г. магілёўскія брацтвы ўдзельнічалі ў падрыхтоўцы паўстання супраць І. Кунцэвіча ў Віцебску. У 1590—92 гг. у Магілёве адкрыта агульнаслаўная брацкая школа, у 1757 г. яна пераўтворана ў духоўную семінарыю. З 1616 г. да 1773 г. з перапынкамі існавала Магілёўская брацкая друкарня, якая выдавала царкоўныя, палемічныя і павучальныя кнігі: «Служэбнік» (1616 г.), «Псалтыр» і «Акафісты і каноны» (1693 г.), «Малітваслоў» (1695 г.), «Евангелле вучыцельнае» (1697 г.) і «Перла мнагацэннае» (1699 г.) Кірылы Транквіліёна Стаўравецкага, «Дыоптра» (1698 г.), «Неба новае» І. Галятоўскага (1699 г.), «Трыфалагіён, ці Цветаслоў» (1748 г.) і інш. У друкарні працавалі выдатныя беларускія друкары і гравёры М. Е. Вашчанка (гравёр па медзі), В. М. Вашчанка (гравёр па дрэве), Ф. Ангілейка (гравёр па дрэве), М. Антушкевіч, Афанасій П.

У час руска-польскай вайны 1654—67 гг. прыхільнік рускай арыентацыі магілёўскі шляхціц К. Ю. Паклонскі з групай аднадумцаў перайшоў да рускага цара Аляксея Міхайлавіча, які даў яму чын палкоўніка, даручыў набраць полк і ўзяць Магілёў. К. Ю. Паклонскі сабраў шасцітысячнае войска і ў жніўні 1654 г. наблізіўся да горада. 24 жніўня гараджане добраахвотна здаліся. Рускі ўрад захаваў гораду магдэбургскае права, даў дазвол на 2 кірмашы ў год. Мяшчанам дазвалялася гандляваць бяспошлінна, пасадскія людзі вызваляліся ад ваеннай службы і пастою войск. Шляхціцам былі захаваны ранейшыя правы і прывілеі. Магілёў і Магілёўскі павет былі перададзены

ў часовае кіраванне К. Ю. Паклонскаму, які імкнуўся падпарадкаваць сабе беларускае Падняпроўе. Пераканаўшыся, што яго планы церпяць няўдачу, ён звярнуўся да Януша Радзівіла з прапановай аб здачы горада. 6.2.1655 г. здраднікі адчынілі вароты і ўпусцілі войскі Радзівіла за вонкавы земляны вал. Тры месяцы насельніцтва Магілёва разам з рускімі ратнымі людзьмі і сялянамі самаадданa абараняла горад. Спробы Радзівіла ўзяць яго штурам былі адбіты. У 1658 г. некалькі разоў спрабаваў захапіць горад праціўнік уз'яднання Украіны з Расіяй Іван Нячай, але кожны раз цярпеў няўдачу. Летам 1660 г. да Магілёва наблізіліся войскі гетмана Вялікага княства Літоўскага К. Сапегі. Сапега некалькі разоў прапаноўваў жыхарам здацца, абяцаючы каралеўскія міласці, але тыя не згаджаліся. 2.2.1661 г. шляхціцы і гарадскія вярхі здалі Магілёў.

У 2-й палове 17 ст. у Магілёве каля 3 тыс. дамоў. Па сваіх памерах ён на той час быў большы за Мінск і Смаленск. Кароль Ян Казімір у 1661 г. даў гораду новы герб: на блакітным полі тры гарадскія вежы, у сярэдняй — у адчыненай браме рыцар з узнятым мячом, наверсе — коннік (герб «пагоня»). У Паўночную вайну 1700—21 гг. у ліпені 1708 г. Магілёў быў заняты і разрабаваны войскамі Карла XII.

Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Магілёў уз'яднаны з Расіяй, з 1772 г. цэнтр губерні, з 1778 г.— намесніцтва, з 1796 г.— павета Беларускай, з 1802 г.— Магілёўскай губерняў. У 1781 г. зацверджаны новы герб: «пагоня» на чырвоным полі, дадаткова змяшчалася верхняя палавіна двухгаловага арла — герба Расійскай імперыі. Да канца 18 ст. горад выйшаў з заняпаду. Насельніцтва вырасла з 7 тыс. чалавек у 1776 г. да 9,4 тыс. у 1784 г. У гэты час у горадзе было 22 вуліцы, 32 завулкі, 2 тыс. дамоў. Працавалі 33 прамысловыя прадпрыемствы, у т. л. 22 гарбарныя, 7 піваварных, 2 цагельныя заводы, 2 вадзяныя млыны. У горадзе было 479 купцоў, каля 50 % жыхароў складалі рамеснікі, асабліва славіліся майстры па апрацоўцы металу, скуры, дрэва і гліны. Значна павялічыўся аб'ём гандлю з Масквой, Рыгай, Пецярбургам, Кіевам і інш. гарадамі. Тут знаходзіліся рэзідэнцыі праваслаўнага і каталіцкага архіепіскапаў, якімі былі Г. Каніскі (з 1775 г.) і С. Богуш-Сестранцэвіч (з 1782 г.). У рэзідэнцыі апошняга працавала друкарня, з 1795 г. давала тэатральныя паказы трупа А. Ш. Жукоўскага. У 1722—32 гг. пры езуіцкім калегіуме існаваў школьны тэатр.

У час Айчыннай вайны 1812 г. французскія войскі маршала Даву 8 ліпеня захапілі Магілёў, разрабавалі яго, пры адступленні рыхтаваліся спаліць. 12.11.1812 г. рускія войскі пад камандаваннем А. П. Ажароўскага вызвалілі горад.



I. *Панарама забудовы Губернатарскай плошчы з боку старажытнага замка. З акварэлі канца 18 ст.*

Напярэдадні сялянскай рэформы 1861 г. Магілёў — адзін з буйных гарадоў Беларусі. Кожны трэці будынак у ім быў мураваны (740 з 2259). Насельніцтва ў 1825 г.— 11,6 тыс. чалавек, у 1850 г.— 23,5 тыс., у 1861 г.— 30,8 тыс. чалавек. У горадзе каля 2500 рамеснікаў, 189 саматужных прадпрыемстваў (1859 г.), з іх больш за 100 — гарбарныя, дзе працавала каля 1000 чал. У 1854 г. дзейнічалі 27 цагельных заводаў, 4 мукамольна-крупадзёрныя прадпрыемствы, лесапільня, 34 невялікія маслабойні, развіваліся ганчарная, піваварная, свечачная, суконная, тытунёвая і інш. галіны вытворчасці. У 1841 г. узнік адзін з першых на Беларусі мукамольны завод, дзе пераважала наёмная праца; прадпрыемства мела паравы рухавік, ад якога працавала і лесапільня. Існавалі мужчынская гімназія (з 1809 г.), павятовае і прыходскае вучылішчы, 2 прыватныя жаночыя пансіёны і 3 прыватныя жаночыя школы. У 1833 г. адкрыта першая публічная бібліятэка (60 кніг). З 1838 г. выходзіла газета «Могилёвские губернские ведомости». Летам 1824 г. праездам з Адэсы ў Міхайлаўскае Магілёў наведаў А. С. Пушкін, у яго гонар на кватэры карнета Куцінскага была наладжана вечарынка.

Паўстанне 1863—64 гг. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве знайшло водгук і на Магілёўшчыне. У Магілёве ў гэты час кватаравала 3-я зводная рэзервовая артылерыйская брыгада, у часцях якой была створана ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя. Члены яе — браты М. А. і І. А. Манцэвічы і А. В. Алендскі — у красавіку 1863 г. сфарміравалі ў Магілёўскім павеце Чарнаруцкі паўстанцкі атрад. Манцэвічы былі схоплены карнікамі і разам з камандзірам Быхаўскага паўстанцкага атрада І. Дз. Анцыпам расстраляны ў Магілёве 6.6.1863 г.

Рост горада стрымлівала адсутнасць да пачатку 20 ст. чыгуначнай сувязі (у 1902 г. праз Магілёў пракладзена Пецярбургска-Адэская чыгунка). Ён быў адміністрацыйным і гандлёва-рамесным цэнтрам. Развівалася фабрычна-заводская прамысловасць. У 1885 г.— 124 прадпрыемствы (270 рабочых). Па аб'ёму прадукцыі пераважалі гарбарная, маслабойная, піваварная і тытунёвая вытворчасць. У канцы 19 ст. у горадзе працавалі 3 друкарні (52 рабочыя), механічныя



I. *Панарама забудовы Саборнай плошчы. З акварэлі канца 18 ст.*

майстэрні, 7 аддзяленняў банкаў і банкаўскіх кантор, у т. л. Азова-Данскога і Мінскага камерцыйных банкаў. У 1867 г. адкрыты музей пры статыстычным камітэце, у 1865 г.— жаночая сямікласная гімназія, у 1885 г.— рэальнае вучылішча, у 1888 г.— тэатр, у 1903 г.— ремеснае вучылішча. Працавалі духоўная семінарыя, гарадское, 4 прыходскія і духоўнае вучылішчы, 7 царкоўнапрыходскіх школ, 2 прыватныя навучальныя ўстановы, школы фельчарская, павітух і інш.

У 1875 г. у Магілёве на базе гурткоў «самаразвіцця» навучэнцаў мужчынскай гімназіі і духоўнай семінарыі створаны народніцкі гурток, адным з кіраўнікоў якога быў дзеяч народніцкага руху ў Расіі Р. П. Ісаеў. Цесныя сувязі з гуртком падтрымлівалі актыўныя ўдзельнікі народніцкага руху М. К. Судзілоўскі, С. П. Кавалік. Народніцкі гурток, які ўзнік у 1878 г., аб'ядноўваў каля 50 чалавек, уваходзіў у Паўночна-Заходнюю арганізацыю «Народнай волі». У 1881—83 гг. існавалі гурткі афіцэраў-нарадавольцаў, што падпарадкоўваліся непасрэдна ваенна-рэвалюцыйнаму цэнтру «Народнай волі». Члены гурткоў праводзілі агітацыю сярод сялян, распаўсюджвалі нелегальную літаратуру. Найбольш актыўным і папулярным прапагандыстам сярод сялян быў гімназіст М. М. Забела.

Першыя выступленні пралетарыяту ў Магілёве адзначаны ў 1890-я гады. З 18 верасня да пачатку кастрычніка 1898 г. працягвалася забастоўка рабочых 9 гарбарных прадпрыемстваў горада, у якой прынялі ўдзел больш за 100 чалавек. У 1901 г. адбылася забастоўка рабочых маслабойнага завода, у 1903 г.— краўцоў. У 1901—04 гг. святкаванне 1 Мая было адзначана палітычнымі стачкамі. У час дэманстрацыі пратэсту супраць расстрэлу 12.9.1904 г. рабочага мітынгу ў Беластоку адбылася перастрэлка з паліцыяй. У 1891—93 гг. паявіліся гурткі сацыял-дэмакратычнага кірунку. З іх у 1898 г. утварылася сацыял-дэмакратычная група, што вяла прапаганду марксізма, а ў канцы 1899 г.— сацыял-дэмакратычная арганізацыя з 80 чалавек. Пасля II з'езда РСДРП (1903 г.) у Лупалаве (заднепроўская частка Магілёва) склалася арганізацыя РСДРП, якая да вясны 1904 г. афармілася як агульнагарадская і далучылася да Палескага камітэта РСДРП на правах раённай арганізацыі. З канца 1903 г. у магілёўскім гарнізоне дзейнічала ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя, якая вяла работу сярод салдат. Пад кіраўніцтвам Магілёўскай арганізацыі РСДРП 11.1 1905 г. адбылася забастоўка пратэсту супраць крывавай расправы царызму з рабочымі Пецярбурга, 20 студзеня — усеагульная палітычная стачка, 23 студзеня — дэманстрацыя рабочых і навучэнцаў. Рабочыя горада актыўна ўдзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы 1905 г. Чыгуначнікі, каб падтрымаць Снежаньскае ўзброенае паўстанне ў Маскве, 10.12.1905 г. аб'явілі забастоўку, выбралі камітэт, які ўзяў кіраванне станцыяй у свае рукі. Да чыгуначнікаў далучыліся рабочыя многіх прадпрыемстваў. У маі 1906 г. баставалі цырульнікі, шаўцы і краўцы, якія патрабавалі ўстанаўлення 9-гадзіннага рабочага дня. У гады рэакцыі бальшавікі вялі барацьбу ў падполлі. У 1912 г. у перыяд новага рэвалюцыйнага ўздыму адбыліся мітынгі пратэсту супраць Ленскага расстрэлу і першамайская стачка рабочых 40 прадпрыемстваў (1000 чалавек), што працягвалася 11 дзён і закончылася перамогай працоўных. Дзейнічала праўдзісцкая група (50 чалавек), якая арганізоўвала рабочыя гурткі, прафсаюзы, кіравала стачкамі, мела сваю бібліятэку.



I. *Панарама Савецкай плошчы.*

У 1912 г. у Магілёве было 170 прадпрыемстваў, дзе працавала 712 рабочых. У 1913 г. у горадзе 69,7 тыс. жыхароў, 5 гімназій, рэальнае і епархіяльнае вучылішчы, духоўная семінарыя, прагімназія, 5 падрыхтоўчых і 2 гарадскія, рэальнае і 2 народныя яўрэйскія, мужчынскае духоўнае вучылішчы, 5 царкоўнапрыходскіх школ, 2 узорныя школы, жаночая двухкласная школа і інш., камерцыйнае вучылішча, школы фельчарская і павітух, курсы бухгалтараў, заснаваны настаўніцкі інстытут.

У 1-ю сусветную вайну Магілёўская губерня была 20.7.1914 г. аб'яўлена на ваенным становішчы. У Магілёве з 8.8. 1915 г. да 26.2.1918 г. размяшчалася Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага. Нягледзячы на жорсткі рэжым ваеннага часу бальшавікі арганізавалі забастоўку рабочых трыкатажнай (1915 г.) і тытунёвай (1916 г.) фабрык. Пасля звяржэння ў лютым 1917 г. царскага самадзяржаўя ў Магілёве сканцэнтраваліся значныя контррэвалюцыйныя сілы. Савет рабочых дэпутатаў быў створаны толькі ў 2-й палове сакавіка 1917 г. 22.3(4.4).1917 г. адбылося ўстаноўчае пасяджэнне аб'яднанага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, які па сваім складзе быў эсэра-меншавіцкі. 3(16) сакавіка створана «аб'яднанка» — арганізацыя РСДРП, куды ўваходзілі бальшавікі, меншавікі і бундаўцы. У жніўні 1917 г. бальшавікі Магілёва выйшлі з яе і стварылі бальшавіцка-інтэрнацыяналісцкую арганізацыю, у складзе якой была аформлена бальшавіцкая фракцыя. Пад уплывам бальшавіцкай прапаганды сярод насельніцтва, салдат гарнізона і аховы Стаўкі (батальёна георгіеўскіх кавалераў) і пад націскам працоўных мас былі арыштаваны кіраўнікі контррэвалюцыйнага мяцяжу (так званай карнілаўшчыны) генералы Карнілаў, Маркаў, Раманоўскі, Дзянікін, Лукомскі і інш. і ўзяты пад варту. Пасля перамогі ўзброенага паўстання ў Петраградзе Стаўка на чале з генералам Духонінам адмовілася прызнаць Савецкі ўрад. Пад націскам бальшавікоў выканком Магілёўскага Савета прызнаў Савецкую ўладу. 18.11(1.12).1917 г. створаны Ваенна-рэвалюцыйны камітэт, які ўстанавіў кантроль над Стаўкай. 20 лістапада (3 снежня) Стаўка занята атрадам рэвалюцыйных войск на чале з М. В. Крыленкам. 28.11 (11.12).1917 г. ВРК выдаў дэкрэт аб нацыяналізацыі памешчыцкіх маёнткаў у губерні і перадачы іх зямельным камітэтам.

З 12.3.1918 г. горад быў акупіраваны легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, з 26.5 да 31.10.1918 г.— германскімі войскамі. Ва ўмовах акупацыі дзейнічаў (з мая да кастрычніка 1918 г.) Магілёўскі падпольны райком РКП(б) на чале з А. А. Брэгманам. У маі 1918 г. некалькі партызанскіх атрадаў выгналі захопнікаў з Лупалава і 28 мая стварылі тут Савет рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў.

За перыяд акупацыі 1918 г. горад быў разрабаваны і разбураны. Адразу ж пасля вызвалення пачалося аднаўленне прамысловых прадпрыемстваў. У пачатку 1919 г. дзейнічалі чыгуналіцейна-механічны, маслабойны, піваварны, 2 мылаварныя заводы, лесапільні, гарбарныя і інш. прадпрыемствы, тытунёвая і гільзавая фабрыкі, гарадская друкарня. У чэрвені 1919 г. Магілёў наведаў з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя» старшыня ВЦВК М. І. Калінін. У 1920 г. было 49 школ 1-й і 22 школы 2-й ступеней, саўпартшкола, 5 рабочых клубаў, Народны дом, Дом селяніна, 7 бібліятэк, музей. У 1919 г. заснавана першая на Беларусі дзяржаўная музычная школа імя М. А. Рымскага-Корсакава, у 1921 г. адкрыты педтэхнікум. Створаны сімфанічны аркестр, студыя выяўленчага мастацтва, адкрыты кінатэатр, працаваў драматычны тэатр. Па ініцыятыве магілёўскага «Пралеткульта» ў 1919—20 гг. створана сетка тэатральных гурткоў. У 1924 г. прафесійнымі і самадзейнымі артыстамі ў горадзе пастаўлена першая беларуская савецкая опера «Вызваленне працы» М. Чуркіна. У 1920-я гады тут дзейнічала філія аб'яднання беларускіх пісьменнікаў «Маладняк», якая выдала ў 1927 г. альманах «Дняпроўскія ўсплёскі». Пасля рэарганізацыі (1928 г.) «Маладняка» ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў Магілёўская філія выпускала альманах «Ранне» (1929 г.).

З 26.4.1919 г. да 3.3.1924 г. павятовы цэнтр Гомельскай губ., з 1924 г. цэнтр раёна, у 1924—30 гг.— акругі, з 1938 г.— вобласці. У 1939 г. 99,4 тыс. жыхароў. За гады першых пяцігодак Магілёў стаў адным з буйных прамысловых і культурных цэнтраў рэспублікі. На 1.1.1940 г. у горадзе 210 прадпрыемстваў (13 тыс. рабочых), у т. л. аўтарамонтны завод імя С. М. Кірава, трубаліцейны, металаапрацоўчы імя Г. Дзімітрава заводы, фабрыкі штучнага валакна імя В. У. Куйбышава, швейная імя В. Валадарскага і інш. прадпрыемствы. Працавалі 22 агульнаадукацыйныя школы, педагагічны і настаўніцкі (з 1937 г.) інстытуты, 5 тэхнікумаў, 12 клубаў, 2 кінатэатры, драматычны тэатр, 13 бібліятэк, краязнаўчы музей з філіяламі: антырэлігійным музеем (з 1932 г.) і мемарыяльным музеем Р. К. Арджанікідзе (з 1937 г.).

З першых дзён Вялікай Айчыннай вайны на ўсход краіны было адпраўлена абсталяванне металакамбіната, фабрык швейнай імя В. Валадарскага і штучнага валакна, гарбарнага завода, увесь рухомы састаў Магілёўскага аддзялення чыгункі. У ваеннабудаўнічых работах удзельнічала больш за 40 тыс. чалавек. Для абароны горада былі сфарміраваны знішчальныя батальёны, а потым атрады народнага апалчэння. З 3 да 26 ліпеня 1941 г. савецкія воіны і апалчэнцы героічна абаранялі Магілёў. Непасрэдна горад абараняла 172-я стралковая дывізія (генерал-маёр М. Ц. Раманаў) 61-га стралковага корпуса.

Нямецка-фашысцкія захопнікі ўстанавілі ў Магілёве жорсткі акупацыйны рэжым. Тут былі створаны 341-ы перасыльны лагер для савецкіх ваеннапалонных, лагер смерці у Лупалаве, Грабянёўскі канцлагер, гета ў раёне Дубровенкі. Толькі ў прыгарадным лесе каля вёсак Пашкава і Палыкавічы гітлераўцы расстралялі больш за 40 тыс. ваеннапалонных і мірных грамадзян. Каля 30 тыс. магіляўчан вывезена на прымусовыя работы ў Германію. У акупіраваным горадзе дзейнічала камуністычнае падполле (з жніўня 1941 г. да чэрвеня 1944 г.), якое ўзначальвалі Магілёўскія падпольныя абком і райком КП(б)Б (сакавік 1943 г.— ліпень 1944 г.). Барацьбой моладзі кіравалі Магілёўскія падпольныя абком (ліпень 1942 г.— ліпень 1944 г.) і гарком ЛКСМБ (студзень 1943 г.— ліпень 1944 г.). Першыя падпольныя групы М. Ц. Гарбачова, А. В. Гарошкі і П. І. Бялько (у вагонных дэпо), М. М. Яўціхіева (на хлебазаводзе), В. І. Батуры, М. І. Харкевіча (на аўтарамонтным заводзе), С. С. Сабалеўскага (на фабрыцы штучнага валакна), М. П. Куўшынава (у гарадской бальніцы), В. Дз. Швагрынава (група былых камандзіраў Чырвонай Арміі) і інш. былі створаны ў жніўні — верасні 1941 г. Вядучую ролю ў арганізацыі і аб'яднанні патрыятычных сіл Магілёва адыграла група К. Ю. Мэтэ, якая да вясны 1942 г. разам з большасцю інш. груп вырасла ў шырока разгалінаваную падпольную арганізацыю «Камітэт садзеяння Чырвонай Арміі». Камітэт выпускаў газету «За Родину» (з восені 1942 г.— «За Советскую Родину»). 27.6.1944 г. у выніку Магілёўскай аперацыі войск 2-га Беларускага фронту часці 49-й арміі (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) ва ўзаемадзеянні з часцямі 50-й арміі (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) замкнулі кальцо акружэння групоўкі войск праціўніка вакол Магілёва і 28 чэрвеня разграмілі яе. Магілёў быў вызвалены.

На дзень вызвалення горада ў ім было менш як 10 тыс. жыхароў. З 6653 будынкаў былі разбураны ці спалены 3220. За кароткі тэрмін адноўлены электрастанцыя, гарадская гаспадарка, школы, культурна-асветныя і медыцынскія ўстановы. У 1945 г. працавалі 25 прамысловых прадпрыемстваў і арцелей, у 1950 г.— 62 прадпрыемствы, аб'ём прадукцыі іх перавышаў даваенны ўзровень.

* * *

Планіровачным ядром Магілёва быў умацаваны драўляны замак, закладзены у сутоку Дняпра і Дубровенкі. Да замка прылягаў пасад. Тэрыторыя замка і пасада знаходзілася на высокім узгорку, які абкружалі выгіны Дняпра і яго прытока р. Дубровенка. У 15 ст. тэрыторыя горада складалася з умацаванага замка (дзядзінца), Нагорскага пасада (пазней Стары горад), была абмежавана з заходняга і ўсходняга бакоў рэкамі Дняпро і Дубровенка, з



I. *Ратуша. Здымак пачатку 20 ст.*



I. *Завод «Строммашына» імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Адміністрацыйны корпус.*

паўночнага — глыбокім ровам. На працягу 16 ст. тэрыторыя пасада значна расшырылася, на поўнач ад яго ўзнікла новая жылая забудова (пазней Новы горад), адначасова пасяленні ўзніклі за Дняпром і Дубровенкай. Планіровачная структура Магілёва развівалася на прынцыпах старажытнарускіх гарадоў. Значнай была роля замка, што выконваў абарончую і адміністрацыйную функцыі. Умацаванні замка складаліся з драўляных сцен і вежаў, якія ў плане ўтваралі замкнёны пяцівугольнік. Усяго было 7 шмат'ярусных вежаў, паміж імі знаходзіліся 133 двух'ярусныя гародні (драўляныя зрубы, засыпаныя зямлёй і каменнем). У канцы 16 ст. драўляныя замкавыя ўмацаванні знаходзіліся ў паўразбураным стане. На працягу 1601—33 гг. узведзены новыя, якія складаліся з 3 насыпных земляных валоў з бастыёнамі. Першы (Замкавы вал) даўжынёй каля 613 м абкружаў тэрыторыю замка, другі — Кругавы (або Бліжні) даўжынёй каля 1449 м ахопліваў Стары горад, трэці — Палявы (або Далёкі) даўжынёй каля 5242 м абкружаў Новы горад. Паміж замкам і пасадам каля замкавага рова знаходзілася гандлёвая плошча, якая мела форму няправільнага многавугольніка і ў 1604 г. займала тэрыторыю больш за 2 га. На ёй размяшчалася 26 радоў крам. Сістэма асноўных вуліц горада фарміравалася з улікам дарог са Шклова, Вільні, Быхава, Мсціслава. Яны з'яўляліся пачаткамі радыяльных вуліц, што сыходзіліся на гандлёвай плошчы. У планіровачнай структуры вылучаліся 2 галоўныя вуліцы — Шклоўская (сучасная Першамайская) і Ветраная (сучасная Ленінская), якія перасякалі горад з поўначы на поўдзень. У тых месцах, дзе гарадскія вуліцы праходзілі праз земляны абарончы вал, ставіліся драўляныя або мураваныя брамы. У Кругавым вале было 4 брамы: драўляная Ветраная брама на Ветранай вул., мураваная Каралеўская на Шклоўскай вул., мураваная Алейная адкрывала спуск да Дняпра, драўляная Дубровенская (ці Малая) вяла да моста цераз Дубровенку. У Палявым вале было 8 драўляных брам (Курдзянеўская, Лядзвеева, Шклоўская, Віленская, Уструшанская, Трысёнская, Быхаўская і Папінская), 3 з іх (Шклоўская, Віленская і Быхаўская) размяшчаліся на галоўных вуліцах такой жа назвы. У 17 ст. цэнтрам планіровачнай структуры заставаўся ўмацаваны замак. Асноўным адміністрацыйным і грамадскім цэнтрам стала гандлёвая плошча. Пабудавана мураваная ратуша. Горад падзяляўся на Нагорскі (Стары горад), Шклоўскі, Віленскі, Задубровенскі, Папінскі (уваходзілі ў сістэму абарончых умацаванняў), Пакроўскі, Траецкі і Лупалаўскі (не мелі абарончых умацаванняў) пасады. Сярод збудаванняў 17 — 1-й трэці 18 ст. вылучаліся ратуша, Спасаўскі манастыр, архірэйскі палац, Богаяўленскі брацкі манастыр, касцёл і калегіум езуітаў, кляштар кармелітаў з Станіславаўскім касцёлам (захаваўся), бернардзінскі манастыр, цэрквы Мікалаеўская (захавалася), Успенская, Пакроўская і Петрапаўлаўская. Архітэктурныя збудаванні, творы мясцовых гравёраў на медзі, мастакоў іканапісу і разьбы па дрэве сведчылі аб фарміраванні ў Магілёве высокаразвітай мастацкай культуры са своеасаблівымі мясцовымі традыцыямі, прыёмамі і формамі.

Пасля ўз'яднання з Расіяй пачаліся работы па ўпарадкаванню планіроўкі і забудовы Магілёва. Праект 1778 г. прадугледжваў рэгулярную планіровачную структуру горада. Абарончыя збудаванні знаходзіліся ў паўразбураным стане і страцілі на той час стратэгічнае значэнне. У 1809 г. у цэнтральнай частцы скапаны Кругавы вал і засыпаны роў. На месцы вала ўтварылася новая плошча, якая пазней была названа Тэатральнай. Шклоўская і Ветраная вуліцы сталі прамалінейныя. У канцы 18 — пачатку 19 ст. на гандлёвай плошчы створаны новы архітэктурны ансамбль [узведзены дамы губернатара, віцэ-губернатара і 2 саветнікаў, будынкі губернскага ўпраўлення, ніжняга суда, урачэбнай управы і архіва (захаваўся)], плошча названа Губернатарскай. На месцы былога замка разбіты гарадскі сквер. У гэты ж час на Шклоўскай вул. створаны ансамбль Саборнай плошчы. Цэнтрам кампазіцыі з'яўляўся Іосіфаўскі сабор (1780—98 гг., архіт. М. Львоў; не захаваўся), пазней тут пабудаваны 2 флігелі і будынак экзерцыргауза (1815—31 гг.; архіт. В. Стасаў; захаваліся рэшткі). У цэнтральнай частцы горада ўзведзены мураваныя жылыя і грамадскія будынкі, брамы Шклоўская, Быхаўская, Віленская, Чарнігаўская, Чавуская (не захаваліся; уцалелі жылыя дамы № 7 і 39 на сучаснай Ленінскай вул.).

На планіровачную структуру Магілёва зрабіла ўплыў пракладка Пецярбургска-Адэскай чыгункі. Кампазіцыйнай воссю ўсёй планіровачнай структуры Магілёва стаў Дняпроўскі праспект. Тут размяшчаліся Губернатарская, Саборная, Прывакзальная і Тэатральная (узнікла пасля будаўніцтва мураванага будынка гарадскога тэатра) плошчы. На Кацярынінскай вул., якая была працягам Дняпроўскага праспекта, склалася Прывакзальная плошча з будынкам чыгуначнага вакзала. Манументальны выгляд мелі будынкі Аляксандраўскага рэальнага і жаночага епархіяльнага вучылішчаў, жаночай і мужчынскай гімназій. Аднак горад развіваўся вельмі супярэчліва. З аднаго боку пашыралася тэрыторыя, узводзіліся будынкі новага тыпу, з другога — нерэгулярная забудова цэнтра і ўскраін, дрэнны санітарны стан ускраін.

У гады першых пяцігодак у горадзе, апрача рэканструкцыі існуючых прамысловых прадпрыемстваў, былі пабудаваны новыя фабрыкі і заводы. Развіццё прамысловасці выклікала неабходнасць будаўніцтва жылля. Шматкватэрныя жылыя дамы размяшчалі на галоўных вуліцах, а таксама на свабодных тэрыторыях. Адным з першых шматпавярховых жылых дамоў секцыйнага тыпу быў будынак па вул. Першамайскай, 22 (1930 г.). Аналагічныя па канструкцыі і планіровачнай схеме жылыя дамы пабудаваны на вул. Будзённага і інш. Будаўніцтва шматпавярховых шматкватэрных дамоў новага тыпу адкрывала перспектывы комплекснай забудовы жылых раёнаў. Прыкладам новай жылой забудовы з'яўляецца рабочы пасёлак аўтарамонтнага завода па вул. Аршанскай, будаўніцтва якога пачалося ў 1930-я гады; уключаў комплекс гандлёвых устаноў, школу, дзіцячы сад.

Паводле першага генеральнага плана сацыялістычнай рэканструкцыі горада (складзены ў 1936—39 гг. інстытутам «Белдзяржпраект») захоўвалася ў асноўным гістарычная планіровачная структура, адначасова прадугледжвалася пракладка магістралі ў папярочным напрамку (сучасны праспект Міру) і новых паўкальцавых магістралей. Развіццё Магілёва было вызначана ва ўсходнім напрамку з набліжэннем да Дняпра — прыроднай кампазіцыйнай архітэктурнай восі. Адміністрацыйна-грамадскім цэнтрам стала плошча імя

Леніна, размешчаная на перакрыжаванні вул. Першамайскай і праспекта Міру. У 1938—40 гг. тут пастаўлены Дом Саветаў, адміністрацыйны будынак (цяпер машынабудаўнічы інстытут), франтальны дом па вул. Першамайскай і 2 вуглавыя на скрыжаванні вул. Першамайскай і праспекта Міру. Сярод будынкаў даваеннага часу вылучаюцца таксама гасцініца «Дняпро» (архіт. А. Воінаў), кінатэатр «Радзіма» (архіт. У. Вараксін).

Генеральны план аднаўлення і рэканструкцыі Магілёва 1947—50 гг. распрацаваны ў інстытуце «Белдзяржпраект» (карэкціроўкі 1961 г.). У першае пасляваеннае дзесяцігоддзе адноўлены і рэканструяваны асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: заводы штучнага шоўку, пад'ёмна-транспартнага абсталявання, «Строммашына», чыгуналіцейны, мясакамбінат і інш. У планіровачнай структуры горада пачалі вылучацца асобныя прамысловыя раёны: паўднёва-заходні на правым беразе, усходні і паўночна-ўсходні на левым беразе Дняпра. Рабочыя пасёлкі забудоўваліся 2—4-павярховымі дамамі. Рэканструкцыя ўцалелых і будаўніцтва новых жылых і грамадскіх будынкаў у гэты час вяліся ў асноўным на вул. Першамайскай (у 1950-я гады завершана яе рэканструкцыя і размешчаных на ёй плошчаў імя Леніна і Савецкай). У 1960-я гады ў заходняй частцы горада ўзніклі першыя мікраараёны — Магілёў-2 (з 1962 г.), Мір 1—2 (з 1964 г.). Тут былі выкарыстаны новыя прагрэсіўныя прынцыпы планіроўкі і забудовы на свабодных тэрыторыях і рэканструкцыі раней забудаваных раёнаў. У паўднёвай частцы горада ўзведзены камбінат сінтэтычнага валакна (у вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно»), ва ўсходняй — прадпрыемствы машына- і прыборабудавання.



I. *Будынак медыцынскага вучылішча.*

Новы генеральны план забудовы Магілёва распрацаваны ў 1967—70 гг. у інстытуце «Белдзяржпраект». Пачалася комплексная шматпавярховая забудова былых ускраін — паўднёвай (былое Лупалава) і ўсходняй (былая Машэкаўка). На тэрыторыі паўднёвага раёна фарміраваліся жылыя масівы з мікрараёнамі Задняпроўскі 1, 3, 4, 5, 7; галоўныя восі яго — Пушкінскі праспект, вул. Астроўскага — забудоўваліся 5—9-павярховымі жылымі дамамі. Усходні планіровачны раён (непадалёку ад плошчы імя Леніна) складаецца з жылых раёнаў Усход і Юбілейны. Праз яр Дзебру пабудаваны пуцеправод, які звязаў заходнюю і ўсходнюю часткі з цэнтрам горада.

Буйныя грамадскія будынкі пастаўлены ў цэнтральнай частцы горада ў 1960—80-я гады: Дом палітычнай асветы (архіт. В. Шаўчэнка, А. Кучарэнка), спартыўна-клубны корпус машынабудаўнічага інстытута (архіт. М. Семяненка, А. Кучарэнка), кінатэатр «Кастрычнік» (архіт. А. Кучарэнка), Палац спорту (архіт. Г. Бенядзіктаў, В. Астаповіч), будынак абласнога статыстычнага ўпраўлення (архіт. І. Голубева), гасцініца «Магілёў» (архіт. Г. Бенядзіктаў, В. Астаповіч, А. Лукомская), новы будынак універмага (архіт. У. Пушкін), будынак пядінстытута (архіт. І. Фралоў, А. Кучарэнка), новы будынак абкома КПБ на вул. Першамайскай (архіт. Ю. Шпіт, А. Кучарэнка), Палац піянераў і школьнікаў (архіт. М. Семяненка, А. Мельнікаў), Палац культуры і тэхнікі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно» (архіт. Я. Смальгоўскі, В. Ладыгіна, В. Астаповіч), будынак праектна-тэхналагічнага інстытута аўтаматызацыі і механізацыі (архіт. В. Кільчыцкі), будынак вылічальнага цэнтра дзяржаўнага банка (архіт. Г. Аляксеева), спартыўная грабная база на Дняпры (архіт. І. Голубева) і інш. Пабудавана таксама шэраг жылых дамоў: 80-кватэрны на рагу вуліц Першамайскай і Міронава (архіт. І. Голубева), 111-кватэрны на вул. Першамайскай (архіт. А. Кучарэнка, К. Аляксееў), 228-кватэрны дом з прадпрыемствамі бытавога абслугоўвання на вул. Першамайскай (архіт. І. Фралоў, Г. Борахаў) і інш. Паводле генплана 1980—81 гг., распрацаванага ў Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытуце горадабудаўніцтва, прадугледжана стварэнне цэнтральнага, заходняга, усходняга, паўночнага і паўднёвага планіровачных раёнаў з жылымі зонамі, зонамі адпачынку, культурна-бытавымі цэнтрамі. Горад будзе развівацца ў паўночна-ўсходнім і паўночным напрамках.

Сучасны Магілёў — адзін з буйных прамысловых і культурных цэнтраў рэспублікі. Ён дае амаль палавіну прамысловай прадукцыі вобласці. Далёка за межамі рэспублікі і краіны вядома вытворчае аб'яднанне «Хімвалакно» імя У. І. Леніна — камбінат сінтэтычнага валакна і завод штучнага валакна імя В. У. Куйбышава (да 1962 г. фабрыка штучнага шоўку). Працуюць: прадпрыемствы машынабудавання і металаапрацоўкі — аўтамабільны імя С. М. Кірава, ліфтабудаўнічы, «Строммашына» імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, «Чырвоны металіст», тэхналагічнай аснасткі заводы; прыборабудавання — завод «Тэхнапрыбор»; электратэхнічнай прамысловасці — завод «Электрарухавік» і інш., а таксама заводы металургічны імя А. Ф. Мяснікова, жалезабетонных канструкцый, тэхналагічных металаканструкцый, сантэхзагатовак, рэгенератарны і інш.; камбінаты будаўнічых матэрыялаў і сілікатных вырабаў, домабудаўнічы. Развіта лёгкая (камбінат шаўковых



I. *Забудова вуліцы Піянерскай.*



I. *Забудова вуліцы Касманаўтаў.*



*I. Забудова праспекта Пушкіна.*

тканін, швейная, абутковая і інш. фабрыкі, гарбарны завод), харчовая і мяса-малочная прамысловасць.

За мужнасць і стойкасць, праяўленыя працоўнымі горада ў гады Вялікай Айчыннай вайны, і за поспехі, дасягнутыя ў гаспадарчым і культурным будаўніцтве, Магілёў 25.4.1980 г. узнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

У 1985—1986 навучальным годзе ў Магілёве: машынабудаўнічы (з 1961 г.), педагагічны імя А. А. Куляшова (з 1918 г.) і тэхналагічны (з 1973 г.) інстытуты, 8 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў (політэхнічны, будаўнічы, бібліятэчны, хіміка-тэхналагічны тэхнікумы, педагагічнае, медыцынскае, музычнае і культурна-асветнае вучылішчы); 37 агульнаадукацыйных школ, 6 вячэрніх і пазменных школ рабочай моладзі, 14 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў; 7 музычных і 1 мастацкая школы, 120 дашкольных устаноў. Працуюць аддзяленні Інстытута фізікі (з 1970 г.) і Фізіка-тэхнічнага інстытута (з 1970 г.) АН БССР, абласная бібліятэка імя У. І. Леніна (з 1938 г.), 56 масавых бібліятэк, 34 клубныя ўстановы, 47 кінаўстановак, 4 музеі (у т. л. абласны краязнаўчы музей), абласныя драматычны тэатр і тэатр лялек. Выдаецца абласная газета «Магілёўская праўда». Ёсць аддзяленні Саюза пісьменнікаў БССР, Беларускага тэатральнага аб'яднання, арганізацыі Саюза журналістаў БССР, Саюза мастакоў БССР, Саюза архітэктараў БССР.

У абласным цэнтры 10 бальніц, 19 паліклінік, 6 дыспансераў, 96 фельчарскіх пунктаў, 5 урачэбных пунктаў, 4 санстанцыі, 23 аптэкі. Помнікі: У. І. Леніну; С. М. Кіраву; А. Ф. Мяснікову; М. Горкаму; А. С. Пушкіну; Герою Савецкага Саюза І. С. Лазарэнку; бюст двойчы Героя Савецкага Саюза І. І. Гусакоўскага; воінам-вызваліцелям; на брацкай магіле апалчэнцаў, расстраляных гітлераўцамі; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; савецкім воінам на вайсковых могілках; на магіле ахвяр фашызму; мемарыяльныя комплексы «Змагарам за Савецкую ўладу» і на месцы Лупалаўскага лагера смерці і брацкай магіле савецкіх воінаў і інш.

Зона адпачынку ўключае лесапаркі Пячэрскі з штучным возерам і Любужскі, якія прылягаюць да мікрараёнаў Мір 1, Мір 2 і да Віцебскага праспекта, і парк культуры і адпачынку імя М. Горкага на правым беразе Дняпра.

*Літ.:* Віткоўскі Я. Рэвалюцыйныя гурткі 70 гг. на Беларусі.— Полымя, 1929, № 4; Герои подполья. В. 1.—4 изд.— М., 1972; Копысский З. Ю. Социально-политическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1975; я г о ж. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; Мялешка В. І. З гісторыі класавай барацьбы ў Магілёве ў першай палавіне XVII ст.— Весці АН БССР. Сер. грамадскіх навук, 1959, № 1; Опыт описания Могилёвской губернии...— Могилёв, 1882—84; Самбук С. М. Революционные народники Белоруссии (70-е — начало 80-х годов XIX в.).— Мн., 1972; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; Трубницкий А., Трубницкий М. Хроника белорусского города Могилёва: Пер. с польск.— М., 1887; Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973; Могилёв и окрестности: Справочник-путеводитель.— Мн., 1982; Могилёв: (Историко-экономический очерк).— Мн., 1971.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**1. АНСАМБЛЬ ПЛОШЧЫ ІМЯ ЛЕНІНА** (архіт., гіст., маст.). У цэнтры горада, на скрыжаванні вул. Першамайскай і праспекта Міру. Сфарміраваны ў 1938—40 гг. Адзін з першых ансамбляў савецкай архітэктуры даваеннага часу. Уключае Дом Саветаў, адміністрацыйны будынак, жылы дом на рагу вул. Першамайскай і праспекта Міру. Кампазіцыйны цэнтр — помнік У. І. Леніну перад будынкам Дома Саветаў. У 1950—60 гг. пабудаваны 5-павярховыя жылыя дамы ў паўднёвай і ўсходняй частках плошчы. Значную ролю ў ансамблі адыгрывае азеляненне: кветнік і газоны перад помнікам У. І. Леніну, партэрны сквер у цэнтры плошчы, 2 скверы па тарцах.

Дом Саветаў. На паўночным баку плошчы. Пабудаваны ў 1938—40 гг. паводле праекта архіт. І. Лангбарда. З'яўляецца дамінуючым у ансамблі. Будынак мае складанае планіровачнае і архітэктурнае вырашэнне. Яго кампазіцыя разгортваецца па выцягнутым эліпсе, утвараючы глыбокі курданёр. Да цэнтральнага прамавугольнага ў плане 8-павярховага



1. *Панарама плошчы імя Леніна.*

аб'ёму прылягаюць 2 таксама прамавугольныя ў плане 7-павярховыя. Іх у сваю чаргу фланкіруюць паўкруглыя 5-павярховыя аб'ёмы, якія заканчваюцца невялікімі прамавугольнымі крыламі. Такім чынам утвараецца пірамідальная кампазіцыя з рытмічным нарастаннем паверхаў да цэнтра будынка. Разнастайныя па вышыні і форме аб'ёмы аб'яднаны адзіным дэкаратыўным матывам — шырокімі лапаткамі на ўсю вышыню будынка, размешчанымі ў прасценках. Аб'ёмы завершаны высокімі парапетамі, на цэнтральным — барэльефная выява герба БССР. У аснове планіровачнай структуры кожнага корпуса калідорная сістэма. Галоўны ўваход размешчаны ў цэнтры будынка, тут знаходзіцца цэнтральны вестыбюль, гардэроб і сістэма лесвіц з ліфтамі. У кожным корпусе свой асобны ўваход з невялікім вестыбюлем і лесвіцай.

Дом Саветаў з'яўляецца новым тыпам адміністрацыйных збудаванняў.

П о м н і к  Л е н і н у  У л а д з і м і р у  І л ь і ч у. Устаноўлены ў 1957 г. (скульпт. П. Сабсай; бронза, граніт; агульная вышыня 12 м, вышыня скульптуры 4,5 м). П'едэстал абліцаваны гранітам. Скульптура вырашана строга і лаканічна. У. І. Ленін паказаны ў спакойнай паставе, галава крыху прыўзнята, позірк скіраваны ўдалячынь. Левая рука характэрным рухам сціскае штрыфель расшпіленага пінжака, у апушчанай правай — кніга. Сродкамі пластыкі пераканаўча адлюстраваны ўнутраная сіла і веліч правадыра. Помнік арганічна звязаны з планіроўкай плошчы і архітэктурай Дома Саветаў.

А д м і н і с т р а ц ы й н ы  б у д ы н а к. На паўднёвым баку плошчы, насупраць Дома Саветаў (бульвар Леніна, 5). Пабудаваны ў 1938—41 гг. паводле праекта архіт. П. Абросімава.



1. *Помнік У. І. Леніну.*

З 1961 г. галоўны корпус машынабудаўнічага інстытута.

У аснову аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі 5-павярховага П-падобнага ў плане будынка і яго архітэктурна-дэ-



1. *Былы адміністрацыйны будынак. План 1-га паверха.*



1. *Дом Саветаў.*




1. *Дом Саветаў. План 1-га паверха.*



1. *Былы адміністрацыйны будынак.*

каратыўнага афармлення пакладзены прынцыпы класічнай ордэрнай архітэктуры. Галоўны фасад, што выходзіць на плошчу, фланкіраваны 2 рызалітамі, вырашанымі ў выглядзе калонных порцікаў з 6 карынфскімі калонамі на вышыню 4 павераў. Першы паверх, абліцаваны гранітам, трактуецца як цокаль. Шырокая частка фасада паміж рызалітамі атынкавана і рытмічна члянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі, паміж імі размешчаны карынфскія пілястры. Дом завершаны прафіляваным карнізам і атыкавай сценкай, у цэнтры якой над галоўным уваходам барэльефная выява герба БССР. Планіровачная структура будынка заснавана на прынцыпе калідорнай сістэмы з двухбаковым размяшчэннем пакояў (аўдыторый). Асобны ўваход — у цэнтры галоўнага фасада. Тут знаходзіцца парадны вестыбюль. У 1970-я гады да галоўнага корпуса прыбудаваны спартыўна-клубны корпус, фасады якога афармлены лапаткамі і завершаны карнізам.

Будынак — новы тып адміністрацыйных збудаванняў.

Мемарыяльная дошка ў гонар палка народнага апалчэння. На будынку інстытута. Устаноўлена ў 1977 г.

У будынку перад вайной размяшчалася Магілёўская міжкраявая школа НКУС — НКДБ. 25.6.1941 г. з курсантаў школы былі створаны знішчальныя атрады, што дапамагалі органам НКУС і НКДБ знішчаць варожых парашутыстаў, шпіёнаў, дыверсантаў, ракетчыкаў-наводчыкаў. 12 ліпеня ў будынку школы сфарміраваны полк народнага апалчэння (камандзір маёр М. І. Калугін). У яго ўвайшлі апаратыўныя работнікі НКУС — НКДБ, курсанты школы, работнікі проціпаветранай абароны, каля 200 пагранічнікаў. Полк складаўся з 3 батальёнаў. У 1-ы ўваходзілі работнікі НКУС заходніх абласцей БССР і частка работнікаў пастаяннага саставу школы, у 2-і — курсанты школы міліцыі, у 3-і — работнікі мясцовай проціпаветранай абароны. 1-ы і 2-і батальёны былі ўзброены вінтоўкамі і кулямётамі, 3-і — часткова вінтоўкамі, рэвальверамі і бутэлькамі з гаручай сумессю. Па распараджэнню камандзіра 172-й стралковай дывізіі генерал-маёра М. Ц. Раманава 1-ы і 2-і батальёны былі накіраваны на перадавую лінію абароны, 3-і пакінуты ў горадзе для барацьбы са шпіёнамі і дыверсантамі. Полк апалчэнцаў трымаў абарону каля вёсак Буйнічы, Грабянёва, у раёне саўгаса «Вейна», пасёлка Гаі, цагельнага завода № 8, станцыі Магілёў-Таварны. У раёне цагельні полк на чале з М. І. Калугіным некалькі дзён стрымліваў намнога большыя сілы ворагаў, нанёс ім значныя страты. У ноч на 26.7.1941 г. апалчэнцы прыкрывалі выхад з акружэння 172-й стралковай дывізіі.

Жылы дом. На заходнім баку плошчы, на скрыжаванні вул. Першамайскай і праспекта Міру (вул. Першамайская, 42). Пабудаваны ў 1938—40 гг. з цэглы паводле праекта архіт. А. П. Воінава і А. Брэгмана. Дом 5-павярховы з 6-павярховым вуглавым аб'ёмам. Вылучаецца манументальнасцю, цэласнасцю аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Пластыку фасадаў ствараюць глыбокія балконы-лоджыі. У дэкаратыўным вырашэнні фасадаў выкарыстаны плоскія лапаткі, паміж імі прамавугольныя аконныя праёмы. У аснову планіровачнай структуры пакладзена 2-кватэрная секцыя з 4—5-пакаёвых кватэр.

Будынак — помнік жылой архітэктуры.

*Літ.:* Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч, Т. І. Чарняўская.*

**2. БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Завулак Брусава, 2. Узведзена ў 17 ст. з цэглы як аднапавярховы жылы дом.

У сярэдзіне 19 ст. перабудаваны пад царкву. Да квадратнага ў плане аб'ёму з усходу была прыбудавана трохгранная апсіда, з захаду — двух'ярусная званіца. Будынак завершаны чатырохсхільным дахам, на вільчаку ўзвышаецца драўляная галоўка, пастаўленая на чацвярык. Гладкія атынкаваныя сцены члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, завершаны шырокім карнізам. Фасады былі дэкарыраваны раслінным арнаментам паводле беларускіх народных матываў, выкананым па сырой тынкоўцы (захаваўся часткова на паўднёвай сцяне). Званіца накрыта невысокім шатром з галоўкай, першы ярус яе вырашаны як тамбур, у другім размешчаны званы. Інтэр'ер асіметрычны.

Будынак захаваў асаблівасці дойлідства 17 ст.

**3. БАРЫСАГЛЕБСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Завулак Брусава, 2. Пабудавана ў 1869 г. з цэглы побач з царквой сярэдзіны 19 ст. (былы жылы дом 17 ст.).

У плане блізкая да квадрата. Будынак завершаны высокім цыліндрычным купалам і 4 галоўкамі абапал яго. У паўночнай частцы 3 паўцыліндрычныя апсіды, якія нязначна выступаюць з асноўнага аб'ёму. Галоўны фасад увенчаны 3 франтонамі:



**2.** *Барысаглебская царква.*




**2.** *Барысаглебская царква. План.*



**3.** *Барысаглебская царква.*



**3.** *Барысаглебская царква. План.*

у цэнтры лучковым, па баках трохвугольнымі. У дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны стылізаваныя какошнікі, калонкі, руставаныя пілястры. У інтэр'еры 4 крыжовыя ў плане слупы падтрымліваюць цыліндрычны барабан купала. Пры ўваходзе — 2 слупы, на якія апіраюцца хоры.

Будынак — помнік архітэктуры эклектычнага кірунку. *Т. І. Чарняўская.*

**4. БРАЦКАЯ МАГІЛА АПАЛЧЭНЦАЎ** (гіст.). Вул. Лазарэнкі. У скверы, насупраць сярэдняй школы № 4. Пахавана каля 50 байцоў народнага апалчэння, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі 25.7.1941 г.

Калі фронт наблізіўся да Магілёва, па рашэнню абкома КП(б)Б былі створаны абласны (начальнік штаба — намеснік старшыні аблвыканкома І. М. Кардовіч) і гарадскі [начальнік штаба — сакратар гаркома КП(б)Б А. І. Марозаў] штабы атрадаў народнага апалчэння. Камандаваў народным апалчэннем абласны ваенком І. П. Ваяводзін. Атрады апалчэння арганізоўваліся на прадпрыемствах. За 3 дні ў іх уступіла 8 тыс. чалавек, да 12 ліпеня — 10 тыс., створана 14 батальёнаў. Самааддана змагаліся з ворагам апалчэнцы педагагічнага інстытута, заводаў штучнага шоўку, гарбарнага, трубаліцейнага і інш. прадпрыемстваў. Калі пачаліся баі на бліжэйшых подступах да горада, частка байцоў-апалчэнцаў была ўключана ў рады рэгулярных войск. Астатнія занялі адведзеныя ім участкі абароны. Разам з воінамі апалчэнцы трубаліцейнага завода трымалі абарону ў раёнах Машэкаўкі, чыгуначнай станцыі Магілёў-2 і мясакамбіната. Атрады заводаў штучнага шоўку і гарбарнага стрымлівалі націск ворага з боку Лупалава. Каля вёскі Пашкава і пасёлка Гаі гераічна змагаўся батальён міліцыі пад камандаваннем капітана К. Р. Уладзімірава. Тут з 250 байцоў жывымі асталіся толькі 19. Народнае апалчэнне ўпісала гераічныя старонкі ў летапіс абароны горада. Многія апалчэнцы прадаўжалі барацьбу ў радах Чырвонай Арміі, партызанскіх атрадах і падполлі. У Магілёве ёсць вул. Народнага апалчэння.

У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**5. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Аўтазаводская, на беразе Дняпра. Пахаваны 61 воін, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у палявым шпіталі і эвакашпіталях. Сярод іх — воіны 110-й, 139-й стралковых дывізій 50-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**6. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Лазарэнкі. Пахаваны 52 воіны, якія памерлі ад ран у 1944—46 гг. у шпіталі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**7. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На Машэкаўскіх могілках. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў баях у чэрвені — ліпені 1941 г. і пры вызваленні Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. ці памерлі ад ран у эвакашпіталі. Сярод пахаваных — воіны 238-й, 324-й стралковых дывізій 50-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**8. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На Машэкаўскіх могілках. Пахаваны 43 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры абароне ў 1941 г. і вызваленні ў 1944 г. горада. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**9. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На Машэкаўскіх могілках. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў баях пры абароне Магілёва ў ліпені 1941 г. і вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**10. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,2 км на ўсход ад аўтазавода імя С. М. Кірава, у лесе. Пахаваны 86 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Магілёва і Магілёўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў або памерлі ад ран у палявым шпіталі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**11. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАДПОЛЬШЧЫКА** (гіст.). На Карабанаўскіх могілках. Пахаваны 43 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні горада і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталях. Сярод пахаваных — воіны 238-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту і камсамолец, член падпольнай групы, якая дзейнічала на чыгуначным вузле, С. С. Сагалін, расстраляны гітлераўцамі ў 1943 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**12. БУДЫНАК АКРУГОВАГА СУДА** (архіт., гіст.). Савецкая пл., 1. Пабудаваны пасля 1778 г. як частка ансамбля Губернатарскай пл. Мураваны двухпавярховы будынак, у плане — выцягнуты прамавугольнік. Спачатку быў прызначаны для размяшчэння ніжняга суда, урачэбнай управы і архіва. Унутраныя капітальныя сцены дзялілі аб'ём на 3 часткі, якія належалі асобным установам і мелі самастойныя ўваходы. У 1883 г. будынак рэканструяваны пад акруговы суд. Часткова зменены дэкор фасада і ўнутраная планіроўка, надбудаваны трэці паверх. У Вялікую Айчынную вайну разбураны, адноўлены і рэканструяваны ў 1950-я гады. Цяпер тут размешчаны абласны краязнаўчы музей. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана рызалітам, які нязначна выступае, і завершана атыкавай сценкай. Паверхі аддзелены карнізнымі пояскамі. Сцены першага паверха пакрыты рустам, другога і трэцяга аздоблены руставанымі пілястрамі. Вокны дэкарыраваны прамавугольнымі ліштвамі і сандрыкамі.

Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

Мемарыяльная дошка Арджанікідзе Рыгору Канстанцінавічу. Устаноўлена ў 1975 г.

У ліпені — жніўні 1919 г. у будынку размяшчаўся штаб 16-й арміі, якая ў 1919—20 гг. вяла на тэрыторыі Беларусі абарончыя баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У ліпені 1919 г. членам Рэўваенсавета 16-й арміі прызначаны Р. К. Арджанікідзе, які выязджаў на Заходні фронт і некаторы час працаваў у будынку, дзе размяшчаўся штаб, шмат зрабіў для арганізацыі баявых дзеянняў супраць інтэрвентаў.

*Літ.:* Каменская Н. В. Белорусский народ в борьбе за Советскую власть. (1919—1920 гг.).— Мн., 1963.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**13. БУДЫНАК ЖАНОЧАГА ЕПАРХІЯЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). Вул. Вароўскага, 29. Пабудаваны ў 1889—92 гг. (архіт. П. Камбураў і М. Маркаў). Цяпер тут знаходзіцца школа-інтэрнат.

Трохпавярховы П-падобны ў плане



12. *Будынак былога акруговага суда. План 1-га паверха.*



13. *Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча. Галоўны фасад.*

мураваны будынак на высокім цокалі. Да цэнтральнай часткі далучаны больш кароткія бакавыя карпусы, якія ўтвараюць унутраны дворык. У цэнтры яго па восі галоўнага ўвахода спачатку размяшчалася царква, злучаная з будынкам крытым пераходам. У бакавых крылах, якія маюць самастойныя ўваходы, знаходзіліся жылыя і гаспадарчыя памяшканні. Галоўны фасад вырашаны ў простых формах: сцены пакрыты дэкаратыўным рустам, завершаны карнізным поясам з сухарыкамі, вокны першага і трэцяга паверхаў — прамавугольныя, у простых ліштвах, другога — лучковыя, упрыгожаны сандрыкамі. Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана нязначным рызалітам, які завершаны трохвугольным шчытом. Галоўны ўваход афармлены лучковым сандрыкам. Цэнтральная частка будынка мае калідорную сістэму планіроўкі з двухбаковым размяшчэннем класных пакояў.



13. *Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча. Дваровы фасад.*



13. *Будынак былога жаночага епархіяльнага вучылішча. План 1-га паверха.*

Будынак — помнік архітэктуры неакласіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**14. БУДЫНАК РАМЕСНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт., гіст.). На скрыжаванні вуліц Вароўскага і Пляханава, 11/23. Пабудаваны ў 1903 г. з цэглы.

Будынак двухпавярховы, прамавугольны ў плане, на высокім цокалі, пеатынкаваны. Фасады вылучаны па вул. Вароўскага цэнтральным рызалітам, па вул. Пляханава, 2,— бакавымі рызалітамі, завершанымі ступеньчатымі атыкамі, і ўвенчаны карнізам з сухарыкамі. Уваход з боку дваровага фасада. Першы паверх вулічных фасадаў дэкарыраваны рустам. Вокны першага паверха прамавугольныя з ліштвамі, другога — паўцыркульныя, маюць арачныя абрамленні з замковым каменем. У прасценках — дэкаратыўныя ўстаўкі з цэглы. Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры.

Мемарыяльная дошка ўстаноўлена ў 1968 г. на ўшанаванне памяці аднаго з 26 бакінскіх камісараў М. В. Басіна, які скончыў гэта вучылішча ў 1909 г. Гл. таксама артыкул № 2162 «Радзіма Басіна Меера Велькавіча». *Т. І. Чарняўская.*

**15. БУДЫНАК РЭАЛЬНАГА ВУЧЫЛІШЧА** (архіт.). На скрыжаванні вул. Піянерскай і Камсамольскай, № 1/3. Пабудаваны ў 1885 г. з цэглы паводле праекта інж. У. Міляноўскага. У 1950-я гады надбудаваны 2 паверхі, часткова зменены галоўны фасад. Цяпер тут педагагічнае вучылішча імя К. Дз. Ушынскага.

Чатырохпавярховы будынак з паўпадвальным паверхам у плане складанай формы: да галоўнага корпуса (выходзіць на пл. Арджанікідзе) прылягаюць 2 крылы (кароткае па вул. Піянерскай, падоўжанае па вул. Камсамольскай). Цэнтральная частка галоўнага фасада вылучана рызалітам, тут размешчаны галоўны ўваход. Па баках рызаліта па 2 пілястры на вышыню 2 паверхаў. На ўсіх фасадах прамавугольныя аконныя праёмы з простымі ліштвамі, у рызаліце — з сухарыкамі. Унутраная планіроўка калідорная: да аднабаковага калідора далучаны класныя пакоі, арыентаваныя ў бок вуліц.

Будынак — помнік грамадскіх збудаванняў з рысамі эклектычнай архітэктуры. *Т. І. Чарняўская.*

**16. БУДЫНАК СЯЛЯНСКАГА ПАЗЯМЕЛЬНАГА БАНКА** (архіт., гіст.). Вул. Міронава, 33. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца як адміністрацыйны будынак.

Двухпавярховы, Т-падобны ў плане. Прадаўгаватая частка арыентавана па вул. Першамайскую, кароткая — у двары. Галоўны фасад вылучаны 2 асіметрычнымі рызалітамі. Першы завершаны дэкаратыўнай сценкай у выглядзе стылізаванага какошніка з ляпной разеткай у цэнтры, другі — невысокай вежай з вузкімі праёмамі накшталт байніц. Атыкавая сценка паміж імі дэкарыравана ляпным геаметрычным арнаментам. Каля галоўнага ўвахода, які знаходзіцца ў цэнтры фасада, размешчаны вузкія аконныя праёмы са стылізаванымі калонкамі. На другім паверсе, над увахадам, балкон з балюстрадай. Аконныя праёмы першага



16. *Будынак былога сялянскага пазямельнага банка.*



16. *Будынак былога сялянскага пазямельнага банка. План 1-га паверха.*

паверха прамавугольныя, другога — лучковыя. Будынак мае калідорную сістэму планіроўкі: прадаўгаватая частка з аднабаковым размяшчэннем пакояў, крыло, што выходзіць у двор, з двухбаковым. Пры ўваходзе вестыбюль, дэкарыраваны аркадай. У тарцах размешчаны лесвіцы.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

Пасля таго як 20.11(3.12).1917 г. Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага была занята рэвалюцыйнымі войскамі на чале з М. В. Крыленкам, у будынку былога сялянскага пазямельнага банка размяшчалася рэдакцыя бальшавіцкай газеты «Революционная ставка», з 10(23).1.1918 г.— рэдакцыя газеты «Известия Могилевского Совета рабочих и солдатских депутатов» (№ 1—10), потым — «Известия Могилевского губернского исполнительного комитета Советов крестьянских, солдатских и рабочих



**16.** *Будынак былога сялянскага пазямельнага банка. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*



**16.** *Будынак былога сялянскага пазямельнага банка. Фрагмент інтэр'ера вестыбюля.*

депутатов». У лютым 1918 г. пасля стварэння Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта Магілёўскай губерні тут выдавалася газета «Известия Военно-революционного комитета Могилевской губернии».

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**17. БУДЫНАК, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ ШТАБ 172-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). Вул. Мяжынскага, 14, у будынку сярэдняй школы № 11. Тут у ліпені 1941 г. знаходзіўся штаб 172-й стралковай дывізіі (генерал-маёр М. Ц. Раманаў) 61-га корпуса, якая абараняла горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

3.7.1941 г. вораг выйшаў на подступы да Магілёва. На заходнім беразе Дняпра, на шашы Бабруйск — Магілёў (участак Цішоўка — Буйнічы — Сялец) абарону трымаў 388-ы стралковы полк (камандзір палкоўнік С. Ф. Куцепаў), па шашы Мінск — Магілёў (участак Пашкава — Цішоўка) — 514-ы стралковы полк (падпалкоўнік С. А. Боніч), на усходнім беразе Дняпра (па ўчастку паўднёвая ўскраіна Магілёва — Дашкаўка) — 747-ы стралковы полк (падпалкоўнік А. В. Шчаглоў). Іх падтрымлівалі 340-ы артылерыйскі полк (палкоўнік І. С. Мазалаў) і 493-і артылерыйскі полк 110-й стралковай дывізіі пад камандаваннем камісара Л. С. Анпілава (трымаў абарону ў раёне Палыкавічы — Княжыцы). Разам з воінамі ў радах абаронцаў змагаліся народныя апалчэнцы (12 тыс. чалавек), пагранічнікі, часці міліцыі, курсанты школы НКУС — НКДБ. За тыдзень вакол горада працоўныя і воіны ўзвялі абарончыя рубяжы, пракапалі 26 км процітанкавых равоў і эскарпаў, стварылі мінныя палі, абсталявалі траншэі і бліндажы, паставілі барыкады пры ўездах у горад.

Абарона Магілёва складалася з трох этапаў. На першым (3—9 ліпеня) часці 13-й арміі і карпусоў, якія змагаліся на дняпроўскім рубяжы, вялі напружаныя баі на далёкіх і блізкіх подступах да горада. 7 ліпеня нямецка-фашысцкія войскі з баямі выйшлі на рубеж Грыбачы — Княжыцы — р. Друць — Мяжысеткі — Дашкаўка, але сустрэлі моцнае супраціўленне і, адмовіўшыся ад лабавых удараў, пачалі акружаць горад. На другім этапе (9—16 ліпеня) абарончыя баі ішлі на асноўнай лініі абароны перад Магілёвам. 12 ліпеня горад паспрабавала захапіць 3-я танкавая дывізія ворага, спецыяльна перакінутая з-пад Рагачова, аднак яе спынілі воіны 388-га палка. На трэцім этапе (16—27 ліпеня) войскі, што абаранялі горад, апынуліся ў поўным акружэнні. 172-я стралковая дывізія і 493-і артылерыйскі полк 110-й стралковай дывізіі былі адрэзаны ад астатніх сіл 61-га корпуса. У гэты час з асаблівай сілай праявіліся самаадданасць і гераізм савецкіх воінаў. Генерал-маёр М. Ц. Раманаў умела манеўраваў сіламі, наладжваў узаемадзеянне часцей і забеспячэнне воінаў і апалчэнцаў боепрыпасамі, удакладненне сістэмы агню, арганізацыю контратак. У няспынных баях па некалькі разоў пераходзілі з рук у рукі прыгарадныя населеныя пункты Бароўка, Любуж, Халмы, Буйнічы, Пашкава, Казіміраўка, Пячэрск і інш. 18 ліпеня гітлераўцы захапілі станцыю Лупалава, 19 і 20 — Цішоўку, Буйнічы, цагельны завод № 7, Казіміраўку, Пячэрск. 22 ліпеня жорсткія баі разгарнуліся ў цэнтры горада. Воіны 172-й дывізіі і апалчэнцы двойчы адхілілі ультыматум аб капітуляцыі. У ноч на 26 ліпеня М. Ц. Раманаў аддаў загад аб прарыве з акружэння. З жорсткімі баямі дывізія вырвалася з кальца, злучылася з часцямі Чырвонай Арміі. У баях загінулі С. Ф. Куцепаў і І. С. Мазалаў, быў цяжка паранены М. Ц. Раманаў. Баі ў горадзе працягваліся да 28 ліпеня.

Гераічная абарона Магілёва — адна з яркіх старонак гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Абаронцы горада на доўгі час прыкавалі да сябе вялікія сілы праціўніка, не далі магчымасці нямецка-фашысцкаму камандаванню перакінуць гэтыя войскі пад Смаленск у час Смаленскай бітвы.

У 1964 г. на будынку, дзе знаходзіўся штаб 172-й стралковай дывізіі, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Анфилов В. А. Бессмертный подвиг.— М., 1971; Еременко А. И. В начале войны.— М., 1964; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**18. БУДЫНАК ЧЫГУНАЧНАГА ВАКЗАЛА** (архіт.). Прывакзальная пл. Пабудаваны ў 1902 г. з цэглы. Рэканструяваны пасля Вялікай Айчыннай вайны (часткова зменены ўнутраная планіроўка і знешні выгляд).

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з 2 невялікімі прыбудовамі па тарцах. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны рызалітам, дзе знаходзіцца галоўны ўваход, прарэзаны высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. Прасценкі паміж імі дэкарыраваны руставанымі пілястрамі. У бакавых прыбудовах аконныя праёмы прамавугольныя. Сцены завершаны прафіляваным карнізам з сухарыкамі. У асноўным аб'ёме дамінуе вялікі васьмігранны светлавы барабан, завершаны невысокай чатырохграннай вежай. У інтэр'еры ў цэнтры размешчаны двухсветлавы васьмігранны вестыбюль, да абодвух бакоў якога далучаюцца службовыя і адміністрацыйныя памяшканні.

Будынак — помнік архітэктуры неакласіцызму. *Т. І. Чарняўская.*

**19. БУДЫНКІ ГАРАДСКОЙ БАЛЬНІЦЫ** (архіт., гіст.). Вул. Боткіна, 2.

Пабудаваны ў 1802 г. як бальніца грамадскай апекі. Спачатку быў драў-

ляны будынак, у 1864 г. зроблены яшчэ 2 двухпавярховыя мураваныя карпусы (цяпер — хірургічны і радзільны). У 1912 г. пабудаваны корпус інфекцыйнага аддзялення (цяпер — тэрапеўтычнае); было 150 ложкаў, працавалі 4 урачы, 4 медсястры, 2 акушэркі, 4 фельчары. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі бальніца расшырана, укамплектавана кваліфікаванымі кадрамі, аснашчана неабходнай апаратурай. У 1940 г.— 561 ложак, 470 чалавек медыцынскага і абслуговага персаналу. Нямецка-фашысцкія акупанты разбурылі і разрабавалі бальніцу. Адноўлена ў 1945 г.

Тры мураваныя карпусы сіметрычна размешчаны вакол азяленёнага курданёра. 2 бакавыя трохпавярховыя Е-падобныя ў плане будынкі галоўнымі прадаўгаватымі фасадамі арыентаваны на лінію забудовы вуліцы. Па цэнтры іх — неглыбокія рызаліты з галоўнымі ўваходамі. Вокны прамавугольныя з ліштвамі, прасценкі рызалітаў руставаныя. Двухпавярховы П-падобны ў плане корпус галоўным прадаўгаватым фасадам арыентаваны на курданёр, сцены яго фасадаў прарэзаны прамавугольнымі вокнамі. Паміж трохпавярховымі будынкамі размешчаны двухпавярховы прамавугольны ў плане адміністрацыйны корпус. У пасляваенны час створаны новыя будынкі. Цяпер гэта буйная шматпрофільная лячэбна-прафілактычная ўстанова. З 1973 г.— бальніца хуткай дапамогі.

Мемарыяльная дошка ваенурачам. Устаноўлена ў 1966 г. на адміністрацыйным корпусе бальніцы.

У ліпені 1941 г. у бальніцы размяшчаўся шпіталь 172-й стралковай дывізіі, якая абараняла Магілёў. Калі гітлераўцы захапілі горад, увесь медыцынскі персанал шпіталя на чале са старшым урачом 388-га стралковага палка начальнікам шпіталя У. П. Кузняцовым застаўся з параненымі. За адну ноч У. П. Кузняцоў разам з урачамі Ф. І. Пашаніным і А. І. Паршыным знішчылі гісторыі хвароб камандзіраў, палітработнікаў, камуністаў, камсамольцаў (у шпіталі было каля 5 тыс. параненых), выпісалі новыя як на беспартыйных, радавых і жыхароў, што пацярпелі ад бамбёжак. Урачы пераправілі больш за тысячу воінаў, якія вылечыліся, да партызан. Правакатар выдаў патрыётаў гітлераўцам. Пасля жорсткіх катаванняў У. П. Кузняцоў, Ф. І. Пашанін і А.І. Паршын 17.11.1941 г. былі павешаны на Савецкай плошчы.

Мемарыяльная дошка падпольшчыкам. Устаноўлена ў 1976 г. на адміністрацыйным корпусе бальніцы.

У снежні 1941 г. урач М. П. Куўшынаў стварыў у бальніцы падпольную антыфашысцкую арганізацыю. У яе ўваходзілі ўрачы С. В. Мармулеўскі, К. А. Влагіна, С. П. Мельнік, муж і жонка Свірагіны, загадчыца кухні А. Пятрова, работніца кухні Е. Лемяшкова і інш. Падпольшчыкі аказвалі медыцынскую дапамогу байцам Чырвонай Арміі, якія не змаглі вырвацца з акружэння і засталіся ў горадзе, перапраўлялі іх у партызанскія атрады. М. П. Куўшынаў вёў разведвальную работу, выдаваў патрыётам фіктыўныя даведкі, каб выратаваць іх ад вывазу ў Германію, садзейнічаў адпраўцы ўрачоў да партызан, забяспечваў партызан медыкаментамі, быў адным з арганізатараў і членам Камітэта садзеяння Чырвонай Арміі. У маі 1943 г. члены групы арыштаваны і закатаваны ў гестапа. М. П. Куўшынаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**20. БЮСТ ГУСАКОЎСКАГА** Іосіфа Іраклієвіча (гіст., маст.). На вул. Першамайскай, каля Дома культуры швейнай фабрыкі імя В. Валадарскага.



20. *Бюст І. І. Гусакоўскага.*

Двойчы Герой Савецкага Саюза, генерал арміі (1968 г.) І. І. Гусакоўскі нарадзіўся 12.12.1904 г. у в. Вародзькаў Крычаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў у 1931 г. кавалерыйскую школу, у 1948 г.— Ваенную акадэмію Генштаба. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. Камандаваў узводам, эскадронам. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Варонежскім, 1-м Украінскім, 1-м і 2-м Беларускіх франтах: начальнік штаба танкавага палка, намеснік начальніка, начальнік штаба танкавай брыгады. З верасня 1943 г. камандзір 112-й (з кастрычніка 1943 г.— 44-я гвардзейская) танкавай брыгады. Удзельнічаў у баях пад Масквой, у вызваленні Тулы, Калугі, Курска, Кіева, Перамышля, Сандаміра, Любліна, Данцыга, Гдыні, у штурме Берліна. Фарсіраваў Дняпро, Днестр, Буг, Віслу, Варту, Одэр. У баях за Берлін быў цяжка паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.9.1944 г. за умелае кіраванне брыгадай і асабісты гераізм, праяўлены ў баях у час Львоўска-Сандамірскай аперацыі, і 6.4.1945 г. за арганізацыю фарсіравання р. Піліца і вызваленне г. Ловіч у ходзе Вісла-Одэрскай аперацыі. Пасля вайны на адказных пасадах у Савецкай Арміі: камандзір дывізіі, камандуючы войскамі Прыбалтыйскай ваеннай акругі, начальнік Галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны СССР. З 1970 г. ваенны інспектар-саветнік Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1962—70 гг.

Паясны бюст (скульпт. І. Пяршудчаў; бронза, граніт, бетон; вышыня бюста 2,2 м, пастамента 3,6 м, ступеньчатага стылабата 1 м) устаноўлены ў 1955 г. Пластычная форма, мадэліроўка дакладна перадаюць воб-



18. *Будынак чыгуначнага вакзала.*

раз адважнага воіна, мужнага чалавека. На пастаменце з шэрага паліраванага граніту, які выкананы ў формах класіцызму, бронзавы картуш, на ім — радкі з Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні І. І. Гусакоўскага другім медалём «Залатая Зорка».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч.*

**21. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Па вул. Лазарэнкі. Пахаваны 109 воінаў Савецкай Арміі і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 172-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, якая абараняла Магілёў у ліпені 1941 г., 49-й і 50-й армій 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Магілёва ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама Героі Савецкага Саюза Міхаіл Кандрацьевіч Буянаў, Міхаіл Апанасавіч Замулаеў, Асман Мусаевіч Касаеў і Мікалай Васілевіч Рамашка.

М. К. Буянаў нарадзіўся 28.11. 1924 г. у с. Жадзяноўка Хамутоўскага р-на Курскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Заходнім, 2-м Беларускім франтах. 28.6.1944 г. камандзір аддзялення сяржант М. К. Буянаў першы ў палку фарсіраваў Дняпро каля Магілёва, уварваўся ў варожую траншэю, знішчыў кулямётны разлік. У вулічных баях разам з інш. аддзяленнямі ў рукапашнай стычцы знішчана 80 і ўзята ў палон 123 гітлераўцы. Замяніў выбыўшага са строю камандзіра ўзвода. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

М. А. Замулаеў нарадзіўся 20.11. 1924 г. у в. Паляна Перамышльскага р-на Калужскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1943 г. Узвод 830-га палка 238-й стралковай дывізіі пад камандаваннем малодшага лейтэнанта М. А. Замулаева 27.6. 1944 г. на лодках фарсіраваў Дняпро, захапіў в. Ніжні Палавінны Лог — важны апорны пункт праціўніка на бліжэйшых подступах да Магілёва, уварваўся ў горад. М. А. Замулаеў загінуў у гэты ж дзень у вулічных баях за Магілёў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

А. М. Касаеў нарадзіўся 11.10. 1916 г. у ауле Хурзук Карачаеўскага р-на Карачаева-Чаркескай аўтаномнай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г. Скончыў педагагічны рабфак (1936 г.), Кіеўскае артылерыйскае вучылішча (1939 г.). У Чырвонай Арміі з 1937 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім фронце — начальнік артылерыі 583-га стралковага палка. Трапіў у акружэнне. 3 мая 1942 г. камісар, з ліпеня 1942 г. камандзір 121-га партызанскага атрада, пераўтворанага ў лістападзе 1943 г. у 121-ы партызанскі полк Магілёўскай вобл. Разам з іншымі атрадамі партызаны пад камандаваннем А. М. Касаева разграмілі ў 1942—43 гг. фашысцкія гарнізоны на чыгуначнай станцыі Дашкаўка, у вёсках Вугольшчына, Каменка, Аксенькавічы і інш., наносілі ўдары па чыгунцы на ўчастку Шклоў — Магілёў — Быхаў, вялі баі супраць карнікаў. У час бамбардзіроўкі варожай авіяцыяй партызанскай базы 18.2.1944 г. А. М. Касаеў загінуў. Яго імя было прысвоена 121-му партызанскаму палку. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г. На ўшанаванне памяці героя в. Сярмяжанка Бялыніцкага р-на перайменавана ў в. Асман-Касаева, дзе яму пастаўлены помнік, у ауле Учкулан Карачаеўскага р-на — бюст. Імем А. М. Касаева названы вуліцы ў Магілёве, Чаркеску, Карачаеўску.

М. В. Рамашка нарадзіўся 30.9. 1913 г. у в. Дусаеўшчына Капыльскага р-на Мінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў у саўгасе. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўночна-Заходнім і 2-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра зенітнага артылерыйскага палка па палітчастцы маёр М. В. Рамашка вызначыўся ў Беларускай аперацыі. 30.6.1944 г. пры абароне чыгуначнага моста і пераправы цераз Бярэзіну каля в. Свіслач Асіповіцкага р-на замяніў камандзіра кулямётнай роты, які выбыў са строю, асабіста знішчыў каля 200 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. Яго імем названы вуліцы ў Магілёве і Капылі, на радзіме пастаўлены помнік.

У 1965 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін з аўтаматам і дзяўчына, 19 надмагільных пліт з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Дорога в бессмертие.— Мн., 1967; Поленков К. А., Хромиенков Н. А. Калужане—Герои Советского Союза.— Калуга. 1963; Люди легенд. В. 4.— М., 1971; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. Б. Караткевіч.*

**22. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Змяёўка. На правым беразе р. Дубровенка (за 1,5 км вышэй упадзення яе ў Дняпро). Абследаваў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, раскопкі ў 1973 г. праводзіў Я. Р. Рыер. Даследавана 22 м² плошчы. Прасочаны 3 культурныя пласты: у ніжнім знойдзены рэшткі посуду культуры штрыхаванай керамікі ранняга жалезнага веку (6 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.); сярэдні адносіцца да 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э., для яго характэрны рэшткі ляпной керамікі; верхні меў фрагменты ганчарнай керамікі 11—12 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— [Вильна, 1912]. *Л. У. Дучыц.*

**23. ГАСЦІНІЦА «МАГІЛЁЎ»** (архіт.). Праспект Міру, 6. Пабудавана ў 1972 г. (архіт. В. Астаповіч, Г. Бенядзіктаў, А. Лукомская).

Будынак 14-павярховы, пастаўлены перпендыкулярна да праспекта. Разлічаны на 654 месцы. Вырашаны ў простых манументальных формах, адпаведных яго вышыннаму аб'ёму. Першыя 2 паверхі маюць суцэльнае зашкленне, астатнія вырашаны адзіным аб'ёмам з рэгулярным рытмам балконаў-лоджый. У архітэктурны дэкор галоўнага фасада ўведзены канструкцыйныя металічныя дэталі, якія ўзбагачаюць яго пластыку; фасад, што выходзіць на праспект, члянёны вертыкальнай стужкай аконных праёмаў. На першым паверсе прасторны вестыбюль, хол, службовыя памяшканні. У інтэр'еры вестыбюля дэкаратыўнае пано (медзь, чаканка;



22. *Гарадзішча. Здымак 1951 г.*




23. *Гасцініца «Магілёў».*



23. *Гасцініца «Магілёў». План 1-га паверха.*




23. *Гасцініца «Магілёў». Фрагмент пано ў вестыбюлі.*

мастак Ю. Любімаў). На другім паверсе знаходзяцца рэстаран, кафэ і камбінат бытавога абслугоўвання. Да 14-павярховага корпуса па лініі забудовы праспекта прылягае 2-павярховы спартыўны блок з плавальным басейнам і фізкультурнай залай. Перад гасцініцай — невялікая плошча з стаянкамі для аўтамашын.

Гасцініца — прыклад грамадзянскай архітэктуры 1970-х гадоў.

*Т. І. Чарняўская.*

**24. ДОМ, У ЯКІМ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬНАЙ ГРУПЫ ЯЎЦІХІЕВА** Міхаіла Міхайлавіча (гіст.). Вул. Першамайская, 27. У Вялікую Айчынную вайну ў гэтым доме ў кватэры настаўніцы Л. М. Лакцютка-Багатавай у 1941—43 гг. была явачная кватэра падпольнай групы, якая дзейнічала на хлебазаводзе. Група створана ў жніўні — верасні 1941 г. сакратаром партыйнай арганізацыі, механікам прадпрыемства М. М. Яўціхіевым. У кастрычніку 1941 г. у яе ўвайшла група студэнта Магілёўскага пединстытута А. І. Рослава. Праз яго падпольшчыкі трымалі сувязь з Камітэтам садзеяння Чырвонай Арміі. Члены групы: Н. І. Нікіціна, Э. І. Каханская, Ф. Л. Кажанаў, М. А. Ліхуноў, Н. І. Пшыркова, У. С. Шастакоў, В. І. Чаркашын, С. Зайцаў, Ю. Дзідзенка, М. Чугрэеў і інш. Падпольшчыкі збіралі для партызан зброю, боепрыпасы і медыкаменты, звесткі аб раскватараванні вайсковых часцей і інш. разведданыя, арганізоўвалі ўцёкі ваеннапалонных, займаліся дыверсіямі. М. М. Яўціхіеў падрабіў ключ ад афіцэрскага пакоя на заводзе, дзе быў радыёпрыёмнік. Падпольшчыкі слухалі радыё і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. У студзені 1942 г. гітлераўцы рыхтаваліся да пуску аднаўленага хлебазавода на Першамайскай вул. М. М. Яўціхіеў замарозіў сістэму водазабеспячэння, здача прадпрыемства ў эксплуатацыю была сарвана больш як на год. Напярэдадні 1943 г. падпольшчыкі спалілі дом, дзе жылі нямецкія афіцэры. Гітлераўцы напалі на след групы. У пачатку 1943 г. падпольшчыкі пераправілі А. І. Рослава ў 600-ы партызанскі атрад 6-й Магілёўскай брыгады. М. М. Яўціхіеў застаўся ў горадзе. Арыштаваны ў чэрвені 1943 г. і пасля катаванняў у жніўні 1943 г. расстраляны. У 1966 г. у памяць аб дзейнасці падпольшчыкаў на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*В. Б. Караткевіч.*

**25. ЗАБУДОВА ЛЕНІНСКАЙ ВУЛІЦЫ** (архіт., гіст.). Вул. Ленінская знаходзіцца ў цэнтральнай частцы горада, звязвае плошчы Савецкую і імя Леніна, адна з старажытных (у 18 ст. называлася Ветраная, у 19 ст.— Малая Садовая). Пачыналася ад гандлёвай пл. (пазней Губернатарская, цяпер Савецкая) і вяла да Ветраной брамы абарончага вала. Захаваліся помнікі гісторыі, жылой і грамадзянскай архітэктуры канца 18 — пачатку 20 ст. Уся забудова папярочнымі вуліцамі падзяляецца на некалькі ўчасткаў.

Д о м № 1. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы як будынак гарадской управы. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова. Складаецца з 2 прамавугольных у плане частак: 3-павярховай, якая тарцовым фасадам выходзіць на Савецкую плошчу, і 2-павярховай, якая падоўжаным фасадам выходзіць на вул. Ленінскую. Галоўны тарцовы фасад падзелены карнізнымі цягамі папавярхова на 3 ярусы. Першы дэкарыраваны 4 масіўнымі руставанымі пілонамі, паміж якімі ў цэнтры — галоўны ўваход, а па баках — па 2 вузкія паўцыркульныя аконныя праёмы. Другі дэкарыраваны падвойнымі пілястрамі, паміж якімі спараныя паўцыркульныя аконныя праёмы з ліштвамі і сандрыкамі. Трэці мае невялікія прамавугольныя аконныя праёмы, паміж імі — шырокія лапаткі. Падоўжаны фасад рытмічна члянёны прамавугольнымі і паўцыркульнымі з сандрыкамі аконнымі праёмамі і міжпаверхавым паяском. Унутраная планіроўка анфіладная (у тарцовай частцы) і калідорная з двухбаковым размяшчэннем пакояў (у падоўжанай частцы). Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры эклектычнага кірунку.



25. *Дом № 1 па вуліцы Ленінскай.*




25. *Дом № 1 па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*

М е м а р ы я л ь н а я д о ш к а ў г о н а р 2-г а г у б е р н с к а г а з'е з д а С а в е т а ў р а б о ч ы х і с а л д а ц к і х д э п у т а т а ў. Устаноўлена ў 1957 г.

Савецкая ўлада ў Магілёўскай губерні ўсталёўвалася ў жорсткай барацьбе з контррэвалюцыяй. У Магілёве размяшчалася Стаўка вярхоўнага галоўнакамандуючага на чале з М. М. Духонiным, вакол якой аб'ядналіся сілы рэакцыі. Тут былі ваенныя місіі Англіі, ЗША, Францыі. Стаўка стала цэнтрам антысавецкай змовы. 9(22).11.1917 г. Савецкі ўрад адхіліў М. М. Духоніна ад пасады вярхоўнага галоўнакамандуючага і прызначыў на яе бальшавіка М. В. Крыленку. З Петраграда ў Магілёў быў накіраваны атрад з матросаў Балтыйскага флоту, чырвонагвардзейцаў Петраградскага гарнізона і салдат Літоўскага палка, а таксама атрады рабочых-добраахвотнікаў і салдат з Полацка, Мінска, Гомеля і інш. гарадоў. 18.11(1.12) адбылося пашыранае пасяджэнне Магілёўскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў, якое пры падтрымцы рэвалюцыйных салдат і рабочых прызнала Савецкую ўладу. Быў перавыбраны выканком Савета. Улада ў Магілёве і кантроль над Стаўкай перайшлі ў рукі ваенна-рэвалюцыйнага камітэта. Вечарам 19.11(2.12) у горад прыбыў М. В. Крыленка са штабам новай Стаўкі, начальнікам якога быў прызначаны генерал М. Дз. Бонч-Бруевіч. Новая Стаўка пачала працаваць 20.11(3.12). 1917 г.

15(28).12.1917 г. у будынку гарадской управы адкрыўся 2-і губернскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. На ім абмяркоўваліся пытанні аб становішчы на месцах, аб бягучым моманце, аб арганізацыі Савецкай улады ў губерні і інш. З'езд выказаў поўную падтрымку Савецкаму ўраду, зацвердзіў тэзісы аб арганізацыі Савецкай улады ў губерні, выбраў губернскае бюро Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў, якое 1(14).1.1918 г. аб'ядналася з губерн-

скім бюро Саветаў сялянскіх дэпутатаў, выбраным 22.12.1917 г. (4.1. 1918 г.) на 3-м з'ездзе сялянскіх дэпутатаў губерні. Аб'яднанае бюро Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў стала вышэйшым часовым органам улады ў Магілёўскай губерні.

Дамы № 3, 5/1, 5/2. Пабудаваны ў 19 ст. з цэглы. Ствараюць адзіны комплекс з домам № 1. Цяпер тут адміністрацыйныя ўстановы. Двухпавярховыя, прамавугольныя ў плане (дом № 5/1 мае невялікае крыло з боку дваровага фасада), галоўныя фасады вырашаны аднатыпова: гладкая сцяна члянёна прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Фасад дома № 5/1 падзелены міжпаверхавым карнізным поясам, дома № 5/2 на другім паверсе дэкарыраваны прамавугольнымі нішамі і падаконнымі плітамі. Унутраная планіроўка ўсіх дамоў анфіладная. Будынкі — прыклад эклектычнай архітэктуры.

Дом № 3а. У двары дамоў № 1—7, пабудаваны ў канцы 18 — пачатку 19 ст. з цэглы як жылы дом. Прамавугольны ў плане двухпавярховы будынак з падвалам. Вуглавая плоскасць паміж фасадамі, арыентаванымі ў бок Дняпра і Савецкай пл., скошана. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў простых ліштвах. Паверхі падзяляе карнізны пояс, сцены завершаны развітым прафіляваным карнізам. Унутраная планіроўка анфіладнага тыпу. Будынак — помнік жылой архітэктуры класіцызму.

Дом № 7. Пабудаваны ў 1790 г. з цэглы як жылы. Цяпер тут знаходзіцца дзіцячая ўстанова. Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак з закругленай вуглавой часткай. З боку галоўнага фасада знаходзіцца арачны праезд ва ўнутраны двор. Цэнтральная частка галоўнага фасада з мансардай вылучана трохвугольным франтонам і фрызам з трыгліфамі. Паверхі аддзелены карнізным пояском. Гладкія сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, абрамленымі на другім паверсе ліштвамі з замковым каменем. У вуглавой частцы дваровага фасада размешчаны ўваход у будынак, невялікі вестыбюль з лесвіцай на другі паверх, вакол якіх — жылыя памяшканні. Будынак — помнік архітэктуры класіцызму.

Комплекс дамоў № 11, 11а, 13, 15 уваходзіў у ансамбль Спаскага манастыра (16—17 стагоддзі), на тэрыторыі якога з 2-й паловы 18 ст. размяшчаўся архірэйскі двор, у 1780-я гады быў пабудаваны комплекс духоўнай семінарыі (не захаваўся).

Дом № 11. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы як жылы корпус Спаскага манастыра. Складаецца з двухпавярховага корпуса з падвалам (галоўным тарцовым фасадам выходзіць на



25. *Дом № 7 па вуліцы Ленінскай.*



25. *Дом № 7 па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*

вул. Ленінскую) і аднапавярховага крыла, прыбудаванага з боку двара. Фасады двухпавярховага корпуса аздоблены на вышыню 2 паверхаў пілястрамі, якія завяршаюцца іанічнымі капітэлямі. Высокія прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны ліштвамі з замковым каменем. Дэкаратыўным элементам фасадаў з'яўляюцца падаконныя прамавугольныя нішы. Фасад аднапавярховага крыла члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі і ўпрыгожаны міжаконнымі лапаткамі. Унутраная планіроўка зменена. Будынак мае рысы пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

Дом № 11а, архірэйскі палац. Пабудаваны ў 1762—85 гг. з цэглы паводле праекта архіт. І. Глаўбіца. Выкарыстоўваецца як жылы дом.

Трохпавярховы будынак пакрыты высокім ламаным дахам. У плане прамавугольнік з сіметрычнымі двухпавярховымі рызалітамі ў бакавых частках. Пластычнае вырашэнне галоўнага і дваровага фасадаў — крывалінейны пераход да бакавых рызалітаў, складаныя па малюнку ліштвы аконных праёмаў, прамавугольныя падаконныя нішы, тонкапрафіляваныя карнізы. Рызаліты і бакавыя фасады вырашаны ў строгім дэкоры: спрошчанае абрамленне акон, глыбокі гарызантальны руст сцен. У інтэр'еры цэнтральнае месца займаў вестыбюль з лесвіцай, да якога прылягала парадная зала для прыёмаў, арыентаваная ў бок Дняпра. Астатнія пакоі першага паверха адводзіліся пад службы. На другім паверсе знаходзіліся жылыя пакоі, кабінет і бібліятэка. Трэці, атыкавы паверх, які займаў цэнтральную частку, быў прызначаны для гаспадарчых патрэб. Унутраная планіроўка часткова зменена. У строгай манументальнай архітэктуры палаца і яго дэкаратыўнай аздобе сумешчаны рысы позняга барока і ранняга класіцызму.

Мемарыяльная дошка ў гонар губернскай надзвычайнай камісіі. Устаноўлена ў 1968 г. Пасля вызвалення Магілёва ад германскіх войск 31.10.1918 г. у былым архірэйскім палацы размяшчалася Магілёўская губчэка. У лістападзе 1918 г. удзельнічала ў ліквідацыі ў горадзе контррэвалюцыйнай арганізацыі (узначальвалі Святаполк-Мірскі і Эрастаў), якая памагала зброяй гетману Скарападскаму. У красавіку 1919 г. у сувязі з скасаваннем Магі-



25. *Дом № 11а па вуліцы Ленінскай.*



25. *Дом № 11а па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*

лёўскай губерні губернская ЧК спыніла сваю дзейнасць.

Месца жыцця і дзейнасці Каніскага Георгія. У палацы ў 1785—95 гг. жыў украінскі і беларускі пісьменнік, царкоўна-палітычны і культурны дзеяч Георгій Каніскі. Нарадзіўся Г. Каніскі 20.11.1717 г. у г. Нежын. Вучань украінскага і рускага пісьменніка Ф. Пракаповіча і настаўнік украінскага філосафа і паэта Г. Скаварады. У 1743 г. скончыў Кіеўскую духоўную акадэмію, з 1745 г. прафесар філасофіі і піітыкі, з 1751 г. рэктар гэтай акадэміі. У 1755 г. Г. Каніскі пераехаў у Магілёў, праваслаўны архіепіскап. Быў выдатным прамоўцам і заўзятым змагаром супраць Ватыкана і Брэсцкай уніі 1596 г. Цаніў прыродазнаўчыя навукі і іх ролю ў пазнанні прыроды, у некаторых пытаннях адыходзіў ад тэалогіі, высока ставіў вучэнні Каперніка, Галілея, Дэкарта, паважаў розум чалавека. Г. Каніскі быў прыхільнікам уз'яднання беларускага і рускага народаў, выказваў думку, што беларусы павінны мець права гаварыць і пісаць на роднай мове, захоўваць свае нацыянальныя звычаі. У той жа час ён лічыў прыгоннае права непарушным. Аўтар курсаў піітыкі («Правілы паэтычнага мастацтва») і філасофіі (на лацінскай мове), гістарычных запісак пра Магілёўскую епархію, інтэрмедый, вершаў, казанняў, прамоў. Дзейнасць Г. Каніскага высока ацэньваў А. С. Пушкін. Памёр Г. Каніскі ў Магілёве 13.2.1795 г.

Дом № 13. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы як жылы дом архірэйскага двара. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы. Складаецца з двухпавярховага Г-падобнага ў плане жылога корпуса, які тарцовым фасадам выходзіць на вул. Ленінскую, і далучанага да яго з боку двара аднапавярховага драўлянага крыла. Сцены мураванага корпуса гладкія, чляенёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, падзелены міжпаверхавым карнізным пояском і завершаны тонкапрафіляваным карнізам. На першым паверсе размяшчаліся крамы, на другім — жылыя пакоі, у драўляным крыле — гаспадарчыя памяшканні і склады. Унутраная планіроўка часткова зменена. Будынак — прыклад жылой архітэктуры класіцызму.

Брама. Паміж дамамі № 11 і № 13. Пабудавана ў 19 ст. з цэглы як галоўны ўезд на тэрыторыю архірэйскага двара. Два масіўныя пілоны, аздобленыя 2 дарычнымі паўкалонамі і завершаныя трохвугольнымі франтонамі, накрыты двухсхільнымі дахамі. Да іх з кожнага боку паўкругам далучаны мураваныя слупы, аб'яднаныя ажурнай агароджай. Брама — помнік архітэктуры малых форм.

Дом № 15. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы як жылы дом архірэйскага двара. Прамавугольны ў плане кампактны двухпавярховы будынак. Паверхі вылучаны прафіляваным карнізным пояском, сцены чляенёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, на другім паверсе — з ліштвамі і сандрыкамі. У тарцовай частцы аконныя праёмы лучковыя. З боку дваровага фасада знаходзіцца галерэя — уваход у пакоі другога паверха. Планіроўка анфіладная, часткова зменена. Будынак — прыклад жылога дома галерэйнага тыпу.

Дом № 25, архіепіскапскі палац. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Цяпер тут знаходзіцца дзіцяча-юнацкая спартыўная школа. Двухпавярховы будынак з 2 невялікімі бакавымі крыламі накрыты вальмавым дахам, размешчаны на адной восі з Станіславаўскім касцёлам. На вул. Ленінскую выходзіць тарцовым фасадам. Перад будынкам спачатку быў вялікі парадны двор, з боку дваровага фасада знаходзіліся сад і карпусы духоўнай кансісторыі (не захаваліся). Галоўны фасад арыентаваны ў бок Дняпра, вылучаны 3 плоскімі рызалітамі: цэнтральны, дзе знаходзіцца галоўны ўваход, завершаны прамавугольным атыкам, 2 бакавыя — трохвугольнымі франтонамі. Першы паверх аздоблены рустам, другі — пілястрамі. Прамавугольныя аконныя праёмы з разнастайным абрамленнем. У бакавых рызалітах аконныя праёмы другога паверха — лучковыя. На першым паверсе знаходзіліся службовыя і гаспадарчыя памяшканні, на другім — пакоі архіепіскапа; у заходнім крыле — палацавая капліца, якая па вышыні займала абодва паверхі. Унутраная планіроўка анфіладная, зменена. Цэнтральны вестыбюль з трохмаршавай лесвіцай. Палац — помнік архітэктуры класіцызму.

Месца жыцця і дзейнасці Богуш-Сестранцэвіча Станіслава Іванавіча. Царкоўны дзеяч, вучоны, літаратар С. І. Богуш-Сестранцэвіч нарадзіўся 3.9.1731 г. у в. Занкі Свіслацкага р-на. Дзядзька В. Дуніна-Марцінкевіча. Вучыўся ва універсітэтах Крулеўца (цяпер Калінінград), Франкфурта, Амстэрдама, Лондана. Скончыў Варшаўскую галоўную школу піяраў (1763 г.). З 1782 г. магілёўскі каталіцкі архіепіскап. Вывучаў Беларусь, паходжанне славян, прапагандаваў ідэі гуманізму, асветніцтва. Заснаваў у Магілёве друкарню, у якой выдавалася духоўная і свецкая літаратура на рускай, польскай і лацінскай мовах. Тут у 1793 г. выдаў сваю кнігу «Аб Заходняй Расіі», у якой даказваў гістарычную еднасць рускага, украінскага і беларускага народаў, вітаў уз'яднанне Беларусі з Расіяй. Ініцыятар выдання календароў. З 1798 г.— у Пецярбургу, мітрапаліт каталіцкай царквы. У 1813 г. быў выбраны прэзідэнтам Вольнага эканамічнага таварыства, выбіраўся членам Расійскай Акадэміі навук, Пецярбургскай медыка-хірургічнай акадэміі. Напісаў, выдаў і паставіў у Магілёве трагедыю «Гіцыя ў Таўрыдзе» (1783 г.). Аўтар навуковых прац «Гісторыя аб Таўрыі», «Аб паходжанні славян і сарматаў», «Даследаванне аб паходжанні рускай мовы». Пісаў вершы на польскай і лацінскай мовах. Ёсць звесткі аб яго аўтарстве неадшуканай пакуль беларускай граматыкі. Яго спадчыну часткова выдаў у 1872 г. А. Вярыга-Дарэўскі. Памёр С. І. Богуш-Сестранцэвіч 1.12.1826 г.



25. *Брама паміж дамамі № 11 і № 13 па вуліцы Ленінскай.*

Дом № 35, будынак настаўніцкага інстытута. Пабудаваны ў 1848—53 гг. з цэглы; з 1913 г. тут размяшчаўся настаўніцкі інстытут, цяпер — педагагічны інстытут імя А. А. Куляшова. Трохпавярховы будынак Т-падобны ў плане, галоўным падоўжаным фасадам выходзіць на чырвоную лінію забудовы вуліцы. З рызаліты (цэнтральны і бакавыя), дзе размешчаны 3 уваходы, завершаны дэкаратыўнымі атыкамі. На другім паверсе ў кожным рызаліце — балкон з ажурнай металічнай агароджай. Паверхі аддзелены карнізнымі паяскамі. Першы паверх аздоблены рустоўкай. Паўцыркульныя аконныя праёмы другога паверха вылучаюцца дэкаратыўным арачным афармленнем. Падобны аркатурны пояс над вокнамі 3-га паверха. Пад вокнамі зроблены ўстаўкі з геаметрычным арнаментам. Паміж прамавугольнымі аконнымі праёмамі трэцяга паверха размешчаны паўкруглыя калонкі са стылізаванымі карынфскімі капітэлямі. Сцены завершаны шырокім карнізам. Усе дэкаратыўныя элементы фасада выкананы спосабам цаглянай муроўкі з выкарыстаннем лякальнай цэглы. У аснову планіровачнай структуры пакла-



25. *Дом № 35 па вуліцы Ленінскай.*



25. *Дом № 35 па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*

дзена калідорная сістэма з тарцовым асвятленнем і двухбаковым размяшчэннем памяшканняў. На першым паверсе каля кароткага крыла — бібліятэка, актавая зала на вышыню другога і трэцяга паверхаў. Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры, вырашаны ў эклектычным стылі.

Дом № 37. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. У 1970-я гады рэстаўрыраваны. З 1982 г. тут мемарыяльны музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі (філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР). Трохпавярховы з паўпадвальным паверхам (трэці паверх — мансардавы, надбудаваны ў час рэканструкцыі) будынак прамавугольны ў плане, накрыты ламаным дахам. Сцены чляненьі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі. Паміж аконнымі праёмамі — плоскія лапаткі. Па цэнтры фасада галоўны ўваход вылучаны лучковай аркай, над якой аналагічнай формы праём і невялікі балкон з металічнай ажурнай агароджай. Сцены з шырокім прафіляваным карнізам. Цэнтральная частка фасада завершана атыкам лучковага абрысу, у цэнтры атыка — квадратны аконны праём. Унутраная планіроўка зменена пасля рэканструкцыі. Першы паверх і падвал маюць скляпеністае перакрыцце, другі — бэлечнае. Будынак — помнік архітэктуры барока.



25. *Дом № 37 па вуліцы Ленінскай.*

Дом № 39. Пабудаваны ў канцы 1930-х гадоў з цэглы як інтэрнат педагагічнага інстытута. Чатырохпавярховы будынак складаецца з 2 аб'ёмаў прамавугольнай формы, ступеньчата злучаных па тарцовых частках. Галоўны архітэктурны акцэнт — у месцы злучэння аб'ёмаў. Тут размешчаны галоўны ўваход з шырокай лесвіцай, над ім — балкон з металічнай агароджай. Два верхнія паверхі вылучаны паўкалонамі, якія завяршаюцца шырокай атыкавай сценкай. Фасады рытмічна чляненьі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з надаконнымі нішамі, завершаны прафіляваным карнізам, сцяна першага паверха руставаная, астатнія гладкія. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу. Будынак — помнік савецкай архітэктуры, дзе выкарыстаны формы класіцыстычнай спадчыны.



25. *Дом № 37 па вуліцы Ленінскай. Падоўжны разрэз.*



25. *Дом № 37 па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*



25. *Дом № 41 па вуліцы Ленінскай.*



25. *Дом № 41 па вуліцы Ленінскай. План 1-га паверха.*

Дом № 41, будынак мужчынскай гімназіі. Пабудаваны ў 1789 г. як народнае вучылішча, з 1809 г. мужчынская гімназія. Цяпер тут сярэдняя школа. Двухпавярховы Г-падобны ў плане: да прамавугольнага асноўнага аб'ёму з боку дваровага фасада прылягае кароткае крыло. Галоўным падоўжаным фасадам выходзіць на чырвоную лінію забудовы вуліцы. Галоўны фасад вылучаны 3 нязначна выступаючымі рызалітамі: цэнтральны, дзе размешчаны ўваход у будынак, і 2 — абапал яго. Паверхі аддзелены карнізным пояском. Сцены гладкія, рытмічна чляненьі прамавугольнымі аконнымі праёмамі з простымі ліштвамі. Будынак завершаны тонкапрафіляваным карнізам. Рызаліты пакрыты рустам. У аснову планіроўкі пакладзена калідорная сістэма: вакол цэнтральнага калідора з

2 бакоў размешчаны класныя памяшканні.

У 1870-я гады многія навучэнцы гімназіі былі членамі гуртка, які пад выглядам самаадукацыі прапагандаваў погляды народнікаў (за прыналежнасць да гуртка ў 1875 г. паліцыя арыштавала некалькі гімназістаў). У пачатку 20 ст. тут быў створаны нелегальны гуртож, якім кіравала мясцовая арганізацыя РСДРП. Гімназію скончылі актыўны ўдзельнік падрыхтоўкі замаху на Аляксандра II Р. П. Ісаеў, адзін з кіраўнікоў народніцкага руху 1870-х гадоў у Расіі С. П. Кавалік, дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху і вучоны-прыродазнавец М. К. Судзілоўскі, беларускі савецкі пісьменнік і вучоны М. А. Грамыка.

Мемарыяльная дошка Лепяшынскаму Панцеляймону Мікалаевічу і Шміту Ота Юльевічу. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці прафесійнага рэвалюцыянера, саратніка У. І. Леніна П. М. Лепяшынскага і савецкага вучонага-матэматыка, астранома, геафізіка, даследчыка савецкай Арктыкі, Героя Савецкага Саюза, акадэміка Акадэміі навук СССР і УССР О. Ю. Шміта, якія вучыліся ў Магілёўскай гімназіі.

Дом № 4. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак галоўным фасадам выходзіць на вул. Ленінскую. Паверхі падзелены карнізным пояскам. Першы паверх галоўнага фасада дэкарыраваны рустоўкай, другі — гладкі, аконныя праёмы прамавугольныя. Сцены завершаны прафіляваным карнізам. Унутраная планіроўка анфіладная, цяпер зменена.

Дамы № 6, 8, 10. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы як жылыя. З'яўляюцца адзіным комплексам забудовы, якія галоўным фасадам выходзяць на чырвоную лінію забудовы вул. Ленінскай. Будынкі трохпавярховыя, прамавугольныя ў плане. У дамах № 8 і 10 праезныя аркі з цыліндрычнымі скляпеннямі. У афармленні фасадаў выкарыстаны рустоўка, карнізныя паяскі, прамавугольныя падаконныя нішы. На першым і другім паверхах аконныя праёмы прамавугольныя, на трэцім — арачныя з ліштвамі. Будынкі завершаны тонкапрафіляванымі карнізамі, у доме № 6 — карніз з сухарыкамі. Унутраная планіроўка ва ўсіх дамах зменена. Дамы — прыклад гарадскога шматкватэрнага жылля.


25. *Дом № 22 па вуліцы Ленінскай.*

Дом № 22. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. На першым паверсе адміністрацыйныя ўстановы, другі і трэці выкарыстоўваюцца пад жыллё. Трохпавярховы Т-падобны ў плане будынак галоўным фасадам выходзіць на вул. Ленінскую. На першым і другім паверхах аконныя праёмы прамавугольныя, на трэцім — паўцыркульныя з ліштвамі.

Мемарыяльная дошка ў памяць аб дзейнасці падпольнай бібліятэкі групы праўдзістаў. Устаноўлена ў 1962 г. У 1912 г. у Магілёве адбыўся арганізацыйны сход групы актывістаў «Праўды» (50 чалавек). На ім было выбрана бюро з 5 чалавек, кіраўнік бальшавік А. І. Чарніцкі. Група арганізоўвала стачкі і мітынгі, стварала гурткі па вывучэнню марксізма, скамплектавала падпольную бібліятэку, якая размяшчалася ў падвале дома № 22, дзе на той час была сталярная майстэрня. У бібліятэцы налічвалася 2 тыс. кніг і брашур, творы К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна. Праўдзісцкая група трымала сувязь з А. Я. Бадаевым, дэпутатам фракцыі бальшавікоў IV Дзяржаўнай думы, інфармавала пра становішча на прадпрыемствах горада, па яго даручэнню вяла палітычную работу сярод працоўных, растлумачвала ім дзейнасць бальшавіцкай фракцыі ў думе.

Дом № 36, будынак крэдытнага таварыства. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Выкарыстоўваецца швейнай фабрыкай імя В. Валадарскага. Двухпавярховы Г-падобны ў плане, з боку завулка Мігая мае скразны праезд у двор. Галоўны падоўжаны фасад выходзіць на чырвоную лінію забудовы вул. Ленінскай. Асноўны архітэктурны акцэнт — вуглавая частка будынка паміж 2 фасадамі (па вул. Ленінскай і завулку Мігая). Яе плоскасць скошана, тут размешчаны галоўны ўваход. На другім паверсе паўкруглы балкон з балюстрадай, які падтрымліваюць кранштэйны з паўфігурамі атлантаў. Завяршаецца скошаная частка атыкам складанага профілю з акномлюнетай у цэнтры. На галоўным фасадзе — 2 рызаліты, завершаныя мансардамі. Аконныя праёмы на пер-


25. *Дом № 36 па вуліцы Ленінскай.*

шым паверсе прамавугольныя, на другім — арачныя. У дэкаратыўным абрамленні галоўнага фасада выкарыстаны прафіляваныя паяскі, шырокія лапаткі, ляпныя накладныя дэталі — гірлянды, картушы, разеткі, мадульёны. Унутраная планіроўка зменена. Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн».

Дом № 40. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы як жылы. Двухпавярховы, прамавугольны ў плане будынак на высокім цокалі выходзіць


25. *Дом № 40 па вуліцы Ленінскай.*


25. *Дом № 40 па вуліцы Ленінскай. Фрагмент дэкору фасада.*



25. *Дом № 50 па вуліцы Ленінскай.*

галоўным фасадам на чырвоную лінію забудовы вул. Ленінскай. На галоўным фасадзе 2 сіметрычна размешчаныя ўваходы з лучковымі франтонамі і круглымі нішамі. На першым паверсе прамавугольныя аконныя праёмы, на другім — арачныя. Галоўны фасад аздоблены ляпнымі накладнымі дэталямі і дэкаратыўнымі элементамі, выкананымі цаглянай муроўкай з выкарыстаннем лякальнай цэглы. Паміж аконнымі праёмамі пілястры, на першым паверсе руставаныя, на другім — завершаны фігурнымі ляпнымі картушамі. Над аконнымі праёмамі першага паверха ляпныя гірлянды, картушы, арнаментальны пояс. Сцены завершаны шырокім карнізам складанага профілю з дэкаратыўнай лепкай. Маляўнічасць фасаду надае кантрастнае каларыстычнае вырашэнне: ляпныя дэкаратыўныя дэталі белага колеру вылучаюцца на чырвонай плоскасці цаглянай сцяны. Будынак — прыклад эклектычнай архітэктуры.

Дом № 50, будынак банка. Пабудаваны (паводле праекта архіт. П. Камбурава) у 1904—06 гг. з цэглы як аддзяленне Маскоўскага міжнароднага банка. Двухпавярховы будынак прамавугольны ў плане з кароткім крылом з боку дваровага фасада. Галоўным фасадам выходзіць на чырвоную лінію забудовы вуліцы. Цэнтральная частка вылучана шырокім рызалітам. Уваход у будынак размешчаны асіметрычна, у паўднёвай частцы галоўнага фасада. Руставанаму першаму паверху проціпастаўлены гладкі другі, прасценкі якога дэкарыраваны карынфскімі пілястрамі. Аконныя праёмы прамавугольныя з дэкаратыўнымі сандрыкамі. Вокны другога паверха ў рызаліце паўцыркульныя, што падкрэслівае месца размяшчэння аперацыйнай залы. Цэнтральны рызаліт завяршаецца шырокім атыкам. У архітэктуры будынка спалучаюцца рысы эклектыкі і стылю «мадэрн».

*Літ.:* Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977; Могилёв: (Историко-экономический очерк).— Мн., 1971; Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии. Т. 2.— Мн., 1957; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Из истории философской и общественно-политической мысли Белоруссии.— Мн., 1962; Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968; В памяти народной.— Мн., 1969; Чарнатаў В. М. Банкаўскія будынкі.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 3. *В. Б. Караткевіч, А. І. Мальдзіс, Т. І. Чарняўская.*

**26. ЗАБУДОВА ПЕРШАМАЙСКАЙ ВУЛІЦЫ** (архіт., гіст.). Вул. Першамайская звязвае Прывакзальную і Савецкую плошчы. Адна з найбольш старажытных: у 18 ст. называлася Шклоўская, у 19 ст.— Вялікая Садовая, у пачатку 20 ст.— Дняпроўскі праспект. Рэканструявана ў гады Савецкай улады. Захаваліся помнікі архітэктуры і гісторыі 18—19 стагоддзяў: будынкі гарадскога тэатра, жаночай гімназіі, дваранскага сходу, мемарыяльная арка; дом, дзе ў Вялікую Айчынную вайну была явачная кватэра падпольнай групы М. М. Яўціхіева. Тут размешчаны будынак абкома КПБ, кінатэатр «Чырвоная Зорка», гасцініца «Дняпро», жылы дом з комплексам прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання, пахаваны Герой Савецкага Саюза І. С. Лазарэнка, устаноўлены бюст двойчы Героя Савецкага Саюза І. І. Гусакоўскага.

Дом № 7, гарадскі тэатр. Пабудаваны ў 1886—88 гг. з чырвонай цэглы паводле праекта архіт. П. Камбурава і інж. У. Міляноўскага. У 1889 г. быў адкрыты першы тэатральны сезон. Будынак прамавугольны ў плане, з закругленай тарцовай сцяной. На галоўным фасадзе выступаюць 2 вежападобныя чацверыковыя аб'ёмы і тамбур з балконам над ім пры ўваходзе, да якога вядзе двухбаковая лесвіца. Будынак не атынкаваны, дэкаратыўныя дэталі афарбаваны ў белы колер. У аздобе фасадаў выкарыстаны стылізаваныя элементы старажытнарускага дойлідства: абрамленне акон у выглядзе какошнікаў, закамары, арнаментальныя паяскі, дэкаратыўная апрацоўка вуглоў. Глядзельная зала на 500 месцаў, яе інтэр'ер дэкарыраваны разьбой па дрэве.



26. *Дом № 7 па вуліцы Першамайскай. План.*




26. *Дом № 7 па вуліцы Першамайскай. Будынак абласнога драматычнага тэатра.*



**26.** *Дом № 29 па вуліцы Першамайскай. Гасцініца «Дняпро».*

Вакол залы вестыбюль, фае, кулуары, службовыя і адміністрацыйныя памяшканні. Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры псеўдарускага стылю.

Мемарыяльная дошка Калініну Міхаілу Іванавічу. Устаноўлена ў 1975 г. У гады Грамадзянскай вайны ў 1918—20 гг. па ініцыятыве У. І. Леніна былі арганізаваны агітацыйныя паязды, якія вялі палітычную работу, мабілізоўвалі працоўных на абарону сацыялістычнай Айчыны. Агітпоезд «Кастрычніцкая рэвалюцыя» на чале са старшынёй ВЦВК М. І. Калініным 14.6.1919 г. прыбыў у Магілёў. На Тэатральнай пл. адбыўся мнагалюдны мітынг працоўных горада, на якім выступіў М. І. Калінін. Яго прамова адыграла вялікую ролю ў арганізацыі сіл працоўных горада на адпор інтэрвентам і ўнутранай контррэвалюцыі.

Дом № 29, гасцініца «Дняпро». Пабудаваны ў 1940 г. з цэглы (архіт. А. Брэгман, А. П. Воінаў), рэканструяваны ў 1983 г. Разлічана на 305 месц. Будынак 5-павярховы, у плане складанай канфігурацыі. Галоўны фасад вылучаюць 2 бакавыя несіметрычна выступаючыя рызаліты, па цэнтры — галоўны ўваход. Пластычная выразнасць дасягаецца ўвядзеннем вертыкальных рэбраў, паміж якімі размешчаны лоджыі. Унутраная планіроўка калідорнага тыпу. На 1-м паверсе — вестыбюль, адміністрацыйныя і бытавыя памяшканні, рэстаран. На 2—5-м паверхах — у цэнтры хол, да якога далучаюцца жылыя пакоі. Будынак — прыклад савецкай архітэктуры даваеннага часу.

Дом № 31, жылы дом з прадпрыемствамі бытавога абслугоўвання. Пабудаваны ў 1981 г. з цэглы паводле праекта архіт. І. Фралова і Г. Борахава. Размешчаны на значнай адлегласці ад лініі забудовы вуліцы (каля 120 м), што ўтварае пешаходную зону, добраўпарадкаваную газонамі і дэкаратыўнымі басейнамі. Складаецца з некалькіх аб'ёмаў. Першы (9-павярховы) галоўным падоўжаным фасадам (да 200 м) выходзіць на вул. Першамайскую, другі (12-павярховы) злучаны з тарцом першага, выходзіць на вул. Будзённага. Да галоўнага фасада 9-павярховага аб'ёму далучаны два 2-павярховыя аб'ёмы — магазін і рэстаран «Габрава». У выніку ствараецца прасторава-развітая кампазіцыя, якая арганічна ўпісваецца ў навакольную забудову. У інтэр'еры рэстарана — дэкаратыўныя пано (разьба па дрэве). Першыя 2 паверхі 9-павярховага аб'ёму суцэльнага зашклення з чляненнем у выглядзе пілонаў. Тут размешчаны фотастудыя, бюро добрых паслуг, ашчадная каса і інш. прадпрыемствы бытавога абслугоўвання. Астатнія 7 паверхаў жылыя, вырашаны адзіным архітэктурным прыёмам: рознай даўжыні балконы з вертыкальнымі бакавымі перагародкамі. Спалучэнне раўнамернага рытму аконных праёмаў і балконаў надае галоўнаму фасаду аб'ёмнасць і цэласнасць. Сцены абліцаваны каляровай пліткай, што стварае насычаную гаму фасада. У апрацоўцы цоколя выкарыстаны граніт. У доме 228 кватэр. Кватэры арыентаваны на абодва бакі дома, балконы з боку галоўнага і дваровага фасадаў. Ліфты вынесены за габарыты дома, убудаваны ў спецыяльныя шахты. Жылы дом — прыклад савецкай архітэктуры 1970-х гадоў.

Дом № 8. На месцы, дзе знаходзіцца дом, былі мураваныя будынкі езуіцкага калегіума: касцёл Ксаверыя і двухпавярховы корпус (1725 г.). Кас-



**26.** *Дом № 31 па вуліцы Першамайскай. Пано пры ўваходзе ў залу рэстарана «Габрава».*



**26.** *Дом № 31 па вуліцы Першамайскай. Пано ў вестыбюлі рэстарана «Габрава».*



**26.** *Дом № 31 па вуліцы Першамайскай.*

цёл і часткова корпус калегіума разбураны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1983 г. тут пабудаваны 9-павярховы жылы дом, да якога далучаны 2-павярховы будынак філіяла абласнога краязнаўчага музея. Рэшткі калегіума выкарыстаны пры будаўніцтве філіяла музея (падвалы, паўднёва-заходні дваровы фасад).

Мемарыяльная дошка дзекабрыстам. Устаноўлена ў 1986 г. У студзені 1826 г. у будынку былога калегіума следчая камісія вяла допыт дзекабрыстаў — членаў «Паўднёвага таварыства», удзельнікаў паўстання Чарнігаўскага палка, якое адбылося 29.12.1825 г. Сярод афіцэраў былі 3 галоўныя кіраўнікі паўстання: падпаручнік М. П. Бястужаў-Румін, падпалкоўнік С. І. Мураўёў-Апостал і падпалкоўнік у адстаўцы М. І. Мураўёў-Апостал, а таксама падпалкоўнік А. З. Мураўёў, прапаршчык Ф. Ф. Вадкоўскі, капітан А. Ф. Фурман, падпаручнік Д. А. Малчанаў, прапаршчык Я. А. Драгаманаў, афіцэр А. А. Лебедзеў і інш. Усяго праз следчую камісію ў Магілёве прайшло каля 70 дзекабрыстаў. Для далейшага следства яны былі вывезены ў Пецярбург.

Дом № 14, кінатэатр «Чырвоная Зорка». Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. У 1930 г. рэканструяваны. Будынак — выцягнуты ў плане прамавугольнік, да якога перпендыкулярна далучаны касавая зала і паўцыркульны вестыбюль. У аснову архітэктурна-прасторавай кампазіцыі пакладзены прынцып проціпастаўлення аб'ёмаў. На галоўным фасадзе вестыбюль з шырокім зашкленнем кантрастуе з «глухой» вертыкальнай сценкай і нізкім аб'ёмам, дзе размешчаны службовыя памяшканні. Галоўны ўваход з боку тарцовага фасада вылучаны шырокай лесвіцай. Бакавыя фасады рытмічна членяцца прамавугольнымі аконнымі праёмамі з боку фае. Будынак — прыклад архітэктуры з выкарыстаннем элементаў канструктывізму.



26. *Дом № 14 па вуліцы Першамайскай. Кінатэатр «Чырвоная Зорка».*



26. *Дом № 14 па вуліцы Першамайскай. Кінатэатр «Чырвоная Зорка». План.*

Дом № 24, будынак жаночай гімназіі. Пабудаваны ў 1875 г. з цэглы. Цяпер тут размешчана сярэдняя школа № 1. Трохпавярховы Г-падобны ў плане будынак са скошанай плоскасцю вуглавой часткі. Паверхі аддзелены прафіляванымі паяскамі. Сцены першага паверха пакрыты рустам, другога і трэцяга — гладкія. Па перыметры — шырокі прафіляваны карніз. Аконныя праёмы прамавугольныя ў простых ліштвах, на другім і трэцім паверхах дэкарыраваны сандрыкамі. Будынак — прыклад архітэктуры позняга класіцызму.

Мемарыяльная дошка Карпінскай Таццяне Раманаўне. Устаноўлена ў 1964 г. Камсамолка Таня Карпінская ў 1941 г. скончыла сярэднюю школу № 1. У Вялікую Айчынную вайну член падпольнай групы (кіраўнік К. Ю. Мэтэ). Кватэра Карпінскіх на вул. Вялікая Грамадзянская, 66, была асноўнай яўкай падпольшчыкаў. Тут Таня і яе маці В. М. Карпінская друкавалі ўначы на пішучай машынцы падпольную газету «За Родину» (пазней — «За Советскую Родину»), лістоўкі і зводкі Саўінфармбюро, захоўвалі боепрыпасы і медыкаменты для партызан, данясенні разведкі. У сакавіку 1943 г. фашысты арыштавалі Карпінскіх і пасля жорсткіх катаванняў расстралялі. В. М. Карпінская пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Леніна, Таня — ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Імем Тані Карпінскай названы завулак у Магілёве і карабель.

Месца вучобы Лорчанкі Леаніда Дзмітрыевіча. У сярэдняй школе № 1 да вайны вучыўся Герой Савецкага Саюза Л. Дз. Лорчанка. Гл. артыкул № 665 «Брацкая магіла партызан».

Дом № 32, будынак абкома КПБ. Пабудаваны ў 1973 г. з цэглы (архіт. А. Кучарэнка, Ю. Шпіт). Размешчаны за 60 м ад лініі забудовы, што стварае невялікую плошчу перад будынкам. Складаецца з асноўнага 8-павярховага корпуса, галоўным фасадам арыентаванага на вул. Першамайскую, і 2-павярховага корпуса, зблакіраваных Т-падобна з боку дваровага фасада. Асноўным архітэктурным матывам галоўнага фасада з'яўляюцца пілоны на ўсю вышыню будынка: у цэнтральнай частцы фасада масіўныя (да 1,2 м), на бакавых — больш тонкія, у дэкаратыўнай аздобе выкарыстаны натуральны і штучны мармур, граніт. Галоўны ўваход вырашаны 3 манументальнымі парталамі, што падкрэслівае грамадскі характар будынка. Аб'ём залы пасяджэнняў вырашаны ў лаканічных формах. У аснову планіровачнай структуры будынка пакладзена калідорная сістэма з двухбаковым размяшчэннем пакояў. У цэнтры кожнага паверха — хол. У 2-павярховым корпусе на першым паверсе знаходзіцца вестыбюль, гардэроб, сталовая, на другім — зала пасяджэнняў. Адміністрацыйны будынак — прыклад савецкай архітэктуры 1970-х гадоў.

Дом № 34, будынак дваранскага сходу. На скрыжаванні вул. Першамайскай і Крыленкі. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.



26. *Дом № 24 па вуліцы Першамайскай.*



26. *Дом № 24 па вуліцы Першамайскай. Будынак былой жаночай гімназіі. План 1-га паверха.*



**26.** *Дом № 32 па вуліцы Першамайскай. Будынак абкома КПБ.*



**26.** *Дом № 32 па вуліцы Першамайскай. Будынак абкома КПБ. План 1-га паверха.*

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі тут быў клуб імя У. І. Леніна, цяпер — гарадскі Дом культуры.

Трохпавярховы будынак Г-падобны ў плане, падоўжаная частка выходзіць на лінію забудовы вул. Першамайскай. Галоўны фасад вылучаны 2 рызалітамі, дзе размешчаны ўваходы. Рызаліты завершаны дэкаратыўнымі сценкамі з круглымі разеткамі. Першы паверх дэкарыраваны глыбокім рустам, члянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Плоскасць сцен другога і трэцяга паверхаў упрыгожана пілястрамі, паўкалонкамі, дэкаратыўнымі ўстаўкамі з ляпным арнаментам. Дэталі дэкору афарбаваны ў белы колер і кантрастна вылучаюцца на зялёным фоне сцяны. Аконныя праёмы 2 верхніх паверхаў лучковыя, у рызалітах балконы з металічнай агароджай. Падоўжаная частка вырашана па прынцыпу калідорнай сістэмы планіроўкі: абапал двухбаковага калідора былі службовыя пакоі.

Мемарыяльная дошка Калініну Міхаілу Іванавічу. Устаноўлена ў 1957 г. 15.6.1919 г. у будынку клуба на ўрачыстым аб'яднаным пасяджэнні членаў павятовага і гарадскога Саветаў рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў, Савета прафсаюзаў, прадстаўнікоў ад фабрычна-заводскіх камітэтаў, праўленняў прафсаюзаў і чырвонаармейскіх часцей выступіў М. І. Калінін з заклікам да працоўных згуртоўваць сілы для разгрому ворага.

Мемарыяльная арка. Вул. Першамайская, у скверы імя І. С. Лазарэнкі. Пабудавана ў 1780 г., уваходзіла ў ансамбль Сабornай пл., знаходзілася насупраць Іосіфаўскага сабора (не захаваўся). Рэстаўрыравана ў 1950-я гады. Прамавугольная ў плане сцяна з 2 выступамі-рызалітамі завершана шырокім прафіляваным карнізам і ламаным трохвугольным франтонам; па тарцах фланкіравана 2 карынфскімі калонамі з антаблементам. У цэнтры галоўнага фасада — вялікая паўцыркульная ніша. У 1950-я гады зверху над нішай размешчаны барэльефы: У. І. Леніна, герба СССР і сярпа і молата. У 1964 г. на арцы ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі ў гонар часцей 2-га Беларускага фронту, якія 28.6.1944 г. вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; В памяти народной.— Мн., 1969; М. И. Калинин в Белоруссии: Доклады, речи, беседы, документы, материалы.— Мн., 1973; Воинов А. А. История архитектуры Белоруссии (советский период).— Мн., 1975; Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973; Філіповіч І. І. Дзекабрысты ў Магілёве.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1973, № 4.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*



**26.** *Дом № 34 па вуліцы Першамайскай.*



**26.** *Дом № 34 па вуліцы Першамайскай. План 2-га паверха.*



**26.** *Мемарыяльная арка па вуліцы Першамайскай.*

**27. ЗАВОД ШТУЧНАГА ВАЛАКНА** імя В. У. Куйбышава (архіт., гіст.). Вул. Чалюскінцаў, 101.

Завод — першынец хімічнай індустрыі Беларусі, будоўля першай пяцігодкі. Пабудаваны ў 1929—30 гг. як фабрыка штучнага шоўку. У планіроўцы і аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі аб'ектаў праявіўся новы падыход да праектавання прамысловых прадпрыемстваў. Акрамя вытворчых памяшканняў, прадугледжваліся спецыяльныя бытавыя, пакоі адпачынку і інш. Яны размяшчаліся некалькімі групамі з улікам канцэнтрацыі рабочых у асобных вытворчых падраздзяленнях. Пры будаўніцтве выкарыстаны прагрэсіўныя на той час архітэктурныя формы і канструкцыі, у т. л. жалезабетонныя арачныя перакрыцці, што давала магчымасць зрабіць нясучыя сцены са звычайнай цэглы больш тонкімі і знізіць кошт пабудовы. У Вялікую Айчынную вайну акупанты разбурылі карпусы прадпрыемства. Прадпрыемства аднавіла работу ў 1945 г. як фабрыка штучнага шоўку імя В. У. Куйбышава. У 1948 г. пушчана першая, у 1955 г.— другая вытворчасць шоўку. З 1962 г. завод штучнага валакна. У 1957 г. і 1959 г. здадзены цэхі вытворчасці цэлафану, у 1960 г.— вытворчасці штапелю. У 1972 г. пачаў дзейнічаць цэх сінтэтычнага валакна, у 1974 г.— цэх газаачысткі, у 1976 г. атрымана першая партыя мананіткі. З 1975 г. у

Магілёўскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно». Цяпер завод выпускае шоўк віскозны, штапельнае валакно, цэлафанавую, поліэтыленацэлафанавую плёнку і інш. віды прадукцыі. Пры заводзе Палац культуры, 3 бібліятэкі, музей баявой і працоўнай славы, бальніца, паліклініка, прафілакторый, база адпачынку, стадыён, піянерлагер, больш за 13 дзіцячых дашкольных устаноў. У 1971 г. прадпрыемства ўзнагароджана ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі.

Калі пачалася Вялікая Айчынная вайна, многія работнікі завода сталі байцамі батальёнаў народнага апалчэння, абаранялі горад, пасля акупацыі ўключыліся ў падпольную барацьбу з ворагам, змагаліся ў радах Чырвонай Арміі.

Мемарыяльная дошка Бубнову Івану Васілевічу. На будынку заводакіраўніцтва. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці старшага лабаранта фабрыкі І. В. Бубнова (1906—44 гг.), які загінуў на фронце ў Вялікую Айчынную вайну. І. В. Бубноў навечна занесены ў спіс калектыву.

Мемарыяльная дошка Канавалаву Мікалаю Аляксандравічу. На будынку заводакіраўніцтва. Устаноўлена ў 1964 г. на ўшанаванне памяці інжынера фабрыкі М. А. Канавалава (1910—43 гг.), які загінуў на фронце ў Вялікую Айчынную вайну. М. А. Канавалаў навечна занесены ў спіс калектыву.

Месца дзейнасці падпольных груп. У жніўні 1941 г. на фабрыцы створана група С. С. Сабалеўскага, у кастрычніку 1942 г. разгромлена. На ЦЭЦ фабрыкі падпольную групу ўзначаліў камуніст А. П. Іваноў. З сярэдзіны ліпеня 1941 г. ён быў байцом аднаго з батальёнаў народнага апалчэння. Пасля акупацыі горада ўладкаваўся на фабрыку апальшчыкам. У групу ўваходзілі Ф. М. Мядзвецкі, В. С. Варапаеў, А. Я. Абрамкін, Я. Шміт (закатаваны ў 1941 г.), І. І. Невядомскі (загінуў у партызанскай барацьбе ў 1943 г.), П. Р. Сопчанка і інш. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, правялі некалькі дыверсій, трымалі сувязь з партызанамі. Загінулі ў турме ў 1942 г. Т. Парабка, Н. Ісакаў, В. Станкевіч і інш.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973.

*В. Б. Караткевіч, Т. І. Чарняўская.*

**28. ЗАМЧЫШЧА** (археал., гіст.). На мысе высокага правага берага Дняпра, паблізу р. Дубровенка (цяпер тэрыторыя парку імя М. Горкага). Дзядзінец былога замка плошчаю больш за 1 га чатырохвугольнай формы. Пляцоўка выцягнута па лініі поўнач — поўдзень. З захаду ўзвышалася над далінай Дубровенкі на 20 м, з поўдня — на 25 м над далінай Дняпра, з усходу вышыня схілу дасягала 14 м. З поўначы была ўмацавана шырокім і глыбокім ровам.

Замак пабудаваны ў 1526 г. на месцы бескурганнага могільніка 12—13 стагоддзяў, паверхня якога спачатку была выраўнавана пластом гліны, для трываласці абпалена да цэглападобнага стану. Па перыметры пляцоўку ўмацоўваў магутны вал з ярка-чырвонай гліны і буйназярністага пяску, зніверліраваны ў пачатку 19 ст. (захаваўся на вышыню 1,2 м), на падставе археалагічных раскопак рэканструюецца вышынёй да 5 м і шырынёй больш за 1,6 м.

Археалагічныя раскопкі пацвярджаюць звесткі Баркулабаўскага летапісу аб заснаванні замка: «Лета 1526 большой замок зароблен і принято много горы Могилы на которой теперь замок Могилев стоит». Ад назвы гэтай гары, як сведчыць летапіс, і атрымаў сваю назву замак.

У 16 ст. замак меў драўляныя ўмацаванні зрубнай канструкцыі, якія рамантаваліся і дагдядаліся. Па традыцыі замак ахоўваўся ўначы «клікунамі» і вартаю, меў цэйхгаўз для агністрэльнай і халоднай зброі, розны ваенны рыштунак, за якім сачылі пушкары і замкавыя рамеснікі. У ваенны час жыхары горада і воласці абаранялі замак, а ў «схаваннях» — гароднях замкавых умацаванняў размяшчаліся іх сем'і са сваім скарбам. У час казацка-сялянскага паўстання замак спалены 13.12.1595 г., аднак даволі хутка адноўлены, аб чым сведчыць інвентар Магілёва за 1604 г. Замкавыя ўмацаванні складаліся з 7 вежаў і 2—3-ярусных гародняў, пастаўленых на высокім земляным вале. Праз абарончы роў — «перакоп», які аддзяляў замак ад горада, быў перакінуты на палях драўляны мост. Яго апошні пад'ёмны пралёт — «узвод на ланцугах» — падводзіў да 5-ярускай «Горнай брамы». Астатнія 6 вежаў былі 3—5-ярусныя, а другая брама — «Дольная» — мела 4 ярусы. З боку замка да рэк Дняпро і Дубровенка вялі 2 патаемныя хады.

Сцены гародняў і вежаў таўшчынёй у 1—2—3 бервяны з боку поля рабілі больш магутныя і звычайна абмазвалі глінаю. У 1633 г. замак згарэў, але праз 2 гады былі адноўлены 2 брамы і сцены ў выглядзе 1—2-раднага частаколу. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. з 6.2 да 1.5. 1655 г. вытрымаў аблогу гетманскіх войск. У сувязі з падкопамі вал замка моцна пацярпеў.

У 1655—60 гг. замак аднавілі і рэканструявалі: з трох бакоў пабудавалі бастыёны, на дзядзінцы — разнастайныя гаспадарчыя пабудовы (згарэлі ў час пажару 1664 г., пазней адноўлены зноў, згарэлі 8.9.1708 г.). Бастыённыя ўмацаванні замка ў пачатку 19 ст. зніверліраваны.

*Літ.:* Баркулабовская летопись.— У кн.: Полное собрание русских летописей. М., 1975, т. 32; Могилевская хроника Т. Р. Сурты и Ю. Трубницкого.— У кн.: Полное собрание русских летописей. М., 1980, т. 35; Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973. *М. А. Ткачоў.*

**29. КОМПЛЕКС МІКАЛАЕЎСКАЙ ЦАРКВЫ** (архіт., маст.). На вул. Волі, у пойме р. Дняпро. Існаваў з 1636 г. як манастыр пры праваслаўным брацтве. Размяшчаўся на агароджанай тэрыторыі, дзе ў канцы 17—18 ст. узведзены мураваныя будынкі Мікалаеўскай і Ануфрыеўскай цэркваў, жылы дом, званіца, агароджа з брамамі і інш. Комплекс моцна пашкоджаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны. У 1981 г. скончаны знешнія работы па аднаўленню і рэканструкцыі комплексу паводле праекта, распрацаванага ў Спецыялізаваным навукова-рэстаўрацыйным аб'яднанні «Белрэстаўрацыя» Міністэрства культуры БССР (архіт. А. Канаваленка). Адноўлены Мікалаеўская, Ануфрыеўская цэрквы, жылы дом, званіца, мураваная агароджа, брама. Вядуцца работы па рэстаўрацыі манументальнага жывапісу ў інтэр'еры і экстэр'еры.

Агароджа з уязной брамай (17—18 стагоддзі). Мураваная глухая сцяна, дэкарыраваная аркатурным поясам, абкружае трапецападобную тэрыторыю, мае 2 ўваходы з заходняга і паўднёвага бакоў. У заходнім — галоўная ўязная брама: масіўная сцяна з лучковым праёмам у цэнтры, накрыта двухсхільным дахам. У паўднёва-ўсходнім баку агароджы ўбудавана невялікая аднаярусная квадратная ў плане шатровая капліца.

Ануфрыеўская царква (1798 г.). У паўночнай частцы комплексу, побач з Мікалаеўскай. З'яўляецца «цёплай» — зімовай царквой. Крыжова-купальны храм. У аб'ёмнай кампазіцыі дамінуе сферычны купал на светлавым цыліндрычным барабане. Крылы трансепта завершаны трохвугольным франтонам і дэкарыраваны пілястрамі.

Жылы дом (шпіталь, 17 ст.). У паўднёвым баку агароджы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак. Гладкія сцены чляянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Тарцовы фасад, што далучаецца да паўднёвай брамы, завершаны шчытом фігурнага абрысу, які дэкарыраваны 3 спаранымі арачнымі нішамі.

Званіца (17—18 стагоддзі). У паўднёва-заходнім баку агароджы, каля паўднёвай брамы. Квадратнае ў плане двух'яруснае збудаванне накрыта невысокім шатровым дахам. Першы ярус глухі, чацверыковы, яго вуглы ўмацаваны пілястрамі, грані дэкарыраваны арачнымі нішамі. Дру-

гі ярус — шасцерыковы — мае арачныя праёмы (праз адну на кожнай грані).

Мікалаеўская царква (1669—72 гг.).

Трохапсідная крыжова-купальная базіліка з васьмігранным светлавым барабанам і цыбулепадобным купалам над сяродкрыжжам. Да цэнтральнага нефа з захаду далучаны прытвор. Галоўны фасад падзелены карнізамі на 3 ярусы і завершаны 2 вежамі з фігурным франтонам паміж імі. Першы масіўны ярус аздоблены 3 плоскімі паўцыркульнымі нішамі на ўсю вышыню, з'яўляецца п'едэсталам для наступных ярусаў. Другі дэкарыраваны «глухой» аркатурай, пілястры якой пакрыты ляпным раслінным арнаментам, спаранымі нішамі з гіркамі. У трэцім ярусе аркатурны матыў з паўкалонкамі прарысаваны больш дэталёва. Бакавыя фасады расчлянёны высокімі пілястрамі. Крылы трансепта завершаны фігурнымі шчытамі. Аконныя праёмы паўцыркульныя і лучковыя.

У інтэр'еры 2 рады калон падзяляюць прастору на 3 нефы. Базілікальная частка завершана трансептам, які крыху выступае. Перакрыцце цэнтральнага нефа і крылаў трансепта — цыліндрычныя скляпенні, бакавых нефаў (завершаны паўцыліндрычнымі апсідамі) — крыжовыя. У бабінцы над уваходам размешчаны хоры. Абапал бабінца — 2 службовыя памяшканні, у адным з іх знаходзіцца вітая лесвіца на вежы. Інтэр'ер царквы ўпрыгожаны манументальным жывапісам розных часоў. Самыя раннія фрэскі — кампазіцыя «Тройца новазапаветная» (на скляпенні купала) і выявы 4 евангелістаў з сімваламі (на ветразях) — адносяцца да канца 17 ст. Сюжэтныя сцэны на біблейскія і евангельскія тэмы (захавалася 19 кампазіцый) размешчаны ў 2 ярусы паміж аконнымі праёмамі светлавога барабана (1-я палова 18 ст.). У алтарнай частцы захаваліся невялікія сюжэтныя кампазіцыі і арнаментальны дэкор канца 18 — пачатку 19 ст. Размалёўкі выкананы ў тэхніцы фрэскі (па сырой тынкоўцы) і клеявымі фарбамі. Палітра стрыманая, светлая і цёплая: пераважае вохра з адценнямі ружова-чырвоных, жоўта-карычневых, зялёных і блакітна-сініх колераў. Мадэліроўка форм, твараў і складак адзення — колеравая. Кампазіцыі характарызуюцца прасторавай глыбінёй і аб'ёмам. Тыпаж простанародны. У сцэны ўведзены скупы пейзаж з невялікімі архітэктурнымі кулісамі, але кампазіцыі цэласныя, напоўненыя ўнутраным рухам. Чатырох'ярусны іканастас (скразная разьба па дрэве, пазалота) зроблены мясцовымі майстрамі да 1672 г. Некалькі разоў рамантаваўся, але істотна змяніліся толькі дэталі ніжняга яруса. Увенчаны скульптурным распяццем у абрамленні пышнай разьбы.

Мікалаеўская царква — помнік архітэктуры барока, характэрны прыклад дойлідства, дзе яскрава праявіліся планіровачна-канструкцыйныя і архітэктурна-дэкаратыўныя асаблівасці, характэрныя для гэтага рэгіёна.

*Літ.:* Могилевская старина: Сб. статей «Могилевских губернских ведомостей». В. 1.— Могилев, 1900. *Э. І. Вецер, В. В. Церашчатава, Т. І. Чарняўская.*



29. *Мікалаеўская царква.*



29. *Мікалаеўская царква. План.*



29. *Мікалаеўская царква. Падоўжны разрэз.*

**30. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На Машэкаўскіх могілках. Пахаваны 2208 жыхароў Магілёва, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 3.10.1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**31. МАГІЛА КАЛАМІЙЧАНКІ** Івана Дзмітрыевіча (гіст.). На Машэкаўскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза І. Дз. Каламійчанка нарадзіўся 25.11.1914 г. у г. Бахмач Чарнігаўскай вобл. Член КПСС з 1940 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе (1943 г.). У Вялікую Айчынную вайну з 26.6.1941 г. на Заходнім, Бранскім, 1-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах. Камандзір палка падпалкоўнік І. Дз. Каламійчанка вызначыўся ў зімовым наступленні Чырвонай Арміі ў 1945 г. 800-ы стралковы Пражскі полк 143-й стралковай дывізіі ў ноч на 16.1.1945 г. імклівай атакай прарваў моцную абарону ворага на поўнач ад Варшавы, фарсіраваў Віслу і захапіў плацдарм на левым беразе, што забяспечыла фарсіраванне ракі інш. часцямі. І. Дз. Каламійчанка паказаў у выключна складаных абставінах уменне кіраваць войскамі, асабістую адвагу і мужнасць. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. Да 1960 г. палкоўнік І. Дз. Каламійчанка служыў у Савецкай Арміі. Памёр 12.12. 1964 г.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**32. МАГІЛА КАРАЛЁВА** Мікалая Піліпавіча (гіст.). На Машэкаўскіх могілках.

Герой Савецкага Саюза, генералмаёр (1943 г.) М. П. Каралёў нарадзіўся 18.6.1906 г. у в. Амінавічы Асіповіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1956 г. скончыў Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. У Чырвонай Арміі з 1929 г. У 1930—32 гг. працаваў у Асіповіцкім леспрамгасе, на заводзе, з 1932 г. старшыня калгаса, сельсавета, з 1937 г. намеснік старшыні, старшыня Асіповіцкага райвыканкома. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху і камуністычнага падполля ў Магілёўскай вобл., член Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б (2.4—15.9.1943 г.). З ліпеня 1941 г. камандзір групы, з сакавіка 1942 г.— 210-га асобнага атрада, са студзеня 1943 г.— 1-й Асіповіцкай партызанскай брыгады, з ліпеня 1943 г. — Асіповіцкай ваеннааператыўнай групы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Са жніўня 1944 г. старшыня Магілёўскага гарвыканкома. У 1953—69 гг. на партыйнай і савецкай рабоце. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—52 гг., 1954—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Са-

вета БССР у 1947—59 гг., член Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг. Ганаровы грамадзянін Магілёва. Памёр 9.4.1972 г. У 1974 г. на доме, дзе жыў М. П. Каралёў (вул. Першамайская, 67), устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**33. МАГІЛА ЛАЗАРЭНКІ** Івана Сідаравіча (гіст.). Вул. Першамайская, у скверы імя І. С. Лазарэнкі.

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр (1940 г.) І. С. Лазарэнка нарадзіўся 8.10.1895 г. у рабочым пасёлку Валаконаўка Белгарадскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1921 г. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У 1917 г. добраахвотна ўступіў у Чырвоную гвардыю, з 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны, савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Бранскім, 2-м Беларускім франтах, камандзір 369-й Карачаўскай стралковай дывізіі. Вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка ў Магілёўскай вобл. 23—25.6.1944 г. дывізія фарсіравала рэкі Проня і Бася, выбіла праціўніка з займаемых пазіцый і прасунулася з баямі на 25 км. Полк, у якім знаходзіўся І. С. Лазарэнка, быў контратакаваны праціўнікам каля в. Халмы Чавускага р-на. Камдзіў асабіста падбіў з гарматы некалькі танкаў. Загінуў у баі 25.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.7. 1944 г. Імем І. С. Лазарэнкі названа вуліца і сквер у Магілёве.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск, на якім бронзавы барэльеф героя.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972.



33. *Помнік на магіле І. С. Лазарэнкі.*

**34. МАГІЛА ПЫСІНА** Аляксея Васілевіча (гіст.). Вул. Лазарэнкі, на могілках.

Беларускі савецкі паэт, заслужаны работнік культуры БССР (1980 г.) А. В. Пысін нарадзіўся 22.3.1920 г. у в. Высокі Барок Краснапольскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Вучыўся ў Камуністычным інстытуце журналістыкі імя С. М. Кірава ў Мінску, скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы пры Саюзе пісьменнікаў СССР у Маскве (1958 г.). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. працаваў у раённым друку, з 1958 г.— у газеце «Магілёўская праўда». З 1974 г. сакратар Магілёўскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Друкавацца пачаў у 1938 г. Аўтар зборнікаў паэзіі «Наш дзень» (1951 г.), «Сіні ранак» (1959 г.), «Сонечная паводка» (1962 г.), «Мае мерыдыяны» (1965 г.), «Твае далоні» (1967 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1968 г.), «Пойма» (1968 г.), «Да людзей ідучы» (1972 г.), «Вярбовы мост» (1974 г.), «Ёсць на свеце мой алень» (1978 г.). Выдаў кнігі вершаў для дзяцей «Матылёчкі-матылі» (1962 г.); «Вясёлка над плёсам» (1964 г.), «Кавылёк» (1966 г.), «Колькі сонцаў» (1979 г.) і паэму «Дзяўчынка Марыям» (1970 г.). Пераклаў на беларускую мову зборнікі вершаў «Жураўлі над стэпам» (1977 г.) М. Ханінава і «Маабіцкі сшытак» (1975 г., разам з С. Гаўрусёвым) М. Джаліля. Паэзіі А. В. Пысіна характэрны грамадзянская актыўнасць, эмацыянальна-вобразная сабранасць, спавядальная шчырасць. Памёр 27.8. 1981 г. У 1984 г. на доме, дзе жыў А. В. Пысін (праспект Міру, 35а), устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1982 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай паэта.

*Літ.:* Гаралік Л. М. Аляксей Пысін: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1981; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *А. А. Седзін.*

**35. МАГІЛА РАБЧЭЎСКАГА** Міхаіла Фёдаравіча (гіст.). Вул. Лазарэнкі, на могілках.

Герой Савецкага Саюза М. Ф. Рабчэўскі нарадзіўся 21.12.1911 г. у в. Балешын Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. У 1932 г. скончыў Магілёўскі медыцынскі тэхнікум, у 1936 г.— Сталінградскую ваенную школу лётчыкаў. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну М. Ф. Рабчэўскі з 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Сталінградскім, Паўднёвым, Паўночна-Каўказскім, 4-м Украінскім, 1, 2, 3-м Прыбалтыйскіх франтах: камандзір эскадрыллі штурмавікоў, штурман палка, дывізіі, камандзір штурмавога авіяпалка. Зрабіў 192 баявыя вылеты, знішчыў 15 варожых самалётаў у паветры і 20 на зямлі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.11.1943 г. Да 1956 г. палкоўнік М. Ф. Рабчэўскі служыў у Савецкай Арміі, потым на адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце. Памёр 31.3.1979 г.

У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**36. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Першамайская, 77, на будынку аднаго з цэхаў завода «Строммашына» імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка. Устаноўлена ў 1966 г. У час акупацыі горада нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі на тэрыторыі прадпрыемства канцэнтрацыйны лагер, дзе загубілі сотні савецкіх грамадзян.

**37. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Прывакзальная пл., на будынку білетных кас. Устаноўлена ў 1966 г.

У Вялікую Айчынную вайну ў акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі Магілёве на чыгуначным вузле дзейнічала некалькі падпольных груп.

Група А. В. Гарошкі і П. І. Бялько. Створана ў верасні 1941 г. студэнтам Маскоўскага чыгуначнага інстытута А. В. Гарошкам (закатаваны гітлераўцамі ў 1943 г., пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені) і дырэктарам Лунінецкага лесазавода П. І. Бялько (псеўданім — Г. І. Анісовіч, закатаваны ў 1943 г.). У групу ўваходзілі: інжынер У. М. Процкі (на кватэры меў радыёпрыёмнік, слухаў і размнажаў зводкі Саўінфармбюро, загінуў у 1943 г.), інжынер М. А. Сакалоў (загінуў), пуцявая рабочая Н. В. Чарапанава (загінула ў 1943 г.), Г. В. Тамкоў (закатаваны ў ліпені 1943 г.), чарцёжніца Н. М. Лугаўцова, настаўніца А. Ф. Магілявец-Чуліцкая (праз яе група трымала сувязь з Камітэтам садзеяння Чырвонай Арміі, яе кватэра з'яўлялася канспіратыўнай для групы чыгуначнікаў і партызанскай разведгрупы В. Дз. Швагрынава; закатавана ў 1943 г.) і інш. Падпольшчыкі збіралі звесткі аб руху вайсковых эшалонаў праз станцыю Магілёў, выводзілі са строю паравозы і вагоны. Г. В. Тамкоў расшрубаваў рэйкі, у выніку адбылося крушэнне эшалона. П. І. Бялько спаліў дэпо, калі там было 6 паравозаў. Зімою 1943 г. А. В. Гарошка, М. А. Сакалоў і Н. М. Лугаўцова зрабілі карту ваенных аб'ек-

таў працiўнiка ў Магiлёве. Група дзейнiчала да снежня 1943 г.

Група I. С. Малашкевiча. Створана ў верасні 1941 г. прарабам I. С. Малашкевiчам, мела сувязь з Камiтэтам садзеяння Чырвонай Армii. У групу ўваходзiлi: рабочыя С. С. Сагалiн (расстраляны ў 1943 г.), М. I. Малашкевiч, Аляксандр i Мiкалай Аляшкевiчы, С. М. Шакура, М. Н. Шанько i iнш. I. С. Малашкевiч разам з С. Л. Шугалеем (загiнуў) стварылi падгрупу ў Высоцкiм i Стара-Вадвянскiм сельсаветах Шклоўскага р-на. Актыўнымi членамi яе былi: I. Ф. i П. Ф. Iсаевы, Ф. С., Дз. С., I. С. i А. Ф. Грышчанкi, В. Пяткоў i iнш. Група вяла разведку, праводзiла дыверсii на чыгунцы, перадавала партызанам брыгады «Чэкiст» зброю, прадукты, соль. С. М. Шакура пераправiў у брыгаду больш за 40 савецкiх ваеннапалонных.

Група В. М. Жывапiсцавай. Створана бухгалтарам станцыi В. М. Жывапiсцавай (закатавана ў жнiўнi 1943 г., пасмяротна ўзнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступенi) i Г. С. Трактатавай. Група з 18 чалавек мела больш як 40 надзейных памочнiкаў сярод насельнiцтва. Члены групы: дочкi Жывапiсцавай — Аза i Дзiна (трынаццацiгадовая Дзiна закатавана гiтлераўцамi ў 1943 г.), мацi — Э. Г. Мiзко (закатавана ў 1943 г.), В. А. Бухавец (узначальвала групу пасля арышту В. М. Жывапiсцавай), В. А. Барчук, Ф. Ц. Палевiкова, А. I. Агурэчнiкаў (з 1943 г. разведчык групы I. Р. Навумовiча), I. Верамееў (загiнуў у 1943 г.), В. i Т. Калбянок (закатаваны ў гестапа ў сакавiку 1944 г.), I. I. Несцяровiч i iнш. Падпольшчыкi збiралi зброю, перадавалi партызанам звесткi пра час карных аперацый, вялi разведку для камандавання фронта, арганiзоўвалi дыверсii на чыгунцы, вялi ўлiк эшалонаў i аўтакалон працiўнiка. Сувязнымi з партызанскай групай I. Р. Навумовiча былi Аза Жывапiсцава (узнагароджана ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступенi i медалямi) i В. Я. Готвальд. Група дзейнiчала да чэрвеня 1944 г.

Група В. I. Базылёвай. Створана восенню 1941 г. поварам рэстарана на вакзале В. I. Базылёвай (закатавана ў верасні 1943 г.), уваходзiлi члены яе сям'i: бацька Iван Пiлiпавiч, мацi Серафiма Iванаўна, дочкi Вольга, Вера, Марыя, Бранiслава i сыны Васiль, Аляксандр i Мiхаiл. Падпольшчыкi мелi сувязь з партыз. групай I. Р. Навумовiча, перадавалi ёй звесткi аб канцэнтрацыi вайсковых часцей i тэхнiкi ворага, пра рух эшалонаў праз чыгуначны вузел, колькасць самалётаў на Лупалаўскiм аэрадроме, распаўсюджвалi савецкiя газеты i лiстоўкi.

Група П. В. Дракава. Створана восенню 1941 г. капiтанам Чырвонай Армii П. В. Дракавым. Складалася з 16 чалавек. Падпольшчыкi мiнiравалi i псавалi паравозы i iнш. Вясною 1943 г. усе члены групы арыштаваны i закатаваны.

Група М. Ц. Гарбачова. Створана ў вагонным дэпо ў верасні 1941 г. сакратаром партыйнай арганiзацыi чыгуначнага вузла М. Ц. Гарбачовым (закатаваны). Падпольшчыкi рабiлi дыверсii на ваенных аб'ектах, на чыгунцы, распаўсюджвалi лiстоўкi i iнш.

*Літ.:* Могилев: (Историко-экономический очерк).— Мн., 1971; Герои подполья. В. 1.—4 изд.— М., 1972; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**38. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПЫСІНУ** Аляксею Васілевічу (гіст.). Праспект Мiру, 35а. Устаноўлена ў 1984 г. на доме, дзе ў 1974—81 гг. жыў беларускi савецкi паэт А. В. Пысiн. Гл. артыкул № 34 «Магiла Пысiна Аляксея Васiлевiча».

**39. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАБОТНІКАМ АЎТАМАБІЛЬНАГА ЗАВОДА ІМЯ С. М. КІРАВА** (гіст.). Вiцебскi праспект, на будынку заводакiраўнiцтва. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяцi работнiкаў завода, якiя загiнулi ў барацьбе з нямецка-фашысцкiмi захопнiкамi.

На прадпрыемстве ў кастрычнiку 1941 г. была створана адна з першых у акупiраваным горадзе падпольная група. Арганiзатары i кiраўнiкi электраманцёр В. I. Батура (закатаваны ў 1943 г.) i бухгалтар М. I. Харкевiч (загiнуў у баi ў 1943 г.). Члены групы: Л. Дз. Лорчанка (загiнуў у 1943 г., у 1965 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза), М. М. Фiлiповiч, У. Л. Лявонаў, Ц. I. Крываносаў, А. I. Рыжкоў (загiнуў на фронце ў 1944 г.), К. В. Хмяльнiцкi (закатаваны ў 1943 г.), I. М. Райкоў (закатаваны ў 1943 г.), У. Я. Шацiкаў, Е. П. Паўлава i iнш. Падпольшчыкi прымалi радыёперадачы з Масквы, пiсалi i распаўсюджвалi лiстоўкi, збiралi зброю для партызан, трымалi сувязь з 600-м партызанскiм атрадам. У хаце В. I. Батуры ў пасёлку Халмы была явачная кватэра. Група дзейнiчала да чэрвеня 1944 г.

*В. Б. Караткевіч.*

**40. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СТУДЭНТАМ І ВЫКЛАДЧЫКАМ ПЕДІНСТЫТУТА** (гіст.). Вул. Касманаўтаў, 1. Устаноўлена ў 1985 г. на ўшанаванне памяцi студэнтаў i выкладчыкаў Магiлёўскага педагагiчнага iнстытута iмя А. А. Куляшова, якiя загiнулi ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкiх захопнiкаў у гады Вялiкай Айчыннай вайны.

**41. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУПРАЦОЎНІКАМ МІЛІЦЫІ** (гіст.). Вул. Цiмiразеўская, 16. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяцi супрацоўнiкаў упраўлення мiлiцыi Магiлёўскай вобл., якiя загiнулi ў барацьбе з ворагамi Сацыялiстычнай Айчыны.

**42. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РАЗГРОМУ ВАРОЖАГА ГАРНІЗОНА Ў 1943 г.** (гіст.). Устаноўлена ў 1963 г.

Пасля акупацыi Магiлёўшчыны нямецка-фашысцкiмi захопнiкамi ў в. Пашкава (прыгарад Магiлёва) знаходзiўся варожы гарнiзон. У 1943 г. тут размяшчаўся так званы «ўкраiнскi нацыянальны» батальён, сфармiраваны з ваеннапалонных-украiнцаў, якiх акупанты намервалiся выкарыстаць для барацьбы супраць партызан. Камандаванне 6-й Магiлёўскай партызанскай брыгады вырашыла разграмiць гарнiзон. Па яго заданню патрыёты магiлёўскай падпольнай арганiзацыi Камiтэт садзеяння Чырвонай Армii (кiраўнiк К. Ю. Мэтэ) праводзiлi растлумачальную работу сярод былых ваеннапалонных, зрабiлi дакладную разведку ўмацаванняў, размяшчэння агнявых кропак. У ноч на 10.2.1943 г. група партызан 113, 121, 600, 425-га партызанскiх атрадаў разграмiла гарнiзон, было знiшчана каля 50 гiтлераўцаў, захоплена 7 кулямётаў, больш за 120 вiнтовак. Да партызан са зброяй у руках перайшлi 330 салдат i афiцэраў.

*Літ.:* Калинин П. З. Партизанская республика.— 3 изд.— Мн., 1973.

*В. М. Удальцоў.*

**43. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА УЛАДЗІМІРАВУ** Канстанцiну Рыгоравiчу (гіст.). Вул. Грышына, 2. Устаноўлена ў 1984 г.

Адзiн з кiраўнiкоў абароны Магiлёва ў 1941 г. К. Р. Уладзiмiраў нарадзiўся ў 1899 г. у г. Рослаў Смаленскай вобл. Член КПСС. Удзельнiк Грамадзянскай вайны. З 1923 г. у органах мiлiцыi. Напярэдаднi Вялiкай Айчыннай вайны працаваў начальнiкам аддзела службы i баявой падрыхтоўкi Магiлёўскага абласнога ўпраўлення мiлiцыi, капiтан. З першых дзён Вялiкай Айчыннай вайны праводзiў работу па арганiзацыi i стварэннi аператыўных груп па барацьбе з дыверсантамi, эвакуацыi насельнiцтва i прамысловага абсталявання. Калi нямецка-фашысцкiя войскi наблiзiлiся да Магiлёва, узначалiў батальён мiлiцыi (250 чалавек), якi некалькi сутак стрымлiваў нацiск намнога большых сiл ворага каля вёсак Пашкава i Гаi. 18 лiпеня паранены К. Р. Уладзiмiраў павёў байцоў у контратаку, у час якой загiнуў. Пахаваны ў брацкай магiле ў в. Гаi, дзе ў гонар батальёна, якiм камандаваў К. Р. Уладзiмiраў, у 1984 г. адкрыты мемарыяльны комплекс. Iмем К. Р. Уладзiмiрава названа вулiца ў Магiлёве.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *А. Г. Шчарбатаў.*

**44. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЯШЫНУ** Мікалаю Іванавічу (гіст.). Пушкінскі праспект, на адной з калон моста цераз Дняпро. Устаноўлена ў 1964 г.

Герой Савецкага Саюза М. І. Яшын нарадзіўся 23.2.1923 г. у в. Ніжняя Гнілуша Малаархангельскага р-на Арлоўскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1942 г. скончыў Тамбоўскае кавалерыйскае вучылішча. У Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Узвод коннай разведкі 830-га стралковага палка 238-й стралковай дывізіі 50-й арміі на чале са старшым лейтэнантам М. І. Яшыным 27.6.1944 г. адзін з першых фарсіраваў Дняпро каля Магілёва, разведаў размяшчэнне агнявых кропак праціўніка, выбіў яго з умацаваных пазіцый, што садзейнічала поспеху наступлення падраздзяленняў палка. М. І. Яшын загінуў у баі за плацдарм 28.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**45. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС «ЗМАГАРАМ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ»** (гіст., маст.). На Савецкай пл. Створаны ў 1982 г. (скульпт. Л. Гумілеўскі, архіт. К. Аляксееў, А. Іваноў; бронза, граніт, бетон). Уключае бронзавую фігуру жанчыны, 5 стэл, брацкую магілу чырвонаармейцаў.

Размешчаны на высокім беразе Дняпра, арганічна ўваходзіць у архітэктурны і прыродны ландшафт і быццам злучае 2 часткі горада. Сэнсавае і пластычнае ядро кампазіцыі — бронзавая фігура жанчыны (вышыня 7 м) на гранітным пастаменце (вышыня 13 м), якая сімвалізуе Перамогу, аднаўленне жыцця, вечны рух наперад, надае мемарыялу эпічна-аптымістычнае гучанне. Каля падножжа скульптуры-манумента запалены Вечны агонь. Перад скульптурай абліцаваныя гранітам стэлы з бронзавымі барэльефамі на тэмы: «Кастрычнік», «Калектывізацыя», «Абарона Магілёва ў 1941 г.», «Партызанскі рух», «Пасляваеннае адраджэнне», якія адлюстроўваюць у пластыцы падзеі мінулых часоў і сучаснасці.

Брацкая магіла чырвонаармейцаў. Пахаваны 15 чырвонаармейцаў. У 1920 г. Заходні фронт стаў галоўным для Савецкай рэспублікі. У Магілёве фарміраваліся атрады добраахвотнікаў для барацьбы з войскамі буржуазнай Польшчы. Мужнасць і гераізм у змаганні з інтэрвентамі праявілі байцы 35-га бронеатрада 16-й арміі (камандзір атрада — магілёўчанін бальшавік М. М. Грачоў). Бронеатрад (5 машын, 19 байцоў) каля в. Цейкавічы Кіраўскага р-на 4.6.1920 г. трапіў у засаду. Байцы бронемашыны В. М. Усава пераашкодзілі ворагу падарваць мост, прыкрывалі адыход інш. машын атрада. Калі скончыліся патроны, чырвонаармейцы ўступілі ў рукапашны бой. Амаль усе загінулі. В. М. Усаў (пасмяротна), вадзіцелі машын Л. І. Альбаў, І. М. Філатаў, кулямётчыкі П. М. Кулагін, А. В. Міхайлаў былі ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Кармалітава І. У. Барацьбітам за свабоду.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1983, № 1.

*В. Б. Караткевіч, Л. Г. Лапцэвіч*

**46. МЕСЦА БАЁЎ У ЛІПЕНІ 1941 г.** (гіст.). Вул. Вал Чырвонай Зоркі. Вал Чырвонай Зоркі на правым беразе Дняпра, ад Савецкай плошчы да плошчы Арджанікідзе, у ліпені 1941 г. быў месцам жорсткіх баёў



45. *Мемарыяльны комплекс «Змагарам за Савецкую ўладу».*

абаронцаў Магілёва з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

18.7.1941 г. гітлераўцам удалося адцясніць падраздзяленні 747-га палка 172-й стралковай дывізіі з занятых імі пазіцый і наблізіцца да Лупалава — прадмесця Магілёва на левым беразе Дняпра. Савецкія воіны і батальён народнага апалчэння на чале з камісарам П. Е. Цярэнцьевым гераічна змагаліся на тэрыторыі Лупалаўскага аэрадрома, аднак вымушаны былі адысці за Дняпро і заняць абарону на Вале. Гітлераўцы імкнуліся па дняпроўскім мосце ўварвацца ў горад. Некалькі іх груп прабіліся на Савецкую пл., але неўзабаве былі адкінуты за раку. У ноч на 21 ліпеня абаронцы выкапалі на Вале акопы і траншэі, збудавалі бліндажы. Разам з воінамі 172-й дывізіі каля моста сталі на смерць атрады апалчэнцаў пад камандаваннем капітана Максімава, камісара П. Е. Цярэнцьева, атрад міліцыі пад камандаваннем Дз. С. Вольскага. Пяць сутак адбівалі яны атакі гітлераўцаў, не давалі прарвацца ім цераз мост. Толькі 24 ліпеня фашысты 16 разоў кідаліся ў атакі. 26 ліпеня абаронцы ўзарвалі мост, вялі баі на вуліцах горада.

На ўшанаванне памяці воінаў 172-й стралковай дывізіі і байцоў народнага апалчэння, якія трымалі абарону на Вале Чырвонай Зоркі, устаноўлены 2 мемарыяльныя дошкі: у 1964 г. на вул. Ленінская, 1, і ў 1974 г. на вул. Боткіна, 2.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**47. МЕСЦА ЛАГЕРА СМЕРЦІ, БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Праспект Шміта.

Восенню 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты стварылі ў прыгарадзе Магілёва — Лупалаве канцэнтрацыйны лагер для масавай загубы савецкіх ваеннапалонных. Тэрыторыя была абнесена калючым дротам, па якім прапускалі электрычны ток. Вязняў трымалі ў антысанітарных умовах, марылі голадам, катавалі, расстрэльвалі. Да 1943 г. гітлераўцы загубілі тут больш за 40 тыс. вязняў.

Брацкая магіла савецкіх воінаў. Знаходзіцца на тэрыторыі былога лагера. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на подступах да Магілёва ў раёне Лупалава. Сярод іх — воіны 238-й дывізіі 121-га стралковага корпуса 50-й арміі і 369-й дывізіі 62-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту.

На ўшанаванне памяці вязняў лагера смерці і воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў раёне Лупалава ў 1944 г., у 1948 г. узведзены мемарыяльны комплекс. На магілах ваеннапалонных устаноўлены абеліск, на брацкай магіле савецкіх воінаў —



47. *Помнік на месцы Лупалаўскага лагера смерці.*

скульптура салдата з аўтаматам. У 1984 г. пастаўлены 2 бетонныя вертыкалі, аб'яднаныя ў ніжняй частцы гарызантальнай перамычкай. У верхняй частцы вертыкалей размешчаны фрагменты кратаў. Пляцоўка выкладзена бетоннымі плітамі з кветнікавымі газонамі. Перад уваходам на тэрыторыю комплексу запалены Вечны агонь. *В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін.*

**48. МЕСЦА НАЗІРАЛЬНАГА ПУНКТА 121-га СТРАЛКОВАГА КОРПУСА** (гіст.). Праспект Г. Дзімітрава, каля дома № 76.

У час Беларускай аперацыі 1944 г. 139-я (генерал-маёр І. К. Кірылаў) і 238-я (генерал-маёр І. Д. Краснаштанаў) стралковыя дывізіі 121-га стралковага корпуса (генерал-лейтэнант Дз. І. Смірноў) 50-й арміі (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) 24.6.1944 г. перайшлі ў наступленне супраць нямецка-фашысцкіх войск. Яны фарсіравалі р. Раста і да раніцы 27 чэрвеня ўварваліся ў прадмесце Магілёва — Лупалава. Назіральны пункт камандавання 121-га корпуса быў на вышыні, з якой добра праглядваліся поплаў і правы бераг Дняпра. На падручных сродках воіны з ходу пачалі фарсіраваць раку, але гітлераўцы сустрэлі іх моцным агнём. Каб прыкрыць месца навядзення моста, карпусная артылерыя была размешчана ўздоўж Дняпра і вяла стральбу па праціўніку прамой наводкай. Пад моцным агнявым прыкрыццём 139-я і 238-я дывізіі пераадолелі водную перашкоду, наблізіліся да горада. Вечарам 27 чэрвеня воіны 121-га корпуса ўварваліся на вуліцы Магілёва. У гэты час часткова фарсіравала Дняпро 330-я стралковая дывізія (генерал-маёр В. А. Гусеў). 28 чэрвеня горад быў поўнасцю вызвалены.

У 1964 г. на месцы, дзе 27.6.1944 г. знаходзіўся назіральны пункт 121-га корпуса, пастаўлена стэла.

*Літ.* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**49. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ШТАБА ЗАХОДНЯГА ФРОНТУ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад аўтазавода імя С. М. Кірава, каля Чавускай шашы. З 24.6 да 3.7.1941 г. тут размяшчаўся штаб Заходняга фронту.

Заходні фронт утвораны 22.6.1941 г. Камандуючыя: генерал арміі Дз. Р. Паўлаў (22—30 чэрвеня), генерал-лейтэнант А. І. Яроменка (30 чэрвеня — 2 ліпеня, 19—29 ліпеня), Маршал Савецкага Саюза С. К. Цімашэнка (2—19 ліпеня, 30.7—12.9.1941 г.). Штаб фронту, ЦК КП(б)Б і СНК БССР перабазіраваліся з Мінска ў Магілёў 25 чэрвеня. Сюды 27 чэрвеня прыбылі прадстаўнікі Вярхоўнага камандавання Маршалы Савецкага Саюза К. Я. Варашылаў і Б. М. Шапашнікаў. 1.7.1941 г. у штабе адбылася нарада партыйнага актыву з удзелам першага сакратара ЦК КП(б)Б П. К. Панамарэнкі, Маршалаў Савецкага Саюза К. Я. Варашылава і Б. М. Шапашнікава. Былі распрацаваны канкрэтныя меры па ўмацаванню абароны горада, разгледжаны пытанні, звязаныя з кіраўніцтвам баявымі дзеяннямі. Непасрэдна абарона Магілёва была ўскладзена на 172-ю стралковую дывізію (генерал-маёр М. Ц. Раманаў), умацаваную атрадамі народнага апалчэння.

У лесе, дзе быў штаб Заходняга фронту, створаны мемарыяльны комплекс, які ўключае рэшткі зямлянкі і стэлу. Побач з ёю ў 1964 г. пастаўлена стэла.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**50. МЕСЦА СТВАРЭННЯ І ДЗЕЙНАСЦІ ПАДПОЛЬНАЙ ГРУПЫ «НЕПАКОРАНЫЯ»** (гіст.). Вул. Камсамольская, 12. Тут, у будынку культасветвучылішча, у час абароны Магілёва ў ліпені 1941 г. знаходзіўся



47. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў на тэрыторыі былога лагера смерці.*



51. *Палац культуры і тэхнікі вытворчага аб'яднання «Хімвалакно».*

шпіталь. Раненых не паспелі эвакуіраваць. Калі горад захапілі акупанты, у шпіталі была створана і з жніўня 1941 г. дзейнічала падпольная антыфашысцкая партыйна-камсамольская група. У яе ўвайшлі ўдзельнікі абароны Магілёва палітрук І. Г. Гурыеў, старшы лейтэнант А. Васільеў, малодшы лейтэнант Г. А. Захаран (закатаваны гітлераўцамі ў лютым 1943 г.), лейтэнант Р. М. Бойка, медсястра Л. Ф. Еўдакіменка (загінула ў баі з карнікамі ў студзені 1944 г.). 1.9. 1941 г. падпольшчыкі зацвердзілі назву групы — «Непакораныя». Хутка ў яе ўступілі ўрачы Б. І. Бурмістраў і В. І. Тарасенкаў, галоўны ўрач шпіталя Н. А. Шанкарская (закатавана ў гестапа ў пачатку 1944 г.), медсястра Г. Зубовіч, работніцы кухні Н. І. Пшыркова і Г. Л. Аднарогава, падпалкоўнік П. А. Колеса, настаўніца Т. П. Агароднікава (загінула ў засценках гестапа ў 1944 г.) і яе бацька стрэлачнік П. М. Агароднікаў, А. І. Рынкевіч і інш.

Падпольшчыкі рэгулярна прымалі па радыё і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, пераpraўлялі параненых, якія выздаравелі, у партызанскія атрады. Ноччу 7.11.1941 г. над шпіталем узнялі Чырвоны сцяг. У студзені 1942 г. Г. А. Захаран замарозіў трубы на ЦЭЦ, дзе ўладкаваўся манцёрам, у лютым 1943 г. здабыў у штабе рэзервова-фарміравальнага пункта аператыўную карту Магілёва, якая была перададзена партызанам. Т. П. Агароднікава і П. М. Агароднікаў засыпалі ў буксы вагонаў пясок, збіралі звесткі аб руху варожых эшалонаў. У 25-ю гадавіну Кастрычніка падпольшчыкі спалілі на станцыі Магілёў-2 некалькі вагонаў са збожжам. «Непакораныя» перадалі партызанам 121-га атрада Клічаўскага аператыўнага цэнтра больш за 8 тыс. патронаў, 3 ручныя кулямёты, 4 камплекты сілкавання для рацыі, больш за 80 кг узрыўчаткі, медыкаменты.

У сярэдзіне жніўня 1942 г., калі колькасць хворых у шпіталі значна скарацілася, гітлераўцы перавялі іх у былы гарнізонны шпіталь па вул. Віленскай. Начальнікам яго быў прызначаны ўрач В. І. Тарасенкаў. Калі стала вядома, што параненых са шпіталя збіраюцца адправіць у Польшчу ці Германію, падпольшчыкі выпрацавалі тэрмінова вывесці іх і медыцынскі персанал да партызан. 13.3. 1943 г. у 23 гадзіны без выстралаў патрыёты зняшчылі ахову і вывелі 41 чалавека ў 121-ы партызанскі атрад.

У 1968 г. на будынку, дзе была створана група «Непакораныя», устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. Б. Караткевіч.*

**51. ПАЛАЦ КУЛЬТУРЫ І ТЭХНІКІ ВЫТВОРЧАГА АБ'ЯДНАННЯ «ХІМВАЛАКНО»** імя У. І. Леніна (архіт.). Пушкінскі праспект, 7. Пабудаваны ў 1977 г. з цэглы (архіт. Я. Смальгоўскі, В. Ладыгіна, В. Астаповіч). Уваходзіць у культурна-спартыўны комплекс паркавай зоны поймы р. Дняпро.

Будынак 3-павярховы з цокальным паверхам, складанай формы плана. Аб'ёмна-прасторавае вырашэнне заснавана на кантрастным процістаўленні выцягнутага 3-павярховага корпуса і больш высокіх аб'ёмаў сцэнічнай часткі і танцавальнай залы. Галоўны фасад, арыентаваны на Пушкінскі праспект, мае асіметрычна размешчаны ўваход, што вылучаецца шырокай лесвіцай і навясным казырком, над якім узвышаецца аб'ём танцавальнай залы з высокімі вокнамі, падзеленымі вертыкальнымі рэбрамі. Сцены рытмічна чляніоны прамавугольнымі аконнымі праёмамі на 2-м і 3-м паверхах і вузкімі высока размешчанымі на першым. Глухая сцяна сцэнічнай каробкі на галоўным фасадзе дэкарыравана канелюрамі. Фасады будынка апрацаваны белымі мармуровымі пліткамі. Аб'ёмна-планіровачная будова па функцыянальнаму прызначэнню падзяляецца на відовішчную (глядзельная зала на 1200 месцаў з падсобнымі памяшканнямі), для адпачынку (кіна-лекцыйная, танцавальная і выставачная залы, кафэ, більярдная), клубную (памяшканні для гуртковай работы, рэпетыцыйныя залы, бібліятэка з чытальнай залай). Аздоба інтэр'ераў вылучаецца сінтэзам архітэктуры і мастацтва: у фае глядзельнай залы — габелен «Мой родны край» (7×18 м, маст. С. Сакалоў, З. Літвінава), у кафэ — люстра «Вясна» з літога шкла, у вестыбюлях глядзельнай і танцавальнай залаў — вітражы (маст. С. Сакалоў, В. Мігаль). Перад будынкам — партэрная частка парку з шырокай эспланадай і дэкаратыўным басейнам са скульптурнай групай (архіт. В. Занковіч).

Палац культуры і тэхнікі — прыклад грамадскіх шматфункцыянальных будынкаў савецкай архітэктуры 1970-х гадоў. *Т. І. Чарняўская.*

**52. ПОМНІК АРТЫЛЕРЫСТАМ І САПЁРАМ** (гіст.).

27.6.1944 г. войскі 49-й і 50-й армій 2-га Беларускага фронту завяршылі ў Магілёве акружэнне праціўніка, які 6 разоў контратакаваў, каб вырвацца з кальца. Адна з контратак адбылася ў раёне в. Пашкава. Савецкія воіны-артылерысты і сапёры цаной свайго жыцця спынілі гітлераўцаў, якія прарываліся з акружэння.

На ўшанаванне памяці загінуўшых савецкіх воінаў пастаўлены помнік: на высокім пастаменце 57-міліметровая гармата і скульптурная кампазіцыя — два сапёры і артылерыст.

**53. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Пл. Перамогі.

Горад быў вызвалены ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у выніку Магілёўскай аперацыі (23—28.6.1944 г.) войск 2-га Беларускага фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў), часцямі 49-й (генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын), 50-й (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін), 33-й (генерал-лейтэнант В. Дз. Кручонкін) і 4-й паветранай (генерал-палкоўнік авіяцыі К. А. Вяршынін) армій.

Фашысты ператварылі Магілёў у крэпасць, абарона якой складалася з 3 рубяжоў: першы праходзіў за 3—4 км ад горада, другі — па гарадскіх ускраінах, трэці — па цэнтральных кварталах. Масты цераз Дняпро былі падрыхтаваны да ўзрыву. 23.6.1944 г. войскі 49-й арміі фарсіравалі р. Проня, 24—25 чэрвеня разам з правафланговымі часцямі 50-й арміі — р. Бася, на левым флангу перайшоў у наступленне 121-ы стралковы корпус (генерал-лейтэнант Дз. І. Смірноў) 50-й арміі. За 3 дні цяжкіх баёў абарона праціўніка была прарвана на глыбіню да 30 км і шырыню да 70 км. 26—27 чэрвеня войскі 49-й арміі фарсіравалі Дняпро, дасягнулі ўскраін Магілёва, абышлі яго з захаду і паўднёвага захаду, перарэзалі дарогі Магілёў — Мінск і Магілёў — Бабруйск.



53. *Помнік воінам-вызваліцелям.*



56. *Помнік С. М. Кіраву.*

Часці 50-й арміі авалодалі прадмесцем горада — Лупалавым, фарсіравалі Днябро і злучыліся з часцямі 49-й арміі. Войскі 33-й арміі вызвалілі Горкі, Копысь, Шклоў. 27 чэрвеня да 19 гадзін акружэнне войск праціўніка ў Магілёве было завершана. Гітлераўцы адхілілі ультыматум савецкага камандавання аб капітуляцыі, некалькі разоў контратакавалі, каб вырвацца з кальца, аднак да 18 гадзін 28 чэрвеня былі разгромлены. У бітве за Магілёў вораг страціў больш за 6 тыс. забітымі, каля 3400 палоннымі, шмат тэхнікі, зброі. Непасрэдна ў баях за горад удзельнічалі 139, 238, 330-я стралковыя дывізіі 50-й арміі, 199-я і 230-я стралковыя дывізіі 49-й арміі і 23-я танкавая брыгада. За гераізм, праяўлены пры вызваленні Магілёва, 28 салдатам і афіцэрам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. 21 вайсковаму злучэнню і часці нададзена ганаровае найменне «Магілёўскіх».

У 1967 г. на ўшанаванне подзвіга воінаў-вызваліцеляў пастаўлены помнік — танк на п'едэстале.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Сидоренко А. А. На Могилевском направлении.— М., 1959; Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972.

*В. Б. Караткевіч.*

**54. ПОМНІК ГОРКАМУ** Максіму (гіст.). На Савецкай пл., у гарадскім парку імя М. Горкага. Бюст М. Горкага ўстаноўлены ў 1962 г.

**55. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пас. Казіміраўка, за 0,1 км ад Мінскай шашы. На ўшанаванне памяці 311 жыхароў былой вёскі Казіміраўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлены абеліск, 2 стэлы і пліта з імёнамі загінуўшых.

**56. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). На Віцебскім праспекце, перад адміністрацыйным будынкам Магілёўскага аўтамабільнага завода імя С. М. Кірава. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1967 г.

**57. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Аўтазаводскай, каля Палаца культуры аўтамабільнага завода імя С. М. Кірава. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**58. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Індустрыяльнай, на тэрыторыі металургічнага завода імя А. Ф. Мяснікова. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**59. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Ленінская, 41, у двары школы № 3. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1951 г.

**60. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Міронава, каля будынка гаркома партыі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**61. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, на тэрыторыі завода «Строммашына». Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**62. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Чалюскінцаў, каля прахадной завода штучнага валакна імя В. У. Куйбышава. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1957 г.

**63. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На тэрыторыі камбіната сінтэтычнага валакна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**64. ПОМНІК МЯСНІКОВУ** Аляксандру Фёдаравічу (гіст.). На вул. Індустрыяльнай, на тэрыторыі металургічнага завода імя А. Ф. Мяснікова. Бюст А. Ф. Мяснікова ўстаноўлены ў 1965 г.

**65. ПОМНІК ПУШКІНУ** Аляксандру Сяргеевічу (гіст.). На Пушкінскім праспекце, у скверы каля кінатэатра «Космас». Скульптура А. С. Пушкіна ўстаноўлена ў 1965 г.

**66. РАДЗІМА ГОРЫНА-ГАЛКІНА** Уладзіміра Піліпавіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, філосаф-марксіст У. П. Горын-Галкін (сапраўднае Галкін) нарадзіўся 10.1.1861 г. у сям'і юрыста. Член КПСС з 1895 г. Рэвалюцыйную дзейнасць пачаў у нарадавольскіх гуртках у Магілёве, Сімферопалі, Харкаве, Адэсе і інш. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях у 1882 г. выключаны з Харкаўскага ветэрынарнага інстытута. У 1887 г. па справе Паўднёвай нарадавольскай арганізацыі на 8 гадоў сасланы ў Верхаянск (Якуція), дзе



57. *Помнік У. І. Леніну.*

за адмову прысягнуць Мікалаю II тэрмін ссылкі павялічаны яшчэ на 2 гады. З 1895 г. на пазіцыях сацыял-дэмакратаў. Удзельнічаў у стварэнні Сібірскага сацыял-дэмакратычнага саюза (1901 г.), член Саратаўскага камітэта РСДРП (1902—03 гг.), працаваў у сацыял-дэмакратычных арганізацыях Растова-на-Доне, Баку, Тбілісі, Кутаісі. Супрацоўнічаў у газеце «Искра». Дэлегат II з'езда РСДРП ад Саратаўскай арганізацыі. Падтрымліваў пазіцыі У. І. Леніна ў барацьбе супраць ліквідатараў і адзавістаў. Пасля II з'езда застаўся за мяжой. Пад псеўданімам Н. Грабоўскі ў 1910 г. выдаў кнігу «Далоў матэрыялізм! (Крытыка эмпірыякрытычнай крытыкі)». Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся ў Расію. З жніўня 1917 г. працаваў у Петраградскім камітэце РСДРП(б). Член ВРК, удзельнік падрыхтоўкі і правядзення Кастрычніцкага ўзброенага паўстання. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі ўзначальваў аддзел друку Наркамата замежных спраў, працаваў у Камуністычным універсітэце. У 1918—20 гг. на кіруючай ваенна-палітычнай рабоце ў Чырвонай Арміі, пасля 1920 г. на навукова-педагагічнай рабоце. Памёр 22.7.1925 г. у Маскве.

*В. Б. Караткевіч.*

**67. РАДЗІМА ГРУМ-ГРЖЫМАЙЛЫ** Кандрата Іванавіча (гіст.).

Беларускі ўрач і грамадскі дзеяч, доктар медыцынскіх навук (1823 г.) К. І. Грум-Гржымайла нарадзіўся 21.9.1794 г. Скончыў медыцынскі факультэт Віленскага універсітэта (1820 г.). Працаваў у Магілёўскім ваенным шпіталі (1821—28 гг.), адна-

часова займаўся навуковай дзейнасцю. Напісаў дысертацыю «Наогул пра пахвінныя грыжы і новы спосаб іх лячэння шляхам аперацыі». У 1833 г. пераехаў у Пецярбург. У 1833—68 гг. у Пецярбургу выдаваў газету «Друг здравия», якая адыграла пэўную ролю ў развіцці айчыннай навукі і папулярызацыі медыцынскіх ведаў. Аўтар кніг «Манаграфія аб радыкальным лячэнні пахвінна-машоначных грыж...» (1837 г.), «Фізіялогія паэзіі і шчасця» (1865 г.), прац па фізіялогіі і паталогіі дзіцячага арганізма, гігіене, дыэтыцы і курарталогіі. Памёр у 1874 г. у Пецярбургу.

*Літ.:* Стельмашонок И. М., К. И. Грум-Гржимайло.— Здравоохранение Белоруссии, 1969, № 10. *В. Б. Караткевіч.*

**68. РАДЗІМА ЗЛАЦІНА** Яфіма Ізраілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. І. Злацін нарадзіўся 20.8.1913 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Скончыў рабфак у Днепрапятроўску, у 1944 г.— Ленінградскае ваенна-палітычнае вучылішча імя Энгельса. У Чырвонай Арміі з 1935 г. У 1937—41 гг. працаваў у Магілёве. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Варонежскім, Сцяпным франтах. Вызначыўся на тэрыторыі Украіны. 24—25.9.1943 г. мінамётны ўзвод пад камандаваннем сяржанта Я. І. Злаціна разам з пехацінцамі фарсіраваў Дняпро, захапіў плацдарм на поўдзень ад Крамянчуга, адбіў некалькі контратак ворага, знішчыў 9 кулямётных, 3 мінамётныя кропкі і каля роты гітлераўцаў. Я. І. Злацін быў цяжка паранены, але не пакінуў поля бою. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1943 г. Да 1964 г. на гаспадарчай рабоце ў Маскве. Памёр 23.8. 1965 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**69. РАДЗІМА ІСАЕВА** Рыгора Пракопавіча (гіст.).

Рэвалюцыянер-народнік Р. П. Ісаеў нарадзіўся 10.1.1857 г. у сям'і паштальёна. Скончыў Магілёўскую гімназію, у час навучання адзін з кіраўнікоў тайнага гуртка самаадукацыі, распаўсюджваў забароненую літаратуру. Вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце і Медыка-хірургічнай акадэміі, у 1878—79 гг. удзельнічаў у студэнцкім руху. Падтрымліваў сувязь з гуртком, што дзейнічаў у Магілёўскай мужчынскай гімназіі, кіраваў зямляцкай групай студэнтаў — ураджэнцаў Магілёўскай губерні. У маі 1879 г. уступіў у тэрарыстычную групу «Свабода або смерць», летам 1879 г.— у «Народную волю», член яе выканаўчага камітэта. Удзельнік падрыхтоўкі замахаў на цара пад Масквою, у Адэсе і Пецярбургу. Арыштаваны ў красавіку 1881 г. На «працэсе 20-ці» ў лютым 1882 г. прыгавораны да пакарання смерцю, якое



65. *Помнік А. С. Пушкіну.*

было заменена пажыццёвай катаргай. Памёр ад сухотаў у Шлісельбургскай крэпасці 25.3.1886 г.

*Літ.:* Фигнер В. Н. Полное собрание сочинений. Т. 4.— 2 изд.— М., 1932; Якимова А. В., Г. П. Исаев.— М., 1930; Волк С. С. Народная воля. 1879— 1882.— М.; Л., 1966.

**70. РАДЗІМА КРАСЦІНСКАГА** Мікалая Мікалаевіча (гіст.).

Савецкі партыйны і дзяржаўны дзеяч, дыпламат М. М. Красцінскі нарадзіўся 13.10.1883 г. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1903 г. У 1907 г. скончыў факультэт права Пецярбургскага універсітэта. Працаваў прысяжным паверэным. У рэвалюцыйны рух уключыўся ў 1901 г. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. на Беларусі, вёў партыйную работу ў Віцебску, Вільні, Коўне, з 1907 г. выступаў у бальшавіцкім друку. Неаднаразова быў арыштаваны і высланы. Удзельнік Лютаўскай і Кастрычніцкай рэвалюцый 1917 г. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі намеснік старшыні Екацярынбургскага гарадскога, старшыня Уральскага абласнога камітэтаў РСДРП(б). З канца 1917 г. у Петраградзе, з сакавіка 1918 г. галоўны камісар Народнага банка. У 1918—22 гг. нарком фінансаў РСФСР, адначасова ў 1919—21 гг. сакратар ЦК РКП(б). З кастрычніка 1921 г. паўнамоцны прадстаўнік Савецкага ўрада ў Германіі, у 1930—37 гг. намеснік наркома замежных спраў СССР. У перыяд барацьбы за заключэнне Брэсцкага міру (1918 г.) прымыкаў да «левых камуністаў», у час дыскусіі аб прафсаюзах (1921 г.) быў прыхільнікам Троцкага, у 1927 г. далучыўся да «новай апазіцыі», з якой парваў у 1928 г. У 1917—21 гг. член ЦК РКП(б), у 1919—21 гг. член Палітбюро ЦК РКП(б). Быў членам ВЦВК РСФСР і ЦВК СССР. Памёр 15.3. 1938 г.

**71. РАДЗІМА НЯДЗВЕЦКАГА** Іосіфа Маркавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Нядзвецкі нарадзіўся 10.6.1908 г. Член КПСС з 1940 г. З 1937 г. машыніст па ледаколе «Ярмак», які ўдзельнічаў у 1938 г. у выратаванні ледакольных параходаў «Садко», «Малыгін», «Георгій Сядоў», што трапілі ў лёдавы палон Арктыкі. Апошні вызваліць не ўдалося. Некаторых членаў яго экіпажа замянілі маракі з «Ермака», сярод іх быў І. М. Нядзвецкі. 812 сутак экіпаж «Георгія Сядова» (15 чалавек) праводзіў назіранні на недаследаванай частцы Арктычнага басейна, што мелі вялікую навуковую каштоўнасць. За праяўленыя мужнасць і гераізм усім членам экіпажа, у т. л. І. М. Нядзвецкаму, 3.2.1940 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Вучыўся ў Прамысловай акадэміі ў Маскве. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Пасля дэмабілізацыі з арміі І. М. Нядзвецкі працаваў у Запаляр'і. Загінуў 26.12.1959 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Пахаваны ў Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**72. РАДЗІМА СУДЗІЛОЎСКАГА** Мікалая Канстанцінавіча (гіст.).

Рускі рэвалюцыянер-народнік, дзеяч міжнароднага рэвалюцыйнага руху (псеўданім Русель), вучоны-прыродазнавец М. К. Судзілоўскі нарадзіўся 3.12.1850 г. у дваранскай сям'і. Вучыўся ў Магілёўскай гімназіі (1864—68 гг.), Пецярбургскім (з 1868 г.) і Кіеўскім універсітэтах (з 1869 г.). Адзін з арганізатараў Кіеўскай камуны (1873—74 гг.), якая была добра вядома асабліва сярод інтэлігенцкай моладзі; «хадзіў у народ», вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рабочых і сялян на Украіне і ў Паволжы. У 1875 г. выехаў за мяжу. У Лондане пазнаёміўся з К. Марксам і Ф. Энгельсам. З чэрвеня 1875 г. у Жэневе, супрацоўнічаў у эмігранцкіх газетах, дапамагаў перасылаць іх у Расію, выдаў зборнік рэвалюцыйных песень. У пачатку кастрычніка 1875 г. пераехаў у Бухарэст, дзе скончыў медыцынскі факультэт універсітэта і абараніў доктарскую дысертацыю (1877 г.). У Бухарэсце зблізіўся з Х. Боцевым, зрабіў значны ўплыў на развіццё рэвалюцыйнага руху ў Балгарыі. У 1876 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы Красавіцкага паўстання балгар супраць турэцкага панавання. З 1881 г. жыў у Парыжы, потым — у Балгарыі. Удзельнічаў у выданні і распаўсюджанні рэвалюцыйнай літаратуры, быў блізкі да групы «Вызва-

ленне працы», аказваў ёй фінансавую дапамогу. З 1887 г. у Сан-Францыска, прыняў амерыканскае падданства, займаўся медыцынай і публіцыстыкай. У 1892 г. перасяліўся на Гавайскія астравы, стварыў партыю незалежных, члены якой змагаліся супраць каланіяльнага прыгнёту. У 1900 г. быў выбраны сенатарам, а пазней прэзідэнтам, імкнуўся правесці радыкальныя дэмакратычныя рэформы. У час руска-японскай вайны 1904—05 гг. жыў у Японіі, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод рускіх ваеннапалонных, адкрыў для іх 3 школы, выдаваў рускія газеты. У 1906 г. пазнаёміўся з Сун Ят-сенам, падтрымліваў сувязі з японскімі дэмакратамі. З 1911 г. на Філіпінскіх астравах, у Японіі, Кітаі. Персанальны пенсіянер Таварыства паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Памёр 30.4.1930 г. у Цяньцзіне.

*Літ.:* Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968; Иосько М. И. Николай Судзиловский-Руссель.— Мн., 1976.

**73. РАДЗІМА СУДЗІЛОЎСКАЙ** Яўгеніі Канстанцінаўны (гіст.).

Рэвалюцыянерка-народніца Я. К. Судзілоўская нарадзілася ў 1854 г. у дваранскай сям'і. Сястра М. К. Судзілоўскага. У 1870 г. скончыла Магілёўскую гімназію, потым вучылася ў Пецярбургу, у 1872—73 гг.— у Цюрыху (Швейцарыя). Пад выглядам вясковай дзяўчыны «хадзіла ў народ» (1874 г.), вяла прапаганду сярод сялян. Разам з С. Л. Пяроўскай, В. М. Фігнер і інш. дзеячамі «Народнай волі» ўдзельнічала ў рэвалюцыйных акцыях. Арыштавана ў жніўні 1874 г., каля 2 гадоў знаходзілася ў Петрапаўлаўскай крэпасці. Прыцягвалася да суда па працэсе 193-х, выслана пад нагляд паліцыі ў маёнтак бацькі (Фастава Мсціслаўскага павета). Пасля 1892 г. жыла ў Кіеве, у Арлоўскай і Смаленскай губернях, вяла рэвалюцыйную работу, працавала ў нядзельных школах. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыла ў Францыі. Вярнулася на радзіму ў Фастава пасля 1920 г. Некаторы час працавала настаўніцай. Была пенсіянеркай Таварыства былых паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Год смерці невядомы.

**74. РАДЗІМА ШМІТА** Ота Юльевіча (гіст.).

Савецкі вучоны-матэматык, астраном, геафізік, дзяржаўны і грамадскі дзеяч, акадэмік АН СССР (1935 г., член-карэспандэнт з 1933 г.) і АН УССР (1934 г.), Герой Савецкага Саюза (1937 г.) О. Ю. Шміт нарадзіўся 18.9.1891 г. у сям'і служачых, выхадцаў з латышскіх сялян. Член КПСС з 1918 г. Вучыўся ў Магілёўскай, Адэскай і Кіеўскай гімназіях. Закончыў фізіка-матэматычны факультэт Кіеўскага універсітэта (1913 г.), з 1916 г. прыват-дацэнт гэтага універсітэта. Навуковую дзейнасць пачаў у галіне матэматыкі, даследаваў тэорыю груп («Абстрактная тэорыя груп», 1916 г.). Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі працаваў у шэрагу народных камісарыятаў, у Дзяржаўным вучоным савеце пры СНК СССР, Камуністычнай акадэміі. У 1921—24 гг. узначальваў Дзяржаўнае выдавецтва, у 1924—41 гг. галоўны рэдактар Вялікай Савецкай Энцыклапедыі. Адначасова ў 1923—36 гг. прафесар Маскоўскага універсітэта, у 1930—32 гг. дырэктар Арктычнага інстытута, у 1932—39 гг. начальнік Галоўпаўночмаршляху. У 1937—49 гг. дырэктар Інстытута тэарэтычнай геафізікі (пазней — Інстытут геафізікі) АН СССР. Віцэ-прэзідэнт АН СССР у 1939—42 гг. Узначальваў экспедыцыю на ледакольным параходзе «Георгій Сядоў» на Зямлю Франца-Іосіфа (1929 і 1930 гг.), якая ў паўночна-ўсходняй частцы Карскага мора адкрыла некалькі невядомых астравоў. Адзін з іх названы імем О. Ю. Шміта. У 1932 г. кіраваў экспедыцыяй на ледакольным параходзе «Сібіракоў», які за адну навігацыю (65 дзён) прайшоў з Архангельска ў Ціхі акіян. У 1933—34 гг. узначаліў экспедыцыю на параходзе «Чалюскін» па Паўночным марскім шляху. У 1937 г. кіраваў экспедыцыяй па арганізацыі дрэйфуючай станцыі «Паўночны полюс-1». За праяўлены гераізм Шміту было прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. Асноўныя працы ў галіне матэматыкі. Заснавальнік і кіраўнік маскоўскай алгебраічнай школы. Прапанаваў новую касмаганічную гіпотэзу аб утварэнні Зямлі і планет Сонечнай сістэмы. Член ЦВК СССР у 1935—37 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1937—46 гг. Памёр 7.9.1956 г. у Маскве. Яго імем названы мыс на ўзбярэжжы Чукоцкага мора, раён у Чукоцкай аўтаномнай акрузе, Інстытут фізікі Зямлі АН СССР, устаноўлена прэмія імя О. Ю. Шміта ў галіне геафізікі. У Магілёве імем О. Ю. Шміта названы праспект.

*Літ.:* Отто Юльевич Шмидт: Жизнь и деятельность.— М., 1959; Грицкевич В. П. Путешествия наших земляков.— Мн., 1968.

**75. РАДЗІМА ШЭЙНА** Паўла Васілевіча (гіст.).

Беларускі і рускі фалькларыст і этнограф П. В. Шэйн нарадзіўся ў 1826 г. у сям'і гандляра. Атрымаў званне хатняга настаўніка ў сіроцкім аддзяленні нямецкай школы пры лютэранскай царкве ў Маскве. У 1851—65 гг. працаваў хатнім настаўнікам у яснапалянскай школе Л. М. Талстога, у 1865—72 гг. выкладчык нямецкай і рускай мовы ў Віцебскай гімназіі, у 1872—79 гг. настаўнічаў у Шуі, Зарайску, Калузе. З 1881 г. жыў у Пецярбургу.

Збіральніцкую дзейнасць пачаў у 1850-я гады пад уплывам славянафілаў. Свой першы зборнік рускіх былін і гістарычных песень, запісаных у Корсунскім павеце Сімбірскай губерні, надрукаваў у 1859 г. У выніку самаадукацыі, вывучэння спецыяльнай літаратуры, пад уздзеяннем перадавых ідэй 1860-х гадоў у некаторай ступені ўспрыняў прагрэсіўныя ідэі аб народзе як рухаючай сіле гісторыі. У 1867 г. распрацаваў і выдаў у Віцебску падрабязную «Праграму для збірання помнікаў народнай творчасці» — адну з першых фальклорных праграм у Расіі. Сярод карэспандэнтаў П. В. Шэйна былі А. Багдановіч, М. Нікіфароўскі, Я. Карскі, З. Радчанка, Я. Лучына і інш. У 1877 г. зрабіў паездку па Беларусі. Асноўныя этнаграфічныя матэрыялы, сабраныя ім на Беларусі, выйшлі з друку ў 1887—1902 гг. пад назвай «Матэрыялы для вывучэння быту і мовы рускага насельніцтва Паўночна-Заходняга краю» (т. 1—3). Аўтар прац: «Рускія народныя песні» (1870 г.), «Велікарус у сваіх песнях, абрадах, звычаях, вераваннях, казках, легендах і да т. п.» (в. 1—2, 1898—1902 гг.), «Беларускія народныя песні...» (1874 г.). Памёр 14.8. 1900 г. у Рызе.

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964. Новиков Н. В., П. В. Шейн.— Мн., 1972.
*В. К. Бандарчык.*

**76. РАДЗІМА ЯЦЫНЫ** Пятра Пятровіча (гіст.).

Скульптар П. П. Яцына нарадзіўся ў 1906 г. Сын скульптара П. Г. Яцыны — аўтара мемарыяльнай капліцы каля в. Салтанаўка Магілёўскага р-на. З 1933 г. вучыўся ў Маскве ў мастацкай студыі. Адна з першых работ П. П. Яцыны — бюст М. А. Рымскага-Корсакава, які ён у 1926 г. падараваў Магілёўскаму музычнаму вучылішчу. Разам з бацькам стварыў помнік У. І. Леніну, які быў устаноўлены ў Магілёве на Тэатральнай пл. (разбураны ў Вялікую Айчынную



**77.** *Станіслаўскі касцёл.*

вайну). Працаваў разам з І. Д. Шадрам, В. І. Мухінай, М. В. Томскім, стварыў помнікі У. І. Леніну каля Галоўнага павільёна ВДНГ СССР у Маскве, у Ялце, Казані, Іжэўску, Кранштаце, Ленінагорску, Курску, у пасёлку энергетыкаў Іркуцкай ГЭС. Адзін з аўтараў гарэльефа «Клянёмся табе, таварыш Ленін...» (Траццякоўская галерэя), за які ўдастоены Дзяржаўнай прэміі СССР 1950 г. Памёр у 1964 г. Яго імем названа вуліца ў Магілёве.

*Літ.:* Я ф і м а ў У. Д. Вуліцы Магілёва расказваюць.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 3. *В. Б. Караткевіч.*

**77. СТАНІСЛАВАЎСКІ КАСЦЁЛ** (архіт., маст.). Вул. Камсамольская, 4. У 17 ст. тут быў манастыр кармелітаў, драўляны касцёл. У 1738—40 гг. на яго месцы пачалося будаўніцтва мураванага касцёла Успення багародзіцы (закончаны ў 1752 г.). У 1782 г., калі каталіцкім архіепіскапам быў прызначаны Станіслаў Богуш-Сестранцэвіч, касцёл сталі называць Станіславаўскім.

Трохнефавая 6-стоўпная базіліка з



**77.** *Станіславаўскі касцёл. Фрагмент размалёўкі.*



*77. Станіславаўскі касцёл. Фрагмент размалёўкі.*



*77. Станіславаўскі касцёл. План.*

вежамі на галоўным прадаўгаватым фасадзе. Цэнтральны неф завершаны паўкруглай апсідай, да якой прылягаюць сакрысціі. Бакавыя нефы завершаны папярочнымі апсідамі. Галоўны фасад з вежамі па баках выцягнуты папярок асноўнай восі касцёла, завершаны атыкам, аздоблены пілястрамі і складаным абрамленнем аконных праёмаў. Паміж 1773 г. і 1782 г. да галоўнага фасада ў цэнтры прыбудаваны 4-калонны іанічны порцік, да паўднёвай апсіды далучаны памяшканні семінарыі і друкарні. З элементаў першапачатковага дэкору захаваліся шматслойныя пілястры галоўнага і бакавога фасадаў, складанапрафіляваныя карнізы. Бакавыя часткі галоўнага фасада фланкіраваны 2 невялікімі купаламі на высокіх 8-гранных барабанах.

У інтэр'еры 2 рады калон падзяляюць прастору на 3 нефы. Сцены ўпрыгожаны пілястрамі карынфскага ордэра і размалёўкай у выглядзе манументальных арак, калон, пілястраў, «разарваных» карнізаў, складаных картушаў, валют. Плафоны і сцены бакавых нефаў упрыгожаны фрэскавай размалёўкай. У цэнтральным нефе — галоўны алтар, вылучаны 2 паўкалонамі карынфскага ордэра. Скляпенні, працягнутыя ўгару ілюзорнымі архітэктурнымі формамі, даюць нібы прарывы ў неба, у якіх разгортваюцца падзеі евангельскай гісторыі. Ад конхі апсіды і да хораў размешчаны 3 сюжэты: «Праабражэнне», «Уручэнне ключоў Пятру» і «Ушэсце Марыі». У архітэктурных кулісах — выявы евангелістаў з сімваламі святых Іераніма, Аўгусціна, Клімента, алегарычных фігур Веры, Надзеі, Любові і гледачоў на ілюзорных балконах. Ніжэй акон па перыметры сцен галоўнага нефа ў прамавугольных неглыбокіх нішах паміж пілонамі 8 сюжэтаў. На папярочнай сцяне — «Уваскрэсенне Лазара», «Святая Тэрэза», «Хрышчэнне» і памятны запіс, на паўднёвай — 3 гістарычныя сцэны і геральдыка на хорах. Паніжаныя бакавыя нефы разбіваюцца на паасобныя капліцы, скляпенні якіх упрыгожаны размалёўкай: з паўночнага боку — «Спас нерукатворны», «Святы Себасцьян», «Страшны суд», з паўднёвага боку — «Падарожжа», «Вылячэнне хворага» і «Аўтапартрэт». У нартэксе на скляпенні захаваліся 2 сцэны «Каін, які забівае Авеля» і «Ахвяра Аўраама». На паўднёвай сцяне бакавога нефа выява панарамы Магілёва, на фоне якой, магчыма, кароль Ян Казімір уручае кармелітам прывілей на валоданне зямельнымі ўчасткамі ў горадзе, на скляпенні правага нефа выява манаха з палітрай у руцэ (мяркуюць, што гэта аўтапартрэт выканаўцы размалёўкі). Вылучаецца жывапіс плафона. Кампазіцыя напоўнена рухам. Фігуры як бы ўзносяцца ўвысь, лунаюць у праменнях містычнага святла. Фрэскавы жывапіс быццам узвышае архітэктуру залы, выявы карнізаў, пілястраў, валют нібы вырастаюць з рэальных пілястраў і карнізаў, рэальная і ілюзорная прастора зліваюцца ў адно, што надае кампазіцыі дынаміку і эмацыянальную патэтыку. Размалёўкі вылучаюцца цэласнасцю, дэталёвай прарысоўкай фігур, архітэктурных элементаў і пейзажу. У цёплым і яркім каларыце пераважае спалучэнне залацістай вохры; чырвоны, разбелены зялёны, блакітны, ружовы, белы колеры адцэнены чырвона-карычневым. Размалёўкі выкананы ў другой палове 18 ст. і з'яўляюцца выдатным помнікам манументальнага мастацтва Беларусі.



*74. Станіславаўскі касцёл. Фрагмент размалёўкі.*

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*Літ.:* Чарняўская Т. І. Архітэктура Магілёва: З гісторыі планіроўкі і забудовы горада.— Мн., 1973; Помнікі старажытнабеларускай культуры: Новыя адкрыцці.— Мн., 1984.

*Л. Г. Лапцэвіч, Т. І. Чарняўская.*

**78. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад чыгуначнага моста цераз Дняпро, на першай надпоймавай тэрасе. Памер 30×170 м. Выявіў у 1897 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1925 г. і 1927 г. К. М. Палікарповіч, у 1975 г. і 1985 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. У агаленнях берага знойдзены дзяржанкевыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, падвойныя бакавыя разцы, пласціны, нуклеусы, адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту. Матэрыялы абследаванняў 1925 г. і 1927 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, 1975 г. і 1985 г.— у гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*В. Ф. Капыцін.*




# АСІПОВІЦКІ РАЁН



Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## П. АСІПОВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на левым беразе р. Сіняя (правы прыток р. Свіслач), за 133 км на паўднёвы захад ад Магілёва, 3 км ад аўтамабільнай дарогі Мінск — Гомель. Чыгуначны вузел 4 напрамкаў: Мінск, Гомель, Магілёў, Баранавічы.

Вёска Асіповічы Бабруйскага павета існавала з 18 ст. За 2 км ад яе ў 1872 г. заснавана станцыя Асіповічы Лібава-Роменскай чыгункі. У 1890 г. са станцыі адпраўлена каля 297 тыс. пудоў драўніны і інш. мясцовых грузаў. У 1880—1-й палове 1890-х гадоў тут пабудаваны 2 лесапільныя заводы, млын, адкрыта паштовае аддзяленне. У 1897 г. на месцы сучаснага горада існавалі з аднайменнай назвай вёска (78 двароў, каля 500 жыхароў), чыгуначная станцыя (11 двароў, каля 100 жыхароў), пасёлак (38 двароў, каля 200 жыхароў, заезны двор, 4 крамы), якія пазней зліліся ў адзін пасёлак. У пачатку 20 ст. у Асіповічах каля 1500 жыхароў, больш за 300 двароў, 41 вуліца і завулак, 2 лесапільныя, шпалапрапітны (заснаваны ў 1900 г.) заводы, 13 майстэрняў (47 рамеснікаў), млын, заезны двор, аптэчны магазін, акушэрка, фельчар. У 1906—07 гг. адкрыты 2 пачатковыя школы, у 1909 г. — тэлеграф. Працоўныя Асіповіч у снежні 1905 г. правялі забастоўку. Рабочыя шпалапрапітнага завода 17.3.1908 г. арганізавалі стачку. Яны патрабавалі павялічыць заработную плату, палепшыць умовы працы і быту, ліквідаваць штрафы. Летам 1915 г. на станцыі адбыліся хваляванні салдат. Да 1917 г. у Асіповічах каля 4,2 тыс. жыхароў, 354 двары.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У снежні 1917 г. арганізаваны чырвонагвардзейскі атрад (1000 чалавек). З 19 лютага да мая 1918 г. і з 20.8.1919 г. да 10.7.1920 г. акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы, з сярэдзіны мая да 4.12. 1918 г. — войскамі кайзераўскай Германіі. У 1919—20 гг. у ваколіцах Асіповіч дзейнічалі партызанскія атрады Я. Багдановіча і А. Каралька (больш за 120 чалавек), Дз. Х. Пінчука і Трубачова (больш як 40 чалавек). Са студзеня 1922 г. Асіповічы — цэнтр воласці, з ліпеня 1924 г. — мястэчка, цэнтр раёна Бабруйскай акругі (да ліпеня 1930 г.). З 1932 г., пасля здачы ў эксплуатацыю лініі Асіповічы — Рослаў, чыгуначны вузел. З 1935 г. горад, з 1938 г. горад раённага падпарадкавання, цэнтр раёна Магілёўскай вобл.; у 1939 г. — 13,7 тыс. жыхароў. У пачатку 1941 г. працавалі 12 прамысловых прадпрыемстваў (каля 2 тыс. рабочых і служачых), у т. л. паравознае дэпо, вагонарамонтны пункт, машынна-трактарная станцыя, маслазавод, арцелі



II. *Плошча Леніна.*

«Перадавік», «Прагрэс», «Чырвоны хімік», леспрамгас, прамкамбінат. У Вялікую Айчынную вайну з 30.6. 1941 г. да 28.6.1944 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Барацьбу насельніцтва супраць акупантаў узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень 1941 г. — 2. 7.1944 г.) і ЛКСМБ (14.10.1942 г. — 2. 7.1944 г.). На тэрыторыі раёна дзейнічалі 1-я Бабруйская, 161-я імя Р. І. Катоўскага, 1-я Асіповіцкая партызанскія брыгады, з ліпеня 1943 г. — Асіповіцкая ваенна-аператыўная група.

З верасня 1944 г. цэнтр раёна Бабруйскай, з студзеня 1954 г. — Магілёўскай абласцей. У 1953 г. у ваколіцах горада пабудавана Асіповіцкае вадасховішча і Асіповіцкая ГЭС. У 1959 г. у горадзе 15,8 тыс. жыхароў. З снежня 1962 г. у складзе Бабруйскага р-на, з студзеня 1965 г. зноў цэнтр раёна, з 7.3.1963 г. горад абласнога падпарадкавання.

Чыгунка дзеліць горад на 2 раёны — паўночны і паўднёвы. Планіроўка квартальная. Забудова вядзецца паводле генплана 1964 г. інстытута «Белдзяржпраект» і праекта дэталёвай планіроўкі 1977 г., выкананага Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. Прадугледжана развіццё горада ў паўночным напрамку, рэканструкцыя цэнтральнай часткі, вылучэнне паўночнага, паўднёвага і заходняга прамысловых раёнаў.

Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр знаходзіцца ў паўночным раёне. На пл. Леніна, якая створана на скрыжаванні вуліц Сумчанкі і Каралёва, размешчаны будынкі гарадскога камітэта КПБ, гарадскога і раённага выканкомаў Саветаў народных дэпутатаў, Дома быту, кафэ, магазінаў, 3—5-павярховыя жылыя дамы. У паўночнай частцы будуецца мікрараён. Асноўныя планіровачныя восі паўднёвага раёна — вуліцы Сацыялістычная, Рабоча-Сялянская, Камуністычная, на якіх размешчаны культурна-бытавыя аб'екты. У цэнтры гэтага раёна — парк. Капітальная шматпавярховая забудова сканцэнтравана ў цэнтральнай частцы горада ўздоўж вул. Сумчанкі і на перасячэнні вуліц Сацыялістычнай і Рабоча-Сялянскай. Прамысловыя прадпрыемствы: заводы аўтамабільных агрэгатаў, кардонна-рубероїдавы імя 25 з'езда КПСС, жалезабетонных канструкцый, камбінат хлебапрадуктаў, хлебазавод, маслазавод, кансервавы завод, фабрыка канцтавараў. Працуюць прамкамбінат і камбінат бытавога абслугоўвання, леспрамгас, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас, лясная доследная станцыя. У Асіповічах 5 сярэдніх агульнаадукацыйных школ, у т. л. вячэрняя, музычная школы, 11 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 9 бібліятэк, 2 кінатэатры, 3 клубныя і 5 бальнічных устаноў, станцыя хуткай медыцынскай дапамогі. Выдаецца раённая газета «Запаветы Леніна».

Помнікі: У. І. Леніну; на магілах А. Я. Сташкевіча і А. М. Чумакова, за-

губленых у 1920-я гады ворагамі Савецкай улады, Героя Савецкага Саюза П. І. Марозава; на брацкіх магілах партызан Грамадзянскай і Вялікай Айчыннай войнаў; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну; на магілах ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — Асіповіцкае вадасховішча, пляжы на р. Свіслач (за 4 км на поўнач ад горада).

*Літ.:* Города России в 1904 году.— СПб., 1906; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934; Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953; Зорин В. П., Ершова Г. Н. Осиповичи: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1982. *А. І. Валахановіч, Г. І. Дулеба, В. М. Ладзіс.*

**79. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Абросімава, у парку. Пахаваны партызаны: Герой Савецкага Саюза Барыс Міхайлавіч Дзмітрыеў, Сцяпан Сяргеевіч Сумчанка, Георгій Кліменцьевіч Жук, Рыма Уладзіміраўна Кунько, Кірыл Андрэевіч Рубінаў.

Б. М. Дзмітрыеў нарадзіўся 11.6.1924 г. у Маскве ў сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У 1942 г. закончыў спецшколу і быў накіраваны ў тыл ворага ў Асіповіцкі р-н. Ваяваў у складзе партызанскай групы Р. Н. Баразны — І. І. Патапейкі, на базе якой у студзені 1943 г. створаны 211-ы партызанскі атрад імя К. К. Ракасоўскага. Б. М. Дзмітрыеў падрыхтаваў 14 партызан-падрыўнікоў. З яго ўдзелам падарвана 18 эшалонаў праціўніка, у выніку знішчаны 1260 гітлераўцаў, 32 аўтамашыны, 8 танкаў, 11 гармат, 154 т гаручага. Дыверсійныя групы на чале з Б. М. Дзмітрыевым падарвалі 1400 чыгуначных рэек, 43 чыгуначныя і шашэйныя масты, 22 аўтамашыны, 3 танкі. Загінуў Б. М. Дзмітрыеў 23.2. 1944 г. у баі каля в. Каменічы Асіповіцкага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. У Асіповічах яго імя прысвоена сярэдняй школе № 1, імем героя названа вуліца.



79. *Помнік на брацкай магіле партызан.*



80. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

С. С. Сумчанка нарадзіўся ў с. Войнаўка Кіраваградскай вобл. Перад Вялікай Айчыннай вайной працаваў у г. Слонім у аддзеле НКУС. У пачатку вайны капітан С. С. Сумчанка быў накіраваны ў Асіповіцкі р-н для арганізацыі партызанскага руху ў тыле ворага. Камандзір партызанскай групы, у сакавіку — верасні 1942 г. начальнік штаба, з верасня 1942 г. да мая 1943 г. выконваючы абавязкі камандзіра 210-га асобнага партызанскага атрада, у студзені — красавіку 1943 г. выконваючы абавязкі камандзіра 1-й Асіповіцкай партызанскай брыгады, потым намеснік камандзіра па разведцы Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы. Загінуў 8.1.1944 г. у баі супраць гітлераўцаў. Пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Чырвонага Сцяга. Яго імем названа вуліца ў Асіповічах.

Партызаны Г. К. Жук, Р. У. Кунько і К. А. Рубінаў загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941 г. і 1944 г. Імем юнай партызанкі Рымы Кунько ў Асіповічах названа вуліца (гл. таксама артыкул № 166 «Мемарыяльная дошка Кунько Рыме Уладзіміраўне»).

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Королев Н. Ф. Сыновья народа.— Мн., 1955. *Г. І. Дулеба.*

**80. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Інтэрнацыянальнай. Пахаваны 6 партызан, якія загінулі ў барацьбе за Савецкую ўладу ў 1918—20 гг. У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і чырвонаармеец, а таксама пліта з памятным надпісам.

**81. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Піянерская, на могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941, 1944, 1945 гг. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**82. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Крупскай, на могілках. Пахаваны 50 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941—45 гг. Сярод пахаваных — воіны 65-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Асіповіч.

**83. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Сумчанкі, непадалёку ад кардонна-рубероідавага завода. Пахаваны 32 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг., а таксама больш за 2 тыс. мірных жыхароў і савецкіх ваеннапалонных, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**84. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Казлоўскай, на могілках. Пахаваны жыхары Асіповіч, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—42 гг. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**85. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Рабоча-Сялянская, на могілках. Пахаваны жыхары Асіповіч, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—44 гг. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**86. МАГІЛА ГАРМАШАВА** Івана Іпалітавіча і **МУСТАФІНАЙ** Гульсум Фатыхаўны (гіст.). Вул. Гармашава, на могілках. Пахаваны маёр І. І. Гармашаў і лейтэнант медыцынскай службы Г. Ф. Мустафіна, якія загінулі 29.6.1944 г. у баі пры вызваленні Асіповіцкага р-на ад нямецка-фашы-



83. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

цкіх акупантаў. Імем І. І. Гармашава названа вуліца горада. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**87. МАГІЛА МАРОЗАВА** Пятра Іванавіча (гіст.). Вул. Крупскай, на могілках.

Герой Савецкага Саюза П. І. Марозаў нарадзіўся 1.7.1924 г. у с. Лукерына Ісількульскага р-на Омскай вобл. З рабочых. Член КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах. Камандзір танкавай роты 53-й гвардзейскай танкавай брыгады 3-й гвардзейскай танкавай арміі гвардыі лейтэнант П. І. Марозаў вызначыўся вясной 1945 г. на тэрыторыі Германіі. Танкавая рота на чале з П. І. Марозавым фарсіравала рэкі Нейсе, Шпрэ, канал Тэльтаў, у жорсткіх баях авалодала шэрагам населеных пунктаў, удзельнічала ў штурме Берліна. Званне Героя Савецкага Саюза П. І. Марозаву прысвоена 27.6.1945 г. Памёр 26.1.1952 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**88. МАГІЛА СТАШКЕВІЧА** Аляксандра Якаўлевіча (гіст.). Вул. Крупскай, на могілках.

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу ў Асіповіцкім р-не А. Я. Сташкевіч нарадзіўся ў 1898 г. у Асіповічах у сям'і чыгуначніка. Член КПСС з 1918 г. У 1920 г. арганізаваў на чыгуначным вузле камсамольскую ячэйку з 20 чалавек, добраахвотна ўступіў у атрад асобага прызначэння, які вёў барацьбу з сабатажам і бандытызмам на Асіповіцкім чыгуначным вузле. 27.10.1920 г. на чыгуначнай станцыі Градзянка быў цяжка паранены і захоплены бандытамі ў палон. Пасля катаванняў расстраляны 28.10.1920 г. Яго імем названа вуліца ў Асіповічах. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**89. МАГІЛА ЧУМАКОВА** Акіма Мацвеевіча (гіст.). Вул. Гармашава, на могілках.

27.8.1922 г. машыністу паравоза Асіповіцкага чыгуначнага вузла А. М. Чумакову было даручана даставіць са Слуцка ў Асіповічы эшалон з каштоўнай дзяржаўнай маёмасцю. Па дарозе эшалон атакавалі бандыты. А. М. Чумакоў быў цяжка паранены, але давёў эшалон да месца. 28.8.1922 г. памёр ад ран. У Асіповічах імем А. М. Чумакова названа вуліца, на будынку лакаматыўнага дэпо ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**90. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗІНОВЕНКУ** Васілю Ануфрыевічу (гіст.). Вул. Крупскай, 30. Устаноўлена ў 1976 г. на будынку аддзела ўнутраных спраў выканкома раённага Савета народных дэпутатаў на ўшанаванне памяці ўчастковага ўпаўнаважанага В. А. Зіновенкі, які загінуў у 1946 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**91. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРЫЛОВІЧУ** Фёдару Андрэевічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1975 г.

Актыўны ўдзельнік Асіповіцкага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну камсамолец Ф. А. Крыловіч 30.7.1943 г. на чыгуначнай станцыі Асіповічы ўзарваў 4 варожыя эшалоны з баявой тэхнікай, боепрыпасамі і гаручым, у т. л. эшалон з танкамі «тыгр». У выніку дыверсіі часова спынены рух паяздоў. За гэты подзвіг Ф. А. Крыловіч узнагароджаны ордэнам Леніна. З 1943 г. у партызанах. Ф. А. Крыловіч памёр у 1959 г.

Яго імем названа вуліца ў Асіповічах. *Г. М. Новікава.*

**92. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫСТУПЛЕННЯ РАБОЧЫХ У 1908 г.** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, на будынку клуба чыгуначнікаў. Устаноўлена ў 1975 г.

Пасля паражэння Рэвалюцыі 1905—07 гг. у краіне наступіў перыяд рэакцыі, узмацніўся прыгнёт рабочых. Як і на многіх прадпрыемствах, на Асіповіцкім шпалапрапітным заводзе была зніжана заработная плата, павялічаны штрафы. Злоўжыванні адміністрацыі выклікалі абурэнне працоўных. 17—22.3.1908 г. рабочыя завода правялі забастоўку. Яны патрабавалі павысіць зарплату, адмяніць штрафы, палепшыць умовы працы і быту. Забастоўка была задушана паліцыяй і салдатамі. *Г. І. Дулеба.*

**93. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Рабоча-Сялянскай.

У Вялікую Айчынную вайну войскі 1-га Беларускага фронту 24.6.1944 г. пачалі наступленне ў напрамку Бабруйск — Асіповічы. 27 чэрвеня часці 18-га стралковага корпуса 65-й арміі з баямі падышлі да горада і 28.6.1944 г. вызвалілі яго ад акупантаў. У вызваленні ўдзельнічалі: 15, 69, 37-я гвардзейская стралковыя дывізіі (камандзіры генерал-маёры К. Е. Грабеннік, І. І. Санкоўскі, палкоўнік В. Л. Марозаў), 251-ы асобны танкавы полк, 925-ы самаходна-артылерыйскі полк (камандзіры падпалкоўнікі Ф. С. Вярлань, П. С. Ложкін), 9-я гвардзейская і 45-я бамбардзіровачныя авіядывізіі (камандзіры генерал-маёры авіяцыі Ф. І. Меншыкаў, В. І. Лебедзеў) і партызаны Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы (камандзір В. В. Глотаў).

У 1984 г. у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў пастаўлены помнік — гармата на пастаменце.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**94. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**95. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Абросімава, у парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**96. ПОМНІК РАБОТНІКАМ КАМБІНАТА ХЛЕБАПРАДУКТАЎ** (гіст.). На вул. Калініна. На ўшанаванне памяці 6 работнікаў камбіната хлебапрадуктаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**97. РАДЗІМА ГАРЭЛІКА** Зіновія Самуілавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза З. С. Гарэлік нарадзіўся 6.11.1904 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1927 г. Скончыў Сімферопальскі камвуз у 1924 г., курсы ўдасканалення камсаставу ў 1940 г., курсы «Выстрал» у 1943 г. Перад вайной на партыйнай рабоце ў Крыме. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Сталінградскім, Цэнтральным і Беларускім франтах. Камандзір стралковай роты 568-га стралковага палка 149-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант З. С. Гарэлік вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў раёне Лоева Гомельскай вобл. 16.10.1943 г. група воінаў-дэсантнікаў на чале з З. С. Гарэлікам першая фарсіравала Дняпро, замацавалася на занятым плацдарме, садзейнічала пераправе падраздзяленняў палка, вызваліла в. Шчытцы, захапіла гармату і 2 кулямёты. Да 18.10.1943 г. дэсантнікі занялі ўмацаваны рубеж і перарэзалі важную магістраль праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 30.10.1943 г. Да 1945 г. служыў у Чырвонай Арміі, капітан. Пазней жыў і працаваў у Сімферопалі.

З. С. Гарэлік памёр 14.12.1968 г. У Асіповічах імем героя названа вуліца, на доме № 1 устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**98. РАДЗІМА МАЙСТРЭНКІ** Барыса Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Б. А. Майстрэнка нарадзіўся 1.12.1924 г. у сям'і служачага. Член ВЛКСМ. Да вайны працаваў слесарам на заводзе ў Ташкенце. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1942 г. у Чырвонай Арміі. У 1943 г. скончыў Харкаўскае танкавае вучылішча. З ліпеня 1943 г. на Ленінградскім фронце, камандзір танка 152-й асобнай танкавай брыгады. Вызначыўся ў чэрвені 1944 г. у час прарыву варожай абароны на Карэльскім перашыйку і вызваленні г. Выбарга. У час жорсткага бою лейтэнант Б. А. Майстрэнка ўзначаліў роту, якая знішчыла больш за 150 гітлераўскіх салдат і афіцэраў, 8 дзотаў, 15 гармат, 3 доты і інш. У адным з баёў Б. А. Майстрэнка быў цяжка паранены, 15.1.1945 г. памёр ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У Асіповічах імем

героя названа вуліца, на доме № 1 устаноўлена мемарыяльная дошка, у г. Ноўгарад-Северскі Чарнігаўскай вобл. яго імя прысвоена сярэдняй школе № 1, дзе ён вучыўся.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Азярышча, Лапіцкі сельсавет**

**99. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, на левым беразе Асіповіцкага вадасховішча, на доўтім і пакатым узвышшы, якое цягнецца на паўднёвы захад амаль да р. Свіслач. 130 насыпаў дыяметрам 5—14 м, вышынёй 0,5—3 м. Захаванасць добрая, курганы здзірванелі, зараслі хваёвым лесам і кустамі. Уздоўж асновы большасці насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1925 г. А. Немцаў, абследаваў у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Немцаў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне.— У кн.: Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928, в. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Амінавічы, Пагарэльскі сельсавет**

**100. ПОМНІК КАРАЛЁВУ** Мікалаю Піліпавічу (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці ўраджэнца вёскі, аднаго з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Магілёўскай вобл., Героя Савецкага Саюза М. П. Каралёва ў 1981 г. пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 32 «Магіла Каралёва Мікалая Піліпавіча».

**в. Асавок, Каменіцкі сельсавет**

**101. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 141 жыхар вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў снежні 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**102. МАГІЛА КАЗАЧОНКА** Міхаіла Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Партызан 212-га асобнага атрада Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы М. А. Казачонак загінуў 28.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асяродак, Ясенскі сельсавет**

**103. МАГІЛА АБАДОЎСКАГА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан 309-га асобнага атрада Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы І. І. Абадоўскі загінуў 27.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**104. МАГІЛА БАКУНА** Міхаіла Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан 213-га асобнага атрада Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы М. Р. Бакун загінуў 9.2.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**105. МАГІЛА НЕВЯРОВІЧА** Міхаіла Яфімавіча (гіст.). На могілках. Партызан 1-й Асіповіцкай партызанскай брыгады М. Я. Невяровіч загінуў 4.6.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**106. МАГІЛА РАВЕНКІ** Міхаіла Давыдавіча **і ВЕРАБ'ЁВА** Сцяпана Рамапавіча (гіст.). На могілках. Воіны М. Д. Равенка і С. Р. Вераб'ёў загінулі 1.7.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**107. МАГІЛА РАМАНЕНКІ** Міхаіла Міхайлавіча **і СУРАЎЦА** Івана Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызаны М. М. Раманенка і І. П. Суравец загінулі ў красавіку 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**108. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**109. МАГІЛА СУРАЎЦА** Паўла Рыгоравіча (гіст.). На могілках. Партызан 309-га асобнага атрада Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы П. Р. Суравец загінуў 3.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Базок, Ліпеньскі сельсавет**

**110. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 496 жыхароў вёскі — пераважна старыя, жанчыны, дзеці, якіх 9.5.1944 г. расстралялі або спалілі жывымі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1980 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група і 22 пліты. На 19 плітах імёны ахвяр фашызму, на 2 — надпісы-прысвячэнні. Адна пліта ўстаноўлена на ўшанаванне памяці землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Бортнае (не існуе), Дараганаўскі сельсавет**

**111. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Бортнае знаходзілася за 1 км на ўсход ад в. Мяжное. У студзені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 98 яе жыхароў і спалілі 18 двароў. Вёска не адрадзілася. У 1967 г. на месцы яе пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Брыцалавічы, Ліпеньскі сельсавет**

**112. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Свіслач. 32 насыпы дыяметрам ад 4 да 9 м, вышынёй ад 0,5 да 1 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, раскапана 15 курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (14 выпадкаў) і ў яме (1 выпадак). Знойдзены адзін ганчарны гаршчок. Могільнік абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1974 г. А. Р. Мітрафанаў. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—12 стагоддзямі. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894. *А. Р. Мітрафанаў.*

**113. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 676 жыхароў вёскі, якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў Вялікую Айчынную вайну. 13.1.1943 г. в. Брыцалавічы акружылі гітлераўцы. Яны забралі ў насельніцтва жывёлу, збожжа і інш. маёмасць, потым выгналі жыхароў на вуліцу і расстралялі. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**114. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ, САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст., маст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на ўзлессі. Узведзены ў 1971 г. на ўшанаванне памяці 676 жыхароў вёс-




99. *Курганны могільнік. План.*




112. *Курганны могільнік. План.*



**114.** *Мемарыяльны комплекс ахвярам фашызму, савецкім воінам і партызанам.*

кі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі 13.1.1943 г., і 44 воінаў і партызан, што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1943—44 гг.

Комплекс (аўтары праекта М. Андрэеў, А. Крохмаль, А. Салятыцкі) — архітэктурна-скульптурная кампазіцыя, асноўным элементам якой з'яўляецца скульптурная фігура хлопчыка, пастаўленая на чатырохгранным пастаменце пры ўваходзе на тэрыторыю комплексу. Далей устаноўлены 6 бетонных пліт з імёнамі загінуўшых жыхароў вёскі. Адна з пліт пастаўлена на магіле воінаў і партызан. Завяршае кампазіцыю вертыкальная бетонная стэла на ўзгорку. На яе плоскасці надпіс-прысвячэнне. Тарцовыя часткі стэлы дэкарыраваны паліхромнай шкляной мазаікай (сюжэты на тэмы мірных будняў).

Кампазіцыйная цэласнасць і супадпарадкаванне ўсіх элементаў ансамбля абумоўліваюць глыбокае эмацыянальна-эстэтычнае ўспрыманне мемарыяла.

*Літ.:* Зорын У. П. Брыцалавіцкая трагедыя.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 2.

*Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**в. Верхі, Пратасевіцкі сельсавет**

**115. МАГІЛА ЗМАЧЫНСКАЙ** Софіі Васілеўны (гіст.). За 3 км на захад ад вёскі, каля чыгуначнага прыпынку Верхі. Партызанка С. В. Змачынская загінула ў 1943 г. у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**116. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Весялова (не існуе), Лапіцкі сельсавет**

**117. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Весялова знаходзілася за 3 км на паўночны ўсход ад в. Лочын. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 60 яе жыхароў і спалілі вёску (15 двароў). Пасля вайны не адрадзілася. Вёска ўвекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Вязаўніца, Ліпеньскі сельсавет**

**118. РАДЗІМА СТЭЛЬМАХА** Яўгена Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. М. Стэльмах нарадзіўся 11.5.1923 г. у сям'і чыгуначніка. Закончыў Мінскі аэраклуб (1941 г.) і Чарнігаўскае ваенна-авіяцыйнае вучылішча (1942 г.). У Чырвонай Арміі з 1941 г. Лётчык-знішчальнік старшы лейтэнант Я. М. Стэльмах удзельнічаў у паветраных баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на Курскай дузе, суправаджаў караблі ў Паўночным Ледавітым акіяне. Пасля Вялікай Айчыннай вайны працягваў службу ў ваеннай авіяцыі, старшы лётчык. Пры выкананні службовых абавязкаў здзейсніў подзвіг. Памёр 1.6.1951 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.10.1951 г. Пахаваны ў г. Люйшунь (Порт-Артур). Яго імем названа вуліца ў Асіповічах. *Г. І. Дулеба.*

**в. Вязье, цэнтр сельсавета**

**119. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАГДАНОВІЧУ** Максіму Адамавічу (гіст.). Устаноўлена ў 1984 г. на будынку спартыўнай базы.

У гэтым доме ў канцы 19 ст. жыла сям'я лесніка-аб'ездчыка Франца Антонавіча Секяржыцкага. Яго жонка Сцепаніда Апанасаўна была роднай сястрой маці беларускага паэта М. Багдановіча — Марыі Апанасаўны. У сям'і Секяржыцкіх вясной і летам 1895 г. Марыя Апанасаўна гасціла са сваімі сынамі Максімам, Вадзімам і Лёвам.

*Літ.:* Кароткая Т. Радок у біяграфію паэта.— Літаратура і мастацтва, 1983, 7 кастр. *Г. І. Дулеба.*

**в. Вязычын, Свіслацкі сельсавет**

**120. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікая Гарожа, Замошскі сельсавет**

**121. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 270 жыхароў в. Вялікая Гарожа і пасёлка Май, якіх у студзені 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Бор, Дрычынскі сельсавет**

**122. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. і 1983 г. на магіле пастаўлены абеліскі і 5 пліт.

**в. Вярэйцы, Пратасевіцкі сельсавет**

**123. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Непадалёку ад чыгуначнай станцыі Вярэйцы. Пахаваны 72 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 18-га стралковага корпуса 65-й арміі, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Асіповіцкага р-на, а таксама Герой Савецкага Саюза Міхаіл Раманавіч Абросімаў.

М. Р. Абросімаў нарадзіўся 1.5.1924 г. на хутары Пакроўскім Іўнянскага р-на Белгародскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1937 г. працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з сакавіка 1943 г. Старшы тэлефаніст 297-га гвардзейскага зенітна-артылерыйскага палка 3-й гвардзейскай зенітна-артылерыйскай дывізіі гвардыі яфрэйтар М. Р. Абросімаў вызначыўся 30.6.1944 г. пры вызваленні Асіповіцкага р-на. У рашаючы момант бою ён падняў у контратаку байцоў, якія ў рукапашнай схватцы адкінулі ворага, знішчылі 38 і ўзялі ў палон больш за 70 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г. Яго імем названа вуліца ў Асіповічах. Імя героя навечна занесена ў спісы часці, у якой ён служыў, а таксама прысвоена Вярхопенскай сярэдняй школе Іўнянскага р-на, дзе М. Р. Абросімаў вучыўся, і Асіповіцкай сярэдняй школе № 2.

У 1975 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск і стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Галынка, Ясенскі сельсавет**

124. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на ўзлессі. 10 насыпаў дыяметрам ад 6 да 12 м, вышынёй ад 0,5 да 2,2 м. Захаванасць добрая. Абследавалі ў 1955 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**рабочы пасёлак Градзянка, цэнтр пасялковага Савета**

125. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая, на могілках. Пахаваны 25 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

126. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая, на могілках. Пахаваны 149 жыхароў пасёлка, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

127. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад пасёлка. Пахаваны 11 жыхароў пасёлка і в. Яноўка, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Дараганава, цэнтр сельсавета**

128. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля сярэдняй школы. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

129. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 11 савецкіх грамадзян, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

130. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 73 мірныя жыхары, якіх у 1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

131. **СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Пціч. Памер 35×110 м. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1978 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м прасочаны ў агаленнях. Знойдзены дробнае вуголле, попел, абгарэлыя косці жывёл, крамянёвы двухбаковы наканечнік стралы з тронкамі, частка скрабка, адшчэпы з рэтушшу, фрагменты венчыкаў слабапрафіляваных ляпных гаршкоў. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Дземенка, Карытнянскі сельсавет**

132. **МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дуброва, Лапіцкі сельсавет**

133. **ПАРК** (архіт.). У цэнтры вёскі. Закладзены ў 1909 г. як прысядзібны.

Плошча каля 1,5 га. Складаецца з пейзажных секцыйных пасадак. Тут расце больш за 100 відаў парод дрэў і кустоў, інтрадукаваных з Паўночнай Амерыкі, Далёкага Усходу, Сярэдняй Азіі, Заходняй Еўропы. З хвойных парод ёсць хвоя калючая, хвоя Банкса чорная, кедр сібірскі, піхты бальзамічная, цудоўная, суцэльналістая, лістоўніцы еўрапейская і японская, псеўдатсуга блакітная, туя заходняя, ядловец віргінскі. Сярод лісцевых парод: арэх маньчжурскі, кізільнік блісkучы, чаромха віргінская, вішня пенсільванская, дуб звычайны і чырвоны, клён серабрысты (цукрысты), явар, бяроза даурская, аксаміт амурскі, барбарыс, вярба вавілонская, а таксама экземпляры спірэі, бружмелю, бэзу і інш.

Парк — адзін з нешматлікіх на Беларусі, дзе шырока прадстаўлены разнастайны відавы састаў дрэў і кустоў. *В. М. Ладзіс.*

**в. Жорнаўка, Лапіцкі сельсавет**

134. **ПОМНІК ДРУЖБЫ** (гіст.). Каля Дома культуры. У 1973 г. у гонар дружбы народаў СССР пастаўлена стэла, з трох бакоў яе — скульптурныя выявы жанчын.

**в. Забалоцце, Пратасевіцкі сельсавет**

135. **МАГІЛА КАЗЛОЎСКАЙ** Пелагеі Тарасаўны (гіст.). На могілках.

Савецкая патрыётка П. Т. Казлоўская нарадзілася ў 1898 г. у в. Пратасевічы Асіповіцкага р-на. З сялян. Перад Вялікай Айчыннай вайной працавала ў калгасе на радзіме. У час нямецка-фашысцкай акупацыі Асіповіцкага р-на была партызанскай сувязной, збірала разведданыя пра ворага, зберагала сцяг адной з часцей Чырвонай Арміі. Аб гэтым стала вядома гітлераўцам. У лютым 1943 г. яны арыштавалі П. Т. Казлоўскую і пасля




133. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — парк; 2 — сад; 3 — кантора лясніцтва; 4 — жылыя дамы; 5 — гаспадарчыя пабудовы.*



133. *Парк. Алея.*



136. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*

катаванняў павесілі на рыначнай плошчы ў Асіповічах.

У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск. Імем патрыёткі названа вуліца ў Асіповічах.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2.— Мн., 1984, с. 415. *Г. І. Дулеба.*

**в. Замошша, цэнтр сельсавета**

**136. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 32 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (воін і партызанка са сцягам), абапал якой — 4 абеліскі з прозвішчамі 30 пахаваных воінаў і партызан. Побач — 3 стэлы з прозвішчамі 173 жыхароў вёсак Замошскага сельсавета, што загінулі ў баях за Радзіму ў Вялікую Айчынную вайну. *Г. І. Дулеба.*

**в. Зборск, Вяззеўскі сельсавет**

**137. ГАРАДЗІШЧЫ, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**137а.** Гарадзішча-1. У вёсцы на стрэлцы мыса, які ўтвораны р. Свіслач (левы бераг) і безназоўным ручаём. Курганападобны вал вышынёй 2 м і дыяметрам каля 15 м дзеліць пляцоўку на 2 часткі — вялікую і малую. Вялікая пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 58—60 м, малая даўжынёй 27 м, шырынёй 18—20 м. У цэнтры вялікай пляцоўкі рэшткі фундамента драўлянай царквы. З усходняга і паўднёва-заходняга бакоў захаваліся валы вышынёй каля 1,8—2 м, шырынёй каля 16—18 м. Абследавалі ў 1925 г. А. Немцаў, у 1965 г. Л. Д. Побаль і ў 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4—0,5 м. У ім знойдзена ляпная кераміка мілаградскай, штрыхаванай керамікі і зарубінецкай культур. У верхнім гарызонце выяўлена ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі (10—13 стагоддзі).

**137б.** Гарадзішча-2. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Ранняя Рэчка, на левым беразе р. Свіслач. Пляцоўка авальная, памерам 145—150×120 м. Валы і равы захаваліся з паўднёва-ўсходняга, паўднёва-заходняга і паўночна-заходняга бакоў. Вышыня валоў не больш за 1 м. Равы аплылі і ледзь прасочваюцца. Абследавалі ў 1925 г. А. Немцаў, у 1955 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,3—0,4 м прасочаны на ўсёй пляцоўцы. У ім знойдзены ляпная кераміка ранняга жалезнага веку, аналагічная кераміцы гарадзішча-1, і рэшткі ганчарнага посуду эпохі Кіеўскай Русі.

**137в.** Курганны могільнік-1. За 0,9 км на паўночны захад ад вёскі, на краі поля. 6 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—11 м. Абследавалі ў 1925 г. А. Немцаў, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**137г.** Курганны могільнік-2. За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 6 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,5—1,3 м. Абследавалі ў 1925 г. А. Немцаў, у 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Немцаў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне.— У кн.: Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928, в. 2; Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*




**137а.** *Гарадзішча-1. План.*



**137б.** *Гарадзішча-2. План.*

**в. Казімірава, Каменіцкі сельсавет**

**138. МАГІЛА ШУМІЛАВА** Васіля Ціханавіча (гіст.). На могілках. Партызан 210-га асобнага атрада Клічаўскага аператыўнага цэнтра В. Ц. Шумілаў загінуў у жніўні 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камарына, Вяззеўскі сельсавет**

**139. СЕЛІШЧА, КУРГАНЫ** (археал.).

**139а.** Селішча. За 0,8 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Вусце, каля месца ўпадзення р. Сіняя ў р. Свіслач. Плошча каля 0,7 га. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. У шурфе памерам 1×1 м знойдзена ляпная (штрыхаваная і гладкасценная) кераміка. Культурны пласт 0,2—0,5 м прасочаны таксама ў абрыве берага р. Свіслач. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку. Датуецца 4 ст. да н. э.— 4—5 стагоддзямі н. э.

**139б.** Курган-1. На тэрыторыі селішча. Вышыня 1,2 м, дыяметр 6,9 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч. У той час тут налічвалася 30 курганоў, раскапана 15. У 13 насыпах пахавальны абрад — трупапалажэнне. 2 шкілеты арыентаваны галавой на ўсход, астатнія — на захад. Рэчаў не знойдзена. У 1926 г. могільнік абследавалі С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. Па іх звестках тут было 15 насыпаў. А. Р. Мітрафанаў у 1978 г. знайшоў толькі адзін курган. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, належаў дрыгавічам (11—13 стагоддзі).

**139в.** Курган-2. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на поплаве р. Сіняй. Вышыня 0,6—0,7 м, дыяметр — 12 м. Пашкоджаны скарбашукальнікамі. Адкрыў у 1892 г. У. З. Завітневіч, абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. Па іх звестках тут было 5 насыпаў. У 1978 г. помнік абследаваў А. Р. Мітрафанаў.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894; Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Каменічы, цэнтр сельсавета**

**140. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**140а.** Могільнік-1. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі. 14 курганоў (4 з іх разбураны) дыяметрам 5—13 м, вышынёй 0,6—2,5 м. Уздоўж асновы насыпаў адзначаны раўкі. Абследавалі

ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.
**140б.** Могільнік-2. За 250 м на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Лядзецкае. 20 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 10—12 м. Абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.
**140в.** Могільнік-3. За 1—1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, справа ад лясной дарогі, на правым беразе р. Бярэзіна. 85 насыпаў, дыяметр большасці курганоў 7—12 м, вышыня 1—2,5 м. 15 насыпаў вышынёй 3—3,5 м, дыяметрам 13—15 м. Каля 20 курганоў дыяметрам 5—6 м, вышынёй 0,5—0,8 м. Пераважная большасць курганоў мае добрую захаванасць. Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**141. МАГІЛА ГОЛУБА** Васіля Ільіча (гіст.). На могілках. Партызан 215-га асобнага атрада імя У. І. Леніна Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы В. І. Голуб загінуў 17.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**142. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 82 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1985 г. пастаўлена скульптура воіна.




**140.** *Курганныя могільнікі-1 і 2. План.*




**140в.** *Курганны могільнік-3. План.*

**в. Канцы, Дрычынскі сельсавет**

**143. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўскраіне вёскі, ва ўрочышчы Пагарэліцкі Брод. Захаваліся 2 курганы дыяметрам 10 м, вышынёй 1,9 м. Захаванасць добрая. Абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Караны, Карытнянскі сельсавет**

**144. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карытнае, цэнтр сельсавета**

**145. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Каўгары,**
**Дараганаўскі сельсавет**

**146. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**147. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Каўгарскі». Пахаваны 15 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены стэла і абеліск.
**148. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Пціч. 5 насыпаў дыяметрам 5—8 м, вышынёй 0,5—1,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кляпчаны Мост,**
**Пратасевіцкі сельсавет**

**149. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Крамок, Дрычынскі сельсавет**

**150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**151. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**152. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**153. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Краснае, Ясенскі сельсавет**

**154. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.
**155. СТАЯНКА** (археал.). За 0,7 км на захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Памер 90×20 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя праколкі, нуклеусы, пласціны і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Крынка, Дараганаўскі сельсавет**

**156. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**157. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Сечышча, каля р. Пціч. Насып вышынёй 2,5 м, дыяметрам 12 м. Абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.
**158. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 82 хлопчыкі і дзяўчынкі з дзіцячага санаторыя «Крын-




**148.** *Курганны могільнік. План.*

ка», які ў Вялікую Айчынную вайну не паспеў эвакуіравацца і застаўся на акупіраванай тэрыторыі. У сакавіку 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі адвезлі дзяцей у лес і расстралялі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**159. МАГІЛА КІРДУНА** Данілы Трафімавіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі Д. Т. Кірдун загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лазовае, Пагарэльскі сельсавет**

**160. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі, у полі. Пахаваны 79 жыхароў в. Паляткі (не існуе з 1985 г.), якіх у маі 1944 г. спалілі разам з вёскай (41 двор) нямецка-фашысцкія карнікі. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**161. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР АСІПОВІЦКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б, ЛКСМБ І АСІПОВІЦКАЙ ВАЕННА-АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ** (гіст.). За 14 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Расоха. Тут у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Асіповіцкія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы.

Асіповіцкі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў з ліпеня 1941 г. да 2.7.1944 г. Сакратары райкома Р. Х. Голанд (да 2.4.1943 г., другі сакратар з 2.4.1943 г.), А. В. Шыёнак (да 2.4. 1943 г.), Р. М. Вайцянкоў (з 2.4.1943 г., першы сакратар). Райком КП(б)Б кіраваў партызанскім рухам, узначальваў дзейнасць партарганізацый партызанскіх фарміраванняў раёна, вёў палітычную работу сярод насельніцтва раёна. Выдаваў газету «За Советскую Родину» (рэдактар П. В. Трацэўскі; выпушчаны 59 нумароў агульным тыражом больш за 26 тыс. экземпляраў).

Асіповіцкі падпольны райком ЛКСМБ дзейнічаў з 14.10.1942 г. да 2.7.1944 г. Сакратары райкома І. Б. Гнядзько (да 20.8.1943 г.), Э. Ф. Паўлюц (з 20.8.1943 г.), У. І. Кулікоў (сакратар па прапагандзе з лістапада 1942 г.). Падпольны райком ЛКСМБ узначальваў камсамольскае падполле, кіраваў дзейнасцю камсамольскіх арганізацый партызанскіх фарміраванняў раёна, мабілізоўваў моладзь на барацьбу з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

Асіповіцкая ваенна-аператыўная група (ВАГ) сфарміравана ў ліпені 1943 г. на базе 210, 211, 212, 213-га атрадаў 1-й Асіповіцкай партызанскай брыгады, якія былі ўключаны ў групу як асобныя баявыя адзінкі. Адначасова ў складзе ВАГ арганізаваны 214, 215-ы атрады, у жніўні 216-ы атрад, у лістападзе 1943 г. уключаны асобны 309-ы атрад. Кіраўніцтва ВАГ:



161. *Мемарыяльны комплекс у гонар Асіповіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б, ЛКСМБ і Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы.*

сакратар падпольнага райкома КП(б)Б Р. М. Вайцянкоў, камандзіры М. П. Каралёў (да сакавіка 1944 г.), І. Б. Гнядзько (сакавік — май 1944 г., в. а.), В. В. Глотаў (з мая 1944 г.). Дзейнічала на тэрыторыі Асіповіцкага і Бабруйскага р-наў Магілёўскай, Бярэзінскага, Чэрвеньскага і Пухавіцкага р-наў Мінскай абласцей. На час злучэння з часцямі Чырвонай Арміі 28.6—3.7.1944 г. Асіповіцкая ВАГ налічвала 1854 партызаны. Камандзіру генерал-маёру М. П. Каралёву прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. За гады вайны партызаны і падпольшчыкі пусцілі пад адхон 371 чыгуначны эшалон з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, узарвалі больш за 5 тыс. рэек, разграмілі 13 гарнізонаў ворага, знішчылі больш за 15 тыс. гітлераўцаў.

У 1975 г. у гонар Асіповіцкіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы пабудаваны мемарыяльны комплекс. У комплекс уключаны 40 магіл, у якіх пахаваны 80 партызан Асіповіцкай ваенна-аператыўнай групы, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Перад магіламі на бетанаванай пляцоўцы пастаўлены цэнтральная стэла, на якой рэльефныя выявы 2 партызан, жанчыны і дзіцяці, і 5 больш нізкіх стэл, на 3 з іх прозвішчы пахаваных партызан, на 2 — рэльефныя выявы, прысвечаныя партызанскім будням, і надпісы-прысвячэнні.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983; Королев Н. Ф. Сыновья народа.— Мн., 1955.

*Г. І. Дулеба.*



162. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Лапічы, цэнтр сельсавета**

**162. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 60 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран у 1941 г. і 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**163. ГАРАДЗІШЧА** (археал.) На паўднёвай ускраіне вёскі, каля ўпадзення р. Цяслянка ў р. Свіслач. Дыяметр пляцоўкі 90 м, культурны пласт не прасочваецца, відавочна, быў выкарыстаны для насыпкі вала (колер грунта, з якога насыпаны вал, чорны). З заходняга, паўночнага і ўсходняга бакоў умацавана падкováпадобным валам вышынёй з вонкавага боку 2—4 м, з унутранага — 1—1,5 м, шырынёй у аснове 10—12 м. Тут жа прасочаны роў глыбінёй 2—4 м. З заходняга боку вал і роў абрываюцца над Свіслаччу (вышыня 8—10 м). Роў выразна прыкметны толькі з паўднёвага ўсходу (каля поймы р. Свіслач). Пляцоўка занята сучаснымі могілкамі. Адкрыў у 1925 г. А. Немцаў, абследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Немцаў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне Бабруйскай акругі.— У кн.: Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928, в. 2.

*А. Р. Мітрафанаў.*

**164. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана каля 140 тутэйшых жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Ліпень, цэнтр сельсавета**

**165. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 28 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**166. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КУНЬКО** Рыме Уладзіміраўне (гіст.).

На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1979 г.

Партызанка Р. У. Кунько нарадзілася 14.12.1926 г. у г. Рэчыца ў сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У 1933—41 гг. вучылася ў Ліпеньскай сярэдняй школе. У Вялікую Айчынную вайну з красавіка 1942 г. сувязная партызанскага атрада М. П. Каралёва, пазней у 1-й Асіповіцкай партызанскай брыгадзе, кіраўнік маладзёжнай дыверсійнай групы. Разам з іншымі партызанамі пусціла пад адхон 8 чыгуначных эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай праціўніка, падарвала 7 аўтамашын і бронемашын, 7 мастоў, удзельнічала ў разгроме 2 варожых гарнізонаў. Загінула ў баі 1.7.1944 г. Пахавана ў Асіповічах у брацкай магіле партызан. Яе імем названа вуліца ў Асіповічах. *Г. І. Дулеба.*

**167. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1973 г.

26.11.1942 г. група партызан брыгады «За Радзіму» (з красавіка 1943 г. імя А. К. Флегантава) вяла ў в. Ліпень няроўны бой з нямецка-фашысцкімі акупантамі. Партызаны знішчылі шмат гітлераўцаў, але і самі панеслі страты. У баі загінулі А. К. Бабіч, П. Л. Валькоў, А. А. Рошчын, Ц. А. Сюбараў і П. Ц. Фокін. Яны пахаваны ў брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан у в. Ліпень. *Г. І. Дулеба.*

**168. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Стараселле, на левым беразе р. Свіслач. Плошча каля 3 га. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,35—0,4 м прасочваецца на ўсёй плошчы селішча, асабліва ў абрыве берага р. Свіслач. Знойдзены ляпная гладкасценная кераміка з жарствой у цесце і рэшткі ганчарнага посуду. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі), эпохі Кіеўскай Русі (10—13 стагоддзі).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук. 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*




168. *Селішча. План.*




171. *Курганны могільнік. План.*

**в. Лочын, Лапіцкі сельсавет**

**169. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана больш за 200 жыхароў вёскі.

У маі 1943 г. у в. Лочын уварваўся атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў. Гітлераўцы сагналі жыхароў у некалькі хат і падпалілі. Тых, хто спрабаваў уцячы, расстрэльвалі з аўтаматаў. Акупанты спалілі вёску, загубілі больш за 200 чалавек. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла. *Г. І. Дулеба.*

**в. Лука, Дараганаўскі сельсавет**

**170. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**171. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Дрындзікаў хутар, на правым беразе р. Пціч. 3 курганы дыяметрам 8—10 м, вышынёй 2—2,5 м. Захаванасць добрая. Уздоўж асновы прасочаны раўкі. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**172. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1944 г. у баі супраць гітлераўцаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Майсеевічы, Дрычынскі сельсавет**

**173. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**174. РАДЗІМА КАДАНЧЫКА** Сяргея Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. М. Каданчык нарадзіўся 30.8.1906 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў Кіеўскія аб'яднаныя курсы падрыхтоўкі камандзіраў РСЧА у 1932 г. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Закаўказскім, Паўночна-Каўказскім франтах. Камандзір 1339-га стралковага палка 318-й стралковай дывізіі падпалкоўнік С. М. Каданчык вызначыўся ў баях за г. Новарасійск. У верасні 1943 г. воіны палка на чале з ім імклівым абходным манеўрам авалодалі ўмацаванымі рубяжамі праціўніка, адбілі шэраг контратак, нанеслі ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. Камандзір палка асабістым прыкладам паднімаў байцоў у атакі. Загінуў 15.9.1943 г. у баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 18.9. 1943 г. Пахаваны ў г. Новарасійску. Імем героя названа вуліца ў Новарасійску і рыбалоўны траўлер. У 1980 г. на будынку Майсеевіцкай 8-гадовай школы ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**175. СТАЯНКА** (археал.). За 4 км на захад ад вёскі, на беразе р. Пціч, каля моста. Памер 15×80 м. Займае ўсходнюю частку пясчанага ўзвышша. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1978 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя трохвугольныя наканечнік стралы, вастрыі, праколкі, скрабкі, нуклеусы, пласціны, адшчэпы і фрагменты ляпных пасудзін. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Макаўе (не існуе), Пагарэльскі сельсавет**

**176. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Макаўе знаходзілася за 10 км на паўночны захад ад в. Лазовае. 9.1.1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з жыхарамі. Загінулі 229 чалавек, згарэла 48 двароў. Вёска не адрадзілася. У 1968 г. на яе месцы пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

*Літ.:* Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Малая Гарожа, Замошскі сельсавет**

**177. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Паміж в. Брыцалавічы і в. Малая Гарожа, на правым беразе р. Свіслач. 5 курганоў вышынёй 0,7—2,5 м, дыяметрам 5—12 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які налічыў тут 19 курганоў. Раскапана 10 насыпаў. У сямі выпадках

пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, у двух — у ямах і ў адным — у насыпе. Знойдзены бронзавыя пярсцёнкі, падвескі, бронзавыя, шкляныя і сердалікавыя пацеркі, жалезны нож, ганчарная кераміка. У 1978 г. абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Належаў дрыгавічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне р. Березины, произведенные летом 1893 г.— У кн.: Чтения в Историческом Обществе Нестора Летописца. Киев, 1894, кн. 8.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Малінаўка, Ліпеньскі сельсавет**

**178. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 36 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мяжное, Дараганаўскі сельсавет**

**179. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 86 жыхароў вёскі, якіх 20.1.1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мязовічы,**
**Дараганаўскі сельсавет**

**180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**181. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 19 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




183. *Гарадзішча. План.*




184. *Курганны могільнік. План.*

**182. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык загінуў у 1941 г. у паветраным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Навасёлкі, Свіслацкі сельсавет**

**183. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Бярэзіна, на вузкім і доўгім мысе, які разрэзаны на 3 часткі неглыбокімі равамі. Адлегласць ад краю мыса да першага рова 110 м, даўжыня сярэдняй часткі 61 м, даўжыня трэцяй часткі ў напрамку ад другога да трэцяга рова (з паўночнага ўсходу на паўднёвы захад) 34 м. Шырыня равоў ад 6 да 8 м. Пляцоўка гарадзішча знаходзіцца ў сярэдняй частцы, роўная, культурны пласт 0,75 м. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Знойдзена ляпная гладкасценная і ганчарная кераміка. Ляпная кераміка датуецца 4—5 стагоддзямі, ганчарная — 11—13 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Няччо, Ліпеньскі сельсавет**

**184. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, за 70 м ад левага берага р. Свіслач. 9 курганоў дыяметрам 7—8 м, вышынёй 1—1,7 м. Адкрылі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1962 г. адзін насып раскапаў Э. М. Загарульскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Належаў дрыгавічам, найбольш верагодная дата — 11—12 стагоддзі.

**в. Орча, Вяззеўскі сельсавет**

**185. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе, адзін курган на полі. 9 насыпаў, з іх 8 дыяметрам 6—10 м, вышынёй 0,7—0,8 м і адзін прадаўгаваты даўжынёй 16 м, шырынёй 3 м, вышынёй 2,8 м. Курган, які знаходзіцца на полі, дыяметрам 11 м, вышынёй 2,9 м. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1925 г. А. Немцаў, абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пагарэлае, цэнтр сельсавета**

**186. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Перарожкі,**
**Пратасевіцкі сельсавет**

**187. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыцерпа, Каменіцкі сельсавет**

**188. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Партызан загінуў 19.9.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Радуцічы,**
**Дараганаўскі сельсавет**

**189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**190. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на невялікім пакатым узвышшы сярод поля. 33 курганы дыяметрам 5—12 м, вышынёй 0,5—3 м. Большасць насыпаў захавалася добра. Яны зараслі хмызняком. Абследавалі ў 1931 г. А. Рынейскі, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

**191. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 7 км на поўнач ад вёскі,




185. *Курганны могільнік. План.*




190. *Курганны могільнік. План.*

у лесе. Пахаваны 3 мірныя жыхары, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**192. МАГІЛА ПАЛАНЕЙЧЫКА** Апанаса Кузьміча (гіст.). На могілках. Удзельнік Грамадзянскай вайны і барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Беларусі А. К. Паланейчык забіты бандытамі ў 1921 г. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**194. СТАЯНКА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Пціч, каля сучасных могілак. Памер 40×160 м, культурны пласт 0,2 м. Выявіў у 1929 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1930 г. М. Н. Канвісараў, А. Рынейскі, у 1978 г. В. Ф. Капыцін. У агаленнях знойдзены расшчэпленыя крамяні, фрагменты ляпнога посуду. Раскопкі не праводзіліся. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Даследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР, заходняй Смаленшчыне і Клінцоўшчыне ў 1928—29 гг.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

### пасёлак Сасновы, Лапіцкі сельсавет

**195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**196. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка. Тут пахаваны 108 жыхароў з вёсак Лапіцкага сельсавета, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Свіслач, цэнтр сельсавета

**197. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 86 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Мікалай Іванавіч Кліменка і Дарафей Цімафеевіч Леўчанка.

М. І. Кліменка нарадзіўся 4.5. 1911 г. у в. Міхайлаўка Венгераўскага р-на Новасібірскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС. Да вайны на гаспадарчай, савецкай і камсамольскай рабоце ў Венгераўскім р-не.



197. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

У Вялікую Айчынную вайну на фронце з жніўня 1941 г. Намеснік камандзіра батальёна 1324-га стралковага палка 413-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант М. І. Кліменка вызначыўся ў баях за вызваленне Магілёўскай вобл. У снежні 1943 г. група воінаў пад яго камандаваннем адбіла 2 контратакі праціўніка ў Слаўгарадскім р-не. 28.6.1944 г. прарвала абарону праціўніка каля в. Зарэчча Бабруйскага р-на, знішчыла 400, узяла ў палон 80 гітлераўскіх салдат і афіцэраў. 30.6.1944 г. з групай байцоў вёў жорсткі бой за пераправу на р. Свіслач каля в. Свіслач Асіповіцкага р-на, адбіў некалькі контратак. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

Д. Ц. Леўчанка нарадзіўся 18.11.1911 г. у с. Пасухоўка Уманскага р-на Чаркаскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. Скончыў Омскую пяхотную школу імя Фрунзе ў 1935 г. Вызначыўся ў жніўні 1938 г. у баях з японскімі захопнікамі каля воз. Хасан. Старшы лейтэнант Д. Ц. Леўчанка паранены камандаваў стралковай ротай, якая адбіла шэраг варожых атак, стрымлівала націск праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.10.1938 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. На фронце з чэрвеня 1941 г., капітан. Загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у жніўні 1941 г. Навечна залічаны ў спіс Омскага вышэйшага агульнавайсковага каманднага вучылішча імя Фрунзе.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск, у 1975 г.— 2 стэлы.

*Літ.* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**198. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Свіслач, на пагорку з высокімі (каля 10 м ад асновы) і стромкімі схіламі. З паўночна-заходняга боку ўмацавана ровам глыбінёй 6,3 м, шырынёй каля 22 м. Пляцоўка памерам 80×50 м мае нахіл у паўночна-ўсходнім напрамку. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. Раскопкі ў 1962 г. праводзіў Э. М. Загарульскі, які даследаваў гарадзішча на плошчы 48 м². Ніжні гарызонт мае культурны пласт 0,4 м. Знойдзена ляпная кераміка, адносіцца да культуры штрыхаванай керамікі ранняга жалезнага веку, датуецца 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. У верхнім гарызонце культурны пласт 0,6 м. Знойдзена ганчарная кераміка, датуецца перыядам Кіеўскай Русі (11—12 стагоддзі).

Матэрыялы раскопак Э. М. Загарульскага захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

### в. Слабада, Свіслацкі сельсавет

**199. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**200. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.




198. *Гарадзішча. План.*

**в. Слопішча, Дараганаўскі сельсавет**

**201. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, па правым беразе р. Пціч. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1978 г. В. Ф. Капыцін. На невялікіх пясчаных узвышшах, у агаленнях прасочаны культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, адшчэпы, пласціны з рэтушшу, фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч: (Матэрыялы да археалагічнай карты).— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Смык, Вяззеўскі сельсавет**

**202. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**202а.** Гарадзішча. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе, які ўтвораны р. Свіслач і яе прытокам р. Жужлянка. Пляцоўка трохвугольнай формы, памерам 100×130 м. З боку поля ўмацавана 2 валамі і 2 равамі. Вышыня ўнутранага вала 4 м, вонкавага 2 м. Абследаваў у 1925 г. А. Немцаў, ў 1926 г. даследавалі С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1958—63 гг. раскопкі праводзілі Л. Д. Побаль, Э. М. Загарульскі і Ю. І. Драгун. Апошні ўскрыў культурны пласт на плошчы 140 м². У ніжнім гарызонце знойдзены рэшткі ляпнога посуду культуры штрыхаванай керамікі ранняга жалезнага веку (3—4 стагоддзі), у сярэднім — рэшткі керамікі пражскай культуры (тыпу Карчак, 6—7 стагоддзі), верхні пласт належаў да эпохі Кіеўскай Русі (10—11 стагоддзі).

**202б.** Селішча-1. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Жужлянка, з паўднёвага боку гарадзішча. Плошча каля 1 га. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. У 1958—63 гг. даследавалі Э. М. Загарульскі, Л. Д. Побаль, Ю. І. Драгун, якія сабралі ганчарную кераміку 10—11 стагоддзяў. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

**202в.** Селішча-2. З усходняга боку гарадзішча, за валам. Адкрылі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. У 1963—64 гг. раскопкі праводзіў Ю. І. Драгун. Культурны пласт у паўночнай частцы, дзе ён добра захаваўся, 0,4—0,8 м прасочаны на плошчы каля 1,5 га. У 2 раскопках агульнай плошчай 244 м² былі ўскрыты 2 гарызонты. У ніжнім былі знойдзены гліняныя прасліцы і абломкі раннеславянскіх гліняных гаршкоў пражскай культуры (тыпу Карчак, 6—7 стагоддзі), у верхнім — шкляныя пацеркі, бісер, ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы даследавання гарадзішча і селішчаў захоўваюцца ў музеі БДУ.

*Літ.:* Немцаў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне.— У кн.: Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928, в. 2; Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Драгун Ю. И. Раннеславянское поселение в нижнем течении р. Свислочь.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Старонка (не існуе), Карытнянскі сельсавет**

**203. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Старонка знаходзілася за 4 км на паўднёвы ўсход ад в. Старое Сяло. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 101 жыхара і спалілі 36 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Тарасавічы, Карытнянскі сельсавет**

**204. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 савецкія ваеннапалонныя, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**205. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Партызан загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**рабочы пасёлак Татарка, цэнтр пасялковага Савета**

**206. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Прамысловая, у цэнтры пасёлка. Пахаваны 270 воінаў і 39 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**в. Татаркавічы, Ясенскі сельсавет**

**207. МАГІЛА ЗАГАРОЎСКАГА** Яўгена Барысавіча (гіст.). На могілках. Партызан Я. Б. Загароўскі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**208. МАГІЛА МІРАНОВІЧА** Кузьмы Мартынавіча (гіст.). На могілках. Партызан К. М. Мірановіч загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**209. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.



206. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Уборак, Лапіцкі сельсавет**

**210. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 14 жыхароў вёскі, расстраляных гітлераўцамі ў 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Углата, Свіслацкі сельсавет**

**211. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**212. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў 1920 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Усціж, Ліпеньскі сельсавет**

**213. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**213а.** Селішча. За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Капылец, на правым беразе р. Свіслач. Плошча каля 0,5 га. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1963 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,3 м знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да 1-га тысячагоддзя н. э.

**213б.** Курганны могільнік. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Свіслач. 2 насыпы вышынёй 2 і 2,5 м, дыяметрам 7 і 9 м. Захаванасць дрэнная: на вяршыні аднаго насыпу выкапана яма, другі моцна разбураны. Адкрыў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які налічыў

108 курганоў. У 15 даследаваных ім насыпах пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце (адно ў труне). У 1926 г. даследавалі С. С. Шутаў і М. М. Улашчык. Захаваліся 73 насыпы. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, косці чалавека, крамянёвая пласцінка, скрабок і наканечнік стралы. У 1978 г. помнік абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Належаў дрыгавічам, найбольш верагодная датаванне — 10—13 стагоддзі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894; Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі ў басейне ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Хімное, Ліпеньскі сельсавет**

**214. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля ўсходняй ускраіны вёскі, за 0,1 км на поўдзень ад могілак, на левым беразе р. Жыцінка, пры ўпадзенні яе ў р. Свіслач. 5 курганоў дыяметрам не больш за 5—7 м, вышынёй ад 0,4 да 1,2 м. Насыпы моцна абараны, на 2 ёсць ямы. Абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Цэль, Пратасевіцкі сельсавет**

**215. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**216. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**214.** *Курганны могільнік. План.*

**217. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі. У гонар савецкіх воінаў — пераможцаў у Вялікай Айчыннай вайне — у 1974 г. пастаўлена стэла з памятным надпісам.

**218. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на высокім мысе, які ўтвораны з заходняга і паўднёвага бакоў глыбокім (да 10 м) ярам, з паўночнага — абрывістым высокім (12—15 м) берагам р. Свіслач. Выявіў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,3—0,7 м прасочаны на ўсёй пляцоўцы селішча і ў агаленнях. Знойдзены ляпная кераміка мілаградскай, зарубінецкай і штрыхаванай керамікі культур, рэшткі ганчарнага посуду. Адносіцца да ранняга жалезнага веку (1 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі (11—13 стагоддзі).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.
*А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Цяплухі, Вяззеўскі сельсавет**

**219. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1—1,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, на правым беразе Асіповіцкага вадасховішча. 19 курганоў дыяметрам 12 м, вышынёй 0,5—2,5 м. Уздоўж асновы большасці насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1925 г. А. Немцаў, абследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Немцаў А. Помнікі старасветчыны ў Асіповіцкім раёне.— У кн.: Асіповіцкі раён Бабруйскай акругі. Мн., 1928, в. 2; Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі на ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*

**в. Чучча, Свіслацкі сельсавет**

**220. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі 30.6.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст воіна на пастаменце.

**221. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**221а.** Селішча. На правым беразе р. Берцынь, на ўчастку паміж могілкамі і р. Бярэзіна. Вядома з 1924 г., даследавалі ў 1965 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. А. Р. Мітрафанаў. Культурны пласт 0,4 м прасочваецца на плошчы 150 м². Знойдзена вялікая колькасць ляпной керамікі. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

**221б.** Курганны могільнік. На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак, на правым беразе р. Бярэзіна. 4 насыпы дыяметрам 6—12 м, вышынёй 1,2—1,5 м. Вядомы з 1924 г. Абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1968 г. А. Р. Мітрафанаў.

Матэрыялы даследавання селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Р. Мітрафанаў.*

**рабочы пасёлак Ялізава, цэнтр пасялковага Савета**

**222. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). Вул. Палявая. Пахаваны савецкія ваеннапалонныя і жыхары пасёлка, якіх у студзені 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**223. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Рамашкі, каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны Герой Савецкага Саюза Сяргей Васілевіч Пяцялін і невядомы воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г.

С. В. Пяцялін нарадзіўся 4.10. 1925 г. у с. Чыгарова Арамашаўскага р-на Цюменскай вобл. у сялянскай сям'і. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з пачатку 1943 г., разведчык 210-га стралковага палка 82-й стралковай дывізіі. Вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 30.6. 1944 г. каля в. Акцябр Асіповіцкага р-на група савецкіх воінаў трапіла ў акружэнне. Ратуючы іх, яфрэйтар С. В. Пяцялін адзін уступіў у бой з 50 гітлераўцамі. Калі скончыліся патроны, узарваў гранатай сябе і ворагаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. На ўшанаванне памяці героя ў в. Чыгарова ўстаноўлены абеліск, яго імем названа вуліца.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст воіна на пастаменце.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**224. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Рамашкі, на могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — бюст воіна на пастаменце.

**225. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, непадалёку ад




**219.** *Курганны могільнік. План.*

чыгуначнай станцыі. Пахаваны 65 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**226. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**227. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне пасёлка, каля чыгуначнага моста цераз р. Бярэзіна. Пахаваны 100 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**228. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На ўскраіне пасёлка, у канцы вул. Агароднай, на правым беразе р. Бярэзіна. З заходняга, усходняга і паўднёвага бакоў умацавана 2 падковападобныміваламі і 2 равамі. З поўначы сваімі канцамі яны абрываюцца стромкім і высокім (10—12 м) берагам над р. Бярэзіна. Пляцоўка даўжынёй па лініі захад — усход 100—105 м, шырынёй па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад да 86 м. Вышыня валоў 1,5—2 м, шырыня равоў 10—12 м. Валы ў асобных месцах пашкоджаны ямамі. Даследавалі ў 1926 г. С. С. Шутаў і М. М. Улашчык, у 1931 г. А. М. Ляўданскі, у 1978 г. абследаваў А. Р. Мітрафанаў, Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,5 м. Пры шурфоўцы знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку (не пазней 1—3 стагоддзяў) і да эпохі Кіеўскай Русі (10—12 стагоддзі).

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Шутаў С. С., Улашчык М. М. Археалагічныя разведкі ў ніжняй Свіслачы ўлетку 1926 г.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *А. Р. Мітрафанаў.*




228. *Гарадзішча. План.*

**229. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны 100 мірных жыхароў пасёлка, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Яноўка, Каменіцкі сельсавет**

**230. МАГІЛА БОГУША** Уладзіміра Адамавіча (гіст.). На могілках. Партызан У. А. Богуш загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ясень, цэнтр сельсавета**

**231. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Белая Лужа. Займае прадаўгаватае пакатае ўзвышша, абапал якога — балота. 20 насыпаў вышынёй 0,5—0,9 м, дыяметрам 10—15 м. Каля асновы курганоў прасочаны раўкі. Могільнік пашкоджаны. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў некалькі курганоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце галавой на захад. Знойдзены бронзавыя бранзалеты, пярсцёнкі, каралі і інш. У 1978 г. абследаваў А. Р. Мітрафанаў. Належаў дрыгавічам, адносіцца да 11—13 стагоддзяў.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894. *А. Р. Мітрафанаў.*

**232. МАГІЛА БАРАНАВА** Аляксандра (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык А. Баранаў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**233. МАГІЛА ГАРБАЦЭВІЧА** Антона Маркавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы А. М. Гарбацэвіч нарадзіўся 31.1.1912 г. у в. Залессе Асіповіцкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. З 1930 г. працаваў прасаўшчыком па кіпаванню тарфяной падсцілкі, машыністам лакамабіля па здабычы кускавога торфу на торфапрадпрыемстве «Татарка» Асіповіцкага р-на. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля дэмабілізацыі з арміі працаваў слесарам на торфапрадпрыемстве «Татарка». Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 29.6.1966 г. за поспехі ў выкананні вытворчых планаў. З 1972 г. А. М. Гарбацэвіч — персанальны пенсіянер саюзнага значэння. Трагічна загінуў 2.7.1981 г.

У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. М. Новікава.*

**234. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**235. ПОМНІК НАСТАЎНІКАМ І ВУЧНЯМ** (гіст.). Каля сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці настаўнікаў і вучняў школы, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**чыгуначная станцыя Ясень, Ясенскі сельсавет**

**236. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**237. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.




231. *Курганны могільнік. План.*




# БАБРУЙСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя),

Цэнтры рамёстваў

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Жылыя дамы, забудова вуліц
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні
- дасавецкага перыяду
- савецкага перыяду

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

## III. БАБРУЙСК

Горад абласнога падпарадкавання, цэнтр раёна. Вузел чыгуначных ліній на Асіповічы, Жлобін, Акцябрскі і аўтамабільных дарог на Мінск, Гомель, Магілёў, Калінкавічы, Рагачоў, Слуцк. Порт на р. Бярэзіна. Адлегласць да Мінска 145 км, да Магілёва 110 км. 226,9 тыс. жыхароў (на 1.1. 1986 г.). Падзяляецца на 2 адміністрацыйныя раёны — Ленінскі і Першамайскі.

У эпоху Кіеўскай Русі на месцы сучаснага горада была вёска, жыхары якой займаліся земляробствам, рыбнай лоўляй і бабровым промыслам. Першыя пісьмовыя ўпамінанні пра Бабруйск (летапісны Бобровск, Бобруеск, Бобрусек) адносяцца да сярэдзіны 14 ст. У Вялікім княстве Літоўскім — цэнтр воласці, з 1566 г. — староства Рэчыцкага павета. У 1502 г. каля Бабруйска войска князя С. М. Алелькавіча разбіла крымскіх і акерманскіх татар. З'яўляўся уладаннем вялікага князя, потым Радзівілаў, Гаштольдаў, Трызнаў. Меў магдэбургскае права. Ужо ў 1540 г. Бабруйск быў пазначаны на геаграфічнай карце Еўропы. Паводле інвентару 1620 г. у горадзе 409 двароў, 75 крам, млын, касцёл, замак (згарэў у 1649 г.). У час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. жыхары горада паўсталі супраць польскіх паноў і разам з казацкім атрадам Паддубскага перабілі заможную шляхту (1649 г.). Паўстанне было жорстка задушана. Пасля разрушэнняў, якія былі прычынены Бабруйску ў ходзе вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў, а таксама руска-польскай вайны 1654—67 гг., ён страціў сваё ранейшае значэнне. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. горад разам з іншымі беларускімі землямі застаўся ў складзе Рэчы Паспалітай. У 1760 г. у Бабруйску пры езуіцкім калегіуме існаваў школьны тэатр.

У 1793 г. Бабруйск уз'яднаны з Расіяй. З 1795 г. горад і павятовы цэнтр Мінскай губерні. У 1796 г. яму дадзены герб — карабельная мачта і на ёй 2 перакрыжаваныя бервяны, якія сведчылі аб вялікай ролі лясных промыслаў у жыцці горада. У 1807—36 гг. пабудавана Бабруйская крэпасць, якая адыграла значную ролю ў Айчынную вайну 1812 г., цесна звязана з паўстаннем дзекабрыстаў, пазнейшымі падзеямі рэвалюцыйнага руху. Развіццю Бабруйска садзейнічала пракладка шашы Масква — Варшава (1848 г.) і Лібава-Роменскай чыгункі (1873 г.). Дзякуючы ім, а таксама воднаму шляху па Бярэзіне, хутка развіваліся гандаль, лесаапрацоўчыя рамёствы і промыслы. Паводле перапісу 1897 г. у горадзе налічвалася 34,3 тыс. жыхароў (з іх 59,4 % непісьменных). У пачатку 20 ст. было 19 фабрык і заводаў (582 рабочыя), 191 рамесная майстэрня (1077 работнікаў), 13 пачатковых школ (1755 вучняў, 38 настаўнікаў), гімназія (236 вучняў, 14 настаўнікаў), 2 бальніцы (70 ложкаў), 5 аптэк, 8 аптэчных магазінаў, 15 урачоў, 8 акушэрак, 7 фельчараў, 2 ветэрынары, 3 друкарні, літаграфія, бібліятэка-чытальня, 19 тракціраў.

У 1898 г. у Бабруйску быў надрукаваны Маніфест I з'езда РСДРП. Тут дзейнічала група прыхільнікаў ленінскай «Искры»; з 1904 г. — Бабруйская арганізацыя РСДРП. З лістапада 1905 г. да кастрычніка 1906 г. вяла работу ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП, яна ўзначальвала паўстанне салдат Бабруйскай крэпасці. Жыхары горада ў Рэвалюцыю 1905—07 гг. удзельнічалі ў студзеньскай стачцы пратэсту супраць расстрэлу царызмам рабочых Пецярбурга, у Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы, снежаньскіх 1905 г. і многіх іншых выступленнях.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі 20.1. 1918 г. горад заняты польскім контррэвалюцыйным корпусам Доўбар-Мусніцкага, з 23.5 да 28.11.1918 г. акупіраваны войскамі імперыялістычнай Германіі, з 29.8.1919 г. да 10.7. 1920 г. — буржуазнай Польшчы. Барацьбу працоўных за Савецкую ўладу ўзначальвалі Бабруйскі падпольны раённы камітэт РКП(б) (май — лістапад 1918 г.) і Бабруйскі падпольны камітэт Кампартыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі (жнівень 1919 г. — ліпень 1920 г.). У чэрвені 1919 г. Бабруйск наведаў М. І. Калінін з агітпоездам «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

З 1924 г. Бабруйск — цэнтр Бабруйскага 1-га і Бабруйскага 2-га, з 1927 г. Бабруйскага раёнаў, у 1924—30 гг. — і акругі. З верасня 1938 г. горад абласнога падпарадкавання. За перадваенныя гады Савецкай улады ён стаў адным з прамысловых і культурных цэнтраў рэспублікі. У 1939 г. у Бабруйску 84,1 тыс. жыхароў. У 1940 г. было больш за 100 прамысловых прадпрыемстваў, на якіх працавала каля 10 тыс. рабочых. Тут дзейнічалі ў 1932—35 гг. Дзяржаўны рускі драматычны тэатр БССР, у 1935—38 гг. Тэатр рабочай моладзі, у 1938—41 гг. калгасна-саўгасны тэатр, у 1941 г. абласны рускі драматычны тэатр. У перадваенным годзе было 30 школ (больш за 13 тыс. вучняў, 527 настаўнікаў), 38 дзіцячых устаноў, 17 клубаў, 2 кінатэатры, 13 бібліятэк, 3 бальніцы на 825 ложкаў і 19 іншых медыцынскіх устаноў.

З 28.6.1941 г. да 29.6.1944 г. Бабруйск акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі і моцна разбураны. Летам 1941 г. фашысты стварылі тут 4 лагеры смерці з 8 аддзяленнямі і філіяламі. У Бабруйску і яго наваколлі акупанты загубілі каля 100 тыс. савецкіх грамадзян. У час акупацыі ў раёне дзейнічалі падпольныя Бабруйскія міжрайком (11.8—4.11.1942 г.) і райком (2.9.1942 г. — 30.6.1944 г.) КП(б)Б, міжрайком (24.8.1942 г. — 1.6.1943 г.), райком (14.10.1942 г. — 30.6. 1944 г.) і гарком (10.6.1943 г. — 2.1. 1944 г.) ЛКСМБ. Выдавалася газета «Бобруйский партизан» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. З 1941 г. да чэрвеня 1944 г. дзейнічала Бабруйскае камуністычнае падполле. Горад вызвалены войскамі 1-га Беларускага фронту (камандуючы Маршал Савецкага Саюза К. К. Ракасоўскі) у ходзе Бабруйскай аперацыі. У 1944—54 гг. цэнтр Бабруйскай вобласці і цэнтр раёна.

Ядром радыяльна-паўкальцовай планіроўкі горада была крэпасць. У 1904 г. у Бабруйску 53 вуліцы і завулкі працягласцю каля 46 вёрст (забрукавана 6 вёрст), плошча, з 3 тыс. будынкаў 172 мураваныя. У архітэктуры адлюстраваліся розныя стылявыя кірункі другой паловы 19 — пачатку 20 ст. Пошукі стылю «мадэрн» увасобіліся пры будаўніцтве драўлянага дома на вул. Інтэрнацыянальнай, 25, і мураванага на вул. Савецкай, 79. Эклектычная архітэктура прадстаўлена грамадскімі будынкамі на вул. Пушкіна, 211, і Савецкай, 45, неакласіцыстычнага кірунку — будынкам на вул. Камсамольскай, 41. Забудова канца 19 — пачатку 20 ст. захавалася на вул. К. Маркса, Перамогі, Свярдлова, Тухачэўскага, Чангарскай, Чыгуначнай.

Горад хутка рос у гады Савецкай улады. У даваенныя пяцігодкі пабудаваны дрэваапрацоўчы камбінат, мясакамбінат, каніфольны, гідролізны, малочны, металаапрацоўчы, машынабудаўнічы, інструментальны і суднарамонтны заводы, хлебазавод, мэблевая і швейная фабрыкі. Шмат новых будынкаў узведзена ў цэнтры горада: тэатр, Дом Чырвонай Арміі, мураваныя жылыя шматкватэрныя дамы (вул. Пралетарская, 17).

У пасляваенныя гады тэрыторыя горада расшырана за кошт далучэння прадмесцяў Крывы Крук, Дзеднава, Новы свет, Цітаўка, Лагерная Слабада, Бярэзінскі фарштат і інш. Генеральныя планы 1949 і 1966 гг. захавалі планіровачную структуру, якая гістарычна склалася, і вызначылі новыя шляхі яе развіцця. У 1978 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва распрацаваны чарговы генплан горада, паводле якога кампазіцыйнай воссю Бабруйска стане р. Бярэзіна, а галоўнай вуліцай — вул. Горкага. Планіровачна тэрыторыя горада падзелена на 4 жылыя

раёны: цэнтральны, паўночны, паўднёвы і ўсходні. Прадугледжваецца рэканструкцыя цэнтральнай часткі — замена сядзібнай забудовы шматпавярховымі муравапымі будынкамі. Такімі дамамі забудоўваюцца галоўныя вуліцы, плошчы і агульнагарадскі цэнтр у межах вуліц Перамогі, Савецкай, Інтэрнацыянальнай, Гогаля, Горкага. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр сфарміраваўся на перакрыжаванні вуліц Савецкай і Горкага — пл. Леніна. Сучасныя шматпавярховыя будынкі размешчаны таксама на вуліцах Мінскай, Кастрычніцкай, Урыцкага, 50 год ВЛКСМ.

Асноўныя прадпрыемствы сканцэнтраваны ў паўночнай, паўночна-заходняй і паўднёва-заходняй частках горада. У шматгаліновай структуры індустрыі галоўнае месца займае хімічная прамысловасць: працуюць вытворчыя аб'яднанні «Бабруйскшына» (у яго складзе заводы буйнагабарытных, звышбуйнагабарытных і масавых шын, рамонтна-механічны), «Беларусьгуматэхніка» (завод гумавых тэхнічных вырабаў, галаўное прадпрыемства), «Бабруйскгідролізпром» (гідролізны завод, галаўное прадпрыемства). Дзейнічае самае буйное ў рэспубліцы вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне. З бабруйскіх прадпрыемстваў у яго ўваходзяць фанерна-дрэваапрацоўчы камбінат (галаўное прадпрыемства), мэблевыя фабрыкі імя С. М. Халтурына і № 2, леспрамгас. Машынабудаванне і металаапрацоўку прадстаўляюць вытворчае аб'яднанне «Бабруйскфермаш» (заводы сельскагаспадарчага машынабудавання, раскідвальнікаў угнаенняў, сельгасагрэгатаў, дзяржаўнае спецыялізаванае праектна-канструктарскае бюро), машынабудаўнічы завод імя У. І. Леніна (у вытворчым аб'яднанні «Саюзпомпамаш»), суднарамонтны, трактарных дэталей і агрэгатаў (у вытворчым аб'яднанні «Мінскі трактарны завод»), вагавымяральных прыбораў, доследна-механічны (у вытворчым аб'яднанні «Аўтатранстэхніка»), аўтатрактарных дэталей заводы. Лёгкая прамысловасць: Бабруйскае вытворчае аб'яднанне мастацкіх вырабаў (фабрыкі мастацкіх вырабаў і галантарэйная), камбінаты гарбарны і па апрацоўцы другаснай сыравіны, фабрыкі: швейная імя Ф. Э. Дзяржынскага, валюшна-лямцавая, трыкатажная, абутковая, люстраная, футравая. Харчовая прамысловасць: мясакамбінат, хлебапрадуктаў камбінат, заводы — малочны, маслабойны імя Г. П. Адзярыхі, кансервавы, кандытарская фабрыка «Чырвоны харчавік» і інш. Развіта індустрыя будаўнічых матэрыялаў — заводы буйнапанельнага домабудавання, зборнага жалезабетону, камбінат будаўнічых матэрыялаў. Дзейнічае ЦЭЦ.



III. *Забудова вуліцы Мінскай.*

**У** Бабруйску 5 сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў — аўтатранспартны, лесатэхнічны, механіка-тэхналагічны, сельскагаспадарчы тэхнікумы, медыцынскае вучылішча. 8 прафесійна-тэхнічных вучылішчаў, 38 агульнаадукацыйных, 3 музычныя, мастацкая, 3 дзіцяча-юнацкія спартыўныя школы, 77 дашкольных дзіцячых устаноў.

У пасляваенны час працавалі тэатры: абласны рускі драматычны (1944—47 гг.), беларускі калгасна-саўгасны вандроўны (1956—62 гг.),



III. *Плошча Леніна.*




III. *Гасцініца «Юбілейная» па вуліцы 50 год ВЛКСМ.*

Магілёўскі абласны музычнай камедыі (1965—70 гг.). З 1970 г. дзейнічае Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча. У горадзе 2 народныя тэатры (гарадскога Дома культуры і Дома афіцэраў), 11 народных і ўзорных самадзейных музычных і харэаграфічных калектываў, 5 кінатэатраў, 17 кінаўстановак, 20 клубных устаноў, 99 масавых бібліятэк, 3 стадыёны, музеі краязнаўчы і народнай творчасці Беларусі, філіял дзяржаўнага архіва Магілёўскай вобл., выставачная зала.

Ёсць 3 бальнічныя ўстановы, 4 дыспансеры, радзільны дом, 11 паліклінік, 50 фельчарскіх пунктаў аховы здароўя, 2 санітарна-эпідэміялагічныя станцыі, станцыя пераліванне крыві, 15 аптэк, Дом санітарнай асветы. Выдаюцца газеты: «Камуніст» — орган гаркома КПБ і гарадскога Савета народных дэпутатаў; «Трыбуна працы» — орган Бабруйскага райкома КПБ і раённага Савета народных дэпутатаў.

Пастаўлены помнікі: У. І. Леніну; Герою Савецкага Саюза В. З. Харужай; генерал-маёру танкавых войск Б. С. Бахараву; воінам 1-га Беларускага фронту — вызваліцелям Бабруйска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

Зона адпачынку ўключае набярэжную р. Бярэзіны, курорт Бабруйск з санаторыем імя У. І. Леніна, гарадскі і дзіцячы паркі, шматлікія скверы, пляжы, участак лесу на паўночны захад ад горада.

*Літ.:* Документы и материалы по истории Белоруссии (1900—1917 гг.). Т. 3.— Мн., 1953; Памятная книжка Минской губернии на 1878 год. Ч. 2.— Мн., 1878; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Города России в 1904 году.— СПб., 1906; Майзель Л. Н. 1905—1907 гг. на Беларусі: Хроніка падзей.— Мн., 1934; Копысский З. Ю. Экономическое развитие городов Белоруссии в XVI — первой половине XVII в.— Мн., 1966; Белоруссия в эпоху феодализма: Сб. документов и материалов. Т. 3.— Мн., 1961; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1962; Бобруйск: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.

*А. І. Валахановіч, Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**238. АСАБНЯК** (архіт.). Вул. Пушкіна, 211. Пабудаваны ў 1912 г. з цэглы. Выкарыстоўваецца аддзелам аховы здароўя гарвыканкома.

Будынак Г-падобны ў плане, аднапавярховы, пад вальмавым дахам.



238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Галоўны фасад.*




238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. План.*

Архітэктурны дэкор сканцэнтраваны на галоўным, усходнім фасадзе, які мае сіметрычна-восевую кампазіцыю. Цэнтральны ўваход афармлены двухкалонным атыкавым порцікам стылізаванага карынфскага ордэра. Па баках будынка рызаліты з пілонамі, упрыгожанымі ляпнымі маскамі, і з атыкамі ў завяршэнні. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны канеліраванымі ліштвамі з фігурнымі арнаментальнымі франтонамі, падаконнымі філёнгамі, лепкай і балясінамі. Фасады завершаны прафіляваным карнізам на дэнтыкулах і арнаментальным фрызам.

Планіроўка калідорна-анфіладная. Арачны праём галоўнага вестыбюля ўпрыгожаны ляпнымі маскаронамі. Цэнтральная зала на дваровым фасадзе выступае паўкруглым эркерам.



III. *Жылыя дамы па вуліцы Урыцкага.*



238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Фрагмент дэкору аконнага праёма.*







238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Фрагменты дэкору печаў.*



238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Фрагменты арнаментальнага фрыза і дэкору аконнага праёма.*



238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Маскарон у інтэр'еры галоўнага вестыбюля.*

У інтэр'еры 6 печаў, абліцаваных каляровай арнаментаванай кафляй.

Асабняк — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**239. АСАБНЯК** (архіт.). Вул. Савецкая, 45. Пабудаваны ў 1914 г. з цэглы. Выкарыстоўваецца станцыяй юных тэхнікаў.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Цэнтр галоўнага атынкаванага фасада вылучаны парталам, завершаным трохвугольным франтонам. Фасад фланкіраваны паўкруглымі ў плане эркерамі з калонамі іанічнага ордэра, балконамі і складанай сферычнай формы шчытамі ў завяршэнні. Элемент асіметрыі ў кампазіцыю галоўнага фасада ўносіць рызаліт у месцы злучэння крылаў будынка.



238. *Асабняк па вуліцы Пушкіна, 211. Фрагмент дэкору печы — карыятыда.*

Сцены расчлянёны высокімі прамавугольнымі вокнамі і пілястрамі ў прасценках, крапаваны міжпаверхавым антаблементам, дэкарыраваны рустоўкай. Планіроўка калідорная. Парадная лесвіца — у цэнтры крыла, якое выходзіць на вул. Савецкую.

Асабняк — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. М. Кулагін.*

**240. БАБРУЙСКАЯ КРЭПАСЦЬ** (архіт., гіст.). Вул. Крупскай, на ўскраіне горада, на правым беразе р. Бярэзіна ў сутоку з ёй р. Бабруйка. Комплекс помнікаў гісторыі і архітэктуры.

**240а.** Крэпасць. Адно з буйнейшых абарончых збудаванняў 1-й паловы 19 ст. Яе праект складзены генерал-інжынерам К. І. Оперманам. Ва ўмовах набліжэння вайны з Францыяй ставілася мэта — выкарыстаць водны рубеж і стварыць непрыступны фарпост.

Будаўніцтва крэпасці пачалося ў 1807 г. на месцы старажытнага замка; удзельнічалі спецыялісты з розных месцаў Расіі, сюды дастаўляліся будаўнічыя матэрыялы з Карэліі, Каўказа, Украіны, Урала. Крэпасць узводзілі тысячы салдат і прыгонных сялян Магілёўскай, Мінскай і Чарнігаўскай губерняў. Ад кожнай губерні патрабаваліся 500 фурманак і будаўнічы матэрыял. Да пачатку Айчыннай вайны 1812 г. былі насыпаны валы, зроблены іншыя земляныя ўмацаванні, 5 асноўных бастыёнаў, частка ўнутраных збудаванняў. Спачатку будаўніцтва вялося за кошт рэканструкцыі карпусоў езуіцкага кляштара, які быў перароблены ў арсенал. Узведзены новыя казармы, шпіталь, склады. Будаўніцтва працягвалася і пасля вайны. Паводле плана 1818 г. (архіт. А. Штаўберт) планіроўка комплексу вызначалася сеткай ўзаемна перпендыкулярных вуліц, забудаваных 2—3-павярховымі цаглянымі дамамі. На скрыжаванні галоўных вуліц была створана Саборная плошча з домам камендата (1818 г.), будынкамі шпіталя (1822 г.) і штаба (1824 г.), саборам Аляксанд-

ра Неўскага (1827 г.). У заходняй частцы крэпасці размяшчаліся казармы, ва ўсходняй — склады, артылерыйскі і інжынерны паркі. Да 1820 г. пабудаваны яшчэ 17 бастыёнаў, равеліны, вежы, форт «Фрыдрых Вільгельм» (1822 г.). У 1830-я гады на вонкавым рове ўзведзены капаніры для флангавага артылерыйскага і ружэйнага агню. Уезд у крэпасць быў праз Мінскую, Слуцкую і Вадзяную брамы.

Запраектаваная ў свой час як крэпасць 1-га класа, яна стваралася з выкарыстаннем апошніх дасягненняў фартыфікацыйнага майстэрства і будаўнічай тэхнікі. Казармы, афіцэрскія дамы, сабор, агароджа, бастыёны, цэйхгаузы, капаніры, равеліны будаваліся з чырвонай цэглы. Аздобай вылучаны толькі будынкі салдацкіх казармаў (рустоўка, арнаментальныя паясы, карнізы, пілястры, ліштвы). Бастыёны ў плане сегментнай формы з 2 ярусамі байніц, рытмічна размешчаных на галоўным (скругленым) фасадзе. Дахі бастыёнаў засцерагалі магутныя цагляныя парапеты. Вялізныя двух'ярусныя капаніры прызначаліся для прыкрыцця равоў артылерыйскім агнём. 360 гармат рознага калібру і ўдалае размяшчэнне крэпасці на мясцовасці забяспечвалі бастыёнам і равелінам франтальнае і флангавае прыкрыцце. Збудаванні, узбраенне, гарнізон у 25—30 тыс. чалавек стваралі высокую баяздольнасць крэпасці.

Да сярэдзіны 19 ст. крэпасць паступова страціла сваё стратэгічнае значэнне, была ператворана ў засценак царскага самадзяржаўя. У канцы 19 ст. выкарыстоўвалася як тылавая складская база арміі. Разбурэнні ваенных гадоў, рэканструкцыі змянілі першапачатковы выгляд крэпасці, парушылі цэласнае адзінства комплексу.

*Літ.:* Квитницкая Е. Д. Планировка Бобруйской крепости.— У кн.: Архитектурное наследство. М., 1976, № 25. *А. М. Кулагін.*

**240б.** Месца абарончых баёў у 1812 г. Бабруйская крэпасць мела важнае значэнне ў Айчынную вайну 1812 г. Пасля жорсткіх баёў з французскімі войскамі ў крэпасці адпачывалі воіны 2-й рускай арміі пад камандаваннем П. І. Баграціёна. Тут 18—21.7.1812 г. армія была перафарміравана. П. І. Баграціён пакінуў у крэпасці гарнізон з 5 тыс. чалавек пад камандаваннем генерал-маёра Г. А. Ігнацьева. У хуткім часе крэпасць была блакіравана 20-тысячным напалеонаўскім войскам. 4 месяцы воіны гарнізона мужна трымалі абарону, не здаліся ворагу, нанеслі яму вялікія страты.

*Літ.:* Михайловский-Данилевский А. И. Герои Отечественной войны.— СПб., 1899. *Г. І. Дулеба.*

**240в.** Месца падрыхтоўкі паўстання дзекабрыстаў. У крэпасці ў 1823 г. была раскватаравана



**240а.** *Бабруйская крэпасць. Слуцкая брама. Чарцёж.*



**240а.** *Бабруйская крэпасць. Бастыён.*

пяхотная дывізія, палкамі якой камандавалі будучыя дзекабрысты М. П. Бястужаў-Румін, С. І. Мураўёў-Апостал, В. С. Нораў, І. С. Павала-Швайкоўскі. Яны распрацавалі план паўстання, вядомы пад назвай бабруйскага. Меркавалася ў час маючага адбыцца агляду войск Бабруйскага гарнізона царом Аляксандрам І арыштаваць яго і пасадзіць у падзямелле крэпасці як заложніка. Адначасова пачаць выступленне дзекабрыстаў Паўночнага таварыства, Маскоўскай управы і Тульчына, захапіць Кіеў і весці войскі на Маскву, звергнуць самадзяржаўе, устанавіць у Расіі буржуазна-дэмакратычную рэспубліку. Бабруйскі план паўстання з-за розных абставін (рознагалоссі паміж кіраўнікамі, непадрыхтаванасць арміі і інш.) не быў прынята. Нягледзячы на паражэнне дзекабрыстаў у Пецярбургу і на Украіне, у лютым 1826 г. прапаршчык С. І. Трусаў спрабаваў узняць паўстанне раскватараванага ў Бабруйскай крэпасці Палтаўскага палка, але беспаспяхова.

Пасля задушэння паўстання дзекабрыстаў царызм ператварыў Бабруйскую крэпасць у катаржную турму, дзе знявольвалі многіх удзельнікаў дэмакратычнага і рэвалюцыйнага руху. Яе вязнямі былі дзекабрысты І. Р. Бурцаў, П. А. Бястужаў, В. С. Нораў, С. І. Трусаў, В. К. Тызенгаўзен і інш., петрашэўцы А. І. Мядзведзеў, К. І. Цімкоўскі. Пасля паражэння паўстання 1863 г. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве тут было зняволена каля 2 тыс. яго удзельнікаў.

*Літ.:* Букчин С. К мечам рванулись наши руки: Документальные повести.— Мн., 1978. *Г. І. Дулеба.*

**240г.** Месца рэвалюцыйных выступленняў салдат у 1905 і 1907 гг. У лістападзе 1905 г. у Бабруйскай крэпасці пад уплывам бальшавіцкай прапаганды і нарастаючага ў краіне рэвалюцыйнага руху адбылося паўстанне салдат дысцыплінарнага батальёна. Паўстанне ўзначальвала Бабруйская ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП. Царскія ўлады за ўдзел у рэвалюцыйным руху ўтрымлівалі ў крэпасці ў дысцыплінарным батальёне 900 салдат, у т. л. 300 матросаў Балтыйскага флоту. 22.11.1905 г. 3 роты батальёна (з 4) на чале з матросам Якушавым, абураныя бяспраўем, здзекамі, муштрай, адмовіліся ісці на страявыя заняткі, выконваць распараджэнні камандавання, захапілі вінтоўкі (але без патронаў) і патрабавалі ад каменданта крэпасці адмены суровага рэжыму, тэрміновага вызвалення. На ўсе пагрозы і загады скласці зброю паўстанцы адказвалі адмовай. 24 лістапада яны хацелі прарвацца ў горад, але не змаглі. Клязменскаму і Крамлёўскаму палкам было загадана падавіць паўстанне. Пад уплывам прапаганды, якую вялі сярод салдат бальшавікі,



**240а.** *Бабруйская крэпасць у 1811 г. З карціны мастака Залескага.*

палкі адмовіліся выканаць гэты загад. Тады ў Бабруйск была накіравана карная экспедыцыя, якая 25 лістапада задушыла паўстанне. 28 актыўных яго ўдзельнікаў былі арыштаваны, 13 з іх прыгавораны да пакарання смерцю, астатнія — да катаргі. Аднак пры дапамозе мясцовай арганізацыі РСДРП 10 смяротнікам удалося ўцячы. У лютым 1906 г. Бабруйская арганізацыя РСДРП выдала пракламацыю «Да салдат Бабруйскага гарнізона...» з пратэстам супраць зверскай расправы над паўстанцамі. 14.6.1907 адбылося новае паўстанне салдат дысцыплінарнага батальёна, якое было жорстка задушана, 5 салдат пакараны смерцю, 18 зняволены.

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; Симончик Ф. В. В огне трех революций: Воспоминания старого коммуниста.— Мн., 1964; Липинский Л. П., Лукьянов Е. П. Крестьянское и солдатское движение в Белоруссии (1900—1907 гг.).— Мн., 1968. *А. І. Марозава.*

**240д.** Месца барацьбы за ўстанаўленне ў Бабруйску і павеце Савецкай улады ў 1917. У час падрыхтоўкі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі ў выніку палітычнай агітацыі сярод салдат 8-тысячны гарнізон крэпасці перайшоў на бок бальшавікоў, што адыграла выключна важную ролю ва ўстанаўленні ў горадзе і павеце Савецкай улады. Вялікую работу па бальшавізацыі салдат вялі кадравыя рабочыя з Данбаса, Петраграда, Урала і іншых месцаў, якія працавалі ў ваенных майстэрнях крэпасці. З воінскай часцю — поездам-майстэрнямі № 8 у Бабруйск у ліпені 1917 г. прыбылі бальшавікі І. М. Кузякоў, М. Лішуноў, П. М. Серабракоў і іншыя, усяго каля 10 чалавек. Яны ўвайшлі ў мясцовую партыйную арганізацыю. І. М. Кузякоў выбраны старшынёй, М. Лішуноў і П. М. Серабракоў — членамі Бабруйскага камітэта РСДРП(б). Бальшавікі стварылі клуб «Рабочы і салдат», які стаў цэнтрам палітычнай дзейнасці ў масах, адыграў важную ролю ў іх рэвалюцыйным выхаванні, згуртаванні вакол бальшавікоў, выкрыцці антынароднай палітыкі Часовага ўрада, згодніцтва бундаўцаў, меншавікоў, эсэраў і іншых буржуазных і дробнабуржуазных партый.

У час карнілаўскага мецяжу аб'яднаны сход часцей Бабруйскага гарнізона 26.8(8.9).1917 г. патрабаваў аддаць здрадніка Карнілава і іншых удзельнікаў контррэвалюцыйнай змовы адкрытаму рэвалюцыйнаму суду, вызваліць усіх арыштаваных бальшавікоў. Рэзалюцыя заканчвалася заклікам: «Няхай жыве рэвалюцыя!». 30.8(12.9).1917 г. у Мінск паслана паведамленне аб тым, што гарнізон прыведзены ў баявую гатоўнасць, пошта, тэлеграф і чыгуначная станцыя ўзяты пад кантроль. Радыёграма з Петраграда аб пераможным узброеным паўстанні бальшавікоў была атрымана ў Бабруйску 26. 10(8.11).1917 г. ваеннай радыёстанцыяй. Бальшавіцкія часці гарнізона ўзялі пад ахову крэпасць, склады са зброяй і боезапасамі, радыёстанцыю, у горадзе — памяшканні камітэта бальшавікоў, Савета дэпутатаў, патрулявалі на вуліцах, падтрымлівалі рэвалюцыйны парадак. 31.10(13.11). 1917 г. з гарнізона крэпасці 21-я і 57-я пяхотныя, 94-я і 75-я Сібірскія, 75-я грэнадзёрская дывізіі радыётэлеграмамі паведамілі Петраградскаму Ваенна-рэвалюцыйнаму камітэту аб сваёй гатоўнасці са зброяй у руках абараняць уладу Саветаў.

Бальшавікі гарнізона крэпасці актыўна змагаліся за ўстанаўленне Савецкай улады ў Бабруйскім павеце. Яны арганізоўвалі мітынгі і сходы сялян, растлумачвалі ім першыя дэкрэты Савета Народных камісараў, ажыццяўлялі рэвалюцыйныя пераўтварэнні.

*Літ.:* Великая Октябрьская социалистическая революция в Белоруссии: Документы и материалы. Т. 1—2.— Мн., 1957; В борьбе за Октябрь в Белоруссии и на Западном фронте.— Мн., 1957. *А. І. Марозава.*

**240е.** Месца канцэнтрацыйнага лагера савецкіх ваеннапалонных у 1919—20 гг. У гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі Бабруйск з 29.8.1919 г. да 10.7.1920 г. быў акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. У крэпасці інтэрвенты зрабілі канцлагер з мэтай знішчэння тут ваеннапалонных чырвонаармейцаў. Іх трымалі ў неацепленых памяшканнях на цэментаванай падлозе. З прычыны антысанітарных умоў у лагеры ўспыхнула эпідэмія тыфу. Ад хвароб, голаду, холаду, катаванняў штодзённа гінула шмат людзей. Трупы падоўгу не вывозілі і яны разлагаліся. Вязняў расстрэльвалі і вешалі. Па закліку Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ на прадпрыемствах горада прайшлі забастоўкі супраць жудаснага становішча палонных. Аб лагеры пісаў савецкі і замежны друк. Пад націскам Савецкага ўрада, прагрэсіўнай грамадскасці свету, вясной 1920 г. у Бабруйск прыехала місія амерыканскага Чырвонага Крыжа. Перад яе прыбыццём польскія легіянеры, каб замесці сляды сваіх злачынстваў, знішчылі ўсіх хворых і слабых вязняў, трупы іх склалі ў асобныя камеры, дзверы якіх забілі. У лагеры пакінулі каля 50 самых здаровых зняволеных. Амерыканская місія засталася задаволенай. У лагеры на тэрыторыі крэпасці загінула некалькі тысяч савецкіх ваеннапалонных чырвонаармейцаў.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**240ж.** Месца канцэнтрацыйнага лагера савецкіх ваеннапалонных у 1941—44 гг. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія акупанты летам 1941 г. зрабілі на тэрыторыі крэпасці лагер смерці для знішчэння савецкіх ваеннапалонных і мірных жыхароў. У канцы 1941 г. у ім у жахлівых умовах утрымлівалася каля 60 тыс. чалавек. Больш за 20 тыс. вязняў нават у вялікія маразы знаходзіліся пад адкрытым небам, не мелі цёплага адзення і абутку. Вязняў катавалі, марылі голадам. У лагеры лютавалі эпідэміі тыфу, дызентэрыі і інш. інфекцыйных хвароб. З мэтай распаўсюджвання эпідэмій фашысты трымалі хворых людзей разам са здаровымі. Ад катаванняў, холаду, голаду, хвароб, непасільнай працы штодзённа памірала да 1000 чалавек. Гітлераўцы праводзілі масавыя расстрэлы і павешанні зняволеных, атручвалі іх ядамі, спальвалі жывымі. Асабліва жахлівае злачынства ўчынілі гітлераўскія каты 7.11.1941 г. Яны загналі вязняў у баракі, забілі вокны і дзверы і падпалілі будынкі. Тых, хто спрабаваў выскачыць з ахопленых агнём памяшканняў, расстрэльвалі з 4 загадзя ўстаноўленых кулямётаў. У выніку гэтага крывавага злачынства было спалена і забіта больш за 4 тыс. ваеннапалонных. Да жніўня 1942 г. было загублена каля 40 тыс. чалавек, да студзеня 1944 г.— усе ваеннапалонныя. Лагер пастаянна папаўняўся цывільнымі савецкімі грамадзянамі. 5 тыс. вязняў былі вызвалены Чырвонай Арміяй. Усяго ў акупіраваным Бабруйску гітлераўцы стварылі 4 лагеры смерці з 8 аддзяленнямі і філіяламі, у якіх загубілі больш за 44 тыс. чалавек.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965; Нацистская политика геноцида и «выжженной земли» в Белоруссии. 1941—1944.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**240з.** Магіла савецкіх ваеннапалонных. Пахаваны ваеннапалонныя (колькасць не ўстаноўлена), загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. у канцлагеры на тэрыторыі Бабруйскай крэпасці.

У 1972 г. на магіле ваеннапалонных пастаўлена стэла, на якой умацаваны бетонны штык (вышыня 8 м) і пяціканцовая зорка (вышыня 1,5 м). *Г. І. Дулеба.*

**241. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Крупскай. Пахаваны 11 удзельнікаў Бабруйскага камуністычнага падполля ў гады Грамадзянскай вайны і ваеннай інтэрвенцыі. Сярод пахаваных Герасім Прохаравіч Адзярыха, Баброва (Марыя Аляксандраўна Броніна), Фішэль Лэйзаравіч Каменскі, Аляксандр Ці-



241. *Мемарыяльная вежа на брацкай магіле падпольшчыкаў.*

мафеевіч Непагодзін, Пётр Паўлавіч Фёдараў (Дняпроўскі).

29.8.1919 г. Бабруйск быў акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы, якія ўстанавілі ў горадзе рэжым грабяжу і тэрору. У горадзе дзейнічала камуністычнае падполле. Барацьбу з інтэрвентамі ўзначаліў Бабруйскі падпольны камітэт Кампартыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі. У час падпольнай павятовай партыйнай канферэнцыі (25.4.1920 г.) акупанты арыштавалі старшыню камітэта Ф. Л. Каменскага, членаў камітэта Баброву, П. П. Фёдарава і пасля катаванняў 28.4.1920 г. расстралялі. У розны час акупанты загубілі інш. актыўных удзельнікаў падполля, у т. л. Г. П. Адзярыху, А. Ц. Непагодзіна.

Г. П. Адзярыха нарадзіўся ў 1897 г. у Бабруйску ў рабочай сям'і. Член Камуністычнай партыі з 1917 г. Працаваў токарам, слесарам на чыгунцы, потым на заводзе. З 1915 г. у арміі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся ў Бабруйск. Быў старшынёй камітэта прафсаюза на маслабойным заводзе, стварыў тут камуністычную ячэйку. У час ваеннай інтэрвенцыі актыўна ўдзельнічаў у падпольнай барацьбе. Арыштаваны і 8.7.1920 г. расстраляны акупантамі. Яго імем у Бабруйску названы вуліца і завод, на якім ён працаваў.

Баброва (партыйны псеўданім М. А. Бронінай) нарадзілася ў 1897 г. у в. Локшы Віцебскай губ. Фабрычная работніца. Член Камуністычнай партыі. Накіравана ЦК Кампартыі (бальшавікоў) Літвы і Беларусі ў Бабруйск для ўмацавання камуністычнага падполля. Член Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ. Стварыла Ясенскі раённы падпольны камітэт, які аб'ядноўваў 15 партыйных ячэек у вёсках Багушоўка, Баранавічы, Восаў, Вялікая Каменка, Кісялевічы, Саломенка, Старынкі, Пабокавічы і інш. Бабруйскага павета. 25.4.1920 г. у яе на кватэры па вул. Школьнай адбылася падпольная павятовая партыйная канферэнцыя. Па даносу правакатара арыштавана інтэрвентамі і пасля катаванняў расстраляна. Яе імем у Бабруйску названа вуліца.

Ф. Л. Каменскі (партыйны псеўданім Фалк). Член Камуністычнай партыі. Па прафесіі зубны тэхнік. З кастрычніка 1919 г. старшыня Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ. Арыштаваны інтэрвентамі 25.4.1920 г. у час падпольнай павятовай партыйнай канферэнцыі, дзе ён быў старшынёй прэзідыума. Пасля катаванняў расстраляны.

А. Ц. Непагодзін член Камуністычнай партыі з 1917 г. Актыўны удзельнік Бабруйскага камуністычнага падполля ў 1919—20 гг. У час акупацыі горада войскамі буржуазнай Польшчы трымаў канспіратыўную кватэру. У друкарні акупацыйных улад (цяпер вул. К. Маркса, 66), дзе ён працаваў друкаром, нелегальна выдаваў лістоўкі, пракламацыі, адозвы Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ, якія заклікалі насельніцтва весці актыўную барацьбу з акупантамі. Расстраляны польскімі інтэрвентамі 8.6.1920 г. У 1958 г. на доме, дзе была друкарня, устаноўлена мемарыяльная дошка.

П. П. Фёдараў (партыйныя псеўданімы Дняпроўскі, Пятроў, Фёдар) нарадзіўся ў 1885 г. у Пінску. Член Камуністычнай партыі з 1905 г. Па прафесіі машыніст. Увосень 1919 г. накіраваны ЦК КП(б)ЛіБ у Бабруйск для ўмацавання камуністычнага падполля і разгортвання партызанскага руху. Член Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ, узначальваў Ясенскі райком, быў упаўнаважаным па рабоце сярод сялян. Арганізоўваў партызанскія атрады. 25.4.1920 г. схоплены інтэрвентамі ў час падпольнай канферэнцыі. Пры арышце паспеў знішчыць дакументы, што выратавала арганізацыю ад разгрому. Расстраляны акупантамі.

У 1926 г. на магіле пастаўлены помнік — мемарыяльная вежа.

*Літ.:* Памятник борцам, погибшим за освобождение Белоруссии.— Мн., 1925.

*Г. І. Дулеба, А. І. Марозава.*

**242. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, у гарадскім парку. Пахаваны ўдзельнікі Бабруйскага камуністычнага падполля, якія загінулі ў 1941—44 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — В. І. Бутараў, В. С. Калеснікаў, А. І. і Я. І. Савацеевы, А. В. Кодач і інш.

Бабруйскае камуністычнае падполле дзейнічала ў ліпені 1941 г.— чэрвені 1944 г. Яно яднала камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных савецкіх патрыётаў. Усяго ў Бабруйску і Бабруйскім р-не змагалася 29 падпольных груп, больш за 500 падпольшчыкаў. Узначальвалі барацьбу Бабруйскі падпольны міжрайком КП(б)Б (11.8—4.11.1942 г., сакратар І. М. Кардовіч), Бабруйскі падпольны райком КП(б)Б (2.9.1942 г.— 30.6.1944 г., сакратар Д. М. Лемяшонак). Барацьбой моладзі кіравалі падпольныя міжрайком ЛКСМБ (24.8.1942 г.—1.6.1943 г., сакратары І. А. Матыль, П. Ф. Валожын), гарком ЛКСМБ (10.6.1943 г.—2.1.1944 г., сакратары Б. П. Баркоўскі, В. Л. Кучугура), райком ЛКСМБ (14.10.1942 г.—30.6.1944 г., сакратары М. І. Сямісалаў, М. А. Тоўсцік, А. М. Баландзіна). Выдавалася падпольная газета «Бобруйский партизан».



242. *Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў.*

У горадзе дзейнічалі групы, якія ўзначальвалі М. Р. Баглай, П. С. Вашукевіч, А. К. Калеснікаў і Я. І. Савацееў, В. С. Калеснікаў, С. З. Крамнёў, Д. М. Лемяшонак, В. І. Лівенцаў, П. Ф. Маслёнак і В. І. Бутараў, І. В. Стомаў (з красавіка 1942 г. Я. Е. Царык), П. М. Сцяржанаў, І. А. Хімічаў, А. В. Фалькові́ч, К. М. Якаўлеў і інш. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва. Яны друкавалі і распаўсюджвалі лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро, падтрымлівалі пастаянную сувязь з партызанамі, здабывалі і перадавалі ім зброю, боепрыпасы, медыкаменты, прадукты, дакументы (пашпарты, пропускі і інш.), вялі разведку, паведамлялі партызанам і камандаванню Чырвонай Арміі аб размяшчэнні войск, складоў, абарончых збудаванняў праціўніка ў горадзе і яго наваколлі, аэрадромаў, аб перамяшчэнні варожых сіл і грузаў па чыгуначных і шашэйных дарогах і інш. Падпольшчыкі папярэджвалі партызан аб карных экспедыцыях акупантаў, арганізоўвалі ўцёкі савецкіх патрыётаў і ваеннапалонных з фашысц-

кіх турмаў і лагераў, забяспечвалі іх адзеннем, неабходнымі дакументамі, ратавалі насельніцтва ад вывазу на катаргу ў Германію. Патрыёты псавалі абсталяванне на прадпрыемствах, выводзілі са строю тэхніку, падрывалі склады, пускалі пад адхон эшалоны з жывой сілай і тэхнікай. Падпольшчыкі прымалі актыўны ўдзел у разгортванні на Бабруйшчыне партызанскага руху. За гады акупацыі яны вывелі з Бабруйска і навакольных населеных пунктаў у партызанскія атрады каля 4 тыс. чалавек. У рады партызан уступіла больш за 300 удзельнікаў падполля. У снежні 1941 г.— студзені 1942 г. арганізавана выйшла ў лес падпольная група В. І. Лівенцава. На яе базе створаны партызанскі атрад 752-і, які ў лютым 1943 г. быў разгорнуты ў 1-ю Бабруйскую партызанскую брыгаду (камандзір В. І. Лівенцаў, камісар Дз. А. Ляпёшкін). У 1942 г. у партызанскія атрады ўліліся падпольныя групы С. З. Крамнёва, П. М. Сцяржанава, І. А. Хімічава, К. М. Якаўлева. Нягледзячы на масавыя арышты і тэрор фашыстаў, падполле ў Бабруйску дзейнічала да вызвалення горада Чырвонай Арміяй.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік у выглядзе калоны, завершанай выявай пяціканцовай зоркі ў абрамленні вянка. Гл. таксама артыкулы № 252 «Дом, дзе была явачная кватэра падпольшчыкаў», №№ 276—279 «Мемарыяльная дошка падпольшчыкам».

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; За Советскую Родину!: О коммунистическом подполье, действовавшем в Бобруйске и Бобруйском районе в годы Великой Отечественной войны (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1975, 19—20 апр.; Бобруйск: Историко-экономический очерк.— 2 изд.— Мн., 1970; Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3.— Мн., 1983—85. *Г. І. Дулеба.*

**243. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Мінская, на могілках. Пахаваны 325 воінаў, што загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск і 2 стэлы з імёнамі пахаваных.

**244. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Мінская, непадалёку ад вытворчага аб'яднання «Бабруйскшына». Пахаваны 117 воінаў, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — злучаныя пад вуглом стэлы з імёнамі загінуўшых; у 1975 г. запалены Вечны агонь.

**245. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Перамогі, у скверы. Пахаваны браты — падпалкоўнік А. П. Прыбыльскі і старшы лейтэнант А. П. Прыбыльскі, якія загінулі ў сакавіку — красавіку 1945 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.




243. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**246. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Пас. Бярэзіна, на могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Бабруйска ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**247. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Пас. Кісялевічы, на могілках. Пахаваны 76 воінаў і 4 партызаны, якія загіну-




244. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



248. *Будынак банка па вуліцы Камсамольскай. Галоўны фасад.*



248. *Будынак банка па вуліцы Камсамольскай. Фрагменты дэкору печаў.*

лі ў 1943—44 гг. у баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ці памерлі ад ран. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**248. БУДЫНАК БАНКА** (архіт.). На вул. Камсамольскай, 41. Пабудаваны ў 1902 г. з цэглы. Цяпер тут размешчана ўстанова.

Кампактны прамавугольны ў плане аднапавярховы будынак пад пакатым двухсхільным дахам. Галоўны фасад сіметрычна-восевы з бакавымі рызалітамі, завершанымі прамавугольнымі атыкамі. У дэкоры будынка выкарыстаны паўкалоны, франтоны, разеткі, атыкі. Планіроўка будынка анфіладная. У цэнтры вялікая аперацыйная зала са склепам пад ёй. У інтэр'еры захаваліся 2 прамавугольныя кафляныя печы, складзеныя на цокалях і завершаныя фігурнымі франтонамі. Плітка ўпрыгожана арнаментальным малюнкам з кветак і пялёсткаў светла-зялёных і светла-блакітных колераў.

Будынак банка — помнік архітэктуры неакласіцызму. *А. М. Кулагін.*



249. *Будынак банка на рагу вуліц Маскоўскай і Савецкай.*

**249. БУДЫНАК БАНКА** (архіт.). На перакрыжаванні вуліц Маскоўскай і Савецкай. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчана ўстанова.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак. Кожнае крыло ў цэнтры мае неглыбокі рызаліт, сцены расчлянёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Рызаліт з боку вуліцы Савецкай з вялікім прамавугольным акном, якое аб'ядноўвае верхні і палавіну ніжняга паверхаў; рызаліт з боку вуліцы Маскоўскай вылучаны прамавугольнымі вокнамі ў верхнім і спаранымі арачнымі ў ніжнім паверхах. Месца злучэння крылаў падкрэслена ўваходным арачным парталам і эркерам над ім, умацаваным на 2 кансолях і завершаным невялікай усечанай вежай. Планіроўка калідорная. У цэнтральнай частцы вестыбюль з двухмаршавай лесвіцай.

Будынак банка — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *Ю. А. Якімовіч.*

**250. БУДЫНАК ГАРКОМА КПБ І ГАРВЫКАНКОМА** (архіт.). На пл. Леніна. Пабудаваны ў 1978 г. з цэглы паводле праекта архітэктараў Ю. Шпіта і К. Аляксеева. З'яўляецца дамінантай забудовы пл. Леніна і разам з помнікам У. І. Леніну складае адзіную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю.

Сямiпавярховы аб'ём з прыбудаванай на ўзроўні 2-га паверха канферэнц-залай на 400 месцаў. Фасады апрацаваны дэкаратыўнай тынкоўкай з мармуровай крошкай і натуральным каменем. Выразнасць галоўнаму фасаду надаюць вертыкальныя рэбры ламанага контуру. Інтэр'ер апрацаваны натуральным каменем і каштоўнымі пародамі дрэва. Па планіровачнай структуры вырашаны як універсальны адміністрацыйны будынак калідорнага тыпу. *В. Б. Ангелаў.*

**251. ГАСЦІНІЦА «БАБРУЙСК»** (архіт.). На перакрыжаванні вуліц Пралетарскай і Савецкай. Пабудавана ў 1958 г. з цэглы (архіт. В. Зайцаў).

Будынак складаецца з 3 аб'ёмаў: галоўнага чатырохпавярховага, паўкруглага ў плане, завершанага круглым бельведэрам з купальным пакрыццём і гранёнай вежачкай, і 2 трохпавярховых, што прымыкаюць да галоўнага з боку вуліц Пралетарскай і Савецкай.

Галоўны фасад фланкіраваны 2 рызалітамі, на ўзроўні 2—4-га паверхаў аздоблены канеліраванымі пілястрамі і завершаны антаблементам з атыкам над ім. Цэнтральны ўваход і 4-ы паверх вылучаны арачнымі праёмамі. Рытм фасадаў бакавых крылаў ствараецца сеткай прамавугольных аконных праёмаў. 1-ы паверх, аздоблены рустам і аддзелены ад 2-га карнізным поясам, трактаваны як цокаль. На 1-м паверсе вестыбюль, адміністрацыйныя і бытавыя памяшканні, кафэ. У цэнтральнай частцы — парадная лесвіца, на кожным паверсе — холы. У бакавых крылах абапал калідораў размешчаны жылыя нумары на 163 месцы. У 1974 г. на вул. Савецкай да гасцініцы прыбудаваны новы шасціпавярховы корпус, вырашаны ў сучасных архітэктурных формах. У ніжнім паверсе рэстаран, у верхніх, спланаваных па калідорнай сістэме,— жылыя нумары на 196 месцаў.

Будынак адыгрывае важную фарміруючую ролю ў структуры цэнтральнай часткі горада. У ім выявіўся асноўны кірунак развіцця манументальнай грамадзянскай архітэктуры Беларусі 1950-х гадоў. *Ю. А. Якімовіч.*



250. *Будынак гаркома КПБ і гарвыканкома.*

**252. ДОМ, ДЗЕ БЫЛА ЯВАЧНАЯ КВАТЭРА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). Вул. Перамогі, 47. У гэтым доме ў 1941 г. знаходзілася явачная кватэра кіраўнікоў Бабруйскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну. Тут сустракаліся С. З. Крамнёў, Д. М. Ляняшонак, В. І. Лівенцаў, Дз. А. Ляпёшкін, П. М. Сцяржанаў, А. М. Сумбаеў, І. А. Хімічаў і інш. арганізатары і кіраўнікі, а таксама актыўныя



251. *Гасцініца «Бабруйск».*

ўдзельнікі падполля. Яны абмяркоўвалі пытанні барацьбы з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

У 1958 г. на доме, дзе была явачная кватэра, устаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**253. ДОМ КАЛЕКТЫВУ** (архіт.). Вул. Пралетарская, 17. Пабудаваны ў 1930-я гады з цэглы паводле праекта інж. М. Кацнельсона як жылы дом камунальнага тыпу.

П-падобны ў плане чатырохпавярховы будынак ступеньчатай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Складаецца з 11 тыпавых секцый. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны трохвугольным франтонам з люкарнай у тымпане. На 2-м паверсе — тэрасы з балюстрадамі. Прамавугольныя аконныя праёмы дэкарыраваны сандрыкамі, трохвугольнымі франтончыкамі. Лесвічныя клеткі вылучаны пілястрамі. Унутры кватэры аб'яднаны вакол лесвічных клетак, прадугледжаны памяшканні агульнага карыстання.

Дом калектыву — помнік архітэктуры канструктывізму. *А. М. Кулагін.*

**254. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЛАСЯ БАБРУЙСКАЯ НАДЗВЫЧАЙНАЯ КАМІСІЯ** (гіст.). Завулак Пажарны, 10.

У гэтым доме ў 1918 г. працавала Бабруйская надзвычайная камісія (ЧК). Старшыня — бальшавік П. М. Серабракоў. Камісія вяла ў горадзе і Бабруйскім павеце барацьбу з контррэвалюцыйнымі элементамі, сабатажам, спекуляцыяй. У 1958 г. у памяць аб рабоце Бабруйскай надзвычайнай камісіі на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**255. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ БАБРУЙСКІ КАМІТЭТ РСДРП(б)** (гіст.). Вул. Пушкіна, 177/56. Камітэт РСДРП(б) створаны 13(26).7.1917 г. (да гэтага ў Бабруйску з красавіка 1917 г. існаваў камітэт аб'яднанай арганізацыі РСДРП). У яго склад уваходзілі І. М. Кузякоў (старшыня), М. Я. Бральніцкі, А. А. Брэгман, М. Лішуноў, Ф. Н. Пурсэ, П. М. Серабракоў. Трымаў сувязь з ЦК РСДРП(б). З дапамогай Мінскага камітэта РСДРП(б) вёў барацьбу з бундаўцамі, меншавікамі, эсэрамі. У час карнілаўскага мяцяжу камітэт склікаў пасяджэнне Бабруйскага Савета. Сумесна з прадстаўнікамі салдацкіх камітэтаў прымусіў згодніцкі Савет прыняць рэзалюцыю аб арганізацыі салдат гарнізона і працоўных горада на разгром карнілаўшчыны. 30.8(12.9) з Бабруйска ў Мінск паслана тэлеграма аб тым, што гарнізон прыведзены ў баявую гатоўнасць, пошта, тэлеграф і чыгуначная станцыя ўзяты пад кантроль. У жніўні — верасні камітэт арганізаваў масавыя забастоўкі рабочых і салдат з патрабаваннямі павысіць заработную плату, адмяніць лакаўты, увесці рабочы кантроль над вытворчасцю і размеркаваннем, спыніць вайну. Гэтыя бальшавіцкія патрабаванні адпавядалі кроўным інтарэсам рабочых і салдат, найбольш свядомая частка якіх уступала ў партыю. Да верасня 1917 г. Бабруйская арганізацыя РСДРП(б) вырасла і налічвала 187 чалавек, стала ўплывовай. Пад кіраўніцтвам камітэта створаны і дзейнічалі партыйныя арганізацыі ў Вярхуціне (105 членаў), Глуску (30), Свіслачы (160), Стараве (55), Старых Дарогах (100 членаў).



253. *Дом калектыву.*

У кастрычніцкія дні 1917 г. Бабруйскі камітэт РСДРП(б) разам з палітычнай работай па заваяванню мас вёў непасрэдную падрыхтоўку да ўзброенага паўстання. Пры камітэце была створана чырвонагвардзейская камендатура на чале з А. А. Брэгманам, якая мела атрад з 200 чалавек. У выніку бальшавіцкай агітацыі сярод салдат Бабруйскага гарнізона ў канцы кастрычніка 5 дывізій паведамілі Петраградскаму ВРК аб гатоўнасці са зброяй у руках абараняць уладу Саветаў. 26.10(8.11).1917 г., у дзень атрымання радыёграмы з Петраграда аб перамозе ўзброенага паўстання, камітэт склікаў мітынг рабочых і салдат, якія заявілі аб гатоўнасці падтрымліваць Савецкі ўрад. Камітэт правёў вялікую работу па бальшавізацыі Бабруйскага Савета, ажыццяўленню першых дэкрэтаў Савецкай улады.

У 1958 г. на доме, у якім размяшчаўся камітэт РСДРП(б), устаноўлена мемарыяльная дошка.

Гл. таксама артыкул № 280 «Месца дзейнасці Бабруйскай арганізацыі РСДРП(б)».

*Літ.:* Скоробогатый В. В. Возникновение и основные этапы становления большевизма в Белоруссии (1903—1917 гг.). — Мн., 1973. *А. І. Марозава.*

**256. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ КЛУБ «РАБОЧЫ І САЛДАТ»** (гіст.). Вул. Пушкіна, 71/120.

У канцы ліпеня 1917 г. з Масквы ў Бабруйск прыбыла вайсковая часць, у якой была група бальшавікоў, у т. л. П. М. Серабракоў. Яна ўстанавіла сувязь з мясцовымі бальшавікамі і разам з імі стварыла клуб «Рабочы і салдат». У гэтым клубе бальшавікі праводзілі многія палітычныя мерапрыемствы: мітынгі, сходы, чыталі лекцыі і інш. Клуб адыграў важную ролю ў арганізацыі і рэвалюцыйным выхаванні мас, у згуртаванні рабочых і салдат вакол бальшавікоў.

У 1958 г. на доме, у якім у 1917 г. размяшчаўся клуб «Рабочы і салдат», устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* В памяти народной. — Мн., 1969; Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.). — Мн., 1962. *Г. І. Дулеба.*

**257. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ ПЕРШЫ БАБРУЙСКІ САВЕТ РАБОЧЫХ І САЛДАЦКІХ ДЭПУТАТАЎ** (гіст.). Вул. Перамогі, 123/30.

Вестка аб перамозе Лютаўскай буржуазна-дэмакратычнай рэвалюцыі прыйшла ў Бабруйск у пачатку сакавіка 1917 г. Рабочыя горада падтрымалі пецярбургскі і маскоўскі пралетарыят стачкамі, дэманстрацыямі і мітынгамі. Пры актыўным удзеле бальшавікоў у сакавіку 1917 г. быў створаны Бабруйскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. Савет прыняў пастанову аб васьмігадзінным рабочым дні, правёў некаторыя мерапрыемствы па паляпшэнню ўмоў працы і быту рабочых. Аднак на першым часе ў Савет увайшлі пераважна бундаўцы, эсэры і меншавікі, што абумовіла яго згодніцкі характар і палавінчатасць рашэнняў, якія прымаліся. Таму Савет паступова страчваў свой уплыў на масы. У лістападзе 1917 г. быў выбраны новы, бальшавіцкі склад Бабруйскага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў на чале з бальшавіком М. Я. Бральніцкім. Новы Савет павёў рашучую барацьбу з контррэвалюцыйнымі элементамі, са спекуляцыяй, разрухай, голадам, за ўстанаўленне ў горадзе і павеце рэвалюцыйнага парадку, прыняў меры па паляпшэнню становішча працоўных. Былі нацыяналізаваны банкі, прамысловыя прадпрыемствы, канфіскаваны памешчыцкія землі. У студзені 1918 г. Бабруйск быў захоплены легіянерамі 1-га польскага корпуса на чале з Доўбар-Мусніцкім, які ўзняў контррэвалюцыйны мяцеж. Бабруйскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў і інш. органы Савецкай улады часова спынілі сваю дзейнасць.

У 1958 г. на доме, дзе ў 1917 г. размяшчаўся першы Бабруйскі Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў, устаноўлена мемарыяльная дошка. *Г. І. Дулеба.*

**258. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЎСЯ РЭЎКОМ** (гіст., архіт.). Вул. Інтэрнацыянальная, 25. Пабудаваны ў 1912 г. з дрэва. Цяпер тут бібліятэка.

У 1918 г. ў гэтым доме знаходзіўся Бабруйскі павятовы рэвалюцыйны камітэт (рэўком) — часовы надзвычайны орган мясцовай улады. Ство-



258. *Дом, у якім размяшчаўся рэўком.*




258. *Дом, у якім размяшчаўся рэўком. План.*

раны ў канцы лістапада 1918 г. у час вызвалення Бабруйска ад войск імперыялістычнай Германіі. Старшыня рэўкома — бальшавік П. Ф. Равінскі. Партыйны камітэт і рэўком устанавілі рэвалюцыйны парадак, не далі магчымасці акупантам вывезці нарабаваную маёмасць: бабруйскія чыгуначнікі і партызаны адбілі ў немцаў 109 паравозаў і некалькі эшалонаў з харчаваннем, падрыхтаваных для адпраўкі ў Германію, вялі барацьбу са спекуляцыяй, сабатажам, аднавілі органы Савецкай улады. Для аховы грамадскага парадку сфарміравалі з добраахвотнікаў і партызан 1-ы Бабруйскі рэвалюцыйны полк. Павятовы рэўком стварыў валасныя і сельскія рэўкомы, кіраваў іх работай. Ён адыграў вялікую ролю ў аднаўленні і ўмацаванні Савецкай улады на тэрыторыі Бабруйскага павета.

У 1958 г. у памяць аб дзейнасці рэўкома на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак устаноўлены на мураваным руставаным цокалі з лучковымі праёмамі. Накрыты двухсхільным дахам. Цэнтральная частка вылучана круглай мансардай з выхадам на балкон і фланкіравана рызалітамі з квадратнымі бельведэрамі, завершанымі чарапічнымі ўвагнутымі шатрамі з фігурнымі люкарнамі. Сіметрычна-восевую кампазіцыю парушае бакавое размяшчэнне ўвахода. Прамавугольныя аконныя праёмы аформлены ліштвамі з франтонамі, сандрыкамі і аканіцамі. Бакавыя рызаліты маюць лучковыя аконныя праёмы. Фасады дэкарыраваны філёнгамі. Па перыметры будынка праходзіць філёнгавы фрыз і карніз на кранштэйнах. Планіроўка дома калідорнага тыпу з двухбаковым размяшчэннем розных па велічыні пакояў.

Будынак — помнік архітэктуры стылю «мадэрн».

*Г. І. Дулеба, А. М. Кулагін.*

**259. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 79. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут дзіцячая стаматалагічная паліклініка.

Аднапавярховы П-падобны ў плане будынак пад вальмавым дахам. Сіметрычна-восевая кампазіцыя галоўнага атынкаванага фасада падкрэслена 3 рызалітамі. Цэнтральны рызаліт, уваходны праём якога вылучаны лучковай навіссю на вітых жалезных кранштэйнах, завершаны фігурным атыкам, дэкарыраваным ляпным картушам, бакавыя — камбінаваным (трохвугольны франтон і прамавугольны атык) шчытом. Строеныя прамавугольныя вокны галоўнага фасада дэкарыраваны пластычнымі ліштвамі з ляпнымі гірляндамі і валютамі. Арачныя аконныя праёмы рызалітаў абрамлены ліштвамі з маскаронамі ў замковай частцы. Вулічны фасад пакрыты рустоўкай, акантураны філёнгавым цокалем і карнізам на дэнтыкулах. Дваровы фасад неатынкаваны, рытмічна расчлянёны лучковымі аконнымі праёмамі з броўкамі. Планіроўка калідорная, у цэнтры — вестыбюль.

Жылы дом — помнік архітэктуры стылю «мадэрн». *А. М. Кулагін.*

**260. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Мінская, на могілках. Пахаваны мірныя жыхары (колькасць не ўстаноўлена), якіх у 1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**261. МАГІЛА БАХАРАВА** Барыса Сяргеевіча (гіст.). Вул. Перамогі, у скверы імя Бахарава.

Генерал-маёр танкавых войск (1942 г.) Б. С. Бахараў нарадзіўся 10.9.1902 г. у г. Дзямянск Наўгародскай вобл. у сям'і служачага. Член КПСС з 1924 г. У Чырвонай Арміі з 1919 г. Скончыў Ваенную акадэмію імя Фрунзе ў 1932 г., служыў у Бабруйску. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г., камандаваў 50-й танкавай дывізіяй, потым 9-м танкавым корпусам, які ўдзельнічаў у вызваленні Украіны і Беларусі, у разгроме Бабруйскай групоўкі



259. *Жылы дом па вуліцы Савецкай, 79.*




259. *Жылы дом па вуліцы Савецкай, 79. План.*



259. *Жылы дом па вуліцы Савецкай, 79. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*



259. *Жылы дом па вуліцы Савецкай, 79. Фрагмент дэкору аконнага праёма.*

нямецка-фашысцкіх войск, за што атрымаў найменне «Бабруйскі». Загінуў 16.7.1944 г. пры вызваленні Пружанскага р-на Брэсцкай вобл. Яго імем названы вуліца і сквер у Бабруйску.

У 1944 г. на магіле Б. С. Бахараву пастаўлены помнік — танк Т-34, у 1980-я гады помнік рэканструяваны.
*Г. І. Дулеба.*

**262. МАГІЛА ВАРАБ'ЁВА** Канстанціна Канстанцінавіча (гіст.). Вул. Перамогі, у скверы. Палкоўнік Чырвонай Арміі К. К. Вараб'ёў загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі 10.4.1945 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**263. МАГІЛА КРАСНЮКОВА** Івана Іосіфавіча (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза І. І. Краснюкоў нарадзіўся ў 1918 г. у сяле Папова-Лежачы Глушкоўскага р-на Курскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Працаваў на заводзе ў г. Зялёнадольск Татарскай АССР. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., штурман авіяэскадрыллі 40-га гвардзейскага бамбардзіровачнага авіяцыйнага палка 36-й бамбардзіровачнай авіядывізіі. За гады вайны капітан І. І. Краснюкоў зрабіў 285 баявых вылетаў, у т. л. 57 на бамбардзіроўку ваенна-прамысловых аб'ектаў і на высадку дэсантаў у тыле ворага. Знішчыў шмат жывой сілы і тэхнікі праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.6.1945 г. Да 1959 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 20.11.1975 г.

У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Г. І. Дулеба.*

**264. МАГІЛА КУЗЬМІНОВА** Васіля Іванавіча (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза В. І. Кузьміноў нарадзіўся 21.12.1921 г. у г. Ражск Разанскай вобл. у сям'і рабочых. Член КПСС з 1944 г. У 1937—39 гг. працаваў на радзіме слесарам, шафёрам. З верасня 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, 1-м і 3-м Беларускіх, 1-м і 4-м Украінскіх франтах. Камандзір разведроты 48-й гвардзейскай стралковай Крыварожскай Чырванасцяжнай дывізіі гвардыі капітан В. І. Кузьміноў вызначыўся ў баях за Берлін у красавіку 1945 г. Рота пад яго камандаваннем пранікла ў тыл праціўніка, разведала сістэму абароны, адбіла некалькі контратак, нанесла ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Пасля вайны В. І. Кузьміноў служыў у Савецкай Арміі. З 1960 г. працаваў на Бабруйскім машынабудаўнічым заводзе імя У. І. Леніна. Памёр 14.7.1969 г.

У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Г. І. Дулеба.*

**265. МАГІЛА ЛАГАЧОВА** Герасіма Мікітавіча (гіст.). Вул. Перамогі, у скверы. Падпалкоўнік Чырвонай Арміі Г. М. Лагачоў загінуў 29.6.1944 г. пры вызваленні Бабруйска ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**266. МАГІЛА МУСАТАВА** Валянціна Мікалаевіча (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза В. М. Мусатаў нарадзіўся ў 1908 г. на станцыі Кацельнікава Валгаградскай вобл. З рабочых. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Арлоўскае бранятанкавае вучылішча ў 1932 г. З 1929 г. працаваў слесарам-фрэзероўшчыкам у Тбілісі. У Чырвонай Арміі з 1931 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік баёў пад Масквой, Курскам, на тэрыторыі Украіны, Польшчы і Германіі. Камандзір 6-га асобнага матацыклетнага палка 1-й гвардзейскай танкавай арміі гвардыі падпалкоўнік В. М. Мусатаў вызначыўся ў сакавіку 1945 г. пры вызваленні Польшчы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Полк пад яго камандаваннем знішчыў каля 400 гітлераўцаў, фарсіраваў р. Леба, авалодаў плацдармам на яе правым беразе, што садзейнічала наступленню савецкіх войск. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена В. М. Мусатаву 29.6.1945 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік; з 1960 г.— у адстаўцы. Памёр 26.8.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Г. М. Новікава.*

**267. МАГІЛА НІКІЦІНА** Фёдара Пракопавіча (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза Ф. П. Нікіцін нарадзіўся 31.3.1913 г. у в. Полькавічы Кіраўскага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Працаваў у калгасе на радзіме. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. партызан. На фронце з лютага 1944 г. Камандзір стралковага аддзялення 1264-га стралковага палка 380-й стралковай Арлоўскай дывізіі сяржант Ф. П. Нікіцін вызначыўся 30.6.1944 г. пры вызваленні в. Падгор'е Чавускага р-на. З групай байцоў пранік у тыл праціўніка, знішчыў каля 100 варожых салдат і афіцэраў. Калі аддзяленне трапіла ў акружэнне і ўсе байцы загінулі, Ф. П. Нікіцін адзін працягваў адбіваць атакі гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны працаваў старшынёй, намеснікам старшыні калгаса ў Кіраўскім р-не, у 1963—73 гг. на дрэваапрацоўчым камбінаце ў Бабруйску. Памёр 3.11.1979 г.



261. *Помнік на магіле Б. С. Бахарава. Здымак 1980 г.*

У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.
*Г. І. Дулеба.*

**268. МАГІЛА РУДНІЦКАЙ** Надзеі Кірылаўны (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Н. К. Рудніцкая нарадзілася 25.8.1918 г. у сялянскай сям'і ў в. Барбарова Глускага р-на. Член КПСС з 1951 г. З 1947 г. працавала звеннявой па вырошчванню збожжавых культур, з 1949 г.— паляводам у калгасе. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 28.3.1949 г. за высокія ўраджаі збожжавых культур. Памёрла Н. К. Рудніцкая 7.3.1966 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**269. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Ванцэці. У 1919—20 гг. Бабруйск быў акупіраваны войскамі буржуазнай Польшчы. Інтэрвенты стварылі ў Бабруйскай крэпасці канцэнтрацыйны лагер, у якім загубілі некалькі тысяч ваеннапалонных чырвонаармейцаў.

У 1927 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 240е «Месца канцэнтрацыйнага лагера савецкіх ваеннапалонных у 1919—20 гг.».
*Г. І. Дулеба.*



269. *Помнік на магіле савецкіх ваеннапалонных.*

**270. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Дзімітрова. Пахаваны ваеннапалонныя (колькасць не ўстаноўлена), якіх загубілі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1941—43 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**271. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ГРАМАДЗЯН** (гіст.). Вул. Кірава. За 3 гады акупацыі горада (28.6.1941 г.— 29.6.1944 г.) нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі ў Бабруйску і яго наваколлі каля 100 тыс. савецкіх грамадзян. Некалькі тысяч ахвяр пахавана ў гэтай магіле. У 1964 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлена стэла.

**272. МАГІЛА СКЛЯРА** Рыгора Міхайлавіча (гіст.). Вул. Мінская, на могілках.

Герой Савецкага Саюза Р. М. Скляр нарадзіўся 31.12.1906 г. у с. Шаўчэнкава Звенігародскага р-на Чаркаскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. З 1925 г. працаваў у саўгасе. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў курсы малодшых камандзіраў у 1929 г., курсы ўдасканалення каманднага саставу ў 1937 г., Ваенна-гаспадарчую акадэмію ў 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Данскім, 1-м Беларускім франтах. Удзельнік абароны Сталінграда і Курска. Камандзір 9-га асобнага пантонна-маставога батальёна 60-й арміі падпалкоўнік Р. М. Скляр вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра. З 19 да 27.9.1943 г. батальён пад яго камандаваннем пад агнём ворага пераправіў на правы бераг ракі войскі 60-й арміі. Званне Героя Савецкага Саюза Р. М. Скляру прысвоена 17.10.1943 г. Удзельнік баёў з японскімі мілітарыстамі на Далёкім Усходзе. Пасля Вялікай Айчыннай вайны да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Потым жыў у Бабруйску. Памёр 22.7.1980 г.

У 1981 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Зорепосці.— Дніпропетровськ, 1971. *Г. І. Дулеба.*

**273. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная, 18/78. Устаноўлена ў 1964 г. у гонар войск 1-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) і партызан, якія ў канцы чэрвеня 1944 г. разграмілі бабруйскую групоўку нямецка-фашысцкіх войск і 29.6.1944 г. вызвалілі г. Бабруйск.

**274. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАРЗОНУ** Уладзіміру Восіпавічу (гіст.). Вул. Пралетарская, 48, на будынку гарадской бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Устаноўлена ў 1975 г.

Беларускі савецкі вучоны ў галіне хірургіі, прафесар (1935 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1939 г.), заслужаны ўрач БССР (1948 г.) У. В. Марзон нарадзіўся 7.11.1881 г. у г. п. Заслаўе Мінскага р-на ў сям'і служачага. Член КПСС з 1938 г. Скончыў Юр'еўскі (цяпер Тартускі) універсітэт (1911 г.). У 1913—34 гг. працаваў урачом у Бабруйску, з 1934 г.— загадчык кафедры Віцебскага медыцынскага інстытута, з 1943 г.— у Міністэрстве аховы здароўя БССР (да 1946 г. наркамат), з 1948 г.— загадчык кафедры, з 1949 г.— дырэктар Беларускага інстытута ўдасканалення ўрачоў. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—54 г. Памёр 6.9.1954 г. у Мінску. Яго імя прысвоена Бабруйскай гарадской бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. *Г. І. Дулеба.*



271. *Магіла савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян.*

**275. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НЕПАГОДЗІНУ** Аляксандру Цімафеевічу (гіст.). Вул. К. Маркса, 66. Устаноўлена ў 1958 г. на доме, дзе ў 1919—20 гг. была друкарня, у якой у час польскай акупацыі нелегальна выдаваў лістоўкі, адозвы і пракламацыі член Бабруйскага камуністычнага падполля А. Ц. Непагодзін. Гл. артыкул № 241 «Брацкая магіла падпольшчыкаў».

**276. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Камсамольская, 41. Устаноўлена ў 1975 г. у памяць аб дзейнасці ў Вялікую Айчынную вайну падпольнай групы пад кіраўніцтвам камуніста А. К. Калеснікава Бабруйскага камуністычнага падполля.

З жніўня 1941 г. да жніўня 1942 г. у акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі горадзе дзейнічала падпольная група, у якую ўваходзіла больш за 10 чалавек. Члены групы здабывалі пропускі, бланкі іншых дакументаў, прадукты для партызан, ратавалі савецкіх людзей ад вывазу на катаргу ў Германію. У барацьбе з акупантамі загінулі А. К. Калеснікаў, А. І. Савацееў, П. І. Савацееў і некаторыя інш. члены групы.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**277. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Леніна, 94, на будынку фанерна-дрэваапрацоўчага камбіната. Устаноўлена ў 1975 г. у памяць аб дзейнасці тут у Вялікую Айчынную вайну падпольнай групы пад кіраўніцтвам камуністаў В. І. Бутарава і П. Ф. Маслёнка Бабруйскага камуністычнага падполля.

На фанерна-дрэваапрацоўчым камбінаце з жніўня 1941 г. да красавіка 1942 г. у акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі горадзе дзейнічала падпольная група, якая аб'ядноўвала больш за 20 чалавек. Падпольшчыкі мелі радыёпрыёмнік, запісвалі зводкі Саўінфармбюро і інш. важныя паведамленні з Масквы, размнажалі іх і распаўсюджвалі сярод насельніцтва, праводзілі дыверсіі на камбінаце, хлебазаводзе, электрастанцыі. У барацьбе з нямецкімі фашыстамі загінулі В. І. Бутараў, Г. І. Сакалова, Г. Ф. Спірыдонава і інш. падпольшчыкі.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**278. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Набярэжная, 1, на будынку суднарамонтнага завода. Устаноўлена ў 1975 г. у памяць аб дзейнасці тут у Вялікую Айчынную вайну падпольнай групы пад кіраўніцтвам І. В. Стомава Бабруйскага камуністычнага падполля.

На суднарамонтным заводзе з ліпеня 1941 г. да красавіка 1942 г. дзейнічала падпольная група, у якую ўваходзіла каля 20 чалавек. Падпольшчыкі рабілі дыверсіі на заводзе, вялі прапаганду ў варожых фарміраваннях, перадавалі партызанам звесткі пра аэрадромы і гарнізон ворага ў Бабруйску. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінулі Дз. П. Вераб'ёў, М. Д. Стомава і некаторыя інш. падпольшчыкі.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**279. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Перамогі, 103. Устаноўлена ў 1975 г. у памяць аб дзейнасці ў Вялікую Айчынную вайну падпольнай групы пад кіраўніцтвам П. М. Сцяржанава Бабруйскага камуністычнага падполля.

З жніўня 1941 г. да студзеня 1942 г. у акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі горадзе дзейнічала падпольная група, у якую ўваходзіла 16 чалавек. Члены групы ўладкаваліся на працу ў друкарню, рабілі там пропускі, бланкі пашпартоў і інш. дакументы для падпольшчыкаў, антыфашысцкія лістоўкі. Калі гітлераўцы ўзмацнілі нагляд за друкарняй, падпольшчыкі вынеслі неабходнае абсталяванне, на якім пазней друкавалася

газета «Бобруйский партизан» — орган Бабруйскага падпольнага райкома КП(б)Б.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—2.— Мн., 1983—84. *Г. І. Дулеба.*

**280. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ БАБРУЙСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ РСДРП(б)** (гіст.).

У чэрвені 1903 г. у Бабруйску з вучнёўскай моладзі быў створаны іскраўскі гуртох. Да жніўня 1903 г. ён папоўніўся рабочымі і аб'ядноўваў каля 25 чалавек. На базе гуртка ў пачатку 1904 г. узнікла Бабруйская арганізацыя РСДРП, якая з сакавіка 1904 г. уваходзіла ў Паўночна-Заходні камітэт РСДРП. Яе арганізатарамі і кіраўнікамі былі Ф. В. Сімончык, Л. С. Галынскі, Р. Л. Шклоўскі. З'яўлялася адной з буйнейшых на Беларусі, мела нелегальныя бібліятэку і друкарню. У верасні 1905 г. налічвала 80 членаў і больш за 300 спачуваючых. Узначальваў яе камітэт. У горадзе працавала 8 палітгурткоў: 3 ніжэйшага, 2 сярэдняга і 3 вышэйшага тыпаў. Існаваў таксама гурток навучэнцаў з 15 чалавек. Арганізацыя ўстанавіла і падтрымлівала сувязь з ЦК партыі праз яго прадстаўніка М. М. Літвінава, які прыязджаў у горад і знаёміў членаў арганізацыі са становішчам спраў у РСДРП. Бабруйская арганізацыя была звязана з замежным бальшавіцкім цэнтрам, Палескім і Пецярбургскім камітэтамі, Мінскай і інш. арганізацыямі РСДРП. Вяла прапаганду і агітацыю сярод рабочых, рамеснікаў, навучэнцаў. Кіравала рабочым рухам, арганізоўвала стачкі, дэманстрацыі, мітынгі і масоўкі. Асабліва актыўную дзейнасць разгарнула ў перыяд Рэвалюцыі 1905—07 гг. 16.1.1905 г. арганізавала стачку і дэманстрацыю рабочых горада ў знак пратэсту супраць расстрэлу 9.1.1905 г. пецярбургскіх рабочых, а 29.1.1905 г. правяла ўсеагульную забастоўку, у якой удзельнічала каля 1000 чалавек. У час дэманстрацыі адбыліся сутычкі ўзброеных рабочых з войскам. Бастуючыя выступалі пад лозунгамі: «Далоў самадзяржаўе!», «Няхай жыве дэмакратычная рэспубліка!». Бабруйская арганізацыя правяла ў сакавіку 1905 г. 3 узброеныя дэманстрацыі, першамайскую палітычную стачку, летнія забастоўкі салідарнасці з барацьбой пралетарыяту Масквы, Пецярбурга, Адэсы, Іванава-Вазнясенска і Лодзі. У кастрычніку і снежні 1905 г. пад кіраўніцтвам бальшавікоў адбыліся масавыя выступленні рабочых, у т. л. мітынг пратэсту з заклікам да ўзброенага паўстання ў адказ на курлоўскі расстрэл пралетарыяту Мінска. У кастрычніку 1905 г. пры Бабруйскай арганізацыі РСДРП была створана ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП, кіраўнікамі якой з'яўляліся Л. С. Галынскі, К. Ісаева, Н. Пагадзіцкая. Яна праводзіла палітычную агітацыю сярод салдат Бабруйскага гарнізона. У 1905 г. пад яе кіраўніцтвам адбылося паўстанне салдат дысцыплінарнага батальёна Бабруйскай крэпасці, у 1906 г. выступленне салдат артылерыйскага парка, якія патрабавалі дэмабілізацыі салдат прызыву 1903 г. Гэта патрабаванне было задаволена. 2.10.1906 г. ваенна-рэвалюцыйная арганізацыя РСДРП разгромлена паліцыяй. У выніку рэвалюцыйнай работы бальшавікоў у вёсках адбыліся выступленні сялян, забастоўкі парабкаў у маёнтках Бортнікі, Бяляціна, Вакулічы, Баранцоўка, Міхалёва, Хмяльное, Яннікі.

Бабруйская арганізацыя РСДРП друкавала і распаўсюджвала брашуры, лістоўкі, пракламацыі, адозвы з заклікамі да барацьбы супраць царызму, памешчыкаў і капіталістаў. Са студзеня 1904 г. да студзеня 1905 г. яна выдала і распаўсюдзіла 9 назваў лістовак тыражом больш за 10 тыс. экземпляраў. У маі 1905 г. выдала лістоўку «Да ўсіх рабочых горада Бабруйска» (1 тыс. экземпляраў), у якой растлумачвала пралетарыям, што паляпшэння свайго становішча яны могуць дабіцца толькі шляхам арганізаванай барацьбы з царызмам і капіталістамі. У ліпені 1906 г. у лістоўцы «Да ўсіх заводскіх рабочых горада Бабруйска» (2 тыс. экземпляраў) заклікала рабочых уступаць у РСДРП, актыўна змагацца з эксплуататарамі. Яна вяла друкаваную прапаганду сярод усіх катэгорый насельніцтва. У лютым 1905 г. распаўсюдзіла пракламацыю «Браты сяляне!», якая заклікала працоўных вёскі на барацьбу з памешчыкамі і самадзяржаўем. Выдала лістоўкі «Да навучэнцаў» з заклікам падтрымаць рэвалюцыйную барацьбу рабочых, «Да салдат» (1905 г.), «Таварышы салдаты» і «Да салдат Бабруйскага гарнізона» (1906 г.), у якіх выкрывала антынародную палітыку царызму і заклікала салдат у саюзе з рабочым класам змагацца з самадзяржаўем. Забяспечвала нелегальнай літаратурай Слуцкую арганізацыю РСДРП. Пасылала сваіх дэлегатаў на з'езд партарганізацый Паўночна-Заходняга камітэта, на 1-ю абласную канферэнцыю арганізацый РСДРП Паўночна-Заходняга краю (1905 г.). Яе прадстаўнікі ўдзельнічалі ў рабоце II (1905 г.) і III (1906 г.) з'ездаў арганізацый Паўночна-Заходняга саюза РСДРП.

У канцы снежня 1905 г. паліцыя раскрыла явачную кватэру Бабруйскай арганізацыі РСДРП. У час вобыску былі канфіскаваны марксісцкая літаратура, лістоўкі і пракламацыі. У лістападзе 1906 г. паліцыяй была разгромлена падпольная друкарня, канфіскаваны 2 станкі. У перыяд рэакцыі і 1-й сусветнай вайны ў выніку тэрору і арыштаў арганізацыя аслабіла сваю дзейнасць. У красавіку 1917 г. створана Бабруйская аб'яднаная арганізацыя РСДРП, у якую, апрача бальшавікоў, уваходзілі інтэрнацыяналісты. У ліпені 1917 г. бальшавікі выйшлі з «аб'яднанкі» і стварылі самастойную арганізацыю РСДРП(б), выбралі яе камітэт. У верасні 1917 г. бальшавіцкая арганізацыя аб'ядноўвала 187 членаў, увайшла ў Паўночна-Заходнюю абласную арганізацыю РСДРП(б). Гл. таксама артыкул № 255 «Дом, у якім размяшчаўся Бабруйскі камітэт РСДРП(б)».

*Літ.:* Хроника важнейших событий истории Коммунистической партии Белоруссии. Ч. 1 (1883—1918 гг.).— Мн., 1962; Скоробогатый В. В. Возникновение и основные этапы становления большевизма в Белоруссии (1903—1917 гг.).— Мн., 1973; Симончик Ф. В. В огне трех революций: Воспоминания старого коммуниста.— Мн., 1964. *Г. І. Дулеба, А. І. Марозава.*



283. *Помнік У. І. Леніну.*

**281. ПОМНІК БАРАЦЬБІТАМ ЗА ЎЛАДУ САВЕТАЎ** (гіст.). Вул. Урыцкага. У гонар барацьбітоў за перамогу Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі і за Савецкую ўладу ў 1967 г. пастаўлены абеліск.

**282. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Вул. Перамогі, на тэрыторыі швейнай фабрыкі імя Ф. Э. Дзяржынскага. Скульптура Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлена ў 1961 г.

**283. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (маст.) На плошчы Лені-



305. *Помнік У. І. Леніну па вуліцы Ф. Энгельса.*

на. Пастаўлены ў 1969 г. (скульпт. П. Белавусаў, архіт. М. Мызнікаў; бронза, чорны лабрадарыт, бетон; вышыня пастамента 8 м, фігуры 6 м).

Помнік завяршае забудову галоўнай плошчы горада, з'яўляецца яе ідэйна-мастацкім акцэнтам. На развітым бетонным стылабаце з 2 пакатымі лесвічнымі маршамі размешчана абліцаваная гранітам трыбуна і высокі вертыкальны пастамент, на якім пастаўлена бронзавая скульптура У. І. Леніна. Пры строгай, лаканічнай пластыцы форм вобраз напоўнены ўнутранай дынамікай, корпус крыху павернуты ўправа, галава прыўзнята, жэст правай рукі, у якой сціснута кепка, рашучы, крок цвёрды.

Манументальная пластыка, выразнасць сілуэта, удала знойдзены маштаб ставяць гэты помнік у шэраг лепшых твораў манументальнага мастацтва на Магілёўшчыне. *Л. Г. Лапцэвіч.*



306. *Помнік Перамогі.*

**284. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. 50 гадоў Кастрычніка, на тэрыторыі дзіцячай бальніцы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**285. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Бахарава, на тэрыторыі трыкатажнай фабрыкі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**286. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Ванцэці, непадалёку ад будынка аддзялення сувязі № 17. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1968 г.

**287. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Гогаля, каля дарожна-будаўнічага ўпраўлення № 16. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**288. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Інтэрнацыянальная. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**289. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Камсамольская, на тэрыторыі дзіцячага сада № 2. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.

**290. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Камсамольская, на тэрыторыі школы-інтэрната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**291. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Кірава, каля будынка сярэдняй школы № 11. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**292. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Клубная, каля кінатэатра. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**293. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Куйбышава, каля Дома культуры Бабруйскага вытворчага дрэваапрацоўчага аб'яднання. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**294. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Леніна, на тэрыторыі фанерна-дрэваапрацоўчага камбіната. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**295. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. К. Маркса, на тэрыторыі сярэдняй школы № 23. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**296. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. К. Маркса, на тэрыторыі мясакамбіната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1961 г.

**297. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. К. Маркса, на тэрыторыі машынабудаўнічага завода імя У. І. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1963 г.

**298. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Мінская, каля будынка сярэдняй школы № 18. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.




308. *Помнік работнікам фанерна-дрэваапрацоўчага камбіната.*

**299. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Мінская, каля будынка механіка-тэхналагічнага тэхнікума. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1950 г.

**300. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Пралетарская, на тэрыторыі бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1946 г.

**301. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Перамогі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1957 г.



309. *Помнік савецкім воінам-вызваліцелям.*



310. *Помнік савецкім танкістам.*

**302. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Урыцкага, каля будынка клуба. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**303. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Чапгарская, на тэрыторыі санаторыя імя У. І. Леніна. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**304. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Чарняхоўскага, каля будынка сярэдняй школы № 25. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**305. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Ф. Энгельса, пры ўваходзе ў парк культуры і адпачынку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1967 г.

**306. ПОМНІК ПЕРАМОГІ** (гіст.). У цэнтры пасёлка Кісялевічы. У 1975 г. у гонар 30-годдзя перамогі савецкага народа над фашысцкай Германіяй у Вялікай Айчыннай вайне пастаўлены помнік — танк і стэла.

**307. ПОМНІК РАБОТНІКАМ МАШЫНАБУДАЎНІЧАГА ЗАВОДА ІМЯ У. І. ЛЕНІНА** (гіст.). Вул. К. Маркса, на тэрыторыі завода. На ўшанаванне памяці рабочых і служачых завода, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**308. ПОМНІК РАБОТНІКАМ ФАНЕРНА-ДРЭВААПРАЦОЎЧАГА КАМБІНАТА** (гіст.). Вул. Леніна. На ўшанаванне памяці работнікаў камбіната, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**309. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Ванцэці. У гонар воінаў 1-га Беларускага фронту, якія 29.6.1944 г. вызвалілі Бабруйск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1964 г. пастаўлены абеліск і стэла.

**310. ПОМНІК САВЕЦКІМ ТАНКІСТАМ** (гіст.). Вул. Рагачоўская.

У Бабруйскай наступальнай аперацыі 24—29.6.1944 г. у ліку інш. войск 1-га Беларускага фронту ўдзельнічаў 9-ы танкавы корпус пад камандаваннем генерал-маёра танкавых войск Б. С. Бахарава. Танкісты захапілі мост цераз р. Бярэзіна каля Бабруйска і тым самым адрэзалі шлях адступлення нямецка-фашысцкіх войск у напрамку Жлобін — Рагачоў, абышлі горад з поўначы, злучыліся з 1-м гвардзейскім танкавым корпусам, завяршылі акружэнне 40-тысячнай групоўкі праціўніка на паўднёвы ўсход ад Бабруйска, ачысцілі ад акупантаў шэраг населеных пунктаў Бабруйскага р-на. 9-му танкаваму корпусу, які вызначыўся пры акружэнні і разгроме Бабруйскай групоўкі праціўніка, 5.7.1944 г. прысвоена ганаровае найменне «Бабруйскі».

У 1964 г. у гонар танкістаў пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии, 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**311. ПОМНІК У ГОНАР 108-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). Вул. Рагачоўская, каля будынка лясгаса.

У канцы чэрвеня 1944 г. войскі 1-га Беларускага фронту і партызаны разграмілі Бабруйскую групоўку войск праціўніка і 29 чэрвеня вызвалілі Бабруйск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У гэтай аперацыі актыўны ўдзел прымалі воіны 108-й стралковай дывізіі 3-й арміі. Загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага ад 5.7.1944 г. дывізіі прысвоена ганаровае найменне «Бабруйская».



311. *Помнік у гонар 108-й стралковай дывізіі.*



312. *Помнік у гонар вайсковых часцей, якія вызначыліся пры вызваленні Бабруйска.*

У 1975 г. у гонар Бабруйскай 108-й стралковай дывізіі пастаўлена стэла з выявай двух ордэнаў і пяцікантовай зоркі, побач — металічны штык на пастаменце. *Г. І. Дулеба.*

**312. ПОМНІК У ГОНАР ВАЙСКОВЫХ ЧАСЦЕЙ, ЯКІЯ ВЫЗНАЧЫЛІСЯ ПРЫ ВЫЗВАЛЕННІ БАБРУЙСКА** (гіст.). Вул. Перамогі, у цэнтры горада.

У канцы чэрвеня 1944 г. войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту разграмілі нямецка-фашысцкія войскі ў раёне Бабруйска і 29.6.1944 г. вызвалілі Бабруйск ад акупантаў. Пры вызваленні горада вызначыліся: 108-я, 250-я і 348-я стралковыя дывізіі, 9-ы танкавы корпус, 95-я, 108-я танкавыя і 8-я мотастралковая брыгады, 313-ы гвардзейскі мінамётны полк 3-й арміі; 17-я і 137-я стралковыя дывізіі; 42-і асобны лінейны танкавы і 1897-ы самаходны артылерыйскі палкі 48-й арміі; 115-я асобная стралковая брыгада, 311-ы гвардзейскі мінамётны і 922-і самаходны артылерыйскі палкі 65-й арміі; 3-і бамбардзіровачны і 8-ы знішчальны авіяцыйныя корпусы 16-й паветранай арміі; 1-я брыгада рачных караблёў і 2-і асобны гвардзейскі дывізіён бронекацераў Дняпроўскай ваеннай флатыліі; 66-ы асобны полк сувязі 1-га Беларускага фронту. Загадам Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Узброеных Сіл СССР ад 5.7.1944 г. гэтым 20 вайсковым часцям і падраздзяленням прысвоены ганаровыя найменні «Бабруйскіх».

У 1965 г. у іх гонар пастаўлена стэла, дзе выбіты назвы вайсковых падраздзяленняў, якім прысвоена ганаровае найменне «Бабруйскіх». Побач з ёю выява сцяга. *Г. І. Дулеба.*

**313. ПОМНІК У ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГОРАДА** (гіст.). Вул. Перамогі, каля санаторыя імя У. І. Леніна.



313. *Помнік у гонар вызвалення горада.*

Утрыманню Бабруйска камандаванне нямецка-фашысцкіх войск надавала важнае значэнне. Гітлераўцы стварылі ў горадзе і вакол яго глыбока эшаланіраваную сістэму абароны з міннымі палямі, драцянымі загародамі, з вялікай колькасцю дотаў, дзотаў, траншэй і інш. абарончых збудаванняў, прыстасавалі пад агнявыя кропкі гаспадарчыя пабудовы і жылыя дамы.

У чэрвені 1944 г. Бабруйскі ўмацаваны раён утрымлівалі 9-я нямецкая армія, у якую ўваходзіла 10 пяхотных дывізій, 2 дывізіі 4-й арміі, інш. вайсковыя падраздзяленні, усяго больш за 130 тыс. салдат і афіцэраў. Раніцай 24.6.1944 г. войскі правага крыла 1-га Беларускага фронту (камандуючы генерал арміі К. К. Ракасоўскі) пачалі аперацыю з мэтай акружэння і разгрому бабруйскай групоўкі войск праціўніка. У аперацыі ўдзельнічалі часці 3-й, 28, 48, 65-й агульнавайсковых і 16-й паветранай армій, конна-механізаваная група, Дняпроўская ваенная флатылія і партызаны. У ноч на 24 чэрвеня, напярэдадні наступлення савецкіх войск, была праведзена авіяцыйная падрыхтоўка. 24 чэрвеня пасля артылерыйскай падрыхтоўкі ўдарныя групоўкі Чырвонай Арміі перайшлі ў наступленне. 27.6.1944 г. было завершана акружэнне 9-й нямецкай арміі, утвораны так званы бабруйскі «кацёл», у які трапіла 6 дывізій — каля 40 тыс. варожых салдат і афіцэраў. 29.6.1944 г. горад быў поўнасцю вызвалены. Масква салютавала войскам 1-га Беларускага фронту, якія авалодалі Бабруйскам. 20 вайсковым часцям і падраздзяленням, што вызначыліся ў баях за Бабруйск, прысвоена ганаровае найменне «Бабруйскіх».

У 1954 г. у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх акупантаў пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**314. ПОМНІК ХАЛТУРЫНУ** Сцяпану Мікалаевічу (гіст., маст.). Вул. Новашашэйная, каля адміністрацыйнага корпуса мэблевай фабрыкі імя С. М. Халтурына.

Рускі рабочы-рэвалюцыянер С. М. Халтурын нарадзіўся 21.12.1856 г. у в. Верхнія Жураўлі Халтурынскага р-на Кіраўскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Арлоўскае павятовае вучылішча, у 1874—75 гг. вучыўся ў Вяцкім тэхнічным вучылішчы. З восені 1875 г. жыў у Пецярбургу, працаваў сталяром-чырванадрэўшчыкам. Устанавіў сувязь з С. М. Краўчынскім, Г. В. Пляханавым і інш. рэвалюцыянерамі-народнікамі, вёў прапаганду ў рабочых гуртках. З кастрычніка 1877 г. на нелегальным становішчы. Разам з В. П. Абнорскім стварыў у 1878 г. рэвалюцыйную арганізацыю «Паўночны саюз рускіх рабочых», быў адным з яго кіраўнікоў. Вёў палітычную прапаганду сярод пралетарыяў Пецярбурга, Ніжняга Ноўгарада, Сормава, Масквы і Адэсы, арганізоўваў стачкі і дэманстрацыі (Пецярбург). Восенню 1879 г. уступіў у «Народную волю». Член яе выканаўчага камітэта (1881 г.). З 1879 г. С. М. Халтурын становіцца на шлях тэрарыстычнай дзейнасці. З мэтай забойства Аляксандра II у 1879 г. уладкаваўся на працу ў Зімні палац сталяром. 5.2.1880 г. зрабіў там выбух, але цар астаўся жывы. С. М. Халтурын разам з рэвалюцыянерам-нарадавольцам М. А. Жалваковым 18.3.1882 г. забіў у Адэсе ваеннага пракурора генерала Стрэльнікава. Быў арыштаваны, прыгавораны да пакарання смерцю і 22.3.1882 г. павешаны.

У 1982 г. на ўшанаванне памяці С. М. Халтурына пастаўлены помнік (архіт. Ю. Міхайлаў, скульпт. С. Гарбунова; мармур, бронза, бетон). У цэнтры асіметрычнай пляцоўкі, выкладзенай мармуровымі плітамі і абнесенай бардзюрам, на прамавугольным пастаменце ўстаноўлены паплечны бюст С. М. Халтурына (вышыня бюста 80 см, пастамента 1 м 70 см). Вырашэнне помніка вызначаецца пластычнай выразнасцю. У партрэтнай выяве падкрэслены характэрныя рысы рэвалюцыянера — прастата, натхнёнасць, непахісная рашучасць. На пляцоўцы пастаўлена таксама стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Прокофьев В. А. Степан Халтурин.— М., 1958; Соболев В. А. Степан Халтурин.—Киров, 1973. *Г. І. Дулеба.*




314. *Помнік С. М. Халтурыну.*

**315. ПОМНІК ХАРУЖАЙ** Веры Захараўне (гіст., маст.). Вул. Пушкіна, каля сярэдняй школы № 27.

Герой Савецкага Саюза, дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Заходняй Беларусі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля ў Віцебску ў Вялікую Айчынную вайну В. З. Харужая нарадзілася 14.9.1903 г. у Бабруйску ў сям'і служачага. Член КПСС з 1921 г. У 1923 г. скончыла Цэнтральную савецка-партыйную школу ў Мінску. Дзіцячыя і юнацкія гады прайшлі ў г. Мазыр, куды сям'я пераехала ў 1909 г. Юная патрыётка ў 1920 г. добраахвотна ўступіла ў Камуністычны батальён і змагалася з контррэвалюцыйнымі бандамі Булак-Балаховіча. У 1920—21 гг. на камсамольскай рабоце ў Мазырскім і Бабруйскім паветах, у апараце ЦК КСМБ. Працавала ў Мінскім Доме юнацтва і Камсамольскай камуне, супрацоўнічала ў друку. З 1924 г. на падпольнай рабоце ў Заходняй Беларусі, сакратар ЦК КСМЗБ, член ЦК КПЗБ, ЦК камсамола Польшчы. Згуртоўвала прагрэсіўную моладзь вакол КСМЗБ, арганізавала выданне падпольнай газеты «Малады камуніст». У верасні 1925 г. трапіла ў рукі дэфензівы. У 1927 г. прыгаворана да 6 гадоў, а ў 1928 г.— да 8 гадоў турэмнага зняволення. На судзе выступала з палымянымі прамовамі, у якіх абараняла КПЗБ і выкрывала рэакцыйную палітыку польскага бур-



**315.** *Помнік В. З. Харужай.*

жуазнага ўрада. Яе лісты з турмы, выдадзеныя ў кнізе «Лісты на волю» (1931 г.), высока цаніла Н. К. Крупская. У выніку абмену палітвязнямі паміж Польшчай і Савецкім Саюзам В. З. Харужая ў 1932 г. прыехала ў Мінск. Займалася літаратурнай дзейнасцю. З 1935 г. на партыйнай рабоце ў г. Балхаш Казахскай ССР, з 1939 г.— у Целяханах, Пінску Брэсцкай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. партызанка атрада В. З. Каржа. Па заданню камандавання ў жніўні 1941 г. паслана ў савецкі тыл для ўстанаўлення сувязі з урадам БССР і камандаваннем Чырвонай Арміі. З вясны 1942 г. у апараце ЦК КП(б)Б, у верасні 1942 г. накіравана ў Віцебск для арганізацыі падпольнай барацьбы ў тыле ворага. Стварыла падпольную групу, члены якой пад яе кіраўніцтвам праводзілі палітычную работу сярод насельніцтва, збіралі звесткі аб ворагу для партызан і Чырвонай Арміі.

У лістападзе 1942 г. гітлераўцы арыштавалі В. З. Харужую і ў снежні 1942 г. закатавалі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.5.1960 г. Яе імем названы вуліцы і плошчы ў Бабруйску, Віцебску, Мазыры, Мінску і інш. гарадах БССР, у Алма-Аце; у Бабруйску, Брэсце, Віцебску, Мазыры, Мінску, Пінску і Пружанах пастаўлены помнікі, устаноўлены мемарыяльныя знакі.

У 1971 г. устаноўлены помнік (скульпт. Б. Івонцьеў; бетон, вышыня бюста 1 м, пастамента 3 м). Партрэтны бюст В. З. Харужай пастаўлены на простым пастаменце прамавугольнай формы. Партрэт выкананы ў рэалістычных традыцыях. Сродкамі пластыкі перададзены воля, энергія, духоўная актыўнасць гераіні.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Славная дочь белорусского народа: Письма, статьи В. Хоружей и воспоминания о ней.— 2 изд.— Мн., 1962; Новиков И. Г. Вера Хоружая.— 2 изд.— М., 1973. *І. П. Хаўратовіч.*

**316. РАДЗІМА ГАРЭЛІКА** Саламона Аронавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. А. Гарэлік нарадзіўся 25.7.1913 г. у сям'і рамесніка. Кандыдат у члены КПСС. Працаваў токарам-інструментальшчыкам у Бабруйску і Ленінградзе. Скончыў Ленінградскую авіятэхнічную школу ў 1932 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Памочнік камандзіра роты танкавага палка ваентэхнік 2-га рангу С. А. Гарэлік пад варожым агнём рамантаваў падбітыя танкі, якія зноў ішлі ў бой. Удзельнічаў у баях як камандзір танка. 22.10.1941 г. каля г. Белгарада варожым снарадам яго танк быў падбіты. З ахопленай полымем машыны С. А. Гарэлік і інш. члены экіпажа працягвалі весці агонь па гітлераўцах. Загінулі ў гэтым баі. Пахаваны ў г. Белгарадзе. Званне Героя Савецкага Саюза С. А. Гарэліку прысвоена 27.12.1941 г. Яго імем названа вуліца ў Белгарадзе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965. *Г. І. Дулеба.*

**317. РАДЗІМА ЕРМАКА** Уладзіміра Іванавіча.

Герой Савецкага Саюза У. І. Ярмак нарадзіўся 15.5.1924 г. у сям'і вайскоўца. Член ВЛКСМ. У 1929 г. пераехаў з бацькамі ў Ленінград. У Айчынную вайну з кастрычніка 1942 г. на Ленінградскім фронце. Вызначыўся ў г. п. Сінявіна Ленінградскай вобл. 19.7.1943 г. у час разведкі боем закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота, гэтым даў магчымасць роце выканаць баявую задачу. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 21.2.1944 г. Яго імем названы завулак у Ленінградзе.

**318. РАДЗІМА МЕБША** Міхаіла Паўлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. П. Мебш нарадзіўся ў 1921 г. У Вялікую Айчынную вайну матрос, разведчык 384-га асобнага батальёна марской пяхоты Адэскай ваенна-марской базы Чарнаморскага флоту. Вызначыўся ў сакавіку 1944 г. пры вызваленні г. Нікалаева. Група дэсантнікаў, у якой быў М. П. Мебш, на лодках па Паўднёвым Бугу пранікла ў тыл праціўніка, высадзілася ў порце Нікалаеў, разведала размяшчэнне абарончых умацаванняў ворага. Двое сутак дэсантнікі вялі няроўны бой у акружэнні, адбілі 18 контратак, знішчылі каля 700 гітлераўцаў, чым стварылі ўмовы для паспяховага наступлення савецкіх войск і вызвалення горада. М. П. Мебш загінуў 28.3. 1944 г. у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.4.1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**319. РАДЗІМА СІКОРСКАГА** Сяргея Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. І. Сікорскі нарадзіўся 29.8.1907 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1930 г. Скончыў Вышэйшую Камуністычную сельскагаспадарчую школу Беларусі імя Леніна ў 1937 г., Вышэйшую партыйную школу пры ЦК ВКП(б) у 1949 г. У 1921—29 гг. працаваў рабочым на чыгуначнай станцыі Бярэзіна, потым служыў у Чырвонай Арміі. З 1930 г. на партыйнай, савецкай і гаспадарчай рабоце ў Бабруйскім раёне, з 1938 г. у апараце ЦК КП(б)Б, з 1939 г. сакратар Брэсцкага абкома КП(б)Б. У Вялікую Айчынную вайну адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на акупіраванай тэрыторыі Віцебскай і Брэсцкай абласцей. З сакавіка 1943 г. упаўнаважаны ЦК КП(б)Б па Брэсцкай вобл., сакратар Брэсцкага падпольнага абкома КП(б)Б, камандзір Брэсцкага партызанскага злучэння. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 1.1.1944 г. Пасля вайны працаваў сакратаром Баранавіцкага абкома КПБ, намеснікам міністра сельскай гаспадаркі БССР, першым сакратаром Магілёўскага абкома КПБ, міністрам унутраных спраў БССР. Член ЦК КПБ у 1952—60 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1954—60 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. С. І. Сікорскі памёр 28.4.1960 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965.

**320. ЦЭНТР МАСТАЦКІХ РАМЁСТВАЎ** (гіст.). З часоў сярэднявечча Бабруйск вядомы як цэнтр мастацкіх рамёстваў — ганчарнага, металаапрацоўчага, ткацкага і інш. У 19 — пачатку 20 ст. найбольшага росквіту дасягнуў ганчарны промысел. Тут працавала больш за 60 майстроў, якія выраблялі разнастайны гаспадарчы посуд (збаны, гаршкі, гладышы, міскі, глякі, вазоны, макацёры), рэчы дэкаратыўна-прыкладнога характару (посуд у выглядзе бараноў, ільвоў, мядзведзяў, талеркі з рэльефным малюнкам, букетніцы, вазы), дзіцячыя цацкі. Выраблялася чорназадымленая кераміка, з пачатку 20 ст. — глазураваная, якую ў 1950-я гады аздаблялі падглазурнай эмалевай размалёўкай у выглядзе паяскоў з раслліннымі матывамі. У наш час керамічныя бытавыя і мастацка-дэкаратыўныя вырабы выпускае Бабруйскі цэх ганчарнага посуду аб'яднання «Бела-



**320.** *Цэнтр мастацкіх рамёстваў. Керамічны посуд.*

руская мастацкая кераміка». Атрымалі развіццё і інш. рамёствы, на іх базе ў 1960 г. створана фабрыка мастацкіх вырабаў, якая разам з галантарэйнай фабрыкай у 1981 г. увайшла ў Бабруйскае вытворчае аб'яднанне мастацкіх вырабаў. Асноўныя віды прадукцыі — верхняе жаночае адзенне і пасцельная бялізна, аздобленыя ручной і машыннай вышыўкай, карункавыя сурвэткі, панно, дарожкі, сувеніры з ільноволакна і дрэва, дываны і абрусы, аздобленыя размалёўкай ці набіўныя. Вырабы экспартуюцца ў многія краіны свету, дэманстраваліся на ўсесаюзных і замежных выстаўках. *Я. М. Сахута.*

**в. Аколіца, Гарохаўскі сельсавет**

**321. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 40 курганоў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 6—15 м (большасць вышынёй 1,1—1,6 м). Захаванасць добрая. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Амяленская Слабада, Варатынскі сельсавет**

**322. РАДЗІМА ЧАРНОВА** Кірылы Пракопавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза К. П. Чарноў нарадзіўся 26.5.1907 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1929 г. Скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР у 1933 г., Вышэйшую афіцэрскую артылерыйскую школу ў 1944 г., Вышэйшыя акадэмічныя артылерыйскія курсы ў 1946 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, 1-м і 3-м Украінскіх франтах; з 1943 г. камандзір знішчальнага процітанкавага артылерыйскага палка, з 1944 г. камандзір асобнай знішчальнай процітанкавай артылерыйскай брыгады. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Курскай дузе, каля воз. Балатон. Гвардыі падпалкоўнік К. П. Чарноў вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Украіны. Пад яго камандаваннем воіны фарсіравалі Днепро, на правым беразе авалодалі плацдармам і замацаваліся на ім, адбілі шэраг контратак праціўніка. У гэтых баях брыгада знішчыла 35 варожых танкаў і каля 2 тыс. гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза К. П. Чарнову прысвоена 24.12.1943 г. Да 1961 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр 28.10.1972 г. у г. Горкім.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965. *Г. І. Дулеба.*

**в. Аўсімавічы, Варатынскі сельсавет**

**323. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**324. РАДЗІМА ПАРАХНЕВІЧА** Уладзіміра Аляксеевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, удзельнік партызанскага руху на Магілёўшчыне ў Вялікую Айчынную вайну У. А. Парахневіч нарадзіўся 5.1.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў БДУ у 1941 г. З жніўня 1941 г. удзельнік камсамольска-маладзёжнага падполля Варатынскага сельсавета Бабруйскага р-на. З ліпеня 1942 г. партызан 537-га атрада, камандзір дыверсійнай групы, якая падарвала 21 варожы эшалон з жывой сілай і тэхнікай. З лістапада 1943 г. У. А. Парахневіч палітрук роты 539-га партызанскага атрада, потым камісар 102-га атрада 9-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. Пасля вайны на камсамольскай і педагагічнай рабоце ў Бабруйскім р-не і ў Мінску. У апошнія гады жыцця працаваў дырэктарам 21-й школы рабочай моладзі г. Мінска. Заслужаны настаўнік БССР (1965 г.). Аўтар кнігі «Вогненныя віхры» (1969 г.).

У. А. Парахневіч памёр 28.7.1980. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Люди легенд. В. 4.— М., 1971; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*



**321.** *Курганны могільнік. План.*



**329.** *Курганны могільнік, курган. План.*

**в. Бабіна 1-е, Хімоўскі сельсавет**

**325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бабіна 2-е, Хімоўскі сельсавет**

**326. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Багушоўка, Гарбацэвіцкі сельсавет**

**327. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**328. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, і 121 ваеннапалонны, якіх нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі ў 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Банёўка, Восаўскі сельсавет**

**329. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**329а.** Курганны могільнік. За 0,3 км на поўнач ад вёскі. 31 курган вышынёй 0,7 (асобныя — 1,3 м), дыяметрам 6—12 м. Захаванасць добрая, насыпы здзірванелыя, параслі лесам. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**329б.** Курган. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Казённы Лес. Вышыня 0,6 м, дыяметр 9 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**пас. Барак, Бортнікаўскі сельсавет**

**330. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баранавічы, Восаўскі сельсавет**

**331. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.




**333.** *Курганны могільнік. План.*



**337.** *Курганны могільнік. План.*

**332. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Баранавічы 3-я, Восаўскі сельсавет**

**333. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе, за могілкамі. 55 насыпаў вышынёй ад 0,8 да 1,7 м, дыяметрам 8—15 м. Захаванасць добрая. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Баршчоўка, Хімоўскі сельсавет**

**334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Баяры, Сычкаўскі сельсавет**

**335. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка амбулаторыі. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Андрэевіч Ізюмаў.

М. А. Ізюмаў нарадзіўся 24.12. 1920 г. у г. Сім Ашынскага р-на Чалябінскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Скончыў Ульянаўскае бранятанкавае вучылішча ў 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з кастрычніка 1941 г., камандзір танкавага батальёна. Удзельнічаў у баях пад Масквой, Сталінградам, за вызваленне Беларусі. Гвардыі капітан М. А. Ізюмаў вызначыўся ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Бабруйскага р-на. Батальён пад яго камандаваннем авалодаў пераправай на р. Бярэзіна каля в. Шчаткава, захапіў участак шашы Бабруйск — Мінск у раёне в. Баяры, што садзейнічала паспяховаму наступленню інш. падраздзяленняў. М. А. Ізюмаў загінуў у баі 28.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г. Яго імем названы вёска (былая в. Дурынічы) у Бабруйскім р-не, вуліца і сярэдняя школа № 1 у г. Аша Чалябінскай вобл.

У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *Г. І. Дулеба.*

**336. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 0,2—0,4 м, дыяметрам 6—8 м. Курганы здзірванелыя, добрай захаванасці. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.



**339.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**337. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Рыгораў Хутар, на ўзлессі. 19 кургаnoў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 8—15 м. Насыпы здзірванелыя, параслі лесам. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бірча, Бортнікаўскі сельсавет**

**338. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Брожа, цэнтр сельсавета**

**339. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 380 воінаў, якія загінулі ў баях ці памерлі ад ран у ваенна-палявым шпіталі ў 1944—45 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе.

**340. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 жыхароў пасёлка, якіх 6.12.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**341. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1977 г. у памяць аб дзейнасці ў пасёлку ў Вялікую Айчынную вайну групы Бабруйскага камуністычнага падполля.

Са жніўня 1941 г. да чэрвеня 1942 г. на тэрыторыі Брожскага сельсавета барацьбу з ворагам вяла падпольная група, якую ўзначальваў В. А. Шчэрбіч. Яна налічвала больш за 10 чалавек. Падпольшчыкі мелі радыёпрыёмнік, прымалі і распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, псавалі ваенную тэхніку ворага, у студзені 1942 г. вывелі са строю майстэрню, знішчалі гітлераўскіх прыслужнікаў. Калі акупанты напалі на след групы, падпольшчыкі пайшлі ў партызаны. *Г. І. Дулеба.*

**в. Брожа, Брожскі сельсавет**

**342. МАГІЛА АКУЛЕНКІ** А. Н. **і ВАСТРАКНУТАВА** С. С. (гіст.). На могілках. Савецкія лётчыкі А. Н. Акуленка і С. С. Вастракнутаў загінулі ў 1941 г. у паветраным баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**343. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Пахаваны 9 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў снежні 1942 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бярозавічы, Слабодкаўскі сельсавет**

**344. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Варановічы, Слабодкаўскі сельсавет**

**345. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Варатынь, цэнтр сельсавета**

**346. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Іван Якаўлевіч Арол.

І. Я. Арол нарадзіўся 26.1.1914 г. у в. Клешчынцы Чарнабаеўскага р-на Чаркаскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. З 1936 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з лютага 1943 г. на Цэнтральным, Беларускім і 1-м Беларускім франтах, камандзір батарэі 40-га стралковага палка 102-й стралковай дывізіі. 24.6. 1944 г. батарэя пад яго камандаваннем фарсіравала р. Друць, захапіла плацдарм на яе правым беразе, замацавалася на ім і агнём садзейнічала наступленню пяхоты палка. 27 чэрвеня батарэя вызваліла ад акупантаў в. Варатынь, фарсіравала р. Ала, на правым беразе захапіла плацдарм і замацавалася на ім. У гэтым баі І. Я. Арол быў смяротна паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 25.9.1944 г.

У 1970 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**347. МАГІЛА ПАРАХНЕВІЧА** Сяргея Фядосавіча (гіст.). На могілках.

Адзін з арганізатараў мясцовага калгаса С. Ф. Парахневіч нарадзіўся ў 1907 г. у в. Варатынь у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У 1930 г. дэмабілізаваўся з Чырвонай Арміі, прыехаў на радзіму і быў выбраны сакратаром Варатынскай камсамольскай арганізацыі. Актыўна ўдзельнічаў у будаўніцтве новага, сацыялістычнага быту і культуры, у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. Быў старшынёй рэвізійнай камісіі калгаса. 8.11.1931 г. забіты кулакамі. У 1959 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.* В памяти народной.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**348. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 227 жыхароў Варатынскага сельсавета, якія загінулі ў 1941—45 гг. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1971 г. пастаўлены помнік: скульптурныя выявы мужчыны і жанчыны ў жалобе і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Вербкі, Сычкаўскі сельсавет**

**349. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**349а.** Паселішча-1. За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Ваўчанка (правы прыток р. Бярэзіна). Памер 100×30 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,15 м залягаў на глыбіні 0,2—0,3 м ад паверхні. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу і без яе, нуклеусы.

**349б.** Паселішча-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Плошча 600 м². Выявіў і абследаваў у 1982 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, прылады працы, зробленыя з мелавога цёмна-блакітнага крэменю.

Паселішчы адносяцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *У. П. Ксяндзоў.*

**в. Вішнёўка, цэнтр сельсавета**

**350. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**351. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, непадалёку ад будынка магазіна. На ўшанаванне памяці 239 жыхароў населеных пунктаў Вішнёўскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены абеліск і 2 мемарыяльныя сцяны з імёнамі загінуўшых.

**в. Вялікія Бортнікі, цэнтр Бортнікаўскага сельсавета**

**352. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 351 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены 2 стэлы.



**351.** *Помнік землякам.*

**в. Вялічкава, Хімоўскі сельсавет**

**353. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ганчароўка, Хімоўскі сельсавет**

**354. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарбацэвічы, цэнтр сельсавета**

**355. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г., і 49 ваеннапалонных, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**356. МАГІЛА ПАТОЦКАГА** Міхаіла **і СІНКАЎЦА** Ільі (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Першыя члены Гарбацэвіцкай камсамольскай арганізацыі, члены мясцовага валаснога рэўкома М. Патоцкі і І. Сінкавец уступілі ў 1920 г. у часць асобага прызначэння, прымалі актыўны ўдзел у барацьбе за ўмацаванне Савецкай улады. Загінулі ў верасні 1921 г. у баі з бандытамі ў в. Гарбацэвічы. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

**357. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ГАЛАВАЧУ** Платону Рамanавічу (гіст.). На будынку Гарбацэвіцкай сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці беларускага савецкага пісьменніка П. Р. Галавача, які тут вучыўся. Гл. таксама артыкул № 406 «Радзіма Галавача Платона Рамanавіча».

**358. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1970 г. у памяць аб наведанні М. І. Калініным в. Гарбацэвічы.

19.6.1919 г. М. І. Калінін з групай прадстаўнікоў агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» наведаў в. Гарбацэвічы, дзе гутарыў з вяскоўцамі, знаёміўся з жыццём і бытам сялян, цікавіўся іх інтарэсамі і патрэбамі, растлумачваў палітыку РКП(б) па сялянскім пытанні. У той жа дзень М. І. Калінін выехаў у Бабруйск.

*Літ.:* М. И. Калинин в Белоруссии: Доклады, речи, беседы, документы, материалы.— Мн., 1973. *Г. І. Дулеба.*

**в. Гародчына, Гарохаўскі сельсавет**

**359. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Капцы. 5 насыпаў вышынёй 0,7—0,9 м, дыяметрам 9—12 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Победь, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарохаўка, цэнтр сельсавета**

**360. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**рабочы пасёлак Глуша, цэнтр пасялковага Савета**

**361. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На заходняй ускраіне пасёлка, каля дарогі Глуша — Слуцк. Пахаваны 43 воіны і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943—44 гг. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**362. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Кастрычніцкая, 39, на будынку выканкома пасялковага Савета. Устаноўлена ў 1976 г. у памяць аб дзейнасці ў пасёлку ў Вялікую Айчынную вайну групы Бабруйскага камуністычнага падполля.

Са студзеня 1942 г. да сакавіка 1943 г. барацьбу з акупантамі вяла падпольная група, якую ўзначальваў І. Р. Гарнастай. Яна аб'ядноўвала больш за 40 чалавек — камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных савецкіх патрыётаў. У склад яе ўваходзілі рабочыя, настаўнікі, навучэнцы, медыцынскія работнікі. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, вызвалілі з канцлагера ваеннапалонных, захапілі боепрыпасы, зброю, міны, рацыю і перадалі іх партызанам. Здабывалі і перадавалі партызанам медыкаменты, паперу, прадукты. Двойчы выводзілі са строю абсталяванне гуты. Гітлераўцы часткова раскрылі падпольную арганізацыю. Каб пазбегнуць расправы, многія падпольшчыкі ў 1942—43 гг. пайшлі ў партызаны. *Г. І. Дулеба.*

**363. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На вул. Кастрычніцкай. На ўшанаванне памяці 112 жыхароў пасёлка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і блок-стэла з імёнамі загінуўшых.

**364. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Кастрычніцкай, каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1960 г.

**в. Грабава, Слабодкаўскі сельсавет**

**365. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны савецкія грамадзяне, загубленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1941—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Даманова, Вішнёўскі сельсавет**

**366. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Данілаў Мост, Варатынскі сельсавет**

**367. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін, які загінуў у баі супраць гітлераўцаў у чэрвені 1944 г., і 7 савецкіх ваеннапалонных,



363. *Помнік землякам.*



369. *Помнік землякам.*

расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1943 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дойнічава, Восаўскі сельсавет**

**368. МАГІЛА МАРКЕЛАВА** Віктара Канстанцінавіча (гіст.). На могілках. Лётчык лейтэнант Чырвонай Арміі В. К. Маркелаў загінуў 30.6.1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Іванаўка,**
**Бортнікаўскі сельсавет**

**369. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1976 г. пастаўлены помнік — 3 штыкі-пілоны, каля асновы якіх стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Ізюмава, Сычкаўскі сельсавет**

**370. РАДЗІМА ПІНЧУКА** Мікалая Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Р. Пінчук нарадзіўся 4.2.1921 г. у сялянскай сям'і ў в. Дурынічы (у 1964 г. вёска перайменавана ў в. Ізюмава ў гонар Героя Савецкага Саюза М. А. Ізюмава). Член КПСС з 1945 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. Скончыў Бабруйскі аэраклуб у 1940 г., Армавірскую ваенную школу пілотаў у 1942 г., Ваенна-паветраную акадэмію ў 1954 г. У Вялікую Айчынную вайну са жніўня 1942 г. на Заходнім і 3-м Беларускім франтах. Камандзір знішчальнай авіяэскадрыллі гвардыі маёр М. Р. Пінчук зрабіў 307 баявых вылетаў, правёў 68 паветраных баёў, у час якіх збіў 22 самалёты праціўніка, у групавых баях — 2, адзін самалёт таранiў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 19.4.1945 г. Пасля Вялікай Айчыннай вайны да 1975 г. служыў у Савецкай Арміі, палкоўнік. Памёр 12.1.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Кавалі, цэнтр сельсавета**

**371. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**372. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**373. РАДЗІМА ЛЯЎКОВА** Максіма Архіпавіча (гіст.).

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў камуністычнага падполля і партызанскага руху на Беларусі ў Грамадзянскую вайну, дзяржаўны дзеяч БССР М. А. Ляўкоў нарадзіўся 28.4.1894 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Удзельнік 1-й сусветнай вайны. У пачатку 1918 г. быў ваенным камісарам Рудабельскай воласці. Адзін з арганізатараў атрадаў Чырвонай гвардыі і партызанскай барацьбы супраць войск Доўбар-Мусніцкага і кайзераўскай Германіі ў Бабруйскім павеце, член Рудабельскага падраённага камітэта РКП(б). З жніўня 1919 г. у Чырвонай Арміі. У перыяд нямецкай (1918 г.) і польскай (1919—20 гг.) акупацый адзін з кіраўнікоў Рудабельскай рэспублікі. Член Бабруйскага падпольнага камітэта КП(б)ЛіБ і яго ўпаўнаважаны па кіраўніцтву партызанскім рухам. Пасля выгнання інтэрвентаў з канца 1920 г. ваенны камісар Бабруйскага павета, старшыня Замошскага валвыканкома. З 1929 г. у ЦКК КП(б)Б, з 1931 г. народны камісар юстыцыі і пракурор БССР, старшыня Цэнтральнай камісіі па справах былых чырвонагвардзейцаў і чырвоных партызан. З 1933 г. сакратар ЦВК БССР. Кандыдат у члены ЦК КП(б)Б у 1927—29 гг., член ЦК КП(б)Б у 1932—37 гг. Член ЦКК і Прэзідыума ЦКК КП(б)Б у 1929—32 гг. Член ЦВК БССР у 1920—22 гг., 1929—37 гг., Прэзідыума ЦВК БССР у 1931—37 гг. Памёр М. А. Ляўкоў 16.10.1941 г.

*Літ.:* Граxоўскі С. І. Рудабельская рэспубліка.— Мн., 1968; Почанин С. З. В грозовом восемнадцатом.— Мн., 1969. *Г. І. Дулеба.*

**в. Калінаўка,**
**Гарбацэвіцкі сельсавет**

**374. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 10 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 41 савецкі ваеннапалонны, расстраляныя гітлераўцамі ў 1942 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калініна, Сычкаўскі сельсавет**

**375. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 52 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Каменка,**
**Гарохаўскі сельсавет**

**376. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Вышыня 1,4 м, дыяметр 8 м, моцна здзірванелы, парос хмызняком. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Крупічы,**
**Бортнікаўскі сельсавет**

**377. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. Колькасць пахаваных не ўстаноўлена. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**379. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. Колькасць пахаваных не ўстаноўлена. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лекерта,**
**Слабодкаўскі сельсавет**

**380. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе, абапал дарогі. 14 насыпаў вышынёй 0,8—1,1 м, дыяметрам 8—12 м. Курганы здзірванелыя,



380. *Курганны могільнік. План.*

асобныя пашкоджаны. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Леніна, Сычкаўскі сельсавет**

**381. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Паркавая, у парку. Пахаваны 66 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**382. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Школьная, каля будынка сярэдняй школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Макаравічы, Брожскі сельсавет**

**383. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча. Круглая ў плане пляцоўка дыяметрам 180 м абкружана ровам глыбінёй 0,6—0,7 м, шырынёй 3—5 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**384. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**384а.** Курганны могільнік-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, каля скрыжавання лясной прасекі і дарогі. 2 насыпы вышынёй 1,5 м, дыяметрам 12—14 м. Адкрыў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**384б.** Курганны могільнік-2. За 0,4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Старыя Кладкі, у лесе на пясчанай выдме. 31 курган вышынёй 0,3—0,8 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**384в.** Курган. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Вышыня 2,3 м, дыяметр 16 м. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Маліннікі, Цялушскі сельсавет**

**385. КУРГАН** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на краі поля. Вышыня 1,4 м, дыяметр 15 м. Захаванасць добрая. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Малыя Бортнікі, Бортнікаўскі сельсавет**

**386. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 118 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе.

**в. Мальева, Кавалёўскі сельсавет**

**387. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пасёлак Маяк, Гарбацэвіцкі сельсавет**

**388. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**388а.** Могільнік-1. За 250 м на паўночны ўсход ад вёскі, на краі поля. 8 насыпаў, з якіх 5 вышынёй 1,1—1,3 м, дыяметрам 7—8 м, 3 астатнія адпаведна 0,5 м і 6 м, 2,1 м і 12 м, 2,5 м і 14 м. На вяршынях вялікіх курганоў западзіны, каля падножжа раўкі глыбінёй каля 0,5 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**388б.** Могільнік-2. За 0,3 км на ўсход ад могільніка-1. Паралельна шашы на Слуцк, на адлегласці 0,2 км ад яе, палосай размешчаны 130 насыпаў вышынёй ад 0,4 да 1,6 м, дыяметрам 7—12 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Мікулічы, Кавалёўскі сельсавет**

**389. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**390. РАДЗІМА КАПУСЦІНА** Міхаіла Дзянісавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. Дз. Капусцін нарадзіўся 5.11.1907 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1941 г.



383. *Гарадзішча. План.*




388. *Курганныя могільнікі. План.*

З 1926 г. працаваў на лесанарыхтоўках у Сібіры. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1942 г. на Волхаўскім, 3-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах. Вызначыўся пры вызваленні Украіны і Малдавіі. 10—11.5.1944 г. у баях за Днястроўскі плацдарм у раёне г. Ціраспаль, дзе вораг сканцэнтраваў шмат пяхоты, танкаў і авіяцыі, гвардыі малодшы лейтэнант М. Дз. Капусцін замяніў камандзіра батальёна, які выбыў са строю. Пад яго камандаваннем батальён 2 дні адбіваў контратакі гітлераўцаў, знішчыў больш за 400 варожых салдат і афіцэраў, 23 танкі і самаходныя гарматы праціўніка. У сярэдзіне ліпеня 1944 г. воіны батальёна прарвалі абарону ворага ў раёне в. Міляновічы (на захад ад г. Ковель). У час гэтага бою М. Дз. Капусцін асабіста знішчыў 2 кулямётныя разлікі праціўніка. З кастрычніка 1944 г. М. Дз. Капусцін парторг 137-га гвардзейскага стралковага палка 47-й гвардзейскай стралковай дывізіі. Удзельнік вызвалення Варшавы, баёў за Берлін. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны знаходзіўся на гаспадарчай рабоце ў Іркуцкай вобл., Хабараўскім і Краснаярскім краях. Памёр 8.2.1968 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Мірадзіна, Сычкаўскі сельсавет**

**391. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 98 воінаў, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Міхалёва 1-е, Бортнікаўскі сельсавет**

**392. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У паўночнай частцы вёскі. Пахаваны 67 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**393. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. Колькасць пахаваных не ўстаноўлена. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**394. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1971 г.

**395. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 200 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна, партызана і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Міхалёва 2-е, Бортнікаўскі сельсавет**

**396. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Паха-



395. *Помнік землякам.*

ваны воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**397. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Ала. Пляцоўка памерам 80×55 м з боку поля ўмацавана валам вышынёй 0,6 м і ровам глыбінёй каля 3 м, шырынёй каля 9 м, мае моцны нахіл на поўдзень. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Знойдзены фрагменты ляпной і ганчарнай керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і сярэднявечча, датуецца 1-м тысячагоддзем да н. э. — пачаткам 2-га тысячагоддзя н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *П. Ф. Лысенка.*

**в. Навасёлкі, Восаўскі сельсавет**

**398. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




397. *Гарадзішча. План.*

**399. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новая Шараёўшчына, Хімоўскі сельсавет**

**400. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Обча, Гарбацэвіцкі сельсавет**

**401. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Курганы. За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Акопы, у лесе. 73 курганы вышынёй 0,6—1,6 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Осава (Восава), цэнтр сельсавета**

**402. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 27 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**403. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**404. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1976 г. У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Гарбацэвіцкага і Восаўскага сельсаветаў са жніўня 1941 г. да чэрвеня 1944 г. дзейнічала падпольная група Бабруйскага камуністычнага падполля. Яе стваральнікам быў камуніст Д. М. Лемяшонак. У складзе групы налічвалася больш за 30 чалавек — камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных савецкіх патрыётаў. У яе ўваходзілі калгаснікі, навучэнцы, служачыя. Падпольшчыкі вялі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, падбіралі і накіроўвалі людзей у партызанскія атрады, збіралі прадукты для партызан. Акупанты загубілі А. А. Агеева, Д. Р. Гарадзецкую, В. Дзяцел, К. М. Лемяшонак і некаторых інш. членаў групы.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 1—3. — Мн., 1983—85. *Г. І. Дулеба.*

**в. Пабокавічы, Гарбацэвіцкі сельсавет**

**405. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**406. РАДЗІМА ГАЛАВАЧА** Платона Рамanaвіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік П. Р. Галавач нарадзіўся 18.4.1903 г. у сялянскай сям'і. У 1920 г. узначальваў камсамольскую ячэйку ў роднай вёсцы. Член КПСС з 1924 г. Скончыў Камуністычны універсітэт Беларусі імя У. І. Леніна ў 1926 г., працаваў загадчыкам арганізацыйнага аддзела, першым сакратаром ЦК ЛКСМБ і рэдактарам газеты «Чырвоная змена». У 1929—30 гг. намеснік наркома асветы БССР. З'яўляўся адным з кіраўнікоў літаратурнай арганізацыі «Маладняк», членам праўлення Саюза пісьменнікаў БССР, рэдактарам часопісаў «Маладняк» і «Полымя». Член ЦК КП(б)Б у 1927—30 гг., ЦВК БССР у 1927—35 гг.

Друкаваўся з 1921 г. Першая кніга пісьменніка — зборнік апавяданняў «Дробязі жыцця» — выйшла ў 1927 г. У 1930 г. выдадзены зборнік апавяданняў «Хочацца жыць», аповесць «Вінаваты». У аповесці «Спалох на загонах» (1930 г.), напісанай у разгар калектывізацыі, грунтоўна адлюстраваны падзеі, што адбываліся ў тагачаснай вёсцы. Аповесць некалькі разоў перавыдавалася, выйшла на рускай і польскай мовах. Раман «Праз гады» (1934 г.) — шматпланавы твор пра шлях народа да шчаслівай долі, перакладзены на рускую, украінскую і польскую мовы. Надрукаваны зборнік «Апавяданні» (1934 г.), аповесці «Носьбіты нянавісці» (1936 г.), «Яны не пройдуць!» (1937 г.). У 1958 г. выдадзены Збор твораў (т. 1—3).

П. Р. Галавач памёр 29.10.1937 г. У в. Гарбацэвічы на будынку школы, дзе вучыўся П. Р. Галавач, устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Булацкі Р. В., Карніловіч Э. А. Платон Галавач — публіцыст. — Мн., 1973; Хведаровіч М. Памятныя сустрэчы. — 3 выд. — Мн., 1977, с. 173—184. *І. Ф. Кудраўцаў.*




401. *Курганны могільнік. План.*

**в. Панюшкавічы, Сычкаўскі сельсавет**

**407. РАДЗІМА ДУНІНА-МАРЦІНКЕВІЧА** Вінцэнта (гіст.).

Беларускі паэт, драматург, тэатральны дзеяч В. Дунін-Марцінкевіч (Вікенцій Іванавіч; псеўданім Навум Прыгаворка) нарадзіўся 23.1.1808 г. (паводле іншых звестак у 1807 г.) у былым фальварку Панюшкавічы (цяпер в. Панюшкавічы) у сям'і арандатара. Скончыў у 1824 г. Бабруйскую гімназію, вучыўся ў Пецярбургскім (паводле некаторых крыніц, у Віленскім) універсітэце на медыцынскім факультэце. У 1827—40 гг. у Мінскай епархіяльнай кансісторыі перакладаў дакументы з польскай мовы на рускую, працаваў у канцылярыі крымінальнай палаты. У 1840 г. пакінуў службу, набыў невялікі фальварак Люцынка каля Івянца, дзе і пасяліўся. Па абвінавачанні ў напісанні рэвалюцыйных пракламацый і ўдзеле ў паўстанні 1863 г. з кастрычніка 1864 г. да снежня 1865 г. быў зняволены ў мінскую турму.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1840-я гады. Талент В. І. Дуніна-Марцінкевіча быў living разнабаковы: пісаў (на беларускай і польскай мовах) драмы, вершаваныя аповесці, апавяданні, вершы. Пачаў з лібрэта аперэт «Рэкруцкі набор» і «Спаборніцтва музыкаў» (не захаваліся). Стварыў (1840 г.) тэатральны калектыў. На аматарскай сцэне ў Мінску былі пастаўлены на яго лібрэта ў 1841 г. «Рэкруцкі набор», у 1852, 1853 гг. і 1855 г. камічная опера «Ідылія», апошняя ў 1852 г. таксама і ў Глуску (музыка С. Манюшкі і К. Кржыжаноўскага). Аўтар асуджаў прыгоннае права, паноў, глыбока спачуваў сялянам, аднак лічыў, што праблему трэба вырашаць шляхам класавага міру, праз маральнае самаўдасканаленне перш за ўсё паноў. Многія арыі аперэт і опер напісаны паэтам у фальклорным стылі. На фальклорным і этнаграфічным матэрыялах заснаваны і вершаваныя аповесці «Вечарніцы», «Гапон» (1855 г.), «Шчароўскія дажынкі» (1857 г.) і інш. У іх аўтар паказаў быт і этнаграфічныя асаблівасці вясковага жыцця, працавітасць, сумленнасць сялян і заганы войтаў, аканомаў і інш. прыслужнікаў паноў. Выдатныя творы пісьменніка — п'есы-камедыі паслярэформеннага перыяду «Пінская шляхта» (1866 г.) і «Залёты» (1870 г.), напісаныя ў вострай сатырычнай форме. У іх праявілася непрымірымасць аўтара да сацыяльнай несправядлівасці, чыноўніцка-дзяржаўнага бюракратызму, дзікага свавольства прадстаўнікоў царскай улады. Памёр В. І. Дунін-Марцінкевіч 17.12.1884 г. у Люцынцы, там і пахаваны. Яго імя прысвоена Магілёўскаму абласному тэатру драмы і камедыі ў Бабруйску. У в. Сычкава ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

За пасляваенныя гады ў БССР выдадзены кнігі В. І. Дуніна-Марцінкевіча «Выбраныя творы» (1957 г.), Збор твораў (1958 г.).

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Майхровіч С., В. І. Дунін-Марцінкевіч.— Мн., 1955; Навуменка І. Я. Пісьменнікі-дэмакраты.— Мн., 1967; Кісялёў Г. Сейбіты вечнага.— Мн., 1963; Семяновіч А. А. Беларуская драматургія (дакастрычніцкі перыяд).— Мн., 1961; Мальдзіс А. Творчае пабрацімства.— Мн., 1966; Gołąbek J. Wincenty Dunin-Marcinkiewicz — poeta polsko-białoruski.— Wilno, 1932. *А. А. Бараноўскі.*

**в. Перасова, Вішнёўскі сельсавет**

**408. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. На паўднёвай ускраіне вёскі, за 50 м на поўдзень ад жывёлагадоўчай фермы, на левым беразе старыцы р. Бярэзіна (мясцовая назва воз. Падкова). Пляцоўка памерам 80×30 м умацавана валам вышынёй 1,5—2 м, шырынёй 12—16 м. Па верху вала прасочана гарызантальная пляцоўка шырынёй 3 м. У паўночна-ўсходняй частцы вала назіраецца паніжэнне шырынёй 3 м і глыбінёй 0,5—0,6 м. Гарадзішча здзірванелае, зарасло рэдкім хмызняком. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*




**408.** *Гарадзішча. План.*

**в. Плёсы, Цялушскі сельсавет**

**409. МАГІЛА ХАРАНЕКІ** Рыгора Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан 540-га асобнага атрада Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы Магілёўскай вобл. Р. П. Харанека загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пострaш, Кавалёўскі сельсавет**

**410. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**411. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**411а.** Могільнік-1. За 0,8 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Жукавец, на полі. 7 насыпаў вышынёй 0,3—0,7 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1971 г., абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**411б.** Могільнік-2. За 0,2 км на паўднёвы ўсход ад могільніка-1. 5 курганоў вышынёй 1,7—2 м, дыяметрам 11—12 м. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Прагрэс, Кавалёўскі сельсавет**

**412. БРАЦКАЯ МАГІЛА ГУБСКАГА В. І. і БУГІНА Ф. Р.** (гіст.). На могілках. Лётчыкі Чырвонай Арміі лейтэнант В. І. Губскі і малодшы сяржант Ф. Р. Бугін загінулі ў ліпені 1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пятровічы, Гарохаўскі сельсавет**

**413. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**413а.** Гарадзішча-1. За 2 км на ўсход ад вёскі, на карэнным правым беразе р. Брожка, ва ўрочышчы Падкаленца. З паўночнага і ўсходняга бакоў гарадзішча забалочаная нізіна,




**411.** *Курганныя могільнікі. План.*

з заходняга і паўднёвага — роў глыбінёй 0,4 м. Плошча 0,7 га. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Культурны пласт 0,5 м насычаны перапаленым вуголлем, у ім знойдзены рэшткі ляпнога гладкасценнага посуду. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**413б.** Гарадзішча-2. За 1 км на ўсход ад вёскі, у лесе. З паўднёва-заходняга боку захаваліся рэшткі вала вышынёй 0,5—0,7 м і рова глыбінёй 0,6 м. Плошча 0,8 га. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1964 г. Л. Д. Побаль, у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**414. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 108 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены абеліск.



**413а.** *Гарадзішча-1. План.*



**413б.** *Гарадзішча-2. План.*



**415.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Рагалі, Гарбацэвіцкі сельсавет**

**415. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Максімаў Хутар, у лесе. 6 курганоў вышынёй 1,1—1,3 м, дыяметрам 12—15 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рагаселле, Гарохаўскі сельсавет**

**416. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія курганы. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 11 насыпаў вышынёй 0,6—1,5 м, дыяметрам 8—12 м. Каля падножжа асобных насыпаў прасочаны раўкі. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Раксалянка, Сычкаўскі сельсавет**

**417. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 97 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сімгаравічы, Цялушскі сельсавет**

**418. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНКІ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны і партызанка, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**419. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія магілы. За 0,4 км на поўдзень ад вёскі, абапал дарогі ў в. Тажылавічы. 42 насыпы вышынёй 0,3—1 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Слабада, Хімоўскі сельсавет**

**420. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — стэла, абапал якой паплечныя бюсты салдата і жанчыны.

**в. Слабодка, цэнтр сельсавета**

**421. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 81 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воінаў з аўтаматамі і сцягам, абапал — стэлы з імёнамі загінуўшых.

**422. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, каля дома-інтэрната. У лістападзе 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты прывезлі з Бабруйска ў ваколіцу вёскі Слабодка больш за 10 тыс. савецкіх ваеннапалонных і мірных грамадзян, сярод якіх былі старыя, жанчыны і дзеці, і расстралялі. Каб замесці сляды злачынства, фашысцкія каты перад адступленнем сваіх войск у 1944 г. адкапалі і спалілі трупы загубленых людзей.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск. *Г. І. Дулеба.*

**в. Старая Шараёўшчына, Хімоўскі сельсавет**

**423. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Французскія курганы. За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, у хмызняку за калгасным садам. 19 насыпаў вышынёй 0,6—2,1 м, дыяметрам 8—13 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, раскапана 9 насыпаў. Па-



**416.** *Курганны могільнік. План.*



**419.** *Курганны могільнік. План.*



421. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

хавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, галавой на захад. У адным кургане прасочаны рэшткі пахавальных збудаванняў. Знойдзены гаршкі, пацеркі, скроневыя кольцы, завушніцы, маніста, пярсцёнкі. Помнік абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березина.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

*П. Ф. Лысенка.*

**424. РАДЗІМА ШМЫГУНА** Аркадзя Карпавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. К. Шмыгун нарадзіўся 23.10.1908 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1931 г. Скончыў курсы «Выстрал» у 1937 г. У Чырвонай Арміі з 1930 г. З 1939 г. на выкладчыцкай рабоце. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1944 г. на 1-м Беларускім фронце. Камандзір 277-га стралковага палка 175-й стралковай дывізіі маёр А. К. Шмыгун вызначыўся ў баях пры вызваленні Варшавы і прарыве моцнай, глыбока эшаланіраванай абароны праціўніка на подступах да Берліна. А. К. Шмыгун загінуў у баі 16.4.1945 г. Пахаваны ў г. Дэмбна ў ПНР. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Імя А. К. Шмыгуна прысвоена Хімоўскай сярэдняй школе, дзе ён вучыўся.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965.

*Г. І. Дулеба.*

**в. Старынкі, Восаўскі сельсавет**

**425. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,8 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі Гарбацэвічы — Баяры, справа ад яе, у кустах і ў лесе. 30 курганоў вышынёй 0,6—1,8 м, дыяметрам 8—13 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**426. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стасеўка, Вішнёўскі сельсавет**

**427. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 66 воінаў і 2 партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**428. ПОМНІК ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. В. Фрунзе. Бюст М. В. Фрунзе ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Сулева, Гарохаўскі сельсавет**

**429. КУРГАН** (археал.). За 0,4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Доўгая Паласа. Вышыня 1 м, дыяметр 12 м. Курган здзірванелы, мае добрую захаванасць. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Сычкава, цэнтр сельсавета**

**430. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 183 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 399-й стралковай дывізіі, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Бабруйскага р-на, Герой Савецкага Саюза Міхаіл Рыгоравіч Селязнёў.



423. *Курганны могільнік. План.*



425. *Курганны могільнік. План.*



430. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

М. Р. Селязнёў нарадзіўся 5.11.1915 г. у в. Малая Ківара Воткінскага р-на Удмурцкай АССР у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Працаваў на заводзе ў Новасібірску. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Курскай дузе. Камандзір аддзялення 1348-га стралковага палка 399-й стралковай дывізіі сяржант М. Р. Селязнёў вызначыўся 30.6.1944 г. пры вызваленні в. Сычкава. У рашаючы момант бою М. Р. Селязнёў закрыў амбразуру варожага дзота сваім целам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем героя названы вуліца, парк і сярэдняя школа ў в. Сычкава, вуліца, сярэдняя школа і дзіцячы сад у Новасібірску, на месцы подзвігу пастаўлены помнік.

У 1970 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск і 8 стэл-пліт з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Г. І. Дулеба.*

**431. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДУНІНУ-МАРЦІНКЕВІЧУ** Вікенцію Іванавічу (гіст.). Вул. Селязнёва, 16. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці беларускага пісьменніка і тэатральнага дзеяча В. І. Дуніна-Марцінкевіча. Гл. таксама артыкул № 407 «Радзіма Дуніна-Марцінкевіча Вінцэнта».

**432. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАМУНАРАМ** (гіст.). Вул. Селязнёва, 16. Устаноўлена ў 1970 г.

25.2.1919 г. у в. Панюшкавічы Сычкаўскага сельсавета ў былым памешчыцкім маёнтку была створана сельскагаспадарчая камуна — адна з першых сацыялістычных калектыўных гаспадарак у Бабруйскім павеце. На дзень стварэння яднала 11 сем'яў беднякоў. Першымі камунарамі былі І. С. Гудзей, П. Б. Гудзей, Ф. В. Пінчук і інш., старшыня М. М. Шчавель. Камунары абагулілі жывёлу, інвентар, сумесна вялі сяўбу. Усе гаспадарчыя пытанні вырашалі на сходах. У жніўні 1919 г. Бабруйскі павет быў акупіраваны войскамі буржуазнай

Польшчы. Панюшкавіцкая сельскагаспадарчая камуна перастала існаваць. Цяпер в. Панюшкавічы ўваходзіць у склад саўгаса імя Леніна.

*Літ.:* Па Ільічу раўняючы крок.— Мн., 1970. *Г. І. Дулеба.*

**433. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР ВОІНАЎ 1-ГА БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). Непадалёку ад будынка выканкома сельсавета. Комплекс узведзены ў 1986 г. (курган насыпаны ў 1968 г.) у гонар воінаў 1-га Беларускага фронту і партызан, якія ў канцы чэрвеня 1944 г. разграмілі бабруйскую групоўку нямецка-фашысцкіх войск, вызвалілі Бабруйскі раён ад акупантаў.

Мемарыяльны комплекс адкрыты 9.5.1986 г. (скульпт. П. Цомпель, М. Бакуменка; архіт. Ю. Казакоў, В. Неміленцаў; бетон з мармуровай крошкай, бронза, алюміній; агульная вышыня 22 м: вышыня скульптур 4 м, пастамента 18 м). Складаецца са скульптурнай кампазіцыі, насыпнога кургана (12 м) і 6 чатырохгранных стэл з партрэтнымі выявамі Герояў Савецкага Саюза І. Я. Арла, М. А. Ізюмава, М. А. Калодкі, І. Ф. Маслоўскага, М. Р. Селязнёва, А. І. Чарныша, якія вызначыліся ў канцы чэрвеня 1944 г. у час разгрому бабруйскай групоўкі варожых войск. Да вяршыні кургана вядзе бетонная лесвіца. Дамінантай комплексу з'яўляюцца ўстаноўленыя на высокім пастаменце скульптуры воіна з мячом і партызана са сцягам у руках, якіх ўвасабляюць адзінства, непераможнасць савецкага народа. Постаці пададзены ў імклівым руху, разгорнуты сцяг узмацняе дынаміку кампазіцыі. Скульптуры трактаваны абагульнена, буйной і энергічнай лепкай. Комплекс напоўнены глыбокім патрыятычным зместам, дамінуе ў навакольнай прасторы. *Г. І. Дулеба.*

**434. МЕСЦА ПОДЗВІГУ СЕЛЯЗНЁВА** Міхаіла Рыгоравіча (гіст.). У скверы, каля школы. Тут 30.6.1944 г. здзейсніў подзвіг камандзір стралковага аддзялення сяржант М. Р. Селязнёў. У баі пры вызваленні в. Сычкава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ён закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. У 1968 г. на месцы подзвігу М. Р. Селязнёва пастаўлены помнік у выглядзе дзота. Гл. таксама артыкул № 430 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Сяліба, Вішнёўскі сельсавет**

**435. СТАЯНКА** (археал.). У цэнтры вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бярэзіна. Плошча каля 50 м². Выявіў і абследаваў у 1974 г. У. П. Ксяндзоў. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**пас. Туголіца, Слабодкаўскі сельсавет**



434. *Помнік на месцы подзвігу М. Р. Селязнёва.*

**436. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. 60 гадоў Кастрычніка, на тэрыторыі сярэдняй школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Туркі, Варатынскі сельсавет**

**437. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Туркоўская Слабада, Варатынскі сельсавет**

**438. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з драўляных брусоў. Пазней да галоўнага фасада прыбудавана двух'ярусная званіца (васьмярык на чацверыку) з шатровым завяршэннем і цыбулепадобнай галоўкай. Аспоўны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты вальмавым дахам. Бакавыя фасады раўнамерна прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі ў ліштвах. Ва ўнутранай прасторы вылучаны вузкі бабінец з бакавым уваходным праёмам.




438. *Царква. План.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. М. Кулагін.*

**в. Узнога, Бортнікаўскі сельсавет**

**439. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і



433. *Мемарыяльны комплекс у гонар воінаў 1-га Беларускага фронту і партызан.*

1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хімы, цэнтр сельсавета**

**440. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 31 воін, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**441. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях з нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1944 г. Колькасць пахаваных не ўстаноўлена. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цялуша, цэнтр сельсавета**

**442. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка сярэдняй школы. Пахаваны 9 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**443. МАГІЛА ВАРАНЦОВАЙ-ВЕЛЬЯМІНАВАЙ** Наталлі Аляксандраўны (гіст.). Каля будынка школы.

Унучка А. С. Пушкіна, дачка старэйшага сына паэта А. А. Пушкіна Н. А. Варанцова-Вельямінава нарадзілася ў 1859 г. у Пецярбургу. Дзяцінства і юнацтва прайшлі ў падмаскоўным гарадку Лопасні (цяпер г. Чэхаў), дзе быў раскватараваны полк, якім камандаваў яе бацька. Атрымала дамашнюю адукацыю, вучылася ў Віленскай гімназіі. Значны ўплыў на дзяўчынку зрабіла яе цётка — дачка А. С. Пушкіна Марыя Аляксандраўна, па мужу Гартунг, якая пасля смерці маці Наталлі дапамагала брату выхоўваць дзяцей. Дзяўчынцы давялося ўбачыць многія гарады Расіі, паколькі бацька па службе часта мяняў месцы жыхарства. У 1881 г. Наталля Аляксандраўна выйшла замуж за П. А. Варанцова-Вельямінава, афіцэра палка, якім камандаваў яе бацька. Неўзабаве пасля жаніцьбы П. А. Варанцоў-Вельямінаў выйшаў у адстаўку і разам з сям'ёй пераехаў у маёнтак сваёй маці Вавулічы на Бабруйшчыне (цяпер в. Дубаўка Цялушскага сельсавета Бабруйскага р-на). Там Н. А. Варанцова-Вельямінава правяла большую частку свайго жыцця. Наталля Аляксандраўна вызначалася шырокім кругаглядам, дасканала валодала французскай і нямецкай мовамі, ведала музыку, заходнееўрапейскую і рускую літаратуру, падтрымлівала сяброўскія адносіны з І. С. Тургеневым, Ф. М. Дастаеўскім, пазней з А. В. Луначарскім. Яна добра малявала (пераважна пейзажы, былі і партрэты), пісала вершы, але не друкавала іх. Сучаснікі лічылі яе майстрам гумарыстычных экспромтаў. Н. А. Варанцова-Вельямінава пакінула па сабе на Бабруйшчыне добрую памяць. Сяляне бліжэйшых вёсак гаварылі пра яе як пра добрага, чулага чалавека. Яна памагала беднякам хлебам, лесам, лекамі, уладкоўвала хворых на прыём да гарадскога ўрача. Пісьменным сялянам давала чытаць кнігі, знаёміла з творчасцю свайго дзеда. Шмат увагі аддавала навучанню сялянскіх дзяцей. Садзейнічала будаўніцтву народных школ у в. Цялуша і навакольных вёсках, арганізавала прытулак для сірот і састарэлых, была членам мясцовага дабрачыннага таварыства.

У Н. А. і П. А. Варанцовых-Вельямінавых было 5 дзяцей. Іх лёс і лёс многіх іх дзяцей звязаны з Бабруйшчынай.

Н. А. Варанцова-Вельямінава памерла 3.12.1912 г. Было ўстаноўлена надмагілле, у 1980 г. пастаўлены гранітны абеліск.

*Літ.:* Русаков В. М. Потомки А. С. Пушкина.— [2 изд.].— Л., 1978; Лиокумович Т. Потомки Пушкина в Белоруссии.— Неман, 1979, № 6. *Г. І. Дулеба.*

**444. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1972 г. у памяць аб дзейнасці ў вёсцы ў Вялікую Айчынную вайну групы Бабруйскага камуністычнага падполля. У групу ўваходзіла больш за 30 чалавек — камуністаў, камсамольцаў, беспартыйных савецкіх патрыётаў. Кіраўнік А. В. Руднеў. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, падбіралі людзей для партызанскіх атрадаў, перапраўлялі партызанам прадукты, адзенне, узрыўчатку, праводзілі дыверсіі. У кастрычніку 1943 г. пашкодзілі кабель сувязі ўздоўж шашы Бабруйск — Жлобін. Многія падпольшчыкі ў 1942—43 гг. пайшлі ў партызанскія атрады.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**445. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Руставаны цокаль з ружовага пясчаніку.

Аднаапсідны храм з паўкруглай апсідай, бабінцам і званіцай над уваходам. У аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі дамінуе трох'ярусная званіца з шатром. Асноўная квадратная ў плане зала накрыта пакатым чатырохсхільным дахам з 5 цыбулепадобнымі галоўкамі. Сцены сіметрычна крапаваны трайнымі закамарамі. У экстэр'еры шмат мураванага дэкору — аркатура, прафіляваныя карнізы і паясы, паўкалоны, нішы. Нізкая паўкруглая апсіда з пірамідальным дахам і бабінец дэкарыраваны аркатурным фрызам. Прамавугольныя аконныя праёмы абрамлены масіўнымі пластычнымі ліштвамі з «бочкамі» і кілепадобнымі броўкамі. Унутры цэнтральная зала перакрыта корабавым скляпеннем. У першым ярусе званіцы з васьмігранным самкнутым скляпеннем вылучаны бакавыя дапаможныя памяшканні, у адным з якіх лесвіца на званіцу.



445. *Царква.*




445. *Царква. План.*

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. М. Кулагін.*

**в. Чарніца, Сычкаўскі сельсавет**

**446. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 37 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Іванавіч Чарныш.

А. І. Чарныш нарадзіўся 15.5. 1917 г. у в. Кромавічы Докшыцкага р-на Віцебскай вобл. у сялянскай сям'і. Скончыў Мар'інагорскі сельскагаспадарчы тэхнікум у 1935 г. З 1938 г. у Чырвонай Арміі, удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. і савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Ленінградскім, Закаўказскім, Беларускім і 1-м Беларускім франтах. Камандзір роты 457-га стралковага палка 129-й стралковай дывізіі капітан А. І. Чарныш вызначыўся 28—29.6.1944 г. пры вызваленні Магілёўскай вобл. 28 чэрвеня рота пад яго камандаваннем у раёне г. п. Кіраўск атакавала праціўніка, які адступаў, воіны знішчылі 170 і ўзялі ў палон 27 салдат і афіцэраў. 29 чэрвеня рота прарвалася ў тыл праціў-

ніка, захапіла ўчастак шашы Бабруйск — Мінск і адрэзала ворагу шлях да адступлення, адбіла 14 контратак. А. І. Чарныш загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя прысвоена саўгасу і школе на радзіме.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**в. Чырвоная Дуброва, Бортнікаўскі сельсавет**

**447. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на ўзлессі. 38 насыпаў вышынёй 0,7—1,5 м (2 курганы вышынёй 2,2 і 2,4 м), дыяметрам 10—16 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Чырвоны Агарод, Гарохаўскі сельсавет**

**448. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**448а.** Могільнік-1. За 0,6 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Востраў. 46 насыпаў вышынёй 1,5—1,7 м (ёсць вышынёй 2—2,5 м), дыяметрам 8—16 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**448б.** Могільнік-2. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Красная. 7 курганоў вышынёй 0,4—1,7 м, дыяметрам 8—14 м. Адкрыў у 1964 г. і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*



**447.** *Кургацны могільнік. План.*

**в. Шчаткава, Сычкаўскі сельсавет**

**449. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 90 воінаў, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 129-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні Сычкаўскага сельсавета, Героі Савецкага Саюза Мікалай Аляксеевіч Калодка і Іван Фёдаравіч Маслоўскі.

М. А. Калодка нарадзіўся 10.5. 1923 г. у г. Шостка Сумскай вобл. у сям'і рабочых. Кандыдат у члены КПСС. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1942 г. на Бранскім і 1-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра батальёна старшы лейтэнант М. А. Калодка вызначыўся ў час Бабруйскай аперацыі. 28.6.1944 г. рота пад яго камандаваннем у жорсткіх баях авалодала пераправай цераз Бярэзіну, фарсіравала раку, вызваліла в. Шчаткава. 29.6.1944 г. з 12 салдатамі адбіў 11 контратак, знішчыў 3 самаходныя гарматы, каля 30 аўтамашын праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

І. Ф. Маслоўскі нарадзіўся 10.7.1915 г. у с. Данцаўка Багучарскага р-на Варонежскай вобл. у сям'і рабочых. Кандыдат у члены КПСС. У 1936—38 гг. у Чырвонай Арміі, потым працаваў у Брухавецкім р-не Краснадарскага краю. У верасні 1941 г. прызваны ў Чырвоную Армію. З красавіка 1942 г. на Паўночна-Заходнім і 1-м Беларускім франтах. Камандзір батарэі старшы лейтэнант І. Ф. Маслоўскі вызначыўся 29.6.1944 г. пры вызваленні Бабруйскага р-на. Байцы батарэі пад яго камандаваннем вялі цяжкія баі з нямецка-фашысцкімі акупантамі за авалоданне, утрыманне і расшырэнне плацдарма на правым беразе Бярэзіны. Яны адбілі 26 контратак праціўніка, знішчылі больш за 100 варожых салдат і афіцэраў, што садзейнічала паспяховаму наступленню палка. Калі выбыў са строю разлік адной з гармат, І. Ф. Маслоўскі асабіста знішчыў з яе 3 самаходныя гарматы, 4 аўтамашыны і больш за 30 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. Яго імем названа вуліца ў станіцы Пераяслаўская Краснадарскага краю, дзе ён жыў перад вайной.

У 1975 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Г. І. Дулеба.*

**450. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**451. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**451а.** Гарадзішча. За 1 км на поўнач ад вёскі, на беразе р. Бярэзіна, ва ўрочышчы Гарадок. З трох бакоў гарадзішча — старыца р. Бярэзіна, яр з ручаём і забалочаная пойма. Пляцоўка авальная, памерам 120×75 м, зарасла кустамі і дрэвамі. З боку поля ўмацавана 2 валамі і равамі: унутраны вал вышынёй 2—4 м, шырынёй 12 м, вонкавы — вышынёй 1,5 м, шырынёй 5 м, глыбіня равоў 1 м. Узнікла ў канцы 6—5 стагоддзяў да н. э., земляныя ўмацаванні перабудоўваліся, пясчаная аснова ўнутранага вала некалькі разоў падсыпалася, грэбень і вонкавы схіл абкладаліся глінай. Земляныя ўмацаванні спалучаліся з драўлянымі, аб чым сведчаць знойдзеныя рэшткі двухраднай драўлянай сцяны (паралельныя лініі ям ад слупоў дыяметрам 0,2 м). Даследавалі ў 1959 г. Я. Г. Краскоўская (на плошчы 36 м²), у 1963 г. Л. Д. Побаль (на плошчы 320 м²). Культурны пласт 0,6—1 м. Прасочаны ямы ад слупоў і гаспадарчых пабудоў, рэшткі разбуранага агнішча, частка паўзямлянкавай пабудовы, заглыбленай у мацярык на 0,5 м. Знойдзены фрагменты ляпных гладкасценных і штрыхаваных пасудзін (грубыя прафіляваныя гаршкі з прамым адагнутым вонкі венчыкам і круглаватым дніпічам, частка гаршкоў арнаментавана ямачнымі адбіткамі на шыйцы ці на зрэзе венчыка, зашчыпамі і насечкамі па краі венчыка), а таксама гаршкі і міскі з невысокім венчыкам, слаба прафіляваным тулавам і плоскім дніпічам. Асобныя з іх арнаментаваны зашчыпамі і насечкамі па краі венчыка. Частка місак рабрыстая.

Сярод знаходак — жалезныя рыбалоўны кручок, нож, шыла, шпілька з грыбападобным навершам і падковападобная фібула, бронзавыя позналатэнская фібула, трапецападобная падвеска, дэкарыраваная кропкавымі адбіткамі, пярсцёнак, упрыгожанне з грыбападобнымі навершамі і інш., гліняныя абломкі тыгляў, прасліцы, грузікі, пацеркі, шкляныя антычныя пацеркі, каменныя брускі і крамянёвыя прылады працы.




**448б.** *Кургацны могільнік-2. План.*

Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку (мілаградская і зарубінецкая культуры), датуецца канцом 6 ст. да н. э.— 1—2 стагоддзямі н. э.

**451б.** Селішча-1. Каля ўсходняга боку гарадзішча. З поўначы абмежавана поймай р. Бярэзіна, з поўдня — забалочаная мясцовасць. Сярэдняя частка селішча пашкоджана траншэяй ваеннага часу. У 1963 г. Л. Д. Побаль даследаваў 924 м² плошчы. Выяўлены 2 паўзямлянкавыя жытлы квадратнай у плане формы. Першае памерам 3,7×3,3 м, заглыблена ў мацярык на 0,4—0,45 м, арыентавана па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад. Ва ўсходнім вуглу рэшткі печы-каменкі падкованападобнай формы з вусцем у бок цэнтра жытла. Пад разваламі печы знойдзены фрагменты слабапрафіляваных гаршкоў, жалезныя нажы, цвікападобная шпілька.

Другая паўзямлянка (за 13 м на паўднёвы захад ад першай) памерам 3,55×3,2 м заглыблена ў мацярык на 0,5 м, арыентавана па лініі паўночны захад — паўднёвы ўсход. Мела больш пакатыя сцены (памер ніжняй часткі 3×3 м). Уваход знаходзіўся ў паўднёва-ўсходняй частцы, аб чым сведчаць 2 прыступкі даўжынёй 0,6 м і шырынёй 0,3 м. Выяўленыя пабудовы вельмі падобныя да славянскіх жытлаў пражскай культуры.

Знойдзены некалькі ям ад слупоў і гаспадарчых пабудоў. Адна з ям дыяметрам 1,1 м, глыбінёй 0,65 м размяшчалася каля жытла, выкарыстоўвалася як пограб. Выяўлены фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі з расчосамі, жалезныя цвікападобныя шпількі і шпора (3—4 стагоддзі н. э.). Селішча датуецца 3—7 стагоддзямі н. э.

**451в.** Селішча-2. За 0,5—0,8 км на паўднёвы захад ад гарадзішча, на правым беразе р. Панюшкавічы, каля яе ўпадзення ў Бярэзіну. Абследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. Сабраны абломкі ляпнога посуду, блізкага да знаходак з селішча-1, а таксама кераміка эпохі Кіеўскай Русі.

**451г.** Селішча-3. За 0,2—0,3 км на поўнач ад селішча-2, на правым беразе р. Бярэзіна. Працягласць уздоўж берага больш за 0,5 км. Абследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2 м. Знаходкі аналагічныя селішчам-1 і 2.

Матэрыялы даследаванняў гарадзішча і селішча-1, абследавання селішчаў-2 і 3 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Бабруйскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Поселения железного века около д. Щатково Бобруйского района.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967. *А. А. Егарэйчанка.*

**452. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

З верасня 1941 г. да чэрвеня 1944 г. у вёсках Шчаткава і Панюшкавічы дзейнічала падпольная група. Яна аб'ядноўвала 27 чалавек — камуністаў, камсамольцаў і беспартыйных савецкіх патрыётаў. Кіраўнік А. А. Маеўскі. Падпольшчыкі праводзілі палітычную работу сярод насельніцтва, распаўсюджвалі антыфашысцкія лістоўкі, зводкі Саўінфармбюро, падбіралі і перапраўлялі ў партызанскія атрады людзей, памагалі партызанам зброяй, боепрыпасамі, прадуктамі, медыкаментамі. Акупанты загубілі І. Д. Вярбіцкага, М. В. Гудзея, Р. І. Дзыгуна, Ал. А. і Ан. А. Маеўскіх, М. А. Маркоўскага і інш. членаў арганізацыі, усяго 11 чалавек.

У 1970 г. у памяць аб дзейнасці ў Вялікую Айчынную вайну Шчаткава-Панюшкаўскай групы Бабруйскага камуністычнага падполля пастаўлены помнік — пліта з імёнамі падпольшчыкаў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі.

*Літ.:* За Советскую Родину!: О коммунистическом подполье, действовавшем в Бобруйске и Бобруйском районе в годы Великой Отечественной войны (июль 1941 — июнь 1944 гг.).— Советская Белоруссия, 1975, 19—20 апр. *Г. І. Дулеба.*

**в. Юр'ева, Кавалёўскі сельсавет**

**453. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ясень-Каменка, Восаўскі сельсавет**

**454. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 16 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены 3 абеліскі.

**в. Ясны Лес, Хімоўскі сельсавет**

**455. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 92 воіны, што загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены 2 абеліскі.

**456. МАГІЛА АКУЛІЧА** Барыса Сямёнавіча (гіст.). На могілках. Удзельнік Бабруйскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну камсамолец Б. С. Акуліч загінуў 3.6. 1942 г. пры выкананні баявога задання. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.




# БЫХАЎСКІ РАЁН

Кучын
Ліпаўка
Рыжкаўка
Чорны Бор
Балонаў-Сялец
Глухі
Баркалабава
Грудзінаўка
Дуброва
Следзюкі
Усходняя
Трылесіна
Балонаўка
Гарадзец
Холстава
Вараніна
Боўкі
Смаліца
Чачэвічы
Ямнае
БЫХАЎ
Уюн
Нікaнавічы
Чырв. Слабада
Лудчыцы
Чырв. Беларусь
Дунаёк
Сялец
Палкі
Тайманава
Вязьма
Хамічы
Чырв. Бераг
Абідавічы
Новы Быхаў
Іскань
Верх. Тошчыца
Вець
Тошчыца
Ніж. Тошчыца
Віляхаўка

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Ваенна-абарончыя збудаванні (замкі, вежы, крэпасці, форты і інш.)

Палацы, сядзібы, асабнякі

Культавая архітэктура

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## IV. БЫХАЎ

Горад, цэнтр раёна. За 51 км на поўдзень ад Магілёва, прыстань на правым беразе Дняпра, чыгуначная станцыя на лініі Магілёў — Жлобін. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Магілёвам, Рагачовам і з аўтамагістралямі Магілёў — Гомель і Магілёў — Бабруйск.

Вядомы з 14 ст. пад назвай Стары Быхаў, з 16 ст. ў Мсціслаўскім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага. У 1430 г. упамінаецца як уладанне Свідрыгайлы. У 16 — пачатку 17 ст. належаў Хадкевічам, з 1628 г.— Сапегам. У 1610—19 гг. гетман вялікі літоўскі Я. К. Хадкевіч пабудаваў замак. Узведзены на стромкім беразе Дняпра, замак дапаўняў сістэму ўмацаванняў, якая складалася з земляных валоў, равоў, бастыёнаў. Стары Быхаў стаў адной з найбольш умацаваных на той час крэпасцю на тэрыторыі Беларусі. Гандлёвая плошча перад замкам падзяляла горад на 2 часткі. Ад яе адыходзілі 2 галоўныя вуліцы (дарогі на Магілёў і Рагачоў), якія ў лініі вонкавых умацаванняў заканчваліся брамамі. Забудова была драўляная.

У канцы 16 ст. у час антыфеадальнага казацка-сялянскага паўстання на Украіне і Беларусі ў наваколлі Быхава дзейнічалі казацкія атрады Голага, С. Налівайкі. У 1590 г. Быхаў узяты атрадам Мацюшы. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. Быхаў неаднаразова асаджалі казацкія войскі Філона Гаркушы. Тут у руска-польскую вайну 1654—67 гг. у час асады горада войскамі Рэчы Паспалітай (1655 г.) загінуў паплечнік Багдана Хмяльніцкага І. Залатарэнка. У Паўночную вайну 1700—21 гг. Быхаў — важны стратэгічны пункт. 23.6.1706 г. па шляху ў Кіеў на дняпроўскай прыстані Быхава спыняўся Пётр І, каб дамовіцца з камендантам крэпасці Сініцкім аб саюзе супраць Швецыі. Рускі гарнізон і мясцовыя жыхары ў 1708 г. абаранялі горад ад войска стаўленіка шведаў Сапегі.

З 1772 г. у складзе Расіі, да 1776 г. і з 1802 г. цэнтр павета Магілёўскай губерні. У 1796—1802 гг. заштатны горад. У 1830 г. канфіскаваны ў Сапегаў, стаў уласнасцю дзяржавы. Паводле плана горада, распрацаванага ў 1778 г., старажытная ўмацаваная частка Быхава з замкам і гандлёвай плошчай захавана як цэнтральнае планіровачнае ядро, вакол якога ствараліся новыя кварталы. Былі пракладзены драўляныя тратуары, зроблена вулічнае асвятленне, устаноўлены гарадскі гадзіннік. У час паўстання 1863—64 гг. у Польшчы, Літве і на Беларусі на тэрыторыі павета ў красавіку — маі 1863 г. дзейнічаў Быхаўскі паўстанцкі атрад на чале з І. Анцыпам. Паўстанцы грамілі памешчыцкія сядзібы, валасныя ўправы, знішчалі іх дакументы, уступалі ў сутычкі з атрадамі царскіх войск. 6.6. 1863 г. па прыгавору ваенна-судовай камісіі ў Магілёве І. Анцыпа быў расстраляны.

У пачатку 1880-х гадоў у Быхаве 816 дамоў (3 цагляныя), 84 крамы, 2 вучылішчы, 3 царквы, касцёл, сінагога, тэлеграфная станцыя; у 1897 г. каля 6,4 тыс. жыхароў (36,2 % пісьменных). На невялікіх саматужных прадпрыемствах па вытворчасці запалак, цэглы і прадуктаў харчавання працавала каля 60 рабочых (1904 г.). З 1902 г. Быхаў — чыгуначная станцыя, што садзейнічала развіццю гандлю: тут адбываўся адзін з буйнейшых на Беларусі кірмашоў з гадавым абаротам 250 тыс. рублёў. У 1913 г. больш за 8 тыс. жыхароў. У 1904 г. створана Быхаўская арганізацыя РСДРП, якая ўваходзіла ў Палескі камітэт. Яна зрабіла вялікі ўплыў на развіццё рэвалюцыйнага руху ў павеце. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. пад уздзеяннем агітацыі бальшавікоў салдаты Быхаўскага гарнізона выбралі камітэт салдацкіх дэпутатаў. Паводле яго рашэння ў сакавіку 1917 г. амаль усе камандзіры часцей гарнізона былі арыштаваны. На час карнілаўскага мяцяжу пры Савеце рабочых і салдацкіх дэпутатаў Быхава дзейнічаў надзвычайны орган па арганізацыі адпору мяцежнікам. З дапамогай рэвалюцыйных салдат і рабочых-чыгуначнікаў ён сарваў спробы контррэвалюцыі выкарыстаць чыгуначную станцыю для адпраўкі войск у Петраград і Маскву. У канцы лістапада 1917 г. атрад чырвонагвардзейцаў пад камандаваннем С. І. Марозава, члена Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта пры Стаўцы вярхоўнага галоўнакамандуючага, разграміў рэшткі контррэвалюцыйных часцей у Быхаве, стварыў рэўком. У горадзе і павеце была ўстаноўлена Савецкая ўлада. З студзеня 1918 г. Быхаў акупіраваны легіянерамі корпуса Доўбар-Мусніцкага, з пачатку сакавіка — войскамі кайзераўскай Германіі. У тыле ворага дзейнічалі Быхаўскі падпольны падраённы камітэт РКП(б) на чале з Ц. І. Сарокіным, 1-ы Быхаўскі партызанскі атрад пад кіраўніцтвам С. К. Дзергачова. Вызвалены ад інтэрвентаў у лістападзе 1918 г. З 1919 г. у складзе РСФСР, цэнтр павета Гомельскай губерні. У 1924—30 гг. цэнтр раёна Магілёўскай акругі, з 1938 г.— Магілёўскай вобл.; 11 тыс. жыхароў (1939 г.).

На пачатку Вялікай Айчыннай вайны Быхаў — важны апорны пункт Чырвонай Арміі на Магілёўскім напрамку. Пасля жорсткіх баёў акупіраваны 5.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы




**IV.** *Дом культуры.*

КП(б)Б (7.3.1943 г.— 24.2.1944 г.) і ЛКСМБ (верасень 1942 г.— 24.2. 1944 г.). Барацьбу з акупантамі вялі партызанскія атрады Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы (створана 30.7. 1943 г. на базе 11-й Быхаўскай партызанскай брыгады і 152-га асобнага атрада), партызанскія палкі 15-ы і «Трынаццаць». Горад вызвалены 28.6. 1944 г. войскамі 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту.

Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1968 г. у інстытуце «Белдзяржпраект» (скарэкціраваны ў 1983 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва), забудова ажыццяўляецца пераважна ў паўночным напрамку. Сетка вуліц прамавугольная. Галоўнай кампазіцыйнай воссю горада з'яўляецца Дняпро. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр сфарміраваны на вул. Леніна, дзе размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, кінатэатра, універмага. На Кастрычніцкай пл., што ўтворана на скрыжаванні вуліц Леніна і Дорахава, знаходзяцца раённы Дом культуры, рэстаран, на вул. Савецкай — сквер. Вуліцы Чырвонаармейская, Смалячкова, Леніна забудаваны 5-павярховымі жылымі да-



**IV.** *Забудова вуліцы Леніна.*

9 Зак. 1480

мамі. Запраектаваны 6 жылых раёнаў з 5—9-павярховых жылых дамоў, прадугледжана фарміраванне новага грамадскага цэнтра на скрыжаванні вуліц Леніна і Пралетарскай.

Працуюць заводы кансервава-агароднінасушыльны, сухога абястлушчанага малака, хлебазавод, ільнозавод, завод металавырабаў, мэблевая фабрыка, камбінаты бытавога абслугоўвання і камунальных прадпрыемстваў, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас. У горадзе 3 сярэднія, васьмігадовая, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 10 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 3 бібліятэкі, гісторыка-краязнаўчы музей, бальніца. Выдаецца раённая газета «Маяк Прыдняпроўя». Помнікі: У. І. Леніну; партызанскаму разведчыку піянеру М. Казлову; на брацкай магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу, савецкіх воінаў і партызан. Захаваліся помнікі архітэктуры — замак і сінагога (пачатак 17 ст.), Троіцкая царква (сярэдзіна 19 ст.).

Зона адпачынку — берагі Дняпра.

*Літ.:* Восстание в Литве и Белоруссии 1863—1864 гг.: Материалы и документы.— М., 1965; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилёвской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Жучкевич В. А., Малышев А. Я., Рогозин Н. Е. Города и села Белорусской ССР: Историко-географические очерки.— Мн., 1959; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*А. А. Міцянін, В. М. Удальцоў.*

**457. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На Кастрычніцкай пл. Пахаваны 96 барацьбітоў за Савецкую ўладу, воінаў і партызан. Сярод пахаваных — актыўныя ўдзельнікі барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады на Быхаўшчыне Р. І. Нікіцін, Г. Е. Дорахаў, Н. Л. Француз і П. І. Баранкевіч, якія загінулі ў 1920—25 гг. ад рук кулацкіх элементаў; воіны 187-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, што загінулі пры абароне горада ў канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1941 г.; воіны 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 27—28.6. 1944 г. у баях за вызваленне горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



457. *Помнік на брацкай магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу, савецкіх воінаў і партызан.*

П. І. Баранкевіч нарадзіўся 11.7.1903 г. у в. Трасцівец у сям'і беднага селяніна. Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. уключыўся ў барацьбу за перабудову сялянскага жыцця. Вёў арганізацыйную, прапагандысцкую і культурную работу сярод вясковай моладзі. У 1924 г. у вёсцы Мокрае стварыў і ўзначаліў камсамольскую ячэйку, быў сакратаром, старшынёй камітэта сялянскай узаемадапамогі Макранскага сельсавета. Насценная газета, якую выдавалі камсамольцы, іх выступленні ў перыядычным друку выкрывалі варожую дзейнасць кулацкіх элементаў, растлумачвалі сялянам неабходнасць арганізацыі калектыўнай сацыялістычнай гаспадаркі. Кулакі вырашылі адпомсціць камсамольскаму важаку. 20.1.1925 г. ноччу, калі Пётр Баранкевіч вяртаўся з в. Холстава, дзе праводзіў сход, прысвечаны першай гадавіне смерці У. І. Леніна, на яго быў зроблены злачынны замах. Памёр 21.1.1925 г. У 1975 г. у в. Трасцівец, на доме, дзе ён нарадзіўся, устаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і партызанка з аўтаматам. На бетанаванай аснове помніка — 5 дошак з імёнамі загінуўшых і надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

*В. М. Удальцоў.*

**458. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3—0,4 км на поўдзень ад цэнтра горада. Пляцоўка памерам 55×45 м. З боку поля была ўмацавана 2 валамі. Унутры вал вышынёй каля 15 м, шырынёй каля 12—15 м захаваўся адносна добра, вонкавы амаль поўнасцю разараны. Адкрыў у 1963 г. У. М. Сівагракаў, абследаваў у 1964 і 1983 гг. Л. Д. Побаль. У паўночнай і паўднёвай частках пляцоўкі закладзены шурфы 1×1 м, у якіх выяўлены культурны пласт каля 0,5 м. У ім знойдзены рэшткі грубых ляпных гладкасценных гаршкоў, ляпная кераміка з лёгкімі штрыхамі і ганчарная кераміка 10—13 стагоддзяў. Гарадзішча адносіцца да мілаградскай, ранняга этапа зарубінецкай культуры і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**459. ЗАМАК** (архіт.). На ўсходняй ускраіне горада, на высокім правым беразе Дняпра. Пабудаваны ў 1610—19 гг. з цэглы і дрэва гетманам вялікім літоўскім Я. К. Хадкевічам. Пасля 1621 г. перайшоў у валоданне князёў Сапегаў. Перабудоўваўся на працягу 17—20 стагоддзяў. Цяпер прыстасаваны пад прамысловае прадпрыемства.

Замак уваходзіў у сістэму ўмацаванняў горада-крэпасці Стары Быхаў, будаўніцтва якога было пачата ў 1590 г. Уяўляў сабой у плане паўкруг радыусам 400 м, абкружаны ровам і валам з равелінамі і бастыёнамі. Размяшчаўся ў цэнтры берагавой лініі і абараняў крэпасць з усходу, з боку Дняпра. Адначасова быў аддзелены ад горада дадатковым ровам і пад'ёмным мостам, меў уласныя фартыфікацыйныя збудаванні. Замкавы комплекс складаўся з некалькіх карпусоў, якія ўтваралі ў плане чатырохвугольнік, замкнёны з поўначы мураванай сцяной, дзе быў выхад на гарадскі вал. Выцягнуты двухпавярховы (з падвалам) будынак палаца арыентаваны да Дняпра, накрыты клінападобным чарапічным дахам, на вышыні, роўнай амаль 2 паверхам. Да ўсходняга і паўднёвага фасадаў прылягаюць пяціярусныя гранёныя вежы, якія раней былі завершаны двух'яруснымі купалкамі (цяпер накрыты гонтавымі шатрамі). Заходні фасад палаца, павернуты да ўнутранага двара, аздабляла двух'ярусная арачная галерэя з лесвіцамі і ўваходамі ва ўнутраныя памяшканні. Першы ярус галерэі быў мураваны, перакрыты крыжовымі скляпеннямі, другі — драўляны. Падвальнае памяшканне і першы паверх перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Другі паверх быў жылы і падзяляўся вестыбюлем з трохмаршавай лесвіцай на 2 палавіны. У паўночнай тарцовай частцы знаходзілася парадная зала. Масіўныя папярочныя сцены падзялялі палац амаль на аднолькавыя па памерах пакоі, якія мелі анфіладную сувязь, плоскія бэлечныя перакрыцці. Адпаведна ўнутранай планіроўцы на фасадзе папарна згрупаваны вялікія прамавугольныя вокны. Вежы палаца не мелі абарончага прызначэння, у іх размяшчаліся капліца, бібліятэка, памяшканні для варты і інш. Аздоба інтэр'ераў не захавалася. Да паўднёвага фасада палаца далучаны двухпавярховы корпус са скляпеністымі перакрыццямі. Першы паверх выкарыстоўваўся для гаспадарчых патрэб. Мураваная сцяна замка з выхадам на гарадскі вал пазней заменена драўлянымі карпусамі. Заходняя частка забудавана казармамі, мела пасярэдзіне

ўязную браму з пад'ёмным мостам і была фланкіравана па вуглах васьміграннымі баявымі вежамі (захаваліся часткова).

Помнік палацава-замкавай архітэктуры.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Всеобщая история архитектуры. Т. 6.— М., 1968, с. 469—502; Ткачоў М. А. Замкі Беларусі (XIII—XVII ст.).— Мн., 1977; Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии. Т. 1.— 3 изд.— Мн., 1985.

*Т. В. Габрусь.*

**460. МАГІЛА САЛОДЫШАВА** Арцёма Іванавіча (гіст.). Вул. Нікіціна, на могілках.

Герой Савецкага Саюза А. І. Салодышаў нарадзіўся 22.9.1910 г. у в. Лазаравічы Быхаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну партызан, камандзір узвода 810-га атрада, потым палка. Удзельнічаў у разгроме фашысцкіх гарнізонаў у в. Новы Быхаў, пас. Першамайскі і інш. 24.2.1944 г. Быхаўская ваенна-аператыўная група, куды ўваходзіў 810-ы партызанскі полк, злучылася з Чырвонай Арміяй. А. І. Салодышаў быў прызначаны камандзірам стралковага аддзялення 1260-га стралковага палка 380-й стралковай дывізіі 50-й арміі. Вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 27.6.1944 г. сяржант А. І. Салодышаў фарсіраваў Дняпро, у баі за в. Стайкі гранатамі знішчыў дзот, што стварыла ўмовы для авалодання моцным апорным пунктам ворага. Цяжка паранены, не пакінуў поля бою, агнём з аўтамата знішчыў 27 гітлераўцаў. Удзельнічаў у вызваленні Польшчы, у штурме Берліна. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Пасля вайны жыў у Быхаве, працаваў інспектарам Дзяржрыбнагляду. Памёр 27.1.1960 г.

У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**461. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АРЛОЎСКАМУ** Канстанціну Іванавічу (гіст.). Вул. Леніна, 40. Устаноўлена ў 1967 г.

Герой Савецкага Саюза К. І. Арлоўскі нарадзіўся 2.12.1913 г. у Быхаве ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1934 г. У 1939 г. скончыў Бабруйскае танкавае вучылішча. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір танкавага батальёна капітан К. І. Арлоўскі вызначыўся ў ліпені 1944 г. пры вызваленні Латвіі. На дзвінскім участку фронту батальён прарваў абарону ворага і за 8 дзён наступлення з баямі прайшоў 300 км, перарэзаў шашу і чыгунку Дзвінск — Рэзекне, закрыў шлях да адыходу дзвінскай групоўкі праціўніка. У баях знішчыў 12 танкаў, 8 танкетак, 8 самаходных і больш за 40 процітанкавых гармат, каля 300 фашыстаў. К. І. Арлоўскі загінуў 22.7.1944 г. у баі. Пахаваны ў г. Даўгаўпілс. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы вуліцы ў Быхаве і Даўгаўпілсе.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў.*

**462. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Вул. Леніна, на будынку раённага Дома культуры. Устаноўлена ў 1980 г. У ходзе Магілёўскай аперацыі войск 2-га Беларускага фронту 362-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр М. А. Еншын) 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 27.6.1944 г. фарсіравала Дняпро каля в. Прыбар і 28.6.1944 г. вызваліла г. Быхаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**463. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РЭЎКОМА** (гіст.). Вул. Леніна, 2. Устаноўлена ў 1977 г. у памяць аб дзейнасці ў лістападзе 1917 г.— лютым 1918 г. Быхаўскага рэўкома.

У 1-й палове лістапада 1917 г. у Быхаве была абвешчана Савецкая ўлада. Яе ўстанаўленню перашкаджала варожая дзейнасць штаба 1-й польскай дывізіі корпуса Доўбар-Мусніцкага, пераведзенай сюды царскай стаўкай у жніўні 1917 г. У канцы лістапада для барацьбы з контррэвалюцыяй у Быхаў прыбыў чырвонагвардзейскі бронеатрад пад камандаваннем члена Ваенна-рэвалюцыйнага камітэта пры Стаўцы вярхоўнага галоўнакамандуючага бальшавіка С. І. Марозава. Пад яго старшынствам быў створаны павятовы рэўком. У снежні 1917 г. рэўком правёў перавыбары валасных сялянскіх камітэтаў і склікаў першы павятовы з'езд Саветаў, на якім быў выбраны выканком з аддзеламі: аграрным, працы, асветы, грамадскай апекі і гандлю, фінансаў, юстыцыі і інш. Пры ўдзеле прызначаных рэўкомам камісараў сялянскія камітэты пачалі канфіскацыю памешчыцкіх зямель. Актыўна вялася работа па фарміраванню атрадаў Чырвонай гвардыі і прапагандзе сярод легіянераў польскіх вайсковых падраздзяленняў. Частка іх перайшла на бок Савецкай улады. Зімой 1918 г. чырвонагвардзейцы Быхаўшчыны пад кіраўніцтвам рэўкома грамілі мяцежнікаў корпуса Доўбар-Мусніцкага каля вёсак Дзедава і Тошчыца. Пасля акупацыі правабярэжнай часткі раёна германскімі войскамі (люты 1918 г.) рэўком пераехаў у Прапойск (цяпер Слаўгарад). Пасля вызвалення Быхава створаны рэўком новага складу.

*Літ.:* Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967; Хохлов А. Г. Красная гвардия Белоруссии в борьбе за власть Советов (март 1917 — март 1918 гг.) — Мн., 1965.

*В. М. Удальцоў.*



465. *Помнік М. С. Казлову.*

**464. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Ксяндзова гара. За 4 км на поўдзень ад Быхава, на пясчаным узвышшы, у пойме правага берага Дняпра. Выявіў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1956—59 гг. І. І. Арцёменка на плошчы 420 м². Культурны пласт 0,3—0,35 м. Прасочаны рэшткі наземных жытлаў з ямамі ад слупоў, агнішчаў, складзеных з камянёў, ям ад агнішчаў. Знойдзены крамянёвыя прылады працы: скрабкі на пласцінах і адшчэпах, скрэблы, нажы, клінападобныя сякеры, лістападобныя, ромбападобныя, трохвугольныя наканечнікі стрэл і абломак сякеры з каменю, каменны адбойнік, абломак зерняцёркі. Кераміка прадстаўлена фрагментамі пасудзін 3 тыпаў: з прамой адагнутай шыйкай, круглаватым тулавам і плоскім дном, арнаментаваных у выглядзе адбіткаў перавітай вяровачкі, лінейнага і зубчастага штампаў, наразных ліній, якія ўтвараюць кампазіцыі трохвугольнікаў, гарызантальных і дыяганальных радоў; пласкадонныя пасудзіны слоікавай формы без арнаменту; танкасценныя пасудзіны з высокай, прама адагнутай шыйкай, шарападобным тулавам і круглаватым дном. Паселішча адносіцца да сярэднедняпроўскай культуры бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.



466. *Помнік У. І. Леніну.*

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Усходняй Беларусі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 148). *В. Ф. Капыцін.*

**465. ПОМНІК КАЗЛОВУ** Марату Сяргеевічу (гіст.). На вул. Леніна, у скверы школы № 1. Устаноўлены ў 1970 г. на ўшанаванне памяці піянера-партызана М. Казлова. Уяўляе сабой скульптурны партрэт юнага патрыёта (скульпт. М. Палякоў). Гл. артыкул № 496 «Магіла Казлова Марата Сяргеевіча».

**466. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1958 г.

**467. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Чырвонаармейскай, каля кансервава-агароднінасушыльнага завода. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1953 г.

**468. РАДЗІМА ГАРКУШЫ** Філона (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў сялянскага паўстання ў час вызваленчай вайны ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. Ф. Гаркуша (гады нараджэння і смерці невядомы) нарадзіўся ў Быхаве. У 1648 г. з атрадам казакоў прыбыў з Украіны на Беларусь. Тут рады паўстанцаў папоўнілі беларускія сяляне. Атрад Ф. Гаркушы ў баі каля мястэчка Горваль на пераправе цераз р. Бярэзіна разграміў буйны атрад стражніка Вялікага княства Літоўскага — Мірскага. У канцы 1648 г. асадзіў добра ўмацаваную крэпасць Быхаў, але пад націскам войск Горскага і Паца вымушаны быў адступіць. У 1651 г. узначальваў 15-тысячны атрад, які дзейнічаў у раёне р. Прыпяць, разграміў атрад палкоўніка Паўшы. У сакавіку — красавіку 1654 г. быў паслом Багдана Хмяльніцкага ў Маскве. *В. М. Удальцоў.*

**469. СІНАГОГА** (архіт.). У завулку Савецкім. Пабудавана ў пачатку 17 ст. з цэглы. Будынак амаль квадратны ў плане, завершаны пакатым чатырохсхільным дахам. Фасады расчлянёны тонкім карнізам на 2 ярусы. Нізкі другі ярус спачатку праразалі прамавугольныя і круглыя байніцы (пазней замураваны). Цяпер плоскасці сцен другога яруса раскрапаваны неглыбокімі прамавугольнымі нішамі. Тоўстыя сцены (1,75 м) першага яруса прарэзаны высокімі паўцыркульнымі вокнамі з раструбамі ў абодва бакі. Аконныя праёмы аб'яднаны агульнай на ўсю сцяну нішай, якая злучана падугамі з вуглавымі пілястрамі, апрацаванымі рустам. Галоўны заходні фасад з левага боку фланкіраваны круглай абарончай вежай з лесвіцай, якая звязвала падвал і гарышча.



469. *Будынак былой сінагогі. Агульны выгляд.*




469. *Будынак былой сінагогі. План.*

Цэнтральнае месца ў інтэр'еры займае двух'ярусная трыбуна-біма, пляцоўка якой абмежавана 4 магутнымі васьміграннымі слупамі, злучанымі паміж сабой аркамі. Яны з'яўляюцца канструкцыйнай асновай для цыліндрычных скляпенняў з распалубкамі. Вуглавыя часткі перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Ніжні ярус бімы мае паўсферычнае перакрыцце, апрацаванае стукавым шматкаляровым раслінным арнаментам, верхні прарэзаны паўцыркульнымі праёмамі. Сцены расчлянёны пілястрамі, прасценкі і вуглавыя часткі на 2/3 вышыні аконных праёмаў апрацаваны плоскімі нішамі. У цэнтры ўсходняй сцяны паміж пілястрамі знаходзіцца алтар-ніша, акаймаваны стукавай лепкай.

Сінагога — помнік архітэктуры рэнесансу. *А. А. Міцянін.*

**470. ТРОІЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На вул. Куйбышава. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Будынак цэнтрычны, крыжападобны ў плане, на цагляным атынкаваным фундаменце. Крылы трансепта і алтарная частка пяцігранныя. У месцы іх перасячэння з усходняга боку зроблены 2 невялікія рызніцы з аднасхільнымі дахамі. Над апсідай і бакавымі часткамі дахі вальмавыя. З трох бакоў будынка зроблены ўваходы ў выглядзе шырокіх мураваных ганкаў з казыркамі на драўляных калонах. Над галоўным уваходам — высокая васьмігранная ў плане трох'ярусная званіца, над сяродкрыжжам — вялікі светлавы барабан (дыяметр 8 м, вышыня 12,5 м) з купалам, завершаным галоўкай на васьміграннай аснове. Сцены другога яруса званіцы прарэзаны паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, трэцяга — прамавугольнымі. Па перыметры будынка праходзіць карніз. Фасады вертыкальна ашаляваны. Вокны паўцыркульныя. У інтэр'еры цэнтральная двухсветлавая частка перакрыта самкнёным скляпеннем на ветразях. У астатніх частках столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *А. А. Міцянін.*

**в. Абідавічы, цэнтр сельсавета**

**471. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля будынка бальніцы. Пахаваны 819 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі восенню і зімой 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**472. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе Дняпра, за 0,1 км на поўнач ад урочышча Чырвоная Гара. Пляцоўка падкowападобнай формы памерам 40×30 м, парасла хваёвым лесам, непасрэдна прымыкае да старога рэчышча ракі. З вонкавага боку ўмацавана 3 валамі і равамі. Вышыня валоў каля 1,5 м, глыбіня равоў 1 м, шырыня 5—8 м. Выявіў у 1963 г. У. М. Сівагракаў, абследаваў у 1966 г. Л. Д. Побаль. У шурфе, закладзеным ва ўсходняй частцы пляцоўкі, культурны пласт каля 0,6 м. У ім знойдзены фрагменты ляпнога посуду ранняга жалезнага веку (частка керамікі мела штрыхі), 2 венчыкі ад грубага ляпнога гаршка з дамешкам жарствы ў цесце. Датуецца 2 ст. да н. э.— 3 ст. н. э., адносіцца да ранняга этапа зарубінецкай культуры.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**473. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 247 жыхароў вёсак калгаса «18 партз'езд», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці загублены акупантамі, у 1975 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.



470. *Троіцкая царква.*




470. *Троіцкая царква. План.*



471. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Асоўшчына, Лудчыцкі сельсавет**

**474. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 3 магілах пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. пастаўлена стэла.

**в. Балонаў-Сялец,**
**Чарнаборскі сельсавет**

**475. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**476. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва. Будынак крыжападобны ў плане. Да асноўнага аб'ёму прылягаюць сакрысціі і каркасны бабінец. Цэнтральны кубічны аб'ём значна вышэй за астатнія, накрыты высокім шатром, над якім васьмігранны барабан з галоўкай. Над бабінцам двух'ярусная званіца, завершаная чатырохгранным шатром і прарэзаная з 4 бакоў прамавугольнымі праёмамі. У правай частцы бабінца аднамаршавая драўляная лесвіца, якая вядзе на званіцу. Бабінец і папярочны неф асвятляецца невялікімі спаранымі прамавугольнымі вокнамі, глыбокая пяцігранная апсіда — 2 прамавугольнымі ў скошаных плоскасцях сцен і невялікім круглым акном у верхняй частцы тыльнай сцяны. У інтэр'еры столь плоская, падшыўная. Унутраная прастора расчлянёна слупамі. Сцены не атынкаваны.

Царква — помнік драўлянай архітэктуры.

*А. А. Міцянін.*

**в. Баркалабава, цэнтр сельсавета**

**477. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач на ўшанаванне памяці 81 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**478. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**478а.** Гарадзішча. На паўднёвай ускраіне вёскі, пры ўпадзенні р. Струга ў Дняпро. Пляцоўка паме-



476. *Царква.*




476. *Царква. План.*



477. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

рам 95×58 м, вышыня над поймай каля 13 м. З паўночнага і паўночна-заходняга бакоў захаваліся сляды вала і глыбокі, часткова засыпаны роў, на якім прасочваецца ўезд на пляцоўку. Адкрыў у 1855 г. М. В. Без-Карніловіч, абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1967 г. Л. Д. Побаль. У сценках траншэі і ў шурфах выяўлены культурны пласт 0,4—1 м. У ім знойдзены грубая ляпная кераміка ранняга жалезнага веку (частка яе пакрыта штрыхамі), невялікая колькасць керамікі эпохі Кіеўскай Русі, шлакі, фрагмент вастрыя, бронзавы званочак. Датуецца 7—3 стагоддзямі да н. э. (мілаградская культура), 3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. (зарубінецкая культура) і эпохай Кіеўскай Русі.

**478б.** Селішча. Побач з гарадзішчам, у заходняй частцы поймы р. Струга. Плошча каля 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1928 г. А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, у 1967 г. Л. Д. Побаль. На паверхні знойдзена грубая ляпная гладкасценная кераміка ранняга жалезнага веку і кружальная раннефеадальнага часу. Датуецца 2—5 стагоддзямі і 6—8 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы абследавання гарадзішча і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Інстытуце гісторыі АН СССР.

*Літ.:* Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.— СПб., 1855; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2; Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**479. ПОМНІК У ГОНАР ФАРСІРАВАННЯ ДНЯПРА ВОЙСКАМІ 2-га БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). У цэнтры вёскі.

26.6.1944 г. у ходзе Беларускай аперацыі войскі 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту фарсіравалі Дняпро каля вёскі і пачалі вызваленне правабярэжнай часткі раёна. 28.6.1944 г. вызвалены Быхаў. У 1975 г. у памяць аб фарсіраванні Дняпра пастаўлена стэла.



477. *Помнік землякам.*

**480. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра (16 м над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ). Памер 50×260 м уздоўж броўкі тэрасы. Выявіў і абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Сабраны расшчэпленыя крамяні, у т. л. нуклеусы, адшчэпы, пласціны, тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, разцы, вастрыі, прылады з выемкамі і сякеркі з перахватам. Адносіцца да ранняга мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, в. 149. *В. Ф. Капыцін.*

**481. ЦАРКВА КАЗАНСКАЙ МАЦІ БОСКАЙ** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў 1904 г. з цэглы.

Кампазіцыя царквы падоўжна-восевая: пяцігранная апсіда з сіметрычнымі рызніцамі па баках, пастаўлены ўпоперак асноўны аб'ём, больш нізкі дадатковы аб'ём і бабінец. Усе часткі будынка накрыты асобнымі пакатымі двухсхільнымі дахамі (першапачатковыя не захаваліся). Фасады не атынкаваны, прарэзаны аконнымі праёмамі разнастайных форм і багата аздоблены архітэктурнай пластыкай: карніз з сухарыкамі, абрамленні акон у выглядзе какошнікаў, падвойных калонак і інш. У інтэр'еры плоскія падшыўныя столі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Бароўка, Баркалабаўскі сельсавет**

**482. СТАЯНКА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Вышыня над лет-



478. *Гарадзішча, селішча. План.*



480. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*

нім межанным узроўнем вады ў Дняпры 16 м. Адкрыў і абследаваў у 1973 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,3 м. Распчэплены крэмень у выглядзе невялікіх скопішчаў выяўлены ўздоўж броўкі тэрасы на плошчы памерам 50×170 м. Знойдзены нуклеусы, адшчэпы, пласціны, наканечнікі стрэл грэнскага тыпу (асіметрычныя) і з тронкамі, канцавыя скрабкі, бакавыя вуглавыя і сярэдзінныя разцы, рэжучыя і дзюбападобныя вастрыі, праколкі і інш. Адносіцца да ранняга мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Исследование памятников эпохи мезолита в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1973 года. М., 1974; яго ж. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, в. 149.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Барсукі, Дунайкоўскі сельсавет**

**483. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 партызан Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**484. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**485. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС У ГОНАР БЫХАЎСКАЙ ВАЕННА-АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ** (гіст.). За 3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе, ва ўрочышчы Гулы.

Тут восенню 1943 г.— зімой 1944 г. базіравалася Быхаўская ваенна-аператыўная група. Створана ў ліпені 1943 г. паводле пастановы Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і загаду Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групы на базе 810, 425, 225-га атрадаў 11-й Быхаўскай партызанскай брыгады і 152-га асобнага атрада. Пры фарміраванні ваенна-аператыўнай групы кіраўніцтва 11-й брыгады было скасавана, атрады ўключаны ў склад групы самастойнымі баявымі адзінкамі. Пазней створаны 820-ы, 830-ы атрады. У кастрычніку 1943 г. атрады 152-і, 425-ы і 810-ы разгорнуты ў аднайменныя партызанскія палкі. Ваенна-аператыўная група дзейнічала ў Быхаўскім, Магілёўскім, Кіраўскім р-нах Магілёўскай і Рагачоўскім р-не Гомельскай абласцей. У склад кіраўніцтва групы ўваходзілі сакратары Быхаўскага падпольнага райкома КП(б)Б Е. Ц. Андрэенкаў (ліпень — лістапад 1943 г.), Ф. П. Падалян (лістапад 1943 г.— люты 1944 г.), камандзіры групы Ф. П. Падалян (ліпень — лістапад 1943 г.), І. П. Федзячэнка (лістапад 1943 г.— люты 1944 г.). Партызаны групы грамілі варожыя гарнізоны, праводзілі дыверсіі на камунікацыях праціўніка. За час баявых дзеянняў разграмілі 44 гарнізоны, пусцілі пад адхон 110 эшалонаў, падарвалі ці пашкодзілі 97 паравозаў, 2 мотадрызіны, падарвалі 95 мастоў, больш за 2780 рэек, пашкодзілі 425 км тэлефоннай і тэлеграфнай сувязі, знішчылі 3 самалёты, 95 аўтамашын, больш за 7 тыс. варожых салдат і афіцэраў.

Пад аховай народных мсціўцаў у партызанскім лагеры жыло каля 12 тыс. мірных жыхароў. Засявалі палі, працавалі млын, хлебапякарня, лазня. У майстэрнях шылі адзенне і абутак для партызан і насельніцтва. Медыкі партызанскага шпіталю аказвалі неабходную дапамогу параненым і хворым, вялі прафілактычную работу супраць эпідэмічных захворванняў. Пад кіраўніцтвам падпольнага райкома партыі дзейнічала друкарня газеты «Партизан Быховщины» (рэдактар — член райкома КП(б)Б М. П. Куракін). Друкаваліся адозвы райкома КП(б)Б, лістоўкі. У атрадах і батальёнах выпускаліся рукапісныя часопісы, насценныя газеты, баявыя лісткі.

24.2.1944 г. група ў складзе 810, 425, 152-га палкоў і 225, 435, 820, 830-га асобных атрадаў (3544 партызаны) злучылася з часцямі Чырвонай Арміі.

У 1972 г. на месцы базы Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы створаны мемарыяльны комплекс: стэла і зямлянка, дзе размяшчалася кіраўніцтва ваенна-аператыўнай групы, стэлы на месцах партызанскага шпіталя і рэдакцыі газеты «Партизан Быховщины». У комплекс уваходзяць таксама стэлы на месцах партызанскіх пастоў каля в. Барсукі і Гамарня.

*Літ.:* Всенародная борьба в Белоруссии против немецко-фашистских захватчиков в годы Великой Отечественной войны. Т. 2—3.— Мн., 1984—85; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. М. Удальцоў.*



482. *Стаянка.*



482. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*

**486. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БЫЛОГА ПАРТЫЗАНСКАГА ПАСТА** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Тут у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся партызанскі пост. У 1972 г. на месцы яго ўстаноўлена стэла.

**487. ПОМНІК У ГОНАР БЫХАЎСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б, ЛКСМБ І 11-й БЫХАЎСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну вясной і летам 1943 г. у в. Барсукі размяшчаліся Быхаўскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, штаб 11-й Быхаўскай партызанскай брыгады.

Быхаўскі падпольны райком КП(б)Б створаны 7.3.1943 г. упаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл. Сакратары К. Л. Адасёў (7—17.3.1943 г.), Е. Ц. Андрэенкаў (17.3—15.11.1943 г.), Ф. П. Падалян (15.11.1943 г.— 24.2. 1944 г.). Да сярэдзіны ліпеня 1943 г. райком партыі базіраваўся ў 11-й Быхаўскай партызанскай брыгадзе. 17.7.1943 г. пры падпольным райкоме КП(б)Б на базе брыгады арганізавана Быхаўская ваенна-аператыўная група. Вёў палітычную і агітацыйна-масавую работу сярод насельніцтва, узначальваў дзейнасць камуністычнага падполля, партызанскую барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б — газета «Партизан Быховщины».

Быхаўскі падпольны райком ЛКСМБ створаны ў верасні 1942 г. Сакратары В. М. Куракін (да 27.2.1943 г., сакратар па прапагандзе 27.2—1.7.1943 г.), П. М. Караленка (27.2.1943 г.— 24.2. 1944 г.), Л. П. Ракіцянская (1.7. 1943 г.— 24.2.1944 г., сакратар па пра-

пагандзе). Узначальваў камсамольска-маладзёжнае падполле, кіраваў дзейнасцю камсамольскіх арганізацый партызанскіх атрадаў.

11-я Быхаўская партызанская брыгада сфарміравана ў красавіку 1943 г. паводле загаду ваенна-аператыўнай групы пры Магілёўскім абкоме КП(б)Б на базе 810-га і 425-га асобных атрадаў. Пазней у яе складзе арганізаваны 225-ы і 435-ы атрады. Камандзір брыгады Ф. П. Падалян. Дзейнічала на тэрыторыі Быхаўскага, Клічаўскага, Кіраўскага р-наў Магілёўскай і Рагачоўскага р-на Гомельскай абласцей у складзе Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы. Партызаны брыгады асноўныя баявыя аперацыі праводзілі на чыгуначным участку Быхаў — Рагачоў, у красавіку — чэрвені 1943 г. пусцілі пад адхон 14 эшалонаў, падарвалі 4 масты на чыгунцы, шашэйных і грунтавых дарогах. У засадных і адкрытых баях знішчылі 22 аўтамашыны, 11 гармат, разграмілі 2 гарнізоны. У ліпені 1943 г. расфарміравана ў сувязі з стварэннем Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы. У 1972 г. у гонар дзейнасці падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і 11-й Быхаўскай партызанскай брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983.

*В. М. Удальцоў.*

**в. Боўкі, Трылесінскі сельсавет**

**488. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЗОТАВА** Н. І. **І БЯЗБОЖНАВА** Г. К. (гіст.). На могілках. Палкоўнік Н. І. Зотаў і падпалкоўнік Г. К. Бязбожнаў загінулі 31.3.1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**489. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 37 воінаў, партызан і падпольшчыкаў. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія вялі тут баі ў сакавіку 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бутрамееўка, Грудзінаўскі сельсавет**

**490. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 150 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вараніно, Следзюкоўскі сельсавет**

**491. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у пойме левага берага Дняпра, на высокай пясчанай выспе. 12 насыпаў дыяметрам 7—12 м, вышынёй 0,5—1,4 м. Выявіў у 1963 г. І. І. Арцёменка, даследавала ў 1963—64 гг. Г. Ф. Салаўёва. У 8 курганах пахавальны абрад — трупаспаленне на мацерыку, пад насыпам (4 выпадкі), у астатніх — у ямах дыяметрам 0,5—0,9 м у мацерыку пад насыпам. Адно пахаванне зроблена ў скрыні з плах, памерам 0,84×0,58 м. У пахаваннях знойдзены ляпныя гаршкі, у адным ляжалі жалезныя нож і кольца, 2 аплаўленыя шкляныя пацеркі. У адным з кургаоў была шкляная пацерка. 2 насыпы пахаванняў не мелі. Помнік адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, належаў радзімічам.




492. *Помнік землякам.*

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Соловьева Г. Ф. Памятники конца 1 тысячелетия н. э. в Верхнем Поднепровье.— У кн.: Древние славяне и их соседи. М., 1970.— (Материалы и исследования по археологии СССР; в. 176).

*Л. Д. Побаль.*

**492. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка племзавода «Вараніно». На ўшанаванне памяці 180 воінаў-землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1976 г. пастаўлена стэла.



493. *Помнік Ф. А. Смалячкову.*

**493. ПОМНІК СМАЛЯЧКОВУ** Феадосію Арцёмавічу (маст.). На перакрыжаванні дарог Магілёў — Гомель і Быхаў — Вараніно. Устаноўлены ў 1966 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза Ф. А. Смалячкова.

Помнік (скульпт. Я. Печкін; бетон; вышыня 4 м) — гарэльефны партрэт Смалячкова, устаноўлены на квадратным у сячэнні пастаменце-слупе. Выява воіна з аўтаматам у руцэ, у касцы і плашч-палатцыададзена ў дынамічным павароце, мадэліравана буйнымі формамі. На 2 гранях пастамента, якія ўстаноўлены на бетоннай пліце-подыуме,— мармуровыя дошкі з надпісам-інфармацыяй і надпісам-прысвячэннем. Гл. таксама артыкул № 571 «Помнік Смалячкову Феадосію Арцёмавічу».

*Л. Г. Лапцэвіч.*

**494. ПОМНІК У ГОНАР 60-ГОДДЗЯ САВЕЦКАЙ УЛАДЫ** (гіст.). Каля адміністрацыйнага будынка племзавода «Вараніно». У 1977 г. у гонар 60-годдзя Савецкай улады пастаўлена стэла з барэльефнай выявай ордэна Кастрычніцкай рэвалюцыі.

**в. Верхняя Тошчыца, цэнтр сельсавета**

**495. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 60 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1978 г. пастаўлена стэла.

**в. Ветранка, Трылесінскі сельсавет**

**496. МАГІЛА КАЗЛОВА** Марата Сяргеевіча (гіст.). На могілках. Піянер, партызанскі разведчык М. С. Казлоў нарадзіўся ў 1930 г. у в. Ветранка. У Вялікую Айчынную вайну, калі Быхаўшчыну акупіравалі нямецка-фашысцкія захопнікі, дапамагаў падпольшчыкам, якія дзейнічалі на шклозаводзе, збіраў боепрыпасы і зброю для партызан. З пачатку чэрвеня 1942 г. разведчык у партызанскай групе І. П. Дзюбы. Загінуў у ліпені 1942 г. у час разведкі варожага гарнізона ў в. Кузькавічы. Імем юнага патрыёта названа вуліца ў Быхаве, яго імя прысвоена шрагу піянерскіх дружын і атрадаў школ Быхаўшчыны, цеплаходу літоўскага марскога параходства; на тэрыторыі школы № 1 у Быхаве пастаўлены помнік.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Удальцоў.*

**497. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ГІБЕЛІ СІЎЦОВА** Канстанціна Цімафеевіча (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. 29.8.1942 г. пры размініраванні дарогі загінуў партызан 810-га атрада




**494.** *Помнік у гонар 60-годдзя Савецкай улады.*

К. Ц. Сіўцоў. У 1970 г. на месцы яго гібелі пастаўлены абеліск.

**498. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У ліпені 1941 г. сакратар Быхаўскага райкома КП(б)Б С. Е. Падольцаў стварыў на шклозаводзе «Ільіч» падпольную патрыятычную групу (больш за 10 чалавек), якая ў жніўні 1941 г. выйшла ў Дабужскі лес і пачала баявыя дзеянні супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У чэрвені 1942 г. да партызан (кіраўнік групы С. П. Мардашкін) перайшлі ўсе жыхары в. Ветранкі. У 1974 г. у гонар землякоў-партызан пастаўлены абеліск з надпісам-прысвячэннем.



**498.** *Помнік партызанам.*

**в. Вець, Абідавіцкі сельсавет**

**499. СТАЯНКІ** (археал.).

**499а.** Стаянка-1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Гутлянка, пры ўпадзенні яе ў пойму Дняпра, на пясчаным узвышшы, якое выступае над поймай на 1—1,5 м. Памер 70×40 м. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч. Даследаваў у 1959 г. І. І. Арцёменка на плошчы 81 м². Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя скрабкі, нажы, клінападобныя сякеры, фрагменты ляпной керамікі, упрыгожанай адбіткамі грэбеня, ямкамі, лапкамі.

**499б.** Стаянка-2. За 0,9 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе воз. Станавое, на невялікім пясчаным узвышшы, якое выступае на 1,6 м над поймай. Выявіў у 1926 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1954 г. І. І. Арцёменка на плошчы 121 м². У культурным пласце 0,3 м знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл, сякеры, скрабкі, ножападобныя пласціны, адшчэпы, ляпная кераміка, упрыгожаная адбіткамі грэбеня, ямкамі. Адносіцца да неаліту і бронзавага веку.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Артеменко И. И. Неолитические стоянки у с. Веть Могилевской области.— У кн.: Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях Ин-та археологии АН СССР. М., 1964, в. 97.

*А. Г. Калечыц.*

**в. Віляга, Трылесінскі сельсавет**

**500. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 41 воін 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў красавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Віляхаўка, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**501. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 42 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**502. СЕЛІШЧЫ** (археал.).

**502а.** Селішча-1. На заходняй ускраіне вёскі. З заходняга і паўднёвага бакоў селішча цячэ р. Віляхаўка. Памер 300×300 м, вышыня над поплавам ракі 10 м. Выявіў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт у верхняй частцы разараны. У ім знойдзены рэшткі грубай ляпной керамікі і фрагменты посуду 6—8 стагоддзяў. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.) і да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны.

**502б.** Селішча-2. За 1—1,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Вярхоў Хутар. Даўжыня ўздоўж берага ракі 0,3—0,4 км, шырыня 50—70 м. Выявіў у 1963 г., абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У паўночна-ўсходняй частцы знойдзена ляпная кераміка і фрагмент тыгля, у паўднёва-заходняй — грубая ляпная гладкасценная кераміка і рэшткі посуду з расчосамі, спаленыя косці чалавека і жалезнае вастрыё. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры, датуецца 2—5 стагоддзямі н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Вішанька, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**503. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 54 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Вязьма, Дунайкоўскі сельсавет**

**504. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАН** (археал.).

**504а.** Гарадзішча. За 2—3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Друць. Пляцоўка памерам 30×15 м абкружана 2 валамі, паміж якімі прасочаны роў. Вышыня валоў 0,5—1 м, глыбіня рова каля 0,7—0,8 м.




**504а.** *Гарадзішча. План.*

Вядома з 1873 г., абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У шурфе памерам 0,7×0,7 м, што быў закладзены ў цэнтры пляцоўкі, прасочаны культурны пласт каля 0,3 м. У ім знойдзена грубая ляпная кераміка з насечкамі ў версе слаба адагнутых венчыкаў і з загнутымі ўсярэдзіну верхнімі часткамі венчыкаў. Таўшчыня сценак 0,5—0,7 см, паверхня асобных чарапкоў заштрыхавана. Акрамя керамікі, у шурфе знойдзены шлак. Адносіцца да ранняга этапа зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку (2 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**504б.** Курган. За 30 м на поўдзень ад гарадзішча, на правым беразе р. Друць. Вышыня насыпу 2,5 м, дыяметр каля 7 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Л. Д. Побаль.*

**в. Вялікі Лес, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**505. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Гадылёва, Следзюкоўскі сельсавет**

**506. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 5 воінаў. Сярод пахаваных — 3 лётчыкі 101-га авіяцыйнага палка далёкага дзеяння. У ноч з 6 на 7.10.1943 г. экіпаж бамбардзіроўшчыка пад камандаваннем В. Р. Грыгор'ева бамбіў камунікацыі праціўніка на станцыі Быхаў. Выканаўшы заданне, савецкія лётчыкі вымушаны былі прыняць па дарозе назад няроўны бой са знішчальнікамі ворага, збілі 2 з іх. У няроўным баі загінулі камандзір экіпажа В. Р. Грыгор'еў, бортмеханік Д. Я. Паўлышаў і стралок Г. Хабібрахманаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Верхозин А. М. Самолеты летят к партизанам: Записки начальника штаба.— 2 изд.— М., 1966. *В. М. Удальцоў.*

**в. Гамарня, Дунайкоўскі сельсавет**

**507. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. Пахавана 6 партызан 11-й Быхаўскай партызанскай брыгады, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**508. ПОМНІК НА МЕСЦЫ БЫЛОГА ПАРТЫЗАНСКАГА ПАСТА** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. Тут у Вялікую Айчынную вайну размяшчаўся партызанскі пост. У 1972 г. на месцы яго ўстаноўлена стэла.



**509.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму, савецкіх воінаў і партызан.*



**515.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**в. Гарадзец, цэнтр сельсавета**

**509. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ, САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 460 мірных жыхароў, якія былі спалены нямецка-фашысцкімі карнікамі ў чэрвені 1942 г. і кастрычніку 1943 г., 28 воінаў і партызан, у т. л. воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баі за вызваленне вёскі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з вянком.

**510. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1959 г. пастаўлена стэла, на якой 3 дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Глухі, цэнтр сельсавета**

**511. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 35 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якая ў канцы чэрвеня 1944 г. вяла бой у раёне вёскі. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**512. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРАСОЎСКАМУ** Сцяпану Акімавічу (гіст.). На будынку школы, дзе ён вучыўся ў 1906—10 гг. Устаноўлена ў 1974 г.

Савецкі военачальнік, маршал авіяцыі (1959 г.), Герой Савецкага Саюза прафесар (1966 г.) С. А. Красоўскі нарадзіўся 8.8.1897 г. у в. Глухі ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. У 1916 г. прызваны ў царскую армію, ваяваў на Заходнім фронце. З сакавіка 1917 г. у 25-м карпусным авіяатрадзе, выбіраўся членам салдацкага камітэта. За рэвалюцыйную прапаганду сярод салдат быў арыштаваны. З лістапада 1917 г. у Чырвонай гвардыі, потым у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну на Усходнім і Каўказскім франтах: авіяматарыст, начальнік сувязі авіяатрада, ваенком авіяатрада. У 1927 г. скончыў курсы ўдасканалення начсаставу ВПС, у 1936 г.— ваеннапаветраную інжынерную акадэмію імя Жукоўскага. Камандаваў авіяцыйнымі брыгадай, корпусам, раёнам ваеннай акругі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У 1940—41 гг. начальнік авіяцыйнага вучылішча, памочнік камандуючага, камандуючы ВПС Паўночна-Каўказскай акругі. У Вялікую Айчынную вайну на Паўднёвым, Бранскім, Паўднёва-Заходнім, Варонежскім і 1-м Украінскім франтах, камандуючы ВПС 56-й арміі, ВПС Бранскага фронту, 2-й і 17-й паветранымі арміямі. Удзельнічаў у распрацоўцы і правядзенні баявых аперацый савецкіх войск пад Растовам-на-Доне,




517. *Палацава-паркавы ансамбль. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — басейн; 3 — альтанка; 4 — спальны корпус; 5, 7, 8, 9 — гаспадарчыя пабудовы; 6 — танцпляцоўка; 10 — сад.*

Сталінградам і Курскам, па фарсіраванню Дняпра, Корсунь-Шаўчэнкаўскай, Львоўска-Сандамірскай, Ніжне-Сілезскай, Берлінскай і Пражскай аперацый. Вызначыўся ўмелым камандаваннем авіяцыяй і арганізацыяй узаемадзеяння з наземнымі войскамі пры авалоданні Берлінам, Дрэздэнам і вызваленні Прагі. 29.5.1945 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. З 1945 г. на камандных пасадах у ВПС, Далёкаўсходняй, Маскоўскай, Паўночна-Каўказскай і Беларускай ваенных акругах. У 1956—68 гг. узначальваў Ваенна-паветраную акадэмію імя Гагарына. З 1970 г. ваенны інспектар-саветнік Групы генеральных інспектараў Міністэрства абароны СССР. Член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС у 1961—66 гг., член ЦК КПБ у 1956—60 гг. Аўтар кнігі «Жыццё ў авіяцыі» (3-е выд., 1976). Памёр 21.4.1983 г. у Маскве.

*В. М. Удальцоў.*

**513. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 113 жыхароў вёсак Глухі, Ямішча і Заброддзе, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці заглублены акупантамі, у 1976 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Глухская Сяліба, Чарнаборскі сельсавет**

**514. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 41 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Грудзінаўка, цэнтр сельсавета**

**515. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 110 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 187-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, што вяла тут баі ў пачатку ліпеня 1941 г., і партызан І. П. Памятнёў, які загінуў у ліпені 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**516. МАГІЛА МАЗУРАВА** Аляксандра Апанасавіча (гіст.). На могілках.

Удзельнік паўстання 14—25.6.1905 г. на эскадраным браняносцы Чарнаморскага флоту «Пацёмкін» А. А. Мазураў нарадзіўся ў 1883 г. у в. Грудзінаўка ў сялянскай сям'і. Скончыў 3 класы царкоўнапрыходскай школы, парабкаваў у графскім маёнтку. У 1904 г. прызваны на флот, служыў матросам на браняносцы «Пацёмкін». За ўдзел у паўстанні царскім ваенным судом асуджаны на 10 гадоў катаргі, якую адбываў у Харбіне і Чыце (1906—08 гг.). Пасля памілавання да 1910 г. служыў салдатам у 3-м чыгуначным батальёне. У 1-ю сусветную вайну з 1914 г. на фронце. У 1918 г. вярнуўся на радзіму. Працаваў у калгасе кавалём, механікам, на мясцовым спіртзаводзе. З нагоды 50-годдзя Рэвалюцыі 1905—07 гг. узнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга. Памёр 5.3.1957 г.



517. *Палац. Галоўны фасад.*




517. *Палац. План.*



517. *Куток парку.*

У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Удальцоў.*

**517. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Складаецца з палаца, пейзажнага парку з альтанкай і некалькіх гаспадарчых пабудоў. Цяпер тут дзіцячы дом; узведзены новы спальны корпус і інш.

П а л а ц пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы. Размешчаны на ўзгорку, з'яўляецца цэнтрам кампазіцыі ансамбля. Будынак мае цокальны паверх. Двухпавярховы цэнтральны аб'ём квадратны ў плане, накрыты чатырохсхільным дахам, увенчаным сферычным купалам. На галоўным фасадзе адкрытая паўцыркульная веранда з 6 калонамі дарычнага ордэра, высокім мураваным ганкам і вялікім балконам на 2-м паверсе. Бакавыя крылы будынка аднапавярховыя, накрыты вальмавымі дахамі. У цэнтральнай частцы левага крыла такі ж атык, як і на галоўным фасадзе. На тарцы правага крыла — паўкруглы ў плане ліхтар з паўкалонамі іанічнага ордэра, накрыты плоскім купалам. У дэкоры фасадаў шырока выкарыстаны пілястры, сандрыкі рознай канфігурацыі, кранштэйны, нішы і інш. Планіроўка калідорная (часткова зменена ў 1962 г.). Лесвічны хол, які знаходзіцца ў цэнтральнай частцы будынка, з боку дваровага фасада асвятляецца праз вялікае паўцыркульнае акно. Падлога выкладзена керамічнай пліткай, столь кесаніраваная. У астатніх частках будынка столь плоская.

П а р к закладзены ў 1-й палове 19 ст. (плошча каля 10 га). Размешчаны на роўным рэльефе з паніжэннем на паўднёвы захад. З захаду абмежаваны маляўнічым возерам (плошча 3 га), з поўначы аддзелены ад жылой забудовы невялікім гаем з лістоўніцы еўрапейскай і фруктовым садам. Высаджаныя ў цэнтральнай частцы ліпавыя алеі звязваюць палац

з возерам і ствараюць адкрытыя перспектывы. Перад верандай будынка знаходзіцца басейн (22×9 м) з фантанамі і дэкаратыўныя пасадкі елкі калючай блакітнай, дубу звычайнага, ліпы крымскай. У паўночнай частцы парку высаджаны рад туі заходняй. У ландшафтнай частцы парку ў групах і асобна растуць елка звычайная, серабрыстая, хвоя веймутава, кедр сібірскі, дуб пірамідальны, ясень пенсільванскі, таполя канадская, клён і інш.

Палацава-паркавы ансамбль — помнік архітэктуры класіцызму і садова-паркавага мастацтва.

*Літ.:* Антипов В. Г. Парки Белоруссии.— Мн., 1975. *А. А. Міцянін.*

**518. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 27 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**в. Дабужа, Трылесінскі сельсавет**

**519. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 6 км на поўдзень ад вёскі, каля ўпадзення р. Хацішча ў р. Ухлясць. Размешчана на ўзгорку вышынёй 20 м, акружаным з усіх бакоў балотам. Пляцоўка памерам 65×60 м па краі ўмацавана кальцавым валам, вышынёй 5—7 м. З усходняга, паўднёвага і заходняга бакоў на адлегласці 10—20 м ад кальцавога вала прасочаны яшчэ адзін дадатковы падковападобны вал, вышынёй каля 4 м, шырынёй 15—20 м. Рэшткі трэцяга валаназіраюцца на заходнім краі пляцоўкі. Выявіў у 1924 г. А. Рынейскі, даследавалі ў 1926—27 гг. І. А. Сербаў, у 1966 г. Л. Д. Побаль. У шурфах культурны пласт 0,3 м. У ім знойдзена грубаляпная кераміка, частка якой пакрыта штрыхамі. Адносіцца да ранняга этапа зарубінецкай культуры. Датуецца 3 ст. да н. э.— 2 ст. н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Дубінскі С. А. Археалагічная праца на Беларусі за 1919—1928 гг.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Ляпушкин И. И. Славяне Восточной Европы накануне образования Древнерусского государства (VIII век — первая половина IX в.): Историко-археологические очерки.— Л., 1968.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 152). *Л. Д. Побаль.*

**520. КУРГАН БЕССМЯРОТНАСЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У канцы верасня 1943 г. асобны Смаленскі партызанскі полк «Трынаццаць» пад камандаваннем Героя Савецкага Саюза С. У. Грышына вёў баявыя дзеянні ў міжрэччы Проні і Дняпра ў тыле 4-й нямецкай арміі. 27.9.1943 г., атрымаўшы загад штаба Бранскага фронту на злучэнне з войскамі 50-й арміі, полк выступіў у напрамку Проні. Але праціўніку ўдалося спыніць наступленне нашых войск на гэтым рубяжы. У пачатку карнікаў



520. *Курган Бессмяротнасці.*

рычніка гітлераўцы пачалі буйную аперацыю супраць партызан. Каля 25 тыс. карнікаў, узброеных артылерыяй, танкамі, з дапамогай авіяцыі блакіравалі полк на тэрыторыі Трылесінскага сельсавета (Боўкінскі лес). У акружэнне трапіла таксама частка сіл 15-га партызанскага палка, 17-й партызанскай брыгады і атрада «Перамога». Пад аховай партызан знаходзілася больш за 20 тыс. мірных жыхароў. У ходзе баёў, якія працягваліся з 3 да 18 кастрычніка, народныя мсціўцы нанеслі карнікам вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы, прарвалі варожае кальцо ў заходнім і паўднёва-ўсходнім напрамках і вывелі з сабой насельніцтва. Асабліва вызначыліся ў баях батальёны палка «Трынаццаць» пад камандаваннем М. І. Масквіна, І. Т. Мацяша, П. І. Звяздаева і атрад «Перамога» (камандзір К. І. Новікаў).

У 1966 г. у гонар партызан насыпаны Курган Бессмяротнасці. На вяршыні яго ўстаноўлены сяміметровы абеліск. На пастаменце — 4 дошкі з надпісамі-прысвячэннямі.

*Літ.:* Москвин Н. И. Партизанскими тропами.— М., 1971. *В. М. Удальцоў.*

**в. Дальняе Ляда, Баркалабаўскі сельсавет**

**521. СТАЯНКІ** (археал.).

**521а.** Стаянка-1. На ўсходняй ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе Дняпра. Выявіў у 1966 г. В. М. Мотуз, абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. У агаленні правага берага ракі і ў траншэі ваеннага часу знойдзены расшчэплены крэмень, крамянёвыя кароткія скрабкі, нуклеусы, пласціны і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку.

**521б.** Стаянка-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра (вышыня над узроўнем вады 12 м). Памеры 50×200 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1—0,2 м. Знойдзена больш за 3 тыс. расшчэпленых крамянёў, сярод іх нуклеусы, адшчэпы, пласціны, скрабкі, сякеры з перахватам, вастрыі, праколкі, вербалістыя наканечнікі стрэл. Адносіцца да ранняга мезаліту.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Исследование памятников эпохи мезолита в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1973 года. М., 1974; яго ж. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, в. 149. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Дзедава, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**522. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 8 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 5-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, што вялі тут баі ў канцы лютага 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**523. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ЗЛУЧЭННЯ ПАРТЫЗАН БЫХАЎСКАЙ ВАЕННА-АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ З ВОЙСКАМІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі.

Напярэдадні аперацыі войск 1-га Беларускага фронту па разгрому рагачоўскай групоўкі нямецка-фашысц-



521б. *Стаянка-2.*



521б. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-2.*



527. *Вайсковыя могілкі.*

кіх войск камандаванне 3-й арміі фронту наладзіла сувязь з кіраўніцтвам Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы, якая размяшчалася паблізу вёсак Барсукі і Навастройка, у тыле абарончага рубяжу праціўніка. З дапамогай партызан была праведзена дакладная разведка ўмацаванняў ворага, размяшчэння баявой тэхнікі і вайсковых падраздзяленняў. Рагачоўская аперацыя пачалася 21.2.1944 г. Часці 80-га стралковага корпуса каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на пераправіліся па лёдзе цераз Дняпро і, пераадольваючы супраціўленне праціўніка, рушылі да Druці. Актыўныя дзеянні ў тыле праціўніка разгарнула Быхаўская ваенна-аператыўная група. З яе дапамогай лыжны батальён 5-й стралковай дывізіі пад камандаваннем маёра Б. Я. Каваленкі 23.2. 1944 г. раптоўным ударам з тылу разграміў варожы гарнізон на станцыі Тошчыца. 24 лютага ў ходзе далейшага наступлення войскі 80-га стралковага корпуса каля в. Дзедава злучыліся з партызанамі і выйшлі на р. Друць. З нагоды паспяховага завяршэння аперацыі 26 лютага ў в. Шапчыцы (Рагачоўскі р-н) адбыўся мітынг воінаў і партызан, партызанскі парад.

У 1974 г. на месцы злучэння партызан з воінамі Чырвонай Арміі пастаўлены абеліск, на ім — мармуровая дошка з надпісам-прысвячэннем.

*В. М. Удальцоў.*

**524. РАДЗІМА ЦЕМЧУКА** Васіля Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. І. Цямчук нарадзіўся ў 1920 г. на хутары Хаткі, што быў непадалёку ад в. Дзедава, у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У пачатку 1930-х гадоў пераехаў у г. Шахты. Працаваў шахцёрам. Пазней скончыў палкавую школу зенітчыкаў. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім фронце. У складзе разліку зенітнаартылерыйскага палка яфрэйтар В. І. Цямчук збіў 5 варожых самалётаў, прыкрываў савецкія войскі на Букрынскім плацдарме. Загінуў 22.10. 1943 г. пры адбіцці атакі 27 пікіруючых бамбардзіроўшчыкаў праціўніка. Пахаваны ў в. Ходараў Міронаўскага р-на Кіеўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Быхаве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Дуброва, Чарнаборскі сельсавет**

**525. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля аўтамабільнай дарогі Магілёў — Бабруйск. Пахаваны 380 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны-артылерысты 172-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, якія трыма гарматамі прынялі тут у пачатку ліпеня 1941 г. няроўны бой з нямецкімі танкамі. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

*Літ.:* Краснознаменный Белорусский военный округ.— 2 изд.— М., 1983.

**в. Дунаёк, цэнтр сельсавета**

**526. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 145 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны або ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.



532. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**пас. Заводчык, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**527. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад пасёлка. Пахаваны 75 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі зімой — вясной 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**в. Залатва, Чарнаборскі сельсавет**

**528. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**пас. Залатое Дно (не існуе), Верхнятошчыцкі сельсавет**

**529. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ПАСЁЛКА** (гіст.). Пасёлак Залатое Дно быў размешчаны на поўнач ад станцыі Тошчыца. У Вялікую Айчынную вайну жыхары пасёлка трымалі сувязь з партызанамі, дапамагалі ім весці разведку. У ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі пасёлак, арыштавалі ўсіх працаздольных мужчын, астатніх жыхароў выгналі з дамоў, пабудовы спалілі. У агні загінула хворая жанчына; згарэла 10 дамоў. Пасля вайны пасёлак не адрадзіўся. У 1973 г. на месцы былога пасёлка пастаўлены мемарыяльны знак.

*А. Ф. Гарошка.*

**в. Замошша, Гарадзецкі сельсавет**

**530. МАГІЛА РУДКОЎСКАГА** Віктара Лукіча (гіст.). На могілках. Юны разведчык 1-га батальёна 425-га партызанскага палка В. Л. Рудкоўскі загінуў у 1944 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заячэнне, Лудчыцкі сельсавет**

**531. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Ірдзіца. Пахаваны 75 воінаў 519-га стралковага палка 13-й арміі, якія загінулі ў ліпені 1941 г., і воіны 413-й стралковай дывізіі 50-й арміі 1-га Беларускага фронту, што вялі тут баі ў канцы лютага 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Іскань, Абідавіцкі сельсавет**

**532. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 156 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 17-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту, якія вялі бой за вёску ў лістападзе 1943 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**пас. Калініна,**
**Навабыхаўскі сельсавет**

**533. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 231 воін. Сярод пахаваных — воіны 121-га стралковага корпуса 50-й арміі 1-га Беларускага фронту.

21—25.2.1944 г. войскі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту праводзілі аперацыю па аваладанню буйным апорным пунктам ворага г. Рагачоў (Рагачоўская аперацыя). З мэтай прыкрыць правы фланг 3-й арміі на захопленым плацдарме 121-ы стралковы корпус 50-й арміі ў ноч на 23.2.1944 г. фарсіраваў па лёдзе Днепр і з баямі выйшаў на рубеж населеных пунктаў Тайманава — Магучы — Землеробства. Баі ў гэтым раёне вёў да вясны 1944 г., пасля чаго быў выведзены на ўсходні бераг Днепра ў раён Быхава.

У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

*Літ.:* Теремов П. А. Пылающие берега.— М., 1965; Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд..— М., 1974.

*В. М. Удальцоў.*

**534. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 4 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на могілках былога пасёлка Магучы.

У 37 брацкіх і 3 адзіночных магілах пахаваны 501 воін. Сярод пахаваных — воіны 121-га стралковага корпуса 50-й арміі, якія загінулі зімой і вясной 1944 г. у баях за дняпроўскі плацдарм на тэрыторыі Навабыхаўскага сельсавета, і 169-й стралковай дывізіі 3-й арміі, што загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Быхаўшчыны; перазахаваны Героі Савецкага Саюза Сундуткалі Іскаліеў, Уладзімір Кірылавіч Мартынаў, Гулям Якубаў. Гл. таксама артыкул № 553 «Мемарыял воінскай славы».

С. Іскаліеў нарадзіўся ў 1924 г. у с. Канстанцінаўка Чынгірлаўскага р-на Уральскай вобл. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г., аўтаматчык стралковай роты 556-га стралковага палка. Вызначыўся пры вызваленні Быхаўскага р-на. У ноч на 24.6.1944 г. у складзе перадавога атрада палка ўдзельнічаў у прарыве варожай абароны каля пас. Янава. Адным з першых уварваўся ў траншэі праціўніка, у рукапашным баі знішчыў некалькі фашыстаў. У крытычны момант бою закрыў амбразуру варожага дзота сваім целам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем героя названы вуліцы ў Мінску і Быхаве. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

У. К. Мартынаў нарадзіўся 17.3.1919 г. у в. Дальнавідава Зелягошчынскага р-на Арлоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Да вайны працаваў у калгасе, з 1939 г.— на заводзе ў Златавусце. З 1941 г. на фронце. Вызначыўся пры прарыве абароны праціўніка каля пас. Янава 24.6.1944 г. Стралковая рота пад яго камандаваннем захапіла вышыню і ў акружэнні на працягу 19 гадзін адбівала контратакі гітлераўцаў, знішчыла 470 салдат і афіцэраў. У гэтым баі У. К. Мартынаў загінуў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названа вуліца ў Быхаве. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

Г. Якубаў нарадзіўся 15.9.1915 г. у кішлаку Мірзабад Ленінскага р-на Андзіжанскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг., потым працаваў на радзіме намеснікам дырэктара саўгаса «Савой». У 1941 г. скончыў курсы ўдасканалення камсаставу. На фронце з 1942 г. 24.6.1944 г. рота аўтаматчыкаў пад камандаваннем капітана Г. Якубава ў складзе перадавога атрада 556-га стралковага палка прарвала абарону праціўніка каля пас. Янава і выйшла да в. Лудчыцы. Тут яна трапіла ў акружэнне, 20 гадзін вяла бой з намнога большымі сіламі фашыстаў, адбіла 40 контратак, знішчыла 425 гітлераўцаў. Г. Якубаў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Імем героя названы вуліцы ў Мінску і Ленінску; у Ленінску яго імя прысвоена піянерскай дружыне СШ № 7 і пастаўлены помнік. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

У 1969 г. на могілках пастаўлены помнік: скульптура воіна ў жалобе, на брацкіх магілах устаноўлены пліты з імёнамі загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*



533. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



535. *Помнік землякам.*

**в. Касічы, Баркалабаўскі сельсавет**

**535. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 50 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Клятное, Ямніцкі сельсавет**

**536. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі летам 1944 г. паблізу вёскі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск. Побач з ім на ўшанаванне памяці 32 жыхароў вёскі, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Красніца 1-я,**
**Следзюкоўскі сельсавет**

**537. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 346 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія вялі тут баі

25—27.3.1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**538. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. 17.7.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі ці спалілі жывымі 696 жыхароў, спалілі 283 двары. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1967 г. пастаўлены абеліск.

**539. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 95 землякоў — воінаў, партызан і мірных жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**540. ПОМНІК НАДТАЧЭЕВУ** Георгію Мяфодзьевічу (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі.

Герой Савецкага Саюза Г. М. Надтачэеў нарадзіўся ў 1916 г. у сялянскай сям'і ў в. Красніца 1-я Быхаўскага р-на. У 1940 г. скончыў Магілёўскі аэраклуб. Працаваў электраманцёрам на чыгунцы ў Магілёве. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. З студзеня 1944 г. у 16-м гвардзейскім штурмавым авіяпалку. 31.1.1944 г. у час штурмоўкі варожага аэрадрома самалёт камандзіра групы штурмавікоў быў падбіты, і экіпаж зрабіў вымушаную пасадку ў раёне размяшчэння праціўніка. Г. М. Надтачэеў гарматна-кулямётным агнём разагнаў фашыстаў, што беглі да самалёта, пасадзіў побач сваю машыну, узяў у яе экіпаж камандзіра і вярнуўся на свой аэрадром. Загінуў 25.4.1944 г. у баі за Севастопаль. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 13.4.1944 г.

У 1969 г. на ўшанаванне памяці героя пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Кузькавічы, Следзюкоўскі сельсавет**

**541. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 57 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**542. ПОМНІК РАЎЧАКОВУ** Фёдару Фёдаравічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы.

Герой Савецкага Саюза Ф. Ф. Раўчакоў нарадзіўся 14.9.1910 г. у в. Кузькавічы ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. З 1928 г. у Чырвонай Арміі. Скончыў палкавую школу малодшых камандзіраў, у 1933 г. ваенна-ветэрынарную фельчарскую школу, у 1943 г. 2-е Маскоўскае пяхотнае вучылішча. З 1937 г. працаваў на ветучастках у Бярдзічаўскім р-не. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, 2-м і 1-м Беларускіх франтах. 29.7.1944 г. 274-я стралковая дывізія падышла да Віслы. Рота



543. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

старшага лейтэнанта Ф. Ф. Раўчакова з боем фарсіравала раку, захапіла плацдарм і за 2 дні адбіла 8 контратак ворага, што забяспечыла поспех фарсіравання ўсёй дывізіяй. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Да 1946 г. у Чырвонай Арміі. На радзіме працаваў у Кузькавіцкай МТС намеснікам дырэктара. З канца 1947 г. жыў і працаваў у Ленінградзе. Памёр 20.4.1952 г.

У 1976 г. на ўшанаванне памяці героя пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Кучын, Чарнаборскі сельсавет**

**543. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 партызан-камсамольцаў.

Летам 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі сіламі да 4 дывізій з танкамі і артылерыяй пры падтрымцы авіяцыі пачалі блакаду партызан Клічаўскага аператыўнага цэнтра. Баі з намнога большымі сіламі ворага цягнуліся больш за месяц. 9.8.1942 г. 61-ы партызанскі атрад (камандзір Р. К. Паўлаў) быў акружаны. Прыкрыць прарыў таварышаў па зброі ўзяліся 15 партызан-камсамольцаў на чале з намеснікам камандзіра атрада па камсамолу лейтэнантам Я. Ф. Каўшыркам. Да іх далучыліся 4 байцы 255-га атрада, якія вярталіся з баявога задання. 10 гадзін вялі бой патрыёты каля в. Кучын. 17 з іх загінулі смерцю герояў, цаной свайго жыцця забяспечылі выхад партызан з блакады.

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла з барэльефнай выявай 2 партызан і надпісам-прысвячэннем. *В. М. Удальцоў.*

**в. Лазаравічы, Навабыхаўскі сельсавет**

**544. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**545. РАДЗІМА САЛОДЫШАВА** Арцёма Іванавіча — Героя Савецкага Саюза (гіст.). Гл. артыкул № 460 «Магіла Салодышава Арцёма Іванавіча».

**в. Леніна, Навабыхаўскі сельсавет**

**546. ПОМНІК ПАДОЛЬЦАВУ** Сяргею Ерафеевічу І **ТАМІЛУ** Аляксею Пятровічу (гіст.). У цэнтры вёскі. У ліпені 1942 г., патрапіўшы на варожую засаду каля пас. Янава, у баі загінулі арганізатары патрыятычнага падполля і партызанскага руху на Быхаўшчыне сакратар Быхаўскага райкома КП(б)Б С. Е. Падольцаў і член райкома КП(б)Б, дырэктар Кузькавіцкай МТС А. П. Таміла. У 1974 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлена стэла. Імем С. Е. Падольцава названы пасёлак у Быхаўскім р-не (былы пас. Сцяпанькава).

**547. СЕЛІШЧА, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**547а.** Селішча. За 0,8 км на поўнач ад вёскі. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У сценках траншэі часоў Вялікай Айчыннай вайны выяўлены добра абпаленая ляпная гладкасценная грубая і з расчосамі кераміка з дамешкай жарствы ў цесце, абломак шарападобнага неарнаментаванага грузіка. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны. Датуецца 6—8 стагоддзямі.

**547б.** Бескурганны могільнік. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, за 1 км на паўднёвы ўсход ад р. Чанаўка (старыца Дняпра). Памер 75—80×40—50 м. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У сценках траншэі часоў Вялікай Айчыннай вайны і шурфах выяўлены вялікая колькасць спаленых касцей і рэшткі ляпной керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання селішча і могільніка захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Ліпаўка, Баркалабаўскі сельсавет**

**548. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1971 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**в. Лісічнік, Грудзінаўскі сельсавет**

**549. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Паха-

ваны 34 воіны. Сярод пахаваных — воіны 187-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, якія вялі баі на тэрыторыі сельсавета ў пачатку ліпеня 1941 г.

У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лубянка, Гарадзецкі сельсавет**

**550. МАГІЛА АТРОШКАВА** Анатоля Ягоравіча (гіст.). На могілках. Партызан 425-га палка А. Я. Атрошкаў загінуў 21.7.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**551. ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Захавалася часткова.

Кампазіцыя будынка падоўжна-восевая. Асноўны зруб, блізкі ў плане да квадрата, накрыты пакатым чатырохсхільным шатром. Больш нізкія зрубы алтара і бабінца роўныя памерамі, квадратныя ў плане, накрыты двухсхільнымі дахамі. Да бабінца прыбудаваны каркасны прытвор, аб'яднаны з ім агульным дахам. Сцены не ашаляваны. Вокны прамавугольныя, не маюць аздобы.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*




551. *Царква. План.*

**в. Лудчыцы, цэнтр сельсавета**

**552. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 206 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 110, 169, 413-й стралковых дывізій, якія ў 1944 г. вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на тэрыторыі сельсавета. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**553. МЕМАРЫЯЛ ВОІНСКАЙ СЛАВЫ** (гіст., маст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на Лудчыцкай вышыні — месцы жорсткіх баёў у Вялікую Айчынную вайну. Узведзены ў 1984 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых савецкіх воінаў, у гонар іх мужнасці і гераізму, воінскага братэрства.

У лістападзе 1943 г.— чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Быхаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў удзельнічалі воіны 3-й арміі 1-га Беларускага і 50-й арміі 2-га Беларускага франтоў — сыны многіх народаў Савецкай Айчыны. У баях за вышыню і за вызваленне Быхаўшчыны неўміручыя подзвігі здзейснілі рускія Іван Андрэевіч Барысевіч, Пётр Дзмітрыевіч Вінічэнка, Барыс Яўгенавіч Каваленка, Уладзімір Кірылавіч Мартынаў, Яфім Барысавіч Фрадкоў; грузін Галакціён Самсонавіч Размадзе, узбек Гулям Якубаў, казах Сундуткалі Іскаліеў. Усім ім прысвоена высокае званне Героя Савецкага Саюза. Імёны 6 з іх увекавечаны ў мемарыяле.

І. А. Барысевіч — камандзір гарматнага разліку, старшы сяржант, вызначыўся ў баях 22—28.3.1944 г. (гл. артыкул № 605 «Помнік Барысевічу Івану Андрэевічу»).

П. Дз. Вінічэнка — камандзір мінамётнай роты, старшы лейтэнант, загінуў у баі 25.11.1943 г. (гл. артыкул № 601 «Магіла Вінічэнкі Пятра Дзмітрыевіча»).

С. Іскаліеў — аўтаматчык стралковай роты, радавы, загінуў у ноч на 24.6.1944 г., перазахаваны на брацкіх могілках у пас. Калініна Быхаўскага р-на (гл. артыкул № 534 «Брацкія могілкі савецкіх воінаў»).

У. К. Мартынаў — камандзір стралковай роты, старшы лейтэнант, загінуў у баі 24.6.1944 г. Перазахаваны на брацкіх могілках у пас. Калініна Быхаўскага р-на (гл. артыкул № 534 «Брацкія могілкі савецкіх воінаў»).

Г. С. Размадзе нарадзіўся 21.8. 1913 г. у с. Цмендауры Онскага р-на Грузінскай ССР у сялянскай сям'і.



553. *Мемарыял воінскай славы.*



553. *Мемарыял воінскай славы. Баян.*

Член КПСС з 1941 г. Скончыў Кутаіскі сельскагаспадарчы тэхнікум (1934 г.), Тбіліскую школу Міністэрства ўнутраных спраў (1940 г.), курсы «Выстрал» (1945 г.). Працаваў аграномам у зямельным аддзеле Онскага р-на, следчым МВД у Тбілісі. У Чырвонай Арміі з 1935 г. Летам 1938 г. удзельнічаў у разгроме японскіх захопнікаў каля возера Хасан. У Вялікую Айчынную вайну на 1-м і 2-м Беларускіх франтах. Вызначыўся ў час Рагачоўскай аперацыі 1944 г. 21.2. 1944 г. стралковая рота пад камандаваннем капітана Г. С. Размадзе першай у палку пераправілася цераз Днярро каля в. Кісцяні Рагачоўскага р-на і захапіла траншэю праціўніка. Г. С. Размадзе асабіста знішчыў разлік варожага кулямёта. 23 лютага ў баі за чыгуначную станцыю Тошчыца Быхаўскага р-на рота адбіла 5 контратак праціўніка. Тройчы паранены, Г. С. Размадзе працягваў кіраваць боем. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.7.1944 г. Да 1946 г. служыў у Савецкай Арміі, маёр. Да 1967 г. на адміністрацыйнай рабоце. Жыве ў Маскве.

Г. Якубаў — камандзір роты аўтаматчыкаў, капітан, загінуў 24.6.1944 г., перазахаваны на брацкіх могілках у пас. Калініна Быхаўскага р-на (гл. артыкул № 534 «Брацкія могілкі савецкіх воінаў»).

Мемарыял Воінскай Славы (скульпт. П. Белавусаў, У. Лятун, архіт. В. Бяляпкін, М. Мызнікаў; бетон, граніт, сілумін, бронза; вышыня фігуры 10 м, гарэльефаў 2,5 м) уяўляе сабой скульптурна-архітэктурную кампазіцыю. На кургане пастаўлена сілумінавая сімвалічная фігура Баяна, які ўслаўляе подзвігі воінаў-герояў. Каля падножжа кургана на авальнай пляцоўцы размешчана ўвагнутая сцяна-стэла з пагруднымі выявамі 6 Герояў Савецкага Саюза, якія вызначыліся ў баях з ворагам на Быхаўшчыне. Ніжэй бронзавымі літарамі напісаны іх імёны. Побач устаноўлена абліцаваная гранітам стэла з інфармацыйным надпісам, запалены Вечны агонь. Злева ад уваходу да помніка 16 флагоў, што сімвалізуюць адзінства народаў Савецкай Радзімы.

Па ініцыятыве членаў калгаса «Беларусь» і рашэннем Быхаўскага райкома КПБ, камсамольскай арганізацыі раёна поле каля мемарыяла аб'яўлена полем баявой і працоўнай славы, высокай культуры земляробства. Права працаваць на ім атрымліваюць звенні і брыгады хлебаробаў, якія дасягнулі самых высокіх паказчыкаў у сацыялістычным спаборніцтве. Пераможцам спаборніцтва ўстаноўлены прыз імя ўвекавечаных у мемарыяле герояў.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*Л. Г. Лапцэвіч, В. М. Удальцоў.*

**554. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**554а.** Паселішча-1. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на вышыні 11—12 м над летнім меžанным узроўнем вады ў р. Рдзіца (правы прыток Дняпра). Выявіў у 1972 г. і даследаваў у 1972—73 гг. на плошчы 130 м² В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,3 м, залягаў пад пластом супеску на глыбіні 0,5—0,8 м ад паверхні. Знойдзены рэшткі жытла авальнай формы, паглыбленага ў мацярык на 0,1—0,2 м. За 2 м на захад ад яго прасочана агнішча дыяметрам 0,6 м. Знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, вастрыі, прылады з выемкамі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да ранняга мезаліту. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**554б.** Паселішча-2. За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Рдзіца. Выявіў і абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. У агаленнях сабраны крамянёвыя канцавыя і



554а. *Паселішча-1.*



554а. *Крамянёвыя прылады працы з паселішча-1.*

круглаватыя скрабкі, бакавыя і вуглавыя разцы, вастрыі, праколкі, прылады з выемкамі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, в. 149. *В. Ф. Капыцін.*

**555. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Ляжанка, Грудзінаўскі сельсавет**

**556. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 450 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мокрае, Холстаўскі сельсавет**

**557. ПОМНІК ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 28.6.1944 г. у ходзе летняга наступлення войск 2-га Беларускага фронту 324-я стралковая дывізія 50-й арміі вызваліла шэраг населеных пунктаў Быхаўскага р-на на правым беразе Дняпра, у т. л. в. Мокрае. У 1976 г. у гонар вызваліцеляў пастаўлена стэла. Побач — стэла з імёнамі 156 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**558. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На галоўнай вуліцы вёскі. Пабудавана ў 1865 г. з дрэва.

У кампазіцыі будынка дамінуе квадратны ў плане асноўны аб'ём, які раней быў завершаны светлавым барабанам з купалам. Пры перабудове ў 1930-я гады зроблены двухсхільны дах з залобкам і плоская падшыўная столь унутры. Да асноўнага аб'ёму прылягаюць больш нізкая пяцігранная апсіда, а таксама аб'ядданыя ў адным выцягнутым зрубе дадатковы аб'ём і бабінец, над якім раней была званіца. Па баках апсіды нізкія сіметрычныя рызніцы. Сцены гарызантальна ашаляваны, умацаваны лапаткамі. Аконныя праёмы з паўкруглымі завяршэннямі аздоблены фігурнымі ліштвамі. Дэкаратыўныя дэталі афарбаваны. Уваходы ў будынак — цэнтральны і 2 бакавыя.



558. *Успенская царква. План.*



559. *Помнік К. С. Заслонаву.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**в. Ніжняя Тошчыца, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**559. ПОМНІК ЗАСЛОНАВУ Канстанціну Сяргеевічу** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Заслонава. Бюст К. С. Заслонава ўстаноўлены ў 1976 г.

**560. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 45 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**561. СЕЛІШЧА, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**561а.** Селішча. За 2 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа, на левым беразе р. Ташчанка ў месцы ўпадзення яе ў Дняпро. Адкрыў і даследаваў у 1962 г. Л. Д. Побаль. Знаходкі трапляюцца ўздоўж ракі на працягу 0,4 км пры шырыні 0,2 км. У 2 раскопах агульнай плошчай 108 м² знойдзены 108 абломкаў ляпнога посуду, у т. л. фрагменты глянцаваных пасудзін і кераміка з расчосамі. У мацерыку выяўлены рэшткі паўзямлянкі і шмат розных ям. Знойдзены жалезны нож, глінянае біканічнае прасліца, сярэбраны пярсцёнак, рэшткі ганчарнай керамікі. Селішча адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры (4—5 стагоддзі), культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі) і эпохі Кіеўскай Русі.

**561б.** Бескурганны могільнік. За 80 м на поўдзень ад селішча. Адкрыў у 1962 г. і даследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. На плошчы каля 2 га прасочваюцца знаходкі кальцыніраваных касцей. Даследавана 12 пахаванняў на плошчы 2040 м². Выяўлены 3 групы пахаванняў: ямныя (4), урнавыя (4) і мяшаныя (4). У 4 урнавых пахаваннях знойдзены абломкі ляпных пасудзін, у адной з іх — глінянае біканічнае прасліца з вялікай адтулінай. Недалёка ад аднаго з пахаванняў была выяўлена паўзямлянка памерам 3,2×2,8 м з каменным агнішчам. Даследаваны 3 гаспадарчыя ямы, у адной з іх разам з керамікай бронзавага веку знойдзены гладкасценны венчык ад гаршка мілаградскай культуры. Могільнік адносіцца да ранняга жалезнага веку (2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э.).

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Ніканавічы, Чырвонаслабодскі сельсавет**

**562. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэн-



560. *Помнік землякам.*



564. *Помнік на магілах савецкіх воінаў.*

тры вёскі, каля Дома культуры. Пахаваны 223 воіны і партызаны. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі Беларускага фронту, што загінулі ў канцы 1943 г.— пачатку 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 163 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск з імёнамі загінуўшых.

**в. Новы Быхаў, цэнтр сельсавета**

**564. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 476 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 102-й стралковай дывізіі 63-га стралковага корпуса, якая вяла баі ў ліпені 1941 г. на рубяжы Тайманава — Віляхаўка, 283-й і 108-й стралковых дывізій 3-й арміі 1-га і 50-й арміі 2-га Беларускіх франтоў, якія загінулі 24.2.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на месцы пахавання пастаўлены помнік — скульптура воіна на пастаменце, побач — стэла на ўшанаванне памяці 102 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**565. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, уздоўж высокага старога рэчышча Дняпра. Памеры 400×100 м. Адкрыў і даследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У раскопе агульнай плошчай 16 м² выяўлены культурны пласт 0,5—0,7 м. У ім знойдзены фрагменты ляпнога посуду бронзавага і ранняга жалезнага веку, а таксама ганчарная кераміка, у т. л. кераміка з расчосамі і глянцаваная. У мацерыку былі прасочаны 10 рознычасовых ям глыбінёй 0,4 м і адна гаспадарчая дыяметрам 1,4 м, глыбінёй 0,4 м. Селішча адносіцца да 2 ст. да н. э.— 5 ст. н. э. (зарубінецкая культура) і раннефеадальнага часу.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*




565. *Селішча. План.*

**566. СТАЯНКІ** (археал.)



566а. *Стаянка-1.*



566б. *Агульны выгляд раскопу стаянкі-2.*

**566а.** Стаянка-1. На паўночнай ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 250×50 м. Выявіў у 1904 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1924—28 гг. С. С. Шутаў, у 1926 г. І. А. Сербаў, у 1980—83 гг. В. Ф. Капыцін. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,2 м. У ім знойдзены крамянёвыя пласціны, адшчэпы, нуклеусы, скрабкі, разцы, нажы. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**566б.** Стаянка-2. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 40×150 м. Выявіў у 1980 г. і даследаваў у 1982—83 гг. В. Ф. Капыцін. Раскопамі і шурфамі ўскрыта 142 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,1—0,4 м ад паверхні. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, наканечнік стралы, бакавыя, сярэдзінныя і вуглавыя разцы, разцы на вуглу зламанай пласцінкі, канцавыя скрабкі, вырабы з выемкамі, пласціны-ўкладышы, праколкі, вастры. Адносіцца да позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.). Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**566в.** Стаянка-3. На захад ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Чыстая Лужа. Выявіў у 1924 г. С. С. Шутаў. Раскопкі не праводзіліся.

**566г.** Стаянка-4. На поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Адаменка, ва ўрочышчы Папова Грыва. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— Вильно, [1912]; Ляўданскі А. М. Раскопкі і археалагічныя разведкі ў Барысаўскім павеце; Сляды неалітычнай стаянкі і пазнейшых культур каля м. Новага Быхава.— Мн., 1925; Будько В. Д., Митрофанов А. Г. Археология в Белоруссии за советский период.— Советская археология, 1967, № 4; Копытин В. Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981.

*В. Ф. Капыцін*



566б. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-2.*

**в. Нараж, Лудчыцкі сельсавет**

**567. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 71 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**568. СТАЯНКА** (археал.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі, на мысе, каля ўпадзення р. Рдзіца ў пойму Дняпра. Выявіў у 1977 г. і даследаваў у 1980, 1982, 1983 гг. В. Ф. Капыцін. Ускрыта 67 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,1—0,5 м ад паверхні. Калекцыя крамянёвага інвентару налічвае больш за 1000 прадметаў, у т. л. 130 прылад працы (наканечнікі стрэл, вастрыі, бакавыя, сярэдзінныя разцы, разцы на вуглу зламанай пласцінкі, канцавыя, паўкруглыя, двайныя, стральчатыя скрабкі, прылады сякучых форм, сякеркі з перахватам, цёслы). Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Пагоркі, Абідавіцкі сельсавет**

**569. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 54 воіны. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі восенню 1943 г. у баях супраць



568. *Стаянка. Агульны выгляд раскопу.*



568. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*



571. *Помнік Ф. А. Смалячкову.*

нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Падгор'е, Чырвонаслабодскі сельсавет**

**570. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на высокім правым беразе р. Трасцянка. Пляцоўка квадратнай формы з закругленымі вугламі, памерам 25×25 м, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй каля 2 м. Выявіў у 1963 г. У. М. Сівагракаў. Раскопкі не праводзіліся.

**571. ПОМНІК СМАЛЯЧКОВУ** Феадосію Арцёмавічу (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

Герой Савецкага Саюза Ф. А. Смалячкоў нарадзіўся ў 1923 г. у в. Падгор'е Быхаўскага раёна ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. Скончыў школу фабрычна-заводскага навучання ў Ленінградзе. Працаваў мулярам на новабудоўлях горада, адначасова займаўся ў снайперскай школе. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны ў 5-й дывізіі народнага апалчэння Выбаргскага р-на Ленінграда. Пазней баец асобнай разведроты 13-й стралковай дывізіі 42-й арміі Ленінградскага фронту. Выступіў ініцыятарам снайперскага руху на фронце, падрыхтаваў 10 снайпераў, знішчыў 125 ворагаў. Слава выдатнага снайпера выклікала жах у фашыстаў. Для барацьбы з ім і яго вучнямі фашысты стварылі спецыяльныя падраздзяленні. Загінуў у баі 15. 1. 1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.2.1942 г. Імем героя названы вуліцы ў Ленінградзе, Мінску, Быхаве, населены пункт у Ленінградскай вобл. Імя Ф. А. Смалячкова прысвоена саўгасу ў Быхаўскім р-не, гарадскому стралковаму клубу ДТСААФ у Ленінградзе. Пастаўлены помнікі ў Ленінградзе, в. Вараніно (гл. артыкул № 493 «Помнік Смалячкову Феадосію Арцёмавічу»).

У 1975 г. на радзіме пастаўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. М. Удальцоў.*

**пас. Пакроўскі, Навабыхаўскі сельсавет**

**572. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад пасёлка, на правым беразе Дняпра. Памер 150×150 м. Вышыня над поплавам 3—4 м. Выявіў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У абрывах берага, агаленнях і шурфах сабрана грубая ляпная кераміка позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі), кераміка 6—8 стагоддзяў і кальцыніраваныя косці. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Палкі, Абідавіцкі сельсавет**

**573. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 298 воінаў і парты-



573. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

зан. Сярод пахаваных — воіны 283-й і 269-й стралковых дывізій 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы 1943 г.— пачатку 1944 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**574. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 61 жыхара вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1977 г. пастаўлены абеліск.

**575. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Жданава. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1976 г.

**576. ПОМНІК УМУРДЗІНАВУ** Мухітдзіну (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі.

Герой Савецкага Саюза М. Умурдзінаў нарадзіўся 28.3.1912 г. у кішлаку Байстан Кувінскага р-на Ферганскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. З 1928 г. працаваў у калгасе, вучыўся ў будтэхнікуме. У Чырвонай Арміі з 1937 г. У Вялікую Айчынную вайну са студзеня 1942 г. на Бранскім, Цэнтральным, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Памочнік камандзіра ўзвода старшы сяржант М. Умурдзінаў вызначыўся 5.8.1943 г. у баях пад Арлом і пры вызваленні Магілёўскай вобл. 4.1.1944 г. у крытычны момант бою за в. Палкі ўзначаліў атаку байцоў роты і захапіў важную вышыню, што забяспечыла выкананне баявой



575. *Помнік У. І. Леніну.*

задачы. 21.2.1944 г. 269-я стралковая дывізія 3-й арміі вяла бой за Дняпроўскі плацдарм каля Рагачова. М. Умурдзінаў замяніў камандзіра ўзвода, адным з першых пераправіўся цераз раку і на працягу сутак разам з байцамі адбіваў контратакі гітлераўцаў. У баі пад Быхавам быў цяжка паранены. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 4.6.1944 г. Пасля вайны жыў і працаваў у калгасе «Камунізм» Кувінскага р-на. Памёр 21.5. 1981 г. Ганаровы грамадзянін Быхава. На радзіме яго імем названы школа і вуліца.

У 1974 г. на ўшанаванне подзвігу героя пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Палянінавічы, Абідавіцкі сельсавет**

**577. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 80 воінаў 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту, якія вялі баі за вёску ў канцы лістапада — пачатку снежня 1943 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**578. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 135 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1976 г. пастаўлены абеліск.



574. *Помнік землякам.*

**в. Перакладавічы, Грудзінаўскі сельсавет**

**579. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі летам 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Першае Мая, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**580. СЕЛІШЧА, МАЙСТЭРНЯ** (археал.).

**580а.** Селішча. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Ташчанка, ва ўрочышчы Новая Пасека. Плошча каля 1 га. Даследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. У раскопе плошчай 78 м² культурны пласт каля 0,4 м. У ніжнім гарызонце выяўлены рэшткі ляпной керамікі, шлакі, у верхнім — фрагменты ганчарнага посуду. Адносіцца да 6—8 стагоддзяў н. э. (культура тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны) і да раннефеадальнага часу.

**580б.** Майстэрня. За 1—1,2 км ад селішча, уверх па цячэнні р. Ташчанка. Абследаваў у 1963 г. Л. Д. Побаль. Знойдзены шлакі і крыцы. Адносіцца да раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы раскопак селішча і абследавання майстэрні захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Праточнае, Дунайкоўскі сельсавет**

**581. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе Чыгірынскага вадасховішча. 3 насыпы вышынёй 3,5 м, дыяметрам 14 м. Выявіў і абследаваў у



576. *Помнік М. Умурдзінаву.*



578. *Помнік землякам.*

1981 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Прыбар,**
**Чырвонаслабодскі сельсавет**

**582. ПОМНІК БЫЧАНКОВУ** Дзяпісу Яфімавічу (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі.

Адзін з кіраўнікоў камсамольска-маладзёжнага падполля на Быхаўшчыне Дз. Я. Бычанкоў нарадзіўся ў 1924 г. у в. Ніканавічы Быхаўскага р-на. Скончыў сямігадовую школу, настаўніцкія курсы, працаваў настаўнікам у Смаліцкай школе. У Вялікую Айчынную вайну ў чэрвені 1941 г. добраахвотнікам пайшоў на фронт. Быў паранены. У ліпені 1942 г. ЦК ЛКСМБ накіраваны ўпаўнаважаным у Быхаўскі р-н з мэтай арганізацыі ў тыле ворага камсамольска-маладзёжнага падполля і збору разведвальных звестак. Быў намеснікам камісара 810-га партызанскага атрада па камсамолу. У ноч на 26.8.1943 г. пры вяртанні з разведкі трапіў на варожую засаду і загінуў.

У 1973 г. на месцы гібелі пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**в. Прыбераржжа,**
**Грудзінаўскі сельсавет**

**583. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у ліпені 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**584. МАГІЛА САДЧАНКІ** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі І. І. Садчанка загінуў 12.7.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рыжкаўка, Грудзінаўскі сельсавет**

**585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля бальніцы. Пахаваны 5 воінаў 187-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, якія загінулі летам 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**586. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 7 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 187-й стралковай дывізіі 13-й арміі Заходняга фронту, якія вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі сельсавета ў ліпені 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**587. МАГІЛА ЛЕЎЧАНКІ** Рыгора Рыгоравіча (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе ва ўрочышчы Касіншчына. Воін Чырвонай Арміі Р. Р. Леўчанка загінуў у ліпені 1941 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рэзкі, Гарадзецкі сельсавет**

**588. МАГІЛА ГРОСА** Мікалая Мікалаевіча (гіст.). Ва ўрочышчы Трасоўшчына. Партызан 425-га партызанскага атрада 6-й Магілёўскай брыгады М. М. Грос загінуў 20.3.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сапяжынка, Холстаўскі сельсавет**

**589. ПОМНІК У ГОНАР ШТАБА РУСКАЙ 2-й ЗАХОДНЯЙ АРМІІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У канцы чэрвеня — пачатку ліпеня 1812 г. 2-я Заходняя армія генерала П. І. Баграціёна (45 тыс. чалавек) пад націскам намнога большых напалеонаўскіх войск (297 тыс. чалавек) адыходзіла ад Магілёва, каб пераправіцца цераз Дняпро і ў раёне Смаленска злучыцца з 1-й Заходняй арміяй пад камандаваннем М. Б. Барклая дэ Толі. Каб перашкодзіць ажыццяўленню гэтага плана, 1-ы французскі корпус Л. Даву (72 тыс. чалавек) зрабіў спробу адрэзаць рускую армію ад ракі з боку Магілёва і ва ўзаемадзеянні з іншымі часцямі акружыць яе і разграміць. 11.7.1812 г. у баі каля в. Салтанаўка намер французаў быў сарваны гераічнымі дзеяннямі 15-тысячнага 7-га пяхотнага корпуса 2-й Заходняй арміі пад камандаваннем генерала М. М. Раеўскага. У час бою штаб 2-й Заходняй арміі пад камандаваннем П. І. Баграціёна размяшчаўся ў в. Сапяжынка.

У 1962 г. у гонар штаба 2-й Заходняй арміі П. І. Баграціёна пастаўлена стэла.

*Літ.:* Клаузевиц К. 1812 год / Пер. с нем.— М., 1937. *В. М. Удальцоў.*



589. *Помнік у гонар штаба рускай 2-й Заходняй арміі.*

**в. Сарочына,**
**Баркалабаўскі сельсавет**

**590. ПОМНІК У ГОНАР КАМУНЫ ІМЯ К. ЛІБКНЕХТА** (гіст.). У цэнтры вёскі.

16.2.1919 г. у былым маёнтку «Сарочына» памешчыка Радкевіча была створана першая на Быхаўшчыне сельскагаспадарчая працоўная камуна імя К. Лібкнехта. Арганізаваў і ўзначаліў камуну былы старшыня Быхаўскага падпольнага падраённага камітэта РКП(б) Ц. І. Сарокін. Аб'ядноўвала 30 батракоў і сялян-беднякоў. У 1924 г. камунары атрымалі першы трактар. У 1927 г. у камуне працавалі 150 чалавек. Дзейнічалі па-



590. *Помнік у гонар камуны імя К. Лібкнехта.*

равы млын, крухмальны завод, невялікая лесапільня. У 1927 г. на Усебеларускім сельскагаспадарчым конкурсе камуна атрымала дыплом першынства.

У 1972 г. у памяць аб першай на Быхаўшчыне камуне пастаўлена стэла. *В. М. Удальцоў.*

**в. Следзюкі, цэнтр сельсавета**

**591. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 80 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам. Побач у 1972 г. пастаўлена стэла на ўшанаванне памяці 59 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны.

**592. РАДЗІМА АСКАЛЕНКІ** Дзмітрыя Яфімавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Дз. Я. Аскаленка нарадзіўся ў 1920 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС. Скончыў 3 курсы Мінскага політэхнічнага тэхнікума (1937 г.), Ленінградскае авіяцыйнае вучылішча. З 1937 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір эскадрыллі 26-га гвардзейскага знішчальнага авіяцыйнага палка старшы лейтэнант Дз. Я. Аскаленка абараняў Ленінград, збіў 14 самалётаў праціўніка. Адзін з першых авіялодаў тэхнікай начных палётаў. Загінуў 26.9.1942 г. пры выкананні баявога задання ў раёне в. Неўская Дуброўка (Ленінградская вобл.). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 14.2.1943 г.

Імем героя названы эскадрылля, якой ён камандаваў, вуліцы ў Ленінградзе і Быхаве. На будынку Следзюкоўскай школы, дзе ён вучыўся, у 1970 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Смаліца, Трылесінскі сельсавет**

**593. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 65 землякоў, якія загінулі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады і на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**пас. Студзёнка, Глухскі сельсавет**

**594. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 6 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**595. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Раніцай 26.6. 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі акружылі вёску, сагналі жыхароў у некалькі вялікіх будынкаў і спалілі. Загінулі 442 жыхары. На ўшанаванне памяці ахвяр фашызму ў 1963 г. пастаўлены помнік: скульптура жанчыны ў жалобе і пліта з надпісам-прысвячэннем.

**596. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. На ўшанаванне памяці 87 жыхароў вёскі Падрабінкі, пас. Зялёны Гай і Студзёнка, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Сушчоў, Холстаўскі сельсавет**

**597. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Воін Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**598. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 106 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Сялец, Абідавіцкі сельсавет**

**599. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, каля шашы Магілёў — Доўск. Пахаваны 219 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі, якія загінулі тут у лютым 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**600. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка пошты. Пахаваны 337 воінаў і партызан палкоў «Трынаццаць» і 15-га, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту.

22.11.1943 г. 283-я дывізія пад камандаваннем палкоўніка В. А. Канавалава разам з іншымі часцямі пачала наступленне з паўднёвага плацдарма на р. Сож у бок Дняпра і на трэці дзень баёў авалодала важным апорным пунктам абароны ворага — в. Сялец. Але 26 лістапада фашысты перакінулі сюды з-пад Оршы 95-ю пяхотную дывізію і перайшлі ў контрнаступленне. Пасля няроўнага бою, у якім было знішчана 8 танкаў, шмат жывой сілы праціўніка, часці 283-й дывізіі часова пакінулі вёску.

У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974. *В. М. Удальцоў.*



**599.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**600.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**601. МАГІЛА ВІНІЧЭНКІ** Пятра Дзмітрыевіча (гіст.). Каля будынка пошты.

Герой Савецкага Саюза П. Дз. Вінічэнка нарадзіўся ў 1911 г. у с. Мартынаўка Суджанскага раёна Курскай вобл. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з верасня 1941 г. Камандзір мінамётнай роты старшы лейтэнант П. Дз. Вінічэнка вызначыўся ў 1943 г. пры вызваленні Гомельшчыны. У баях за авалоданне важным апорным пунктам абароны праціўніка рота пад яго камандаваннем нанесла ворагу вялікія страты ў жывой сіле і тэхніцы і гэтым садзейнічала поспеху наступлення іншых падраздзяленняў. Загінуў у баі за в. Сялец 25.11.1943 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 553 «Мемарыял воінскай славы».

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**602. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**603. МАГІЛА ТЫРЫШКІНА** Пятра Мікалаевіча (гіст.). За 4 км на поўдзень ад вёскі. Воін Чырвонай Арміі П. М. Тырышкін загінуў у 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**601.** *Помнік на магіле П. Дз. Вінічэнкі.*

**604. МЕСЦА РАЗМЕЖАВАННЯ 1-га І 2-га БЕЛАРУСКІХ ФРАНТОЎ У 1944 г.** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Магілёў — Гомель.

У ходзе Рагачоўскай аперацыі войск 1-га Беларускага фронту (21—25.2. 1944 г.) вайсковыя падраздзяленні 50-й арміі выйшлі да Дняпра ў раён в. Сялец, дзе разам з 3-й арміяй удзельнічалі ў захопе плацдарма на правым беразе ракі. Далейшае наступленне войск фронту часова (да пачатку Беларускай аперацыі 23.6—29.8. 1944 г.) было перапынена. 24.4.1944 г. утвораны 2-і Беларускі фронт, у які ўвайшла 50-я армія. Лінія размежавання войск 1-га і 2-га Беларускіх франтоў праходзіла праз вёскі Сялец, Камарычы і далей на захад.

У 1972 г. месца размежавання франтоў пазначана стэлай з надпісам-інфармацыяй. *В. М. Удальцоў.*

**605. ПОМНІК БАРЫСЕВІЧУ** Івану Андрэевічу (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на беразе Дняпра.

Герой Савецкага Саюза І. А. Барысевіч нарадзіўся 13.3.1917 г. у в. Аляксандраўка Балахцінскага р-на Краснаярскага краю ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1939 г. прызваны ў Чырвоную Армію. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім, Бранскім, 2-м Беларускім франтах. Вызначыўся на тэрыторыі Быхаўшчыны ў час баёў за Дняпроўскі плацдарм. 22.2.1944 г. гарматны разлік пад яго камандаваннем у складзе батарэі 971-га артылерыйскага палка разам з перадавым атрадам 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі пераправіўся на правы бераг Дняпра і падтрымліваў наступленне пяхоты. У крытычны момант бою, застаўшыся адзін з усяго разліку жывым, паранены, адбіваў контратаку гітлераўцаў, знішчыў 2 танкі, а трэці прымусіў павярнуць. 25—28 сакавіка з разлікам гарматы адбіў некалькі атак праціўніка і ўтрымаў важную пазіцыю. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г. Пасля вайны быў на гаспадарчай рабоце, жыў у Краснаярску. Памёр 21.11.1981 г.

У 1972 г. на месцы подзвігу пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**606. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 80 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1976 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**607. СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**607а.** Селішча-1. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Баброўка, за 0,5 км ад правага берага Дняпра. Адкрыў у 1960 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт 0,2 м прасочваецца з боку берага ў агаленні. У ім знойдзены кераміка позняга этапа зарубінецкай культуры і рэшткі посуду 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

**607б.** Селішча-2. За 2 км на паўночны захад ад вёскі. Адкрыў у 1960 г., даследаваў у 1962 г. Л. Д. Побаль. Знаходкі трапляюцца ўздоўж абрыву берага Дняпра на адлегласці 0,2—0,3 км. Знойдзены абломкі ляпнога посуду 1-га тысячагоддзя н. э., кераміка з расчосамі 2—5 стагоддзяў н. э., а таксама ганчарная кераміка. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі.

**607в.** Курганны могільнік. У паўночнай частцы селішча. 30 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыў у 1880 г. А. С. Увараў, даследавалі ў 1882 г. М. М. Турбін, у 1962 г. І. І. Арцёменка, у 1957 г. і 1960 г. Л. Д. Побаль і В. М. Мельнікоўская. Раскапана 7 насыпаў. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне (6 насыпаў) і трупаспаленне (1 курган). Знойдзены 3 сярэбранікі кіеўскага князя Уладзіміра Святаславіча і адна ўсходняя манета Армана Рашыда. Датуецца эпохай Кіеўскай Русі.

Матэрыялы даследавання селішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Мельниковская О. Н. Древнейшие городища Южной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та истории



**604.** *Помнік на месцы размежавання 1-га і 2-га Беларускіх франтоў у 1944 г.*

матэрыяльной культуры. М., 1957, в. 70; Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**в. Сяліба, Гарадзецкі сельсавет**

**608. РАДЗІМА СТАНКЕВІЧА** Гемела Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Г. М. Станкевіч нарадзіўся 8.3.1924 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1948 г. У 30-я гады з бацькамі пераехаў у Ленінград, працаваў на заводзе «Электрык» (1941—42 гг.). З 1943 г. у Чырвонай Арміі. У 1944 г. скончыў 1-е Харкаўскае танкавае вучылішча. З лістапада 1944 г. на 1-м Украінскім фронце. Вызначыўся ў баях за г. Губен (Германія). 24.2.1945 г. танкавы ўзвод пад яго камандаваннем адным з першых уварваўся ў горад. Пры адбіцці адной з контратак праціўніка танк камандзіра ўзвода малодшага лейтэнанта Г. М. Станкевіча загарэўся. Экіпаж машыны ліквідаваў агонь і працягваў бой. За 4 дні баёў знішчыў 3 самаходныя гарматы, 2 танкі, 4 гарматы, 3 мінамёты, каля 180 салдат і афіцэраў праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.6.1945 г. Пасля вайны да 1951 г. служыў у Савецкай Арміі. У 1955 г. скончыў юрыдычны інстытут у Ташкенце, працаваў следчым. Памёр 5.1.1962 г. Яго імем названа вуліца ў Быхаве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**в. Тайманава, Навабыхаўскі сельсавет**

**609. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля сельскага Дома культуры. На ўшанаванне памяці 188 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.



**606.** *Помнік землякам.*

**610. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,1—0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Плошча 8—9 га. Вышыня над узроўнем поймы ракі 3—4 м. Адкрыў у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, даследаваў у 1960, 1967—83 гг. Л. Д. Побаль. У шурфах і раскопах пад дзёрнавым пластом выяўлены рэшткі грубай ляпной гладкасценнай добра абпаленай керамікі з дамешкай жарствы ў цесце. Адносіцца да зарубінецкай культуры ранняга жалезнага веку, датуецца 2—4 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі. *Л. Д. Побаль.*

**611. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Грэбелька. Плошча каля 1 га. Выявіў у 1964 г. і абследаваў у 1983 г. Л. Д. Побаль. У сценках траншэй часоў Вялікай Айчыннай вайны знойдзены рэшткі ляпнога посуду і ганчарная кераміка. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**612. СЕЛІШЧА, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**612а.** Селішча. За 0,1—0,2 км на поўнач ад вёскі, паміж р. Белалічка і поймай Дняпра. Памер 800×200 м. Выявіў у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, даследаваў у 1964—82 гг. Л. Д. Побаль. Знойдзены рэшткі 50 паўзямлянкавых жытлаў на плошчы 20 м², а таксама ямы ад наземных і паглыбленых у зямлю жытлаў слупавой канструкцыі, рэшткі каменных агнішчаў. Сярод знаходак — вырабы з жалеза, бронзы, шкла, грубаляпная і гладкасценная кераміка, рэшткі глянцаванага посуду, шлакі, крыцы, абпаленыя камяні. Селішча адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры (2—5 стагоддзі н. э.), культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі н. э.) і да эпохі Кіеўскай Русі.

**612б.** Бескурганны могільнік. У паўночнай і заходняй частках селішча. Выявіў у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, даследаваў у 1967—83 гг. Л. Д. Побаль. Ускрыта 202 пахаванні. Пахавальны абрад— трупаспаленне ў круглых і прадаўгаватых ямах. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры. Датуецца 2—5 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання селішча і могільніка захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *Л. Д. Побаль.*

**чыг. ст. Тошчыца, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**613. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля чыгуначнага вакзала. Пахаваны 520 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі і 121-га стралковага корпуса 50-й арміі, якія зімой — летам 1944 г. вялі тут баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**614. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На поўнач ад чыгуначнай станцыі, ва ўрочышчы Гарэлая Казарма. Пахаваны 34 воіны. Сярод пахаваных — воіны 121-га стралковага корпуса 50-й арміі, якія ў канцы лютага 1944 г. вялі тут баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**615. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На поўнач ад чыгуначнай станцыі, каля раз'езда Залатое Дно. Пахаваны 89 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 121 стралковага корпуса 50-й арміі Заходняга фронту, што загінулі ў пачатку лютага 1944 г. пры вызваленні былога пасёлка Залатое Дно.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**616. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На поўнач ад чыгуначнай станцыі. У 7 магілах пахаваны 29 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі тут у канцы лютага 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. пастаўлены абеліск.

**617. МАГІЛА ГРЫГОР'ЕВА** Аляксея Міхайлавіча **І ТАСКАЕВА** Васіля Аляксандравіча (гіст.). Каля чыгуначнай станцыі, на могілках. Воіны Чырвонай Арміі А. М. Грыгор'еў (1919 г.— 6.5.1944 г.) і В. А. Таскаеў (1898 г.— 26.6.1944 г.) загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1944 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**618. МАГІЛА КАЛПАКОВА** Герасіма Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Маёр Чырвонай Арміі Г. Я. Калпакоў (нарадзіўся 17.3.1909 г.) загінуў 8.6.1944 г. пры вызваленні Быхаўшчыны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**619. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На будынку вакзала. Устаноўлена ў 1973 г. у гонар партызан Быхаўскай ваенна-аператыўнай групы, якія пад камандаваннем Ф. П. Падаляна правялі 5.9. 1943 г. баявую аперацыю па разгрому нямецкага гарнізона на чыгуначнай станцыі Тошчыца. Народныя



624. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

мсціўцы знішчылі ці паранілі больш за 120 варожых салдат, разбурылі 6 дзотаў, падарвалі 200 рэек.

**620. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦЕМЧУКУ** Васілю Іванавічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза В. І. Цемчука. Гл. арт. № 524 «Радзіма Цемчука Васіля Іванавіча».

**в. Трасцівец, Холстаўскі сельсавет**

**621. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі, якія загінулі 26.6.1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**622. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА БАРАНКЕВІЧУ** Пятру Іванавічу (гіст.). У вёсцы на доме, дзе ён нарадзіўся. Устаноўлена ў 1975 г. на ўшанаванне памяці аднаго з першых камсамольцаў на Быхаўшчыне, актыўнага змагара за Савецкую ўладу П. І. Баранкевіча. Гл. артыкул № 457 «Брацкая магіла барацьбітоў за Савецкую ўладу, савецкіх воінаў і партызан».

**в. Трылесіна, цэнтр сельсавета**

**623. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 51 земляка, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1977 г. пастаўлены абеліск і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Ульянова, Навабыхаўскі сельсавет**

**624. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля лесу. Пахаваны 81 воін. Сярод пахаваных — воіны 108-й стралковай дывізіі 50-й арміі, якія вялі бой за вёску ў 2-й палове лютага 1944 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**625. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4—0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Адаменка, ва ўрочышчы Печышча. Памер 300×150 м. Вышыня над узроўнем поймы каля 4 м. Выявілі ў 1960 г. Л. Д. Побаль і Я. І. Бібікаў, даследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У культурным пласце 0,3—0,6 м знойдзена вялікая колькасць грубай ляпной керамікі з дамешкай невялікай колькасці жарствы ў гліне, у т. л. 2 фрагменты керамікі з арнаментам у выглядзе перавітай вяровачкі, абпаленыя камяні і шлак. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры, датуецца 2—5 стагоддзямі н. э.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Усходняя, Глухскі сельсавет**

**626. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 81 земляка з вёсак Усходняя, Званцоўка, Новая Слабодка, Сланеўшчына, пасёлкаў Селішча і Уенск, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці загублены гітлераўцамі ў час акупацыі раёна, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**пас. Ухлясць, Трылесінскі сельсавет**

**627. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 4078 савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў. Сярод пахаваных — воіны 19-га стралковага корпуса 50-й арміі, партызаны палкоў «Трынаццаць», 15-га, падпольшчыкі




625. *Селішча. План.*



627. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і падпольшчыкаў.*

патрыятычнай групы (дзейнічала па шклозаводзе «Ільіч»), якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Хадуцічы, Баркалабаўскі сельсавет**

**628. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 39 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Хамічы, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**629. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Кокатава. Пахаваны 151 воін. Сярод пахаваных — воіны 5-й і 283-й стралковых дывізій 3-й арміі, якія загінулі ў лютым і чэрвені 1944 г. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**630. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**630а.** Г а р а д з і ш ч а. За 3 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Друць, ва ўрочышчы Гарадок, у лесе. Пляцоўка памерам 40×20 м. Вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ 13 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 0,5 м, шырынёй 10 м. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У шурфе, які быў закладзены ў цэнтры пляцоўкі, знаходак не было. Фрагменты ляпной керамікі выяўлены ў абрыве берага ракі, дзе гарадзішча

размываецца вадой. Адносіцца да мілаградскай і ранняга этапа зарубінецкай культур.

**630б.** Селішча. Побач з гарадзішчам. Плошча 0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. На паверхні і ў абрывах берага р. Друць знойдзена грубая ляпная кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка з хвалістым і лінейным арнаментам раннефеадальнага часу.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Хачынка, Чырвонаслабодскі сельсавет**

**631. МАГІЛА ІВАНЬКОВАЙ** Валянціны Антонаўны (гіст.). На могілках. Партызанка 15-га партызанскага палка В. А. Іванькова ў кастрычніку 1943 г. у час разведкі варожага гарнізона натрапіла каля в. Хачынка на варожую засаду і загінула.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**632. МАГІЛА САКАЛЕНКІ** Таісіі Іосіфаўны (гіст.). На могілках.

У час акупацыі Быхаўшчыны нямецка-фашысцкімі захопнікамі камуніст Т. І. Сакаленка разам з іншымі членамі патрыятычнага падполля, якое дзейнічала на шклозаводзе «Ільіч», дапамагала партызанам. Калі гітлераўцы напалі на след падпольшчыкаў, яна пайшла да партызан. У кастрычніку 1943 г., выконваючы заданне 15-га партызанскага палка, натрапіла каля в. Хачынка на варожую засаду. Пасля допытаў і катаванняў гітлераўцы расстралялі патрыётку.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Холстава, цэнтр сельсавета**

**633. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны-дэсантнікі, якія летам 1942 г. у час разведкі на шашы Бабруйск — Магілёў натрапілі на варожую засаду. Параненых воінаў фашысты прывезлі ў в. Холстава, дзе пасля катаванняў расстралялі. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**630.** *Гарадзішча. Селішча. План.*



**634.** *Помнік землякам.*

**634. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 67 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла, на якой дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Цвёрдава, Чарнаборскі сельсавет**

**635. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**636. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля клуба. На ўшанаванне памяці 78 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**637. СТАЯНКА** (археал.). За 4 км на паўднёвы захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць. Памер 25×50 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт залягае на глыбіні 0,2—0,4 м ад паверхні. Знойдзены крамянёвыя пласціны, нуклеусы, адшчэпы, скрабкі, разцы, праколкі, прылады працы з выемкамі, рэтушоры. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Чачэвічы, Чарнаборскі сельсавет**

**638. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 76 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Чырвоная Беларусь, Ямніцкі сельсавет**

**639. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 140 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія ў канцы чэрвеня 1944 г. вялі тут баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Чырвоная Слабада, цэнтр сельсавета**

**640. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 880 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 80-га стралковага корпуса 3-й арміі Беларускага фронту.

У лістападзе — пачатку снежня 1943 г. у выніку пасняхова праведзе-



**640.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

най аперацыі войскі левага крыла 3-й арміі выйшлі да Дняпра ад в. Сялец да в. Гадзілавічы. На правым флангу 3-й арміі вораг працягваў утрымліваць участак плошчай 10×12 км у міжрэччы Ухлясці і Баброўкі, што перашкаджала далейшаму наступленню савецкіх войск. 4.1.1944 г. войскі 80-га стралковага корпуса з усходу і поўдня атакавалі пазіцыі праціўніка і ў ходзе двухдзённых баёў вызвалілі тэрыторыю Чырвонаслабодскага сельсавета.

У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974; Горбатов А. Наступление войск 3-й армии на рогачевском направлении.— Военно-исторический журнал, 1961, № 1. *В. М. Удальцоў.*

**641. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 191 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Чырвоны Асавец, Грудзінаўскі сельсавет**

**642. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 77 воінаў і партызан. Сярод пахаваных — воіны 380-й стралковай дывізіі 121-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у час разведкі боем абарончага рубяжа праціўніка. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

**643. МАГІЛА КАСЦЕНІЧА** Ерафея Васілевіча (гіст.). Каля будынка школы.

Рускі вучоны ў галіне афтальмалогіі Е. В. Касценіч нарадзіўся 4.10.1854 г у в. Азёрная (былая в. Мужычок) Хоцімскага р-на. У 1883 г. скончыў Пецярбургскую ваенна-медыцынскую акадэмію. Доктар медыцынскіх навук (1887 г.), прафесар (1893 г.). У 1894—1900 гг. прафесар ваеннага шпіталя ў Варшаве, загадчык вочнай клінікі, дырэктар вочнай лячэбніцы ў Пецярбургу (1900—05 гг.). Дзякуючы яго хірургічнай аперацыі і лячэнню, быў вернуты зрок выдатнаму рускаму вучонаму Дз. І. Мендзялееву. На летніх канікулах бясплатна лячыў і рабіў хірургічныя аперацыі сялянам Магілёўскай і інш. губерняў. Асноўныя працы па афтальмалогіі. Удасканаліў шэраг афтальмалагічных аперацый. Памёр 24.12.1905 г.

У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск. *В. М. Удальцоў.*

**в. Чырвоны Бераг, Верхнятошчыцкі сельсавет**

**644. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 98 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**645. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г. да 100-годдзя з дня нараджэння правадыра.

**в. Ямнае, цэнтр сельсавета**

**646. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**пас. Янава, Навабыхаўскі сельсавет**

**647. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**647а.** Гарадзішча. За 0,2 км на поўнач ад пасёлка. Памер пляцоўкі 50×40 м. З вонкавага боку ўмацавана дугападобным валам вышынёй каля 5 м і ровам глыбінёй 1,5 м. Адкрыў у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка, абследаваў у 1962 г. К. П. Шут. У шурфах выяўлены культурны пласт каля 1 м. Знойдзена кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур, эпохі Кіеўскай Русі. У паўднёвай частцы гарадзішча ў вале былі знойдзены рэшткі спаленых драўляных умацаванняў.

**647б.** Курганны могільнік. За 1 км на поўнач ад пасёлка. 5 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1951 г. Ю. У. Кухарэнка. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *Л. Д. Побаль.*

**648. СЕЛІШЧА** (археал.). Паміж пасёлкам і гарадзішчам. За 0,5 км на поўдзень ад гарадзішча, на правым беразе Дняпра, паміж 2 ярамі. Даўжыня з захаду на ўсход каля 0,2 км, шырыня каля 120 м. Адкрыў у 1960 г. і даследаваў у 1967 г. Л. Д. Побаль. У раскопе плошчай 20×2 м выяўлены культурны пласт 0,4—0,6 м. У ім знойдзены кераміка 1-га тысячагоддзя н. э. (39 буйных фрагментаў грубай ляпной гладкасценнай керамікі, 14 абломкаў посуду з расчосамі), ганчарная кераміка (13 буйных венчыкаў), рыбалоўны кручок вялікіх памераў. У мацерыку выяўлены ямы ад слупоў. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры, 6—8 стагоддзяў і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*




**647а.** *Гарадзішча. План.*

**649. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на поўнач ад пасёлка, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра (15—16 м над летнім межанным узроўнем вады). Выявіў у 1962 г. К. П. Шут, даследаваў у 1972—73 гг. В. Ф. Капыцін. На глыбіні 0,4 м ускрыта 3 скопішчы расшчэпленага крэменю памерам 4×5 м, якія ўяўляюць сабой майстэрні па вырабу прылад працы. Калекцыя крамянёвага інвентару налічвае больш за 2 тыс. экземпляраў. Сярод іх наканечнікі стрэл, бакавыя, сярэдзінныя і вуглавыя разцы, канцавыя скрабкі, прылады з выемкамі, вастрыі, пласціны з рэтушшу і адшчэпы. Адносіцца да ранняга мезаліту.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970; Копытин В. Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР, 1977, в. 149. *В. Ф. Капыцін.*



**649.** *Стаянка.*



**649.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*




# БЯЛЫНІЦКІ РАЁН

Іскра
Ількавічы
Забалоцце
Галоўчын
Алешкавічы
Ланькава
Рагач
Малы Кудзін
Лічынка
Заазер'е
Эсьмоны
Навасёлкі
Камяніца
Вішоў
БЯЛЫНІЧЫ
Ермалавічы
Свяцілавічы
Вял. Машчаніца
Лямніца
Рудня
Асавец
Забалоцце
Лебядзянка
Заполле
Цяхцін
Замачулле
Пільшычы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя),

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

**V. БЯЛЫНІЧЫ**

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Друць (прыток Дняпра). За 44 км на захад ад Магілёва, на аўтамабільнай дарозе Мінск — Магілёў.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца з канца 16 ст. як мястэчка Аршанскага павета Вялікага княства Літоўскага. Уладальнік Бялыніч канцлер вялікі літоўскі Л. Сапега заснаваў тут у 1624 г. кляштар кармелітаў, у якім працавала друкарня. У 1756—61 гг. пабудаваны касцёл кармелітаў у стылі барока (не захаваўся). Пазней Бялынічы належалі Агінскім, Радзівілам. З 1772 г. у складзе Расійскай імперыі, цэнтр воласці Магілёўскага павета. У 2-й палове 19 ст.— 279 драўляных дамоў, народнае вучылішча, лячэбніца, вінакурны завод, млын і крупадзёрка. У 1897 г.— 2215 жыхароў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак Магілёўскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну з 6.7.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў пасёлку і раёне 1968 чалавек. Барацьбу насельніцтва з ворагам узначальвалі падпольныя райкомы КП(б)Б (8.3.1943 г.— 30.6.1944 г.) і ЛКСМБ (14.2.1943 г.— 30.6.1944 г.). Дзейнічалі Бялыніцкае камуністычнае падполле, партызанскія фарміраванні Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы. Выдавалася газета «Народные мстители» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. 10.9.1943 г. партызаны і падпольшчыкі нанеслі моцны ўдар па варожым гарнізоне ў Бялынічах. У 1944 г. на тэрыторыі раёна змагалася з ворагам партызанскае злучэнне «Трынаццаць». Пасёлак вызвалены ад гітлераўцаў 29.6.1944 г. воінамі 32-й і 42-й стралковых дывізій 49-й арміі 2-га Беларускага фронту. У перыяд акупацыі райцэнтр значна разбураны.

Генплан забудовы Бялыніч распрацаваны ў 1968 г. Магілёўскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект», праекты дэталёвай планіроўкі цэнтра — у 1974 г. і 1980 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. Прадугледжана развіццё пасёлка ў паўночным напрамку, размяшчэнне прамысловай зоны на поўдзень ад аўтамабільнай дарогі Магілёў — Мінск. Галоўная вуліца — Савецкая забудавана гандлёвымі ўстановамі, 2- і 3-павярховымі жылымі дамамі. На ёй 2 плошчы, якія склаліся гістарычна. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр размешчаны на плошчы, што ў паўночнай частцы вуліцы. Тут знаходзяцца будынкі райкома КПБ, райвыканкома, раённага аддзялення Дзяржбанка, гасцініцы і інш. На другой плошчы, што ў паўднёвай частцы вул. Савецкай, будынкі культурна-асветных устаноў. На вул. Мічурына сфарміраваны мікрараён з 3—5-павярховых жылых дамоў. Пераважае аднапавярховая забудова сядзібнага тыпу. Працуюць масласырзавод, крухмальны завод, хлебазавод, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, 2 асфальтавыя заводы, камбінат бытавога абслугоўвання. У пасёлку сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча, 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, дапаможная школа-інтэрнат, 5 дашкольных устаноў, Дом культуры, Дом піянераў і школьнікаў, мастацкі музей імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Зара камунізму». Помнікі: У. І. Леніну; В. К. Бялыніцкаму-Бірулі; Вызвалення; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, савецкіх воінаў і партызан; ахвярам фашызму.

Зона адпачынку — у заходняй частцы Бялыніч, каля р. Друць. Тут знаходзяцца парк, спартыўныя збудаванні.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Список населенных мест Могилевской губернии.— Могилев, 1910; Могилевская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976.

*А. М. Кулагін, Э. М. Савіцкі.*

**650. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, на могілках. Пахаваны 29 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені — ліпені 1941 г. і ў баях за вызваленне Бялыніч і навакольных населеных пунктаў 28—30.6.1944 г. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.



V. *Забудова вуліцы Савецкай.*

**651. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст., маст.). Вул. Савецкая, у парку. Пахаваны 347 воінаў 32-й дывізіі 69-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях 29—30.6.1944 г. ці памерлі ад ран у чэрвені — ліпені 1944 г. Тут таксама пахаваны 21 партызан, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Барыс Львовіч Хігрын.

Б. Л. Хігрын нарадзіўся 1.8.1909 г. у г. Орша ў рабочай сям'і. Член КПСС з 1929 г. У Чырвонай Арміі з 1931 г. Скончыў Маскоўскае артылерыйскае



V. *Фрагмент жылой забудовы пасёлка.*

вучылішча ў 1933 г. На фронце з 1941 г. Камандзір артылерыйскага дывізіёна капітан Б. Л. Хігрын вызначыўся 5.7.1941 г. у баі на р. Вусліўка каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Магілёў. Дывізіён пад яго камандаваннем адбіў некалькі варожых атак і затрымаў наступленне гітлераўцаў на ўсходнім беразе ракі. Б. Л. Хігрын замяніў параненага наводчыка і асабіста падбіў 4 танкі праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.8.1941 г. Яго імем названы вуліцы ў г. п. Бялынічы і в. Вялікая Машчаніца. Навечна занесены ў спісы вайсковай часці.

У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком. У 1985 г. да помніка пракладзена алея Герояў. На высокіх пастаментах устаноўлены бюсты (скульпт. А. Крохалеў, У. Крохалеў, Р. Рубінштэйн, Дз. Шыманскі; граніт, бетон; вышыня бюстаў 1 м, пастаментаў — 2 м) Герояў Савецкага Саюза А. М. Касаева, Л. Дз. Лорчанкі, С. Р. Церашкевіча, Б. Л. Хігрына, якія змагаліся супраць акупантаў на тэрыторыі раёна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**652. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад г. п. Бялынічы. Пахавана больш за 1500 жыхароў гарадскога пасёлка і навакольных вёсак, якіх 12.12.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі.

У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**653. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ДАЙНЕКУ** Валерыю Аляксандравічу (гіст.). Вул. Дайнекі, 6, на будынку раённага аграпрамысловага аб'яднання. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці В. А. Дайнекі, які



658. *Помнік У. І. Леніну.*

загінуў 19.10.1978 г. пры выкананні абавязкаў народнага дружынніка. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі. Імем В. А. Дайнекі названа вуліца ў Бялынічах.

**654. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦЕЛЯШАВУ** Віктару Антонавічу (гіст.). Вул. Леніна, 61, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1973 г. на ўшанаванне памяці міліцыянера В. А. Целяшава, які загінуў 22.7.1973 г. пры выкананні службовых абавязкаў. Узнагароджаны ордэнам Чырвонай Зоркі.

**655. МЕСЦА ДЗЕЙНАСЦІ БЯЛЫНІЦКАГА КАМУНІСТЫЧНАГА ПАДПОЛЛЯ** (гіст.).

У Вялікую Айчынную вайну ў раёне дзейнічала камуністычнае падполле. Створана ў ліпені 1941 г. Налічвала больш за 30 чалавек. Аб'ядноўвала 2 падпольныя групы — у Бялынічах і в. Вялікі Трылесін. Кіраўнікі падполля І. С. Корзун, Л. У. Бабіч, І. А. Марозаў, У. В. Лапухін. Падпольшчыкі вялі агітацыйную работу сярод насельніцтва, мелі радыёпрыёмнік. С. І. Старавойтаў і У. С. Талан, якія працавалі на радыёвузле акупантаў, прымалі, размнажалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро. Падпольшчыкі трымалі сувязь з партызанамі, перадалі ім 4 кулямёты, каля 50 вінтовак, шмат патронаў, медыкаменты, паведамлялі звесткі аб гарнізонах ворага, зрывалі вываз моладзі на катаргу ў Германію. Разам з партызанамі ў маі 1943 г. зрабілі дыверсію на складзе збожжа, у верасні 1943 г. разбілі варожы гарнізон у Бялынічах. У кастрычніку 1943 г., каб пазбегнуць арышту, патрыёты пайшлі ў лес, змагаліся з ворагам у партызанскіх атрадах. У барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі загінулі К. П. Аўрамава, Л. У. Бабіч, С. П. Гарэлік, С. У. Маразевіч, К. С. Міцькоў, Д. А. Хадоркін, С. Ф. Цітоў, Г. І. Чорная, К. А. Чуліцкі. Гл. таксама артыкул № 679 «Помнік камсамольцам-падпольшчыкам». *А. Б. Рогаў.*

**656. ПОМНІК БЯЛЫНІЦКАМУ-БІРУЛІ** Вітольду Каятанавічу (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка мастацкага музея імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі. Бюст беларускага і рускага савецкага жывапісца, народнага мастака БССР і РСФСР В. К. Бялыніцкага-Бірулі ўстаноўлены ў 1984 г. (скульпт. А. Арцімовіч; бронза, граніт).

**657. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Калініна. У гонар воінаў 32-й і 42-й стралковых дывізій 49-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) 2-га Беларускага фронту, якія 29.6.1944 г. вызвалілі г. п. Бялынічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1971 г. пастаўлена стэла.

**658. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1969 г.

**659. РАДЗІМА ШАРАХОЎСКАГА** Янкі (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік і літаратуразнавец Янка (Іван Захаравіч) Шарахоўскі нарадзіўся 20.2.1908 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Ленінградскі гісторыка-лінгвістычны інстытут у 1931 г. Працаваў у рэдакцыях часопісаў «Чырвоная Беларусь», «Полымя рэвалюцыі», газеты «Літаратура і мастацтва». У 1938—41 гг. вучыўся ў аспірантуры пры Мінскім педагагічным інстытуце імя М. Горкага. У Вялікую Айчынную вайну ўдзельнік абароны Масквы, ваяваў на Бранскім, 2-м Прыбалтыйскім, Ленінградскім франтах. З 1946 г. адказны сакратар часопіса «Полымя», з 1948 г. галоўны рэдактар Дзяржаўнага выдавецтва БССР. У 1957—59 гг. намеснік міністра культуры БССР, потым галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». У 1961—68 гг. дырэктар Літаратурнага музея Янкі Купалы.



651. *Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан. Алея Герояў.*

Літаратурна-крытычную дзейнасць пачаў у 1931 г. Даследаваў творчасць В. Дуніна-Марцінкевіча, Ф. Багушэвіча, В. Таўлая, Я. Купалы. Выдаў 2 кнігі пра жыццё і творчасць Я. Купалы «Пясняр народных дум» (1970 г.— дарэвалюцыйны перыяд, 1976 г.— савецкі перыяд). Аўтар зборнікаў апавяданняў «Срэбраная раніца» (1951 г.), «Сердалікавая бухта» (1955 г.), «Сплочаны доўг» (1978 г.). Пераклаў на беларускую мову раман «Рудзін» і «Напярэдадні» І. Тургенева, «Казкі» М. Салтыкова-Шчадрына, «Сляпога музыку» У. Караленкі, «Аповесць пра дзяцінства» Ф. Гладкова і інш. Памёр 6.4.1973 г. Пахаваны ў г. Мінску на Чыжоўскіх могілках.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. М. Казлоўская.*

**660. СТАЯНКА** (археал.). За 4 км на паўночны захад ад пасёлка, на левым беразе р. Друць. Памер 30×70 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1975 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м, глыбіня залягання 0,5 м ад паверхні. На паверхні і ў агаленнях пясчаных узгоркаў знойдзены дробнае вугалле, фрагменты ляпной керамікі, крамянёвыя пласціны, адшчэпы, нуклеусы, скрабкі. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Аксенькавічы, Запольскі сельсавет**

**661. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**662. МАГІЛА КАЛАКУСТАВА** Карнея Лявонцьевіча (гіст.). На могілках. Сакратар Бялыніцкага падпольнага райкома ЛКСМБ К. Л. Калакустаў загінуў 4.12.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. устаноўлена надмагільная пліта.

**663. МАГІЛА НЕВЯДОМСКАГА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан 121-га атрада 6-й Магілёўскай партызанскай брыгады І. І. Невядомскі загінуў 22.3.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Алешкавічы, Эсьмонскі сельсавет**

**664. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. На ўшанаванне памяці 164 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Антонава Буда, Лебядзянкаўскі сельсавет**

**665. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны Герой Савецкага Саюза Леанід Дзмітрыевіч Лорчанка і Савелій Мінавіч Конанаў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 18.7.1943 г.



665. *Помнік на брацкай магіле партызан.*

Л. Дз. Лорчанка нарадзіўся 24.7.1923 г. у Магілёве ў рабочай сям'і. Член ВЛКСМ. У чэрвені 1941 г. у народным апалчэнні змагаўся супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, потым член падпольнай групы, што дзейнічала на аўтарамонтным заводзе ў Магілёве. Збіраў і перапраўляў партызанам зброю, удзельнічаў у дыверсіях, пісаў і распаўсюджваў лістоўкі. З красавіка 1943 г. у 600-м партызанскім атрадзе. 18.7.1943 г. на партызанскі дазор, у якім знаходзіўся Л. Дз. Лорчанка, напаў атрад нямецка-фашысцкіх карнікаў. Партызаны прынялі няроўны бой. Калі скончыліся боепрыпасы, паранены Л. Дз. Лорчанка падарваў гранатай сябе і фашыстаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 8.5.1965 г.

У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Дорога в бессмертие.— Мн., 1967; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Асавец, Цяхцінскі сельсавет**

**666. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі 9—15.7.1944 г. пры вызваленні вёскі і ліквідацыі груповак нямецка-фашысцкіх войск. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асман-Касаева, Цяхцінскі сельсавет**

**667. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 партызан, якія загінулі ў лютым — красавіку 1944 г. у барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**668. ПОМНІК КАСАЕВУ** Асману Мусаевічу (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля дарогі Цяхцін — Друць. На ўшанаванне памяці камандзіра 121-га партызанскага палка Героя Савецкага Саюза А. М. Касаева ў 1966 г. пастаўлена стэла з выкананай у плоскім рэльефе выявай героя. Партызанскі камандзір паказаны ў профіль. Бурка, папаха, аўтамат у руках дапаўняюць характарыстыку вобраза. Гл. таксама артыкул № 21 «Вайсковыя могілкі».

**в. Вішоў, цэнтр сельсавета**

**669. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Бялынічы — Магілёў. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**670. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**671. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). Каля будынка праўлення калгаса «Радзіма». На ўшанаванне памяці 88 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1950 г. пастаўлены помнік (скульпт. А. Крохалеў, У. Крохалеў, М. Андрэеў; медзь; вышыня 4,5 м) — на прамавугольным пастаменце гарэльефныя выявы твараў воіна, партызана і жанчыны з дзіцем, якія сімвалізуюць адзінства народа ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.



668. *Помнік А. М. Касаеву.*





671. *Помнік землякам.*

**в. Вослiўка, Машчаніцкі сельсавет**

**672. МЕСЦА ГІБЕЛІ ХІГРЫНА** Барыса Львовіча (гіст.). У цэнтры вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Мінск — Магілёў. Тут 5.7.1941 г. артылерыйскі дывізіён на чале з капітанам Б. Л. Хігрыным адбіваў атакі ворага. Б. Л. Хігрын загінуў у гэтым баі, пахаваны ў Бялынічах (гл. артыкул № 651 «Брацкая магіла савецкіх воінаў і партызан»). За праяўленыя мужнасць і гераізм яму 31.8.1941 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза. У 1976 г. на месцы яго гібелі пастаўлена стэла, побач у 1984 г.— 76-міліметровая гармата.

**в. Вугольшчына, Цяхцінскі сельсавет**

**673. МАГІЛА ВОЛКАВА** Панцялея Гаўрылавіча (гіст.). На могілках. Партызан П. Г. Волкаў загінуў 6.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**674. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**674а.** Селішча. За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на тэрасе правага берага р. Друць, ніжэй упадзення ў яе р. Ліпаўка. Плошча каля 0,6 га. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт не захаваўся. На паверхні і ў гумусе знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі 10 — пачатку 13 ст. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**674б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на поўдзень ад селішча, у лесе. 102 насыпы вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 3—16 м. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Дз. Каваленя. У 1975 г. абследаваў Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Я. Р. Рыер.*




**674а.** *Селішча. План.*



**674б.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Вялікая Машчаніца, цэнтр Машчаніцкага сельсавета**

**675. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні вёскі ў чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 455-га стралковага палка 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**в. Вялікі Нежкаў, Вішоўскі сельсавет**

**676. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 48 воінаў і 6 партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Трылесін, Бялыніцкі пасялковы Савет**

**677. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 22 жыхары вёскі, закатаваныя 3.9.1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**678. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба, у скверы. На ўшанаванне памяці 120 жыхароў вёсак саўгаса «Бялынічы», якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**679. ПОМНІК КАМСАМОЛЬЦАМ-ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі.

Вялікатрылесінская падпольная камсамольская арганізацыя створана ў ліпені 1941 г. У склад яе ўваходзілі 10 чалавек: У. В. Лапухін і І. А. Марозаў (кіраўнікі), Б. Н. Вараб'ёў, І. В. Вараб'ёў, А. Ф. Зубрыцкі, М. Я. Лебусаў, Я. Е. Подлаў, В. А. Палтарацкі, У. М. Чупыркін, А. М. Чэчкаў. Дзейнічала як група Бялыніцкага камуністычнага падполля. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, трымалі сувязь з партызанамі, перадавалі ім медыкаменты, зброю. 5.5.1942 г. патрыёты пайшлі ў партызаны. Перад адыходам здабылі ручны кулямёт, 23 вінтоўкі, 2 скрынкі гранат. Змагаліся ў складзе 600-га партызанскага атрада (пазней 600-ы партызанскі полк).

У 1969 г. у гонар камсамольцаў-падпольшчыкаў пастаўлены абеліск.

*М. М. Казлоўская.*

**в. Галоўчын, цэнтр сельсавета**

**680. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 51 воін 455-га стралковага і 472-га артылерыйскага палкоў 42-й



679. *Помнік камсамольцам-падпольшчыкам.*

стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран 27—28.6.1944 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**681. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАГІЛЕЎЧЫКУ** Захару Кузьмічу (гіст.). Устаноўлена ў 1985 г. на будынку бальніцы.

Савецкі вучоны ў галіне гігіены і санітарыі, член-карэспандэнт АМН СССР (1953 г.), доктар медыцынскіх навук (1945 г.), прафесар (1934 г.), заслужаны дзеяч навукі БССР (1949 г.) З. К. Магілеўчык нарадзіўся 6.2.1895 г. у в. Галоўчын у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1923 г. скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. У 1925—31 гг. у Народным камісарыяце аховы здароўя БССР. Адначасова з 1924 г. працаваў на кафедры агульнай гігіены медыцынскага факультэта БДУ. З 1934 г. загадчык кафедры Мінскага, у 1941—43 гг.— Іжэўскага медінстытутаў. З 1943 г. дырэктар Мінскага медыцынскага інстытута. У 1955—68 гг. галоўны рэдактар часопіса «Здравоохранение Белоруссии». Старшыня праўлення Беларускага навуковага таварыства гігіеністаў (з 1948 г.). Асноўныя працы па пытаннях гігіены планіроўкі і добраўпарадкавання населеных пунктаў, жыллёва-камунальнай гігіены, санітарнай аховы паветра, вады і глебы. З. К. Магілеўчык памёр 6.1.1975 г. Пахаваны ў Мінску на Паўночных могілках. Яго імем названа вуліца ў г. п. Бялынічы.

*Літ.:* Захар Кузьмич Могилевчик.— Здравоохранение Белоруссии, 1970, № 5; Беляцкий Д. П. Профессор З. К. Могилевчик.— Советское здравоохранение, 1965, № 3. *М. М. Казлоўская.*

**682. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ, ПОМНІК ЦЕРАШКЕВІЧУ** Сяргею Рыгоравічу (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 280 жыхароў вёсак калгаса «Наша перамога», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1970 г. пастаўлена стэла з выявай 2 воінаў, абапал — 2 мемарыяльныя сцяны. Перад стэлай пліта з імёнамі загінуўшых, запалены Вечны агонь. Побач у 1984 г. устаноўлена пліта на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза С. Р. Церашкевіча, які здзейсніў подзвіг у баі паблізу вёскі.

С. Р. Церашкевіч нарадзіўся 10.4.1910 г. у с. Чкалаўскае Спаскага р-на Прыморскага краю ў сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1931 г. Скончыў курсы малодшых лейтэнантаў у 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір стралковай роты старшы лейтэнант С. Р. Церашкевіч вызначыўся ў баях за вызваленне Магілёўскай вобл. 23.6.1944 г. рота пад яго камандаваннем захапіла вышыню ў Дрыбінскім р-не і пераправілася цераз р. Бася. На правым беразе ракі адбіла 5 контратак ворага, на поўнач ад Магілёва фарсіравала р. Дняпро і агнём падтрымала пераправу батальёна. 27.6.1944 г. у час бою каля в. Галоўчын С. Р. Церашкевіч кінуўся са звязкай гранат пад варожы танк. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

*М. М. Казлоўская.*

### в. Глыбокі Брод, Запольскі сельсавет

**683. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 58 воінаў 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 29—30.6.1944 г., і 22 партызаны 760-й брыгады імя М. Беразоўскага, што загінулі ў лютым 1944 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**684. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 6 насыпаў вышынёй 0,8—1,8 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

### пас. Дальні, Запольскі сельсавет

**685. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад пасёлка, за 3 км на паўднёвы ўсход ад в. Падзевічы, на правым беразе р. Ліпаўка, сярод балот. Пляцоўка авальная, 48×39 м, вышынёй над балотам 8 м, умацавана кальцавым валам і ровам, размешчаным на схіле. Вышыня вала 1,5 м, глыбіня рова 2 м. Ва ўсходняй




682. *Помнік землякам.*

частцы роў перакрыты перамычкай шырынёй 2 м. У сярэдзіне пляцоўкі — яма. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. У культурным пласце 0,25—1,2 м знойдзена ляпная гладкасценная і штрыхаваная кераміка ранняга этапа зарубінецкай культуры і культуры штрыхаванай керамікі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *Я. Р. Рыер.*



684. *Курганны могільнік. План.*



685. *Гарадзішча. План.*

**в. Дзевашычы, Эсьмонскі сельсавет**

**686. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**686а.** Селішча. За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Аслік (Асліўка). Плошча каля 1,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. На паверхні і ў гумусе знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі 10—17 стагоддзяў.

**686б.** Курганны могільнік. За 0,1 км на ўсход ад селішча. 31 насып вышынёй 0,5—3,5 м, дыяметрам 3—12 м. Вядомы з 1924 г. У 1927 г. Я. Р. Рыер раскапаў 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе. Пахавальны інвентар — фрагмент ганчарнага гаршка. Матэрыялы даследавання могільніка і абследавання селішча захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Риер Я. Г. Исследования в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.
*Я. Р. Рыер.*

**станцыя Друць, Цяхцінскі сельсавет**

**687. СТАЯНКА** (археал.). За 0,1 км на поўдзень ад станцыі, на левым беразе р. Друць. Памер 40×120 м. Выявіў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1980 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены расшчэпленыя крамяні, фрагменты ляпной керамікі з зубчастым арнаментам, крамянёвая трапецыя, апрацаваная па краях рэтушшу, і пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем. Адносіцца да эпохі неаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*В. Ф. Капыцін.*



**686б.** *Курганны могільнік. План.*



689. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Заазер'е, Эсьмонскі сельсавет**

**688. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі летам 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**689. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1944 г., і 15 партызан, што загінулі ў 1942—44 гг. У 1969 г. на магіле пастаўлена стэла, перад ёй дошка з імёнамі загінуўшых.



692. *Помнік землякам.*

**690. МАГІЛА НОВІКАВА** Канстанціна Міхайлавіча (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі К. М. Новікаў загінуў у чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заполле, цэнтр сельсавета**

**691. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г., і 9 партызан 25-га асобнага партызанскага палка, у т. л. камісар атрада А. М. Латышаў, што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў у 1943 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**692. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Падзевічы». На ўшанаванне памяці 403 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**693. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**693а.** Селішча. За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе перасохлага безназоўнага ручая. Плошча каля 0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. На паверхні і ў гумусе знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**693б.** Курганны могільнік. На заходняй ускраіне вёскі, каля могілак. 48 насыпаў вышынёй 0,5—4 м, дыя-



**693б.** *Курганны могільнік.*



**693б.** *Курганны могільнік. План.*

метрам 3—12 м. Вядомы з 1950 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Риер Я. Г. Исследования в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.
*Я. Р. Рыер.*

**в. Зарэчча, Запольскі сельсавет**

**694. СТАЯНКА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на пясчаных узгорках левага берага р. Друць. Выявіў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1978 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнік стралы з увагнутай асновай, кароткія канцавыя скрабкі, нуклеусы, пласціны і адшчэпы, ляпная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Артеменко И. И. Племена Верхнего и Среднего Поднепровья в эпоху бронзы.— М., 1967.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Ізобішча, Галоўчынскі сельсавет**

**695. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі 17.1.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**696. МАГІЛА АНДРЭЕВА** Ільі Арцёмавіча (гіст.). На могілках. Партызан І. А. Андрэеў загінуў у студзені 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Іскра, Ланькаўскі сельсавет**

**697. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Ільіч». На ўшанаванне памяці 222 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каліноўка, Цяхцінскі сельсавет**

**698. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны 322-га стралковага палка 32-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 29.6.1944 г., і 11 партызан, што загінулі ў 1943—44 гг. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**в. Камяніца, Вішоўскі сельсавет**

**699. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 141 земляка, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены стэла з



698. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

памятным надпісам і абеліск, на якім высечаны імёны загінуўшых.

**в. Карытніца, Машчаніцкі сельсавет**

**700. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, па дарозе ў в. Біскупка, на левым беразе р. Клявы, у лесе. 18 насыпаў вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 6—22 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Клява, Машчаніцкі сельсавет**

**701. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на краі поля. 6 насыпаў вышынёй 0,7—1,4 м, дыяметрам 3—5 м. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Краснае, Лебядзянкаўскі сельсавет**

**702. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля могілак. 9 насыпаў вышынёй 0,7—2,3 м, дыяметрам 5—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.



700. *Курганны могільнік. План.*

**пас. Курганне, Цяхцінскі сельсавет**

**703. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, у полі. 15 насыпаў вышынёй 0,7—2,6 м, дыяметрам 2,5—15 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Ланькава, цэнтр сельсавета**

**704. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 7 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**705. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лічынка, Галоўчынскі сельсавет**

**706. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 3 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны настаўніца С. М. Гіра і тры яе дачкі, якіх у



703. *Курганны могільнік. План.*



707. *Гарадзішча. План.*

1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лямніца, Вішоўскі сельсавет**

**707. ГАРАДЗІШЧА** (археал.) На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на левым карэнным беразе безназоўнай рэчкі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 30×30 м, вышынёй над ракой 14 м, умацавана кальцавым валам (вышыня 3—5 м), які на поўначы перарэзаны праходам. Пляцоўка і схілы пашкоджаны ярамі. Вядома з 1958 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Знойдзены фрагменты грубай ляпной керамікі з штрыхоўкай ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Я. Р. Рыер.*

**в. Малатоўкі, Цяхцінскі сельсавет**

**708. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, у полі. 34 насыпы вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 5—15 м. Вядомы з 1950 г. У 1975 г. Я. Р. Рыер раскапаў 2 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе галавой на захад. Пахавальны інвентар: жалезны нож і гліняныя ганчарныя гаршкі. Датуецца 11 ст., адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Р и е р Я. Г. Исследования в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.

*Я. Р. Рыер.*

**в. Малінаўка, Вішоўскі сельсавет**

**709. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 53 мірныя жыхары вёскі, якіх 23.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі разам з вёскай (27 двароў). Нарабаваную маёмасць гітлераўцы вывезлі ў Германію. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малы Кудзін, Галоўчынскі сельсавет**

**710. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 23 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. і пры вызваленні вёскі ў чэрвені 1944 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**711. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка авальная, памерам 38×17 м, узвышаецца над балотам на 10 м. Паўночна-ўсходні бок умацаваны валам вышынёй 1,5 м, другі падкованападобны вал вышынёй 1 м на паўднёва-заходнім баку гарадзішча, каля яго падножжа. Адкрыў у 1974 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Знойдзены невыразныя абломкі плінфаў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* П о б о л ь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*Я. Р. Рыер.*

**пас. Монеўка, Цяхцінскі сельсавет**

**712. СТАЯНКА** (археал.). За 0,7 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 90×30 м. Даследаваў у 1980—85 гг. В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя вастры, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, фрагменты ляпной гладкасценнай керамікі ранняга жалезнага веку. Верагодна, на месцы стаянкі каменнага веку пазней размяшчалася селішча жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Навасёлкі, Галоўчынскі сельсавет**

**713. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 4 воіны 55-га гвардзейскага гаўбічнага артылерыйскага палка, якія загінулі 27—29.6.1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, дзяўчына і партызан.

**714. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1969 г. пастаўлена стэла, перад ёй 5 дошак з імёнамі загінуўшых.

**715. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1969 г.



**708.** *Курганны могільнік. План.*



**711.** *Гарадзішча. План.*



**714.** *Помнік землякам.*

в. Падзевічы, Запольскі сельсавет

**716. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. 75 насыпаў вышынёй 2—4 м, дыяметрам 6—25 м. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

в. Парахоўка, Машчаніцкі сельсавет

**717. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**717а.** Курганны могільнік. За 1,6 км на ўсход ад вёскі, у лесе. 27 насыпаў вышынёй 0,5—2,3 м, дыяметрам 4—10 м.

**717б.** Курган. За 1,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Вышыня 2,5 м, дыяметр 20 м.

Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Риер Я. Г. Исследования в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976.



**716.** *Курганны могільнік. План.*

в. Пільшычы, Цяхцінскі сельсавет

**718. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі 29.6.1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**719. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 29.6. 1944 г., і 7 партызан, што загінулі ў лютым — сакавіку 1944 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**720. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі на правым беразе р. Друць, каля могілак. 76 насыпаў вышынёй 0,4—3,5 м, дыяметрам 6—18 м. Курганы здзірванелыя, параслі лесам, некаторыя пашкоджаны ямамі. Каля асобных насыпаў прасочваюцца раўкі. Адкрыў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1980 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.



**717а.** *Курганны могільнік. План.*



**722.** *Курганны могільнік. План.*

в. Прыбар, Цяхцінскі сельсавет

**721. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны маёр Чырвонай Арміі М. П. Траццякоў і 5 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у ліпені 1941 г. і пры вызваленні вёскі 28.6.1944 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**722. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на краі лесу. 12 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 2,6—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, в. 3.

**723. СТАЯНКІ** (археал.).

**723а.** Стаянка-1. За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Адкрыў у 1980 г., даследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. У раскопе плошчай 130 м² культурны пласт залягаў на глыбіні 0,2—0,4 м. Знойдзены крамя-



**723а.** *Стаянка-1. Агульны выгляд раскопу.*



**723а.** *Рэшткі посуду са стаянкі-1.*

нёвыя нуклеусы, наканечнікі стрэл, вастрыі, праколкі, разцы, скрабкі, прылады сякучых форм, вырабы з выемкамі, адшчэпы і пласціны з рэтушшу, фрагменты вастрадонных гаршкоў з прамымі ці злёгку адагнутымі венчыкамі, арнаментаваныя ямкавымі адбіткамі круглай і прамавугольнай формы і грабеньчатымі адбіткамі, якія ўтвараюць елачны ўзор. Адносіцца да позняга неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).

**723б.** Стаянка-2. За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад стаянкі-1, аддзелена ад яе градой пясчаных узвышшаў. Выявіў у 1980 г. і даследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. Памер 170×30 м. Ускрыта 35 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,1—0,6 м. Знойдзены крамянёвыя дзюбападобныя і рэжучага тыпу вастрыі, бакавыя, вуглавыя, на вуглу зламанай пласцінкі разцы, праколкі, двухбаковыя рэтушаваныя нажы, пласціны-ўкладышы, пласціны са скошаным рэтушшу канцом, вырабы з выемкай, канцавыя скрабкі, клінападобныя прылады сякучых форм, адшчэпы і пласціны з рэтушшу. Кераміка арнаментавана адбіткамі дробназубчастага штампа, які ўтварае елачныя ўзоры ці вертыкальныя рады. Венчыкі гаршкоў прамыя, круглаватыя, з ямкавымі ўціскаsuccessfully па краі. Адносіцца да позняга неаліту (3-е тысячагоддзе да н. э.).

Матэрыялы раскопак стаянак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.



**723а.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-1.*



**723б.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-2.*



**727.** *Помнік на месцы спаленай вёскі і магіле ахвяр фашызму.*

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Стараселле, Машчаніцкі сельсавет**

**724. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. 2 насыпы вышынёй 1 і 1,5 м, дыяметрам 8 і 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Старына, Запольскі сельсавет**

**725. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад пасёлка, па дарозе ў в. Ігліца. 8 насыпаў 0,5—2 м, дыяметрам 10—20 м. Вядомы з 1950 г. Абследаваў у 1975 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.



**725.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Сурды, Галоўчынскі сельсавет**

**726. МАГІЛА КОТАВА** Васіля Іванавіча **І БАЛАБАНАВА** Харытона Цімафеевіча (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны сяржант В. І. Котаў і радавы Х. Ц. Балабанаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. пры ўзрыве моста. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сцефанова (не існуе), Лебядзянкаўскі сельсавет**

**727. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ, МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вёска Сцефанова знаходзілася за 3 км на захад ад в. Прыхабы. 22.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 96 жыхароў і спалілі вёску (25 двароў). Ахвяры фашызму пахаваны на месцы спаленай вёскі. У 1971 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з дзіцем на руках, якая быццам імкнецца вырвацца з полымя, побач устаноўлена пліта з памятным надпісам. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Сцёхава, Эсьмонскі сельсавет**

**728. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сякерка, Машчаніцкі сельсавет**

**729. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі 27.6.1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цяхцін, цэнтр сельсавета**

**730. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**731. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 434 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**732. РАДЗІМА БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ** Вітольда Каятанавіча (гіст.).

Беларускі і рускі савецкі жывапісец-пейзажыст, народны мастак БССР (1944 г.) і РСФСР (1947 г.), правадзейны член АМ СССР (1947 г.), ганаровы акадэмік АН БССР (1947 г.) В. К. Бялыніцкі-Біруля нарадзіўся 17.2.1872 г. у былым маёнтку Крынкі (за 3 км на поўнач ад в. Цяхцін). Пачатковыя ўрокі жывапісу атрымаў у Мастацкай школе Н. Мурашкі ў Кіеве. У 1889—96 гг. вучыўся ў Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і дойлідства ў С. Каровіна, М. Неўрава, І. Пранішнікава, В. Паленава. Карціны В. К. Бялыніцкага-Бірулі ўжо на вучнёўскіх выстаўках прыцягвалі асаблівую ўвагу. П. Траццякоў набыў для сваёй галерэі пейзаж «З аколіц Пяцігорска» (1897 г.). Удзельнік выставак Маскоўскага аб'яднання аматараў мастацтваў, Маскоўскага таварыства мастакоў. Член Таварыства перасоўных мастацкіх выставак з 1904 г., Таварыства імя А. Куінджы з 1909 г. З вялікім майстэрствам В. К. Бялыніцкі-Біруля маляваў веснавы талы снег, рух веснавых водаў, першую зеляніну, першыя кветкі. Яго творы вылучаюцца лірычнасцю зместу і серабрыстым каларытам. Пейзажы «Вечныя снягі» (1901 г., Каўказская юбілейная выстаўка), «У час цішыні» (1909 г., Мюнхенская выстаўка), «Перад вясной» (1909 г., Барселонская выстаўка) адзначаны залатымі медалямі. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. адзін з арганізатараў і член Асацыяцыі мастакоў рэвалюцыйнай Расіі. Шмат ездзіў па краіне, у сваіх карцінах адлюстроўваў сацыялістычныя пераўтварэнні ў СССР, веліч і суровую прыгажосць прыроды Запаляр'я («Хібіны», 1933 г., «Старое памор'е. Снег ідзе», 1935 г. і інш.). Значнае месца ў творчасці В. К. Бялыніцкага-Бірулі займаюць серыі работ, звязаныя з ленінскімі мясцінамі ў Горках («Вялікі дом у Горках зімой», 1924 г.; «Горкі Ленінскія», «Горкі Ленінскія. Любімая алея Ільіча», абедзве ў 1945 г.), талстоўскай Яснай Палянай («Ясная Паляна. Від на сяло і сядзібу», «Ясная Паляна. Вялікая сажалка і куток сядзібы», усе ў 1928 г.), пушкінскімі Міхайлаўскім і Трыгорскім («Міхайлаўскае. Домік няні Арыны Радзівонаўны», «Стары дом у Трыгорскім», усе ў 1936 г.). У Вялікую Айчынную вайну В. К. Бялыніцкі-Біруля стварыў карціны патрыятычнага характару: «Па слядах фашысцкіх варвараў», «Чырвоная Армія ў лясах Карэліі», «Пейзажы сядзібы П. І. Чайкоўскага ў Кліне» (усе ў 1942 г.). У 1944 г. у Маскве ўдзельнічаў у арганізацыі мастацкай выстаўкі, прысвечанай 25-годдзю БССР. Эмацыянальнасцю і майстэрствам вылучаюцца пейзажы 1940-х гадоў: «Вечар юнага мая», «У час цішыні», «Лотаць зацвіла». У 1947 г. В. К. Бялыніцкі-Біруля жыў пад Мінскам, зрабіў шмат эцюдаў і карцін: «Зялёны май», «Заселянелі беларускія бярозкі», «Беларусь. Пачатак лета», «Вёсачка». Карціны апошніх гадоў жыцця: «Дні юнага мая», «Вераснёўскі вечар», «Дні майскіх навальніц», «Вясна ідзе».

В. К. Бялыніцкі-Біруля памёр 18.6.1957 г. Пахаваны ў Маскве. У Бялынічах адкрыты мастацкі музей імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі, перад будынкам музея ўстаноўлены бюст мастака; у Магілёве — мемарыяльны музей В. К. Бялыніцкага-Бірулі (філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР).

*Літ.:* Жидков Г. В., В. К. Бялыницкий-Бируля.— М., 1953; Тарасов Л., В. К. Бялыницкий-Бируля: Народный художник РСФСР и БССР.— М.; Л., 1949; Туроўнікаў М. В. К. Бялыніцкі-Біруля.— Мн., 1959; Бялыніцкі-Біруля. Альбом-каталог твораў нар. мастака РСФСР і БССР, правадз. члена АМ СССР В. К. Бялыніцкага-Бірулі/Скл. А. К. Рэсіна.—Мн., 1974. *Л. Г. Лапцэвіч.*

**733. СТАЯНКІ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**733а.** Стаянка-1. За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на мысе першай надпоймавай тэрасы правага берага р. Друць і левага берага безназоўнага ручая. Памер 100×40 м. У культурным пласце 0,2 м знойдзены аднапляцовачныя нуклеусы, ромбападобныя наканечнікі стрэл, вастрыі, канцавыя скрабкі, адшчэпы з рэтушшу. Стаянка адносіцца да эпохі неаліту.

**733б.** Стаянка-2. За 0,5 км на поўдзень ад стаянкі-1, на правым беразе р. Друць, каля забалочанай поймы. Памер 160×50 м. Знойдзены наканечнікі стрэл, нажападобныя пласціны з рэтушшу, канцавыя і круглаватыя скрабкі, сярэдзінна-вуглавыя разцы, пласціны-ўкладышы, адшчэпы з рэтушшу, фрагменты ляпной керамікі, арнаментаваныя адбіткамі дробназубчастага штампа, з дамешкам кварцу ў гліне. Адносіцца да эпохі неаліту.

**733в.** Курганны могільнік. Каля стаянкі-2, на правым беразе р. Друць. 4 насыпы вышынёй 1—1,6 м, дыяметрам 8—16 м. Раскопкі не праводзіліся.

**733г.** Селішча. З заходняга боку могільніка. Памер 150×70 м. У культурным пласце 0,2—0,4 м знойдзены фрагменты ганчарнай керамікі і абломак біканічнага прасліца. Раскопкі не праводзіліся.

Помнікі выявіў у 1980 г. і абследаваў у 1981—85 гг. В. Ф. Капыцін. Матэрыялы абследавання стаянак і селішча захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Чырвоная Слабада, Лебядзянкаўскі сельсавет**

**734. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 партызан групы М. Дз. Авяр'янава (з ліпеня 1942 г. 600-ы атрад, пазней — партызанскі полк), якія загінулі 22.3.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**735. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**736. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць. Памер 250×30 м. Выявіў у 1981 г., даследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін, ускрыта 170 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,2—0,5 м.



**733в.** *Курганны могільнік.*



**736.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*

Знойдзены 187 абломкаў ляпных гаршкоў, арнаментаваных адбіткамі дробназубчастага грэбеня, венчыкі якіх злёгку адагнуты вонкі, пад асобнымі з іх ёсць ямкавыя, цыліндрычныя ўціскапні. У гліне посуду — раслінныя дамешкі, радзей — буйнае зерне кварцу. Выяўлена невялікая колькасць фрагментаў ляпнога посуду сярэднедняпроўскай культуры з шарападобным тулавам і высокай адагнутай вонкі шыйкай, арнаментаванага разнымі, гарызантальнымі лініямі і адбіткамі шнура. Сярод крамянёвага інвентару — канцавыя скрабкі, паўкруглыя скрабкі, наканечнікі стрэл трохвугольнай формы з прамавугольнымі ўвагнутымі ці злёгку пукатымі асновамі, апрацаваныя плоскай рэтушшу з 2 бакоў ромбападобныя наканечнікі дроцікаў, бакавыя і вуглавыя разцы, нажы серпападобнай формы, клінападобныя сякеркі, праколкі, вастрыі, вырабы з выемкамі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, рэтушоры. Стаянка канца 3 — пачатку 2-га тыс. да н. э. (сярэднедняпроўская культура) размяшчалася на месцы мезалітычнага паселішча.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Эсьмоны, цэнтр сельсавета**

**737. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 партызан, якія загінулі ў 1942—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.



736. *Стаянка.*



736. *Рэшткі посуду са стаянкі.*

**738. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Аслік (Асліўка). 44 курганы вышынёй 0,8—1,5 м, дыяметрам 4—8 м. Вядомы з 1863 г. Даследавалі ў 1889—90 гг. М. П. Авенарыус, у 1969 г. Л. А. Аляксееў. Раскапана 5 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе, на гарызонце, у ямах, у церамках-дамавінах. Пахаванні адзіночныя, парныя, ёсць пахаванні ў становішчы седзячы. Пахавальны інвентар: бронзавыя і сярэбраныя скроневыя кольцы, бронзавыя і шкляныя пацеркі, бронзавыя пярсцёнкі, гліняныя гаршкі. Помнік належаў дрыгавічам, адносіцца да канца 10 — пачатку 13 ст.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі СССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Риер Я. Г. Славянские курганы в д. Эсьмоны Белыничского района Могилевской области.— У кн.: Беларускія старажытнасці. Мн., 1972.
*Я. Р. Рыер.*

**739. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 106 жыхароў вёскі, якіх у жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкія акупанты сагналі ў гумно і спалілі. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.



738. *Курганны могільнік. План.*



742. *Помнік землякам.*

**740. МАГІЛА СЯРОВА** Аляксандра Аляксандравіча **І ТРЭЙМАНА** Віктара Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Пахаваны савецкія лётчыкі А. А. Сяроў і В. Ф. Трэйман, якія загінулі 28.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**741. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА У ГОНАР ШТАБА ПАРТЫЗАНСКАГА ЗЛУЧЭННЯ «ТРЫНАЦЦАЦЬ»** (гіст.). На будынку канторы саўгаса «Эсьмоны». Устаноўлена ў 1976 г. У Вялікую Айчынную вайну ў студзені — чэрвені 1944 г. у вёсцы базіраваўся штаб партызанскага палка, потым злучэння «Трынаццаць».

Злучэнне створана 1.6.1944 г. паводле ўказання Беларускага штаба партызанскага руху на базе асобнага смаленскага палка «Трынаццаць». Камандзіры злучэння С. У. Грышын, С. В. Пахомаў (выконваючы абавязкі), камісар І. А. Стралкоў, начальнік штаба С. П. Скварцоў. У склад злучэння ўваходзілі 1, 3, 5-я партызанскія брыгады, 11, 12 і 13-ы партызанскія атрады. Дзейнічала на акупіраванай тэрыторыі Бялыніцкага, Бярэзінскага, Шклоўскага р-наў Магілёўскай і Крупскага р-на Мінскай абласцей. 29—30.6.1944 г. усе падраздзяленні злучыліся з Чырвонай Арміяй.

**742. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Эсьмоны». На ўшанаванне памяці 249 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.




# ГЛУСКІ РАЁН

Завалочыцы
Гарадок
Бабірова
Стар. Сяло
Барысаўшчына
Кіраўскае
Дуброва
Чыкілі
Калацічы
Казловічы
Турыно
ГЛУСК
Усцяркі
Хвастовічы
Балашэвічы
Дакаль
Бярозаўка
Зелянковічы
Клетнае
Зубарэвічы
Малінава
Касарычы
Слаўкавічы
Катка

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

## VI. ГЛУСК

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Пціч. За 170 км на паўднёвы захад ад Магілёва, 33 км ад чыгуначнай станцыі Ратміравічы на лініі Бабруйск — Акцябрскі. Вузел аўтамабільных дарог на Бабруйск, Старыя Дарогі, Любань, Акцябрскі.

Вядомы з 2-й паловы 15 ст. Тут знаходзіўся замак князёў Гальшанскіх-Дубравіцкіх, які называлі Глускам Дубравіцкім. Вакол замка быў вал. Побач паступова расло паселішча. Уладальнік Глуска князь Ю. І. Дубравіцкі ў 1525 г. атрымаў ад вялікага князя Вялікага княства Літоўскага і караля Польшчы Жыгімонта I Старога прывілей на кірмаш. Пасля смерці апошняга з князёў Гальшанскіх Глуск у 1556 г. перайшоў да яго сястры Соф'і Юр'еўны, якая выйшла замуж за князя А. І. Палубінскага. У канцы 1560-х гадоў уладанне Я. Хадкевіча, праз некалькі гадоў зноў князёў Палубінскіх. Да 2-й чвэрці 17 ст. частка яго належала князям Чартарыйскім. У 16—17 стагоддзях Глуск у Навагрудскім павеце Навагрудскага ваяводства. У 1571 г.— 124 дамы і 12 крам. У 1628 г. пабудавана праваслаўная царква, у 1667 г.— касцёл і кляштар бернардзінцаў. У час вайны паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай 1654—67 гг. Глуск у сакавіку 1655 г. заняў казацкі атрад. У 2-й палове 17 ст. мястэчка перайшло да Радзівілаў. Драўляныя пабудовы часта гарэлі. Асабліва спусташальным быў пажар 1775 г. У 18 ст. мястэчка ў Рэчыцкім павеце Мінскага ваяводства, у 1791 г. уключана ў Слуцкі павет Навагрудскага ваяводства. З 1793 г. у складзе Расійскай імперыі. Цэнтр воласці Бабруйскага павета Мінскай губерні. З 1800 г. прыватнае ўладанне графа І. Юдыцкага, у 1-й чвэрці 19 ст.— Бжастоўскага. Пабудаваны медны завод. У 1864 г.— 3 тыс. жыхароў, паводле перапісу 1897 г.— 5328 жыхароў, народнае вучылішча, у 1911 г.— 6680 жыхароў. Працавалі 3 гарбарныя заводы, 22 крамы.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў студзені 1918 г. Сяляне воласці заявілі аб падтрымцы Савецкай улады і аб непрызнанні Беларускай рады. У лютым 1918 г. Глускую воласць акупіравалі германскія войскі. Летам 1918 г. была створана падпольная партыйная арганізацыя РКП(б), дзейнічалі партызаны. У снежні 1918 г. Савецкая ўлада адноўлена. У жніўні 1919 г. мястэчка захапілі войскі буржуазнай Польшчы. Вызвалены 12.7.1920 г. часцямі 2-й дывізіі 16-й арміі Заходняга фронту.

Да 1924 г. Глуск у Бабруйскім павеце БССР. У ліпені 1924 г. утвораны Глускі р-н. У 1924—30 гг. у Бабруйскай акрузе. З студзеня 1938 г. у Палескай вобл., з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. Была развіта саматужная вытворчасць. У 1928 налічвалася 537 саматужнікаў (шаўцы, краўцы, рамізнікі, металісты, стружачнікі). У 1939 г.— 5125 жыхароў.



**VI.** *Забудова плошчы Леніна. Фрагмент.*

У Вялікую Айчынную вайну з 27.6. 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У ліпені 1941 г. на тэрыторыі раёна ва ўмовах акружэння вялі баі часці 24-й Самара-Ульянаўскай жалезнай дывізіі пад камандаваннем генерала К. М. Галіцкага. У ліпені 1941 г. кавалерыйская група генерал-палкоўніка А. І. Гарадавікова прарвалася ў тыл праціўніка і вызваліла Глуск, але пасля цяжкіх баёў мусіла адысці. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (4.8.1943 г.— 28.6.1944 г., базіраваўся ў 100-й Глускай партызанскай брыгадзе) і ЛКСМБ (жнівень 1941 г.— 28.6.1944 г.). 26.6.1944 г. войскі 28-й арміі пад камандаваннем генерал-лейтэнанта А. А. Лучынскага 1-га Беларускага фронту вызвалілі Глуск. З верасня 1944 г. да студзеня 1954 г. Глускі р-н у Бабруйскай, потым у Мінскай, з 1959 г. у Магілёўскай абласцях. У снежні 1962 г. раён скасаваны, яго тэрыторыя ўвайшла ў Бабруйскі р-н. У 1966 г. Глускі р-н адноўлены.

Архітэктурна-планіровачная структура пасёлка пераважна прамавугольная. Тэрытарыяльна падзяляецца на паўночны жылы і паўднёвы прамысловы раёны. У паўночным пераважае індывідуальная драўляная забудова сядзібнага тыпу. Адміністрацыйна-грамадскі цэнтр арганізаваны вакол гістарычнага, на скрыжаванні вуліц Пушкіна, Жыжкевіча, Сацыялістычнай і Кірава, пл. Леніна. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ, Дома культуры, аўтастанцыі, універмага, сталовай, 12-, 18- і 24-кватэрныя жылыя дамы. Паводле генеральнага плана, распрацаванага ў 1974 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, прадугледжваецца развіццё Глуска ў паўночным (уздоўж р. Пціч) і заходнім напрамках. Капітальнае будаўніцтва ажыццяўляецца па вул. Кірава і на свабоднай тэрыторыі паўночнай часткі пасёлка.

Прадпрыемствы: масласырзавод, хлебазавод, мэблевая фабрыка, пладова-агароднінны завод. Працуюць камбінат бытавога абслугоўвання, прамкамбінат, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, цэх па перапрацоўцы драўніны, лясгас. У пасёлку 2 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, вячэрняя сярэдняя школа, 4 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца, паліклініка. Выдаецца газета «Сцяг Радзімы». Помнікі: У. І. Леніну; бюст двойчы Героя Савецкага Саюза С. Ф. Шутава; мемарыяльны комплекс землякам.

Зона адпачынку — берагі р. Пціч.

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза. 1941—1945. Т. 4.— М., 1962. *А. П. Грыцкевіч, В. М. Ладзіс.*

**743. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ** (гіст.). Вул. Горкага, на могілках. Пахаваны савецкія патрыёты Георгій Казак і Аркадзь Яльніцкі, якіх 17.2.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**744. БЮСТ ШУТАВА** Сцяпана Фёдаравіча (гіст., маст.). На пл. Леніна, у скверы. У 1952 г. пастаўлены на радзіме героя ў в. Дварэц Глускага р-на, перанесены ў г. п. Глуск у 1975 г.

Скульптурны партрэт (бронза, граніт; вышыня бюста 1,1 м, пастамента 2,9 м) двойчы Героя Савецкага Саюза С. Ф. Шутава ўстаноўлены на пастаменце ў выглядзе канеліраванай калоны на стылабаце. Просты адкрыты твар, горда прыўзнятая галава, шырокі разварот плячэй з плаўным закруг-



744. *Бюст С. Ф. Шутава.*

леным зрэзам, выявы баявых узнагарод на грудзях ствараюць вобраз чалавека, які ўсё сваё жыццё прысвяціў служэнню народу, Радзіме. У кампазіцыю помніка ўключаны 2 бронзавыя вазы. Гл. таксама артыкул № 781 «Радзіма Шутава Сцяпана Фёдаравіча». *Г. М. Ярмоленка.*

**745. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Горкага, на могілках. Пахаваны 12 мірных жыхароў, якіх 14.4. 1942 г. пасля катаванняў расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**746. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Горкага, на могілках. Пахаваны 5 мірных жыхароў, якіх 31.3. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**747. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Горкага, на могілках. Пахаваны 2 мірныя жыхары, якіх 29.4. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**748. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На 7-м км аўтамабільнай дарогі Глуск — Бабруйск. Савецкі воін загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1944 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**749. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖЫЖКЕВІЧУ** Дзмітрыю Андрэевічу (гіст.). Вул. Жыжкевіча, 1, на будынку райваенкамата. Устаноўлена ў 1969 г. на ўшанаванне памяці сакратара першага Глускага валаснога Савета Дз. А. Жыжкевіча, якога ў 1918 г. расстралялі белапалякі. Яго імем названа адна з вуліц г. п. Глуск.

**750. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, на скрыжаванні вул. М. Горкага і аўтамабільнай дарогі Бабруйск — Мінск.

У Вялікую Айчынную вайну на тэрыторыі Глускага р-на дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (4.8. 1943 г.— 28.6.1944 г.) і ЛКСМБ (жнівень 1941 г.— 28.6.1944 г.), 17 партызанскіх атрадаў, у якіх супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў змагаліся 1200 патрыётаў. На франтах Вялікай Айчыннай вайны ваявалі 6597 жыхароў раёна, 4725 чалавек загінулі ў баях з ворагам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена ўраджэнцам раёна С. Ф. Шутаву (двойчы), С. А. Калінкоўскаму, У. А. Рыбаку. За гады Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Глускага р-на фашысты расстралялі ці закатавалі 3126 мірных жыхароў раёна, цалкам спалілі вёскі Паршчаха, Масты, Белыя, Станічы, Славіна, Амур, Уюнішча, знішчылі 2 МТС, грамадскія будынкі калгасаў, саўгасаў, школы, клубы, бібліятэкі, 1777 жылых дамоў.

У 1974 г. на ўшанаванне памяці землякоў створаны мемарыяльны комплекс (скульпт. І. Краўчанка; бетон, металізацыя; вышыня скульптуры 5 м). У цэнтры пляцоўкі (20× ×24 м) на насыпным узгорку — скульптура маладой жанчыны. На выцягнутых руках яна трымае меч, увенчаны лаўровай галінкай. Выразны сілуэт, абагульненая пластыка форм, дынамізм кампазіцыі надаюць скульптуры манументальнасць. З трох бакоў да ўзгорка вядуць лесвіцы, якія пераходзяць у бетанаваныя дарожкі з кветкавымі газонамі. Абапал адной з дарожак, што ідзе ў бок шашы, размешчаны 6 блокаў з надпісамі-інфармацыяй.

*Т. Р. Чуракова, Г. М. Ярмоленка.*

**751. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Сацыялістычнай, каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1974 г.

**752. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. М. Горкага, каля адміністрацыйнага будынка ПМК. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1952 г.

**753. РАДЗІМА ТАРАСЕВІЧА** Аляксандра (гіст.).

Гравёр Аляксандр (Антоній) Тарасевіч (год нараджэння невядомы) працаваў у канцы 17 — пачатку 18 ст. у тэхніцы афорта і разцовай гравюры. У 1672—77 гг. жыў у Глуску. Першыя вядомыя творы — 40 гравюр (1672 г.) да выданняў кн. «Разарыум...» (1677—78 гг., Вільня, Аўгсбург). У 12 гравюрах т. зв. каляндарнага цыкла «Поры года» выявілася глыбокае веданне мастаком жыцця працоўнага люду, праўдзіва і вобразна адлюстраваны побыт сялян і навакольная прырода. Апрача ілюстрацый, Тарасевіч выканаў эстампы «Радаслоўнае дрэва А. Палубінскага» (1670—72 гг.), «Партрэт М. Слуцкага» (1677 г.) і інш. Кнігі з гравюрамі мастака выходзілі ў Замосці (1684 г.), Слуцку (1685 г.), Вільні (1677 г.), Кракаве (1683, 1686 гг.). У 1680-я гады ў Вільні, выканаў партрэты мінскага харунжага К. Клакоцкага, польскага караля Яна III Сабескага. У 1688 г. пераехаў у Кіеў, дзе прыняў чарнецтва і імя Антоній. Працаваў у друкарні лаўры. Стварыў партрэты князя В. В. Галіцына (1690 г.), лаўрскага архімандрыта Мялецiя Вуяхевіча (1693 г.), чарнігаўскага архіепіскапа Лазара Барановіча (1693 г.) і інш. Памёр пасля 1720 г. Творы А. Тарасевіча вызначаюцца дакладным і лёгкім малюнкам, гармоніяй кампазіцыі, высокай тэхнікай.

*Літ.:* Степовик Д. Олександр Тарасевич.— Київ, 1975; Шматаў В. Ф. Беларуская кніжная гравюра XVI—XVIII стагоддзяў.— Мн., 1984, с. 122—129.

*В. Ф. Шматаў.*



750. *Мемарыяльны комплекс землякам.*

**754. РЭШТКІ ЎМАЦАВАННЯЎ** (археал.). У цэнтры пасёлка, на правым беразе р. Пціч. Захаваліся рэшткі 5 бастыёнаў, насыпаных з гліны і чорнай зямлі. Вышыня 5—7 м. Вядомы з канца 19 ст. Абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1964 г. Л. Д. Побаль. У зачыстках валоў і побач з імі знойдзены фрагменты ляпных гаршкоў ранняга жалезнага веку, ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі, а таксама вялікая колькасць абломкаў посуду пазнейшага часу. Умацаванне ўзнікла на месцы гарадзішча ранняга жалезнага веку і раннефеадальнага перыяду. Датуецца 16—17 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Істытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Описание церквей и приходов Минской епархии...— Мн., 1879; Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Л. Д. Побаль.*

**755. СЕЛІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне пасёлка, паміж поймай р. Пціч і могілкамі. Адкрыў у 1929 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Грубая ляпная кераміка прасочваецца ў агаленнях берага на адлегласці 0,3 км (ад дарогі на в. Поблін). Селішча адносіцца да 1-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Л. Д. Побаль.*

**в. Бабірова, Завалочыцкі сельсавет**

**756. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну паблізу вёскі. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**757. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 87 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бабровічы, Каткаўскі сельсавет**

**758. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 27 мірных жыхароў, якіх 27.2.1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**759. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 130 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці сталі ахвярамі фашысцкага тэрору, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Балашэвічы, Кіраўскі сельсавет**

**760. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 58 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлена стэла.

**в. Бараціна, Хваставіцкі сельсавет**

**761. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Барбарова, Клятнянскі сельсавет**

**762. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 54 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчынай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Барысаўшчына, Калаціцкі сельсавет**

**763. БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Камарынка. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Пахаванне знойдзена ў паўночнай частцы пясчанай касы, якая выходзіць у пойму р. Камарынка. Пахавальная яма дыяметрам да 0,5 м запоўнена дробным вуголлем, попелам і кальцыніраванымі касцямі. У верхняй частцы ямы знаходзіліся абломкі шматвалікавай пасудзіны, упрыгожанай лапчастым арнаментам (упершыню знойдзена на тэрыторыі Беларусі). У яме таксама былі 4 крамянёвыя скрабкі, сякера, некалькі адшчэпаў. Пад спаленымі касцямі, на дне ямы на глыбіні 0,5 м ляжала частка чэрапа чалавека і 2 крамянёвыя нажы. Выяўлены яшчэ 4 месцазнаходжанні спаленых касцей і керамікі бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970; Исаенко В. Ф., Чернявский М. М. Новые данные по спорным вопросам бронзового века Белоруссии.— У кн.: Белорусские древности. Мн., 1967. *В. Ф. Капыцін.*

**764. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 35 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Белыя (не існуе), Завалочыцкі сельсавет**

**765. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Белыя знаходзілася за 5 км на поўнач ад в. Яўсеевічы. У 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты спалілі яе разам з жыхарамі (18 жыхароў, 12 двароў). У 1961 г. на месцы былой вёскі пастаўлены абеліск.

**в. Бярозаўка, цэнтр сельсавета**

**766. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, каля дарогі на в. Ратміравічы. Пахаваны 14 партызан, што загінулі ў 1919 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.



764. *Помнік землякам.*

**767. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі карнікамі ў 1942 г. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**768. МАГІЛА КУКАНАВА** Васіля Васілевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін В. В. Куканаў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**769. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1979 г.

**в. Веснава, Хваставіцкі сельсавет**

**770. МАГІЛА СОКАЛА** Дзмітрыя (гіст.). На могілках. Савецкі воін Дз. Сокал загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Вільча, Кіраўскі сельсавет**

**771. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАНАК** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызанскія сувязныя атрада «За Савецкую Радзіму» 100-й Глускай партызанскай брыгады М. А. Курс і А. М. Ганчарова, якія ў час выканання баявога задання вясной 1944 г. былі схоплены і па-зверску закатаваны

фашыстамі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**772. МАГІЛА ГАЛАМАКІ** Цімафея Антонавіча (гіст.). На могілках. Удзельнік партызанскага руху ў Бабруйскім і Рагачоўскім паветах у Грамадзянскую вайну Ц. А. Галамака забіты польскімі легіянерамі ў 1920 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**773. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарадзішча, Завалочыцкі сельсавет**

**774. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, ва ўрочышчы Царковішча, на высокім левым беразе р. Пціч. Плошча каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. У месцах разворвання прасочаны



776. *Казьмадзям'янаўская царква.*



776. *Казьмадзям'янаўская царква. Бакавы фасад.*




776. *Казьмадзям'янаўская царква. План.*

культурны пласт 0,2 м. Знойдзены абломкі ляпной керамікі, шмат фрагментаў ганчарных гаршкоў, жалезная крыца і брусочак. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Гарадок, Завалочыцкі сельсавет**

**775. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**776. КАЗЬМАДЗЯМ'ЯНАЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1814 г. з дрэва. Будынак складаецца з прамавугольнага асноўнага аб'ёму, пяціграннай апсіды, трох'яруснай званіцы і бабінца. Накрыта двухсхільным дахам з вальмамі над апсідай. З боку галоўнага фасада званіца (васьмярык на чацверыку), завершаная паўсферычным купалам. Над асноўным аб'ёмам — васьміграннны самкнуты купал на гранёным светлавым барабане. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, якія абрамлены ліштвамі з сандрыкамі. Вуглавыя часткі будынка ўмацаваны драўлянымі лапаткамі. Галоўны ўваход вырашаны ў выглядзе стылізаванага порціка. Унутраная прастора царквы развіта па падоўжнай восі. Светлавы барабан з васьмігранным самкнутым скляпеннем падтрымліваецца 8 слупамі. У дэкоры інтэр'ера шырока выкарыстана разьба па дрэве.

Царква — помнік народнага драўлянага дойлідства з выкарыстаннем стылізаваных элементаў класіцызму. *В. М. Ладзіс.*

**777. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 62 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1982 г. пастаўлены абеліск.

**в. Даколь, Клятнянскі сельсавет**

**778. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПЕРМЯКОВА** Васіля (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў і партызан В. Пермякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**779. ГАРАДЗІШЧА (археал.).** За 9—10 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, сярод балот. Памер пляцоўкі 75×75 м. З боку поля ўмацавана 2 дугападобнымі валамі, унутраны вышынёй 2,5—3 м, шырынёй да 10 м, вонкавы вышынёй каля 0,5 м. З другіх бакоў пляцоўка ўмацавана яшчэ адным валам вышынёй да 1,5 м, шырынёй 7—8 м. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У шурфах выяўлены культурны пласт,




778. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і В. Пермякова.*

у ім знойдзена 5 абпаленых камянёў. Гарадзішча адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**780. РАДЗІМА КАЛІНКОЎСКАГА** Сцяпана Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. А. Калінкоўскі нарадзіўся ў 1918 г. у сялян-




779. *Гарадзішча. План.*

скай сям'і. Член КПСС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на Паўночна-Заходнім, 1-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах. Механік-вадзіцель танка 219-й танкавай Крамянчугскай Чырванасцяжнай брыгады старшы сяржант С. А. Калінкоўскі вызначыўся пры вызваленні Польшчы (Кутна, Клодава). 22.1.1945 г. у час разведкі боем уварваўся ў населены пункт Кольмары, перарэзаў шлях чыгуначнаму эшалону, захапіў склады і не даў магчымасці гітлераўцам адступаць па шашэйных дарогах. 23.1.1945 г. экіпаж авалодаў пераправай цераз р. Нотаць і ўтрымліваў яе да падыходу падмацавання. У час наступлення зімой 1945 г. С. А. Калінкоўскі прайшоў з баямі на сваім танку больш за 300 км, знішчыў 70 фашыстаў, 2 варожыя мінамётныя батарэі, 120 павозак і 11 аўтамашын з боепрыпасамі. Загінуў 2.2.1945 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Навечна занесены ў спісы вайсковай часці. Імем героя названа вуліца ў Глуску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Дварэц, Завалочыцкі сельсавет**

**781. РАДЗІМА ШУТАВА** Сцяпана Фёдаравіча (гіст.).

Двойчы Герой Савецкага Саюза С. Ф. Шутаў нарадзіўся 17.1.1902 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. Са снежня 1917 г. у Гарадоцкім і Асіповіцкім атрадах Чырвонай Гвардыі, з мая 1918 г. партызан у Бабруйскім павеце, змагаўся супраць іншаземных захопнікаў. З 1924 г. у Чырвонай Арміі. У 1927 г. скончыў Аб'яднаную ваенную школу імя ВЦВК, у 1930 г.— ваенна-палітычныя курсы, у 1932 г. і 1933 г.— бранятанкавыя курсы, у 1937 г. і 1943 г.— акадэмічныя курсы ўдасканалення камсаставу. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Заходнім, Волхаўскім, Варонежскім, 1-м і 2-м Украінскіх франтах, камандзір танкавага батальёна, намеснік камандзіра танкавай брыгады, камандзір асобнага танкавага палка, брыгады, намеснік камандзіра механізаванага корпуса. 20-я танкавая брыгада пад камандаваннем С. Ф. Шутава вызначылася ў 1943 г. пры фарсіраванні Дняпра і вызваленні Кіева, у 1944 г. у Яска-Кішынёўскай аперацыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10 студзеня і 13 верасня 1944 г. Да 1945 г. С. Ф. Шутаў у Чырвонай Арміі, палкоўнік. У 1946—47 гг. намеснік міністра сацыяльнага забеспячэння БССР, потым член парткамісіі пры ЦК КПБ. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—50 гг. і Вярхоўнага Савета БССР у 1951—55 гг. Аўтар кнігі «Чырвоныя стрэлы» (1963 г.). Памёр 17.4.1963 г. У 1975 г. у Глуску ўстаноўлены бюст С. Ф. Шутава. Імем героя названы вуліцы ў Кіеве, Бабруйску, Глуску, Гарадоцкая сярэдняя школа ў Глускім р-не.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Дуброва, Хваставіцкі сельсавет**

**782. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахавана 6 партызан, якія загінулі ў ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**783. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**784. МАГІЛА КАРТУНА** Канстанціна Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Савецкі салдат К. Ф. Картун загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**785. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**786. МАГІЛА ПАРТЫЗАНКІ** (гіст.). На могілках. Партызанка (прозвішча не ўстаноўлена) загінула ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**787. МАГІЛА ПЯТРЭНІ** Марфы **І ПЯТРЭНІ** Мікалая Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны атрада імя Л. М. Даватара 64-й партызанскай брыгады імя В. П. Чкалава маці і сын — М. і М. М. Пятрэні, якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жалвінец, Калаціцкі сельсавет**

**788. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магілах пастаўлены 3 абеліскі.

**789. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 75 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**790. СЕЛІШЧА** (археал.). На правым беразе р. Пціч, насупраць вёскі, ва ўрочышчы Селішча. Вышыня над поплавам 4—5 м. Плошча каля 2 га. Адкрыў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт у агаленнях 0,3—0,5 м. Знойдзена шмат шлаку, некалькі крыц, грубая ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры і да 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.



794. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Л. Д. Побаль.*

**791. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3—0,4 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Старыя Клады, на левым беразе р. Пціч. Вышыня над поплавам 2—3 м, плошча 2 га. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. На паверхні сабраны рэшткі грубаляпной гладкасценнай керамікі (таўшчыня сценак 0,5—0,8 м). Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Л. Д. Побаль.*

**в. Жукавічы, Бярозаўскі сельсавет**

**792. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Завалочыцы, цэнтр сельсавета**

**793. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Завалочыцкі». Пахаваны 54 воіны і партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. паблізу вёскі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заеліца, Слаўкавіцкі сельсавет**

**794. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана каля 150 жыхароў в. Заеліца і суседніх населеных пунктаў, якіх 5.2.1944 г.



800. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

спалілі жывымі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Замасточча, Каткаўскі сельсавет**

**795. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 жыхароў вёскі, якіх 1.3. 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заполле, Завалочыцкі сельсавет**

**796. МАГІЛА САВЕЦКАГА ЛЁТЧЫКА** (гіст.). На могілках. Лётчык Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у паветраным баі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**797. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Заракуша, Каткаўскі сельсавет**

**798. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Згода, Бярозаўскі сельсавет**

**799. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Пціч, на пясчаных узгорках. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1970 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены абломак каменнай свідраванай сякеры, кагцавыя скрабкі, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, фрагменты ляпных пасудзін, перапаленыя косці. Адносіцца да бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Зелянковічы, Бярозаўскі сельсавет**

**800. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 31 воін і 6 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны кавалерыйскай групы генерал-палкоўніка А. І. Гарадавікова, якія загінулі ў ліпені 1941 г. У 1953 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**801. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 5 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок (Дзеружкі), у лесакварталe № 18 сярод балота. Пляцоўка круглай формы, дыяметрам каля 170 м, умацавана 2 валамі вышынёй 0,5—0,7 м, шырынёй 4—5 м і равамі глыбінёй 0,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**802. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 6,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Засека, ці Дубовае, на беразе р. Бежыца. Пляцоўка авальная, памерам 210×170 м, абкружана 2 валамі вышынёй каля 1 м, шырынёй каля 6 м і 2 равамі глыбінёй каля 0,5 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**803. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 6 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Старына. Пляцоўка круглая, дыяметрам каля 160 м. Абкружана 2 равамі глыбінёй да 1 м і валамі вышынёй да 2 м, шырынёй да 7—8 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.




801. *Гарадзішча. План.*

**804. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАЛАКОВІЧУ** Луке Фядосавічу **І МАЛАКОВІЧ** Марыне Фядосаўне (гіст.). Установлена ў 1965 г. на будынку бібліятэкі.

Л. Ф. Малаковіч — удзельнік Лютаўскай і Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцый, першы старшыня мясцовага калгаса «Світанне». Нарадзіўся ў 1890 г. у в. Зубарэвічы ў сялянскай сям'і. Загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г.

М. Ф. Малаковіч — адна з арганізатараў камуністычнага падполля ў Мінску і кіраўнік Каладзішчанскага камуністычнага падполля ў Вялікую Айчынную вайну, сястра Л. Ф. Малаковіча. Нарадзілася ў 1903 г. у в. Зубарэвічы. З 1924 г. на камсамольскай рабоце ў Глускім, Жлобінскім, Бабруйскім р-нах. Член КПСС з 1927 г. Пасля сканчэння Акадэміі камуністычнага выхавання імя Н. К. Крупскай (1932 г.) працавала ў Інстытуце савецкага права, Інстытуце гісторыі




802. *Гарадзішча. План.*




803. *Гарадзішча. План.*



805. *Помнік у гонар Бабруйскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыі газеты «Бобруйский партизан».*

партыі пры ЦК КП(б)Б, Беларускім політэхнічным інстытуце. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны адна з арганізатараў падпольнай групы студэнтаў і выкладчыкаў Мінскага юрыдычнага інстытута, пазней узначаліла Каладзішчанскае камуністычнае падполле. Члены яго вялі палітычную агітацыю, прымалі і распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро, падпольную газету «Звязда», лістоўкі, перапраўлялі людзей у партызанскія атрады, наладжвалі дыверсіі на камунікацыях ворага, здабывалі звесткі аб ворагу, а таксама ўзрыўчатку, зброю, медыкаменты і перадавалі іх партызанам і спецгрупам Чырвонай Арміі. У жніўні 1943 г. М. Ф. Малаковіч была схоплена і закатавана гітлераўцамі.

*Т. Р. Чуракова.*

**805. ПОМНІК У ГОНАР БАБРУЙСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «БОБРУЙСКИЙ ПАРТИЗАН»** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. У 1943 г. непадалёку ад в. Зелянковічы ў лесе дыслацыраваліся Бабруйскія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыя газеты «Бобруйский партизан» — органа Бабруйскага падпольнага райкома КП(б)Б.

Бабруйскі падпольны райком КП(б)Б створаны 2.9.1942 г. Бабруйскім міжраённым камітэтам КП(б)Б. Базіраваўся ў 1-й Бабруйскай партызанскай брыгадзе. У лістападзе 1943 г., калі брыгада злучылася з часцямі Чырвонай Арміі, некалькі членаў райкома (кіраўніцтва брыгады) выйшлі з ёй у савецкі тыл. На акупіраванай тэрыторыі засталіся члены райкома Р. І. Акуліч і М. Б. Храпко. У гэтым складзе райком базіраваўся ў партызанскай брыгадзе 37-й імя А. Я. Пархоменкі. Дзейнічаў да 30.6.1944 г. Сакратар райкома Д. М. Лемяшонак (да 29.11.1943 г.). Падпольны райком КП(б)Б узначальваў партызанскі рух, камуністычнае падполле ў раёне, праводзіў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, выдаваў газету «Бобруйский партизан» (рэдактар С. І. Крамнёў).

Бабруйскі падпольны райком ЛКСМБ створаны 14.10.1942 г. Базіраваўся ў 1-й Бабруйскай партызанскай брыгадзе. Дзейнічаў да 30.6.1944 г. Сакратары райкома: М. І. Сямісалаў (да 14.4.1943 г., загінуў), М. А. Тоўсцік (з 14.4.1943 г., зацверджаны 1.11.1943 г.), А. М. Баландзіна (сакратар па прапагандзе, 12.4.1943 г.— 1.1.1944 г.). Райком ЛКСМБ узначальваў камсамольска-маладзёжнае падполле, работу камсамольскіх арганізацый у партызанскіх фарміраваннях, праводзіў палітычную і арганізацыйную работу сярод моладзі, узнімаў яе на барацьбу супраць акупантаў. У 1965 г. у гонар Бабруйскіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ і рэдакцыі газеты «Бобруйский партизан» пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*Т. Р. Чуракова.*



808. *Помнік землякам.*



809. *Помнік землякам.*

**806. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,3—0,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Мікуціны, каля балота Казакі. Плошча каля 1 га. Вышыня над узроўнем забалочанай мясцовасці 3—5 м. Выявіў у 1964 г. Л. Д. Побаль. У асобных месцах (агаленні, размывы) культурны пласт 0,5 м. У ім знойдзена ляпная гладкасценная кераміка 6—8 стагоддзяў і ганчарная кераміка раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Л. Д. Побаль.*

**в. Зубарэвічы, Бярозаўскі сельсавет**

**807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**808. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 112 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Калацічы, цэнтр сельсавета**

**809. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**810. РАДЗІМА АБУХОВІЧА** Альгерда Рышардавіча (гіст.).

12 Зак. 1480

Беларускі пісьменнік-дэмакрат А. Абуховіч нарадзіўся 25.7.1840 г. у радавітай памешчыцкай сям'і. Вучыўся ў Слуцкай кальвініцкай гімназіі. Падарожнічаў, жыў у Жэневе і Парыжы. Паводле некаторых звестак — удзельнік паўстання 1863—64 гг. Жыў у сваім маёнтку. Страціўшы маёнткі, у 1880-х гадах пераехаў у Слуцк. Быў знаёмы з Ф. Багушэвічам.

А. Абуховіч — адзін з пачынальнікаў жанру байкі ў беларускай літаратуры (падпісваўся псеўданімам Граф Бандынэлі). Перакладаў на беларускую мову творы А. Пушкіна, М. Лермантава, А. Міцкевіча, М. Канапніцкай, І. Гётэ, Ф. Шылера, В. Гюго, Дж. Байрана, Дантэ і інш. У літаратурнай дзейнасці прытрымліваўся прынцыпу народнасці літаратуры, пісаў у рэчышчы крытычнага рэалізму. Творы А. Абуховіча пры яго жыцці распаўсюджваліся ў рукапісах. Да нашага часу дайшло некалькі баек («Ваўкалак», «Старшына», надрукаваны ў «Беларускім календары на 1915»). У 1916 г. у віленскай газеце «Гоман» надрукаваны яго верш «Дума а Каралю XII» і фрагменты з мемуараў (пісаліся ў 1894 г.), дзе пісьменнік адлюстроўвае карціны жыцця беларускай шляхты канца 18—19 ст., барацьбы беларускага народа за сацыяльнае і нацыянальнае вызваленне. Памёр А. Р. Абуховіч 10.8.1898 г. Пахаваны ў Слуцку.

*Літ.:* Казека Я. Няходжанай дарогай.— Мн., 1973; Пачынальнікі.— Мн., 1977; Родчанка Р. Альгерд Абуховіч-Бандынэлі.— Мн., 1984. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Калюга, Калаціцкі сельсавет**

**811. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—44 гг. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**812. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Карніца, Хваставіцкі сельсавет**

**813. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карпавічы, Кіраўскі сельсавет**

**814. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Бабруйск — Глуск. На ўшанаванне памяці 14 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.



819. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Касарычы, Каткаўскі сельсавет**

**815. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка пошты. На ўшанаванне памяці 94 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1972 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кастрычнік, Казловіцкі сельсавет**

**816. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1—1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок. Плошча 1 га. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль. На паверхні селішча сабрана ляпная кераміка, шлак і фрагмент біканічнага прасліца. Адносіцца да 6—8 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**в. Катка, цэнтр сельсавета**

**817. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета, у скверы. Пахавана каля 70 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх воіны 32-й кавалерыйскай дывізіі, партызаны атрадаў М. Б. Храпко, Дз. Ц. Гуляева, а таксама 123-й партызанскай брыгады імя 25-годдзя БССР. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**818. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Клетнае, цэнтр сельсавета**

**819. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля праўлення калгаса «Радзіма», у скверы. Пахаваны 10 воінаў, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і экіпаж самалёта — капітаны А. М. Шустоў, М. К. Есіпаў і старшына А. В. Ігнацьеў, якія загінулі ў 1941 г. у паветраным баі з ворагам. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**в. Кнышы, Завалочыцкі сельсавет**

**820. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Пціч, каля дарогі ў в. Гарадок. Выявіў у 1930 г. А. А. Рынейскі, абследавалі ў 1963 г. Ю. І. Драгун, у 1964 г. Л. Д. Побаль. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, крамянёвыя наканечнік стралы, адшчэпы і пласціны. Адносіцца да бронзавага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Краснае, Калаціцкі сельсавет**

**821. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 22 жыхароў в. Краснае і засценка Дуброва, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крукаўшчына, Казловіцкі сельсавет**

**822. ПАРТЫЗАНСКІЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. У 8 брацкіх магілах пахаваны 14 партызан атрадаў імя М. А. Шчорса і імя С. М. Кірава 37-й брыгады імя А. Я. Пархоменкі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. каля в. Крукаўшчына. У 1961 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура жанчыны, якая ўскладае кветкі.



821. *Помнік землякам.*

**в. Макавічы, Калаціцкі сельсавет**

**823. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў і партызан, якія загінулі каля вёскі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод загінуўшых — партызаны Глускага атрада і атрада Дз. Ц. Гуляева. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**824. МАГІЛА ГАШЫНСКАГА** Рыгора Навумавіча (гіст.). На могілках. Партызан 100-й брыгады імя С. М. Кірава Р. Н. Гашынскі загінуў 6.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**825. МАГІЛА ЕРМАЛІЦКАГА** Івана Васілевіча (гіст.). На могілках. Партызан 2-га атрада імя І. М. Кутузава 100-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава І. В. Ермаліцкі загінуў 30.9. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**826. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 53 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Макраны, Калаціцкі сельсавет**

**827. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 44 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля вёсак Барысаўшчына і Макраны. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**828. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 15 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мыслоціна, Хваставіцкі сельсавет**

**829. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 77 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1970 г. пастаўлена стэла з рэльефнай выявай воіна.

**в. Пагост, Калаціцкі сельсавет**

**830. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 31 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Падлужжа, Бярозаўскі сельсавет**

**831. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях пры вызваленні Глускага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1946 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**832. СЕЛІШЧА** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Пціч. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. У абрывах берага ракі прасочваецца культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены абломкі ляпных гаршкоў 1-га тысячагоддзя н. э. Знаходкі прасочваюцца ўздоўж берага ракі на адлегласці да 70—100 м. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**833. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Замікальшчына, на правым беразе р. Пціч. Плошча каля 2 га. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**834. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Пціч, на пясчаных узгорках. Памер 40×120 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены рэшткі ляпной керамікі, крамянёвыя пласціны і адшчэпы. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*В. Ф. Капыцін.*



822. *Помнік на партызанскіх могілках.*



827. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Паршчаха (не існуе), Завалочыцкі сельсавет**

**835. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Паршчаха знаходзілася за 8 км на паўночны ўсход ад в. Яўсеевічы. У 1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі яе разам з жыхарамі (72 чалавекі, 26 двароў). Вёска не адрадзілася. У 1970 г. на месцы спаленай вёскі пастаўлены абеліск. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Поблін, Бярозаўскі сельсавет**

**836. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 45 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1984 г. пастаўлены абеліск.

**837. СЕЛІШЧА** (археал.). За 1 км на поўнач ад могілак. Плошча каля 2 га. Адкрыў у 1929 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. У агаленнях прасочаны культурны пласт 0,2—0,4 м. У ім знойдзена ляпная гладкасценная кераміка. У паўночнай частцы селішча прасочваецца мыс памерам 30×15 м, на якім прыкметны рэшткі апоўзлага вала і рова. Відавочна, гэта рэшткі гарадзішча, пабudаванага на селішчы ў больш позні час (6—7 стагоддзі). Помнік датуец-

ца 2—5 стагоддзямі (позні этап зарубінецкай культуры) і 6—8 стагоддзямі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970. *Л. Д. Побаль.*

**838. СТАЯНКА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Пціч, у хваёвым лесе, паміж могілкамі і жывёлагадоўчай фермай. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены фрагменты ляпнога посуду і расшчэплены крэмень. Адносіцца да бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*

**пас. Пціч, Каткаўскі сельсавет**

**839. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне пасёлка. Пахаваны 47 мірных жыхароў, якіх 25.1.1944 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**840. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне пасёлка. На ўшанаванне памяці воінаў 43-га стралковага корпуса 28-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызан Палескага злучэння, якія ў чэрвені 1944 г. вялі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за пераправу цераз р. Пціч, у 1969 г. пастаўлены абеліск і стэла з барэльефнай выявай воіна і партызана.

**в. Розлевічы, Бярозаўскі сельсавет**

**841. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рудня, Завалочыцкі сельсавет**

**842. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 8,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 53 жыхары, якіх у 1969 г. закатавалі ці расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сельцы, Калацiцкі сельсавет**

**843. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**844. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 21 аднавяскоўца, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.



840. *Помнік савецкім воінам і партызанам.*

**в. Сіманавічы, Завалочыцкі сельсавет**

**845. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,6 км на поўдзень ад вёскі каля шашы Масква — Брэст. Пахаваны 175 воінаў і партызан, што загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны конна-механізаванай групы пад камандаваннем генерал-лейтэнанта І. А. Плііева 1-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Глускага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



844. *Помнік землякам.*

**846. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СТАЯНКА** (археал.).

**846а.** Курганны могільнік. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Пціч, на месцы стаянкі. 4 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 6—16 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**846б.** Стаянка. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Пціч. Памер 30×120 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, нуклеус, пласціны і фрагменты ляпной керамікі. Адносіцца да бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*

**847. МАГІЛА ПАТАПОВІЧА** Барыса Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан Б. П. Патаповіч расстраляны ў верасні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**848. СЕЛІШЧЫ, БЕСКУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**848а.** Селішча-1. За 0,5 км на захад ад паўднёва-ўсходняй ускраіны вёскі, ва ўрочышчы Селішча. Вышыня над летнім меžанным узроўнем вады ў р. Пціч 4—5 м. Даўжыня ўздоўж берага 0,4—0,5 км. Адкрыў і абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. Знойдзены гладкасценная грубаляпная кераміка (таўшчыня сценак 0,5—0,7 см) з дамешкай жарствы ў цесце, а таксама ганчарная кераміка. Апошняя прасочана на большай плошчы (да 1,5 км уздоўж берага р. Пціч). Адносіцца да ранняга жалезнага веку і ранне-феадальнага часу (6—8 і 10—13 стагоддзі).

**848б.** Селішча-2. За 0,1—0,2 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Цёмшавае Поле, на правым беразе р. Пціч. Даўжыня ўздоўж берага р. Пціч каля 250 м, вышыня над поплавам 5—6 м. Выявіў у 1930 г. А. Рынейскі, абследаваў у 1965 г. Л. Д. Побаль. На адлегласці каля 90 м уздоўж р. Пціч селішча размываецца цячэннем. У месцах размыву выяўлены культурны пласт 0,5 м. У ім знойдзены абпаленыя камяні і гліна, грубаляпная таўстасценная кераміка з дамешкай дробнай і буйной жарствы ў цесце, адзін фрагмент керамікі з расчосамі. Адносіцца да позняга этапа зарубінецкай культуры.

**848в.** Бескурганны могільнік. На тэрыторыі селішча-2. Пры абследа-



850. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ванні ў 1965 г. селішча выяўлены пахаванні з абрадам трупаспалення, дзе знойдзены косці і ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання селішчаў і могільніка захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 1.— Мн., 1970.
*Л. Д. Побаль.*



851. *Помнік у гонар Глускіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыі газеты «Сацыялістычная вёска».*

**в. Слабодка, Каткаўскі сельсавет**

**849. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны, якія загінулі ў баях супраць войск буржуазнай Польшчы ў 1920 г. У 1980 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слаўкавічы, цэнтр сельсавета**

**850. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 48 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызаны Глускага атрада і 99-й партызанскай брыгады імя Дз. Ц. Гуляева. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура партызана.

**851. ПОМНІК У ГОНАР ГЛУСКІХ ПАДПОЛЬНЫХ РАЙКОМАЎ КП(б)Б І ЛКСМБ, РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ВЁСКА»** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. У наваколлі вёскі ў 1943 г. дыслацыраваліся Глускія падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ і рэдакцыя газеты «Сацыялістычная вёска» — орган Глускага падпольнага райкома КП(б)Б.

Глускі падпольны райком КП(б)Б створаны 4.8.1943 г. Палескім падпольным абкомам КП(б)Б. Базіраваўся ў 100-й Глускай і 225-й партызанскіх брыгадах. Дзейнічаў да 28.6.1944 г. Сакратары райкома: Л. Я. Жулега (да 8.11.1943 г.), Дз. Н. Удалой (15.11. 1943 г.— сакавік 1944 г.), П. Р. Чарнушын (з сакавіка 1944 г.). Падпольны райком КП(б)Б узначальваў партызанскі рух на тэрыторыі раёна, праводзіў палітычную і арганізацыйную работу сярод насельніцтва, выдаваў газету «Сацыялістычная вёска» (рэдактар С. Ф. Шумоўскі).

Глускі падпольны райком ЛКСМБ створаны ў жніўні 1941 г. Базіраваўся ў партызанскіх атрадах, якія ў сакавіку 1943 г. увайшлі ў 225-ю і 100-ю Глускую брыгады. Дзейнічаў да 28.6. 1944 г. Сакратары райкома: Р. К. Тычына (да 14.9.1943 г.), А. М. Макейчык (14.9.1943 г.— 18.6.1944 г., сакратар па прапагандзе 21.3—14.9.1943 г.), Б. В. Рынейскі (сакратар па прапагандзе з 14.9.1943 г.). Райком ЛКСМБ узначальваў работу камсамольскіх арганізацый у партызанскіх фарміраваннях, праводзіў палітычную, арганізацыйную і выхаваўчую работу сярод моладзі.

У 1977 г. у гонар Глускіх падпольных райкомаў КП(б)Б і ЛКСМБ, рэдакцыі газеты «Сацыялістычная вёска» пастаўлена стэла.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.
*Т. Р. Чуракова.*

**в. Усцярхі, Казловіцкі сельсавет**

**852. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). За 0,8 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе каля дарогі Глуск — Рэчыца. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у паветраным баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**853. МАГІЛА П'ЯНКОВА** Пятра Сямёнавіча (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Камандзір узвода 37-й механізаванай брыгады 1-га Украінскага фронту лейтэнант П. С. П'янкоў загінуў 26.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**854. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Уюнішча, Казловіцкі сельсавет**

**855. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — партызаны атрада імя С. М. Кірава 37-й брыгады імя А. Я. Пархоменкі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**856. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, у лесе. Плошча каля 1 га. Выявіў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Халопенічы, Каткаўскі сельсавет**

**857. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**857а.** Гарадзішча. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадзішча, сярод асушаных балот. Пляцоўка амаль круглая, дыяметрам 74 м, умацавана па перыметры земляным валам вышынёй 0,8 м. Роў не прасочаны. Гарадзішча доўгі час разворвалася, у выніку чаго вал моцна аплыў. Уваход размешчаны з паўднёва-ўсходняга боку, аб чым сведчыць паглыбленне на грэбені вала. Вядома з 1924 г., абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1960 г. Л. Д. Побаль, даследаваў у 1978 г. А. А. Егарэйчанка. Прарэзка земляных умацаванняў паказала, што паселішча ўзнікла ў канцы 6 ст. да н. э. і належала плямёнам мілаградскай культуры. Спачатку, відаць, было абкружана драўлянай сцяной, аб чым сведчаць ямы ад слупоў, прасочаныя пад падэшвай вала. У далейшым на месцы сцяны быў насыпаны земляны вал вышынёй больш за 1 м і шырынёй 7,5 м. Напэўна, на яго грэбені існавала дадат-

ковае драўлянае ўмацаванне (пры зачыстцы паверхні прасочаны расплывістыя плямы чорнай зямлі з дробным вуголлем і попелам). Пасля змены мілаградскіх плямён зарубінецкімі вал умацавалі дадатковай падсыпкай да вышыні 1,6 м. На пляцоўцы гарадзішча быў закладзены раскоп плошчай 220 м². Культурны пласт каля вала 0,7 м, бліжэй да цэнтра пляцоўкі — 0,3 м. Прасочана крушня камянёў, якія залягалі палосай уздоўж вала з невялікім ухілам да цэнтра пляцоўкі, частка іх абпалена. Выяўлена шмат ям ад слупоў і некалькі гаспадарчых ям чашападобнай і званападобнай форм (для захавання прадуктаў). Знойдзены ляпная кераміка мілаградскай і зарубінецкай культур, посуд з высокім, адагнутым вонкі венчыкам і моцна прафіляваным тулавам (частка мела ямачную арнаментацыю на шыйцы), грубаляпныя гаршкі без арнаменту, а таксама жалезны нож для жніва, фрагмент наканечніка кап'я, трапецападобная падвеска, фрагмент бронзавага бранзалета, гліняныя праслiцы. Выяўлены рэшткі касцей буйной і дробнай рагатай жывёлы, каня, свінні, аленя. Гарадзішча датуецца 2-й паловай 1-га тысячагоддзя да н. э.— пачаткам 1-га тысячагоддзя н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**857б.** Селішча. За 0,7 км на паўднёвы ўсход ад гарадзішча. Плошча каля 3 га. Вядома з 1924 г. Абследавалі ў 1930 г. А. Рынейскі, у 1964 г. Л. Д. Побаль. У асобных месцах знойдзены дробныя абломкі ляпной і ганчарнай керамікі. Селішча адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі феадалізму.

*Літ.:* Рынейскі А. Археалагічныя разведкі на р. Пціч.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Егорейченко А. А. Раскопки городища у д. Холопеничи.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.

*А. А. Егарэйчанка.*

**в. Хваставічы, цэнтр сельсавета**

**858. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На могілках. У 38 магілах пахавана



**857а.** *Знаходкі з гарадзішча.*



**859.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

каля 50 воінаў і партызан, якія загінулі на тэрыторыі сельсавета ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных камісар атрада імя В. І. Чапаева 37-й партызанскай брыгады імя А. Я. Пархоменкі П. І. Панкратаў. У 1964 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**859. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на захад ад вёскі, на Мыслоцінскай гары. Пахаваны каля 2 тыс. мірных жыхароў, савецкіх ваеннапалонных і партызан, якіх у гады Вялікай Айчыннай вайны закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чыкілі,**
**цэнтр Казловіцкага сельсавета**

**860. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 16 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных партызаны атрада імя М. А. Шчорса 37-й брыгады імя А. Я. Пархоменкі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юзафова, Калаціцкі сельсавет**

**861. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**862. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 6 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Яўсеевічы, Завалочыцкі сельсавет**

**863. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 8 км на паўночны ўсход ад вёскі. Пахаваны 72 жыхары в. Паршчаха, якіх спалілі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1943 г. (гл. артыкул № 835 «Месца спаленай вёскі»). У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**864. МАГІЛА ЖЛОБІЧ** Паліны Сямёнаўны (гіст.). За 8 км на паўночны ўсход ад вёскі, на ўскраіне лесу, на месцы былой в. Паршчаха. Партызанская сувязная П. С. Жлобіч забіта нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г., калі спрабавала папярэдзіць жыхароў вёскі аб наступленні карнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**865. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 32 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



**860.** *Помнік на брацкай магіле партызан.*




# ГОРАЦКІ РАЁН

Рудкаўшчына
Красуліна
Леніна
Стараселле
Хамінічы
Сава
Зубры
Чашнікі
Макараўка
Ходараўка
Маслакі
Палёнка
Рэкта
Мікуліна
Шаўнева
Анікавічы
Сялец
ГОРКІ
Буды
Горы
Чапялінка
Стан
Паршына
Аўсянка
Любіж
Добрая
Копцеўка
Кледнявічы
Рэкатка
Нов. Прыбужжа
Дрыбін
Цёмны Лес
Стар. Прыбужжа
Жавань
Трылесіна
Галавічы
Кароўчына
Карэбы
Расна

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

Помнікі манументальнай скульптуры і жывапісу

## VII. ГОРКІ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Проня (басейн Дняпра), пры ўпадзенні ў яе р. Парасіца. За 86 км ад Магілёва, 3 км ад чыгуначнай станцыі Пагодзіна на лініі Орша — Крычаў. Вузел аўтамабільных дарог на Оршу, Магілёў, Чавусы, Мсціслаў, Смаленск.

Упершыню Горкі ўпамінаюцца ў дакументах сярэдзіны 16 ст. як маёнтак і вёска, якія належалі князям Друцкім-Горскім, уладальнікам мястэчка Горы, што знаходзілася непадалёку. Адсюль назва Горы-Горкі. Да сярэдзіны 18 ст. уваходзілі ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. У 1563 г. у час Лівонскай вайны 1558—83 гг. заняты рускім войскам. З 1584 г. перайшлі ў валоданне Сапегаў. У 1619 г. вялікі канцлер Леў Сапега з мэтай эканамічнага развіцця мястэчка даў для жыхароў прывілей з самакіраваннем накшталт магдэбургскага права. Паводле завяшчання Льва Сапегі ў 1633 г. Горкі адышлі да яго старэйшага сына Яна Станіслава, а з 1635 г.— да малодшага Казіміра. У 1-й палове 17 ст. мястэчка стала горадам. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. жыхары Горак у 1654 г. перайшлі на бок рускага цара, які ў 1656 г. перадаў горад князю Мірскаму. З сярэдзіны 1660-х гадоў горад заняты польска-літоўскімі войскамі. Паводле Андрусаўскага перамір'я 1667 г. Горкі ў складзе Рэчы Паспалітай. У 2-й палове 17 ст. належалі князю Аляксандру Палубінскаму, маршалку вялікаму літоўскаму. Тут існавала праваслаўнае брацтва, пры якім у 1676 г. была адкрыта школа. У 1683 г. у горадзе 510 дамоў, 2 прадмесці — Казімірава Слабада і Зарэчча, у цэнтры быў рынак. Пасля смерці А. Палубінскага (1679 г.) Горкі пераходзяць да яго зяця Юрыя Сапегі. У Паўночную вайну 1700—21 гг. горад апынуўся ў зоне ваенных дзеянняў. З ліпеня да жніўня 1708 г. тут знаходзілася рускае войска на чале з Б. П. Шарамецевым і А. Д. Меншыкавым. Князь А. Д. Меншыкаў у 1711 г. набыў Горкі і валодаў імі да высылкі ў Сібір у 1727 г., пасля чаго горад быў канфіскаваны і адышоў да царскіх уладанняў; у пачатку 30-х гадоў вернуты Сапегам. У 2-й палове 18 ст. перайшоў да графаў Салагубаў. З сярэдзіны 18 ст. у складзе Мсціслаўскага ваяводства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) Горкі ў складзе Расійскай імперыі, мястэчка ў Аршанскім павеце Магілёўскай губерні. У 1777 г. тут былі праваслаўная і 2 уніяцкія царквы, касцёл, штогод адбываліся 2 кірмашы. У канцы 18 ст. існавала суконная мануфактура, прыгонны тэатр і аркестр графа Салагуба.



VII. *Адміністрацыйны будынак па вуліцы Якубоўскага.*

У Айчынную вайну 1812 г. праз Горкі адступаў у ліпені корпус данскіх казакоў на чале з М. Платавым, у наваколлі горада дзейнічалі партызанскія атрады. Пасля 1830—31 гг. Горкі — дзяржаўны маёнтак. У 1840 г. 445 дамоў, заснавана земляробчая школа, ператвораная ў 1848 г. у Горы-Горацкі земляробчы інстытут. У час паўстання 1863—64 гг. горад у кастрычніку 1863 г. заняты паўстанцкім атрадам Л. Звяждоўскага і С. Віскоўскага. З 1861 г. Горкі — цэнтр павета Магілёўскай губерні. У 1880 г.— 4686 жыхароў, мураваны і 837 драўляных дамоў, 93 крамы; галоўныя вуліцы былі добраўпарадкаваны, на іх пастаўлены ліхтары. Дзейнічалі 2 гарбарныя, дражджавы, 5 алейных заводаў, 4 крупадзёркі. Працавалі 4 школы: земляробчая, каморніцка-таксатарскія класы, рамесніцкая і народная. Пры земляробчай школе была вучэбная ферма, механічны і конны заводы, сад і пітомнік пладовых дрэў. У 1897 г. у Горках 6737 жыхароў (41,3 % пісьменных), у 1911 г.— 7519. У 1904 г. былі 34 рамесныя прадпрыемствы (158 рабочых), 821 дом, у т. л. 22 цагляныя, бальніца на 16 ложкаў, 3 сярэднія навучальныя ўстановы (386 вучняў) і 2 ніжэйшыя (193 вучні), друкарня, бібліятэка. У 1870-я гады ў Горках існавала народніцкая арганізацыя, якая мела некалькі гурткоў. У 1902 г. заснавана іскраўская група, на базе якой у канцы 1903 г.— пачатку 1904 г. створана арганізацыя РСДРП, была падпольная друкарня. Горацкая арганізацыя ў 1904 г. увайшла ў склад Палескага камітэта РСДРП. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. працоўныя горада і навучэнцы земляробчага вучылішча правялі ў ліпені і снежні 1905 г. забастоўкі, у студзені і кастрычніку 1905 г.— дэманстрацыі, удзельнічалі ў Кастрычніцкай Усерасійскай палітычнай стачцы. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1.1.1919 г. Горацкі павет у складзе БССР, з канца лютага 1919 г.— у РСФСР, з 26.4. 1919 г.— у Гомельскай, з ліпеня 1922 г.— у Смаленскай губерні РСФСР. У сакавіку 1924 г. павет увайшоў у склад БССР. З ліпеня 1924 г. да ліпеня 1930 г. Горкі — цэнтр раёна Аршанскай акругі, з 1938 г.— Магілёўскай вобл. БССР. 7.4.1919 г. адноўлены Горы-Горацкі земляробчы інстытут (быў закрыты ў 1864 г. пасля задушэння паўстання 1863—64 гг.). У 1933 г. у Горках 8700 жыхароў. Працавалі невялікія цагельні, прадпрыемствы мукамольнай і тарфяной прамысловасці, ільнозавод. У 1939 г. у горадзе 22 475 жыхароў.



VII. *Вуліца Якубоўскага. Фрагмент забудовы.*

У Вялікую Айчынную вайну з 12.7. 1941 да 26.6.1944 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У горадзе і раёне акупанты знішчылі 2530 жыхароў. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (28.8—2.12.1943 г.) і ЛКСМБ (5.1—2.12.1943 г.). Горацкае камуністычнае падполле (67 чалавек, 11 груп). Горкі вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у час Беларускай аперацыі.

Архітэктурна-планіровачная структура горада з прамавугольнай сеткай вуліц абумоўлена рэльефам — ярамі і дробнымі рэчкамі. Склаліся 3 асноўныя раёны: паўночны, на тэрыторыі якога размешчана Беларуская сельскагаспадарчая акадэмія; паўднёвы з чыгуначнай станцыяй Пагодзіна; раён Слабада ў нізіннай частцы горада, у поймах рэк Парасіца і Капылка. Паводле генплана, распрацаванага ў 1980 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва, прадугледжана развіццё горада ў паўднёва-ўсходнім і ўсходнім напрамках, стварэнне на р. Парасіца вадасховішчаў, парку са спартыўным комплексам. Асноўныя вуліцы — Якубоўскага, Леніна, Савецкая, Заслонава, Калініна, Вакзальная — забудаваны двух-, пяціпавяр-

ховымі жылымі дамамі, магазінамі. Вул. Якубоўскага злучае 2 плошчы, дзе ўзведзены будынкі гаркома КПБ, райвыканкома, Дома культуры, кінатэатра, дзяржбанка, гасцініцы, камбіната бытавога абслугоўвання, універмага. Паводле генплана жыллёвае будаўніцтва вядзецца пераважна ў цэнтральнай частцы, у раёне шашы, што злучае чыгуначны вакзал з тэрыторыяй Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, карпусы якой па вул. Ціміразева дамінуюць у архітэктуры горада. Жылая забудова пераважна сядзібнага тыпу.

Прамыслова-складская зона размешчана каля станцыі Пагодзіна. Працуюць заводы жалезабетонных вырабаў, маслазавод, хлебазавод, ільнозавод, вытворчы ўчастак Шклоўскага мэблевага аб'яднання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, элеватар. У горадзе 4 сярэднія, 2 вячэрнія, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 7 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, 3 бальніцы. Выдаецца раённая газета «Ленінскі шлях». Помнікі: У. І. Леніну; С. Дз. Пагодзіну; Вызвалення; на брацкіх магілах падпольшчыкаў і ахвяр фашызму, савецкіх воінаў, ваеннапалонных, харчатрадаўцаў; бюст двойчы Героя Савецкага Саюза І. І. Якубоўскага; выкладчыкам, студэнтам, рабочым і служачым БСГА і інш.

Зона адпачынку — парк з сажалкамі на тэрыторыі горада, маляўнічыя лясныя масівы вакол Горак.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Без-Корнилович М. О. Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии с присовокуплением и других сведений, к ней же относящихся.—СПб., 1855; Васілеўскі Д. М. Кароткі нарыс гісторыі Горацкага раёна і г. Горак.— У кн.: Працы навуковага таварыства па вывучэнню Беларусі. Горкі, 1927, т. 3; Цытовіч С. 1863 год у Горы-Горках быўш. Магілёўскай губ. (Падзеі паўстання).— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1929, кн. 8, т. 3; Лившиц В. М. Горкі: Историко-экономический очерк.— Мн., 1984.

*А. П. Грыцкевіч, А. Ю. Пятросава.*

**866. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Вул. Горкага, 1. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 стагоддзяў з цэглы. Цяпер тут Дом піянераў і школьнікаў.

Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае ў тарцах трохвугольныя франтоны. Галоўны фасад сіметрычны, з неглыбокім рызалітам у цэнтры. Фасады члянёны лучковымі аконнымі праёмамі з ліштвамі і замковым каменем. Вуглы ўмацаваны плоскімі лапаткамі. Пад дахам па перыметры будынка праходзіць шматслойны карніз. Уваходная частка вылучана невысокім мураваным ганкам і арачным казырком на чыгунных ажурных кранштэйнах. Сістэма планіроўкі калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**867. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). На вул. Крупскай, 3. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Цяпер тут аддзел унутраных спраў Горацкага райвыканкома.

Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам, пад якім праходзіць шматслойны карніз з лякальнай цэглы. Галоўны фасад сіметрычны, з неглыбокімі рызалітамі па баках, дзе размешчаны ўваходы. Кожны з уваходаў вылучаны 2 канеліраванымі паўкалонамі з карынфскімі капітэлямі. Над высокімі ганкамі зроблены казыркі на фігурных чыгунных кранштэйнах. Над рызалітамі і ў цэнтры атыкавыя сценкі, дэкарыраваны лепкай у выглядзе лісцяў аканта і вазамі па баках. Высокія лучковыя аконныя праёмы ў цэнтры акаймаваны паўкалонкамі з канелюрамі і іанічнымі капітэлямі. Замковыя камяні ў ліштвах аздоблены лісцямі аканта. Сістэма планіроўкі калідорная з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**868. БЕЛАРУСКАЯ СЕЛЬСКАГАСПАДАРЧАЯ АКАДЭМІЯ,** БСГА (гіст., архіт.). У паўночна-ўсходняй частцы горада.

24.4.1836 г. сенат зацвердзіў Указ аб адкрыцці ў казённым маёнтку Горы-Горкі (больш за 55 тыс. дзесяцін зямельных і лясных угоддзяў) земляробчай школы. Яна стала асновай для стварэння адной з першых у Расіі і за мяжой вышэйшых сельскагаспадарчых навучальных устаноў. 30.5.1837 г. адбылася ўрачыстая закладка будынка школы (цяпер корпус № 4). У будаўніцтве ўдзельнічала ўсё насельніцтва акругі, арцелі майстроў з розных губерняў. Да 1840 г. пастаўлена 35 будынкаў: вучэбныя і жылыя карпусы, аранжарэя, майстэрні, лазарэт, лазня і інш. Школа адкрыта 15.8.1840 г. Мела 2 разрады. Першы (ніжэйшы) рыхтаваў земляробаў для вядзення гаспадаркі па распрацаваным плане. Сюды прымалі юнакоў ад 16 да 20 гадоў розных саслоўяў, у т. л. сялян, якія скончылі пачатковую школу. Навучанне 3 гады. Навучэнцы павінны былі авалодаць спецыяльнымі сельскагаспадарчымі ведамі, выконваць практычныя работы. Галоўную ўвагу аддавалі земляробству, жывёлагадоўлі, лесаводству, садоўніцтву, выкладалі граматыку і закон божы. Першы разрад школы па сутнасці з'яўляўся ніжэйшай сельскагаспадарчай школай. Другі (вышэйшы) разрад рыхтаваў аграномаў для абслугоўвання казённых і памешчыцкіх гаспадарак. Гэты разрад папаўняўся толькі навучэнцамі з вышэйшых саслоўяў. Навучанне 3 гады. Выкладалі фізіку, хімію, заалогію, батаніку, а таксама агульную аграномію, лесазнаўства, давалі веды па геаграфіі, гісторыі, асушцы балот, рэзанні торфу, сельскай архітэктуры, статыстыцы. Школа была закрытай навучальнай установай, усе вучні па-



**VII.** *Вуліца Ціміразева. Фрагмент забудовы.*



868. *Куток парку.*

вінны былі жыць у пансіёне пад наглядам адміністрацыі.

19.1.1842 г. вышэйшы разрад школы рэарганізаваны ў самастойную вышэйшую навучальную ўстанову, у якую прымаліся дзеці дваран і разначынцаў, што скончылі гімназію ці вытрымалі экзамен. У вучэбны план яе дадаткова ўключана выкладанне рускага заканадаўства, механікі, геадэзіі, ветэрынарыі, мінералогіі і інш. Галоўным арганізатарам Вышэйшай сельскагаспадарчай школы, складальнікам вучэбнага плана і педагогам



868. *Парк «Ніжняе возера».*

быў прафесар Б. А. Цалінскі, які правёў у Горках 23 гады. Сярод першых выпускнікоў школы сябра М. Г. Чарнышэўскага І. У. Палімпсестаў (пазней выкладаў у Адэскім універсітэце), прафесар Пятроўскай акадэміі І. М. Чарнапятаў.

У 1845 г. пры Горы-Горацкай земляробчай школе была адкрыта вучэбная ферма (1088 дзесяцін зямлі). Яна забяспечвала край племяннoй жывёлай, сартавым насеннем. Тэрмін навучання 4 гады.

30.6.1848 г. Вышэйшая сельскагаспадарчая школа рэарганізавана ў Горы-Горацкі земляробчы інстытут, ніжэйшы разрад земляробчай школы — у земляробчае вучылішча. Выдаваліся «Запіскі Горы-Горацкага земляробчага інстытута» (1852—57 гг.), дзе друкаваліся навуковыя працы супрацоўнікаў інстытута, у т. л. выпускнікоў інстытута: першага ў Расіі доктара сельскай гаспадаркі прафесара А. В. Саветава і прафесара І. А. Сцебута. У 1860 г. па ініцыятыве выкладчыкаў І. А. Сцебута, Ю. Ю. Жэбенкі і Э. Ф. Рэго быў адкрыты студэнцка-прафесарскі клуб. У ім па прапанове прафесара А. М. Казлоўскага з удзелам прафесараў І. А. Сцебута і А. А. Гінцаля, студэнтаў С. І. Віскоўскага і В. Дамарацкага створаны праект арганізацыі Магілёўскага земляробчага таварыства. 10.8.1861 г. у Горках адбыўся сельскагаспадарчы з'езд. Напярэдадні нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. існавала рэвалюцыйная арганізацыя, якую ўзначальваў студэнт Дымкевіч (загінуў), з студзеня 1863 г. С. І. Віскоўскі. Членамі арганізацыі былі студэнты В. Дамарацкі, В. Антановіч, П. Козел, К. Дзяконскі, навучэнец каморніцка-таксатарскіх класаў Д. Кілдыш, С. Маргулец, Р. Чарвінскі, міравы пасрэднік Аршанскага павета памешчык З. Міткевіч, старшыня Чэрыкаўскага павятовага суда Ф. Чудоўскі. Па заданню арганізацыі С. Віскоўскі ездзіў у Пецярбург і Маскву, прывёз для паўстанцаў зброю. Літоўскі правінцыяльны камітэт прызначыў паўстанцкім ваенным начальнікам Магілёўскай губерні і начальнікам Горацкага паўстанцкага атрада Л. М. Звяждоўскага, паўстанцкім начальнікам г. Горкі — С. І. Віскоўскага. У ноч на 24.4.1863 г. атрад Л. М. Звяждоўскага (да 70 чалавек) захапіў Горкі. Да атрада далучыліся каля 60 навучэнцаў земляробчага вучылішча. У баі загінулі 3 студэнты, у т. л. Дамарацкі. Атрад (140 чалавек, 50 коней) выйшаў з Горак у напрамку на Крычаў, да іх далучыўся Чэрыкаўскі паўстанцкі атрад Я. В. Жукоўскага. 29.4.1863 г. у лесе каля Прапойска (цяпер Слаўгарад) атрад быў акружаны, частка паўстанцаў захоплена ў палон. Пад следствам апынуліся 5 выкладчыкаў інстытута. Ю. Жэбенка, А. Гінцаль,




868. *Адміністрацыйны корпус. План 1-га паверха.*

Ц. Выбраноўскі, Ф. Вянцкоўскі, А. Казлоўскі, ксёндз Манюшка і 59 студэнтаў былі прыгавораны судом да катаргі і ссылкі. В. Антановіч засуджаны на 20 гадоў катаргі, З. Міткевіч — на 15, С. Віскоўскі, П. Козел, Р. Чарвінскі — на 12, Л. М. Звяждоўскі павешаны. За ўдзел студэнтаў у паўстанні інстытут у 1864 г. быў закрыты і пераведзены ў Пецярбург (Санкт-Пецярбургскі земляробчы інстытут). У 1877 г. аб'яднаны з Санкт-



868. *Будынак бібліятэкі. Галоўны фасад.*




868. *Будынак бібліятэкі. План 1-га паверха.*

Пецярбургскім лясным інстытутам. У Горках засталіся земляробчае вучылішча і каморніцка-таксатарскія класы (заснаваны ў 1858 г., з 1909 г. каморніцка-агранамічнае вучылішча). У 1872 г. адкрыта Горацкае рамеснае (з 1911 г. сельскагаспадарчае рамеснае) вучылішча. 9.4.1919 г. у Горках быў адноўлены земляробчы інстытут, які меў 4 факультэты: агранамічны, меліярацыйны, лясны і сельскагаспадарчага машыназнаўства. У 1925 г. пры інстытуце адкрыты рабфак. У 1925 г. інстытут аб'яднаны з Беларускім дзяржаўным інстытутам сельскай і лясной гаспадаркі, на іх базе арганізавана Беларуская дзяржаўная акадэмія сельскай гаспадаркі імя Кастрычніцкай рэвалюцыі. Факультэты: агранамічны, лясны, землеўпарадкавальны і меліярацыйны. У 1931 г. акадэмія падзелена на 11 галіновых інстытутаў, 4 з іх пераведзены ў інш. гарады рэспублікі. З 1933 г. усе горацкія інстытуты зноў аб'яднаны ў Беларускі інстытут сельскай гаспадаркі.

У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі нанеслі інстытуту значныя страты. Былі знішчаны бібліятэка (650 тыс. кніг), аранжарэя, цяпліцы, шмат вучэбных і жылых карпусоў, клуб. Абсталяванне вывезена ў Германію. У 1945 г. інстытут адноўлены. У 1948 г. перайменаваны ў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію. На 1.1.1986 г. у акадэміі: факультэты аграхіміі і глебазнаўства, агранамічны, зоаінжынерны, землеўпарадкавальны, механізацыі сельскай гаспадаркі, гідрамеліярацыйны, механізацыі гідрамеліярацыйных работ, эканамічны, бухгалтарскага ўліку; падрыхтоўчае аддзяленне. Навучанне дзённае і завочнае, з 1947 г. аспірантура. У Акадэміі набываюць вышэйшую адукацыю замежныя студэнты з 48 краін. БСГА выдае зборнікі навуковых прац, навуковыя дапаможнікі, газету «Советский студент». Узнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга (1940 г.), ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі (1976 г.).



868. *Вучэбны корпус № 4. Галоўны фасад.*



868. *Вучэбны корпус № 4. План 1-га паверха.*

Архітэктурны комплекс акадэміі ўключае рэканструяваныя пасля Вялікай Айчыннай вайны старыя будынкі (бібліятэка, корпус № 4, жылыя, прафесарска-выкладчыцкага саставу, таксатарскі і інш.) і пабудаваныя ў 1960—80-я гг. новыя карпусы: галоўны вучэбны, жылыя, спартыўны, інтэрнаты, Палац культуры. Усе будынкі размешчаны ў маляўнічым пейзажным парку. Шырокая ўязная ліпавая алея вядзе да былога галоўнага корпуса (цяпер вучэбны корпус № 4). Перад ім шырокі партэр з газонамі прамавугольнай формы і клумбамі. Уздоўж алеі разбіты курціны з пасадкамі елкі і туі. З усходу парк агінае р. Капылка, якая ўтварае ў паўночнай частцы комплексу сажалку («Ніжняе возера») з маляўнічым бярозавым гаем на беразе. Вышэй па цячэнні ракі ёсць другая сажалка «Верхняе возера». На паўночна-ўсходняй ускраіне размешчаны рэгулярны, радыяльнай планіроўкі пладовы сад вучэбнай гаспадаркі акадэміі.

Адміністрацыйны корпус. У цэнтры ансамбля. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохпавярховы будынак прамавугольны ў плане, з бакавой прыбудовай. Галоўны фасад сіметрычны. 1-ы паверх аддзелены карнізам-перацяжкай з сухарыкамі. Унутраная планіроўка памяшканняў асіметрычная.

Будынак бібліятэкі. У паўднёва-ўсходняй частцы ансамбля. Перабудаваны ў 1930-я гады з былой царквы ў стылі канструктывізму. Уяўляе сабой двухпавярховы мураваны будынак складанай у плане формы. Плоскія сцены фасадаў чляпёны высокімі прамавугольнымі аконнымі праёмамі без ліштваў.

Вучэбны корпус № 4 (былы галоўны корпус № 1). У цэнтральнай частцы ансамбля. Пабудаваны ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы ў класіцыстычным стылі, разбураны ў Вялікую Айчынную вайну. У 1954 г. адноўлены, унутраная планіроўка часткова зменена. Трохпавярховы будынак прамавугольны ў плане. Галоўны фасад сіметрычны, у цэнтры вылучаны несапраўдным порцікам з дарычнымі паўкалонамі і строгім трохвугольным франтонам. Перад галоўным фасадам шырокі партэр, да яго вядзе ўязная



868. *Галоўны вучэбны корпус.*

алея. Дваровы фасад у цэнтральнай частцы і тарцовыя фасады завершаны трохвугольнымі шчытамі. Дэкор лаканічны, вытрыманы ў класіцыстычнай манеры. Па ўсім перыметры праходзіць карніз з сухарыкамі. Над аконнымі праёмамі бакавых частак 2-га паверха галоўнага фасада трохвугольныя франтончыкі. Аконныя праёмы 1-га паверха аздоблены замковымі камянямі. Сістэма планіроўкі калідорная.

Галоўны вучэбны корпус. Па вул. Мічурына, 5. Пабудаваны ў 1965 г. з цэглы. Будынак прамавугольны ў плане. Уключае 2 пяціпавярховыя і трохпавярховы аб'ёмы. Вырашаны ў лаканічных архітэктурных формах без дэкаратыўнага афармлення. Галоўны фасад рытмічна чляпёны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, уваход вылучаны казырком. У пяціпавярховых аб'ёмах размешчаны адміністрацыйныя памяшканні, аўдыторыі, кабінеты, лабараторыі, у трохпавярховым — актавая зала на 1000 месцаў.

Дзіцячы сад. У паўночна-ўсходняй частцы ансамбля. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Злучаны з былым таксатарскім корпусам. Двухпавярховы будынак сіметрычны ў плане. Галоўны і дваровы фасады маюць рызаліты. Рызаліт галоўнага фасада завершаны ступеньчатым атыкам. Паміж аконнымі праёмамі 1-га



868. *Дзіцячы сад. План 1-га паверха.*




868. *Жылы дом. План 1-га паверха.*

паверха праходзіць гарызантальны руст. Над цэнтральным уваходам навісае казырок на 2 чыгунных ажурных кранштэйнах. 1-ы паверх заняты памяшканнямі дзіцячага сада, 2-і выкарыстоўваецца як жылы.

Жылы дом. У паўночнай частцы ансамбля. Пабудаваны ў 1925 г. з дрэва. Двухпавярховы сіметрычны ў плане будынак накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Сцены вертыкальна ашаляваны, фундамент з бутавых камянёў. Аконныя праёмы ў ліштвах. Уваход скразны, з боку галоўнага фасада высокі мураваны ганак. Тут у 1926—28 гг. жыў беларускі пісьменнік М. Гарэцкі, які працаваў у акадэміі загадчыкам кафедры беларускай мовы.




868. *Прафесарскі корпус. План 1-га паверха.*




868. *Таксатарскі корпус. План 1-га паверха.*

Вучэбны корпус факультэта гідрамеліярацыі. У паўночна-заходняй частцы комплексу. Пабудаваны ў 1973 г. з цэглы. Уключае 3 зблакіраваныя прамавугольныя ў плане адна-, двух- і чатырохпавярховыя аб'ёмы. Вырашаны ў строгіх формах, пазбаўленых вонкавага дэкору. Сцены абліцаваны чырвонай керамічнай пліткай. Планіроўка калідорная.

Прафесарскі корпус. На паўночнай ускраіне ансамбля. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Трохпавярховы будынак з высокім паўпадвалам, у плане прамавугольны. Сіметрычныя фасады вылучаны рызалітамі, афармлены па вуглах руставанымі лапаткамі. Над рызалітам галоўнага фасада — ступеньчаты атык з арнаментам на карнізе. 1-ы паверх аддзелены ад 2-га карнізам, на галоўным фасадзе гарызантальна руставаны. Сцены на ўзроўні 2-га і 3-га паверхаў чляненны лапаткамі. Аконныя праёмы ў ліштвах. У цэнтральнай частцы будынка ў межах рызалітаў 2 лесвічныя клеткі.

Таксатарскі корпус. У паўночна-ўсходняй частцы ансамбля. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Злучаны з будынкам дзіцячага сада. Двухпавярховы аб'ём, у плане блізкі да квадрата. Галоўны фасад сіметрычны, вылучаны невялікім рызалітам і 3 прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Будынак не мае дэкаратыўных элементаў. Сістэма планіроўкі нерэгулярная. Выкарыстоўваецца як жылы дом.

Фізіка-хімічны корпус.



868. *Фізіка-хімічны корпус. Галоўны фасад.*




868. *Фізіка-хімічны корпус. План 1-га паверха.*

У паўночнай частцы ансамбля. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Двухпавярховы будынак, у плане складанай кампазіцыі. Галоўны фасад




869. *Помнік на брацкай магіле падпольшчыкаў і ахвяр фашызму. Фрагмент.*

сіметрычны. Цэнтральная частка паглыблена і вышэй за бакавыя. Высокія паўцыркульныя вокны надаюць будынку парадны выгляд. У дэкоры выкарыстаны плоскія лапаткі, сухарыкі над аконнымі праёмамі. Астатнія фасады пазбаўлены дэкору і несіметрычныя па сваёй кампазіцыі.

*Літ.:* Цитович С. Г. Горы-Горецкий земледельческий институт — первая в России высшая сельскохозяйственная школа (1836—1864 гг.).— Горки, 1960; Белорусская ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственная академия: Очерки истории.— Мн., 1965; Белорусская ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственная академия.— Мн., 1972.

*В. М. Баскова, В. Б. Караткевіч, А. М. Кулагін, А. Ю. Пятросава.*

**869. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Ціміразева. На тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Пахавана больш за 10 тыс. савецкіх грамадзян, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных — падпольшчыкі, члены іх сем'яў.

12.7.1941 г. Горкі акупіравалі нямецка-фашысцкія захопнікі, якія адразу ўстанавілі тут рэжым крывавага тэрору. У вучэбным корпусе № 1 акадэміі быў размешчаны гітлераўскі засценак, у аўдыторыі № 81 — «камера смерці», у скверы пастаўлены шыбеніцы. Сад на тэрыторыі акадэміі пераўтвораны ў месца масавых расстрэлаў савецкіх людзей. У першыя дні акупацыі гітлераўцы расстралялі 130 дзяцей мясцовага дзіцячага дома ва ўзросце да 10 гадоў, вясной 1942 г.— некалькі членаў падпольнай арганізацыі і іх сем'і.



873. *Бюст І. І. Якубоўскага.*

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

У 1980 г. помнік рэканструяваны.

*Літ.:* Белорусская ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственная академия: Очерки истории.— Мн., 1965.

*В. М. Баскова.*

**870. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Вакзальная. На могілках. Пахаваны маёр-інжынер К. І. Цыбульскі, радавыя У. А. Скварцоў і І. К. Сукач, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**871. БРАЦКАЯ МАГІЛА ХАРЧАТРАДАЎЦАЎ** (гіст.). Вул. Мсціслаўская, у скверы.

У маі 1919 г. з Горак у вёскі павета выехаў невялікі харчатрад для збору лішкаў збожжа. 26 мая каля в. Шэды банда кулакоў акружыла атрад. Бандыты закатавалі 11 харчатрадаўцаў. У 1930 г. на магіле пастаўлена калона, у Вялікую Айчынную вайну разбурана, у 1947 г. помнік адноўлены.

*В. М. Баскова.*



871. *Помнік на брацкай магіле харчатрадаўцаў.*

**872. БУДЫНАК СТАМАТАЛАГІЧНАЙ ПАЛІКЛІНІКІ** (архіт.). Вул. Леніна, 22. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы як дзяржаўная установа.

Аднапавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны выцягнуты фасад мае сіметрычную кампазіцыю. Яго цэнтральная частка вылучана неглыбокім рызалітам з плоскімі лапаткамі па вуглах. Лучковыя вокны з ліштвамі і замковым каменнем. Сістэма планіроўкі калідорная, з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў.

Будынак паліклінікі — помнік эклектычнай архітэктуры.

*А. Ю. Пятросава.*

**873. БЮСТ ЯКУБОЎСКАГА** Івана Ігнатавіча (маст.). На вул. Якубоўскага, насупраць будынка гаркома КПБ.

У 1950 г. скульптурны партрэт (скульпт. К. Кошкін; бронза, граніт; вышыня бюста 0,9 м, пастамента 2,9 м) двойчы Героя Савецкага Саюза, савецкага военачальніка Маршала Савецкага Саюза І. І. Якубоўскага ўстаноўлены на гранітным пастаменце, які складаецца з калоны на кубічнай базе і ступеньчатага стылабата. У скульптурнай выяве падкрэслены энергічны, мужны характар героя. Пластыка мяккая з выразным размеркаваннем светаценю. Амаль авальны плечавы зрэз абрамлены драпіроўкай. На плоскасці пастамента бронзавы картуш, на якім тэкст Указа Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб прысваенні І. І. Якубоўскаму ў другі раз звання Героя Савецкага Саюза. Гл. таксама артыкул № 917 «Радзіма Якубоўскага Івана Ігнатавіча». *Г. М. Ярмоленка.*

**874. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўрочышчы Белы Ручай, за 0,8 км на поўнач ад горада. Пахавана каля 2 тыс. савецкіх грамадзян, якіх 17.10.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**875. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, у парку. Пахавана больш за 300 ваеннапалонных, закатаваных нямецка-фашысцкімі захопні-



874. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



879. *Помнік Вызвалення.*

камі. У 1982 г. на магіле ўстаноўлена гранітная пліта.

**876. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАРОБКІНУ** Мікалаю Яўхімавічу (гіст.). Вул. Крупскай, 3, на будынку аддзела ўнутраных спраў райвыканкома. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці ўчастковага ўпаўнаважанага Горацкага раённага аддзялення міліцыі М. Я. Каробкіна, які загінуў у 1946 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**877. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НОВІКАВУ** Дзям'яну Раманавічу (гіст.). Вул. Паркавая, 1, на будынку бібліятэкі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Устаноўлена ў 1980 г. на ўшанаванне памяці дырэктара бібліятэкі (1919—76 гг.), заслужанага дзеяча культуры БССР (1965 г.) Дз. Р. Новікава.

**878. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СУРГАНАВУ** Фёдару Анісімавічу (гіст.). Вул. Мічурына, 5. Устаноўлена ў 1980 г. на будынку галоўнага корпуса Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі.

Савецкі дзяржаўны і партыйны дзеяч Ф. А. Сурганаў нарадзіўся 25.5. 1911 г. у в. Суднікі Віцебскага р-на. Член КПСС з 1940 г. У 1939 г. скончыў Беларускі сельскагаспадарчы інстытут (цяпер БСГА). З 1939 г. сакратар Горацкага райкома ЛКСМБ, 1-ы сакратар Магілёўскага абкома ЛКСМБ. У 1942—45 гг. сакратар ЦК ЛКСМБ. У 1942—43 г. на Калінінскім фронце ў аператыўнай групе ЦК КП(б)Б і Беларускага штаба партызанскага руху. З жніўня 1943 г. да ліпеня 1944 г. у тыле ворага, упаўнаважаны ЦК КП(б)Б і Цэнтральнага штаба партызанскага руху, адзін з кіраўнікоў камсамольскага падполля і партызанскага руху ў Вілейскай, Баранавіцкай і Беластоцкай абласцях. З 1945 г. намеснік загадчыка аддзела ЦК КП(б)Б, у 1947—54 гг. другі, у 1955—56 гг. першы сакратар Мінскага абкома КПБ, у 1954—55 гг. старшыня Мінскага аблвыканкома. З 1956 г. сакратар, з 1959 г. другі сакратар ЦК КПБ. У 1962—65 гг. старшыня Бюро ЦК КПБ па кіраўніцтву сельскай гаспадаркай, сакратар ЦК КПБ, з 1965 г. другі сакратар ЦК КПБ. З 1971 г. Старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР, намеснік Старшыні Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР. Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1956—61 гг., член ЦК КПСС з 1961 г. Кандыдат у члены ЦК КПБ у 1949—56 гг., член ЦК КПБ з 1956 г., член Бюро ЦК КПБ з 1956 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1954 г., намеснік Старшыні Савета Нацыянальнасцей Вярхоўнага Савета СССР у 1962—66 гг., старшыня Камісіі па сельскай гаспадарцы Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР у 1966—70 гг., старшыня Камісіі па гандлю, бытавому абслугоўванню і камунальнай гаспадарцы Савета Саюза Вярхоўнага Савета СССР у 1970—71 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР з 1951 г.

Ф. А. Сурганаў памёр 26.12.1976 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імем названы вуліца ў Мінску, Лужаснянскі саўгас-тэхнікум у Віцебскім р-не.

**879. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Якубоўскага і Вакзальнай, каля аўтавакзала. Процітанкавая гармата на пастаменце ўстаноўлена ў 1982 г. у гонар воінаў 33-й і 49-й армій 2-га Беларускага фронту, 1-й і 4-й паветраных армій, якія ў чэрвені 1944 г. вызвалілі Горкі



881. *Помнік М. Ф. Іванову.*

і Горацкі р-н ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**880. ПОМНІК ВЫКЛАДЧЫКАМ, СТУДЭНТАМ, РАБОЧЫМ І СЛУЖАЧЫМ БСГА** (гіст., маст.). На тэрыторыі вучэбнай гаспадаркі акадэміі. Пастаўлены ў 1972 г. на ўшанаванне памяці 210 выкладчыкаў, студэнтаў, рабочых і служачых БСГА, якія загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе



880. *Помнік выкладчыкам, студэнтам, рабочым і служачым БСГА.*




883. *Помнік У. І. Леніну на плошчы Леніна.*

супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ў Вялікую Айчынную вайну.

У першыя дні вайны па фронт пайшлі ўсе афіцэры запасу з ліку студэнтаў і выкладчыкаў акадэміі, 27 студэнтак — медсёстрамі. Студэнты інжынерна-землеўпарадкавальнага факультэта акадэміі П. Нікіцін, Б. Мешчанінаў, С. Гаўрылаў кіравалі работай насельніцтва па будаўніцтву абарончых умацаванняў. Створаны Горацкім райкомам КП(б)Б для аховы чыгункі і шашы Горкі — Орша знішчальны батальён амаль цалкам складаўся з выкладчыкаў і студэнтаў акадэміі. Частка батальёна, якую ўзначальваў старшы выкладчык кафедры марксізма-ленінізма М. Бараноўскі, пасля акупацыі горада адышла да г. Рослаў Смаленскай вобл., вяла партызанскую барацьбу з гітлераўцамі. У лістападзе 1941 г. байцы батальёна перадыслацыраваліся ў Бялыніцкі р-н Магілёўскай вобл., дзе аб'ядналіся з мясцовымі партызанамі.

Помнік (скульпт. А. Скрабко; бетон; вышыня скульптур 4,3 м) — размешчаная на прыўзнятай пляцоўцы архітэктурна-скульптурная кампазіцыя: мемарыяльная сцяна з імёнамі 210 загінуўшых, скульптурная група і адзінаццаціметровы пілон, увенчаны рэльефнай выявай коласа. З 2 бакоў да пляцоўкі вядуць шырокія прыступкі, якія пераходзяць у бетанаваныя дарожкі з газонамі. На развілцы дарожак пліта з надпісам-прысвячэннем і выявай лаўровага вянка.

*Літ.:* Белорусская ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственная академия: Очерки истории.— Мн., 1965.

*В. М. Баскова, Г. М. Ярмоленка.*

**881. ПОМНІК ІВАНОВУ** Міхаілу Фёдаравічу (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі БСГА. Бюст устаноўлены ў 1964 г.

Савецкі вучоны ў галіне жывёлагадоўлі, акадэмік УАСГНІЛ (1935 г.), заслужаны дзеяч навукі і тэхнікі РСФСР (1929 г.) М. Ф. Іваноў нарадзіўся 20.9.1871 г. у Ялце. У 1891 г. скончыў Горацкае земляробчае вучылішча, у 1897 г.— Харкаўскі ветэрынарны інстытут, працаваў ветэрынарам у Арлоўскай губерні. У 1898 г. накіраваны для стажыроўкі за мяжу, азнаёміўся з жывёлагадоўляй Германіі, Нідэрландаў, Швейцарыі, Італіі, праслухаў курс лекцый на сельскагаспадарчым аддзяленні Цюрыхскага політэхнічнага інстытута. З 1900 г. дацэнт, потым прафесар кафедры жывёлагадоўлі Харкаўскага ветэрынарнага інстытута. З 1914 г. прафесар Маскоўскага сельскагаспадарчага інстытута (цяпер Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя К. А. Ціміразева). У 1926—30 гг. адначасова прафесар маскоўскіх інстытутаў зоатэхнічнага і авечкагадоўлі. З 1933 г. загадваў кафедрай заатэхніі Вышэйшага камуністычнага сельскагаспадарчага універсітэта імя Я. М. Свярдлова. З 1929 г. старшыня секцыі жывёлагадоўлі УАСГНІЛ. У 1935 г. выбраны членам ЦВК СССР. Зрабіў значны ўклад у распрацоўку тэорыі арганізацыі племянной справы і вывядзення новых парод сельскагаспадарчых жывёл. Па яго ініцыятыве ў 1925 г. была арганізавана зоатэхнічная доследная і племянная станцыя ў Асканіі-Нова Херсонскай вобл. (цяпер Украінскі навукова-даследчы інстытут жывёлагадоўлі стэпавых раёнаў імя М. Ф. Іванова «Асканія-Нова»). Вывеў асканійскую пароду танкарунных авечак, украінскую стэпавую белую пароду свіней. Распрацаваў навуковую класіфікацыю смушак, якая стала асновай баніціроўкі і сучаснай сістэмы племянной работы па развядзенню каракульскіх авечак. Аўтар больш за 200 навуковых прац. М. Ф. Іваноў памёр 29.11.1935 г., пахаваны ў Маскве. У 1968 г. зацверджаны залаты медаль імя М. Ф. Іванова, які прысуджае УАСГНІЛ.

*Літ.:* Елагин В. Д. Цель жизни.— М., 1961; Иванова Н. К. Академик М. Ф. Иванов: Жизнь и деятельность.— 2 изд.— М., 1953.



884. *Помнік Дз. М. Пранішнікаву.*

**882. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Паркавая, на тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі, каля будынка бібліятэкі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1947 г.

**883. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На пл. Леніна, каля будынка райвыканкома. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1982 г.

**884. ПОМНІК ПРАНІШНІКАВУ** Дзмітрыю Мікалаевічу (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. Бюст устаноўлены ў 1964 г.

Савецкі аграхімік, біяхімік і фізіёлаг раслін, акадэмік АН СССР (1929 г.), УАСГНІЛ (1935 г.), Герой Сацыялістычнай Працы (1945 г.) Дз. М. Пранішнікаў нарадзіўся 25.10. 1865 г. у г. Кяхта. У 1887 г. скончыў Маскоўскі універсітэт, у 1889 г.— Пятроўскую земляробчую і лясную акадэмію (з 1923 г. Маскоўская сельскагаспадарчая акадэмія імя К. А. Ціміразева). Вучань і пераемнік К. А. Ціміразева. У 1892—94 гг. вывучаў сельскую гаспадарку за мяжой. З 1895 г. кіраўнік кафедры прыватнага земляробства, потым кафедры аграхіміі ў Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі. У 1912 г. арганізаваў пры кафедры Станцыю жыўлення раслін (цяпер Аграхімічная доследная станцыя імя Дз. М. Пранішнікава). У 1891—1931 гг. чытаў лекцыі ў Маскоўскім універсітэце, на Галіцынскіх вышэйшых жаночых сельскагаспадарчых курсах (у 1909—17 гг. дырэктар курсаў), у Маскоўскім сельскагаспадарчым інстыту-



885. *Помнік М. В. Рытаву.*

це (у 1916—17 гг. рэктар), працаваў у шэрагу навуковых інстытутаў, арганізаваных пры яго непасрэдным удзеле, у т. л. Усесаюзным навукова-даследчым інстытуце ўгнаенняў і аграглебазнаўства, якому прысвоена яго імя. Быў прафесарам-кансультантам Горацкага сельскагаспадарчага інстытута. Асноўныя працы Дз. М. Пранішнікава прысвечаны пытанням жыўлення раслін і выкарыстання мінеральных угнаенняў. У 1916 г. сфармуляваў тэорыю азотнага жыўлення раслін, якая стала класічнай; даў схему ператварэння азотзмяшчальных рэчываў у раслінах, распрацаваў навуковыя асновы фасфарытавання глеб, удасканаліў метады вывучэння жыўлення раслін, аналізу раслін і глеб, вегетацыйнага доследу, даў фізіялагічную характарыстыку айчынных калійных солей. Лаўрэат прэмій імя У. І. Леніна 1926 г., імя К. А. Ціміразева 1946 г., Дзяржаўнай прэміі 1941 г. Дз. М. Пранішнікаў памёр 30.4.1948 г. Пахаваны ў Маскве. Сваю бібліятэку ў 8 тыс. тамоў завяшчаў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі. На тэрыторыі Маскоўскай сельскагаспадарчай акадэміі імя К. А. Ціміразева вучонаму пастаўлены помнік. Яго імем названы Пермскі сельскагаспадарчы інстытут.

*Літ.:* Академик Д. Н. Прянишников.— М., 1948; Петербургский А. В., Смирнов П. М., Д. Н. Прянишников и его учение.— М., 1962; Д. Н. Прянишников: Жизнь и деятельность.— М., 1972.

**885. ПОМНІК РЫТАВУ** Міхаілу Васільевічу (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі БСГА. Бюст устаноўлены ў 1964 г.

Беларускі вучоны-аграном, адзін з заснавальнікаў навуковага агародніцтва і пладаводства на Беларусі М. В. Рытаў нарадзіўся 4.1.1846 г. у г. Навамірград Кіравахградскай вобл. у сям'і інжынера-хіміка. У 1871 г. скончыў юрыдычны факультэт, у 1878 г. прыродазнаўчае аддзяленне фізіка-матэматычнага факультэта Маскоўскага універсітэта. З 1879 г. выкладчык Горы-Горацкай земляробчай школы, у 1918—19 гг. прафесар Ленінградскага агранамічнага інстытута, Варонежскага сельскагаспадарчага інстытута. З 1919 г. загадчык кафедры батанікі Горы-Горацкага земляробчага інстытута. Тут у 1880 г. арганізаваў першы пладовы гадавальнік, памалагічны сад і доследнае поле для вывучэння агароднінных культур. З 1896 г. член-карэспандэнт Расійскага таварыства пладаводства і Вучонага Савета Міністэрства земляробства і дзяржаўных маёмасцей. Карэспандэнт Галоўнай фізічнай абсерваторыі. Супрацоўнічаў у часопісах «Вестник садоводства, плодоводства и огородничества», «Русское садоводство», «Сад и огород». Садзейнічаў вывучэнню і распаўсюджванню вопыта лепшых агароднікаў і пладаводаў Расіі, упершыню паказаў вялікае значэнне мясцовых пладовых культур, магчымасць вегетатыўнай гібрыдызацыі, прапанаваў насеннае размнажэнне яблыні. Аўтар «Кароткага падручніка агародніцтва і пладаводства...» (ч. 1—2, 1895—96 гг.), «Дапаможніка па агародніцтву» (вып. 1—3, 1897—99 гг.), «Агульнага вучэння аб вырошчванні раслін» (1896 г.).



886. *Помнік А. В. Саветаву.*



887. *Помнік І. А. Сцебуту.*

М. В. Рытаў памёр 17.4.1920 г. Пахаваны ў Маскве.

*Літ.:* Бердышев А. П., М. В. Рытов — русский агробиолог.— М., 1951; Директоренко М. А. Материалистическое содержание агробиологических взглядов М. В. Рытова.— Мн., 1964.

*В. М. Баскова.*

**886. ПОМНІК САВЕТАВУ** Аляксандру Васільевічу (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі БСГА. Бюст устаноўлены ў 1964 г.

Рускі вучоны-аграном, адзін з заснавальнікаў навуковага раслінаводства на Беларусі, першы доктар сельскай гаспадаркі ў Расіі (1867 г.) А. В. Саветаў нарадзіўся 12.11.1826 г. у в. Гульнева Дзмітраўскага р-на Маскоўскай вобл. У 1850 г. скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут, да 1859 г. выкладаў у ім, у 1855—59 гг. кіраўнік кафедры сельскагаспадарчай тэхналогіі. У 1853 г. накіраваны для стажыроўкі за мяжу, вывучаў сельскую гаспадарку ў Германіі, Бельгіі, Галандыі, Даніі, Чэхіі, Італіі. З 1855 г. прафесар аграноміі. З 1859 г. загадчык кафедры сельскай гаспадаркі ў Пецярбургскім універсітэце, у 1888—1900 гг. дэкан фізіка-матэматычнага факультэта. Асноўныя працы па земляробству, глебазнаўству, раслінаводству, жывёлагадоўлі, арганізацыі і эканоміцы сельскай гаспадаркі і інш. За працу «Пра развядзенне кармавых траў на палях» вучонаму ў 1859 г. прысвоена ступень магістра сельскай гаспадаркі. У 1867 г. за манаграфію «Аб сістэме земляробства» першаму аграному ў Расіі прысвоена ступень доктара сельскай гаспадаркі. Гэтыя працы былі крытычным абагульненнем рускай і еўрапейскай практыкі ў галіне травасеяння і сістэм земляроб-

ства. 30 гадоў (з 1860 г.) кіраваў аддзелам сельскай гаспадаркі 1-га Вольнага эканамічнага таварыства, 25 гадоў рэдактар яго «Прац». З 1885 разам з В. В. Дакучаевым выдаваў «Матэрыялы па вывучэнню рускіх глеб». Памёр А. В. Саветаў 7.12.1901 г. Пахаваны ў Ленінградзе. *В. М. Баскова.*

**887. ПОМНІК СЦЕБУТУ** Івану Аляксандравічу (гіст.). Вул. Мічурына, на тэрыторыі БСГА. Бюст устаноўлены ў 1964 г.

Рускі вучоны-аграном, адзін з заснавальнікаў навуковага раслінаводства на Беларусі І. А. Сцебут нарадзіўся 31.1.1833 г. у г. Вялікія Лукі Пскоўскай вобл. У 1854 г. скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут і быў пакінуты ў ім для навукова-выкладчыцкай работы. У 1856 г. Міністэрства дзяржаўных маёмасцей накіравала яго за мяжу. Слухаў лекцыі вядомых вучоных ва універсітэтах Германіі, Бельгіі, Англіі, Шатландыі, Францыі, знаёміўся з вядзеннем сельскай гаспадаркі. За апублікаваную аб гэтай паездцы справаздачу міністэрства прысудзіла І. А. Сцебуту сярэбраны медаль. З 1860 г. у Горы-Горацкім інстытуце, прафесар, выкладаў курс земляробства. У 1865 г. абараніў магістарскую дысертацыю «Вапнаванне глебы», якая атрымала высокую ацэнку Дз. І. Мендзялеева і А. М. Энгельгарта. У 1865—94 гг. прафесар Пятроўскай земляробчай і лясной акадэміі ў Маскве. Каля 30 гадоў (1865—94 гг.) узначальваў першую ў Расіі кафедру раслінаводства, выхаваў шэраг вучоных-аграномаў. Аўтар працы «Асновы палявой культуры і меры яе паляпшэння ў Расіі» (вып. 1—2, 1873—79 гг.). Кіраўнік розных камітэтаў і камісій па сельскай гаспадарцы. Пры актыўным удзеле І. А. Сцебута і яго вучняў было распрацавана і зацверджана Палажэнне аб сельскагаспадарчых дослeдных установах (1901—02 гг.). Адзін з заснавальнікаў у Пецярбургу (1904 г.) вышэйшых двухгадовых жаночых сельскагаспадарчых курсаў (Сцебутаўскія курсы) — першай у краіне жаночай вышэйшай сельскагаспадарчай установы. Рэдактар часопіса «Русское сельское хозяйство».

І. А. Сцебут памёр 20.10.1923 г. Пахаваны ў Маскве.

*Літ.:* Балашев Л. Л., И. А. Стебут.— М., 1966; Компанеец М. Ученые агрономы России.— М., 1971.

**888. РАДЗІМА БЫЧКОВА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.).

Удзельнік рэвалюцыйнага руху канца 1870 — пачатку 1880-х гадоў У. І. Бычкоў нарадзіўся ў 1861 г. у сям'і інжынера-тэхнолага, які служыў у Горы-Горацкім земляробчым інстытуце. У час вучобы ў Кіеўскім універсітэце наведваў рэвалюцыйныя гурткі. У 1879 г. арганізаваў тэрарыстычны гурток, які прыняў праграму «Народнай волі», вёў прапаганду сярод вучнёўскай моладзі, рабочых, вайскоўцаў, падтрымліваў сувязь з членамі Паўднёва-рускага рабочага саюза. У 1880 г. удзельнічаў у падрыхтоўцы замаху на жандарскага падпалкоўніка Судзейкіна — фактычнага кіраўніка тайнага палітычнага вышуку ў Расіі. 30.3.1881 г. арыштаваны ў Кіеве і сасланы на 5 гадоў ва Усходнюю Сібір. У снежні 1881 г. вернуты з ссылкі ў Кіеў і прыцягнуты да разбору па справе 69-ці рэвалюцыянераў-дэмакратаў. 19.12.1882 г. уцёк з турмы, працягваў рэвалюцыйную дзейнасць пад кіраўніцтвам В. М. Фігнер у Харкаве, пасля яе арышту ў лютым 1883 г. узначаліў Харкаўскую групу народавольцаў. 10.8.1883 г. з дакументамі на імя П. І. Сабанеева паехаў у Томск, каб наладзіць там уцёкі ссыльных. Быў выдадзены правакатарам, 18.8.1883 г. у час арышту застрэліўся.

*Літ.:* Деятели революционного движения в России: Биобиблиогр. словарь. Т. 3. В. 1.— Мн., 1933. *В. М. Баскова.*

**889. ЦАРКВА УШЭСЦЯ** (архіт.). У цэнтральнай частцы горада, замыкае перспектыву вул. Кузняцова. Пабудавана ў канцы 19 ст. з цэглы.

Храм крыжова-купальны, з прамавугольнай апсідай. Над сяродкрыжжам масіўны купал на круглым светлавым барабане. Аднаярусная званіца над бабінцам накрыта дахам накшталт шатровага. Фасады завершаны закамарамі з неглыбокімі дэкаратыўнымі нішамі круглай і паўцыркульнай форм. Высокія і вузкія аконныя праёмы аздоблены ліштвамі, падобнымі на рускія какошнікі. Аналагічна аформлены ўваходны партал. Унутры купал сферычны, на ветразях. Бакавыя часткі трансепта перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі, асвятляюцца строенымі аконны-




889. *Царква Ушэсця. План.*



889. *Царква Ушэсця. Алтар.*



894. *Помнік землякам.*

мі праёмамі. Бабінец аддзелены ад асноўнага нефа паўцыркульнымі аркамі. Алтарную частку ўпрыгожвае драўляны разны з пазалотай іканастас.

Царква — прыклад архітэктуры псеўдарускага стылю. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Арлы, Ракцянскі сельсавет**

**890. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Вышыня 3 м, дыяметр 13 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра.

**в. Асінаўка, Дрыбінскі сельсавет**

**891. СТАЯНКА** (археал.). За 0,4 км на паўночны ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня (каля старыцы). Адкрылі і абследавалі ў 1985 г. В. Ф. Капыцін і В. Я. Кудрашоў. Культурны пласт стаянкі разворваецца. Сабраны крамянёвыя пласціны і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**в. Асіповічы, Палёнкаўскі сельсавет**

**892. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі. 2 насыпы вышынёй 2 м, дыяметрам 10 м. Выявіў і абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Аўсянка,**
**цэнтр Любіжскага сельсавета**

**893. МАГІЛА ЕРАФЕЕВА** Фамы Пракопавіча (гіст.). На могілках. Ураджэнец вёскі, навучэнец Горацкага рамеснага вучылішча, Ф. П. Ерафееў забіты ў час расстрэлу 16.1.1905 г. рэвалюцыйнай дэманстрацыі ў Горках.

Дэманстрацыя адбывалася ў знак пратэсту супраць крывавай расправы царызму 9.1.1905 г. з рабочымі Пецярбурга. Калона дэманстрантаў без зброі, з рэвалюцыйнымі песнямі ішла да цэнтра горада. Наперадзе навучэнец Горацкага рамеснага вучылішча П. Бруцэр нёс чырвоны сцяг. Нарад гарадавых адкрыў па дэманстрантах агонь. П. Бруцэр быў забіты, сцяг падхапіў Ф. Ерафееў, але таксама быў забіты, 7 удзельнікаў дэманстрацыі былі паранены. На наступны дзень забаставалі ўсе навучэнцы вучылішча. Рашэннем педагагічнага савета 116 чалавек былі выключаны, заняткі спынены. 11 удзельнікаў дэманстрацыі прыгавораны да розных тэрмінаў пазбаўлення волі. У Горках імёнамі П. Бруцэра і Ф. Ерафеева названа вуліца, на якой яны былі забіты.

У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Белорусская ордена Трудового Красного Знамени сельскохозяйственная академия: Очерки истории.— Мн., 1965.
*В. М. Баскова.*

**894. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). На заходняй ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Горкі — Шклоў. Пастаўлены ў 1973 г. на ўшанаванне памяці 264 жыхароў вёсак сельсавета, якія ў Вялікую Айчынную вайну загінулі на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці загублены гітлераўцамі.

Помнік (архіт. С. Шастапал, маст. С. Новікаў; бетон, вышыня стэл 9 м) — 5 стэл, размешчаных па крузе дыяметрам 34 м. На ўнутраных плоскасцях стэл набраны са смальты мазаічныя выявы эпізодаў барацьбы з ворагам, якія расказваюць пра мужнасць і гераізм савецкіх воінаў, патрыятызм і вернасць Радзіме савецкіх людзей, пра трыумф перамогі. У ніжняй частцы адной са стэл выява жанчыны з дзіцем на руках. Фігуры мадэліраваны з чорнай абводкай контуру.




896. *Гарадзішча. План.*



900. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Жэсты скупыя, рашучыя. Дамінуюць серабрыста-дымчаты і блакітны колеры на ярка-чырвоным фоне. На вонкавых плоскасцях стэл — выявы баявых ордэнаў. У цэнтры пляцоўкі, утворанай стэламі, устаноўлены 5 дошак з імёнамі загінуўшых землякоў. Плошча вакол помніка выкладзена бетоннымі плітамі, па перыметры пастаўлены лаўкі і квадратныя вазы для кветак. *Г. М. Ярмоленка.*

**в. Бацвіннева, Ленінскі сельсавет**

**895. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. У 74 магілах пахаваны 349 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 344-й і 352-й стралковых дывізій, якія вялі баі з ворагам на гэтым участку фронту і ўдзельнічалі ў вызваленні раёна. У 1964 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і мармуровыя дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Воўкаўшчына,**
**Макараўскі сельсавет**

**896. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Капылка, ва ўрочышчы Курган. Вышыня над поймай каля 10 м. Пляцоўка памерам 60×25 м з паўночнага і паўночна-ўсходняга бакоў умацавана вонкавым валам вышынёй 4 м, даўжынёй 35 м. З боку поля на краі пляцоўкі прасочаны ўнутраны вал вышынёй 3 м, шырынёй 6 м, даўжынёй 40 м. Абследавалі ў 1936 г. А. Дз. Каваленя, у 1978 г. В. І. Шадыра. У культурным пласце 1 м выяўлены абломкі гладкасценнага ляпнога посу-

ду. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. І. Шадыра.*

**в. Вярба, Цемналескі сельсавет**

**897. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад вёскі, ва ўрочышчы Залатая Гара, на левым беразе р. Вербаўка. Займае стрэлку мыса трохвугольнай формы. Вышыня над узроўнем ракі з заходняга і паўднёвага бакоў 4 м, з усходняга і паўночнага — 8 м. Валы і равы не прасочаны. Плошча каля 3 га. Абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,5 м. Знойдзены рэшткі ганчарнага посуду, шлакі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Галавічы, Першамайскі сельсавет**

**898. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 114 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Гарадзецк, Дрыбінскі сельсавет**

**899. РАДЗІМА АЎДЗЕЕВА** Міхаіла Васілевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-маёр авіяцыі (1957 г.) М. В. Аўдзееў нарадзіўся 9.11.1913 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1938 г. У 1934 г. скончыў школу ваенных лётчыкаў, у 1949 г.— Ваенную акадэмію Генштаба. У Чырвонай Арміі з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г., у авіяцыі Чарнаморскага флоту. Камандзір эскадрыллі гвардыі капітан М. В. Аўдзееў вызначыўся пры абароне Севастопаля, дзе ў паветраных баях збіў 6 самалётаў ворага. Прымаў удзел у абароне Перакопа, вызваленні Севастопаля, Наварасійска, Каўказа, Румыніі, Балгарыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 14.6.1942 г. За час вайны зрабіў 498 баявых вылетаў, правёў 141 паветраны бой, збіў 17 самалётаў праціўніка. Да 1964 г. служыў у Савецкай Арміі, потым жыў у Маскве. Памёр 25.6.1979 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Горы, цэнтр сельсавета**

**900. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 530 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 70-й, 144-й стралковых дывізій. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**901. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Пахаваны воіны М. В. Багатаў, М. Д. Нікіцін і В. А. Якаўлеў, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мармуровая пліта.

**902. ГАРАДЗІШЧА, ЗАМЧЫШЧА, ПАСАД** (археал.).

**902а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Курган. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, каля сутокі рэк Карчаваха і Быстрая, на мысе. Пляцоўка авальная, памерам 180×70 м, узвышаецца над поймай рэк на 10 м. У цэнтральнай частцы гарадзішча знаходзіцца круглая ў плане пляцоўка вышынёй 1,5 м, дыяметрам 8 м. Выявіў у 1936 г. А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1975 г. М. А. Ткачоў, у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі ў 1982—83 гг. праводзіў Ш. І. Бекцінееў. Культурны пласт 0,8—1,2 м. Знойдзена ляпная кераміка, рэшткі ганчарных гаршкоў, жалезныя наканечнікі стрэл, кап'я, цвікі, нажы, шкляныя бранзалеты і пацеркі (з якіх 5 візантыйскіх), шыферныя праслíцы, медныя скроневае кольца, крыжык, тачыльныя брускі, касцяныя праколкі і жужалкі і інш. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі) і да перыяду ранняга феадалізму.

**902б.** Замчышча. Мясцовая назва Вал. На паўночнай ускраіне вёскі, за 0,2 км на ўсход ад гарадзішча. Выцягнута з усходу на паўднёвы захад. Даўжыня 214 м, шырыня ў самым шырокім месцы 160 м, у самым вузкім 110—112 м. Вышыня валоў з вонкавага боку каля 20 м, з унутранага — 3 м, шырыня 8 м. Паўночна-ўсходні роў шырынёй каля 10 м, глыбінёй 3 м. Паўночна-заходні роў ледзь прасочваецца. Выявіў А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1975 г. М. А. Ткачоў, у 1982 г. Ш. І. Бекцінееў. Пры шурфоўцы М. А. Ткачоў выявіў кераміку і чарапіцу 16—18 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

**902в.** Пасад. Каля паўднёвай часткі замчышча. Памер пляцоўкі 190×150 м, з 2 бакоў яе прасочаны абрыў да поймы рэк Карчахава і Быстрая. Умацавана валам вышынёй 1,5—2,5 м, шырынёй 4 м, даўжынёй 220 м, з усходняга боку вал знівеліраваны. Выявіў у 1982 г. Ш. І. Бекцінееў. Культурны пласт 0,6—0,7 м. Знойдзена ганчарная кераміка 17 ст.

Матэрыялы раскопак і абследавання гарадзішча, замчышча, пасада захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Ш. І. Бекцінееў.*

**903. МАГІЛА АБАШКІНА** Уладзіміра Васілевіча (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі




902а. *Гарадзішча. План.*




902а. *Знаходкі з гарадзішча: 1 — шыферныя праслíцы; 2 — касцяныя жужалкі; 3 — касцяныя праколкі; 4 — меднае скроневае кольца; 5 — медны нагрудны крыжык.*



902. *Гарадзішча (злева). Замчышча.*

У. В. Абашкін загінуў 8.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мармуровая пліта.

**904. МАГІЛА АНІШЧАНКІ** Рыгора Міхайлавіча (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Воін Чырвонай Арміі Р. М. Анішчанка загінуў 22.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**905. МАГІЛА КРЫЦКАГА** Сяргея Сцяпанавіча (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Гвардыі лейтэнант Чырвонай Арміі С. С. Крыцкі загінуў 24.6.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мармуровая пліта.

**906. МАГІЛА МАХЛІСА** Арона Міронавіча (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі А. М. Махліс загінуў 19.5.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мармуровая пліта.

**907. МАГІЛА ЧАРНЫШОВА** Аляксандра Сямёнавіча (гіст.). Вул. Леніна, каля будынка выканкома сельсавета, на могілках. Маёр Чырвонай Арміі А. С. Чарнышоў загінуў 12.10. 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле ўстаноўлена мармуровая пліта.

**908. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Леніна, каля бальніцы. На ўшанаванне памяці 474 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, у 1967 г. пастаўлены стэла і сцяна, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**909. ПОМНІК МАНДРЫКАВУ** Міхаілу Сяргеевічу (гіст.). Вул. Леніна.

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Чукотцы М. С. Мандрыкаў нарадзіўся ў 1888 г. у в. Горы, у сялянскай сям'і. Скончыў Горацкае рамеснае вучылішча. Працаваў у Пецярбургу на Пуцілаўскім заводзе. У 1909—13 гг. служыў на Балтыйскім флоце. З 1915 г. на Далёкім Усходзе, старшыня саюза каапсратываў Прымор'я. З 1916 г. у падпольнай Уладзівастоцкай групе марксістаў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г.— член Уладзівастоцкага Савета. Член КПСС з 1918 г. Удзельнік 3-га Усерасійскага з'езда Саветаў (1918 г.). У чэрвені 1918 г. у час белачэшскага мяцяжу арыштаваны і зняволены ў канцлагер, адкуль уцёк. У верасні накіраваны Уладзівастоцкай арганізацыяй РКП(б) на Чукотку (Анадыр) для ліквідацыі калчакаўскай улады. Стварыў там падпольную арганізацыю бальшавікоў. 16.12.1919 г. узначаліў рэвалюцыйнае выступленне, першы старшыня Анадырскага рэўкома. Пасля контррэвалюцыйнага перавароту расстраляны 2.2.1920 г. разам з іншымі членамі рэўкома.

У Анадыры на ўшанаванне памяці рэўкомаўцаў, у т. л. М. С. Мандрыкава, пастаўлены помнік. Імем М. С. Мандрыкава названы пасёлак у Магаданскай вобл., вуліца ў в. Горы.

У 1984 г. у вёсцы ўтаноўлены скульптурны партрэт М. С. Мандрыкава.

*Літ.:* Матвеев-Бодрый Н. Н., М. С. Мандриков.— Магадан, 1957; Первый Ревком Чукотки (1919—1920 гг.): Сб. документов и материалов.— Магадан, 1957.
*В. М. Баскова.*



**902в.** *Замчышча. Пасад. План.*

**в. Гушчына, Горскі сельсавет**

**910. МАГІЛА ПАГОДЗІНА** Сцяпана Дзям'янавіча (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках.

Удзельнік барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі С. Дз. Пагодзін нарадзіўся ў 1880 г. у в. Гушчына ў сялянскай сям'і. Скончыў чатырохкласнае вучылішча. Працаваў у Данбасе. Удзельнік дэманстрацый і забастовак шахцёраў. У 1911 г. вярнуўся на радзіму, вёў бальшавіцкую прапаганду сярод насельніцтва. У 1-ю сусветную вайну быў прызваны ў армію, вёў рэвалюцыйную агітацыю сярод салдат. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі ўстанаўліваў на радзіме Савецкую ўладу, першы ваенком павета, арганізаваў у Горках атрад Чырвонай гвардыі (80 байцоў). 15.3.1918 г. у час выступлення на мітынгу смяротна паранены. Імем С. Дз. Пагодзіна названа чыгуначная станцыя (былая Горкі), дзе ўстаноўлены бюст, школа і вуліца ў Горках, саўгас у раёне.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*В. М. Баскова.*

**в. Добрая, цэнтр сельсавета**

**911. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Лоша (левы прыток р. Дабранка), на мысе, утвораным 2 ярамі. Пляцоўка дыяметрам 24 м мае паніжэнне да цэнтра, што надае ёй сподкападобную форму, парасла хмызняком і дрэвамі. Умацавана з усіх бакоў валам вышынёй 1,5—2 м і ровам з боку поля глыбінёй 2 м, шырынёй да 7 м. З паўднёвага боку часткова разбураны вал і засыпаны роў, ёсць сляды ямы (магчыма, шурфа) памерам 2×2 м, глыбінёй да 1 м. Абследавалі ў 1985 г. В. Ф. Капыцін і А. А. Седзін. Раскопкі не праводзіліся.

**912. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка Дома культуры. На ўшанаванне памяці 263 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай


**908.** *Помнік землякам.*


**909.** *Помнік М. С. Мандрыкаву.*

вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1978 г. пастаўлена стэла з рэльефнымі выявамі воіна і партызана, а таксама пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Дрыбін, цэнтр сельсавета**

**913. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Леніна і Цемналескай. Пахаваны 421 воін і партызан, якія загінулі пры вызваленні вёскі ў 1943 г. і ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў, што адбыліся ў 1943—44 гг. на тэрыторыі раёна. Сярод пахаваных — воіны 70-й і 222-й стралковых дывізій. На франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з ворагам загінулі 694 землякі.

У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам, абапал — стэлы з імёнамі загінуўшых землякоў.

**914. КУРГАН, СТАЯНКІ** (археал.).

**914а.** Курган. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Проня. Вышыня 1,3 м, дыяметр 19 м. Насып здзірванелы, у цэнтральнай частцы ёсць 2 ямы дыяметрам 1 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін.

**914б.** Стаянка-1. За 0,1 км на поўнач ад кургана, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня. Адкрыў і даследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя аднапляцовачны патоўшчаны нуклеус, канцавыя скрабкі, бакавы разец, фрагменты пласцін і адшчэпы.

**914в.** Стаянка-2. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на мысе, утвораным левым берагам р. Проня і безназоўным ручаём. Памер 30×90 м. Адкрыў і даследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін на плошчы 5 м². Знойдзены двухпляцовачныя нуклеусы, адбойнікі, прылады працы, якімі секлі, скрабкі, разцы, пласціны і адшчэпы. Стаянкі адносяцца да каменнага веку.

Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Ермалоўка, Рудкаўшчынскі сельсавет**

**915. МАГІЛА ЛОСЕВЫХ** Ігната Антонавіча і Алены Данілаўны (гіст.). На могілках. Арганізатар і першы старшыня калгаса імя Леніна І. А. Лосеў і яго жонка А. Д. Лосева забіты ворагамі Савецкай улады ў 1935 г.

І. А. Лосеў нарадзіўся ў 1906 г. у в. Ермалоўка Горацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1935 г. Актыўна ўдзельнічаў у рабоце камбедаў, у калектывізацыі сельскай гаспадаркі. У 1929 г. на вясковым сходзе выбраны старшынёй арганізаванага калгаса. За 4 гады гаспадарка стала адной з перадавых у раёне.




**912.** *Помнік землякам.*

А. Д. Лосева нарадзілася ў 1908 г. у в. Міхайлавічы Горацкага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ з 1924 г. Удзельніца правядзення калектывізацыі сельскай гаспадаркі ў раёне, старшыня жансавета.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*В. М. Баскова.*

**в. Жакаўка, Першамайскі сельсавет**

**916. РАДЗІМА СУХАВАРАВА** Дзмітрыя Гаўрылавіча (гіст.).



**913.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, помнік землякам.*

Герой Савецкага Саюза Дз. Г. Сухавараў нарадзіўся 30.5.1904 г. Член КПСС з 1930 г. У Чырвонай Арміі з 1926 г. Скончыў ваенную школу ў 1931 г., 2 курсы Ваенна-палітычнай акадэміі ў 1934 г., курсы ўдасканалення пры Ваеннай акадэміі матарызацыі і механізацыі Чырвонай Арміі ў 1935 г. З 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Заходнім, Сталінградскім, Варонежскім, Сцяпным, 1-м Украінскім, Далёкаўсходнім франтах. Падпалкоўнік Дз. Г. Сухавараў вызначыўся пры вызваленні Кіева. 5.11.1943 г. танкавы полк пад яго камандаваннем прарваў абарону ворага і перарэзаў 5 дарог да горада. У гэтых баях полк знішчыў 23 гарматы, 24 кулямёты, 15 танкаў, 4 аўтамашыны з боепрыпасамі, каля батальёна жывой сілы праціўніка. Удзельнік вызвалення Польшчы, баёў на тэрыторыі Германіі, разгрому Квантунскай арміі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена Дз. Г. Сухавараву 10.1.1944 г. Да 1957 г. палкоўнік Дз. Г. Сухавараў служыў у Савецкай Арміі, да 1965 г. на адміністрацыйна-гаспадарчай рабоце ў г. Курган. Памёр 4.3.1983 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Зайцава, Макараўскі сельсавет**

**917. РАДЗІМА ЯКУБОЎСКАГА** Івана Ігнатавіча (гіст.).

Савецкі военачальнік, Маршал Савецкага Саюза (1967 г.), двойчы Герой Савецкага Саюза І. І. Якубоўскі нарадзіўся 25.12.1911 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. У 1932 скончыў індустрыяльна-педагагічны тэхнікум, у 1934 г.— Аб'яднаную беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР, у 1935 г.— Ленінградскія бранятанкавыя курсы ўдасканалення камсаставу, у 1948 г.— Ваенную акадэмію Генштаба. У Чырвонай Арміі з 1932 г. Камандаваў узводам, батарэяй, танкавай ротай, быў начальнікам штаба асобнага танкавага батальёна, выкладчыкам у Пухавіцкім пяхотным вучылішчы і камандзірам вучэбнага танкавага батальёна. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на Заходнім, Бранскім, Паўднёвым, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным, Варонежскім і 1-м Украінскім франтах: камандзір танкавага батальёна, палка, намеснік камандзіра, камандзір танкавай брыгады, намеснік камандзіра гвардзейскага танкавага корпуса. Удзельнік абарончых баёў пад Мінскам, Магілёвам, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Львоўска-Сандамірскай, Вісла-Одэрскай, Ніжнесілезскай, Берлінскай і Пражскай аперацый. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. за ўмелае камандаванне брыгадай у баях пры

фарсіраванні Дняпра і пры вызваленні г. Фастаў Кіеўскай вобл., у другі раз — 23.9.1944 г. за фарсіраванне Віслы. У 1957—65 гг. першы намеснік Галоўнакамандуючага, Галоўнакамандуючы Групай савецкіх войск у Германіі, у 1965—67 гг. камандуючы войскамі Кіеўскай ваеннай акругі. З красавіка 1967 г. першы намеснік міністра абароны СССР, з ліпеня 1967 г. адначасова Галоўнакамандуючы Аб'яднанымі ўзброенымі сіламі дзяржаў — удзельніц Варшаўскага Дагавору. Член ЦК КПСС з 1961 г., дэпутат Вярхоўнага Савета СССР з 1962 г. Герой ЧССР (1970 г.). Ганаровы грамадзянін гарадоў Житомір, Калач, Аполе (ПНР).

І. І. Якубоўскі памёр 30.11.1976 г. Пахаваны ў Маскве на Краснай плошчы каля Крамлёўскай сцяны. У Горках пастаўлены помнік (гл. артыкул № 873 «Бюст Якубоўскага Івана Ігнатавіча»). Яго імем названы Кіеўскае вышэйшае танкавае інжынернае вучылішча, вуліцы ў Мінску, Магілёве, Горках. На будынку Аршанскага педагагічнага вучылішча ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Затоны 1-я, Раснянскі сельсавет**

**918. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на мысе, утвораным 2 ручаямі (левыя прытокі р. Проня). Вышыня над поймай 10—12 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, памерам 21×18 м, здзірванелая, парасла дрэвамі і хмызняком. Па перыметры ўмацавана кальцавым валам вышынёй з паўночна-ўсходняга боку да 4 м, з паўднёва-заходняга — 1—2,5 м, шырынёй 12—15 м. З боку поля ўмацавана дадатковым падкованападобным валам вышынёй 3 м, шырынёй 10 м, з боку ракі ёсць яшчэ 2 падкованападобныя валы шырынёй да 10 м. Паміж кальцавым і дадатковымі валамі захаваліся равы шырынёй да 10 м. Выявіў і абследаваў у 1985 г. А. А. Седзін. Раскопкі не праводзіліся. *А. А. Седзін.*

**в. Каменка, Горскі сельсавет**

**919. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». У 68 магілах пахаваны 440 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў жніўні 1943 г.— чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 58, 70, 247, 352-й стралковых дывізій. У 1959 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**920. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». На ўшанаванне памяці 205 жыхароў 7 вёсак Горскага сельскага Савета, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кароўчына, цэнтр сельсавета**

**921. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 341 земляка, якія аддалі жыццё за Радзіму ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**922. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Бася, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 1,8—2 м, дыяметрам 9—10 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Карэбы, Дрыбінскі сельсавет**

**923. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г.— чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**924. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СТАЯНКІ** (археал.).

**924а.** Курганны могільнік. За 1,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Проня, ва ўрочышчы Царкавішча, каля дарогі ў в. Галовічы, у лесе. 40 насыпаў вышынёй 0,3—1,5 м, дыяметрам 5,5—12 м. Курганы здзірванелыя, параслі лесам, частка разбурана траншэямі часоў Вялікай Айчыннай вайны. У 1930 г. І. А. Сербаў раскапаў 1 курган (на той час іх было 60). Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад з 2 вогнішчамі пад пахаваннем. Рэшткі нябожчыка былі абкладзены дубовымі плашкамі. Сярод знаходак бронзавыя падвескі, скроневыя кольцы, пярсцёнак, дробныя пацеркі і фрагменты ганчарнага гаршка з лінейным арнаментам. Абследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.



926. *Гарадзішча. План.*

**924б.** Стаянка-1. За 0,5 км на захад ад курганнага могільніка, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, ва ўрочышчы Царкавішча. Памер 25×50 м. Выявіў і даследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі.

**924в.** Стаянка-2. За 2 км на поўдзень ад Стаянкі-1, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня. Выявіў і даследаваў у 1985 г. А. А. Седзін. Знойдзены крамянёвыя двухпляцовачны нуклеус, канцавы скрабок, пласціны і адшчэпы. Стаянкі адносяцца да каменнага веку.

Матэрыялы раскопак стаянак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні-Ухлясці ў былой Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.
*В. Ф. Капыцін.*

**925. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля школы. На ўшанаванне памяці 119 жыхароў вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Касцюшкава, Ленінскі сельсавет**

**926. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на стрэлцы мыса трохвугольнай формы. Вышыня над поймай ручая 10 м. Пляцоўка памерам 45×30 м моцна пашкоджана акопамі часоў Вялікай Айчыннай вайны. З боку поля прасочаны рэшткі вала вышынёй 2 м, шырынёй 12 м, даўжынёй 70 м. Абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у шурфах 0,5 м. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. І. Шадыра.*

**в. Кацялёва, Будскі сельсавет**

**927. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 70 воінаў, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — байцы 130, 160, 180-й стралковых дывізій. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам. Побач на ўшанаванне памяці 159 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, пастаўлена 5 пілонаў, аб'яднаных адным бар'ерам. На ім устаноўлены 4 мар-



927. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

муровыя дошкі з імёнамі загінуўшых. Каля ўвахода — пілон з надпісам-прысвячэннем. *В. М. Баскова.*

**в. Кледнявічы, Дрыбінскі сельсавет**

**928. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1984 г. на магіле пастаўлена скульптура воіна з аўтаматам.

**в. Клін, Маслакоўскі сельсавет**

**929. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у полі. Пахаваны К. І. Яўсеева і 2 яе сыны. У чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты расстралялі, а потым спалілі патрыётаў Яўсеевых у іх роднай хаце.

У Вялікую Айчынную вайну ў хаце К. І. Яўсеевай партызаны атрада № 35 на пішучай машынцы друкавалі зводкі Саўінфармбюро. Народныя мсціўцы часта адпачывалі тут пасля выканання баявых заданняў.

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Копцеўка, цэнтр сельсавета**

**930. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Насупраць будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 24 воіны Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — байцы 343-й і 362-й стралковых дывізій. У 1963 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**931. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Копцеўскі». На ўшанаванне памяці 521 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Крукаўшчына, Дрыбінскі сельсавет**

**932. СТАЯНКА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Проня, на пясчанай дзюне сярод забалочанай поймы. Адкрылі і абследавалі ў 1985 г. В. Ф. Капыцін і В. Я. Кудрашоў. У выдзіманнях дзюны сабраны крамянёвыя нуклеусы, канцавыя скрабкі, пласціны, адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**в. Крычаватка, Раснянскі сельсавет**

**933. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка пачатковай школы. Пахаваны 111 воінаў Чырвонай Арміі, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 49, 64, 290, 369-й стралковых дывізій, якія трымалі абарону на гэтым участку лініі фронту. На франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з ворагам загінулі 224 землякі, 9 жыхароў вёскі закатаваны гітлераўцамі. У 1948 г. на магіле пастаўлены абеліск, побач — дошкі з імёнамі загінуўшых аднавяскоўцаў.



931. *Помнік землякам.*



934. *Гарадзішча. План.*

**в. Курганне, Горскі сельсавет**

**934. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,4 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе, за 0,3 км ад р. Быстрыца. Вышыня гарадзішча каля вала 10—12 м, у паўднёвай частцы 7—8 м. Пляцоўка памерам 40×15 м паніжаецца ў напрамку на поўдзень. На паўночным краі прасочаны вал вышынёй 1,2—2,0 м, шырынёй 5—6 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. Ш. І. Бекцінееў. Культурны пласт у шурфах 1,1—1,3 м. Знойдзена ляпная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку (мілаградская культура). Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *Ш. І. Бекцінееў.*

**в. Леніна, цэнтр сельсавета**

**935. ЗАБУДОВА ЦЭНТРАЛЬНАЙ СЯДЗІБЫ ПЛЕМЗАВОДА «ЛЕНІНА»** (архіт.).

Вёска Леніна — цэнтральная сядзіба племзавода — размешчана за 17 км на паўночны ўсход ад Горак, за 20 км ад чыгуначнай станцыі Пагодзіна. Генеральны план забудовы распрацаваны ў 1982 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам будаўніцтва ў вёсцы. Паводле функцыянальнага прызначэння забудова сядзібы падзяляецца на жылую і вытворчую зоны. Жылая абмежавана 2 вадасховішчамі: з захаду на р. Людная, з усходу на р. Мярэя; уключае паўночны і паўднёвы планіровачныя раёны. Структура вулічнай сеткі свабодная,

падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Важныя планіровачныя восі — вуліцы Леніна, Кжывань, Пятрова, Юркова. Галоўная — вул. Леніна, праходзіць з поўдня на поўнач, з'яўляецца працягам аўтамабільнай дарогі Горкі — Леніна. Перпендыкулярна вул. Леніна пракладзена вул. Кжывань з аднабаковай забудовай. Вул. Юркова агінае жылую зону з захаду. Грамадска-культурны цэнтр размешчаны на Цэнтральнай плошчы, што сфарміравана на вул. Леніна. Тут узведзены шасціпавярховы будынак гасцініцы, які з'яўляецца кампазіцыйнай дамінантай забудовы, Дом культуры, зблакіраваны з будынкамі выканкома сельскага Савета і аддзялення сувязі, Дом быту, аптэка, гандлёвы цэнтр, школа, будынкі ўрачэбнага пункта, педвучылішча. Да грамадскага цэнтра з боку вадасховішча на р. Мярэя прымыкае мемарыяльная зона (гл. артыкул № 936 «Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці»), тут знаходзіцца брацкая магіла савецкіх воінаў, за 0,5 км ад яе ў паўночна-ўсходняй частцы вул. Леніна — парк Дружбы, дзе брацкая магіла польскіх воінаў. Жылую зону паўднёвага планіровачнага раёна фарміруюць двухпавярховыя, згрупаваныя па 3—4 дамы секцыйнага тыпу з пляцоўкамі для адпачынку і гаспадарчымі дварамі. Па вул. Пятрова ўзведзены чатырох-пяціпавярховыя дамы вежавага тыпу. Іншыя вуліцы забудаваны блакіраванымі дамамі з кватэрамі на 2 узроўнях. Паміж грамадскім цэнтрам і паўднёвай часткай вадасховішча на р. Мярэя — цэнтральны парк са спартыўнымі пляцоўкамі. За 1 км на захад ад вадасховішча размешчаны будынак Музея савецка-польскай баявой садружнасці. Паўночна-ўсходняя частка вул. Леніна вядзе ў вытворчую зону сядзібы, дзе знаходзяцца гаспадарчыя пабудовы.

*Т. І. Чарняўская.*



**936.** *Стэла перад уваходам у музей савецка-польскай баявой садружнасці.*

**936. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ БАЯВОЙ САДРУЖНАСЦІ** (гіст., архіт., маст.). Уключае будынак Музея савецка-польскай баявой садружнасці, магілы невядомых савецкага і польскага воінаў за 1 км на захад ад вёскі і брацкія магілы савецкіх і польскіх воінаў па вул. Леніна.

12—13.10.1943 г. у раёне в. Леніна 1-я польская пяхотная дывізія імя Т. Касцюшкі (камандзір З. Берлінг) і 1-ы польскі танкавы полк імя герояў Вестэрплятэ, сфарміраваныя ў СССР па ініцыятыве Саюза польскіх патрыётаў, у складзе 33-й арміі Заходняга фронту ўпершыню ўступілі ў бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У баі ўдзельнічала авіяцыя 1-й паветранай арміі. Польскім воінам была пастаўлена задача захапіць вышыню 215,5. У ходзе жорсткіх баёў воіны фарсіравалі р. Мярэя, умацаваліся ў абарону гітлераўцаў на 1,5—2 км і ўтрымалі захоплены рубеж. Загінулі 502 польскія і 1711 савецкіх воінаў. За гераізм, праяўлены ў баях пад в. Леніна, 5 воінам прысвоена званне Героя Савецкага Саюза (У. Высоцкаму, А. Кжывань, Р. Р. Лахіну, Дз. Р. Юркову, В. М. Барсукову), 486 савецкіх і польскіх воінаў узнагароджаны савецкімі і польскімі ордэнамі і медалямі.

Бой пад в. Леніна 12—13.10.1943 г. стаў сімвалам брацтва па зброі паміж

**936.** *Музей савецка-польскай баявой садружнасці. Барэльефная выява на будынку музея.*





936. *Барэльефныя выявы на будынку музея савецка-польскай баявой садружнасці.*

савецкім і польскім народамі, непарушнай савецка-польскай дружбы. У ПНР 12 кастрычніка адзначаецца як дзень Войска Польскага, у гонар гэтага бою ўстаноўлены медаль «Вызначыўся на полі славы». У сувязі з 25-годдзем баёў в. Леніна ўзнагароджана 10.10.1968 г. Дзяржаўным саветам ПНР ордэнам «Крыж Грунвальда» 2-й ступені.

Мемарыяльны комплекс савецка-польскай баявой садружнасці адкрыты 15.10.1968 г. (архіт. Я. Белапольскі, В. Хавін; скульпт. У. Цыгаль). Дамінантай комплексу з'яўляецца будынак Музея савецка-польскай баявой садружнасці, размешчаны на месцы бою з нямецка-фашысцкімі захопнікамі.

**Будынак музея** сіметрычны ў плане, з жалезабетону, шкла і алюмінію, уяўляе сабой купал у выглядзе каскі дыяметрам 34 м, вышынёй 11 м. Пакрыццё зроблена з невялікіх чорных бляшаных шчытоў, пакладзеных на каркас. Двухлесвічныя вузлы звонку вылучаны блокамі з барэльефнымі выявамі арла і пяціканцовай зоркі — сімвалаў 2 краін. У інтэр'еры музея стэнды з дакументамі, што адлюстроўваюць гісторыю ўтварэння і фарміравання Войска Польскага. У цэнтральнай частцы памяшкання знаходзіцца дыярама «Бітва пад Леніна» (мастакі М. Авечкін і А. Інтазараў), у якой паказаны кульмінацыйны момант бою. Перад шырокім уваходам у музей устаноўлена стэла (бетон, вышыня 8 м), увенчаная выявай сцяга, дрэўка якога трымаюць 2 моцныя рукі. У ніжняй частцы стэлы на польскай і рускай мовах надпіс «СССР — Польшча, 1943 год». Пляцоўка вакол музея выкладзена каменнымі плітамі, ад яе ў розныя бакі разыходзяцца дарожкі. Адна з іх вядзе на паўночны ўсход да 2 пліт (лабрадарыт) на ўшанаванне памяці загінуўшых савецкіх і польскіх воінаў. Пліты з надпісамі-прысвячэннямі на польскай, рускай і беларускай мовах. Побач — трохметровы пагнуты, з прабоінамі і няроўнымі краямі кавалак брані. Пляцоўка (9×12 м) вакол пліт выкладзена цёмна-чырвоным гранітам, перад імі запалены Вечны агонь. З трох бакоў разбіты газоны, высаджаны елкі і бярозкі.

**Брацкая магіла савецкіх воінаў.** Вул. Леніна. На месцы былых баявых пазіцый савецкіх воінаў. Пахаваны 1711 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Леніна ў кастрычніку 1943 г.

На брацкай магіле ўстаноўлены блок з чырвонага граніту, сячэнне якога (дыяметр 2 м) уяўляе сабой пяціканцовую зорку з надпісам-прысвячэннем у цэнтры.

**Брацкая магіла польскіх воінаў.** Вул. Леніна. На месцы былых баявых пазіцый польскіх воінаў, за 0,5 км ад брацкай магілы савецкіх воінаў. Пахаваны 502 польскія воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Леніна ў кастрычніку 1943 г. Сярод пахаваных — Героі Савецкага Саюза Уладзіслаў Высоцкі і Анэля Тадэвушаўна Кжывань.

**У. Высоцкі** нарадзіўся ў 1908 г. Паляк. У Вялікую Айчынную вайну з мая 1943 г. у 1-й польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі. Намеснік камандзіра батальёна капітан У. Высоцкі 12.10.1943 г. у баях пад в. Леніна кіраваў наступленнем на адказным участку. Умелым манеўрам батальён У. Высоцкага авалодаў апорным



936. *Музей савецка-польскай баявой садружнасці. Фрагмент інтэр'ера.*



936. *Помнік савецкім і польскім воінам.*



936. *Помнік на брацкай магіле польскіх воінаў.*



936. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

пунктам супрацiўлення працiўніка і ўкліні́ўся ў другую лінію варожай абароны каля в. Трыгубава. Акружаны гітлераўцамі У. Высоцкі, каб не трапіць у палон, застрэліўся. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 11.11.1943 г.

А. Т. Кжывань нарадзілася ў 1925 г. на хутары каля в. Садовае (цяпер Манастырыскі р-н Цярнопальскай вобл.). Полька. З 1939 г. жыла ў СССР. У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіравалася ў Краснаярскі край, дзе працавала на фабрыцы. У ліпені 1943 г. добраахвотна ўступіла ў жаночую роту аўтаматчыкаў 1-й польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі. Стралок, радавая А. Т. Кжывань у баі каля в. Леніна 12.10.1943 г. ахоўвала машыну з дакументамі штаба дывізіі. У час бамбардзіроўкі машына загарэлася. А. Т. Кжывань загінула пры выратаванні дакументаў і раненых з ахопленай агнём аўтамашыны. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 11.11.1943 г. Яе імем названа вуліца ў Леніна.

На брацкай магіле ўзведзена з шэрага граніту сцяна (12×3 м) з надпісам-прысвячэннем на польскай і беларускай мовах. У цэнтры сцяны на бронзавым картушы ў абрамленні прыспушчаных сцягоў даты бітвы пад Леніна і выявы скрыжаваных лаўровых галінак. Пляцоўка забетанавана і абсаджана дэкаратыўнымі кустамі.

Комплекс — помнік мемарыяльнай архітэктуры і манументальнага мастацтва.

*Літ.:* Боевое содружество советского и польского народов.— М., 1973; Братство по оружию.— М., 1975; Вербицкий А. В бою под Ленино.— Военно-исторический журнал, 1973, № 10; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Поплавский С. Г. Товарищи в борьбе.— 2 изд.— М., 1974. *В. М. Баскова, А. Ю. Пятросава, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Лугіны, Макараўскі сельсавет**

**937. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Паросіцы (левы прыток р. Проні), на могілках. Два насыпы: адзін разбураны сучаснымі пахаваннямі, другі дыяметрам 13 м, вышынёй 2 м здзірванелы, парос дрэвамі, у цэнтры папсаваны ямай. Абследавалі ў 1926 г. Д. Васілеўскі, у 1985 г. В. Ф. Капыцін і А. А. Седзін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Любіж, Любіжскі сельсавет**

**938. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля дарогі на Шклоў. Пахаваны 9 воінаў Чырвонай Арміі і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата са сцягам.



938. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Маслакі, цэнтр сельсавета**

**939. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 2 воіны Чырвонай Арміі і 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**940. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Бася, на стрэлцы мыса, які мае нахіл у паўднёвым напрамку. Пляцоўка круглая, дыяметрам 25 м, узвышаецца ў паўночнай частцы над мысам на 3,5 м, з паўднёвага боку, над поплавам — на 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі каля 0,6 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі і вуголле. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*В. І. Шадыра.*

**941. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, за будынкам школы, на тэрыторыі могілак. 5 насыпаў вышынёй 0,5—1,3 м, дыяметрам 4—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**942. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. На ўшанаванне памяці 337 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлены помнік (скульпт. А. Курачкін, архіт. В. Барташэвіч; лабрадарыт, сілумін; вышыня 6 м), кампазіцыйна-сэнсавым цэнтрам якога з'яўляюцца стылізаваныя каласы — сімвалы жыцця і памяці пра тых, хто не вярнуўся з вайны. Іх імёны ўпісаны на месцах выпаўшых з каласоў зярнят. Па баках пастаўлены стэлы з барэльефамі: «Правады на фронт» і «Сустрэча пераможцаў».
*В. М. Баскова, Г. М. Ярмоленка.*

**в. Мікуліна, Будскі сельсавет**

**943. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка клуба. На ўшанаванне памяці 91 жыхара вёскі, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Навасёлкі, Раснянскі сельсавет**

**944. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на стрэлцы мыса (вышыня каля 18 м), які з заходняга і ўсходняга бакоў абмываецца 2 ручаямі. Схілы гарадзішча зараслі кустамі, край пляцоўкі — вялікімі дрэвамі. Пляцоўка памерам 60×45 м. Вядома з 1873 г. У 1978 г. абследаваў В. І. Шадыра. Культурны пласт 0,5—1 м выяўлены ў цэнтры пляцоўкі і па яе краях. У ім знойдзены косці жывёл, вуголле і рэшткі ляпнога посуду днепра-дзвінскай культуры ранняга жалезнага веку. Датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. І. Шадыра.*

**в. Напраснаўка, Маслакоўскі сельсавет**

**945. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны 240 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі акупантамі ў сакавіку 1942 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.




940. *Гарадзішча. План.*

**в. Нікадзімава, Горскі сельсавет**

**946. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Быстрая. Размешчана на мысе трохвугольнай формы (вышыня над поплавам ракі і ручая, які агінае гарадзішча з усходу і паўночнага ўсходу, 12 м). Памер пляцоўкі 170×70 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 4 м. На самай стрэлцы мыса прасочваецца насып вышынёй да 5 м і шырынёй каля 30 м. Невялікі насып (вышынёй 2 м, дыяметрам 3 м) ёсць і ў цэнтры пляцоўкі. Адкрыў і абследаваў у 1936 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Пры шурфоўцы пляцоўкі і зачыстцы схілаў выяўлены культурны пласт каля 1 м. Знойдзены грубая ляпная кераміка і абпаленыя бярвёны. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



944. *Гарадзішча. План.*




946. *Гарадзішча. План.*



947. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Древности железного века в междуречье Десны и Днепра.— М., 1962.— (Свод археологических источников; в. Д1-12).
*В. І. Шадыра.*

**чыгуначная станцыя Пагодзіна**

**947. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км ад будынка станцыі, каля чыгуначнага палатна. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баі каля станцыі і ў 1944 г. пры яе вызваленні ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура салдата.

**948. ПОМНІК ПАГОДЗІНУ** Сцяпану Дзям'янавічу (гіст.). Каля будынка чыгуначнай станцыі. На ўшанаванне памяці ўдзельніка барацьбы за Савецкую ўладу на Беларусі, арганізатара чырвонагвардзейскага атрада, першага ваеннага камісара Горацкага павета С. Дз. Пагодзіна, які загінуў 15.3. 1918 г. у барацьбе з контррэвалюцыяй, у 1968 г. установлены бюст. Гл. таксама артыкул № 910 «Магіла Пагодзіна Сцяпана Дзям'янавіча».

**в. Палёнка, цэнтр сельсавета**

**949. БРАЦКАЯ МАГІЛА КАМБЕДАЎЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны члены вясковага камітэта беднаты М. Ф. Ісакаў, М. М. Панцялееў, П. А. Раўковіч і Я. Ф. Фядотаў, забітыя бандытамі ў час сялянскага сходу 21.7.1924 г. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**950. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач бетонная сцяна, на якой мармуровыя дошкі з імёнамі 173 жыхароў 6 вёсак сельсавета, якія загінулі ў баях з ворагам на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе.

**951. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны бацька і стрыечная сястра камандзіра партызанскай групы 35-й партызанскай брыгады А. З. Васільева, расстраляныя ў жніўні 1943 г., а потым спаленыя нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**952. МАГІЛА ВАСІЛЬЕВА** Захара Яфімавіча (гіст.). На могілках.

Камандзір узвода 115-й Горацкай партызанскай брыгады З. Я. Васільеў нарадзіўся ў в. Палёнка ў 1914 г. Член КПСС. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну застаўся ў роднай вёсцы для партызанскай барацьбы з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Загінуў у 1943 г. у баі каля в. Тушавая, калі ўзвод натрапіў на варожую засаду.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**953. МАГІЛА КРУШЫНА** Мікалая Пятровіча (гіст.). У цэнтры вёскі, на могілках. Партызан М. П. Крушын



948. *Помнік С. Дз. Пагодзіну.*

загінуў у 1943 г. у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Палоскі, Дрыбінскі сельсавет**

**954. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СТАЯНКА** (археал.).

**954а.** К у р г а н н ы  м о г і л ь н і к. За 2 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Проня. Два насыпы: адзін з іх разбураны, другі вышынёй 0,5 м, дыяметрам 12 м здзірванелы. Выявіў і абследаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**954б.** С т а я н к а. Побач з могільнікам, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня. Адкрыў і да-



950. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, помнік землякам.*



957. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

следаваў у 1985 г. В. Ф. Капыцін на плошчы 4 м². Сярод знаходак крамянёвыя скрабкі, разцы, вырабы з выемкай, вастрыі. Даследаваннямі ўстаноўлена, што курганны могільнік узнік на месцы стаянкі каменнага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Панкратаўка, Добраўскі сельсавет**

**955. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 50 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Папкоўка, Ракцянскі сельсавет**

**956. МАГІЛА КРЫЎЧЫКАВА** Дзмітрыя Капітонавіча **І ЯФІМАВАЙ** Еўдакіі Еўсцігнееўны (гіст.). На могілках. Лётчык Чырвонай Арміі Дз. К. Крыўчыкаў і жыхарка вёскі Е. Е. Яфімава забіты нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў ліпені 1941 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Паршына, цэнтр сельсавета**

**957. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 114 воінаў, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 173, 344, 352, 390-й стралковых дывізій, якія загінулі ў баях на рубяжы р. Проня. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**958. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 2 насыпы, з іх адзін прадаўгаваты памерам 1,3×6,5×3,2 м. Вышыня круглага кургана — 1,7 м, дыяметр — 9 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**959. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 225 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, і 4 вяскоўцаў, расстраляных гітлераўцамі, у 1968 г. пастаўлена стэла.

**в. Расна, цэнтр сельсавета**

**960. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля будынка універмага. Пахаваны 642 воіны, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г.— лістападзе 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі, што размяшчаўся ў вёсцы. Сярод пахаваных — воіны 32, 42, 49, 60, 70, 95, 160-й стралковых дывізій, якія загінулі ў баях. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**961. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка саўгаса «Запаветы Леніна». На ўшанаванне памяці 218 аднавяскоўцаў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.



962. *Рэшткі касцёла.*




962. *Касцёл. План.*



963. *Сядзіба. Жылы дом.*




963. *Сядзіба. План жылога дома.*

**962. РЭШТКІ КАСЦЁЛА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў пачатку 19 ст. з цэглы. У Вялікую Айчынную вайну моцна пашкоджаны.

Храм — трохнефавая прамавугольная ў плане базіліка. Ва ўсходняй частцы завершаны высокай прамавугольнай апсідай з паўкруглым аконным праёмам. Галоўны фасад вылучаны чатырохкалонным дарычным порцікам, завершаным развітым антаблементам з трыгліфамі і трохвугольным франтонам. Па баках порціка невялікія конхавыя нішы. Бакавыя фасады падкрэслены рызалітамі з порцікамі. Па ўсім перыметры будынка фрыз з трыгліфамі. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены сандрыкамі. Унутраная прастора падзелена 2 радамі калон дарычнага ордэра на 3 нефы. Скляпенні (мяркуючы па абрысу алтарнай часткі — цыліндрычныя) і дах не захаваліся.

Касцёл — помнік архітэктуры класіцызму з шырокім выкарыстаннем ордэрных элементаў. *А. Ю. Пятросава.*

**963. СЯДЗІБА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Сфарміравана ў канцы 19 ст. Комплекс уключае мураваны жылы дом, драўляны свіран, бровар, невялікія гаспадарчыя будынкі.

Ж ы л ы  д о м. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з цокальным паверхам. Маленькія рызаліты па вуглах бакавых фасадаў і ўся паверхня вонкавых сцен расчлянёны гарызантальна руставанымі лапаткамі. Пад двухсхільным вальмавым да-

хам праходзіць ступеньчаты карніз з сухарыкамі. Цокаль і асноўны паверх аддзелены поясам русту. Аконныя праёмы высокія, прамавугольныя, без ліштваў. Уваходы ў дом вылучаны высокімі мураванымі ганкамі. Унутраная планіроўка будынка нерэгулярная. У большасці памяшканняў на столях ляпныя разеткі, па перыметры сцен — фрызы і карнізы, упрыгожаныя віньеткамі, гірляндамі, геаметрычным арнаментам. Цяпер у будынку школа.

Свіран. Кампактны зруб з двухсхільным дахам, які з аднаго боку ўтварае глыбокую навісь на 2 драўляных слупах круглага сячэння.

Бровар. Размешчаны воддаль ад астатніх пабудоў. Аднапавярховы мураваны будынак. Цэнтральная частка вылучана высокай мансардай з паўкруглым акном. Фасады ўпрыгожаны аркатурнымі паясамі. Аконныя праёмы сегментнага абрысу, без ліштваў.

Сядзіба — помнік архітэктуры неакласіцызму з рысамі народнага драўлянага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Робцы, Раснянскі сельсавет**

**964. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, каля будынка аддзялення сувязі. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г.— чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 49-й стралковай дывізіі. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Рудкаўшчына, цэнтр сельсавета**

**965. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, каля могілак, уздоўж аўтамабільнай дарогі Орша — Горкі. Пахаваны 12 воінаў Чырвонай Арміі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1944 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**966. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Насупраць будынка магазіна. На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Рэкатка, Добраўскі сельсавет**

**967. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 партызан адной з груп брыгады «Звязда» (створана ў жніўні 1942 г., ва ўмовах карнай экспедыцыі праціўніка рашэннем камандавання брыгады разгрупавана ў кастрычніку 1942 г.), якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у студзені 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**968. РАДЗІМА ШЧАРБАТАВА** Георгія Міхайлавіча (гіст.).



971. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Беларускі савецкі пісьменнік Г. М. Шчарбатаў нарадзіўся 7.5.1919 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. Пасля сканчэння ў 1938 г. Магілёўскага педвучылішча настаўнічаў у Бярэзінскім р-не. У 1939 г. супрацоўнік абласной газеты «Камунар Магілёўшчыны», у 1940 г.—газеты «Советская Белоруссия». У Вялікую Айчынную вайну працаваў у Куйбышаўскай газеце «Волжская коммуна». Вясной 1942 г. накіраваны на часова акупіраваную тэрыторыю Беларусі, карэспандэнт газеты «Савецкая Беларусь», з пачатку 1943 г. да ліпеня 1944 г. супрацоўнік газеты «Звязда», якая выдавалася падпольна. У пасляваенны час загадчык аддзела ў рэдакцыі «Звязды», карэспандэнт газеты «Известия», намеснік рэдактара часопіса «Маладосць». Друкавацца пачаў з 1939 г. Пісаў нарысы і крытычныя артыкулы. Першая кніга — запіскі «Партызанскія агні» (1950 г.). Аўтар нарыса «Камсамол Беларусі ў баях за Радзіму» (1950 г.), зборнікаў «Шумелі пушчы» (1957 г.), «Лясны фронт» (1961 г.). У аснове твораў пісьменніка асабіста перажытае — падзеі партызанскай барацьбы, сведкам і ўдзельнікам якіх ён быў. Памёр Г. М. Шчарбатаў 2.2.1957 г. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

*Літ.:* Абуховіч А. Старонкі баявых подзвігаў моладзі Беларусі.— Камуніст Беларусі, 1957, № 6; Гарулёў М. На партызанскіх сцежках.— Полымя, 1950, № 10; Дамашэвіч У. Партызанская слава.— Маладосць, 1958, № 5. *І. Ф. Кудраўцаў.*

**в. Рэкта, цэнтр сельсавета**

**969. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 10 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі сельсавета ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**970. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сава, цэнтр сельсавета**

**971. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Орша — Горкі. Пахаваны 3 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**972. РАДЗІМА КАВАЛЯ** Васіля Пятровіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік В. П. Каваль (сапраўднае Кавалёў) нарадзіўся 4.8.1907 г. у сялянскай сям'і. У 1925—26 гг. вучыўся на агульнаадукацыйных курсах у Горках, у 1926—27 гг. і 1928—29 гг. у БДУ. Літаратурную дзейнасць пачаў у 1925 г. Пісаў вершы і лірычныя абразкі (зборнік «Як вясну гукалі», 1927 г.). Першыя апавяданні апублікаваны ў 1926 г. У зборніках апавяданняў «На загонах» (1928 г.), «Крыніца» (1929 г.) паказаў разнастайныя з'явы вясковага жыцця ў дакастрычніцкі час, у гады Грамадзянскай вайны і аднаўленчага перыяду. Асноўныя рысы стылю пісьменніка — паэтычнасць, эмацыянальнасць, прыхільнасць да рамантычна-ўзнёслай вобразнасці. У 1930-я гады паявіліся апавяданні, прысвечаныя калгаснаму жыццю, аповесць пра баявыя будні воінаў Чырвонай Арміі «Дзень палымнее» (1932 г.). Аўтар цыкла вершаў у прозе «Жыццё і сонца», аповесці для дзяцей «Санька-сігналіст» (1934 г.). Выдадзена кніга аповесцей «Следапыты» (1961 г.). Памёр В. П. Каваль 29.10.1937 г.

*Літ.:* Казека Я. Васіль Каваль.— Полымя, 1966, № 1; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *В. М. Баскова.*

**в. Сенькава, Ракцянскі сельсавет**

**973. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Проня. Вышыня над узроўнем ракі 15 м. Пляцоўка авальная, памерам 52×45 м, умацавана 2 кальцавымі валамі вышынёй 0,5—1 м. Адкрыў у 1963 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1977 г. В. І. Шадыра. У шурфах прасочаны культурны пласт каля 0,5 м. Знаходак не было.

*Літ.:* Побаль Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических



977. *Помнік на вайсковых могілках.*

памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*В. І. Шадыра.*

**в. Сласцёны, Першамайскі сельсавет**

**974. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у гаі. Пахаваны 22 воіны, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Стан, Добраўскі сельсавет**

**975. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. На ўшанаванне памяці 175 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Старакожаўка, Дрыбінскі сельсавет**

**976. МАГІЛА ПРАДКІ** Аляксея Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Камандзір звяна 18-га знішчальнага авіяпалка малодшы лейтэнант А. Дз. Прадка загінуў у верасні 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стараселле, Ленінскі сельсавет**

**977. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 4 магілах пахаваны 357 воінаў Чырвонай Арміі, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у верасні 1943 г.— чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 62, 247, 352-й стралковых дывізій. У 1960 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**978. МАГІЛА АЦЕЕВА** Аркадзя Яўгенавіча (гіст.). У цэнтры вёскі, на вайсковых могілках. Воін Чырвонай Арміі А. Я. Ацееў загінуў у кастрычніку 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў каля в. Леніна. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Прыбужжа (Прыбужжа Старое), Дрыбінскі сельсавет**

**979. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 63 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Старына, Ленінскі сельсавет**

**980. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. У 5 магілах пахаваны 128 воінаў, якія загінулі ў лютым 1943 г.— чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 144-й і 352-й стралковых дывізій, 1-й польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі, беларускі савецкі пісьменнік Павел Антонавіч Леванові.

П. А. Леванові нарадзіўся 3.11.1914 г. у в. Мазалава Мсціслаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Удзельнік вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г. Друкаваўся з 1935 г. на старонках газет «Чырвоная змена», «Звязда», «Літаратура і мастацтва», у часопісах «Полымя рэвалюцыі», «Іскры Ільіча». Выступаў з вершамі, апавяданнямі, нарысамі, дарожнымі нататкамі. У творах адлюстроўваў працэс станаўлення новага чалавека, перавыхавання яго пад уздзеяннем калектыву. Любоўю да роднага краю, прыроды напоўнены яго творы для дзяцей (зборнік апавяданняў «Дружба», 1938 г.), у якіх паказаў сябе тонкім знаўцам дзіцячай псіхалогіі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце. Трапіў у палон. Уцёк з Крычаўскага лагера ваеннапалонных, дапамагаў партызанам, з кастрычніка 1943 г. зноў на фронце. Быў цяжка паранены, памёр 20.12.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Мсціславе.

У 1959 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: салдат і піянерка. На мармуровых дошках выбіты імёны загінуўшых.

*В. М. Баскова, Г. Ф. Юрчанка.*

**в. Студзянец, Копцеўскі сельсавет**

**981. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны 67 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943—44 гг. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.



980. *Помнік на вайсковых могілках.*

**982. КУРГАН** (археал.). За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на могілках. Вышыня 1,7 м, дыяметр 8 м. Выявіў і абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сцефанова, Ленінскі сельсавет**

**983. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 488 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх за-



983. *Помнік на вайсковых могілках.*

хопнікаў у чэрвені 1943 г.— чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 139, 164, 247, 252, 338, 344, 352-й стралковых дывізій, а таксама воіны 1-й польскай дывізіі імя Т. Касцюшкі, французскі лётчык Морыс Бон, якія ўдзельнічалі ў баях на гэтым участку фронту ў 1943 г. ці ў прарыве абароны ворага і вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у чэрвені 1944 г. У 1953 г. на могілках пастаўлены помнік — скульптура воіна і дошкі з імёнамі загінуўшых. У 1984 г. на магіле Морыса Бона ўстаноўлена надмагілле.

*В. М. Баскова.*

**в. Трылесіна, цэнтр Першамайскага сельсавета**

**984. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, па дарозе на в. Шчокатава. На ўшанаванне памяці 420 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск, на пастаменце якога дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Тудараўка, Маслакоўскі сельсавет**

**985. МАГІЛА САВЕЦКІХ ПАТРЫЁТАЎ** (гіст.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на могілках. Пахаваны 17 вясковых камсамольцаў, у т. л. 7 дзяўчат, якія дапамагалі партызанам брыгады № 35 Бялыніцкай ваенна-аператыўнай групы. Патрыёты распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, здабывалі разведданыя. 25.5.1943 г. фашысты схапілі іх і расстралялі. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.



984. *Помнік землякам.*



991. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Тушавая, Палёнкаўскі сельсавет**

**986. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны 34 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г., і 4 партызаны 115-га Горацкага партызанскага атрада, што загінулі ў баі з акупантамі ў лютым 1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**987. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 34 жыхары вёскі, расстраляныя нямецка-фашысцкімі акупантамі ў верасні 1943 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хамінічы, Рудкаўшчынскі сельсавет**

**988. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Леніна. На ўшанаванне памяці 133 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ходараўка, Горскі сельсавет**

**989. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 165 жыхароў вёсак Гушчына, Палішына, Першыно, Саракапуды і Ходараўка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Цёмны Лес, цэнтр сельсавета**

**990. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 6 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля чыгункі Горкі — Крычаў, на 7-м пікеце. Пахаваны 3 партызаны-падрыўнікі 2-й асобнай Клятнянскай партызанскай брыгады Р. І. Сейфер, А. І. Каламенскаў і А. С. Якаўлеў, якія загінулі 29.11.1942 г. пры ўзрыве варожага эшалона. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**991. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў 1941 г. у паветраным баі над вёскай. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**992. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Маскалёўка. Пахаваны больш за 30 воінаў, што загінулі ў верасні 1943 г.— лістападзе 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі, які тут размяшчаўся. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**993. МАГІЛА ЯМЕЛІНА** Васіля Фёдаравіча (гіст.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі. Сапёр Чырвонай Арміі старшы сяржант В. Ф. Ямелін загінуў у 1943 г. у час размініравання вызваленай ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў вёскі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**994. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 245 жыхароў 11 вёсак сельсавета, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шаблавы, Цемналескі сельсавет**

**995. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. Воін загінуў у баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шарыпы Вялікія, Саўскі сельсавет**

**996. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Проня, пры ўпадзенні ў яе р. Пнеўка. Памер 40×100 м (культурны пласт стаянкі разворваецца). Адкрылі і даследавалі ў 1985 г. В. Ф. Капыцін і В. Я. Кудрашоў. Знойдзены крамянёвыя фрагменты пласцін, скрэблападобная прылада

працы і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**в. Шарыпы Малыя, Саўскі сельсавет**

**997. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, на мысе, утвораным 2 ярамі, што выходзяць у пойму р. Пнёўка (левы прыток р. Проня). Вышыня над летнім меланным узроўнем вады ў рацэ 12 м. Пляцоўка авальная, выцягнута з захаду на ўсход, памерам 16×15 м, здзірванелая, парасла дрэвамі. З заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 3—4 м, шырынёй у аснове 12—14 м, па перыметры праходзіць апоўзлы вал вышынёй 1—1,5 м, што надае пляцоўцы сподкападобную форму. Вядома з 1893 г., абследавалі ў 1985 г. В. Ф. Капыцін і А. А. Седзін. Трапляецца кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. *А. А. Седзін.*

**в. Шаўнева, Горскі сельсавет**

**998. ГАРАДЗІШЧЫ, СЕЛІШЧА** (археал.).

**998а.** Гарадзішча-1. За 250 м на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Каменка, за 0,5 км ад яе ўпадзення ў р. Добрая, на мысе. Вышыня над поймай ракі 10—12 м. Паўднёвы схіл абмежаваны ярам, з поўначы прасочана невялікае паніжэнне. Пляцоўка памерам 45×60 м. У паўночна-ўсходняй частцы прасочаны рэшткі вала вышынёй 1,5 м, шырынёй 3 м, даўжынёй 10 м. Пляцоўка і схілы здзірванелыя. Выявіў у пачатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. Культурны пласт у цэнтры 0,5 м, каля заходняга краю 1,2 м. Знойдзены скарб: сярэбраныя завушніцы, спражкі, бранзалеты, грыўні візантыйскай работы. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.




**998а.** *Гарадзішча-1. План.*

**998б.** Гарадзішча-2. У цэнтры вёскі, на ўзвышшы вышынёй 2 м. Абследаваў у 1978 г. В. І. Шадыра. У культурным пласце 0,4 м знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да раннефеадальнага часу. Раскопкі не праводзіліся.

**998в.** Селішча. Каля паўднёвага боку гарадзішча-1. Абследавалі ў 1936 г. А. Дз. Каваленя, у 1978 г. В. І. Шадыра. Знойдзена ляпная і ганчарная кераміка, шлакі. Адносіцца да культуры тыпу верхняга пласта Банцараўшчыны (6—8 стагоддзі) і да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання гарадзішча-2 і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *В. І. Шадыра.*

**в. Шчокатава, Першамайскі сельсавет**

**999. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзлессі. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 64, 95, 199-й стралковых дывізій. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Ярцаўка, Копцеўскі сельсавет**

**1000. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Рамясцвянка, на мысе. Вышыня над поплавам ракі 13 м. Пляцоўка памерам 30×27 м з боку поля ўмацавана ровам глыбінёй каля 1,5 м. З паўночнага, усходняга і паўднёвага бакоў прасочаны вал, вышынёй каля 2,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Культурны пласт не прасочаны. *В. І. Шадыра.*




# КАСЦЮКОВІЦКІ РАЁН

Вял. Валаськоўня
Забычанне
Пралетарскае
Пячары
Нізькі
Шарэйкі
Муравілле
Тупічын
Брацькавічы
КАСЦЮКОВІЧЫ
Прусіна
Калодзецкая
Вётухна
Дзямідавічы
Вітунь
Дзяражня
Канічы
Печанеж
Белая Дуброва
Сілічы
Бялынкавічы
Відуйцы
Самацэвічы
Сялецкае
Вялікі Бор
Журбін
Машавое
Мокрае
Бароні
Гаўрыленка
Вішні

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Магільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Цэнтр раёна

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Цэнтры сельсаветаў

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

## VIII. КАСЦЮКОВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Жадунька, за 160 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва, за 3 км ад чыгуначнай станцыі Камунары на лініі Крычаў — Унеча.

Вядомы з канца 16 ст. як дзяржаўнае ўладанне ў Крычаўскім старостве Мсціслаўскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага. З 1772 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Клімавіцкага павета Беларускай, з 1796 г.— Магілёўскай губерняў. Маёнтак Касцюковічы належаў Уладзіміру Цеханавецкаму. Мястэчка было вядома конным кірмашом. Да 1864 г. тут трохкласнае вучылішча, якое ўтрымлівалася за кошт мястэчка. У 1872 г. заснаваны вінакурны завод. У 1886 г.— 620 жыхароў, 94 крамы, 122 двары, 2 царквы, сінагога, царкоўнапрыходскае вучылішча, бальніца, аптэка, 8 гарбарняў, млын. Праводзіліся 2 кірмашы на год. У 1897 г.— 700 жыхароў, каля 340 двароў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў снежні 1917 г. У студзені 1918 г. у Касцюковічах быў скліканы валасны з'езд сялянскіх дэпутатаў, які выбраў двух дэлегатаў на губернскі з'езд. 24.9. 1918 г. Касцюковіцкі валасны камітэт беднаты заклікаў сялян узяць на ўлік ураджай 1918 г. і весці рашучую барацьбу з кулакамі і спекулянтамі. З красавіка 1919 г. Касцюковічы ў складзе Гомельскай губерні РСФСР, з сакавіка 1924 г.— у БССР, з ліпеня 1924 г. цэнтр Касцюковіцкага р-на ў Калінінскай, у 1927—30 гг.— у Магілёўскай акругах. Працавалі з 1926 г. гантарэзка, з 1931 г. пеньказавод, з 1932 г. маслазавод, з 1931 г. рамонтныя майстэрні МТС, з 1932 г. цагельны завод. З 1931 г. выдавалася газета «Сталінскі прызыў» — орган райкома КП(б)Б і райвыканкома, у 1934—35 гг.— шматтыражная газета «Ударнік сацыялістычных палёў» — орган палітаддзела Касцюковіцкай МТС. На 1.1.1933 г.— 3,1 тыс., у 1939 г.— 6,1 тыс. жыхароў. Са студзеня 1938 г. Касцюковічы ў Магілёўскай вобл., з 27.9. 1938 г.— горад.

У Вялікую Айчынную вайну 12.8. 1941 г. нямецка-фашысцкія войскі прарвалі фронт абароны 13-й арміі на р. Сож, 14.8.1941 г. акупіравалі Касцюковічы. На тэрыторыі раёна дзейнічалі: падпольныя райкомы КП(б)Б (6.5—28.9.1943 г.) і ЛКСМБ (15.5—1.10. 1943 г.); партызанскія брыгады 13-я Касцюковіцкая, 5-я Клятнянская, «Уперад»; асобныя атрады: 44-ы, 124-ы Касцюковіцкі, 2-і Хоцімскі, 45-ы «За Радзіму» і інш. партызанскія фарміраванні. Выходзіла падпольная раённая газета «Сталінскі прызыў» — друкаваны орган падпольнага райкома КП(б)Б. 13.8.1943 г. партызаны і падпольшчыкі ўзарвалі ў горадзе прадпрыемства, якое выпускала шпалы і брусы для чыгункі, вывелі са строю лесапільны завод і электрастанцыю. 28.9.1943 г. часці 3-й арміі Бранскага фронту вызвалілі горад, які за час акупацыі вораг амаль поўнасцю спаліў.

Забудова планіровачна выцягнута з усходу на захад. Сетка вуліц прамавугольная. Цэнтральная магістраль — вул. Ленінская. Будаўніцтва вядзецца паводле генпланаў 1961 г. і 1972 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Грамадскі цэнтр склаўся на паўднёвым адрэзку вул. Ленінскай. Тут размешчаны асноўныя адміністрацыйныя і культурна-бытавыя будынкі: райкома партыі, Дома Саветаў, Дома культуры, Дома быту, кінатэатра, раённага вузла сувязі, універмага, гасцініцы, канторы Дзяржбанка, краязнаўчага музея і інш. Кампазіцыйна-планіровачным цэнтрам горада з'яўляецца плошча на перакрыжаванні вуліц Ленінскай і Камсамольскай, дзе ўстаноўлены помнік У. І. Леніну. Капітальная жылая забудова сканцэнтравана на вуліцах Ленінскай, Інтэрнацыянальнай, Чырвонаармейскай, Юнацкай. Забудоўваецца вуліца Зіньковіча. У паўночнай частцы горада ў 1970 г. пабудаваны жылы квартал з 2—4-павярховых дамоў. Новы жылы раён сфарміраваны ў заходняй частцы горада на вуліцах Чырвонаармейскай і Камсамольскай.

Прамысловы раён размешчаны ў паўднёва-заходняй частцы горада і каля чыгуначнай станцыі Камунары.



VIII. *Жылыя дамы па вуліцы Зіньковіча.*

Тут знаходзяцца завод масла і сухога малака (у складзе Клімавіцкага завода сухога абястлушчанага малака), спіртзавод, хлебазавод, ільнозавод, цэх металаапрацоўкі Клімавіцкага завода металавырабаў, цэх дрэваапрацоўкі Крычаўскага мэблевага вытворчага аб'яднання, заводы жалезабетонных вырабаў, асфальтабітумны, цагельны, механічныя майстэрні, цэх шырспажыву лясгаса, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. Працуюць 2 сярэднія, 2 пачатковыя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, васьмігадовая школа-інтэрнат, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца, краязнаўчы музей.



VIII. *Забудова вуліцы Ленінскай.*




VIIт. *Будынак раённага вузла сувязі.*

Выдаецца газета «Сцяг камунізму». Помнікі У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан, ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — лясныя масівы каля сутоку рэк Жадунька і Беседзь.

*Літ.:* Комитеты бедноты Белоруссии: Сб. документов и материалов.— Мн., 1958.

*У. В. Алісейчык, М. І. Камінскі.*

**1001. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Ленінская, у скверы. Пахаваны 37 воінаў 283-й і 120-й гвардзейскай стралковых дывізій 3-й арміі Бранскага фронту і 2 партызаны, якія загінулі 27—28.9.1943 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1002. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне горада, паблізу урочышча Баравец. Пахаваны 171 мірны жыхар, расстраляныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі 22.3.1943 г., 21 воін 283-й і 120-й гвардзейскай стралковых дывізій 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г., 2 партызаны, што загінулі ў 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная група: воін і партызанка, недалёка — абеліск.



1001. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**1003. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5 км на поўдзень ад горада, на левым беразе р. Жадунька, на мысе. Пляцоўка, від авочна, была авальнай або трохвугольнай, захавалася толькі палавіна яе (плошча каля 0,5 га, даўжыня да 80 м). З усходняга боку прасочаны роў, які пераходзіць у стромкія яры прыроднага паходжання (глыбіня каля 2 м). З боку поля пляцоўка ўмацавана валам вышынёй 2—3 м. Гарадзішча моцна зарасло дрэвамі. Адкрыў у 1961 г. і абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. У абрывах берага, у месцах размыву знойдзена ляпная кераміка з жарствой у цесце. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1004. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Карабанаўская. Пахаваны 300 жыхароў горада, якіх у верасні 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1005. МАГІЛА ГАРАЖАНКІНА** Валянціна Міхайлавіча (гіст.). Вул. Заводская. Малодшы палітрук В. М. Гаражанкін загінуў у жніўні 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1006. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, 12, на будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1965 г.

У ноч з 27 на 28.9.1943 г. воіны 120-й гвардзейскай (камандзір генерал-маёр М. К. Масленнікаў) і 283-й (камандзір палкоўнік В. А. Канавалаў) стралковых дывізій 3-й арміі Бранскага фронту вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1007. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, каля Дома Саветаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1982 г.

**в. Баравая, Бароњкаўскі сельсавет**

**1008. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 32 савецкія грамадзяніны, якіх у 1943 г. расстралялі і спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бароњкі, цэнтр сельсавета**

**1009. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 3 воіны 110-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1002. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

**1010. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 269 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**1011. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка Дома культуры. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Барэйкі, Бароњкаўскі сельсавет**

**1012. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 30 воінаў 110-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранска-




1003. *Гарадзішча. План.*



**1007.** *Помнік У. І. Леніну.*

га фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Белая Дуброва, цэнтр сельсавета**

**1013. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 14 воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 28.9. 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



**1004.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**1014. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1015. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**1015а.** Гарадзішча-1. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня. Моцна пашкоджана. Даўжыня ўцалелай часткі валоў 35—40 м. Вышыня ўнутранага вала 2—3 м, вонкавага 2 м. Пляцоўка, верагодна, была да 10—12 м вышынёй над поплавам ракі. Роў з паўднёва-ўсходняга боку засыпаны. Другі роў, які знаходзіўся паміж валамі, меў глыбіню каля 5 м. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1015б.** Гарадзішча-2. У паўднёвай частцы вёскі, каля будынка школы. Мае 2 пляцоўкі. Вышыня першай (паўднёвай) над поймай р. Беседзь 12—14 м, памер 40×50 м. Вышыня другой крыху большая, памер 60×70 м. Валы падкowападобнай формы вышынёй 2—4 м умацоўвалі гарадзішча з паўночнага боку. За імі знаходзіліся равы (з поўначы) і пойма ручая (з захаду і поўдня). З усходу на адлегласці 0,1 км цячэ р. Беседзь. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР, заходняй Смаленшчыне і Клінцоўшчыне ў 1928—1929 гг.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук. 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *У. Ф. Ісаенка.*

**1016. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня, у лесе, каля кар'ера. 3 насыпы дыяметрам 15—18 м, вышынёй 0,2—1,2 м. Курганы моцна аплылі. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.



**1010.** *Помнік землякам.*

**в. Блудзімля, Брацькавіцкі сельсавет**

**1017. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Каля 40 насыпаў дыя-




**1015а.** *Гарадзішча-1. План.*




**1015б.** *Гарадзішча-2. План.*

метрам 5—20 м, вышынёй 0,5—3 м. Яшчэ 4 курганы вышынёй 1—1,25 м, дыяметрам 12—20 м знаходзяцца ў заходняй частцы вёскі. Адкрыў Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Брацькавічы, цэнтр сельсавета**

**1018. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 24 насыпы вышынёй 0,8—2,5 м, дыяметрам 5—20 м. Курганы пашкоджаны ямамі, здзірванелі і параслі лесам. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**1019. МАГІЛА ЛАПАТКІНА** Пятра Фёдаравіча **І РАШЭТНІКАВА** Мікалая Іванавіча (гіст.). На могілках. Савецкія воіны — лейтэнант П. Ф. Лапаткін і радавы М. І. Рашэтнікаў загінулі ў верасні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1017.** *Курганны могільнік. План.*




**1018.** *Курганны могільнік. План.*



**1021.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**1020. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка канторы саўгаса «Брацькі». На ўшанаванне памяці 102 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Бялынкавічы, цэнтр сельсавета**

**1021. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 31 воін 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту і 1 партызан, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.




**1022.** *Курганны могільнік. План.*

**1022. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У цэнтры вёскі. 33 насыпы вышынёй 0,2—2,5 м, дыяметрам 5—20 м. Захаванасць добрая, паверхня курганоў здзірванелая. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**1023. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 346 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**чыг. ст. Бялынкавічы, Бялынкавіцкі сельсавет.**

**1024. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка чыгуначнай станцыі, у скверы.

10.11.1941 г. дыверсійна-разведвальны атрад НКУС СССР разграміў варожы гарнізон на чыгуначнай станцыі Бялынкавічы, знішчыў 28 гітлераўцаў, узарваў вадакачку і чыгуначны мост.

У ноч з 21 на 22.4.1943 г. партызаны 2-й асобнай Клятнянскай брыгады пад камандаваннем Ц. М. Каротчанкі правялі аперацыю па знішчэнню 120-метровага чыгуначнага моста цераз р. Беседзь. Народныя мсціўцы знішчылі паліцэйскі гарнізон аховы моста, падарвалі 5 км рэек, 700 м драцявай лініі сувязі, вывелі чыгунку са строю на месяц.

У 1976 г. у гонар баявых дзеянняў партызан устаноўлена стэла.



**1024.** *Помнік у гонар партызан.*




1025. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Валаськоўня, Пралетарскі сельсавет**

**1025. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 179 воінаў 771-га стралковага палка 137-й дывізіі, якія загінулі ў жніўні 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У пачатку жніўня фашысты накіравалі ў раён Касцюковіч танкавыя часці для прарыву фронту савецкіх войск. 13.8.1941 г. яны перайшлі ў наступленне ў напрамку Касцюковіч. Каля в. Малая Валаськоўня былі затрыманы часцямі 137-й стралковай дывізіі. Разам з воінамі ў гэтым баі адважна змагаўся атрад камуністаў, сфарміраваны ў г. Касцюковічы.

У 1979 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны і воіна.



1026. *Курганны могільнік. План.*




1028. *Курганны могільнік. План.*

**в. Васілёўка, Касцюковіцкі гарадскі Савет**

**1026. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на сядзібах, могілках і ў маладым хвойніку. 22 насыпы вышынёй 1,5—2,8 м, дыяметрам 10—25 м. Вядомы з 1903 г., абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вётухна, Дзяражпенскі сельсавет**

**1027. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы, каля будынка школы. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод іх — 4 воіны 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, што загінулі ў 1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Відуйцы, Саматэвіцкі сельсавет**

**1028. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2—3 км ад вёскі, на правым беразе р. Алешня. 9 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 8—12 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1029. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. Маркса. На ўшанаванне памяці 163 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вітунь, Дзямідавіцкі сельсавет**

**1030. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПЕРАЛЁТАВУ** Максіму Васілевічу (гіст.). На будынку клуба калгаса «Радзіма». Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці першага старшыні былога калгаса імя К. М. Варашылава М. В. Піералётава, загубленага 7.10.1936 г. ворагамі Савецкай улады.

**1031. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Радзіма». На ўшанаванне памяці 204 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вішанькі, Дзямідавіцкі сельсавет**

**1032. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сураў, на сядзібах. 8 кurганоў вышынёй 0,3—2,3 м, дыяметрам 15—20 м. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.



1031. *Помнік землякам.*

**в. Восаў, Брацькавіцкі сельсавет**

**1033. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Харавынь. Пахаваны 2 партызаны атрада 45-га «За Радзіму», якія памерлі ад ран, атрыманых пры выкананні баявога задання. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1032. *Курганны могільнік. План.*



1035. *Помнік землякам.*



1036. *Паселішча. Агульны выгляд раскопу.*



1036. *Крамянёвыя прылады працы з паселішча.*

**1034. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАНСКАГА АТРАДА 45-га «ЗА РАДЗІМУ»** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Харавань. Тут у Вялікую Айчынную вайну знаходзілася база партызанскага атрада 45-га «За Радзіму».

Атрад сфарміраваны ў лістападзе 1942 г. з дыверсійных груп І. С. Салдаценкі і Ф. Ф. Сігаева, накіраваных у жніўні 1942 г. ЦК КП(б)Б у тыл праціўніка, і групы У. І. Маркава з брыгады імя С. Г. Лазо Арлоўскай вобл. 3 мая 1943 г. называўся 45-ы «За Радзіму». Камандзір атрада У. І. Маркаў, камісары І. С. Салдаценка (да верасня 1943 г.), Ф. Ф. Сігаеў (верасень 1943 г.). Партызаны атрада дзейнічалі на тэрыторыі Клімавіцкага і Краснапольскага р-наў. Правялі шэраг аперацый на чыгуначным участку Магілёў — Крычаў — Сураж. Летам 1943 г. у час «рэйкавай вайны» падарвалі больш за 450 рэек, 11 эшалонаў, 2 чыгуначныя масты. Правялі 14 баёў па разгрому варожых гарнізонаў і ўчасткаў. У ліпені — жніўні 1943 г. вялі баі супраць карнікаў. У канцы верасня 1943 г. удзельнічалі ў вызваленні гарадоў Клімавічы і Касцюковічы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 30.9.1943 г. атрад (504 партызаны) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

У 1978 г. на месцы базіравання атрада пастаўлена стэла.

**в. Вялікі Бор, Мокраўскі сельсавет**

**1035. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка канторы саўгаса «Зарэчны». На ўшанаванне памяці 228 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гайкоўка, Дзяражненскі сельсавет**

**1036. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі (паўночна-ўсходні схіл урочышча Печанеж), у басейне р. Беседзь (левы прыток р. Сож). Займае ўзгоркавую раўніну, якая паступова спускаецца да тарфяніка. Выявіў у 1926 г., даследаваў у 1930 г. К. М. Палікарповіч, даследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Ускрыта 265 м² плошчы. Культурны пласт залягае пад ворывам на глыбіні 0,4—0,5 м. Сярод крамянёвага інвентару больш за 2000 прадметаў, з іх 350 прылад працы: тронкавыя наканечнікі стрэл, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя, паўкруглыя і двайныя скрабкі, скрэблападобныя прылады, авальныя сякеркі і цёслы, пласціны-ўкладышы, вырабы з выемкамі, праколкі і вастрыі. Апрацоўка крэменю адбывалася непасрэдна на паселішчы, аб чым сведчыць вялікая колькасць нуклеусаў, пласцін і адшчэпаў. Адносіцца да позняга мезаліту, датуецца 5-м тысячагоддзем да н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Неалітычная стаянка каля балота Печанеж на Калініншчыне.— Мн., 1927; яго ж. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у БССР у 1930—1931 гг.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3; Копытин В. Ф. Поздний мезолит Посожья.— У кн.: Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Гаўрыленка, Бароньказўскі сельсавет**

**1037. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПРЫВАЛАВУ** Аляксандру Пракопавічу (гіст.). На будынку праўлення калгаса імя М. І. Калініна. Устаноўлена ў 1967 г. на ўшанаванне памяці ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай вайны, старшыні калгаса «Чырвоны Сцяг» (цяпер імя М. І. Калініна) А. П. Прывалава, якога 9.5.1930 г. забілі ворагі Савецкай улады.

**1038. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка праўлення калгаса імя М. І. Калініна. На ўшанаванне памяці 170 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлена стэла.

**в. Гумніцкая, Забычанскі сельсавет**

**1039. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,3 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны воін (прозвішча не ўстаноўлена), які загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзяражня, цэнтр сельсавета**

**1040. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Дзяражня, у полі. Пляцоўка авальная, памерам 60×35 м, узвышаецца над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ на 12 м, з трох бакоў умацавана 3 валамі і 2 равамі. Вышыня ўнутранага вала 1—2 м, 2 вонкавыя валы насыпаны на схілах




1040. *Гарадзішча. План.*

гарадзішча і ўзвышаюцца на 4—6 м над поплавам, у паўднёвай частцы зліваюцца ў адзін. Глыбіня равоў 1—2 м. З усходу да гарадзішча падступаюць поплаўныя нізіны, паўночны схіл пашкоджаны паводкамі. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *У. Ф. Ісаенка.*

**1041. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. 9 насыпаў вышынёй 2—4 м, дыяметрам 12—15 м. Паверхня насыпаў здзірванела. Асобныя курганы знаходзяцца на полі, за сотні метраў ад астатніх. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Забычанне, цэнтр сельсавета**

**1042. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Кампазіцыя будынка чатырохчасткавая: асноўны аб'ём, пяцігранная апсіда, дадатковы аб'ём і бабінец. Над асноўным аб'ёмам і бабінцам зроблены васьмігранныя барабаны, накрытыя вастраверхімі шатрамі. Асаблівасцю пластычнага вырашэння будынка з'яўляюцца шчытавыя завяршэнні сцен аб'ёмаў і барабанаў, абрысы якіх паўтараюць шматсхільныя дахі. Фасады аздоблены вуглавымі трохчвэртнымі калонамі, зубчастымі фрызамі, аркатурнымі паясамі ў выглядзе арачак. Вокны падвойныя, з паўцыркульнымі завяршэннямі. Інтэр'ер асноўнага аб'ёму двухсветлавы. Дэкаратыўнае ўбранне не захавалася.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдарускага стылю і неаготыкі. *Т. В. Габрусь.*

**в. Калодзецкая, Брацькавіцкі сельсавет**

**1043. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Дзяражня. 4 насыпы вышынёй 1—2 м, дыяметрам 5—12 м. Адкрыў у 1970 г. і даследаваў у 1973 г. Я. Р. Рыер, раскапаны адзін курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне на падсыпцы, вышэй пахавання знойдзена пластаванне попелу. У разбураных насыпах выяўлены 2 сяміпрамянёвыя скроневыя кольцы, 2 бранзалетападобныя кольцы, 5 бранзалетаў, 8 пярсцёнкаў, 4 крыжыкі, 8 званочкаў, падвескі, пацеркі, шыфернае прасліца, бронзавая фігурка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 11—12 стагоддзямі.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі. *У. Ф. Ісаенка.*




**1041.** *Курганны могільнік. План.*

**1044. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Калодліва, Беладуброўскі сельсавет**

**1045. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Беседзь, у хваёвым лесе. Захавалася 6 насыпаў (раней іх было 8) вышынёй 0,3—2,5 м (адзін вышынёй 4 м), дыяметрам 8—23 м. Захаванасць добрая, паверхня насыпаў здзірванела, частка парасла дрэвамі, 2 курганы пашкоджаны. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Канічы, Бялынкавіцкі сельсавет**

**1046. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1941 г., і 2 воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, што загінулі 28.9.1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 12 мірных жыхароў, расстраляных фашыстамі ў 1943 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1047. БРОВАР** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў 1914 г. з цэглы. Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з двухпавярховай цэнтральнай часткай, якая выступае на галоўным і тыльным фасадах рызалітамі. Дахі бакавых крылаў і цэнтральнай часткі ўзаемна перпендыкулярныя, двухсхільныя, з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Франтальныя фасады маюць сіметрычна-восевую кампазіцыю. Вялікія вокны з паўцыркульнымі імпастамі абрамлены ліштвамі з дэкаратыўным замковым каменем. На першым паверсе цэнтральнай часткі прамавугольныя праёмы, на другім — авальныя люнеты. Прасценкі аздоблены пілястрамі з вытанчаным ляпным малюнкам. Будынак увенчаны развітым карнізам і парапетам з фіяламі. Першапачатковая анфіладная планіроўка зменена.

Бровар — помнік грамадзянскай архітэктуры з рысамі неабарока. *Т. В. Габрусь.*

**1048. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Беседзь. Пляцоўка авальная, памерам 50×40 м, вышыня над поплавам 9 м. З боку поля ўмацавана 2 падкованападобнымі валамі і равамі. Вышыня валоў 2—3 м, глыбіня равоў 1—2 м. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1049. КАСЦЁЛ** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудаваны на мяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы.

Двухвежавы прамавугольны ў плане будынак з выступаючай алтарнай часткай, звонку прамавугольнай, унутры паўкруглай. Фасады не атынкаваны, апрацаваны пілястрамі і завершаны развітым антаблементам. Галоўны фасад трохчасткавы, падзелены антаблементам. Завяршэнне вежаў не захавалася. Вокны з паўцыркульнымі імпастамі размешчаны высока. Дэкаратыўнае ўбранне інтэр'ера і большая




**1045.** *Курганны могільнік. План.*




**1048.** *Гарадзішча. План.*

частка перакрыццяў не захаваліся. Алтарная частка перакрыта паўсферычнай конхай і накрыта двухсхільным дахам.

Касцёл — помнік архітэктуры з рысамі неабарока. *Т. В. Габрусь.*

**1050. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка канторы саўгаса «Канічы». На ўшанаванне памяці 145 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1957 г. пастаўлены абеліск.

**1051. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палавіне 19 ст. з дрэва.

Будынак чатырохзрубны, падоўжна-восевай кампазіцыі. Складаецца з асноўнага кубічнага аб'ёму і роўных з ім па вышыні пяціграннай апсіды, дадатковага аб'ёму і бабінца, якія накрыты агульным шматсхільным дахам. Над асноўным зрубам узвышаецца двух'ярусны васьмігранны светлавы барабан, над бабінцам — двух'ярусная васьмерыковая вежа-званіца. Аб'ёмы завершаны шатрамі з галоўкамі. Тры ўваходы ў будынак (галоўны і бакавыя) завершаны трохвугольнымі франтонамі, аформлены высокімі ганкамі з разнымі слупамі, якія нагадваюць порцікі. Сцены ашаляваны вертыкальна і прарэзаны аконнымі праёмамі з трохгранным верхам і з прамавугольным абрамленнем. Інтэр'ер асноўнага аб'ёму двухсветлавы, перакрыты самкнёным скляпеннем. У астатніх памяшканнях столі плоскія, падшыўныя.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Кісялёўка, Саматэвіцкі сельсавет**

**1052. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На тэрыторыі школы. Пахаваны 12 воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1053.** *Гарадзішча. План.*



**1054.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Клеявічы 1-я, Беладуброўскі сельсавет**

**1053. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2,5—3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на поплаве берага р. Беседзь, ва ўрочышчы Гарадок. Захаваліся рэшткі 2 валоў і край пляцоўкі даўжынёй 20—50 м. Цэнтральная частка размыта ракой. Вышыня падкованападобных валоў з паўднёвага боку пляцоўкі 1—3 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Мамонаўка, Мокраўскі сельсавет**

**1054. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 воінаў і 8 партызан атрада «За Савецкую Беларусь» 5-й Клятнянскай партызанскай брыгады, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1055. МАГІЛА АРЭШКАВІЧА** Нічыпара Якаўлевіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «За Савецкую Беларусь» 5-й Клятнянскай партызанскай брыгады Н. Я. Арэшкавіч загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мартынаўка, Сялецкі сельсавет**

**1056. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 11 жыхароў вёскі, якіх 9.8. 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мокрае, цэнтр сельсавета**

**1057. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 179 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Мурын Бор, Забычанскі сельсавет**

**1058. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 86 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Негін, Забычанскі сельсавет**

**1059. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 17 воінаў 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1060. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 108 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Нізькі, Забычанскі сельсавет**

**1061. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1057.** *Помнік землякам.*

**1062. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 116 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Норкіна, Забычанскі сельсавет**

**1063. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 10 воінаў 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту і 9 партызан 13-й Касцюковіцкай брыгады, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Панькаўская Буда, Бароньнаўскі сельсавет**

**1064. РАДЗІМА ВАРАНЦОВА** Аляксандра Нічыпаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Н. Варанцоў нарадзіўся 9.9.1907 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з ліпеня 1941 г. Удзельнік абароны Масквы, вызвалення Польшчы, баёў у Германіі. Зімой 1942—43 гг. удзельнічаў у 42-дзённым рэйдзе па тылах ворага ў раёне Ржэў — Сычоўка — Нялідава. Наводчык станковага кулямёта гвардыі радавы А. Н. Варанцоў у верасні 1943 г. у складзе войск Бранскага фронту ў ліку першых фарсіраваў Дзясну і на захопленым плацдарме адбіў 2 контратакі праціўніка. Вызначыўся на тэрыторыі Германіі ў баях за г. Бромберг, Ландэк, Бервальдэ. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.5.1945 г. Пасля вайны працаваў старшынёй калгаса, ляснікам. Памёр 23.2.1973 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Пралетарскае, цэнтр сельсавета**

**1065. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў жніўні 1941 г. і ў верасні 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Прудок, Саматэвіцкі сельсавет**

**1066. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх войск. У 1982 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1067. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на мысе правага карэннага берага р. Беседзь. Пляцоўка трохвугольная, памерам 55×56 м, узвышаецца над летнім меджанным узроўнем вады ў рацэ на 15—17 м. З боку поля ўмацавана 5 серпападобнымі валамі вышынёй 1—3 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў



1066. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Прусіна, Дзямідавіцкі сельсавет**

**1068. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Дружба». Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пушкова, Пралетарскі сельсавет**

**1069. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на захад ад вёскі, на 172-м км чыгункі Унеча — Орша. Пахаваны 8 воінаў экіпажа бранепоезда, якія загінулі ў жніўні 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пячары, Пралетарскі сельсавет**

**1070. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, каля могілак. 12 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 12—20 м. Захаванасць добрая. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1970 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**1071. РАДЗІМА ЗІНЬКОВІЧА** Мітрафана Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза генерал-маёр (1943 г.) М. І. Зіньковіч нарадзіўся 14.6.1900 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1924 г. У Чырвонай Арміі з 1919 г. У 1923 г. скончыў Палтаўскую пяхотную школу, у 1933 г.— Ваенную акадэмію імя Фрунзе. Удзельнік Грамадзянскай вайны, вызвалення Заходняй Беларусі ў 1939 г., савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Бранскім, Цэнтральным, Варонежскім франтах. Камандзір танкавага корпуса М. І. Зіньковіч вызначыўся пры вызваленні Украіны. Танкавая група на чале з ім 22.9.1943 г. у ліку першых фарсіравала Дняпро, авалодала плацдармам і забяспечыла пераправу часцей корпуса. Загінуў у баі 24.9.1943 г. Пахаваны ў г. Прылукі Чарнігаўскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.11.1943 г. Яго імем названа вуліца ў Касцюковічах. На магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965.

**в. Саматэвічы, цэнтр сельсавета**

**1072. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны жыхары вёскі, якіх у красавіку 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1073. РАДЗІМА КУЛЯШОВА** Аркадзя Аляксандравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт, народны паэт БССР (1968 г.), заслужаны работнік культуры УССР (1973 г.) А. А. Куляшоў нарадзіўся 24.1.1914 г. у сям'і настаўніка. Член КПСС з 1941 г. Вучыўся ў Мсціслаўскім педагагічным тэхнікуме (1928—30 гг.), на літаратурным факультэце Беларускага вышэйшага педагагічнага інстытута (1931—33 гг.). У 1934 г. супрацоўнік рэдакцыі газеты «Чырвоная змена», у 1934—36 гг. літаратурны рэдактар Беларускага радыё, у 1936—37 гг. літаратурны кансультант кабінета маладога аўтара пры Саюзе пісьменнікаў БССР. У Вялікую Айчынную вайну карэспандэнт армей-




1070. *Курганны могільнік. План.*

скай газеты «Знамя Советов» (1941—43 гг.). У 1944—45 гг. у Беларускім штабе партызанскага руху. У 1945—46 гг. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва», у 1958—67 гг. начальнік сцэнарнага аддзела, галоўны рэдактар кінастудыі «Беларусьфільм». Дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1947—78 гг.

Упершыню ў друку выступіў з вершам у 1926 г. у клімавіцкай газеце «Наш працаўнік». У 1930 г. выйшаў яго першы зборнік «Росквіт зямлі», у 1932 г.— зборнікі паэзіі «Медзі дождж» і «Па песню, па сонца!..». У светлых, прасякнутых жыццярадасным пафасам вершах паэта гучаў гімн новай савецкай рэчаіснасці, народжанай рэвалюцыяй. З часам яго творчасць мужнела, набіралася моцы і мастацкай сталасці, пашыраўся яе дыяпазон, паглыблялася тэматыка. У паэзію А. Куляшова ўваходзяць вобразы людзей моцных духам і шчодрых чалавечай прыгажосцю, для якіх найвышэйшае шчасце — росквіт роднай зямлі і мірнае неба над ёю (паэмы «Баранаў Васіль», 1937 г., «У зялёнай дуброве», 1940 г., «Хлопцы апошняй вайны», 1940 г.).

У творах перыяду Айчыннай вайны паказаў духоўны свет савецкіх людзей, іх мужнасць і стойкасць у часы суровых выпрабаванняў. У 1942 г. напісаў паэму «Сцяг брыгады» (Дзяржаўная прэмія СССР, 1946 г.), якая ўвайшла ў скарбніцу саюзнай літаратуры як адзін з першых твораў эпічнай паэзіі аб вайне. У гады вайны стварыў і такія ўзоры патрыятычнай лірыкі, як «Над брацкай магілай», «Балада аб чатырох заложніках», «Ліст з палону», «Камсамольскі білет» і інш. Здабытая ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі акупантамі перамога, мір, што прыйшоў на здратаваную варожым нашэсцем зямлю, аднаўленне народнай гаспадаркі — у цэнтры ўвагі пасляваенных твораў А. Куляшова: паэмы «Дом № 24» (напісана ў 1944 г.), «Новае рэчышча» (1948 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1949 г.), «Простыя людзі» («Перамога», 1949 г.), «Толькі ўперад» (1950 г.). Паэзіі 1960—70-х гадоў уласцівы філасафічнасць, глыбокі роздум над жыццём, прызначэннем чалавека на зямлі (паэмы «Цунамі», 1968 г., «Далёка да акіяна», 1970—71 гг., зборнікі «Новая кніга», у перакладзе на рускую мову, 1964 г., «Сасна і бяроза», 1970 г., «Хуткасць», 1976 г.). Плённай была праца паэта над стварэннем эпічных палотнаў на гісторыка-рэвалюцыйную тэматыку: паэма пра ўз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзінай савецкай дзяржаве «Грозная пушча» (1955 г.), драматычная паэма пра К. Каліноўскага «Хамуціус» (1975 г.). А. А. Куляшоў сааўтар сцэнарыяў фільмаў «Чырвонае лісце» (з А. Кучарам, 1958 г.), «Першыя выпрабаванні» (з М. Лужаніным, 1960—61 гг.). Па матывах яго паэмы «Песня аб разведчыках» («Песня аб слаўным паходзе», напісана ў 1935—51 гг.) у 1967 г. створана тэлеопера «Ранак» (музыка Г. Вагнера). Выдадзены зборы твораў А. А. Куляшова ў 4 (1966—67 гг.) і 5 (1974—77 гг.) тамах. На беларускую мову пераклаў паэмы А. Пушкіна «Цыганы», «Яўген Анегін», асобныя творы Т. Шаўчэнкі, У. Маякоўскага, С. Ясеніна, А. Твардоўскага, М. Ісакоўскага, А. Малышкі, М. Рыльскага, М. Нагнібеды і інш. Прэмія Ленінскага камсамола Беларусі 1968 г., Дзяржаўная прэмія БССР імя Я. Купалы 1970 г. (за пераклады вершаў і паэм М. Лермантава, «Энеіды» І. Катляроўскага, «Спеву аб Гаяваце» Г. Лангфела). Творы А. Куляшова перакладзены на многія мовы народаў СССР і замежныя.

Памёр А. А. Куляшоў 4.2.1978 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. На магіле пастаўлены помнік. У Мінску, на доме, дзе жыў паэт, устаноўлена мемарыяльная дошка. Яго імя прысвоена Магілёўскаму педагагічнаму інстытуту, школам у Мінску і Саматэвічах, яго імем названы вуліцы ў Мінску і Касцюковічах. У 1979 г. устаноўлена Літаратурная прэмія імя А. Куляшова Саюза пісьменнікаў БССР. У 1984 г. у Саматэвічах адкрыты літаратурны музей А. Куляшова.

*Літ.:* Перкін Н. С. Аркадзь Куляшоў: Паэтычная творчасць.— Мн., 1951; Грынчык М. Аркадзь Куляшоў: Крытыка-біяграфічны нарыс.— Мн., 1964; Мозольков Е. Поющая земля: Литературные очерки и портреты.— М., 1965; Твардовский А. Аркадий Кулешов.— У яго кн.: Статьи и заметки о литературе. 3 изд. М., 1972; Бярозкін Р. Аркадзь Куляшоў: Нарыс жыцця і творчасці.— Мн., 1978; Бечык В. Л. Шлях да акіяна: Кніга пра паэзію Аркадзя Куляшова.— Мн., 1981; Бялевіч А. Высокі поўдзень.— Полымя, 1964, № 2; Дудин М. Под сенью знамени.— В мире книг, 1974, № 2.

*І. Ф. Кудраўцаў.*



**1077.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



**1074.** *Царква. Выгляд з боку апсіды.*




**1074.** *Царква. План.*

**1074. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 1842 г. з цэглы. Крыжова-купальны храм з прамавугольным бабінцам, паўкруглай апсідай і пяцігаловем у завяршэнні. Цэнтры бакавых фасадаў вылучаны рызалітамі, вуглы якіх умацаваны гранёнымі контрфорсамі. Паўцыркульныя вокны храма размешчаны ў верхняй частцы сцен, упрыгожаны ліштвамі і пілястрамі, кілепадобнымі арачкамі, прафіляванымі падаконнікамі і сандрыкамі. Цокаль будынка вылучаны арнаментальным рабрыстым поясам і крапаваны філёнгамі. У інтэр'еры 4 слупы, злучаныя падпружнымі аркамі, падтрымліваюць высокі светлавы барабан купала. Бакавыя памяшканні перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Над



1079. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

уваходам хоры, якія падтрымліваюцца 2 драўлянымі калонкамі стылізаванага іанічнага ордэра. Хоры адкрываюцца ў асноўнае памяшканне арачнымі праёмамі.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю. *У. В. Алісейчык.*

**в. Сігееўка, Бароньkаўскі сельсавет**

**1075. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у верасні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сілічы, Саматэвіцкі сельсавет**

**1076. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў жніўні 1941 г., і 7 воінаў 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, што загінулі ў верасні 1943 г. у баі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Студзянец, Касцюковіцкі гарадскі Савет**

**1077. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у парку. Пахаваны 42 воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1078. РАДЗІМА ЛЕПЯШЫНСКАГА** Панцеляймона Мікалаевіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, публіцыст, доктар гістарычных навук П. М. Лепяшынскі (партыйныя псеўданімы Лапаць, Олін, Пскавіч) нарадзіўся 29.2.1868 г. Член КПСС з 1898 г. Удзельнік рэвалюцыйнага руху з 1886 г. З 1886 г. вучыўся на фізіка-матэматычным факультэце Пецярбургскага універсітэта, член нарадавольскага гуртка. Узначальваў беларускае зямляцтва. За ўдзел у рэвалюцыйным руху ў 1890 г. быў выключаны з універсітэта і высланы з Пецярбурга. У 1891 г. здаў экзамены за універсітэт (Кіеў) і атрымаў дыплом настаўніка. Жыў у Пінску. Вярнуўшыся ў 1894 г. у Пецярбург, кіраваў рабочым гуртком, за што ў снежні 1895 г. арыштаваны і ў 1897 г. высланы на 3 гады ў Енісейскую губерню. Там зблізіўся з У. І. Леніным і стаў адным з яго сяброў і вучняў. Пасля ссылкі жыў у Пскове. З 1900 г. агент ленінскай «Искры». У лістападзе 1902 г. зноў арыштаваны і высланы ў Енісейскую губерню, уцёк у Швейцарыю, дзе далучыўся да бальшавікоў. З 1903 г. сакратар Савета партыі. Актыўны ўдзельнік падрыхтоўкі III з'езда РСДРП (1905 г.). У 1905 г. вярнуўся ў Расію, вёў рэвалюцыйную работу ў Екацярынаславе, Пецярбургу, супрацоўнічаў у бальшавіцкіх газетах «Вперёд», «Волна», «Эхо», «Казарма». З 1907 г. выкладаў матэматыку ў Аршанскім рэальным вучылішчы. Разам з жонкай В. Б. Лепяшынскай аднавіў Аршанскую арганізацыю РСДРП. У час Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. выбраны гарадскім галавой у Оршы. У Вялікую Кастрычніцкую сацыялістычную рэвалюцыю адзін з кіраўнікоў партыйнай арганізацыі ў Оршы, ганаровы старшыня Аршанскага ВРК. З лістапада 1917 г. працаваў у Петраградзе, загадчык аддзела рэформы школы ў Наркамаце асветы РСФСР. Летам 1918 г. заснаваў і ўзначаліў доследна-паказальную працоўную школу-камуну ў в. Ліцвінавічы Рагачоўскага павета Магілёўскай губерні (цяпер у Кармянскім р-не). З 1921 г. выкладчык Маскоўскага універсітэта і Камуністычнай акадэміі, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Гістпарта. Прымаў актыўны ўдзел у стварэнні МОПРа, з 1925 г. старшыня ЦК МОПР. З 1927 г. дырэктар Гістарычнага музея, у 1935—36 гг.— Музея Рэвалюцыі ў Маскве. Аўтар успамінаў пра У. І. Леніна, прац па гісторыі партыі, педагогіцы, літаратурных твораў.

П. М. Лепяшынскі памёр 30.9.1944 г. у Маскве. Яго імем названы калгас у Кармянскім р-не, вуліца ў Магілёве, цеплаход. У в. Ліцвінавічы імя П. М. Лепяшынскага прысвоена сярэдняй школе, на яе будынку ўстаноўлена мемарыяльная дошка, у 1968 г. адкрыты мемарыяльны музей. Паводле пастановы Савета Міністраў БССР ад 19.5.1967 г. устаноўлена Дзяржаўная прэмія БССР імя Лепяшынскага за лепшы твор у галіне журналістыкі.

*Літ.:* Булацкий Г. В. Ленинской гвардии солдат.—2 изд.— Мн., 1970; Садовский А. С., П. Н. Лепешинский: Страницы биографии.— Мн., 1985.

*Г. Ф. Раманаў.*



1080. *Помнік землякам.*

**в. Сялецкае, цэнтр сельсавета**

**1079. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1080. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса «Сялецкі». На ўшанаванне памяці 472 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлена стэла.

**в. Тупічын, Дзямідавіцкі сельсавет**

**1081. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў, што загінулі ў жніўні 1941 г. і верасні 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1082. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, за 0,2 км на поўнач ад школы. 6 насыпаў вышынёй 1,8—2 м, дыяметрам 10—12 м. Захаванасць добрая, курганы зараслі дрэвамі. Адкрыў у 1970 г.




1082. *Курганны могільнік. План.*

Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. У. Ф. Ісаенка. Раскопкі не праводзіліся.

*У. Ф. Ісаенка.*

**1083. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 102 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Хоцімск, Саматэвіцкі сельсавет**

**1084. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў жніўні 1941 г., а таксама ў верасні 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1085. МАГІЛА ЗАЙЦАВА** Івана Рыгоравіча (гіст.). На могілках.

Поўны кавалер ордэна Славы І. Р. Зайцаў нарадзіўся 22.10.1916 г. у в. Хоцімск. З сялян. Член КПСС з 1944 г. З 1939 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на фронце. Снайпер стралковага палка сяржант І. Р. Зайцаў вызначыўся ў баях за вызваленне Украіны, Польшчы, на тэрыторыі Германіі. 20.8.1944 г. на плацдарме за Віслай у раёне Пулавы (Польшча) пры адбіцці контратакі праціўніка знішчыў 4 гітлераўцаў, 16.1.1945 г. у баі каля в. Юзэфуў Радомскага ваяводства — 12 нямецкіх салдат і афіцэраў. 17.1.1945 г. ліквідаваў разлікі гарматнай батарэі і захапіў 2 гарматы. 17 і 18.4.1945 г. у час прарыву абароны праціўніка на р. Одэр каля г. Лебус (Германія) снайперскім агнём знішчыў 17 гітлераўцаў. 22.4.1945 г. у баі за вышыню першым узняўся у атаку, знішчыў 8 салдат ворага. Пасля вайны жыў і працаваў у Касцюковіцкім р-не. Памёр 15.7.1952 г.




1083. *Помнік землякам.*

У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.




# КІРАЎСКІ РАЁН

Шалаеўка
Боркі
Чыгірынка
Гарадзец
Стайкі
Скачок
Ахоцічы
Капланаўка
Кастрычы
Баравіца
Падсёлы
Пацава-Слабада
Хвайніца
Скрыпліца
КІРАЎСК
Любонічы
Казулічы
Барчыцы
Дабрыца
Стаўпішчы
Мышкавічы
Добасна
Барсукі
Ляўковічы
Паўлавічы
Жылічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## IX. КІРАЎСК

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Ала. За 87 км на паўднёвы захад ад Магілёва, 25 км ад чыгуначнай станцыі Бярэзіна на лініі Асіповічы — Жлобін, на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Магілёў.

Раней недалёка ад месца сучаснага Кіраўска быў маёнтак Качэрычы (цэнтр Качэрыцкай воласці Бабруйскага павета). У ліпені 1924 г. Качэрычы ўвайшлі ў Старцаўскі сельсавет Бабруйскага р-на. У 1934 г. на месцы былых хутароў, непадалёку ад в. Старцы, заснаваны пасёлак Кіраўск. Паводле пастановы ЦВК і СНК БССР ад 12.2.1935 г. быў утвораны Кіраўскі р-н (названы ў гонар С. М. Кірава) з часовым цэнтрам — в. Старцы. 20.4. 1939 г. в. Старцы была перайменавана ў в. Кірава. З 15.1.1938 г. раён у Магілёўскай вобл.

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 26.6.1944 г. Кіраўск акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 5.10.1942 г. да 27.6.1944 г. у раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Выдавалася газета «Кировец» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. У пасёлку была створана антыфашысцкая група, якую ўзначальваў Ц. С. Коржаў. Члены групы распаўсюджвалі лістоўкі, збіралі зброю і звесткі аб варожых гарнізонах. У красавіку 1942 г. некалькі патрыятычных груп раёна арганізаваны у Кіраўскі партызанскі атрад (камандзір С. І. Свірыд). У сакавіку 1943 г. атрад увайшоў у 9-ю Кіраўскую партызанскую брыгаду. У ліпені 1943 г. на базе атрадаў брыгады сфарміравана Кіраўская ваенна-аператыўная група. У чэрвені 1944 г. на базе 539-га партызанскага атрада створана 9-я брыгада імя С. М. Кірава. З верасня 1944 г. раён у складзе Бабруйскай вобл., з студзеня 1954 г.— зноў у Магілёўскай вобл. 15.11.1955 г. в. Кірава аб'яднана з пас. Кіраўск. З 17.11. 1959 г. Кіраўск — гарадскі пасёлак.

Сучасны Кіраўск мае рэгулярную, дробнаквартальную планіроўку ўздоўж магістралі Бабруйск — Магілёў. Генпланы распрацаваны ў 1972 г. Магілёўскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект» і ў 1980 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. Прадугледжана развіццё ў паўночным і ўсходнім напрамках, дакладнае функцыянальнае заніраванне тэрыторыі. Архітэктурна-планіровачную структуру фарміруюць вуліцы Кірава (галоўная), Пушкіна, Ленінская, Валадарскага, Церашковай. На вул. Кірава створана плошча, на якой склаўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, універмага, кінатэатра. Жылая забудова пераважна аднапавярховая, драўляная, сядзібнага тыпу. З паўднёвага ўсходу да Кіраўска прымыкаюць землі і сядзіба калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага.

Прамысловая зона сканцэнтравана ў паўднёва-заходняй і паўночна-ўсходняй частках пасёлка. Працуюць хлебакамбінат, агароднінасушыльны завод, маслазавод (філіял Бабруйскага малочнага завода), ільнозавод, вытворчае дрэваапрацоўчае аб'яднанне, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У пасёлку прафтэхвучылішча, 3 сярэднія, у т. л. вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дашкольныя ўстановы, бальніца, паліклініка. Выдаецца раённая газета «Кіравец». Помнікі: С. М. Кіраву; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваўся помнік садова-паркавага мастацтва пачатку 20 ст. — парк.

Зона адпачынку — сквер, берагі р. Ала.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. І. Камінскі.*

**1086. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Арлоўскага. Каля будынка райбальніцы. Пахаваны 77 воінаў, якія памерлі ў чэрвені — ліпені 1944 г. ад ран у палявым шпіталі. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1087. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Гагарына, у скверы. Пахаваны 7 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 40 жыхароў раёна, расстраляных і спаленых гітлераўцамі ў 1944 г. У 1961 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.



1086. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1087. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

**1088. МАГІЛА САВЕЦКАГА ЛЁТЧЫКА** (гіст.). На могілках. Лётчык Чырвонай Арміі загінуў у чэрвені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1089. ПАРК** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы пасёлка, на левым беразе р. Ала. Закладзены ў пачатку 20 ст. Тут размешчаны дом адпачынку калгаса «Рассвет» імя К. П. Арлоўскага.

Участак раўнінны, амаль прамавугольны. Цэнтральная ліпавая алея дзеліць яго на 2 зоны: пейзажна-рэгулярную і пладовы сад, які размежаваны ліпавымі алеямі. Пейзажна-рэгулярная частка таксама прамавугольная, разбіта ўзаемна перпендыкулярнымі алеямі на 4 паляны і абмежавана алеямі па перыметры. Пераважаюць мясцовыя пароды дрэў: елка, бяроза, каштан, таполя, ліпа.

Парк — помнік садова-паркавага мастацтва. *А. М. Кулагін.*

**1090. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). На вул. Кірава, каля будынка райвыканкома. Скульптура С. М. Кірава ўстаноўлена ў 1956 г.

**в. Баравіца, цэнтр сельсавета**

**1091. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 18 воінаў, якія памерлі ад ран у палявым шпі-

талі ў чэрвені 1944 г., 4 лётчыкі, што загінулі 30.6.1941 г., і 9 партызан, якія загінулі ў 1942—44 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Барсукі, Паўлавіцкі сельсавет**

**1092. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. У. Куйбышава. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. насыпаны курган, на вяршыні якога пастаўлена стэла з надпісам-прысвячэннем.

**1093. ПОМНІК КУЙБЫШАВУ** Валяр'яну Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. У. Куйбышава. Бюст В. У. Куйбышава ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Барчыцы, Дабаснянскі сельсавет**

**1094. МАГІЛА ЖЫЗНЕЎСКАГА** Якава Аляксеевіча (гіст.). На могілках. Першы старшыня калгаса «2-я пяцігодка» Я. А. Жызнеўскі забіты ў 1935 г. ворагамі Савецкай улады. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Боркі, Грыбавецкі сельсавет**

**1095. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1800 жыхароў в. Боркі і навакольных вёсак, якіх 15.6.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна і дзяўчыны, якая ўскладае кветкі.

**в. Букіно, Кіраўскі пасялковы Савет**

**1096. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны лётчык, што загінуў у чэрвені 1941 г., і 4 воіны 457-га стралковага палка 129-й стралковай дывізіі, якія загінулі 28.6.1944 г. у баях супраць групоўкі нямецка-фашысцкіх войск, што выходзілі з акружэння ў раёне вёскі. У 1967 г. на магіле пастаўлена надмагільная пліта.

**в. Гарадзец, Баравіцкі сельсавет**

**1097. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,7 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сушкі, ва ўрочышчы Пад'ясень. 12 насыпаў дыяметрам ад 4 да 7 м, вышынёй ад 0,5 да 1,5 м. Захаванасць дрэнная. Вядомы з 1924 г., у 1978 г. абследаваў Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.




**1089.** *Парк. Схема планіроўкі: 1, 2 — карпусы дома адпачынку.*



**1092.** *Помнік землякам.*

**1098. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя В. І. Чапаева. На ўшанаванне памяці 95 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Грыбавец, Грыбавецкі сельсавет**

**1099. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 39 воінаў, якія загінулі ў жніўні 1941 г. пры выхадзе з акружэння. Сярод пахаваных — лейтэнант М. Ф. Каталаў, закатаваны 20.8.1941 г. гітлераўцамі, начальнік штаба 9-й Кіраўскай партызанскай брыгады Дз. Ц. Ігнаценка, які загінуў у чэрвені 1943 г. у баі, і 10 партызан гэтай брыгады, што загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1100. МАГІЛА КАМІНСКАГА** Ягора Барысавіча (гіст.). На могілках. Партызан-разведчык Я. Б. Камінскі загінуў у маі 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гута, Любоніцкі сельсавет**

**1101. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 13 воінаў 556-га стралковага палка 413-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 28—30.6.1944 г. пры ліквідацыі акружанай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дабрыца, Дабаснянскі сельсавет**

**1102. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Кіраўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 16 партызан атрада № 539 9-й Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы, што загінулі ў баі супраць гітлераўцаў 19.9.1943 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Добасна, цэнтр сельсавета**

**1103. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 11 воінаў 444-га стралковага палка 108-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 26.6.1944 г., і партызан 9-й Кіраўскай партызанскай брыгады А. К. Нічыпурэнка, які загінуў у 1943 г. пры выкананні баявога задання. У 1957 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**1104. РАДЗІМА ЯДВІГІНА Ш.** (гіст.). Беларускі пісьменнік Ядвігін Ш. (сапраўднае Лявіцкі Антон Іванавіч) нарадзіўся 13.6.1868 г. у маёнтку Добасна ў сям'і служачых. Пасля сканчэння Мінскай гімназіі вучыўся ў Маскоўскім універсітэце. За ўдзел у студэнцкіх хваляваннях выключаны ў 1890 г. з універсітэта і арыштаваны. Пазней працаваў памочнікам аптэкара ў Радашковічах.

Літаратурную дзейнасць пачаў як перакладчык. На беларускую мову пераклаў апавяданне У. Гаршына «Сігнал» (1891 г.). Супрацоўнічаў у польскім і рускім (1903—05 гг.), беларускім (1906 г.) друку. Першае апавяданне на беларускай мове «Суд» надрукаваў у 1906 г. («Наша доля», № 3). Аўтар паэмы «Дзед Завала» (1910 г.), зборнікаў апавяданняў «Бярозка» (1912 г.), «Васількі» (1914 г.), кнігі «Успаміны» (1921 г.), першага беларускага рамана («Золата», 1920 г., няскончаны), драмы «Злодзей» (не збераглася). Адзін з першых беларускіх нарысістаў (нататкі «Лісты з дарогі», 1910 г.). Выступаў з артыкуламі, фельетонамі, допісамі. Характэрная асаблівасць творчасці пісьменніка — незвычайная вера ў чалавека, у яго розум, непрымірымасць да несправядлівасці і фальшу, глыбокая філасафічнасць. Вялікае месца ў творах адведзена сатыры і гумару. Выдадзены выбраныя творы (1976 г.).

Памёр Ядвігін Ш. 24.2.1922 г. Пахаваны ў Вільні.

*Літ.:* Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры. Т. 2.— Мн., 1969; Чыгрын І. П. Станаўленне беларускай прозы і фальклор.— Мн., 1971. *І. П. Чыгрын.*

**в. Доўгае Поле (не існуе), Грыбавецкі сельсавет**

**1105. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Доўгае Поле знаходзілася за 1,5 км на поўнач ад в. Боркі. 15.6.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі спалілі вёску (20 двароў), загубілі 135 жыхароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Дубцы Стайкаўскі сельсавет**

**1106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі 24—28.6.1944 г. пры прарыве абароны праціўніка на заходнім беразе р. Друць. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Жылічы, Дабаснянскі сельсавет**

**1107. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса-тэхнікума. Пахаваны 32 воіны, што загінулі 26.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943—44 гг. У 1985 г. на магілах пастаўлены помнік — скульптура воіна і 3 надмагільныя пліты.

**1108. ПАЛАЦАВА-ПАРКАВЫ АНСАМБЛЬ** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на беразе р. Дабасна. Сфарміраваны ў 18—19 стагоддзях. Уключаў палац, флігель, свіран і інш.




**1108.** *Палацава-паркавы ансамбль. Схема планіроўкі: 1 — палац; 2 — флігель; 3 — свіран.*

пабудовы, парк. Цяпер тут Жыліцкі саўгас-тэхнікум.

Палац пабудаваны ў 1830-я гады (архіт. К. Падчашынскі). Спачатку ўзведзены галоўны П-падобны двухпавярховы корпус, у 1864—76 гг. з боку дваровага фасада прыбудаваны 2 аднапавярховыя карпусы. У паўднёвым была аранжарэя (разбурана ў Вялікую Айчынную вайну). Галоўны корпус сіметрычна-восевай кампазіцыі. Цэнтр вылучаны манументальным шасцікалонным порцікам карынфскага ордэра з франтонам, дэкарыраваным ляпным гербам. З боку дваровага фасада порціку адпавядае квадратны ў плане высокі купальны бельведэр. Тарцы галоўнага корпуса афармлены ідэнтычнымі чатырохкалоннымі порцікамі. Фасады расчлянёны пілястрамі і радамі прамавугольных аконных праёмаў. Па перыметры будынка праходзіць развіты карніз з фрызам, аздобленым ляпнымі гірляндамі і разеткамі. Галоўны фасад бакавога корпуса прарэзаны арачнымі аконнымі праёмамі і аздоблены каланадай. Цэнтр вылучаны двухпавярховым аб'ёмам палацавай царквы. Планіроўка мяшаная анфіладна-калідорная, у цэнтры — вялікі вестыбюль з парадняй лесвіцай. Інтэр'ер мае насычаную дэкаратыўную трактоўку, багата апрацаваны размалёўкай, лепкай, пазалотай, люстэркамі; падлога паркетная, печы і каміны абліцаваны кафляй. Кожная зала дэкарыравана індывідуальна. На другім паверсе паўднёвага крыла галоўнага корпуса вылучаецца памяшканне прамавугольнай у плане параднай залы. Гэта памяшканне расчлянёна калонамі на 3 часткі. Павышаная цэнтральная частка дэкарыравана шырокім шматфігурным барэльефным фрызам з сюжэтамі на тэмы палявання, бою, ахвярапрынашэння. Калоны і пілястры аздоблены ў тэхніцы стука і маюць пазалочаныя капітэлі. Асноўны пластычны



**1108.** *Палац. Выгляд з боку двара.*



1108. *Палац. Фрагмент галоўнага корпуса.*



1108. *Палац. Фрагмент інтэр'ера.*



1108. *Парк. Адзін з вадаёмаў.*



1108. *Палац. План 1-га паверха.*



1108. *Палац. Дэкор столі жылога пакоя.*



1108. *Палац. Інтэр'ер залы 2-га паверха.*

эфект стварае кесаніраваная столь з багатай арнаментальнай лепкай. Дэкор сталовай дапаўняюць ампірны камін, кафляная печ і паркетная падлога з арнаментальным меандравым поясам.

Парк займае прамавугольны ўчастак на раўнінным рэльефе. Плошча 18 га (разам з пладовымі садамі і рыбнай гаспадаркай каля 100 га). Тэрыторыю парку з поўначы на поўдзень перасякае р. Дабасна, якая ўтварае 3 маляўнічыя вадаёмы з астраўкамі (асталіся рэшткі масткоў і альтанак). Перад паўночным корпусам палаца ўцалелі фрагменты рэгулярнага парку пачатку 18 ст.— круглая пляцоўка і 2 кляновыя алеі. У 1830-я гады створаны пейзажны парк. Сярод пасадак дуб звычайны пірамідальны, клён вастралісты Шведлера, экзоты — хвоя веймутава, клён серабрысты, арэх шэры, ліпа еўрапейская і інш.

Ансамбль — помнік палацава-паркавай архітэктуры позняга класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977.

*А. М. Кулагін.*

**1109. ПОМНІК МІЧУРЫНУ** Івану Уладзіміравічу (гіст.). Каля будынка саўгаса-тэхнікума. Скульптура І. У. Мічурына ўстаноўлена ў 1982 г.

**1110. ПОМНІК СТУДЭНТАМ І ВЫКЛАДЧЫКАМ САЎГАСА-ТЭХНІКУМА** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса-тэхнікума. На ўшанаванне памяці студэнтаў і выкладчыкаў гэтай навучальнай установы, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1973 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1111. ПОМНІК ЦІМІРАЗЕВУ** Кліменту Аркадзевічу (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса-тэхнікума. Скульптура К. А. Ціміразева ўстаноўлена ў 1983 г.

**в. Закрынічча (не існуе), Грыбавецкі сельсавет**

**1112. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад в. Боркі знаходзілася в. Закрынічча. 15.6. 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 137 жыхароў, вёску (19 двароў) спалілі. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Збышын, Грыбавецкі сельсавет**

**1113. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 286 жыхароў вёскі, якіх 21.6.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з дзіцем на руках.

**в. Ізабеліна, Паўлавіцкі сельсавет**

**1114. РАДЗІМА ХУДАЛЕЕВА** Рыгора Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Р. А. Худалееў нарадзіўся 9.2.1902 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1926 г. У 1914—24 гг. працаваў у вёсцы. З 1924 г. у Чырвонай Арміі. У 1930 г.



**1115.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

скончыў Аб'яднаную беларускую ваенную школу імя ЦВК БССР. Удзельнік вызваленчага паходу ў Заходнюю Беларусь у 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., начальнік штаба 462-га артылерыйскага палка. Воіны палка ўдзельнічалі ў абароне Слуцка, Нясвіжа, Магілёва, вялі цяжкія баі ў міжрэччы Бярэзіна — Дняпро, у раёне Крычава, Клімавіч. Палкоўнік Р. А. Худалееў удзельнічаў у Маскоўскай бітве. Вызначыўся ў Віцебскай аперацыі 1944 г. У час прарыву варожай абароны на тэрыторыі Сіроцінскага р-на 24.6.1944 г. артылерысты стралковай дывізіі пад яго камандаваннем фарсіравалі Заходнюю Дзвіну ў раёне в. Шарыпіна, удзельнічалі ў вызваленні Бешанковіч, Лепеля, Докшыц, Літвы, Латвіі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.7.1944 г. Да 1955 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр 4.7.1964 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Імя героя прысвоена Паўлавіцкай сярэдняй школе.

*Літ.:* Навечна в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*



**1117.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

**в. Казулічы, цэнтр сельсавета**

**1115. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. 11.6.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі акружылі вёску, сагналі жыхароў у будынак млына і падпалілі. Загінулі 318 чалавек, згарэлі 180 двароў. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптуры воіна з аўтаматам і жанчыны, якая ўскладае вянок.

**1116. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА СІЛКІНУ** Аляксандру Марцінавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці былога дырэктара гэтай школы, камандзіра дыверсійнай групы 537-га партызанскага палка Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы А. М. Сілкіна, які загінуў 14.1.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх карнікаў.

**в. Капусціна, Скрыпліцкі сельсавет**

**1117. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 12 воінаў, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы В. М. Міралюбіва, які загінуў у студзені 1944 г. у баі супраць гітлераўцаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кострыцкая Слабодка, Казуліцкі сельсавет**

**1118. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. 11.6.1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў вёску, сагналі мужчын у хату млынара І. Я. Міхалапа, жанчын і дзяцей у калгасны хлеў і падпалілі. 11 чалавек расстралялі. Усяго закатавана 137 чалавек, згарэлі 172 двары. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кострычы, Любоніцкі сельсавет**

**1119. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля будынка школы. Воін Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у чэрвені 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Коўбава, Стайкаўскі сельсавет**

**1120. РАДЗІМА МЕЛЬНІКАВА** Андрэя Іосіфавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. І. Мельнікаў нарадзіўся ў 1914 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1936 г. скончыў Магілёўскі педтэхнікум, у 1941 г.— Харкаўскае ваенна-палітычнае вучылішча. Працаваў настаўнікам. У Чырвонай Арміі з 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Намеснік камандзіра па палітчастцы артылерыйскага дывізіёна А. І. Мельнікаў вызначыўся ў верасні 1943 г. пры вызваленні Украіны. У баях за г. Бахмач і пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Кіева дывізіён, якім камандаваў капітан А. І. Мельнікаў, знішчыў 2 варожыя танкі, гармату, мінамётную і процітанкавую батарэі, 4 кулямётныя кропкі, больш за 2 роты пяхоты праціўніка. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.10.1943 г. Загінуў у баі 29.10.1943 г. Яго імем названа школа ў в. Чыгірынка Кіраўскага р-на.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Любонічы, цэнтр сельсавета**

**1121. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 116 воінаў 438-га, 457-га, 518-га стралковых палкоў 129-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 28.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за пераправу па р. Бярэзіна, і 16 партызан, што загінулі ў 1942 — 44 гг. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і воін з лаўровым вянком.

**1122. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля бальніцы. У чэрвені 1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі масавыя арышты жыхароў вёсак Любоніцкага сельсавета. Арыштаваных прывозілі ў будынак школы, па-зверску катавалі, потым вывозілі ў Любоніцкае лясніцтва, дзе расстрэльвалі. За некалькі дзён фашыс-



**1121.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



1126. *Помнік К. П. Арлоўскаму.*

ты загубілі больш за 150 чалавек. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1123. МАГІЛА СЛЯПНЁВА** С. С. (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі С. С. Сляпнёў загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мышкавічы,**
**Кіраўскі пасялковы Савет**

**1124. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Пахавана 25 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан 9-й Кіраўскай брыгады М. Е. Багатка. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1125. МАГІЛА АРЛОЎСКАГА** Кірылы Пракопавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза і Герой Сацыялістычнай Працы К. П. Арлоўскі нарадзіўся 18.1.1895 г. у в. Мышкавічы ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Да 1915 г. працаваў у сельскай гаспадарцы. У арміі ў 1915—18 гг. З мая 1918 г. у Аршанскай надзвычайнай камісіі. У 1918 г. у час акупацыі Беларусі германскімі войскамі па заданню Бабруйскага падпольнага раённага камітэта РКП(б) арганізаваў і ўзначаліў Качэрыцкі партызанскі атрад. У 1919—20 гг. ваяваў на Заходнім фронце, абараняў Петраград. З студзеня 1922 г. камандзір партызанскага атрада, які дзейнічаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі. У 1930 г. скончыў Камуністычны універсітэт нацыянальных меншасцей Захаду імя Мархлеўскага. Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі ў 1936—39 гг. З 1939 г. намеснік дырэктара Чкалаўскага сельскагаспадарчага інстытута. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на акупіраванай ворагам тэрыторыі Беларусі. Арганізатар і камандзір партызанскага атрада «Сокалы». 17.2.1943 г. група партызан на чале з К. П. Арлоўскім знішчыла камісара г. Баранавічы, гебітскамісара Баранавіцкай акругі, групенфюрэра войск СС, 8 афіцэраў СС, захапіла важныя дакументы. У час аперацыі К. П. Арлоўскі быў цяжка паранены. Пасля выздараўлення працягваў барацьбу з ворагам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.9.1943 г. У канцы жніўня 1943 г. адклікаены ў Маскву. З 1944 г. старшыня калгаса «Рассвет» на радзіме. Пад яго кіраўніцтвам гаспадарка стала адной з перадавых у краіне. За поспехі, дасягнутыя ў развіцці земляробства і жывёлагадоўлі К. П. Арлоўскаму 18.5.1958 г. прысвоена званне Героя Сацыялістычнай Працы. Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1956—61 гг., член ЦК КПБ з 1949 г. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1950—68 гг., Вярхоўнага Савета БССР у 1947—51 гг.

Памёр К. П. Арлоўскі 13.1.1968 г. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла. Яго імем названы калгас «Рассвет», школа ў Кіраўску, вуліцы ў Бабруйску, Клецку. У цэнтры вёскі Мышкавічы пастаўлены бюст. Гл. артыкул № 1126 «Помнік Арлоўскаму Кірылу Пракопавічу».

*Літ.:* Цветов Я. Повесть о Кирилле Орловском.— 3 изд.— М., 1976; Панамароў В. Кірыла Арлоўскі: Дакументальная аповесць.— Мн., 1971; Ражкоў І. Чалавек з легенды.— Мн., 1976.
*М. М. Казлоўская.*

**1126. ПОМНІК АРЛОЎСКАМУ** Кірылу Пракопавічу (маст.). На плошчы, каля Дома культуры. Пастаўлены ў 1977 г. на ўшанаванне памяці былога старшыні калгаса «Рассвет», ураджэнца вёскі, Героя Савецкага Саюза (1943 г.), Героя Сацыялістычнай Працы (1958 г.) К. П. Арлоўскага.

Бронзавы бюст К. П. Арлоўскага (скульпт. М. Рыжанкоў, архіт. Ю. Казакоў, вышыня 1,3 м) устаноўлены на прамавугольным гранітным пастаменце са ступеньчатым стылабатам (вышыня 3 м). У партрэтнай выяве ўвага акцэнтавана на такіх рысах героя, як перакананасць, духоўная актыўнасць, гатоўнасць да барацьбы. Лаканічная, строгая пластыка партрэта дынамічная. Плуг і вінтоўка каля асновы пастамента — своеасаблівы сімвалічны штрых, асноўны лейтматыў у разуменні вобраза К. П. Арлоўскага — байца і працаўніка.

Помнік вызначаецца ўдалай кампазіцыяй, глыбокім зместам і яркім мастацкім увасабленнем. Гл. таксама артыкул № 1125 «Магіла Арлоўскага Кірылы Пракопавіча». *Г. М. Ярмоленка.*



1127. *Помнік землякам.*

**1127. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 132 жыхароў вёсак калгаса «Рассвет», якія загінулі ў час савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. і ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1983 г. пастаўлены помнік — 2 стылізаваныя стэлы, скульптура жанчыны і стэлы з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**1128. РАДЗІМА РАБЦЭВІЧА** Аляксандра Маркавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Рабцэвіч нарадзіўся 2.3.1898 г. у былой вёсцы Буда Лазавая (злілася з в. Мышкавічы) у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. У 1920 г. скончыў курсы камсаставу Чырвонай Арміі. У арміі ў 1916—17 гг. У Грамадзянскую вайну партызан атрада, які дзейнічаў у Бабруйскім павеце супраць легіянераў Доўбар-Мусніцкага і германскіх акупантаў. З 1918 г. у Чырвонай Арміі. У 1919 г. на Петраградскім фронце. Удзельнік партызанскага руху ў Заходняй Беларусі ў 1921—24 гг. (крыптанім Муха-Міхальскі), нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г., камандзір роты асобнай мотастралковай брыгады асобага прызначэння. З чэрвеня 1942 г. камандзір дыверсійнага партызанскага атрада «Храбрацы», які дзейнічаў на акупіраванай тэрыторыі Беларусі. Партызаны атрада вялі разведку, здзейснілі больш за 200 дыверсій, узарвалі і спалілі 91 эшалон, 24 танкі, 23 бронемашыны, браняпоезд, 102 аўтамашыны праціўніка і інш.




**1130.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.11.1944 г. Пасля вайны працаваў у органах Дзяржаўнай бяспекі БССР.

Памёр А. М. Рабцэвіч 11.4.1961 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках. Яго імем названа вуліца ў г. п. Кіраўск.

*Літ.:* Бессмертные имена.— Мн., 1979; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**в. Новае Заліцвінне, Скрыпліцкі сельсавет**

**1129. МАГІЛА САВІНА** П. У. (гіст.). На могілках. Капітан Чырвонай Арміі П. У. Савін загінуў у чэрвені 1944 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Стаўпішчы, Кіраўскі пасялковы Савет**

**1130. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. 24.5.1944 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі больш як 100 мірных жыхароў навакольных вёсак, прывезлі іх у в. Новыя Стаўпішчы, загналі ў хлеў, аблілі яго бензінам і падпалілі. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнымі выявамі старога і жанчыны з дзіцем.

**в. Падсёлы, Стайкаўскі сельсавет**

**1131. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 87 воінаў 129-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 24.6.1944 г. пры фарсіраванні р. Друць. У 1961 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1132. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі 24.6.1944 г. пры прарыве варожай абароны каля вёскі, і 4 партызаны 9-й Кіраўскай брыгады, што загінулі ў 1943—44 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1133. СТАЯНКІ** (археал.).

**1133а.** С т а я н к а - 1. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць, каля пясчанага кар'ера. Памер 50×100 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены расшчэпленыя крамяні, нуклеусы, канцавыя і паўкруглыя скрабкі, адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**1133б.** С т а я н к а - 2. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 60×150 м. Выявіў у 1981 г., даследаваў у 1981—82 гг. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены фрагменты ляпнога пласкадоннага посуду з дамешкам пяску і жарствы ў гліне, арнаментаванага адбіткамі дробназубчастага штампа і грэбеня з расчосамі з унутранага боку (венчыкі пасудзін прамыя, на краях рады ямачных уціскanняў, а таксама абломкі ангабіраваных гаршкоў). Сярод крамянёвага інвентару адна-, двух- і трохпляцовачныя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, канцавыя скрабкі, наканечнікі стрэл, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, вастрыі, праколкі. Упершыню ў басейне р. Друць знойдзены мікраліты (сегмент з рэтушаванай спінкай і трохвугольнікі). Адносіцца да позняга неаліту, датуецца 3-м — пачаткам 2-га тысячагоддзя да н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* К о п ы т и н В. Ф. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981. *В. Ф. Капыцін.*



**1133б.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-2.*

**в. Паўлавічы, цэнтр сельсавета**

**1134. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 12 воінаў, якія памерлі ад ран у чэрвені 1944 г. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1135. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 44 воіны, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы А. Р. Герасімовіч, які загінуў у 1944 г. у баі супраць гітлераўцаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**в. Пацава Слабада, Казуліцкі сельсавет**

**1136. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля Дома культуры. Пахаваны 63 воіны 129-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 28.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны з лаўровым вянком.

**в. Полькавічы, Паўлавіцкі сельсавет**

**1137. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў 108-й і 120-й гвардзейскай стралковых дывізій 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 27.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пражэктар, Дабаснянскі сельсавет**

**1138. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 25 воінаў, што загінулі 26.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 2 партызаны, якія загінулі ў 1942—44 гг. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Пралетарскі (не існуе), Грыбавецкі сельсавет**

**1139. МЕСЦА СПАЛЕНАГА ПАСЁЛКА** (гіст.). Пасёлак Пралетарскі знаходзіўся за 1 км на паўднёвы ўсход ад в. Боркі. 15.6.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 226 жыхароў, спалілі 31 двор. Пасёлак не адрадзіўся. Увекавечаны ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Прыбар, Стайкаўскі сельсавет**

**1140. СТАЯНКА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1140а.** С т а я н к а. На паўднёвай ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Друць. Памер 25×150 м. Выявіў і даследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. Даследавана 15 м² плошчы. Сярод знаходак абпаленыя расшчэпленыя крамяні, пласці-



1141. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

ны, адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**1140б.** Курганны могільнік. За 1 км на поўдзень ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 1—1,2 м, дыяметрам 16—19 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Пясцова, Дабаснянскі сельсавет**

**1141. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 26 жыхароў вёскі, якіх 19.9. 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рудня, Баравіцкі сельсавет**

**1142. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Бярозавае Балота, каля могілак. 12 насыпаў дыяметрам ад 4,5 да 11 м, вышынёй ад 0,5 да 1,7 м (адзін курган дыяметрам каля 12 м, моцна пашкоджаны). Асобныя насыпы маюць раўкі каля асновы. Адкрыў і даследаваў у 1893 г. У. З. Завітневіч. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце. У 1978 г. абследаваў Я. Г. Звяруга. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне р. Березины, произведенные летом 1893 г.— У кн.: Чтения в Историческом Обществе Нестора Летописца. Киев, 1894, кн. 8. *Я. Г. Звяруга.*

**1143. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,1 км на ўсход ад вёскі. 50 насыпаў дыяметрам ад 4 да 12 м, вышынёй ад 0,4 да 2,5 м (за выключэннем аднаго кургана, дыяметр якога каля 17 м, вышыня 2 м). Каля асновы насыпаў прасочаны раўкі глыбінёй 0,7—0,8 м. Курганы зараслі лесам, маюць добрую захаванасць і толькі адзін пашкоджаны траншэямі. Вядомы з 1924 г. Абследаваў у 1978 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся. *Я. Г. Звяруга.*

**пас. Скачок, Баравіцкі сельсавет**

**1144. ПОМНІК У ГОНАР КІРАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б І 9-й КІРАЎСКАЙ ПАРТЫЗАНСКАЙ БРЫГАДЫ** (гіст.). За 5 км на ўсход ад вёскі.

Тут у Вялікую Айчынную вайну базіраваўся Кіраўскі падпольны райком КП(б)Б, створаны Бабруйскім міжраённым камітэтам КП(б)Б 5.10.1942 г. Сакратары А. І. Бычкоў (да 12.7. 1943 г.), Г. Л. Комар (з 12.7.1943 г.). Падпольны райком КП(б)Б вёў арганізацыйную і палітычную работу сярод насельніцтва, узначальваў партызанскі рух. Паводле рашэння райкома 13.7.1943 г. створана Кіраўская ваенна-аператыўная група. Выдаваў падпольную газету «Кировец». Дзейнічаў да 27.6.1944 г.

9-я Кіраўская партызанская брыгада створана ў сакавіку 1943 г. на базе партызанскіх атрадаў 537, 538, 100-га асобных і Кіраўскага спецатрада (пазней пераўтвораны ў 539-ы атрад). Дзейнічала ў Кіраўскім і сумежных з ім раёнах спачатку ў складзе Клічаўскага аператыўнага цэнтра, потым Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групы. Камандзір брыгады С. І. Свірыд, камісар Г. Л. Комар. Партызаны брыгады разграмілі 13 нямецка-фашысцкіх гарнізонаў і 26 паліцэйскіх участкаў. Асноўныя ўдары наносілі на ўчастках чыгункі Магілёў — Рагачоў, Асіповічы — Жлобін, блакіравалі шашу Магілёў — Бабруйск, удзельнічалі ў абароне Клічаўскай партызанскай зоны. У аперацыі «Рэйкавая вайна» разбурылі 80 кіламетраў чыгункі. У ліпені 1943 г. брыгада (988 партызан) расфарміравана ў сувязі са стварэннем Кіраўскай ваенна-аператыўнай групы.



1144. *Помнік у гонар Кіраўскага падпольнага райкома КП(б)Б і 9-й Кіраўскай партызанскай брыгады.*

У 1968 г. у гонар падпольнага райкома КП(б)Б і 9-й Кіраўскай партызанскай брыгады пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *М. М. Казлоўская.*

**в. Стайкі, цэнтр сельсавета**

**1145. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля школы. Пахаваны 21 воін, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 3 партызаны, што загінулі ў 1943—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стаўпішчы, Казуліцкі сельсавет**

**1146. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, справа ад шашы Магілёў — Бабруйск. Пахаваны 10 воінаў 9-га танкавага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 27.6. 1944 г. пры ліквідацыі акружанай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1147. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 38 воінаў 413-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту, якія загінулі 27—28.6.1944 г. пры ліквідацыі акружаных груповак нямецка-фашысцкіх войск, і 6 партызан, што загінулі ў 1943—44 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1148. МАГІЛА ПЯТРУШЫ** Ісідара Фёдаравіча (гіст.). Каля будынка васьмігадовай школы.

Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі І. Ф. Пятруша нарадзіўся ў 1886 г. у в. Падрэчча Кіраўскага р-на. З 1909 г. прызваны ў царскую армію, матрос на крэйсеры «Аўрора». Наладзіў сувязі з бальшавікамі Петраграда, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод матросаў. У 1917 г. уступіў у РСДРП(б), прымаў актыўны ўдзел у падрыхтоўцы і правядзенні Кастрычніцкай рэвалюцыі. Быў выбраны старшынёй судавога рэвалюцыйнага камітэта. Вясной 1918 г. накіраваны ў родную вёску, дзе разам з мясцовымі бальшавікамі змагаўся з нямецкімі і польскімі інтэрвентамі. Загінуў у баі 11.10. 1919 г. каля в. Гута.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969. *М. М. Казлоўская.*

**1149. ПОМНІК КІРАВУ** Сяргею Міронавічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя С. М. Кірава. Бюст С. М. Кірава ўстаноўлены ў 1975 г.

**в. Сяргеевічы, Любоніцкі сельсавет**

**1150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 3 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хвайніца, Скрыпліцкі сельсавет**

**1151. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 3 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1941 г., 11 воінаў, што загінулі 25—26.6.1944 г. пры ліквідацыі акружанай групоўкі нямецка-фашысцкіх войск, 4 партызаны 9-й Кіраўскай партызанскай брыгады, якія загінулі ў баі супраць карнікаў 17.2.1943 г., Герой Савецкага Саюза Аляксандр Канстанцінавіч Шомін.

А. К. Шомін нарадзіўся 8.7.1906 г. у в. Малая Анікіна Ірбіцкага р-на Свярдлоўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Працаваў у калгасе. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Цэнтральным і 2-м Беларускім франтах. Памочнік камандзіра стралковага ўзвода сяржант А. К. Шомін вызначыўся пры вызваленні в. Старое Заліцвінне Кіраўскага р-на. 26.6.1944 г. у рашаючы момант бою закрыў сваім целам амбразуру варожага дзота. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У г. Ірбіт устаноўлены бюст героя.

У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. М. Казлоўская.*

**1152. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 25 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў маі 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хватаўка (не існуе), Грыбавецкі сельсавет**

**1153. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Хватаўка знаходзілася за 1 км на паўночны захад ад в. Боркі. 15.6.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі загубілі 285 яе жыхароў, спалілі 42 двары. Вёска не адрадзілася.



1151. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Чыгірынка, Стайкаўскі сельсавет**

**1154. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 14 партызан 9-й Кіраўскай брыгады, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і воін Чырвонай Арміі І. П. Кудлай, які загінуў 27.6.1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1155. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на поўдзень ад будынка школы. 13 насыпаў дыяметрам ад 4 да 11 м, вышынёй ад 0,9 да 3 м. Частка курганоў пашкоджана. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1978 г. Я. Г. Звяруга. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893.

**1156. МАГІЛА МІНЧУКОВА** Мікіты Захаравіча (гіст.). На могілках.

У вёсцы быў драўляны мост цераз р. Друць, на шляху, які звязваў Быхаў з Бабруйскам і меў на той час важнае гаспадарчае значэнне. Вясной 1921 г. паводка зламала 2 ледарэзы. Селянін М. З. Мінчукоў з раніцы да позняй ночы, рызыкуючы жыццём, знішчаў лёдавыя заторы каля моста. 28.6.1921 г. за самааддданасць, праяўленую пры выратаванні Чыгірынскага моста, М. З. Мінчукоў першы ў краіне ўзнагароджаны ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга РСФСР. Памёр М. З. Мінчукоў у 1933 г. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Читов В., Шкурко А. Первые награды Страны Советов.— Наука и жизнь, 1966, № 3.

**1157. СТАЯНКА** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на беразе Чыгірынскага вадасховішча. Памер 40×100 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя аднапляцовачныя нуклеусы, пласціны, трохкавыя наканечнікі стрэл, вырабы з выемкай, бакавыя разцы, канцавыя скрабкі. Адносіцца да эпохі мезаліту (8—4-е тысячагоддзі да н. э.). Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Чырвоны Араты (не існуе), Грыбавецкі сельсавет**

**1158. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). За 4 км на захад ад в. Грыбавец знаходзілася в. Чырвоны Араты. 15.6.1942 г. нямецка-фашысцкія акупанты загубілі 222 яе жыхароў, спалілі 28 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь.

**в. Шалаёўка, цэнтр Грыбавецкага сельсавета**

**1159. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 128 жыхароў Грыбавецкага сельсавета, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1977 г. пастаўлены помнік — стэла і скульптуры воіна, партызана і жанчыны.




# КЛІМАВІЦКІ РАЁН

Стары Дзедзін
Хадунь
Звянчатка
Хатовіж
Кісялёва Буда
Пянькоўка
Вялікі Мох
Дамамерычы
Макеевічы
Мілаславічы
Гусарка
Пераваложня
Грязівец
Зімніцы
Іванава Слабада
Лапатавічы
Міхалін
Барысавічы
КЛІМАВІЧЫ
Лобжа
Недзведзь
Павлавічы
Гарадок
Галічы
Ціманава
Лазовіца
Судзілы
Асмолавічы
Родня
Малашкавічы
Высокае
Савінічы
Красавічы
Цітаўка

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі і месцы звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Героў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## Х. КЛІМАВІЧЫ

Горад, цэнтр раёна. За 124 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва. Чыгуначная станцыя на лініі Орша — Унеча, аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Крычавам, Касцюковічамі, Хоцімскам.

У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца ў 14 ст. у адным з дакументаў, звязаным з родам дваран Асмалоўскіх. У 17 ст. вядомы як паселішча ў Мсціслаўскім ваяводстве Вялікага княства Літоўскага. У 1626 г. тут заснаваны кляштар дамініканцаў (не захаваўся). З 1720 г. належалі Бялецкім, з 1758 г.— Галынскім. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расіі. З 1777 г. горад, цэнтр павета. З 1781 г. Клімавічы мелі герб: шчыт з выявай залатой пчалы на блакітным фоне. Першы генплан забудовы быў зацверджаны ў 1778 г., прадугледжваў рэгулярную планіроўку вуліц з 3 плошчамі. У 1850-я гады ў горадзе 3 гарбарні, 5 пачатковых навучальных устаноў, бібліятэка, бальніца, аптэка. У 1897 г.— 4706 жыхароў (з іх 68,2% непісьменных). У пачатку 20 ст. у Клімавічах 15 дробных прамысловых прадпрыемстваў (28 рабочых), 2 цэрквы (адна мураваная), парк (цяпер на яго месцы гарадскі сквер), сярод драўлянай забудовы — мураваныя дамы купцоў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У пачатку 1918 г. створаны бальшавіцкі павятовы Савет над кіраўніцтвам дэлегата III Усерасійскага з'езда Саветаў у Петраградзе (студзень 1918 г.), былога марака С. І. Жбанкова. Ён быў таксама прадстаўніком Клімавіцкага павета, калі дэлегаты Магілёўскай губерні сустракаліся з У. І. Леніным у Маскве. З ліпеня 1924 г. Клімавічы — цэнтр раёна, Калінінскай акругі (да 1927 г.). Росту горада садзейнічала будаўніцтва чыгункі ў 1929—30 гг. У Вялікую Айчынную вайну з жніўня 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У горадзе і раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (12.6—30.9.1943 г.) і ЛКСМБ (25.5—30.9.1943 г.), антыфашысцкае і камсамольскае падполлі (1941—43 гг.). 28.9.1943 г. горад вызвалены ад гітлераўцаў часцямі 238-й стралковай дывізіі 50-й арміі Бранскага фронту з удзелам партызан атрада № 45 «За Радзіму».

Сучасныя Клімавічы забудоўваюцца паводле генпланаў 1966 г. (Магілёўскі аблпраект) і 1975 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва). Тэрыторыя горада падзелена ручаём Калініца на 2 часткі: усходнюю і заходнюю. Галоўныя магістралі — вуліцы Сацыялістычная і Камуністычная, што праходзяць уздоўж чыгункі. У раёне вуліц Савецкай і Інтэрнацыянальнай сфарміравана пл. Вялікага Кастрычніка, на якой склаўся адміністрацыйна-грамадскі і культурны цэнтр. На вул. Кірава — мікрараён з 4—5-павярховымі жылымі дамамі. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Працуюць заводы абястлушчанага малака, лікёра-гарэлачны, металавырабаў, хлебазавод, камбінат будаўнічых матэрыялаў, рамонтна-механічныя майстэрні, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, камбінат бытавога абслугоўвання. У горадзе сярэдняе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, саўгас-тэхнікум, 4 сярэднія, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, дапаможная школа-інтэрнат, 6 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, 2 Дамы культуры, кінатэатр, 4 бібліятэкі, бальніца, краязнаўчы музей. Выдаецца раённая газета «Новае жыццё». Помнікі: У. І. Леніну; на магіле Героя Савецкага Саюза С. В. Раманца; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваўся помнік архітэктуры драўлянага дойлідства 19 ст.— жылы дом.

Зона адпачынку — гарадскі парк, берагі ракі Лабжанка і вадасховішча, лясныя масівы на захад ад горада.



Х. *Адміністрацыйны будынак на плошчы Вялікага Кастрычніка.*



Х. *Куток парку.*



1160. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 2.— Могилев, 1884; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Могилевская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976

*У. В. Алісейчык, М. Ф. Мельнікаў.*

**1160. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры горада, у парку. Пахаваны 19 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. Сярод пахаваных — камандзір 45-га стралковага корпуса генерал-маёр Эрман Якаўлевіч Магон.

Э. Я. Магон нарадзіўся ў 1899 г. у Латвіі. Член КПСС з 1919 г. У Чырвонай Арміі з 1918 г. Удзельнік Грамадзянскай вайны. У ліпені 1941 г. 45-ы стралковы корпус, якім камандаваў Э. Я. Магон, вёў упартыя баі на берагах Дняпра, Проні, Сажа, нанёс вялікія страты ворагу. 11.8.1941 г. у баі каля в. Малашкавічы Клімавіцкага р-на Э. Я. Магон загінуў. Яго імем названа вуліца ў Клімавічах.

У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969.

*У. У. Бянько.*

**1161. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, на могілках. Пахаваны 307 воінаў, якія загінулі ў канцы верасня 1943 г. пры вызваленні Клімавіч і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі ў 1944 г. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла з выявай пяціканцовай зоркі і пліты з імёнамі загінуўшых.



1161. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1162. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Сацыялістычная, каля будынка саўгаса-тэхнікума. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 19-га стралковага корпуса. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1163. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Савецкая, 69. Пабудаваны ў 1867 г. з дрэва. Цяпер тут краязнаўчы музей.

Будынак аднапавярховы, амаль квадратны ў плане, з прыбудовай у паўночна-заходняй частцы. Кампазіцыя галоўнага фасада трохчастковая. Цэнтральная частка вылучана мансардай з кілепадобным франтонам, поле якога падзелена крыж-накрыж прафіляванымі сцяжкамі, упрыгожана разнымі накладнымі дэталямі, ступеньчатымі стужкамі. Бакавыя часткі завершаны трохвугольнымі франтонамі. Шырокая паласа фрыза дэкарыравана разьбой у выглядзе карункаў. Вокны лучковыя, на галоўным і паўднёвым фасадах упрыгожаны разнымі ліштвамі. Планіроўка будынка калідорная. З паўночнага боку размешчаны вестыбюль з лесвіцай у мансарду.

Дом — помнік драўлянага дойлідства. *У. В. Алісейчык.*

**1164. МАГІЛА РАМАНЦА** Сцяпана Васілевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза С. В. Раманец нарадзіўся 12.12.1914 г. у с. Маслянагорскае Зімінскага р-на Іркуцкай вобл. Член КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1936 г. Скончыў курсы малодшых камандзіраў у 1937 г., курсы пры Томскім артылерыйскім вучылішчы ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Бранскім і 1-м Беларускім франтах. Камандзір дывізіёна 6-й артылерыйскай дывізіі прарыву рэзерву Галоўнага камандавання капітан С. В. Раманец вызначыўся ў баях на тэрыторыі Германіі. 22.4.1945 г. дывізіён С. В. Раманца забяспечыў стралковым падраздзяленням паспяховае фарсіраванне канала Гогенцолерн, 26.4.1945 г. адбіў 3 контратакі праціўніка, знішчыў каля 100 гітлераўцаў. 2.5.1945 г. 2 гадзіны стрымліваў танкі і пяхоту ворага, знішчыў танк, каля 80 салдат і афіцэраў. Усяго на працягу наступальнай аперацыі дывізіён С. В. Раманца знішчыў 14 станковых і ручных кулямётаў, 2 гарматы, 4 зенітныя ўстаноўкі, артбатарэю, каля 200 варожых салдат і афіцэраў. Званне Героя Савецкага Саюза С. В. Раманцу прысвоена 31.5.1945 г. Да 1959 г. служыў у Савецкай Арміі, потым жыў і працаваў у Клімавічах. Памёр 10.12.1977 г. У 1979 г. на магіле пастаўлена стэла. *У. У. Бянько.*

**1165. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Вул. Савецкая, на будынку райвыканкома. Устаноўлена ў 1960 г. у гонар вызвалення горада ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.



1163. *Жылы дом.*



1163. *Жылы дом. План.*

У канцы верасня 1943 г. воіны 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) Бранскага фронту ўступілі на тэрыторыю Беларусі. 27.9.1943 г. 238-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр І. Д. Краснаштанаў) выйшла да г. Клімавічы. Па звестках сувязнога партызанскага атрада № 45 «За Радзіму» (камандзір У. І. Маркаў) гітлераўцы перад адступленнем планавалі спаліць горад. Гэта вымусіла камандаванне дывізіі паскорыць аперацыю па вызваленню Клімавіч. Раніцай 28 верасня першымі на ўскраіну горада з поўдня ўварваліся воіны 830-га, а з поўначы — 843-га стралковых палкоў. Цяжкі бой разгарэўся ў раёне сельгастэхнікума. Гітлераўцы заселі ў будынках, вялі інтэнсіўны агонь. У ходзе ўпартых вулічных баёў савецкія воіны ў канцы дня поўнасцю ачысцілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Актыўную дапамогу падраздзяленням 238-й дывізіі аказалі партызаны атрада № 45 «За Радзіму». Яны блакіравалі шляхі адступлення праціўніка па дарогах Клімавічы — Крычаў і Клімавічы — Хатовіж, не дапусцілі падыходу падмацавання. *У. У. Бянько.*



1166. *Помнік У. І. Леніну.*

**1166. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Савецкая, 65. Каля будынка Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**1167. РАДЗІМА НІКАЛАЕВА** Івана Стафанавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. С. Нікалаеў нарадзіўся 8.5.1916 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943. У Чырвонай Арміі з 1934 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Калінінскім, Варонежскім, 1-м і 2-м Украінскіх франтах. Камандзір эскадрыллі штурмавога авіяпалка гвардыі маёр І. С. Нікалаеў зрабіў 135 баявых вылетаў на штурмоўку варожых войск. 5.11.1943 г. у баях за Кіеў на чале групы штурмавікоў 15 разоў атакаваў варожыя пазіцыі, нанёс значныя страты працiўніку. 15.2.1945 г. на станцыі Ясберэнь (Венгрыя) знішчыў паравоз, 7 вагонаў, 10 аўтамашын ворага. Загінуў 11.4.1945 г. на тэрыторыі Венгрыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Імем героя названа вуліца ў Клімавічах, яго імя прысвоена школе № 2, у якой ён вучыўся.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1168. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Пралетарская, 7. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы.

Царква складаецца з крыжовага ў плане асноўнага аб'ёму і прыбудаваных да яго паўкруглай апсіды з усходу і квадратнага бабінца з захаду. Над сяродкрыжжам узвышаецца вялікі светлавы васьміграннны барабан з купалам. Бабінец завершаны трох'яруснай вежай-званіцай (2 чацверыкі і васьмярык з гранёным купалам). Купал і званіца ўвенчаны галоўкамі. Сцены атынкаваны, завершаны развітым прафіляваным карнізам. Вуглы аб'ёмаў апрацаваны буйным рустам, вокны аздоблены ляпнымі арачкамі. У дэкоры выкарыстаны плоскія нішы, сухарыкі, раскрапоўкі ў выглядзе трохвугольных франтонаў. Інтэр'ер двухсветлавы, сяродкрыжжа перакрыта самкнёным скляпеннем.

Царква — помнік архітэктуры позняга класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Асмолавічы, Лазовіцкі сельсавет**

**1169. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Аўтухоўка, Высокаўскі сельсавет**

**1170. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 88 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Барысавічы, Лабжанскі сельсавет**

**1171. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 169 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Будлаўка, Раднянскі сельсавет**

**1172. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на могілках. 16 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 8—13 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Карабушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Бухоўка, Гусаркаўскі сельсавет**

**1173. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад паўднёвай ускраіны вёскі, у лесе, абапал дарогі ў в. Кашаноўка. 3 насыпы вышынёй 0,6—0,9 м, дыяметрам 9—15 м. Курганы здзірванелі, зараслі лесам. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. Т. М. Карабушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.



**1168.** *Царква.*




**1172.** *Курганны могільнік. План.*




**1178.** *Курганны могільнік. План.*




1179. *Помнік землякам.*

**в. Высокае, цэнтр сельсавета**

**1174. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельскага Савета. На ўшанаванне памяці 351 воіна-земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**пас. Вялікі Мох, Кісялёвабудскі сельсавет**

**1175. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры пасёлка, каля будынка клуба. Пахаваны 17 воінаў, якія загінулі ў 1941—43 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 153-й і 212-й стралковых дывізій. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Галічы, цэнтр сельсавета**

**1176. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 252 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гразівец, Лабжанскі сельсавет**

**1177. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 85 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гулькі, Мілаславіцкі сельсавет**

**1178. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 6 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць. 4 насыпы (тры на полі, чацвёрты бліжэй да ракі) вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 8—11 м. Курганы здзірванелі. Верагодна, раней іх тут было больш (на полі трапляюцца рэшткі попельных плям, косці, жоўты пясок). Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся. *Т. М. Каробушкіна.*

**в. Гусарка, цэнтр сельсавета**

**1179. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 310 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла, на якой імёны загінуўшых.

**в. Дамамерычы, цэнтр сельсавета**

**1180. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 43 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дубравіца, Лабжанскі сельсавет**

**1181. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Трохзрубны будынак. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты двухсхільным дахам. Да яго прылягаюць больш нізкія пяціграння алтарная частка і бабінец з каркасным тамбурам пры ўваходзе. Па баках апсіды — невялікія рызніцы. Сцены ашаляваны, умацаваны сцяжкамі. Вокны прамавугольныя. Інтэр'ер зальны, з плоскай падшыўной столлю.



1183. *Помнік землякам.*




1185. *Курганны могільнік. План.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Ерашоўка, Гусаркаўскі сельсавет**

**1182. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў летам 1941 г. Сярод пахаваных — радавы Я. І. Слесарэнка. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Звянчатка, Кісялёвабудскі сельсавет**

**1183. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 249 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Іванава Слабада, Галіцкі сельсавет**

**1184. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы, каля клуба. На ўшанаванне памяці 158 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Іванаўск, Кісялёвабудскі сельсавет**

**1185. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Каля паўднёвай ускраіны вёскі, уздоўж левага берага р. Асцёр. 79 насыпаў вышынёй 0,5—2,2 м, дыяметрам 6—16 м. Захаванасць добрая. Вядомы з 1873 г., у 1892 г. два курганы раскапаў С. Ю. Чалоўскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Належаў радзімічам, датуецца 11—12 стагоддзямі.



1182. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.
*Т. М. Каробушкіна.*

**в. Канахоўка, Гусаркаўскі сельсавет**

**1186. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у хваёвым лесе. 15 насыпаў вышынёй 0,7—1 м, дыяметрам 8—10 м. Два курганы пашкоджаны. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кісялёва Буда, цэнтр сельсавета**

**1187. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 151 земляка, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1977 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з барэльефнай выявай воіна і імёнамі загінуўшых.



1186. *Курганны могільнік. План.*

**в. Красавічы, Высокаўскі сельсавет**

**1188. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлена стэла, на якой барэльефная выява воіна і імёны загінуўшых.

**в. Круглае, Клімавіцкі гарадскі Савет**

**1189. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. За 0,4 км на поўдзень ад вёскі. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943 г. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1190. МАГІЛА ГАЙДУКОВА** Паўла Міканоравіча (гіст.). На могілках.

Партызан 45-га асобнага атрада «За Радзіму» піянер Павел Гайдукоў нарадзіўся ў 1927 г. у в. Круглае. У партызанах з 1942 г., удзельнічаў у баявых аперацыях на станцыі Камунары Касцюковіцкага р-на, у г. Крычаў, у засадных баях на шашэйных дарогах. Здабыў для атрада 3 ручныя кулямёты, каля 50 вінтовак і інш. зброю. 26.6. 1943 г. пры выкананні чарговага баявога задання невялікая група партызан, у складзе якой быў П. М. Гайдукоў, трапіла ў засаду. Прыкрываючы адыход баявых таварышаў, юны партызан загінуў.

У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.
*У. У. Бянько.*

**в. Куляшоўка, Кісялёвабудскі сельсавет**

**1191. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Асцёр. 87 курганоў вышынёй 0,5—2,2 м, дыяметрам 6—16 м. Захаванасць добрая. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**1192. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1893 г. з дрэва. Складаецца з кубічнага асноўнага зруба, пяціграннай апсіды з невялікімі гранёнымі рызніцамі, дадатковага аб'ёму і бабінца. Над асноўным зрубам узвышаецца светлавы васьміграннны барабан, над бабінцам — васьмярык званіцы, завершаныя вастраверхімі шатрамі з галоўкамі. Такая ж галоўка і над апсідай. Будынак мае 3 уваходы — галоўны і 2 бакавыя, афармленыя вялікімі ганкамі з масіўнымі разнымі слупамі і фігурнымі франтонамі. Пластыку фасадаў узбагачаюць разарваныя карнізы, разьба, шалёўка (гарызантальная ў прасценках, вертыкальная — цокальная панель, фрыз, атык). Інтэр'ер двухсветлавы, перакрыты самкнёным васьмігранным скляпеннем.



1187. *Помнік землякам.*

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі псеўдарускага стылю.
*Т. В. Габрусь.*

**в. Лазовіца, цэнтр сельсавета**

**1193. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 118 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1194. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі.

Пабудавана ў пачатку 20 ст. з дрэва. Складаецца з трох амаль квадратных у плане зрубаў — бабінца, асноўнага і алтарнага, накрытых агульным дахам. Прамавугольныя вокны размешчаны высока. Сцены гарызантальна




1188. *Помнік землякам.*



1196. *Помнік землякам.*

ашаляваны. Інтэр'ер зальны, з плоскай падшыўной столлю.

Царква — помнік драўлянага дойлідства.

**в. Лапатавічы, Лабжанскі сельсавет**

**1195. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лобжа, цэнтр сельсавета**

**1196. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці жыхароў вёсак Лабжанскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1197. ПОМНІК КУПАЛУ** Янку (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Я. Купалы. Бюст народнага паэта БССР устаноўлены ў 1982 г.

**в. Макеевічы, Мілаславіцкі сельсавет**

**1198. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Іпуць. 12 насыпаў вышынёй 1,1—2,3 м, дыяметрам 9—15 м. Тры з іх пашкоджаны кар'ерамі, некалькі курганоў знішчана. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. Т. М. Карабушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*Т. М. Каробушкіна.*

**1199. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 224 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малашкавічы, Радзянскі сельсавет**

**1200. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 183 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1201. ПОМНІК МАГОНУ** Эрману Якаўлевічу (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы.

11.8.1941 г. непадалёку ад вёскі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў загінуў камандзір 45-га стралковага корпуса генерал-маёр Э. Я. Магон. Пахаваны ў брацкай магіле ў парку г. Клімавічы. У 1968 г. на ўшанаванне яго памяці пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 1160 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

**в. Мілаславічы, цэнтр сельсавета**

**1202. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг.




1191. *Курганны могільнік. План.*




1198. *Курганны могільнік. План.*



1204. *Помнік землякам.*

Сярод пахаваных — воіны 137-й стралковай дывізіі. У 1967 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1203. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ПАРТЫЙНЫМ РАБОТНІКАМ** (гіст.). На будынку выканкома сельсавета. Устаноўлена ў 1970 г. на ўшанаванне памяці партыйных работнікаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

У ліпені 1941 г. ЦК КП(б)Б накіраваў 3 групы партыйных работнікаў (25 чалавек) у 132-ю стралковую дывізію (генерал-маёр С. С. Бірузоў), якая на той час была выведзена з баёў для папаўнення. У жніўні 1941 г. дывізія накіравана на ўчастак Заходняга фронту паблізу Клімавіч. У баях загінулі першы сакратар Баранавіцкага абкома КП(б)Б А. І. Савалаў, загадчыкі сектараў Вілейскага абкома КП(б)Б М. А. Прохараў і М. Ф. Макараў, інструктар гэтага абкома І. Б. Саравайскі, сакратары райкомаў КП(б)Б: Глыбоцкага В. Т. Аніскавец, Браслаўскага П. Р. Пячонка, Мядзельскага І. С. Пецярбурцаў.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975.

*У. У. Банько.*

**1204. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 380 жыхароў вёсак Мілаславіцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую



1205. *Царква.*

Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1205. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі, на плошчы. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Крыжападобны будынак з пяцігранай алтарнай апсідай. Гранёныя рызніцы прылягаюць да бакавых прыбудоў. Над сяродкрыжжам узвышаецца светлавы чацверык. Бабінец і прытвор з боку галоўнага ўвахода размешчаны па падоўжнай восі. Усе часткі будынка накрыты пакатымі дахамі. Галоўны ўваход аформлены ганкам, бакавыя — парталамі. Вокны з паўцыркульнымі завяршэннямі, на светлавым чацверыку — трохчасткавыя. Асноўны дэкаратыўны матыў фасадаў — абрамленне акон у выглядзе трохпілёстквавых арачак, прафіляваныя карнізы. У інтэр'еры ўсе дапаможныя памяшканні адкрыты арачнымі праёмамі ў цэнтральную двухсветлавую прастору. Аздоба інтэр'ераў не захавалася.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі псеўдавізантыйскага стылю.

*Т. В. Габрусь.*

**в. Муравец, Цімашаўскі сельсавет**

**1206. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1206а.** Курганны могільнік. За 1,1 км на захад ад паўночнай ускраіны вёскі. 9 курганоў вышынёй 0,5—1,4 м, дыяметрам 7—10 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.



**1206а.** *Курганны могільнік. План.*

**1206б.** Курган. За 0,2 км на паўднёвы захад ад паўночнай ускраіны вёскі. Вышыня 2,5 м, дыяметр 16 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна.

**в. Недзведзь, Галіцкі сельсавет**

**1207. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 204 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Новыя Дамамерычы, Дамамерыцкі сельсавет**

**1208. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У цэнтры вёскі, на левым беразе невялікага ручая. 3 насыпы вышынёй 1,3—1,6 м, дыяметрам 8—12 м, адзін вышынёй 1,5 м, дыяметрам 10 м, знаходзіцца асобна. Насыпы здзірванелі, параслі дрэвамі і кустамі, 2 пашкоджаны ямамі. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Новыя Жаркі, Лабжанскі сельсавет**

**1209. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 111 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Палошкава, Дамамерыцкі сельсавет**

**1210. МАГІЛА БУКОЎСКАГА** Аляксандра Селіверставіча (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Палітрук танкавай роты А. С. Букоўскі загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1211. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 176 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**1212. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Бюст М. І. Калініна ўстаноўлены ў 1980 г.

**в. Паўлавічы, Лазовіцкі сельсавет**

**1213. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 125 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Родня, цэнтр сельсавета**

**1214. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 104 жыхароў вёсак сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлена стэла, на якой імёны загінуўшых.



1209. *Помнік землякам.*

**в. Рэкта, Гусаркаўскі сельсавет**

**1215. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на поўнач ад вёскі. 8 насыпаў вышынёй 1,1—1,6 м, дыяметрам 10—13 м. Адзін курган пашкоджаны. Усе насыпы здзірванелі, зараслі арэшнікам. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна.

**в. Савінічы, цэнтр сельсавета**

**1216. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1216а.** Могільнік-1. У цэнтры вёскі, за 0,2 км на поўдзень ад будынка праўлення калгаса, у калгасным садзе. 8 здзірванелых насыпаў вышынёй 0,7—1,5 м, дыяметрам 7—15 м. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**1216б.** Могільнік-2. За 0,4 км на ўсход ад вёскі, на ўскраіне могілак. 2 насыпы вышынёй 0,9 і 1 м, дыяметрам 8 і 10 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*Т. М. Каробушкіна.*

**1217. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка канторы саўгаса. На ўшанаванне памяці 238 жыхароў вёсак Савініцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Селішча, Гусаркаўскі сельсавет**

**1218. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на




1214. *Помнік землякам.*

правым беразе р. Рагожанка. 3 насыпы вышынёй 1,7—2 м, дыяметрам 9—12 м. Насыпы здзірванелі, зараслі кустамі. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Сідараўка, Раднянскі сельсавет**

1219. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 92 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Склімін, Мілаславіцкі сельсавет**

1220. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1215. *Курганны могільнік. План.*

**в. Стары Дзедзін, Кісялёвабудскі сельсавет**

1221. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на захад ад вёскі, на тэрыторыі паміж могілкамі і калгасным токам. 10 насыпаў вышынёй 0,5—0,7 м, дыяметрам 5—10 м. Адзін курган моцна пашкоджаны. Вядомы з 1873 г. У пачатку 20 ст. было 20 курганоў. У 1926 г. А. А. Аніхоўскі раскапаў 4 насыпы, абрад пахавання — трупапалажэнне, у 2 курганах выяўлены шкілеты, у астатніх — рэшткі вогнішчаў. У 1978 г. могільнік абследавала Т. М. Каробушкіна. Некалькі курганоў раскапалі мясцовыя жыхары. Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1.

*Т. М. Каробушкіна.*

1222. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 136 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стары Стан, Мілаславіцкі сельсавет**

1223. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 58 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Судзілы, Раднянскі сельсавет**

1224. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 100 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Фядотава Буда, Галіцкі сельсавет**

1225. **РАДЗІМА ПЕТУШКОВА** Адама Захаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. З. Петушкоў нарадзіўся 22.4.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. У 1947 г. скончыў Ваенную акадэмію бранятанкавых і механізаваных войск. У 1936—40 гг. працаваў настаўнікам у Краснапольскім р-не Магілёўскай вобл. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на 1-м Украінскім фронце. Камандзір узвода, потым роты танкаў-тральшчыкаў старшы лейтэнант А. З. Петушкоў вызначыўся ў час прарыву абароны праціўніка каля Кіева. 3—4.11.1943 г. правёў танкі цераз мінныя палі, знішчыў артылерыйскую батарэю, каля 30 гітлераўцаў, вызваліў с. Святошына. 6.11.1943 г. танкісты на чале з А. З. Петушковым знішчылі 4 аўтамашыны, 40 павозак, больш за 100 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.1.1944 г. Да 1969 г. палкоўнік А. З. Петушкоў служыў у Савецкай Арміі. Потым працаваў старшым інжынерам на заводзе ў Казані. Памёр 25.6.1976 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*У. У. Бянько.*

**в. Хадунь, Дамамерыцкі сельсавет**

1226. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Асцёр. 10 курганоў вышынёй 0,7—1,3 м, дыяметрам 10—13 м. Каля асобных насыпаў прыкметны раўкі. Усе курганы здзірванелыя. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Хатовіж, Дамамерыцкі сельсавет**

1227. **КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1227а.** Могільнік-1. На заходняй ускраіне вёскі, каля школы, ва ўрочышчы Курганне, справа ад дарогі ў




1216. *Курганныя могільнікі. План.*




1221. *Курганны могільнік. План.*




1226. *Курганны могільнік. План.*

в. Ганнаўка. 7 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 12—15 м. У 1892 г. С. Ю. Чалоўскі раскапаў адзін курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Належаў радзімічам, датуецца 10—13 стагоддзямі.

**1227б.** Могільнік-2. За 0,2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Канчар, па дарозе ў в. Пянькоўка. 11 курганоў вышынёй 0,4—1 м, дыяметрам 5—20 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

**1227в.** Могільнік-3. На ўсходняй ускраіне вёскі. 10 курганоў вышынёй 0,7—0,8 м, дыяметрам 8—9 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. Т. М. Каробушкіна. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*Т. М. Каробушкіна.*

**1228. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 288 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Цімапава, цэнтр сельсавета**

**1229. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 328 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск і сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Якімавічы,**
**Мілаславіцкі сельсавет**

**1230. РАДЗІМА СТАРАВОЙТАВА** Міхаіла Антонавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. А. Старавойтаў нарадзіўся 7.6.1923 г. у сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Сцяпным, 3-м Украінскім франтах. Радавы стралковага палка М. А. Старавойтаў вызначыўся ў баях пры фарсіраванні Паўднёвага Буга ў Адэскай вобл. 23.3. 1944 г. пад агнём праціўніка ў складзе першай групы аўтаматчыкаў пераправіўся цераз раку, захапіў плацдарм і ўтрымліваў яго да падыходу асноўных сіл. 25—26.3.1944 г. удзельнічаў у адбіцці 9 варожых контратак, 5 разоў хадзіў у атаку, у рукапашным баі знішчыў 7 гітлераўцаў. Памёр ад ран 11.4.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 3.6.1944 г. Імя героя носіць школа ў в. Мілаславічы Клімавіцкага р-на, дзе ён вучыўся.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.




1227. *Курганныя могільнікі. План.*




1229. *Помнік землякам.*




# КЛІЧАЎСКІ РАЁН

Загацце
Коўбча
Нов. Максімавічы
Усакіна
Закуцце
Доўгае
Стары Востраў
Патока
Акцябрск
Дулебна
Гонча
Тачышча
Стаялава
Арэхаўка
КЛІЧАЎ
Нясята
Віркаў
Бёрда
Ваевічы
Бацэвічы
Усохі
Заполле

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

## XI. КЛІЧАЎ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Ольса. За 91 км на паўднёвы захад ад Магілёва, за 7 км ад чыгуначнай станцыі Нясета, на лініі Магілёў — Асіповічы.

Вядомы з 1592 г. як в. Клічава Віцебскага ваяводства. У канцы 19 ст. у Ігуменскім павеце Мінскай губерні; былі школа, млын, царква. Паводле перапісу 1897 г. у Клічаве 608 жыхароў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З 1924 г. цэнтр раёна, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з 5.7. 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. 20.3.1942 г. партызаны 128, 277, 620, 752-га атрадаў разграмілі варожы гарнізон у Клічаве. Тут была адноўлена Савецкая ўлада, створана Клічаўская партызанская зона, арганізаваны Клічаўскі аператыўны цэнтр, які ажыццяўляў арганізацыйнае і аператыўнае кіраўніцтва 10 партызанскімі брыгадамі (43 атрады), што дзейнічалі на акупіраванай тэрыторыі Магілёўскай вобл. на захад ад Дняпра і некаторых суседніх раёнаў Мінскай вобл. Працавалі падпольныя райкомы КП(б)Б (4.4.1942 г.—28.6. 1944 г.) і ЛКСМБ (24.4.1942 г.—28.6. 1944 г.). Выдавалася газета «Голас партызана» — орган райкома КП(б)Б.

З 1944 г. Клічаў — цэнтр раёна Бабруйскай, у 1954 г.—62 г. і з 1965 г.— Магілёўскай абласцей. У 1962—65 гг. уваходзіў у Кіраўскі р-н.

Планіровачная структура сучаснага Клічава рэгулярная, прамавугольная, з дробнай сеткай вуліц. Генеральны план распрацаваны ў 1979 г. Беларускім дзяржаўным навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. Прадугледжана развіццё пасёлка ў паўднёва-заходнім напрамку, функцыянальнае заніраванне тэрыторыі. Кампазіцыйная вось пасёлка — вул. Ленінская, на якой размешчаны аддзяленне Дзяржбанка, гасцініца, аптэка, камбінат бытавога абслугоўвання, 2—3-павярховыя жылыя дамы. На скрыжаванні вуліц Ленінскай і Крыванаса ўтворана цэнтральная плошча з 2—4-павярховымі мураванымі будынкамі райкома КПБ, райвыканкома, Дома культуры, 2 інтэрнатаў, універмага. Капітальная жылая забудова вядзецца па вул. Ленінскай. Пераважае індывідуальная забудова сядзібнага тыпу, сканцэнтраваная ў паўночнай і паўднёвай частках. Дзейнічаюць хлебазавод, маслазавод, харчовы цэх Бабруйскага кансервава-вінаробнага завода, дрэваапрацоўчы камбінат, лясгас, лесаўчастак Бабруйскага доследнага леспрамгаса. Працуюць Магілёўскі саўгас-тэхнікум, 2 сярэднія, васьмігадовая, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 5 дашкольных устаноў, міжшкольны вучэбна-вытворчы камбінат, Дом піянераў і школьнікаў, 2 клубы, 2 бібліятэкі, музей народнай славы, бальніца. Выдаецца раённая газета «Сцяг Савета».



XI. *Цэнтральная плошча.*

Помнікі: У. І. Леніну; на магіле чырвонаармейцаў, якія загінулі ў Грамадзянскую вайну; на брацкіх магілах савецкіх воінаў і партызан Вялікай Айчыннай вайны, ахвяр фашызму; у гонар вызвалення 20.3.1942 г. Клічава партызанамі і аднаўлення Савецкай улады; на месцы прызямлення першага самалёта з Вялікай зямлі; Курган Славы.

Зона адпачынку — парк культуры і адпачынку імя 50-годдзя Вялікага Кастрычніка, лесапарк, сквер, бульвары, на беразе р. Ольса ствараецца гідрапарк.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*А. І. Валахановіч, А. М. Кулагін.*

1231. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН, АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Пралетарская, у скверы. Пахаваны 16 воінаў і 38 партызан, што загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні Клічава ад нямецка-фашысцкіх акупантаў, у т. л. воіны 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й Арміі 1-га Беларускага фронту і партызаны 208-га асобнага партызанскага палка імя І. В. Сталіна, а таксама сям'я старшыні выканкома раённага Савета дэпутатаў працоўных П. М. Вікторчыка (жонка і 6 дзяцей), якую нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі ў жніўні 1942 г.

У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя і пліты з імёнамі загінуўшых.

*Т. Р. Чуракова.*




XI. *Забудова вуліцы Крываноса.*



XI. *Забудова вуліцы Ленінскай.*

**1232. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне пасёлка, каля дарогі на в. Чачэвічы.

20.3.1942 г. народныя мсціўцы разграмілі варожы гарнізон у Клічаве і закончылі вызваленне ўсёй тэрыторыі раёна, якая ўвайшла ў Клічаўскую партызанскую зону (гл. артыкул № 1239 «Помнік у гонар партызан»). 27.6.1944 г. воіны 348-й стралковай дывізіі і інш. часцей 35-га стралковага корпуса (камандзір генерал-маёр В. Р. Жолудзеў) 3-й арміі 1-га Беларускага фронту разам з партызанамі канчаткова вызвалілі раён ад нямецка-фашысцкіх акупантаў.

У 1967 г. у гонар партызан і савецкіх воінаў, якія ўдзельнічалі ў вызваленні раёна, насыпаны Курган. На вяршыні яго — стэла і скульптуры воіна, партызана і дзяўчыны.

**1233. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана каля 300 мірных жыхароў пасёлка, якіх закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты ў 1942 г. На ўшанаванне іх памяці і іншых ахвяр фашызму перад уваходам на могілкі ў 1965 г. пастаўлена стэла з выявай старога, жанчыны і дзіцяці.

**1234. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 жанчын-медработнікаў, якіх 10.10.1941 г. закатавалі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1235. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны каля 40 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1920 г. у баі супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1236. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КРЫВАНОСУ** Паўлу Ананьевічу (гіст.). Вул. Ленінская. На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1965 г. Герой Савецкага Саюза П. А. Крыванос нарадзіўся ў 1920 г. у сялянскай сям'і ў в. Альхоўка Клічаўскага р-на. У 1940 г. скончыў Бабруйскі лесатэхнікум. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Вызначыўся ў баях пры ліквідацыі варожай групоўкі каля Віцебска. Камандзір танкавага ўзвода малодшы лейтэнант П. А. Крыванос 27.6.1944 г. сваім танкам прыкрыў танк камандзіра палка. Цяжка паранены, працягваў весці бой, кіраваць баявымі дзеяннямі ўзвода. Памёр ад ран у той жа дзень. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У г. п. Клічаў імем П. А. Крываноса названа вуліца, яго імя прысвоена сярэдняй школе № 1.



1231. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан, ахвяр фашызму.*



1239. *Помнік у гонар партызан.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1237. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Ленінскай, насупраць будынка райкома КПБ. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1952 г.

**1238. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ПРЫЗЯМЛЕННЯ САМАЛЁТА** (гіст.). Каля будынка райваенкамата, у скверы. 14.7.1942 г. партызаны 208-га асобнага партызанскага атрада імя І. В. Сталіна прынялі першы самалёт з Вялікай зямлі, які даставіў ім боепрыпасы і прадукты. У 1977 г. на месцы прызямлення самалёта пастаўлена стэла.

**1239. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). На вул. Ленінскай, насупраць будынка райвыканкома.

20.3.1942 г. партызаны атрадаў 128-га (камандзір В. П. Свістуноў, камісар М. Ф. Сперанскі), 277-га (камандзір А. С. Юркаўцоў, камісар І. З. Ізох), 620-га (камандзір В. М. Сырцоў, камісар М. І. Александровіч), 752-га (камандзір В. І. Лівенцаў, камісар Дз. А. Ляпёшкін) разграмілі варожы гарнізон у г. п. Клічаў і закончылі вызваленне ўсёй тэрыторыі раёна. У выніку бою партызаны знішчылі каля 120 варожых салдат і паліцэйскіх, захапілі вялікую колькасць боепрыпасаў, складскія памяшканні праціўніка. 3.4.1942 г. у в. Усакіна адбыўся сход камуністаў раёна, на якім была прынята пастанова аб аднаўленні Савецкай улады ў раёне і стварэнні Клічаўскага райкома КП(б)Б (сакратар Я. І. Заяц), выканкома раённага Савета дэпутатаў працоўных (старшыня П. М. Вікторчык), Клічаўскага аператыўнага цэнтра. Раён, а таксама частка сумежных з ім Асіповіцкага, Бялыніц-



**1240.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

кага, Бярэзінскага, Кіраўскага і інш. р-наў Магілёўскай вобл. увайшлі ў Клічаўскую партызанскую зону. На яе тэрыторыі базіраваліся ў жніўні — кастрычніку 1942 г. Бабруйскі падпольны міжрайком КП(б)Б, з красавіка 1943 г. Магілёўскі падпольны абком КП(б)Б, штаб Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы пры ім, Бялыніцкі, Бярэзінскі, Магілёўскі і інш. падпольныя райкомы КП(б)Б і ЛКСМБ. Гітлераўцы спрабавалі ліквідаваць партызанскую зону, у ліпені — жніўні 1942 г. правялі шэраг буйных карных аперацый, часова захапілі Клічаў, стварылі там свой гарнізон. Партызаны (больш за 18 тыс. чалавек) утрымлівалі зону больш за 2 гады. У чэрвені 1944 г. злучыліся з войскамі Чырвонай Арміі.

У 1952 г. у гонар баявых дзеянняў партызан пастаўлена стэла.

*Літ.:* Всенародное партизанское движение в Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944). Т. 1—3.— Мн., 1967—82; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Акцябрск, Акцябрскі сельсавет**

**1240. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 33 воіны і 2 партызаны, якія загінулі ў ваколіцах вёскі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у 1941—44 г. Сярод пахаваных — воіны 15-га дарожна-будаўнічага батальёна 17-й гвардзейскай танкавай брыгады 65-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асавы, Бацэвіцкі сельсавет**

**1241. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны 277-га партызанскага палка, што загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1242. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д о к. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пляцоўка дыяметрам 130 м узвышаецца над наваколлем на 0,5—0,7 м. З паўночнага, усходняга і паўднёва-ўсходняга бакоў захаваліся рэшткі рова глыбінёй 0,4—0,6 м і шырынёй 1,5—2 м. З паўднёвага і заходняга бакоў да гарадзішча прылягае балоцістая нізіна. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**1243. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1243а.** М о г і л ь н і к - 1. За 2 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бацэвіцкі Стан, у лесе. 4 насыпы вышынёй 0,6—0,8 м, дыяметрам 5—7 м (адзін курган за 0,3 км на поўдзень ад іншых). Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1243б.** М о г і л ь н і к - 2. За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Падкаменне. 12 насыпаў вышынёй 0,8—1,4 м, дыяметрам 8—13 м. Курганы маюць добрую захаванасць, здзірванелыя і параслі лесам. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся. *П. Ф. Лысенка.*

**1244. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 79 жыхароў вёскі, якіх жывымі спалілі нямецка-фашысцкія карнікі летам 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла і пліта з надпісам-прысвячэннем.

**1245. МАГІЛА КРЫХУНА** Уладзіміра Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан 13-й Касцюковіцкай партызанскай брыгады У. П. Крыхун загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бацэвічы, цэнтр сельсавета**

**1246. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 29 воінаў і 26 партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — воіны 928-га і 298-га асобных сапёрных батальёнаў 55-й стралковай дывізіі 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, што загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна, і партызаны 208-га асобнага імя І. В. Сталіна і 277-га партызанскіх палкоў. У 1964 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам. *Т. Р. Чуракова.*



**1244.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**1247. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на ўсход ад вёскі, па дарозе ў былую в. Макаўе, на пясчаным узвышшы. 9 насыпаў вышынёй 0,5 і 1,2 м, дыяметрам 10 і 12 м. Адлегласць паміж насыпамі 120 м. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Віркаў, цэнтр сельсавета**

**1248. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 27 воінаў і партызан, якія загінулі каля вёскі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — партызаны 277-га партызанскага атрада. У 1959 г. на магіле пастаўлена скульптурная кампазіцыя: воін у жалобе і дзяўчынка.

**1249. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).




**1247.** *Курганны могільнік. План.*

**1249а.** Могільнік-1. За 0,8 км ад вёскі, ва ўрочышчы Падлужжа. 9 насыпаў вышынёй 0,4—1,8 м, дыяметрам 4—10 м. Курганы здзірванелыя, зараслі лесам, 2 пашкоджаны ямамі. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1249б.** Могільнік-2. За 2,5 км на поўнач ад вёскі. 30 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 4—11 м. Курганы здзірванелыя, нараслі лесам. Даследаваў у 1892 г. У. З. Завітпевіч, які раскапаў 11 кургапоў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў падкурганных ямах галавой на захад. Знойдзены пярсцёнкі, гузікі, скроневыя кольцы, медальёны, пацеркі. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

*П. Ф. Лысенка.*

**в. Вязень** (не існуе), **Патоцкі сельсавет**

**1250. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вязень знаходзілася за 2 км на захад ад в. Усакіна. У ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі расстралялі 80 жыхароў вёскі, спалілі 17 двароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1985 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Вялікая Старына, Бацэвіцкі сельсавет**

**1251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахавана каля 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных — партызаны 9-й партызанскай брыгады імя С. М. Кірава. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Гонча, цэнтр сельсавета**

**1252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,2 км на захад ад вёскі, каля дарогі Клічаў — Чачэвічы. Пахаваны 38 воінаў і партызан, якія загінулі ў ваколіцах вёскі ў Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту і партызаны 277-га партызанскага палка. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дзмітраўка 1-я, Патоцкі сельсавет**

**1253. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка бібліятэкі. Пахаваны 26 воінаў і партызан, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў у чэрвені 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 1270-га стралковага палка 385-й Клічаўскай Чырванасцяжнай ордэна Суворава дывізіі 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам.

**в. Драні, Гапчанскі сельсавет**

**1254. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі. 34 насыпы вышынёй 0,4—1,4 м, дыяметрам 5—14 м. Курганы добра захаваліся, здзірванелі, параслі лесам. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.



**1251.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Заполле, Бацэвіцкі сельсавет**

**1255. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАНЫ** (археал.).



**1248.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*



**1253.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




**1257.** *Помнік на магіле П. І. Кавалёва.*

**1255а.** Могільнік-1. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на надпоймавай тэрасе левага берага р. Ольса, ва ўрочышчы Сомік. 2 курганы вышынёй 1 і 1,5 м, дыяметрам 12 і 15 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1255б.** Могільнік-2. За 4 км на поўнач ад вёскі, за 150 м ад дарогі на в. Сяргеевічы, на прасецы. 25 насыпаў вышынёй 0,4—13 м, дыяметрам 8—10 м (21 насып на поўнач ад прасекі і 4 на поўдзень). Курганы здзірванелі, парaслі лесам, добра захаваліся (за выключэннем 3). Вядомы з канца 19 ст. Даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 8 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне (2 пахаванні ў насыпе, 4 — на гарызонце, 2 — пустыя). Знойдзены рэшткі ганчарнай керамікі, кольцы з дроту, шкляныя пацеркі, абломак сярэбранай пласцінкі. У 1979 г. абследаваў П. Ф. Лысенка. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

**1255в.** Могільнік-3. На паўночнай ускраіне вёскі, справа ад дарогі ў в. Ольса. 4 насыпы вышынёй 0,6—0,7 м, дыяметрам 7—10 м. Курганы здзірванелі, часткова пашкоджаны сучаснымі могілкамі. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1255г.** Курган-1. За 2 км на поўдзень ад вёскі, за 0,5 км ад могільніка-1. Вышыня 1,3 м, дыяметр 12—13 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**1255д.** Курган-2. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, па дарозе ў в. Орліна, на ўзлессі. Вышыня каля 1,4 м, дыяметр 11—12 м. Курган здзірванеў, парос лесам. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*П. Ф. Лысенка.*

**в. Кавяза,**
**Клічаўскі пасялковы Савет**

**1256. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі. У 15 брацкіх магілах пахаваны 27 савецкіх воінаў і 27 партызан, што загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 348-й стралковай дывізіі 35-га стралковага корпуса 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1257. МАГІЛА КАВАЛЁВА** Піліпа Іванавіча (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на вайсковых могілках.

Герой Савецкага Саюза П. І. Кавалёў нарадзіўся 14.11.1916 г. у в. Гайкоў Чэрыкаўскага р-на ў сялянскай сям'і. З 1935 г. працаваў у саўгасе, на заводзе ў Запарожжы, брыгадзірам у Чэрыкаўскай МТС. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. З чэрвеня 1942 г. у партызанах, з ліпеня 1943 г. камандзір групы падрыўнікоў 255-га партызанскага палка, які дзейнічаў на тэрыторыі Рагачоўскага, Жлобінскага, Буда-Кашалёўскага р-наў Гомельскай вобл., Быхаўскага, Кіраўскага, Клічаўскага р-наў Магілёўскай і Крупскага р-на Мінскай абласцей. Падрыхтаваў 13 дыверсійных груп. На чыгуначных участках Быхаў — Рагачоў — Жлобін — Бабруйск пусціў пад адхон 19 эшалонаў праціўніка, знішчыў 30 аўтамашын. Загінуў у баі 17.3.1944 г. каля в. Перунова Кіраўскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г.

У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Люди легенд. В. 1.— М., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Калінаўка, Віркаўскі сельсавет**

**1258. РАДЗІМА ГРЫНЯВІЦКАГА** Ігната Яўхімавіча (гіст.).

Рэвалюцыянер-народаволец І. Я. Грынявіцкі нарадзіўся ў жніўні 1855 г., па інш. звестках увосень 1856 г., у былым маёнтку Басін (пазней в. Басін злілася з в. Калінаўка) у сям'і дробнамаянтковага дваранiна. Скончыў гімназію ў Беластоку ў 1875 г. З восені 1875 г. да лета 1880 г. вучыўся на механічным аддзяленні Пецярбургскага тэхналагічнага інстытута. Удзельнічаў у рабоце польска-літоўска-беларускіх і рускіх рэвалюцыйных гурткоў. Вёў прапаганду сярод рабочых і студэнтаў Пецярбурга і Іванава-Вазнясенска. З 1879 г. у арганізацыі «Народная воля». Быў стваральнікам беларускай фракцыі гэтай арганізацыі. Выконваў розныя даручэнні кіраўніцтва: арганізоўваў рабочыя гурткі, распаўсюджваў нелегальную літаратуру і інш. Адзін з заснавальнікаў нарадавольскай «Рабочей газеты», наборшчык падпольнай друкарні «Народнай волі». Адзін з актыўных арганізатараў і непасрэдных удзельнікаў замаху на жыццё цара Аляксандра II. Ажыццяўляючы пастанову выканаўчага камітэта арганізацыі «Народная воля», 1.3.1881 г. кінуў бомбу, якой быў забіты Аляксандр II, сам смяротна паранены.

*Літ.:* Деятели революционного движения в России: Биобиблиогр. словарь. Т. 3. В. 2.— М., 1934; Жуковский-Жук И. И., И. И. Гриневицкий.— [М.], 1930; Волк С. С. Народная воля. 1879—1882.— М.; Л., 1966.

*Г. І. Дулеба.*



**1260.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Каўбчанская Слабодка,**
**Каўбчанскі сельсавет**

**1259. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 13 м. Адкрыў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Коўбча, цэнтр сельсавета**

**1260. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 33 воіны і партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ваколіцах вёскі. Сярод пахаваных — воіны 394-й асобнай аўтатранспартнай роты, партызаны 208-га асобнага імя І. В. Сталіна і 277-га партызанскіх

палкоў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1261. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на краі невялікага хваёвага лесу. 12 насыпаў вышынёй 0,7—2,2 м, дыяметрам 7—14 м. Курганы здзірванелі, параслі кустамі, частка іх пашкоджана абворваннем. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1262. МАГІЛА КАРДЫМОН** Жанны Паўлаўны (гіст.). На могілках. Разведчыца 25-га асобнага партызанскага атрада Ж. П. Кардымон у 1942 г. схоплена фашыстамі ў час выканання баявога задання і закатавана. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лаззё, Клічаўскі пасялковы Савет**

**1263. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,2 км на захад ад вёскі, у лесе, за 0,6 км ад левага берага р. Ольса. 11 насыпаў вышынёй 0,6—0,8 м, дыяметрам 8—10 м. Курганы здзірванелі, пашкоджаны пры насадцы лесу. Адкрыў у 1965 г. Л. Д. Побаль, абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Люціна, Бацэвіцкі сельсавет**

**1264. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦА** (гіст.). На могілках. Чырвонаармеец загінуў у 1920 г. каля вёскі ў баі супраць белапалякаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лянёўка, Віркаўскі сельсавет**

**1265. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1265а.** М о г і л ь н і к - 1. Мясцовая назва К а п ц ы. На паўночнай ускраіне вёскі. 9 насыпаў вышынёй 0,4—1,2 м, дыяметрам 4—9 м. Курганы здзірванелыя. Даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 20 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на гарызонце, у падкурганнай яме і ў насыпе галавой на захад. Знойдзены пацеркі, кольцы, бранзалеты, вёдры, гаршкі. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

**1265б.** М о г і л ь н і к - 2. За 5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 0,4—0,8 м, дыяметрам 4—10 м. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* З а в и т н е в и ч В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

*П. Ф. Лысенка.*

**в. Малая Вольса, Бацэвіцкі сельсавет**

**1266. КУРГАН** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Поле пад курганамі. Вышыня 1,2 м, дыяметр 12 м. Абследавалі ў 1892 г. У. З. Завітневіч, у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

**в. Новыя Максімавічы, Каўбчанскі сельсавет**

**1267. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Непадалёку ад могілак. Пахаваны 25 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

**чыгуначная станцыя Нясета, Нясяцкі сельсавет**

**1268. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 50 м на паўночны захад ад чыгуначнай станцыі. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) памёр ад ран у 1944 г. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Нясята, цэнтр сельсавета**

**1269. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Насупраць будынка камбіната бытавога абслугоўвання. Пахаваны 33 воіны і партызаны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — воіны 928-га асобнага сапёрнага батальёна 55-й стралковай дывізіі 89-га стралковага корпуса 61-й арміі 1-га Беларускага фронту, воіны, якія памерлі ад ран у палявым шпіталі, што дыслацыраваўся паблізу вёскі, і партызаны 152-га партызанскага атрада, якія загінулі ў баях супраць гітлераўцаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

*Т. Р. Чуракова.*

**1270. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,4 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, справа ад дарогі ў в. Буднеў, на ўскрайку лесу. 20 насыпаў вышынёй 0,6—1,7 м, дыяметрам 6—15 м (2 курганы вышынёй 1,5 і 2 м, дыяметрам 12 і 15 м знаходзяцца на захад ад асноўнай групы). Захаванасць добрая. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 5 насыпаў. Пахаванні па абраду трупапалажэння на гарызонце (4) і ў падкурганнай яме (1) галавой на захад. Знойдзены пярсцёнак. Абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Належаў дрыгавічам, адносіцца да 11—13 стагоддзяў.

Матэрыялы раскопак У. З. Завітневіча захоўваюцца ў Дзяржаўным Гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* З а в и т н е в и ч В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

*П. Ф. Лысенка.*

**1271. МАГІЛА АСТРОЎСКАГА** Міхаіла Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Партызан 277-га партызанскага палка М. А. Астроўскі загінуў 11.1. 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1272. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 мірных жыхароў вёскі, якіх 23.2.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1269. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Орліна, Бацэвіцкі сельсавет**

**1273. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, на ўскрайку лесу. 20 насыпаў вышынёй 0,3—1 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Паплавы, Клічаўскі пасялковы Савет**

**1274. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўрочышчы Лясное. Пахаваны 300 жыхароў, якіх у кастрычніку — лістападзе 1941 г. закатавалі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1275. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ЗЛУЧЭННЯ ПАРТЫЗАН З ЧАСЦЯМІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Клічаў — Чачэвічы.



1275. *Помнік на месцы злучэння партызан з часцямі Чырвонай Арміі.*

Тут 28.6.1944 г. злучыліся з войскамі 1-га Беларускага фронту партызанскія палкі — 15-ы (311 чалавек; камандзір А. С. Дзямідаў, камісар І. П. Ніжнік), 277-ы (1257 чалавек; камандзір М. П. Коканцаў, камісар А. М. Радзюк), асобныя партызанскія атрады — 25-ы (222 чалавекі; камандзір У. Г. Семяшышын, камісар П. М. Сідарэнка), 115-ы (345 чалавек; камандзір І. Я. Вайтусёнак, камісар А. Я. Шчыслёнак), 278-ы (490 чалавек; камандзір В. М. Ананіч, камісар А. Ц. Курсакоў).

У 1975 г. у памяць аб гэтай падзеі пастаўлена стэла з надпісам.

*Т. Р. Чуракова.*



1286. *Помнік на вайсковых могілках.*

**в. Патока, цэнтр сельсавета**

**1276. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Ольса, злева ад дарогі ў в. Суша, 56 насыпаў вышынёй 0,4—2,2 м, дыяметрам 5—17 м. Вядомы з 1924 г., абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пераколь, Нясяцкі сельсавет**

**1277. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, у лесе, за 0,2 км на захад ад могілак. 36 насыпаў вышынёй 0,4 м, дыяметрам 4—15 м. Курганы здзірванелі, параслі лесам. Каля падножжа асобных насыпаў ёсць раўкі. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. У. З. Завітневіч, які раскапаў 9 насыпаў. Пахавальны абрад трупапалажэнне на гарызонце (у 7 курганах), у 2 — у падкурганных ямах галавой на захад. Знойдзены 2 сярэбраныя кольцы і бронзавая пацерка. У 1978 г. абследаваў П. Ф. Лысенка. Належаў дрыгавічам, датуецца 11—13 стагоддзямі.

*Літ.:* Завитневич В. З. Археологические разыскания в бассейне реки Березины.— У кн.: Отчет Археологической комиссии за 1892 г. СПб., 1894.

*П. Ф. Лысенка.*

**в. Стары Востраў, цэнтр Акцябрскага сельсавета**

**1278. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 275 землякоў, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сялец** (не існуе), **Патоцкі сельсавет**

**1279. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Сялец знаходзілася за 2 км на захад ад в. Усакіна. У ліпені 1942 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі 11 двароў і расстралялі 60 яе жыхароў. Вёска не адрадзілася. Увекавечана ў мемарыяльным комплексе Хатынь. У 1985 г. на месцы спаленай вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Таценка 1-я, Нясяцкі сельсавет**

**1280. БРАЦКАЯ МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны чырвонаармейцы, якія загінулі ў Грамадзянскую вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1281. МАГІЛА ХАРЛАПА** Уладзіміра Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Партызан 278-га асобнага атрада У. С. Харлап загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 30.5.1943 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Убалацце, Ганчанскі сельсавет**

**1282. МАГІЛА БАНДАРЧЫК** Ульяны (гіст.). На могілках. Разведчыца 277-га партызанскага атрада У. Бандарчык закатавана нямецка-фашысцкімі акупантамі ў 1942 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1283. МАГІЛА ПЯНЬКОЎСКАГА** Вячаслава Данілавіча (гіст.). На могілках. Урач Кіраўскага партызанскага спецатрада В. Д. Пянькоўскі загінуў у 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1284. МАГІЛА САЙ** Надзеі (гіст.). На могілках. Разведчыца 277-га партызанскага атрада Н. Сай схоплена пры выкананні баявога задання і закатавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Уладзіміраўка, Нясяцкі сельсавет**

**1285. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 38 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну каля вёскі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Усакіна, Патоцкі сельсавет**

**1286. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, у лесе, каля дарогі ва ўрочышча Цераболь.

У 18 магілах пахаваны 352 воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў у Вялікую Айчынную вайну. Сярод пахаваных — байцы 385-й стралковай дывізіі 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызаны 208-га асобнага атрада імя І. В. Сталіна і 2-й Клічаўскай брыгады, якія ў маі 1943 г. каля в. Усакіна ўдзельнічалі ў прарыве варожай блакады.

У 1985 г. на могілках узведзена мемарыяльная сцяна. У цэнтры скульптура ўкленчанага воіна. Запалены Вечны агонь. За 200 м на паўночны захад ад мемарыяла адноўлены партызанскія зямлянкі. *Т. Р. Чуракова.*

**1287. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ, КУРГАН** (археал.).

**1287а.** Могільнік-1. За 3,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Магільніца, у 134-м квартале Друцкага лясніцтва, каля лясной дарогі. 2 насыпы вышынёй 1,2 і 2,2 м, дыяметрам 10 і 16 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1287б.** Могільнік-2. За 3,7 км на поўнач ад вёскі, абапал лясной дарогі, у 122-м квартале Друцкага лясніцтва. 19 насыпаў дыяметрам 8—15 м, вышынёй 0,7—2,2 м. Курганы здзірванелі, параслі лесам, добра захаваліся. Каля асновы буйных насыпаў адзначаны рэшткі раўкоў шырынёй каля 1,5 м, глыбінёй 0,4—0,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1287в.** Могільнік-3. За 2,7 км на паўднёвы захад ад вёскі, справа ад старой лясной дарогі ў в. Дуброва, за 0,5 км на паўднёвы ўсход ад дарогі ў в. Цераболь, ва ўрочышчы Пясчанік. 13 насыпаў, якія размешчаны ланцугом на пляцоўцы памерам 250×30 м. Вышыня 0,4—0,9 м, дыяметр 4—10 м. Курганы здзірванелі, параслі лесам, каля іх асновы прасочваюцца сляды раўкоў. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1287г.** Могільнік-4. За 6 км на паўночны ўсход ад вёскі. 5 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 9—14 м. Адкрыў і абследаваў у 1979 г. П. Ф. Лысенка. Раскопкі не праводзіліся.

**1287д.** Курган. У 66-м квартале Церабольскага лясніцтва, злева ад старой лясной дарогі ў в. Дуброва. Вышыня 0,5 м, дыяметр 5 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. П. Ф. Лысенка.

*П. Ф. Лысенка.*

**1288. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Вязень. Пахаваны 140 мірных жыхароў вёсак Вязень і Сялец, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў ліпені 1942 г. У 1985 г. на магіле пастаўлены помнік.

**1289. ПОМНІК У ГОНАР МАГІЛЁЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА АБКОМА КП(б)Б І КЛІЧАЎСКАЙ ВАЕННА-АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ** (гіст.). За 400 м на паўночны ўсход ад вёскі. Ва Усакінскіх лясах у Вялікую Айчынную вайну базіраваліся Магілёўскі падпольны абком КП(б)Б і кіраўніцтва Клічаўскай ваенна-аператыўнай групы.

Падпольны абком створаны ЦК КП(б)Б 2.4.1943 г. Сакратары Дз. С. Маўчанскі (да 23.4.1944 г.), М. В. Шпак (з 23.4.1944 г.), члены абкома І. М. Кардовіч (да 15.4.1943 г.), М. П. Каралёў (да 15.9.1943 г.), І. А. Матыль (да 17.6.1943 г.), І. П. Сакалоўскі (да 23.4.1944 г.), П. В. Яхантаў (да 11.8.1943 г.), М. І. Кудзін (памочнік сакратара, 18.4—30.6.1943 г.), Я. І. Заяц (18.4.1943 г.— 14.5.1944 г.), С. Г. Сідарэнка-Салдаценка (з 12.8.1943 г.), Г. Л. Комар (з 23.4.1944 г.), І. П. Станкевіч (з 25.5.1944 г.). Абком КП(б)Б узначальваў 18 падпольных райкомаў КП(б)Б, якія аб'ядноўвалі 164 пярвічныя партарганізацыі, 3672 камуністы партызанскіх фарміраванняў. Накіроўваў дзейнасць Магілёўскага падпольнага абкома ЛКСМБ, Магілёўскага партызанскага злучэння, камуністычнага падполля ў Бабруйску, Круглым, Крычаве, Магілёве і інш. населеных пунктах вобласці, выдаваў лістоўкі, адозвы, зводкі Саўінфармбюро, газету «За Радзіму» (рэдактары А. А. Юшкевіч, з мая 1943 г. А. В. Яблонскі). Арганізоўваў палітыка-масавую работу сярод насельніцтва, узнімаў яго на барацьбу супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Падпольны абком дзейнічаў да 30.6.1944 г.

У ліпені 1943 г. паводле пастановы Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і загада Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групы на базе партызанскіх атрадаў 277, 278, 115-га і 25-га была сфарміравана Клічаўская ваенна-аператыўная група (ВАГ). У верасні 1943 г. атрад 277-ы разгорнуты ў партызанскі полк 277-ы, у снежні 1943 г. у склад Клічаўскай ВАГ уключаны 15-ы партызанскі полк. Дзейнічала на тэрыторыі Клічаўскага, Магілёўскага, Бялыніцкага, Шклоўскага, Быхаўскага, Кіраўскага раёнаў.

Кіраўніцтва ВАГ: сакратары падпольнага райкома КП(б)Б Я. І. Заяц (ліпень 1943 — май 1944), П. М. Вікторчык (май — чэрвень 1944), камандзіры І. З. Ізох (ліпень 1943 — май 1944), М. А. Баранаў (май — чэрвень 1944), начальнік штаба М. А. Баранаў (ліпень 1943 — май 1944). Злучылася з часцямі Чырвонай Арміі 28.6.1944 г. у складзе 277-га і 15-га палкоў, 278, 115-га і 25-га асобных атрадаў; 2824 партызаны.

У 1985 г. у гонар Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і Клічаўскай ВАГ устаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *Т. Р. Чуракова.*

**в. Ядраная Слабада, Доўгаўскі сельсавет**

**1290. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, на правым беразе р. Друць. 5 насыпаў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Курганы здзірванелі, зараслі лесам. Выявіў і абследаваў у 1980 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.




1288. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



1289. *Помнік у гонар Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і Клічаўскай ваенна-аператыўнай групы.*




# КРАСНАПОЛЬСКІ РАЁН

КРАСНАПОЛЛЕ

Кажамякіна

Высокі Борак

Гарадзецкая

Сідараўка

Палуж І-ы

Тур'я

Карма-Пайкі

Пачапы

Новы Свет

Драгатынь

Нов. Ельня

Яноўка

Малы Восаў

Леніна

Беразякі І-я

Халмы

Горы

Мхінічы

Завадок

Сабалі

Горкі

Выдранка

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905-07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі зямлянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

## XII. КРАСНАПОЛЛЕ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, размешчаны на раўнінным рэльефе, за 109 км ад Магілёва, за 51 км ад чыгуначнай станцыі Камунары на лініі Крычаў — Унеча, у вярхоўі р. Тур'я і на правабярэжжы р. Маластоўка (прытокі р. Сож). Вузел аўтамабільных дарог на Чэрыкаў, Касцюковічы, Чачэрск, Слаўгарад.

Вядома з 1784 г. як мястэчка Маластоўка Чэрыкаўскага павета Магілёўскай губерні, цэнтр Краснапольскай воласці. Назву атрымала ад суседняга маёнтка Краснаполле. У 1890 г. у Краснаполлі 2310 жыхароў, 412 дамоў, 60 крам, царква, аптэка, 3 гарбарні, 9 маслабойняў, млын. Належала графам Бенкендорфам. Паводле перапісу 1897 г. было 3248 жыхароў.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У 1924—30 гг. цэнтр раёна Калінінскай, потым Магілёўскай акругі. У 1926 г. у Краснаполлі 2548 жыхароў, у 1939 г.— 3572 жыхары. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак, раённы цэнтр Магілёўскай вобл. З жніўня 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў раёне 1302 жыхароў. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (15.8—1.10.1943 г.) і ЛКСМБ (19.6—1.10.1943 г.). Выдавалася газета «Красное знамя» — орган падпольнага райкома КП(б)Б.

Забудова пасёлка квартальная. Пераважаюць аднапавярховыя драўляныя дамы сядзібнага тыпу. Планіровачную структуру вызначаюць 2 узаемна перпендыкулярныя вуліцы — Ленінская (галоўная магістраль) і Савецкая. У месцы іх перасячэння склаўся грамадскі цэнтр з плошчай і скверам. Тут сканцэнтраваны асноўныя адміністрацыйныя, культурна-асветныя і гандлёва-бытавыя будынкі (райкома партыі, райвыканкома, Дома культуры, банка, універмага, рэстарана).

Першы генплан пасёлка распрацаваны ў 1971 г. Магілёўскім філіялам інстытута «Белдзяржпраект». Сучасная забудова Краснаполля вядзецца паводле праекта дэталёвай планіроўкі 1973 г. (Магілёўграмадзянпраект) і новага генеральнага плана 1980 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва). Ствараюцца новыя жылыя раёны ў заходняй (паміж вуліцамі Ленінскай і Куракі з 2—5-павярховымі дамамі) і паўночнай частках Краснаполля. Фарміруюцца 3 прамысловыя зоны: у паўночнай, паўднёва-заходняй, паўднёва-ўсходняй частках пасёлка. Працуюць агароднінна-сушыльны завод, маслазавод, хлебазавод, ільнозавод, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, міжкалгасбуд, 2 базы перасоўных механізаваных калон.



XII. *Забудова вуліцы Савецкай.*




XII. *Забудова цэнтральнай плошчы.*

Ёсць сярэдняя, васьмігадовая, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная, вячэрняя школы, 3 дашкольныя ўстановы, Дом культуры (пры ім народны тэатр), Дом піянераў і школьнікаў, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Чырвоны сцяг». Помнікі: на 2 брацкіх магілах савецкіх воінаў і землякам, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, на магіле ахвяр фашызму.

Зона адпачынку — бульвар на вул. Гагарына і скверы — цэнтральны і па вул. Савецкай, берагі Тур'і. У паўднёва-заходняй частцы Краснаполля закладзены парк.

*Літ.*: Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976; Новікава Г. Маластоўка. Краснаполле.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1984, № 1.

*У. В. Алісейчык, А. І. Валахановіч.*

**1291. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы па вул. Савецкай. Пахаваны 30 воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1292. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 8 воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1293. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,7 км на паўночны захад ад пасёлка, непадалёку ад могілак. Пахаваны мірныя жыхары населеных пунктаў раёна, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1294. МАГІЛА КАЛЕСНІКАВА** Уладзіміра Несцеравіча (гіст.). На могілках. Першы старшыня Краснапольскага валаснога выканкома забіты ворагамі Савецкай улады ў 1920 г. У 1979 г. устаноўлена надмагілле.

**1295. МАГІЛА САВЕКІНА** Аляксандра Іванавіча (гіст.). На могілках. Начальнік міліцыі А. І. Савекін загінуў у 1920 г. у сутычцы з ворагамі Савецкай улады. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1296. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АНТОНАВУ** Міхаілу Майсеевічу (гіст.). Вул. Савецкая, 19. Устаноўлена ў 1965 г.

Герой Савецкага Саюза М. М. Антонаў нарадзіўся 11.3.1923 г. у г. п. Краснаполле ў сям'і служачых. Член ВЛКСМ. З 1940 г. у Чырвонай Арміі. У 1941 г. скончыў танкавае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з чэрвеня 1941 г. Камандзір танкавага ўзвода 231-га танкавага палка старшы лейтэнант М. М. Антонаў вызначыўся ў ліпені 1943 г. у баях на подступах да г. Арла. 7 разоў вадзіў узвод у атаку, асабіста падбіў 2 самаходныя гарматы праціўніка. Танкісты вывелі са строю 3 цяжкія танкі, 2 спалілі, знішчылі 40 гітлераўцаў. 4.7. 1943 г. з боем першымі ўварваліся ў г. Арол. М. М. Антонаў загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў Арле. Званне



**1291.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Героя Савецкага Саюза прысвоена 27.8.1943 г. Імем героя названы вуліца і школа ў г. п. Краснаполле, дзе ён вучыўся, школа ў рабочым пасёлку Колпны Арлоўскай вобл., вуліца ў Арле. На магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**1297. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВАКСМАНУ** Ісаку Фёдаравічу (гіст.). Вул. Ваксмана, 14. Устаноўлена ў 1965 г.

Герой Савецкага Саюза І. Ф. Ваксман нарадзіўся 25.7.1922 г. у г. п. Краснаполле. Член КПСС з 1943 г. У 1938—40 гг. вучыўся ў Днепрапятроўскім транспартным інстытуце. Працаваў настаўнікам у в. Беразякі Краснапольскага р-на. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Удзельнік баёў пад Сталінградам, на Доне. Вызначыўся 26.11.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра каля Запарожжа. Батарэя пад камандаваннем старшага лейтэнанта І. Ф. Ваксмана падавіла 15 варожых кропак, адбіла 10 контратак, знішчыла танк, 2 аўтамашыны, каля 100 гітлераўцаў. 19.12.1943 г. у час бою, калі скончыліся снарады, падняў байцоў у атаку. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны ў брацкай магіле ў с. Канеўскае Запарожскага р-на. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.2.1944 г. Імем героя названы вуліца ў г. п. Краснаполле і школа ў в. Беразякі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**1298. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЗЕВІНУ** Якаву Давыдавічу (гіст.). Вул. Савецкая, 23. Устаноўлена ў 1979 г.

Дзеяч рэвалюцыйнага руху ў Расіі, адзін з 26 бакінскіх камісараў Я. Д. Зевін нарадзіўся 9.6.1884 г. у г. п. Краснаполле ў сям'і дробнага гандляра. Член РСДРП з 1904 г. Вёў падпольную рэвалюцыйную работу ў Екацярынаславе, Баку, Крывым Рогу і інш. гарадах. Прымыкаў да меншавікоў. У 1911 г. вучыўся ў партыйнай школе ў Ланжумо (каля Парыжа), дзе слухаў лекцыі У. І. Леніна. У 1912 г. быў дэлегатам 6-й (Пражскай) канферэнцыі РСДРП, прадстаўляў групу меншавікоў-партыйцаў. Пасля канферэнцыі цалкам стаў на бальшавіцкія пазіцыі. Быў арыштаваны царскімі ўладамі ў 1907, 1908, 1912, 1916 гг. У 1915 г. член Бакінскага камітэта бальшавікоў. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. працаваў у Маскоўскім Савеце рабочых дэпутатаў. З жніўня 1917 г. у Баку. Адзін з кіраўнікоў барацьбы за ўстанаўленне Савецкай улады ў Азербайджане, з красавіка 1918 г. член Бакінскага СНК, камісар працы. 31 ліпеня арыштаваны, забіты 20.9.1918 г. англійскімі інтэрвентамі і эсэрамі ў ліку 26 бакінскіх камісараў. Імем Я. З. Зевіна названы вуліцы ў Баку і г. п. Краснаполле.




1303. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Активные борцы за Советскую власть в Азербайджане.— Баку, 1957; Колесникова Н. Н. По дорогам подполья: (Из воспоминаний).— Баку, 1966; В памяти народной.— Мн., 1969. *М. В. Кірэйшын.*

**1299. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЖУРНАЛІСТАМ** (гіст.). Вул. Гагарына, 8, на будынку рэдакцыі раённай газеты. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці 6 супрацоўнікаў рэдакцыі газеты «Чырвоны сцяг», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1300. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕКІНУ** Аляксандру Іванавічу (гіст.). Вул. Ленінская, 64. Устаноўлена ў 1979 г. на ўшанаванне памяці начальніка міліцыі А. І. Савекіна, які загінуў у 1920 г. у сутычцы з ворагамі Савецкай улады.

**1301. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 2, на будынку выканкома пасялковага савета. Устаноўлена ў 1965 г. з нагоды 20-годдзя Перамогі над фашысцкай Германіяй




1313. *Курганны могільнік. План.*

у гонар воінаў 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту.

30.9.1943 г. воіны 1022-га стралковага палка 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Бранскага фронту вызвалілі першы населены пункт раёна — в. Какойск. Уначы 1.10.1943 г. часці дывізіі завязалі бой за г. п. Краснаполле ў раёне льнозавода, у 8 гадзін раніцы пасёлак быў поўнасцю ачышчаны ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**1302. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Антонава. На ўшанаванне памяці 130 жыхароў былой в. Маластоўка (з 1978 г. у межах г. п. Краснаполле), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**1303. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На скрыжаванні вуліц Савецкай і Калініна. На ўшанаванне памяці 23 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Аляксандраўка 1-я, Высакаборскі сельсавет**

**1304. МАГІЛА ДУБРОЎКІ** Івана Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан І. П. Дуброўка загінуў у 1942 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Асінаўка, Наваельненскі сельсавет**

**1305. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 283-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Беразякі 1-я, Наваельненскі сельсавет**

**1306. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 34 воіны 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Беразякі 2-я, Наваельненскі сельсавет**

**1307. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў 283-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Бірулі, Горскі сельсавет**

**1308. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Буглаі, Высакаборскі сельсавет**

**1309. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г.

пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Буглаі, Мхініцкі сельсавет**

**1310. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Палуж, у арэшніку. Захаваліся 4 насыпы вышынёй 0,4—1,5 м, дыяметрам 2—5 м. Два курганы пашкоджаны ямамі. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся. *С. М. Васільева.*

**в. Выдранка, Сабалеўскі сельсавет**

**1311. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 120 партызан і мірных жыхароў, загубленых нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—42 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1312. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 52 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1313. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на ўсход ад вёскі, на беразе р. Каўпіта, ва ўрочышчы Курганне. 56 апоўзлых насыпаў вышынёй 0,4—2 м, дыяметрам 6—12 м. Частка насыпаў пашкоджана. Курганы параслі хваёвым лесам, здзірванелі. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*С. М. Васільева.*

**1314. ЦАРКВА ДЗМІТРЫЯ РАСТОЎСКАГА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва.

Крыжападобны ў плане чатырохзрубны храм з пяціграннай алтарнай часткай. Па восі ўвахода паслядоўна прырублены бабінец з бакавымі прыбудовамі і дадатковы аб'ём. Над сярэдкрыжжам васьмігранны светлавы барабан з шатром. Званіца (васьмярык на чацверыку) надбудавана над бабінцам і накрыта гранёным шатром. У дэкоры выкарыстаны навісі ў выглядзе «бочак» над цэнтральным і бакавымі ўваходамі, разныя ліштвы, падзоры. У інтэр'еры ўсе зрубы звязаны шырокімі праёмамі. Хоры вырашаны ў выглядзе лёгкіх галерэй у бакавых зрубах.

У архітэктуры царквы традыцыйная кампазіцыя спалучаецца з элементамі стылю «мадэрн». *У. В. Алісейчык.*



1314. *Царква Дзмітрыя Растоўскага. План.*

**пас. Гара, Тур'яўскі сельсавет**

**1315. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне пасёлка, каля жывёлагадоўчай фермы. 6 насыпаў (5 з іх моцна апоўзлыя) вышынёй 1—2 м, дыяметрам 4—8 м. Адзін курган, які знаходзіцца на сядзібе, вельмі здзірванелы, мае вышыню 3,2 м, дыяметр 1 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся. *С. М. Васільева.*



1315. *Курганны могільнік. План.*

**в. Гарадзецкая, Сідараўскі сельсавет**

**1316. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 89 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарэзна, Высакаборскі сельсавет**

**1317. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Клачавец. Пахаваны 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1318. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 11 воінаў і 3 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашы-



1314. *Царква Дзмітрыя Растоўскага.*

сцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных воіны 875-га асобнага сапёрнага батальёна. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Гацкевіч, Наваельненскі сельсавет**

**1319. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). За 1,5 км на поўнач ад пасёлка. Пахаваны 2 воіны і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1320. МАГІЛА ЯНЧЭЎСКАГА** Уладзіміра (гіст.). На могілках. Партызан 3-га асобнага атрада У. Янчэўскі загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Горанка, Горскі сельсавет**

**1321. РАДЗІМА ТКАЧОВА** Міколы (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Мікола (Мікалай Гаўрылавіч) Ткачоў нарадзіўся 8.3.1918 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1950 г. З 1933 г. працаваў рабочым на мэблевай фабрыцы ў Віцебску. Пасля заканчэння Беларускага дзяржаўнага інстытута народнай гаспадаркі імя В. У. Куйбышава (1939 г.) працаваў у газеце «Піянер Беларусі», у сістэме кінафікацыі, эканамістам-планавіком на Палессі. У 1940 г. прызваны ў Чырвоную Армію. У Вялікую Айчынную вайну ваяваў на фронце, потым у партызанах, быў кантужаны. З кастрычніка 1943 г. супрацоўнік Магілёўскай абласной газеты «За Радзіму». З 1949 г. адказны сакратар часопіса «Полымя», з 1957 г. галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва». У 1959—72 гг. сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. З 1972 г. дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура». Друкаваўся з 1938 г. Аўтар рамана «Згуртаванасць» (1949—50 гг.), у якім паказаны ўсенародны характар партызанскага руху на часова акупіраванай фашыстамі тэрыторыі Беларусі, зборніка апавяданняў і нарысаў «Пошукі скарбаў» (1963 г.).

Памёр М. Г. Ткачоў 20.4.1979 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску. Яго імя прысвоена цэнтральнай бібліятэцы ў г. п. Краснаполле.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Горкі, Сабалеўскі сельсавет**

**1322. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Гарадок, на левым беразе р. Покаць. Авальная пляцоўка памерам 18×23 м з усіх бакоў абкружана валам вышынёй 1,2—1,5 м, шырынёй ад 3,5 да 6 м. Захаванасць здавальняючая. Вядома з 1873 г., абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. М. Васільева.*

**в. Горна, Высакаборскі сельсавет**

**1323. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у верасні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Горы, цэнтр сельсавета**

**1324. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Касцёл, на прадаўгаватым мысе, утвораным вусцямі 2 глыбокіх яроў і нізінай р. Палуж. Пляцоўка авальная, памерам 65×46 м, выцягнута з захаду на ўсход і з усіх бакоў умацавана валам вышынёй 0,3—3 м, шырынёй 5—6 м. Вал у некалькіх месцах папсаваны ямамі. У заходняй частцы назіраецца разрыў, відаць, тут быў уваход. З паўднёва-заходняга боку гарадзішча ўмацавана яшчэ адным невялікім валам (вышыня каля 1,5 м, шырыня каля 2 м), аддзеленым ад асноўнага вузкім ровам (глыбіня 2 м). Пляцоўка здзірванела, схілы парaслі лесам. Гарадзішча вядома з 1873 г., абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Культурны пласт 0,3—0,4 м. Знойдзены 5 дробных фрагментаў ляпной і 2 абломкі ганчарнай керамікі. Гарадзішча, мабыць, узнікла ў раннім жалезным веку і неаднаразова выкарыстоўвалася ў эпоху Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. М. Васільева.*




1322. *Гарадзішча. План.*




1324. *Гарадзішча. План.*

**в. Гасліў, Высакаборскі сельсавет**

**1325. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, асобнага атрада № 45 «За Радзіму», якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Гракоўка, Сідараўскі сельсавет**

**1326. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1327. МАГІЛА ЗАДАРОЖНАГА** Васіля Іванавіча (гіст.). За 3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Партызан атрада «Перамога» В. І. Задарожны загінуў 28.12.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1328. МАГІЛА КІЯМАВА** Ахмета (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Партызан 3-га асобнага атрада А. Кіямаў загінуў 28.12.1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1329. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Воін загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1982 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Грыбы, Горскі сельсавет**

**1330. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Крамянец, на




1330. *Курганны могільнік. План.*

правым беразе р. Палуж. Захавалася 14 апоўзлых насыпаў (некаторыя пашкоджаны ямамі і лісінымі норамі) вышынёй 0,4—3 м, дыяметрам 5—12 м. Курганы здзірванелі і параслі арэшнікам. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. М. Васільева.*

**1331. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на сядзібах каля могілак. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1,5 і 2 м, дыяметрам 10 і 12 м. Адзін курган моцна апоўзлы (вышыня 0,4 м, дыяметр 3 м). Адкрыла і абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дзернавая, Горскі сельсавет**

**1332. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на высокім левым беразе р. Палуж, на былых могілках. Захаваліся 2 моцна апоўзлыя курганы вышынёй 0,5 і 3 м, дыяметрам 5 і 10 м. Насыпы здзірванелі. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. М. Васільева.*

**в. Драгатынь, Наваельненскі сельсавет**

**1333. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Якушоўка. Захаваліся 3 насыпы вышынёй 1,5, 2 і 2,5 м, дыяметрам 8—10 м. Курганы здзірванелі і параслі дрэвамі. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ельня, Сідараўскі сельсавет**

**1334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 52 воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кажамякіна, Сідараўскі сельсавет**

**1335. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На 9-м км аўтамабільнай дарогі Краснаполле — Чэрыкаў, за 0,5 км злева ад яе. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1336. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Краснаполле — Чэрыкаў. Створаны ў 1967 г. на месцы бою партызан 2-й Клятнянскай брыгады супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. Комплекс складаецца са стэлы з гарэльефнай выявай савецкіх воінаў і скульптуры жанчыны ў жалобе



1336. *Мемарыяльны комплекс землякам.*

на фоне стэлы. Па другі бок дарогі насыпаны курган (вышыня 8 м), на вяршыні якога пастаўлены 5-метровы абеліск.

**1337. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 107 жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Казелле, Мхініцкі сельсавет**

**1338. РАДЗІМА КУРАКІ** Міхаіла Канстанцінавіча (гіст.).

Рускі металург М. К. Курака нарадзіўся 23.9.1872 г. Вучыўся ў Полацкім кадэцкім корпусе і Горацкім земляробчым вучылішчы. З 1890 г. працаваў на металургічных заводах поўдня Расіі кавалём, гарнавым, старшым майстрам, начальнікам доменнага цэха. На Марыупальскім заводзе «Рускі правіданс» Курака першы ў свеце расплавіў у горне доменнай печы застылую масу чыгуну. У 1903 г. прапанаваў канструкцыю і пабудаваў першы ў Расіі механічны скіпавы пад'ымальнік і домну з аўтаматычным размеркаваннем шыхты. У Днепрапятроўску пазнаёміўся з прафесійным рэвалюцыянерам Р. І. Пятроўскім, наведваў нелегальны марксісцкі гурток. У час рэвалюцыйных падзей 1905 г. уваходзіў у заводскі забастовачны камітэт Краматорскага металургічнага завода, узначальваў баявую дружыну. У канцы года вярнуўся на радзіму, актыўна ўдзельнічаў у арганізацыі сялянскіх выступленняў. Быў арыштаваны і прыгавораны да ссылкі на 3 гады. З 1908 г. працаваў на Юзаўскім металургічным заводзе, дзе стварыў першую ў Расіі школу доменшчыкаў. Распрацаваў арыгінальную канструкцыю горна, якая і зараз выкарыстоўваецца на доменных печах, удасканаліў фурменны прыбор для падачы вы дзімання. У час Кастрычніцкай рэвалюцыі ўваходзіў у Савет рабочых і сялянскіх дэпутатаў Юзаўкі. У 1917 г. выехаў у Кузбас. Пад кіраўніцтвам М. К. Куракі распрацаваны праект Кузнецкага металургічнага завода. Быў старшынёй павятовага савета народнай гаспадаркі. Памёр 8.2.1920 г. ад тыфу.

На тэрыторыі Кузнецкага металургічнага камбіната М. К. Кураку пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Люди русской науки.— М., 1965; Бек А. А. Мои герои.— М., 1967; Александров И., Григорьев Г. Михаил Курако.— [3 изд.].— М., 1958.— (Жизнь замечательных людей); Дольников А. Слово о моем земляке.— Неман, 1971, № 9. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Казельская Буда, Яноўскі сельсавет**

**1339. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін загінуў у 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1340. РАДЗІМА ДУБРОЎСКАГА** Міхася (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік Міхась (Міхаіл Георгіевіч) Дуброўскі нарадзіўся 21.9.1897 г. у сялянскай сям'і. У час 1-й сусветнай вайны прызваны ў царскую армію. Змагаўся за ўладу Саветаў у Смаленску і на Клімаўшчыне. У 1918—21 гг. служыў у Чырвонай Арміі. У 1925 г. скончыў Вышэйшы літаратурна-мастацкі інстытут імя В. Я. Брусава. У 1925—26 гг. навуковы супрацоўнік Літаратурнай камісіі Інбелкульта. У 1926—45 гг. жыў і працаваў у Маскве (з 1941 г. да 1942 г. у Башкірыі). У 1941 г. скончыў аспірантуру пры Маскоўскім інстытуце гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. З 1945 г. выкладчык Брэсцкага настаўніцкага інстытута, у 1949—50 гг. у Літаратурным інстытуце імя М. Горкага (Масква). З 1950 г. у Гродзенскім педінстытуце імя Я. Купалы. Першы верш апублікаваў у 1918 г. Аўтар публіцыстычных і агітацыйных вершаў, вершаваных апавяданняў, п'есы «Уласнаю рукой» (з П. Шастаковым), надрукаванай у 1927—28 гг. У 1926 г. пераклаў на беларускую мову паэму О. Уайльда «Балада Рэдынгскай турмы».

Памёр М. Дуброўскі 11.9.1983 г. у Гродне.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Калінавы Гай, Высакаборскі сельсавет**

**1341. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 150 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фа-

шысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карма-Пайкі, Наваельненскі сельсавет**

**1342. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 283-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1343. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганне, на ўскраіне хваёвага лесу. 16 здзірванелых і парослых хмызняком насыпаў вышынёй 0,7—2 м, дыяметрам 5—8 м. Некалькі насыпаў пашкоджаны. Даследаваў у 1893 г. С. Ю. Чалоўскі, які раскапаў 4 курганы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Знойдзены жалезная сякера, нож і гаршчок. У 1978 г. могільнік абследавала С. М. Васільева. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**в. Касцюкоўка, Высакаборскі сельсавет**

**1344. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Касцягаўка, Яноўскі сельсавет**

**1345. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 9 воінаў 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Клясін, Тур'яўскі сельсавет**

**1346. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на могілках. 8 моцна апоўзлых здзірванелых насыпаў вышынёй 1,2—3 м, дыяметрам 6—12 м. Даследаваў у 1893 г. С. Ю. Чалоўскі, які раскапаў 1 курган. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавою на ўсход. Знойдзены мужчынскі і жаночы шкілеты, а таксама жалезны нож, пацеркі, скроневыя кольцы з дроту. У 1978 г. абследавала С. М. Васільева. Могільнік адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**1347. РАДЗІМА ЦЮЛЬГІ** Аляксея Мікалаевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. М. Цюльга нарадзіўся 12.5.1922 г. у сялянскай сям'і. У 1946 г. скончыў танкавае вучылішча, у 1951 г.— курсы лейтэнантаў. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. партызан атрада імя Калініна, пасля — 1-й Гомельскай партызанскай брыгады. З 1943 г. на Беларускім, 1-м Украінскім франтах. Разведчык 889-га стралковага палка, радавы А. М. Цюльга вызначыўся ў ліпені 1944 г. у баях на Вісле. У раёне г. Юзэфаў 29.7.1944 г. разам з групай разведчыкаў пераправіўся цераз Віслу, разведаў абарону ворага, што дало магчымасць савецкім воінам паспяхова захапіць плацдарм. Каля мястэчка Кісэлін узяў у палон 2 «языкоў». Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.9.1944 г. Пасля вайны працаваў на электрахімічным камбінаце ў г. Чырчык Узбекскай ССР. З 1949 г. служыў у Савецкай Арміі. Трагічна загінуў 18.11.1953 г. Яго імя прысвоена школе ў в. Леніна Краснапольскага р-на.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Князёўка, Тур'яўскі сельсавет**

**1348. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Курганы. Захавалася 5 насыпаў вышынёй 0,4—0,7 м, дыяметрам 3—5 м, адзін вышынёй 2 м, дыяметрам 8 м. Насыпы моцна апоўзлыя і абараныя. Могільнік вядомы з 1873 г., у 1892 г. С. Ю. Чалоўскі раскапаў 1 курган. Пахавальны абрад — няпоўнае трупаспаленне галавою на захад, рэчаў не знойдзена. У 1978 г. абследавала С. М. Васільева. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**в. Курбакі, Яноўскі сельсавет**

**1349. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 21 воін, што загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных воіны 269-й стралковай дывізіі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Леніна, Горскі сельсавет**

**1350. РАДЗІМА ШАМЯНКОВА** Апанаса Дзмітрыевіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант (1945 г.) А. Дз. Шамянкоў нарадзіўся 10.2.1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1919 г. У 1919 г. скончыў Кіеўскія пяхотныя курсы, у 1927 г.— Аб'яднаную Кіеўскую школу камандзіраў РСЧА, у 1942 г.— паскораны курс Ваеннай акадэміі імя Фрунзе, у 1950 г.— Вышэйшыя акадэмічныя курсы пры Ваеннай акадэміі Генштаба. З дзяцінства парабкаваў у памешчыка. У 1911—15 гг. працаваў на шахтах у Данбасе. У арміі з 1915 г. З 1918 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Грамадзянскай вайны, камандзір узвода, ваяваў супраць войск Краснова, Пятлюры, Калчака, Дзянікіна, Урангеля. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Паўднёва-Заходнім, 3-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах, камандзір стралковай дывізіі, намеснік камандуючага арміяй па тылу, намеснік камандзіра, камандзір корпуса. Удзельнік вызвалення Украіны, Беларусі, Вісла-Одэрскай, Усходне-Памеранскай, Берлінскай аперацый. 1.8.1944 г. дывізія пад камандаваннем А. Дз. Шамянкова фарсіравала р. Вісла, выбіла фашыстаў з г. Магнушаў, знішчыла 1200 салдат і афіцэраў праціўніка, 5 танкаў, 12 гармат. 23.2.1945 г. прыняла ўдзел у вызваленні г. Познань. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена А. Дз. Шамянкову 6.4.1945 г. Да 1953 г. служыў у Савецкай Арміі. Аўтар кнігі «Штурм Цытадэлі» (1969 г.). Памёр А. Дз. Шамянкоў 8.3.1972 г. у Маскве.

*Літ.:* Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965; Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Лешчанская Гута, Высакаборскі сельсавет**

**1351. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 пар-




**1343.** *Курганны могільнік. План.*



**1346.** *Курганны могільнік. План.*

тызан, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лютнянская Буда, Сідараўскі сельсавет**

**1352. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Малы Восаў, Наваельненскі сельсавет**

**1353. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны воіны 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Хутары, Сідараўскі сельсавет**

**1354. РАДЗІМА ФУРСАВА** Васіля Ягоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза В. Я. Фурсаў нарадзіўся 10.3.1920 г. у сялянскай сям'і. У 1933 г. разам з бацькамі пераехаў у Данбас у г. Лісічанск, дзе вучыўся ў школе, працаваў на шахце. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. Удзельнік абароны Кіева, Растова-на-Доне, баёў на Паўночным Каўказе, штурму Наварасійска. Вызначыўся ў Керчанска-Эльтыгенскай дэсантнай аперацыі 1943 г. У ноч на 1.11.1943 г. у складзе перадавога атрада 1339-га стралковага палка 318-й Наварасійскай стралковай дывізіі старшына В. Я. Фурсаў высадзіўся на поўдзень ад Керчы ў раёне Эльтыгена. Гранатамі падавіў агнявую кропку і прарваўся да дота праціўніка. Захапіўшы плацдарм, байцы на чале з В. Я. Фурсавым адбілі некалькі варожых контратак. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 17.11.1943 г. Памёр ад ран 17.11.1943 г. На месцы бою каля Эльтыгена ў 1973 г. пастаўлены помнік, на якім сярод іншых прозвішчаў воінаў-герояў выбіта прозвішча В. Я. Фурсава. Імем героя названа вуліца ў г. Лісічанск Варашылаўградскай вобл.

*Літ.:* Салаўёў М. А. Адважны дэсантнік.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1982, № 4. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Мхінічы, цэнтр сельсавета**

**1355. КУРГАН** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Каўпіта. Вышыня насыпу 1,8 м, дыяметр 7 м. Курган здзірванелы. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева.

**1356. РАДЗІМА БАНКУЗАВА** Анатоля Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза генерал-маёр (1953 г.) А. І. Банкузаў нарадзіўся 15.1.1921 г. у сям'і настаўнікаў. Член КПСС з 1942 г. У 1947 г. скончыў Ваенную акадэмію імя М. В. Фрунзе. У Чырвонай Арміі з 1938 г.— курсант Саратаўскага ваеннага вучылішча. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Карэльскім, Заходнім, Бранскім, Калінінскім, 2-м і 1-м Прыбалтыйскіх, 3-м Беларускім франтах. Удзельнік абароны Ленінграда, Петразаводска, Мурманска. У час Беларускай аперацыі 1944 г. вызваляў Віцебск, Оршу, Барысаў, Мінск, Ліду. Удзельнік баёў за Тыльзіт, Інстэрбург, Кёнігсберг. Камандзір гвардзейскага стралковага палка А. І. Банкузаў вызначыўся пры штурме крэпасці і ваенна-марской базы Пілаў у красавіку 1945 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 5.5.1945 г. Да 1962 г. служыў у Савецкай Арміі, потым жыў і працаваў у Маскве. Памёр А. І. Банкузаў 21.5.1980 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**1357. РАДЗІМА ШАШАЛЕВІЧА** Васіля Антонавіча (гіст.).

Беларускі савецкі драматург В. А. Шашалевіч нарадзіўся 9.1.1897 г. у сям'і валаснога пісара. Скончыў духоўную семінарыю ў Магілёве, паступіў у Яраслаўскі юрыдычны ліцэй, які вымушаны быў пакінуць з-за матэрыяльных пястач. З 1917 г. настаўнічаў у в. Ясенка, мястэчку Краснаполле, пазней пераехаў у Мінск, дзе настаўнічаў да 1924 г.

Літаратурную дзейнасць пачаў у 1920-я гады. П'еса «Апраметная» ў 1924 г. была пастаўлена на сцэне Беларускай драматычнай студыі, у 1926 г.— у БДТ-2. Напісаў п'есы «Змрок» (пастаўлена БДТ-1 у 1927 г.), «Воўчыя ночы» (1928—29 гг.), «Рой» (1931 г.), «Сімфонія гневу» (пастаўлена БДТ-1 у 1935 г.). У сваіх творах пісьменнік адлюстроўваў жыццё беларускага сялянства 1920—30-х гадоў, станаўленне сацыялістычнага ладу, барацьбу нямецкай інтэлігенцыі з фашысцкімі парадкамі ў Германіі. Памёр В. А. Шашалевіч 23.10.1941 г.

*Літ.:* Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981. *М. В. Кірэйшын.*




1360. *Курганны могільнік. План.*

**в. Мядзвёдаўка, Сідараўскі сельсавет**

**1358. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Наўмесны, Наваельненскі сельсавет**

**1359. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка. На могілках былой в. Крамнёўка. Пахаваны воіны 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Новая Ельня, цэнтр сельсавета**

**1360. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Красніца, абапал дарогі на в. Карма Доўгая. Захавалася 10 насыпаў вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 5—7 м. Курганы апоўзлыя, здзірванелыя, параслі хвойнікам. Тры насыпы пашкоджаны ямамі. Могільнік вядомы з 1873 г. Даследаваў у 1888 г. Е. Р. Раманаў, які раскапаў 3 насыпы. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. У жаночых пахаваннях знойдзены пацеркі, скроневыя кольцы і віты бранзалет з сярэбранага дроту, вітыя сярэбраныя пярсцёнкі, кольца з дроту, іголка. У 1978 г. абследавала С. М. Васільева. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак 1888 г. захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**1361. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 6 км на паўночны ўсход ад вёскі, за 1,2 км ад былой в. Шпачча, ва ўрочышча Лісіныя Горы. 21 курган вышынёй 0,6—2 м, дыяметрам 5—12 м. Насыпы здзірванелі і параслі дрэвамі. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Новы Свет, Горскі сельсавет**

**1362. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, справа ад дарогі на в. Палуж, на могілках. Захаваліся 2 здзірванелыя насыпы вышынёй 0,5 і 1,5 м, дыяметрам 6 і 10 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Палуж 1-ы, Высакаборскі сельсавет**

**1363. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 савецкіх воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 1018-га стралковага палка, 213-га асобнага танкавага батальёна. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1364. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, злева ад шашы Краснаполле — Касцюковічы, каля будынка магазіна. Захаваліся 2 курганы дыяметрам 10 м, вышынёй 1,5 і 2 м. Насыпы абараныя, здзірванелыя. Вядомы з 1873 г. У 1893 г. С. Ю. Чалоўскі раскапаў 1 курган. Пахавальны абрад — трупаспаленне. Знойдзены перапаленыя косці жывёл. У 1978 г. абследавала С. М. Васільева. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**в. Пачапы, Тур'яўскі сельсавет**

**1365. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Хоціна, у полі каля лесу. Захаваліся 2 насыпы вышынёй 1,2 і 1,5 м, дыяметрам 6 і 8 м. Курганы здзірванелі, захаванасць здавальняючая. Вядомы з 1873 г., абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**1366. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 54 жыхароў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлена стэла.




**1361.** *Курганны могільнік. План.*

**в. Перамога. Мхініцкі сельсавет**

**1367. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 6 воінаў 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Расумаха 1-я. Высакаборскі сельсавет**

**1368. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1369. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1370. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сабалі, цэнтр сельсавета**

**1371. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, за 50 м ад будынка школы. Захаваліся 4 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 5—8 м, якія моцна апаўзлі, здзірванелі і параслі дрэвамі. Адкрыў у 1970 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Сасновіца 1-я, Высакаборскі сельсавет**

**1372. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сідараўка, цэнтр сельсавета**

**1373. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. Сярод пахаваных воіны 269-й стралковай дывізіі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1374. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Курганне. 28 насыпаў вышынёй 0,4—1 м, дыяметрам 3—7 м. Курганы моцна апаўзлі, параслі дрэвамі, многія пашкоджаны ямамі. Вядомы з 1873 г., даследавалі ў 1892 г. М. В. Фурсаў і С. Ю. Чалоўскі, абследавала ў 1978 г. С. М. Васільева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.



**1377.** *Помнік землякам.*

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Соловьева Г. Ф. Погребальные обряды.— У кн.: Древности железного века в междуречье Десны и Днепра. М., 1962. *С. М. Васільева.*

**1375. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. У Вялікую Айчынную вайну нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі каля вёскі больш за 100 савецкіх грамадзян, сярод пахаваных — партызаны і іх сем'і. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Трубільня, Тур'яўскі сельсавет**

**1376. РАДЗІМА ВАРАПАЕВА** Івана Кірылавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза генерал-маёр артылерыі (1944 г.) І. К. Варапаеў нарадзіўся 7.4.1905 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1928 г. У 1934 г. скончыў Акадэмічныя курсы ўдасканалення камсаставу. У 1924 г. працаваў на чыгуналіцейным заводзе ў Гомелі. У Чырвонай Арміі з 1927 г.




**1374.** *Курганны могільнік. План.*

Удзельнік нацыянальна-рэвалюцыйнай вайны ў Іспаніі 1936—39 гг., вызваленна Заходняй Беларусі ў 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, 3-м Украінскім і 1-м Беларускім франтах, вызваляў Украіну, Беларусь, Польшчу; камандаваў артылерыйскім палком, артылерыяй дывізіі, корпусам. Удзельнік Сталінградскай і Курскай бітваў. Вызначыўся ў бітве за Віслу ў жніўні 1944 г. За месяц наступальных баёў артылерыя корпуса знішчыла 106 танкаў і самаходных установак, 172 гарматы і мінамёты, больш за 1000 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 26.10.1944 г. Да 1950 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр 10.11.1959 г. Пахаваны ў г. Каломна Маскоўскай вобл. На магіле пастаўлены помнік. Імя героя прысвоена Клясінскай школе ў Краснапольскім р-не.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. В. Кірэйшын.*

**в. Тур'я, цэнтр сельсавета**

**1377. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 182 жыхароў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Халмы, Мхініцкі сельсавет**

**1378. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на поўнач ад вёскі, каля дарогі на в. Перамога. Пахаваны 6 воінаў 269-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1379. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Яноўка, цэнтр сельсавета**

**1380. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА І КОСАВА** Якава Дзянісавіча (гіст.). На могілках. Пахаваны воін і партызан 3-га асобнага атрада Я. Дз. Косаў, які загінуў 28.9.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

# КРУГЛЯНСКІ РАЁН






Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

## XIII. КРУГЛАЕ

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на р. Друць. За 78 км ад Магілёва, 19 км ад чыгуначнай станцыі Талачын, на лініі Орша — Мінск, вузел аўтамабільных дарог на Магілёў, Шклоў, Талачын, Бялынічы.

У Вялікім княстве Літоўскім вядома як прыватная вёска, якая размяшчалася на поўдзень ад Друцка. З 2-й паловы 16 ст. у Аршанскім павеце Віцебскага ваяводства. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расійскай імперыі. З 1785 г. мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага павета. У канцы 18 ст. дзейнічала прыгонная палатняная мануфактура, на якой працавала 5 рабочых. Мястэчка належала Варанцовым, Крапоткіным. У Айчынную вайну 1812 г. у Круглым у лістападзе 1812 г. размяшчаліся рускія войскі. Праз Круглае праходзілі дарогі Магілёў — Лепель і на Шклоў, што садзейнічала развіццю гандлёвых сувязей у мястэчку. Штогод адбываліся 3 кірмашы. У 1880-я гады тут былі царква, царкоўнапрыходскае вучылішча, некалькі крам, крухмальны завод, вадзяны млын. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. сяляне Круглянскай воласці захапілі памешчыцкі луг і скасілі яго. Хваляванні сялян былі падаўлены ваеннай сілай. У пачатку 20 ст. у Круглым 1602 жыхары, 592 драўляныя будынкі, з іх 166 жылых (1908 г.), народнае вучылішча, якое размяшчалася ў пабудаваным (1910 г.) земствам будынку. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У лютым — кастрычніку 1918 г. мястэчка акупіравана войскамі кайзераўскай Германіі. Дзейнічаў Круглянскі валасны ваенна-рэвалюцыйны камітэт. У 1917—18 гг. Круглае ў складзе Заходняй вобласці (з верасня 1918 г.— Заходняй камуны). У студзені — лютым 1919 г. у складзе Беларускай ССР, з лютага 1919 г. у РСФСР, з красавіка 1919 г. у Гомельскай губерні. Увосень 1918 г. былое народнае вучылішча рэарганізавана ў школу 1-й ступені, у 1919 г. адкрыта школа 2-й ступені. Пасля першага ўзбуйнення БССР (сакавік 1924 г.) мястэчка ўвайшло ў склад БССР. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна ў Аршанскай акрузе. 8.7.1931 г. Круглянскі р-н быў скасаваны. Вёска Круглае з гэтага часу знаходзілася ў Талачынскім р-не. У лютым 1935 г. Круглянскі р-н адноўлены, са студзеня 1938 г. у Магілёўскай вобл.

У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 28.6.1944 г. Круглае было акупіравана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі з ліпеня 1941 г. да снежня 1943 г. Круглянскае камуністычнае падполле, падпольныя райкомы КП(б)Б (13.3. 1943 г.—29.6.1944 г.) і ЛКСМБ (23.3. 1943 г.—29.6.1944 г.), 8-я Круглянская партызанская брыгада (з жніўня




XIII. *Забудова вуліцы Савецкай.*

1943 г. Круглянская ваенна-аператыўная група) і інш. партызанскія фарміраванні. Падпольны райком КП(б)Б выдаваў газету «Партизанский путь».

16.9.1959 г. у сувязі з узбуйненнем раёнаў Круглянскі р-н скасаваны, яго тэрыторыя перададзена ў склад Бялыніцкага. З 1966 г. Круглянскі р-н адноўлены, з 11.3.1967 г. Круглае — гарадскі пасёлак.

Архітэктурна-планіровачная структура пасёлка пераважна прамавугольная. Невялікія кварталы забудаваны драўлянымі аднапавярховымі дамамі. Паводле генплана, распрацаванага ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, прадугледжана забудова 2 жылых раёнаў (цэнтральны і паўднёвы) і 2 прамысловых (паўночны і паўднёвы). Адміністрацыйна-грамадская і гандлёвая зоны развіваюцца ўздоўж галоўнай вуліцы — Савецкай. Тут знаходзіцца цэнтр пасёлка, што склаўся гістарычна, размешчаны будынкі Дома Саветаў, райкома КПБ і райкома ЛКСМБ, раённай бальніцы, універмага, прадуктовага магазіна, камбіната бытавога абслугоўвання, сталовай і рэстарана, аптэкі і інш.

Працуюць: камбінат будаўнічых матэрыялаў, ільнозавод, маслазавод (у складзе Магілёўскага малочнага завода), хлебазавод, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясніцтва. У пасёлку цэнтральныя сядзібы саўгасаў «Круглянскі» і «Усход», сярэдняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, васьмігадовая школа-інтэрнат, яслі-сад, Дом культуры, кінатэатр, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца газета «Сельскае жыццё». Помнікі: У. І. Леніну; на магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу (бацька і два сыны Ракушавы); на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; у гонар падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі; землякам.

Зона адпачынку — парк імя 50-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі ў паўднёвай частцы пасёлка і Цяцерынскае вадасховішча.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9. Верхнее Поднепровье и Белоруссия.— СПб., 1905; Революционное движение в Белоруссии 1905—1907 гг.: Документы и материалы.— Мн., 1955; Богданович М. История Отечественной войны 1812 года по достоверным источникам. Т. 3.— СПб., 1860; Революционные комитеты БССР (ноябрь 1918 г.— июль 1920 г.).— Мн., 1961; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*М. І. Камінскі, В. М. Ладзіс.*

**1381. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка, у скверы. Пахаваны 50 воінаў, якія загінулі пры вызваленні пасёлка ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і 5 партызан, што загінулі ў баях з ворагам у 1942—43 гг.

У ходзе Беларускай аперацыі 1944 г. 1-ы асобны гвардзейскі матацыклетны полк 5-й гвардзейскай танкавай арміі (камандуючы маршал бранятанкавых войск П. А. Ротмістраў) 3-га Беларускага фронту, узмоцнены танкамі і артылерыяй, вёў наступленне ўздоўж р. Друць з мэтай авалодаць г. п. Круглае і выйсці да р. Бярэзіна. Пад вечар 27 чэрвеня гвардзейцы падышлі да пасёлка, у якім размяшчалася каля 2 батальёнаў пяхоты праціўніка. У выніку бою, які працягваўся некалькі гадзін, савецкія воіны ў ноч на 28.6. 1944 г. вызвалілі пасёлак.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына з дзіцем на руках, а таксама пліта з імёнамі загінуўшых.

*У. У. Бянько.*

**1382. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Магілёўская, насупраць



1381. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

могілак. Пахаваны 515 жыхароў г. п. Круглае, вёсак Цяцерын і Хацькова, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1383. МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). Вул. Савецкая, на тэрыторыі школы-інтэрната. Пахаваны актыўныя змагары за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады ў Круглянскім р-не Вавіла Іванавіч Ракушаў і яго сыны — Фёдар і Рыгор.

В. І. Ракушаў у час Рэвалюцыі 1905—07 гг. меў сувязь з бальшавікамі, атрымліваў ад іх і распаўсюджваў сярод сялян лістоўкі і інш. прапагандысцкую літаратуру. Пад яго кіраўніцтвам у в. Ліхінічы Круглянскага р-на створана маладзёжная рэвалюцыйная падпольная арганізацыя. Удзельнічаў у рэвалюцыйным выступленні сялян вёскі ў 1906 г. Быў арыштаваны царскімі ўладамі і высланы на катаржныя работы ў Нарыльскі край. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі вярнуўся ў Круглае. Кіраваў падзелам панскай зямлі, арганізаваў камітэт беднаты. Першым уступіў у створаную каля Оршы камуну «Праца».

Ф. В. Ракушаў — старэйшы сын В. І. Ракушава. Адзін з першых беларускіх селькораў. Арганізатар і сакратар саюза сялянскай моладзі ў вёсцы. Актыўна супрацоўнічаў у газетах «Новая деревня» (Гомель), «Соха и молот» (Магілёў), «Крестьянская газета» (Масква). Разам з братам, камсамольцам Р. В. Ракушавым выпускаў у Ліхінічах насценную газету «Факел» — адну з першых у нашай краіне, арганізаваў хату-чытальню, гурткі па ліквідацыі непісьменнасці.

Студзеньскай ноччу 1925 г. ворагі Савецкай улады па-зверску забілі Вавілу Іванавіча і яго сыноў Фёдара і Рыгора. У 1967 г. в. Ліхінічы перайменавана ў Ракушава. Імем Фёдара Ракушава названа школа, дзе ён вучыўся, і вуліца ў г. п. Круглае. Сям'і Ракушавых прысвечаны дакументальны фільм «Факел» (1971 г.).

У 1970 г. на магіле ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* В памяти народной.— Мн., 1969; Булацкий Г. В. Первые рабселькоры Белоруссии.— Мн., 1969; Ермолаев Т. А. Ракушевы.— Мн., 1970; Пысін А. Ад варожых рук. — Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 1.

*У. У. Бянько.*

**1384. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне пасёлка, на цэнтральнай сядзібе саўгаса «Круглянскі». На ўшанаванне памяці 155 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**1385. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Савецкай, каля Дома Саветаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1984 г.



1383. *Помнік на магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу.*

**1386. ПОМНІК У ГОНАР ПАДПОЛЬНАЙ ПАРТЫЙНА-КАМСАМОЛЬСКАЙ АРГАНІЗАЦЫІ «АБЗВР»** (гіст.). На вул. Савецкай, у парку імя 50-годдзя Кастрычніка.

У Вялікую Айчынную вайну ў пасёлку і р-не з ліпеня 1941 г. да снежня 1943 г. дзейнічала падпольная партыйна-камсамольская «Арганізацыя барацьбітоў за вызваленне Радзімы» («АБЗВР»). Адной з першых створана падпольная група ў Круглым. У яе склад увайшлі былы загадчык аддзела райкома ЛКСМБ М. М. Ракушаў, камандзіры Чырвонай Арміі С. М. Сухоцкі, С. З. Казлоў, што трапілі ў акружэнне, настаўнікі М. С. Радзько, А. С. Цітова, камсамолец Марат Дашкевіч. Створаны групы ў вёсках Ліхінічы, Пасырава, Слабодка, Радча, Ражкі. 25.10.1941 г. прадстаўнікі груп сабраліся на канспіратыўнай кватэры ў Круглым, выбралі штаб арганізацыі, у які ўвайшлі Л. Н. Ракушаў (кіраўнік групы в. Ліхінічы), П. І. Аляксееў, М. С. Радзько, М. М. Ракушаў і інш. У гонар стварэння аб'яднанай падпольнай арганізацыі група патрыётаў правяла дыверсійную аперацыю на дарозе Талачын — Круглае, пашкодзіла тэлефонна-тэлеграфную лінію. У канцы студзеня 1942 г. у в. Ліхінічы на кватэры Л. Н. Ракушава канчаткова сфарміравана партыйна-камсамольская арганізацыя, якая атрымала назву «АБЗВР», выпрацаваны план яе дзейнасці, зацверджаны штаб (кіраўнік — Л. Н. Ракушаў, начальнік штаба — М. М. Ракушаў). «АБЗВР» устанавіла сувязь з падпольшчыкамі суседніх раёнаў і Магілёва. Члены арганізацыі ўладкаваліся на работу ў СД, камендатуру, інш. службы акупантаў, гандлёвыя ўстановы, бальніцу, на льнозавод. Толькі з 25.10.1941 г. да 23.5. 1942 г. падпольшчыкі распаўсюдзілі 530 лістовак, зваротаў, паведамленняў Саўінфармбюро. Патрыёты наладзілі сувязь з 28-м партызанскім атрадам (пазней 8-я Круглянская партызанская брыгада), летам 1942 г.— з брыгадай «Чэкіст». З сакавіка 1943 г. арганізацыя дзейнічала пад кіраўніцтвам Круглянскага падпольнага райкома КП(б)Б. Падпольшчыкі перадавалі партызанам зброю, збожжа, соль, медыкаменты, хірургічныя інструменты, перавязачныя матэрыялы, бланкі дакументаў, пропускі, разведданыя, папярэджвалі аб карных экспедыцыях фашыстаў, складалі планы ваенных аб'ектаў, размяшчэння гарнізонаў і агнявых кропак праціўніка. Члены арганізацыі вялі дыверсійную работу, псавалі абсталяванне на льнозаводзе, зрывалі тэрмін пуску прадпрыемства. Летам 1942 г. спалілі ў Круглым друкарню, склад збожжа, восенню 1942 г.— склад прасаванага сена, якое фашысты збіраліся вывезці ў Германію, у 1943 г.— бензасклад у Круглым, маслазавод у в. Слабодка. Патрыёты сістэматычна псавалі тэлефонна-тэлеграфную сувязь ворага, зрывалі нарыхтоўкі сыравіны для прадпрыемстваў, прадуктаў для нямецкай арміі. 22.6.1943 г. фашысты правялі ў раёне масавыя арышты, схапілі 60 савецкіх грамадзян, сярод якіх былі і члены «АБЗВР». У канцы снежня 1943 г. да акупантаў трапілі звесткі аб членах арганізацыі і іх дзейнасці. 25.12.1943 г. былі арыштаваны амаль усе актыўныя падпольшчыкі і пасля катаванняў расстраляны. Кіраўнік арганізацыі Л. Н. Ракушаў пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені.

У 1981 г. у памяць аб дзейнасці Круглянскай падпольнай партыйна-камсамольскай арганізацыі пастаўлены помнік — скульптура патрыёта, які рве грудзьмі калючы дрот, нясе людзям у далонях агонь жыцця.

*Літ.:* Подвиги их бессмертны.— Мн., 1978.

*А. Г. Шчарбатаў.*

**в. Азёры, Лясянскі сельсавет**

**1387. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, у полі, на беразе воз. Святое. 4 насыпы; адзін курган вышынёй 6 м, дыяметрам 25 м, астатнія 3 вышынёй ад 1,7 да 2,8 м, дыяметрам 11—16 м. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Аляксандрава, Круглянскі пасялковы Савет**

**1388. КУРГАН** (археал.). На ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі ў в. Ва-

сільеўка, на правым беразе р. Друць. Вышыня 1,7 м, дыяметр 10 м. Захаванасць добрая. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін.

**в. Арава,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1389. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).
**1389а.** Курганны могільнік. За 0,2 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Друць. 9 насыпаў (3 курганы знаходзяцца ў лесе, астатнія ў полі) вышынёй 1,1—2,1 м, дыяметрам 8—13 м. Курганы здзірванелі, адзін пашкоджаны. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.
**1389б.** Курган. За 250 м на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі ў в. Грыбіна, у лесе. Вышыня 1,3 м, дыяметр 15 м. Курган здзірванелы, парос лесам. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Банькі, Цяцерынскі сельсавет**

**1390. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Белаўка, Шапялевіцкі сельсавет**

**1391. МЕСЦА ЗАГУБЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Тут 20.12.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі 13 жыхароў вёскі. На ўшанаванне іх памяці ў 1981 г. пастаўлены абеліск.

**в. Боўсевічы, Шапялевіцкі сельсавет**

**1392. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны 5-га асобнага атрада партызанскай брыгады «Чэкіст», якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1979 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1393. МАГІЛА ХАРКЕВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках. Партызан 28-га асобнага атрада 8-й Круглянскай партызанскай брыгады І. І. Харкевіч загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бярозка, Кручанскі сельсавет**

**1394. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У чэрвені 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі ўварваліся ў в. Бярозка. Усіх жыхароў сагналі ў адну хату і спалілі. Загінула 47 чалавек. Сярод іх — старыя, жанчыны, дзеці. У 1967 г. на магіле насыпаны Курган і пастаўлены абеліск.

**в. Варгуцьева, Рубежскі сельсавет**

**1395. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).
**1395а.** Селішча. За 1,3 км на поўнач ад вёскі, за могілкамі. Знаходкі трапляюцца ўздоўж правага і левага берагоў ракі Бярозаўка, на ўчастку даўжынёй 150 м, шырынёй 50 м. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Сабраны фрагменты ганчарных пласкадонных гаршкоў, частка якіх пакрыта хвалістым арнаментам. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.
**1395б.** Курганны могільнік. За 1,5 км ад вёскі, за могілкамі, на ўзлессі, на левым беразе р. Бярозаўка. 121 насып уздоўж дарогі, якая ідзе па ўскрайку лесу з захаду на ўсход. Вышыня 0,5—2 м, дыяметр 6—18 м. Захаванасць пераважнай большасці курганоў добрая. Адкрыў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання селішча захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Васільеўка,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1396. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Друць. 14 насыпаў вышынёй 1—2,3 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікія Каскевічы,**
**Рубежскі сельсавет**

**1397. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны-разведчыкі Н. К. Дакука і В. І. Дружкоў, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1975 г. на 2 магілах пастаўлены абеліск.

**в. Глыбокае, Цяцерынскі сельсавет**

**1398. МАГІЛА ЛУКАШЭВІЧА** Аляксея Сцяпанавіча (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза А. С. Лукашэвіч нарадзіўся 3.6.1924 г. у в. Чарнавосава Крупскага р-на Мінскай вобл. у сям'і служачага. Член ВЛКСМ. У Вялікую Айчынную вайну з красавіка 1942 г. у 28-м асобным партызанскім атрадзе 8-й Круглянскай партызанскай брыгады, разведчык-падрыўнік. Дастаўляў у атрад звесткі аб праціўніку, захапіў у палон 2 нямецкіх салдат, пусціў пад адхон 9 варожых эшалонаў, двойчы пашкоджваў тэлефонную лінію сувязі са стаўкай фашысцкага галоўнага камандавання. 13.11.1943 г., выконваючы чарговае заданне, трапіў каля в. Зеляньково Круглянскага р-на ў варожую засаду. Цяжка паранены, апошняй гранатай падарваў сябе і гітлераўцаў, што наблізіліся да яго. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.8.1944 г. У в. Ухвала Крупскага р-на на ўшанаванне памяці героя ўстаноўлены помнік, яго імя прысвоена Ухвальскай сярэдняй школе.



1395а. *Селішча.*



1398. *Помнік на магіле А. С. Лукашэвіча.*

У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла з барэльефнай выявай А. С. Лукашэвіча.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; В памяти народной.— Мн., 1969; Герои Советского Союза — уроженцы Минска и Минской области.— Мн., 1965. *У. У. Бянько.*

**в. Гоенка, Шапялевіцкі сельсавет**

**1399. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 68 жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў снежні 1942 г. Сярод ахвяр — старыя, жанчыны, дзеці. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Грыбіна,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1400. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 104 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск, на якім выбіты імёны загінуўшых.



1400. *Помнік землякам.*

**в. Дудаковічы, цэнтр Ляснянскага сельсавета**

**1401. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Ва ўсходняй частцы вёскі, на ўзвышаным рэльефе. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Будынак цэнтрычны, квадратны ў плане. У цэнтры кампазіцыі ўзвышаецца васьмерыковы барабан, прарэзаны 4 паўцыркульнымі аконнымі праёмамі і завершаны гранёным шатром. У дэкоры фасадаў выкарыстаны арачныя паясы, лапаткі, трохвугольныя франтончыкі, пластычныя ліштвы аконных праёмаў, прамавугольныя нішы. Уваход на галоўным фасадзе вылучаны рызалітам з трохвугольным завяршэннем. Унутраная прастора падзелена 4 слупамі крыжападобнага сячэння на 3 нефы, якія перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У цэнтры — васьміграннае самкнутае скляпенне. Сцены дэкарыраваны пілястрамі і прафіляванымі карнізамі.

Царква — помнік архітэктуры перыяду стылізатарства і эклектыкі ў дойлідстве Беларусі.

*Т. В. Габрусь, В. М. Ладзіс.*



1401. *Пакроўская царква.*




1401. *Пакроўская царква. План.*

**1402. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка праўлення калгаса «Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 170 воінаў-землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Елькаўшчына, Ляснянскі сельсавет**

**1403. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены абеліск.

**в. Загаранкі, Ляснянскі сельсавет**

**1404. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 97 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**в. Замышкі, Круглянскі пасялковы Савет**

**1405. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 150 м на поўнач ад будынка школы. На ўшанаванне памяці 70 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1973 г. насыпаны курган і пастаўлены абеліск.

**в. Запруддзе, Комсеніцкі сельсавет**

**1406. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 118 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Зарэчча, Цяцерынскі сельсавет**

**1407. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Друць, у хваёвым лесе. 14 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 8—18 м цягнуцца вузкай палосай уздоўж левага берага ракі на адлегласці каля 3 км. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.



1405. *Помнік землякам.*

**в. Казёл, Шапялевіцкі сельсавет**

**1408. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе, на левым беразе р. Можа. Пляцоўка памерам з поўначы на поўдзень 60 м, з усходу на захад 48 м, густа зарасла лесам, здзірванела, злёгку нахілена ў бок рэчкі. Вышыня над летнім меяканным узроўнем вады ў рацэ 7 м. Умацавана валам, які моцна аплыў, і ровам глыбінёй з паўночнага боку 1,3 м, з усходняга і паўднёвага — 2 м. З паўночнага боку прасочваецца ўезд на гарадзішча. Вядома з 1924 г. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Комсенічы, цэнтр сельсавета**

**1409. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.).



1407. *Курганны могільнік. План.*



1409. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызана.*

У цэнтры вёскі, каля клуба. Пахаваны 24 воіны і партызан, якія загінулі ў чэрвені — ліпені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 873-га знішчальнага процітанкавага палка, 187, 329, 757-га стралковых палкоў, 391-га асобнага санітарнага батальёна, Герой Савецкага Саюза Рыгор Іванавіч Шыбанаў.

Р. І. Шыбанаў нарадзіўся 22.12. 1916 г. у в. Нецвятаеўская Шанкурскага р-на Архангельскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1943 г. У 1938 г. скончыў Вельскі сельскагаспадарчы тэхнікум (Архангельская вобл.), у 1939 — курсы малодшых лейтэнантаў. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце, камандзір батарэі знішчальнага процітанкавага палка. Вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 30.6.1944 г. каля в. Цяцерын Круглянскага р-на батарэя Р. І. Шыбанава ў баі з 2 палкамі варожай пяхоты, падтрыманай 18 танкамі і самаходнымі артылерыйскімі ўстаноўкамі, за 2 гадзіны адбіла 7 контратак, знішчыла 8 гармат, 3 самаходныя артылерыйскія ўстаноўкі, 5 аўтамашын, да 200 гітлераўцаў, перакрыла ворагу шлях да адступлення. Р. І. Шыбанаў загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы Вельскі сельскагаспадарчы тэхнікум.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са сцягам.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**1410. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 126 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. узведзена мемарыяльная сцяна.

**в. Красуля,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1411. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе безназоўнага ручая (правы прыток р. Друць). 3 насыпы вышынёй 1,6, 2,7, 2,8 м, дыяметрам 11, 12, 15 м. Захаванасць добрая. Адкрыў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Круча, цэнтр сельсавета**

**1412. МАГІЛА МЕЛЬНІКАВАЙ** Еўдакіі Міронаўны і **МЕЛЬНІКАВА** Анатоля (гіст.). На могілках. Пахаваны старшыня былога Стаінскага сельсавета Е. М. Мельнікава і яе малалетні сын Анатоль, якіх 19.11.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1413. МАГІЛА ШАЎЦОВА** Пятра Кузьміча (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі. Лейтэнант Чырвонай Арміі П. К. Шаўцоў загінуў летам 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1414. МАГІЛЫ АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі. У 2 магілах пахаваны 114 мірных жыхароў Кручанскага сельсавета, якіх 10.10.1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. Сярод пахаваных — старыя, жанчыны, дзеці. У 1968 г. на магілах пастаўлены абеліск.

**1415. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе саўгаса «Круча». На ўшанаванне памяці 231 земляка, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. узведзена мемарыяльная сцяна. На яе фоне на агульным стылабаце ўстаноўлена паясная скульптура воіна.

**1416. РАДЗІМА ЗАЛУЦКАГА** Пятра Антонавіча (гіст.).

Прафесійны рэвалюцыянер, партыйны і савецкі дзеяч П. А. Залуцкі нарадзіўся ў лютым 1887 г. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1907 г. Удзельнік Рэвалюцыі 1905—07 гг. Працаваў на папяровай фабрыцы ў Шклове, з 1905 г. на заводах у Пецярбургу. Там актыўна ўключыўся ў рэвалюцыйную барацьбу. Пасля Усерасійскай кастрычніцкай стачкі 1905 г., хаваючыся ад праследаванняў, пакінуў Пецярбург. Некаторы час разам з бацькам працаваў на чыгунцы ў Сібіры, у Харбіне, потым ва Уладзівастоку. Член Харбінскай арганізацыі РСДРП, вёў рэвалюцыйную работу. У 1911 г. вярнуўся ў Пецярбург, працаваў на



1415. *Помнік землякам.*

франка-рускім меднапракатным заводзе (цяпер Адміралцейскі завод). Поўнасцю прысвяціў сябе рэвалюцыйнай барацьбе, выступаў на сходках рабочых, наладжваў сувязі з бальшавіцкімі арганізацыямі іншых гарадоў. Адзін з арганізатараў выдання бальшавіцкіх газет «Звезда» і «Правда». Дэлегат VI (Пражскай) Усерасійскай канферэнцыі РСДРП (1912 г.). За рэвалюцыйную дзейнасць некалькі разоў быў арыштаваны і сасланы. З кастрычніка 1916 г. член Рускага бюро ЦК і Выканаўчай камісіі Пецярбургскага камітэта РСДРП(б). Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. член выканкома Петраградскага Савета, дэлегат VII (Красавіцкай) канферэнцыі і VI з'езда РСДРП(б). У Кастрычніцкую рэвалюцыю член Петраградскага ВРК. Неаднаразова сустракаўся з У. І. Леніным. Пасля перамогі Кастрычніцкай рэвалюцыі абраны членам прэзідыума Петраградскага Савета. У Грамадзянскую вайну член Ваеннага савета Усходняга і Заходняга франтоў. З 1921 г. сакратар Прэзідыума ВЦВК, Уральскага і Паўночна-Заходняга бюро ЦК РКП(б) Ленінградскага губкома партыі. У 1929—32 гг. старшыня СНГ Ніжняволжскага краю, потым на гаспадарчай рабоце. У 1920—22 гг. кандыдат у члены ЦК, у 1923—25 гг. член ЦК РКП(б). Памёр 10.1.1937 г. *У. У. Бянько.*

**1417. РАДЗІМА ЮШКОЎСКАГА** Назара Логінавіча (гіст.).

Кавалер ордэна Славы трох ступеней Н. Л. Юшкоўскі нарадзіўся ў 1926 г. у сялянскай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1943 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1944 г. на 3-м Беларускім, 1-м Украінскім франтах. Памочнік камандзіра стралковага ўзвода старшы сяржант Н. Л. Юшкоўскі вызначыўся ў баях на тэрыторыі Польшчы і Германіі. У сакавіку 1945 г. у баях за Штргау (Верхняя Сілезія) падняў узвод у атаку і ўварваўся на ўскраіну горада. У вулічных баях знішчыў некалькі варожых салдат і афіцэраў. Пасля вайны жыў у с. Папоўка Капа-



1418. *Помнік на магіле М. В. Неўрава.*

топскага р-на Сумской вобл. Памёр 27.5.1968 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Лыскаўшчына, Круглянскі пасялковы Савет**

**1418. МАГІЛА НЕЎРАВА** Мікалая Васілевіча (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі.

Рускі жывапісец М. В. Неўраў нарадзіўся ў 1830 г. у Маскве ў сям'і купца. У 1851—56 гг. вучыўся у Маскоўскім вучылішчы жывапісу, скульптуры і архітэктуры. Тут ён напісаў першую жанравую карціну «Дамашняя сялянская сцэна». У 1887—90 гг. выкладаў у гэтым вучылішчы. Член Таварыства перасоўных мастацкіх выставак (з 1881 г.).

М. В. Неўраў — адзін з яркіх прадстаўнікоў крытычнага рэалізму. Творчасць пачаў як партрэтыст. За поспехі ў галіне партрэтнага жывапісу ў лістападзе 1859 г. удастоены звання класнага мастака. У 1860-я гады стварыў свае лепшыя жанравыя карціны, у якіх з сацыяльнай вастрынёй выкрываў прыгоннае права, бяспраўе жанчыны («Торг», 1866 г., «Выхаванка», 1887 г., і інш.). У 1870-я гады і пазней мастак часта звяртаўся да гістарычных падзей («Княжна П. Р. Юсупава перад пастрыгам», 1886 г.). Карціны М. В. Неўрава экспанаваліся на Усерасійскай выстаўцы ў Маскве. Апошнія гады свайго жыцця правёў у Лыскаўшчыне. Тут ім створана некалькі карцін. Памёр М. В. Неўраў 3.5.1904 г. У Дзяржаўным мастацкім музеі БССР ёсць 5 работ мастака. На ўшанаванне яго памяці на будынку школы ў в. Лыскаўшчына ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Дановская Р. В., Н. В. Неврев.— М., 1950; Н. В. Неврев: [Альбом] / Авт.-сост. Волосович С.— М., 1964.

*У. У. Бянько.*



1419. *Будынак, дзе жыў і працаваў у 1885—1904 гг. рускі жывапісец М. В. Неўраў.*

**1419. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА НЕЎРАВУ** Мікалаю Васілевічу (гіст.). На будынку пачатковай школы. Устаноўлена ў 1974 г. на ўшанаванне памяці рускага жывапісца М. В. Неўрава, які жыў і працаваў тут з 1885 г. да 1904 г. Гл. артыкул № 1418 «Магіла Неўрава Мікалая Васілевіча».

**в. Навапруддзе, Круглянскі пасялковы Савет**

**1420. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны Х. К. Зямкова і 5 яе малых дзяцей, якіх у чэрвені 1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Новае Палессе, Кручанскі сельсавет**

**1421. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 14 партызан 8-га асобнага атрада 8-й Круглянскай партызанскай брыгады, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942—43 гг. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пасырава, Лясянскі сельсавет**

**1422. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Лясянскага сельсавета ў 1941—44 гг. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Паўлавічы, Рубежскі сельсавет**

**1423. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка аддзялення сувязі. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама 8 партызан, што загінулі ў баях супраць ворага ў чэрвені — ліпені 1942 г. і верасні 1943 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыгані 1-я, Цяцерынскі сельсавет**

**1424. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Друць. Пляцоўка памерам з поўдня на поўнач 45 м, з усходу на захад 62 м. Вышыня над поплавам ракі 9 м. Умацавана 2 валамі і ровам. Адкрыў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены рэшткі керамікі. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Прыгані 2-я, Цяцерынскі сельсавет**

**1425. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памя-



1424. *Гарадзішча. План.*



1428. *Курганны могільнік. План.*



1427. *Помнік землякам.*

ці 100 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



1430. *Помнік землякам.*

**в. Ражкі,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1426. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на правым беразе р. Друць, каля могілак. 2 насыпы вышынёй 1,4 і 1,7 м, дыяметрам 8 і 12 м. Адкрыў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

**в. Рубеж, цэнтр сельсавета**

**1427. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 248 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Свабода,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1428. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Друць, на полі. 8 насыпаў вышынёй ад 0,8 да 2,2 м, дыяметрам 6—15 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Старая Радча,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1429. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Шлях камунізму». На ўшанаванне памяці 72 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Філатава, Рубежскі сельсавет**

**1430. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы каля школы. На ўшанаванне памяці 252 землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1962 г. пастаўлены абеліск.

**1431. ПОМНІК ЛАВЯНЕЦКАМУ** Сцяпану Аляксандравічу (гіст.). У цэнтры вёскі.

Герой Савецкага Саюза С. А. Лавянецкі нарадзіўся 26.10.1923 г. у в. Філатава Круглянскага р-на ў сялянскай сям'і. Член ВЛКСМ. У Чырвонай Арміі з 1942 г. З 1943 г. на 3-м, 4-м Украінскіх, 1-м Беларускім, 2-м Украінскім франтах. Механік-вадзіцель самаходнай артылерыйскай устаноўкі сяржант С. А. Лавянецкі вызначыўся 24.10.1944 г. у баях за населены пункт Надзьбаям (Венгрыя). Экіпаж самаходнай устаноўкі падбіў 3 варожыя танкі. Цяжка паранены, С. А. Лавянецкі працягваў змагацца. Загінуў у гэтым баі. Пахаваны на тэрыторыі Венгрыі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 28.4.1945 г. У г. Таліца Свярдлоўскай вобл. яго імем названы вуліца і піянерская дружына сярэдняй школы № 8. У 1967 г. на ўшанаванне памяці С. А. Лавянецкага пастаўлены абеліск з барэльефнай выявай героя.



1431. *Помнік С. А. Лавянецкаму.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *У. У. Бянько.*

**в. Хралішчава, Рубежскі сельсавет**

**1432. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, за могілкамі, на полі. 2 насыпы вышынёй 1,8 і 2,5 м, дыяметрам 12 м. Адкрыў у 1968 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Цяцерына, цэнтр сельсавета**

**1433. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў баях пры вызваленні Цяцерына і навакольных вёсак летам 1944 г., а таксама 3 партызаны, што загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у кастрычніку — лістападзе 1942 г. Сярод пахаваных — воіны 757-га стралковага палка 222-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла з скульптурнай пагруднай выявай савецкага воіна.

**1434. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 262 воінаў-землякоў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. узведзена мемарыяльная сцяна.

**в. Шапялевічы, цэнтр сельсавета**

**1435. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнт-



1433. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

ры вёскі, каля будынка клуба. Пахаваны 90 воінаў і 26 партызан, якія загінулі ў баях пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран летам 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 716-га стралковага палка. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1436. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 287 воінаў-землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Шаўкавінне, Рубежскі сельсавет**

**1437. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, на могілках. Пахаваны 4 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942—43 гг. на тэрыторыі сельсавета. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шупені,**
**Круглянскі пасялковы Савет**

**1438. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1438а.** Могільнік-1. За 1 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць. 6 насыпаў вышынёй 0,7—3,6 м, дыяметрам 8—16 м. Курганы размешчаны ў адну лінію ўздоўж ракі, за 0,2 км ад яе. Адкрыў у 1930 г. А. Дз. Каваленя, абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**1438б.** Могільнік-2. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Друць, у лесе. 37 насыпаў вышынёй 0,6—2,5 м, дыяметрам 6—16 м. Яны густа параслі лесам, здзірванелі, маюць добрую



1434. *Помнік землякам.*

захаванасць. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *В. Ф. Капыцін.*




# КРЫЧАЎСКІ РАЁН

Маляцічы
Лабковічы
Луты
Асавец
Паланіца
Бель
Дзягавічы
Камароўка
Іванаўка
Бацвінаўка
Сычык
КРЫЧАЎ
Чырв. Буда
Касцюшкавічы
Волчас
Хацілавічы
Сакольнічы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабняні

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XIV. КРЫЧАЎ

Горад, цэнтр раёна. За 104 км на ўсход ад Магілёва, за 5 км ад чыгуначнага вузла Крычаў (лініі на Оршу, Магілёў, Унечу, Рослаў), на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Масква, на правым беразе р. Сож.

У пісьмовых крыніцах упамінаецца ў 1136 г. пад назвай Крэчут (Устаўная грамата смаленскага князя Расціслава Мсціслававіча), але археалагічныя даныя сведчаць, што людзі ў гэтых мясцінах сяліліся ў пачатку 5—7 ст. і ў эпоху Кіеўскай Русі; у 12 ст. пакінулі так званы Гарадзец і перайшлі на Замкавую гару. У 1-й палове 14 ст. Крычаў далучаны да Мсціслаўскага княства. З 2-й паловы 14 ст.— у Вялікім княстве Літоўскім. У 1410 г. жыхары Крычава ўдзельнічалі ў Грунвальдскай бітве пад сцягамі сваіх удзельных князёў Сямёна Лугвенія і яго сына Юрыя Мсціслаўскага. Як сведчыць «Уваскрасенскі летапіс», 13.8.1514 г. мяшчане і чорны люд Крычава паслалі сваіх прадстаўнікоў да вялікага князя маскоўскага Васіля III Іванавіча з прапановай прыняць іх горад у сваё падданства. Просьба была задаволена, аднак няўдачы рускіх войск у вайне з Літвою не дазволілі гораду застацца ў складзе Маскоўскага вялікага княства. У 1633 г. атрымаў магдэбургскае права. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. мясцовае насельніцтва падтрымлівала паўстанцаў. У Паўночную вайну 1700—21 гг. жыхары Крычаўскага староства (заснавана ў 17 ст., было ва ўладанні Е. Радзівіла) стварылі летам 1708 г. партызанскія атрады, якія дапамагалі рускай арміі. Пад Крычавам быў лагер рускіх войск на чале з Пятром І. У 1743—44 гг. адбылося буйное ўзброенае антыфеадальнае паўстанне сялян староства, якое ўзначаліў мясцовы селянін В. М. Вашчыла. Каля Крычава ў студзені 1744 г. адбыўся бой паміж паўстанцамі і войскамі Радзівіла.

З 1772 г. Крычаў у складзе Расійскай імперыі, мястэчка Магілёўскай губерні, належала графу Р. А. Пацёмкіну. У 18 ст. былі суднаверф, парусная фабрыка, канатны завод (каля 300 рабочых), гута, цагельны, гарбарны заводы, бровар. У 1897 г. у Крычаве 3,7 тыс. жыхароў. У пачатку 20 ст. гандлёвы цэнтр, 7,5 тыс. жыхароў, 906 дамоў, мылаварны і гарбарны заводы.

Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. У студзені 1918 г. створаны першы бальшавіцкі Савет на чале з камуністамі М. С. Кісялёвым і М. А. Казловым. У 1923 г. у эксплуатацыю здадзена чыгуначная лінія Орша — Горкі — Крычаў — Клімавічы, у 1927—33 гг. пабудавана чыгуначная лінія Асіповічы — Магілёў — Чавусы — Крычаў — Рослаў, Крычаў стаў



XIV. *Дом Саветаў.*

чыгуначным вузлом. У гады першых пяцігодак пабудаваны цэментны, фасфарытны і інш. заводы, на поўнач ад горада выраслі пасёлкі чыгуначнага вузла і цэментнага завода. З 1924 г. цэнтр раёна, з 17.12.1931 г. горад. У 1939 г. 16 тыс. жыхароў.

У Вялікую Айчынную вайну ў ліпені — жніўні 1941 г. у раёне Крычава ішлі абарончыя баі Чырвонай Арміі. З 17.7.1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У горадзе і раёне дзейнічалі Крычаўскае камуністычнае падполле (з верасня 1941 г. да жніўня 1943 г.), падпольны райком ЛКСМБ (21.6—1.10.1943 г.). Тут была зона дзеяння партызанскіх атрадаў



XIV. *Палац культуры.*



XIV. *Забудова мікрараёна Сож.*

«Анатоля», «Чапая», імя Качубея, палка «Трынаццаць» і інш. 30.9.1943 г. часці 10-й арміі Заходняга і 50-й арміі Бранскага франтоў вызвалілі Крычаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

За час акупацыі горада знішчаны цэментны, фасфарытны, мелавы і цагельны заводы, торфазавод «Калектыўная праца», дэпо і інш. У выніку праведзеных аднаўленчых работ у 1948 г. прамысловасць дасягнула даваеннага ўзроўню.

Першапачатковую аснову горада складалі 2 гарадзішчы: Гарадзец і Замкавая гара. Потым на месцы апошняга, пры ўпадзенні р. Ставок у Сож, быў пабудаваны ўмацаваны замак. Забудова Крычава сфарміравалася на ўзгоркавым плато, прарэзаным глыбокімі тальвегамі, якія рассякаюць прыбярэжную гарадскую тэрыторыю на даволі ізаляваныя часткі. Асаблівасць ландшафту мела вырашальнае значэнне для арганізацыі нерэгулярнай пакварталыіай сістэмы планіроўкі. Найбольш вядомыя пабудовы дарэвалюцыйнага Крычава ўзведзены ў апошняй чвэрці 18 ст. Пра аблічча горада таго часу сведчыць план Крычава, складзены ў 1778 г. Сетка вуліц была падпарадкавана рэльефу мясцовасці. Даволі развіты цэнтр уключаў замак (не збярогся) і некалькі плошчаў, размешчаных на высокім плато ўздоўж р. Сож. Замак, аддзелены ад горада ровам, злучаўся з гандлёвай плошчай мостам. У цэнтры плошчы стаяла ратуша, аб'яднаная з гасціным дваром у адзіны будынак. Гандлёвая плошча пераходзіла ў Саборную з трыма драўлянымі цэрквамі (15—17 стагоддзі) і касцёлам.

Горад падзелены шашой Бабруйск — Масква на 2 часткі: у паўднёвай, якая прылягае да Сажа, размешчаны адміністрацыйныя, культурна-бытавыя і гандлёвыя будынкі (Дом Саветаў, гарком КПБ, Палац культуры, кінатэатр, універмаг, Дом быту, краязнаўчы музей і інш.), у паўночнай — 3 новыя мікрараёны — Сож, Камсамольскі і па вул. Кастрычніцкай. Сучасная забудова горада ажыццяўляецца паводле генплана 1966 г., распрацаванага ў інстытуце «Белдзяржпраект», і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра, выкананага ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Галоўныя горадафарміруючыя вуліцы — Ленінская, Савецкая, Камсамольская.

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы: цэментна-шыферны камбінат, заводы гумавых вырабаў, жалезабетонных вырабаў. Працуюць мэблевае вытворчае аб'яднанне, маслазавод, хлебазавод, піваварны завод, камбінат бытавога абслугоўвання, трэст «Крычаўсельбуд», раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У горадзе 2 прафесійна-тэхнічныя вучылішчы, 5 ся-



**XIV.** *Забудова мікрараёна Камсамольскі.*

рэдніх, 1 васьмігадовая, 2 вячэрнія (зменныя) сярэднія агульнаадукацыйныя школы, школа-інтэрнат, дзіцяча-юнацкая спартыўная і 2 музычныя школы, Дом піянераў і школьнікаў, краязнаўчы музей, 15 дашкольных устаноў, 7 бібліятэк, кінатэатр, 3 клубы, 3 бальніцы, 3 аптэкі. Выдаецца газета «Ленінскі кліч».

Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, падпольшчыкаў, ваеннапалонных і ахвяр фашызму, Курган Славы на ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады, а таксама ў Грамадзянскую і Вялікую Айчынную войны. Захаваліся помнікі архітэктуры 18 і 19 стагоддзяў — палац і паштовая станцыя.

Зона адпачынку — берагі р. Сож.

*Літ.:* Егоров Ю. А. Градостроительство Белоруссии.— М., 1954; Мялешка В. І. Крычаўскае паўстанне.— Полымя, 1971, № 1; Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии... Кн. 1—3.— Могилев, 1882—84.

*У. В. Алісейчык, М. Ф. Мельнікаў.*



**1439.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных.*

**1439. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Камуністычная, у скверы, каля будынка клуба цэментна-шыфернага камбіната. Пахаваны ваеннапалонныя, загубленыя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1440. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Працоўная. Пахаваны вязні Крычаўскага лагера ваеннапалонных, закатаваныя нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941—43 гг. Колькасць пахаваных не ўстаноўлена. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе.

**1441. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Ціміразева. Пахавана больш за 30 вязняў Крычаўскага лагера ваеннапалонных, якіх у 1941—43 гг. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура жанчыны са сцягам.

**1442. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Набярэжная, на Забялышынскіх могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 4-га паветрана-дэсантнага корпуса.

29.7.1941 г. 1200 дэсантнікаў пад камандаваннем маёра У. С. Цімчанкі ўварваліся ў захоплены ворагам горад і вызвалілі яго, за ноч адбілі некалькі контратак ворага. Раніцай 30 ліпеня, падцягнуўшы падмацаванне, гітлераўцы акружылі горад, адрэзалі ўсе шляхі да адступлення. У няроўным баі амаль усе дэсантнікі загінулі.

У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1443. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Набярэжная, на Забялышынскіх могілках. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1444. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Сірацініна, каля будынка райваенкамата. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ў 1944 г. ад ран. Сярод пахаваных — М. У. Сірацінін (гл. артыкул № 1506 «Помнік Сірацініну Мікалаю Уладзіміравічу»). У 1951 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1445. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля чыгуначнай станцыі Крычаў. Пахаваны воіны і мірныя грамадзяне, якія загінулі ў час налёту фашысцкай авіяцыі на чыгуначную станцыю 5.7. 1944 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.



**1440.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных.*

**1446. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Фрунзе, каля будынка школы. Пахаваны ваеннапалонныя (колькасць не ўстаноўлена), якія за-



**1441.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх ваеннапалонных.*




**1446.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і ваеннапалонных.*

гінулі ў лагеры, створаным у 1941 г. гітлераўцамі на тэрыторыі былога цэментнага завода, а таксама 14 воінаў, што загінулі ў канцы верасня 1943 г. пры вызваленні Крычава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла і скульптура воіна.

**1447. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ, ВАЕННАПАЛОННЫХ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы «60 гадоў Кастрычніка». Пахавана больш за 50 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама падпольшчыкаў, ваеннапалонных і мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў час акупацыі горада. Сярод пахаваных — ураджэнец Бялыніцкага р-на дэсантнік Іван Пятровіч Саковіч, лётчык Сяргей Васілевіч Пляшкоў, удзельнікі Крычаўскага камуністычнага падполля Аляксандр Іванавіч Акаёмаў і Генадзь Паўлавіч Лузенін.

І. П. Саковіч удзельнічаў 29—30.7.1941 г. у штурме захопленага ворагам Крычава. Падраздзяленне лейтэнанта І. П. Саковіча прабілася за пасёлак дэпо. У няроўным баі ўсе байцы загінулі. Застаўшыся адзін, І. П. Саковіч некалькі гадзін вёў агонь па ворагу, пакуль не загінуў сам.

С. В. Пляшкоў у час штурму горада камандаваў авіягрупай, якая бамбіла пераправу праціўніка цераз р. Сож. Машына Пляшкова была падбіта і ўпала ва ўрочышчы Кузінаўка. Астанкі лётчыка 9.5.1957 г. перазахаваны ў брацкую магілу.

Члены франтавога музыкальнага ансамбля спявак А. І. Акаёмаў і галоўны дырыжор Маскоўскай абласной філармоніі Г. П. Лузенін у кастрычніку 1941 г. трапілі ў палон. У Крычаўскім лагеры ваеннапалонных наладзілі сувязь з камуністычным падполлем горада. Каб мець магчымасць выязджаць за межы лагера, згадзіліся выступаць у канцэртах. У канцы лютага 1942 г. у час паездкі ў г. Чэрыкаў артысты ўстанавілі сувязь з паэтам і журналістам І. П. Дзенісенкам, які кіраваў мясцовай падпольнай арганізацыяй. Маючы магчымасць праязджаць па шашы Масква — Варшава, А. І. Акаёмаў і Г. П. Лузенін збіралі звесткі аб размяшчэнні нямецка-фашысцкіх войск, распаўсюджвалі лістоўкі і газеты. Па даносу здрадніка 10.2.1943 г. былі арыштаваны і 21.2.1943 г. расстраляны фашыстамі непадалёку ад в. Прудок. Пасля вайны астанкі падпольшчыкаў перазахаваны ў брацкую магілу. Іх імёнамі названы вуліцы ў Крычаве.

У брацкай магіле пахаваны таксама 16 вязняў Крычаўскага лагера ваеннапалонных і 6 мясцовых жыхароў, якіх летам 1942 г. закатавалі нямецка-фашысцкія захопнікі.

У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна ў жалобе.

*М. Ф. Мельнікаў.*



**1448.** *Гарадзішча. План.*

**1448. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. У паўночнай частцы горада, на левым беразе ручая Крычавец, што ўпадае ў Сож. Пляцоўка амаль трохвугольнай формы, выцягнута па лініі поўнач — поўдзень, памерам 51×16,2 м, мае моцны нахіл з поўначы на поўдзень (да 2,5 м) і меншы — з усходу на захад. З усходу, поўдня і захаду былі схілы вышынёй 18 м над узроўнем ручая. Умацавана ровам шырынёй 16 м, глыбінёй больш за 5 м і валам з усходняга боку вышынёй 1,5—1,6 м, які неаднаразова падсыпаўся, меў на вяршыні драўляныя абарончыя збудаванні. З паўночнага боку прымыкала селішча плошчай больш за 1 га. Абследавалі ў розныя часы В. В. Сядоў, Г. В. Штыхаў, П. Ф. Лысенка, даследаваў у 1974 г. М. А. Ткачоў. Ускрыта 46 $м^2$ плошчы на гарадзішчы і 16 $м^2$ на селішчы. Культурны пласт каля вала, у паўночным і ўсходнім баку — 3—3,5 м. Знойдзены крамянёвыя прылады працы і сляды агнішчаў эпохі неаліту, абломкі ляпнога посуду зарубінецкай культуры, косці жывёл, абпаленыя камяні. У ранні жалезны век сістэму абарончых збудаванняў двойчы ўмацоўвалі, знешні схіл вала быў забрукаваны. Да 10—13 стагоддзяў адносяцца знаходкі пацеркі-лімонкі, шклянак, бранзалетаў, жалезных наканечнікаў кап'я, наканечнікаў стрэл, скоблі, нажа, кераміі-



**1447.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, падпольшчыкаў, ваеннапалонных і ахвяр фашызму.*



**1449.** *Гарадзішча.*

кі, у т. л. з ганчарнымі клеймамі, касцей жывёлы, птушак і рыбы. У 10—11 стагоддзях гарадзішча і селішча складалі аснову старажытнага далетапіснага Крычава, які спачатку размяшчаўся тут. У канцы 11 — пачатку 12 ст. цэнтр горада быў перанесены на правы бераг Сожа, на старым месцы ў 12—14 стагоддзях існавала невялікае паселішча.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972. *М. А. Ткачоў.*

**1449. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Замак, Замкавая гара, Нікольская гара. На правым высокім беразе р. Сож, каля сутоку з ёй ручая. Займае выступ берагавога плато плошчай больш за 0,5 га, вышыня над летнім межанным узроўнем вады ў Сажы амаль 15 м.

Гарадзішча абследавалі ў розныя часы А. М. Ляўданскі, А. Дз. Каваленя, П. Ф. Лысенка, Л. Д. Побаль і В. В. Сядоў. Даследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1974—77 гг. М. А. Ткачоў. Ускрыта 360 м² плошчы. Выяўлены фрагменты драўляных жытлаў з печамі-каменкамі і печ на каменным апечку. Пабудовы, мяркуючы па ўскрытых участках, канцэнтраваліся ўздоўж вала. У культурных напластаваннях 12—13 стагоддзяў знойдзены разнастайны ганчарны посуд, шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты і пацеркі, гліняныя грузікі, металічныя ключы, дэталі замкоў, нажы, прабоі, цуглі, наканечнікі стрэл і коп'яў, шмат касцей дзікай і свойскай жывёлы. Характэрнай асаблівасцю культурнага пласта ў стратыграфічным плане з'яўляецца тое, што гарызонт 12—13 стагоддзяў зверху перакрыты пластом вапны таўшчынёй 7—12 см. На мяжы 11 і 12 стагоддзяў сюды перанесена паселішча з Гарадца. Спачатку было ўмацавана частаколам, пазней насыпаны кальцавы вал вышынёй 1,5 м з сценамі зрубнай канструкцыі, якія пазней згарэлі. У 13—17 стагоддзях вал падсыпалі не менш як 5 разоў, у 17 ст. быў перароблены і расшыраны.

У 14 ст. на дзядзінцы пабудаваны замак. Паводле дакументаў 17—18 стагоддзяў на абарончым вале стаялі драўляныя сцены-гародні, 4 шмат'ярусныя вежы — Сярэдняя, Рагавая, Тайнічная і вежа-брама. Пад адной з іх знаходзіўся патаемны ход у бок Сажа, падворак быў заняты жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. У цэнтры замка стаяла драўляная Мікольская царква. У культурных напластаваннях 14—17 стагоддзяў знойдзена шмат глінянага посуду, нажы, ключы, замкі, наканечнікі стрэл, арбалетныя балты, наканечнікі коп'яў, сякеркаклявец, меч пачатку 14 ст., каменныя і чыгунныя ядры, разнастайная кафля 15—18 стагоддзяў, каменныя жорны, калекцыя манет, разнастайны інструментарый і інш.



1449. *Гарадзішча. План.*


1450. *Курган Славы.*

Захаваўся вал, які дасягае з заходняга боку вышыні 3,5 м.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Крычаўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Седов В. В. К исторической географии Смоленской земли.— У кн.: Материалы по изучению Смоленской области. Смоленск, 1961, в. 4; Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972. *М. А. Ткачоў.*

**1450. КУРГАН СЛАВЫ** (гіст.). У мікрараёне Сож, каля будынка хлебазавода. Насыпаны ў 1968 г. з нагоды 50-годдзя Савецкай Беларусі і на ўшанаванне памяці больш як 2 тыс. землякоў, якія загінулі ў барацьбе за ўстанаўленне Савецкай улады, а таксама ў Грамадзянскую і Вялікую Айчынную вайны. На вяршыні Кургана пастаўлены абеліск. У яго падножжы замураваны спісы загінуўшых і пісьмо нашчадкам. *У. У. Бянько.*

**1451. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). Вул. Заводская, каля адміністрацыйнага будынка цэментна-шыфернага камбіната. У 3 магілах пахаваны вязні (колькасць не ўстаноўлена) Крычаўскага лагера ваеннапалонных, закатаваныя ў 1941—43 гг. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**1452. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Ленінская, 25, на будынку кінатэатра «Радзіма». Устаноўлена ў 1960 г.

У ходзе летне-асенніх аперацый 1943 г. войскі 10-й і 50-й армій выйшлі ў канцы верасня 1943 г. на рубеж р. Сож каля Крычава. У ноч з 29-га на 30-е верасня 1943 г. вайсковыя падраздзяленні 369-й Карачаўскай стралковай дывізіі фарсіравалі Сож паблізу вёсак Прудок і Каменка. Амаль адначасова воіны 212-й і 385-й стралковых дывізій пры падтрымцы 572-га артылерыйскага палка фарсіравалі Сож на поўнач ад Крычава, авалодалі чыгуначнай станцыяй і з боку в. Варанёва атакавалі горад. 30.9.1943 г. Крычаў быў поўнасцю вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У баях за вызваленне горада ўдзельнічалі партызаны 13-й Касцюковіцкай брыгады (камандзір С. А. Мазур, камісар Дз. Я. Савельеў). 212-й (камандзір палкоўнік А. П. Мальцаў), 385-й (камандзір палкоўнік М. Ф. Супруноў) стралковым дывізіям і 572-му артылерыйскаму палку (камандзір палкоўнік А. Я. Савін), якія вызначыліся ў баях за вызваленне горада, нададзена ганаровае найменне «Крычаўскіх».

*Літ.:* Деев В. И., Петренко Р. Г. Простреленные километры: Документальная повесть.— Фрунзе, 1973. *У. У. Бянько.*

**1453. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ТАЛКАЧОВАЙ** Марыі Сяргееўне (гіст.). Вул. Талкачовай, 22. Устаноўлена ў 1973 г. на доме, дзе падпольшчыца жыла ў Вялікую Айчынную вайну.

М. С. Талкачова нарадзілася ў 1916 г. на хутары Малінаўка (цяпер в. Малінаўка) Чэрыкаўскага р-на. Пасля сканчэння Чэрыкаўскай сямігадовай школы працавала ў калгасе «Камінтэрн», потым у Крычаўскім дарожным упраўленні. З верасня 1941 г. член падпольнай групы М. Р. Каінава. Уладкавалася бухгалтарам у гарадской управе, здабывала каштоўныя звесткі для партызан і падпольшчыкаў, распаўсюджвала лістоўкі, пераправіла ў партызанскія атрады савецкіх ваеннапалонных, якія з яе дапамогай уцякалі з Крычаўскага лагера. 1.8.1943 г. па даносу здрадніка гітлераўцы арыштавалі падпольшчыцу, вывезлі яе ў Рослаўль і ў верасні 1943 г. пасля катаванняў расстралялі. Імем М. С. Талкачовай названа вуліца ў Крычаве. *У. У. Бянько.*

**1454. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 50-ГОДДЗЯ ЗАСНАВАННЯ ЦЭМЕНТНА-ШЫФЕРНАГА КАМБІНАТА** (гіст.). Вул. Зялёная, на адміністрацыйным будынку камбіната. Устаноўлена ў 1980 г. у памяць аб закладцы 1.5.1930 г. першага каменя будаўніцтва цэментнага завода (з 1957 г. цэментна-шыферны камбінат). Першую прадукцыю даў 10.11.1933 г.

**1455. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВЫЗВАЛЕННЯ ГОРАДА** (гіст.). Вул. Ленінская, на будынку дзіцячага сада № 1. Устаноўлена ў 1980 г. 30.9.1943 г. часці 10-й арміі Заходняга і 50-й арміі Бранскага франтоў вызвалілі горад ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Баец 369-й стралковай дывізіі А. Бязродных узняў над будынкам сучаснага дзіцячага сада чырвоны сцяг.

**1456. МЕСЦА АНТЫФЕАДАЛЬНАГА ПАЎСТАННЯ 18 ст.** (гіст.). У былым Крычаўскім старостве ў 1743—44 гг. адбылося буйнейшае на Беларусі антыфеадальнае ўзброенае выступленне сялян.

Сяляне вялі ўпартую барацьбу супраць феадальна-прыгонніцкага прыгнёту, жорсткай эксплуатацыі з боку арандатараў і адміністрацыі Крычаўскага староства: адмаўляліся плаціць падаткі, адбываць паншчыну і інш. павіннасці, знішчалі пазыковыя абавязацельствы, уцякалі на Украіну і ў Расію. Хваляванні сялян пашыраліся, набывалі масавы характар. У канцы 1743 г. яны перараслі ва ўзброенае паўстанне. На чале яго былі мясцовыя сяляне Васіль Вашчыла, Іван Карпач і іх бліжэйшыя паплечнікі Стэсь Бачко, Васіль Вецер, Іван Трус, Навум Буян і інш. Паўстанцы нападалі на дамы багатых купцоў і ліхвяроў, дзялілі іх маёмасць, знішчалі судовыя рашэнні, даўгавыя кнігі і інш. дакументы, расправіўляліся з ліхвярамі, арандатарамі, купцамі, разганялі адміністрацыю князя.

15.1.1744 г. на разгром паўстання Е. Радзівіл накіраваў у Крычаў войскі пад камандаваннем палкоўніка Пястжэцкага, у т. л. конніцу з гарматамі. Галоўныя сілы паўстанцаў знаходзіліся ў той час ва ўсходняй частцы староства, за р. Сож, у раёне мястэчка Міхалёва. Да сярэдзіны студзеня тут сабралася больш за 2 тыс. прыгонных. Даведаўшыся аб прыбыцці ў Крычаў войска, паўстанцы вырашылі напасці на яго. 18 студзеня яны падышлі да горада, атакавалі яго. Сялян падтрымала гарадская бедната. Каля падножжа землянога вала і на вуліцах горада адбыліся жорсткія баі. Паўстанцы змагаліся мужна, але пад націскам добра ўзброенага войска вымушаны былі адступіць. У час бою больш за 100 сялян загінула, 500 было паранена, 77 захоплена ў палон. Амаль усе палонныя былі пакараны смерцю.

Паражэнне не зламала паўстанцаў. Яны адышлі да в. Царковішчы, разбілі лагер, пачалі рыхтавацца да новых бітваў. За некалькі дзён колькасць паўстанцаў дасягнула больш за 4 тыс. чалавек. Быў распрацаваны план, які прадугледжваў акружыць войска, не дапусціць падвоз прадуктаў і зброі, прымусіць яго здацца. Пачаць асаду планавалася 26 студзеня. Але гэты план стаў вядомы ў замку. У Крычаў з Себежа і Невеля падышло падмацаванне: 50 чалавек з 4 гарматамі. У ноч перад асадай войска Радзівіла нечакана атакавала лагер паўстанцаў. Захопленыя знянацку сяляне не змаглі аказаць арганізаванага супраціўлення і адступілі, пакінуўшы на полі бою больш за 200 забітых і шмат параненых, 176 чалавек, у т. л. некаторыя кіраўнікі паўстання, трапілі ў палон. Бітва пад Царковішчамі вырашыла лёс паўстання. У пачатку лютага 1744 г. яно было задушана канчаткова. Улады жорстка расправіліся з яго кіраўнікамі і актыўнымі ўдзельнікамі. Адразу пасля бітвы 60 паўстанцаў былі пакараны смерцю. Паводле рашэння суда ад 22.2.1744 г. да пакарання смерцю прыгавораны 16 актыўных кіраўнікоў паўстання, сярод іх — Іван Карпач, Стэсь Бачко, Васіль Вецер і інш. Розныя меры пакарання былі прысуджаны астатнім актыўным паўстанцам. Васілю Вашчылу і яго брату Багдану ўдалося ўцячы на Украіну.

Прычынай паражэння Крычаўскага паўстання 1743—44 гг. былі стыхійнасць, неарганізаванасць яго ўдзельнікаў, што характэрна для ўсіх сялянскіх паўстанняў эпохі феадалізму. Паўстанне мела лакальны характар, яго не падтрымалі сяляне інш. уладанняў, не было належнай дапамогі з боку гарадскіх мас. Аднак, нягледзячы на няўдачу, паўстанне сялян Крычаўскага староства адыграла пэўную ролю ў аслабленні феадальнага прыгнёту. Радзівіл вымушаны быў пайсці на некаторыя ўступкі: замяніў прымусовыя работы на будах грашовым чыншам, зняў шэраг абмежаванняў у сялянскім гандлі, абвясціў пра намер не здаваць староства ў арэнду і інш.

*Літ.:* Мялешка В. І. Крычаўскае паўстанне.— Полымя, 1971, № 1; Гісторыя Беларускай ССР. Т. 1.— Мн., 1972, с. 409—416. *У. У. Бянько.*

**1457. МІКАЛАЕЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Сожавая, 45, на высокім левым беразе р. Сож. Пабудавана ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з дрэва. Кампазіцыя трохзрубная. Выцягнуты прамавугольны ў плане асноўны зруб накрыты двухсхільным дахам з залобкамі на тарцах. Над вільчыкам узвышаецца двух'ярусная вежачка з галоўкай. Да асноўнага зруба прылягаюць роўны з ім па вышыні невялікі прамавугольны бабінец і больш нізкая пяціграннная алтарная апсіда. З паўднёвага боку прыбудавана рызніца, з паўночнага — тамбур дадатковага ўвахода. У дэкоры фасадаў выкарыстаны ліштвы, гарызантальная шалёўка з вылучэннем цокальнай часткі і фрыза. Інтэр'ер зальны, столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік драўлянага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**1458. ПАЛАЦ** (архіт.). Вул. Ленінская, 59. Пабудаваны ў 1778—87 гг. з цэглы для князя Р. А. Пацёмкіна. У сярэдзіне 19 ст. рэканструяваны. Цяпер тут размешчана школа.

Палац — двухпавярховы П-падобны ў плане будынак з цэнтральным рызалітам на галоўным фасадзе. У цэнтры абодвух паверхаў вялікія круглыя



1458. *Палац. Галоўны фасад.*

залы. З асноўнага аб'ёму будынка ў бок двара выступае акруглы эркер. Галоўны фасад фланкіраваны гранёнымі пілонамі, якія завершаны зубцамі. Вокны цэнтральнага рызаліта стральчатыя, бакавых фасадаў — з стральчатымі сандрыкамі. Планіроўка анфіладная (зменена ў 1950-я гады). На 1-м паверсе па цэнтральнай восі знаходзілася парадная група памяшканняў: вестыбюль з лесвіцай і авальная зала. Памяшканні мелі багаты ляпны дэкор, кафляныя печы.

Каля палаца пейзажны парк (зберагліся асобныя дрэвы). За палацам размешчаны П-падобны ў плане будынак стайні, фасады якой апрацаваны аркатурай, і пладовы сад с фрагментамі пасадак ліп.

Палац — помнік архітэктуры класіцызму з пазнейшымі напластаваннямі элементаў псеўдагатычнага стылю.

*Літ.:* Кулагин А. Н. Архитектура дворцово-усадебных ансамблей Белоруссии: Вторая половина XVIII — начало XIX в.— Мн., 1981. *У. В. Алісейчык.*

**1459. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Вул. Ленінская, 76. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. Абслугоўвала паштовую дарогу Масква — Брэст — Варшава. Цяпер тут база дарожна-эксплуатацыйнай службы.

Станцыя — комплекс будынкаў, размешчаных вакол прамавугольнага ў плане двара. Галоўны будынак мураваны, прамавугольны ў плане, аднапавярховы, з дваровай і пазнейшай тарцовай прыбудовамі. Павернуты галоўным фасадам да дарогі, яго цэнтральная частка і вуглы вылучаны пілястрамі з гатычнымі арачнымі нішамі. Прамавугольныя вокны ў ліштвах з прафіляванымі сандрыкамі ў выглядзе стральчатых арак. Планіроўка будынка сіметрычная. Сцены памяшканняў апяразаны прафіляванымі карнізамі.

Паштовая станцыя — помнік неагатычнай архітэктуры. *У. В. Алісейчык.*



1461. *Помнік У. І. Леніну.*



1458. *Палац. Дваровы фасад.*



1458. *Палац. План 1-га паверха.*

**1460. ПОМНІК ДЗЯРЖЫНСКАМУ** Феліксу Эдмундавічу (гіст.). На вул. Савецкай. Бюст Ф. Э. Дзяржынскага ўстаноўлены ў 1978 г.

**1461. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай пл. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1960 г.

**1462. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Вул. Зялёная, каля адміністрацыйнага будынка цэментна-шыфернага камбіната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.



1459. *Галоўны будынак паштовай станцыі. План.*

**1463. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Камсамольскай, на тэрыторыі аўтакалоны № 2441. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**1464. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Н. К. Крупскай. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**1465. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Міру, каля будынка камбіната працоўнага навучання. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**1466. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Супрунова, у парку імя 30-годдзя БССР, каля Дома піянераў і школьнікаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**1467. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). Вул. Зялёная. Побач з адміністрацыйным будынкам цэментна-шыфернага камбіната.

У Вялікую Айчынную вайну ў акупіраваным нямецка-фашысцкімі захопнікамі пасёлку былога цэментнага завода дзейнічала падпольная група, якую ўзначальваў сакратар камітэта камсамола завода А. Л. Гаўрыленка. У пачатку 1942 г. група налічвала каля 20 чалавек. Падпольшчыкі збіралі звесткі аб варожых эшалонах з жывой сілай і тэхнікай, якія праходзілі праз станцыю Крычаў, вялі антыфашысцкую агітацыю сярод насельніцтва, распаўсюджвалі зводкі Саўінфармбюро і лістоўкі. Вывелі са строю электраматоры, сапсавалі трансмісіі печаў і канвеер, у выніку акупантам так і не ўдалося наладзіць выпуск цэменту. На чыгуначным вузле падпольшчыкі зрывалі рамонт паравозаў, падарвалі і спалілі інструментальны і механічны цэхі дэпо, электрастанцыю, бензасклад. 15.2.1943 г. нямецка-фашысцкія захопнікі арыштавалі многіх удзельнікаў Крычаўскага камуністычнага



1467. *Помнік падпольшчыкам.*

падполля. Група А. Л. Гаўрыленкі пайшла ў партызаны. На яе базе быў створаны Крычаўскі партызанскі атрад № 48 (камандзір А. Л. Гаўрыленка).

У 1980 г. у памяць аб дзейнасці падпольнай групы пастаўлена стэла.

*У. У. Бянько.*

**1468. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВАЕННАПАЛОННЫМ** (гіст.). На вул. Фрунзе, у пасёлку цэментна-шыфернага камбіната.

У 1941 г. на тэрыторыі цэментнага завода нямецка-фашысцкія захопнікі стварылі лагер для ваеннапалонных. Тэрыторыя лагера была абнесена калючым дротам у 3 рады, узмоцнена ахоўвалася. Вязні размяшчаліся ў драўляных бараках без даху, на цэментнай падлозе. Ад голаду і хвароб тут кожныя суткі паміралі 60—70 чалавек. Фашысты катавалі, расстрэльвалі палонных. Да верасня 1943 г. у лагеры загінула больш за 18 тыс. чалавек.

У 1981 г. на ўшанаванне памяці ваеннапалонных пастаўлены помнік — мемарыяльная сцяна, у якую ўмацаваны 2 дошкі з надпісамі-прысвячэннямі. Побач, на пастаменце, валун з рэльефнай выявай рукі вязня лагера, што разрывае калючы дрот.

*Літ.:* Преступления немецко-фашистских оккупантов в Белоруссии. 1941—1944.— [2 изд.].— Мн., 1965. *У. У. Бянько.*

**1469. ПОМНІК У ГОНАР АБАРОНЦАЎ ГОРАДА** (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад горада, каля аўтамабільнай дарогі Крычаў — Рослаўль.

У сярэдзіне ліпеня 1941 г. войскі 2-й танкавай групы Гудэрыяна прарваліся да р. Сож на ўчастку Слаўгарад — Крычаў — Мсціслаў. Пад націскам намнога большых сіл праціўніка 17.7. 1941 г. часці 13-й арміі вымушаны былі пакінуць Крычаў і заняць абарону ўздоўж левага берага Сожа. Гітлераўцы планавалі фарсіраваць водны рубеж з ходу. Аднак гэта ім не ўдалося. На рубяжы р. Сож завязаліся жорсткія баі. Воіны 6-й, 132-й, 137-й стралковых дывізій, 4-га паветрана-дэсантнага корпуса, Ленінградскага камуністычнага батальёна і інш. часці паспяхова стрымлівалі шматлікія атакі праціўніка. Дзякуючы мужнасці і гераізму абаронцаў, фронт на р. Сож утрымліваўся да 1 жніўня на ўчастку Мсціслаў — Крычаў і да 8 жніўня на ўчастку Крычаў — Слаўгарад. Гэта не дало магчымасці гітлераўцам перакінуць воінскія часці на інш. ўчасткі фронту.

У 1960 г. у гонар абаронцаў горада ўстаноўлена стэла.

*Літ.:* История Великой Отечественной войны Советского Союза 1941—1945. Т. 2.— М., 1961; В памяти народной.— Мн., 1969; В грозные годы.— Мн., 1973. *У. У. Бянько.*

**1470. РАДЗІМА КІСЯЛЁВА** Мацвея Сямёнавіча (гіст.).

Герой Грамадзянскай вайны М. С. Кісялёў нарадзіўся 18.11.1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з лістапада



1474. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

1917 г. Адзін з актыўных змагароў за Савецкую ўладу на Магілёўшчыне. У верасні — кастрычніку 1919 г. начальнік штаба ўдарнай групы войск, якая змагалася з белагвардзейскім корпусам Мамантава, удзельнік абароны Варонежа. З красавіка 1920 г. у Кіеве: ваенком інжынернага ўпраўлення, потым камандзір брыгады асобага прызначэння, камендант Кіева, начальнік стралковага корпуса. У 1926—29 гг. начальнік Маскоўскай гарадской і губернскай міліцыі, потым у будаўнічых арганізацыях Масквы. М. С. Кісялёў — першы кавалер 2 ордэнаў Чырвонага Сцяга (1919, 1920 гг.). Памёр у 1942 г. Яго імем названа вуліца ў Крычаве.

**1471. РАДЗІМА МАЗАЛЬКОВА** Яўгена Сямёнавіча (гіст.).

Рускі савецкі перакладчык, крытык і літаратуразнавец, заслужаны дзеяч культуры БССР (1968 г.) Я. С. Мазалькоў нарадзіўся 17.9.1909 г. у сям'і настаўніка. Скончыў 1-ы Маскоўскі універсітэт (1930 г.). У Вялікую Айчынную вайну рэдактар выдаваемага на рускай мове часопіса «Беларусь». У 1948—69 гг. старшыня камісіі, потым — Савета па беларускай літаратуры пры праўленні Саюза пісьменнікаў СССР. Друкавацца пачаў у 1924 г. Перакладчык на рускую мову твораў Я. Купалы, Я. Коласа, К. Чорнага, М. Лынькова, І. Мележа, А. Кулакоўскага, І. Навуменкі і інш. беларускіх пісьменнікаў. Шэраг прац прысвяціў творчасці Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча, З. Бядулі, К. Чорнага, П. Броўкі, М. Танка, К. Крапівы, А. Куляшова. Дзяржаўная прэмія СССР 1950 г. за кнігу «Янка Купала. Жыццё і творчасць» (1949 г.). Перакладчык і рэдактар першых выданняў на рускай мове твораў М. Багдановіча, М. Танка, А. Куляшова, першага збору твораў Я. Коласа, многіх кніг Я. Купалы. Памёр Я. С. Мазалькоў 15.12.1969 г. Пахаваны ў Маскве.

**1472. РАДЗІМА СМАЛЯКОВА** Абрама Яфімавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Я. Смалякоў нарадзіўся 16.5.1908 г. у рабочай сям'і. У Чырвонай Арміі з 1930 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце, намеснік камандзіра па палітычнай частцы знішчальнага процітанкавага артылерыйскага палка. Удзельнік Курскай бітвы. У баях на Белгародскім напрамку полк 6—7.7.1943 г. каля в. Пакроўка знішчыў 89 варожых танкаў. 30.9.1943 г. пераправіўся цераз Днянро каля Канева. 3.10.1943 г., калі вораг перайшоў у контрнаступленне і пацясніў нашы войскі, байцы палка адбілі націск праціўніка і аднавілі становішча на плацдарме. У час бою А. Я. Смалякоў падбіў некалькі танкаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.12.1943 г. Пахаваны ў с. Лепляво Канеўскага р-на Чаркаскай вобл. Яго імем названа вуліца ў Крычаве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Асавец, Бацвінаўскі сельсавет**

**1473. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Перамога». На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптуры жанчыны і параненага воіна.

**в. Бацвінаўка, цэнтр сельсавета**

**1474. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля клуба. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі, што размяшчаўся ў пачатку 1944 г. у вёсцы. Сярод пахаваных — воіны 385-й стралковай дывізіі. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1475. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).




1475. *Курганныя могільнікі. План.*

**1475а.** Могільнік-1. На паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Жукаўка, уздоўж чыгуначнага палатна, каля будкі пуцявога абходчыка. 7 насыпаў добрай захаванасці, вышынёй 1 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Знойдзены скроневыя кольцы, шкляныя пазалочаныя пацеркі, арабскія манеты дырхемы, шыферныя праслiцы. Належаў радзімічам.
**1475б.** Могільнік-2. За 0,7 км на паўднёвы захад ад могільніка-1, на правым беразе р. Жукаўка, у густым хвойніку. 32 насыпы вышынёй 0,4—2,6 м, дыяметрам 5—12 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.
**1475в.** Могільнік-3. Насупраць могільніка-1, за 0,5 км ад яго, на левым беразе р. Жукаўка, у полі. 15 насыпаў вышынёй ад 0,8 да 3 м, дыяметрам 5—13 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

Раскопкі могільнікаў не праводзіліся. Матэрыялы абследавання могільніка-1 захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *М. А. Ткачоў.*

**в. Бель, Лабковіцкі сельсавет**

**1476. МАГІЛА ГУМЕННІКАВА** Аляксея Васілевіча (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык малодшы лейтэнант А. В. Гуменнікаў (1916 года нараджэння) загінуў 13.7.1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў над роднай вёскай. Яго імем названа вуліца ў Крычаве. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1477. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1981 г.

**в. Вародзькаў 3-і, Бацвінаўскі сельсавет**

**1478. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўночны захад ад калгаснай фермы, на правым беразе р. Волчас, у хвойніку, абапалляснoй дарогі. 33 насыпы вышынёй 0,3—1,7 м, дыяметрам 5—8 м. Выявіў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Волчас, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1479. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 3 км на захад ад вёскі, побач з жывёлагадоўчай фермай.

Займае мыс паміж ярам і далінай ручая, які ўпадае ў р. Волчас. Пляцоўка памерам 50×40 м была ўмацавана з боку поля 2 валамі вышынёй 4—5 м і равамі глыбінёй каля 1 м. Вядома з 1873 г., у 1983 г. абследаваў С. Я. Расадзін. Пры шурфоўцы выяўлены культурны пласт каля 1 м, знойдзена кераміка 6 ст. да н. э.— 1 ст. н. э. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. Я. Расадзін.*

**1480. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з дзіцем.

**1481. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).
**1481а.** Селішча. За 350 м на захад ад вёскі. На левым беразе р. Волчас, плошча каля 0,5 га. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. На паверхні сабрана ганчарная кераміка, шлакі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі і да сярэднявечча.
**1481б.** Могільнік. За 250 м на поўнач ад вёскі, на могілках і на полі. 41 насып вышынёй ад 0,4 да 2 м, дыяметрам 4—10 м. Асобныя курганы папсаваны ямамі. Адкрыў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893. *М. А. Ткачоў.*

**в. Горкі, Бацвінаўскі сельсавет**

**1482. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).
**1482а.** Гарадзішча. За 0,4—0,5 км на захад ад вёскі, за ровам, па якім працякае ручай. Пляцоўка плошчай 0,3—0,4 га, роўная, густа зарасла лісцевымі дрэвамі. Земляныя ўмацаванні знівеліраваны, прасочваюцца толькі з заходняга і паўночна-ўсходняга


1479. *Гарадзішча. План.*



1481. *Селішча. Курганны могільнік. План.*



1478. *Курганны могільнік. План.*



1482. *Гарадзішча (1), селішча (2). План.*

бакоў. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. У шурфе ў культурным пласце 0,8—1 м знойдзена ганчарная кераміка. Адносіцца да сярэднявечча. Датуецца 14—16 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

**1482б.** Селішча. Насупраць гарадзішча, на схілах левага высокага берага р. Любавічка, прытока р. Волчас. Займае вялікі (плошча каля 1—1,5 га) участак калгаснага поля. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. На паверхні сабрана ганчарная кераміка. Адносіцца да сярэднявечча. Датуецца 14—17 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *М. А. Ткачоў.*

**в. Губеншчына, Бацвінаўскі сельсавет**

**1483. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1978 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дзягавічы, Чырванабудскі сельсавет**

**1484. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Дзягавічы». На ўшанаванне памяці 220 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены абеліск.

**1485. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Дзягавічы». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1982 г.

**в. Зарубец, Чырванабудскі сельсавет**

**1486. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны Ленінградскага камуністычнага батальёна і Тамбоўскіх камуністычных рот, якія загінулі ў абарончых баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Іванаўка, Лабковіцкі сельсавет**

**1487. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 131 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вінтоўкай, абапал — дошкі з імёнамі загінуўшых. Запалены Вечны агонь.

**1488. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Сацыялістычны шлях». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1984 г.

**в. Камароўка, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1489. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 146 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1984 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 жанчын у жалобе.




1491. *Помнік землякам.*

**в. Канцы, Бацвінаўскі сельсавет**

**1490. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Касцюшкавічы, цэнтр сельсавета**

**1491. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Памяць Леніна». На ўшанаванне памяці 165 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1492. ПОМНІК ПЕРШЫМ КАЛГАСНІКАМ-ТРАКТАРЫСТАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Памяць Леніна». У 1981 г. у сувязі з 50-годдзем гаспадаркі і ў гонар першых трактарыстаў калгаса ўстаноўлены трактар «Універсал» на пастаменце.

**пас. Каханоў, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1493. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад пасёлка, каля фермы. 11 насыпаў вышынёй 0,3—1,2 м, дыяметрам 5—8 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кашаны, Лабковіцкі сельсавет**

**1494. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,6 км на паўночны захад ад вёскі. 12 насыпаў вышынёй 0,5—1,2 м, дыяметрам 4—8 м. Адкрыў у 1967 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**пас. Крычаўскі 1-ы, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1495. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад пасёлка, на правым беразе р. Сож, за хвойнікам. 7 насыпаў вышынёй 1—2 м, дыяметрам 6—10 м. Захаванасць добрая. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Лабковічы, цэнтр сельсавета**

**1496. КУРГАН** (археал.). За 1,3 км на ўсход ад усходняй ускраіны вёскі (былая в. Бель-3), на поплаве правага берага р. Сож. Вышыня 2,5 м, дыяметр 13 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

**1497. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя Карла Маркса. На ўшанаванне памяці 384 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна, абапал яе дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1498. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). У цэнтры вёскі. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1980 г.

**1499. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя К. Маркса. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1980 г.

**1500. РАДЗІМА КІСЯЛЁВА** Кузьмы Венядзіктавіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР К. В. Кісялёў нарадзіўся 19.10.1903 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1925 г. У 1928 г. скончыў медыцынскі факультэт Варонежскага універсітэта, кандыдат медыцынскіх навук (1936 г.).



1492. *Помнік першым калгаснікам-трактарыстам.*



**1497.** *Помнік землякам.*

У 1928—37 гг. ардынатар клінікі універсітэта і намеснік загадчыка Варонежскага акруговага аддзела аховы здароўя; навуковы супрацоўнік Усесаюзнага інстытута эксперыментальнай медыцыны. З 1937 г. народны камісар аховы здароўя БССР, з 1938 г. старшыня СНК БССР, з 1940 г. намеснік дырэктара Інстытута эксперыментальнай медыцыны, дырэктар Дзяржаўнага медыцынскага выдавецтва ў Маскве, старшыня Ульянаўскага аблвыканкома. З снежня 1943 г. першы намеснік, з сакавіка 1944 г. да 1958 г. намеснік старшыні СНК (з 1946 г. Савет Міністраў) БССР і нарком (з 1946 г. міністр) замежных спраў БССР. З 1966 г. саветнік Савета Міністраў БССР. Член ЦК КПБ у 1938—66 гг., член Бюро ЦК КП(б)Б у 1938—40 гг., 1947—49 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР (1937—58 гг.), Вярхоўнага Савета БССР (1938—67 гг.).

К. В. Кісялёў памёр 4.5.1977 г. Пахаваны ў Мінску на Усходніх могілках. Яго імя прысвоена Лабковіцкай сярэдняй школе.

**в. Луты, Маляціцкі сельсавет**

**1501. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 155 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: жанчына з хлопчыкам.

**в. Маляцічы, цэнтр сельсавета**

**1502. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы. На ўшанаванне памяці 330 землякоў з вёсак Маляціцкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з дзіцем. Побач дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Паклады, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1503. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1503а.** Селішча. За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. У агаленнях яра, які пераразае селішча, культурны пласт 0,4—0,6 м (у месцы разворвання 0,2 м). У ім знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да сярэднявечча.

**1503б.** Могільнік. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, уздоўж высокага правага берага р. Сож. 11 насыпаў вышынёй 0,8—2,2 м, дыяметрам 6—13 м. Курганы параслі кустамі, добра захаваліся (за выключэннем 2 насыпаў на тэрыторыі малочна-таварнай фермы). Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

**1503в.** Курган. На паўночны ўсход ад вёскі, сярод поля. Вышыня 0,6 м, дыяметр 5 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі селішча і могільніка не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903. в. 5. *М. А. Ткачоў.*

**в. Паланіца, Лабковіцкі сельсавет**

**1504. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 93 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Лабковіцкага сельсавета ў 1941 і 1943 гг. ці памерлі ў пачатку 1944 г. ад ран у шпіталі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**в. Прудок, Чырванабудскі сельсавет**

**1505. ПОМНІК НА МЕСЦЫ ЗАГУБЫ САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ, ПАДПОЛЬШЧЫКАЎ, МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі. Тут у гады акупацыі нямецка-фашысцкія захопнікі праводзілі масавыя расстрэлы савецкіх грамадзян. 15.2.1943 г. яны расстралялі 280 ваеннапалонных з Крычаўскага лагера, 21.2.1943 г.— удзельнікаў Крычаўскага падполля савецкага спевака А. І. Акаёмава і галоўнага дырыжора Маскоўскай абласной філармоніі Г. П. Лузеніна. За час акупацыі гітлераўцы загубілі тут больш за 1200 чалавек, сярод іх — жанчыны, старыя, дзеці.

У 1982 г. на месцы загубы пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя (скульпт. Э. Астаф'еў, арх. Ю. Казакоў) і мемарыяльны знак. Запалены Вечны агонь. *У. У. Бянько.*

**в. Сакольнічы, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1506. ПОМНІК СІРАЦІНІНУ** Мікалаю Уладзіміравічу (гіст.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля дарогі Чэрыкаў — Крычаў.

17.7.1941 г. пасля ўпартых баёў з намнога большымі сіламі нямецка-фашысцкіх войск савецкія воіны вымушаны былі пакінуць Крычаў, пераправіцца цераз р. Сож і заняць абарону ўздоўж берага. 6-я стралковая дывізія прыкрывала адыход 13-й арміі, вяла баі супраць 14-й нямецкай танкавай дывізіі. Калі варожыя танкі падышлі да ракі, артылерыя адкрыла агонь. Пасля першых выстралаў загарэліся галаўны танк і бронемашына праціўніка. Некалькі танкаў загрузлі ў балоце каля моста. Фашысцкія танкісты і аўтаматчыкі скіравалі агонь па гармаце, якая была замаскіравана ў жыце. З усяго разліку жывым астаўся наводчык старшы сяржант М. У. Сірацінін. Ранены, ён працягваў весці бой, пакуль не загінуў.

М. У. Сірацінін нарадзіўся ў 1921 г. у г. Арол у сям'і чыгуначніка. Пасля сканчэння школы працаваў токарам на заводзе. З верасня 1940 г. ў Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на фронце, наводчык, старшы сяржант. У 1957 г. астанкі воіна



**1502.** *Помнік землякам.*




**1503.** *Селішча (1), курганны могільнік (2), курган (3).*



1506. *Помнік М. У. Сірацініну.*

былі перазахаваны ў брацкую магілу (гл. артыкул № 1444 «Брацкая магіла савецкіх воінаў»). У 1965 г. М. У. Сірацінін пасмяротна ўзнагароджаны ордэнам Айчыннай вайны 1-й ступені. Яго імем названы вуліцы ў Крычаве і Арле, піянерская дружына Сакольніцкай сярэдняй школы.

У 1961 г. на месцы бою пастаўлены абеліск, у 1971 г.— гармата на пастаменце. *М. Ф. Мельнікаў.*

**1507. ПОМНІКІ ГІНДЗІНАЙ** Таццяне Міхайлаўне **І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Запаветы Ільіча».

Савецкая разведчыца Т. М. Гіндзіна нарадзілася ў 1916 г. у в. Барысавічы Клімавіцкага р-на Магілёўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. У 1935 г. скончыла курсы трактарыстаў. Першая жанчына-трактарыст у раёне, брыгадзір трактарнай брыгады Крычаўскай МТС, з 1938 г. старшыня Сакольніцкага сельсавета, з 1939 г. інструктар Крычаўскага раённага выканкома па калгасным будаўніцтве. У Вялікую Айчынную вайну добраахвотна пайшла ў Чырвоную Армію. Скончыла спецшколу. Восенню 1942 г. накіравана ў тыл ворага, намеснік камандзіра разведвальна-дыверсійнай групы. У лістападзе 1942 г. група была выяўлена ворагамі. Т. М. Гіндзіна прыкрывала адыход разведчыкаў, была цяжка паранена і захоплена ў палон. 19.11.1942 г. расстраляна фашыстамі ў г. Чэрыкаў. Яе імем названа вуліца ў Крычаве.

У 1976 г. на ўшанаванне памяці Т. М. Гіндзінай ўстаноўлены бюст, побач — стэла з імёнамі 135 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. *У. У. Бянько.*



1509. *Курганны могільнік, курган. План.*

**в. Свадкавічы, Касцюшкавіцкі сельсавет**

**1508. РАДЗІМА КАВАЛІКА** Сяргея Піліпавіча (гіст.).

Адзін з кіраўнікоў народніцкага руху 1870-х гадоў С. П. Кавалік нарадзіўся 13.10.1846 г. у былым маёнтку Свадкавічы, у дваранскай сям'і. Тут прайшло яго дзяцінства. З 1856 г. вучыўся ў кадэцкім корпусе, пераязджаў разам з навучэнцамі з Масквы ў Вільню, Пецярбург. У 1869 г. скончыў Кіеўскі універсітэт. Працаваў міравым суддзёй у Чарнігаўскай губерні, вёў рэвалюцыйную прапаганду сярод сялян. У 1873 г. за мяжою пазнаёміўся з М. А. Бакуніным, П. Л. Лаўровым, П. М. Ткачовым, з якімі падзяляў рэвалюцыйныя погляды. Вярнуўшыся ў Расію, арганізоўваў народніцкія гурткі ў Кіеве, Харкаве, Маскве, Яраслаўлі, Ніжнім Ноўгарадзе, Казані і інш. гарадах. Удзельнік масавага «хаджэння ў народ». У ліпені 1874 г. арыштаваны. У кастрычніку 1877 г.— студзені 1878 г. на судзе, які ўвайшоў у гісторыю пад назвай «працэс 193-х», засуджаны на 10 гадоў катаргі і сасланы ў Сібір. Пасля ссылкі жыў у Верхаянску, потым у Іркуцку, удзельнічаў у этнаграфічных экспедыцыях па Якуціі. У 1898 г. атрымаў дазвол і прыехаў у Мінск, працаваў у акцызным упраўленні. У гады першай сусветнай вайны служыў ва Усерасійскім земскім саюзе, быў знаёмы з М. В. Фрунзе. У час Лютаўскай рэвалюцыі і пасля яе падтрымліваў эсэраў. Пасля ўстанаўлення Савецкай улады працаваў старшынёй Мінскага губернскага зямельнага камітэта, у органах сацыяльнага забеспячэння БССР, выкладчыкам матэматыкі ў Мінскім політэхнічным інстытуце, з'яўляўся членам Усерасійскага таварыства былых паліткатаржан і ссыльнапасяленцаў. Аўтар успамінаў «Рэвалюцыйны рух сямідзесятых гадоў і працэс 193-х» (1928 г.) і інш.

Памёр 26.4.1926 г. Пахаваны ў Мінску на Вайсковых могілках.

*Літ.:* Малінін А. С. Рэвалюцыянер Сяргей Кавалік.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1980, № 1. *У. У. Бянько.*

**в. Стаборшчына, Лабковіцкі сельсавет**

**1509. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1509а.** Могільнік. На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Чорная Натапа. 21 курган добрай захаванасці, вышынёю 0,4—3 м, дыяметрам 5—12 м. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1509б.** Курган. За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, за бярозавым гаем, на полі. Вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.



1510. *Помнік землякам.*



1515. *Помнік падпольшчыкам.*



**1517а.** *Гарадзішча.*

**в. Сычык, Бацвінаўскі сельсавет**

**1510. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі.На ўшанаванне памяці 112 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Чырвоная Буда, цэнтр сельсавета**

**1511. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1512. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1513. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка канторы саўгаса «Крычаўскі». На ўшанаванне памяці 396 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1514. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка праўлення саўгаса «Крычаўскі». Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1971 г.

**1515. ПОМНІК ПАДПОЛЬШЧЫКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, злева ад шашы Крычаў — Рослаўль.

У студзені 1942 г. у в. Міхеевічы Чырванабудскага сельсавета была створана падпольная група, якую ўзначаліў камсамолец А. М. Крупадзёраў. У групу ўваходзілі камуніст А. М. Штолік, камсамольцы У. І. Абабкін, В. С. Берахаў, І. П. Брыкаў, А. С. Віцюгоў, Р. Л. Нікалайчанка (Нікалайкаў). Падпольшчыкі збіралі зброю і перапраўлялі яе на месца будучага базіравання 48-га асобнага партызанскага атрада, распаўсюджвалі сярод насельніцтва зводкі Саўінфармбюро, лістоўкі. Патрыёты падарвалі варожы поезд з 2 платформамі, вывелі са строю поезд з майстэрнямі па рамонту пуцей, чыгуначнае палатно на лініі Крычаў — Клімавічы, пашкодзілі мост на Маскоўскай шашы. 29—30.7.1943 г. падпольшчыкі былі арыштаваны (пазбег арышту толькі А. М. Штолік) і загінулі ў фашысцкіх засценках.

У 1979 г. у памяць аб дзейнасці падпольнай групы пастаўлена стэла з выявамі полымя і мяча, на дошцы — надпіс-прысвячэнне.

*Літ.:* Нікалайчанка М. І., Мішчанка М. Л. Сталі вядомы новыя імёны.— Помнікі гісторы і культуры Беларусі, 1982, № 3. *У. У. Бянько.*

**пас. Чырвоны Бор, Чырванабудскі сельсавет**

**1516. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры пасёлка. Пахаваны 15 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. Сярод пахаваных — воіны 1270-га стралковага палка 385-й стралковай дывізіі. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з лаўровым вянком.

**в. Ягораўка, Чырванабудскі сельсавет**

**1517. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1517а.** Гарадзішча. За 4 км на ўсход ад вёскі, за лесам, на нізкім забалочаным поплаве левага берага р. Асцёр. Пляцоўка авальнай формы, памерам 54×28 м. З усходу і захаду захаваліся два дугападобныя валы і роў. Яшчэ адзін вал і роў знаходзіцца ў заходняй частцы, каля падножжа гарадзішча. Вышыня валоў каля 2 м, глыбіня равоў 1,6—1,8 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. У шурфе памерам 1×1 м прасочаны культурны пласт 0,55—0,5 м, у якім знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, абпаленыя камяні, вуголле і косці жывёл. Адносіцца да ранняга жалезнага веку, існавала і ў час позняга сярэднявечча.



**1517б.** *Курганны могільнік.*



**1517.** *Гарадзішча. Курганны могільнік. План.*

**1517б.** Курганны могільнік. За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на краі калгаснага поля. 7 насыпаў вышынёю 0,9—2,1 м, дыяметрам 5—9 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. А. Ткачоў.*




# МАГІЛЁЎСКІ РАЁН




Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы нацыянальна-вызваленчага руху

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07 г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

савецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

**в. Алень, Семукацкі сельсавет**

**1518. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,6 км на захад ад вёскі. Пахаваны 38 мірных жыхароў, якіх расстралялі 14.8.1942 г. нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1519. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ПАРТЫЗАН 255-га АТРАДА** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1977 г.

У жніўні 1941 г. паводле рашэння ЦК КП(б)Б з партыйна-савецкага актыву Рагачоўскага р-на створаны Рагачоўскі партызанскі атрад. У лістападзе 1941 г. у Быхаўскім р-не член Рагачоўскага падпольнага райкома КП(б)Б А. А. Бірукоў і ваеннаслужачы М. К. Марусаў стварылі партызанскую групу колькасцю 15 чалавек. Да красавіка 1942 г. група вырасла і аформілася ў атрад, які ў ліпені атрымаў нумарное абазначэнне 255-ы. У ліпені 1942 г. атрады аб'ядналіся. Аб'яднаны атрад называўся 255-ы. Да лютага 1943 г. дзейнічаў самастойна, потым у складзе 8-й Рагачоўскай брыгады. Камандзіры М. К. Марусаў (красавік 1942 г.— красавік 1943 г.), В. А. Мінайлаў (красавік — кастрычнік 1943 г.), камісары А. А. Бірукоў (красавік 1942 г.— сакавік 1943 г.), А. К. Іванюк (красавік — ліпень 1943 г.), І. А. Ярымаў (ліпень — кастрычнік 1943 г.). Партызаны наносілі ўдары на чыгуначных участках Быхаў — Жлобін, Жлобін — Бабруйск. Удзельнічалі ў баях з карнікамі, грамілі варожыя апорныя пункты і паліцэйскія ўчасткі, гарнізоны. У жніўні 1943 г. у аперацыі «Рэйкавая вайна» падарвалі больш за тысячу рэек. У лістападзе 1943 г. атрад разгорнуты ў 255-ы партызанскі полк, які ўваходзіў у 8-ю Рагачоўскую брыгаду, з сакавіка 1944 г.— у Рагачоўскую ваенна-аператыўную групу. 28.6.1944 г. полк (849 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй.

*Літ.:* Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

**в. Амхавая, Нядашаўскі сельсавет**

**1520. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 23 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні вёскі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск. На ім дошка з імёнамі 14 воінаў (прозвішчы 9 — не ўстаноўлены).

**в. Барсукі, Вендаражскі сельсавет**

**1521. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана больш за 100 мірных жыхароў, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных — сям'я Асмалоўскіх.

У канцы ліпеня 1941 г. 172-я стралковая дывізія на чале з генерал-маёрам М. Ц. Раманавым выходзіла з акружэння. Камандзір дывізіі быў цяжка паранены. Яго схавала сям'я Асмалоўскіх. 22.9.1941 г. у вёску ўварваліся карнікі, расстралялі ўсю сям'ю патрыётаў, спалілі хату, а М. Ц. Раманава ўзялі ў палон.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972. *В. В. Семянюк.*



1523. *Помнік землякам.*

**в. Боўшава, Дашкаўскі сельсавет**

**1522. МАГІЛА КАРЛОЎСКАГА** Андрэя Несцеравіча (гіст.). На могілках. Партызан А. Н. Карлоўскі загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бракава, Княжыцкі сельсавет**

**1523. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 239 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1959 г. пастаўлены абеліск.

**в. Брылі, цэнтр сельсавета**

**1524. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 25 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1525. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1526. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 142 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлена стэла.

**в. Будзішча, Вендаражскі сельсавет**

**1527. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН 121-га ПАЛКА ІМЯ А. М. КАСАЕВА** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Бялыніцкага, Магілёўскага і Быхаўскага р-наў Магілёўскай вобл. дзейнічаў 121-ы партызанскі полк імя А. М. Касаева. У красавіку 1942 г. у Бялыніцкім р-не з ваеннаслужачых, якія не выйшлі з варожага тылу, арганізавана група партызан на чале з М. І. Абрамавым. У маі 1942 г. яна пераўтворана ў 121-ы атрад і ўвайшла ў Клічаўскі аператыўны цэнтр. З 27.11.1942 г. да чэрвеня 1943 г. у 6-й Магілёўскай брыгадзе, потым у Магілёўскай (раённай) ваенна-аператыўнай групе. Камандзіры атрада М. І. Абрамаў (май — ліпень 1942 г., загінуў), А. М. Касаеў (ліпень 1942 г.— лістапад 1943 г.), камісары А. М. Касаеў (май — ліпень 1942 г.), І. М. Іваноў (ліпень 1942 г.— лістапад 1943 г.). У лістападзе 1943 г. атрад разгорнуты ў 121-ы полк. Камандзіры палка А. М. Касаеў (лістапад 1943 г.— люты 1944 г., загінуў), А. А. Ільінскі (люты — чэрвень 1944 г.), камісар І. М. Іваноў (лістапад 1943 г.— чэрвень 1944 г.). У сакавіку 1944 г. палку прысвоена імя загінуўшага (18.2.1944 г.) камандзіра А. М. Касаева. Партызаны палка праводзілі аперацыі на чыгуначным участку Шклоў — Магілёў — Быхаў. Разам з інш. атрадамі і самастойна разграмілі варожыя гарнізоны і апорныя пункты ў вёсках Аксенькавічы, Вялікія Бялевічы, Гусліпча, Дашкаўка, Каменка, Падзевічы, Угольшчына, Цяхцін. У час аперацыі «Рэйкавая вайна» 3.8.1943 г. падарвалі каля станцыі Быхаў 230 рэек. 9.1.1944 г. каля в. Пясчанка правялі бой па выратаванню мірных жыхароў ад фашысцкай загубы. У маі 1944 г. знішчылі 10 аўтамашын. 20.6.1944 г. разам з 61-м атрадам вялі бой з часцямі 60-й нямецкай рэзервовай мотамеханізаванай дывізіі, раскватараванай у вёсках раёна. 30.6.1944 г. полк (1149 партызан) злучыўся з Чырвонай Арміяй. Камандзіру палка А. М. Касаеву 8.5.1965 г. прысвоена званне Героя Савецкага Саюза.

У 1971 г. у гонар баявых дзеянняў партызан палка пастаўлены абеліск. *В. В. Семянюк.*

**в. Буйнічы, Цішоўскі сельсавет**

**1528. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 61 воін 153-й і 330-й стралковых



1529. *Помнік на месцы баёў 172-й стралковай дывізіі.*

дывізій 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1529. БУЙНІЦКАЕ ПОЛЕ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Месца значных гістарычных падзей.

Месца бітвы 1595 г. У час антыфеадальнага сялянска-казацкага паўстання 1594—96 гг. на Украіне і Беларусі атрад пад кіраўніцтвам С. Налівайкі перайшоў на тэрыторыю Беларусі, дзе да яго далучыліся мясцовыя сяляне, мяшчане і дробная шляхта. Паўстанцы занялі Слуцк, у снежні 1595 г. штурмам узялі Магілёў. 15 снежня супраць атрада С. Налівайкі выступіла сабранае феадаламі 18-тысячнае войска пад камандаваннем рэчыцкага старосты М. Буйвіда. Паўстанцы (больш за 2 тыс. чалавек) на Буйніцкім полі абгарадзіліся радамі вазоў і цэлы дзень адбівалі атакі ворага, прычынілі яму значныя страты. Вечарам мусілі адысці на Быхаў.

Месца баёў 172-й стралковай дывізіі. Тут у ліпені 1941 г. праходзіў пярэдні край абароны 388-га стралковага палка (палкоўнік С. Ф. Куцепаў) 172-й стралковай дывізіі (генерал-маёр М. Ц. Раманаў) і атрадаў народнага апалчэння (палкоўнік М. І. Мазалаў).

Сканцэнтраваўшы буйныя сілы артылерыі і танкаў, камандаванне нямецка-фашысцкіх войск меркавала прарваць на гэтым участку абарону савецкіх войск і захапіць г. Магілёў. 12 ліпеня адбыўся жорсткі бой, які працягваўся 14 гадзін. Вораг няспынна атакаваў, артылерыйскі і мінамётны абстрэл чаргаваўся з танкавымі атакамі. Байцы пры падтрымцы 340-га лёгкага артылерыйскага палка мужна вялі бой, закідвалі танкі ворага бутэлькамі з гаручай сумессю, расстрэльвалі гітлераўцаў з кулямётаў. За дзень яны падбілі і спалілі 39 танкаў, 3 самалёты праціўніка. Абаронцы ўтрымлівалі свае пазіцыі да 22 ліпеня.

У 1962 г. у гонар мужных байцоў пастаўлены абеліск.

Помнік Сіманаву Канстанціну Міхайлавічу.

Рускі савецкі пісьменнік, грамадскі дзеяч, Герой Сацыялістычнай Працы (1974 г.) К. М. Сіманаў нарадзіўся 15.11.1915 г. у Ленінградзе. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага (1938 г.). У Вялікую Айчынную вайну на фронце, карэспандэнт газеты «Красная Звезда». 12—14 ліпеня 1941 г. быў на пярэднім краі абароны 172-й стралковай дывізіі каля в. Буйнічы. Пасля вайны рэдактар «Литературной газеты» (1950—54 гг.), часопіса «Новый мир» (1946—50 гг. і 1954—58 гг.), намеснік генеральнага сакратара (1946—54 гг.), сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў СССР (1954—59 гг. і 1967—79 гг.). Кандыдат у члены ЦК КПСС у 1952—56 гг., член Цэнтральнай рэвізійнай камісіі КПСС у 1956—61 гг. і 1976—79 гг. Дэпутат Вярхоўнага Савета СССР у 1946—54 гг. Друкаваўся з 1934 г. Асноўная тэма даваенных твораў (паэмы «Лядовае пабоішча», 1938 г., «Сувораў», 1939 г.; п'есы «Гісторыя аднаго кахання», 1940 г., «Хлопец з нашага горада», 1941 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1942 г.) — мужнасць і гераізм, духоўнае багацце рускага народа. У творах ваеннай тэматыкі раскрываў суровую і высокую праўду народнага подзвігу ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, услаўляў гераізм савецкіх людзей: п'еса «Рускія людзі» (1942 г., Дзяржаўная прэмія СССР 1943 г.), аповесць «Дні і ночы» (1943—44 гг., Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г.), трылогія «Жывыя і мёртвыя» (раманы «Жывыя і мёртвыя», 1954—59 гг., «Салдатамі не нараджаюцца», 1963—64 гг., «Апошняе лета», 1970—71 гг.; Ленінская прэмія 1974 г.) і інш. Шырокую вядомасць атрымалі прасякнутыя матывамі патрыятызму, нязломнай душэўнай сілы савецкага чалавека ваенная лірыка і п'есы К. Сіманава «Рускае пытанне» (1946 г.), «Чужы цень» (1949 г.), кніга вершаў «Сябры і ворагі» (1948 г.), Дзяржаўныя прэміі СССР адпаведна 1947, 1950, 1949 гг. Апублікаваў аповесці «З нататак Лапаціна» (1965 г.), «Дваццаць дзён без вайны» (1972 г.), дзённікі з аўтарскімі каментарыямі, п'есу «Чацвёрты» (1961 г.) і інш., пісаў сцэнарыі да мастацкіх і дакументальных фільмаў, падарожныя нарысы і інш.



1529. *Помнік К. М. Сіманаву.*



1534. *Помнік землякам.*

Памёр 28.8.1979 г. Па жаданню К. М. Сіманава яго прах развеяны над Буйнічамі над месцам жорсткіх баёў 1941 г., падзеі якіх ляглі ў аснову рамана «Жывыя і мёртвыя».

У 1980 г. на ўшанаванне памяці К. М. Сіманава ўстаноўлены мемарыяльны знак.

*Літ.:* Солдатами были все.— 2 изд.— Мн., 1972; Вишневская И. Л. Константин Симонов: Очерк творчества.— М., 1966; Песков В. Камень под Могилевом.— У кн.: Константин Симонов в воспоминаниях современников. М., 1984.

*В. В. Семянюк.*

**1530. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Благадаць. Пляцоўка авальная, памерам 27×15 м, выцягнута з поўдня на поўдзень. Вышыня над поплавам 8 м. Выявіў у па-

чатку 20 ст. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт у сценцы кар'ера 0,3—0,4 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Романов Е. Р. Старина доисторическая Северо-Западного края.— Вильна, 1908; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. У. Дучыц.*

**1531. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МЯЛЬНОВУ** Івану Міхайлавічу (гіст.). На будынку прафтэхвучылішча № 1. Устаноўлена ў 1976 г.

Герой Савецкага Саюза І. М. Мяльноў нарадзіўся 22.1.1924 г. у г. Златауст Чэлябінскай вобл. у сям'і рабочага. Член КПСС з 1944 г. У 1940 г. скончыў прафтэхвучылішча, працаваў на машынабудаўнічым заводзе імя Кірава ў Златаусце. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на фронце. Камандзір стралковай роты лейтэнант І. М. Мяльноў вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра ў раёне в. Буйнічы. У ноч на 27.6.1944 г. рота на чале з ім пераправілася на правы бераг ракі і замацавалася на плацдарме. З шасцю байцамі І. М. Мяльноў прарваўся да цэнтра вёскі і на будынку вадакачкі ўзняў чырвоны сцяг. Гэта быў умоўны сігнал для атакі.



**1535.** *Царква Пакроваў багародзіцы.*




**1535.** *Царква Пакроваў багародзіцы. План.*

Загінуў 19.7.1944 г. Пахаваны ў г. п. Свіслач Гродзенскай вобл. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3. 1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**1532. СТАЯНКА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 18×30 м. Выявіў і абследаваў у 1975 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м. У агаленнях тэрасы знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, бакавыя разцы, нуклеусы і адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту, датуецца 8—5-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Вейна, цэнтр сельсавета**

**1533. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 38 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Магілёўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1534. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі. На ўшанаванне памяці 68 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**1535. ЦАРКВА ПАКРОВАЎ БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з цэглы.

Цэнтрычны будынак у плане блізкі да квадрата са скругленымі вугламі. У яго кампазіцыі дамінуе сферычны купал на круглым светлавым барабане. Вуглавыя часткі галоўнага фасада завершаны круглымі вежамі. Фасады раскрапаваны рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі. Па восях рызалітаў размешчаны вялікія нішы з лучковымі імпастамі. У нішах з захаду і поўдня — уваходы, аздобленыя паўкалонамі і стральчатымі люкарнамі ў імпастах. Пры галоўным уваходзе прыбудаваны вялікі драўляны тамбур.

Інтэр'ер двухсветлавы, падзелены 4 магутнымі слупамі. Аркі, якія злучаюць слупы і пілястры сцен, фарміруюць прастору інтэр'ера ў падоўжным напрамку. Бакавыя часткі больш нізкія, скляпеністыя. У дэкоры выкарыстаны фрэскавыя размалёўкі ў стылі класіцызму. Паміж аконнымі праёмамі светлавога барабана ў медальёнах размешчаны выявы 4 евангелістаў, ніжэй, у рамных абрамленнях — 4 шматфігурныя кампазіцыі на біблейскія сюжэты. Малюнак выразны, выкананы колера-ценявой мадэліроўкай. Каларыстычная гама цёплая, мяккая, прыглушаных пастэльных таноў. Размаляваны таксама скляпенні, бакавыя сцены алтара і сяродкрыжжа (падноўлены ў 19 ст.).

Царква — помнік архітэктуры класіцызму.

*А. М. Кулагін, В. В. Церашчатава.*



**1537.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Вендараж, цэнтр сельсавета**

**1536. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 60 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1537. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахавана больш за 100 жыхароў вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Вільчыцы, Вейненскі сельсавет**

**1538. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.

**в. Вялікія Бялевічы, Семукацкі сельсавет**

**1539. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, каля дарогі, на левым беразе р. Друць. 24 насыпы вышынёй 0,5—2,3 м, дыяметрам 6—14 м. Выявіў і абследаваў у 1981 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**1540. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памя-



1541. *Помнік на брацкай магіле байцоў батальёна міліцыі. Фрагмент.*

ці 49 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гаі, Пашкаўскі сельсавет**

**1541. БРАЦКАЯ МАГІЛА БАЙЦОЎ БАТАЛЬЁНА МІЛІЦЫІ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. У ліпені 1941 г. у час абароны Магілёва паблізу вёскі ішлі жорсткія баі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Тут некалькі сутак трымаў абарону батальён міліцыі на чале з капітанам К. Р. Уладзіміравым. З 250 байцоў батальёна жывымі засталіся 19. Загінуў і К. Р. Уладзіміраў. У 1980 г. на магіле пастаўлены помнік — стэла ў выглядзе ветразя з барэльефнай выявай твару байца. Да стэлы вядзе лесвіца, абмежаваная бетоннымі блокамі.




1550. *Курганны могільнік. План.*

**в. Галынец, Цішоўскі сельсавет**

**1542. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск.

**в. Галынец 1-ы, Цішоўскі сельсавет**

**1543. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка клуба. Партызанскі полк 121-ы імя А. М. Касаева 24.1.1944 г. разграміў у вёсцы нямецка-фашысцкі гарнізон. Партызаны знішчылі каля 200 гітлераўцаў, спалілі 10 складаў, гараж, 9 аўтамашын, захапілі вялікія трафеі. У 1971 г. у гонар партызан пастаўлены абеліск.

**в. Галяні 1-я, Нядашаўскі сельсавет**

**1544. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсход ад галоўнай вуліцы. Пабудавана ў 1903 г. з цэглы.

Будынак крыжападобны ў плане, складаецца з выцягнутага па падоўжнай восі прамавугольнага асноўнага аб'ёму, трохапсіднай алтарнай часткі, дадатковага аб'ёму і бабінца з двух'яруснай вежай-званіцай над ім. Асноўны аб'ём завершаны васьмігранным светлавым барабанам, накрытым пакатым шатром з галоўкай. У вуглавых частках асноўнага аб'ёму зроблены дадатковыя ўваходы. Сцены атынкаваны. Аконныя праёмы ў ляпных абрамленнях з трохвугольнымі сандрыкамі.

Царква — помнік архітэктуры эклектызму, спалучае рысы традыцыйнага дойлідства, класіцызму і псеўдаруската стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Гарадзішча, Семукацкі сельсавет**

**1545. ПОМНІК У ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). У цэнтры вёскі. Тут 30.6.1944 г. партызанскі атрад 61-ы, партызанскія палкі 113-ы і 121-ы імя А. М. Касаева злучыліся з часцямі Чырвонай Арміі. У 1967 г. у гонар гэтай падзеі пастаўлены абеліск.

**в. Гарадок, Цішоўскі сельсавет**

**1546. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка дыяметрам 20 м з боку поля ўмацавана валам вышынёй каля 2 м. Адкрыў у 1964 г. Л. Д. Побаль. Абследавала ў 1978 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гараны, Пашкаўскі сельсавет**

**1547. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У скверы. Пахавана больш за 300 мірных жыхароў вёскі, якіх 15.9.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1552. *Помнік землякам.*

**в. Грыбаны, Мастоцкі сельсавет**

**1548. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1549. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 173 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Гуслішча, Вендаражскі сельсавет**

**1550. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўночны ўсход ад вёскі. 22 насыпы вышынёй 0,8—3 м, дыяметрам 3—6 м. Выявіў у 1928 г. А. Дз. Каваленя, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

**1551. МАГІЛА ЗАЙЦАВАЙ** Настассі Мікалаеўны (гіст.). На могілках. Пар-



1554. *Курганны могільнік. План.*



1558. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

тызанка 121-га партызанскага палка імя А. М. Касаева Н. М. Зайцава закатавана 15.5.1944 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1552. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка магазіна. На ўшанаванне памяці 115 землякоў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Гуслянка, Вендаражскі сельсавет**

**1553. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля могілак, абапал палявой дарогі. 4 насыпы вышынёй 0,7—1,4 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Дабрасневічы, Цішоўскі сельсавет**

**1554. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Насупраць вёскі, на левым беразе р. Лахва, у лесе, абапал дарогі. 76 насыпаў вышынёй 0,6—2,5 м, дыяметрам 3—12 м. Адкрыў у 1928 г. А. Дз. Каваленя, абследавалі ў 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

**1555. СЕЛІШЧА** (археал.). За 0,9 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Лахва. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабраны рэшткі ганчарнай керамікі. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 10—12 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**в. Дасовічы, Заводскаслабодскі сельсавет**

**1556. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 81 воін 32-й і 199-й стралковых дывізій 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1557. МАГІЛА ТУПІКАВАЙ** Зоі Мяфодзьеўны (гіст.). На могілках. Партызанка З. М. Тупікава расстраляна нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1943 г. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дашкаўка, цэнтр сельсавета**

**1558. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 36 воінаў 385-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Шадзі Шаймаў.

Ш. Шаймаў нарадзіўся у 1925 г. у кішлаку Арабон Шахрысабзскага р-на Кашкадар'інскай вобл. у сям'і рамесніка. Член ВЛКСМ. З 1943 г. у Чырвонай Арміі. На фронце з 1944 г. Аўтаматчык радавы Ш. Шаймаў вызначыўся 27.6.1944 г. пры фарсіраванні Дняпра каля Магілёва. Пад агнём ворага адзін з першых пераправіўся цераз раку і каля сутак адбіваў на плацдарме контратакі праціўніка. У рукапашнай схватцы знішчыў 13 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. У г. Шахрысабз устаноўлены бюст героя, яго імем названа вуліца, на радзіме імя героя прысвоена школе.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**1559. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі. Пляцоўка круглая, дыяметрам 65 м. Вышыня над поймай Дняпра 18 м. З поўначы і поўдня абмежавана ярамі, з усходу — поймай Дняпра, з захаду ўмацавана 2 валамі вышынёй 1,5 і 2,5 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Была зроблена прарэзка вала. Культурны пласт у выглядзе вуглістай праслойкі прасочаны ў заходняй частцы пляцоўкі, каля вала. У ім знойдзена ляпная з прачосамі і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб, 1903, в. 5.; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. У. Дучыц.*

**1560. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1560а.** Гарадзішча. За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе Дняпра. Пляцоўка круглая, дыяметрам 28 м. Вышыня над поймай ракі 20 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 2,5 м і ровам глыбінёй каля 1,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1971 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Культурны пласт у шурфах 0,85 м. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**1560б.** Селішча. За 2,5 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе




1559. *Гарадзішча. План.*



1560а. *Гарадзішча.*

Дняпра. Выявіў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. На паверхні сабраны фрагменты ганчарнай керамікі 10—11 стагоддзяў з лінейным арнаментам. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Кавален я А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. У. Дучыц.*

**1561. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны жыхары вёскі (колькасць не ўстаноўлена), якіх 29.9. 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1562. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР РУСКІХ ВОЙСК** (гіст.). На будынку канторы Магілёўскай абласной сельскагаспадарчай дзяржаўнай доследнай станцыі. Устаноўлена ў 1968 г. у гонар рускіх войск, якія ў ліпені 1812 г. дыслацыраваліся ў вёсцы і ўдзельнічалі 11.7.1812 г. у бітве супраць французскіх войск каля в. Салтанаўка. Гл. таксама артыкул № 1625 «Мемарыяльная капліца».

**1563. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 28 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены мемарыяльны знак.

**1564. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 40×120 м. Выявіў і абследаваў у 1974 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. На паверхні і ў агаленнях знойдзена вялікая колькасць крамянёвых пласцін, канцавых скрабкоў (трапляюцца і падвойныя), бакавых разцоў. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*




**1560а.** *Гарадзішча. План.*

**1565. СЯДЗІБНЫ ДОМ** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Будынак асіметрычнай кампазіцыі. Асноўны прамавугольны ў плане аб'ём накрыты пакатым вальмавым дахам. На паўднёвым фасадзе пяцігранны эркер, завершаны паўшатром. Да ўсходняга тарца асноўнага аб'ёму прылягаюць невялікая аднапавярховая прыбудова з аднасхільным дахам і масіўны трох'ярусны вежападобны аб'ём. Паверхі аддзелены прафіляванымі цягамі. Рытм рознавялікіх прамавугольных аконных праёмаў адвольны, вызначаны ўнутранай структурай і памерамі памяшканняў. Частка паўднёвага фасада паміж эркерам і прыбудовай, якая адпавядае параднай зале ўнутры, рытмічна расчлянёна 3 арачнымі аконнымі праёмамі.

Унутраная планіроўка анфіладная. З уваходнага вестыбюля на 2-і паверх вядзе драўляная лесвіца. Парадная зала перакрыта люстраным скляпеннем з плафонам, аздобленым ляпнымі разеткамі. Па перыметры залы ідзе ляпны фрыз з раслінным арнаментам у выглядзе кветак, пладоў і лісцяў. Уваходныя праёмы завершаны трохвугольнымі сандрыкамі з ракавінамі ў тымпанах і ляпнымі картушамі з выявамі экзатычных звяроў.

Дом — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн». *Т. В. Габрусь.*

**в. Досава Сяліба, Дашкаўскі сельсавет**

**1566. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1566а.** Могільнік. За 0,3 км ад вёскі, абапал дарогі ў в. Боўшава. 86 курганоў на плошчы каля 1 га, вышынёй 0,6—0,8 м і 1,5—2,5 м, дыяметрам 3—7 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1566б.** Селішча. На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Лахва. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабраны фрагменты ганчарнай керамікі 10—12 стагоддзяў. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Кавален я А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Л. У. Дучыц.*



**1566а.** *Курганны могільнік. План.*



**1568.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**в. Дубінка, Вендаражскі сельсавет**

**1567. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1942—44 гг. У 1978 г. пастаўлены абеліск.

**1568. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі. Пахаваны 186 мірных жыхароў, якіх 17.2.1943 г. спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. На магіле насыпаны курган, у 1978 г. пастаўлены помнік — 3 паўкруглыя ў сячэнні стэлы. З франтальнага боку паміж імі — пліта з рэльефнай выявай жанчыны з дзіцем.

**1569. МАГІЛА БАЛАБЕНКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Воін Чырвонай Арміі Балабенка загінуў у чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заводская Слабада, цэнтр сельсавета**

**1570. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 30 ваеннапалонных і

мірных жыхароў, якіх жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941 г. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1571. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены скульптуры партызана і дзяўчыны.

**в. Залессе, Вендаражскі сельсавет**

1572. **БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Залубнішча, Княжыцкі сельсавет**

1573. **МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны 153 мірныя жыхары вёсак Залубнішча і Пясчанкі, якіх у 1942 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія карнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Запруддзе, Нядашаўскі сельсавет**

1574. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў 70-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Магілёўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кадзіна, цэнтр сельсавета**

1575. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Канстанцінаўка, Брылёўскі сельсавет**

1576. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 128 воінаў. Сярод іх — воіны 199-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1580. *Касцёл дамініканцаў.*

**в. Карчомка, Вендаражскі сельсавет**

1577. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны і партызаны 121-га партызанскага палка імя А. М. Касаева, якія загінулі ў студзені — чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Качурына, Брылёўскі сельсавет**

1578. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Княжыцы, цэнтр сельсавета**

1579. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 80 воінаў 199-й і 95-й стралковых дывізій 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі Магілёўскага р-на. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1580. **КАСЦЁЛ ДАМІНІКАНЦАЎ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудаваны ў 1681 г. з цэглы.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму з невялікім трансептам у цэнтры і квадратнай апсіды, якія накрыты двухсхільнымі дахамі. Нізкія рознавялікія прыбудовы каля алтарнай часткі не парушаюць агульнай сіметрычна-восевай кампаноўкі аб'ёмаў. Галоўны фасад расчлянёны па гарызанталі магутнымі крапаванымі карнізамі, па вертыкалі — пучкамі пілястраў і лучковымі нішамі на 3 часткі. Кожная з частак мае выцягнутыя прапорцыі, завершана вежамі з цыбулепадобнымі галоўкамі. Па баках галоўнага фасада — сцены-прапілеі з арачнымі праёмамі, якія ўтвараюць перад уваходам у храм парадны дворык. Уваходны партал аформлены нізкім рызалітам з трохвугольным завяршэннем і насычанай архітэктурнай пластыкай. Бакавыя фасады аздоблены магутнай аркатурай на вышыню будынка і здвоенымі пілястрамі ў прасценках паміж лучковымі аконнымі праёмамі.



1580. *Касцёл дамініканцаў. Фрагмент бакавога фасада.*



1580. *Касцёл дамініканцаў. План.*

Унутры перакрыцце цыліндрычнае, з распалубкамі і падпружнымі аркамі. Асаблівасць інтэр'ера — адсутнасць прамых вуглоў у планіроўцы нефа. Фрагменты алтара (якія захаваліся) сведчаць аб яго пабудове ў выглядзе групы фланкіруючых калон са стылізаванымі карынфскімі капітэлямі і выгнутымі антаблементамі. Над уваходам — хоры.

Касцёл — помнік архітэктуры барока.

*Літ.*: Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *А. М. Кулагін.*

**в. Касцінка, Махаўскі сельсавет**

1581. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны (колькасць не ўстаноўлена), якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1944 г. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Краснаполле, Палыкавіцкі сельсавет**

1582. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 76 воінаў 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Мікалай Іванавіч Яшын.

М. І. Яшын нарадзіўся 23.2.1923 г. у в. Ніжняя Гнілуша Малаархангельскага р-на Арлоўскай вобл. у сялянскай сям'і. У 1942 г. скончыў Тамбоўскае кавалерыйскае вучылішча. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на фронце. Камандзір узвода коннай разведкі старшы лейтэнант М. І. Яшын вызначыўся ў баях за вызваленне Магілёва. 27.6.1944 г. у ліку першых фарсіраваў Дняпро, разведаў агнявыя кропкі праціўніка, на чале ўзвода ўступіў у бой з фашыстамі і выбіў іх з умацаванняў, што садзейнічала поспеху наступлення асноўных сіл. За-

гінуў у баі 28.6.1944 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Лежнеўка, Дашкаўскі сельсавет**

**1583. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ліпец, Махаўскі сельсавет**

**1584. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лыкава, Сідаравіцкі сельсавет**

**1585. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 22 воіны 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1586. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1587. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены абеліск.

**в. Майшчына, Семукацкі сельсавет**

**1588. ДОМ, У ЯКІМ РАЗМЯШЧАЛІСЯ МАГІЛЁЎСКІ ПАДПОЛЬНЫ РАЙКОМ КП(б)Б І ШТАБ МАГІЛЁЎСКАЙ ВАЕННА-АПЕРАТЫЎНАЙ ГРУПЫ** (гіст.). У доме А. А. Стрыканава з сакавіка 1943 г. да ліпеня 1944 г. размяшчаліся Магілёўскі падпольны райком КП(б)Б і штаб Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы.

Магілёўскі падпольны райком КП(б)Б створаны 8.3.1943 г. упаўнаважаным ЦК КП(б)Б па Магілёўскай вобл. Сакратары І. С. Зычкоў (8.3—12.3.1943 г., часова), В. І. Падаляка (12.3 — жнівень 1943 г.), І. П. Станкевіч (жнівень 1943 г.— 30.6.1944 г.). Базіраваўся ў партызанскім атрадзе № 113, які ўваходзіў у 6-ю Магілёўскую партызанскую брыгаду, з ліпеня 1943 г.— у Магілёўскую ваенна-аператыўную групу. Райком узначальваў камуністычнае падполле ў раёне, кіраваў партызанскім рухам, вёў палітычную і арганізатарскую работу сярод насельніцтва. Друкаваны орган — газета «Партизанская правда».

Магілёўская ваенна-аператыўная група сфарміравана ў ліпені 1943 г. паводле пастановы Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і загада Магілёўскай абласной ваенна-аператыўнай групы на базе атрадаў 113-га і 121-га 6-й Магілёўскай брыгады і 61-га асобнага атрада. Кіруючы склад групы: сакратар падпольнага райкома КП(б)Б І. П. Станкевіч (жнівень 1943 г.— чэрвень 1944 г.); камандзіры К. М. Белавусаў (ліпень 1943 г.— красавік 1944 г.), З. П. Гапонаў (май 1944 г.— чэрвень 1944 г.); начальнікі штаба В. П. Дрожнікаў (ліпень — жнівень 1943 г.), Ц. І. Немаляеў (в. а.), В. С. Конанаў (май — чэрвень 1944 г.). У снежні 1943 г. з партызан Магілёўскай ваенна-аператыўнай групы арганізаваны 200-ы атрад і перададзены злучэнню Паўднёвай зоны Баранавіцкай вобл. У лістападзе 1943 г. 121-ы атрад разгорнуты ў 121-ы партызанскі полк (пазней 121-ы імя А. М. Касаева), у студзені 1944 г. 113-ы атрад — у 113-ы партызанскі полк. Група дзейнічала ў Магілёўскім, Бялыніцкім, Клічаўскім р-нах. 30.6.1944 г. група (2 палкі, 2639 партызан) злучылася з Чырвонай Арміяй.

У 1984 г. у гонар падпольнага райкома КП(б)Б і штаба ваенна-аператыўнай групы на доме ўстаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Партизанские формирования Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (июнь 1941 — июль 1944).— Мн., 1983. *В. В. Семянюк.*

**в. Макарынцы, Брылёўскі сельсавет**

**1589. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1590. МАГІЛА КАРАЛЁВА** (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі Каралёў загінуў у чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1591. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 143 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малое Запаточча, Семукацкі сельсавет**

**1592. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1592а.** Могільнік-1. За 0,2 км на захад ад вёскі, паабапал р. Арлянка. 9 насыпаў вышынёй 1,6—2,4 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**1592б.** Могільнік-2. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у полі. 6 насыпаў вышынёй 1—1,7 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў і абследаваў у 1974 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.



**1592а.** *Курганны могільнік-1. План.*



**1592б.** *Курганны могільнік-2. План.*



**1606.** *Помнік землякам.*



1603. *Помнік землякам.*

**в. Малое Хонава,**
**Заводскаслабодскі сельсавет**

**1593. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1594. МАГІЛА ЧЫРВОНААРМЕЙЦАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 чырвонаармейцаў, якія загінулі ў 1918 г. у баях супраць войск буржуазнай Польшчы. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1595. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Бялевічы,**
**Семукацкі сельсавет**

**1596. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1597. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўскраіне вёскі, недалёка ад фермы. Пахаваны 41 мірны жыхар вёсак Малыя Бялевічы і Нова-Беліна, якіх 25.2.1943 г. жывымі спалілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Масток, цэнтр сельсавета**

**1598. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 43 воіны. Сярод іх — воіны 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Махава, цэнтр сельсавета**

**1599. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 75 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1600. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 434 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Машанакі, Брылёўскі сельсавет**

**1601. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 45 воінаў. Сярод іх — воіны 32-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1602. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР МІТЫНГУ СЯЛЯН У 1905 г.** (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1973 г. у гонар мітынгу сялян, які быў арганізаваны членамі Магілёўскай арганізацыі РСДРП і адбыўся ў вёсцы 15.6.1905 г. у падтрымку палітычных стачак рабочых Іванава-Вазнясенска, Лодзі і Адэсы, рэвалюцыйных выступленняў салдат і матросаў.

**в. Мікалаеўка 1-я,**
**Палыкавіцкі сельсавет**

**1603. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 61 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**в. Мікалаеўка 2-я,**
**Палыкавіцкі сельсавет**

**1604. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 3 км на поўдзень ад вёскі, злева ад дарогі Магілёў — Палавінны Лог. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Навасёлкі, Вейненскі сельсавет**

**1605. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахавана 20 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



1605. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1606. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 150 м на захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 103 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына, а таксама пліты з імёнамі загінуўшых.

**в. Навасёлкі, Вендаражскі сельсавет**

**1607. МАГІЛА ГЕРЦАВА** Гаўрылы Захаравіча (гіст.). На могілках. Партызан 113-га партызанскага палка Г. З. Герцаў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Навасёлкі, Дашкаўскі сельсавет**

**1608. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў 222-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.
**1609. СТАЯНКІ** (археал.).
**1609а.** Стаянка-1. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 150×40 м. Выявіў і абследаваў у 1974 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2, глыбіня залягання ад паверхні 0,2—0,5 м. У 3 скопішчах на адлегласці 50 м адно ад аднаго знойдзены крамянёвыя нуклеусы, канцавыя скрабкі (у т. л. і падвойныя), ножападобныя пласціны з рэтушшу і адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту.
**1609б.** Стаянка-2. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Выявіў і абследаваў у 1974 г. В. Ф.

Капыцін. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, бакавыя разцы, абломак тронкавага наканечніка стралы, нуклеусы, пласціны і адшчэпы, абпаленыя крамяні. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы абследавання стаянак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Незаўка, Заводскаслабодскі сельсавет**

**1610. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Нядашава, цэнтр сельсавета**

**1611. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 47 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.




**1611.** *Помнік землякам.*

**в. Паддуб'е, Семукацкі сельсавет**

**1612. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 37 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне Магілёўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пална, Сідаравіцкі сельсавет**

**1613. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. 2 насыпы вышынёй 0,5—1 м, дыяметрам 10—12 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Палыкавічы 1-я, цэнтр сельсавета**

**1614. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі, злева ад дарогі ў в. Калінава. Пахаваны 68 воінаў 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1615. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 26 воінаў 199-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1616. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км ад вёскі, на правым беразе Дняпра, ва ўрочышчы Барсукова Горка. Займае частку мыса, выцягнутага з поўначы на поўдзень. Пляцоўка няправільнай трохвугольнай формы, памерам 80×40 м, узвышаецца над узроўнем яра на 15 м. З паўднёвага боку ўмацавана валам вышынёй 3—4 м, шырынёй каля асновы 12—14 м. Вядома з пачатку 20 ст. Даследаваў у 1937 г. В. Р. Тарасенка. Культурны пласт 1,3—2,2 м. Уздоўж заходняга і ўсходняга бакоў пляцоўкі выяўлены рэшткі 2 паўзямлянкачных жытлаў слупавой канструкцыі. Прасочаны рэшткі агнішчаў дыяметрам 1,5 м. Сабраны фрагменты ляпной керамікі, жалезныя нажы, наканечнікі стрэл сармацкага тыпу, лязо сякеры, рыбалоўны кручок, касцяныя шылы і іголкі, гліняныя прасліцы, тачыльныя брускі. Адносіцца да мілаградскай і зарубінецкай культур ранняга жалезнага веку, датуецца 3 ст. да н. э.—4 ст. н. э.



**1614.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Тарасенко В. Р. Раскопки на городище Барсучья Горка.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та истории материальной культуры. М.; Л., 1947, в. 15.

*Л. У. Дучыц.*

**1617. КУРГАН ПАМЯЦІ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці мірных грамадзян, якіх у 1941—44 гг. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1968 г. насыпаны Курган, на вяршыні — абеліск.

**1618. МАГІЛА ПУСКІНА** Рыгора Антонавіча (гіст.). На могілках.

Герой Сацыялістычнай Працы Р. А. Пускін нарадзіўся 26.10.1929 г. у сялянскай сям'і ў в. Палыкавічы. Член КПСС з 1967 г. З 1948 г. трактарыст, з 1966 г. звеннявы механізаванага звяна па вырошчванню бульбы ў калгасе «Камінтэрн» Магілёўскага р-на. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 23.6.1966 г. за высокія паказчыкі ў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі. Памёр 21.5.1978 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1619. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. Пастаўлены на ўшанаванне памяці 476 землякоў, у т. л. Героя Савецкага Саюза Івана Міхайлавіча Саламонікава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

І. М. Саламонікаў нарадзіўся 20.2.1918 г. у в. Калінавая (да 1964 г. в. Трыбухі) Палыкавіцкага сельсавета ў сялянскай сям'і. Працаваў мулярам на будоўлі ў Магілёве. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. Радавы І. М. Саламонікаў вызначыўся ў час савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. 22.12.1939 г. у складзе стралковага батальёна атакаваў пазіцыю праціўніка на Карэльскім перашыйку, закідаў акоп гранатамі і заняў яго. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1940 г. У Вялікую Айчынную вайну маёр І. М. Саламонікаў — камандзір зенітна-артылерыйскага палка. Загінуў 22.10.1944 г. у баі на тэрыторыі Венгрыі.

У 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

*В. В. Семянюк.*

**1620. ПОМНІК КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). Каля будынка клуба. 14.6.1919 г. старшыня ВЦВК М. І. Калінін на чале агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя» прыбыў у г. Магілёў. На другі дзень ён наведаў в. Палыкавічы, дзе выступіў на сходзе перад



1619. *Помнік землякам.*

сялянамі. У 1956 г. у памяць аб прыездзе старшыні ВЦВК у вёску пастаўлены помнік — бюст М. І. Калініна.

**1621. РАДЗІМА ЮРЧАНКІ** Ягора Арцёмавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза Я. А. Юрчанка нарадзіўся 3.2.1919 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. Скончыў Барысаўскае ваенна-інжынернае вучылішча (1941 г.), Маскоўскую вышэйшую афіцэрскую інжынерна-лінейную школу (1945 г.). З 1938 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на фронце. Удзельнік абароны Масквы, Сталінградскай і Курскай бітваў, вызвалення Украіны, Польшчы, разгрому квантунскай арміі Японіі на Далёкім Усходзе. Палкавы інжынер капітан Я. А. Юрчанка вызначыўся пры фарсіраванні Дняпра на поўнач ад Кіева. 26—27.9.1943 г. падрыхтаваў сродкі для фарсіравання і паспяхова пераправіў роту цераз раку. Паранены, кіраваў пераправай артылерыі і боепрыпасаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.10. 1943 г. Пасля вайны працаваў у г. Драгобыч Львоўскай вобл., потым у Пінску. З 1954 г. жыў у Кіеве. Памёр 12.1.1981 г. Пахаваны ў Кіеве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*



1622. *Гарадзішча. План.*

**в. Пусты Асавец, Махаўскі сельсавет**

**1622. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Узвышаецца над навакольнай мясцовасцю на 7 м. Пляцоўка амаль круглая, памерам 20×20 м, умацавана валам вышынёй каля 2 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1978 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**1623. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На могілках і ў цэнтры вёскі. 6 насыпаў вышынёй 0,9—1,9 м, дыяметрам 3,5—6,5 м (2 на могілках і 4 у цэнтры вёскі). Выявіў і абследаваў у 1974 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Салтанаўка, Дашкаўскі сельсавет**

**1624. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1624а.** Могільнік-1. За 1 км на поўнач ад вёскі. 3 насыпы вышынёй 0,2—1,2 м, дыяметрам 8—12 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц.

**1624б.** Могільнік-2. За 1 км на поўдзень ад вёскі. 3 курганы дыяметрам 8—10 м, вышынёй 0,5—0,8 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі могільнікаў не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2. *Л. У. Дучыц.*

**1625. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАПЛІЦА** (гіст., архіт.). На 12-м км шашы Магілёў — Бабруйск. Пабудавана ў 1912 г. з цэглы (архіт. К. Міхайлаў, скульпт. П. Яцына) на месцы бітвы ў Айчынную вайну 1812 г.

У ліпені 1812 г. 2-я руская армія генерала П. І. Баграціёна адыходзіла з Бабруйска на Магілёў. Каб знішчыць яе, французскі корпус маршала Л. Даву 8 ліпеня захапіў Магілёў і заняў пазіцыі каля в. Салтанаўка. 11 ліпеня корпус генерала М. М. Раеўскага (15 тыс. чалавек) атакаваў французскае войска (26 тыс. чалавек). Рускія салдаты некалькі разоў урываліся ў в. Салтанаўка, знішчылі ў баях каля 7 тыс. варожых салдат. Пакуль корпус М. М. Раеўскага скоўваў сілы праціўніка каля Магілёва, 2-я руская армія адышла за Дняпро і рушыла на Смаленск. 12 ліпеня пакінуў свае пазіцыі і корпус М. М. Раеўскага.

Капліца квадратная ў плане, невялікая памерам, завершана высокім шатром. Пластыка фасадаў ствараецца паўкалонамі тасканскага ордэра, антаблементам і трохвугольнымі франтонамі. З двух бакоў крыжападобныя аконныя праёмы ў паўцыркульных нішах. Нізкі цокаль выступае за плоскасць сцен.

Капліца — помнік архітэктуры неакласіцызму.

*А. А. Міцянін, В. В. Семянюк.*



1625. *Мемарыяльная капліца.*




1625. *Мемарыяльная капліца. План.*

**1626. ПОМНІК РУСКІМ ВОІНАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. У 1962 г. з нагоды 150-годдзя бітвы 11.7.1812 г. рускіх войск пад камандаваннем генерала М. М. Раеўскага з французскімі войскамі маршала Л. Даву пастаўлены абеліск. Гл. таксама артыкул № 1625 «Мемарыяльная капліца».

**1627. СТАЯНКІ** (археал.).

**1627а.** Стаянка-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, на схіле першай надпоймавай тэрасы правага берага Дняпра. Памер 50×100 м. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1975 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. У агаленнях знойдзены крамянёвыя скрабкі, пласціны, адшчэпы, нажы, абломак наканечніка дроціка. Адносіцца да эпохі неаліту.

**1627б.** Стаянка-2. За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 50×200 м. Выявіў і абследаваў у 1974 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя канцавыя скрабкі, нуклеусы, пласціны з рэтушшу і адшчэпы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання стаянак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Палікарповіч К. М. Доследы культур каменнага і бронзавага перыядаў у Усходняй Беларусі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1; Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Севасцьянавічы, Цішоўскі сельсавет**

**1628. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г.



1635. *Капліца.*



1639. *Помнік на месцы загубы мірных жыхароў.*

і ў чэрвені 1944 г. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Семукачы, цэнтр сельсавета**

**1629. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка аддзялення сувязі. Пахаваны 56 воінаў, сярод іх — воіны 330-й і 348-й стралковых дывізій, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1630. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 90 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Сідаравічы, цэнтр сельсавета**

**1631. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 37 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1632. ПОМНІК У ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета.

Тут у ліпені 1941 г. у час абароны Магілёва мужна змагаліся байцы 747-га стралковага палка 172-й стралковай дывізіі. Для правядзення разведкі боем з воінаў палка быў сфарміраваны атрад пад камандаваннем начальніка штаба капітана Р. І. Златаустаўскага. Атрад атакаваў ворага, і той, пакінуўшы на полі бою шмат забітых і параненых, а таксама 30 спаленых аўтамашын, мусіў адступіць. Падцягнуўшы сілы, гітлераўцы пачалі контратаку. Завязаўся жорсткі бой, які неаднаразова пераходзіў у рукапашны. Атрад, выканаўшы сваю задачу, адышоў на зыходныя пазіцыі.

У 1984 г. у гонар воінаў атрада пастаўлены абеліск.

*Літ.:* В боях за Белоруссию.— 2 изд.— Мн., 1974, с. 104—113. *В. В. Семянюк.*

**1633. МАГІЛА КАНДРЫЧЫНА** Стэфана Парфенавіча (гіст.). На могілках. Першы старшыня Грудзінаўскага рэўкома С. П. Кандрычын загінуў у маі 1920 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1634. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 320 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Стайкі, Дашкаўскі сельсавет**

**1635. КАПЛІЦА** (архіт.). На паўночнай ускраіне вёскі, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Квадратны ў плане аб'ём з шатровым дахам, завершаным шлемападобнай галоўкай. Перад уваходам — ганак з двухсхільным гонтавым навесам на 2 слупах. Бакавыя сцены прарэзаны невялікімі прамавугольнымі вокнамі. Інтэр'ер не мае дэкору.

Капліца — помнік народнага драўлянага дойлідства.

**1636. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, на беразе Дняпра. 3 курганы вышынёй 1,3—2,5 м, дыяметрам 10—20 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1928 г. А. Дз. Каваленя, у 1974 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Каваленя А. Д. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Мінскай акругах.— Запіскі аддзела гуманітарных навук Беларус. Акад. навук, 1930, кн. 11. Працы археалагічнай камісіі, т. 2.

**в. Старая Мілееўка, Махаўскі сельсавет**

**1637. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай




1641. *Гарадзішча. План.*



1643. *Помнік землякам.*

Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старое Пашкава, Пашкаўскі сельсавет**

**1638. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 61 воін 290-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1639. МЕСЦА ЗАГУБЫ МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 0,6 км на паўднёвы захад ад вёскі. Тут у 1941—44 г. нямецка-фашысцкія захопнікі расстрэльвалі мірных жыхароў — старых, жанчын, дзяцей. У 1965 г. на ўшанаванне памяці ахвяр фашызму пастаўлены абеліск.

**в. Сухары, цэнтр сельсавета**

**1640. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 114 воінаў 199-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Міхаіл Кандратавіч Цярэшчанка.

М. К. Ц я р э ш ч а н к а нарадзіўся 30.7.1913 г. у в. Баляснае Дзіканьскага р-на Палтаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1942 г. на Заходнім, Сталінградскім і 2-м Беларускім франтах. Камандзір стралковай роты лейтэнант М. К. Цярэшчанка вызначыўся ў баі пры вызваленні в. Суслаўка Горацкага р-на Магілёўскай вобл. Рота пад яго камандаваннем 24.6.1944 г. знішчыла 15 і ўзяла ў палон 2 варожых аўтаматчыкаў, на другі дзень знішчыла і ўзяла ў палон больш за ўзвод гітлераўцаў. Загінуў 26.6.1944 г. у баі за плацдарм на Дняпры. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імем названы Сухарэўская сярэдняя школа, вуліца на радзіме.

У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**1641. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Раста. Памер пляцоўкі 20×23 м. Вышыня над летнім меженным узроўнем ракі 3 м. Паўночная частка абмежавана ракой. З паўднёвага ўсходу і захаду абкружана ярамі. Паўднёва-заходні бок умацаваны валам вышынёй 2 м і ровам глыбінёй каля 1 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Л. У. Дучыц.*

**1642. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦЯРЭШЧАНКУ** Міхаілу Кандратавічу (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці Героя Савецкага Саюза М. К. Цярэшчанкі, які загінуў 26.6.1944 г. у баі за плацдарм на Дняпры. Гл. таксама артыкул № 1640 «Брацкая магіла савецкіх воінаў».

**1643. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 154 землякоў, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены абеліск.

**1644. УСПЕНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Будынак крыжападобны ў плане, крыху выцягнуты па падоўжнай восі. Над сяродкрыжжам узвышаецца масіўны светлавы чацверык, накрыты пакатым шатром з галоўкай. Алтарная частка пяцігранная. Па баках да яе сіметрычна прылягаюць меншыя памерамі гранёныя апсіды-рызніцы. Прамавугольны аб'ём бабінца пастаўлены папярок падоўжнай восі і накрыты вальмавым дахам. Асноўным




1645. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

матывам пластычнага вырашэння фасадаў з'яўляюцца трайныя арачныя аконныя праёмы на галоўным фасадзе і чацверыку. Сцены завершаны развітымі прафіляванымі карнізамі, апрацаваны рустам і ляпнымі абрамленнямі праёмаў. У інтэр'еры памяшканні перакрыты крыжовымі скляпеннямі, апсіды — паўсферычнымі конхамі. Прастора сяродкрыжжа — двухсветлавая.

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдавізантыйскага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**в. Сялец, Дашкаўскі сельсавет**

**1645. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 123 воіны 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1646. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 149 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены абеліск.

**в. Таранава, Кадзінскі сельсавет**

**1647. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 50 м на ўсход ад вёскі. Пахаваны 18 воінаў 230-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Туманаўка, Дашкаўскі сельсавет**

**1648. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 38 мірных жыхароў, якіх у снежні 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Фойна, Мастоцкі сельсавет**

**1649. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка авальная, памерам 40×35 м, узвышаецца над поймай Дняпра на 7—10 м. З паўночнага боку ўмацавана валам вышынёй каля 3 м. Яшчэ 2 валы прасочваюцца з паўднёвага боку: вышыня аднаго 2 м, другога 1,5 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. У шурфах знойдзена ляпная таўстасценная кераміка ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі. *Л. У. Дучыц.*

**1650. СТАЯНКА** (археал.). За 3 км на захад ад вёскі, за 2,5 км на паўночны захад ад прафілакторыя «Сосны», на першай надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра. Выявіў у 1975 г., даследаваў у 1980 г. і 1985 г. В. Ф. Капыцін. Ускрыта 110 м² культурнага пласта, які залягаў пад дзёрнам у падзолістым і ілювіяльным гарызонтах глебы на глыбіні да 1 м. Знойдзены крамянёвыя тронкавыя наканечнікі стрэл грэнскага тыпу, ланцэтападобныя вастрыі, канцавыя скрабкі, прылады з выемкамі, бакавыя разцы, рэтушоры, адшчэпы, пласціны. Адносіцца да позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.).

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Изучение мезолитических памятников Восточной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976; яго ж. Исследования мезолитических памятников в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1979 года. М., 1980.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Харошкі, Сухарэўскі сельсавет**

**1651. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 40 воінаў 290-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Юрый Міхайлавіч Двужыльны.



**1651.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Ю. М. Двужыльны нарадзіўся 25.8.1919 г. у г. Канстанцінаўка Данецкай вобл. Член КПСС з 1943 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г. У Вялікую Айчынную вайну з сакавіка 1942 г. на




**1649.** *Гарадзішча. План.*



**1650.** *Стаянка.*



**1650.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*



1656. *Помнік землякам.*

фронце. Камандзір стралковага батальёна капітан Ю. М. Двужыльны вызначыўся пры вызваленні Магілёўскай вобл. 23—24.6.1944 г. стралковы батальён пад яго камандаваннем фарсіраваў рэкі Проня і Бася і пасля жорсткага бою вызваліў в. Суслаўка і Папоўка; 25.6.1944 г. за 5 гадзін адбіў 6 контратак праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г. Яго імя носіць Сухарэўская школа Магілёўскага р-на і школа ў г. Кемерава, дзе ён вучыўся.

У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Ходнева, Сухарэўскі сельсавет**

1652. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хрыпялёва, Вендаражскі сельсавет**

1653. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля могілак. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1654. **МАГІЛА ЮДЗІНА** Ігара Пятровіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі І. П. Юдзін загінуў у чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цішоўка, цэнтр сельсавета**

1655. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 68 воінаў 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1656. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 39 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1972 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: партызан і дзяўчына.

**в. Шчэгліца, Княжыцкі сельсавет**

1657. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**в. Шчэжар 1-ы, Кадзінскі сельсавет**

1658. **БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

1659. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 79 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Шылаў Вугал, Сідаравіцкі сельсавет**

1660. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, каля лясной дарогі. 100 насыпаў вышынёй 0,7—0,8 і 2—3 м, дыяметрам ад 3 да 12 м. Адкрыў у 1966 г. Л. Д. Побаль, абследавала ў 1977 г. Л. У. Дучыц. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Ямніца, Вендаражскі сельсавет**

1661. **КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, на



1659. *Помнік землякам.*

правым беразе р. Лахва, у лесе. 7 насыпаў вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам ад 2,5 да 8 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1932 г. А. Дз. Каваленя, у 1964 г. адзін курган раскапала Т. Д. Елісеева. Пахавальны абрад — трупапалажэнне на грунце. 2 пахаванні — жаночае і дзіцячае — арыентаваны галавой на захад. У жаночым пахаванні знойдзены ганчарны гаршчок з шматрадным кругавым арнаментам і з кляймом на днішчы (пяціканцовая зорка ў крузе), у дзіцячым — паўляпны гаршчок з прамым венчыкам і арнаментам у выглядзе глыбокіх адбіткаў па краі плечыка. Знойдзены 3 шкляныя пацеркі з пазалочанай металічнай пракладкай. Належаў крывічам, адносіцца да канца 11 — пачатку 12 ст.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Каваленя А. Д. Археалагічныя росшукі ў вярхоўях рэк Друці, Усяж-Бук і Лукомкі.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3. *Л. У. Дучыц.*




# МСЦІСЛАЎСКІ РАЁН

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Вял. Рубанаўка
Шамава
Несцерава
Раздзел
Мілейкава
Курманава
Падсолтава
Вял. Пацкава
Аслянка
Лютня
Сапрынавічы
Ракшыно
Басценавічы
МСЦІСЛАЎ
Пячкоўка
Быковічы
Мішні
Капачы
Каробчына
Парадзіна
Мазалава
Пячкавічы
Ходасы
Лар'янава
Доўгавічы
Усполле
Мушына
Падлужжа
Сялец
Забалацце

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні

дасавецкага перыяду

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905-07г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні

дасавецкага перыяду

## XV. МСЦІСЛАЎ

Горад, цэнтр раёна, на правым беразе р. Віхра. За 95 км на ўсход ад Магілёва, 19 км ад чыгуначнай станцыі Ходасы на лініі Орша — Крычаў. Вузел аўтамабільных дарог на Магілёў, Горкі, Крычаў, Чавусы, Хіславічы (РСФСР).

Упамінаецца ў 12 ст. у грамаце князя Расціслава Мсціславіча. У Іпацьеўскім летапісе пад 1156 г. названы горадам Смаленскага княства. З 1180 г. цэнтр удзельнага княства. Першы князь Мсціслаў Раманавіч з роду Уладзіміра Манамаха. З 2-й паловы 14 ст. у складзе Вялікага княства Літоўскага, належаў князям Мсціслаўскім. Мсціслаўскі атрад удзельнічаў у Грунвальдскай бітве 1410 г. У 15—18 стагоддзях вядомы вытворчасцю кафлі. З 1528 г. уладанне вялікага князя Вялікага княства Літоўскага Жыгімонта II Аўгуста, каралеўская воласць, цэнтр староства. З 2-й паловы 16 ст. цэнтр Мсціслаўскага ваяводства. У 16—17 стагоддзях буйны горад, гандляваў з гарадамі Рускай дзяржавы і краін Заходняй Еўропы. Тут нарадзіўся адзін з рускіх і беларускіх першадрукароў, гравёр 16 ст. Пётр Мсціславец, з Мсціслава паходзіць майстар паліхромных маёлікавых рэльефаў Палубес (2-я палова 17 ст.). У 1634 г. горад атрымаў магдэбургскае права і герб. У вызв. вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. Мсціслаўскае ваяводства было ахоплена паўстанцкім рухам. У пачатку руска-польскай вайны 1654—67 гг. заняты рускімі войскамі (да 1661 г.). У час Паўночнай вайны 1700—21 гг. каля в. Добрае непадалёку ад Мсціслава 30.8.1708 г. адбыўся бой рускіх войск са шведамі, непрыяцель пацярпеў першае буйное паражэнне. З 1772 г. Мсціслаў у складзе Расійскай імперыі, цэнтр правінцыі. З 1777 г. павятовы горад. У 1781 г. атрымаў новы герб: на сярэбраным полі выява чырвонай лісы. У 1789 г. адкрыта народнае вучылішча. Было развіта рамесніцтва; у 1800 г. больш за 300 рамеснікаў: ганчары, гарбары, кавалі, печнікі, муляры, цесляры, краўцы, шаўцы і інш. Міжгародні гандаль вялі больш за 100 купцоў. У Айчынную вайну 1812 г. праз Мсціслаў на Смаленск праходзіла руская армія пад камандаваннем Баграціёна; на Мсціслаўшчыне дзейнічаў партызанскі атрад, які ўдзельнічаў у вызваленні горада. Мсціслаў і інш. населеныя пункты павета былі разбураны і разрабаваны французскім войскам. У 1825 г. было 7 цагляных, 600 драўляных дамоў. Неаднаразова Мсціслаў цярпеў ад пажараў, асабліва ў 1858 г. (згарэла каля 500 будынкаў), 1863, 1897 гг. У 1862 г. у горадзе 6250 жыхароў, 11 мураваных і каля 700 драўляных дамоў; у 1897 г.— 8514 жыхароў (62 % непісьменных). У 1899—1900 гг. выходзіла штотыднёвая газета «Белорусский комиссионер», якая выступала за адкрыццё ў горадзе гімназій, пракладку чыгункі. У пачатку 20 ст. у Мсціславе мужчынская і жаночая гімназіі, чатырохкласнае духоўнае, мужчынскае і жаночае прыходскія і народнае вучылішчы, пачатковае вучылішча пры Тупічэўскім манастыры. 2 царкоўнапрыходскія школы. У 1902 г.— 2 вапнавыя, 2 гарбарныя, піваварны, мылаварны, драждждавы, 2 цагельныя заводы, 2 млыны і інш. У 1903 г. створана першая сацыял-дэмакратычная група рабочых-іскраўцаў. У 1905 г. яна аформілася ў арганізацыю РСДРП (у кастрычніку 61 чалавек), якая вяла рэвалюцыйную агітацыю ў горадзе і павеце. Пад яе кіраўніцтвам у 1905 г. праведзена двухтыднёвая забастоўка рабочых і рамеснікаў Мсціслава, 1 Мая 1906 г.— дэманстрацыя і мітынг працоўных. У 1905—06 гг. у вёсках павета адбылося каля 10 выступленняў сялян, увосень 1910 г.— выступленне сялян в. Старыны. 10.1.1918 г. у гарадскім клубе-тэатры «Ратонда» на мітынгу рабочых, салдат і матросаў абвешчана стварэнне Часовага рэвалюцыйнага Савета рабочых і салдацкіх дэпутатаў. 24.1.1918 г. адбыўся 1-ы павятовы з'езд Саветаў. У сакавіку 1918 г. на 2-м павятовым з'ездзе Саветаў старшынёй выканкома выбраны бальшавік Ф. М. Малахоўскі, павятовым камісарам — бальшавік А. Л. Юрчанка, які ў жніўні 1918 г. стаў старшынёй выканкома. У сувязі з акупацыяй часткі Магілёўскай губерні легіянерамі польскага корпуса Доўбар-Мусніцкага і войскамі кайзераўскай Германіі ў сакавіку — лістападзе 1918 г. у Мсціславе знаходзіліся Магілёўскі губернскі выканком і губком РКП(б). У красавіку 1918 г. тут адбыўся 5-ы губернскі надзвычайны з'езд Саветаў неакупіраванай тэрыторыі, які прыняў рашэнне аб мабілізацыі і фарміраванні часцей Чырвонай Арміі для адпору акупантам і стварэнні губернскага ваеннага камісарыята. У чэрвені 1918 г. пачаў дзейнічаць Мсціслаўскі павятовы камітэт РКП(б). З 1918 г. выдавалася газета «Известия Мстиславского уездного исполнительного комитета Советов...», з 1920 г.— «Думы бедняка», орган Мсціслаўскага павятовага камітэта РКП(б), з 1921 г.— камсамольская газета «Юная рать». З 1919 г. Мсціслаў уваходзіў у склад Смаленскай губерні РСФСР. З сакавіка 1924 г. у БССР. Пабудаваны цеплавая электрастанцыя (1924 г.) і гідраэлектра-



**XV.** *Цэнтральная плошча.*



**XV.** *Забудова вуліцы Калініна.*

станцыя (1926 г.) на р. Віхра. Напярэдадні Вялікай Айчыннай вайны было 18 прадпрыемстваў і арцелей. Працавалі педагагічны і фінансавы тэхнікумы. У 1939 г.— 10,5 тыс. жыхароў. У Вялікую Айчынную вайну ў ліпені 1941 г. Мсціслаў акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У раёне дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (28.8—23.9.1943 г.) і ЛКСМБ (28.8—30.9.1943 г.), патрыятычныя групы ўрачоў і настаўнікаў. Падпольшчыкі распаўсюджвалі сярод насельніцтва савецкія газеты, перапраўлялі ваеннапалонных чырвонаармейцаў з шпіталя ў партызанскі атрад. 28.9.1943 г. горад вызвалены воінамі 49-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) Заходняга фронту.

Архітэктурна-планіровачная структура Мсціслава фарміравалася на працягу стагоддзяў. Горад узнік на Замкавай гары. Складаўся з замка, умацаванага ровам іваламі, і вакольнага горада. Архітэктурнае аблічча сярэдневяковага горада вызначалі драўляныя храмы і нерэгулярная жылая забудова ўздоўж р. Віхра. У 1778 г. створаны рэгулярны план, які прадугледжваў прамавугольную сетку вуліц і сістэму плошчаў.

Сучасны Мсціслаў забудоўваецца паводле генпланаў, распрацаваных у 1961 г. (інстытут «Белдзяржпраект») і 1977 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва), з захаваннем гістарычнай сеткі вуліц і архітэктурных помнікаў. Развіваецца ўздоўж р. Віхра, пераважна ў паўночным напрамку. У раёне Цэнтральнай плошчы (створана на перакрыжаванні вуліц Варашылава і Савецкай) і вуліц Леніна (галоўная кампазіцыйная вось), Калініна, Пралетарскай сфарміраваўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада. Тут знаходзяцца будынкі райкома КПБ, райвыканкома, Дома культуры, кінатэатра, рэстарана, гасцініцы, універмага, магазінаў і інш. Значнае месца ў архітэктурна-планіровачнай кампазіцыі горада займаюць помнікі архітэктуры: будынкі касцёла кармелітаў, царквы Аляксандра Неўскага, Мікалаеўскага сабора, Спаса-Праабражэнскай царквы, мужчынскай гімназіі і інш., а таксама гістарычныя зоны — Замкавая, Троіцкая і Дзявочая горы. Новы раён капітальнай жылой забудовы створаны ўздоўж аўтамабільнай дарогі Мсціслаў — Магілёў. Аднапавярховыя драўляныя дамы сядзібнага тыпу размешчаны на ўсёй гарадской тэрыторыі.

Дзейнічаюць масласырзавод, спіртзавод, хлебазавод, цагельны завод, прамкамбінат (з сталярным, швейным і вяровачным цэхам), камбінат бытавога абслугоўвання, цэх безалкагольных напіткаў. Працуюць сярэднія прафесійна-тэхнічныя вучылішчы будаўнікоў і механізацыі сельскай гаспадаркі, 3 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат), вячэрняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, 4 дашкольныя ўстановы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, кінатэатр, раённая бальніца, паліклініка, аптэка. Выдаецца раённая газета «Святло Кастрычніка». Помнікі: У. І. Леніну; на магіле ўдзельніка Кастрычніцкай рэвалюцыі і барацьбы за Савецкую ўладу на Магілёўшчыне, старшыні Мсціслаўскага павятовага выканкома А. Л. Юрчанкі і чырвонаармейца П. К. Цырыкава; на 4 брацкіх магілах савецкіх воінаў; на магіле ахвяр фашызму; мемарыяльны комплекс землякам; якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну і інш.

Зона адпачынку — паркі імя Н. К. Крупскай і Піянерскі ў цэнтры горада, на р. Віхра, прылеглыя лясныя масівы.


1663. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*


1667. *Будынак былой вайсковай установы.*

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912; Ясинский О. А., Гасенков В. Л. Мстиславль: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975; Карaткевіч У. Мсціслаў=Мстиславль: Эсэ пра гісторыю і людзей адной зямлі.— Мн., 1985; Трусаў А. А., Баравы Р. В. Помнікі старажытнага Мсціслава: Да 850-годдзя горада.— Мн., 1985.

*А. Ю. Пятросава, Э. В. Ялугін.*

**1662. АДМІНІСТРАЦЫЙНЫ БУДЫНАК** (архіт.). Вул. Першамайская, 15. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак з высокім цокалем, накрыты двухсхільным дахам, які ўтварае з 2 бакоў трохвугольныя франтоны. Паўпадвал аддзелены ад асноўнага аб'ёму карнізам. Сцены першага паверха члянёны паўцыркульнымі вокнамі, другога — лучковымі. Пад дахам па перыметры будынка праходзіць карніз з сухарыкамі. Планіроўка ўнутранай прасторы калідорна-анфіладная.

Будынак — помнік эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**1663. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку імя Н. К. Крупскай. Пахаваны 109 воінаў. Сярод іх — воіны 277-й і 344-й стралковых дывізій, якія загінулі ў верасні 1943 г. у баях пры вызваленні раёна і горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1959 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1664. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 29 воінаў, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1943—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1665. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1943—44 гг. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1666. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, насупраць інтэрната прафесійна-тэхнічнага вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні Мсціслава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1962 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1667. БУДЫНАК ВАЙСКОВАЙ УСТАНОВЫ.** Вул. Пралетарская, 51. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Цяпер тут адміністрацыйная ўстанова. Двухпавярховы будынак несіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі, на высокім цокалі, накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Фасады будынка падзелены карнізамі на 3 часткі. Вонкавыя сцены цокальнага і першага паверхаў гарызантальна руставаны. Вокны цокальнага паверха лучковыя, першага — паўцыркульныя,



**1668.** *Будынак былой земскай управы.*

у некаторых месцах чаргуюцца з нішамі. Сцены трэцяга паверха гладкія, члянёны лучковымі аконнымі праёмамі без ліштваў. Па перыметры будынка праходзіць карніз з сухарыкамі. Цэнтральны ўваход вылучаны высокім мураваным ганкам. Унутраная прастора мае анфіладную сістэму планіроўкі.

Будынак — прыклад эклектычнай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**1668. БУДЫНАК ЗЕМСКАЙ УПРАВЫ** (архіт.). Вул. Леніна, 28. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут навучальная ўстанова.

Двухпавярховы П-падобны ў плане будынак з высокім паўпадвалам. Накрыты двухсхільным вальмавым дахам, пад якім па перыметры праходзіць развіты карніз з сухарыкамі. Адзін вугал зрэзаны і завершаны атыкам. Фасады члянёны плоскімі і руставанымі лапаткамі, на першым паверсе — высокімі прамавугольнымі вокнамі без ліштваў, на другім — лучковага абрысу з складанымі ліштвамі. Паверхі аддзелены карнізам. На другім паверсе балконы з чыгуннымі агароджамі. Унутраная прастора калідорнай сістэмы планіроўкі.

Будынак — прыклад грамадзянскай архітэктуры з элементамі неакласіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**1669. БУДЫНАК КАЗНАЧЭЙСТВА** (архіт.). Вул. Савецкая, 14. Пабудаваны ў канцы 19 — пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховы Г-падобны ў плане будынак накрыты двухсхільным вальмавым дахам. Цэнтральны вугал скошаны, паверхня сцяны скосу завершана атыкам з люнетам, вуглы гарызантальна руставаны. Першы і другі паверхі аддзелены карнізам. Аконныя праёмы лучковыя, на другім паверсе дэкарыраваны ліштвамі. Унутраная планіроўка калідорная з адна- і двухбаковым размяшчэннем памяшканняў.

Будынак — прыклад эклектычнай архітэктуры з элементамі неакласіцызму. *А. Ю. Пятросава.*



**1669.** *Будынак былога казначэйства.*

**1670. БУДЫНАК МУЖЧЫНСКАЙ ГІМНАЗІІ** (архіт.). Вул. Першамайская, 14. Пабудаваны ў 1908 г. з цэглы. Цяпер тут размешчана школа.

Асіметрычны двухпавярховы Т-падобны ў плане будынак складаецца з трох злучаных паміж сабой карпусоў. Галоўны тарцовы фасад фланкіраваны рызалітамі, члянёны ў цэнтральнай частцы высокімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі — вузкімі на 1-м паверсе і шырокімі на 2-м. Над цэнтральным уваходам, вылучаным казырком на кансолях, размешчаны лучковы аконны праём з кілепадобнай ліштвай. Бакавыя фасады падзелены на 2 ярусы карнізам з філёнгавым фрызам. Плоскасць сцен паміж аконнымі праёмамі крапавана лапаткамі. У перакрыцці памяшканняў цэнтральнага аб'ёму выкарыстаны крыжовыя і цыліндрычныя скляпенні з падпружнымі аркамі. Функцыянальнаму прызначэнню будынка адпавядае калідорная сістэма планіроўкі з аднабаковым размяшчэннем класаў.

Будынак гімназіі — помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі стылю «мадэрн».

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912. *А. Ю. Пятросава.*

**1671. ГАНДЛЁВЫЯ РАДЫ** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Аднапавярховыя прамавугольныя ў плане будынкі злучаны паміж сабой. Галоўныя фасады выходзяць на вуліцы Урыцкага, Красную і Камсамольскую. У архітэктурным дэкоры выкарыстаны паясы з сухарыкамі, атыкі, аркатурныя пояскі. Вонкавыя сцены члянёны плоскімі лапаткамі, прарэзаны прамавугольнымі вокнамі без ліштваў.

Ансамбль гандлёвых радоў — помнік эклектычнай архітэктуры. У іх выкарыстаны элементы стыляў «мадэрн» і неакласіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**1672. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). У паўночнай частцы горада. Займае высокі мыс правага берага р. Віхра і ўзвышаецца над узроўнем ракі больш як на 10 м. Пляцоўка памерам 108×48 м умацавана па краі валам вышынёй каля 2,5 м. Адкрыў у 1893 г. Е. Р. Раманаў; абследавалі ў 1926 г. А. М. Ляўданскі і С. А. Дубінскі, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі праводзіў у 1959—60 гг. Л. В. Аляксееў. Культурны пласт 0,6 м. У ім знойдзены матэрыялы бронзавага веку, кераміка днепра-дзвінскай і ранняга этапа зарубінецкай культур. Частка посуду пакрыта штрыхамі. Знойдзены сярэднелатэнская фібула, 2 грузікі дзякоўскага тыпу, абломак касцяной восці, серп, серпападобны нож, касцяныя пацеркі, шкляныя бранзалеты, жалезныя наканечнікі стрэл 17 ст. і інш. Найбольш інтэнсіўнае жыццё на гарадзішчы існавала з сярэдзіны 1-га тысячагоддзя да н. э. да 1 ст. н. э. У 12—17 стагоддзях выкарыстоўвалася як гарадзішча-сховішча для абароны мясцовага насельніцтва.

Матэрыялы раскопак 1959—60 гг. захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974; Аляксееў Л. В. Старажытны Мсціслаў.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1971, № 1. *М. А. Ткачоў.*

**1673. ГАРАДЗІШЧА «ЗАМКАВАЯ ГАРА», ВАКОЛЬНЫ ГОРАД** (археал.).

**1673а.** Гарадзішча. У цэнтры го-



**1670.** *Будынак былой мужчынскай гімназіі.*




**1670.** *Будынак былой мужчынскай гімназіі. План 1-га паверха.*

рада, на высокай гары (правы бераг р. Віхра). Абкружана шырокімі (каля 60—100 м) ярамі, глыбінёй больш за 25 м. Плошча каля 2 га. Пляцоўка была ўмацавана кальцавым валам (захаваўся ўчастак з паўднёва-ўсходняга боку).

Першыя летапісныя звесткі аб гарадзішчы адносяцца да 1135 г. Абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1925 г. А. М. Ляўданскі, у 1928 г. С. А. Дубінскі, у 1978 г. М. А. Ткачоў. У 1959—85 гг. раскопкі праводзіў Л. В. Аляксееў (на плошчы больш за 1000 м²). Культурны пласт 3 м. Ускрыты рэшткі жылых дамоў з глінабітнымі печамі, свірнаў, хлявоў, паграбоў, вымасткі 2 вузкіх вуліц (у напрамках захад — усход і паўднёвы захад — паўночны ўсход). Падворкі звычайна масцілі бярвёнамі і абгароджвалі частаколам ці жэрдкамі. Самая ранняя пабудова датуецца 1204 г.

Знойдзены разнастайная кераміка, шыферныя прасліцы, шкляныя бранзалеты і пацеркі, ювелірныя вырабы з каляровых металаў, касцяныя і самшытавыя грабяні, замкі, ключы розных тыпаў, нажы, сякеры, наканечнікі стрэл і арбалетных балтоў, тыглі і ліцейныя формы, ажурныя скураныя чаравікі, лапці-поршні і інш. Сярод найбольш цікавых знаходак — касцяныя пласціны з разным арнаментам, фрагменты шклянога бакала з арабскім надпісам, крыжы-энкалпіёны, на адным з якіх выгравіраваны словы: «Богородица помогай» (1-я трэць 13 ст.), шахматная ладдзя і пешка.



**1673а.** *Гарадзішча «Замкавая Гара».*



**1673а.** *Рэшткі драўлянай пабудовы з раскопак гарадзішча «Замкавая Гара».*

Аб існаванні пісьменнасці сярод гараджан сведчаць пісалы, літары НТА, Ж, РВ, надрапаныя на жоўтым шыферным крузе, а таксама унікальная знаходка — берасцяная грамата. У верхнім яе радку тэкст: «Нще полупять грнвN», у ніжнім — слаба чытаемае слова «Осмьнад/цать». Стратыграфія залягання і асаблівасць палеаграфіі граматы дазваляюць датаваць яе 1-й паловай 13 ст. Мсціслаў з'яўляецца шостым горадам (пасля Ноўгарада, Пскова, Смаленска, Старой Русы і Віцебска), дзе знойдзены берасцяныя граматы, і самым паўднёвым пунктам іх распаўсюджвання. У культурных напластаваннях 14—17 стагоддзяў знойдзена многа чорнаглянцаванага паліванага і шклянога посуду, тэракотавая і паліхромная паліваная, багата аздобленая кафля, гліняныя пісанкі, вырабы з жалеза і косці, дэталі арбалетаў, асколкі гарматных ядраў і інш. Дзядзінец быў абнесены земляным валам, на якім стаялі гародні, драўляныя вежы і размяшчалася ўязная брама. Уваход у замак — праз драўляны пад'ёмны мост, перакінуты цераз роў. У цэнтры замка ўзвышалася магутная васьмівугольная вежа-данжон, пабудаваная ў канцы 15—16 ст. На тэрыторыі гарадзішча стаяла Мікалаеўская царква, магчыма, узведзеная з плінфы, некалькі кавалкаў якой знойдзены і датаваны канцом 12 — пачаткам 13 ст.

Замак неаднойчы асаджалі войскі смаленскіх і маскоўскіх князёў. У Паўночную вайну 1700—21 гг. рускі цар Пётр I, адступаючы са сваімі войскамі ў 1708 да г. Крычава, загадаў узарваць мсціслаўскія замкавыя ўмацаванні, каб іх не маглі выкарыстаць ворагі. Пазней замак быў адноўлены і існаваў да 1772 г.

**1673б.** В а к о л ь н ы г о р а д. На ўсход і захад ад гарадзішча. Даследаваў у 1983—85 гг. А. А. Трусаў. Першы раскоп плошчай 72 м² закладзены на тэрыторыі былога Тупічэўскага манастыра. Культурны пласт ад 0,65 м да 1,4 м. У паўночнай частцы раскопу выяўлены развал печы, кафля (2-я палова 17 — 1-я палова 18 ст.). Самыя раннія фрагменты непаліванай керамікі датуюцца канцом 15—16 ст., асноўны археалагічны матэрыял адносіцца да сярэдзіны 17 — 1-й паловы 18 ст. Гэта мораная, непаліваная, зялёная, карычневая, шматкаляровая, распісная паліваная кераміка (гаршкі, патэльні-латкі, міскі, збаны, куфлі), вялікая колькасць каробкавай, непаліванай, зялёнай і паліхромнай кафлі з геаметрычным, раслінным і геральдычным арнаментам, а таксама тэракотавая кафля 17 ст. з выявай святога Юрыя на кані, шкляныя вырабы (кварты, пляшкі, шкляніцы, аконнае шкло, стопкі, збаны, посуд з гравіроўкай) і металічныя (падкова, трохшыпныя падкоўкі для абутку, каваныя цвікі, цвікі ад падкоў), тачыльны брусок, цэгла-пальчатка, непаліваныя пліткі для падлогі.



**1673б.** *Кафля 17 ст. з раскопак вакольнага горада.*

Другі раскоп плошчай 64 м² і 10 шурфоў плошчай 31 м² закладзены каля былога кармеліцкага касцёла. Культурны пласт 2—2,6 м. Прасочаны 2 гарызонты: верхні таўшчынёй 0,7—0,8 м утрымліваў матэрыялы 17—18 стагоддзяў — непаліваную, мораную, карычневую, зялёную, паліхромную і размаляваную кераміку (гаршкі, міскі, сальніцы, накрыўкі, кубкі, бакалы, рукамыйнікі, падсвечнікі), курыльныя люлькі, фаянсавыя і шкляныя вырабы (шкляніцы, пляшкі, стопкі, аконнае шкло), вырабы з металу (манеты, нажы, трохшыпныя нажы, падкоўкі, цвікі), з косці (разная шашка, грэбень, накладка з выявай чалавека), а таксама непаліваная, зялёная, карычневая паліваная кафля з расліннным ці геаметрычным арнаментам.

Ніжні гарызонт 1,6—1,8 м прасочаны ў паўднёвай частцы раскопу. У ім выяўлены вуголле, попел, косці дзікіх і свойскіх жывёл, вялікая колькасць непаліванай керамікі 14—15 стагоддзяў (на днішчах асобных гаршкоў ёсць кляймо), некалькі венчыкаў 13 ст., фрагменты шкляных бранзалетаў 13—14 стагоддзяў, металічная патэльня, шпора 14—15 стагоддзяў. Знойдзена свінцовая віслая пячатка з выявай на адным баку крыжа, на другім — галавы святога з німбам, прасочаны рэшткі драўлянай пабудовы канца 14 — пачатку 15 ст. памерам 3×3 м, заглыбленай у мацярык.

Матэрыялы раскопак гарадзішча захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР, раскопак вакольнага горада — у фондах аддзела археалогіі

Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР.

*Літ.:* Краснянский В. Г., Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912; Алексеев Л. В. Древний Мстиславль (по материалам раскопок 1959—1964, 1968 и 1969 гг.).— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1976, в. 146.

*М. А. Ткачоў, А. А. Трусаў.*

**1674. КАСЦЁЛ КАРМЕЛІТАЎ** (архіт.). Вул. Кірава, 4. Закладзены ў 1614 г. (паводле інш. звестак у 1637 г. ці 1638 г.). Рэканструяваны ў 1746—50 гг. архітэктарам І. К. Глаўбіцам (перайначаны форма даху, дэкор галоўнага фасада і інтэр'ера, завяршэнні трох'ярусных вежаў) і часткова ў 1887 г.

Мураваная трохнефавая шасцістаўповая базіліка з двухвежавым фасадам і пяціграннай апсідай, да якой з поўначы прылягае двухпавярховая прыбудова з вальмавым дахам. Галоўны фасад фланкіраваны вежамі з паўсферычнымі купаламі і завершаны фігурным шчытом паміж імі. Сцены (таўшчыня дасягае 1,5 м) атынкаваны і аздоблены пілястрамі, карнізамі, прафіляванымі цягамі, прарэзаны лучковымі аконнымі праёмамі. У інтэр'еры — хоры пры ўваходзе, амбон, цэнтральны і бакавыя алтары ў стылі ракако. У гэтым жа стылі выканана фрэскавая размалёўка «цёплай» капліцы (у стане рэстаўрацыі). Багата аздоблены лепкай і фрэскамі паўднёвая, паўночная і алтарная сцены галоўнага нефа і скляпенні бакавых нефаў. Збераглося каля 20 кампазіцый, у т. л. на гістарычныя тэмы: «Узяцце Мсціслава маскоўскім войскам у 1654 г.», «Забойства ксяндзоў». Гістарычную цікавасць мае панарама тагачаснага Мсціслава. Колеравая гама размалёвак на рэлігійныя тэмы мяккая, вытрымана ў жоўта-карычневых і шэра-блакітных тонах. Сцэны на гістарычныя сюжэты маюць больш разнастайную колеравую гаму. У кампазіцыі адчуваецца перспектыўна-прасторавы план, аб'ём.

Каля касцёла пабудавана цагляная брама, якая выраршана ў выглядзе 3 рознавялікіх паўцыркульных арак. Па баках брамы ўзвышаюцца невялікія пінаклі. Над шырокай цэнтральнай аркай размешчаны ступеньчаты атык.

Касцёл — помнік архітэктуры барока і ракако.

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912; Трусаў А. А. Спатканне з мінулым.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1976, № 3.

*А. М. Кулагін, В. В. Церашчатава.*

**1675. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. К. Заслонава. Пахавана больш за 700 мірных жыхароў горада, якіх у 1941—43 гг. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1978 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1676. МАГІЛА ЮРЧАНКІ** Аляксандра Лявонавіча **І ЦЫРЫКАВА** Паўла Канстанцінавіча (гіст.). У парку імя Н. К. Крупскай.

Удзельнік Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. і барацьбы за Савецкую ўладу на Магілёўшчыне А. Л. Юрчанка нарадзіўся ў 1892 г. у в. Сквервата Хіславіцкага р-на Смаленскай вобл. у сям'і селяніна-бедняка. Скончыў 2 класы царкоўнапрыходскай школы. Працаваў у сельскай гаспадарцы, з 1910 г. рабочы Марыупальскага металургічнага завода. Член КПСС з 1911 г. У 1913 г. прызваны ў царскую армію. У 1-ю сусветную вайну на фронце, вёў бальшавіцкую прапаганду сярод салдат, за што ў 1917 г. прыгавораны да расстрэлу. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. старшыня палкавога камітэта і член камітэта фракцыі бальшавікоў 5-й арміі.



1674. *Касцёл кармелітаў.*



1674. *Касцёл кармелітаў. План.*



1674. *Касцёл кармелітаў. Брама.*



1675. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*



1676. *Помнік на магіле А. Л. Юрчанкі і П. К. Цырыкава.*



1682. *Мемарыяльны комплекс землякам. Курган Славы.*

Удзельнік штурму Зімняга палаца. Вясной 1918 г. вярнуўся на радзіму, дзе стварыў камуністычную ячэйку. У жніўні 1918 г. выбраны старшынёй выканкома Мсціслаўскага павятовага Савета. А. Л. Юрчанка і чырвонаармеец П. К. Цырыкаў загінулі 2.8.1919 г. у час ліквідацыі контррэвалюцыйнай банды на Мсціслаўшчыне. Імем А. Л. Юрчанкі названа адна з вуліц г. Мсціслава.

У 1972 г. на магіле пастаўлены бюст А. Л. Юрчанкі. *М. Б. Батвіннік.*

**1677. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА АСТАПЕНКУ** Дзмітрыю Емяльянавічу, **КУЛЯШОВУ** Аркадзю Аляксандравічу, **ТАЎБІНУ** Юлію Абрамавічу (гіст.). Вул. Першамайская, 14. Устаноўлена ў 1986 г. на будынку былога педагагічнага тэхнікума (цяпер сярэдняя школа № 1), у якім у 1928—31 гг. вучыліся беларускія савецкія паэты Дз. Астапенка, А. Куляшоў, Ю. Таўбін.

**1678. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Савецкая, 41. Устаноўлена ў 1965 г. на будынку гарвыканкома. У ходзе баёў на Магілёўскім напрамку часці 49-й арміі (344-я стралковая дывізія, камандзір палкоўнік В. К. Страхаў; 196-я асобная танкавая брыгада, камандзір палкоўнік Я. Я. Духоўны; 54-ы гвардзейскі мінамётны полк, камандзір маёр Я. І. Лаўрыновіч) 28.9.1943 г. вызвалілі г. Мсціслаў. 277-я стралковая дывізія (камандзір генерал-маёр С. Т. Гладышаў) удзельнічала ў вызваленні Мсціслаўскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. *М. Б. Батвіннік.*

**1679. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КОЛАСУ** Якубу (гіст.). Першамайская, 14. Устаноўлена ў 1986 г. на будынку былога педагагічнага тэхнікума (цяпер сярэдняя школа № 1), перад навучэнцамі і педагогамі якога ў 1925 г. выступаў Я. Колас.

**1680. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР 1-га З'ЕЗДА САВЕТАЎ МСЦІСЛАЎСКАГА ПАВЕТА** (гіст.). Вул. Калініна, 31. Устаноўлена ў 1968 г. на будынку, дзе 24.1.1918 праходзіў 1-ы павятовы з'езд Саветаў рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў, які абвясціў Савецкую ўладу ў Мсціславе і павеце. З'езд выбраў выканком Мсціслаўскага павятовага Савета рабочых, сялянскіх і салдацкіх дэпутатаў.

*Літ.:* Ясинский О. А., Гасенков В. Л. Мстиславль: Историко-экономический очерк.— Мн., 1975.

**1681. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ШТАБА 2-га БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ** (гіст.). Вул. Пралетарская, 51. Устаноўлена ў 1975 г. на будынку, дзе ў 1944 г. знаходзіўся штаб 2-га Беларускага фронту (камандуючы генерал-палкоўнік Г. Ф. Захараў).

**1682. МЕМАРЫЯЛЬНЫ КОМПЛЕКС ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, каля аўтамабільнай дарогі Магілёў — Мсціслаў. Узведзены ў 1968 г. на ўшанаванне памяці 6407 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Уключае Курган Славы, на вяршыні якога абеліск, скульптуру жанчыны і стэлу з рэльефнай выявай эпізоду бою, пастаўленыя на другі бок дарогі.

**1683. МІКАЛАЕЎСКІ САБОР, БУДЫНАК ДУХОЎНАЙ СЕМІНАРЫІ** (архіт.). У цэнтры горада, на перакрыжаванні вуліц Першамайскай і Пралетарскай, абнесены з трох бакоў цаглянай агароджай.



1682. *Мемарыяльны комплекс землякам. Фрагмент.*

С а б о р. Перабудаваны ў 1-й палове 19 ст. з езуіцкага касцёла. Уяўляў сабой 2-вежавую трохнефавую базіліку з трансептам і паўкруглай апсідай. Знешні выгляд храма быў значна зменены: прыбудаваны невялікі прытвор, завершаны складаным ступеньчатым атыкам і злучаны з асноўным аб'ёмам шырокім уваходным парталам, разабраны вежы. У 1842 г. надбудаваны вялікі драўляны купал на цыліндрычным светлавым барабане (не захаваўся). Пластыка фасадаў будынка ўзбагачана шырокімі піля-



1683. *Мікалаеўскі сабор 1-я палова 19 ст.*

страмі, паўцыркульнымі нішамі. Унутры сабора магутныя калоны з пілястрамі злучаны падпружнымі аркамі і падзяляюць храм на 3 нефы. У іх паўднёва-заходняй частцы размешчаны высокія хоры. Памяшканне пад хорамі, нефы і бакавыя алтары перакрыты крыжовымі скляпеннямі, у апсідзе — конха з распалубкамі.

Духоўная семінарыя. Двухпавярховы цагляны будынак, мае ў плане форму выцягнутага прамавугольніка. У паўднёвай частцы злучаецца пад невялікім вуглом з саборам. 2 вуглы будынка і сярэдзіна паўночна-ўсходняй сцяны ўмацаваны магутнымі контрфорсамі. Сістэма планіроўкі калідорная з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў. На 1-м паверсе калідор і пакої перакрыты крыжовымі скляпеннямі, на 2-м — плоскай столлю, ва ўсходнім вуглу размешчана вузкая двухмаршавая лесвіца. Цяпер у будынку школа.

Сабор — помнік архітэктуры з рысамі рэнесансу, барока і класіцызму.

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильно, 1912. *А. Ю. Пятросава.*

1684. **ПАРАВЫ МЛЫН** (архіт.). Вул. К. Маркса, 77. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы. Цяпер тут райпрамкамбінат.

Двухпавярховы будынак складаецца з 2 розных па вышыні аб'ёмаў, пакрытых двухсхільнымі дахамі; па перыметры аб'ёмаў праходзяць паясы сухарыкаў. Прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў. Вуглавыя часткі вылучаны плоскімі лапаткамі. Унутраная прастора падзелена на 3 вялікія памяшканні.

Млын — помнік прамысловай архітэктуры з элементамі неакласіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

1685. **ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне горада, каля шашы Мсціслаў — Чавусы. На ўшанаванне памяці 55 жыхароў былога пас. Кіраўскі (цяпер у межах горада), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены абеліск.

1686. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад адміністрацыйным будынкам перасоўна-механізаванай калоны № 83. Устаноўлены ў 1972 г. Уяўляе сабой скульптурную кампазіцыю — У. І. Ленін з дзецьмі.

1687. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Першамайскай, у двары школы. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1958 г.

1688. **ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Юрчанкі, на тэрыторыі школы-інтэрната. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1967 г.

1689. **ПОМНІК МСЦІСЛАЎЦУ** Пятру Цімафеевічу (гіст.). У цэнтры горада.

Адзін з рускіх і беларускіх першадрукароў, гравёр П. Мсціславец (год нараджэння невядомы) нарадзіўся ў сям'і мяшчан. У 1563 г. у Маскве з І. Фёдаравым узначаліў друкарню, дзе ў 1564 г. яны выпусцілі першую рускую датаваную кнігу «Апостал», у 1565 г.— 2 выданні «Часоўніка». З-за праследавання рэакцыйнага духавенства і кансерватыўных колаў П. Мсціславец і І. Фёдараў не пазней 1567 г. пераехалі ў Заблудава да



1683. *Мікалаеўскі сабор і будынак былой духоўнай семінарыі.*



1683. *Мікалаеўскі сабор. Выгляд з боку апсіды.*




1683. *Мікалаеўскі сабор. План.*



1683. *Мікалаеўскі сабор. Скляпенні.*




1683. *Будынак былой духоўнай семінарыі. План 1-га паверха.*



1686. *Помнік У. І. Леніну.*



1685. *Помнік землякам.*

гетмана Вялікага княства Літоўскага Р. Хадкевіча, які дапамог заснаваць там друкарню. У 1569 г. П. Мсціславец і І. Фёдараў выдалі тут «Евангелле вучыцельнае». У кнізе 2 прадмовы. У адной выказваюцца погляды друкароў на мэту выдання кнігі: «...каб научение людем... ширилося». З гэтай прычыны спачатку меркавалася выпусціць кнігу «выразумения ради простых людей» у перакладзе «на простую мову». У 1569 г. П. Мсціславец па запрашэнню купцоў братоў Мамонічаў, скарбніка Вялікага княства Літоўскага І. Зарэцкага і яго брата Зянона, бурмістра віленскага, пераязджае ў Вільню. З дапамогай Мамонічаў у іх доме ён заснаваў друкарню. У 1575 г. надрукаваў тут «Евангелле», для яго выразаў прыгожы буйны шрыфт. У 1576 г. выпускае «Псалтыр», у пасляслоўі да якога гаворыць аб складанасці кнігавыдавецкай справы, выступае супраць невуцтва, «неразумия лютого», за «просветительную благодать», дзеля чаго ён і адважваецца выдаваць кнігі для «жаждущих духовного сего пива». У 1574—76 гг. (?) выдаў «Часоўнік». Выданні П. Мсціслаўца вызначаліся высокім паліграфічным узроўнем, мелі маляўнічы арнамент, гравюры. Матэрыялы яго друкарняў выкарыстоўваліся ў Астрожскай, Дзерманскай і інш. друкарнях 16 — пачатку 17 ст. на Украіне. У 1576 г. паміж П. Мсціслаўцам і Мамонічамі ўзнікла судовая справа аб падзеле друкарні. Апошнія звесткі аб гэтай справе і П. Мсціслаўцу адносяцца да 2.5.1577 г. Мяркуюць, што ён памёр неўзабаве пасля 1580 г.

У 1986 г. пастаўлены помнік.

*Літ.:* Анушкин А. На заре книгопечатания в Литве.— Вильнюс, 1970; Зернова А. С. Первопечатник Петр Тимофеевич Мстиславец.— У кн.: Книга: Исследования и материалы. М., 1964, сб. 9; Немировский Е. Л. Иван Федоров в Белоруссии.— М., 1979; Ялугин Э. В. Мстиславцев посох, или страницы жизни...— Мн., 1971; 450 год беларускага кнігадрукавання.— Мн., 1968; Иван Федоров и восточнославянское книгопечатание.— Мн., 1984. *Э. В. Ялугін.*

**1690. РАДЗІМА КУТАРГІ** Сцяпана Сямёнавіча (гіст.).

Вучоны ў галіне прыродазнаўства, заалогіі і геалогіі, доктар медыцыны (1832 г.) С. С. Кутарга нарадзіўся 12.2.1805 г. У 1832 г. скончыў Дэрпцкі універсітэт. У 1833—61 гг. прафесар заалогіі Пецярбургскага універсітэта. У 1842—61 гг. старшыня Пецярбургскага мінералагічнага таварыства. Першы ў Расіі пазнаёміў студэнтаў (1860 г.) з эвалюцыйным вучэннем Ч. Дарвіна. Шмат зрабіў для геалагічнага вывучэння Пецярбургскай і суседніх з ёю губерняў. У 1852 г. за складанне геалагічнай карты Пецярбургскай губерні яму прысуджана Дзямідаўская прэмія. Аўтар работ: «Натуральная гісторыя налівачных жывёл...» (1839 г.), «Хімічныя законы ўтварэння, разбурэння і пераўтварэння мінеральных форм» (1850 г.). Штогод у час летніх канікулаў С. С. Кутарга разам з братам Міхаілам Сямёнавічам, прафесарам Пецярбургскага універсітэта, прыязджаў у Мсціслаў, дзе яны вялі культурна-асветніцкую работу сярод насельніцтва. С. С. Кутарга памёр 25.4. 1861 г. у Пецярбургу.

*Літ.:* Тихомиров В. В., Софиано Т. А. Из истории геологических наук. Сто пятьдесят лет со дня рождения С. С. Куторги.— Известия АН СССР. Сер. геологическая, 1954, № 6; Тимирязев К. А. Соч. Т. 5.— М., 1938, с. 107—108. *М. А. Ткачоў.*

**1691. РАДЗІМА ПАЛУБЕСА** (гіст.).

Цаніннік 17 ст., майстар паліхромных маёлікавых рэльефаў Палубес (празваны так за высокае майстэрства; сапраўднае Іванаў Сцяпан) працаваў у Маскве. У 1660—66 гг. аздабляў Васкрасенскі сабор Новаіерусалімскага манастыра на Істры. З 1666 г. майстар Аружэйнай палаты Маскоўскага Крамля. У 1668—72 гг. з І. Максімавым і інш. майстрамі ўпрыгожыў кафляным поясам царкву Грыгорыя Неакесарыйскага ў Маскве (узор так званага «павіна вока»). Такой жа кафляй, відаць, з тых жа форм, упрыгожаны Пакроўскі сабор у Ізмайлаве (1671—74 гг.). Сярод работ — маёлікавая аздоба «Церамка» над брамай Круціцкага падвор'я (1693—94 гг.). Найбольш значны твор — маёлікавыя рэльефы апосталаў для царквы Успення ў Ганчарах (1691 г., Масква). Мяркуюць, што ўдзельнічаў у аздабленні Церамнога палаца, царквы Спаса за залатой рашоткай і Аптэкарскага прыказа ў Крамлі.

*Літ.:* Абецедарский Л. С. Белорусы в Москве XVII в.— Мн., 1957. *Я. М. Сахута.*

**1692. РЭШТКІ ТУПІЧЭЎСКАГА МАНАСТЫРА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне горада. Манастыр заснаваны ў сярэдзіне 17 ст. як мужчынскі, з 1886 г. жаночы. Складаўся з Святадухаўскай, Увядзенскай, Успенскай, Мікалаеўскай цэркваў, жылых і гаспадарчых пабудоў. Быў абнесены спачатку драўлянай, у канцы 19 ст. мураванай агароджай. Манастырскія жылыя і гаспадарчыя пабудовы былі пераважна драўляныя. Не збярогся. Засталіся фрагменты мураванай агароджы, брамы і капліц канца 19 ст. Цяпер частка тэрыторыі занята сучаснымі будынкамі маслазавода. У час археалагічных даследаванняў выяўлены культурны пласт 16—18 стагоддзяў, сярод знаходак непаліваная кафля з выявай Святога Георгія на кані.

Святадухаўская царква пабудавана ў 1641 г. з дрэва. Крыжовакупальны храм (25×25 м) на каменным падмурку, абнесены паўзакрытай абходнай галерэяй на слупах. Вальмавыя дахі канцоў крыжа і купал на светлавым барабане над сяродкрыжжам былі завершаны галоўкамі. Сцены ў інтэр'еры ўпрыгожвала размалёўка па дрэве на біблейскія і евангельскія сюжэты (73 кампазіцыі): у цэнтральным аб'ёме — «Нараджэнне багародзіцы», «Увядзенне ў храм», «Заручыны Марыі», «Успенне», «Нараджэнне Хрыста» і інш., у алтары — «Тайная вячэра», у бабінцы — сцэны на сюжэты старога запавету і пакут розных святых. Рэалістычнай манерай вылучаліся кампазіцыі «Рай», «Ства-



1692. *Тупічэўскі манастыр. Здымак пачатку 20 ст.*

рэнне Евы», «Спакуса Адама» і інш. Выявам уласцівы жыццёвасць, мясцовы тыпаж. Фігуры прыземістыя, крыху нязграбныя, але ў іх добра перададзена дынаміка. Тыповыя для Беларусі краявіды і элементы архітэктурнага антуражу сведчаць аб тым, што ў аздабленні царквы ўдзельнічалі майстры, якія творча перапрацоўвалі традыцыі народнага выяўленчага мастацтва Магілёўшчыны 17—18 стагоддзяў. У некаторых кампазіцыях прыкметны рысы стылю барока. Галоўны і бакавыя іканастасы былі аздоблены дэкаратыўнай разьбой і пазалотай.

Увядзенская царква. Пабудавана ў 1771 г. Драўлянае на каменным падмурку прамавугольнае ў плане (каля 12×7 м) купальнае збудаванне. У канцы 19 ст. падоўжана да 22 м, сцены абкладзены цэглай. Інтэр'ер упрыгожвалі арнамент і размалёўка на рэлігійныя сюжэты.

Мікалаеўская царква. Існавала да 1839 г. у другім ярусе брамы.

Успенская царква. Пабудавана ў псеўдарускім стылі ў 1891—95 гг. з цэглы. Крыжова-купальны храм са званіцай над бабінцам завершаны купалам на светлавым барабане. У інтэр'еры знаходзіліся чатырох'ярусны з пазалотай і 3-ярусны іканастасы.



1693. *Спаса-Праабражэнская царква.*




1693. *Спаса-Праабражэнская царква. План.*

Манастырскі комплекс — помнік архітэктуры 17 — пачатку 20 ст.

*Літ.:* Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси, издаваемый при Управлении Виленского учебного округа. Т. 2.— Вильна, 1867, с. 66—67; Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912; Пятницкий И. К. Тупичевский монастырь Могилевской епархии: Исторический очерк.— 2 изд.— Могилев, 1907; Ржавуская Т. Насценныя роспісы ў царкве б. Тупічэўскага манастыра ў Мсціслаўлі.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 6. Працы камісіі гісторыі мастацтва, т. 1, сш. 1. *А. А. Трусаў, Л. Л. Чарняўская.*

**1693. СПАСА-ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Энгельса, на могілках. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з дрэва.

Будынак складаецца з прамавугольнага ў плане асноўнага аб'ёму, двух'яруснай шатровай званіцы, бабінца і апсіды. Асноўны аб'ём накрыты чатырохсхільным дахам, увенчаным цыбулепадобнай галоўкай. Тарэц прамавугольнай у плане апсіды, накрытай двухсхільным дахам, завершаны трохвугольным франтонам. Аконныя праёмы аформлены лучковымі ліштвамі з накладной разьбой у выглядзе ліся. Цэнтральны і 2 бакавыя ўваходы вылучаны муравымі ганкамі. У інтэр'еры плоская падшыўная столь.

Царква — помнік драўлянага народнага дойлідства. *А. Ю. Пятросава.*



1694. *Царква Аляксандра Неўскага.*



1694. *Царква Аляксандра Неўскага. Галоўны фасад.*

**1694. ЦАРКВА АЛЯКСАНДРА НЕЎСКАГА** (архіт.). Вул. Леніна, 30, у цэнтральнай частцы горада. Пабудавана ў 1870 г. з цэглы на месцы мураванага храма (згарэў у 1858 г.).

Крыжова-купальны храм мае 3 закругленыя рознавялікія апсіды, якія асвятляюцца высокімі паўцыркульнымі вокнамі. Над сяродкрыжжам узвышаецца шлемападобны купал на васьміграннным светлавым барабане. Такі ж па форме, але меншых памераў купал на высокай двух'яруснай званіцы, размешчанай над бабінцам храма. Тарцы трансепта завершаны трохвугольнымі шчытамі. У храме 3 уваходныя парталы: цэнтральны і бакавыя. Парталы і аконныя праёмы абрамлены дэкаратыўным валікам. Пад карнізам, па перыметры будынка, праходзіць аркатурны пояс. Для перакрыцця ўнутранай прасторы выкарыстаны розныя тыпы скляпенняў: у бабінцы крыжовае, у дадатковым



1694. *Царква Аляксандра Неўскага. Выгляд з боку апсід.*




1694. *Царква Аляксандра Неўскага. План.*

аб'ёме і бакавых алтарах цыліндрычныя з распалубкамі, у апсідах конхі, у цэнтры сферычны купал на ветразях.

Брама перад царквой уяўляе сабой паўцыркульную арку, над якой узвышаецца невялікаяназіральная вежа. Абапал яе размешчаны невысокія галоўкі. Вароты ажурныя, чыгуннае ліццё.

Царква — помнік архітэктуры псеўдарускага стылю.

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Андраны, Доўгавіцкі сельсавет**

**1695. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі пахаваны 2 воіны 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі 9.6.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1696. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўднёвы ўсход ад вёскі. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1697. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 77 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. На пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Асляпка, Пячкоўскі сельсавет**

**1698. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 48 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне стэлы.



**1694.** *Царква Аляксандра Неўскага. Фрагмент брамы.*



**1697.** *Помнік землякам.*

**в. Асмолавічы, Капачоўскі сельсавет**

**1699. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе забалочанага ручая, на пагорку, што ўзвышаецца над поймай на 4—5 м. Пляцоўка памерам 37×17 м выцягнута з поўначы на поўдзень. Па краі ўмацавана валам, які з боку поля дасягае вышыні 2,5 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт у шурфах 0,45—1,3 м, насычаны абломкамі ляпной керамікі, касцямі, вуголлем і камянямі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *М. А. Ткачоў.*

**1700. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, каля старых могілак. 2 насыпы вышынёй 1,3 м, дыяметрам 6 м. Выявіў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Багацькаўка, Раздзельскі сельсавет**

**1701. РАДЗІМА ГАРЭЦКАГА** Максіма Іванавіча (гіст.).

Беларускі савецкі пісьменнік, літаратуразнавец, крытык, фалькларыст, лексікограф М. Гарэцкі нарадзіўся 6.2.1893 г. у в. Малая Багацькаўка (цяпер Багацькаўка). З сялян. У 1913 г. скончыў Горацкае каморніцка-агранамічнае вучылішча, у 1916 г. Паўлаўскае ваеннае вучылішча ў Петраградзе. У 1-ю сусветную вайну на фронце цяжка паранены. Кастрычніцкую рэвалюцыю сустрэў у Смаленску, супрацоўнічаў у «Известиях Смоленского Совета», у газеце «Звезда», з рэдакцыяй якой у 1919 г. пераехаў у Вільню. У 1922 г. за сувязь з віленскімі камуністамі зняволены ўладамі буржуазнай Польшчы ў Лукішскую турму. З кастрычніка 1923 г. у Мінску. Працаваў на рабфаку БДУ, у Камуністычным універсітэце Беларусі (1925—26 гг.), у Мінскім ветэрынарным тэхнікуме, Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі, у Інстытуце беларускай культуры (правадзейны член), потым у АН БССР. У 1931—35 гг. жыў у Вятцы (г. Кіраў), з 1935 г. настаўнік рускай мовы і літаратуры ў г. п. Пясочня (г. Кіраў Калужскай вобл.). З 1937 г. у Комі АССР. Памёр 20.3.1939 г.

Друкаваўся з 1912 г. у газеце «Наша ніва». Першы зборнік апавяданняў «Рунь» выйшаў у 1914 г. у Вільні. Асноўная тэма творчасці М. Гарэцкага дакастрычніцкага перыяду (зборнік «Рунь», драматызаваная аповесць «Антон», 1914 г., апублікавана ў 1919 г.) — жыццё працоўнага беларускага сялянства, роля інтэлігенцыі ў барацьбе за сацыяльную і нацыянальную свабоду, пошук прадстаўнікамі інтэлігенцыі шляхоў да збліжэння з народам. Адно з галоўных месцаў займае тэма вайны. У мастацка-дакументальнай кнізе «На імперыялістычнай вайне» (1914—19 гг., апублікавана ў 1926 г.), аповесці «За што?» (1917—18 гг.; пазнейшыя рэдакцыі «Ціхія песні», 1926 г., «Ціхая плынь», 1930 г.), шэрагу апавяданняў («Літоўскі хутарок», «Рускі», «Генерал») пісьменнік глыбока паказаў вайну і чалавека на вайне, раскрыў яе антынародны характар. У творах паслякастрычніцкага часу (зборнікі апавяданняў «Досвіткі», 1926 г., і незавершаная эпапея «Камароўская хроніка», 1930—32 гг., 1937 г., частка апублікавана ў 1966 г., 1972 г.) глыбока асвятляе мінулае, раскрывае псіхалогію, сацыяльныя імкненні працоўных мас. Тэма Кастрычніцкай рэвалюцыі і Грамадзянскай



**1699 і 1700.** *Гарадзішча і курганны могільнік. План.*

вайны знайшла адлюстраванне ў аповесці «Дзве душы» (Вільня, 1919 г.), драматычных абразках «Чырвоныя ружы» (1922 г., апублікаваны ў 1926 г.). У рамане «Віленскія камунары» (1931—33 гг., апублікаваны ў 1963 г.) дадзена шырокая сацыяльна-гістарычная панарама жыцця беларускага народа ад прыгону да 1-й чвэрці 20 ст., выхад народа на арэну гістарычнай дзейнасці, створаны запамінальныя вобразы камуністаў. М. Гарэцкі збіраў і вывучаў фальклор (зборнік «Народныя песні з мелодыямі», 1928 г., з А. Ягоравым). Вядомы яго працы ў галіне літаратуразнаўства і крытыкі: «Гісторыя беларускае літаратуры» (Вільня, 1920 г.), нарыс «Маладняк» за пяць гадоў» (1928 г.). Аўтар «Хрэстаматыі беларускае літаратуры. XI век — 1905 г.» (Вільня, 1922 г.), лексікаграфічных прац «Руска-беларускі слоўнік» (Смаленск, 1918 г.), «Беларуска-расійскі слоўнічак» (3 выд., 1925 г.) і інш. На беларускую мову пераклаў асобныя працы У. І. Леніна, творы М. Горкага, А. Фадзеева, Ю. Лібядзінскага. Яго творы выдаваліся на ўкраінскай, літоўскай, латышскай, польскай, нямецкай мовах. Выйшлі выбраныя творы ў 2 тамах (1973 г.), Збор твораў у 4 тамах (т. 1—3, 1984—85 гг.).

*Літ.:* Бугаёў Дз. Максім Гарэцкі.— Мн., 1968; Адамовіч А. «Браму скарбаў сваіх адчыняю...» — Мн., 1980; Стральцоў М. Чалавек з Малой Багацькаўкі.— У яго кн.: У полі зроку. Мн., 1976; Гарэцкі Г. Успаміны пра брата.— Полымя, 1963, № 2; Мушынскі М. І. Беларуская крытыка і літаратуразнаўства. 20—30-я гады.— Мн., 1975; Чыгрын І. П. Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд.— Мн., 1971; Максім Гарэцкі: Успаміны, артыкулы, дакументы.— Мн., 1984.
*М. І. Мушынскі.*

**в. Банькаўшчына, Лютнянскі сельсавет**

**1702. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на мысе правага берага р. Чорная Рэчка. Пляцоўка авальная, памерам 28×20 м, мае па краі абарончы вал, а таксама 3 валы з поўдня і ўсходу, якія падковай ахопліваюць гарадзішча. Адкрыў у 1960-я гады Л. В. Аляксееў, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт не выяўлены. Відавочна, з'яўлялася гарадзішчам-сховішчам. Раскопкі не праводзіліся.
*М. А. Ткачоў.*



**1702.** *Гарадзішча. План.*

**в. Басценавічы, Капачоўскі сельсавет**

**1703. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1704. МАГІЛА ЯФРЭМАВА** Івана Дзмітрыевіча (гіст.). На могілках. Савецкі воін І. Дз. Яфрэмаў загінуў 28.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1705. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 96 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з рэльефнай выявай эпізоду бою.

**1706. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана на мяжы 19—20 стагоддзяў з дрэва.

Будынак складанай кампазіцыі, шматзрубны. Да квадратнага ў плане асноўнага зруба прылягаюць на ўзаемна перпендыкулярных восях бакавыя прыбудовы, пяцігранная апсіда, дадатковы аб'ём і бабінец. Усе аб'ёмы аднолькавай вышыні, накрыты агульным шматсхільным дахам. Вылучаецца формай двухсхільны дах над бабінцам, вільчык якога перпендыкулярны вільчыку асноўнага. Тарцы бабінца з шчытовымі завяршэннямі. Сцены ашаляваны гарызантальна, вертыкальнай шалёўкай вылучана цокальная частка. Прамавугольныя вокны аздоблены разнымі ліштвамі, што імітуюць формы мураванай архітэктуры: руст, замковы камень, профілі і інш. Інтэр'ер шматзальны, столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.
*Т. В. Габрусь.*

**в. Башары, Ракшынскі сельсавет**

**1707. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 22 воіны. Сярод іх — воіны 277-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1708. МАГІЛА МЕЛЬНІЧЭНКІ** Івана Аляксандравіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза І. А. Мельнічэнка нарадзіўся 17.8.1918 г. у с. Петрапаўлаўская Баршчагоўка Кіева-Святошынскага р-на Кіеўскай вобл. у сялянскай сям'і. Працаваў на станкабудаўнічым заводзе ў Кіеве. У Чырвонай Арміі з 1939 г. Вучыўся ў артылерыйскім вучылішчы ў Маскве. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір батальёна 492-га стралковага палка 198-й стралковай дывізіі капітан І. А. Мельнічэнка вызначыўся пры фарсіраванні рэк Проня, Бася, Дняпро. 26.6.1944 г. батальён пад яго камандаваннем пераправіўся цераз Дняпро ў раёне в. Масток, у баі за плацдарм знішчыў 2 самаходныя гарматы, 120 гітлераўцаў. Цяжка паранены, не пакінуў поля бою. 4.7.1944 г. памёр ад ран. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1964 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Боевые звезды киевлян.— 3 изд.— Киев, 1983. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Белы Мох, Падсолтаўскі сельсавет**

**1709. РАДЗІМА ЛІСОЎСКАГА** Міхаіла Якаўлевіча (гіст.).

Беларускі савецкі жывапісец і графік М. Я. Лісоўскі нарадзіўся 17.3. 1931 г. Скончыў Мінскае мастацкае вучылішча (1952 г.), Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут (1960 г.). Выкладаў жывапіс і кампазіцыю ў Мінскім мастацкім вучылішчы. У мастацкіх выстаўках удзельнічаў з 1960 г. Працаваў у жанрах партрэта, бытавым, станковай графіцы. Рэалістычнай трактоўкай формы, багаццем каларыту, псіхалагізмам вобразаў вызначаюцца жывапісныя работы «Сувораўцы» і «Настаўніца» (1960 г.), партрэты маці, беларускіх пісьменнікаў Я. Брыля, Я. Семяжона (усе 1967 г.), Н. Гілевіча (1969 г.) і інш., палатно «Паплечнікі Ільіча І. К. Апанскі і Ф. Э. Дзяржынскі» (1969 г.). Запамі-



**1708.** *Помнік на магіле І. А. Мельнічэнкі.*

нальныя карціны «У порце», «Паўднёвы бераг Крыма», «Восень», «Залатая восень», «Вуліца ў Гурзуфе» і інш. М. Я. Лісоўскі — аўтар карыкатур і сяброўскіх шаржаў (у 1971 г. выдадзены асобным альбомам «Няўрокам кажучы», тэкст Р. Барадуліна), якія вызначаюцца дакладнасцю і вастрынёй характарыстык, умелым выкарыстаннем гіпербалы ў якасці сродку сатырычнай тыпізацыі. Памёр М. Я. Лісоўскі 1.10.1970 г. у Мінску, пахаваны на Чыжоўскіх могілках. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Г. Ф. Юрчанка.*

**в. Беразетня, Раздзельскі сельсавет**

**1710. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 21 воін, якія ў канцы 1943 г.— пачатку 1944 г. памерлі ад ран у шпіталі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Беразуйкі, Сялецкі сельсавет**

**1711. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бескаўка, Забалацкі сельсавет**

**1712. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Вароўскага, Сялецкі сельсавет**

**1713. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). У вёсцы. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Данілаўск, Падсолтаўскі сельсавет**

**1714. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны. Сярод іх — воіны 36-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у верасні 1943 г. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.




**1715.** *Гарадзішча. План.*

**в. Добрае, Мушынскі сельсавет**

**1715. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Займае высокі абрывісты бераг р. Белая Натапа, узвышаецца над поймай на 20 м. Пляцоўка памерам 75×45 м з захаду і часткова з поўдня ўмацавана земляным валам вышынёй каля 1 м і ровам глыбінёй 4 м. Моцна пашкоджана ярамі і веснавымі водамі. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Шурфоўкай і зачысткай у сценах і ярах прасочаны культурны пласт каля 0,3—0,4 м, у якім знойдзена ганчарная кераміка. Гарадзішча адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*М. А. Ткачоў.*

**в. Доўгавічы, цэнтр сельсавета**

**1716. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЧАНАВУ** Яўгену Іванавічу (гіст.). На будынку сярэдняй школы. Устаноўлена ў 1975 г.

Герой Савецкага Саюза Я. І. Качанаў нарадзіўся 20.8.1919 г. у в. Доўгавічы Мсціслаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Працаваў у сельскай гаспадарцы, шахцёрам. З 1939 г. у Савецкай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну на Керчанскім участку Крымскага фронту, на Цэнтральным і 1-м Украінскім франтах. Сяржант 2-й стралковай роты 416-га стралковага палка 112-й стралковай дывізіі Я. І. Качанаў вызначыўся пры фарсіраванні р. Одэр. 27.1.1945 г. на чале аддзялення адзін з першых пераправіўся на левы бераг ракі. Утрымліваючы плацдарм, байцы знішчылі каля 100 гітлераўцаў. Цяжка паранены, Я. І. Качанаў не пакінуў поля бою, у рашаючы момант падняў байцоў у атаку. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 10.4. 1945 г.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**1717. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Ударнік». На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Дубейкава, Мушынскі сельсавет**

**1718. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У цэнтры вёскі, каля калгаснай фермы і на прысядзібных участках. 21 насып вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў у 1889 г. і даследаваў у 1890 г. Е. Р. Раманаў, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Е. Р. Раманаў раскапаў 3 насыпы, у якіх былі знойдзены шкляныя пазалочаныя пацеркі, бразготка, шкляное кольца, жалезны нож. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак Е. Р. Раманава захоўваюцца ў Гісторыка-этнаграфічным музеі Літоўскай ССР.




**1717.** *Помнік землякам.*

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893.
*М. А. Ткачоў.*

**в. Забалацце, цэнтр сельсавета**

**1719. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 216 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Залачэва, Мушынскі сельсавет**

**1720. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, на высокім левым беразе р. Белая Натапа, за калгасным садам і полем. Ад плато аддзелена ровам шырынёй 18—20 м. Пляцоўка амаль трохвугольнай формы, памерам 60×60 м, з боку по-




**1720.** *Гарадзішча. План.*



**1725.** *Помнік землякам.*

ля ўмацавана валам вышынёй 3,5—4,5 м. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 0,3 м выяўлены толькі на паўночнай ускраіне, кераміка не знойдзена. *М. А. Ткачоў.*

**в. Іоны, Падсолтаўскі сельсавет**

**1721. МАГІЛА АЎДЗЕЕВА** Сцяпана Кандратавіча (гіст.). На могілках. Воін 36-й стралковай дывізіі С. К. Аўдзееў загінуў 16.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Казлоўка, Лютнянскі сельсавет**

**1722. МАГІЛА ГАНЧАРОВА** Якава Ігнацьевіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза Я. І. Ганчароў нарадзіўся 23.3.1914 г. у в. Заленкі (цяпер Казлоўка) Мсціслаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У 1937 г. скончыў школу малодшых авіяспецыялістаў. У 1929—31 гг. працаваў старшынёй калгаса «Чырвоны партызан». З 1931 г. у Чырвонай Арміі. У 1931—36 гг. служыў у БВА, з 1936 г.— у Забайкальскай ваеннай акрузе. Удзельнік баёў на р. Халхін-Гол у 1939 г. У Вялікую Айчынную вайну паветраны стралок, радыст, з чэрвеня 1941 г. на Заходнім, Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, Данскім, Цэнтральным, Беларускім, 1-м Беларускім франтах. Зрабіў 221 баявы вылет. Удзельнічаў у 95 паветраных баях, збіў 3 самалёты праціўніка, 4 падбіў, 2 самалёты знішчыў на аэрадроме. Удзельнік вызвалення Харкава, Кіева, Гомеля, Бабруйска, Мінска, Брэста, баёў на тэрыторыі Польшчы, Германіі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.5.1946 г. Да 1954 г. служыў у Савецкай Арміі. Потым жыў і працаваў у Мсціславе. Памёр 26.3.1982 г.

У 1983 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Герои Советского Союза — могилевчане.— Мн., 1965. *М. Б. Батвіннік.*




**1726.** *Гарадзішча. План.*

**в. Каменка, Раздзельскі сельсавет**

**1723. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў. Сярод іх — воіны 70-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў канцы 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Кандратаўск, Лютнянскі сельсавет**

**1724. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Віхра. 13 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 8—10 м, маюць добрую захаванасць. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Капачы, цэнтр сельсавета**

**1725. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 271 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. На пастаменце дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Каробчына, Чырванагорскі сельсавет**

**1726. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі, на высокім правым беразе р. Віхра. Густа парасло ліставым лесам. Пляцоўка памерам 46×17 м мае выцягнутую форму, нахіл з поўдня на поўнач. Па краі ўмацавана валам вышынёй з паўднёвага боку больш за 7 м, з астатніх бакоў каля 1,5 м. Паўночны, усходні і заходні краі гарадзішча вельмі стромкія, вышынёй больш за 12,5 м, абмежаваны балоцістай нізінай, дзе цякуць 2 ручаі. Вядома з 1873 г., даследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Выяўлены культурны пласт у цэнтры пляцоўкі каля 1,2 м, насычаны керамікай, касцямі жывёл, вуголлем і камянямі. Пры шурфоўцы знойдзена мілаградская і днепра-дзвінская кераміка, грузік дзякоўскага тыпу. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *М. А. Ткачоў.*

**1727. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 152 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Крутая, Раздзельскі сельсавет**

**1728. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў-разведчыкаў 344-й стралковай дывізіі, якія загінулі 29.9. 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1729. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў. Сярод іх — воіны 344-й стралковай дывізіі і 196-й танкавай брыгады, якія загінулі ў канцы 1943 г.— пачатку 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Куркаўшчына, Мазалаўскі сельсавет**

**1730. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі. Пляцоўка курганападобнай формы, выцягнутая ў плане, памерам 35×12 м, моцна пашкоджана ярамі і траншэямі. Вал і роў не выяўлены. Адкрыў у 1926 г. С. А. Дубінскі, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт прасочаны ў траншэях. Знойдзены вуголле, абгарэлае дрэва, фрагменты керамікі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1730.** *Гарадзішча. План.*



1731. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Дубінскі С. А. Доследы культур жалезнага перыяду па Віцебшчыне, Магілёўшчыне і Міншчыне.— Запіскі аддзела гуманітарных навук, 1928, кн. 5. Працы кафедры археалогіі, т. 1. *М. А. Ткачоў.*

**в. Курманава, Раздзельскі сельсавет**

**1731. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя Леніна. На ўшанаванне памяці 220 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з рэльефнай выявай эпізоду бою.

**1732. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам праўлення калгаса імя У. І. Леніна. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1970 г.

**в. Лар'янава, Сялецкі сельсавет**

**1733. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.




1735. *Гарадзішча. План.*

**в. Лыкінка, Забалацкі сельсавет**

**1734. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. За 150 м ад аўтамабільнай дарогі Мсціслаў — Магілёў. Пахаваны 7 воінаў. Сярод іх — воіны 32-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лютня, цэнтр сельсавета**

**1735. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на мысе левага берага р. Гаранка. Узвышаецца над балоцістай поймай ракі на 12—13 м. Пляцоўка памерам 34×23 м умацавана з боку поля (паўночна-заходняга) валам вышынёй 5 м. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт выражаны слаба.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *М. А. Ткачоў.*

**1736. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 328 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна. На пастаменце дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Мазалава, цэнтр сельсавета**

**1737. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1737а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Тарэлка. За 0,8 км на поўдзень ад вёскі, на высокім правым беразе р. Белая Натапа. Пляцоўка авальная, памерам 31×26 м, умацавана валамі: кальцавым (вышыня 1,7 м) па краі і дугападобным з поўдня, усходу і захаду і 2 невялікімі з захаду і ўсходу (вышыня 0,6—0,8 м). Схілы валоў і абарончы роў густа параслі хмызняком. Адкрыў у 1960-я гады Л. В. Аляксееў, абследавалі ў 1967 г. Г. В. Штыхаў, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Шурфоўкай выяўлены культурны пласт 0,45—0,50 м. У ім знойдзены вуголле, ляпная і ганчарная кераміка. Датуецца 7 ст. да н. э.— 2 ст. н. э. (мілаградская і зарубінецкая культуры) і 12—13 стагоддзямі (эпоха Кіеўскай Русі).

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1737б.** Селішча. З паўднёвага боку гарадзішча. Плошча больш за 1 га. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. А. Ткачоў.*

**1738. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 153 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і 6 стэл з імёнамі загінуўшых.



1736. *Помнік землякам.*

**1739. ЦАРКВА** (архіт.). На заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў пачатку 19 ст. з цэглы пры старажытным праваслаўным манастыры.

Крыжова-купальны трохнефавы храм, мае паўкруглую апсіду і трох'ярусную вежу-званіцу на галоўным фасадзе. Над сяродкрыжжам узвышаецца круглы светлавы барабан з купалам. Дах і завяршэнне званіцы не захаваліся. Фасады аздоблены пілястрамі і прафіляванымі карнізамі. Аконныя праёмы з лучковымі завяршэннямі размешчаны ў 2 ярусы: вялікія ў ніжнім, маленькія ў верхнім. Унутраная прастора будынка трохсветлавая. Над уваходам — хоры.




1737. *Гарадзішча, селішча. План.*



1738. *Помнік землякам.*

Царква — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму.

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912. *Т. В. Габрусь.*

**в. Малая Зяціца, Чырванагорскі сельсавет**

**1740. МАГІЛА ПАЛІЯ** Івана Іванавіча (гіст.). На могілках, каля дарогі Мсціслаў — Крычаў. Савецкі лётчык малодшы лейтэнант І. І. Палій загінуў у 1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мілейкава, Падсолтаўскі сельсавет**

**1741. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». Пахаваны 4 воіны, якія 20.7.1941 г. загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. устаноўлена надмагілле.

**1742. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Ленінскі шлях». На ўшанаванне памяці 74 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены помнік — скульптура жанчыны ў жалобе і дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Міцькаўшчына, Чырванагорскі сельсавет**

**1743. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,7—0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Малатоўня, на мысе высокага берага. Пляцоўка авальная, памерам 50×28 м, нахіл у бок рэчкі, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй з усходняга боку 4,5 м, з астатніх 1 м (вал значна аплыў). Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1960-я гады Л. В. Аляксееў, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Шурфоўкай выяўлены культурны пласт 0,3—0,4 м. У ім знойдзены ляпная кераміка, косці жывёл, перапаленыя камяні. Адносіцца да ранняга жалезнага веку.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах — Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *М. А. Ткачоў.*




1743. *Гарадзішча. План.*

**в. Мішні, Капачоўскі сельсавет**

**1744. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 80 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла.

**в. Мушына, цэнтр сельсавета**

**1744. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 248 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Новыя Віхраны, Пячкоўскі сельсавет**

**1746. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, за р. Віхра, на яе нізкім правым беразе. 18 насыпаў выцягнуты ўздоўж берага і падзелены затокай на 2 групы (у адной 11, у другой 6 курганоў). Вышыня 0,8 м — 2 м, дыяметр 14—16 м. Яшчэ адзін курган знаходзіцца за лугам на краі лесу. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. А. Ткачоў.*

**в. Пабеда, Ходасаўскі сельсавет**

**1747. МАГІЛА ЖУКА** Аляксандра Іванавіча (гіст.). На Тураўскіх могілках. Савецкі лётчык А. І. Жук загінуў 13.7.1941 г. у паветраным баі з трыма фашысцкімі самалётамі. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Падлужжа, цэнтр Чырванагорскага сельсавета**

**1748. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1969 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Падсолтава, цэнтр сельсавета**

**1749. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, сярод іх — воіны 36-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў канцы 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1750. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Савецкая Беларусь». На ўшанаванне памяці 170 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пастарнакі, Пячкоўскі сельсавет**

**1751. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км ад вёскі, каля дарогі Мсціслаў — Хіславічы. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пустынкі, Пячкоўскі сельсавет**

**1752. УСПЕНСКІ МАНАСТЫР** (архіт.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. Заснаваны ў 1380 г. У пачатку 17 ст., у канцы 18—19 ст. перабудаваны. Комплекс уключае Успенскі сабор, манастырскі корпус з царквой, званіцу, школу, капліцу, 2 гаспадарчыя пабудовы і 3 жылыя дамы. Займае значную тэрыторыю, абнесеную з поўдня і захаду цаглянай сцяной, з поўначы — пасадкамі дуба, ліпы, асіны, з усходу — ровам, за якім размешчана штучная сажалка. Ад брамы да манастырскага корпуса і сабора вядзе пад'язная ліпавая алея.




1746. *Курганны могільнік. План.*

Успенскі сабор (захаваўся часткова). Пабудаваны ў першым дзесяцігоддзі 19 ст. з цэглы. Уяўляе сабой трохнефавую базіліку з прамавугольнай апсідай. У сярэдзіне 19 ст. над сяродкрыжжам узведзены купал на светлавым барабане (не захаваўся). Галоўны фасад храма мае трохчасткавую будову. Цэнтральная частка крапавана плоскімі пілястрамі з ianічнымі капітэлямі, завершана трохвугольным франтонам. Фасад быў фланкіраваны вежамі (не захаваліся). Цэнтральны і бакавыя ўваходы завершаны трохвугольнымі франтончыкамі. Багатая пластыка пабудовы абумоўлена крапоўкай фасадаў і вуглоў апсіды пілястрамі, лучковымі нішамі, якія аздоблены ліштвамі з замковым каменем. Унутраная прастора сабора падзелена на 3 нефы. Калоны падоўжна злучаны падпружнымі аркамі. Алтарная частка вылучана 4 трохчвэртнымі калонамі на масіўных пастаментах. У заходняй частцы над нартэксам размешчаны хоры.

У архітэктуры сабора выкарыстаны элементы барока.



**1752.** *Успенскі сабор. План.*


**1752.** *Успенскі манастыр. Будынак школы.*



**1752.** *Успенскі манастыр. План 1-га паверха будынка школы.*


**1752.** *Успенскі манастыр. Жылы дом.*



**1752.** *Манастырскі корпус. План.*



**1752.** *Званіца. План 1-га яруса.*



**1752.** *Капліца. План.*

Манастырскі корпус. Пабудаваны на рубяжы 18—19 стагоддзяў з цэглы. Двухпавярховы Г-падобны ў плане корпус, складаецца з 2 злучаных паміж сабой аб'ёмаў. Адзін з іх мае сіметрычную аб'ёмна-прасторавую кампазіцыю, цэнтрам якой з'яўляецца аднанефавая крыжова-купальная царква з высокай паўкруглай апсідай. Галоўны фасад царквы вылучаны глыбокім рызалітам, завершаным трохвугольным франтонам. У рызаліце размешчаны партал цэнтральнага ўвахода, аформлены калонамі і высокім мураваным ганкам. Над прытворам узвышалася вежа, над сяродкрыжжам — масіўны барабан з купалам (не захаваліся). Бакавыя крылы сіметрычна прымыкаюць да аб'ёму царквы, асветлены прамавугольнымі вокнамі на 1-м і лучковымі на 2-м паверхах, маюць калідорную сістэму планіроўкі з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў.

У архітэктуры корпуса выкарыстаны элементы класіцызму.

Званіца. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Размешчана на адной восі з саборам, перад яго цэнтральным уваходам. Уяўляе сабой высокую пяціярусную пабудову, завершаную шпілем (не захаваўся). Першы, самы масіўны ярус, прамавугольны ў плане, дэкарыраваны з усходняга і заходняга фасадаў рызалітамі. Другі і наступныя ярусы — васьміганныя. У пабудове выкарыстаны элементы псеўдарускага стылю.

Школа. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак з вальмавым дахам. Да яго з тарцоў далучаны 2 аб'ёмы, пабудаваныя ў пачатку 20 ст. Фасады крапаваны па вуглах руставанымі лапаткамі. На 1-м паверсе калідорная сістэма планіроўкі з двухбаковым размяшчэннем памяшканняў, на 2-м — анфіладная. На 1-м паверсе калідор перакрыты цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. Аналагічныя скляпенні ў клас-



**1752.** *Стайня. План.*



1755. *Помнік ахвярам фашызму.*

ных пакоях (захаваліся не поўнасцю), шэраг памяшканняў перакрыты плоскай столлю.

Капліца. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Размешчана ва ўсходняй частцы комплексу, непадалёку ад штучнай сажалкі. Уяўляе сабой маленькі аднанефавы храм сіметрычнай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі з паўкруглай апсідай. Фасады храма крапаваны прафіляванымі лапаткамі.

Жылыя дамы. Будаваліся адначасова з гаспадарчымі пабудовамі. 3 дамы маюць прамавугольныя рознавялікія планы, будова фасадаў сіметрычная. У дэкоры выкарыстаны лапаткі (па вуглах) і аркатурныя паясы.

Стайня. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. Аднапавярховы цагляны П-падобны ў плане будынак. Паверхня сцен крапавана пілястрамі. У дэкоры выкарыстаны аркатурны пояс, які праходзіць пад карнізам.

Свіран. Пабудаваны ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Прамавугольны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Па перыметры пад карнізам праходзіць аркатурны пояс.

Будынкі манастыра вызначаюцца стылявой разнастайнасцю (барока, класіцызм і псеўдарускі стыль).

*Літ.:* Краснянский В. Г. Город Мстиславль (Могилевской губернии).— Вильна, 1912. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Пячкавічы, Ходасаўскі сельсавет**

**1753. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 101 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Пячкоўка, цэнтр сельсавета**

**1754. КУРГАН** (археал.). У цэнтры вёскі, на краі старога пясчанага кар'ера. Вышыня 1,6 м, дыяметр 8 м. Адкрыў у 1892 г. С. Ю. Чалоўскі (раней тут быў курганны могільнік). Абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

**1755. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі, насупраць будынка выканкома сельсавета. У 1941—43 гг. нямецка-фашысцкія захопнікі расстралялі каля вёскі больш за 500 мірных жыхароў. На ўшанаванне іх памяці ў 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: стары і дзяўчына, абеліск.

**в. Разанцы, Пячкоўскі сельсавет**

**1756. СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1756а.** Селішча. На левым беразе р. Віхра, пры ўездзе ў вёску з в. Новыя Віхраны. Папсавана дарогай, якая тут раздвойваецца, і невялікімі ярамі. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт 1,5 м. У абрыве вакол дарогі, што вядзе ў вёску, выяўлены сляды пажараў, абпаленае дрэва, рэшткі печак-каменак, попел, косці жывёл. Пры зачыстцы сабрана ганчарная кераміка 12—17 стагоддзяў, фрагменты гаршкападобнай кафлі 15 ст. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1756б.** Курганны могільнік. На паўднёва-ўсходнім краі калгаснага сада, на левым беразе р. Віхра. 5 насыпаў вышынёй 0,8—2 м, дыяметрам 5—9 м. Два курганы густа параслі кустамі. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся. *М. А. Ткачоў.*

**в. Ракітанка, Забалацкі сельсавет**

**1757. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 2 воіны 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Ракшына, цэнтр сельсавета**

**1758. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў. Сярод іх — воіны 277-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў верасні 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1756б. *Курганны могільнік.*



1757. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1759. МАГІЛА СТУКАЛАВА** Яўгена Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі Я. М. Стукалаў загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рожава, Мазалаўскі сельсавет**

**1760. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 59 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Сапрынавічы, Пячкоўскі сельсавет**

**1761. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 140 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Селішча, Раздзельскі сельсавет**

**1762. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў. Сярод іх — воіны 344-й стралковай дывізіі, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Слаўнае, Раздзельскі сельсавет**

**1763. ЦАРКВА ІЛЫ ПРАРОКА** (архіт.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 1-й палове 19 ст.

з дрэва. Трохзрубны храм складаецца з асноўнага аб'ёму, бабінца і пяціграннай апсіды. Асноўны аб'ём завершаны купалам на васьміграннным барабане. Над бабінцам узвышаецца двух'ярусная чацверыковая званіца, завершаная купалам. Галоўны ўваход вылучаны невялікім чатырохкалонным порцікам. У дэкаратыўнай аздобе выкарыстана гарызантальная і вертыкальная шалёўка. Унутраная прастора асноўнага аб'ёму перакрыта купальнай канструкцыяй — светлавы васьмярык на чацверыку, які падтрымліваецца 6 калонамі. На гранях чацверыка і васьмерыка арнаментальная размалёўка.

Царква — помнік архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Старое Сяло, Лютнянскі сельсавет**

**1764. РАДЗІМА ПАЎЛОВІЧА** Івана Міхайлавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. М. Паўловіч нарадзіўся 24.2.1896 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1915 г. У 1920 г. скончыў камандныя курсы, у 1927 г.— Вышэйшую пагранічную школу НКУС, у 1938 г.— школу ўдасканалення каманднага саставу НКУС. У арміі з 1915 г. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі быў выбраны членам палкавога камітэта. У 1918 г. сакратар крымінальна-следчай камісіі ў г. Мсціслаў. З красавіка 1919 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у баях супраць войск буржуазнай Польшчы, у разгроме банд Булак-Балаховіча, Антонава, Мамантава. Пасля Грамадзянскай вайны памочнік начальніка пагранічнай заставы па палітчастцы. У Айчынную вайну на Далёкім Усходзе. З лютага 1943 г. на Цэнтральным, Беларускім і 1-м Беларускім франтах, камандзір палка, намеснік камандзіра дывізіі. Палкоўнік І. М. Паўловіч вызначыўся пры вызваленні Беларусі. 24.6.1944 г. батальён на чале з ім прарваў варожую абарону на правым беразе р. Друць, каля г. Рагачоў. 29.6.1944 г. арганізаваў фарсіраванне перадавымі падраздзяленнямі р. Бярэзіна каля г. Бабруйск. Удзельнічаў у вызваленні горада. 19.7.1944 г. на паўночны захад ад г. Брэста вайсковая часць пад яго камандаваннем адбіла танкавую атаку праціўніка. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 6.4.1945 г. Пахаваны на тэрыторыі Польшчы. Яго імем названы вуліцы ў Мсціславе і Хабараўску.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*




**1763.** *Царква Ільі Прарока. План.*




**1765.** *Вадзяны млын. План.*




**1767.** *Помнік на магіле Ю. А. Дубелара.*

**в. Сялец, цэнтр сельсавета**

**1765. ВАДЗЯНЫ МЛЫН** (архіт.). У паўднёва-заходняй частцы вёскі, на р. Чорная Натапа. Пабудаваны ў сярэдзіне 20 ст. з дрэва.

Будынак складаецца з трох рознавялікіх зрубаў на цагляных слупах. Цэнтральны зруб трохпавярховы, накрыты двухсхільным дахам. Да яго асіметрычна прымыкаюць бакавыя. У адным з іх — склад гатовай прадукцыі, у другім — масіўны жолаб. Уваходны праём на паўднёва-заходнім фасадзе вылучаны двухсхільнай навіссю на кансолях. Вокны прамавугольныя ў ліштвах. Вада падаецца на лопасці, размешчаныя ў цэнтральным зрубе. Адсюль пры дапамозе вала рух перадаецца на жорны.

Млын — прыклад гаспадарчай пабудовы. *А. Ю. Пятросава.*

**1766. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,8 км на захад ад вадзянога млына, сярод лугу на правым беразе р. Чорная Натапа. 2 насыпы вышынёй 1,3 і 1,7 м, дыяметрам 16 і 18 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1767. МАГІЛА ДУБЕЛАРА** Юрыя Андрэевіча (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, каля дарогі Мсціслаў — Крычаў.

Савецкі воін-разведчык лейтэнант Ю. А. Дубелар нарадзіўся 2.2.1923 г. у г. Цірасполь Малдаўскай ССР. У 1941 г. скончыў ваеннае вучылішча. Удзельнік абароны Масквы. 28.9.1943 г. пры выкананні баявога задання быў схоплены гітлераўцамі і закатаваны. Імя Ю. А. Дубелара прысвоена піянерскай дружыне Сялецкай сярэдняй школы.

У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск. У 1977 г. землякі воіна — рабочыя фабрыкі «40 год ВЛКСМ» г. Цірасполь — устанавілі на магіле дошку з надпісам-прысвячэннем. *М. Б. Батвіннік.*

**1768. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 331 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін, піянер і піянерка, а таксама стэла з імёнамі загінуўшых.

**1769. ЦАРКВА** (архіт.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі.

Пабудавана ў 2-й палове 18 ст. з цэглы. Аднанефавы храм з паўцыркульнай алтарнай апсідай і высокай пяціяруснай вежай-званіцай. Неф і апсіда накрыты адным дахам. Квадратная ў плане вежа завершана невялікім шатром. Усе ярусы (чацверыкі) падзелены развітымі карнізамі, на вуглах аздоблены пілястрамі. Па перыметры сцен праходзіць прафіляваны карніз. У дэкоры выкарыстаны руставаныя лапаткі, падвойныя пілястры і калоны. Уваходы ў храм праз тры паўцыркульныя парталы, размешчаныя з трох бакоў ніжняга яруса вежы. Аконныя праёмы з лучковымі, на вежы з паўцыркульнымі завяршэннямі. Унутраная прастора перакрыта цыліндрычным скляпеннем з распалубкамі на падпружных арках. На хоры, якія падтрымліваюцца 2 калонамі, вядзе вітая лесвіца ў тоўшчы сцяны.

Царква — помнік архітэктуры пераходнага перыяду ад барока да класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*

**в. Тышча, Доўгавіцкі сельсавет**

**1770. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, сярод іх — воіны 95-й




1768. *Помнік землякам.*

стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Усполле, Ходасаўскі сельсавет**

**1771. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1771а.** Г а р а д з і ш ч а. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым балоцістым беразе р. Чорная Натапа, на пагорку. Пляцоўка авальная, памерам 43×28 м, з агульным схілам з захаду на ўсход. Гарадзішча і яго схілы густа параслі бярэзнікам. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1960-я гады Л. В. Аляксееў, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Шурфоўкай высветлена, што культурны пласт у цэнтры пляцоўкі 1,2 м, насычаны вуголлем, касцямі жывёл, ляпной керамікай. Адносіцца да днепра-дзвінскай і зарубінецкай культур, датуецца 7 ст. да н. э.— 4 ст. н. э. Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

**1771б.** К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 1. На паўднёвы захад ад вёскі, у калгасным садзе. 3 насыпы вышынёй 1,5—2,5 м, дыяметрам 6—9 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1893 г. К. Р. Раманаў, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

**1771в.** К у р г а н н ы м о г і л ь н і к - 2. На паўднёвы ўсход ад вёскі, уздоўж дарогі на краі палетка. 2 курганы вышынёй 2 і 2,5 м, дыяметрам 8 і 9 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1978 г. М. А. Ткачоў. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893. *М. А. Ткачоў.*

**1772. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 73 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з рэльефнай выявай эпізоду бою.

**в. Ходасы, цэнтр сельсавета**

**1773. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля чыгуначнай станцыі. Пахаваны 167 воінаў, што загінулі ў 1941 г. і 1943 г. пры вызваленні в. Ходасы і навакольных вёсак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 160, 344, 369-й стралковых дывізій. У 1960 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта з імёнамі загінуўшых.



1773. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1774. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 50 м на поўдзень ад вёскі. Займае выступ высокага левага берага р. Белая Натапа. Пляцоўка авальная, памерам 45×22 м, выцягнута па лініі паўночны ўсход — паўднёвы захад. Умацавана валам вышынёй 1—3,5 м. З боку берагавога плато знаходзіцца роў шырынёй больш за 10 м, глыбінёй 2,5—3 м, з поўдня і захаду — забалочаная нізіна. З усходу па схіле праходзіць тэраса. Пляцоўка добра захавалася. Адкрыў у 1926 г. А. М. Ляўданскі, абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў. Куль-



1769. *Царква.*




1769. *Царква. План.*




1771. *Гарадзішча. Курганныя могільнікі. План.*




1774. *Гарадзішча. План.*




1779. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

турны пласт у шурфах 0,4—0,45 м. Знойдзены ляпная і ганчарная кераміка, косці жывёл, камяні. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі феадалізму.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Лявданский А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии.— Смоленск, 1926. *М. А. Ткачоў.*

**1775. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам сярэдняй школы. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1964 г.

**1776. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Перад будынкам дзіцячага сада, каля чыгуначнай станцыі. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1983 г.

**в. Чарнілава, Лютнянскі сельсавет**

**1777. КУРГАН** (археал.). За 2 км на захад ад вёскі, на правым беразе безыменнай рачулкі. Вышыня каля 1 м, дыяметр 8 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

**в. Чорная Сасна, Забалацкі сельсавет**

**1778. РАДЗІМА РУДКІНА** Піліпа Мікітавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза генерал-маёр танкавых войск (1943 г.) П. М. Рудкін нарадзіўся 15.11.1893 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1914 г. У 1937 г. скончыў Ваенную акадэмію механізацыі і матарызацыі РСЧА. У 1905—15 гг. працаваў на шахтах Данбаса, на рыбных промыслах на Далёкім Усходзе. У арміі з 1915 г. У Чырвонай гвардыі з 1917 г., з 1918 г. служыў у ВЧК, НКУС. Удзельнік Грамадзянскай вайны, баёў пад Дзвінскам, Псковам, супраць войск Юдзеніча, банд Булак-Балаховіча, ліквідацыі Кранштацкага мяцяжу 1921 г. Камандзір чырвонагвардзейскага атрада, палка, дывізіі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Карэльскім, Паўднёва-Заходнім, 3-м Беларускім франтах. Камандзір танкавай брыгады, корпуса, намеснік камандуючага бранятанкавымі і механізаванымі войскамі фронту. Удзельнік баёў пад Сталінградам, Харкавам, на Курска-Арлоўскай дузе, ва Усходняй Прусіі, штурму Кёнігсберга. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 31.3.1943 г. за мужнасць і адвагу, праяўленыя пад Валуйкамі, Канцеміраўкай, Харкавам. Да 1952 г. у Савецкай Арміі, на адказных пасадах у ваенных акругах. Памёр 12.10. 1954 г. у Маскве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Шамава, Раздзельскі сельсавет**

**1779. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвы ўсход ад вёскі, за 0,3 км ад будынка сярэдняй школы. Пахаваны 36 воінаў, якія загінулі ў канцы 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1780. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, за 0,2 км ад будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 437 мірных жыхароў, якіх 2.2.1942 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**1781. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 218 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла, на якой дошка з імёнамі загінуўшых.




1781. *Помнік землякам.*

**в. Шамаўшчына, Лютнянскі сельсавет**

**1782. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 147 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Шыркі, Капачоўскі сельсавет**

**1783. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1784. КУРГАН** (археал.). За 0,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Віскаўшчына, за р. Кашанка. Вышыня 1,5 м, дыяметр 10 м. Адкрыў і абследаваў у 1978 г. М. А. Ткачоў.

# СЛАЎГАРАДСКІ РАЁН






Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянні, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы воінскай славы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XVI. СЛАЎГАРАД

Горад, цэнтр раёна. Прыстань на правым беразе Сажа пры ўпадзенні ў яго р. Проня. За 68 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва, 58 км ад чыгуначнай станцыі Крычаў, на аўтамабільнай дарозе Бабруйск — Крычаў. Горад размешчаны ў межах Аршанска-Магілёўскай раўніны (вышыня да 190 м над узроўнем мора).

Старажытныя назвы Прупой, Прапошеск, да 23.5.1945 г. Прапойск. У пісьмовых крыніцах упершыню ўпамінаецца пад 1136 г. у складзе Смаленскага княства. З 14 ст. у Вялікім княстве Літоўскім як дзяржаўнае ўладанне. З 1560-х гадоў цэнтр староства Мсціслаўскага ваяводства. У 1601—02 гг. значна пацярпеў ад голаду і эпідэміі. Пасля 1-га падзелу Рэчы Паспалітай (1772 г.) у складзе Расіі, падараваны Кацярынай II князю А. М. Галіцыну. Заштатны горад, потым мястэчка, цэнтр воласці Быхаўскага павета. У 19 ст. тут працавалі палатняная мануфактура (заснавана ў 1806 г., 84 рабочыя ў 1809 г.), 2 канатныя фабрыкі, кафляны завод, прыстань. Паводле перапісу 1897 г. у Прапойску 1 тыс. жыхароў. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. Быў сфарміраваны атрад Чырвонай гвардыі. З 1919 г. у складзе Гомельскай губерні РСФСР. З 17.7.1924 г. цэнтр Прапойскага р-на БССР, з 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак. У Вялікую Айчынную вайну з 30.8. 1941 г. да 25.11.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі ў пасёлку і раёне 2 тыс. жыхароў. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (12.8—1.10.1943 г.) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943 г.). Выдавалася газета «За Советскую Родину» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. У раёне дзейнічаў 48-ы асобны Прапойскі партызанскі атрад (камандзір В. Л. Шырко). З 23.5.1945 г. горад. У 1959 г.— 6,6 тыс. жыхароў. У 1962—65 гг. у Быхаўскім р-не.

У Слаўгарадзе захавалася гістарычная планіроўка — прамавугольная сетка вуліц і цэнтр. Паводле генеральнага плана 1971 г. і праекта дэталёвай планіроўкі цэнтра 1973 г. (Мінскі філіял Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва) у горадзе сфарміраваны 2 прамысловыя зоны і 4 жылыя раёны. Галоўная вуліца — Ленінская — вядзе да парку, закладзенага ў 2-й палове 18 ст. На Цэнтральнай плошчы склаўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр, размешчаны будынкі райкома КПБ, райвыканкома, гасцініцы, магазінаў. Капітальныя 2- і 5-павярховыя жылыя дамы знаходзяцца ў цэнтральнай частцы. Пераважае аднапавярховая індывідуальная забудова сядзібнага тыпу. Працуюць заводы жалезабетонных вырабаў і агароднінасушыльны, масласырзавод, хлебазавод, камбінаты прамысловы і бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У горадзе прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 4 сярэднія (у т. л. школа-інтэрнат і вячэрняя), музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, кінатэатр, бальніца. Выдаецца раённая газета «Ленінскае слова». Помнікі на брацкіх магілах і брацкіх могілках савецкіх воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. Захаваліся помнікі архітэктуры 2-й паловы 19 —



XVI. *Цэнтральная плошча.*


XVI. *Дом культуры.*



XVI. *Жылыя дамы на вуліцы Ленінскай.*

пачатку 20 ст. — паштовая станцыя, жылы дом, царква Раства багародзіцы, археалагічны помнік — гарадзішча старажытнага Слаўгарада (Замкавая Гара).

Зона адпачынку — берагі рэк Сож і Проня.

*Літ.:* Могилевская область. Белорусская ССР.— 2 изд.— Мн., 1976; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*А. І. Валахановіч, А. Ю. Пятросава.*

**1785. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, у парку. Пахаваны 874 воіны, што загінулі ў 1941 і 1943 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 362-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У ходзе Гомельска-Рэчыцкай наступальнай аперацыі войск фронту часці дывізіі пад камандаваннем палкоўніка М. Ф. Пухоўскага 22.11.1943 г. прарвалі абарону праціўніка на р. Сож і 25.11.1943 г. пры ўзаемадзеянні з 110-й стралковай дывізіяй 50-й арміі Беларускага фронту вызвалілі г. Слаўгарад (Прапойск).



1785. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік: двухфігурная скульптурная кампазіцыя — воін і партызанка.

*Літ.:* Горбатов А., Ивашечкин М. Наступление 3-й армии севернее Гомеля.— Военно-исторический журнал, 1962, № 8. *В. М. Удальцоў.*

**1786. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне горада, каля аўтамабільнай дарогі Слаўгарад — Рагачоў. Пахаваны 49 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1787. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На тэрыторыі школы-інтэрната. Пахаваны 8 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. у баях за вызваленне горада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1788. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 134 воіны, якія памерлі ў 1943—44 гг. ад ран у шпіталях. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1789. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 8 км на паўночны ўсход ад горада, каля аўтамабільнай дарогі Слаўгарад — Магілёў. Пахаваны 753 воіны, што загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і ў 1943 г. Сярод пахаваных — воіны 110-й стралковай дывізіі 50-й арміі Беларускага фронту, якія 24.11.1943 г. загінулі пры вызваленні вёсак Завад-Віравая і Новая Слабада ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на могілках пастаўлена скульптура воіна.

**1790. БУДЫНАК ЦАРКОЎНАПРЫХОДСКАЙ ШКОЛЫ** (архіт.). На вул. Ленінскай, 2. Пабудаваны ў канцы 18 ст. з цэглы. Складаў адзіны ансамбль з царквой Раства багародзіцы.

Аднапавярховае Г-падобнае ў плане збудаванне са скругленым вуглом. Накрыта пакатым двухсхільным дахам. У канцы 1950-х гадоў з паўднёвага боку зроблена прыбудова, унутры — дадатковыя перагародкі, дзвярныя праёмы. Фасады будынка раскрапаваны неглыбокімі паўцыркульнымі нішамі з прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Вуглавая частка аздоблена рустам і вылучана неглыбокім рызалітам з акном у цэнтры.



1788. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Дамінуючая роля ва ўнутранай планіроўцы будынка належыць вуглавому памяшканню з закругленай сцяной. Астатнія памяшканні размешчаны без пэўнай сістэмы.

Будынак школы — помнік архітэктуры класіцызму. *А. Ю. Пятросава.*



1789. *Помнік на брацкіх могілках савецкіх воінаў.*

**1791. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Замкавая Гара. Каля вусця р. Проня, на правым беразе р. Сож, у гарадскім парку.

Пляцоўка памерам 40×95 м выцягнута з поўначы на поўдзень, вышынёй да 30 м, з заходняга боку ўмацавана ровам. У 1967 г. праведзены археалагічныя раскопкі пад кіраўніцтвам Г. В. Штыхава. Перамяшаны культурны пласт месцамі дасягае 1,8 м. Знойдзены ляпны посуд мілаградскай і штрыхаванай керамікі культур, а таксама 6—8 стагоддзяў. Да эпохі Кіеўскай Русі належыць ганчарны посуд 11—13 стагоддзяў, шкляныя бранзалеты і пацеркі, шыферныя праслiцы. З'яўляецца гарадзішчам старажытнага Слаўгарада.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Очерки по археологии Белоруссии. Ч. 2.— Мн., 1972. *Г. В. Штыхаў.*




**1790.** *Будынак былой царкоўнапрыходскай школы. План.*




**1791.** *Гарадзішча. План.*

**1792. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Ленінская, 34. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва.

Аднапавярховы прамавугольны ў плане будынак з двухсхільным вальмавым дахам. Заходні і паўночны фасады прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі, аздобленымі разнымі драўлянымі ліштвамі. Па перыметры будынка праходзіць двух'ярусны разны карніз, у арнаменце якога выкарыстаны раслінны і геаметрычны малюнкі. 2 несіметрычна размешчаныя ўваходы (паўднёвы і усходні) вылучаны разнымі навісямі на драўляных слупах. Унутры памяшканні размешчаны абапал Т-падобнага калідора.

Помнік гарадской жыллёвай архітэктуры. *А. Ю. Пятросава.*

**1793. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 5 км на паўночны ўсход ад горада, на левым беразе р. Проня, абапал дарогі, у лесе, каля усходняга берага воз. Узмутнае. 6 насыпаў вышынёй 0,6—1,4 м, дыяметрам 2,5—5 м. Адкрыў і даследаваў у 1892 г. С. Ю. Чалоўскі, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў ямах без інвентару. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі, датуецца 12—13 стагоддзямі.

**1794. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). Вул. Ленінская, 49 а. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы.

Аднапавярховы аб'ём Т-падобны ў плане, накрыты вальмавым дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны неглыбокім рызалітам, завершаным невялікім атыкам. Дзвярны праём стральчатага абрысу. Над уваходам казырок на 2 ажурных кансолях (чыгуннае ліццё). Вуглы будынка крапаваны лапаткамі з неглыбокімі стральчатымі нішамі. Высокія аконныя праёмы стральчатыя. Унутраная прастора будынка падзелена на 4 роўныя памяшканні, сіметрычна размешчаныя адносна шырокага калідора.

Станцыя пабудавана паводле тыпавога праекта, у дэкоры выкарыстаны элементы неаготыкі. *А. Ю. Пятросава.*

**1795. РАДЗІМА ГРЫГАРОВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.). Беларускі археограф, збіральнік старажытнасцей, гісторык, мовазнавец І. І. Грыгаровіч нарадзіўся 26.8.1792 г. Пасля сканчэння Магілёўскай духоўнай семінарыі працаваў у 1811—15 гг. выкладчыкам грэчаскай і лацінскай моў у Магілёўскім духоўным вучылішчы. У 1819 г. скончыў Пецярбургскую духоўную акадэмію. З 1820 г. свяшчэннік і рэктар (загадчык) прыходскага вучылішча ў Гомелі, з 1829 г. рэктар духоўных вучылішчаў у Віцебску. З 1831 г. жыў у Санкт-Пецярбургу, займаўся навуковай работай. З 1837 г. член Археаграфічнай камісіі — навуковай установы, якая збірала і выдавала дакументы і пісьмовыя помнікі айчыннай гісторыі. З 1837 г. галоўны рэдактар выданняў «Акты гістарычныя» (т. 1—5, СПб., 1841—43 гг.) і «Акты археаграфічнай экспедыцыі» (т. 1—4, СПб., 1836—38 гг.). Сабраў і выдаў (на сродкі графа М. П. Румянцава — збіральніка калекцый кніг, рукапісаў, нумізматычнай) «Беларускі архіў старажытных грамат» (частка 1, 1824 г.) — першае археаграфіч-



**1792.** *Жылы дом.*




**1792.** *Жылы дом. План.*



**1792.** *Жылы дом. Фрагмент разнога дэкору фасадаў.*

нае выданне, дзе змешчаны 57 актаў выключна па гісторыі Беларусі 15—18 стагоддзяў, у т. л. значная колькасць па гісторыі Магілёўшчыны. Частка 2 «Беларускага архіва старажытных грамат», падрыхтаваная І. І. Грыгаровічам да друку ў канцы 1825 г. у Гомелі, доўгі час лічылася згубленай. Выяўлена ў 1950-я гады ў так званым Юдзінскім зборы ў Краснаярску. Уключае 66 дакументаў за перыяд з 1252 г. да 1707 г. Цяпер захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР. Цікавіўся беларускай мовай і склаў «Слоўнік заходне-рускай гаворкі», які не быў выдадзены (набрана карэктура і, верагодна, надрукавана толькі частка працы па літары А, Б, В). І. І. Грыгаровіч быў складальнікам і рэдактарам «Актаў, якія адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі...» (т. 1—5. СПб., 1846—53 гг.), дзе сабраны дакументы за перыяд з 1340 г. да 1632 г., якія змяшчаюць матэрыялы па палітычнай гісторыі Беларусі, Украіны, Літвы. 5-ы том (дакументы за 1633—99 гг.) выйшаў пасля смерці І. І. Грыгаровіча. Памёр 1.11. 1852 г. у Пецярбургу.

*Літ.:* Суднік М. Збіральнік беларускай старажытнасці.— Беларусь. 1945, № 11—12; Иконников В. С. Опыт русской историографии. Т. 1—2.— Киев, 1891—1908; Улащик Н. Н. Очерки по археографии и источниковедению истории Белоруссии феодального периода.— М., 1973. *В. С. Паваліхіна.*

**1796. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1796а.** Стаянка. За 1 км на ўсход ад горада, у пойме левага берага р. Проня, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах трапляюцца крамянёвыя адшчэпы і неалітычная кераміка. Раскопкі не праводзіліся.

**1796б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні і ў раздувах знойдзена ганчарная кераміка 1-й паловы 2-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Рыер Я. Р. Аб некаторых старажытнарускіх помніках Магілёўшчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4; его ж. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье.— Советская археология, 1976, № 2. *Я. Р. Рыер.*

**1797. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1797а.** Стаянка. За 1,3 км на ўсход ад горада, у пойме правага берага р. Сож, пры ўпадзенні ў яе р. Проня, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1797б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні і ў раздувах сабрана ганчарная кераміка 1-й паловы 2-га тысячагоддзя н. э. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*

**1798. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1798а.** Стаянка. За 3,5 км на паўночны ўсход ад горада, у пойме левага берага р. Проня, на дзюне. Памер 60×20 м. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1798б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабрана ганчарная кераміка 1-й паловы 2-га тысячагоддзя н. э. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання селішча і стаянкі захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Магілёўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*

**1799. СТАЯНКІ** (археал.).

**1799а.** Стаянка-1. За 1 км на ўсход ад горада, у пойме левага берага р. Проня, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах знойдзены крамянёвыя прылады працы і неалітычная кераміка.

**1799б.** Стаянка-2. За 1,1 км на ўсход ад горада, у пойме левага берага р. Проня, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах знойдзены крамянёвыя прылады працы і неалітычная кераміка.

**1799в.** Стаянка-3. За 1,2 км на ўсход ад горада, у пойме правага берага р. Сож, пры ўпадзенні ў яе р. Проня, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах сабраны крамянёвыя прылады працы і рэшткі неалітычнага посуду. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*



1794. *Паштовая станцыя. Галоўны фасад.*




1794. *Паштовая станцыя. План.*



1794. *Паштовая станцыя. Фрагмент дэкору галоўнага фасада.*



1793. *Курганны могільнік. План.*

**1800. ЦАРКВА РАСТВА БАГАРОДЗІЦЫ** (архіт.). У цэнтры горада. Пабудавана ў 1791—93 гг. з цэглы. Побач з царквой двух'ярусная званіца завершаная невялікай вежачкай.

Цэнтрычны крыжова-купальны храм. Асноўны аб'ём у выглядзе роўнаканцовага крыжа, накрыты двухсхільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі на тарцах. Дамінанта аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі — сферычны гранёны купал на васьміграннымсветлавым барабане, грані якога прарэзаны вялікімі аконнымі праёмамі-люнетамі. Паміж канцамі крыжа нізкія аб'ёмы (у плане ¼ круга), перакрытыя сегментамі купала. Фасады маюць сіметрычную кампазіцыйную пабудову, вырашаны аднолькава, завершаны развітымі антаблементамі. Уваходны партал вылучаны 2 паўкруглымі калонамі тасканскага ордэра і акном-люнетай. Абапал вузкія аконныя праёмы.

Унутраная прастора перакрыта цыліндрычнымі скляпеннямі, над сяродкрыжжам паўсферычны купал. У заходняй частцы хоры. На сценах і скляпеннях фрэскавыя размалёўкі, выкананыя ў канцы 18 ст. у стылі ранняга класіцызму. Захавалася 57 кампазіцыйных сцэн, пераважна алегарычных. Па стылістычных адзнаках размалёўкі падзяляюцца на 2 мастацкія цыклы, выкананыя ў розных стылях, манеры і каларыстычнай гаме. Найбольш цікавыя — аб пакутах Хрыста (у 1-м ярусе) і «Цябе бога хвалім» (на скляпенні купала). Шматфігурныя кампазіцыі напоўнены святлом і рухам. Ружова-чырвоная, жоўта-карычневая, блакітна-сіняя, жоўта-зялёная колеравыя гамы, пастозная манера выканання ствараюць уражанне лёгкасці і празрыстасці фігур.

Ансамбль царквы і званіцы — помнік архітэктуры класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. И. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *А. Ю. Пятросава.*

### в. Азарычы, Лапаціцкі сельсавет

**1801. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахавана каля 100 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1802. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Раста, паміж 2 ярамі. Вышыня над узроўнем ракі 10—12 м. Пляцоўка памерам 20×18 м мае нахіл на поўдзень, з гэтага боку абмежавана ракой, на захадзе і паўднёвым усходзе — ярамі; з боку поля ўмацавана падкованападобным валам вышынёй 2—4 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1930 г. В. Р. Тарасенка, у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабрана ляпная штрыхаваная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *Я. Р. Рыер.*

### в. Аляксандраўка 1-я, Гіжэнкаўскі сельсавет

**1803. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Пахаваны 470 воінаў 497-га гаўбічна-артылерыйскага палка 137-й стралковай дывізіі 13-й арміі, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1804. ПОМНІК АРТЫЛЕРЫСТАМ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі. У ліпені 1941 г. воіны 497-га гаўбічна-артылерыйскага палка 137-й стралковай дывізіі 13-й арміі трапілі ў акружэнне. Каля вёскі полк пераправіўся цераз р. Сож і прыняў няроўны бой з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на ўшанаванне памяці загінуўшых у гэтым баі пастаўлена стэла.

**1805. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 78 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1966 г. пастаўлена сцяна, на якой 2 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**1806. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).
**1806а.** Стаянка. За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на правым беразе р. Сож. Вышыня 6—8 м над узроўнем ракі. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2 м. У раздуве карэннага берага знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.
**1806б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабрана ганчарная кераміка. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гіс-



1800. *Царква Раства багародзіцы і званіца.*




1800. *Царква Раства багародзіцы. Планы царквы (справа) і званіцы.*

торыі АН БССР і Магілёўскім краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Рыер Я. Р. Аб некаторых старажытнарускіх помніках Магілёўшчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4; яго ж. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье.— Советская археология, 1976, № 2. *Я. Р. Рыер.*

**в. Бахань, цэнтр сельсавета**

**1807. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 96 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1808. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 227 жыхароў вёсак Баханскага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, пастаўлена сцяна, на якой 2 дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Благадаць, Каменкаўскі сельсавет**

**1809. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Пахаваны 3 воіны 283-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Бязуевічы, Васькавіцкі сельсавет**

**1810. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 115 воінаў, якія загінулі восенню 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1811. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 41 воін, якія загінулі ў 1943 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1812. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1802. *Гарадзішча. План.*

**в. Бярозаўка, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1813. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У паўднёвай частцы вёскі. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1814. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў 1941 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1815. МАГІЛА ГРАМОКАВА** Міхаіла Міхеевіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» М. М. Грамокаў загінуў 17.5.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1816. МАГІЛА ЖАЛУДЗЬКА** Рыгора Лявонцьевіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» Р. Л. Жалудзько загінуў 17.5.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1817. МАГІЛА ЗАГАРЭЛЬСКАГА** Рыгора (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі Р. Загарэльскі загінуў 23.5.1942 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1818. МАГІЛА КАЦЯРУХІНАЙ** Ніны Іванаўны (гіст.). На могілках. Партызанка палка «Трынаццаць» Н. І. Кацярухіна загінула 24.5.1943 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1819. МАГІЛА ЛУПАВА** Сяргея (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» С. Лупаў загінуў 17.5.1943 г. пры разгроме нямецка-фашысцкага гарнізона ў Чавусах. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1820. МАГІЛА МАКАРАВА** Аляксея Пятровіча (гіст.). На могілках. Камандзір роты партызанскага палка «Трынаццаць» А. П. Макараў загінуў 17.5.1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1821. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1967 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**1822. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 134 жыхароў вёсак калгаса «Радзіма», якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1977 г. пастаўлены помнік: скульптура воіна, абапал яе 2 стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Васькавічы, цэнтр сельсавета**

**1823. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на ўзвышшы правага берага р. Пясчанка, над яе старыцай. Пляцоўка авальная, памерам 25×30 м, умацавана кальцавым унутраным валам, з боку поля — 2 вонкавымі падкованападобнымі валамі вышынёй 1,5—2,5 м. Перад валамі ёсць сляды равоў. Гарадзішча густа зарасло лесам, захаванасць добрая. Абследавалі ў 1925 г. І. А. Сербаў, у 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1983 г. С. Я. Расадзін. У паўночна-заходняй частцы пляцоўкі ў шурфе 1×1 м выяўлены культурны пласт 0,2 м, у якім знойдзены аблом-



1803. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1804. *Помнік артылерыстам.*

кі грубаляпнога посуду сярэдзіны — 3-й чвэрці 1-га тысячагоддзя н. э.

*Літ.:* Сербаў І. А. Вынікі археалагічных даследаванняў каля Нова-Быхава і на сярэднім Сожы.— У кн.: Працы 1 з'езду даследчыкаў беларускай археалогіі і археаграфіі. Мн., 1926.

*С. Я. Расадзін.*

**1824. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Пясчанка, абапал дарогі, у лесе. 86 насыпаў вышынёй 0,8—5 м, дыяметрам 5—16 м. Вядомы з 1873 г. Даследавалі ў 1925 г. І. А. Сербаў, у 1961 г. Л. В. Аляксееў і З. М. Сяргеева. Раскапаны 4 насыпы. Пахавальныя абрады — трупаспаленне ў насыпе і трупапалажэнне на гарызонце. Пахавальны інвентар: пацеркі, пярсцёнкі, арабскі дырхем 911 г., нажы, гліняныя гаршкі. Належаў радзімічам. Адносіцца да 10—12 стагоддзяў.

Матэрыялы даследавання 1961 г. захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Алексеев Л. В., Сергеева З. М. Раскопки курганов в Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1973, в. 135.

*Я. Р. Рыер.*

**1825. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.




1823. *Гарадзішча. План.*



1824. *Курганны могільнік. План.*



1830. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Вялікая Зімніца, Баханскі сельсавет**

**1826. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 97 воінаў. Сярод пахаваных — воіны 362-й стралковай дывізіі, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1827. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Санітарка палявога шпіталя (прозвішча не ўстаноўлена) загінула ў 1943 г. у час аднаго з баёў за вызваленне тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік: на высокім пастаменце скульптурная выява галавы жанчыны.

**1828. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 218 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена сцяна, на якой 2 дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Гайшын, Васькавіцкі сельсавет**

**1829. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сямёнаўка. Пахаваны 700 воінаў. Сярод іх — воіны 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту, якія загінулі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1830. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст., маст.). У скверы, каля школы. Пахаваны 28 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і чырвонаармеец, што загінуў у Грамадзянскую вайну. У 1978 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны і дошкі з імёнамі 247 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**1831. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на поўдзень ад вёскі, каля абрыву правага берага р. Сож, у лесе. 5 насыпаў вышынёй 1—1,7 м, дыяметрам 5—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.




1831. *Курганны могільнік. План.*



1832. *Курганны могільнік. План.*



1835. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**1832. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, абапал дарогі, у лесе. 65 насыпаў вышынёй 1,3—3,5 м, дыяметрам 4—16 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**1833. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1833а.** Стаянка. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Сож, на вышыні 8—10 м над узроўнем ракі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2 м. У абрыве берага знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1833б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні і ў абрыве сабрана грубаляпная з расчосамі кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.



1836. *Курганны могільнік. План.*

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Я. Р. Рыер.*

**1834. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1834а.** Стаянка. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сож, на вышыні 4—6 м над узроўнем ракі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2—0,3 м з праслойкамі попелу і вугалля. У ім знойдзены крамянёвыя прылады працы і неалітычная кераміка. Адносіцца да эпохі неаліту. Раскопкі не праводзіліся.

**1834б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабрана ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Рыер Я. Р. Аб некаторых старажытнарускіх помніках Магілёўшчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4; яго ж. Изучение курганов в Могилевском Полнепровье.— Советская археология, 1976, № 2. *Я. Р. Рыер.*

### в. Гіжэнка, цэнтр сельсавета

**1835. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, каля лясніцтва. Пахаваны 1701 воін, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і ў 1943—44 гг. ці памерлі ад ран у 1944 г. Сярод пахаваных — воіны 362-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту і 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі 1-га Беларускага фронту. У 1952 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1836. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,3 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 64 насыпы вышынёй 1,4—5,4 м, дыяметрам 4—15 м. Адкрыў у 1892 г. С. Ю. Чалоўскі, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**1837. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. На ўшанаванне памяці 138 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1983 г. пастаўлены помнік — скульптуры воінаў і стэла з імёнамі загінуўшых.

### в. Дубна, Каменкаўскі сельсавет

**1838. ПАСЕЛІШЧЫ** (археал.).

**1838а.** Паселішча-1. На заходняй ускраіне вёскі, на тэрасе левага берага р. Сож, ва ўрочышчы Ганчароўка. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1976—78 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, нуклеусы, скрабкі, прылады сякучых форм, вастрыі, разцы, скоблі і інш., фрагменты ляпнога посуду. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

**1838б.** Паселішча-2. На паўночнай ускраіне вёскі, на левым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Збішча. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1976—78 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, скрабкі, разцы, вастрыі, прылады сякучых форм, наканечнікі стрэл, макраліты, фрагменты ляпнога посуду з адбіткамі грэбеня і перавітага шнура. Адносіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.



1837. *Помнік землякам.*

**1838в.** Паселішча-3. На захад ад вёскі, на ўсходнім беразе воз. Святое, ва ўрочышчы Купальня. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч. Даследаваў у 1968 г. І. І. Арцёменка на плошчы 72 м². Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя адшчэпы, пласціны, скрабкі, скрэблы, вастрыі, сякеры, наканечнікі стрэл і коп'яў, рэшткі ляпнога посуду з адбіткамі грэбеня і ямак.

Матэрыялы абследавання і раскопак паселішчаў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *А. Г. Калечыц.*

### в. Дубраўка, Кульшыцкі сельсавет

**1839. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе, па дарозе ў в. Кулікоўка. 135 насыпаў вышынёй 0,7—4 м, дыяметрам 6—12 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.



1839. *Курганны могільнік. План.*

**в. Жаролы, Кульшыцкі сельсавет**

**1840. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1943 г. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Завад-Віравая, Слаўгарадскі гарадскі Савет**

**1841. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе, каля абрыву правага берага р. Проня. 10 насыпаў вышынёй 1,3 м, дыяметрам 8—12 м. Адкрыў у 1971 г. Г. В. Штыхаў, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Загліннае, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1842. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1843. МАГІЛА ЗАЙКОЎСКАГА** Цімафея Яфімавіча (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Даброжынка. Партызан палка «Трынаццаць» Ц. Я. Зайкоўскі загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**1841.** *Курганны могільнік. План.*



**1851а.** *Курганны могільнік. План.*

**1844. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Закрупец, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1845. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На захад ад вёскі, ва ўрочышчы Дачкі. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1846. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 афіцэры 1093-га стралковага палка 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1847. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Пахаваны каля 200 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1984 г. пастаўлены абеліск.

**1848. МАГІЛА КІРПІЧЭНКАВАЙ** Соф'і Канстанцінаўны (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Партызанка палка «Трынаццаць» С. К. Кірпічэнкава загінула 15.5.1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Запалянне, Кульшыцкі сельсавет**

**1849. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Іванішчавічы, Лапаціцкі сельсавет**

**1850. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 358 воінаў і партызан, якія загінулі ў 1941—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 362-й стралковай дывізіі 50-й арміі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1851. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК, КУРГАН** (археал.).

**1851а.** Курганны могільнік. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Хацінка, каля будынка клуба. 8 насыпаў вышынёй 0,5—3,5 м, дыяметрам 6—10 м. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**1851б.** Курган. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Вышыня 3,5 м, дыяметр 15 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні-Ухлясці ў былой Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі Ін-та гісторыі Беларус. Акад. навук. Мн., 1932, т. 3.

*Я. Р. Рыер.*

**в. Казакоўка, Каменкаўскі сельсавет**

**1852. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Кліны, Каменкаўскі сельсавет**

**1853. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1854. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3 км на захад ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе левага берага р. Сож. Выявіла ў 1979 г. і даследавала ў 1980—81 гг. А. Г. Калечыц на плошчы 106 м². Культурны пласт 0,2 м прасочаны пад дзёрнам, на глыбіні 0,5 м. Знойдзена 12018 расшчэпленых крамянёў (адбойнікі, рэтушоры, пласціны і адшчэпы з рэтушшу, наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, скоблі, вастрыі, прылады сякучых форм, мікраліты, нуклеусы, крамянёвыя канкрэцыі і інш.). Выяўлены рэшткі агнішчаў і адной ямы. Адносіцца да ранняга мезаліту, датуецца 9—6-м тысячагоддзямі да н. э. Матэрыялы даследаванняў захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1855.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



1856. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Калечиц Е. Г. Исследования в Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981; я е ж. Раскопки в Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1981 года. М., 1983.
*А. Г. Калечыц.*

**в. Кулікоўка 1-я, Кульшыцкі сельсавет**

**1855. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 20 воінаў, якія памерлі ў 1943 г. ад ран у шпіталі. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1856. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 137 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў і стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Кулікоўка 2-я, Кульшыцкі сельсавет**

**1857. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1960 г. на магіле пастаўлена стэла.



1858. *Курганны могільнік. План.*

**1858. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, у хваёвым бары, па дарозе ў в. Дубраўка. 20 насыпаў вышынёй 1—1,7 м, дыяметрам 5—10 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Кульшычы, цэнтр сельсавета**

**1859. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя А. А. Жданава. Пахаваны 280 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1860. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 6 км на захад ад вёскі. Пахаваны 45 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1861. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1862. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1863. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 178 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены помнік — скульптуры 2 воінаў, побач сцяна Памяці, на якой дошкі з надпісам-прысвячэннем і імёнамі загінуўшых.

**в. Курганаўка, Слаўгарадскі гарадскі Савет**

**1864. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля аўтамабільнай дарогі Слаўгарад — Доўск. Пахаваны 15 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Лапацічы, цэнтр сельсавета**

**1865. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 510 воінаў, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач, на ўшанаванне памяці 305 жыхароў Лапаціцкага сельсавета, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, узведзена сцяна з імёнамі загінуўшых.



1863. *Помнік землякам.*

**в. Лебядзёўка, Свенскі сельсавет**

**1866. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 13 воінаў, якія ў 1943 г. памерлі ад ран у шпіталі. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск з імёнамі воінаў.

**пас. Ліпнік, Свенскі сельсавет**

**1867. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 8 воінаў 362-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту,



1865. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*



1872. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Любаны, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1868. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны 321 воін, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1869. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 7 магілах пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. пастаўлены абеліск.

**1870. МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Загуменне. Пахаваны 5 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. пастаўлены абеліск.

**в. Лясная, Лапаціцкі сельсавет**

**1871. БРАЦКАЯ МАГІЛА РУСКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі 28.9.1708 г. у баі са шведскімі войскамі. У час бою загінула каля 1000 рускіх воінаў. У 1908 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1872. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 798 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчына.

**1873. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ КАПЛІЦА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў пачатку 20 ст. паводле праекта архіт. А. Гагена ў гонар 200-годдзя перамогі рускіх войск над шведскім корпусам генерала А. Левенгаўпта ў бітве 28.9.1708 г. пад Ляснрй. Цяпер тут музей гісторыі бітвы пад Лясной.

Мураваны будынак цэнтрычнай шмат'яруснай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Завершаны высокім шатром з цыбулепадобнай галоўкай. У плане квадрат (15×15 м) з скругленымі вугламі. Ніжні ярус пастаўлены на стылабат з гранітных блокаў, завершаны поясам машыкуляў. На яго паўднёвым, паўночным і заходнім фасадах паўцыркульныя ўваходныя парталы, абрамленыя ляпнымі аркамі і стылізаванымі калонамі. Сцяна ўсходняга фасада прарэзана 2 вузкімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі, дэкарыравана мазаікай «Апостал Пётр». Другі ярус завершаны зубцамі ў выглядзе ластаўчынага хваста. Аконныя лучковыя праёмы ў ліштвах. Галоўны фасад упрыгожаны мазаікай «Маці боская з дзіцем», размешчанай над уваходным парталам. Па вуглах першага яруса і над уваходамі вузкія праёмы, якія надаюць будынку характар абарончага збудавання. Сцены абліцаваны жоўтай керамічнай пліткай, ліштвы акон і дзвярныя праёмы — белым пясчанікам. Унутраная прастора храма перакрыта крыжовым скляпеннем з распалубкамі. Размалёўкі, што ўпрыгожвалі сцены, не захаваліся.

Капліца — помнік мемарыяльнай архітэктуры, вырашаны ў псеўдарускім стылі.

*А. Ю. Пятросава.*

**1874. ПОМНІК У ГОНАР ПЕРАМОГІ РУСКІХ ВОЙСК У БІТВЕ ПАД ЛЯСНОЙ** (гіст., маст.). У цэнтры вёскі.

У Паўночную вайну 1700—21 гг. шведская армія летам 1708 г. наступала праз Магілёў на Смаленск. Ёй на дапамогу з Рыгі спяшаўся 16-тысячны корпус генерала А. Левенгаўпта з артылерыяй і вялікім абозам (больш за 7 тыс. фурманак). Карл XII разлічваў сумесна з Левенгаўптам разбіць рускую армію, захапіць Маскву і пакончыць з Расіяй як дзяржавай.

19—21.9.1708 г. корпус Левенгаўпта пераправіўся каля Шклова цераз Дняпро і рушыў да Прапойска (цяпер Слаўгарад). Пётр I стварыў з складу войск Б. П. Шарамецева лятучы корпус (карвалант) з 10 драгунскіх і 3 пяхотных палкоў. Адначасова кавалерыйскаму корпусу генерала Р. Х. Баўра (5 тыс.) было загадана рухацца на злучэнне з карвалантам, а атрад да 1 тыс. выслаць да Прапойска з мэтай захапіць пераправы цераз р. Сож. 27 верасня каля в. Доўгі Мох авангард карваланта прымусіў шведскі корпус адысці да в. Лясной. Рашаючая бітва адбылася апоўдні 28.9.1708 г. Не чакаючы падыходу



1873. *Мемарыяльная капліца. Адзін з уваходных парталаў.*



1873. *Мемарыяльная капліца. Фрагмент дэкору ўсходняга фасада.*




1873. *Мемарыяльная капліца. План.*



1873 і 1874. *Мемарыяльная капліца (злева). Помнік у гонар перамогі рускіх войск у бітве пад Лясной.*

корпуса Баўра, атрад рускіх войск атакаваў шведскія пазіцыі. У разгар бою падаспелі кавалерысты Баўра і аб'яднанымі сіламі корпус Левенгаўпта быў разгромлены. Шведы страцілі амаль увесь абоз і 17 гармат, 8,5 тыс. чалавек, былі ўзяты ў палон 45 афіцэраў і 700 салдат.

Перамога пад Лясной была вялікім поспехам рэгулярнай рускай арміі ў адзінаборстве з моцным і вопытным праціўнікам. Пётр I назваў бітву пад Лясной «маці Палтаўскай баталіі».

У 1908 г. у гонар 200-годдзя перамогі рускіх войск каля Лясной пастаўлены помнік (скульпт. А. Обер; бронза, граніт; агульная вышыня 3,5 м) — гранітная скала, на вяршыні якой выява арла (бронза), што топча шведскі сцяг са зламаным дрэўкам. Магутны ўзмах крылаў птушкі, напружанасць руху перадаюць драматызм барацьбы і пафас перамогі. На пастаменце — выява лаўровага вянка, дошка з пералікам рускіх палкоў — удзельнікаў бою і надпісам-прысвячэннем.

*Літ.:* Строков А. А. История военного искусства.— М., 1967; Тарле Е. В. Северная война и шведское нашествие на Россию.— М., 1958; Чернатов В. М. Сынам отчизны.— Мн., 1980.

*Л. Г. Лапцэвіч, В. М. Удальцоў.*

**в. Ляцягі, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1875. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка клуба. Пахаваны 213 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1876. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1877. МАГІЛА ЕМЯЛЬЯНАВАЙ** Марыі Дзям'янаўны (гіст.). На могілках. Партызанка палка «Трынаццаць» М. Дз. Емяльянава загінула ў 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1878. МАГІЛА ЖУРАЎЛЁВА** Пятра Андрэевіча (гіст.). За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Цяплёнка. Савецкі воін П. А. Жураўлёў загінуў 13.10.1943 г. У 1977 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1879. МАГІЛА КАБАНАВА** Мікалая Пятровіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» М. П. Кабанаў загінуў у 1943 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1880. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) палка «Трынаццаць» загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1881. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) палка «Трынаццаць» загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1882. МАГІЛА ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На могілках. Партызан (прозвішча не ўстаноўлена) палка «Трынаццаць» загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Машэцкая Слабада, Лапаціцкі сельсавет**

**1883. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 15 воінаў, якія памерлі ў 1944 г. ад ран у шпіталі. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Новая Слабада, Слаўгарадскі гарадскі Савет**

**1884. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 750 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1949 г. пастаўлены абеліск.

**1885. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 жыхары вёскі, загубленыя ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1966 г. на магіле пастаўлены мемарыяльны знак.

**в. Папоўка, Васькавіцкі сельсавет**

**1886. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 176 жыхароў з вёсак калгаса імя А. М. Горкага, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1974 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам і стэлы з імёнамі загінуўшых.

**в. Пацяраеўка, Лапаціцкі сельсавет**

**1887. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1,7 км на захад ад вёскі, справа ад дарогі на в. Машэцкая Слабада. Пахаваны каля 30 воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, а таксама 10 жыхароў вёскі, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1888. БРАЦКІЯ МАГІЛЫ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. У 2 магілах пахавана каля 100 савецкіх воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943 г. ці памерлі ад ран у шпіталях. У 1973 г. пастаўлена стэла.




1889. *Курганны могільнік. План.*

**1889. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Раста. 18 насыпаў вышынёй 0,7—2,2 м, дыяметрам 3—8 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Рабавічы, Лапаціцкі сельсавет**

**1890. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 174 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-й арміі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1891. МАГІЛА ЗАЙЦАВА** Фёдара Фёдаравіча (гіст.). Гвардыі капітан Чырвонай Арміі Ф. Ф. Зайцаў загінуў у 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1892. МАГІЛА ПАНАМАРОВА** Пятра Ціханавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза П. Ц. Панамароў нарадзіўся 11.7.1924 г. у с. Курдзюм Тацішчаўскага р-на Саратаўскай вобл. у сям'і рабочага. Член ВЛКСМ з 1940 г. Працаваў у Саратаве слесарам на заводзе зубастругальных станкоў. З 1942 г. у Чырвонай Арміі. З 1943 г. на Бранскім, Беларускім франтах. Наводчык гарматы гвардыі радавы П. Ц. Панамароў вызначыўся ў баях за плацдарм на р. Проня. 26.10.1943 г. каля в. Рабавічы 334-ы гвардзейскі стралковы полк 120-й гвардзейскай стралковай дывізіі 3-й арміі адбіваў контратакі праціўніка. На пазіцыю гарматнага разліку, у складзе якога быў П. Ц. Панамароў, рухаліся 3 фашысцкія танкі. Адзін з іх воін падбіў. Пасля гібелі таварышаў, паранены, падбіў яшчэ адзін танк. На працягу дня ўдзельнічаў у адбіцці 6 контратак, знішчыў 2 танкі, 35 гітлераўцаў. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Яго імя навечна занесена ў Кнігу народнай славы Слаўгарадскага р-на. Ганаровы член ВЛКСМ пярвічных камсамольскіх арганізацый саўгаса «Лясная» (Слаўгарадскі р-н) і Саратаўскага завода зубастругальных станкоў. Імем героя названы вуліцы ў Саратаве, Мінску, Слаўгарадзе, яго імя прысвоена саратаўскай сярэдняй школе № 22. Перад будынкам школы і на заводзе, дзе ён працаваў, устаноўлены бюсты.

У 1981 г. на магіле пастаўлены помнік — на фоне стэлы з рэльефнай выявай зоркі бюст героя на высокім пастаменце.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**1893. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1891. *Помнік на магіле Ф. Ф. Зайцава.*

**1894. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1895. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рабінаўка, Кульшыцкі сельсавет**

**1896. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Шмат. Пахаваны 53 воіны, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 1206-га стралковага палка. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рагі, Свенскі сельсавет**

**1897. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі восенню 1943 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1898. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 94 землякоў, якія загінулі




1886. *Помнік землякам.*



1892. *Помнік на магіле П. Ц. Панамарова.*

ў Вялікую Айчынную вайну, у 1980 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына, а таксама дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Ржаўка 1-я, Кульшыцкі сельсавет**

**1899. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 50 м на паўднёвы ўсход ад вёскі. Лейтэнант Чырвонай Арміі (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1900. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 115 землякоў з калгаса «Савецкая Беларусь», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін з вянком і хлопчык; побач — сцяна Памяці, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Рудня, Васькавіцкі сельсавет**

**1901. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 27 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1902. ПОМНІК ЧАМАДУРАВУ** Вячаславу Іванавічу (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, каля шашы Слаўгарад — Доўск. Бюст устаноўлены ў 1980 г. Герой Савецкага Саюза В. І. Чамадураў нарадзіўся 20.12.1919 г. у г. Саратаў у сям'і рабочага. Член КПСС з 1945 г. У 1944 г. скончыў Растоўскае ваеннае вучылішча самаходнай артылерыі. У Вялікую Айчынную вайну з 1943 г. на Бранскім, Цэнтральным, Беларускім франтах. Камандзір кулямётнага разліку 858-га стралковага палка 283-й стралковай дывізіі 3-й арміі сяржант В. І. Чамадураў вызначыўся ў баях за плацдарм на р. Сож у Слаўгарадскім р-не. 12.10.1943 г. у баі за в. Рудня адзін з першых увапваўся ў траншэі ворага. На працягу дня прымаў удзел у адбіцці 19 контратак, двойчы паранены, не пакінуў поле бою. Знішчыў каля 300 гітлераўцаў. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 15.1.1944 г. Пасля вайны да 1956 г. служыў у Савецкай Арміі. Памёр 27.12.1957 г. у г. Камунарск Варашылаўградскай вобл. Імем героя ў Слаўгарадзе названа вуліца.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. М. Удальцоў.*

**1903. СТАЯНКА** (археал.). За 0,1 км на ўсход ад вёскі, на мысе пры ўпадзенні р. Пясчанка (на яе правым беразе) у р. Сож (на яго правым беразе), на вышыні 3—6 м над узроўнем Сажа. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2 м. У раздувах берагавой тэрасы знойдзены крамянёвыя пласціны і адшчэпы, а таксама рэшткі ляпнога посуду з адбіткамі шнура. Адносіцца да бронзавага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*



1900. *Помнік землякам.*



1902. *Помнік В. І. Чамадураву.*

**1904. СТАЯНКА** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, на мысе пры ўпадзенні р. Пясчанка (на яе левым беразе) ў р. Сож (на яго правым беразе), на вышыні 2—4 м над узроўнем Сажа. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. У раздувах берагавой тэрасы знойдзены скрабкі, наканечнікі стрэл, пласціны з крэменю. Адносіцца да эпохі неаліту. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*

**1905. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1905а.** Стаянка. За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сож, на полі і ў лесе, на вышыні 15—18 м над узроўнем ракі. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, у 1972 г. абследаваў Я. Р. Рыер. На полі знойдзены крамянёвыя пласціны і адшчэпы, у т. л. з рэтушшу, а таксама ляпная кераміка эпохі неаліту. Раскопкі не праводзіліся.



**1910.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*

**1905б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні разам з неалітычным інвентаром сабраны рэшткі грубаляпнога посуду з прачосамі ранняга жалезнага веку і ганчарная кераміка 11—12 стагоддзяў. Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Рыер Я. Р. Аб некаторых старажытнарускіх помніках Магілёўшчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4; яго ж. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье.— Советская археология, 1976, № 2. *Я. Р. Рыер.*

**1906. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**1906а.** Стаянка. За 1,7 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Сож, на вышыні 18—21 м над узроўнем ракі. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. У абрыве карэннага берага знойдзены крамянёвыя прылады працы. Адносіцца да каменнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

**1906б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабраны крамянёвыя прылады працы, грубаляпная з расчосамі кераміка ранняга жалезнага веку і ганчарная 11—12 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Рыер Я. Р. Аб некаторых старажытнарускіх помніках Магілёўшчыны.— Помнікі гісторыі і культуры Беларусі, 1974, № 4; яго ж. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье.— Советская археология, 1976, № 2. *Я. Р. Рыер.*

**в. Рудня, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1907. МАГІЛА БАТУРЫНА** Аляксея Фёдаравіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Сяржант Чырвонай Арміі А. Ф. Батурын загінуў у кастрычніку 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1908. МАГІЛА ГУЛЯЕВА** Аляксандра Пятровіча (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Начальнік артылерыі 1091-га стралковага палка капітан А. П. Гуляеў загінуў 23.10. 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рэкта, Свенскі сельсавет**

**1909. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 85 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1976 г. на магіле ўстаноўлены помнік — скульптура воіна, абапал пастаўлены стэлы з імёнамі 107 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Свенск, цэнтр сельсавета**

**1910. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельсавета. Пахаваны 26 воінаў, якія загінулі ў лістападзе 1943 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 269-й стралковай дывізіі 3-й арміі Беларускага фронту. У 1972 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна, на пастаменце дошка з надпісам-прысвячэннем. Абапал устаноўлены 4 стэлы з імёнамі 176 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. На пярэднім плане 2 стэлы з барэльефнымі выявамі ордэнаў «Перамога» і Айчыннай вайны і фрагментаў бою. *В. М. Удальцоў.*

**1911. ПАРК** (архіт.). У паўднёва-ўсходняй частцы вёскі. Закладзены ў пачатку 20 ст. як сядзібны.

Парк эканамічнага тыпу. Яго тэрыторыя — чатырохвугольнік плошчай 12 га — абкружана па перыметры ліпавымі і вярбовымі алеямі. У цэнтры кампазіцыі — шырокі лужок. З аднаго боку яго агінае ліпавая алея, з другога — клёны і серабрыстыя таполі. У паўночнай частцы лужка размяшчаўся драўляны сядзібны дом (не захаваўся). На астатняй тэрыторыі парку яблыневы сад.

Помнік садова-паркавага мастацтва. *А. Ю. Пятросава.*

**пас. Сіліна Поле, Слаўгарадскі гарадскі Савет**

**1912. СТАЯНКІ** (археал.).

**1912а.** Стаянка-1. За 1,5 км на ўсход ад вёскі, у пойме правага берага р. Сож, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2 м. У раздувах і агаленнях сабраны крамянёвыя прылады працы і неалітычная кераміка.

**1912б.** Стаянка-2. За 1,3 км на ўсход ад вёскі, у пойме правага берага р. Сож, на дзюне. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,1 м. У раздувах і агаленнях сабраны крамянёвыя прылады працы, у т. л. сякеры неалітычнай эпохі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання стаянак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР і Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1. *Я. Р. Рыер.*



1911. *Куток парку.*




1911. *Парк. План: 1 — месца, дзе быў сядзібны дом; 2 — сад.*

### в. Слаўня, Свенскі сельсавет

**1913. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 38 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1914. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым забалочаным беразе р. Пацэя, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 0,8—4,3 м, дыяметрам 5—10 м. Адкрыў у 1928 г. І. А. Сербаў, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Левданский А. Н. Городище, курганы и стоянка близ д. Деребуж Рославльского уезда.— У кн.: Труды секции археологии Российской ассоциации научно-исследовательских институтов общественных наук. М., 1928, т. 4.

*Я. Р. Рыер.*

### в. Старая Каменка, цэнтр Каменкаўскага сельсавета

**1915. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 23 воіны 362-й стралковай дывізіі 50-й арміі, якія загінулі ў 1943 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1916. СТАЯНКІ** (археал.).

**1916а.** Стаянка-1. За 0,5 км на захад ад вёскі, на паўднёва-ўсходнім беразе воз. Дрышчаўскае (левабярэжжа р. Сож). Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1962 г. і 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. На паверхні сабраны крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, разцы, скрабкі, вастрыі, фрагменты ляпнога посуду, упрыгожаныя адбіткамі грабеньчатага, ямачнага і лапчастага штампа. Аднасіцца да эпохі неаліту.

**1916б.** Стаянка-2. За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Рубанаў Курган, на пясчаных узвышшах поймы левага берага р. Сож. Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1962 г. і 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. У шурфах і агаленнях сабраны крамянёвыя нуклеусы, адшчэпы, пласціны, разцы, скрабкі, вастрыі, мікраліты і інш. Аднасіцца да эпохі мезаліту.

**1916в.** Стаянка-3. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Бышарына Поле (Чорная Гразь). Выявіў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1962 г. і 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Сабраны крамянёвыя наканечнікі стрэл, разцы, скрабкі, сякеры, цёслы, вастрыі, скоблі, фрагменты ямачна-грабеньчатай керамікі, рэшткі посуду з адбіткамі лінейнага штампа, шнура. Аднасіцца да эпохі неаліту і бронзавага веку.

**1916г.** Стаянка-4. На пясчанай грыве, у пойме каля воз. Саснавец. Выявіў і даследаваў у 1927 г. К. М. Палікарповіч, абследавалі ў 1962 г. і 1968 г. І. І. Арцёменка, у 1978—80 гг. А. Г. Калечыц. Культурны пласт 0,1 м. Знойдзены наканечнікі стрэл, скрабкі, вастрыі, адшчэпы, пласціны, нуклеусы, рэшткі ляпнога посуду. Аднасіцца да эпохі неаліту.

Матэрыялы абследавання раскопак стаянак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*А. Г. Калечыц.*

### в. Старынка, цэнтр сельсавета

**1917. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 67 воінаў 362-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1918. МАГІЛА ЧАРУХІНА** Алега Віктаравіча (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. Лейтэнант Чырвонай Арміі



1914. *Курганны могільнік. План.*



1929. *Помнік землякам.*

А. В. Чарухін загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Улукі, Лапаціцкі сельсавет**

**1919. МАГІЛА ІВАНОВА** Пятра Іванавіча (гіст.). На могілках. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі П. І. Іваноў загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.



1930. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, землякам.*

**1920. МАГІЛА ЦІМАШКОВАЙ** Домны Фамінічны (гіст.). На могілках. Жыхарка вёскі Д. Ф. Цімашкова загублена нямецка-фашысцкімі захопнікамі 23.8.1943 г. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Усохі, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1921. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 85 воінаў, якія памерлі ў 1943 г. ад ран у шпіталі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1922. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1923. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзлессі. Воін (прозвішча не ўстаноўлена) загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ходарава, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1924. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 210 воінаў, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі Беларускага фронту. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1925. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія памерлі ў 1943 г. ад ран у шпіталі. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1926. МАГІЛА ЯРМІЛАВА** Якава Іванавіча (гіст.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на ўзлессі. Капітан Я. І. Ярмілаў загінуў 27.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Целяшы, Гіжэнкаўскі сельсавет**

**1927. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1928. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, ва ўрочышчы Заруддзе. У 35 магілах пахаваны воіны, якія памерлі ў 1943 г. у шпіталі ад ран. У 1959 г. на могілках пастаўлены абеліск.

**1929. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса. На ўшанаванне памяці 104 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены помнік: скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.




1931. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Чарнякоўка, Свенскі сельсавет**

**1930. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 143 воіны, якія загінулі ў 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у шпіталі. У 1977 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна. Побач — стэлы з імёнамі 126 землякоў, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**в. Чырвоная Слабада, Лапаціцкі сельсавет**

**1931. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 1096 воінаў, якія загінулі ў




1933. *Гарадзішча. План.*



**1935.** *Курганны могільнік. План.*

1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў за вызваленне раёна. Сярод пахаваных — воіны 324-й стралковай дывізіі 50-й арміі. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**1932. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў канцы 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1933. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Проня.

Пляцоўка чатырохвугольная, памерам 50×50 м, з боку поля ўмацавана валам вышынёй 2 м, ровам глыбінёй 1,5 м, пашкоджана траншэямі і бліндажамі часоў Вялікай Айчыннай вайны, зарасла лесам. Пасярэдзіне яе быў закладзены шурф 1×1 м. Культурны пласт да 0,4 м, у ім знойдзены фрагменты ляпной керамікі, частка якіх мела штрыхоўку. Вядома з 1873 г., абследаваў у 1983 г. С. Я. Расадзін.

Належыць да мілаградскай культуры. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *С. Я. Расадзін.*

**1934. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі, на сядзібах. 2 насыпы вышынёй 1,5, дыяметрам 10 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

**1935. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2 км на поўнач ад вёскі, у лесе. 5 насыпаў вышынёй 0,8—2,2 м, дыяметрам 5—7 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1890 г. В. І. Сізоў, у 1892 г. С. Ю. Чалоўскі, у 1972 г. Я. Р. Рыер. Пахавальныя абрады — няпоўнае трупаспаленне і трупапалажэнне. Пахавальны інвентар: скроневыя кольцы, пацеркі, падвескі, пярсцёнкі, гліняны гаршчок. Належаў радзімічам, датуецца 11 ст.

*Літ.:* Фурсов М. В., Чоловский С. Ю. Дневник курганных раскопок...— Могилев, 1892; Записки русского археологического общества. Т. 8. В. 1, 2.— СПб., 1896; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Я. Р. Рыер.*

**1936. МАГІЛА ДЗЯМІДАВА** Дзмітрыя Іванавіча (гіст.). За 0,1 км на поўнач ад вёскі, у лесе. Старшы лейтэнант Чырвонай Арміі Дз. І. Дзямідаў загінуў 13.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Чырвоны Усход,**
**Васькавіцкі сельсавет**

**1937. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 215 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і пры вызваленні раёна ў 1943 г. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск з надпісам-прысвячэннем, устаноўлена надмагільная пліта.



**1938.** *Помнік землякам.*

**1938. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У заходняй частцы вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 164 землякоў з калгаса «XVII партз'езд», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і дзяўчынкі, стэла з надпісам-прысвячэннем і дошкі з імёнамі загінуўшых.




# ХОЦІМСКІ РАЁН

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Забялышына

Трасціно

Елавец

Ельня

Ліпаўка

Васілёўка 1-я

Канава

ХОЦІМСК

Чарняўка

Бяседавічы

Варвараўка

Баханы

Юзафоўка

Енаполле

Бярозкі

Батаева

Ветка

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі гаспадарчай дзейнасці, прамысловая архітэктура, гідратэхнічныя збудаванні дасавецкага перыяду

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

## XVII. ХОЦІМСК

Гарадскі пасёлак, цэнтр раёна, на левым беразе р. Беседзь пры ўпадзенні ў яе рэк Альшоўка і Жадунь. За 207 км на ўсход ад Магілёва, 37 км ад чыгуначнай станцыі Камунары на лініі Крычаў — Унеча. Аўтамабільнымі дарогамі злучаны з Касцюковічамі і Суражам (РСФСР).

Упершыню ўпамінаецца ў 1430 г., як вёска Хоцімль у Вялікім княстве Літоўскім. З 16 ст. вёска ў Мсціслаўскім ваяводстве. У час Крычаўскага антыфеадальнага паўстання ўзброены сялянскі атрад Кастуся Вашчылы ў маі — чэрвені 1740 г. зруйнаваў паташныя прадпрыемствы, у сутычцы з атрадам адміністрацыі староства ў раёне Хоцімска быў разбіты. Неўзабаве арганізаваўся новы ўзброены атрад на чале з Васілём Вашчылам, які стаў кіраўніком паўстання. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай Хоцімск з 1772 г. у складзе Расійскай імперыі, мястэчка, цэнтр воласці Клімавіцкага павета Магілёўскай губерні. У канцы 19 ст. тут каля 3 тыс. жыхароў, народнае вучылішча, 2 царквы, 2 гарбарныя заводы, бровар, 44 крамы, 2 вадзяныя млыны, прыёмны пакой (бальніца), адбываліся 2 кірмашы на год. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г. З красавіка 1919 г. Хоцімск у Гомельскай губерні РСФСР, з сакавіка 1924 г. у складзе БССР. З ліпеня 1924 г. цэнтр раёна Калінінскай, з чэрвеня 1927 г.— Магілёўскай акруг. У 1926 г.— 2,9 тыс. жыхароў. З ліпеня 1931 г. Хоцімск у складзе Касцюковіцкага р-на, з лютага 1935 г. цэнтр Хоцімскага р-на, з студзеня 1938 г. у Магілёўскай вобл. З 27.9.1938 г. гарадскі пасёлак, 3,2 тыс. жыхароў (1939 г.).

У Вялікую Айчынную вайну з 15.8. 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія загубілі тут 700 жыхароў. У раёне дзейнічалі партызанскія атрады 2-і асобны «Хоцімскі», «Бясстрашны», «За Савецкую Беларусь», «Бальшавік», партызанская брыгада «Уперад». 23.10.1941 г. партызаны атрадаў Дз. М. Мядзведзева і 2-га асобнага Хоцімскага разграмілі паліцэйскую ўправу ў гарадскім пасёлку. Вызвалены ў ноч з 25 на 26.9. 1943 г. войскамі 50-й арміі (генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) Бранскага фронту. З 1962 г. у складзе Касцюковіцкага р-на, з 30.6.1966 г. зноў цэнтр раёна.

Архітэктурна-планіровачная структура сучаснага Хоцімска — прамавугольная, на ўскраінах — нерэгулярная жылая забудова. Паводле генплана, распрацаванага ў 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва, пасёлак развіваецца на ўсход, паміж рэкамі Альшоўка і Жадунь. На вуліцах Савецкай, Ле-




**XVII.** *Цэнтральная плошча.*




**XVII.** *Забудова вуліцы Ленінскай.*

нінскай і Цэнтральнай пл. склаўся адміністрацыйна-грамадскі цэнтр. Тут размешчаны Дом Саветаў, гасцініца, кінатэатр, універмаг, пяцінавярховыя жылыя дамы, разбіты сквер. Шматпавярховае жыллёвае будаўніцтва вядзецца ў цэнтральнай частцы гарадскога пасёлка ўздоўж вуліц Ленінскай і Чапаева на месцы знесеных аднапавярховых драўляных дамоў. Працуюць масласырзавод (філіял Клімавіцкага завода сухога абястлушчанага малака), ільнозавод, хлебазавод, камбінаты будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У Хоцімску сярэдняе спецыяльнае прафесійна-тэхнічнае вучылішча механізацыі сельскай гаспадаркі, 2 сярэднія, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, васьмігадовая школа-інтэрнат, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Шлях Кастрычніка».

Помнікі: У. І. Леніну; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе з нямецка-фашысцкімі захопнікамі; на магіле ахвяр фашызму; партызанам; землякам; ахвярам фашызму; помнік Вызвалення. У пасёлку захаваліся старажытнае гарадзішча з валам і за 0,5 км на поўдзень курганны могільнікі. Зберагліся помнікі архітэктуры 19 — пачатку 20 ст. — 2 жылыя дамы на вуліцах Камсамольскай і Дзяржынскага, будынак былой Троіцкай царквы, царква на могілках.

Зона адпачынку на берагах рэк Беседзь, Альшоўка, Жадунь.

*Літ.:* Мялешка В. Крычаўскае паўстанне.— Полымя, 1971, № 1; Польскі С. А. Нарысы геаграфіі гарадоў Беларускай ССР (1917—1941 гг.).— Мн., 1973.

*М. І. Камінскі, В. М. Ладзіс.*

**1939. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. Кірава, у скверы каля Дома культуры. Пахаваны 190 воінаў і 5 партызан, якія загінулі ў баях за вызваленне Хоцімскага р-на ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1984 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**1940. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**1940а.** Гарадзішча. На правым беразе р. Беседзь, па вул. Набярэжнай. Пляцоўка авальная, памерам 45×35 м, выцягнута з паўночнага захаду на паўднёвы ўсход, узвышаецца над летнім межанным узроўнем вады ў рацэ на 8 м. З поўначы, паўночнага і паўднёвага захаду ўмацавана валам (уцалеў часткова) вышынёй каля 2 м. Вядома з 1873 г., абследавалі ў 1945 г. К. М. Палікарповіч, у 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. В. Е. Собаль. Культурны пласт каля паўднёва-ўсходняга краю пляцоўкі 0,5 м, у цэнтры 0,1 м. У ім знойдзена ляпная кераміка мілаградскай культуры. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.



**1939.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*




**1940а.** *Гарадзішча. План.*




**1941.** *Жылы дом па вуліцы Дзяржынскага. План І-га паверха.*



**XVII.** *Сквер па вуліцы Савецкай.*

**1940б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на поўдзень ад гарадскога пасёлка, каля ільнозавода, у хваёвым лесе. 32 насыпы дыяметрам 6—12 м, вышынёй 0,5—2 м. Вядомы з 1873 г. У 1892 г. 4 курганы раскапаў С. Ю. Чалоўскі. Пахавальныя абрады — трупапалажэнне і трупаспаленне. Абследавалі ў 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. В. Е. Собаль. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Літ.: Фурсов М. В., Чоловский С. Ю. Дневник курганных раскопок...— Могилев, 1892; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.
*В. Е. Собаль.*

**1941. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Дзяржынскага, 15. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым чатырохсхільным дахам. Фасады неатынкаваныя. У дэкоры выкарыстаны ступеньчатыя карнізы з сухарыкамі, філёнгі, рустоўка. Лучковыя аконныя праёмы акаймаваны фігурнымі ліштвамі з лучковымі броўкамі і падаконнымі карнізамі. Вуглы будынка апрацаваны буйным рустам. Паверхі звязаны паміж сабой вонкавай лесвіцай у бакавой прыбудове.

Дом — прыклад жыллёвай архітэктуры.
*В. М. Ладзіс.*




1946. *Помнік Вызвалення.*



1942. *Жылы дом па вуліцы Камсамольскай. Фрагмент бакавога фасада.*




1942. *Жылы дом па вуліцы Камсамольскай. План 1-га паверха.*

**1942. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Камсамольская, 22. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з цэглы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты пакатым вальмавым дахам. У дэкоры галоўнага фасада выкарыстаны фігурныя пілястры, руст, геаметрычны арнамент. Лучковыя аконныя праёмы дэкарыраваны дугападобнымі броўкамі і філёнгамі з разеткамі. Да бакавога фасада прылягае больш позняя драўляная прыбудова. Пры ўваходзе — тамбур, дзе знаходзіцца двухмаршавая лесвіца на другі паверх.

Дом — прыклад жыллёвай архітэктуры.
*В. М. Ладзіс.*

**1943. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Ільнозаводская, на тэрыторыі ільнозавода. Пахаваны 800 мірных жыхароў, якіх 4.9.1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1944. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА САВЕЦКІМ ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). Вул. Кірава, 24, на будынку Дома культуры. Устаноўлена ў 1967 г. у гонар воінаў 108-й і 110-й стралковых дывізій 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) Бранскага фронту, якія 26.9.1943 г. вызвалілі пасёлак ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў — першы раённы цэнтр на тэрыторыі Беларусі.

**1945. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Дзяржынскага, 1, у скверы, на тэрыторыі раённай бальніцы. У час нямецка-фашысцкай акупацыі пасёлка ў 1941—43 гг. у будынку бальніцы знаходзілася камендатура, дзе гітлераўцы закатавалі шмат савецкіх людзей. На ўшанаванне памяці загінуўшых у 1970 г. пастаўлена стэла.

**1946. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). На вул. Ленінскай, перад будынкам Дома Саветаў.

У ноч на 26.9.1943 г. воіны 575-га артылерыйскага, 407, 444, 539-га стралковых палкоў, 152-га асобнага знішчальнага процітанкавага дывізіёна 108-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік П. А. Церамаў) і воіны 971-га артылерыйскага, 1287, 1289, 1291-га стралковага палкоў і 200-га асобнага знішчальнага дывізіёна 110-й стралковай дывізіі (камандзір палкоўнік С. М. Тарасаў) 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) вызвалілі г. п. Хоцімск ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1973 г. у гонар вызвалення пастаўлена стэла.

**1947. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На рагу вуліц Набярэжнай і Камунараў. На ўшанаванне памяці жыхароў былой в. Камуна (з 1977 г. у межах г. п. Хоцімск), якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1948. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. Кірава, у скверы каля Дома культуры. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1937 г. У час Вялікай Айчыннай вайны захавана жыхарамі пасёлка і зноў устаноўлена ў 1948 г.




1947. *Помнік землякам.*



1948. *Помнік У. І. Леніну.*

**1949. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). На плошчы перад Домам Саветаў. У гонар партызан атрада Дз. М. Мядзведзева і 2-га асобнага Хоцімскага атрада, якія 23.10.1941 г. разграмілі паліцэйскую ўправу ў г. п. Хоцімск, у 1973 г. пастаўлена стэла.



1949. *Помнік партызанам.*

**1950. РАДЗІМА БЛАЖКО** Сяргея Мікалаевіча (гіст.).

Савецкі астраном і педагог, член-карэспандэнт АН СССР (1929 г.) С. М. Блажко нарадзіўся 5.11.1870 г. У 1892 г. скончыў фізіка-матэматычны факультэт Маскоўскага універсітэта. Працаваў там жа. З 1910 г. дацэнт кафедры астраноміі і геадэзіі, з 1918 г. прафесар. У 1918—31 гг. дырэктар Маскоўскай абсерваторыі. Асноўныя працы прысвечаны даследаванню пераменных зорак і практычнай астраноміі. Першым адкрыў заканамерную змену крывой і перыяду бляску некаторых цэфеід (эфект Блажко). Прапанаваў новы спосаб фатаграфавання малых планет, сканструяваў некалькі арыгінальных прыбораў. Аўтар прац: «Курс агульнай астраноміі» (1947 г.), «Курс практычнай астраноміі» (3-е выд., 1951 г.), «Курс сферычнай астраноміі» (2-е выд., 1954 г.). Быў членам рэдакцыйных калегій астранамічнага часопіса і бюлетэня «Переменные звёзды», членам Астранамічнага савета АН СССР і старшынёй яго камісіі па пераменных зорках. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі СССР 1952 г. Памёр 11.2. 1956 г. у Маскве.

*Літ.:* С. Н. Блажко.— Астрономический журнал, 1956, т. 33, в. 2. *Г. Ф. Раманаў.*

**1951. ТРОЦКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Кірава, 24. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з цэглы. Рэканструявана ў канцы 1960-х гадоў. Цяпер тут раённы Дом культуры.

Будынак цэнтрычнай кампазіцыі, у плане роўнаканцовы крыж. Да кубічнага асноўнага аб'ёму па ўзаемна перпендыкулярных восях прыбудаваны паўкруглая алтарная апсіда і роўныя памерамі бакавыя прыбудовы і бабінец. Усе аб'ёмы накрыты пакатымі двухсхільнымі дахамі. У дэкоры фасадаў выкарыстаны прафіляваныя карнізы, аркатурныя паясы, броўкі і арачныя нішы. Памеры акон пры рэканструкцыі зменены. Прастора асноўнай залы ўнутры падзелена 4 слупамі, на якія раней апіраўся васьміграннны светлавы барабан купала (пасля перабудовы зроблены другі паверх).

Будынак царквы — помнік эклектычнай архітэктуры з элементамі псеўдавізантыйскага стылю. *Т. В. Габрусь.*

**1952. ЦАРКВА** (архіт.). Вул. Першамайская, на могілках. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Да выцягнутага прамавугольнага аб'ёму, які складаецца з 2 роўных па шырыні зрубаў, па падоўжнай восі прылягаюць блізкія ў плане да квадрата апсіда і бабінец. Над асноўным зрубам узвышаецца васьміграннны светлавы барабан, над бабінцам — чацвярык званіцы, накрытыя пакатымі шатрамі з галоўкамі. Сцены гарызантальна ашаляваны. Прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі з сандрыкамі. У дэкоры фасадаў і інтэр'ера выкарыстана разьба па дрэве. Асноўная зала двухсветлавая, столь у памяшканнях, акрамя асноўнага, плоская, бэлечная.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Арол, Батаеўскі сельсавет**

**1953. КУРГАН** (археал.). За 1,5 км на поўнач ад вёскі, у полі. Насып здзірванелы, дыяметрам 12 м, вышынёй 1,5 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. В. Е. Собаль.

**в. Батаева, Батаеўскі сельсавет**

**1954. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). Мясцовая назва Шведскія Магілы. За 7 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Беседзь, у лесе, на пясчанай выдме. 16 насыпаў вышынёй 0,4—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Каля асобных курганоў прасочваюцца апоўзлыя раўкі. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1978 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. Е. Собаль.*



1951. *Будынак былой Троіцкай царквы.*



1951. *План будынка былой Троіцкай царквы.*

**1955. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля клуба. На ўшанаванне памяці 160 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлена стэла.

**1956. ПОМНІК ПАРТЫЗАНАМ** (гіст.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі. Тут у 1941 г. знаходзілася база партызанскага атрада Дз. М. Мядзведзева.

Восенню 1941 г. у варожы тыл была накіравана група савецкіх воінаў на чале з Дз. М. Мядзведзевым. На базе гэтай групы быў сфарміраваны партызанскі атрад. Партызаны праводзілі агітацыю сярод мясцовага насельніцтва, распаўсюджвалі лістоўкі, правялі шэраг дыверсійных аперацый супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. 23.10.1941 г. партызаны атрада Дз. М. Мядзведзева і 2-га асобнага Хоцімскага атрада разграмілі паліцэйскі гарнізон у г. п. Хоцімск.

У 1975 г. у гонар партызан атрада пастаўлена стэла.

**1957. ПОМНІК СТАРАВЕРАВУ** Дзмітрыю Дзмітрыевічу (гіст.). У скверы, каля будынка школы. Дз. Дз. Стараверaў — начальнік штаба партызанскага атрада Дз. М. Мядзведзева — загінуў 11.10.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на месцы гібелі пастаўлены абеліск.

**в. Баханы, цэнтр сельсавета**

**1958. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км уверх па цячэнню р. Бесядзь, на яе правым беразе. 2 насыпы вышынёй каля 1,5 м, дыяметрам 10 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.



1952. *Царква. План.*




1954. *Курганны могільнік. План.*

**1959. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 67 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бярозкі, цэнтр сельсавета**

**1960. МАГІЛА МАРКАВА** Уладзіміра Георгіевіча (гіст.). На могілках. Намеснік штурмана эскадрыллі 135-га авіяцыйнага палка лейтэнант У. Г. Маркаў загінуў 7.8.1941 г. у паветраным баі каля вёскі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1961. ПОМНІК АНТОНЕНКУ** Панцялею Сямёнавічу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы.

Камандзір асобнага партызанскага атрада «Бальшавік» П. С. Антоненка нарадзіўся ў в. Бярозкі Хоцімскага р-на ў 1900 г. У Вялікую Айчынную вайну партызан, з чэрвеня 1942 г. камандзір атрада. Летам 1942 г. атрад пад яго камандаваннем зрабіў рэйд з Хоцімскага ў Слаўгарадскі р-н, правёў 5 сустрэчных баёў з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У жніўні — кастрычніку 1942 г. партызаны атрада ў Хоцімскім р-не разграмілі варожы гарнізон у в. Далісічы, 5 валасных упраў, спалілі 3 масты, знішчылі 15 аўтамашын, падарвалі 3 чыгуначныя эшалоны.

П. С. Антоненка загінуў 2.2.1943 г. у баі ў час прарыву варожай блакады. У 1965 г. на ўшанаванне яго памяці пастаўлены абеліск.

**1962. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Кастрычнік». На ўшанаванне памяці 114 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**1963. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). За 3 км на паўднёвы захад ад вёскі. На ўшанаванне памяці 58 жыхароў былой вёскі Ганнаўка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Бяседавічы, цэнтр сельсавета**

**1964. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 129 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**1965. РАДЗІМА СУРТЫ** Івана Захаравіча (гіст.).

Дзяржаўны дзеяч БССР, адзін з арганізатараў аховы здароўя ў рэспубліцы, акадэмік І. З. Сурта нарадзіўся 10.11.1893 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1918 г. Удзельнік устанаўлення Савецкай улады ў Клімавіцкім павеце. У 1918 г. старшыня Клімавіцкага павятовага выканкома, з 1919 г.— Гомельскага губернскага выканкома. У верасні — кастрычніку 1919 г. член Савета абароны Гомельскага ўмацаванага раёна. У 1920—26 гг. у органах ВЧК і АДПУ. У 1928 г. скончыў медыцынскі факультэт 2-га Маскоўскага універсітэта, у 1932 г.— Інстытут чырвонай прафесуры. У 1933 г. намеснік наркома асветы, у 1933—36 гг. нарком аховы зда-



1955. *Помнік землякам.*



1961. *Помнік Антоненку П. С.*



1962. *Помнік землякам.*

роўя БССР, у 1936—37 гг. прэзідэнт АН БССР. Член ЦК КП(б)Б у 1934—38 гг., кандыдат у члены Бюро ЦК КП(б)Б у 1936 г., член Бюро ЦК КП(б)Б у 1937 г. Член ЦВК БССР у 1935—37 гг., кандыдат у члены, член



1971. *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

Прэзідыума ЦВК БССР (1936—37 гг.). Памёр 30.1.1943 г.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *Г. Ф. Раманаў.*

**в. Варвараўка, Бяседавіцкі сельсавет**

**1966. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Іскра». На ўшанаванне памяці 58 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.

**в. Васілёўка,**
**Хоцімскі пасялковы Савет**

**1967. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 46 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Ветка,**
**цэнтр Батаеўскага сельсавета**

**1968. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка сярэдняй школы. На ўшанаванне памяці 48 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вітава (не існуе),**
**Вялікаліпаўскі сельсавет**

**1969. МЕСЦА СПАЛЕНАЙ ВЁСКІ** (гіст.). Вёска Вітава знаходзілася за 2,5 км на захад ад в. Ліпаўка. У маі 1943 г. нямецка-фашысцкія карнікі спалілі вёску разам з 9 жыхарамі. Пасля вайны не адрадзілася. У 1975 г. на месцы былой вёскі ўстаноўлены мемарыяльны знак.

**в. Горня, Бяседавіцкі сельсавет**

**1970. БРАЦКІЯ МОГІЛКІ САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, каля дарогі Хоцімск — Сураж. У 4 магілах пахаваны 11 воінаў 112-га кавалерыйскага палка 21-га стралковага корпуса 13-й арміі, якія загінулі 16.8.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магілах пастаўлены абеліскі.

**в. Ельня, Чарняўскі сельсавет**

**1971. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 10 савецкіх грамадзян, расстраляных нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1972. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 жыхары вёскі, якіх расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1942 г. У 1947 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1973. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 150 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1947 г. пастаўлены абеліск.

**в. Енаполле, Чарняўскі сельсавет**

**1974. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка клуба



1976. *Помнік землякам.*

калгаса «Савецкая Беларусь». На ўшанаванне памяці 132 жыхароў вёсак Енаполле, Роскаш, Уладзіміраўка, Грыгор'еўка, Чырвоная Зара, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці былі закатаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, у 1966 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Забялышына, цэнтр сельсавета**

**1975. МАГІЛА БРАЙЦАВА** Якуба Рамանавіча (гіст.). На могілках.



1978. *Царква Іаана Прадцечы. План.*

Рускі празаік, драматург і паэт Я. Р. Брайцаў нарадзіўся 19.2.1861 г. у сялянскай сям'і. Скончыў Клімавіцкае павятовае вучылішча. З 1881 г. у Маскве, працаваў бухгалтарам. У 1901 г. вярнуўся ў родныя мясціны. За рэвалюцыйную дзейнасць у 1905 г. быў пад наглядам паліцыі. У 1917 г. сакратар Забялышынскага валвыканкома, павятовы пракурор, настаўнік. У 1920-я гады супрацоўнік «Крестьянской газеты» (Масква), у якой друкаваў вершы і нарысы. Член Усерасійскага саюза сялянскіх пісьменнікаў. Аўтар кнігі «Багацеі. Аповесць з беларускага простанароднага жыцця» (1889 г.). Рукапісы аповесцей «Няўдашачка Анюта» (1887 г.), «Старая вёска», «Юда» (1899 г.), камедыі «Бяда цыгана» (1905 г.), рамана «Сярод балот і лясоў» (1913—16 гг.), у якіх адлюстраваў несправядлівасць, галечу, беспрасветнасць жыцця пры паншчыне, захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР у Мінску. Памёр 2.3.1931 г.

У 1985 г. на магіле ўстаноўлены бюст пісьменніка. *Г. Ф. Раманаў.*



**1979.** *Ветраны млын.*



**1979.** *Ветраны млын. План.*

**1976. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 361 земляка, што загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1967 г. пастаўлены абеліск, на гранях якога імёны загінуўшых.

**1977. РАДЗІМА БРАЙЦАВА** Васіля Раманавіча (гіст.).

Савецкі вучоны-хірург, правадзейны член АМН СССР (1945 г.) В. Р. Брайцаў нарадзіўся 26.2.1878 г. у сялянскай сям'і. У 1906 г. скончыў медыцынскі факультэт Маскоўскага універсітэта. Член КПСС з 1943 г. У 1911—13 гг. земскі ўрач у Пінску. Займаўся навукова-практычнай і педагагічнай дзейнасцю (1914—36 гг.), быў загадчыкам кафедры клінічнай хірургіі інстытута ўдасканалення ўрачоў (1937—64 гг.) у Маскве. Асноўныя працы па пластыцы стрававода, хірургічным лячэнні хвароб прамой кішкі, лёгкіх, плеўры, жоўцевага пузыра. Аўтар кніг «Захворванні прамой кішкі» (1952 г.), «Прыроджаныя (дызантагенетычныя) утварэнні міжсцення і лёгкіх» (1960 г.). Памёр 6.7.1964 г. у Маскве. *Г. Ф. Раманаў.*

**1978. ЦАРКВА ІААНА ПРАДЦЕЧЫ** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1843 г. з дрэва.

Крыжова-купальны цэнтрычны будынак складаецца з 5 квадратных у плане зрубаў. Цэнтральны аб'ём завершаны самкнутым купалам на васьмігранным светлавым барабане. Галоўны ўваход арганізаваны праз бабінец, над якім спачатку быў чацвярык званіцы з паўсферычным завяршэннем. Апсіда і прыбудовы накрыты двухсхільнымі дахамі з трохвугольнымі франтонамі. На фоне плоскіх сцен вылучаюцца прамавугольныя аконныя праёмы, дэкарыраваныя ліштвамі і сандрыкамі. Гарызантальныя чляненні будынка падкрэслены прафіляванымі карнізамі. Па перыметры вертыкальна ашаляванага высокага цокаля праходзіць гарызантальная цяга. Унутраная прастора двухсветлавая, інтэр'ер пазбаўлены архітэктурнага дэкору.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму. *В. М. Ладзіс.*

**в. Зелянец, Чарняўскі сельсавет**

**1979. ВЕТРАНЫ МЛЫН** (архіт.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Шатровага тыпу. Каркасная канструкцыя з бярвёнаў у выглядзе васьміграннай усечанай піраміды, ашалявана дошкамі і пастаўлена на васьмерыковы зруб. Шацёр накрыты вальмавым дахам. Яго прарэзвае гарызантальная вось, на канцы якой умацаваны 4 крылы. Пры дапамозе «хобата» (доўгая тоўстая жэрдка) шацёр паварочваўся і фіксаваўся ў напрамку ветру. Вярчальны момант ад гарызантальнай восі перадаваўся да жорнаў праз сістэму зубчастых перадач і вертыкальную вось. Цяпер працуе на электраэнергіі.

Млын — прыклад народнага дойлідства. *В. М. Ладзіс.*



**1984.** *Помнік Вызвалення.*

**в. Ігнатаўка, Бярозкаўскі сельсавет**

**1980. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 30 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Канава, Бахаnoўскі сельсавет**

**1981. ПОМНІК МАРКСУ** Карлу (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса імя К. Маркса. Бюст К. Маркса ўстаноўлены ў 1971 г.

**в. Клін, Бярозкаўскі сельсавет**

**1982. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 62 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**в. Кляноўка, Чарняўскі сельсавет**

**1983. МАГІЛА УШКА** Міхаіла Фёдаравіча (гіст.). На могілках. Партызан атрада «За Савецкую Беларусь» 5-й Клятнянскай брыгады М. Ф. Ушка загінуў зімой 1942 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ліпаўка,**
**цэнтр Велікаліпаўскага сельсавета**

**1984. ПОМНІК ВЫЗВАЛЕННЯ** (гіст.). У скверы, каля будынка клуба. Пасля жорсткіх баёў воіны 108-й стралковай



1987. *Курганны могільнік. План.*




1988а. *Курганны могільнік-1. План.*

дывізіі і танкісты 233-га палка 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) Бранскага фронту фарсіравалі р. Іпуць, 24.9.1943 г. у 10 гадзін раніцы ўступілі на тэрыторыю Беларусі і вызвалілі вёску Ліпаўка. У гонар вызваліцеляў у 1967 г. пастаўлена стэла.

**1985. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 214 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Малуноўка, Хоцімскі пасялковы Савет**

**1986. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 38 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**в. Маркаўка, Трасцінскі сельсавет**

**1987. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі. Захавалася 19 насыпаў (18 у бярэзніку, за 30 м ад дарогі на г. п. Хоцімск, 1 па другі бок дарогі, сярод поля) вышынёй 1—2 м, дыяметрам ад 5 да 10—12 м. Вядомы з 1873 г., абследавалі ў 1974 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. Е. Собаль.*

**в. Трасціно, цэнтр сельсавета**

**1988. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**1988а.** Могільнік-1. Мясцовая назва Французскія Магілы. У цэнтры вёскі, побач з могілкамі, на левым беразе р. Беседзь. 34 насыпы вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 3—12 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся.

**1988б.** Могільнік-2. За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Мужычок, на месцы яе ўпадзення ў р. Беседзь. 3 насыпы вышынёй 0,5—1,5 м, дыяметрам 3—8 м. Адкрыў у 1974 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. В. Е. Собаль. Раскопкі не праводзіліся. *В. Е. Собаль.*

**1989. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне вёскі, з левага боку дарогі Родня — Хоцімск. На ўшанаванне памяці 361 жыхара вёсак Трасцінецкага сельсавета, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.



1989. *Помнік землякам.*

**в. Чарняўка, цэнтр сельсавета**

**1990. МАГІЛА МАРОЗАВА** Аляксея (гіст.). На могілках. Савецкі воін-разведчык А. Марозаў расстраляны нямецка-фашысцкімі захопнікамі ў 1942 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**1991. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 134 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1947 г. пастаўлены абеліск.

**в. Юзафоўка, Бяседавіцкі сельсавет**

**1992. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.) У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 25 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1970 г. пастаўлена стэла.




# ЧАВУСКІ РАЁН

Сласцёны
Хонькавічы
Будзіна
Пілешчына
Радамля
Дзедня
Цемравічы
Васькавічы
Жаліўе
Каменка
Лёўкаўшчына
Барышаўка
Бынава
Забалацце
Асінаўка
Пуцькі
Благавічы
Самулкі
Гарбавічы
ЧАВУСЫ
Вайнілы
Галачэва
Смолка
Антонаўка
Галавенчыцы
Петухоўка
Бясчынне
Вусце
Капані
Дрокаўка
Ваўкавічы
Кузьмінічы
Дужаўка
Доўгі Мох

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Культавая архітэктура

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07г.г., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

## XVIII. ЧАВУСЫ

Горад, цэнтр раёна. На правым беразе р. Бася, непадалёку ад яе ўпадзення ў р. Проня. За 41 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва, 5 км ад чыгуначнай станцыі Чавусы на лініі Магілёў — Крычаў. Вузел аўтамабільных дарог на Магілёў, Крычаў, Мсціслаў, Чэрыкаў.

У пісьмовых крыніцах вядомы з сярэдзіны 16 ст. як в. Чавусавічы Вялікага княства Літоўскага. З 1589 г. у складзе каралеўскага ўладання — Магілёўскай эканоміі. З 1604 г. горад, у 1634 г. атрымаў магдэбургскае права. У 1648 г. у Чавусах 176 дамоў. З 1653 г. дзейнічаў манастыр кармелітаў (да сярэдзіны 19 ст.). У руска-польскую вайну 1654—67 гг. у валоданні (1654—55 гг.) палкоўніка Беларускага палка К. Паклонскага, якому цар Аляксей Міхайлавіч падараваў Чавусы і 7 вёсак. З вясны 1656 г. тут была рэзідэнцыя казацкага палкоўніка І. Нячая, які да 1659 г. узначальваў Чавускі полк. Увосень 1660 г. Чавусы заняты польска-літоўскімі войскамі. У Паўночную вайну 1700—21 гг. разрабаваны (1708 г.) шведскім войскам. У 18 ст. паступова забудоўваліся. У пачатку 1770-х гадоў больш за 420 дамоў і каля 2530 жыхароў, з іх 10 % складалі рамеснікі. Тут была таможня.

Паводле 1-га падзелу Рэчы Паспалітай з 1772 г. Чавусы ў складзе Расійскай імперыі, цэнтр павета Магілёўскай (у 1796—1802 гг. Беларускай) губерні. У 1778 г. зацверджаны план забудовы горада. У 1781 г. Чавусы атрымалі герб з выявай накрыж пакладзеных на чырвоным шчыце шпагі і мяча, аб'яднаных лаўровым вянком у памяць слаўнай перамогі ў 1708 г. рускіх войск над шведамі пад Лясной. З 1789 г. працавала двухкласнае народнае вучылішча. У Айчынную вайну 1812 г. былі часова акупіраваны французскімі войскамі.

У 1825 г. у Чавусах каля 4 тыс. жыхароў, 569 дамоў (з іх 3 мураваныя), 5 цэркваў, 9 прадпрыемстваў, 30 крам і 40 піцейных дамоў; 2 разы на год адбываліся кірмашы, прыязджалі купцы з гарадоў Расіі і Прыбалтыкі. У 1870-я гады была забрукавана галоўная вуліца, адкрыты гарадскі парк, тэлеграфная станцыя. Паводле перапісу 1897 г. у Чавусах 4960 жыхароў, з іх 41,4 % пісьменных. Працавалі трохкласнае гарадское вучылішча (з 1901 г.), царкоўнапрыходская школа. У 1904 г. дзейнічалі 41 прамысловае (97 рабочых) і 41 рамеснае (239 рамеснікаў) прадпрыемствы, адбываліся 4 кірмашы на год, працавалі бальніца на 24 ложкі, друкарня, бібліятэка-чытальня.

Пасля перамогі Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі 1917 г. створаны павятовы рэва-



XVIII. *Адміністрацыйныя будынкі на плошчы.*



XVIII. *Куток парку.*



XVIII. *Забудова мікрараёна па вуліцы Лермантава*

люцыйны камітэт на чале з матросам В. С. Бульбай. З студзеня 1918 г. пачаў працаваць павятовы Савет рабочых і салдацкіх дэпутатаў. З 25.5. 1919 г. Чавусы ў складзе Гомельскай губерні РСФСР, з 1922 г.— цэнтр воласці Магілёўскага павета. У 1924 г. горад увайшоў у склад БССР, стаў цэнтрам раёна. У 1926 г.— 6 тыс. жыхароў. На 1932 г. працавалі прадпрыемствы цагельна-ганчарнае (37 рабочых) і швейнае (31 рабочы), паблізу Чавусаў — торфараспрацоўкі (75 рабочых).

У Вялікую Айчынную вайну з 16.7. 1941 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (25.6—1.10.1943 г.) і ЛКСМБ (1.6—1.10.1943 г.), 14-я Цемналеская, 17-я брыгады і іншыя партызанскія фарміраванні. Чавусы вызвалены 25.6. 1944 г. 330-й стралковай дывізіяй 49-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) пры ўзаемадзеянні з 385-й стралковай дывізіяй 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) 2-га Беларускага фронту.

Сучасная забудова горада вядзецца паводле генпланаў 1957 г. (Беларускі навукова-даследчы і праектны інстытут па будаўніцтву ў вёсцы) і 1976 г. (Беларускі дзяржаўны навукова-даследчы і праектны інстытут горадабудаўніцтва). Горад мае квартальную планіроўку. Цэнтральная восевая магістраль — вул. Ленінская, якая праходзіць з захаду на ўсход ад аўтобуснай станцыі да ракі. Кампазіцыйным цэнтрам планіровачнай структуры з'яўляецца плошча, што раскрываецца на вул. Ленінскую і ў бок гарадскога парку. На плошчы, а таксама на вуліцах Ленінскай, Савецкай і Піянерскай склаўся грамадскі цэнтр. Тут размешчаны будынкі райкома КПБ, Дома Саветаў і інш. адміністрацыйных, культурна-асветных і гандлёвых устаноў. Мікрараён на вул. Лермантава і раён каля аўтастанцыі забудаваны 3—5-павярховымі жылымі дамамі. Большасць прадпрыемстваў знаходзіцца ў прамысловай зоне. Працуюць агароднінасушыльны завод, масласырзавод, хлебазавод, ільнозавод, завод жалезабетонных вырабаў, камбінаты харчовы, будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. У горадзе 2 сярэднія, вячэрняя, васьмігадовая, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, школа-інтэрнат, 5 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, 2 клубы, 2 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Іскра». Помнікі: У. І. Леніну; на магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу, якія загінулі ў 1920 г.; на брацкіх магілах савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

Зона адпачынку — парк, 2 скверы, берагі р. Бася, прылеглыя лясныя масівы.

*Літ.:* Дембовецкий А. С. Опыт описания Могилевской губернии. Кн. 2.— Могилев, 1884; Белоруссия в эпоху феодализма. Т. 2.— Мн., 1960; Богданович А. В., Сидоров П. А. Города Белоруссии.— Мн., 1967.

*У. В. Алісейчык, А. П. Грыцкевіч.*

**1993. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У парку. Пахаваны 4 воіны, што загінулі ў 1941 г., і 20 воінаў, у т. л. з 330-й і 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні горада і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле ўстаноўлены пліты, побач — стэла з барэльефам 5 воінаў і скульптура жанчыны ў жалобе.

**1994. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ, ПАРТЫЗАН І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Вул. Ленінская. Пахаваны 98 воінаў і 40 партызан, члены іх сем'яў і савецкія патрыёты, якіх загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі ў 1941—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 290-й і 369-й стралковых дывізій 49-й арміі, 385-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, што загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне Чавусаў і раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама чырвонаармеец, які загінуў у 1941 г. У 1975 г. на магіле пастаўлены



1993. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў. Фрагмент.*



1994. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў, партызан і ахвяр фашызму.*

помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя і 2 пілоны.

**1995. МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). У гарадскім парку. Пахаваны 6 членаў Чавускага раўкома, якія загінулі ў 1920 г. ад рук ворагаў Савецкай улады. У 1970 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**1996. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА МАНЕВІЧУ** Льву Яфімавічу (гіст.). Вул. Маневіча, 23. Устаноўлена ў 1972 г.

Савецкі ваенны разведчык, палкоўнік, Герой Савецкага Саюза Л. Я. Маневіч нарадзіўся 20.8.1898 г. у Чавусах у сям'і служачага. Член КПСС з 1918 г. У 1906 г. паехаў да брата ў Швейцарыю, вучыўся ў політэхнічным каледжы. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. вярнуўся на радзіму. У 1917 г. прызваны ў армію, з красавіка 1918 г. у Чырвонай Арміі. У Грамадзянскую вайну камісар бранепоезда, камандзір атрада асобага прызначэння, прымаў удзел у барацьбе з ворагамі Савецкай улады ў Азербайджане, у разгроме Калчака і кулацкіх бандаў. Скончыў Вышэйшую школу штабной службы камсаставу РСЧА у 1921 г., Ваенную акадэмію РСЧА у 1924 г., курсы пры Ваенна-паветранай акадэміі імя М. Я. Жукоўскага. Служыў у Разведупраўленні РСЧА. З сярэдзіны 1920-х гадоў перыядычна працаваў за мяжой, дзе выявіліся яго выдатныя якасці разведчыка (псеўданімы Эцьен, Конрад Кертнер). 12.12.1936 г. арыштаваны італьянскімі фашыстамі. Асобы трыбунал прыгаварыў яго да 12 гадоў зняволення, якое адбываў у турмах. У 1943 г. перададзены гітлераўцам, утрымліваўся ў канцлагерах Маўтхаўзен, Мелькі і Эбензе. У апошнім быў пад імем свайго сябра палкоўніка Я. М. Старасціна, які загінуў у лагеры. Стварыў і ўзначаліў падпольную арганізацыю. Вызвалены амерыканскімі войскамі 6.5.1945 г. Цяжка хворы на сухоты, Л. Я. Маневіч памёр 9.5.1945 г., пахаваны ў г. Мінц (Аўстрыя). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 20.2.1965 г. У Чавусах яго імем названа вуліца.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Воробьев Е. З. Земля, до востребования.— М., 1974; яго ж. Эцьен і яго цень.— Мн., 1976.
*М. Б. Батвіннік.*

**1997. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РУДАКОВУ** Івану Гаўрылавічу **І БАРЫСАВУ** Івану Міхайлавічу (гіст.). Вул. Ленінская, 3. Устаноўлена ў 1968 г. на будынку раённага аддзела ўнутраных спраў на ўшанаванне памяці старшага лейтэнанта міліцыі І. Г. Рудакова і лейтэнанта міліцыі І. М. Барысава, якія загінулі 7.5. 1945 г. пры выкананні службовых абавязкаў.

**1998. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР САВЕЦКІХ ВОІНАЎ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯЎ** (гіст.). Вул. Ленінская, 29, на Доме Саветаў. Устаноўлена ў 1984 г. у гонар воінаў 330-й стралковай дывізіі 49-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) і 385-й стралковай дывізіі 50-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. В. Болдзін) 2-га Беларускага фронту, якія 25.6.1944 г. вызвалілі г. Чавусы ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*Літ.:* Освобождение Белоруссии. 1944.— 2 изд.— М., 1974.



2000. *Помнік У. І. Леніну.*

**1999. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. На ўшанаванне памяці 450 савецкіх грамадзян, якіх 9.10.1941 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**2000. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На плошчы, перад Домам Саветаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1982 г.

**2001. РАДЗІМА КАШАВАРАВАЙ-РУДНЕВАЙ** Варвары Аляксандраўны (гіст.).

Рускі вучоны, акушэр-гінеколаг, першая ў Расіі жанчына, якая атрымала званне ўрача і вучоную ступень доктара медыцыны, В. А. Кашаварава-Руднева (Нафанава) нарадзілася ў 1842 г. у беднай сям'і. У 1862 г. скончыла Інстытут павітух пры Пецярбургскім выхаваўчым доме. Пры садзеянні С. П. Боткіна, І. М. Сечанава, В. М. Тарноўскага ў 1863 г. дамаглася дазволу ваеннага міністра аб залічэнні ў Медыка-хірургічную акадэмію і ў снежні 1868 г. атрымала званне «лекара з адзнакай» і залаты медаль. У 1876 г. абараніла доктарскую дысертацыю, але не была дапушчана да педагагічнай і навуковай дзейнасці. Працавала ўрачом ў клініцы С. П. Боткіна. Займалася медыцынскай практыкай у Пецярбургу, Жалезнаводску (з 1868 г.), у Варонежскай губерні (з 1878 г.), потым зноў у Пецярбургу. У 1891 г. пераехала ў г. Старая Руса. Удзельніца руху за раскрепаванне жанчын ў Расіі. Асноўныя працы: «Да вучэння аб плацэнтарных паліпах» (1873 г.), «Гігіена жаночага арганізма ва ўсіх фазісах жыцця» (2 выд., 1892 г.). Напісала аўтабіяграфічную аповесць «Піянерка» (1886 г.).

В. А. Кашаварава-Руднева памерла 29.4.1899 г.

*Літ.:* Заблудовская Е. Д., В. А. Кашеварова-Руднева: (К истории высшего женского медицинского образования в России).— М., 1965; Дионесов С. М., В. А. Кашеварова-Руднева — первая русская женщина — доктор медицины.— М., 1965.
*А. П. Грыцкевіч.*

**2002. РАДЗІМА ЛЯВОННАГА** Юркі (гіст.).

Беларускі савецкі паэт Ю. Лявонны (літаратурны псеўданім Юркевіча Леаніда Мікалаевіча) нарадзіўся 16.7.1908 г. у сям'і служачага. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут у 1934 г. Працаваў у рэдакцыях газет «Магілёўскі селянін», «Звязда», часопіса «Работніца і калгасніца Беларусі». Друкаваўся з 1925 г. Выйшлі зборнікі паэзіі «Камсамольскія вершы», «Штурм» (1930 г.), «Жалезныя віхуры», «Разбег» (1931 г.), «Стала і мужна» (1932 г.), «Выбранае» (1960 г.). Яго творчасць была прысвечана дасягненням сацыялістычнага будаўніцтва, дружбе народаў. У вершах паэта гучалі матывы лірычнага настрою, маладосці і кахання. Ім уласцівы ўзнёсласць і агітацыйна-публіцыстычная скіраванасць. Як празаік выдаў зборнік нарысаў «Крок пяцігодкі» (1931 г.). Памёр 13.12.1943 г.
*В. Л. Бечык.*

**2003. РАДЗІМА МАРГУНСКАГА** Сцяпана Парфёнавіча (гіст.).

Беларускі савецкі правазнавец, член-карэспандэнт АН БССР (1953 г.), доктар юрыдычных навук (1970 г.), прафесар (1972 г.) С. П. Маргунскі нарадзіўся 24.12.1911 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1932 г. Скончыў Акадэмію грамадскіх навук пры ЦК ВКП(б) у 1951 г. У 1938 г. быў старшынёй Чавускага гарвыканкома. З 1938 г. у Чырвонай Арміі. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. Пасля ранення ў 1943 г. прызначаны намеснікам начальніка ўпраўлення кадраў Цэнтральнага штаба партызанскага руху. З 1945 г. загадчык сектара, потым аддзела Упраўлення кадраў ЦК КП(б)Б. З 1951 г. галоўны вучоны сакратар Прэзідыума АН БССР, з 1956 г. загадчык сектара тэорыі і гісторыі дзяржавы і права Інстытута філасофіі і права АН БССР. Даследа-

ваў праблемы тэорыі і гісторыі станаўлення і развіцця беларускай савецкай сацыялістычнай дзяржаўнасці, суадносіны нацыянальнага і інтэрнацыянальнага ў дзяржаўным будаўніцтве БССР. С. П. Маргунскі кіраўнік выдання, адзін з аўтараў і рэдактараў двухтомнай «Гісторыі дзяржавы і права Беларускай ССР» (1970—76 гг.), аўтар кніг «Дзяржаўнае будаўніцтва Беларускай ССР на першым этапе яе развіцця» (1953 г.), «Стварэнне і ўмацаванне беларускай дзяржаўнасці. 1917—1922» (1958 г.), «Дзяржаўнае будаўніцтва БССР у гады аднаўлення народнай гаспадаркі (1921—1925)» (1966 г.) і інш. Памёр С. П. Маргунскі 26.12.1978 г. Пахаваны на Усходніх могілках у Мінску.

*Літ.:* Акадэмія навук Беларускай ССР.— Мн., 1979. *М. Б. Батвіннік.*

**2004. СТАЯНКА, СЕЛІШЧЫ, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2004а.** Стаянка. За 1 км на паўднёвы ўсход ад горада, на правым беразе р. Бася, на першай надпоймавай тэрасе, на полі. Культурны пласт не выяўлены, межы помніка не ўстаноўлены. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Сабраны рэшткі неалітычнага посуду. Раскопкі не праводзіліся.

**2004б.** Селішча-1. На месцы стаянкі. Культурны пласт не захаваўся. Выявіў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Сабрана ляпная кераміка з расчосамі ранняга жалезнага веку і ганчарная эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся.

**2004в.** Селішча-2. За 2,1 км на паўднёвы ўсход ад горада, на левым беразе р. Бася, на выгане. Плошча каля 2,5 га. Адкрыў у 1976 г., даследаваў у 1976—81 гг. на плошчы 1016 м² Я. Р. Рыер. Культурны пласт 0,2—1 м. Знойдзены рэшткі печы-каменкі, вялікая колькасць ганчарнай керамікі, каменныя і жалезныя прылады працы і побыту, а таксама бронзавыя і шкляныя ўпрыгожанні. Адносіцца да 10—16 стагоддзяў.

**2004г.** Курганны могільнік-1. За 0,1 км на паўднёвы ўсход ад селішча-2, на краі поля. 2 насыпы вышынёй 1 і 1,5 м, дыяметрамі 5 і 12 м. Вядомы з 1930 г. пасля абследавання В. А. Краўцова. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. У 1930 г. у разбураных курганах сабраны ганчарныя пасудзіны і значная колькасць шкляных і бронзавых упрыгожанняў. Датуецца 9—12 стагоддзямі. Належаў радзімічам. Раскопкі не праводзіліся.



**2004д.** *Курганны могільнік-2. План.*

**2004д.** Курганны могільнік-2. За 0,1 км на поўнач ад селішча-2. 89 насыпаў вышынёй 1—2,7 м, дыяметрам 5—12 м. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, даследавалі ў 1972, 1976, 1977—80 гг. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Пахавальны абрад — трупапалажэнне ў насыпе і ў ямах. Знойдзены гаршкі, жалезныя прылады працы, скроневыя кольцы, пацеркі, падвескі, пярсцёнкі. Адносіцца да канца 10—12 ст. Належаў радзімічам.

Матэрыялы даследавання і абследавання стаянкі, селішчаў і могільнікаў захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні — Ухлясці ў был. Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Риер Я. Г. Феодальное поселение X—XVI вв. у г. Чаусы в Могилевском Поднепровье.— У кн.: Вопросы истории. Мн., 1981, в. 8; Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.

*Л. У. Калядзінскі, Я. Р. Рыер.*

**в. Антонаўка, цэнтр сельсавета**

**2005. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 1148 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**2006. МАГІЛА ТРАЦЦЯКА** Міхаіла Майсеевіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Савецкі воін М. М. Траццяк загінуў у 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле ўстаноўлена пліта.

**в. Асінаўка, Пуцькаўскі сельсавет**

**2007. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 492 воіны 49, 212, 290, 324, 369-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка, побач — стэла.

**в. Астравы, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2008. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў, сярод іх — воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2009. МАГІЛА САЛАГУБАВАЙ** Анастасіі Дзмітрыеўны (гіст.). На могілках. Медыцынская сястра А. Дз. Салагубава загінула ў Вялікую Айчынную вайну. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2007.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Астрэні, Вайнілаўскі сельсавет**

**2010. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.)., На могілках. Пахаваны 3 воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Атражжа, Благавіцкі сельсавет**

**2011. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны (прозвішчы не ўстаноўлены), якія загінулі ў 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Благавічы, цэнтр сельсавета**

**2012. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ДЗЯМІДАВА** Івана Іванавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў 369-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, а таксама партызан палка «Трынаццаць» І. І. Дзямідаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2013. ЦАРКВА** (архіт.). На ўсходняй ускраіне вёскі. Пабудавана ў 2-й палове 19 ст. з цэглы. Перабудавана ў сярэдзіне 1960-х гадоў. Цяпер тут клуб. Будынак крыжападобнай кампазіцыі, якая ўтворана роўнымі па вышыні бабінцам, бакавымі прыбудовамі і паўкруглай алтарнай апсідай,

накрытымі пакатымі двухсхільнымі дахамі (над апсідай — конусападобны). Па восі ўвахода да бабінца прыбудаваны невялікі прытвор, які раней, верагодна, быў завершаны шатровай званіцай. Паміж рамёнамі трансепта і апсідай убудаваны невялікія паўкруглыя ў плане рызніцы, якія надаюць структуры будынка трохапсіднасць. З боку бабінца каля трансепта зроблены дадатковыя ўваходныя тамбуры, размешчаныя пад вуглом да асноўных восей будынка. Яны аформлены арачнымі парталамі з трохвугольнымі франтонамі. Над сяродкрыжжам узвышаецца вялікі васьмігранны барабан на чацверыку, накрыты пакатым шатром. Сцены атынкаваны, завершаны прафіляванымі карнізамі. Вокны на тарцах трансепта прамавугольныя з трохвугольнымі сандрыкамі, у астатніх аб'ёмах — з паўцыркульнымі арачнымі завяршэннямі, аздоблены ліштвамі ў выглядзе арак. Вуглы апрацаваны рустам і паўкалонкамі. Першапачатковы інтэр'ер пры перабудове зменены.

Будынак царквы — помнік эклектычнай архітэктуры з рысамі позняга класіцызму і псеўдарускага стылю.
*Т. В. Габрусь.*

**чыгуначны раз'езд Благавічы, Благавіцкі сельсавет**

**2014. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 0,2 км на поўнач ад чыгуначнага раз'езда. Воін загінуў у 1941 г. у час налёту нямецка-фашысцкай авіяцыі. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2015. МАГІЛА САМСОНАВА** Пятра Фёдаравіча (гіст.). Каля чыгуначнага раз'езда. Савецкі воін П. Ф. Самсонаў загінуў 26.6.1944 г. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Будзіна, Жаліўскі сельсавет**

**2016. МЕСЦА ПРАРЫВУ САВЕЦКІМІ ВОЙСКАМІ АБАРОНЫ ПРАЦІЎНІКА Ў 1944 г.** (гіст.). 23 чэрвеня войскі 49-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант І. Ц. Грышын) 2-га Беларускага фронту ў ходзе аперацыі «Баграціён» прарвалі ўмацаваную абарону нямецка-фашысцкіх войск на р. Проня і пачалі наступленне на Магілёўскім напрамку. У 1972 г. у памяць аб прарыве варожай абароны пастаўлена стэла.

**в. Бынава, Пуцькаўскі сельсавет**

**2017. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у лесе.

Пахаваны 1582 савецкія воіны 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на р. Проня. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Дзмітрый Барысавіч Маматаў.




2017. *Помнік на вайсковых могілках.*

Дз. Б. Маматаў нарадзіўся 7.3. 1923 г. у с. Вастрацова Чырвонаармейскага р-на Прыморскага краю ў сялянскай сям'і. Працаваў малатабойцам, потым золатаздабывальнікам. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1942 г. Камандзір кулямётнага разліку сяржант Дз. Б. Маматаў вызначыўся пры вызваленні Чавускага р-на 21.12.1943 г. Са сваім кулямётным разлікам пры пашырэнні плацдарма на правым беразе р. Проня знішчыў некалькі кулямётных кропак праціўніка, удзельнічаў у адбіцці 10 контратак ворага. Двойчы паранены, не пакінуў поля бою. Пасля гібелі кулямётнага разліку працягваў змагацца адзін. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.7.1944 г. У с. Вастрацова імем героя названа вуліца, яго імя прысвоена сярэдняй школе.

У 1968 г. на ўшанаванне памяці савецкіх воінаў на могілках пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя, а таксама пліты з мармуровымі дошкамі, на якіх выбіты прозвішчы загінуўшых.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984; Партийная организация Приморья в период Великой Отечественной войны 1941—1945 гг. Т. 2.— Владивосток, 1966. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Вайнілы, цэнтр сельсавета**

**2018. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2019. МАГІЛА ПАПКОВА** Васіля Максімавіча (гіст.). На могілках.

Юны разведчык партызан В. М. Папкоў нарадзіўся ў 1928 г. у в. Віравая Слаўгарадскага р-на Магілёўскай вобл. У Вялікую Айчынную вайну партызан палка «Трынаццаць». Вяртаючыся ў жніўні 1943 г. пасля паспяховага выканання баявога задання па знішчэнню чыгуначнага моста на перагоне Рэста — Чавусы, партызаны натрапілі на варожую засаду. Цяжкапараненага В. М. Папкова схапілі гітлераўцы і закатавалі.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск. *М. Б. Батвіннік.*

**2020. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 105 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1976 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны.

**в. Васькавічы, Цемравіцкі сельсавет**

**2021. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 92 воіны, сярод іх — воіны 64-й і 199-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна і стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Ваўкавічы, цэнтр сельсавета**

**2022. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 партызаны палка «Трынаццаць», якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2023. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2024. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воін Чырвонай Арміі, што загінуў у баі з гітлераўцамі ў 1941 г., і воін 110-й стралковай дывізіі, які загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2025. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Іскра». На ўшанаванне памяці 177 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя (2 воіны), выява лаўровага вянка і 3 пліты з імёнамі загінуўшых і памятным надпісам.



2025. *Помнік землякам.*

**в. Вілейка, Чавускі гарадскі Савет**

**2026. МАГІЛА КАРАСЁВА** Івана Рамапавіча (гіст.). На могілках.

Герой Савецкага Саюза І. Р. Карасёў нарадзіўся 2.5.1922 г. у в. Вілейка ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў ваеннае вучылішча сувязі ў 1946 г. Да Айчыннай вайны працаваў у калгасе брыгадзірам паляводчай брыгады, на будаўніцтве. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. на Паўночна-Заходнім, Сцяпным, 1-м і 2-м Украінскіх франтах, удзельнічаў у Курскай бітве, Корсунь-Шаўчэнкаўскай аперацыі, у вызваленні гарадоў Сумы, Харкаў, Житомір, Малдавіі, Румыніі, Венгрыі. Камандзір аддзялення сувязі І. Р. Карасёў вызначыўся 2.10.1943 г. пры фарсіраванні Дняпра на поўдзень ад Кіева. Аддзяленне сувязі на чале з малодшым сяржантам І. Р. Карасёвым пераправілася на правы бераг ракі і пад моцным агнём праціўніка забяспечыла сувязь дэсанта з камандным пунктам палка. За двое сутак баёў ліквідаваў 27 абрываў тэлефоннага кабелю. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 29.10.1943 г. Пасля вайны служыў у Савецкай Арміі, потым жыў у г. Ліда. Памёр 7.11.1955 г. Імем І. Р. Карасёва названа вуліца ў г. Чавусы.

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**2027. РАДЗІМА АЗАРАВА** Сямёна Іванавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза С. І. Азараў нарадзіўся 31.1.1909 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1937 г. У Чырвонай Арміі з 1928 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну камандзір 290-га стралковага палка 186-й стралковай дывізіі падпалкоўнік С. І. Азараў вызначыўся ў баях пад Ленінградам і ў Карэліі. Зімой і вясной 1942 г. на Масельгскім і Кесцяньгаўскім напрамках полк пад яго камандаваннем вёў жорсткія баі, утрымліваў стратэгічна важныя пазіцыі. С. І. Азараў загінуў 8.5.1942 г. пры адбіцці контратакі праціўніка на дарозе Акунёва Губа — Кесценьга (Карэльская АССР). Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.2. 1943 г. Імем С. І. Азарава названа вуліца ў Чавусах.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Вусце, Антонаўскі сельсавет**

**2028. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўрочышчы Вусцяншчына. Пахаваны 200 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2029. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўрочышчы Вусцяншчына. Пахаваны 103 воіны 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2030. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2031. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2032. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Высокае, Антонаўскі сельсавет**

**2033. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 565 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2034. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Царскія вароты. За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Проня. Раней тут быў мыс, утвораны 2 глыбокімі ярамі, якія нібы адсякалі частку высокага (12—15 м) берага ракі. Пляцоўка плошчай 75 м² выцягнута і нахілена па стрэлцы мыса. Па яе краі праходзіць траншэя ваеннага часу. Прыродныя ўмацаванні — стромкія схілы 30—40°. Паўночна-ўсходні схіл абмежаваны поймай р. Проня, паўночна-заходні і ўсходні пераходзяць у яры глыбінёй 8—10 м. На паўднёва-заходняй ускраіне пляцоўкі з боку поля знаходзіцца вал вышынёй 2 м, шырынёй 20 м, даўжынёй да 30 м пры шырыні перамычкі мыса 75 м. Выявіў і абследаваў у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт да 0,6 м. На разаранай частцы пляцоўкі відаць плямы цёмна-шэрага і чорнага колеру, дзе трапляецца вялікая колькасць абпаленай гліны і керамікі, магчыма, гэта сляды жытлаў. Знойдзены 27 фрагментаў ганчарнага посуду (3 венчыкі, 3 бакоўкі з арнаментам, астатнія гладкасценныя). Арнамент — хвалісты рэльеф, часты дробны і рэдкі шырокі. Гарадзішча адносіцца да раннефеадальнага перыяду, датуецца 10—11 стагоддзямі. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *Л. У. Калядзінскі.*

**2035. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,2 км на паўночны ўсход ад вёскі, на правым беразе р. Проня. Пляцоўка авальная, памерам 26×22 м, вышыня над поймай ракі 9—11 м. З паўднёвага боку ўмацавана валам вышынёй 6 м і ровам глыбінёй 8 м. На паўночным захадзе і поўначы пляцоўка абмежавана ярам, на ўсходзе — старым рэчышчам ракі. Адкрыў у 1930 г. В. Р. Тарасенка, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Культурны пласт да 0,55 м. Сабраны рэшткі жорнаў, грубаляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і пачатку 2-га тысячагоддзя. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Тарасенка В. Р. Археалагічная праца на Магілёўшчыне ў 1930 г.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932. т. 3; Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *Л. У. Калядзінскі, Я. Р. Рыер.*

**в. Вялікія Бардзінічы, Чавускі гарадскі Савет**

**2036. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Бася, у хваёвым лесе. 25 насыпаў вышынёй 0,7—2,3 м, дыяметрам 6—16 м. Выявілі і абследавалі ў 1982 г. В. Ф. Капыцін, В. Я. Мядзведскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Медведский В. Е. Новые памятники в бассейне р. Баси.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

в. Галавенчыцы, Антонаўскі сельсавет

**2037. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 97 воінаў. Сярод іх — воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам, побач вынава лаўровага вянка.

в. Галачэва, Антонаўскі сельсавет

**2038. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 139 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна і пліта, на якой 3 дошкі з імёнамі загінуўшых.

в. Гарбавічы, цэнтр сельсавета

**2039. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 11 воінаў 139-й стралковай дывізіі, а таксама лётчык 49-га знішчальнага авіяпалка, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2040. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2040а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. Пляцоўка авальная, памерам 22×12 м, вышынёй 9 м. З паўднёва-ўсходняга боку ўмацавана валам вышынёй да 4 м. З паўднёвага і паўднёва-ўсходняга бакоў каля падножжа прасочаны другі вал вышынёй 1—2 м. На паўночным захадзе і поўначы — забалочаны бераг ракі. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**2040б.** Курганны могільнік. За 3 км на захад ад вёскі, каля левага берага р. Раста, на 17-м км шашы Чавусы — Магілёў. 3 насыпы вышынёй 2—2,3 м, дыяметрам 15—18 м. Адкрыла і даследавала ў 1965 г. Т. Д. Елісеева, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскапана 8 насыпаў. Пахавальны абрад — трупаспаленне ў насыпе і на гарызонце. У курганах з трупаспаленнямі ў насыпе былі ўпрыгожанні са шкла і бронзы, жалезныя прадметы, гаршкі. Належаў радзімічам, адносіцца да 9—11 стагоддзяў.

Матэрыялы даследавання могільніка захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Я. Р. Рыер.*

**2041. МАГІЛА ЗАЛАТАРОВАЙ** Ніны Аляксандраўны (гіст.). На могілках. Лётчыца 325-й начной бамбардзіровачнай авіяцыйнай дывізіі Н. А. Залатарова загінула ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.



2038. *Помнік землякам.*

**2042. МАГІЛА ПАЛІКАРПАВА** Леаніда Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Лётчык 49-га знішчальнага авіяпалка старшы лейтэнант Л. М. Палікарпаў загінуў у 1944 г. у паветраным баі пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2040а. *Гарадзішча. План.*

в. Гіраўцы, Жаліўскі сельсавет

**2043. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў. Сярод іх — салдаты і афіцэры 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2044. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны лейтэнант Чырвонай Арміі Н. Ф. Вакуленка, яго жонка і невядомая жанчына, якіх у 1944 г. загубілі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

в. Гладкава, Гарбавіцкі сельсавет

**2045. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 28 воінаў. Сярод іх — воіны 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

в. Глінішча, Благавіцкі сельсавет

**2046. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). У вёсцы, на правым беразе р. Бася. 10 насыпаў вышынёй 1,8—5,5 м, дыяметрам 7—12 м. Вядомы з 1873 г., абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**2047. СТАЯНКА, КУРГАН** (археал.).

**2047а.** Стаянка. За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася. Памер 30×110 м. Выявіў і даследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце 0,2 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, канцавыя скрабкі, пласціны са скошаным рэтушшу краем, адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**2047б.** Курган. За 1 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Бася. Вышыня 1,8 м, дыяметр 10 м. Выявілі і абследавалі В. Ф. Капыцін і В. Я. Мядзведскі.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984; Медведский В. Е. Новые памятники в бассейне р. Баси.— Там жа. *В. Ф. Капыцін.*

в. Грабалава, Пуцькаўскі сельсавет

**2048. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на паўночны ўсход

ад вёскі, на правым беразе р. Волчас, на полі. 9 насыпаў вышынёй 1,7—3,6 м, дыяметрам 7—14 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Гразівец, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2049. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 200 воінаў. Сярод іх — воіны 330, 380, 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2050. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 176 воінаў. Сярод іх — воіны 330, 380, 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2051. РАДЗІМА НАСОВІЧА** Івана Іванавіча (гіст.).

Беларускі мовазнавец, фальклярыст, этнограф і лексікограф І. І. Насовіч нарадзіўся 20.9.1788 г. у сям'і дзяка. Скончыў гімназію і ў 1812 г. духоўную семінарыю ў Магілёве. З 1814 г. працаваў настаўнікам, інспектарам Аршанскага, настаўнікам, рэктарам Мсціслаўскага духоўных вучылішчаў. З 1822 г. на службе ў сістэме Міністэрства народнай асветы: загадчык, наглядчык, выкладчык Дынабургскай гімназіі, Маладзечанскага, Свянцянскага дваранскіх вучылішчаў. З 1843 г. у адстаўцы, жыў у Мсціславе, дзе пачаў збіраць матэрыялы па беларускай этнаграфіі і мове, а таксама для беларускага слоўніка. У 1864 г. пераехаў у Пецярбург, да 1870 г. працаваў у архіве Публічнай бібліятэкі. З 1865 г. член-супрацоўнік Аддзялення этнаграфіі Рускага геаграфічнага таварыства, супрацоўнічаў таксама з Аддзяленнем рускай мовы і славеснасці Пецярбургскай АН. Склаў першы гістарычны слоўнік беларускай мовы «Алфавітны паказальнік старых слоў, выбраных з Актаў, што адносяцца да гісторыі Заходняй Расіі» (1853 г., каля 13 тыс. слоў, Увараўская прэмія 1865 г., захоўваецца ў бібліятэцы АН СССР у Ленінградзе). Асноўная навуковая праца — тлумачальна-перакладны «Слоўнік беларускай мовы» (выдадзены ў 1870 г., Дзямідаўская прэмія 1865 г., факсімільнае выданне 1983 г.). У ім больш за 30 тыс. слоў, запісаных аўтарам у Магілёўскай, Мінскай і Гродзенскай губернях, а таксама падабраных з вуснай народнай творчасці, старабеларускіх пісьмовых помнікаў; усе значэнні слоў і словазлучэнняў раскрываюцца аўтарскімі тлумачэннямі з дакладнымі рускімі эквівалентамі і цытатамі з дыялектнай, фальклорнай ці агульналітаратурнай мовы, часам даецца этымалогія слоў. У 1881 г. выдадзены «Дадатак да беларускага слоўніка» (каля 1 тыс. новых слоў). Да нашых дзён слоўнік застаецца унікальным здабыткам беларускай лексікаграфіі. Значнае месца ў навуковай спадчыне І. І. Насовіча займаюць фальклорна-этнаграфічныя працы: «Зборнік беларускіх прыказак» (1867 г., 3500 прыказак, прымавак, прыгаворак і інш., залаты медаль Рускага геаграфічнага таварыства), «Беларускія прыказкі і загадкі» (1868 г.), «Беларускія песні» (1873 г., больш за 350 тэкстаў), рукапіс зборніка легенд, паданняў, былін, баек (не выяўлены). Аўтар гістарычнага нарыса «Аб плямёнах да часоў Рурыка, што засялялі беларускую тэрыторыю» (застаўся ў рукапісе, захоўваецца ў Архіве бібліятэкі АН СССР у Ленінградзе), «Успамінаў майго жыцця» (рукапіс захоўваецца ў Інстытуце мовазнаўства імя Я. Коласа АН БССР).

І. І. Насовіч памёр 25.7.1877 г. Яго працы — велізарны ўклад у нацыянальную культуру беларусаў, яны не страцілі сваёй актуальнасці і навуковай каштоўнасці да цяперашняга часу.

*Літ.:* Бандарчык В. К. Гісторыя беларускай этнаграфіі XIX ст.— Мн., 1964; Шейн П. Носович И. И.: (Краткий биографический очерк).— Известия Отделения русского языка и словесности имп. Академии наук, 1900, т. 5, кн. 3; Цішчанка І. Першапраходзец.— Полымя, 1983, № 10. *В. К. Бандарчык.*

**2052. СТАЯНКА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2052а.** Стаянка. За 1,3 км на поўнач ад вёскі, на правым беразе р. Раста. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. На паверхні сабраны неалітычная кераміка і крамянёвыя пласціны. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**2052б.** Курганны могільнік. За 0,2 км на поўнач ад стаянкі, на правым беразе р. Раста. 10 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 6—9 м. Адкрыў і даследаваў у 1905 г. Е. Р. Раманаў (3 курганы), даследаваў у 1930 г. І. А. Сербаў (1 насып), абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Пахавальныя абрады раскапаных у 1905 г. і 1930 г. курганоў — трупаспаленне і трупапалажэнне ў насыпе, на гарызонце і ў яме (у труне). Сярод знаходак — рэшткі ганчарнага посуду. Могільнік адносіцца да 10—13 стагоддзяў, належаў радзімічам. Матэрыялы раскопак 1930 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Романов Е. Р. Археологические разведки в Могилевской губернии.— Вильна, [1912]; Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні — Ухлясці ў был. Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3. *Я. Р. Рыер.*

**в. Дзедня, Жаліўскі сельсавет**

**2053. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНКІ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 48 воінаў і партызанка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — воіны 64, 238, 330-й стралковых дывізій. У 1964 г. на магіле пастаўлены абеліск, перад ім пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Доўгі Мох, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2054. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 158 воінаў 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**2055. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І КОПАТАВА** Аляксея Трафімавіча (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 378 воінаў 19-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і партызан палка «Трынаццаць», член КПСС з 1917 г. А. Т. Копатаў, што загінуў 3.12.1943 г. у баі з гітлераў-



2048. *Курганны могільнік. План.*




2052б. *Курганны могільнік. План.*



2053. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызанкі.*

цамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Дужаўка, цэнтр сельсавета**

**2056. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 891 воін 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2057. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 670 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2058. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля школы. Пахаваны 125 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў баях за вызваленне вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2059. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 123 воіны 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе.

**2060. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На паўночнай ускраіне вёскі, на правым беразе р. Проня, у бярэзніку. 3 насыпы вышынёй 1,5—4 м, дыяметрам 10—12 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1930 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Жаліўе, цэнтр сельсавета**

**2061. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 121 воін. Сярод іх — воіны 290-й і 330-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна са схіленым сцягам.

**в. Загоранка, Антонаўскі сельсавет**

**2062. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 651 воін 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Заложжа, Жаліўскі сельсавет**

**2063. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 117 воінаў 32, 95, 290-й стралковых дывізій, якія загінулі 23—24.6. 1944 г. у баях за вызваленне Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2064. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 239 воінаў 32, 95, 290-й стралковых дывізій, якія загінулі 23—24.6. 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Зялёны Прудок, Прудоцкі сельсавет**

**2065. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 55 воінаў. Сярод іх — воіны 49-й і 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе.

**2066. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. Пахаваны 28 чалавек (у т. л. 9 жанчын і 17 дзяцей) — членаў сем'яў партызан, якіх нямецка-фашысцкія акупанты загубілі як заложнікаў у 1943 г. У 1985 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ісакава Буда, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2067. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Калясянка, Жаліўскі сельсавет**

**2068. РАДЗІМА ЦЕЛЕШАВА** Андрэя Рыгоравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза А. Р. Целешаў нарадзіўся ў красавіку 1906 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС. Працаваў у калгасе. У Чырвонай Арміі з 1932 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. Камандзір матарызаванай роты 175-га асобнага разведвальнага батальёна 150-й стралковай дывізіі старшы лейтэнант А. Р. Целешаў вызначыўся ў час разведкі боем агнявой сістэмы праціўніка на мысе Патаніелі. У ноч на 14.2.1940 г. пад агнём праціўніка байцы роты падышлі да драцяной загароды, зрабілі праход і пачалі атаку. Цяжкапаранены А. Р. Целешаў працягваў кіраваць боем. Загінуў у гэтым баі. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 7.4. 1940 г.



2061. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



2069. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *М. Б. Батвіннік.*

**в. Капані, Вайнілаўскі сельсавет**

**2069. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 13 воінаў 385-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну. У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе.

**2070. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2071. ПОМНІК ПАРТЫЗАНУ ЛОБАСАВУ** Сцяпану Мікалаевічу **І АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі.

28.8.1943 г. нямецка-фашысцкія акупанты захапілі параненага партызана палка «Трынаццаць» С. М. Лобасава. Пасля катаванняў гітлераўцы спалілі яго, а таксама жонку — М. К. Трапузаву, дзяцей і сваякоў (усяго 7 чалавек). У 1967 г. на ўшанаванне іх памяці пастаўлены абеліск.

**в. Кіркоры, Цемравіцкі сельсавет**

**2072. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў 199-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Красніца, Гарбавіцкі сельсавет**

**2073. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў. Сярод іх — воіны 238-й і 369-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**в. Кузьмінічы, Дужаўскі сельсавет**

**2074. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 841 воін. Сярод іх — воіны 110, 369, 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2075. МАГІЛА НАГОРНАГА** Аляксея Мікітавіча (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі. Воін Чырвонай Арміі А. М. Нагорны загінуў 27.10.1943 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2076. СТАЯНКА, СЕЛІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2076а.** Стаянка. За 1 км на ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Знойдзена ляпная кераміка з неалітычным арнаментам. Раскопкі не праводзіліся.



**2076в.** *Курганны могільнік. План.*



2077. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2076б.** Селішча. На месцы стаянкі. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. На паверхні сабраны ляпная са слядамі штрыхоўкі і гладкасценная кераміка, рэшткі ганчарнага посуду з хвалістым арнаментам. Адносіцца да ранняга жалезнага веку і эпохі Кіеўскай Русі. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання стаянкі і селішча 1972 г. захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**2076в.** Курганны могільнік. На поўнач ад селішча. 22 насыпы вышынёй 1,1—2,7 м, дыяметрам 4—9 м. Абследавалі ў 1930 г. І. А. Сербаў, у 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні — Ухлясці ў был. Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *Я. Р. Рыер.*

**в. Кутня,Ваўкавіцкі сельсавет**

**2077. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў. Сярод іх — воіны 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.



2079. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2078. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 330-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Лапені, Антонаўскі сельсавет**

**2079. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на ўсход ад вёскі, у лесе. Пахаваны 401 воін 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лёўкаўшчына, Гарбавіцкі сельсавет**

**2080. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка праўлення калгаса «Серп і молат». На ўшанаванне памяці 152 землякоў — воінаў і партызан, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1964 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Лужок, Вайнілаўскі сельсавет**

**2081. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў. Сярод іх — воіны 385-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Машок, Благавіцкі сельсавет**

**2082. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 96 воінаў 172-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на сродкі, сабраныя піянерамі раёна, на магіле пастаўлена стэла.

**в. Нова-Аляксандраўка, Пуцькаўскі сельсавет**

**2083. МАГІЛА ГАТАЛЬСКАГА** Дзмітрыя Пракопавіча (гіст.). За 0,3 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Партызан палка «Трынаццаць» Дз. П. Гатальскі загінуў у 1942 г. пры выкананні баявога задання. У 1973 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Папоўцы, Цемравіцкі сельсавет**

**2084. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 19 воінаў. Сярод іх — воіны 290-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе, а таксама пліта, на якой 2 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**2085. СТАЯНКІ** (археал.).

**2085а.** С т а я н к а - 1. На першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася, каля могілак. Памер 40×120 м. Культурны пласт 0,2 м залягае на глыбіні 0,2—0,4 м. Сярод знаходак 6 нуклеусаў, адшчэпы, пласціны. Адносіцца да каменнага веку.

**2085б.** С т а я н к а - 2. На паўночнай ускраіне вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася. У культурным пласце 0,2 м знойдзены крамянёвыя архаічныя адшчэпы і пласціны.

Стаянкі выявіў і абследаваў у 1983 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Петухоўка, цэнтр Прудоцкага сельсавета**

**2086. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 379 воінаў. Сярод іх — воіны 139, 369, 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Петухоўка, Антонаўскі сельсавет**

**2087. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). На паўночнай ускраіне вёскі. Пахаваны 370 воінаў. Сярод іх — воіны 49-й і 139-й стралковых дывізій, што загінулі ў баях супраць гітлераўцаў на р. Проня ў 1943—44 гг., а таксама партызан палка «Трынаццаць», забіты нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Пілешчына, Цемравіцкі сельсавет**

**2088. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў. Сярод іх — воіны 64-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прудок, Прудоцкі сельсавет**

**2089. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 619 воінаў. Сярод іх — воіны 7, 49, 139, 369-й



**2090а.** *Гарадзішча. План.*



**2090б.** *Курганны могільнік. План.*




2091. *Помнік на магіле В. П. Дзмітрыева.*

стралковых дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Прылёпаўка, Пуцькаўскі сельсавет**

**2090. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2090а.** Гарадзішча. Каля вёскі, на левым беразе р. Проня. Пляцоўка авальная, памерам 60×22 м, вышыня над узроўнем ракі 17 м. З поўначы і захаду абмываецца прытокам Проні р. Саладзец, з поўдня ўмацавана падковападобным валам вышынёй 3—5 м. У паўднёва-заходняй частцы, каля падножжа гарадзішча, знаходзіцца другі вал вышынёй 2 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

**2090б.** Курганны могільнік. На ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Проня. 6 насыпаў вышынёй 1,5—3 м, дыяметрам 6—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5; Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982.
*Л. У. Калядзінскі, Я. Р. Рыер.*

**в. Рабяткі, Пуцькаўскі сельсавет**

**2091. МАГІЛА ДЗМІТРЫЕВА** Віктара Паўлавіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» В. П. Дзмітрыеў загінуў 5.4.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2092. РАДЗІМА УШАКОВА** Андрэя Фёдаравіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт А. Ф. Ушакоў (псеўданім Андрэй Бязмежны) нарадзіўся ў 1912 г. у сялянскай сям'і. Працаваў слесарам у Віцебску. У 1930—31 гг. вучыўся на крытыкатворчым аддзяленні Вышэйшага педагагічнага інстытута ў Мінску. Скончыў у 1939 г. Маскоўскі інстытут гісторыі, філасофіі і літаратуры імя М. Г. Чарнышэўскага. З 1939 г. у Чырвонай Арміі, супрацоўнік рэдакцыі дывізійнай газеты "За Советскую Родину". Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны.

Пачаў друкавацца з 1929 г. Аўтар зборнікаў вершаў «Рабочы пульс» (1932 г., з П. Ананьевым), «Праца і маладосць» і «Зарава вагранак» (1933 г.). Асноўныя тэмы вершаў паэта: героіка сацыялістычнага будаўніцтва, жыццё і праца рабочай моладзі, чырвонаармейскія будні. Шэраг вершаў прысвяціў тэме міжнароднай салідарнасці працоўных (зборнік «Голас Радзімы», 1938 г.). У 1939 г. разам з А. Жаўруком выдаў паэмы для дзяцей «Пра слаўных папанінцаў нашага дзетсада» і «Пра майго таварыша». Пісаў таксама апавяданні і крытычныя артыкулы, перакладаў на беларускую мову вершы М. Ю. Лермантава. Разам з А. Жаўруком напісаў лібрэта аперэты «Зарэчны барок». А. Ф. Ушакоў загінуў на фронце ў 1941 г. Пасля вайны выдадзены кнігі «Пра майго катка» (1950 г., напісана разам з Жаўруком) і «Наша маладосць» (1962 г.).

*Літ.:* Вытокі песні.— Мн., 1973.
*В. Л. Бечык.*

**в. Рагозінка, Цемравіцкі сельсавет**

**2093. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2093а.** Могільнік-1. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на левым беразе р. Бася, на могілках. 14 насыпаў вышынёй 1,3—2 м, дыяметрам 5—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.



**2093а.** *Курганны могільнік-1. План.*

**2093б.** Могільнік-2. За 2,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Бася, абапал лясной дарогі. 20 насыпаў вышынёй 1,3—1,8 м, дыяметрам 7—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.
*Я. Р. Рыер.*

**2094. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 2,5 км на поўнач ад вёскі, у лесе Маргі.

У час акупацыі раёна нямецка-фашысцкімі захопнікамі жыхары навакольных вёсак хаваліся ў гэтым лесе ад вывазу ў Германію. 2.9.1943 г. гітлераўцы акружылі лес, схапілі і расстралялі 100 мірных жыхароў. У 1950 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Радамля, Жаліўскі сельсавет**

**2095. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 152 воіны. Сярод іх — воіны 369-й стралковай дывізіі, якія загінулі 23.6.1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**2096. ГАРАДЗІШЧА, СЕЛІШЧА** (археал.).

**2096а.** Гарадзішча. У вёсцы, на левым беразе р. Радуча. Пляцоўка авальная, памерам 50×32 м, вышыня над узроўнем ракі 18—24 м, абмежавана ярамі, мае нахіл на паўднёвы захад, у паўночна-ўсходняй частцы — падковападобны вал вышынёй 2—4 м. Адкрыў у 1930 г. І. А. Сербаў, даследавала ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1976 г. М. А. Ткачоў. Культурны пласт да 1 м. Знойдзены жалезны шлак, вугаль, ляпная і ганчарная кераміка, рэчы з жалеза, скуры, шкла.



**2093б.** *Курганны могільнік-2. План.*

Адносіцца да ранняга жалезнага веку і да эпохі Кіеўскай Русі (13 ст.).

**2096б.** Селішча. На поўнач ад гарадзішча, за ярам. Адкрыла і даследавала ў 1958 г. В. М. Мельнікоўская, абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. На паверхні сабрана ганчарная кераміка канца 12—17 ст. Матэрыялы даследавання 1958 г. захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Сербаў І. А. Археалагічныя абследаванні ў вадазборах рэк Проні — Ухлясці ў был. Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Мельниковская О. Н. Обследование древнего Радомля.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1976, в. 146; Ткачев М. А. Работы Посожского отряда.— У кн.: Археологические открытия 1976 года. М., 1977.
*Я. Р. Рыер.*

**2097. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 115 землякоў — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка, побач — стэла, на якой выбіты імёны загінуўшых.

**в. Раман-Віна, Дужаўскі сельсавет**

**2098. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 86 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2099. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 4 сястры Двужыльныя, якіх у 1943 г. загубілі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2096а.** *Гарадзішча. План.*

**2100. ПОМНІК АХВЯРАМ ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. На ўшанаванне памяці 11 мірных жыхароў і 2 ваеннапалонных, якіх 10.10.1941 г. спалілі жывымі нямецка-фашысцкія акупанты, у 1965 г. пастаўлены абеліск.

**чыгуначная станцыя Раста, Гарбавіцкі сельсавет**

**2101. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,3 км на захад ад чыгуначнай станцыі. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў ліпені 1941 г. у час налёту фашысцкай авіяцыі на станцыю. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Самулкі, Благавіцкі сельсавет**

**2102. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 5 воінаў 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі 26.6.1944 г. у баях за вызваленне вёскі і навакольных населеных пунктаў ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**в. Селішча, Цемравіцкі сельсавет**

**2103. СТАЯНКІ, ГАРАДЗІШЧА** (археал.).

**2103а.** Стаянка-1. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася. Памер 50×100 м. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м на глыбіні 0,2—0,4 м ад паверхні. Знойдзены крамянёвыя рэтушоры, скрабкі, разцы, вырабы з выемкамі, адшчэпы з рэтушшу. Адносіцца да каменнага веку.

**2103б.** Стаянка-2. На левым беразе р. Касінка, каля яе ўпадзення ў р. Бася. Памер 40×150 м. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце знойдзены крамянёвыя нуклеусы, рэтушоры, нажападобныя вырабы з выемкай. Адносіцца да эпохі мезаліту.

Матэрыялы абследавання стаянак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**2103в.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Бася. Вышыня над поймай ракі 12 м. Пляцоўка чатырохвугольная, памерам 55×44 м. З боку поля ўмацавана 2 валамі вышынёй 0,6 і 1,5 м і ровам глыбінёй 1 м. Адлегласць паміж валамі 8 м. Захаванасць добрая. Выявілі ў 1982 г. В. Ф. Капыцін і В. Я. Мядзведскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Медведский В. Е. Новые памятники в бассейне р. Баси.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Скварск, Жаліўскі сельсавет**

**2104. ВАЙСКОВЫЯ МОГІЛКІ** (гіст.). За 1,5 км на поўдзень ад цагельнага завода, у лесе. Пахаваны 376 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня ў 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 32, 95, 369-й стралковых дывізій. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Сласцёны, Цемравіцкі сельсавет**

**2105. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На цэнтральнай сядзібе калгаса «50 год БССР». На ўшанаванне памяці 151 земляка — воінаў і партызан, што загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: 2 воіны каля сцяга, побач — гранітная пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Сталка, Гарбавіцкі сельсавет**

**2106. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў 385-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2107. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 5 воінаў 385-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2108. ГАРАДЗІШЧЫ** (археал.).

**2108а.** Гарадзішча-1. За 1 км на паўночны захад ад вёскі, на правым беразе р. Раста, на полі. Пляцоўка памерам 60×40 м, вышыня над узроўнем ракі 9 м. З паўднёва-заходняга боку ўмацавана валам вышынёй 2—3 м. На поўначы абмежавана ракою, з паўночнага заходу — ярам, з усходу і паўднёвага ўсходу — ровам. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Сабрана грубаляпная кераміка з расчосамі. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзі-



**2108а.** *Гарадзішча-1. План.*

ліся. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

**2108б.** Гарадзішча-2. На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. Пляцоўка часткова разбурана ракой. Памеры ўцалелай часткі 18×8 м, вышыня над узроўнем ракі 6—7 м. Вядома з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *Я. Р. Рыер.*

**2109. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Старасёлы, Пуцькаўскі сельсавет**

**2110. КУРГАН** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Проня. Вышыня 1 м, дыяметр 10 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. У пашкоджанай частцы насыпу знойдзена ляпная і ганчарная кераміка. Адносіцца да рубяжа 1-га і 2-га тысячагоддзяў н. э. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.

*Літ.:* Риер Я. Г. Изучение курганов в Могилевском Поднепровье.— Советская археология, 1976, № 2; Колединский Л. В. Археологические памятники бассейна р. Прони в Чаусском р-не Могилевской области.— У кн.: Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. *Л. У. Калядзінскі, Я. Р. Рыер.*

**2111. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, на полі, на левым беразе р. Бася. 10 насыпаў вышынёй 1,8—3 м, дыяметрам 7—11 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Старасёлы, Цемравіцкі сельсавет**

**2112. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага р. Бася. Памер 30×70 м. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, ромбападобны наканечнік стралы, клінападобная сякерка. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.



**2108б.** *Гарадзішча-2. План.*

**в. Старая Буда, Антонаўскі сельсавет**

**2113. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 456 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў пры вызваленні раёна. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сутокі, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2114. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 54 воіны. Сярод іх — воіны 110-й і 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлены абеліск, перад ім дошкі з імёнамі загінуўшых.

**2115. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 235 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Сушчы, Благавіцкі сельсавет**

**2116. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 69 воінаў. Сярод іх — воіны 238-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў канцы чэрвеня 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і дзяўчынка.

**2117. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1,5 км на захад ад вёскі. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1945 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2118. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе, утвораным р. Дзяргучка і левым берагам р. Бася. Памер 30×80 м. Выявіў у 1982 г., даследаваў у 1984 г. В. Ф. Капыцін. Ускрыта 18 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,2—0,4 м. Знойдзены фрагменты ляпной керамікі, расшчэпленыя крамяні, нуклеусы, канцавыя скрабкі і рэтушаваныя адшчэпы. Адносіцца да бронзавага веку, датуецца 1-й паловай 2-га тысячагоддзя да н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.



**2113.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**в. Сялец, Жаліўскі сельсавет**

**2119. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 21 воін. Сярод іх — воіны 330-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2120. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе. 35 насыпаў вышынёй 0,8—3,2 м, дыяметрам 5—11 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Ужжар, Дужаўскі сельсавет**

**2121. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 403 воіны 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія памерлі ад ран у шпіталі ў 1944 г. У 1977 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2122. КУРГАН** (археал.). На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, на могілках. Вышыня 1,5 м, дыяметр 9 м. Адкрыў у 1972 г. Я. Р. Рыер, абследаваў у 1978 г. Л. У. Калядзінскі.

**в. Усушак, Антонаўскі сельсавет**

**2123. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны палка «Трынаццаць», якія загінулі ў 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2124. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 43 воіны. Сярод іх — воіны 324-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2125. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 лётчыкі, якія загінулі 19.7.1941 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, і танкіст, што загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2126. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). Ва ўрочышчы Пячорынка. Пахаваны 56 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, і 45 мірных жыхароў, загубленых гітлераўцамі ў час акупацыі раёна. Сярод пахаваных — воіны 110-й і 385-й стралковых дывізій, якія загінулі ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2127. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,3 км на поўдзень ад вёскі, на левым беразе р. Раста, у лесе. 3 насыпы вышынёй 2—2,3 м, дыяметрам 6—6,5 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**2128. МАГІЛА БАТУРЫ** Васіля Ігнатавіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» В. І. Батура загінуў 18.11.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2120.** *Курганны могільнік. План.*



**2124.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2129. МАГІЛА ВЫГОЎСКАГА** Івана Мікалаевіча (гіст.). На могілках. Партызан палка «Трынаццаць» І. М. Выгоўскі загінуў 7.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Утра, Гарбавіцкі сельсавет**

**2130. РАДЗІМА ІВУЦЕНКІ** Мікалая Іванавіча (гіст.).

Поўны кавалер ордэна Славы М. І. Івуценка нарадзіўся 19.5.1921 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Працаваў брыгадзірам у калгасе. У Чырвонай Арміі з 1940 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім, 2-м і 1-м Украінскіх франтах. Вызначыўся ў баях на тэрыторыі Германіі. 26.1.1945 г. у баях за Одэрскі плацдарм каля г. Мюльразе агнём гарматы, якой камандаваў старшына М. І. Івуценка, было знішчана каля 20 фашыстаў. 15.4.1945 г. у час прарыву абароны ворага прамой наводкай з гарматы знішчыў процітанкавую гармату, станковы кулямёт і каля 20 гітлераўцаў. 19.4.1945 г. у час контратакі нямецкіх войск знішчыў 3 кулямёты і каля 15 салдат праціўніка. М. І. Івуценка загінуў 27.4.1945 г. у баі на тэрыторыі Германіі.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Хамянкі, Антонаўскі сельсавет**

**2131. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Ва ўрочышчы Пушча. Пахаваны 350 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2132. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 154 воіны 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2133. МАГІЛА КРУКАВА** Васіля Акімавіча (гіст.). У цэнтры вёскі. Воін Чырвонай Арміі В. А. Крукаў загінуў 30.3.1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Харкаўка, Вайнілаўскі сельсавет**

**2134. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 3 чырвонаармейцы, якія загінулі ў жніўні 1941 г. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Хацкавічы, Гарбавіцкі сельсавет**

**2135. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, каля будынка школы. Пахаваны 20 воінаў. Сярод іх — воіны 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1965 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2136. МАГІЛА ГОМЕЛЬСКАГА** Віктара Сяргеевіча (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі В. С. Гомельскі загінуў у сакавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2137. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у Вялікую Айчынную вайну. У 1970 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2138. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у 1944 г. пры вызвален-




**2127.** *Курганны могільнік. План.*



2132. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

ні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Хількавічы, Цемравіцкі сельсавет**

**2139. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 67 воінаў. Сярод іх — воіны 199-й і 290-й стралковых дывізій, што загінулі ў 1943—44 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына ў жалобе, а таксама пліта, на якой 4 дошкі з імёнамі загінуўшых.

**2140. СТАЯНКА** (археал.). За 1 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася. Памер 25×75 м. Выявіў і абследаваў у 1962 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце на глыбіні 0,2—0,4 м ад паверхні знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, скрабкі, разцы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Хонькавічы, Цемравіцкі сельсавет**

**2141. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Бася. 2 насыпы вышынёй 0,6 і 1 м, дыяметрам 8 і 14 м. Адзін курган у полі (пашкоджаны ямай), другі за 0,2 км на паўночны захад ад першага, на краі лесапасадкі. Выявіў і абследаваў у 1983 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Цемравічы, цэнтр сельсавета**

**2142. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 10 воінаў. Сярод іх — воіны 64-й і 369-й стралковых дывізій, якія загінулі ў 1943—44 гг. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на р. Проня. У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2143. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 369-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баі за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1976 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Цёплае, Дужаўскі сельсавет**

**2144. РАДЗІМА РАГУЦКАГА** Уладзіміра Лаўрынавіча (гіст.).

Беларускі савецкі паэт У. Л. Рагуцкі нарадзіўся 9.12.1917 г. у сям'і настаўніка. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут у 1939 г. Працаваў у абласной газеце «Камунар Магілёўшчыны». Пачаў друкавацца з 1936 г. Вершы паэта прасякнуты палымяным патрыятызмам, захапленнем жыццём, матывамі кахання і сяброўства. У 1940 г. здаў у Дзяржаўнае выдавецтва БССР першы зборнік вершаў, рукапіс якога страчаны ў Вялікую Айчынную вайну. У. Л. Рагуцкі загінуў на фронце ў 1941 г. Яго вершы надрукаваны ў кнігах «Мы іх не забудзем» (1949 г.) і «Крывёю сэрца» (1967 г.). *В. Л. Бечык.*

**2145. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага р. Проня. Памер 40×100 м. Даследаваў у 1980 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены двухпляцовачныя нуклеусы, канцавыя скрабкі, бакавыя і вуглавыя разцы, вырабы з выемкамі, пласціны са скошаным рэтушшу краем. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Цімохаўка, Благавіцкі сельсавет**

**2146. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 139-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў час вызвалення вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1985 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Чарэнкі, Ваўкавіцкі сельсавет**

**2147. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі, на правым беразе р. Раста. Пляцоўка памерам 46×40 м, вышыня над узроўнем ракі 10—11 м, з поўначы і ўсходу абмежавана ракою, з поўдня — ярам. З заходняга боку пляцоўка ўмацавана валам вышынёй да 6 м. Адкрыў у 1930 г. В. Р. Тарасенка, абследавалі ў 1972 г. Я. Р. Рыер, у 1978 г. Л. У. Калядзінскі. Прасочаны культурны пласт, у якім знойдзена ляпная гладкасценная і ганчарная кераміка. Адносіцца да 1-й паловы 1-га тысячагоддзя н. э. і 12—13 стагоддзяў. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі.



2134. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*



2147. *Гарадзішча. План.*



2148. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

*Літ.:* Тарасенка В. Р. Археалагічная праца на Магілёўшчыне.— У кн.: Працы секцыі археалогіі. Мн., 1932, т. 3; Кухаренко Ю. В. Памятники зарубинецкой культуры в области Верхнего Поднепровья.— У кн.: Памятники зарубинецкой культуры. М.; Л., 1959.— (Материалы и исследования по археологии СССР; № 70). *Я. Р. Рыер.*

**в. Чырвоная Буда, Антонаўскі сельсавет**

**2148. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 2 км на поўдзень ад вёскі, у лесе. Пахаваны 209 воінаў 38-га стралковага корпуса 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2149. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў час вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2150. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў час вызвалення раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Юшкавічы, Антонаўскі сельсавет**

**2151. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 70 воінаў. Сярод іх — воіны 110-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2152. *Курганны могільнік. План.*

**2152. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, абапал дарогі ў в. Зялёная Рошча, у лесе. 10 насыпаў вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 5—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследаваў у 1972 г. Я. Р. Рыер. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.




# ЧЭРЫКАЎСКІ РАЁН

Верамейкі
Наркі
Лабанаўка
Вудага
Камаровічы
Глінь
Шароеўка
Рэчыца
Зоры
Лобча
Вусце
ЧЭРЫКАЎ
Язёры
Рагаліна
Вепрын
Сакалоўка
Чудзяны
Малінаўка
Манастырок
Ушакі
Галоўчыцы
Пільня

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землянкам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неаднаўленыя вёскі і інш.)

Помнікі сацыялістычнага будаўніцтва

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

Паркі і садова-паркавыя збудаванні

## XIX. ЧЭРЫКАЎ

Горад, цэнтр раёна. Размешчаны на р. Сож, за 77 км на паўднёвы ўсход ад Магілёва, 32 км ад чыгуначнай станцыі Крычаў, на скрыжаванні аўтамабільных дарог Масква — Брэст і Магілёў — Касцюковічы.

З 2-й паловы 16 ст. Чэрыкаў у складзе Магілёўскай эканоміі Вялікага княства Літоўскага. З 1641 г. мястэчка з магдэбургскім правам. У вызваленчую вайну ўкраінскага і беларускага народаў 1648—54 гг. тут адбыліся (1648 г. і 1649 г.) паўстанні гараджан і сялян. У руска-польскую вайну 1654—67 гг. Чэрыкаў спустошаны. З 1678 г. горад, цэнтр павета Мсціслаўскага ваяводства. У Паўночную вайну 1700—21 гг. пацярпеў (1708 г.) ад шведскіх войск. Пасля першага падзелу (1772 г.) Рэчы Паспалітай Чэрыкаў у складзе Расіі, з 1773 г. цэнтр павета Магілёўскай губерні. У 1778 г. зацверджаны яго план забудовы, паводле якога пры землеўпарадкаванні межы горада фіксаваліся землянымі валамі і равамі. У 1781 г. атрымаў герб — шчыт, на чырвоным полі якога «Пагоня». У 1787 г. у горадзе больш за 3 тыс. жыхароў, 300 дамоў, 2 царквы, школа. У 1789 г. адкрыта двухкласнае народнае вучылішча. У 1796—1802 гг. у складзе Беларускай губерні. У канцы 18 ст. праз Чэрыкаў пракладзены тракт Магілёў — Чавусы — Крычаў — Мсціслаў, у 19 ст.— Маскоўска-Варшаўская шаша, дарогі Магілёў — Мсціслаў, на Новы Быхаў і Сураж. З прыстані на Сажы адпраўлялі драўніну. Адбываліся конскія кірмашы. З 1860 г. працаваў цукровы завод (больш за 200 рабочых). У час нацыянальна-вызваленчага паўстання 1863—64 гг. супраць царызму быў сфарміраваны Я. В. Жукоўскім Чэрыкаўскі паўстанцкі атрад, які разам з атрадам Л. М. Звяждоўскага 24.4.1863 г. захапіў Горкі.

У 1897 г. у Чэрыкаве 5249 жыхароў (з іх 42,1 % пісьменных), пенькатрапальнае прадпрыемства з 16 рабочымі. З 1902 г. працавала трохкласнае гарадское вучылішча. У 1904 г.— 23 дробныя прадпрыемствы (73 рабочыя), 216 рамеснікаў, бальніца на 20 ложкаў. У Рэвалюцыю 1905—07 гг. павет быў ахоплены сялянскімі хваляваннямі. У чэрвені 1917 г. адбылася забастоўка работніц панчошнай майстэрні. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г.

У 1919—23 гг. цэнтр павета, у 1923—24 гг. у Калінінскім павеце Гомельскай губерні РСФСР. З 17.7.1924 г. цэнтр раёна ў складзе БССР у Калінінскай (1924—27 гг.), Магілёўскай (1927—30 гг.) акругах, з 1938 г. у Магілёўскай вобл. У 1939 г.— 6,4 тыс. жыхароў, ветэрынарны тэхнікум. У Вялікую Айчынную вайну з ліпеня 1941 г. да 1.10.1943 г. акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (ліпень — снежань 1941 г., 4.6—1.10. 1943 г.) і ЛКСМБ (1.7—1.10.1943 г.), антыфашысцкае падполле. Вызвалены 1.10.1943 г. 413-й стралковай дывізіяй 50-й арміі Бранскага фронту і партызанамі 720-га асобнага атрада. У 1959—62 гг., 1965—66 гг. Чэрыкаў у Крычаўскім, у 1962—65 гг.— у Краснапольскім р-нах. З 30.7.1966 г. цэнтр раёна ў Магілёўскай вобл.



XIX. *Цэнтральная плошча. Фрагмент забудовы.*

Архітэктурна-планіровачная структура Чэрыкава заснавана на прамавугольнай сетцы вуліц. Галоўныя вуліцы — Ленінская, Камсамольская, Ракасоўскага, Маркса, Болдзіна. На перакрыжаванні вуліц Камсамольскай і Ракасоўскага — Цэнтральная пл. горада, дзе размешчаны Дом Саветаў, універмаг, будынак вузла сувязі. У жылой забудове пераважаюць індывідуальныя дамы з прысядзібнымі ўчасткамі. Будаўніцтва двух- і пяціпавярховых жылых дамоў вядзецца ў цэнтры і пры ўездзе ў горад з боку Чавус. Сучасная забудова ажыццяўляецца ў адпаведнасці з генпланам, распрацаваным у 1975 г. Мінскім філіялам Цэнтральнага навукова-даследчага і праектнага інстытута горадабудаўніцтва. Прадугледжана стварэнне 2 прамысловых зон: паўночна-ўсходняй і заходняй. Працуюць пладова-кансервавы завод, хлебазавод, маслазавод, цагельны завод Краснапольскага камбіната будаўнічых матэрыялаў, камбінат бытавога абслугоўвання, раённае аграпрамысловае аб'яднанне, лясгас, эксперыментальная база «Чэрыкаў» Магілёўскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі і інш. У горадзе сярэдняя, музычная, дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, Дом піянераў і школьнікаў, 5 дашкольных устаноў, Дом культуры, 2 бібліятэкі, краязнаўчы музей, бальніца. Выдаецца раённая газета «Заклік Ільіча». Помнікі: У. І. Леніну; на магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу; на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан; землякам.



XIX. *Забудова вуліцы Болдзіна.*



XIX. *Сквер па вуліцы Ленінскай.*

Зона адпачынку — парк Перамогі, скверы па вуліцах Ленінскай і Камсамольскай, бераг р. Вудага, дзе знаходзіцца спецыялізаваны піянерскі санаторны лагер «Сож». Каля р. Сож будзе створана спартыўная зона.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Победа Советской власти в Белоруссии.— Мн., 1967.

*В. Б. Караткевіч, А. Ю. Пятросава.*

**2153. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Вул. К. Маркса, у парку Перамогі. Пахаваны 191 воін і 3 партызаны, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ці памерлі ад ран у кастрычніку 1943—44 гг. Сярод пахаваных — воіны 413-й стралковай дывізіі 50-й арміі Бранскага фронту, што загінулі ў баях пры вызваленні Чэрыкава ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў 1.10.1943 г., і партызаны 720-га асобнага атрада.

У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2154. БУДЫНКІ БАЛЬНІЦЫ** (архіт.). Вул. Ленінская, 132. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы.

Бальнічны комплекс уключае карпусы тэрапіі і хірургіі.

Т э р а п е ў т ы ч н ы  к о р п у с. Аднапавярховы прадаўгаваты ў плане будынак. Вуглы галоўнага фасада фланкіраваны неглыбокімі рызалітамі, завершанымі трохвугольнымі франтонамі з люнетамі. Уваход вылучаны



**2153.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

высокім ганкам пад двухсхільным навесам на ажурных кансолях (чыгуннае ліццё). Аконныя праёмы аздоблены цаглянымі ліштвамі з замковым каменем. Планіроўка калідорная.

Хірургічны корпус. Аднапавярховы П-падобны ў плане будынак сіметрычна-восевай аб'ёмна-прасторавай кампазіцыі. Накрыты двухсхільным дахам. Сцены крапаваны лапаткамі. Прамавугольныя аконныя праёмы абрамлены ліштвамі з замковым каменем. Планіроўка калідорная з аднабаковым размяшчэннем памяшканняў.

Комплекс бальніцы — помнік грамадзянскага будаўніцтва.

*А. Ю. Пятросава.*



**2154.** *Будынкі бальніцы. Тэрапеўтычны корпус. План.*



**2154.** *Будынкі бальніцы. Хірургічны корпус. План.*

**2155. ДОМ, ДЗЕ БЫЎ ЗНЯВОЛЕНЫ ДЗЕНІСЕНКА** Іван Піліпавіч (гіст.). Вул. Дзімітрыевай, 27.

Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў Чэрыкаўскага антыфашысцкага падполля журналіст І. П. Дзенісенка нарадзіўся ў 1913 г. у в. Наркі Чэрыкаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Перад вайной працаваў адказным сакратаром чэрыкаўскай раённай газеты «Сацыялістычная перамога». Добраахвотна пайшоў на фронт. Каля Бранска трапіў у акружэнне і вярнуўся ў родную вёску. У 1941 г. стварыў падпольныя камсамольскія групы ў вёсках Наркі і Юдава. Па заданню Чэрыкаўскага падпольнага райкома КП(б)Б у сакавіку 1942 г. уладкаваўся пісарам у акруговую паліцыю. Узначаліў у Чэрыкаве падпольную групу, з 1943 г.— Чэрыкаўскі антыфашысцкі камітэт. Пад кіраўніцтвам І. П. Дзенісенкі былі праведзены дыверсіі на электрастанцыі, лесазаводзе, у механічных майстэрнях, хлебапякарні. Акрамя палітычнай і дыверсійнай работы, актыўна займаўся разведкай (мянушка «Іон»). Па даносу правакатара 5.6.1943 г. гітлераўцы арыштавалі ўсіх членаў камітэта. Пасля жорсткіх катаванняў 5.7.1943 г. І. П. Дзенісенка і член камітэта У. П. Гуленка расстраляны, астатнія кінуты ў канцлагер.




**2155.** *Мемарыяльная дошка І. П. Дзенісенку.*

І. П. Дзенісенка пісаў вершы. Аўтар паэмы пра пагранічніка «Сямён Лагода» (1938 г.). Уцалелыя рукапісы захоўваюцца ў Цэнтральным дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва БССР у Мінску.

На ўшанаванне памяці І. П. Дзенісенкі ў Чэрыкаве на будынку, у якім гітлераўцы трымалі яго перад расстрэлам, у 1967 г. устаноўлена мемарыяльная дошка.

*Літ.:* Храмович Г. А. Зарево над Сожем.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*



**2157.** *Помнік на магіле ахвяр фашызму.*

**2156. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км ад горада, злева ад аўтамабільнай дарогі Чэрыкаў — Крычаў, каля лесу. Пахаваны 253 жыхары горада і навакольных вёсак, расстраляныя ў лістападзе 1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2157. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад горада, на ўзлеску. Пахаваны 7 жыхароў горада, расстраляных 29.12.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1984 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2158. МАГІЛА БАРАЦЬБІТОЎ ЗА САВЕЦКУЮ ЎЛАДУ** (гіст.). Вул. Ленінская, у парку. Пахаваны ўдзельнікі барацьбы за ўстанаўленне і ўмацаванне Савецкай улады ў Чэрыкаўскім р-не М. З. Эртман (1880—1930 гг.; член Камуністычнай партыі з 1907 г.), С. Н. Цывіна [член бюро Чэрыкаўскага райкома КП(б)Б; памерла ў 1929 г.] і Захараў (супрацоўнік міліцыі; загінуў у 1924 г.). У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2159. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Вул. Болдзіна, у скверы. На ўшанаванне памяці 235 воінаў, партызан і падпольшчыкаў — ураджэнцаў Чэрыкава, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну на франтах і ў партызанскай барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1955 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін са сцягам і партызанка.

**2160. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля эксперыментальнай базы «Чэрыкаў» Магілёўскай абласной сельскагаспадарчай доследнай станцыі, у скверы. На ўшанаванне памяці 237 воінаў-землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны, у 1964 г. узведзена мемарыяльная сцяна.

**2161. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На Цэнтральнай пл., перад Домам Саветаў. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1985 г.

**2162. РАДЗІМА БАСІНА** Меера Велькавіча (гіст.).

Адзін з бакінскіх камісараў М. В. Басін нарадзіўся ў 1890 г. у рабочай сям'і. Член КПСС з 1912 г. У 1909 г. скончыў рамеснае вучылішча ў Магілёве. З 1911 г. у Баку, працаваў слесарам. Актыўны ўдзельнік прафсаюзнага руху, арганізацыі бакінскай стачкі 1914 г., за што быў арыштаваны. З канца 1917 г. член праўлення прафсаюза рабочых нафтавай прамысловасці Баку. Пасля Лютаўскай рэвалюцыі 1917 г. дэпутат Бакінскага Савета, з 8.7.1917 г. член Бакінскага камітэта РСДРП(б), кандыдат у члены бюро камітэта. Адзін з кіраўнікоў усеагульнай стачкі бакінскіх нафтавікоў, якая адбылася ў верасні 1917 г. З лістапада 1917 г. сакратар прэзідыума выканкома і рабочай секцыі



2159. *Помнік землякам.*

Бакінскага Савета, з красавіка 1918 г. загадчык рабочай секцыі Бакінскага савета народнай гаспадаркі. Расстраляны англійскімі інтэрвентамі і эсэрамі 20.9.1918 г. Пахаваны ў Баку на Плошчы 26-ці бакінскіх камісараў. Імем М. В. Басіна названы вуліцы ў Баку і Чэрыкаве; на будынку рамеснага вучылішча ў Магілёве, дзе ён вучыўся, устаноўлена мемарыяльная дошка. *У. У. Бянько.*

**2163. РАДЗІМА КУТАРГІ** Міхаіла Сямёнавіча (гіст.).

Рускі гісторык, член-карэспандэнт Расійскай Акадэміі навук (1849 г.), доктар філасофіі (1838 г.) М. С. Кутарга нарадзіўся 6.7.1809 г. Скончыў Пецярбургскі універсітэт і Дэрпцкі прафесарскі інстытут. З 1835 г. выкладчык Пецярбургскага, у 1869—74 гг.— Маскоўскага універсітэтаў. Вёў рознабаковую дзейнасць у галіне народнай асветы, бібліятэчнай справы, папулярызацыі гісторыі. Вывучаў матэрыялы ў Парыжы, Гейдэльбергу, Мюнхене, Берліне. М. С. Кутарга распрацоўваў праблемы сацыяльнай і палітычнай гісторыі старажытнай Грэцыі, асабліва Афін, выдатна ведаў крыніцы. Упершыню ў сусветнай навуцы ў працы «Гісторыя Афінскай рэспублікі ад забойства Іпарха да смерці Мільтыяда» (1848 г.) спрабаваў паказаць становішча рабоў і вольнаадпушчаных. Даследаваў пытанні медыявістыкі і гістарыяграфіі. У 1858 г. выйшла яго праца «Персідскія войны», у 1894—96 гг.— Збор твораў (т. 1—2). Амаль кожны год разам са сваім братам доктарам медыцыны С. С. Кутаргам прыязджаў на Магілёўшчыну, вёў культурна-асветную работу сярод насельніцтва.

М. С. Кутарга памёр 26.5.1886 г.

*Літ.:* Дамінікоўскі Ф. Браты Кутаргі.— Беларусь, 1946, № 8; Алпатов М. А. Мировоззрение М. С. Куторги и его концепция истории Древней Греции.— Вестник древней истории, 1955, № 3. *В. Б. Караткевіч.*

**2164. РАДЗІМА ЛЮБАНА** Ісака Ісакавіча (гіст.).

Беларускі савецкі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР (1956 г.) І. І. Любан нарадзіўся 10.3.1906 г. У 1920—24 гг. вучыўся ў Леменскай школе-камуне імя У. І. Леніна, дзе навыкі ігры на скрыпцы атрымаў у М. М. Лепяшынскага. У 1928 г. скончыў Беларускі музычны тэхнікум (клас кампазіцыі М. І. Аладава). Член КПСС з 1938 г. У 1928—36 гг. мастацкі кіраўнік музычнага вяшчання Беларускага радыё, у 1937—41 гг.— ансамбля беларускай народнай песні і танца Беларускай філармоніі. У 1932—38 гг. старшыня праўлення Саюза кампазітараў БССР (на той час у складзе Саюза пісьменнікаў БССР). Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1945 г. жыў у Маскве, творчых сувязей з Беларуссю не парываў. Найбольш плённа працаваў у вакальным жанры. Аўтар вакальна-сімфанічнай сюіты «Граніца ў песнях» (словы П. Броўкі, П. Глебкі, І. Шапавалава, 1935 г.), сюіты «Калгасная вечарынка» (словы ўласныя і народныя, 1939 г.), песень «Бывайце здаровы», «Толькі з табою», «Не шукай», (усе на словы А. Русака), «Наш тост»



2158. *Помнік на магіле барацьбітоў за Савецкую ўладу.*



2168. *Помнік на брацкай магіле савецкіх актывістаў.*

(словы М. Касенкі), «Песня дукорскіх партызан», «Дарагая Беларусь» (словы П. Броўкі). Пісаў музыку да спектакляў, у т. л. «Несцерка» ў Беларускім тэатры імя Я. Коласа (Дзяржаўная прэмія СССР 1946 г.), і кінафільмаў, у т. л. «Новы дом» (у сааўтарстве з І. Дунаеўскім), «Беларускі канцэрт», «Палеская легенда», «Гадзіннік спыніўся апоўначы». Памёр 7.11.1975 г. у Маскве.



**2167.** *Парк. Схема планіроўкі: 1 — месца, дзе быў сядзібны дом; 2 — парк; 3 — сад; 4 — вадаёмы; 5 — лесапарк; 6 — агароды.*

*Літ.:* Журавлев Д. Н., И. И. Любан: Очерк жизни и творчества.— Л., 1968. *Дз. М. Жураўлёў.*

**в. Веприн, цэнтр сельсавета**

**2165. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). Ва ўсходняй частцы вёскі. Пахаваны 68 воінаў, якія загінулі пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў у кастрычніку 1943 г., і партызан, што загінуў у 1942 г. У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**2166. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). За 1 км на поўдзень ад вёскі, на ўскраіне лесу. Воін загінуў у ліпені 1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2167. ПАРК** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Закладзены ў 2-й палове 19 ст. на раўнінным рэльефе.

Займае плошчу 10 га. Цэнтральная ліпавая алея дзеліць парк на 2 часткі: эканамічную з пладовым садам і пейзажную з сядзібным домам (не захаваўся). Дом быў павернуты галоўным фасадам на паўночны ўсход. Ад яго вяла дарога ў пас. Маёнтак. Вакол дома былі пасаджаны кусты бэзу, глогу, бружмелю, акацыі. На захад ад дома знаходзілася штучнае возера, на паўднёвы ўсход — яр з маляўніча размешчанымі групамі дубоў, ліп, арэшніку, глогу. За ярам — альтанка з высаджаных па авалу лістоўніц. Сад мае прамавугольную форму ў плане, абмежаваны ліпавымі алеямі. У цэнтры — зялёная альтанка з ліп. У паўночнай частцы парку былі разбіты кветнікі.

Помнік садова-паркавага мастацтва. *А. Ю. Пятросава.*



**2169.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў і партызан.*

**в. Верамейкі, цэнтр сельсавета**

**2168. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ АКТЫВІСТАЎ** (гіст.). За 1 км на поўнач ад вёскі, на могілках. Пахаваны старшыня Верамейкаўскага сельсавета А. І. Федасенка, сакратар партарганізацыі сельсавета П. П. Карнюшчанка і старшыня калгаса «Чырвоная зорка» І. А. Гузнякоў, расстраляныя ў жніўні 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Імем А. І. Федасенка і І. А. Гузнякова названы вуліцы ў Верамейках.

У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2169. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). Каля будынка чыгуначнай станцыі Верамейкі. Пахаваны 93 воіны і 3 партызаны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941—43 гг. ці памерлі ад ран. Сярод пахаваных — воіны 385-й стралковай дывізіі, што загінулі 5.10.1943 г. пры вызваленні вёскі. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**2170. ПОМНІК ВОІНАМ-ВЫЗВАЛІЦЕЛЯМ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі, справа ад дарогі на в. Лабанаўка. Вёска была вызвалена часцямі 385-й стралковай дывізіі (палкоўнік



**2167.** *Куток парку.*



**2170.** *Помнік воінам-вызваліцелям.*

М. Ф. Супруноў) 50-й арміі Бранскага фронту ў выніку жорсткага бою 5.10.1943 г. У 1973 г. у гонар воінаў-вызваліцеляў пастаўлена стэла.

**в. Вудага, Сормаўскі сельсавет**

**2171. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і партызанка.

**2172. РАДЗІМА НІКАЛАЕНКІ** Яўгена Макаравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза, генерал-лейтэнант авіяцыі (1945 г.) Я. М. Нікалаенка нарадзіўся 4.9.1905 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. У 1952 г. скончыў Ваенную акадэмію Генштаба. У 1935—41 гг. камандзір звяна, атрада, эскадрыллі, начальнік ваеннай авіяшколы, камандзір авіядывізіі, намеснік камандуючага, камандуючы ваенна-паветранымі сіламі акругі. Вызначыўся пры выкананні спецыяльнага ўрадавага задання. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.2.1939 г. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Паўднёвым, Заходнім, Крымскім, Паўднёва-Заходнім, 3-м Беларускім франтах, камандуючы ваенна-паветранымі сіламі арміі, фронту, начальнік авіяшколы, курсаў, намеснік камандуючага паветранай арміяй. Удзельнік баёў пад Масквой, у Крыме, Усходняй Прусіі. Да 1955 г. на адказных пасадах у Ваенна-Паветраных Сілах краіны. Памёр 16.4.1961 г. Яго імем названа вуліца ў Чэрыкаве.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Вусце, Рэчыцкі сельсавет**

**2173. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ** (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, каля лесу. Пахаваны 2 воіны, расстраляныя ў 1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1974 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Глінь, Сормаўскі сельсавет**

**2174. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. Пахаваны 14 воінаў, якія загінулі 15.10.1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў ці памерлі ад ран у 1944 г.

У 1967 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.

**в. Горкі, Сормаўскі сельсавет**

**2175. СТАЯНКІ, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2175а.** Стаянка-1. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Угароўка. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, у 1974—80 гг. В. Ф. Капыцін ускрыў



**2175а.** *Стаянка-1.*



**2175а.** *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі-1.*



**2175а.** *Стаянка-1. Агульны выгляд раскопу.*

1134 м² культурнага пласта, што залягаў на глыбіні 0,2—0,5 м. Знойдзена больш за 35 тыс. прадметаў, сярод якіх 916 прылад працы і 1,3 тыс. нуклеусаў, крамянёвыя наканечнікі стрэл, вастрыі, сярэдзінныя і вуглавыя праколкі, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінна-вуглавыя разцы, канцавыя з прамым, выпуклым ці скошаным рабочым краем, круглаватыя, двайныя скрабкі, а таксама нажападобныя пласціны, клінападобныя сякеры і сякеркі тыпу траншэ, вырабы з выемкай, трапецападобная прылада. Датуецца 6—5-м тысячагоддзямі да н. э., адносіцца да позняга мезаліту.

**2175б.** Стаянка-2. Мясцовая назва Крынічная. За 0,5 км на поўдзень ад стаянкі-1, на левым беразе ручая Крынічны, які ўпадае ў старыцу р. Сож. Выявіў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, даследавалі ў 1977—78 гг. В. Л. Ліпніцкая, у 1972 г. і 1984 г. В. Ф. Капыцін. Ускрыта 334 м² культурнага пласта, што залягаў на глыбіні 0,6 м ад паверхні. У калекцыі, якая налічвае больш за 10 тысяч прадметаў, ёсць нуклеусы, тронкавыя наканечнікі стрэл, вастрыі, трапецыя, пласцінкі з прытупленым рэтушшу краем, прылады сякучых форм, вырабы з выемкай, канцавыя, двайныя і паўкруглыя скрабкі, разцы на вуглу зламанай пласцінкі, бакавыя, вуглавыя і сярэдзінныя. Для вырабу прылад выкарыстоўваўся цёмна-шэры мелавы крэмень, паклады якога знаходзяцца на беразе старыцы р. Сож. Адносіцца да позняга мезаліту (6—5-е тысячагоддзі да н. э.).

Матэрыялы раскопак стаянак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР, Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

**2175в.** Курганны могільнік. За 1 км на паўночны ўсход ад стаянкі-2, уздоўж дарогі на вёску. 5 насыпаў вышынёй 0,5—1,8 м, дыяметрам 8—14 м. Адкрыў у 1928 г. К. М. Палікарповіч, абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Копытин В. Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, № 149; яго ж. Мезолитическое поселение Горки в Посожье.— Там жа. М., 1979, № 157; яго ж. Поздний мезолит Посожья.— У кн.: Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983; Липницкая О. Л. Мезолитическая стоянка Криничная.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1979, № 157.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Гронава (Гронаў), Вепринскі сельсавет**

**2176. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1,5 км на захад ад вёскі, на карэнным левым беразе р. Сож, ва ўрочышчы Курганне, каля былой



2178. *Помнік землякам.*

в. Варацец. Захавалася 89 насыпаў. 4 курганы вышынёй 2,5—3 м, дыяметрам каля 12 м, вышыня астатніх каля 1,5 м, дыяметр каля 8 м. Адкрыла ў 1977 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2177. ПАСЕЛІШЧА** (археал.). Паміж вёскамі Гронава і Вепрын, ва ўрочышчы Курганне, на левым беразе р. Сож, на краі першай надпоймавай тэрасы. Адкрыў у 1974 г. В. П. Трацякоў. Раскопкі праводзіла ў 1975 г. А. Г. Калечыц. У раскопе плошчай 100 м² знойдзена вялікая колькасць крамянёвых ромбападобных наканечнікаў стрэл, скрабкоў, разцоў, скобляў, нуклеусаў, адшчэпаў і асколкаў крэменю. Шматлікія фрагменты керамікі ўпрыгожаны адбіткамі грэбеня, лапчастым арнаментам і ямкамі. Адносіцца да верхнедняпроўскай культуры эпохі неаліту, датуецца 2-й паловай 3-га тысячагоддзя да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Калечиц Е. Г. Исследования в Посожье.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978. *А. Г. Калечыц.*

**2178. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 27 жыхароў вёскі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптуры воіна і жанчыны, 2 бетонныя пліты і дошка з імёнамі загінуўшых.

**в. Журавель, Сормаўскі сельсавет**

**2179. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 2,5 км на паўднёвы захад ад вёскі, паміж урочышчамі Мел і Чорны Бераг, на правым беразе р. Сож. 43 насыпы вышынёй 1—3 м, дыяметрам 6—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1977 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *А. Г. Калечыц.*

**2180. МАГІЛА ШЧАЎЛІКАВА** Васіля Піліпавіча (гіст.). На могілках. Член Чэрыкаўскага падпольнага райкома КП(б)Б В. П. Шчаўлікаў загінуў у барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у снежні 1941 г. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2181. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Сож, ва ўрочышчы Мел. Выявіў у 1928 г., даследаваў у 1934 г. К. М. Палікарповіч. У 1972—73 гг. раскопкі праводзіў В. Ф. Капыцін. Даследавана 130 м² культурнага пласта, які залягаў на глыбіні 0,5—0,6 м. У цэнтры раскопу, у паглыбленні авальнай формы памерам 1,5×2 м, ускрыта майстэрня па апрацоўцы крэменю. Сабрана больш за 6 тыс. расшчэпленых крамянёў, у т. л. 290 прылад працы: нуклеусы, тронкавыя наканечнікі стрэл, бакавыя, сярэдзінныя і вуглавыя разцы, канцавыя, двайныя і паўкруглыя скрабкі, клінападобныя сякеркі, вырабы з выемкамі, праколкі і пласціны з апрацаваным рэтушшу краем. Датуецца познім мезалітам (6—5-е тысячагоддзі да н. э.).



2181. *Стаянка.*



2181. *Стаянка. Агульны выгляд раскопу.*



2181. *Крамянёвыя прылады працы са стаянкі.*




2182. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным музеі БССР, Магілёўскім абласным краязнаўчым музеі і ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Поликарпович К. М. Стоянки Среднего Посожья.— У кн.: Материалы по археологии БССР. Мн., 1957, т. 1; Ляўдансkі А. М., Палікарповіч К. М. Археалагічныя доследы ў БССР у 1933—1934 гг.— У кн.: Запіскі Беларускай Акадэміі навук. Мн., 1936, кн. 5; Копытин В. Ф. Мезолит Юго-Восточной Белоруссии.— У кн.: Краткие сообщения Ин-та археологии АН СССР. М., 1977, в. 149; яго ж. Поздний мезолит Посожья.— У кн.: Изыскания по мезолиту и неолиту СССР. Л., 1983.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Зоры, Сормаўскі сельсавет**

**2182. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баі су-

праць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1967 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Зябень, Ушакоўскі сельсавет**

**2183. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА ЦІТОВІЧ** Валянціне Якаўлеўне (гіст.). На будынку школы. Устаноўлена ў 1966 г.

В. Я. Цітовіч нарадзілася ў 1910 г. Працавала настаўніцай у Зябенскай школе. У перыяд нямецка-фашысцкай акупацыі трымала явачную кватэру Чэрыкаўскага падпольнага райкома КП(б)Б. З канца жніўня 1941 г. партызанская сувязная-разведчыца (падпольная мянушка «Л ё л я»). Здабывала звесткі пра фашысцкія гарнізоны і паліцэйскія ўчасткі, перапісвала і распаўсюджвала зводкі Саўінфармбюро, узначальвала Зябенскую падпольную антыфашысцкую арганізацыю з 10 чалавек. 23.2.1942 г. гітлераўцы арыштавалі В. Я. Цітовіч і пасля катаванняў расстралялі 2.3. 1942 г.

*Літ.:* Храмович Г. А. Зарево над Сожем.— Мн., 1971. *В. Б. Караткевіч.*

**в. Камаровічы, Рэчыцкі сельсавет**

**2184. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Г а р а д з і ш ч а. За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на правым беразе р. Волчас. Пляцоўка трохвугольная памерам 42×40 м, з 2 бакоў абмежавана ярамі, з трэцяга ўмацавана дугападобным валам вышынёй каля 5 м, шырынёй 10 м і ровам глыбінёй 1,5 м. Гарадзішча добра захавалася, здзірванела і зарасло густым хмызняком. Абследаваў у 1983 г. С. Я. Расадзін. У цэнтры пляцоўкі закладзены шурф 1×1 м, культурны пласт 0,4 м, у ім знойдзены абломкі ляпнога посуду ранняга жалезнага веку.




**2184.** *Гарадзішча. План.*




**2188.** *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР. *С. Я. Расадзін.*

**2185. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Краіна Саветаў». На ўшанаванне памяці землякоў — воінаў, партызан, ахвяр фашызму, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1983 г. пастаўлены помнік — скульптура воіна з аўтаматам.

**2186. ЦАРКВА** (архіт.). На ўскраіне вёскі, каля дарогі. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. з дрэва.

Царква складаецца з 4 зрубаў: асноўнага, алтарнага, дадатковага і бабінца. Асноўны зруб квадратны ў плане, завершаны васьміграннымі барабанам са сферычным купалам. Алтарны і дадатковы зрубы прамавугольныя, ніжэйшыя за асноўны, накрыты двухсхільнымі дахамі. Бабінец роўны па вышыні з асноўным зрубам, прамавугольны ў плане, пастаўлены перпендыкулярна да падоўжнай восі будынка. Над бабінцам надбудавана званіца (васьмярык на васьмерыку). Завяршэнне не захавалася. Сцены гарызантальна ашаляваны і прарэзаны вялікімі аконнымі праёмамі з прамавугольнымі і арачнымі імпастамі. У інтэр'еры перакрыцце асноўнага зруба — самкнёнае скляпенне, у астатніх памяшканнях столь плоская.

Царква — помнік традыцыйнага драўлянага дойлідства з рысамі класіцызму. *Т. В. Габрусь.*

**в. Лабанаўка, цэнтр сельсавета**

**2187. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. у баях пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1956 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**пас. Лімень (Лемень), Чэрыкаўскі гарадскі Савет**

**2188. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943 г. У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2189. МАГІЛА ГУТАРАВА** Івана Васілевіча (гіст.). На могілках.

Беларускі савецкі літаратуразнавец і фалькларыст, член-карэспандэнт АН БССР (1953 г.), доктар філалагічных навук, прафесар (1949 г.) І. В. Гутараў нарадзіўся 2.4.1906 г. у в. Воўкаўка Мсціслаўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1940 г. Выхоўваўся ў дзіцячых дамах на Магілёўшчыне і ў Мінску, у Лименскай школе-камуне імя У. І. Леніна. Скончыў БДУ (1928 г.). У 1928—38 гг. працаваў выкладчыкам у культасветным тэхнікуме, педагагічным і палітасветным інстытутах у Магілёве. У Вялі-




**2190.** *Помнік на магіле М. М. Лепяшынскага*

кую Айчынную вайну ўдзельнік партызанскага руху на Беларусі. У 1947—51 гг. загадчык аддзела навукі, літаратуры і мастацтва Упраўлення прапаганды і агітацыі ЦК КП(б)Б, у 1951—57 гг. выкладчык у БДУ. З 1957 г. загадчык сектара фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Аўтар даследаванняў па тэорыі і гісторыі беларускай і рускай літаратуры, эстэтыцы, беларускім фальклоры; адзін з аўтараў кн. «Беларуская народная вусна-паэтычная творчасць» (1967 г.). Памёр І. В. Гутараў 8.2.1967 г. У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Бурносаў В. Заўсёды ў творчым непакоі.— Полымя, 1966, № 5; Пісьменнікі Савецкай Беларусі.— Мн., 1981.
*В. Б. Караткевіч.*

**2190. МАГІЛА ЛЕПЯШЫНСКАГА** Мадэста Мікалаевіча (гіст.). На могілках.

Педагог, кіраўнік Леменскай доследна-паказальнай школы-камуны імя У. І. Леніна М. М. Лепяшынскі нарадзіўся ў 1878 г. у в. Ліцвінавічы Кармянскага р-на Гомельскай вобл. у сям'і свяшчэнніка. Скончыў духоўную семінарыю ў Магілёве, працаваў сельскім настаўнікам на Гомельшчыне. Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 г. быў сакратаром выканкома Кармянскага валаснога Савета, потым настаўнікам Чэрыкаўскай школы.

Разам з братам П. М. Лепяшынскім і настаўнікам М. І. Кернажыцкім М. М. Лепяшынскі ў 1920 г. арганізаваў у в. Лемень школу-камуну імя У. І. Леніна, якая існавала да 1924 г. Апрача агульнаадукацыйных прадметаў, у ёй выкладалі асновы сельскай гаспадаркі. Характэрнай асаблівасцю школы было вучнёўскае самакіраванне. На чале школьнага калектыву стаяў пленум актыву, які выбіраўся на агульным сходзе. Дзейнічалі працоўная, гігіенічная, культурна-масавая, харчовая, гаспадарчая камісіі, працавалі спартыўны, шахматны, мастацкай самадзейнасці і інш. гурткі. М. М. Лепяшынскі выкладаў у школе матэматыку, яго сястра З. М. Лепяшынская — рускую і замежную мовы, рускую літаратуру. Леменская школа-камуна выпусціла каля 150 чалавек, сярод іх — член-карэспандэнт АН БССР І. В. Гутараў, акадэмік АН БССР П. Ф. Ракіцкі (выкладчык батанікі ў Леменскай школе), кампазітар І. І. Любан і інш. Памёр М. М. Лепяшынскі 29.9.1922 г.

У 1972 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Нарысы гісторыі народнай асветы і педагагічнай думкі ў Беларусі.— Мн., 1968.
*В. Б. Караткевіч.*

**в. Лобча, Лабанаўскі сельсавет**

**2191. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку 1943 г. у баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран. У 1951 г. на магіле пастаўлена стэла.



2191. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2192. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). Каля канторы саўгаса «Наватар». Пахаваны экіпаж самалёта 60-га бамбардзіровачнага авіяпалка 11-й авіядывізіі: капітан М. М. Нікалаеў, старшы лейтэнант І. П. Багатыроў, старшына Ф. А. Сылка, якія загінулі 11.7.1941 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск, перад ім — лопасці прапелера.

**в. Манастырок, Сормаўскі сельсавет**

**2193. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 6 воінаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну. У 1949 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2194. МЕСЦА РАЗМЯШЧЭННЯ ЧЭРЫКАЎСКАГА ПАДПОЛЬНАГА РАЙКОМА КП(б)Б** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Крынічка, з правага боку ад дарогі на Чэрыкаў (2 км ад яе).

Чэрыкаўскі падпольны райком КП(б)Б дзейнічаў у ліпені — снежні 1941 г. і 4.6—1.10.1943 г.; сакратар Г. А. Храмовіч. Райком кіраваў падпольнымі групамі ў Чэрыкаве і навакольных вёсках, у жніўні 1941 г. арганізаваў асобны партызанскі атрад на чале з Г. А. Храмовічам. Да кастрычніка 1941 г. атрад вёў баявыя дзеянні на тэрыторыі раёна. У лістападзе выцеснены карнікамі ў Бранскія лясы, у снежні вярнуўся ў Чэрыкаўскі р-н, 26.12.1941 г. група партызан на чале з Г. А. Храмовічам перадыслацыравалася ў Бабруйскі, потым у Клічаўскі р-ны, дзе аб'ядналася з Кіраўскім атрадам.

На месцы, дзе ў 1941 г. размяшчаўся Чэрыкаўскі падпольны райком КП(б)Б, адноўлена зямлянка.

**в. Мірагошч, Сормаўскі сельсавет**

**2195. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў кастрычніку — лістападзе 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна ці памерлі ад ран. У 1949 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2196. МАГІЛА РАДЗІВІЛАВА** Паўла Мікітавіча (гіст.). На могілках. Лейтэнант Чырвонай Арміі П. М. Радзівілаў (нарадзіўся ў 1922 г.) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх акупантаў 22.3.1943 г. У 1951 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Наркі, Верамейкаўскі сельсавет**

**2197. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 2 км на паўночны захад ад вёскі, на мысе васьміметровай тэрасы левага берага р. Казёл. Пляцоўка памерам 17×50 м па форме нагадвае правільны чатырохвугольнік, з усіх бакоў умацавана валам вышынёй каля 3 м, шырынёй 3—6 м. Ад карэннага берага ракі гарадзішча аддзелена 2 равамі глыбінёй каля 4 м, паміж імі прасочаны другі вал вышынёй каля 3 м. Адкрыў і абследаваў у 1977 г. Г. В. Штыхаў. У разрэзе вала знойдзены вугалі і кераміка ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся.

Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.
*А. Г. Калечыц.*

**в. Пільня, Ушакоўскі сельсавет**

**2198. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у ліпені 1941 г. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Прыпёчына, Язёрскі сельсавет**

**2199. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 65 воінаў і партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў ці памерлі ад ран у 1941 г. і кастрычніку 1943 г. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Рагаліна, Язёрскі сельсавет**

**2200. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы, у скверы. На ўшанаванне памяці 100 жыхароў вёс-

кі, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла з імёнамі загінуўшых.

**в. Рынкоўка, Лабанаўскі сельсавет**

**2201. РАДЗІМА ЯЎСЕЕНКІ** Уладзіміра Раманавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза У. Р. Яўсеенка нарадзіўся 22.11.1922 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1946 г. Скончыў Іркуцкае авіятэхнічнае вучылішча ў 1942 г., Томскі універсітэт у 1961 г. У Чырвонай Арміі з 1941 г. З лютага 1943 г. на фронце. Удзельнічаў у баях за вызваленне Украіны, Малдавіі, Венгрыі. Механік-вадзіцель танка гвардыі старшы сяржант У. Р. Яўсеенка вызначыўся ў жніўні 1944 г. пры вызваленні Румыніі і фарсіраванні р. Сірэт. У баях за гарады Бырлад, Факшані, Бузэу экіпаж танка знішчыў 5 самаходных установак, 5 гармат, больш за 400 гітлераўцаў, захапіў 8 мінамётаў, 400 вінтовак і 10 ручных кулямётаў. Танк першы прарваўся да моста цераз р. Сірэт, знішчыў 3 артылерыйскія батарэі і ўтрымліваў мост да падыходу падмацавання. Званне Героя Савецкага Саюза У. Р. Яўсеенку прысвоена 24.3. 1945 г. Да 1961 г. працаваў у Томску. Памёр 31.10.1978 г.

**в. Рэчыца, цэнтр сельсавета**

**2202. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАНА** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 26 воінаў і 1 партызан, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у кастрычніку 1943 г. ці памерлі ад ран у 1944 г. У 1966 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна з вянком.




2200. *Помнік землякам.*




2203. *Помнік землякам.*

**2203. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 365 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены помнік — двухфігурная скульптурная кампазіцыя.

**в. Сакалоўка, Язёрскі сельсавет**

**2204. МАГІЛА ПЯРКОВА** Аляксандра Іванавіча (гіст.). За 2 км на захад ад вёскі, злева ад аўтамабільнай дарогі Чэрыкаў — Слаўгарад. Капітан Чырвонай Арміі А. І. Пяркоў (нарадзіўся ў 1906 г. у в. Чаплыгіна 2-е Фацежскага р-на Курскай вобл.) загінуў у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў 26.10.1943 г. У 1944 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2205. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1982 г. пастаўлены помнік — скульптурныя фігуры воіна і жанчыны.

**в. Тур'е, Сормаўскі сельсавет**

**2206. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны воіны, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і 1943 г. У 1951 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2207. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадзец. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, у лесе на правым беразе р. Вудажка (прыток р. Вудага). Пляцоўка авальная, памерам 35×22,5 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 0,7—2,7 м, добра захавалася. Абследавалі ў 1936 г. А. М. Ляўданскі і А. Дз. Каваленя, у 1983 г. С. Я. Расадзін. Культурны пласт адсутнічае. Відаць, з'яўлялася гарадзішчам-сховішчам.

**в. Ушакі, цэнтр сельсавета**

**2208. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 12 воінаў, якія загінулі ў верасні — кастрычніку 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2209. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2209а.** Могільнік-1. За 2,5 км на паўночны захад ад вёскі, ва ўрочышчы Вусці, за 1 км на паўночны ўсход ад месца ўпадзення р. Сянна ў р. Сож. 8 насыпаў вышынёй каля 1 м, дыяметрам 6 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1977 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

**2209б.** Могільнік-2. За 1,2 км на поўнач ад вёскі, ва ўрочышчы Шведскія Горы. 44 насыпы добрай захаванасці. 4 курганы вышынёй 2,5—3 м, астатнія — каля 1,5 м. Дыяметр вялікіх курганоў 12 м, малых — каля 8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1977 г. А. Г. Калечыц. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *А. Г. Калечыц.*

**2210. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У скверы, насупраць будынка праўлення калгаса «Маладая гвардыя». На ўшанаванне памяці 91 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1977 г. пастаўлены помнік — скульптурная кампазіцыя: воін і жанчына.



2205. *Помнік землякам.*

**в. Юдаўка, Верамейкаўскі сельсавет**

**2211. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовыя назвы Курган, Кузыўлёў хутар. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Вуджажка (прыток р. Вудага). Займае авальны ў плане мыс. Пляцоўка памерам 60×30 м умацавана кальцавым валам, з боку поля ёсць дугападобны вал і 2 равы. Гарадзішча добра захавалася, здзірванела. Абследавалі ў 1956 г. П. А. Рапапорт, у 1983 г. С. Я. Расадзін. Пасярэдзіне пляцоўкі закладзены шурф 1×1 м, культурны пласт не больш 0,15 м. У ім знойдзены абломкі ганчарнай керамікі. Належыць да рэшткаў феадальных старажытных замкаў. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Раппопорт П. А. Очерки по истории русского военного зодчества X—XIII вв.— М.; Л., 1956. *С. Я. Расадзін.*

**2212. ПАРК** (архіт.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на пакатым беразе сажалкі. Закладзены ў пачатку 20 ст.

Займае плошчу каля 7 га. Цягнецца з захаду на ўсход, абмежаваны па перыметры ліпавай і яловымі алеямі. Падзелены алеяй з ліпы і серабрыстай таполі на 2 часткі. Усходняя — пейзажнага тыпу. Тут знаходзіўся сядзібны дом (не захаваўся), вакол яго былі разбіты кветнікі, раслі акацыя, дубы, ліпы. Ад дома да сажалкі і ліпавай альтанкі вядзе бэзавая алея. Каля сажалкі быў млын (не захаваўся). Заходняя частка парку эканамічнага тыпу. Пладовы сад захаваўся часткова, у паўднёва-ўсходнім кутку яго — зялёная альтанка з пасаджаных па крузе клёнаў. Праз сад паралельна бакавым алеям праходзіла ўязная ліпавая алея.

Помнік садова-паркавага мастацтва.
*А. Ю. Пятросава.*

**в. Язёры, цэнтр сельсавета**

**2213. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1943 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1966 г. на магіле пастаўлена стэла.



2211. *Гарадзішча. План.*




2210. *Помнік землякам.*

**2214. МАГІЛА ЛЕБЕДЗЕВА** Уладзіміра Іванавіча (гіст.). На могілках.

Разведчык-падрыўнік У. І. Лебедзеў нарадзіўся ў 1924 г. у г. Ялец Ліпецкай вобл. Член ВЛКСМ. У верасні 1942 г. закінуты з групай на акупіраваную нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыю Магілёўскай вобл. Удзельнічаў у баявых аперацыях: у верасні 1942 г. у падрыве бранепоезда на ўчастку чыгункі Гарадок — Невель, у канцы кастрычніка 1942 г.— чыгуначнага саставу на ўчастку Рагачоў — Быхаў. 12.12.1942 г. пры выкананні баявога задання быў цяжка паранены і захоплены гітлераўцамі ў палон. Пасля катаванняў павешаны 15.12.1942 г.




2212. *Парк. Схема планіроўкі: 1 — месца, дзе быў сядзібны дом; 2 — месца, дзе быў млын; 3 — сажалка; 4 — парк; 5 — сад.*

У 1965 г. на магіле пастаўлена стэла. *П. З. Шаўцоў*

**2215. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі, у скверы. На ўшанаванне памяці 121 земляка, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1965 г. пастаўлены абеліск.



2215. *Помнік землякам.*

24 Зак. 1480




# ШКЛОЎСКІ РАЁН

Баркі 1-я
Капысіца
Александрыя
Старaселле
Вял. Мяжнік
Тройца
Слабодка
Стар. Стайкі
Заброддзе
Вял. Славені
Ржаўцы
Вял. Уланава
Любінічы
ШКЛОЎ
Гарадзец
Акунёўка
Гарадзішча
Вял. Стары Шклоў
Рыжкавічы
Стар. Чамаданы
Ордаць
Княжыцы
Вял. Чорнае
Фашчаўка
Чарнаручча
Камароўка
Тударава
Дабрэйка
Таўкачы
Бель
Каменныя Лавы
Чэрнеўка
Стар. Вадва
Плешчыцы
Вял. Лазіцы
Барсукі
Пудаўля
Заходы

Цэнтр раёна

Цэнтры сельсаветаў

Помнікі і памятныя месцы Вялікай Айчыннай вайны (месцы баёў, магілы савецкіх воінаў і партызан, Курганы Славы, помнікі землякам і інш.)

Помнікі ахвярам фашызму (месцы канцлагераў і лагераў смерці, месцы масавай загубы насельніцтва, спаленыя і неадноўленыя вёскі і інш.)

Помнікі і месцы рэвалюцыйнага руху (Рэвалюцыя 1905–07гг., Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя, Грамадзянская вайна)

Стаянкі, паселішчы, гарадзішчы

Могільнікі (грунтавыя, курганныя), курганы

Помнікі і месцы, звязаныя з імёнамі савецкіх, партыйных і дзяржаўных дзеячаў, дзеячаў культуры, навукі і тэхнікі, Герояў Савецкага Саюза і Сацыялістычнай Працы

Палацы, сядзібы, асабнякі

Жылыя дамы, забудова вуліц дасавецкага перыяду

Культавая архітэктура

Адміністрацыйныя і грамадскія збудаванні дасавецкага перыяду

## XX. ШКЛОЎ

Горад, цэнтр раёна. На правым беразе Дняпра. За 30 км на поўнач ад Магілёва. Чыгуначная станцыя на лініі Орша — Магілёў.

Вядомы з 1-й паловы 16 ст. Належаў магнатам Хадкевічам, Сяняўскім, Чартарыйскім. З 1568 г. цэнтр Шклоўскага графства. Уваходзіў у Аршанскі павет Віцебскага ваяводства. У 1643 г. у Шклове было 4750 жыхароў, 950 дамоў. Пасля пажару 1668 г. Шклоў перанесены на бераг Дняпра (на першапачатковым яго месцы цяпер знаходзіцца в. Малы Стары Шклоў). У 1762 г. атрымаў правы горада. З 1772 г. у складзе Расійскай імперыі. У 1773—77 гг. павятовы горад Магілёўскай губерні, потым мястэчка, цэнтр воласці Магілёўскага павета. З 1773 г. уладанне князя Р. А. Пацёмкіна, з 1788 г.— генерал-лейтэнанта С. Г. Зорыча. У 1781 г. заснавана гадзіннікавая фабрыка. Дзейнічалі мануфактуры шаўковая (з 1781 г.), канатная (1790—99 гг.), парусінавая (1794—1845 гг.), гарбарная і суконная (з 1794 г., у 1797 г.— 108 рабочых). У апошняй чвэрці 18 ст. працаваў тэатр С. Г. Зорыча, у трупе якога былі спевакі, танцоры, драматычныя акцёры і музыканты-інструменталісты. Існаваў кадэцкі корпус. У пачатку 19 ст. Шклоў — важны гандлёвы цэнтр на Беларусі, прыстань на Дняпры, пасля пабудовы чыгункі (пачатак 20 ст.) Орша — Магілёў — чыгуначная станцыя. У пачатку 20 ст. у горадзе больш за 10 тыс. жыхароў, 2 пачатковыя вучылішчы. Заснаваная ў 1898 г. папяровая фабрыка ў 1910 г. мела 207 рабочых.

У 1903 г. створана Шклоўская арганізацыя РСДРП. Пад яе кіраўніцтвам жыхары ўдзельнічалі ў Рэвалюцыі 1905—07 гг. Адбыліся стачкі, палітычныя дэманстрацыі, узброенае сутыкненне з паліцыяй; у першамайскай стачцы-масоўцы ў 1905 г. прынялі ўдзел каля 500 чалавек. Савецкая ўлада ўстаноўлена ў лістападзе 1917 г., быў арганізаваны атрад Чырвонай гвардыі. У лютым 1918 г. горад акупіраваны нямецкімі войскамі. Барацьбу працоўных супраць акупантаў узначальваў падпольны падраённы камітэт РКП(б). Летам 1918 г. адбылася забастоўка рабочых Шклова супраць германскіх інтэрвентаў. 28.10. 1918 г. уладу ў горадзе ўзяў ваенна-рэвалюцыйны камітэт. З 1919 г. Шклоў у складзе РСФСР, з 1924 г.— у БССР, цэнтр раёна. З 1925 г. горад. У 1939 г.— 8,1 тыс. жыхароў. Працавалі школа медсясцёр, Магілёўская абласная школа Наркамзема БССР. Рэканструяваная і расшыраная папяровая фабрыка «Спартак» у 1940 г. налічвала 480 рабочых.

У Вялікую Айчынную вайну з 14.7. 1941 г. горад акупіраваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі, якія ў верасні 1941 г. загубілі тут каля 3 тыс. мірных жыхароў. На тэрыторыі раёна дзейнічалі падпольныя райкомы КП(б)Б (28.6.1943 г.— 29.6.1944 г.) і ЛКСМБ (1.6.1943 г. — 29.6.1944 г.), Шклоўская ваенна-аператыўная група (ВАГ; створана ў жніўні 1943 г. на базе 7 партызанскіх атрадаў; 29.6.1944 г. у складзе 2617 чалавек злучылася з Чырвонай Арміяй). Выдавалася газета «За Родину» — орган падпольнага райкома КП(б)Б. Шклоў вызвалены 27.6.1944 г. у ходзе Беларускай наступальнай аперацыі войскамі 33-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант В. Дз. Кручонкін) 2-га Беларускага фронту пры ўдзеле партызан Шклоўскай ВАГ. У 1959 г.— 7,8 тыс. жыхароў.

Планіровачная структура склалася гістарычна, у значнай ступені абумоўлена размяшчэннем горада на Дняпры. Забудова выцягнута з поўначы на поўдзень, абмежавана ракой з усходняга боку. З захаду праходзіць чыгунка Магілёў — Орша.

Генеральныя планы забудовы распрацаваны ў 1966 г. Магілёўскімі абласнымі праектнымі майстэрнямі інстытута «Белдзяржпраект» і ў 1976 г. Беларускім навукова-даследчым і праектным інстытутам горадабудаўніцтва. Сетка вуліц прамавугольная. Асноўная планіровачная вось — вул. 1-я Савецкая. На яе скрыжаванні з вул. Пралетарскай фарміруецца плошча — адміністрацыйна-грамадскі цэнтр горада. Шматпавярховыя жылыя дамы пабудаваны на вул. Пралетарскай, Паркавай і інш. Новае капітальнае будаўніцтва вядзецца на свабодных землях паміж усходняй граніцай гарадскога парку і папяровай фабрыкай «Спартак», а таксама ў паўночнай частцы горада.



XX. *Адміністрацыйны будынак па 1-й Савецкай вуліцы.*

Асноўныя прамысловыя прадпрыемствы размешчаны ў паўночна-ўсходняй частцы Шклова. Дзейнічаюць фабрыкі папяровая «Спартак» і мэблевая, маслазавод (філіял Магілёўскага малочнага завода), хлебазавод, ільнозавод, камбікормавы завод, мэблевае вытворчае аб'яднанне, будаўнічых матэрыялаў і бытавога абслугоўвання камбінаты, раённае аграпрамысловае аб'яднанне. Працуюць гарадское прафесійна-тэхнічнае вучылішча лёгкай прамысловасці, 3 сярэднія, вячэрняя, музычная і дзіцяча-юнацкая спартыўная школы, спецшкола-інтэрнат, 10 дашкольных устаноў, Дом піянераў і школьнікаў, Дом культуры, клуб, кінатэатр, 4 бібліятэкі, бальніца. Выдаецца раённая газета «Ударны фронт».

Помнікі: У. І. Леніну, на брацкіх магілах савецкіх воінаў, землякам. Захаваліся помнікі архітэктуры — ратуша (18 ст.), касцёл (на рубяжы 19—20 стагоддзяў), Праабражэнская царква (пачатак 20 ст.) і інш.

Зона адпачынку — гарадскі парк (каля 20 га) уздоўж вул. Калгаснай, сквер у цэнтры горада і ўзбярэжжа Дняпра.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905; Штыхов Г. В. Археологическая карта Белоруссии. В. 2.— Мн., 1971; Подпольные партийные органы Компартии Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1975; Подпольные комсомольские органы Белоруссии в годы Великой Отечественной войны (1941—1944).— Мн., 1976.

*А. І. Валахановіч, А. А. Міцянін.*

**2216. АСАБНЯК** (архіт.). Парк імя Леніна, 3. Пабудаваны ў пачатку 20 ст. з дрэва. Цяпер прыстасаваны пад клуб папяровай фабрыкі «Спартак».

Асабняк — аднапавярховы Т-падобны ў плане будынак, накрыты пакатым вальмавым дахам. Па баках цэнтральнай часткі, якая выступае, зроблены сіметрычныя ўваходы, аформленыя ганкамі з разнымі слупамі і парапетам-балюстрадай у завяршэнні. Тарэц цэнтральнай часткі вырашаны ў выглядзе галерэі з такімі ж разнымі слупамі. Фасады будынка багата дэкарыраваны разнымі накладнымі дэталямі, якія імітуюць мураваныя класіцыстычныя формы. Плоскасці сцен гарызантальна ашаляваны і завершаны развітым антаблементам з фрызам і карнізам вялікага вынасу на разных фігурных кранштэйнах. Вуглы аздоблены накладным рустам. Па нізу сцен вертыкальнай шалёўкай вылучана падаконная панель. На галоўным фасадзе ў цэнтры і над бакавымі крыламі зроблены дэкаратыўныя трохвугольныя франтоны. Вялікія прамавугольныя аконныя праёмы аздоблены ліштвамі з філёнгавымі нішамі і сандрыкамі. Інтэр'ер значна зменены ў час рэканструкцыі. Захаваліся 2 кафляныя печы, разны плафон столі ў бібліятэцы.

Асабняк — помнік драўлянага дойлідства з элементамі неакласіцызму.

*Т. В. Габрусь.*

**2217. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Вул. 1-я Савецкая, у скверы. Пахаваны 147 воінаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. Сярод іх — воіны 252-га, 329-га стралковых палкоў 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі, 566-га стралковага палка 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту. У 1954 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна на фоне абеліска.



2217. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

**2218. БУДЫНАК КАНТОРЫ ПАПЯРОВАЙ ФАБРЫКІ «СПАРТАК»** (архіт.). Вул. Фабрычная, 26. Пабудаваны ў 1898 г. з цэглы.

Будынак двухпавярховы, у плане блізкі да квадрата. Галоўны паўночны фасад вылучаны трохпавярховай вежай, завершанай высокім шатром, заломы якога падтрымліваюцца разнымі фігурнымі кранштэйнамі. На ніжнім паверсе вежы зроблены ўваход у будынак. Бакавыя фасады ў цэнтры раскрапаваны рызалітамі. Асноўны аб'ём накрыты вальмавым, рызалітамі — двухсхільнымі дахамі, што стварае складаную маляўнічую кампазіцыю пакрыцця. У цэнтры даху зроблены своеасаблівы ліхтар, які асвятляе вестыбюль 2-га паверха. Аконныя праёмы згрупаваны сіметрычна адносна восі кожнага з фасадаў, на 1-м паверсе лучковыя, на 2-м — паўцыркульныя, аформлены разнастайнымі абрамленнямі. Паўднёва-ўсходні вугал будынка вылучаны шырокім балконам на кансолях і вялікім акном з лучковай арачнай перамычкай. Дэкаратыўныя дэталі фасадаў выкананы цаглянай муроўкай: замковыя камяні, руст, сухарыкі. Унутры памяшканні згрупаваны вакол цэнтральнага вестыбюля. Планіроўка паверхаў ідэнтычная. Яны злучаны двухмаршавай лесвіцай, размешчанай у вежападобным аб'ёме. Пад будынкам вялікі падвал.

Будынак канторы — помнік грамадзянскай архітэктуры з элементамі стылю «мадэрн».

*Т. В. Габрусь.*

**2219. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. Паштовая, 31. Пабудаваны ў канцы 19 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны адміністрацыйныя ўстановы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Падоўжныя фасады раскрапаваны 2 аднавосевымі і 2 трохвосевымі плоскімі рызалітамі, якія паслядоўна чаргуюцца. Вузкія прасценкі паміж рызалітамі заглыблены і апрацаваны гарызантальнай рустоўкай. Вокны на 2-м паверсе прамавугольныя, на 1-м — з паўцыркульнымі імпастамі ці падобнымі на іх абрамленнямі ў выглядзе плоскіх арачных нішаў. Пластыку фасадаў узбагачаюць філёнгавыя рамы ў міжпаверхавых прасценках. У 1960-я гады да паўднёвага тарцовага фасада зроблена прыбудова з выступаючым уваходным аб'ёмам. Зменена ўнутраная планіроўка.

Жылы дом — помнік грамадзянскай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь.*

**2220. ЖЫЛЫ ДОМ** (архіт.). Вул. 1-я Савецкая, 54. Пабудаваны ў 18 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны адміністрацыйныя і грамадскія ўстановы.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Галоўны фасад завершаны шырокім карнізам і рытмічна раскрапаваны плоскімі пілястрамі, аздобленымі фігурнымі нішамі ў 2 ярусы. У прасценках паміж пілястрамі — прамавугольныя аконныя праёмы (на 1-м паверсе значна зменены). З поўначы да будынка прылягае двухпавярховая прыбудова, ніжні паверх якой вырашаны аналагічна асноўнаму будынку, 2-і паверх — драўляны, выкарыстоўваецца пад жыллё. Памяшканні 1-га паверха прыбудовы перакрыты крыжовымі скляпеннямі. Унутраная планіроўка будынка зменена.

Жылы дом — помнік грамадзянскай архітэктуры.

*Т. В. Габрусь.*

**2221. КАСЦЁЛ** (архіт.). Вул. Ленінская, 126а. Пабудаваны на рубяжы 19—20 стагоддзяў з цэглы. Часткова разбураны.

У аснове кампазіцыі храма — прамавугольны ў плане аб'ём з закругленай алтарнай часткай, накрыты двухсхільным дахам. Галоўны фасад (перабудаваны) мае плоскаснае вырашэнне, завершаны двухгранным шчытом і фланкіраваны здвоенымі гранёнымі пілонамі. Над уваходным прамавугольным праёмам — акно стральчатай формы. Бакавыя фасады дэкарыраваны пілястрамі, тонкапрафіляваным карнізам, прамавугольныя аконныя праёмы без ліштваў. Унутраная прастора будынка падзелена 4 слупамі на 3 нефы. У бакавых нефах вылучаны сакрысціі. Над уваходам хоры.

Касцёл — помнік эклектычнай архітэктуры.

*А. М. Кулагін.*

**2222. МАГІЛА ДЗІКУНА** Сяргея Мікалаевіча (гіст.). На могілках.




2221. *Касцёл. План.*




2222. *Помнік на магіле С. М. Дзікуна.*

Герой Сацыялістычнай Працы С. М. Дзікун нарадзіўся 30.6.1922 г. у в. Кнышэвічы Светлагорскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Скончыў Рэспубліканскую партыйную школу пры ЦК КПБ у 1953 г., БДУ у 1958 г. Удзельнік Вялікай Айчыннай вайны. З 1946 г. на партыйнай і савецкай рабоце ў Бабруйскім абкоме, Старобінскім і Кіраўскім райкомах КПБ, Шклоўскім райвыканкоме. З 1961 г. першы сакратар Шклоўскага райкома КПБ. Член ЦК КПБ у 1971—76 гг., дэпутат Вярхоўнага Савета БССР у 1967—71 гг. Званне Героя Сацыялістычнай Працы прысвоена 16.12.1971 г. за поспехі ў развіцці сельскай гаспадаркі і выкананне пяцігадовага плана продажу дзяржаве сельскагаспадарчых прадуктаў. Памёр 7.11.1978 г.

У 1980 г. на магіле пастаўлена стэла.

*Літ.:* Пошук вядуць камуністы.— Мн., 1969. *В. В. Семянюк.*

**2223. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА КАЛІНІНУ** Міхаілу Іванавічу (гіст.). На будынку чыгуначнага вакзала. Устаноўлена ў 1967 г. у памяць аб выступленні 14.6.1919 г. на станцыі Шклоў на мітынгу працоўных старшыні ВЦВК М. І. Калініна, які прыбыў сюды на чале агітпоезда «Кастрычніцкая рэвалюцыя».

**2224. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА РАБОЧЫМ ІЛЬНОЗАВОДА** (гіст.). На будынку канторы ільнозавода. Устаноўлена ў 1965 г. на ўшанаванне памяці 6 рабочых, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну.

**2225. МЕМАРЫЯЛЬНАЯ ДОШКА Ў ГОНАР ВОІНАЎ 70-й СТРАЛКОВАЙ ДЫВІЗІІ** (гіст.). Вул. 1-я Савецкая, на будынку кінатэатра «Мір». Устаноўлена ў 1967 г.

У ходзе наступальнай Магілёўскай аперацыі 1944 г. часці 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі (камандуючы генерал-лейтэнант В. Дз. Кручонкін) 2-га Беларускага фронту ў ноч з 26 па 27.6.1944 г. пад прыкрыццём артылерыйскага агню фарсіравалі Дняпро і ўварваліся ў Шклоў. Завязаліся вулічныя баі. 27 чэрвеня да 17 гадзін горад быў поўнасцю вызвалены ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

*В. В. Семянюк.*

**2226. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). На вул. 1-й Савецкай, у парку. Скульптура У. І. Леніна ўстаноўлена ў 1949 г.

**2227. ПОМНІК РАБОЧЫМ ПАПЯРОВАЙ ФАБРЫКІ «СПАРТАК»** (гіст.). Каля будынкаў папяровай фабрыкі. На ўшанаванне памяці 150 рабочых прадпрыемства, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**2228. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ І ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). На ўсходняй ускраіне горада, на левым беразе Дняпра. На ўшанаванне памяці воінаў, якія загінулі пры абароне і вызваленні горада, а таксама землякоў, што аддалі жыццё ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1979 г. пастаўлены абеліск.

**2229. ПРААБРАЖЭНСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). Вул. 1-я Савецкая, 57. Пабудавана ў пачатку 20 ст. (да 1905 г.) з цэглы.

Будынак крыжападобны ў плане, цэнтрычнай кампазіцыі. Над сярэдкрыжжам узвышаецца вялікі васьміграння светлавы барабан, накрыты гранёным шлемападобным купалам. Паміж крыламі крыжа ўбудаваны 4 квадратныя ў плане трох'ярусныя вежападобныя аб'ёмы. Верхнія васьміграныя ярусы са скразнымі праёмамі завершаны гранёнымі купаламі. Розныя вышыні аб'ёмаў надаюць кампазіцыі вытанчанасць і вертыкальную накіраванасць. Усе фасады вырашаны з ярка выяўленай сіметрыяй, падкрэсленай восевым размяшчэннем уваходаў, над якімі па 2 акны з арачнымі завяршэннямі. Іх матыў паўтараюць вялікія аркі накшталт закамар у завяршэнні сцен. Пластычная аздоба фасадаў даволі стрыманая: тонкія прафіляваныя карнізныя цягі, пілястры, плоскія нішы.

Інтэр'ер двухсветлавы, сярэдкрыжжа перакрыта самкнутым скляпеннем, астатнія часткі залы — цыліндрычнымі скляпеннямі з распалубкамі. У паўднёва-заходняй вежы — лесвіца на званіцу. Дэкаратыўны акцэнт у інтэр'еры зроблены на групах тонкіх калонак, якія падтрымліваюць светлавы барабан.



2228. *Помнік савецкім воінам і землякам.*

Царква — помнік эклектычнай архітэктуры, у якім спалучаны рысы стыляў псеўдавізантыйскага і «мадэрн».

*Т. В. Габрусь.*

**2230. РАТУША** (архіт.). У цэнтры горада, у скверы. Пабудавана ў канцы 18 ст. з цэглы. Пашкоджана ў Вялікую Айчынную вайну.

Спачатку будынак ратушы быў злучаны з аднапавярховымі гандлёвымі радамі (не захаваліся), што ставала замкнутую кампазіцыю з вялікім унутраным дваром. Ратуша — прамавугольны ў плане двухпавярховы аб'ём з васьмігранай двух'яруснай вежай, якая ўзвышалася над цэнтральнай часткай будынка. Вежа была



2229. *Праабражэнская царква.*

завершана пакатым гранёным купалам са шпілем. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі і расчлянёны пілястрамі. У 1-м паверсе зроблены скразны праезд, абапал якога размяшчаліся дапаможныя службы. Вуглавая двухмаршавая лесвіца вяла на 2-і паверх, дзе былі асноўныя службовыя памяшканні, згрупаваныя па баках кароткага калідора.

Прадаўгаватыя карпусы гандлёвых радоў складаліся з невялікіх памяшканняў з крыжовымі скляпеннямі. У цэнтры падоўжных бакоў гандлёвых радоў меліся праезды. Крамы былі арыентаваны на двор і на вуліцу, што дазваляла максімальна выкарыстоўваць гандлёвую плошчу. Архітэктура іх вызначалася прастатой і рытмічнасцю. Вуглавыя часткі ансамбля былі вылучаны двухпавярховымі рызалітамі з шатровымі завяршэннямі.



2230. *Будынак ратушы. Здымак пачатку 20 ст.*



2230. *Ратуша і гандлёвыя рады. План.*

Ратуша — помнік грамадзянскай архітэктуры з рысамі класіцызму.

*Літ.:* Чантурия В. А. История архитектуры Белоруссии.— 2 изд.— Мн., 1977. *А. А. Міцянін.*

**2231. СІНАГОГА** (архіт.). Вул. 2-я Савецкая, 99. Пабудавана ў 2-й палове 17 ст. з цэглы. Цяпер тут размешчаны раённая вочна-завочная сярэдняя школа і вучэбна-вытворчы камбінат.

Двухпавярховы прамавугольны ў плане будынак накрыты вальмавым дахам. Тоўстыя сцены нерытмічна прарэзаны аконнымі праёмамі, якія раней мелі лучковыя завяршэнні (захаваліся часткова). З боку ўсходняга дваровага фасада будынак умацаваны часта пастаўленымі магутнымі трохвугольнымі контрфорсамі, што надае яму выгляд абарончага збудавання. Дэкаратыўная аздоба фасадаў спрошчаная: шырокія плоскія лапаткі на вуглах будынка і складана прафіляваны карніз у завяршэнні сцен. Унутраная планіроўка зменена. Захаваліся крыжовыя скляпенні ў вестыбюлі 1-га паверха і лучковая арачная перамычка над драўлянай лесвіцай.

У 2-й палове 19 ст. да тарцоў прыбудаваны розныя па памерах аднапавярховыя аб'ёмы з двухсхільнымі дахамі. Бакавыя прыбудовы пастаўлены ў адну лінію з вулічным фасадам, што надало яму амаль сіметрычную кампазіцыю. Сцены бакавых крылаў завершаны простым карнізам з сухарыкамі, вокны прамавугольныя. У гэты ж час побач з сінагогай узведзены аднапавярховы будынак былой школы. Прамавугольны ў плане аб'ём складаецца з драўлянай і мураванай частак, накрытых агульным двухсхільным дахам. Аздоблены аналагічна бакавым прыбудовам сінагогі.

Будынак былой сінагогі — помнік мураванага дойлідства. *Т. В. Габрусь.*

**в. Баркі 1-я, Старасельскі сельсавет**

**2232. РАДЗІМА КАРНАЧОНКА** Мікалая Аляксандравіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза М. А. Карначонак нарадзіўся ў 1922 г. у сялянскай сям'і. Кандыдат у члены КПСС з 1942 г. У Чырвонай Арміі з 1940 г. З 1941 г. на Паўднёва-Заходнім, Сталінградскім франтах. Камандзір звяна знішчальнага авіяпалка лейтэнант М. А. Карначонак зрабіў 349 баявых вылетаў, збіў 10 самалётаў праціўніка. Загінуў у баі 22.9.1942 г. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.11.1942 г. Імем М. А. Карначонка названа вуліца ў Шклове. Яго імя прысвоена Аршанскаму мясакансерваваму камбінату.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Благаўка, Гарадзішчанскі сельсавет**

**2233. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўночны захад ад вёскі, на левым беразе р. Падол, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка памерам 37×42 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 3,5 м. Адкрыў у 1893 г. Е. Р. Раманаў, абследавалі ў 1926 г. А. М. Ляўданскі, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. У шурфе выяўлены культурны пласт 1,2 м. Знойдзены рэшткі ляпнога посуду. У разрэзе вала прасочваюцца 2 пажарышчы. Адносіцца да ранняга жалезнага веку. Раскопкі не праводзіліся. Матэрыялы абследавання 1978 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893; Левданский А. Н. Некоторые данные о городищах Смоленской губернии.— Смоленск, 1926. *В. М. Ляўко.*

**в. Вуглы, Чэрнеўскі сельсавет**

**2234. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі. Памер 30×100 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. Знойдзены крамянёвыя нуклеусы, прылады з выемкамі, вастрыі, канцавыя скрабкі. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.




2233. *Гарадзішча. План.*




2238. *Помнік землякам.*

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Вялікае Зарэчча, Гарадзецкі сельсавет**

**2235. СТАЯНКА** (археал.). За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе левага берага Дняпра. Памер 40×120 м. Выявіў у 1975 г., даследаваў у 1980 г. і 1982 г. на плошчы 83 м² В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,1 м залягаў на глыбіні 0,2—0,4 м. Знойдзены тронкавыя наканечнікі стрэл, канцавыя скрабкі, сярэдзінныя разцы. Адносіцца да ранняга мезаліту, датуецца 8—7-м тысячагоддзямі да н. э.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Изучение мезолитических памятников Восточной Белоруссии.— У кн.: Археологические открытия 1975 года. М., 1976; яго ж. Работы по изучению мезолита в Белорусском Поднепровье.— У кн.: Археологические открытия 1980 года. М., 1981; яго ж. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.
*В. Ф. Капыцін.*

**в. Вялікае Чорнае, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2236. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 33 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2237. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці аднавяскоўцаў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1963 г. пастаўлены абеліск.

**в. Вялікі Мяжнік, цэнтр Александрыйскага сельсавета**

**2238. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка магазіна. На ўшанаванне памяці 20 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1975 г. пастаўлена стэла.

**в. Вялікія Аўчыненкі, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2239. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на ўсход ад вёскі. 4 насыпы дыяметрам 10—13 м, вышынёй 0,8—1,4 м. Абследавала ў 1978 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Вялікія Лазіцы, Таўкачоўскі сельсавет**

**2240. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 19 ст. з дрэва.

Храм крыжова-купальны, на невысокім мураваным фундаменце. Сцены будынка зрублены з брусоў і ашаляваны. Да цэнтральнага кубічнага аб'ёму з 4 бакоў прымыкаюць ніжэйшыя за яго бабінец, прамавугольныя ў плане бакавыя крылы і пяціграпная апсіда, накрытыя вальмавымі дахамі з галоўкамі на васьміграпных барабанах. Цэнтральны аб'ём завершаны вялікім васьмігранным светлавым барабанам з высокім сферычным пакрыццём. Сцены прарэзаны прамавугольнымі аконнымі праёмамі. Перад галоўным уваходам ганак з двухсхільнай навіссю на здвоеных слупах. У інтэр'еры дамінуе скляпенне на ветразях, якое апіраецца на 3 пары слупоў.

Царква — помнік драўлянага дойлідства з элементамі класіцызму.
*А. А. Міцянін.*

**в. Вялікія Славені, цэнтр Славенскага сельсавета**

**2241. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Чарніца ў яе пойме, каля берагавога абрыву. 2 насыпы: першы курган апоўзлы, падоўжаны, памерам 12×5×0,5 м. Другі вышынёй 2,5 м, дыяметрам 17—20 м, у цэнтры яго яма глыбінёй 0,5 м, дыяметрам 1,5 м. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1985 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гаваракі, Старасельскі сельсавет**

**2242. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў. Сярод іх — воіны 252-га стралковага палка 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гавяды, Таўкачоўскі сельсавет**

**2243. МАГІЛА КУЛІКАВАЙ** Веры Дзмітрыеўны (гіст.). На могілках. Падпольшчыца В. Дз. Кулікава ў верасні 1943 г. закатавана нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1976 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Гарадзец, цэнтр сельсавета**

**2244. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Талерка. За 0,2 км на поўдзень ад заходняй ускраіны вёскі, на правым беразе р. Гародня. Вышыня над поймай 4 м. Пляцоўка памерам 25×25 м з паўднёвага, заходняга і ўсходняга бакоў умацавана ўнутраным падкованадобным валам вышынёй каля 1,5 м. Вышыня вонкавага вала, які абкружае гарадзішча, 2,5 м, шырыня 1,5 м. Шырыня рова, што аддзяляе вал ад гарадзішча, 3 м, другога рова — 2—3 м. Вонкавы вал павышаецца ў бок вёскі, з поўдня — праход шырынёй 1 м. З боку поля на адлегласці прыкладна 40—60 м прасочваецца глыбокі яр, які аддзя-



2240. *Пакроўская царква. Выгляд з боку апсіды.*




2240. *Пакроўская царква. План.*

ляе гарадзішча ад поля, з поўначы і захаду гарадзішча — балота. Пляцоўка і валы здзірванелі і парaслі дрэвамі і кустамі. Вядома з 1873 г., абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**в. Гарадзішча, цэнтр сельсавета**

**2245. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 35 воінаў 241-га стралковага палка 95-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Гарадок, Гарадзецкі сельсавет**

**2246. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на захад ад вёскі, на левым беразе р. Днепр. Пляцоўка амаль круглаватая, памерам 25×35 м, на заходнім краі яе ёсць невялікае ўзвышша. З боку поля прасочваюцца 2 валы. Унутраны вал пашкоджаны варонкамі і акопамі. Вонкавы вал вышынёй 5,5—7 м. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1985 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Гарадок, Старасельскі сельсавет**

**2247. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2247а.** Гарадзішча. На паўднёва-заходняй ускраіне вёскі, ва ўрочышчы Сісяпёва, каля могілак, на правым беразе р. Бярозаўка. Пляцоўка круглаватая, памерам 25×35 м, густа парасла дрэвамі і кустамі. Вышыня над наваколлем каля 15 м. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**2247б.** Курганны могільнік. За 0,2 км ад вёскі, у полі. 4 насыпы дрэннай захаванасці, вышынёй 2 м, дыяметрам 11,5 м. Вядомы з 1910 г. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**в. Гаршкова, Старасельскі сельсавет**

**2248. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 40 воінаў 68-га стралковага палка 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Аляксандр Васілевіч Бажанаў.

А. В. Бажанаў нарадзіўся 1.9.1917 г. у в. Труфанцава Барысаглебскага р-на Яраслаўскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1942 г. У Вялікую Айчынную вайну на фронце з 1941 г. Камандзір гарматы старшы сяржант А. В. Бажанаў вызначыўся 28.6.1944 г. пры вызваленні в. Гаршкова Шклоўскага р-на. Калі ў час адбіцця атакі танкаў праціўніка ў артылерыйскага разліку скончыліся боепрыпасы, А. В. Бажанаў кінуўся з гранатамі пад варожы танк. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г.

У 1968 г. на магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984. *В. В. Семянюк.*

**в. Гвалтоўнік, Старасельскі сельсавет**

**2249. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 0,8 км на поўдзень ад вёскі. Пахавана больш за 60 ваеннапалонных і мірных жыхароў, якіх у 1941 г. расстралялі нямецка-фашысцкія захопнікі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Дабрэйка, Каменнаплаўскі сельсавет**

**2250. МЕСЦА ФАРСІРАВАННЯ ДНЯПРА ЧАСЦЯМІ ЧЫРВОНАЙ АРМІІ Ў 1944 г.** (гіст.). За 0,8 км на ўсход ад вёскі. 26.6.1944 г. батальён (камандзір маёр У. К. Андрушчанка) 42-й стралковай дывізіі 69-га стралковага корпуса 49-й арміі 2-га Беларускага фронту фарсіраваў Дняпро і на працягу 12 гадзін утрымліваў плацдарм, што спрыяла пераправе асноўных сіл корпуса і поспеху наступальнай аперацыі. У 1965 г. на месцы фарсіравання пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Сидоренко А. А. На Могилевском направлении.— М., 1959.

**в. Дзіўнава, Ардацкі сельсавет**

**2251. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 7 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. пры абароне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2252. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі 9.4.1944 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1974 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Дубраўка 1-я, Фашчаўскі сельсавет**

**2253. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў 556-га стралковага




2244. *Гарадзішча. План.*



2246. *Гарадзішча. План.*




2247а. *Гарадзішча. План.*



2247б. *Курганны могільнік. План.*



2248. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

палка 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2254. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Б е л а я  Г а р а. На паўночна-ўсходняй ускраіне вёскі, за ручаём. Пляцоўка трохвугольная, памерам 34×26 м, з боку поля ўмацавана слаба выразным валам вышынёй 1 м. Культурны пласт у шурфе 0,5 м. Вядома з 1873 г. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**2255. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). На паўднёва-ўсходняй ускраіне вёскі. У гонар воінаў, якія ў ліпені 1941 г. вялі каля вёскі баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1983 г. пастаўлены абеліск.

**в. Дымава, Старасельскі сельсавет**

**2256. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,7 км на поўдзень ад вёскі, у лесе, за 0,5 км на поўдзень ад правага берага р. Дымаўка. 35 насыпаў вышынёй 0,5—2 м, дыяметрам 8—12 м. Выявіў і даследаваў у 1885 г. М. М. Турбін, які раскапаў 12 насыпаў. Пахавальны абрад — трупапалажэнне галавой на захад. У адным з курганоў нябожчык знаходзіўся ў становішчы седзячы, у другім (жаночым) пахаванні быў знойдзены вянок з бронзавых спіралей, шмат шкляных пацерак, 2 бранзалетападобныя скроневыя кольцы. Належаў крывічам, датуецца 10 — пачаткам 11 ст. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Дзяржаўным гістарычным музеі ў Маскве.

*Літ.:* Т у р б и н Н. М. Раскопки 1885 года.— У кн.: Древности. Труды Московского археологического общества. М., 1886, т. 11, в. 2. *В. М. Ляўко.*

**в. Еўдакімавічы, Заходскі сельсавет**

**2257. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 30 воінаў, якія ў чэрвені — ліпені 1944 г. памерлі ад ран у шпіталі. У 1954 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Заброддзе, Славенскі сельсавет**

**2258. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 40 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2259. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка школы. На ўшанаванне памяці 116 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Загор'е, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2260. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,4 км на паўднёвы захад ад вёскі. Пахаваны воіны, якія загінулі ў ліпені 1941 г. і ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў на тэрыторыі раёна. У 1963 г. на магіле пастаўлена стэла.

**в. Заходы, цэнтр сельсавета**

**2261. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці 93 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1967 г. пастаўлена стэла.

**в. Зацішша, Таўкачоўскі сельсавет**

**2262. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 партызаны, якія загінулі ў 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.



2268. *Курганны могільнік. План.*

**2263. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На могілках. Пахавана сям'я партызана Сякацкага (5 чалавек), расстраляная ў 1943 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2264. МАГІЛА САВЕЦКАГА ВОІНА** (гіст.). На могілках. Воін Чырвонай Арміі загінуў у чэрвені 1944 г. пры вызваленні тэрыторыі раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Камароўка, Каменналаўскі сельсавет**

**2265. ПОМНІК САВЕЦКІМ ВОІНАМ** (гіст.). За 0,5 км на ўсход ад вёскі, у полі. На ўшанаванне памяці воінаў 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў, у 1984 г. пастаўлены абеліск.

**в. Каменныя Лавы, цэнтр сельсавета**

**2266. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 28 воінаў 44-га і 455-га стралковых палкоў 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх акупантаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Капысіца, Александрыйскі сельсавет**

**2267. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 18 воінаў, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2268. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на поўнач ад вёскі, на полі. 6 курганоў дыяметрам 6—7 м, вышынёй 3—4 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1968 г. Г. В. Штыхаў, у 1969 г. А. А. Выржыкоўскі, у 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскапаны 2 насыпы. У адным пахавальны абрад — трупапалажэнне: 7 шкілетаў, з іх адзін мужчынскі і 6 дзіцячых. Нябожчыкі арыентаваны галавой на захад. Ніжэй пахаванняў адзначана праслойка попелу і вугалля. Адносіцца да эпохі Кіеўскай Русі.

Матэрыялы раскопак захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**в. Карасі, Гарадзішчанскі сельсавет**

**2269. МАГІЛА ГОРЫНА** Івана Сяргеевіча (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык І. С. Горын загінуў у ліпені 1944 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Карзуны, Александрыйскі сельсавет**

**2270. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі побач з сядзібай, за 300—400 м ад дарогі Шклоў — Стараселле. З паўднёвага боку гарадзішча цячэ р. Бярозаўка. Вышыня над узроўнем ракі 4—5 м. Пляцоўка амаль круглая памерам 20×
×25 м, па краю яе з захаду на поўнач і ўсход праходзіць вал вышынёй да 1 м, шырынёй 2,5—3 м. З напольнага боку ёсць вонкавы вал вышынёй 2,5—4 м, шырынёй 6—10 м, аддзелены ад гарадзішча ровам глыбінёй 2—3 м, шырынёй 4—6 м. На пляцоўцы і на яе схілах растуць сосны. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1985 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся. *В. М. Ляўко.*

**в. Кішчыцы, Чэрнеўскі сельсавет**

**2271. МЕСЦА ВЫСТУПЛЕННЯ СЯЛЯН У 1905 г.** (гіст.). За 1 км на захад ад вёскі. Вясной 1905 г. сяляне в. Кішчыцы Чавускага павета (цяпер у Шклоўскім р-не) захапілі памешчыцкі луг і пасвілі на ім жывёлу. 17.6.1905 г. пад аховай салдат і паліцыі каморнікі пачалі праводзіць мяжу паміж Чавускім і Горацкім паветамі, якая адначасова павінна была стаць мяжой паміж памешчыцкімі і сялянскімі землямі. Сяляне, узброеныя віламі і косамі, аказалі супраціўленне, не дазволілі праводзіць мяжу на карысць памешчыка. Па загаду прадстаўніка губернскіх улад Каханава салдаты адкрылі агонь. 8 сялян было забіта, 15 паранена. Крывавая расправа з сялянамі вядома як Кішчыцкі расстрэл 1905 г.

У 1955 г. у памяць аб выступленні сялян пастаўлены абеліск.



2272. *Пакроўская царква.*




2272. *Пакроўская царква. План.*

**2272. ПАКРОЎСКАЯ ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1845 г. з цэглы.

Аб'ёмна-прасторавая кампазіцыя храма развіта па падоўжнай восі. Цэнтральны квадратны ў плане аб'ём накрыты пакатым шатровым дахам з цыбулепадобнай галоўкай. Яго фасады завершаны кілепадобнымі франтонамі. Трох'ярусная вежа-званіца, прыбудаваная з боку галоўнага фасада, накрыта шатровым дахам з галоўкай. Прамавугольныя аб'ёмы бабінца і апсіды накрыты двухсхільнымі дахамі. Сцены будынка прарэзаны вялікімі паўцыркульнымі аконнымі праёмамі. У дэкаратыўным аздабленні фасадаў выкарыстаны пілястры, франтоны, сандрыкі, нішы, прафіляваныя карнізы і інш.

Ва ўнутранай прасторы царквы дамінуе цэнтральная зала, якая перакрыта самкнутым скляпеннем на падпружных арках. Перакрыцці астатніх аб'ёмаў цыліндрычныя. Аб'ём ніжняга яруса званіцы падзелены сценамі на 3 памяшканні: у левым зроблена двухмаршавая лесвіца, якая вядзе на верхнія ярусы званіцы, сярэдняе — тамбур-прытвор, правае прыстасавана для гаспадарчых патрэб.

Царква — помнік архітэктуры з элементамі класіцызму і псеўдарускага стылю. *А. А. Міцянін.*

**в. Клімавічы, Чарнаруцкі сельсавет**

**2273. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка клуба. На ўшанаванне памяці 193 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1967 г. пастаўлены абеліск.

**в. Клін, Старасельскі сельсавет**

**2274. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, у лесе. Пахавана больш за 200 мірных жыхароў, расстраляных у 1942 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Княжыцы, Гарадзецкі сельсавет**

**2275. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 175 воінаў 113-га стралковага палка 32-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2276. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,6 км на паўночны ўсход ад вёскі.



2273. *Помнік землякам.*

Вышыня 4 м. Пляцоўка памерам 25×20 м з боку поля ўмацавана валам вышынёй 0,5—1,3 м. Абследавалі



2275. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.
*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.
*В. М. Ляўко.*

**в. Ладыжына, Ардацкі сельсавет**

**2277. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,5 км на захад ад вёскі, ва ўрочышчы Чарапоўшчына. Пахаваны воіны, якія загінулі ў 1941 г. і 1944 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

**в. Лакуці, Заходскі сельсавет**

**2278. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі, злева ад дарогі Орша — Магілёў. Пахаваны 7 воінаў 329-га стралковага палка 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены помнік — скульптура воіна.

**2279. ПАШТОВАЯ СТАНЦЫЯ** (архіт.). На шашы Орша — Магілёў, пры ўездзе ў вёску. Пабудавана ў сярэдзіне 19 ст. паводле «ўзорнага» праекта з цэглы і дрэва.

Комплекс складаецца са станцыйнага дома, службовага флігеля і гаспадарчых пабудоў (карэтнай, стайні, пуні), якія разам утвараюць замкнёны ўнутраны двор. Станцыйны дом — аднапавярховы мураваны прамавугольны ў плане будынак, накрыты вальмавым дахам. Цэнтр галоўнага фасада вылучаны ганкам з двухсхільнай навіссю на фігурных кранштэйнах (чыгуннае ліццё). На дваровым фасадзе па восі сіметрыі размешчана невялікая прыбудова з выхадам ва ўнутраны двор. Вокны прамавугольныя, галоўны ўваход з паўцыркульным імпастам. Фасады без дэкору, завершаны прафіляваным карнізам. Цяпер выкарыстоўваецца як жылы дом.

З паўночнага боку асобна размешчаны невялікі мураваны флігель, які мае падобнае да станцыйнага дома



2278. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

спрошчанае архітэктурнае вырашэнне.

Гаспадарчыя пабудовы, аб'яднаныя ў агульны П-падобны будынак з двухсхільным дахам, а таксама агароджа выкананы закідной тэхнікай з драўляных брусоў у мураваныя шулы.

Будынкі паштовай станцыі — помнік грамадзянскай архітэктуры.
*Т. В. Габрусь.*

**2280. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У цэнтры вёскі. На ўшанаванне памяці землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**2281. ПОМНІК ЛЕНІНУ** Уладзіміру Ільічу (гіст.). Каля будынка клуба. Бюст У. І. Леніна ўстаноўлены ў 1968 г.




2276. *Гарадзішча.*



2285. *Помнік землякам.*

**в. Лопавічы, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2282. МАГІЛА ХАЎРАНКОВАЙ** Надзеі Піліпаўны (гіст.). На могілках. Настаўніца Н. П. Хаўранкова, 1922 г. нараджэння, разам з сёстрамі Матронай, Ефрасінняй, Марыяй, Ганнай і Зінаідай з першых дзён нямецка-фашысцкай акупацыі збірала зброю, дапамагала параненым савецкім воінам. З мая 1942 г. разведчыца партызанскага атрада № 40, потым партызанскай брыгады «Чэкіст». Удзельнічала ў арганізацыі і папаўненні партызанскага атрада, у баявых аперацыях. Падарвала 2 варожыя эшалоны, даставіла ў атрад шмат зброі і боепрыпасаў. У верасні 1942 г. арыштавана і загублена нямецка-фашысцкімі акупантамі.

У 1973 г. на магіле пастаўлена стэла.
*Літ.:* Говорят погибшие герои.— 7 изд.— М., 1982. *В. В. Семянюк.*

**в. Лотва, Каменналаўскі сельсавет**

**2283. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У скверы. Пахаваны 16 воінаў. Сярод іх — воіны 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Любінічы, Славенскі сельсавет**

**2284. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 70 воінаў, якія загінулі ў 1941 г. у баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2285. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. В. Фрунзе. На ўшанаванне памяці 65 аднавяскоўцаў, якія загінулі ў баях супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

**2286. ПОМНІК ФРУНЗЕ** Міхаілу Васілевічу (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса імя М. В. Фрунзе. Бюст М. В. Фрунзе ўстаноўлены ў 1972 г.

**в. Малое Замошша, Александрыйскі сельсавет**

**2287. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ЛЁТЧЫКАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 лётчыкі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малое Зарэчча, Гарадзецкі сельсавет**

**2288. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,3 км ад паўночна-ўсходняй ускраіны вёскі. Пляцоўка авальная, памерам 25×56 м. Вышыня над поплавам безназоўнага ручая ад 3 да 6 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 1,5 м. Адкрыў у 1977 г. В. Ф. Капыцін, абследавала ў 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Малое Уланава, Старасельскі сельсавет**

**2289. МАГІЛА СІДЛЕРАВАЙ** Валянціны (гіст.). За 1,5 км на ўсход ад вёскі. Партызанка-разведчыца Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы В. Сідлерава загінула ў верасні 1943 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1969 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малы Мяжнік, Александрыйскі сельсавет**

**2290. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 96 воінаў 1156-га стралковага палка 344-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2291. МАГІЛА ГАРШКОВА** Віктара Аляксандравіча (гіст.). На могілках. Савецкі лётчык В. А. Гаршкоў загінуў у чэрвені 1944 г. у паветраным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Малыя Аўчыненкі, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2292. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі. 3 насыпы дыяметрам 5—10 м, вышынёй 1,5—2,5 м. Адкрыў у 1977 г. В. Ф. Капыцін, абследавала ў 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.



**2288.** *Гарадзішча. План.*



**2294.** *Гарадзішча. План.*

**в. Малыя Славені, Славенскі сельсавет**

**2293. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 3 воіны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1963 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Маццава, Старасельскі сельсавет**

**2294. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, на ўзвышшы. Пляцоўка трохвугольнай формы, з закругленымі вугламі, памерам 25×30 м, нахілена на ўсход. З заходняга боку прасочаны рэшткі вала вышынёй 1—1,2 м. У агаленнях пляцоўкі культурны пласт 0,4 м. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.

**в. Мерч, Таўкачоўскі сельсавет**

**2295. МАГІЛА ЖЫГОЦКАГА** Уладзіміра Сцяпанавіча (гіст.). На могілках. Партызан 10-га асобнага атрада Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы У. С. Жыгоцкі загінуў 13.6.1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1975 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Мілаўе, Чэрнеўскі сельсавет**

**2296. СТАЯНКА** (археал.). За 0,3 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на першай надпоймавай тэрасе правага берага р. Бася. Памер 20×60 м. Выявіў і абследаваў у 1982 г. В. Ф. Капыцін. У культурным пласце 0,1 м знойдзены крамянёвыя нуклеусы, пласціны, адшчэпы, канцавыя скрабкі. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1982 года. М., 1984.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Нічыпаравічы, Фашчаўскі сельсавет**

**2297. КУРГАН** (археал.). За 0,4 км на поўдзень ад вёскі. Вышыня 2,5 м, дыяметр 14 м. Раней тут быў курганны могільнік. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

**в. Новыя Комсенічы, Каменнаплаўскі сельсавет**

**2298. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ І ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 2 воіны і 4 партызаны, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.



**2300.** *Помнік землякам.*

**в. Ордаць, цэнтр сельсавета**

**2299. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 0,8 км на паўночны ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Барок, на беразе р. Бася, у лесе. 6 курганоў вышынёй 1—1,5 м, дыяметрам 8—10 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1893 г. Е. Р. Раманаў, у 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Заметка Е. Р. Романова о дополнительных археологических местонахождениях.— У кн.: Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне 9 археологического съезда. Вильно, 1893; Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5.

*В. М. Ляўко.*

**2300. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля могілак. На ўшанаванне памяці 368 рабочых саўгаса «Рабочы», якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлена стэла, на якой дошкі з імёнамі загінуўшых.

**в. Палыкавічы, Чарнаруцкі сельсавет**

**2301. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 109 воінаў, якія загінулі ў 1944 г. у баях за вызваленне раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Пётр Маркавіч Зюлькоў.

П. М. Зюлькоў нарадзіўся 16.1.1924 г. у в. Конаўка Кіраўскага р-на Калужскай вобл. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1944 г. Да Вялікай Айчыннай вайны працаваў у калгасе. У 1942 г. скончыў курсы малодшых лейтэнантаў. У Айчынную вайну з лютага 1943 г. на Заходнім і 2-м Беларускім франтах. Вызначыўся 27.6.1944 г. у баі за в. Трылесіна. Камандзір узвода ўпраўлення батарэі мінамётнага палка лейтэнант П. М. Зюлькоў у крытычны момант бою закрыў сваім целам амбразуру варожага дзо-



2302. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

та. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 22.8.1944 г. Яго імем названа Гаўрылаўская васьмігадовая школа ў Кіраўскім р-не Калужскай вобл., на будынку школы і ў калгасе «Світанне» на радзіме героя ўстаноўлены мемарыяльныя дошкі.

У 1958 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

*Літ.:* Навечно в сердце народном.— 3 изд.— Мн., 1984.

**в. Плешчыцы, Заходскі сельсавет**

**2302. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка школы. Пахаваны 78 воінаў 44-га і 459-га стралковых палкоў 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1958 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2303. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Гарадок. За 1 км на захад ад вёскі. Вышыня над наваколлем 17 м. З боку поля прасочаны рэшткі 3 валоў вышынёй 1,5—2 м і 2 равоў паміж імі глыбінёй да 1 м. Абследавала ў 1978 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Праабражэнск, Чэрнеўскі сельсавет**

**2304. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 50 м на паўночны захад ад жывёлагадоўчай фермы, абапал лясной дарогі. 5 насыпаў вышынёй 0,8—2,8 м, дыяметрам 6—17 м. Выявіла і абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Пронцаўка, Славенскі сельсавет**

**2305. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 20 воінаў 843-га стралковага палка 238-й стралковай дывізіі 50-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Ржаўцы, Славенскі сельсавет**

**2306. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Мясцовая назва Званіца. За 1,3 км на поўнач ад вёскі, на левым беразе р. Чарніца, за 1 км на поўнач ад жывёлагадоўчай фермы. Пляцоўка авальная, памерам 20×30 м, умацавана кальцавым валам вышынёй 0,8—1,2 м, шырынёй каля 3 м. З заходняга боку ўзвышаецца над наваколлем на 15—17 м. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Археологические памятники Белоруссии: Железный век.— Мн., 1983. *В. М. Ляўко.*

**в. Рудзіцы, Ардацкі сельсавет**

**2307. КУРГАН** (археал.). Мясцовая назва Пусікаў курган. На паўднёвай ускраіне вёскі. Вышыня 2,5 м, дыяметр 13,5—14 м. Вядомы з 1873 г. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903. в. 5.

**в. Рэпалава, Рыжкавіцкі сельсавет**

**2308. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўнач ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра, на мысе. Памер 20×80 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. У агаленнях тэрасы, на полі знойдзены крамянёвыя нажападобныя пласціны, канцавыя скрабкі, конусападобныя нуклеусы. Адносіцца да каменнага веку. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова. *В. Ф. Капыцін.*

**в. Сапронькі, Славенскі сельсавет**

**2309. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). На паўднёвай ускраіне вёскі, на ўзвышшы вышынёй 10 м над узроўнем р. Чарніца. З боку поля ёсць рэшткі валу. Пляцоўка гарадзішча разворваецца, таму ўстанавіць яе памеры немагчыма. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Саськаўка, Фашчаўскі сельсавет**

**2310. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 11 воінаў 557-га стралковага палка 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1972 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Слабодка, Гарадзецкі сельсавет**

**2311. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). На могілках. Пахаваны 4 партызаны, якіх у 1943 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1978 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2312. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). На заходняй ускраіне вёскі, на могілках, за 0,2 км ад шашы Орша — Магілёў. 7 насыпаў вышынёй 1—1,8 м, дыяметрам 10—12 м. У 1983 г. абследавала В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**в. Смальянцы, Старасельскі сельсавет**

**2313. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2313а.** Гарадзішча. За 1 км на паўночны ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Бярозаўка. Пляцоўка памерам 40×25 м, паўднёва-ўсходні бок пашкоджаны вялікай ямай. Вышыня над наваколлем 2,5 м. Адкрыла ў 1978 г. і абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт каля 0,2 м. Відавочна, гэта гарадзішча-сховішча. Раскопкі не праводзіліся.

**2313б.** Курганны могільнік-1. За 0,9 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Бярозаўка (за 0,5 м на паўночны ўсход ад яе). 5 насыпаў вышынёй 1—2,5 м, дыяметрам 3—13 м. Адкрыў у 1977 г. В. Ф. Капыцін, абследавала ў 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.




2306. *Гарадзішча. План.*




2313а. *Гарадзішча. План.*

**2313в.** Курганны могільнік-2. За 1,3 км на ўсход ад вёскі, на левым беразе р. Бярозаўка. 4 насыпы, якія здзірванелі і параслі дрэвамі. Вышыня 0,7—1,2 м, дыяметр 2—3 м. Адкрыла і абследавала ў 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся. *В. М. Ляўко.*

**в. Смятанічы, Таўкачоўскі сельсавет**

**2314. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2314а.** Гарадзішча. За 0,2 км на поўнач ад вёскі, побач з калгаснай фермай. Пляцоўка памерам 25×33 м, моцна здзірванела, умацавана з поўначы, поўдня і захаду падковападобным валам вышынёй каля 2 м. Другі (унутраны) вал вышынёй 2—2,5 м прасочваецца месцамі. Вядома з 1873 г. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**2314б.** Курганны могільнік. За 0,5 км на захад ад вёскі. 12 насыпаў вышынёй 2—4 м, дыяметрам 6—8 м. Вядомы з 1873 г. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Сведения 1873 г. о городищах и курганах.— Известия Археологической комиссии. СПб., 1903, в. 5. *В. М. Ляўко.*

**2315. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На заходняй ускраіне вёскі. Пахаваны 87 жыхароў вёскі, якіх нямецка-фашысцкія акупанты 3.8.1942 г. сагналі ў хлеў і спалілі. Сярод пахаваных старыя, жанчыны, дзеці. У 1959 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Стараселле, Славенскі сельсавет**

**2316. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). У цэнтры вёскі. Пахаваны 110 воінаў. Сярод іх — воіны 70-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2317. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). За 0,2 км на паўднёвы захад ад вёскі, на левым беразе р. Бярозаўка, пры ўпадзенні ў яе безназоўнай рэчкі. Пляцоўка памерам 52×30 м мае амаль трохвугольную форму. Вышыня над поймай ракі каля 6 м, з боку поля 10 м. З боку поля ўмацавана валам вышынёй 1,8 м. У цэнтры выяўлены сляды шурфа, каля вала ў паўднёвай частцы выкапана яма. Вядома з 1890 г. Абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт у цэнтры пляцоўкі каля 0,5 м. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Поболь Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой



2316. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974. *В. М. Ляўко.*

**2318. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ І МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). За 2 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля лесу. Пахавана каля 200 ваеннапалонных і мірных жыхароў, якіх у 1942 г. расстралялі нямецка-фашысцкія акупанты. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2319. МАГІЛА СЯДЛЕЦКАГА** Фёдара Міхайлавіча (гіст.). На могілках.

Адзін з кіраўнікоў партызанскага руху ў Магілёўскай і Віцебскай абласцях у Вялікую Айчынную вайну Ф. М. Сядлецкі нарадзіўся 8.2.1906 г. у в. Стараселле Шклоўскага р-на ў сялянскай сям'і. Член КПСС з 1929 г. Прымаў актыўны ўдзел у барацьбе з кулацтвам. З 1935 г. у Чырвонай Арміі. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім фронце. З красавіка 1942 г. у партызанах. У маі — кастрычніку 1942 г. і сакавіку — жніўні 1943 г. камісар партызанскай брыгады «Чэкіст». З верасня 1943 г. камандзір 30-га партызанскага атрада (з лістапада 60-га; у снежні 1943 г. атраду прысвоена імя М. Ф. Сядлецкага), які дзейнічаў на акупіраванай нямецка-фашысцкімі захопнікамі тэрыторыі Магілёўскай вобл. Загінуў 10.12.1943 г. у няроўным баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў.

У 1975 г. на магіле пастаўлены помнік-бюст М. Ф. Сядлецкага. *В. В. Семянюк.*

**в. Старая Вадва, Каменналаўскі сельсавет**

**2320. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля Дома культуры. На ўшанаванне памяці 192 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1971 г. пастаўлены абеліск, за ім сцяна з імёнамі загінуўшых.

**в. Старое Высокае, Каменналаўскі сельсавет**

**2321. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). На могілках. Пахаваны 48 воінаў 44-га і 459-га стралковых палкоў 42-й стралковай дывізіі і 557-га стралковага палка 153-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2322. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля школы. Пахаваны воіны 42-й стралковай дывізіі, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1971 г. на магіле пастаўлена стэла.

**2323. ЦАРКВА** (архіт.). У цэнтры вёскі. Пабудавана ў 1903 г. з цэглы. Будынак крыжападобны з трохапсіднай




2320. *Помнік землякам.*

алтарнай часткай (цэнтр паўкруглы, бакавыя апсіды-рызніцы меншых памераў, сегментныя) і з папярочным бабінцам, над якім чацверыковая званіца. Над сяродкрыжжам — васьмігранны барабан, накрыты пакатым шатром. Падобны шацёр над званіцай. Дзвярныя і аконныя праёмы арачныя. Галоўны і бакавыя ўваходы, размешчаныя пад вуглом 45° да асноўных восей будынка, аформлены парталамі. У аздобе фасадаў шырока выкарыстаны перспектыўныя нішы, сандрыкі, дэнтыкулы, дынькі, броўкі і інш. Інтэр'ер зальны. Столь плоская, падшыўная.

Царква — помнік архітэктуры з рысамі псеўдарускага стылю.

*Т. В. Габрусь.*

### в. Старыя Чамаданы, Фашчаўскі сельсавет

**2324. МАГІЛА САВЕЦКІХ ВАЕННАПАЛОННЫХ і МІРНЫХ ЖЫХАРОЎ** (гіст.). У скверы. Пахавана больш за 400 ваеннапалонных і мірных жыхароў, расстраляных 15.7.1941 г. нямецка-фашысцкімі захопнікамі. У 1967 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Таўкачы, цэнтр сельсавета

**2325. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка выканкома сельскага Савета. Пахаваны 18 воінаў 44-га і 455-га стралковых палкоў 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. пры вызваленні раёна ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1955 г. на магіле пастаўлены абеліск.

### в. Тройца, цэнтр Старасельскага сельсавета

**2326. КУРГАННЫЯ МОГІЛЬНІКІ** (археал.).

**2326а.** Могільнік-1. За 1 км на поўдзень ад вёскі, абапал палявой дарогі паміж вёскамі Чырчына і Тройца. 42 насыпы вышынёй 0,5—0,7 м (асобныя курганы вышынёй 2—2,5 м), дыяметрам 2—12 м. Першыя звесткі аб помніку адносяцца да 1905 г. Абследавалі ў 1968 г. Г. В. Штыхаў, у 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**2326б.** Могільнік-2. За 1,5—2 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, ва ўрочышчы Сісенева, у лесе, уздоўж правага берага р. Бярозаўка. 4 насыпы вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—17 м. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

**2326в.** Могільнік-3. За 0,3 км на паўночны захад ад вёскі, у лесе. 51 насып вышынёй 0,5—2,5 м, дыяметрам 4—17 м. Курганы здзірванелыя, некаторыя з іх апоўзлыя, папсаваны ямамі. Абследаваў у 1977 г. В. Ф. Капыцін. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Россия: Полное географическое описание нашего отечества. Т. 9.— СПб., 1905.

*В. М. Ляўко.*

### в. Тударава, Чарнаруцкі сельсавет

**2327. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). Каля будынка праўлення калгаса «Радзіма». На ўшанаванне памяці 138 землякоў, якія загінулі ў барацьбе супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў у Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск.

### в. Фашчаўка, цэнтр сельсавета

**2328. ПОМНІК ЗЕМЛЯКАМ** (гіст.). У парку. На ўшанаванне памяці 422 землякоў, якія загінулі ў Вялікую Айчынную вайну, у 1968 г. пастаўлены абеліск і 2 пліты з імёнамі загінуўшых.

### в. Хацькова, Старасельскі сельсавет

**2329. ПОМНІК У ГОНАР ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 1,5 км на паўночны ўсход ад вёскі, каля лесу.

У Вялікую Айчынную вайну на акупіраванай тэрыторыі Шклоўскага р-на дзейнічала партызанская брыгада «Чэкіст». Створана ў канцы мая 1942 г. на базе атрадаў І. Дз. Буланава і Г. А. Кірпіча як «Аб'яднанне партызанскіх атрадаў», што ў ліпені 1942 г. рэарганізавана ў брыгаду «Чэкіст». Камандзір Г. А. Кірпіч (май 1942 г.— жнівень 1943 г.), камісары Ф. М. Сядлецкі (май — кастрычнік 1942 г., сакавік — жнівень 1943 г.), Ф. І. Букштынаў (кастрычнік 1942 г.— сакавік 1943 г.). Партызаны 22.6.1942 г. разбілі атрад гітлераўцаў каля в. Дымава, праводзілі дыверсіі на чыгуначных участках Мінск — Орша, Орша — Магілёў. У час «рэйкавай вайны» ў жніўні 1943 г. падарвалі 500 рэек на ўчастку Магілёў — Лотва. 25.5.1943 г. правялі аперацыі па разгрому варожых гарнізонаў у вёсках Аўчыненкі, Клімавічы, Таўкачы Шклоўскага р-на. У жніўні 1943 г. брыгада ў складзе 7 атрадаў — 1, 5, 10, 15, 20, 25, 40-га (больш за 800 партызан) расфарміравана; яе атрады ўвайшлі самастойнымі адзінкамі ў Шклоўскую ваенна-аператыўную групу, створаную паводле пастановы Магілёўскага падпольнага абкома КП(б)Б і загаду Магілёўскай (абласной) ваенна-аператыўнай групы.

У 1982 г. у гонар партызан пастаўлены абеліск і збудавана зямлянка.

*В. В. Семянюк.*

### в. Хоцімка, Рыжкавіцкі сельсавет

**2330. ГАРАДЗІШЧА** (археал.). Вядома пад назвай Стары Шклоў. За 0,5 км на ўсход ад вёскі, за 4 км ад Шклова, на левым беразе р. Серабранка, ва ўрочышчы Гарадок. Пляцоўка адносна роўная, памерам 70×60 м, вышыня над поймай ракі каля 15 м. З захаду, усходу і поўдня абмываецца р. Серабранка. З поўначы і паўночнага ўсходу прасочаны рэшткі вала вышынёй 1,8 м. Абследавалі ў 1850 г. М. Балінскі і Т. Ліпінскі, у 1948 г. В. Р. Тарасенка, у 1964 г. Г. В. Штыхаў, даследавала ў 1979 г. В. М. Ляўко. Культурны пласт 0,3—0,5 м. Знойдзены ганчарная кераміка, шкляныя бранзалеты, жалезныя вырабы эпохі Кіеўскай Русі і Вялікага княства Літоўскага.



2328. *Помнік землякам.*

Матэрыялы абследавання 1948, 1964 гг. і даследавання 1979 г. захоўваюцца ў Інстытуце гісторыі АН БССР.

*Літ.:* Тарасенко В. Р. К истории позднеродового общества на территории Белоруссии.— Известия АН БССР, 1948, № 2.

*В. М. Ляўко.*

### в. Царковішча, Каменналаўскі сельсавет

**2331. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2331а.** Гарадзішча. За 1,5 км на паўднёвы ўсход ад вёскі, на правым беразе Дняпра, насупраць в. Прудкі. Пляцоўка памерам 60×70 м пашкоджана траншэяй ваеннага часу, схілы параслі хмызняком. Вышыня над поймай ракі каля 40 м. Выявіла і даследавала ў 1966 г. Г. Ф. Салаўёва, абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. У шурфах, якія былі закладзены ў паўночна-заходнім і паўднёва-заходнім вуглах пляцоўкі (2 шурфы памерам 2×2 м), прасочаны культурны пласт 0,75 м. У ніжняй частцы на мацерыку выяўлена кераміка мілаградскай культуры, у сярэдняй — кераміка культуры штрыхаванай керамікі, уверсе — ляпная кераміка 6—8 стагоддзяў і ганчарная кераміка эпохі Кіеўскай Русі. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

**2331б.** Курганны могільнік. За 1 км на захад ад вёскі, у пойме



2334. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

Дняпра. 5 насыпаў дыяметрам 13 м, вышынёй 1,5 м (4 курганы) і падоўжаны курган памерам 25×10×1,5 м. Адкрыла і даследавала ў 1965 г. Г. Ф. Салаўёва, абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. У адным з двух раскапаных курганоў пахавальны абрад — трупаспаленне. Належаў усходнім славянам, датуецца 8 ст. н. э. Матэрыялы даследавання захоўваюцца ў Інстытуце археалогіі АН СССР.

*Літ.:* Побoль Л. Д. Славянские древности Белоруссии: (свод археологических памятников раннего этапа зарубинецкой культуры — с середины III в. до н. э. по начало II в. н. э.).— Мн., 1974.

*В. М. Ляўко.*

**2332. СТАЯНКА** (археал.). За 0,5 км на поўдзень ад вёскі, на другой надпоймавай тэрасе правага берага Дняпра. Памер 40×50 м. Выявіў і абследаваў у 1972 г. В. Ф. Капыцін. Культурны пласт 0,2 м. Знойдзены крамянёвыя наканечнікі стрэл свідэрскага тыпу са слаба пазначанымі тронкамі, нуклеусы, канцавыя скрабкі і адшчэпы. Адносіцца да эпохі мезаліту. Матэрыялы абследавання захоўваюцца ў гісторыка-краязнаўчым музеі Магілёўскага педагагічнага інстытута імя А. А. Куляшова.

*Літ.:* Копытин В. Ф. Исследование памятников эпохи мезолита в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1973 года. М., 1974.

*В. Ф. Капыцін.*

**в. Чарнаручча, цэнтр сельсавета**

**2333. ГАРАДЗІШЧА, КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.).

**2333а.** Гарадзішча. Мясцовая назва Гарадзец. За 0,3 км на поўнач ад вёскі, на марэнным узвышшы. Пляцоўка памерам 80×100 м. Схілы і заходняя частка зараслі арэшнікам. З заходняга боку прасочаны рэшткі вала. Адкрыў у 1927 г. Дз. І. Даўгяла, абследавалі ў 1977 г. В. Ф. Капыцін, у 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**2333б.** Курганны могільнік. За 0,3 км на ўсход ад будынка выканкома сельсавета, на сядзібе. 3 насыпы вышынёй 1,5—2 м, дыяметрам 5 м. Адкрыў у 1977 г. В. Ф. Капыцін, абследавала ў 1978 г. і 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

*Літ.:* Даўгяла Д. І. Укладанне археалагічнай карты Беларусі.— У кн.: Працы другога усебеларускага краязнаўчага з'езду 10—13 лютага 1927 года. Мн., 1927; Копытин В. Ф. Работы в Могилевской области.— У кн.: Археологические открытия 1977 года. М., 1978.

*В. М. Ляўко.*

**в. Чырчына, Старасельскі сельсавет**

**2334. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). За 0,2 км на ўсход ад вёскі. Пахаваны 197 воінаў 68-га і 252-га стралковых палкоў 70-й стралковай дывізіі і 1154-га стралковага палка 344-й стралковай дывізіі 33-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1957 г. на магіле пастаўлена стэла і пліта з імёнамі загінуўшых.

**в. Чэрнеўка, цэнтр сельсавета**

**2335. БРАЦКАЯ МАГІЛА САВЕЦКІХ ВОІНАЎ** (гіст.). Каля будынка аддзялення сувязі. Пахаваны 571 воін 42-й стралковай дывізіі 49-й арміі 2-га Беларускага фронту, якія загінулі ў чэрвені 1944 г. у баях за вызваленне вёскі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Сярод пахаваных — Герой Савецкага Саюза Іван Сцяпанавіч Яшкоў.

І. С. Яшкоў (Яжкоў) нарадзіўся 15.5.1923 г. у в. Вялікае Чараватава Дзівееўскага р-на Горкаўскай вобл. у сялянскай сям'і. На фронце з 1941 г. Вызначыўся 25.6.1944 г. у баях за вызваленне Шклоўскага р-на. Памочнік камандзіра стралковага ўзвода сяржант І. С. Яшкоў з групай дэсантнікаў-добраахвотнікаў фарсіраваў р. Бася каля в. Рудзіцы, выбіў гітлераўцаў з траншэй. У час варожай контратакі агнём з аўтамата знішчыў больш за 20 гітлераўцаў. Калі наступленне роты спыніў кулямётны агонь з дзота, І. С. Яшкоў закрыў сваім целам амбразуру. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 24.3.1945 г.

У 1956 г. на брацкай магіле пастаўлены абеліск.

**2336. КУРГАННЫ МОГІЛЬНІК** (археал.). За 1 км ад вёскі, каля дарогі ў в. Праабражэнск. 5 насыпаў вышынёй 0,8—1,2 м, дыяметрам 7—12 м. Абследавала ў 1983 г. В. М. Ляўко. Раскопкі не праводзіліся.

**2337. МАГІЛА АХВЯР ФАШЫЗМУ** (гіст.). На паўднёвай ускраіне вёскі. Пахаваны мірныя жыхары, расстраляныя 6—26.10.1941 г. нямецка-фашысцкімі акупантамі. У 1960 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Шчацінка, Старасельскі сельсавет**

**2338. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 0,3 км на ўсход ад вёскі,



2335. *Помнік на брацкай магіле савецкіх воінаў.*

на ўскрайку лесу. Пахаваны 14 партызан Шклоўскай ваенна-аператыўнай групы, якія загінулі ў сакавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1981 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**2339. БРАЦКАЯ МАГІЛА ПАРТЫЗАН** (гіст.). За 2,4 км на захад ад вёскі, каля лесу. Пахаваны 14 партызан 60-га асобнага партызанскага атрада імя Ф. М. Сядлецкага, якія загінулі ў сакавіку 1944 г. у баі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. У 1983 г. на магіле пастаўлены абеліск.

**в. Яськаўшчына, Чэрнеўскі сельсавет**

**2340. РАДЗІМА ЛАПЯНКОВА** Івана Адамавіча (гіст.).

Герой Савецкага Саюза І. А. Лапянкоў нарадзіўся 2.1.1912 г. у сялянскай сям'і. Член КПСС з 1939 г. Удзельнік савецка-фінляндскай вайны 1939—40 гг. У Вялікую Айчынную вайну з 1941 г. на Заходнім, Калінінскім, Варонежскім, 1-м Украінскім, 1-м Беларускім франтах. Намеснік камандзіра мотастралковага батальёна гвардыі старшы лейтэнант І. А. Лапянкоў вызначыўся на тэрыторыі Польшчы пры фарсіраванні Віслы каля г. Баранув Сандамерскі. На чале групы аўтаматчыкаў 30.7.1944 г. разведаў месца для фарсіравання ракі, знішчыў каля 40 гітлераўцаў, захапіў 2 лодкі, пераправіўся цераз Віслу і замацаваўся на левым беразе. На працягу 6 гадзін байцы адбівалі контратакі гітлераўцаў, што забяспечыла фарсіраванне ракі батальёнам. Званне Героя Савецкага Саюза прысвоена 23.9.1944 г. Пасля вайны І. А. Лапянкоў працаваў у г. Ачынск Краснаярскага краю. Памёр 6.12.1972 г.

## БІБЛІЯТЭКІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ *

Асіповіцкая раённая цэнтральная (г. Асіповічы, вул. Кастрычніцкая, 26). Фонд 483,9 тыс. экз.

Асіповіцкая раённая дзіцячая (г. Асіповічы, вул. К. Маркса, 15).

Асіповіцкая гарадская (г. Асіповічы, вул. 60 год Кастрычніка). Фонд 17,0 тыс. экз.

Асіповіцкая гарадская дзіцячая (г. Асіповічы, вул. Кунько, 1). Фонд 29,6 тыс. экз.

Бабруйская раённая цэнтральная (г. Бабруйск, вул. Інтэрнацыянальная, 25). Фонд 547,3 тыс. экз.

Бабруйская раённая дзіцячая (г. Бабруйск, вул. Інтэрнацыянальная, 25).

Бабруйская гарадская цэнтральная імя М. Горкага (г. Бабруйск, вул. Савецкая, 64). Фонд 146,2 тыс. экз.

Бабруйская гарадская імя А. С. Пушкіна (г. Бабруйск, вул. Савецкая, 87). Фонд 95,0 тыс. экз.

Бабруйская гарадская імя М. В. Гогаля (г. Бабруйск, вул. Клубная, 21). Фонд 120,7 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 3 (г. Бабруйск, вул. Новашашэйная, 27). Фонд 59,2 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 4 (г. Бабруйск, вул. Камбінатная, 171а). Фонд 43,8 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 7 (г. Бабруйск, вул. Інтэрнацыянальная, 72). Фонд 58,2 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 8 (г. Бабруйск, вул. Мінская, 90). Фонд 51,0 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 9 (г. Бабруйск, вул. Лынькова, 25). Фонд 47,3 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 11 (г. Бабруйск, вул. Арджанікідзе, 14). Фонд 41,1 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 12 (г. Бабруйск, вул. Бахарава, 279). Фонд 35,1 тыс. экз.

Бабруйская гарадская № 16 (г. Бабруйск, вул. Гагарына, 31а). Фонд 11,1 тыс. экз.

Бабруйская гарадская цэнтральная дзіцячая (г. Бабруйск, вул. Урыцкага, 125). Фонд 102,3 тыс. экз.

Бабруйская гарадская дзіцячая імя Н. К. Крупскай (г. Бабруйск, вул. Мінская, 20). Фонд 84,3 тыс. экз.

Бабруйская гарадская дзіцячая № 5 (г. Бабруйск, вул. Лынькова, 71). Фонд 56,0 тыс. экз.

Бабруйская гарадская дзіцячая № 6 (г. Бабруйск, вул. Камсамольская, 52). Фонд 44,0 тыс. экз.

Бабруйская гарадская дзіцячая № 10 (г. Бабруйск, вул. Пушкіна, 217). Фонд 33,9 тыс. экз.

Быхаўская раённая цэнтральная (г. Быхаў, вул. Леніна, 54). Фонд 589,0 тыс. экз.

Быхаўская раённая дзіцячая (г. Быхаў, вул. Казлова, 3).

Быхаўская гарадская дзіцячая (г. Быхаў, вул. Кірава, 56). Фонд 19,1 тыс. экз.

Бялыніцкая раённая цэнтральная (г. п. Бялынічы, вул. Савецкая, 11). Фонд 403,3 тыс. экз.

Бялыніцкая раённая дзіцячая (г. п. Бялынічы, вул. Савецкая, 11).

Глуская раённая цэнтральная (г. п. Глуск, завулак Парказы, 2а). Фонд 310,8 тыс. экз.

Глуская раённая дзіцячая (г. п. Глуск, вул. Сацыялістычная, 11).

Глушанская пасялковая (Бабруйскі р-н, р. п. Глуша, вул. Кастрычніцкая, 30).

Горацкая раённая цэнтральная (г. Горкі, вул. Леніна, 1). Фонд 688,6 тыс. экз.

Горацкая раённая дзіцячая (г. Горкі, вул. Горкага, 1).

Горацкая гарадская дзіцячая (г. Горкі, вул. Чэрнікава, 5). Фонд 13,5 тыс. экз.

Касцюковіцкая раённая цэнтральная (г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 28). Фонд 542,5 тыс. экз.

Касцюковіцкая раённая дзіцячая (г. Касцюковічы, вул. Юнацкая, 2).

Кіраўская раённая цэнтральная (г. п. Кіраўск, вул. Пушкіна, 23а). Фонд 357,0 тыс. экз.

Кіраўская раённая дзіцячая (г. п. Кіраўск, вул. Пушкіна, 24).

Клімавіцкая раённая цэнтральная (г. Клімавічы, вул. Інтэрнацыянальная, 19). Фонд 440,9 тыс. экз.

Клімавіцкая раённая дзіцячая (г. Клімавічы, вул. Свярдлова, 17).

Клімавіцкая гарадская (г. Клімавічы, завулак Усходні, 4). Фонд 17,2 тыс. экз.

Клімавіцкая гарадская дзіцячая (г. Клімавічы, завулак Усходні, 4). Фонд 13,1 тыс. экз.

Клічаўская раённая цэнтральная (г. п. Клічаў, вул. Ленінская, 54). Фонд 302,1 тыс. экз.

Клічаўская раённая дзіцячая (г. п. Клічаў, вул. Пралетарская, 64).

Краснапольская раённая цэнтральная (г. п. Краснаполле, вул. Ленінская, 16). Фонд 408,0 тыс. экз.

Краснапольская раённая дзіцячая (г. п. Краснаполле, вул. Маякоўскага, 13).

Круглянская раённая цэнтральная (г. п. Круглае, вул. Савецкая, раённы Дом культуры). Фонд 262,6 тыс. экз.

Круглянская раённая дзіцячая (г. п. Круглае, вул. Савецкая, раённы Дом культуры).

Крычаўская раённая цэнтральная (г. Крычаў, вул. Ленінская, раённы Дом культуры). Фонд 338, 9 тыс. экз.

Крычаўская раённая дзіцячая (г. Крычаў, вул. Супрунова, 7).

Крычаўская гарадская (г. Крычаў, мікрараён Сож, 23). Фонд 35,8 тыс. экз.

Крычаўская гарадская дзіцячая (г. Крычаў, вул. Камуністычная, 1). Фонд 11,7 тыс. экз.

Магілёўская абласная імя У. І. Леніна (г. Магілёў, вул. Крыленкі, 8). Фонд 1398,3 тыс. экз.

Магілёўская абласная дзіцячая імя А. П. Гайдара (г. Магілёў, вул. Ленінская, 68). Фонд 165,6 тыс. экз.

Магілёўская раённая цэнтральная (Магілёўскі р-н, в. Буйнічы). Фонд 619,5 тыс. экз.

Магілёўская раённая дзіцячая (г. Магілёў, вул. Чырвоназорная, 53).

Магілёўская гарадская цэнтральная імя К. Маркса (г. Магілёў, вул. Першамайская, 30). Фонд 22,3 тыс. экз.

Магілёўская гарадская імя Я. Купалы (г. Магілёў, вул. Заслонава, 29). Фонд 74,0 тыс. экз.

Магілёўская гарадская імя Я. Коласа (г. Магілёў, вул. Чэлюскінцаў, 189). Фонд 52,7 тыс. экз.

Магілёўская гарадская імя М. Ю. Лермантава (г. Магілёў, вул. Народнага Апалчэння, 4). Фонд 79,7 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 2 (г. Магілёў, вул. Якубоўскага, 23). Фонд 80,8 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 3 (г. Магілёў, вул. Крупскай, 184). Фонд 64,0 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 6 (г. Магілёў, праспект Шміта, 7). Фонд 56,5 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 7 (г. Магілёў, бульвар Няскораных, 5). Фонд 53,6 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 8 (г. Магілёў, праспект Пушкіна, 48). Фонд 38,4 тыс. экз.

Магілёўская гарадская № 9 (г. Магілёў, праспект Дзімітрава, 76). Фонд 24,0 тыс. экз.

* У спісе прыведзены абласныя, раённыя, гарадскія, пасялковыя бібліятэкі. Кніжны фонд даецца на 1.1.1986 г. па цэнтралізаваных бібліятэчных сістэмах.

25 Зак. 1480

Магілёўская гарадская цэнтральная дзіцячая імя А. С. Пушкіна (г. Магілёў, праспект Пушкіна, 36). Фонд 95,7 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая імя М. Горкага (г. Магілёў, вул. Аўтазаводская, 16). Фонд 45,9 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 2 (г. Магілёў, праспект Міру, 5). Фонд 20,5 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 3 (г. Магілёў, праспект Шміта, 28). Фонд 58,6 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 4 (г. Магілёў, вул. Грышына, 61). Фонд 24,1 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 5 (г. Магілёў, вул. Народнага апалчэння, 7). Фонд 33,3 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 6 (г. Магілёў, вул. Раманава, 10). Фонд 26,5 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 7 (г. Магілёў, вул. Сурганава, 21). Фонд 34,1 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 8 (г. Магілёў, вул. Алтайская, 20а). Фонд 38,1 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 9 (г. Магілёў, вул. Крупскай, 184). Фонд 21,1 тыс. экз.

Магілёўская гарадская дзіцячая № 10 (г. Магілёў, вул. Ленінская, 34). Фонд 23,0 тыс. экз.

Мсціслаўская раённая цэнтральная (г. Мсціслаў, вул. Пралетарская, 40). Фонд 389,3 тыс. экз.

Мсціслаўская раённая дзіцячая (г. Мсціслаў, вул. Кірава, 13).

Слаўгарадская раённая цэнтральная (г. Слаўгарад, вул. Луначарскага, 17). Фонд 360,6 тыс. экз.

Слаўгарадская раённая дзіцячая (г. Слаўгарад, вул. Ленінская, 33а).

Хоцімская раённая цэнтральная (г. п. Хоцімск, вул. Ленінская, 16). Фонд 321,1 тыс. экз.

Хоцімская раённая дзіцячая (г. п. Хоцімск, вул. Пралетарская, 42).

Чавуская раённая цэнтральная (г. Чавусы, вул. Факельная, 5). Фонд 322,2 тыс. экз.

Чавуская раённая дзіцячая (г. Чавусы, вул. Факельная, 5).

Чэрыкаўская раённая цэнтральная (г. Чэрыкаў, вул. Савецкая, 11). Фонд 292,1 тыс. экз.

Чэрыкаўская раённая дзіцячая (г. Чэрыкаў, вул. Валадарскага, 33).

Шклоўская раённая цэнтральная (г. Шклоў, вул. 1-я Савецкая, 89). Фонд 561,5 тыс. экз.

Шклоўская раённая дзіцячая (г. Шклоў, вул. 1-я Савецкая, 77).

Ялізаўская пасялковая (Асіповіцкі р-н, рабочы пасёлак Ялізава, вул. Рамашкі, 54).

Ялізаўская пасялковая дзіцячая (Асіповіцкі р-н, рабочы пасёлак Ялізава, вул. Леніна, 16).

## МУЗЕІ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**БАБРУЙСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Бабруйск, вул. Пушкіна, 163). Заснаваны ў 1924 г., да 1954 г. быў абласным Бабруйскай вобл., з красавіка 1954 г. занальны краязнаўчы. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 11 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода і гісторыя дасавецкага перыяду; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**БЫХАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Быхаў, вул. Леніна, 58). Заснаваны ў 1979 г., адкрыты 29.6.1984 г. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 2 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**БЯЛЫНІЦКІ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ** імя В. К. Бялыніцкага-Бірулі (г. Бялынічы, вул. Ленінская, 65). Заснаваны ў 1969 г., адкрыты 29.5.1970 г. У фондах на 1.1. 1986 г. больш за 370 экспанатаў. Экспануюцца творы жывапісу народнага мастака БССР і РСФСР В. К. Бялыніцкага-Бірулі і іншых беларускіх мастакоў. Шырока прадстаўлена скульптура, графіка.

**КАСЦЮКОВІЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Касцюковічы, вул. Ленінская, 50). Заснаваны ў 1973 г., адкрыты 23.2.1975 г. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 6,8 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода; гісторыя дасавецкага перыяду; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**КЛІМАВІЦКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Клімавічы, вул. Савецкая, 69). Заснаваны ў 1978 г., адкрыты 24.7. 1984 г. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 3,8 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода; гісторыя дасавецкага перыяду; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**КЛІЧАЎСКІ МУЗЕЙ НАРОДНАЙ СЛАВЫ** (г. Клічаў, вул. Зайца, 21). Заснаваны ў 1967 г., адкрыты 10.8.1969 г. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 3 тыс. экспанатаў. Аддзелы: Вялікая Кастрычніцкая сацыялістычная рэвалюцыя; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**КРЫЧАЎСКІ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Крычаў, вул. Ленінская, 46а). Заснаваны і адкрыты ў 1961 г. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 12,5 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода; гісторыя дасавецкага перыяду; гісторыя савецкага грамадства; Вялікая Айчынная вайна.

**МАГІЛЁЎСКІ АБЛАСНЫ КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Магілёў, вул. Савецкая, 1). Заснаваны на базе экспанатаў Магілёўскага царкоўна-археалагічнага (існаваў у 1897—1918 гг.) і Магілёўскага (1867—1919 гг.) музеяў. Адкрыты ў 1919 г. як губернскі музей. У Вялікую Айчынную вайну разрабаваны нямецка-фашысцкімі захопнікамі. З 1950 г. абласны краязнаўчы. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 94 тыс. экспанатаў. Аддзелы: прырода; гісторыя дасавецкага перыяду; гісторыя савецкага грамадства. Мае філіялы — музей гісторыі бітвы пад Лясной (Слаўгарадскі р-н, в. Лясная); музей этнаграфіі (г. Магілёў, вул. Сялянская, 6); музей гісторыка-рэвалюцыйнага руху (г. Магілёў, вул. Першамайская, 8).

**МАГІЛЁЎСКІ МАСТАЦКІ МУЗЕЙ В. К. БЯЛЫНІЦКАГА-БІРУЛІ** (г. Магілёў, вул. Ленінская, 37). Філіял Дзяржаўнага мастацкага музея БССР. Заснаваны 4.9. 1978 г., адкрыты 24.12.1982 г. На 1.1.1986 г. у музеі больш за 700 экспанатаў. Экспазіцыя знаёміць з жыццём і творчасцю народнага мастака БССР і РСФСР В. К. Бялыніцкага-Бірулі.

**МУЗЕЙ САВЕЦКА-ПОЛЬСКАЙ БАЯВОЙ САДРУЖНАСЦІ** (в. Леніна, Горацкі р-н). Адкрыты 15.10.1968 г. у гонар савецка-польскай баявой садружнасці і першага сумеснага бою (12—13.10.1943 г.) часцей Чырвонай Арміі і 1-й Польскай пяхотнай дывізіі імя Т. Касцюшкі супраць нямецка-фашысцкіх захопнікаў. Экспанаты расказваюць таксама аб савецка-польскай садружнасці ў пасляваенны час. У фондах на 1.1.1986 г. больш за 5,7 тыс. экспанатаў.

**ЧЭРЫКАЎСКІ ГІСТОРЫКА-КРАЯЗНАЎЧЫ МУЗЕЙ** (г. Чэрыкаў, вул. Ленінская, 180). Заснаваны 1.10.1983 г. Экспазіцыя ствараецца.

## АРХІВЫ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ

**ДЗЯРЖАЎНЫ АРХІЎ МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ** (г. Магілёў, вул. Камсамольская, 4). Створаны паводле пастановы Прэзідыума ЦВК БССР ад 5.7.1938 г. Захоўваюцца дакументы губернскіх, павятовых, валасных, акруговых, абласных, раённых, гарадскіх і сельскіх арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў Магілёўскай вобл., пачынаючы з 1918 г.

Мае філіялы ў Бабруйску (вул. К. Лібкнехта, 59), Крычаве (вул. Піянерская, 1). Захоўваюцца дакументы арганізацый, устаноў і прадпрыемстваў з 1918 г., дакументы калгасаў і саўгасаў.

# ІМЯННЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У імянны паказальнік вынесены прозвішчы ўсіх асоб, пра якіх ёсць асобныя артыкулы ці якія ўпамінаюцца ў тэкстах артыкулаў і ў подпісах пад ілюстрацыямі, у бібліяграфіі, а таксама прозвішчы аўтараў падпісаных артыкулаў. Лічбы паказваюць нумар артыкула, з якога вынесена прозвішча, лічбы ў дужках — старонку.

## ГЕАГРАФІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У геаграфічны (адрасны) паказальнік вынесены ўсе населеныя пункты вобласці, дзе ёсць помнікі, а таксама назвы знішчаных нямецка-фашысцкімі захопнікамі і неадроджаных вёсак. Пасля назвы населенага пункта даецца назва сельсавета і раёна, да якіх адносіцца гэты населены пункт. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік, які знаходзіцца ў гэтым населеным пункце.

# ХРАНАЛАГІЧНЫ ПАКАЗАЛЬНІК

У храналагічным паказальніку ўсе помнікі згрупаваны па часе, да якога адносяцца. Лічбы паказваюць нумар артыкула пра помнік.

ЗМЕСТ




**СУПРАЦОЎНІКІ СЕКТАРА «ЗБОР ПОМНІКАЎ ГІСТОРЫІ І КУЛЬТУРЫ БЕЛАРУСІ» ІНСТЫТУТА МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ АН БССР, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА**

Заг. сектара: член-карэспандэнт АН БССР, доктар гістарычных навук С. В. Марцэлеў.
Ст. навук. супрацоўнікі: кандыдаты гістарычных навук М. Б. Батвіннік, У. Дз. Будзько, Г. І. Дулеба, В. Б. Караткевіч, Г. М. Новікава, Э. М. Савіцкі; кандыдаты архітэктуры Т. В. Габрусь, Т. І. Чарняўская; кандыдаты мастацтвазнаўства Л. Г. Лапцэвіч, В. В. Цярашчатава; кандыдат філалагічных навук І. Ф. Кудраўцаў.
Мал. навук. супрацоўнікі: У. В. Алісейчык, А. А. Бараноўскі, В. М. Баскова, У. У. Бянько, М. М. Казлоўская, М. В. Кірэйшын, А. М. Кулагін, Т. С. Кухарава, В. М. Ладзіс, А. А. Міцянін, А. Ю. Пятросава, В. В. Семянюк, В. М. Удальцоў, Т. Р. Чуракова, А. Г. Шчарбатаў, Г. М. Ярмоленка.
Лабаранты: В. А. Бадакоў, Т. В. Басалыга, В. С. Ванчук, Г. Ф. Раманаў, Л. М. Рыткіна, мастак Н. П. Малынава.

**СУПРАЦОЎНІКІ ВЫДАВЕЦТВА «БЕЛАРУСКАЯ САВЕЦКАЯ ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ» ІМЯ ПЕТРУСЯ БРОЎКІ, ЯКІЯ ПРЫМАЛІ ЎДЗЕЛ У ПАДРЫХТОЎЦЫ І ВЫДАННІ ТОМА**

Заг. рэдакцый: А. І. Марозава, С. П. Самуэль (адказная за выданне).
Ст. навук. рэдактары: В. М. Барадуліна, А. Дз. Зубар, В. В. Гетаў, М. І. Камінскі, В. С. Паваліхіна.
Навук. рэдактары: В. В. Краснова, Т. П. Панчанка, Л. В. Сакалова, Л. А. Суднік, Г. А. Фатыхава.
Рэдактары: Л. У. Кучынская, Р. А. Ларчанка, Л. І. Паўловіч.
Бібліёграф М. А. Маўзон.
Карты-схемы выканалі картографы Т. У. Кавалеўская, Т. І. Нішт, чарцёжніцы А. К. Мілюткіна, Л. А. Панцялеева.
У томе змешчаны фотаздымкі У. Ф. Варварына, У. В. Жэрко.

**СВОД ПАМЯТНИКОВ ИСТОРИИ И КУЛЬТУРЫ БЕЛОРУССИИ**

**Могилёвская область**

На белорусском языке

Минск, издательство «Белорусская Советская Энциклопедия» имени Петруся Бровки

У томе змешчана 22 карты, 936 ілюстрацый, з іх 171 каляровая.

Афармленне і мастацкае канструяванне *У. М. Якуніна.*
Мастацкі рэдактар *А. І. Палуян.*
Тэхнічныя рэдактары: *М. І. Грыневіч, А. У. Шэметавец.*
Карэктары: *В. І. Багдановіч, Р. Р. Блашко, Н. А. Дзянісава, Т. Я. Радзевіч, А. А. Федасеева, М. К. Хадыка.*

ІБ № 90

Здадзена ў набор 15.05.85. Падпісана да друку 23.05.86. АТ 00573. Фармат 84×108$^1/_{16}$. Папера мелаваная. Гарнітура звычайная новая. Друк высокі. Фіз. друк. арк. 25,5. Ум. друк. арк. 42,84. Ум. фарба-адбіткаў 288,9. Ул.-выд. арк. 63,59. Тыраж 5500 экз. Зак. 1480. Цана 8 р. 50 к.

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі Дзяржаўнага камітэта Беларускай ССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600. Мінск, вул. Акадэмічная, 15а.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005. Мінск, Чырвоная, 23.

